

**Бібліятэка Бацькаўшчыны**
Міжнароднае грамадскае аб'яднанне
«Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»

Спадчына: агледзіны

# ГАЗЕТЫ "БАЦЬКАЎШЧЫНА" І "БЕЛАРУС"

# ВЫБРАНАЕ

Да 70-годдзя газеты "Беларус"
(1950–2020)

Укладальнікі
Наталля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч

Мінск
«Кнігазбор»
2019

УДК 821.161.3.09
ББК 83.3(4Беи)
Г13

*Серыя «Бібліятэка Бацькаўшчыны» заснавана ў 2004 годзе*

*Падсерыя «Спадчына: агледзіны» выдаецца ў супрацоўніцтве:*
МГА «Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"»,
Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Ёрк),
Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва

Укладанне, падрыхтоўка тэкстаў, суправаджальныя тэксты,
агульнае рэдагаванне, каментары, біяграфічны даведнік
*Наталлі Гардзіенкі* і *Лявона Юрэвіча*

Укладальнікі шчыра ўдзячныя за спрыянне
*Вітаўту Кіпелю* і *Янку Запрудніку*

Г13 **Газеты** "Бацькаўшчына" і "Беларус". Выбранае : Да 70-годдзя газеты "Беларус" (1950–2020) / уклад., падрыхтоўка тэкстаў, суправаджальныя тэксты, агульнае рэдагаванне, каментары, біяграфічны даведнік Наталлі Гардзіенкі, Лявона Юрэвіча. — Мінск : Кнігазбор, 2019. — 616 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны ; кн. 39 ; Спадчына : агледзіны).

ISBN 978-985-7207-86-2.

Чацвёртая кніга ў падсерыі "Спадчына: агледзіны" серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" прысвечана дзвюм найбуйнейшым беларускім эміграцыйным перыёдыкам — газетам "Бацькаўшчына" і "Беларус". Яны аб'ядноўвалі раскіданых па розных краінах суродзічаў, але, галоўнае, фармавалі і фармулявалі супольнае бачанне нацыянальнага мінулага і сучаснасці. Многія артыкулы, успаміны, развагі, інтэрв'ю, змешчаныя на іх старонках, важныя і актуальныя да сёння. Невялікая частка тэкстаў уключаная ў гэтую анталогію, якая мае паспрыяць пашырэнню цікавасці не толькі да згаданых выданняў, але і ўвогуле да нацыянальнай карціны свету ва ўспрыманні эміграцыі.

**УДК 821.161.3.09**
**ББК 83.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-7207-86-2**

*Беларусь — гэта значыць найперш — змаганьне.*

*Змаганьне — гэта значыць найперш — за Беларусь.*

*У гэтым фактычна і ёсьць самыя пачаткі, самыя асновы, сказаць бы “азы”, як казалі калісь у нас, вучачыся царкоўна-славянскае граматы-азбукі, “азы” беларускае нацыянальнае сьведамасьці.*

Антон Адамовіч

*Але ёсьць глыбейшая прычына нашых наяўных бедаў — прычына, што папяраджае ўсе іншыя, а якая ў мінулым не дазволіла нам сабрацца зь сіламі, каб ськінуць зь сябе ярмо няволі. Тэй прычынай ёсьць нябачная навонкі духовая няволя, у зрадным павуціньні якое шмат хто з нас затраціў шлях да шчасьця й свабоды.*

Пётра Манькоўскі

*Лявон Юрэвіч*

## Газеты "Бацькаўшчына" і "Беларус"

Паводле бібліяграфіі беларускага друку на Захадзе Зоры і Вітаўта Кіпеляў, на эміграцыі было выдадзена больш за 400 перыёдыкаў, часопісаў і газет, аднадзёнак і тых, што выходзілі цягам дзесяцігоддзяў, разнастайных па сваёй скіраванасці, змесце і аздабленні. Але і на такім багатым фоне два выданні, дзве назвы вылучаюцца, бы хмарадзёры сярод саламяных стрэхаў у стараветным мястэчку: газеты "Бацькаўшчына" і "Беларус"[1].

Першы нумар "Бацькаўшчыны", карэктаваны Лявонам Савёнкам па дарозе ў Марбург на з'езд студэнтаў, быў выпушчаны ў друкарні Бібікава накладам 2000 асобнікаў. Нумар датаваны 31 кастрычніка 1947 г.

Назву газеты, хутчэй за ўсё, прапанаваў Антон Адамовіч. У часопісе "Сакавік" ён пад псеўданімам К. Каліновец у артыкуле «Бяз Бацькаўшчыны зь Беларусяй… да праблемы "Бацькаўшчыны" ў нашай паэзіі й сучаснасьці» пісаў: «*Слова "Бацькаўшчына" прыйшло ў нашую літаратурную мову зь сялянскага ўжываньня народнае мовы. У гэным ужываньні яно абазначала найперш тую собскасьць, галоўнае, тую зямлю, што пераходзіла ў спадчыну ад бацькоў дзецям. Ня можна быць зусім пэўным у тым, ці мела гэтае слова ў народнай мове значэньне агульнанацыянальнае тэрыторыі. Барждзэй за ўсё, гэтае другое, пашыранае значаньне стварылася ўжо ў літаратурнай мове, зрэшты, тым самым шляхам, як і ў шмат якіх іншых літаратурных мовах, як-бы тое не было, і ў першым, вузейшым, і ў другім, пашыраным сваім значаньні слова "Бацькаўшчына" азначае сабою зямлю, тэрыторыю як нешта зусім канкрэтнае, матэрыяльнае*»[2].

---

1 Перадгісторыя і больш падрабязная гісторыя газет выкладзена ў: Юрэвіч, Лявон. Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў "Бацькаўшчына" й "Беларус" (1947–2000). Менск: Беларускі кнігазбор, 2006. — 256 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 8).

2 Сакавік: Літаратурна-грамадзкі часапіс. № 1. 1947. С. 58.

Сугучныя думкі былі выказаныя ў праграмным рэдакцыйным артыкуле першага нумара:

*«Чаму — “Бацькаўшчына”, калі мы — на чужыне? — пэўна, спытаюцца некаторыя. А хто-не-хто можа паставіцца да гэтага і з рэзэрвай з пабойваньнем навет. [...]*

*І ўсё-ткі мы важымся сяньня напісаць тут на сваім сьцягу толькі гэтае адно-адзінае слова — “Бацькаўшчына”. І ўсё-ткі мы важымся цьвердзіць, што ня мае права чалавек, дый ня можа проста, адвярнуцца ад свае Айчыны, разарваць зь ёй усе, як ня могуць, ня ў стане навет адвярнуць і адлучыць яго ад яе ніякія ў сьвеце гвалты, ніякія зялезныя заслоны й запоны.*

*Бо Бацькаўшчына — гэта ня толькі зямля бацькоў і бацькоў бацькоў, аж углыбкі сівых пакаленьняў. Бо “Бацькаўшчына” — гэта найперш уся спадчына гэных пакаленьняў, увесь духовы набытак іх, пераказаны з роду ў род і не дзеля таго, каб яго занядбаць, ці зусім выкінуць, ці схаваць, закапаць у зямлю назаўсёды, а якраз на тое, каб пашыраць і павялічваць, памнажаць і пераказваць далей нашчадкам. І гэтая Бацькаўшчына — не ў зямлі, а ў людзях першым і галоўным чынам. Яна ў нас саміх, у нашых душах, і ад Яе ня можам адцурацца, “як рукі, як вока”, як няхітра пяець аб гэтым адна нашая просьценькая, дзіцячая можа навет, а глыбока-праўдзівая нацыянальная песенька.*

*Так, запраўдная Бацькаўшчына — гэта найперш людзі, гэта й мы таксама»*[3].

Васіль Кендыш на старонках “Бацькаўшчыны” згадвае:

*«Першым ліцэнзіянтам газэты стаў, на прапанову Беларускага Нацыянальнага Камітэту, Аляксандар Калодка, ад якога ў 1948 г. я пераняў ліцэнзію ў сувязі зь ягоным выэміграваньнем у Аўстралію. Пасьля атрыманьня ліцэнзіі неабходна было арганізаваць тэхнічныя магчымасьці друку ды забясьпечыць справу фінансавую, якая не прадстаўлялася ружова. Галоўнае рэдактарства газэты ўзяў на сябе сп. Ант. Адамовіч — і гэтая адна з праблемаў была найхутчэй разьвязаная. Пакольвкі ў Рэгенсбургу друкаваліся ўжо газэты іншых нацыянальнасьцяў, дык і мы ў першую чаргу пачалі шукаць там*

[3] Бацькаўшчына. № 1. 31 кастрычніка 1947.

*друкарскіх магчымасьцяў. Напасьледак па шматлікіх пошуках удалося знайсьці асобу, якая згадзілася выдрукаваць газэту корпусным друкам. Такім спосабам удалося выдаць тры першыя нумары. Наш прадпрыемца ня меў зарэндаванага лінатыпу, набор рабіў патаемна ў ваднэй друкарні, а друкаваў у другой, і напасьледак адмовіўся зусім ад друкаваньня нашае газэты.*

*Тады ініцыятыву разьвязаньня друкарскіх магчымасьцяў прыняў я на сябе й пачаў шукаць друкарні, дзе можна было б узяць у арэнду лінатып для нашае газэты. Гэтая справа заняла шмат часу ды вялікую колькасьць падарожжаў. Наведаў усе друкарні, якія былі ў гарадох на прасторы ў граніцах гарадоў Рэгенсбург — Мюнхэн — Штраўбінг — Пасаў. Нарэшце ўдалося знайсьці такую друкарню ў горадзе Дынгольфінг з арэндай лінатыпу выключна для нашага друку. Іншай цяжкасьцю было знайсьці лінатыпістага, які мог бы складаць кірылічным друкам. Спачатку прыйшлося сьцягваць лінатыпістых з Рэгенсбургу, якія набіралі для расейцаў газэты й кнігі, але ніхто зь іх не хацеў наймацца на сталую працу, і таму № 1 (4) “Бацькаўшчына” набіралі аж тры лінатыпістыя: Прахада, Клімянок і Караванны. Для наступнага нумару нам удалося знайсьці лінатыпістага ўкраінца Чайкіўскага з Ашафэнбургу й заключыць зь ім умову. Гэты лінатыпісты кажны тыдзень прыяжджаў з Ашафэнбургу ў Дынгольфінг і складаў там газэту. Дзякуючы таму, што Чайкіўскі аказаўся добрым кваліфікаваным лінатыпістым, нам удалося ў кароткім часе, бо на працягу 8 месяцаў, выдаць: 25 нумароў “Бацькаўшчына”, разам 793 000 эгз.; брашуру Н. Недасека[4] “1917–1947” — 2000 эгз.; брашуру Н. Недасека “1918–1948” — 25 000 эгз.; літаратурна-грамадзкі часапіс “Сакавік” — № 1 — 2000 эгз. № 2 — 2000 эгз.; аповесьць Юстапчыка[5] “Каханы горад” — 2000 эгз.; “Белую кнігу” — 2000 эгз.; зборнік вершаў А.Салаўя “Сіла гневу” — 1200 эгз.*

*Матэрыяльныя сродкі атрымліваліся з датацый Беларускага Нацыянальнага Цэнтру ды ахвяраў беларускіх эмігрантаў, параськіданых па шматлікіх лягерах Нямеччыны. Праблема грошай на той час пераважала ўсе іншыя.*

*Непасрэднымі першымі працаўнікамі рэдакцыі былі галоўны рэдактар сп. Ант. Адамовіч, рэдактар др. Ст. Станкевіч, машыністка спн. Ірэна Вініцкая (цяпер Арцюх), кіраўнік Выдавецтва сп. Уладзімер*

[4] **Н. Недасек** — псеўданім Антона Адамовіча.

[5] **Юстапчык** — псеўданім Антона Адамовіча.

*Кабушка, бухгальтар спн. Ірына Чарнэцкая, цяпер Гайдэль, вучань-набіральнік сп. Аляксандар Мяцеліца й працаўнік рэдакцыі сп. Д. Пэнда. Кажны тыдзень можна было пабачыць, як я із сп. сп. Пэндам і Мяцеліцай несьлі на сваіх плячох па 1000 эгзэмпляраў газэты з друкарні ў Дынгольфінгу да станцыі ды із станцыі ў Остэргофэне ў наш лягер, дзе месьцілася рэдакцыя, робячы разам 5–6 кілямэтраў. Але фізычны цяжар лёгка пераносіўся дзякуючы маральнаму задавальненьню з робленае карыснае нацыянальнае работы.*

*Ніхто з работнікаў не атрымліваў ніякае грашовае зарплаты, а звычайным нашым абедам у друкарні быў кусок чорнага хлеба, не заўсёды памазаны тлушчам, ды кубак чорнае кавы ў нямецкай кафэйнай. На абед у нямецкіх сталоўках трэба было мець мясныя карткі, якіх у лягерах мы не атрымоўвалі. Мне асабіста й рэдактару Адамовічу неабходна было быць 3–4 дні ў тыдзень у друкарні.*

*Кошты друку ў Дынгольфінгу значна панізіліся. Калі за № 1 і № 2 у Рэгенсбургу трэба было плаціць па 1800 нямецкіх марак корпусным друкам (каля 40 000 знакаў), за № 3 колькасьцю 3000 эгз. — 2400 марак, дык у Дынгольфінгу кошты друку выносілі 1600 марак пэтытным друкам (каля 80 000 знакаў). Наагул у гэтым пэрыядзе былі найтанейшыя кошты друку, бо калі прыраўнаць да тагачаснага курсу амэрыканскага даляра, дык адзін нумар газэты нам абыходзіўся ўсяго 6 даляраў.*

*У сярэдзіне 1948 г. у Нямеччыне наблізіўся час грашовае рэформы, і нам усім было ясна, што нашая газэта, пасьля грашовае рэформы, ня будзе мець магчымасьці сталага выхаду, ня маючы запасовага капіталу й даплыву нямецкіх марак. Так яно й сталася. Пасьля выхаду чародных чатырох нумароў пасьля рэформы газэта прыпыніла на нейкі час свой нармальны выхад»*[6].

Эканамічны бок — фінансавае забеспячэнне газеты — бадай самы важны ў жыцці выдання, якое выходзіла дзякуючы выключна ахвярнасці эмігрантаў, што выдаткоўвалі не толькі грошы, але і цыгарэты, і мыла.

Ужо ў першым нумары ў зацемцы ад "Ад выдавецтва й рэдакцыі" выказвалася падзяка за падтрымку і матэрыяльную дапамогу Саюзу ліцэнзіятаў прэсы лагераў для перамешчаных асобаў амерыкан-

[6] Кендыш, Васіль. Як паўстала "Бацькаўшчына" // Бацькаўшчына. 31 кастрычніка 1957.

скай зоны Нямеччыны, Беларускаму цэнтральнаму дапамаговаму камітэту і Беларускаму камітэту на амерыканскую зону, асаблівая падзяка жыхарам лагера Міхельсдорф, Раману Ільніцкаму, Міколу Кунцэвічу[7]. У трэцім нумары паведамлялася пра першыя ахвяраванні з французскай і брытанскай зонаў — ад Янкі Макарэвіча і Уладзіслава Батуры, якія даслалі па 50 марак[8]. Рубрыка "Наш Фонд" у чацвёртым нумары засведчыла, што ахвяраванні ішлі фактычна з усёй Нямеччыны і нават з-за мяжы — Канада, Італія, Вялікабрытанія, ЗША. Адмыслова адзначалася праца скаўтаў па зборы ахвяраванняў: *"Але асабліва хочацца нам тут адзначыць трох, можа наймалодшых, ды разам із тым найшчадрэйшых нашых ахвярадаўцаў — скаўтаў зь Міхэльсдорфу, сяброў Запрудніка Янку, Кіпеля Вітаўта й Цьвірку Ўладзімера, кажны зь якіх злажыў па 100 н. м. у фонд нашае газэты"*[9].

"Бацькаўшчына" здолела не толькі дайсці да чытачоў, але і аб'яднаць іх — пры ўсіх закалотах, падзелах, канфліктах, утварыць з масы ўцекачоў — з Усходняй і Заходняй Беларусі, Менску і Вільні — тое, з чаго паўстане беларускае замежжа. Лагеры Ды-Пі сталі базаю фармавання дзяржаўніцкай, нацыянальнай свядомасці для пераважнай бальшыні паваеннай хвалі эміграцыі, найперш для моладзі. Даступнасць і даходлівасць газеты выклікалі зваротную рэакцыю чытачоў. Яны пачалі дасылаць з самых розных асяродкаў брытанскай, французскай, амерыканскай зонаў свае допісы. А гэта дае падставу назваць "Бацькаўшчыну" летапісам паўсядзённага жыцця беларусаў ад самага пачатку эміграцыі.

Старонкі газеты захавалі дэталі падзей, следу якіх няма ні ў адным архіве, не захавалася ў памяці сучаснікаў, больш нідзе не занатавана. Даследчык знойдзе тут жывую інфармацыю пра кожны лагер Ды-Пі, дзе атабарыліся беларусы: пра арганізацыйныя справы[10] і пра знявагу беларусаў чыноўнікам *IRO* Ф. Янкоўскім у лагеры Альтэнштэт[11]; пра тое, як амерыканскія збіральнікі народных

7 Бацькаўшчына. № 1. 31 кастрычніка 1947.

8 Бацькаўшчына. № 3. 27 лістапада 1947.

9 Бацькаўшчына. № 1 (4). 25 студзеня 1948.

10 Зуб. Па кутках эміграцыі. Нашая перамога // Бацькаўшчына. № 8 (11). 14 сакавіка 1948.

11 Зуб-ня-Зомб. Як із дуба можа вырасьці домб // Бацькаўшчына. № 4 (7). 15 лютага 1948.

песняў зрабілі фанаграмы беларускіх спеваў[12] і пра выданне ананімнай брашуры "Хто такія крывічы"[13] ў лагеры Бакнанг; пра заснаванне нацыянальнага руху ў лагерах Бамберг[14] і Біберах[15]; падрабязнасці жыцця ў Гановеры[16] і Заўльгау[17]. Толькі ў гэтым летапісе можна прачытаць запісы пераважна безыменных (ці схаваных пад мянушкамі — да страху перад Саветамі, перад прымусовым вяртаннем дадалася боязь суседзяў па лагеры) аўтараў пра сумесныя з украінцамі канцэрты ў Зеедорфе[18], пра бядотнае становішча жыхароў лагера ў Інгальштаце[19], пра "беларусізацыю" лагера ў Люізэтбергу (Шлезвіг-Гальштайн)[20], пра пабудову ў Альпах помніка ўдзельнікам Слуцкага паўстання — у лагеры Лютэнзэе ля Мітэнвальда[21]. Тут каштоўная інфармацыя да гісторыі скаўтынгу ў лагерах Майнлёйз[22] і Маервік[23], школьніцтва ў Розенгайме[24].

І гэта адно пра меншыя асяродкі. Куды больш інфармацыі пра такія важныя для беларусаў лагеры, як Ватэнштэт, Віндышбергердорф, Міхельсдорф, Остэргофен, Рэгенсбург, Шляйсгайм. Бібліяграфія з "Бацькаўшчыны", датычная іх, заняла б не адну бачыну.

Паступова газета рабілася прафесійным дарадцам пры пабудове новага жыцця. Яна паведамляла пра магчымасці эміграцыі

---

12 Беларуская песьня ў Амэрыцы // Бацькаўшчына. № 16 (60). 5 кастрычніка 1949.

13 Беларуская песьня ў Амэрыцы // Бацькаўшчына. № 16 (60). 5 кастрычніка 1949.

14 Шавель, А. Наш нацыянальны абавязак (Да нас пішуць) // Бацькаўшчына. № 5 (49). 6 лютага 1949.

15 М. Т. Між суродзічамі ў Бібэраху // Бацькаўшчына. № 2 (5). 31 студзеня 1948.

16 Зь беларускага жыцьця. Беларускі асяродак у Дэльмэнгорст // Бацькаўшчына. № 3 (47). 23 студзеня 1949.

17 Слонімскі. Па кутках эміграцыі. Зьезд у Заўльгаў // Бацькаўшчына. № 9 (12). 25 сакавіка 1948.

18 Беларуска-ўкраінскі канцэрт. Зь беларускага жыцьця // Бацькаўшчына. № 63. 15 верасьня 1950.

19 Падарожны. Па лягерах і асельлях // Бацькаўшчына. № 45 (275). 6 лістапада 1955.

20 Налібок. Адваёўваем лягеры // Бацькаўшчына. № 4 (7). 15 лютага 1948.

21 Немановіч, У. У памяць Герояў // Бацькаўшчына. № 70. 15 верасьня 1951.

22 У скаўтаў // Бацькаўшчына. № 3. 27 лістапада 1947.

23 Новая скаўцкая адзінка. Па кутках эміграцыі // Бацькаўшчына. № 25 (28). 8 жніўня 1948.

24 У лягеры Розэнгайм. Зь беларускага жыцьця // Бацькаўшчына. № 15 (59). 18 жніўня 1949.

ў Аргенціну і што самотныя жанкі могуць ехаць у Аўстралію[25], папярэджвала аб новых савецкіх інструкцыях для Ды-Пі і дзейнасць савецкай рэпатрыяцыйнай місіі[26], абмяркоўвала законапраект пра дапушчэнне 200 тысячаў Ды-Пі ў ЗША[27]. У газеце друкаваўся нават свой уласны юрысконсульт[28].

У “Бацькаўшчыне” быў створаны адмысловы раздзел — “Справы Ды-Пі”, дзе побач з хронікаю жыцця друкаваліся звесткі аб прафесійных курсах *IRO*, раілася, што неабходна зрабіць перад выездам у Аргенціну, а што — у ЗША, як атрымаць пазыкі, дзе здабыць пашпарты. І — галоўнае — рэгулярна паведамлялася, якая краіна колькі тысячаў чалавек згадзілася прыняць у новым месяцы.

Разам з такімі жыццёваіснымі звесткамі рэдактар і аўтары газеты не забываліся на неабходнасць нацыянальнай адукацыі чытача, з нумара ў нумар нагадвалі: запісвацца беларусамі, не выракацца свайго[29].

Высокае становішча “Бацькаўшчыны” ў жыцці замежжа давала ёй права ў значнай ступені фармуляваць заданні эміграцыі:

*«Нягледзячы на тое, што не заўсёды нашыя суродзічы могуць ехаць у тыя краіны, куды яны хацелі б, і нягледзячы на тое, што сам падход да вэрбоўкі нашых людзей на эміграцыю часта зьяўляецца для нас крыўдным і абразьлівым, калі галоўнай падставай прыняцьця кандыдата зьяўляецца ня толькі ягоны сямейны стан і сьцісла абмежаваны век, але навет адпаведная сіла мускулаў, то ўсё ж такі факт астаецца фактам — ладная колькасьць нашых людзей ужо выехала й шмат спасярод астаўшыхся, а мо й бальшыня мае ўсе дадзеныя*

[25] Эміграцыйныя справы // Бацькаўшчына. № 15 (59). 18 жнівеня 1949.

[26] Цікун, П. Іхныя штучкі // Бацькаўшчына. № 2 (5). 31 студзеня 1948.

[27] Тота. Справы ДП. Як сэнат разважыў і адважыўся // Бацькаўшчына. № 21 (24). 20 чэрвеня 1948.

[28] Юрысконсульт. Аб адміністрацыі лягераў ДП // Бацькаўшчына. № 36 (39). 11 лістапада 1948; Юрысконсульт. Дысцыплінарныя камісіі. Карныя распараджэньні ДП // Бацькаўшчына. № 40 (43). 19 сьнежня 1948; Юрысконсульт. Праўная помач IPO // Бацькаўшчына. № 35 (38). 7 лістапада 1948.

[29] Янка. Па куткох эміграцыі. Лепш пазьней, як ніколі. У Францускай зоне // Бацькаўшчына. № 1 (4). 25 сьнежня 1948; Увазе беларускіх ДП // Бацькаўшчына. № 11 (14). 11 красавіка 1948; Станкевіч, Ст. У новых краёх — новыя заданьні // Бацькаўшчына. № 13 (57). 1 чэрвеня 1949; У. С. Канкрэтная праблема // Бацькаўшчына. № 33 (263). 14 жніўня 1955.

*хутка разьвітацца зь негасьцінняй Нямеччынай і тымі цяжкімі, ненармальнымі й дэмаралізуючымі ўмовамі жыцьця, у якіх трэба было знаходзіцца на працягу некалькіх апошніх год у лягерах Ды-Пі. Бо трэба сказаць адкрыта, што сказармаванае лягернае жыцьцё, поўнае самых элемэнтарных недастаткаў, часта недапушчальныя ў культурным сьвеце бытавыя ўмовы, бязьдзейнасьць, а галоўнае — няпэўнасьць свайго будучага лёсу й страх перад тым, каб узноў не папасьці ў крывавыя абоймы “любімага бацькі”, вельмі адмоўна адбіліся на псыхічным і маральным стане ўсяе масы перамяшчэнцаў [...] Кажны спасярод апошніх павінен глыбака ўсьведаміць сабе, што найвялікшым ягоным абавязкам на чужыне ёсьць захаваньне таго найдарэжайшага скарбу, які ён вынес із сваёй роднай хаты на Бацькаўшчыне — сваёй беларускай нацыянальнасьці. Захаваць-жа сваю нацыянальнасьць зможам лёгка тады, калі, нягледзячы на вялікія прасторы, што нас будуць дзяліць, захаваем між сабою цесную арганізацыйную сувязь. [...] Як ужо няраз зазначалася, мы з’яўляемся палітычнымі эмігрантамі ў сьцісьлым значэньні гэтага слова. Гэты палітычны характар прыдае нам ня гэтулькі тое, із-за якіх прычынаў пакінулі мы нашую Бацькаўшчыну, колькі тое, чаму мы не захацелі да яе вярнуцца. А прычыны, што нас паўстрымалі ад павароту, зьяўляюцца выключна палітычнага характару. І наш побыт на чужыне ёсьць наяўным задакумэнтаваным перад сьветам нашага пратэсту супраць нялюдзкіх гвалтаў і крывавага тэрору бальшавіцкіх акупантаў і з другога боку — маніфэстацыя перад тым-жа сьветам нашае нацыянальна-вызвольнае ідэі. Таму, як звычайна гавораць аб сабе і эмігранты іншых нацыянальнасьцяў, кажны беларускі эмігрант павінен быць сяньня амбасадарам сваёй Бацькаўшчыны сярод народаў сьвету»* [30].

Вельмі важным праектам сталася заснаванне пры газеце аднайменнага выдавецтва, якое пачало працаваць — разам з БІНіМам — у тым плённым для рэдакцыі і Станіслава Станкевіча 1952 г. Сярод зробленага — “Спадчына” Янкі Купалы[31] (кошт асобніка быў 25 $,

[30] Станкевіч, Станіслаў. У новых краёх — новыя заданьні // Бацькаўшчына. № 13 (57). 1 чэрвеня 1949.

[31] Гісторыі з’яўлення гэтай кнігі прысвечана адмысловае выданне: Як укладалі “Спадчыну”: Да 135-годдзя ад нараджэння і 75-годдзя смерці Янкі Купалы / уклад., падрыхтоўка тэкстаў, уступ. слова, агульнае рэдагаванне Наталлі

11 $, 9 $, 5 $ у залежнасці ад вокладкі і паперы), ягоныя ж “Тутэйшыя” (1 $), “Раськіданае гняздо” (0,75 $); “Новая Зямля” (2,25 $), “Сымон-музыка” (2,25 $), “У Палескай глушы” (1,50 $) Якуба Коласа; “Вянок” Максіма Багдановіча (3 $ або 4 $ у залежнасці ад вокладкі), “Матчын дар” Алеся Гаруна (3 $), “Запіскі Самсона Самасуя” Андрэя Мрыя (0,75 $), “Нядоля Заблоцкіх” Лукаша Калюгі (1,10 $), “Творы” Вацлава Ластоўскага (0,75 $), “Плыве з-пад Сьвятой Гары Нёман” Юркі Віцьбіча (0,75 $), “Беларускія казкі” (3 $ або 4 $ у залежнасці ад вокладкі), “Ля чужых берагоў” (2,25 $), “Зь гісторыі Беларусі” Янкі Станкевіча (0,95 $), “Дабрасельцы” Аляксея Кулакоўскага (1 $)[32]. Антон Адамовіч пад псеўданімам Р. Склют пісаў уводныя артыкулы да большасці выданняў. Рэдакцыя газеты не толькі збірала самыя творы, што было даволі нялёгкаю справаю пры адсутнасці даступных крыніцаў, не толькі апрацоўвала іх, рыхтавала да друку, але і брала на сябе справу распаўсюду, дзеля чаго праводзіла месячнікі беларускае кнігі.

“Бацькаўшчына” даходзіла ў Польшчу і Беларусь. Ініцыятыву выявіла рэдакцыя газеты. Напрыканцы 1956 г. ад яе імя быў накіраваны ліст ў Беларускае грамадска-культурнае таварыства (Варшава) з прапановай абмену кнігамі і газетамі. Неўзабаве прыйшоў адказ, дзе гаварылася, якім сюрпрызам стаўся ліст з Нямеччыны і што прапанова з радасцю прымаецца.

З таго часу ў рэдакцыю “Бацькаўшчыны” пачалі рэгулярна прыходзіць не толькі пасведчанні аб атрыманні пасылак за подпісамі старшыні Юрыя Туронка і сакратара Ніны Паўлевіч, але і падзякі, просьбы аб новых выданнях з далёкіх ад сталічнай Варшавы месцаў, а ў беластоцкай газеце “Ніва” з’явілася рубрыка

Гардзіенкі, Лявона Юрэвіча. Мінск: Кнігазбор, 2018. — 290 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 35).

32 Лічбы пададзены на канец 1961 г. Кошты ўсталёўвала рэдакцыя, яна ж рэгулярна абвяшчала праз газету зніжкі і тыдні таннае беларускае кнігі. Гэта працавала досыць добра, пакуль выдаваліся творы класікаў ці падсавецкіх аўтараў. Але першая спроба выдрукаваць кнігу эміграцыйнага пісьменніка скончылася, як пісаў Станіслаў Станкевіч, “скандалам”: выдаўшы “Выбраныя творы” Рыгора Крушыны, рэдакцыя са згоды аўтара пачала іх распаўсюджваць па 1 $ за асобнік, але праз некаторы час аўтару падалося, што ён прагадаў і запатрабаваў перамяніць кошт на 2 $ — на ўвесь наклад, частка якога да таго часу ўжо была распаўсюджаная. Магчыма, гэта ў пэўнай ступені паслугавала таму, што “Бацькаўшчына”, апёкшыся, неахвотна выдавала кнігі ўласных аўтараў.

“З жыцця эміграцыі”, дзе на падставе матэрыялаў “Бацькаўшчыны” падаваліся звесткі з культурнага і грамадскага жыцця эміграцыі, часам нават передрукоўваліся асобныя артыкулы.

У БССР у той час высылалася 50 асобнікаў — галоўным чынам у бібліятэкі, рэдакцыі, некаторым пісьменнікам. Канкрэтных звестак, ці даходзілі газеты да адрасатаў, не было, але ўскосных ставала. Тое былі адмоўнага тону паведамленні ў штотыднёвіку “Літаратура і мастацтва” і газеце “За вяртанне на Радзіму” пра пісьменнікаў-эмігрантаў, інфармацыя для якіх бралася з “Бацькаўшчыны”. Такім чынам, чытачы ўсё ж маглі даведацца пра існаванне дыяспары.

Займальны факт, які сведчыць пра разуменне значнасці газеты ў БССР: да аповесці Макара Паслядовіча “Па воўчых сцежках” газета “Звязда” змантавала здымку: пісталеты, бутэлька з атрутаю і газета “Бацькаўшчына”.

Сапраўды, нягледзячы на бясконцыя фінансавыя праблемы, на раздоры ў рэдакцыі, на складанасці з здабыццём матэрыялаў, “Бацькаўшчына” стала найбольш значнай газетай дыяспары, сапраўднай легендай эміграцыі. Фактычна на ейных бачынах змяшчаліся найлепшыя творы палітычнай, гістарычнай думкі беларусаў на выгнанні, менавіта там прайшла апрабацыю большасць мастацкіх твораў пісьменнікаў-эмігрантаў, там друкаваліся творы класікаў перад выхадам у вольны свет у цвёрдых вокладках. На ейных бачынах — сведчанні пра ўваход новапрыбылых уцекачоў з Беларусі ў новае жыццё; будаванне *замежнай Беларусі* — не асобнымі праявамі, а сістэмнаю структураю: з урадам, навуковымі інстытуцыямі, школамі, культурнымі ўстановамі, парафіямі, нават з уласнаю апазіцыяй. “Бацькаўшчына” захоўвае на сваіх бачынах дакументы палітыкі навонкі — рэакцыю на падзеі ў свеце, Беларусі, іх прыняцце або адмаўленне. Газета прайшла разам з эміграцыяй шлях ад рубрыкі “Шукаем сваякоў” да “Жалобнай хронікі”, калі былых уцекачоў — муляроў *замежнай Беларусі* — хавалі іхныя дзеці і ўнукі, грамадзяне вольных краінаў.

Станіслаў Станкевіч рэдагаваў газэту да самага свайго выезду ў ЗША ў 1962 г. Пасля ягонага ад’езду газету перанялі Павал Урбан, Уладзімір Цвірка, Юры Сенькоўскі, але іхная занятасць на Радыё “Вызваленьне / Свабода” прадказальна вяла да закрыцця “Бацькаўшчыны”: апошні, 637-ы нумар выйшаў у снежні 1966 г.

Зрэшты, быў яшчэ адзін фактар, які спрыяў закрыццю газеты: яна аджыла сябе як газета *эміграцыйная*, як газета *эмігрантаў*.

У сярэдзіне 1960-х пераважная большасць уцекачоў з Беларусі не толькі атабарылася ў чужых краінах, але і пусціла карані, вывучылася, уладкавалася на працу, нарадзіла дзяцей, якія пайшлі ў школы, каледжы, — словам, былыя эмігранты пераўтвараліся ў амерыканцаў (ангельцаў, канадыйцаў, аўстралійцаў, французаў) беларускага паходжання. А новы сацыяльны статус патрабаваў газеты новага тыпу — выдання не *эміграцыйнага*, а *этнічнага*.

Гісторыя беларускага перыядычнага друку ў Амерыцы пачынаецца з “Белорусской Трибуны”[33], рэдактарам якой быў Язэп Варонка, але сапраўднае развіццё яе сталася набыткам паваеннае эміграцыі. Адзін па адным выходзілі “Беларус у Амэрыцы”[34], “Беларускае Слова ў Амэрыцы”[35], “Беларуская Трыбуна”[36], толькі жыццё гэтых выданняў было непрацяглае[37]. Газетаю беларускіх эмігрантаў з Беларусі і беларускіх амерыканцаў, а пазней і беларусаў ва ўсім свеце наканавана стацца было іншаму выданню.

Французскі гісторык П’ер Нара, ідэолаг і галоўны рэдактар шматтамовай калектыўнай працы *Les lieux de memoire*[38], прапанаваў тэрмін — *lieux de memoire*, месцы памяці. Гэта не месцы ў геаграфічным сэнсе слова, яны акрэсліваюцца як своеасаблівыя пункты перасячэння, на якіх фармуецца ды канцэнтруецца памяць грамадства. Іх асноўная функцыя — захаванне калектыўнай памяці[39]. Такімі месцамі памяці могуць быць людзі, падзеі, выданні, будынкі, рэчы, паданні, традыцыі, агорнутыя сімвалічным арэолам: Францішак Скарына, 8 верасня 1514 г., “Наша Ніва”, Крыж

---

33 **“Белорусская Трибуна”** — газета, якая выдавалася ў Чыкага з 1926 да 1932 г.

34 **“Беларус у Амэрыцы”** — часопіс, які выдаваўся ў Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі, 1948–1949). Рэдактары — Янка Віхаёнак, Барыс Кіт.

35 **“Беларускае Слова ў Амэрыцы”** — часопіс, якога выйшла толькі два нумары ў студзені — лютым 1950 г. Нью-Брансвік (Нью-Джэрсі). Рэдактар — Святаслаў Коўш.

36 **“Беларуская Трыбуна”** — газета, якая выдавалася з жніўня 1950 да лістапада 1953 г. спачатку Злучаным беларуска-амерыканскім дапамаговым камітэтам, потым — Беларускім выдавецкім фондам у ЗША. Рэдактары — Мікола Шчорс, Язэп Ляшчынскі (Міхась Кавыль). Выйшла 17 нумароў.

37 Падрабязней пра беларускі друк у ЗША: Kipel, Vitaŭt. Belarusans in the United States. University Press of America, 1999. P. 407–415.

38 Nora, Pierre. Les Lieux de Memoire. Paris, 1984–1992. 7 volumes.

39 Nora, Pierre. Between Memory and History: Les Lieux de Memoire // Representations. Berkeley (California): University of Calif. Press. № 26. Spring 1989. P. 7.

Еўфрасінні, Вялікае Княства Літоўскае, Вільня. Іх роля з часам мяняецца, з пачатковай, натуральнай — на сімвалічную — як згадка пра мінулае, што дадае сэнс сённяшняму. Значэнні тае ролі — адрозныя, яны могуць мяняцца з цягам часу нават на супрацьлеглыя. І няма сумневу, што газета “Беларус” на мапе дыяспары — адно з цэнтральных *lieux de memoire*.

Першы нумар газеты пабачыў свет 20 верасня 1950 г. (рэдактар — Леанід Галяк). Нумар выйшаў на чатырох бачынах вялікага фармату — такім выдавалася ў тыя часы “Бацькаўшчына”. Асобнік каштаваў 10 цэнтаў, падпіска на год — два даляры. Цэнтральныя матэрыялы нумара былі прамова прэзідэнта БНР Міколы Абрамчыка на банкеце ў Чыкага “Беларускі вызвольны рух — зьява прыродная — Боскіх законаў”, а таксама паведамленне пра ягоную англамоўную брашуру “Абвінавачваю Крэмль у забойстве майго народу”, дзе на падставе сакрэтных дакументаў НКУС расказвалася пра забойства 13 325 беларусаў. Сярод іншых матэрыялаў — паведамленне пра акцыю ААН у Карэі, а таксама — на падставе матэрыялаў нямецкай газеты “*Neues Tagesblatt*” — пра чатырохгадзінны бой у Вільні «*паміж адзьдзеламі беларускіх партызанаў “Чорнага Ката” з бальшавіцкай паліцыяй*», артыкулы “Аб беларускіх вайсковых фармацыях” Вайскоўца [Ф. Кушаля], “Камунізм і расейцы”.

Цэлую старонку займала інфармацыя “Беларусы ў сьвеце”, у якой расказвалася пра з’езд беларускіх студэнтаў і выпускнікоў школ у “Беларускай Хатцы” ў Брукліне дзеля заснавання арганізацыі (50 асобаў) і пра сход навукоўцаў, пісьменнікаў, мастакоў (20 чалавек), на якой было пастаноўлена зарганізаваць Беларускую вольную акадэмію навук і мастацтваў.

Пра дзейнасць эміграцыі ў розных кутках ЗША паведамлялі “Весткі”. Так, Беларуска-Амерыканскае згуртаванне ў першым нумары “Беларуса” паведамляла, што за “*апошнія тры месяцы стараньнямі арганізацыі*” з Нямеччыны прыехала каля 200 сем’яў, сярод якіх — Аўген Каханоўскі, Франц Кушаль, Наталля Арсеннева, Антон Адамовіч, Пётра Міранові, Мікола Кулікові, Андрэй Каптуровіч. Паведамлялася, што калі ў Кліўлендзе год таму жыў адзін Міхась Белямук, то цяпер у аддзеле БАЗА налічваецца больш за 50 асобаў, чакаецца яшчэ 100. Была зацемка з Брукліна, што з ініцыятывы Задзіночання беларускіх жанчынаў зарганізавана “Беларуская Хатка”, “*якая цяпер стала месцам сходак і забаваў ня толькі для бруклінскага адзьдзелу,*

*але й суседніх адзьдзелаў, як Маспэт, Мангатэн”.* Разбудоўвалася і царкоўнае жыццё, газета паведамляла, што 26 жніўня быў выбраны Беларускі царкоўны камітэт[40] і прыехалі два святары БАПЦ[41]. Надавалася таксама ўвага культурнаму жыццю эміграцыі, адукацыі. Гэтак паведамлялася, што Міхась Рагуля прачытаў рэферат, прысвечаны 32-м угодкам абвяшчэння БНР, украінец М. Кэкало выступіў з рэфератам “Салавецкія канцэнтрацыйныя лагеры і беларускія спецперасяленцы ў Паўночным Краі”. Выступаў Янка Станкевіч з дакладамі “Паходжанне і нормы гаспадарствавае мовы Вялікага Княства Літоўскага”, “Беларускія плямёны і іхныя гаспадарствы” ды іншымі. Адбыліся літаратурныя вечары з удзелам Янкі Юхнаўца, Уладзіміра Клішэвіча, Наталлі Арсенневай, Янкі Шакуна, канцэрты Міколы Куліковіча. Друкаваліся і “весткі з замежжа”: прыезд у Аўстралію ўладыкі Сергія, высвячэнне ў Англіі ўладыкам Васілём святара Аляксандра Крыта, беларуска-ўкраінскі канцэрт у лагеры Ды-Пі ў Нямеччыне, кароткая інфармацыя з Аргенціны і Бельгіі.

Натуральна, першы нумар выдання не мог абысціся без рэдакцыйнага звароту да чытачоў. У прыватнасці, там гаварылася наступнае:

*«Пачынаючы выдаваньне часопісу “Беларус”, рэдакцыя хоча выказаць паважнаму чытачу тыя прычыны, што спанукнулі нас да гэтага: што сабою прадстаўляюць ініцыятары выдаваньня і якія яны сабе стаўляюць задані. […] Беларуская старая эміграцыя атрымала цяпер у васобе гэтае новае эміграцыі вялікую сабе падмогу. Каб выйсьці цяпер у шырокі сьвет, каб стаць у вадзін шэраг зь іншымі ў ЗГА, засталося адно: моцна, па-брацку ўзяцца за рукі старой і новай эміграцыі ды йсьці тым сьвятым беларускім шляхам, прызначаным нам Богам, на які стаў ужо ўвесь Беларускі народ у краі — шляхам да Вольнай і Незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Рукою гэтай, якая працягвая новая беларуская эміграцыя да старой, і ёсьць наш часапіс — “Беларус”.*

*Найважнейшай, аднак, прычынай, што панукнула нас да выдаваньня газэты — гэта неабходнасьць інфармаваць увесь цывілізаваны*

[40] Напэўна, меўся на ўвазе парафіяльны камітэт пры царкве Св. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку, які ўзначалілі Мікола Дарашэвіч (старшыня) і Аляксандр Орса (скарбнік).

[41] Напэўна, меліся на ўвазе а. Хведар Данілюк і а. Васіль (Тамашчык).

*сьвет аб падзеях у Беларусі, выясьняючы праўду аб імкненьнях і ідэалах Беларускага Народу ў ягоным змаганьні з акупантам, ды змагацца з усёй той маною, хвальшам і баламуцтвам нашых ворагаў, якія яны сеюць праз сваю прэсу сярод нашых людзей у Амэрыцы».*

У параўнанні з газетай "Бацькаўшчына" матэрыялу да гісторыі "Беларуса" і аднаўлення рэдакцыйнага жыцця захавалася крыху болей: пратаколы першых рэдакцыйных сходаў, напісаных рукою Наталлі Арсеневай, частка рэдакцыйнага ліставання, захаваная ў архіве Янкі Запрудніка, а таксама некаторыя ўспаміны. Прыкладам, згадвае Наталля Арсеннева, рэдактар газеты ў 1952–1954 гг.:

*«У 1950–1951 г. газэту "Беларус" выдаваў сп. Галяк. Яна выходзіла нерэгулярна, бо вылучна выдавалася на грамадзкія грошы. Прыкладам, № 2, датаваны 21 красавіка 1951 г., № 3 — 20 верасьня 1951 г., а № 4 — 25 сьнежня гэтага ж году. № 1 і 2 за 1952 г. выдаваў др. Тумаш, які згадзіўся напачатку 1952 г. на просьбу прэзыдэнта Абрамчыка быць рэдактарам.*

*Якраз пад вясну сп. Прэзыдэнту ўдалося атрымаць на выданьне газэты данацыю ад Амэрыканскага камітэту "Свабода" (тады яшчэ "Вызваленьне")*[42]*. Гэткія ж данацыі, але ў шырэйшых памерах і раней за нас атрымалі ад Амэрыканскага Камітэту іншыя нацыянальнасьці (найбольш скарысталі ўкраінцы).*

*Частка нашага грамадзтва ў гэтым часе ставілася да Амэрыканскага камітэту вельмі варожа, лічачы яго русафільскім, таму атрымоўваньне якое-колечы грашовае дапамогі ад яго лічыла ледзь ня здрадаю беларускае справы*[43]*. Маючы гэта на ўвазе, сп. Прэзыдэнт Абрамчык прасіў як найменш аб гэтай данацыі на газэту*

[42] Пачатковая назва — Амерыканскі камітэт вызвалення народаў Расіі (*The American Committee for the Liberation of the People of Russia*), пазней зменена на Амерыканскі камітэт вызвалення ад бальшавізму (*The American Committee for the Liberation from Bolshevizm*).

[43] Падобная сітуацыя склалася і вакол "Бацькаўшчыны". Кастусь Мерляк, наракаючы на недрукаванне газетаю сваіх артыкулаў, пісаў: «*Ня трэба дадумоўвацца, што гэтыя матэрыялы не былі надрукаваныя з тае прычыны, што ў іх пасрэдна або беспасрэдна зьвярталася ўвага на прарасейскую палітыку Амэрыканскага Камітэту або дзейнасьць некаторых асобаў, зьвязаных інтарэсамі асабістага характару. Адкіданьне матэрыялаў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня й праводжаная рэдакцыяй "Бацькаўшчыны" цэнзура зьяўляецца не дэмакратычным актам, але перадусім актам, шкод-*

*гаварыць. Але гэткая ягоная палітыка сябе не апраўдала, а мела вынікам сваркі й непаразуменьні сярод нашага грамадзтва ды цяжкасьці з выдаваньнем газэты. Гутаркі бо й абвінавачваньні ўсё адно шырыліся.*

*Выдаўшы два нумары “Беларус”, сакавіковы й Велікодны, др. Тумаш ад рэдагаваньня адмовіўся. Афіцыйна газэта была ўвесь час выдавецтвам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў ЗША, і Задзіночаньню якраз давялося шукаць новага рэдактара.*

*Старшынём БАЗА ў пачатку 1952 г. быў выбраны сп. Ф[ранц] Кушаль. Яго сп. Прэзыдэнт і папрасіў пераняць усю справу, сфармаваць новую рэдакцыйную калегію й знайсьці рэдактара. Гэта й было зроблена. Пры канцы красавіка 1952 году сп. Кушаль склікаў арганізацыйны сход (іх было некалькі), на які запрасіў: сп. А[ляксандра] Махноўскага ад Рады БНР, Уладыку Васіля, сп. М[іколу] Гарошку, др. Тумаша як папярэдняга рэдактара, сп. Арсеньневу, якую сп. Прэзыдэнт прапанаваў перад сваім чародным ад’ездам з ЗША, калі б гэта было магчыма, на новага рэдактара “Беларуса”, сп. М[іхася] Тулейку, які кальпартаваў газэту працягам мінулых год, сп. Я[нку] Ніхаёнка, які яму ў гэтым дапамагаў, сп. П[ётру] Манькоўскага, які быў тады, здаецца, сакратаром БАЗА, ды сп. Б[арыса] Данілюка. Ведама, быў прысутны й старшыня БАЗА сп. Ф[ранц] Кушаль.*

*Усе запрошаныя, апрача др. Тумаша, занятага тады працаю, на сход прыбылі і, пасьля дакладнага абмеркаваньня справы, сп-ня Арсеньнева была зацьверджаная рэдактарам газэты, Уладыка Васіль — заступнікам, сп. Манькоўскі — сакратаром, сп. Гарошка — скарбнікам, сп. Тулейка й надалей экспэдытарам ды, побач із сп. сп. Данілюком і Ніхаёнкам, — сябрам рэдакцыйнае калегіі.*

*Аднак адразу ж на першым паседжаньні ўзьніклі непаразуменьні. Сп. Махноўскі выступіў з вострым пратэстам супраць таго, што выдаваць газэту мае, як і дагэтуль, БАЗА, а не БНР. Ён уважаў таксама, што рэдактарам павінен быць ён сам. Дарма прысутныя тлумачылі яму, што сп. Прэзыдэнт Абрамчык адмыслова падаў якраз БАЗА, а ня БНР, беларускую грамадзкую, з амэрыканскім чартарам, а не палітычную арганізацыю дзеля атрымоўваньня данацыі Амэрыканскага камітэту на выдаваньне газэты. Сп. Махноўскі*

---

*ным беларускаму вызвольнаму руху»* (Мерляк, Канстанцін. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. Нью Ёрк, 1992. С. 199).

*стаяў на сваім і, ледзь нарада скончылася, пакінуў яе вельмі незадаволены, а на наступнае, скліканае неўзабаве паседжаньне, ужо не прыйшоў наагул, паставіўшыся варожа і супраць Амэрыканскага камітэту, і супраць старшыні БАЗА і супраць рэдакцыйнае калегіі "Беларуса". Трэба тутака зазначыць, што пратаколы згаданых вышэй арганізацыйных паседжаньняў газэты, зьвязаныя зь ягоным выдаваньнем, Прэзыдэнт Абрамчык працягам году перахоўваў у сваіх асабістых архівах, а тады перадаў на тымчасовае перахаваньне спні Арсеньневай, тагачаснага рэдактара, якая, пакідаючы Нью-Ёрк у 1967 г., згодна з жаданьнем сп. Прэзыдэнта, перадала іх сп. Я[нку] Запрудніку.*

*Першы нумар "Беларуса", выдадзены новай рэдкалегіяй, № 3 паводле новае нумарацыі, пачатае ў 1952 г. (а 9-м ад заснаваньня "Беларуса" наагул), выйшаў 30-га траўня 1952 г., № 4 (10) — 14 чэрвеня, і адгэтуль выходзіў пад рэдакцыяй сп-ні Арсеньневай і новае рэдакцыйнае калегіі акуратна двойчы на месяц. Усяго імі былі выданыя 38 нумароў, пасьля чаго, у выніку канца другое кадэнцыі старшынства БАЗА сп. Кушаля й выбарам новым старшынём БАЗА сп. Тулейкі, справа выданьня "Беларуса" перайшла ў ягонае веданьне.*

*Тымчасам Амэрыканскі камітэт "Вызваленьне" быў рэарганізаваны ў Камітэт Радыё "Свабоды" і ўсе данацыі на выдавецтвы паасобных нацыянальнасьцяў былі спыненыя. Была спыненая й данацыя (у верасьні 1953 г.) на "Беларуса". Аднак, "Беларус" выходзіў пад старой рэдакцыяй яшчэ да вясны 1954 г. Адно што пачынаючы ад лістападу 1953 г. "Беларус" пачаў выходзіць раз у месяц. Пасьля ж красавіка 1954 г. рэдагаваньне "Беларуса" было перададзенае сп. Тулейку, новаму старшыні БАЗА, разам із заашчаджанымі папярэдняй рэдкалегіяй грашыма, за якія сп. Тулейка выдаваў "Беларус" яшчэ да восені 1954 г. (разам яшчэ 6 ці 8 нумароў). Сталася ж гэта магчымым таму, што прадбачачы спыненьне некалі Амэрыканскім камітэтам данацыі на "Беларуса", рэдакцыя ад самых першых дзён выдаваньня газэты пачала строга ашчаджаць. Выглядала справа так:*

*У палове кожнага месяцу трэба было прадстаўляць Амэрыканскаму камітэту каштарыс выдаткаў за 2 нумары газэты, якія й аплачваліся згодна з далучанымі да яго рахункамі й квіткамі*[44].

[44] *"Statement. This is to state the $ 1000 donation (month August) from the American Committee for the Liberation from Bolshevizm, given the Byelorussian-American Ass'n, Inc. has been distributed in the following way: Printing of the issues 15 (39)*

*Так што грошы даваліся фактычна не наперад, а ўзад. За атрыманую суму (якая не магла перавышаць 1000 даляраў) выдаваліся наступныя два нумары й гэтак далей. Газэта друкавалася ў друкарні сп. Крупкі на 2-ой Авэню ў Мангатэне. Цана друку за нумар вагалася паміж 175–180 далярамі, часам болей, залежна ад колькасьці клішаў. Камітэт жа прызначыў на друкаваньне нумару 250 даляраў (500 на месяц). Розьніца была ашчаднасьцяй. На аплату рэдактара камітэт прызначыў 250 даляраў на месяц, рэдактар жа браў толькі 150 даляраў, хоць расьпісваўся за 250. Розьніца — 100 даляраў — была ашчаднасьцяй. Таксама й за гэтак званую ломку газэты ў друкарні й карэкту прызначалася камітэтам 100 даляраў. Плацілася ж 60 даляраў. 40 даляраў былі ашчаднасьцяй. Амэрыканскі камітэт прадугледжваў у каштарысе выдаваньня газэты й ганарары супрацоўнікам*[45]*. На іх рэдакцыя ашчаджала таксама, бо плаціла (а плаціць нешта мусіла, бо гэта было ў каштарысах камітэту) вельмі малыя, хутчэй сымбалічныя, чымся рэальныя сумы. Гэтак, за перадавіцу плацілася пераважна 10 даляраў, за артыкул — 10–20 даляраў, за карэспандэнцыю 5 даляраў і гэтак далей. Распісваліся ж некаторыя аўтары сьведама за большыя сумы. І гэта таксама было цімалой для нашае рэдакцыі ашчаднасьцяй. Фінансавымі справамі “Беларуса”, аплатай друкарні ды інш. рахункаў ведаў скарбнік рэдакцыі сп. Гарошка. Уладыка Васіль рабіў карэкту й ломку газэты ў друкарні. Ён жа складаў для кожнага нумару агляд палітычных падзеяў за мінулыя два тыдні. Супрацоўнікаў у “Беларусе” было шмат, часам больш як трэба. Рэдка хто адмаўляў рэдактару ў ягонай просьбе напісаць перадавіцу ці адмысловы артыкул, і гэткая шчырая й ахвочая падтрымка вельмі палягчала працу рэдактара, які мусіў і сам кінуць заробкавую працу й лічыцца*

---

*& 16 (40) of the Journal — $ 492; Editor's wages — $ 250; Technical worker's wages — $ 60; Telephone — $ 9,14; Honorarium for the authors — $ 98; Sending out (expedition) — $ 94. Total —$ 1003,14”.*

45 Напрыклад, Вітаўт Тумаш за перадавіцу ў № 17 (23) атрымаў 10 $; Наталля Арсеннева за артыкул “Камуністычная партыя — зброя маскоўскага імпэрыялізму” ў № 18 (24) — 5 $. За артыкулы ў № 15 (21) і 16 (22) атрымалі: Мікола Куліковіч (“Беларусь — дзяржава вольная”, “Хада”, “Гераічны эпас беларускага народу”) — 16 $; уладыка Васіль (“Расклад камунізму”, “Мэта апраўдвае ўсё”) — 10 $; Франц Кушаль (“Сьвет шануе дужых”, “Пацяшальная праява”, “Ад Менску да Лодзі”) — 25 $; Мікола Сільвановіч (“Да 35 угодкаў Беларускае Вайсковае Рады”) — 8 $; Юрка Віцьбіч (“Дзе мой Паўлюк”) — 5 $.

*зь вялікай расьцярушанасьцяй нашага грамадзтва па краінах сьвету, цяжкімі ўмовамі жыцьця ды матэрыяльнымі нястачамі першых год жыцьця нашае эміграцыі ў гэтак званым "вольным сьвеце". І бясспрэчна, усім, хто гуртаваўся вакол "Беларуса", належыцца самае вялікае прызнаньне й падзяка».*

У 1954 г. змяніўся рэдактар газэты. Ім быў абраны Міхась Міцкевіч. Газета ўступала ў новую стадыю свайго развіцця, і з гэтае прычыны нумар змяшчаў зварот "Ад Рэдакцыйнай калегіі":

*«Ад гэтага нумару газэта "Беларус" выходзіць пры новым складзе рэдакцыйнай калегіі. Новая рэдкалегія ставіць сабе за мэту адлюстроўваньне думак і паглядаў як найшырэйшых колаў беларускае антыбальшавіцкае эміграцыі, кіруючыся прынцыпамі поўнае свабоды й незалежнасьці дэмакратычнае прэсы. Калегія мусіць зазначыць, што былая рэдакцыя газэты "Беларус" не перадала ёй, апрача часткі нявыдрукаваных матэрыялаў, аніякіх рэдакцыйных справаў, ані архіву. А таму, натуральна, што новая калегія ня можа прымаць ніякіх магчымых прэтэнзіяў з боку зацікаўленых асобаў, а таксама ня можа адказваць і за тыя канфлікты, што маглі паўставаць паміж былым кіраўніцтвам газэты й некаторымі беларускімі арганізацыямі»*[46].

Намаганні новай рэдакцыі давалі слабы плён. Тагачасны старшыня БАЗА Міхась Тулейка ў аглядным артыкуле "З жыцьця й дзейнасьці БАЗА", наракаючы, што далёка не ў кожнай сям'і ў хаце бывае беларуская кніга ці газета, піша пра маласуцяшальныя вынікі дзейнасці Беларускага выдавецкага фонду, пра пасіўнасць аўтараў і карэспандэнтаў, разам з тым закідае адсутнасць ініцыятывы і з боку самой рэдакцыі, асабліва што да пошуку аўтараў і шырэйшага кола чытачоў[47]. Нягледзячы на даволі працяглы час рэдактарства Міхася Міцкевіча (1954–1962), а таксама Вітаўта Тумаша, які рэдагаваў газэту пасьля яго, было выдадзена толькі 40 нумароў "Беларуса" — з № 39 да № 79.

Наступны, васьмідзясяты нумар выйшаў ажно ў лістападзе 1963 г. Але для гэтага ў ЗША мусіў прыехаць Стась Станкевіч.

[46] Беларус. № 3 (49). 1 жніўня 1954.
[47] Беларус. № 58. 30 сьнежня 1956.

Ён далучыўся да сям'і ў 1962 г. Улетку 1963 г. быў абраны старшынёю БАЗА, а напрыканцы таго ж года пераняў рэдактарства газеты.

У першым аднаўленым нумары ў "Гутарцы із старшынём Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня" на пытанне адносна крокаў дзеля аднаўлення газеты Станкевіч адказваў: «*Бяз сталага прэсавага воргану мы ня можам быць паўнацэннымі ані ў нашым нутраным жыцьці, ані ў галіне грамадзка-нацыянальнае рэпрэзэнтацыі навонкі. Вось дзеля гэтага рэгулярнае выдаваньне "Беларуса" — гэта справа нашага нацыянальнага гонару і абавязку. У дасягненьні гэтага мы можам і павінны разьлічваць толькі на свае собскія сілы. Вось таму Галоўная Ўправа й зьвярнулася цераз свае аддзелы із заклікам да ўсіх Беларусаў, каб задэкляравалі сталыя месячныя складкі на Прэсавы Фонд БАЗА. [...]*

*Гістарычны сэнс існаваньня беларускае палітычнае эміграцыі й галоўнае ейнае заданьне — гэта пашырэньне ў вольным сьвеце веды й праўды аб Беларусі й беларускім народзе ды кансэквэнтная дапамога справе явонага нацыянальнага звальненьня. Вось гэтым заданьням, як і разьвіцьцю беларускага жыцьця ў Амэрыцы і будзе служыць "Беларус"*»[48].

Пад гутаркаю з Станкевічам друкаваўся рэдакцыйны зварот: «*"Беларус" ня будзе газэтай вузка групавой, але агульна беларускай. Ён будзе асьвятляць жыцьцё й дзейнасьць ня толькі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ды зьвязаных зь ім арганізацыяў, але таксама й беларускіх арганізацыяў, якія ані ідэалягічна, ані арганізацыйна не зьвязаныя з БАЗА. [...] У меру наплыву адпаведных матэрыялаў у "Беларусе" будзе заведзены адмысловы аддзел — Вольная Трыбуна Чытача. У ёй могуць друкавацца і артыкулы, якія не абавязкова павінны выражаць думкі й пагляды Рэдакцыі. Але ў такіх выпадках Рэдакцыя ня можа браць на сябе адказнасьці за гэткія артыкулы, а таму яны павінны быць падпісаныя поўнымі імёнамі й прозьвішчамі іхных аўтараў, а не ініцыяламі й псэўданімамі*»[49].

З прыходам Станіслава Станкевіча ў газеце павялічыўся аб'ём літаратурнага матэрыялу, але ён адыгрываў найперш прапагандысцка-выхаваўчаю ролю незалежна ад таго, быў ён прысвечаны гісторыі літаратуры ці сучаснаму літпрацэсу. Аб гэтым гавораць самі назвы артыкулаў галоўнага рэдактара: "У вабароне свабоды творчасьці"[50],

48 Беларус. № 80. Лістапад 1963.

49 Беларус. № 80. Лістапад 1963.

50 Крушыніч, Ст. У вабароне свабоды творчасьці // Беларус. № 123–124. Ліпень — жнівень 1977.

"Упраганьне пісьменьнікаў на службу паліцыі"[51], "Васіль Быкаў ізноў пад абстрэлам"[52], "Заміж паэты — загаварыў робат"[53], "Зьздек зь беларускіх пісьменьнікаў"[54], "Наступ супраць літаратуры"[55], "Не рэгабілітацыі, а асуджэньні"[56], "Ні ўгодкаў Купалы, ні сьвята паэзіі"[57] ды іншыя.

Асноўны масіў *ідэалягічных*, *палітычных* тэкстаў быў характэрны для любога нацыянальнага выдання: пытанні нацыянальнай сведамасці, патрэба трымання сваіх каранёў, былая веліч гісторыі, змаганне з акупантамі і выкрыванне бальшавіцкай палітыкі асвятляліся ў самых розных жанрах — ад праграмных рэдакцыйных артыкулаў да мемуараў, эсэ ці гістарычных партрэтаў або такіх адмысловых, як "Амэрыка й беларусы. Думкі па часе"[58] і "Шляхі разьняволеньня" [59] Пётры Манькоўскага.

Верагодна, найбольшая колькасць артыкулаў была прысвечаная пытанням мовы: захаванне ейнай чысціні ва ўмовах эміграцыі ды гаротны стан і русіфікацыя ў БССР[60].

Што адрознівала артыкулы ці прамовы (пазней выдрукаваныя ў газеце) галоўнага рэдактара, дык гэта панарамнае бачанне і ўменне вылучыць асноўныя моманты, уяўляць нацыянальны працэс у ягоным развіцці:

---

[51] Крушыніч, Ст. Упраганьне пісьменьнікаў на службу паліцыі // Беларус. № 150. Кастрычнік 1969.

[52] Станкевіч, Ст. Васіль Быкаў ізноў пад абстрэлам // Беларус. № 138. Кастрычнік 1968.

[53] Станкевіч, Ст. Заміж паэты — загаварыў робат [Ніл Гілевіч] // Беларус. № 150. Кастрычнік 1969.

[54] Станкевіч, Ст. Зьдзек зь беларускіх пісьменьнікаў // Беларус. № 118. Люты 1967.

[55] Станкевіч, Ст. Наступ супраць беларускай літаратуры // Беларус. № 140. Сьнежань 1968.

[56] Станкевіч, Ст. Не рэгабілітацыі, а асуджэньні // Беларус. № 274. Люты 1980.

[57] Станкевіч, Ст. Ні ўгодкаў Купалы, ні сьвята паэзіі // Беларус. № 208. Жнівень 1974.

[58] Вішнеўскі, П. Амэрыка й беларусы. Думкі па часе // Беларус. № 9 (15). 23 жніўня 1952; № 10 (16). 6 верасьня 1952; Вішнеўскі, П. Амэрыка й беларусы. III // Беларус. № 11 (17). 20 верасьня 1952; № 12 (18). 4 кастрычніка 1952.

[59] Вішнеўскі, П. Шляхі разьняволеньня. I–IV // Беларус. № 137. Верасень 1968; № 140. Сьнежань 1968; № 143. Сакавік 1969; № 151. Лістапад 1969.

[60] Баршчэўская, Ніна. Беларуская эміграцыя — абаронца роднае мовы. Варшава, 2004. — 368 с.

*«Доктар Станіслаў Станкевіч даў глыбокае палітычнае асэнсаваньне нашае нацыянальнае дзейнасьці на эміграцыі. На ягоную думку, існуюць чатыры галоўныя фактары або сілы, што рухаюць усю нашую нацыянальную дзейнасьць у Вольным Сьвеце наперад. Першым гэткім фактарам, — казаў ён, — нашыя агульнаграмадзкія арганізацыі, гэткія, як Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне й Згуртаваньне Беларусаў Канады, што сяньня сьвяткуюць свой 25-гадовы юбілей, як Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі, што ўжо адзначыла й свой 30-гадовы юбілей, як Згуртаваньне Беларусаў у штаце Іліной, як Беларускі Хаўрус у Францыі, Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі (Аўстралія), Беларускае Задзіночаньне ў Новай Паўдзённай Валіі (Аўстралія), ды Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскай Моладзі, што ў наступным годзе адзначыць і свой 25-гадовы юбілей. У той час, калі шмат якія адмысловыя арганізацыі зусім памерлі або існуюць адно на паперы, агульнаграмадзкія нашыя арганізацыі выказваюць усьцяж сваю жывучасьць і пэрспэктыўнасьць.*

*Наступным важным фактарам — царква. Прамоўца асьветчыў, што хоць ён належыць да веравызнаньня рыма-каталіцкага, што ў беларускім народзе ў мяньшыні, але перакананы, што адным з найвялікшых, калі не найвялікшым наагул дасягненьнем на эміграцыі было аднаўленьне Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы і ейная далейшая разбудова.*

*Трэцім асабліва важным фактарам — роднае друкаванае слова й перш-наперш пэрыядычны друк. Прамоўца пералічыў галоўныя беларускія пэрыядычныя выданьні на чужыне, падчыркнуўшы вялікае значэньне маладзёжнага часапісу “Беларуская Моладзь”, а пра газэту “Беларус” сказаў літаральна: “Я сабе не магу ўявіць, наколькі мы былі б у нашай нацыянальнай дзейнасьці бяднейшымі, калі б не было “Беларуса” або калі б ён быў ня гэткім, якім ён ёсьць сяньня і якім быць павінен”.*

*І наапошку фактар чацьвёрты, безь якога ня можа функцыянаваць ніводзін з фактараў папярэдніх, гэта — ахвярнасьць. Ахвярнасьць і працай, матэрыяльна бескарысьлівай і самаадданай, і ахвярнасьць грашыма»*[61].

[61] Зубкоўскі, Вітаўт. Дваццаць пяць гадоў працы // Беларус. № 210. Кастрычнік 1974.

Калі з палітыкаю газеты ў справах, датычных Беларусі, усё было зразумела (нацыянальная, незалежніцкая, дзяржаўніцкая), дык пытанне палітыкі дыяспары навонкі, яе ўдзел у амерыканскім жыцці заслугоўвае больш пільнай увагі і асэнсавання. Здаецца, ніколі ніводная беларуская арганізацыя ці перыядычнае выданне на выгнанні не прымалі афіцыйных пастановаў адносна ўдзелу ў амерыканскай нутраной палітыцы. Выява прыхільнасці да тае ці іншае палітычнае плыні — рэспубліканцаў або дэмакратаў — адбывалася ў пэўнай ступені стыхійна, калі арганізацыю ўзначальваў беларус з пэўнай пазіцыяй. Адчувала падобныя змены і газета "Беларус". Прыкладам, за рэдактарам Міхасём Міцкевічам яна была "дэмакратычнаю". Рэдактары Янка Запруднік і Зора Кіпель імкнуліся захоўваць парытэт. Стась Станкевіч і Вітаўт Кіпель рэдагавалі газету з пазіцый рэспубліканцаў[62].

"Беларус" больш за якое іншае выданне, у тым ліку і адмысловыя царкоўныя, насвятляў на сваіх бачынах рэлігійнае жыццё эмігрантаў. Ён быў па-сапраўднаму экуменічным выданнем, друкуючы ў сваіх нумарах і велікоднае архіпастырскае пасланне мітрапаліта Мікалая, і велікоднае архіпастырскае пасланне апостальскага візітатара для беларусаў-каталікоў уладыкі Часлава Сіповіча, змяшчаючы інфармацыю пра дзейнасць як праваслаўных вернікаў, гэтак і евангелістаў, каталікоў, уніятаў.

---

[62] Вітаўт Кіпель згадвае: «*Ясная справа, што сп. Станіслаў Станкевіч разумеў, што газэта ня можа адлюстроўваць ці ўхваляць толькі рэспубліканскія праграмы, хоць, бясспрэчна, нам гэтыя праграмы былі больш прыймальнымі дзеля свае антыкамуністычнасьці. "Беларус" — газэта грамадзкая, мусіла адлюстроўваць і праграмы дэмакратычнае партыі, пагатоў, што сярод беларускага грамадзтва былі "моцныя" дэмакраты, асабліва лібэральных паглядаў, і ня мала! У частых дыскусіях са мною Станіслаў Станкевіч згаджаўся, што праз наш удзел у рэспубліканскім руху ЗША мы больш дасягаем у папулярызацыі дзяржаўнасьці Беларусі, а максымум для Беларусі — мусіць быць асноваю нашай дзейнасьці. Тым ня менш Станкевіч імкнуўся рэспубліканцаў стрымліваць. Памятаю такі выпадак. На адным з прыняцьцяў у Вашынгтоне ў 1974 г. была абгавораная прапанаваная намі паездка прэзыдэнта Ніксана ў Менск. Я бачыў, што ўсё "на мазі", што бліжэйшыя да Ніксана палітычныя колы згадзіліся з мэтазгоднасьцю паездкі. Мы дамовіліся, што пра гэта будзе артыкул у "Беларусе". Але ў апошнюю хвіліну Станкевіч звоніць мне і кажа, што ня будзе друкаваць абвесткі, бо, маўляў, выглядае на самахвальства. Ладна мне ўзяло часу, спрэчак зь ім у друкарні, але паведамленьне, хоць і зьмененае, у газэту пайшло*» (архіў Л. Юрэвіча).

Па зразумелых прычынах большасць матэрыялаў — з жыцця Беларускай аўтакефальнай царквы: высвячэнне новых святароў і адыход старых, заснаванне новых парафій і парафіяльныя святы, збор грошаў на цэрквы — спачатку ў ЗША, потым на Беласточчыне, а пазней, у перабудовачныя гады, і ў Беларусі, паведамленні з Сабораў БАПЦ, артыкулы пра няпростую гісторыю Царквы[63].

Не адмаўляўся Станкевіч і ад сваіх поглядаў часоў рэдагавання “Бацькаўшчыны”, заклікаючы да шырэйшага ўдзелу чытачоў: *«Дзеля большага ажыўленьня нашай газэты й больш беспасярэдніх дачыненьняў з чытачамі, рэдакцыя “Беларуса” плянуе завесьці на сваіх балонах адмысловую сямейную й прыватную хроніку. У ёй зьмяшчаліся б прысланыя ў газэту зацікаўленымі асобамі зацемкі з такіх падзеяў сямейнага, як вясельлі, хрэсьбіны, імяніны і іншыя сямейныя ўрачыстасьці. Далей маглі б быць зацемкі аб такіх выпадках, як сканчэньне сярэдняй, вышэйшай ці спэцыяльнай школы сынам або дачкой у бацькоў. Дасягненьні і ўдачы ў навуковай, артыстычнай, камэрцыйнай або якой-небудзь іншай дзейнасьці маглі б таксама быць добрымі тэмамі такой хронікі»*[64].

На старонках газеты часцей за ўсё віншавалі (па зыходзячай) з вяселлем (“Беларускае вясельле”, “Гучнае вясельле”, “Амэрыканска-беларускае вясельле”, “Беларуска-ўкраінскае вясельле”, “Беларускі шлюб”, “Весела й гучна адгулялі вясельле”, “Вітаем маладажонаў”, “Вясельле ў беларускай калёніі”, “Вясна злучыла шчасьлівыя пары”, “Два вясельлі дачок беларускаў”, “Маладое пакаленьне”, “Наважэнцы”, “Вітаем”), срэбраным юбілеем, угодкамі (юбілеем), хрэсьбінамі (“Ахрысьцілі новую беларуску”), народзінамі (“Павялічылася беларуская сям’я”), залатым юбілеем, наваселлем. Адзінкавыя выпадкі — “Адышоў на пэнсыю”, “Адправа ў войска”.

Сямейная хроніка ў газеце — гэта і сведчанне паспяховага ўваходу паваеннай эміграцыі і іхных дзяцей у заходняе прафесійнае і навуковае жыццё: “Беларускі лекар-навуковец”, “Незвычайная

[63] Войтэнка, В. Канстанцыя. На ўгодкі аднаўленьня Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы // Беларус. № 122. Чэрвень 1967; Васілеўскі, В. В. Дваццаць гадоў БАПЦ. 1948–1968 // Беларус. № 134. Чэрвень 1968; Канстантын, а. БПЦ: прызнаньне гістарычных фактаў // Беларус. № 369. Красавік 1990; Калбаса, Янка. Легалізацыя БАПЦ у Вялікабрытаніі. // Беларус. № 225. Студзень 1976; Я. З. Ідэя аўтаноміі Праваслаўнай Царквы на Беларусі // Беларус. № 283–284. Лістапад — сьнежань 1980.

[64] Прапануем сямейную й прыватную хроніку // Беларус. № 94. Студзень 1965.

апэрацыя”, “Беларус Прэзыдэнтам Мэдычнай Акадэміі” (Барыс Рагуля); “Аляксандар Лазанаў скончыў Лювэнскі Ўнівэрсытэт з дыплёмам інжынера капальняў”, “Адзначэньне беларускае дасьледніцы” (Зора Кіпель); “Беларуская навука багацее” (Вінцэнт Жук-Грышкевіч абараніў доктарскую дысертацыю на тэму “Лірыка Янкі Купалы”); “Спадар Антон Адамовіч абраны правадзейным сябрам Украінскае Вольнае Акадэміі Навукаў”; “Др. Аўген Вярбіцкі абраны сябрам Нью-ёркаўскай Акадэміі Навукаў”; “Др. Аўген Вярбіцкі, адзін з аўтарытэтных экспэртаў у галіне мясное прамысловасьці ЗША, — удзельнік 20-га Эўрапейскага Кангрэсу спэцыялістых харчовае прамысловасьці ў Дубліне”; “Др. Валянтын Гарошка атрымаў дзьве навуковыя ступені з галіны адвакацкага права”; “Др. Янка Запруднік — прафэсар-асыстэнт Квінсаўскага Каледжу”; “Дубяга Сьцяпан — архітэктар”; “Даклад інж. Я. Жыткі на канфэрэнцыі Амэрыканскага Хемічнага Таварыства”; “Мгр. Васіль Мельяновіч, выкладчык Гэтансьвільскага Каледжу, абраны старшынёй Усходнеэўрапейскай Акадэмічнай Асацыяцыі Мэрылэнду”; “Прафэсійныя дасягненьні доктара Аляксандра Янушкоўскага”; “Віншаваньне Марыі Паўліны Сурвіла-Вахман з нагоды абароны дысэртацыі *Music and Identity Byelorussians Making Music in North America* на ступень магістра Мічыганскага Ўнівэрсытэту”; “Карнэля Найдзюк закончыла сярэднюю школу”; “Здабылі вышэйшую асьвету: Жорж (Юрчык) Андрусышын, Вера Запруднік, Алеся Кіпель, Дэлайла Міцкевіч, Андрэй-Антон Рагуля, Натальля Русак, Язэп-Сымон Сажыч”; “Ігар Муха, сын Івана й Клаўдыі Мухаў, скончыў Гарадзкі Ўнівэрсытэт у Нью Ёрку”; *“Cum laude Princeton”* (Алеся Кіпель).

Паказальна, што падобная інфармацыя — пра навуковыя ці прафесійныя дасягненні — адсутнічае ў пераважнай большасці некралогаў, якія акцэнтуюць ідэалагічныя, нацыянальныя аспекты жыццёвага шляху: *“заслужаны даўгагадовы грамадзкі дзеяч”, “сябра ўправы”, “актыўны прыхаджанін”, “шчыры й шчодры патрыёт”, “браў актыўны удзел у беларускім культурным жыцьці”, “адышла ў лепшы сьвет яшчэ адная беларуска, якая шкадавала і перажывала за свой пакутны Беларускі Народ”, “жыцьцё чалавека вымяраецца працавітасьцю і адданасьцю высакароднай справе”, “ведамы сваёй дабрачыннасьцю ў грамадзкім, рэлігійным і культурным полі беларускага эміграцыйнага жыцьця”*. Фактычна некралогі не менш

за праграмныя газетныя артыкулы фармавалі ў чытачоў уяўленне, якім мае быць, як жыць і за што змагацца *homo albaruthenicus*.

Неабходна адзначыць ролю “Лістоў у рэдакцыю”, што друкаваліся і ў “Бацькаўшчыне”, і ў “Беларусе”. Сёння той матэрыял ёсць найкаштоўнейшай крыніцай інфармацыі пра самыя розныя аспекты жыцця эміграцыі — жыцця жывога, з сваімі канфліктамі, супярэчнасцямі, крыўдамі. Гэтыя лісты — ключы для разумення гісторыі дыяспары, вялікай (*“змагацца за свой край, за супакой, за радасьць”*[65]), і малой, штодзённай.

Тэматыка лістоў надзвычай разнастайная: эміграцыя беларусаў у Аўстралію[66], пытанні правапісу[67], беларусы-эмігранты (“пяцідзясятнікі”) у Ангельшчыне[68], палітычна-музычны фальклор савецкай пары[69]. З’яўленне значнай колькасці лістоў было выкліканае станам царкоўных справаў, рэдка — пазітывам, збольшага яны былі прысвечаныя закалоту[70].

Асабліва пільнай увагі патрабуюць лісты, што “карэктуюць” выдрукаваныя ўспаміны або артыкулы на гістарычныя тэмы. Для прыкладу, у гэтай катэгорыі можна назваць адказ Вітаўта Кіпеля Івану Касяку, аўтару кнігі “З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу”[71], адмежаванне Вітаўта Тумаша ад публікацый Івана Касяка[72] і кніжкі пра Беларусь, выдадзенай у Нью-Хэйвэне

---

65 Арсеньнева, Н. Такі наш Кон // Арсеньнева, Н. Між берагамі. New York — Toronto, 1979. С. 235.

66 Лінкевіч, В. Просім выясьненьня. (Ліст у рэдакцыю) // Бацькаўшчына. № 8 (52). 25 сакавіка 1949.

67 Рэдакцыя беларускіх выданьняў Інстытуту Вывучэньня СССР. У абарону праўды. Ліст у рэдакцыю // Бацькаўшчына. № 3 (389). 19 студзеня 1958 [Палеміка зь Янам Станкевічам]; Станкевіч, Янка. Ліст у Рэдакцыю // Беларус. № 95. Люты 1965.

68 Грыгальчык, Пятро; Баяроўская, Тамара; Баяроўскі, Давыд. Беларусь ёсьць каму бараніць...! Ліст у Рэдакцыю // Беларус. № 339. Верасень 1987.

69 Зубкоўскі, Вітаўт. Слова ў песьні. Ліст у рэдакцыю // Беларус. № 320. Чэрвень 1984.

70 Швэдзюк, Міхась. Пра япіскапа Мацьвея і айца Усевалада. Ліст у Рэдакцыю // Беларус. № 373. Верасень 1990; Шуст, Мікола, госьць 7-й Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі. Хто яго запрашаў? Ліст у Рэдакцыю // Беларус. № 334. Красавік 1987. [Ліст супраць а. Янкі Бруцкага]; Яноўскі, Аляксандар, а. Ліст у Рэдакцыю // Беларус. № 310. Сакавік — травень 1983.

71 Кіпель, Вітаўт. Ліст у рэдакцыю // Бацькаўшчына. № 21 (303). 20 травеня 1956.

72 Тумаш, Вітаўт. Ліст у рэдакцыю // Бацькаўшчына. № 27 (309). 1 ліпеня 1956.

ў 1955 г.[73], папраўка Франца Кушаля да артыкул "Да 36-ых Угодкаў Слуцкага паўстаньня"[74], удакладненне Янкам Станкевічам высноваў у артыкуле Леаніда Галяка ("Беларуская Думка", № 7)[75] і папраўка да артыкула-ўспамінаў "Рыцар Пагоні" Юльяны Вітан-Дубейкаўскай[76], выпраўленне Міхасём Швэдзюком памылкі ў артыкуле Вацлава Панунцэвіча "З гісторыі Вышэйшых школаў у Беларусі"[77], каментар а. Аляксандра Надсана да "Англійскага дзёньніка" Адама Мальдзіса[78].

Ну і зразумела, што "Лісты ў рэдакцыю" ёсць сапраўдным скарбам для даследавання літаратурнага побыту! Тут і ліст Кастуся Кіслага адносна сфальшаванай публікацыі, падпісанай ягоным прозвішчам ("Барацьба". № 1 (52). 1964)[79], і ліст Пётры Сыча супраць лаянкі і грубасці ў публікацыях Кастуся Акулы[80], і адказ Акулы[81], і лісты Гіпаліта Паланевіча супраць асабістых выпадаў у друку[82] і супраць ужывання ягонага імя Пётрам Маркоўскім у часопісе "Веча"[83], і сведчанне Вітаўта Тумаша, што апавяданне "У Сьвяты Калядны Вечар" напісаў ён, а не Хведар Ілляшэвіч (гл.: "Беларускае Слова". № 2. 1 студзеня 1949; "Шляхам Жыцьця". № 12. 25 сьнежня 1946)[84], і ўдакладненне Аўгенам Каханоўскім псеўданімаў (А. Верасень і В. Верасень) і аўтарства артыкулаў у "Бацькаўшчыне" і "Новым Русским Слове"[85], і адказ Кастуся Акулы на рэцэнзію

---

73 Тумаш, Вітаўт. Ліст у рэдакцыю // Беларус. № 60. 30 чэрвеня 1957.

74 Кушаль, Франц. Ліст у рэдакцыю // Беларус. № 58. 30 сьнежня 1956.

75 Станкевіч, Янка. Ліст у рэдакцыю // Беларус. № 103. Кастрычнік 1965.

76 Станкевіч, Янка. Ліст у рэдакцыю // Бацькаўшчына. № 28–29 (310–311). 15 ліпеня 1956.

77 Швэдзюк, Мікола. Ліст у рэдакцыю // Бацькаўшчына. № 37 (423). 28 верасьня 1958.

78 Надсон, Аляксандар, а. Ліст у рэдакцыю // Беларус. № 317. Сакавік 1984.

79 Кіслы, Кастусь. Гэта я паклікаю на суд грамадзкасьці. Ліст у рэдакцыю // Беларус. № 88. Ліпень 1964.

80 пс. Ліст у рэдакцыю // Бацькаўшчына. № 27 (562). 9 ліпеня 1961.

81 Козыр, Міхась [Бацькаўшчына. № 27 (562)] Сёе-тое // Бацькаўшчына. № 31 (566). 30 ліпеня 1961.

82 Сьвіслацкі, Андрэй. Пісьмо ў рэдакцыю // Бацькаўшчына. № 46 (228). 12 сьнежня 1954.

83 Сьвіслацкі, Андрэй. Ліст у рэдакцыю // Беларус. № 168. Красавік 1971.

84 Брага, Сымон. Ліст у Рэдакцыю // Бацькаўшчына. № 3 (47). 23 студзеня 1949.

85 Каханоўскі, Аўген. (А. Верасень). Ліст у рэдакцыю // Беларус. № 2 (52). 30 чэрвеня 1955.

Станіслава Станкевіча (“Беларус”. № 204. Красавік 1974) на кнігу “Закрываўленае сонца”[86].

Акрамя ўсяго, “Лісты ў рэдакцыю” выразна сведчаць, што газеты чыталіся, абмяркоўваліся, выклікалі ланцуговую рэакцыю. Як прыклады, дастаткова тут назваць адказ Міхасю Белямуку на ягоныя закіды “Бацькаўшчыне” (№ 26 (561). 2 ліпеня 1961)[87], лісты Масея Сяднёва і Янкі Чарнэцкага ў падтрымку газеты “Бацькаўшчына”[88], водгукі Язэпа Арцюха на артыкул Станіслава Станкевіча “На мяжы абодвух гадоў” (“Беларус”. № 248. Сьнежань 1977) пра дасягненьні беларускай эміграцыі[89], С. Полацкага на публікацыю ўспамінаў Яўхіма Кіпеля[90], спраставанне артыкула “Людзі вялікае штодзённае справы” ў юбілейным нумары “Бацькаўшчыны”[91] ды іншыя.

Наяўнасць такой геаграфічна шырокай і актыўнай чытацкай аўдыторыі мела важнае значэнне і для выканання задачы газеты, сфармуляванай яшчэ ў першым нумары: *“Інфармаваць увесь цывілізаваны сьвет аб падзеях у Беларусі, выясьняючы праўду аб імкненьнях і ідэалах Беларускага Народу ў ягоным змаганьні з акупантам, ды змагацца з усёй той маною, хвальшам і баламуцтвам нашых ворагаў, які яны сеюць праз сваю прэсу сярод нашых людзей у Амэрыцы”*. Не трэба забывацца, што да таго часу, як паваенная хваля эмігрантаў пачала рассяляцца ў краінах Захаду, свет надта мала ведаў пра Беларусь. Цяпер жа сведамыя сваёй нацыянальнасці, адукаваныя ў сваёй гісторыі, валодаючы замежнымі мовамі, беларусы маглі выпраўляць памылкі ў іншамоўных публікацыях што да сваёй краіны і самі браць удзел у пашырэнні інфармацыі — спачатку праз пісанне ў газеты, часопісы, а пазней — у навуковыя і энцыклапедычныя выданні[92].

---

86 Акула, Кастусь. Ліст у рэдакцыю // Беларус. № 205. Травень 1974.

87 П. У. Ліст у рэдакцыю // Бацькаўшчына. № 28 (563). 16 ліпеня 1961.

88 Бацькаўшчына. № 5 (632). Жнівень — верасень 1965.

89 Ю. Ар-х. Ліст у рэдакцыю // Беларус. № 250. Люты 1978.

90 Полацкі, С. Ліст у рэдакцыю // Беларус. № 249. Студзень 1978.

91 Васіленя, А. Ліст у рэдакцыю // Бацькаўшчына. № 49 (383). 8 сьнежня 1957.

92 Аб Беларусі ў канадыйскім часапісе // Беларус. № 81. Сьнежань 1963; Амэрыканцы аб беларусах // Беларус. № 57. 15 кастрычніка 1956; Запруднік, Янка. Беларусь у амэрыканскім падручніку // Бацькаўшчына. № 22 (408). 8 чэрвеня 1958; Мадрыдзкая прэса аб Беларусі. (На шляхох эміграцыі) // Беларус. № 2 (8). 13–20 красавіка 1952; А-віч. “Энцыкляпэдыя Канадыяна” пра Беларусь // Бацькаўшчына. № 38–39 (573–574). 24 верасьня 1961; Сянкевіч, В. Гішпанская

На пачатку 1970-х газету рабіла рэдакцыйная калегія ў такім складзе: Станіслаў Станкевіч — старшыня калегіі і галоўны рэдактар; Янка Запруднік — заступнік галоўнага рэдактара; Алесь Міцкевіч — скарбнік і групавая рассылка; Мікалай Абрамчык (малодшы) — індывідуальная рассылка; Барыс Данілюк — падрыхтоўка адрасоў; Васіль Русак — хроніка беларускага жыцця ў Нью-Джэрсі; Вячка Станкевіч — старшыня Галоўнай управы БАЗА; Франціш Бартуль — прывозка газеты з друкарні. Пётра Манькоўскі ад супрацоўніцтва з газетаю адмовіўся.

Замест літаратурнага дадатка “Даляглядыˮ з’явіліся рубрыкі “Зь беларускага савецкага друку” і “Што чуваць”.

Рэдактарская дзейнасць патрабавала ад Станіслава Станкевіча актыўна ўдзельнічаць у грамадскім беларускім і амерыканскім жыцці, быць сярод людзей, нагадваць пра “Беларуса”: штогадовыя вандроўкі ў Кліўленд і Чыкага (ён заўсёды багата вандраваў у рэдакцыйных справах і імкнуўся друкаваць своесаблівыя справаздачы на старонках сваіх газет[93]), наведваць канферэнцыі Дзярждэпартамента ў Вашынгтоне, прэсавыя канферэнцыі Габрэйска-Амерыканскага камітэта ў справе Сярэдняга Усходу, Кангрэс кітайскай культуры, III Сусветны кангрэс славакаў, нараду па падрыхтоўцы святкавання 15-х угодкаў Вугорскага паўстання. Ён жа ўваходзіў у склад Камітэта амерыканскіх грамадзянаў.

5 красавіка 1970 г. Станіслаў Станкевіч быў узнагароджаны Камітэтам паняволеных народаў у Чыкага срэбраным і бронзавым медалямі прэзідэнта Эйзенхаўэра за дзейнасць на карысць вызвалення паняволеных народаў у галіне прэсы. Газета “Беларус” увайшла ў лік выданняў, якія стала выпісваў Белы дом, яе індэксаваў такі салідны каталог, як «*Ulrich*»[94].

---

энцыкляпэдыя пра Беларусь // Бацькаўшчына. № 1–2 (615–616). Студзень — люты 1964; Дубовік, Ю. “Малая Славянская Біяграфія” (У нямецкай мове) // Бацькаўшчына. № 6 (442). 8 лютага 1959.

93 Станкевіч, Ст. Зацемкі з падарожжа. [Беларускія асяродкі ў ЗША] // Беларус. № 180. Красавік 1972; Станкевіч, Ст. Сярод суродзічаў у Амэрыцы // Бацькаўшчына. № 5 (441). 1 лютага 1959; № 6 (442). 8 лютага 1959; № 7–8 (443–444). 22 лютага 1959; № 9 (445). 1 сакавіка 1959; Станкевіч, Ст. Сярод суродзічаў у Эўропе // Беларус. № 199. Лістапад 1973; № 200. Сьнежань 1973; Станкевіч, Ст. У вечным горадзе Рыме // Бацькаўшчына. № 5–6 (136–137). 8 лютага 1953.

94 Ulrich’s periodicals directory: A classified quide to a selected list of current periodicals, foreign and domestic. New York, R.R. Bowker.

Станіслаў Станкевіч выдатна разумеў, чым была “Бацькаўшчына”, чым стаўся “Беларус”, і не хаваў таго:

*«Леташні год поўнасьцяй пацьвердзіў і канчаткова замацаваў ролю газэты “Беларус” як прэсавага органу ня толькі Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, але Беларусаў у цэлым вольным сьвеце. Калі ў лістападзе 1963 г. газэта “Беларус”, пасьля даўжэйшых перапынкаў у ейным выдаваньні, была адноўленая як сыстэматычнае рэгулярнае выданьне, была яна фактычна й фармальна органам Беларусаў Паўночнай Амэрыкі — Задзіночаных Штатаў і Канады, хоць і старалася абслугоўваць нашых суродзічаў у Эўропе і Аўстраліі. Удзел апошніх у супрацоўніцтве зь “Беларусам” пашырыўся й паглыбіўся асабліва пасьля таго, як у 1964 г. спыніла свой выхад выдаваная ў Мюнхэне газэта “Бацькаўшчына”, і “Беларус” застаўся адзінай беларускай нацыянальнай газэтай у Вольным Сьвеце. Каб заманіфэставаць гэта і афіцыйна, Рэдакцыйная Калегія “Беларуса” на сваім пашыраным паседжаньні 31 жніўня 1968 г. у Дэтройце, у часе 8-ае Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, пастанавіла заміж падзагалоўку “Газэта Беларусаў Паўночнае Амэрыкі” ўжыванага дагэтуль, ужываць падзагаловак “Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце”. [...]*

*Апрача адлюстроўваньня на сваіх бачынах жыцьця й нацыянальнае дзейнасьці Беларусаў ува ўсіх краінах Вольнага Сьвету, “Беларус” выконвае сяньня ролю сталага нацыянальнага лучніка паміж суродзічамі гэтых краёў. Больш таго! У сувязі з тым, што ў нас пакуль што няма сусьветнае беларускае нацыянальнае арганізацыі, ролю гэтае арганізацыі ў некаторай ступені сяньня выконвае газэта “Беларус”. У гэтым асабліва важнае ейнае нацыянальнае значаньне.*

*На гэтым заданьне нашае газэты не канчаецца. Стаўшыся газэтай Беларусаў у цэлым Вольным Сьвеце, “Беларус” наважана імкнецца й стацца газэтай* ***усіх***[95] *Беларусаў у Вольным Сьвеце,* ***усіх*** *тых, што стаяць на ідэйных пазыцыях Вольнай і Незалежнай Беларусі, вызначаных гістарычным Актам 25 Сакавіка.*

*“Беларус” стараецца ісьці ў нагу з часам і жыцьцём. Беларускае жыцьцё апошняга часу прадыктавала няўхільную патрэбу шукаць і знаходзіць супольную мову паміж калісьці пасваранымі*

[95] Тут і далей вылучэнні рэдакцыі газеты.

*й падзеленымі Беларусамі. Шчырае жаданьне знайсьці гэтую супольную мову выяўляецца ў роўнай меры па абодвух баках колішніх барыкадаў ува ўсіх беларускіх асяродках і паасобных людзей у цэлым Вольным Сьвеце. Імкненьне гэтае ўжо нагэтулькі насьпела, што яно становіцца справай арганічнай нашага нацыянальнага працэсу.*

*Гэта, аднак, не абазначае, што мы павінны імкнуцца да поўнай палітычнай і арганізацыйнай уніфікацыі ўсяго нашага нацыянальнага жыцьця на эміграцыі. Падобная ўніфікацыя была-б супярэчнай дэмакратычным прынцыпам. Людзі могуць мець розныя погляды на палітычныя пытаньні, належаць да розных грамадзкіх арганізацыяў і палітычных кірункаў. Але гэтыя і ім падобныя натуральныя розьніцы не павінны атручваць грамадзкае атмасфэры й выклікаць узаемнага недаверу, сварак і варожасьці ды стаяць на перашкодзе ўзаемнаму супрацоўніцтву для аднае-адзінае найвышэйшае ідэі — Вольнай і Незалежнай Беларусі»*[96].

Падчас сьвяткавання з нагоды выхаду 200-га нумара 2 лютага 1974 г. у Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага прамоўцы адзначалі, што “Беларус” — *«гэта перш-наперш ідэйны рупар беларускае дзяржаўніцка-незалежніцкае думкі, бескампрамісны й пасьлядоўны выкрывальнік палітыкі русыфікацыі й каляніяльнага стану на бацькаўшчыне, далей — гэта летапіс грамадзкае, палітычнае й культурнае дзейнасьці беларускае эміграцыі. [...]“Беларус” — гэта люстра ўсяго беларускага жыцьця й выказьнік беларускіх паглядаў на ўсё»*[97].

Падобныя думкі выказваліся і з нагоды 30-годдзя газеты. Паведамлялася таксама, што калі ў 1963 г. кошт друку газеты на 6 бачынаў складаў 280,00 $, сёння (у 1980-м) — 630,00 $ (на 8 бачынаў — 840,00 $), дык з 1981 г. кошты будуць павялічвацца[98]. Гэта быў нумар за жнівень — верасень 1980 г., а ўжо нумар за лістапад — снежань выйшаў з некралогам пра Стася Станкевіча. Шокавы стан ад нечаканай смерці галоўнага рэдактара адлюстроўвала паведамленне пра пасяджэнне рэдакцыйнае

---

96 Беларус. № 201. Студзень 1974.

97 Беларус. № 202. Люты 1974.

98 Беларус. № 280–281. Жнівень — верасень 1980.

калегіі, на якім стаяла адно пытанне: будучыня газеты “Беларус” пасля Станкевіча[99].

Рэдактарства пераняў прафесійны радыёжурналіст — супрацоўнік “Свабоды” Янка Запруднік. Ён далучыўся да працы ў газеце яшчэ за часам Міхася Міцкевіча, а ў апошнія гады выконваў абавязкі намесніка галоўнага рэдактара. Матэрыялы адразу сталіся карацейшымі, аддавалася перавага інфармацыі, зменшылася колькасць “літаратурных” артыкулаў, затое пабольшала матэрыялу на гістарычныя тэмы, часцей пачаў з’яўляцца жанр гутаркі. Калі ж друкаваліся вялікія матэрыялы, гэта былі пераважна “працы з працягам”, як артыкул Антона Адамовіча пра Івана Луцкевіча[100] ці даследаванне пра беларускую мову ў цэрквах Беласточчыны[101]. Наогул, заўважны быў рост колькасці артыкулаў, прысвечаных царкоўным праблемам, асабліва на Беласточчыне.

Янка Запруднік увёў англамоўныя старонкі, на якіх ён сам, ягоная дачка Вера, Зора і Вітаўт Кіпелі ды некаторыя іншыя збольшага рэагавалі на датычныя Беларусі англамоўныя публікацыі[102]. Старонкі гэтыя рабіліся з разлікам на маладога чытача — дзяцей паваеннае хвалі.

Новы рэдактар аднавіў дзейнасць выдавецтва “Беларуса”. Калі за Станіславам Станкевічам быў выдрукаваны фактычна толькі том твораў Максіма Гарэцкага[103], дык пры спрыянні Янкі Запрудніка выйшла паўтузіна публікатак[104].

[99] Паседжаньне рэдкалегіі “Беларуса” // Беларус. № 283–284. Лістапад — сьнежань 1980.

[100] Адамовіч, Ант. Як дух змаганьня Беларусі. Да 100-х угодкаў нараджэньня Івана Луцкевіча // Беларус. № 294–295. Лістапад — сьнежань 1981; № 296. Студзень 1982; № 297. Люты 1982; № 298. Сакавік 1982; № 299. Красавік 1982; № 300. Травень 1982; № 301–302. Чэрвень — ліпень 1982; № 303–304. Жнівень — верасень 1982.

[101] Праваслаўная царква ў Беластоцкім краі й беларуская мова ў ёй // Беларус. № 314. Лістапад — сьнежань 1983; № 315. Студзень 1984; № 316. Люты 1984; № 317. Сакавік 1984; № 318. Красавік 1984.

[102] Да нашых старэйшых чытачоў. Подпіс: Рэдакцыя // Беларус. № 297. Люты 1982.

[103] Гарэцкі, Максім. Выбраныя творы. Т. 3: Апавяданьні і аповесьць “Дзьве душы”. Нью Ёрк, 1975. — 160 с. Два папярэднія тамы: Гарэцкі, Максім. Выбраныя творы. У 2 т. Мінск, 1973.

[104] Станкевіч, Станіслаў. Янка Купала: На 100-я ўгодкі ад нараджэньня. Нью Ёрк, 1982. — 145 с.; Запруднік, Янка. Спадчына бацькоў: “агледзіны”:

На пачатку 1990-х газета выходзіла накладам 1300 асобнікаў. У лістападзе 1995 г. Янка Запруднік даслаў Антону Шукелойцю, старшыні БАЗА, ліст наступнага зместу: «*Вельміпаважаны сп. Шукелайць, у сувязі з тым, што я мушу сьпешна дапісваць беларускі пераклад свае кнігі пра гісторыю Беларусі для менскага выданьня (мой тэрмін здачы рукапісу мінуў у ліпені сёлета) і такжа сьпешна мушу дапрацоўваць англамоўны "Гістарычны слоўнік Беларусі" (тэрмін здачы машынапісу ўжо раз адкладзены з канца сёлетняга году да ліпеня 1996 г.), я змушаны адмовіцца ад далейшага рэдагаваньня газэты "Беларус", якое я пераняў пятнаццаць гадоў таму пасьля сьмерці сьв. пам. Станіслава Станкевіча. Я раблю цяпер лістападаўскі нумар газэты й зраблю яшчэ свой апошні сьнежаньскі. Прашу назначыць дату пашыранага паседжаньня Галоўнае Ўправы БАЗА, каб супольна з рэдкалегіяй "Беларуса" абмеркаваць справу далейшага рэдагаваньня газэты*»[105].

На пасяджэнні, якое адбылося ў студзені 1996 г., чародным рэдактарам газеты была абраная Зора Кіпель. На той час яна працавала ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы кансультантам, апісвала і каталагізавала выключна рэдкія кнігі, старадрукі, а таму была троху вальнейшаю ў сваім графіку і магла больш увагі аддаваць газеце. Рэдакцыя размясцілася ў друкарні на 22-й вуліцы Вэст, недалёка ад будынка Галоўнага паштамта. Гаспадары друкарні «*Any Phototype*» вельмі прыхільна паставіліся да газеты і рэдакцыйнай калегіі, вылучылі асобны пакойчык з сталом і крэсламі.

Істотных зменаў газета не зведала — выданне новаму рэдактару было не чужое (Зора Кіпель выконвала абавязкі рэдактара ў 1992 г., калі Янка Запруднік працаваў над англамоўнаю кнігаю[106]), але і яна прыўнесла сваё. Найперш імкнулася прыцягнуць у газету як мага болей эмігрантаў новага пакалення ці прыехаўшых па стыпенды-

---

Да 100-годзьдзя нараджэньня Янкі Купалы і Якуба Коласа. Нью Ёрк, 1982. — 31 с.; Адамовіч, Антон. "Як дух змаганьня Беларусі": Да 100-х угодкаў нараджэньня Івана Луцкевіча. Нью Ёрк, 1983. — 28 с.; Сказ пра Лысую Гару; Роздум ля параднай брамы: ананімныя самавыдавецкія паэмы. З анатацыямі Ант. Адамовіча. Нью Ёрк, 1985. — 27 с.; Усеагульная дэклярацыя правоў чалавека. Нью Ёрк, 1988. — 8 с. Да гэтага трэба дадаць календары палітычнакультурных угодкаў на 1983, 1984 і 1985 гады.

[105] Захоўваецца ў фондзе БІНіМа ў БДАМЛМ.

[106] Zaprudnik, Jan. Belarus: at a crossroads in history. Boulder, Westview Press, 1993. — 278 p.

ях (Алеся Сёмуха, Юрка Васілеўскі, Лявон Юрэвіч, Зміцер Саўка), якія, сваю чаргу, засноўвалі новыя рубрыкі, знаходзілі новыя тэмы ці па-іншаму пісалі на старыя. Зора Кіпель часта паўтарала: *“Бярыце газэту, пераймайце яе. Некалі мы ўзялі яе ад старэйшых, а цяпер мы старэем, час за вамі”*.

Як рэдактар, Зора Кіпель аддавала перавагу публікацыям невялікага памеру, выключэнні рабіліся хіба для аглядных артыкулаў, якія яна вельмі любіла, напрыклад пра Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. У дзённіках Зора Кіпель зазначала: *«Вельмі хацелася б друкаваць свае травэлёгі, але нельга — мушу даваць месца іншаму матэрыялу. І тым ня менш сэрыю “У пошуках эміграцкае літаратуры” выдрукую»*[107].

Матэрыял, якому галоўны рэдактар мусіў даваць зялёнае святло, датычыўся падзей на Беларусі, дзе да ўлады прыйшоў Аляксандр Лукашэнка. Багата з надрукаванага ў “Беларусе” будзе перакладацца на ангельскую мову для мемарандумаў, прызначаных Вашынгтону.

Кнігадрук пры выдавецтве газеты “Беларус” прыпыніўся[108]: Зора і Вітаўт Кіпелі скіравалі ўсе рэсурсы на падрыхтоўку выданняў у БІНіМе.

Напрыканцы 1998 г. Зора Кіпель вырашыла вярнуцца да даследавання беларускай старажытнай літаратуры, і газету ад таго часу рэдагавалі Вітаўт Кіпель і Лявон Юрэвіч, а “ломку” — больш-менш той самы тэхнічны працэс, што і за Станіславам Станкевічам, — рабіў Марат Клакоцкі.

Фінансавы стан газеты быў не найлепшы: ахвяраванняў прыходзіла ўсё менай, а кошты друку газеты павялічваліся. Не ставала і матэрыялу, нярэдка рэдактар мусіў пісаць два-тры-пяць артыкулаў і падпісвацца псеўданімамі або пакідаць іх безыменнымі. Усё часцей выходзілі здвоеныя нумары, зменшылася і колькасць старонак.

Відавочна, што трэба было цалкам мяняць тэхналогію друку, пачаць рабіць газету на камп’ютары, змяніць сістэму падпіскі, але тут спрацаваў чалавечы фактар: хвароба Зоры Кіпель адцягнула ад газеты ўвагу і Вітаўта, пачатак навучання ў бібліятэчнай школе

---

107 З архіва Вітаўта Кіпеля.

108 Фактычна выйшла толькі кніга ўспамінаў Яўхіма Кіпеля “Эпізоды” (Нью Ёрк: Выдавецтва газэты “Беларус”, 1998. — 305 с.).

паралельна з некалькімі важнымі кніжнымі праектамі ў Лявона Юрэвіча. Падхапіць рэдакцыйную працу на той час не было каму, і 469-ы нумар "Беларуса" за 2000 г. стаўся апошнім перад новым перапынкам.

Газета была адноўленая 25 сакавіка 2002 г. новым рэдактарам — Маратам Клакоцкім. Ён успамінае:

*«Калі мне ня здраджвае памяць, вясною 2000-га году газэта "Беларус" перапыніла сваё выданьне. Перапынкі і цяжкасьці, выкліканыя недахопам фінансаваньня, здараліся ў гісторыі газэты і раней. Ад часу майго прыезду ў Злучаныя Штаты ў пачатку 1993-га году газэта выходзіла нерэгулярна, нумары друкаваліся са спазьненьнем, а то і падвоенымі нумарамі (г. зн. адзін нумар на два месяцы). Такое становішча было выклікана ў першую чаргу непамернымі выдаткамі на друк. Старэйшае пакаленьне выдаўцоў газэты не карысталася кампутарамі і плаціць друкарні ім даводзілася за кожную дробязь: набор тэкстаў, сканаваньне і апрацоўку фатаздымкаў, "ломку" і падрыхтоўку макету і, натуральна, за сам друк. Такім чынам выданьне аднаго нумару абыходзілася ў некалькі тысяч даляраў. Зразумела, што зьбіраць такія сродкі ў тады ўжо не такой і шматлікай беларускай грамадзе было вельмі цяжка. Паколькі газэта не была камэрцыйным выданьнем, у якім большасьць выдаткаў пакрываюцца друкам абвестак і рэклямы, то ніякіх прыбыткаў яна ня мела. Калі нейкія аплочаныя абвесткі і зьяўляліся на яе старонках, то былі яны рэдкімі і нерэгулярнымі. Асноўнымі крыніцамі такога кшталту выданьняў ёсьць падпіскі чытачоў і ахвяраваньні.*

*Да таго часу, калі "Беларус" перастаў друкавацца, я ўжо меў невялікі досьвед рэдагаваньня і друку інфармацыйнага бюлетэню Нью-Ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) "Весткі й Паведамленьні", які я пераняў ад сп. Алеся Міцкевіча ў 1998-м годзе, калі зь ягонай рэкамэндацыі мяне абралі старшынём Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА, якім сп. Міцкевіч кіраваў да гэтага цягам апошніх найменш дваццаці гадоў. У спадчыну ад папярэдняга старшыні разам з іншымі абавязкамі я і атрымаў бюлетэнь. Выходзіў ён тады два разы на месяц, і падрыхтоўка кожнага нумару брала процьму часу, бо веды кампутара і кампутарных праграмаў у той час у мяне былі вельмі абмежаваныя. Паколькі "Весткі й Паведамленьні" былі толькі невялікаю ўлёткаю, якую*

*я друкаваў не ў друкарні, а ў краме “Стэйплс” на капіявальнай машыне, то празь нейкі год я ўжо налаўчыўся рабіць нумар з не такімі вялікімі затратамі часу, як было спачатку. Сп. Міцкевіч пачаў выдаваць бюлетэнь у пачатку 1980-х гадоў як сродак камунікацыі паміж сябрамі аддзелу БАЗА. Ён друкаваў абвесткі і невялікія зацемкі аб падзеях у Беларусі, у беларускай грамадзе Нью-Ёрку — Нью-Джэрзі і шырэй у ЗША.*

*Абавязкі старшыні аддзелу і рэдактара бюлетэня я ўспрыняў вельмі адказна, што не найлепшым чынам адбілася на адносінах у маёй сям’і. Першыя гады жыцьця ў новай краіне заўсёды нялёгкія, а тут яшчэ столькі грамадзкіх абавязкаў. Прабыўшы старшынём Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА ўсяго год, я перадаў справы Віталю Зайку, якога абралі старшынём аддзелу пасьля мяне, але выданьне бюлетэня я вымушаны быў пакінуць сабе, каб аблегчыць працу новаму старшыні. Дамова нашая была такая: я бяру на сябе тэхнічную частку выданьня, а Віталь рыхтуе тэксты.*

*У канцы 1990-х гадоў у нашай грамадзе зьявіўся новы актывіст, якога звалі Валеры Дворнік. Празь некалькі гадоў пасьля прыезду ў ЗША па запрашэньні ягонага далёкага сваяка сьв. пам. архіяпіскапа Эмігідыюша Рыжага (1933–2015), сп. Дворнік, дзякуючы сваёй актыўнасьці і блізкаму сяброўству зь некаторымі старэйшымі аўтарытэтнымі і ўплывовымі сябрамі мясцовай беларускай грамады, стаў сябрам управаў амаль усіх беларускіх арганізацыяў у Нью-Ёрку і, здаецца, нават Рады БНР. Калі газэта “Беларус” перастала друкавацца, то ўсе мы, натуральна, вельмі шкадавалі аб гэтым і час ад часу абмяркоўвалі розныя варыянты аднаўленьня друку гэтага сапраўднага летапісу беларускай эміграцыі. Паколькі сп. Дворнік праяўляў актыўнасьць у самых разных дзялянках грамадзкай дзейнасьці, то і да выданьня газэты ён быў неабыякавы. Калі перапынак у выданьні газэты “Беларус” пачаў набліжацца да двух гадоў, і стала зразумела, што ніхто са старэйшага пакаленьня беларускіх дзеячоў за гэтую справу ўжо брацца ня будзе, сп Дворнік пачаў намаўляць мяне, як рэдактара “Вестак і Паведамленьняў”, узяцца за рэдагаваньне “Беларуса”.*

*Да гэтага ў мяне нават і думкі не ўзьнікала, што я магу рабіць такую адказную і маштабную працу. Я ня маю ні журналісцкай, ні нават гуманітарнай адукацыі, якая неабходная для такой пасады. Але сп. Дворнік ужо пасьпеў абмеркаваць гэтае пытаньне са*

*спадарствам Кіпеляў, сп. Запруднікам, сп. Шукелойцем, і ўсе яны былі ня супраць аднаўленьня друку газэты новым пакаленьнем беларускіх эмігрантаў. Безумоўна, я часткова, як адзін зь беларускіх актывістаў у Нью-Ёрку, адчуваў сваю адказнасьць за адраджэньне газэты. Усе пачалі мяне ўгаворваць пагадзіцца на прапанову і абяцалі ўсемагчымую падтрымку ў гэтай справе. Толькі жаданьне ня даць газэце канчаткова памерці, адчуваньне сваёй адказнасьці за яе далейшы лёс, а таксама перакананьне, што рэдактарам я буду нядоўга, толькі да таго часу, пакуль ня зьявіцца асоба, больш падрыхтаваная да такой адказнай пасады, з адпаведнай адукацыяй і досьведам, дазволілі мне пачаць сур’ёзна думаць над гэтаю прапановаю. А апошняю кропляю, што прымусіла мяне засумнявацца, ці маю я права адмаўляцца, была падтрымка маёй кандыдатуры на пасаду рэдактара сп-няй Зорай Кіпель, адною з папярэдніх рэдактарак “Беларуса”. Яна вельмі прыхільна паставілася та таго, каб я стаў рэдактарам газэты.*

*Немалаважнымі ў прыняцьці такога рашэньня былі і мае асабістыя варункі ў той час. Сямейныя цяжкасьці ў рэшце рэшт скончыліся разводам, і сямейных абавязкаў у мяне стала значна менш. У дадатак да гэтага ў 2000 годзе я пачаў працаваць па сваёй старой прафэсіі марака ў кампаніі, дзе рэйсы былі па два тыдні, г. зн. пасьля двух тыдняў на працы я меў два вольныя тыдні дома. Якая б напружаная праца на караблі ні была, але тыя, хто знаёмыя зь яе спэцыфікай разумеюць, што на начных вахтах і пераходах заўсёды можна знайсьці час, каб пасядзець з камутарам і папрацаваць над тэкстамі і артыкуламі. А вольныя два тыдні дома можна было амаль цалкам прысьвячаць газэтнай працы.*

*Я выдатна разумеў, што са сваімі абмежаванымі ведамі і падрыхтоўкаю ніколі не змагу выдаваць газэту самастойна (хоць потым у рэшце рэшт да гэтага і прыйшло), таму плян, на якім мы пагадзіліся, быў наступным. Людзі старэйшага пакаленьня, што цягам усёй гісторыі выданьня газэты “Беларус” былі зь ёю цесна зьвязаныя, а гэта сп-ня Зора Кіпель, сп. сп. Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель, Антон Шукелойць і Алесь Міцкевіч будуць даваць у кожны нумар газэты свае артыкулы і зацемкі і дапамагаць мне парадамі. Кампутарную вёрстку будзе рабіць Мікола Шыдлоўскі, які меў досьвед у гэтай справе і ў той час жыў у будынку Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага. Ён жа браў на сябе абавязак мець стасункі з друкар-*

*няй, бо ўжо займаўся ў Нью-Ёрку друкам нейкай расейскамоўнай газэты. Сп. Валеры Дворнік браў на сябе абавязак рассылаць газэту падпісчыкам. Канчатковую вычытку тэкстаў перад здачаю ў друк павінен быў рабіць сп. Лявон Юрэвіч, ён быў адзіны з нас, хто меў вышэйшую адукацыю моваведа. Я павінен быў займацца стасункамі з падпісчыкамі і аўтарамі, рыхтаваць тэксты і матэрыялы да друку, забіраць наклад з друкарні і развозіць яго распаўсюднікам.*

*Бюлетэнь "Весткі й Паведамленьні" ператвараўся ў частку газэты, дзе яму адводзілася асобная старонка ў кожным нумары. Адказным за тэксты бюлетэня заставаўся сп. Віталь Зайка, як старшыня Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА, а ўсім сябрам гэтага аддзелу БАЗА дадаваўся яшчэ абавязак, разам з аплатаю гадавых складак быць і падпісчыкам газэты "Беларус".*

*На такіх умовах мы і пачалі рыхтаваць да друку першы аднаўлены нумар, які і выйшаў у сьвет да 25-га Сакавіка 2002 году.*

*Усе, хто былі датычныя да выданьня газэты, пагадзіліся на тым, што ніхто з нас аплаты за сваю працу атрымліваць ня будзе, тым больш што ніякай пэўнасьці наконт будучага фінансаваньня не было, а спадзявацца, што грошай з падпісак будзе хапаць на выданьне газэты тады таксама не выпадала. Так званы стартавы капітал для аднаўленьня друку газэты быў пазычаны са сродкаў Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА, а крыніцаю гэтых сродкаў былі выключна складкі і ахвяраваньні сяброў аддзелу. Выдаўцом газэты "Беларус" лічылася Галоўная Ўправа БАЗА. Грошы я выдаткоўваў вельмі ашчадна, і ішлі яны выключна на аплату паслугаў друкарні і рассылку падпісчыкам, бібліятэкам і грамадзкім арганізацыям.*

*Я стараўся навязаць сувязь зь беларускімі арганізацыямі і асяродкамі ва ўсіх краінах сьвету, дзе яны ў той час існавалі, і прасіў дасылаць у газэту інфармацыю пра іхнюю дзейнасьць. Зь людзьмі з паваеннай хвалі эміграцыі дамовіцца на такое супрацоўніцтва было лягчэй, бо яны выдатна разумелі, на якіх умовах выходзяць эміграцыйныя выданьні. Для іх гэта была ўжо звыклая справа і працяг таго, што было да гэтага. Наладзілася супраца зь беларускімі асяродкамі ў Канадзе (Кастусь Акула, Антон Маркевіч, Мікола Ганько), Аўстраліі (Міхась Лужынскі, Уладзімер Акавіты, Міхась Раецкі), Бэльгіі (Янка Жучка), Вялікабрытаніі (Лёля Міхалюк). Хоць і нерэгулярна, але яны стараліся дасылаць зацемкі пра падзеі ў беларускай грамадзе гэтых краінаў.*

*У кожным з гэтых асяродкаў я стараўся знайсьці асобу, што пагадзілася б распаўсюджваць “Беларус” і зьбіраць падпіскі (звычайна ў тых асяродках было па 5–7 падпісчыкаў). Але з адыходам людзей старэйшага пакаленьня ад справаў, а часам і з гэтага жыцьця, сувязь перарывалася. Яскравым прыкладам тут можа быць выпадак са Згуртаваньнем Беларусаў Вялікабрытаніі. Я заўсёды слаў у Лёндан, акрамя як непасрэдна падпісчыкам, яшчэ ладную пачку кожнага нумару газэты, якая распаўсюджвалася там на месцы, а кіраўніцтва ЗБВБ раз на год прысылала ахвяраваньне на выданьне газэты. З прыходам да кіраўніцтва арганізацыяй малодшага пакаленьня сувязь гэтая фактычна перапынілася, я перастаў атрымліваць адтуль ня толькі ахвяраваньні на выданьне, але і інфармацыю пра іхнюю дзейнасьць для друку, хоць пачкі ім пасылаў да апошняга дня свайго рэдактарства. Але сувязь з асобнымі патрыётамі, як Міхась Швэдзюк, Сыльвэстар Будкевіч, захоўвалася цягам усяго часу майго рэдактарства і нават даўжэй, калі я працягваў выдаваць літаратурны альманах “Беларус”. Падобная сытуацыя была і зь іншымі беларускімі асяродкамі па сьвеце. Беларускія эмігранты 1990–2000-х гадоў, за рэдкім выключэньнем, мала цікавіліся грамадзкай дзейнасьцю, а займаліся пераважна ўладкаваньнем свайго асабістага жыцьця, за што іх, канечне ж, цяжка вінаваціць. Калі на месцах і зьяўляліся нейкія беларускія актывісты, то дзейнасьць іх, як і сувязь з рэдакцыяй, была хутчэй спарадычная і кароткатэрміновая. Такім чынам выданьне газэты, нягледзячы на мае стараньні, пастунова звужалася да асяродку Нью-Ёрку — Нью-Джэрзі з асобнымі падпісчыкамі ў іншых гарадах і краінах.*

*Значная частка накладу дасылалася ў Беларусь. У свой час мне пашанцавала наладзіць сувязь з актывістам Таварыства Беларускай Мовы ў Менску сп. Уладзімерам Цярохіным, вось яму я і дасылаў пачкі з газэтамі, а ён ужо на месцы рабіў рассылкі ў бібліятэкі, рэдакцыі газэтаў і часапісаў, палітычныя партыі і грамадзкія арганізацыі. Сп. Цярохін займаўся гэтаю справаю выключна на грамадзкіх пачатках, і я яму вельмі ўдзячны за такую ахвярнасьць і дапамогу. Натуральна, ніякай фінансавай падтрымкі зь Беларусі рэдакцыя таксама не атрымоўвала, а выдаткі на распаўсюд газэты на Бацькаўшчыне цалкам пакрываліся падпіскамі і ахвяраваньнямі чытачоў замежжа.*

*З цягам часу наладзілася супрацоўніцтва з Аленай Макоўскай са ЗБС "Бацькаўшчына" ў Менску, і ў газэце друкаваліся матэрыялы і абвесткі зь дзейнасьці гэтай арганізацыі, дасланыя ёю. Плённым было супрацоўніцтва зь беларускімі гісторыкамі даследчыкамі беларускай эміграцыі зь Менску Натальляй Гардзіенкай і Алегам Гардзіенкам, яны рэгулярна дасылалі артыкулы і зацемкі пра свае дасьледаваньні. Асабліва ўдзячны Алегу, бо ў апошнія гады ён рабіў для кожнага нумару газэты падборку навінаў зь Беларусі і каляндар памятных датаў. Ягоная дапамога значна аблягчала маю працу.*

*Доўгатэрміноваю і плённаю была супраца зь беларускімі музыкальнымі крытыкамі сьв. пам. Вітаўтам Мартыненкам, а пазьней з Анатолем Мяльгуем. Абодва, на вялікі жаль, ужо адыйшлі ў лепшы сьвет. Дзякуючы ім, чытачы "Беларуса" былі паінфармаваныя пра музычнае жыцьцё на Бацькаўшчыне.*

*Супрацоўнічаў з рэдакцыяй таксама беларускі гісторык Андрэй Катлярчук, які ў той час працаваў ва Ўнівэрсытэце Ўпсала ў Швэцыі.*

*Цікавай, хоць і нядоўгай была супраца з Алесем Белым, які некалькі разоў дасылаў у рэдакцыю свае артыкулы на тэму беларускай кухні.*

*Запомнілася сваёю актыўнасьцю сп-ня Дыяна Гумбар, яна пэўны час вяла ў "Беларусе" "Маладзёвую Старонку". На жаль, загружанасьць амэрыканскага жыцьця і вучоба не дазволілі Дыяне супрацоўнічаць з газэтаю даўжэйшы час.*

*Мушу адзначыць, што цягам усяго часу майго рэдактарства я адчуваў поўную падтрымку старэйшага пакаленьня беларускай эміграцыі. Хоць у рэальнасьці іхняя практычная дамамога аказалася не такою значнаю, як я чакаў, але, я ўпэўнены, што яны рабілі ўсё, што на той час маглі, каб дапамагчы мне ў выданьні газэты.*

*Успамін мой будзе няпоўным, калі не згадаю пра складанасьці, зь якімі сутыкнуўся тады. Вышэй я ўжо пісаў, што ў другой палове майго рэдактарства ўсю тэхнічную частку працы я ўжо рабіў сам. Прычынаю гэтаму сталася моцная залежнасьць ад раскладу на маёй асноўнай працы. Зрабіць нумар, надрукаваць і разаслаць трэба было цягам тых двух тыдняў, што я быў дома. Натуральна, што ня кожны з тых людзей, зь якімі я напачатку ўзяўся рабіць газэту маглі працаваць у такім жа рэжыме, як і я. Мелі яны свае асноўныя працы, што давалі ім сродкі для жыцьця, і былі для іх, безумоўна,*

*важнейшымі за бясплатнае супрацоўніцтва ў “Беларусе”. Я ўжо не кажу пра іншыя абавязкі, якія меў кожны зь іх.*

*Адным зь першых мне давялося адмовіцца ад супрацы зь Міколам Шыдлоўскім. Пасьля ня вельмі працяглага часу напачатку, калі ён займаўся падрыхтоўкаю макета, Мікола паведаміў, што зьбіраецца паехаць на пару месяцаў да маці ў Беларусь. Я спытаў яго: “А як жа газэта?” На гэта ён запісаў на паперцы нумар тэлефона, даў мне і сказаў: “Калі спатрэбіцца дапамога, то патэлефануй па гэтаму нумару, хлопцы табе дапамогуць”. Тымі хлопцамі былі нейкія расейцы, зь якімі ён рабіў расейскамоўную газэту. Яны не валодалі беларускай мовай, каб якасна зрабіць макет і, зразумела, хацелі, каб за іхную працу ім заплацілі. Я ня меў іншага выйсьця, як паспрабаваць рабіць макет самому. Назіраючы за працаю Міколы, я ўжо тамусяму навучыўся. Калі месяцы праз тры Мікола вярнуўся зь Беларусі, то да ягоных паслугаў я ўжо не зьвяртаўся.*

*Апошнія некалькі гадоў і рассылкаю газэты я пачаў займацца сам, бо Валеры Дворнік рабіў гэта вельмі неапэратыўна, так што людзі пісалі мне і скардзіліся, што атрымлівалі газэту зь вялікім спазьненьнем пасьля яе выхаду. Былі выпадкі, што ён увогуле ехаў на вакацыі, пакінуўшы газэту неразасланаю. Я разумею, што ён меў свае неадкладныя справы, але адказваць перад падпісчыкамі даводзілася мне. Я лічыў такія адносіны непрымальнымі.*

*Падобная сытуацыя склалася і з вычыткаю тэкстаў Лявонам Юрэвічам. Калі газэта была гатовая да друку, я, у выглядзе раздрукаванага макета, даваў яе вычытваць Лявону. Рабіць гэта трэба было тэрмінова, бо час мой заўсёды быў абмежаваны двума тыднямі, а газэту ж пасьля друку трэба было яшчэ і разаслаць... Лявон, заняты сваёю асноўнаю працаю, дасьледчай і пісьменьніцкай дзейнасьцю, ня мог гэта рабіць так хутка, як гэта было патрэбна мне. Урэшце я пачаў вычытваць тэксты сам. Перакананы, што пасьля маёй недасканалай праверкі заставалася процьма памылак і недахопаў, але газэту трэба было выдаць у час да майго ад’езду на працу. Цяпер, гледзячы на пэрыядычнасьць выданьня “Беларуса” сп-няю Ганнай Сурмач, я лічу вялікім дасягненьнем тое, што за восем гадоў майго рэдактарства газэта, здаецца, толькі аднойчы выйшла падвоеным нумарам. І тое, гэта было толькі тады, калі я ўпершыню пасьля шаснаццаці гадоў жыцьця ў ЗША атрымаў магчымасьць паехаць у Беларусь адведаць бацькоў.*

*Канечне ж, гэтых праблемаў у вялікай меры можна было б пазьбегнуць, каб да працы над выданьнем газэты была прыцягнутая большая колькасьць людзей, але зрабіць гэта на грамадзкіх пачатках, перакананы, немагчыма. Увогуле, лічу вялікім посьпехам тое, што ў нас у той час усё ж сабралася група людзей, якія адважыліся ўзяцца за выданьне газэты. Кожны даў тое, што мог, і вынік, на маю думку, быў неблагі.*

*Адыход мой ад рэдагаваньня “Беларуса” цалкам зьвязаны з канфліктам у Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньні*[109]*. Я як рэдактар “Беларуса” і сябра Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА аказаўся тады таксама ўцягнутым у гэты канфлікт. У газэце я працягваў друкаваць матэрыялы, якія інфармавалі чытачоў пра падзеі ў БАЗА ў непрывабным для кіраўніцтва сьвятле. Такім чынам у 2010 годзе дайшла чарга і да замены рэдактара “Беларуса”. На пасаду рэдактара газэты старшыня БАЗА сп. Вячка Станкевіч прапанаваў сп-ню Ганну Сурмач, прыезд якой з Прагі ён залагодзіў пару гадамі раней для ўпарадкаваньня архіваў Рады БНР і якая была да яго ў той час вельмі ляяльная. Каб падпіхнуць мяне да сыходу, прыхільнікі сп. Станкевіча ня толькі перасталі выпісваць газэту, але і нагаворвалі іншых не падтрымліваць выданьне, сталі ствараца перашкоды ў распаўсюдзе па асяродках. Натуральна, што працаваць у такіх умовах я ўжо ня меў ніякага жаданьня. Пагадзіўшыся перадаць справы сп-ні Сурмач, мы разам зь ёю і сп. Станкевічам спаткаліся ў Фундацыі імя П. Крэчэўскага, дзе я перадаў ім усе свае напрацоўкі, загатоўку макета (па якому газэта, як я бачу, выходзіць і цяпер), сьпісы падпісчыкаў і касу, у якой было, наколькі я памятаю, больш за 3 тыс. даляраў, якія я заашчадзіў за часы свайго рэдактарства.*

*Пасьля ліквідацыі Галоўнаю Ўправаю БАЗА Нью-Ёрскага аддзелу і заснаваньня Згуртаваньня “Пагоня”, а таксама пераняцьця газэты “Беларус” сп-няй Сурмач бюлетэнь “Весткі й Паведамленьні” аднавіў свой выхад са студзеня 2011 году ўжо асобным ад газэты выданьнем як інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “Пагоня”. Друкуецца ён штомесячна і цяпер. Такім чынам нашая супольная*

[109] Аповед Марата Клакоцкага пра згаданы канфлікт выдрукаваны ў прадмове да працы: Саўка, Зьміцер. Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы: Пяцьдзясят гадоў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (1949–1999). Мінск, 2019.

*зь Віталём Зайкам праца над гэтым выданьнем пайшла ўжо на трэці дзясятак*»[110].

Выдаецца “Беларус” і цяпер — з новай рэдакцыяй, якую ўзначальвае Ганна Сурмач. Але гэта ўжо зусім іншая газета.

Выбраныя артыкулы з “Бацькаўшчыны” і “Беларуса” — не значыць, што адабраныя найлепшыя публікацыі, тут крытэры могуць быць разнастайнымі, а памер кнігі абмежаваны. У “Выбранае” ўлучаныя найбольш тыповыя тэксты, якія, з аднаго боку, даюць уяўленне пра характар і скіраванасць газет, а з другога боку, спадзяемся, захавалі сваю актуальнасць і сёння могуць быць цікавыя і прафесійным гісторыкам, і шараговаму чытачу як у пытаннях гісторыі Беларусі, гэтак і для разумення людзей і ідэй беларускае эміграцыі, і пры тым — што было вырашальным у адборы — не перадрукоўваліся, наколькі тое вядома ўкладальнікам, у Беларусі[111]. Гэтая кніга — толькі ўзор (*sample* — як гаворыцца на амерыканскім беразе), не болей, таго, што хаваюць поўныя камплекты газет. Чытачу, які рассмакуе гэтую заморскую, але адначасна цалкам айчынную страву, давядзецца выпраўляцца на паляванне ў бібліятэкі і архівы.

Французскае выслоўе *mise en abime* — якраз пра герояў гэтае кнігі: “Бацькаўшчына” і “Беларус” — гэта адно люстэрка, эмігранты — другое, і, стоячы насупраць, яны бясконца адбіваюцца адно ў адным.

---

110 Успамін напісаны Маратам Клакоцкім на просьбу Лявона Юрэвіча адмыслова для гэтай публікацыі.

111 Як, напрыклад, у кнігах Юркі Віцьбіча “Антыбальшавіцкія паўстаньні й партызанская барацьба на Беларусі” (Нью Ёрк, 1996) і “Наша спадчына прамаўляе” (Мінск, 2015), зборніку «З гісторыяй на “Вы”. Артыкулы. Дакументы. Успаміны. Выпуск трэці» (Мінск, 1994), укладзеным Янкам Запруднікам, ці ў выбраных працах Антона Адамовіча “Да гісторыі беларускае літаратуры” (Менск, 2005) або ў альманаху “Запісы БІНіМ” (Нью Ёрк — Менск) ды інш.

*Алесь Крыга*[112]

## Сіла беларускай нацыянальнай ідэі
(Да 39-й гадавіны абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі)[113]

Гісторыя народаў і чалавецтва паказала, што толькі такія ідэі бываюць узапраўды вялікія, запладняючыя й нязьнішчальныя, якія абапіраюцца на цьвёрдыя духовыя і адказваюць жыцьцёвым патрэбам і імкненьням народных мас. І наадварот, усякія ідэі, што ня маюць пад сабою глыбокага маральнага грунту й ня могуць пацягнуць за сабой масы, асуджаныя на хутчэйшае або павальнейшае адміраньне.

Уся гісторыя беларускага нацыянальнага адраджэньня зьяўляецца незапярэчным і найлепшым довадам, што беларуская нацыянальная ідэя, у імя якой і для якой адбываўся ўвесь наш адраджэнскі, а пазьней вызвольны працэс, належыць усёцэла да першае катэгорыі ідэяў. Уцягнутыя натуральным ходам жыцьця ў працэс нашага нацыянальнага руху і аўтаматычна спаўняючы свае нацыянальныя абавязкі, як штодзённыя духовыя патрэбы, мы часта не здаём сабе справы з таго, якой вялікай і магутнай духовай сілай была і ёсьць беларуская нацыянальная ідэя. Каб зразумець гэтую ейную веліч і магутнасьць, трэба глянуць на беларускі нацыянальна-адраджэнскі і нацыянальна-вызвольны працэс зь гістарычнае пэрспэктывы і перш за ўсё браць пад увагу ўсе тыя гістарычныя ўмовы, у якіх пачынаўся наш адраджэнскі рух.

Беларускі народ, пасьля свайго буйнага росквіту, славы й магутнасьці ў эпоху ўдзельных фэадальных беларускіх княстваў і асабліва ў эпоху найвялікшага росквіту Вялікага Княства Літоўскага, у XVII і XVIII стг. апынуўся на дне ўсебаковага заняпаду. Ён стаўся сацыяльна прыгнечанай, палітычна паняволенай і нацыянальна

---

112 **Алесь Крыга** — псеўданім Станіслава Станкевіча.

113 Бацькаўшчына. № 11–12 (345–346). 25 сакавіка 1957. С. 1–2. Усе тэксты публікуюцца ў аўтарскім правапісе.

нясьведамай этнаграфічнай масай. Яму пагражала няўхільная нацыянальная сьмерць.

Калі ў пачатку XIX стг. пачынаецца нацыянальнае адраджэньне паняволеных народаў Эўропы, у тым ліку й народаў, паняволеных царскай Расеяй, дык беларускі народ меў найгоршыя ўмовы для свайго адраджэньня і напатыкаў найцяжэйшыя перашкоды на сваім адраджэнскім шляху. Некалькі параўнаньняў зь іншымі паняволенымі народамі царскай Расеі найлепш нас пераканаюць аб гэтым.

Найбольш трагічным для беларускага народу было тое, што ён напярэдадні свайго адраджэньня быў поўнасьцю ўжо страціўшы традыцыю сваёй мінулай славы й магутнасьці, ня мог з гэтае традыцыі чэрпаць нацыянальных сілаў, ня меў магчымасьці на ейнай культурнай базе тварыць і разьвіваць сваю новую нацыянальную культуру. Парваўшы нітку традыцыі, усё мусіў пачынаць ад пачатку. Навет сваю літаратурную мову пачаў у XIX стг. Тварыць ад самага пачатку, ня гледзячы на тое, што ў XVI стг. меў высака ўдасканаленую сваю літаратурную мову.

Інакш было ў іншых народаў царскае Расеі. Прыкладам, украінскі народ, які, праўда, таксама парваў традыцыю свае славы эпохі Кіеўскай Русі, але, распачынаючы працэс свайго нацыянальнага адраджэньня, чэрпаў духовыя сілы яшчэ зь незабытае традыцыі казацкіх рухаў XVII стг. Народы каўкаскія не патрабавалі зусім нацыянальна адраджацца, бо некаторыя зь іх былі яшчэ зусім нядаўна заваяваныя Расеяй, а некаторыя якраз у гэтым часе ды і шмат яшчэ пазьней мелі сваю дзяржаўную незалежнасьць. Яны ў гэтым якраз часе вялі гэраічнае змаганьне за захаваньне свае незалежнасьці і толькі пазьней былі пераможаныя. Сярод гэтых народаў не перарывалася нітка нацыянальнае традыцыі й ніколі не зьнікала нацыянальная сьведамасьць і нат нацыянальная актыўнасьць.

Другой гістарычнай трагэдыяй беларускага народу быў ягоны рэлігійны падзел і поўнае выкарыстоўваньне абодвых ягоных веравызнаньняў у якасьці аружжа дзеля ягонае дэнацыялізацыі: праваслаўя як аружжа русыфікацыі, а каталіцтва як аружжа палянізацыі. Спасярод усіх варожых беларускаму народу сілаў адну з найганебнейшых антынародных роляў зыграла праваслаўная казённая царква, з аднаго боку, і польскі або спалянізаваны каталіцкі

касьцёл з другога. Не дарма тады Якуб Колас[114] у сваім “Сымоне Музыку” пакінуў нам найбольш жахлівае, але гістарычна праўдзівае сьцьверджаньне:

*Родны край! У Божае імя,*
*Ў чэсьць касьцёлаў і царквоў*
*Паміж дзеткамі тваімі*
*Многа легла камянёў;*
*Многа выйшла трасяніны —*
*Меч, агонь зьнішчалі край:*
*З двух бакоў “айцы” дубінай*
*Заганялі нас у рай!*
*Кроў лілася ручаямі,*
*Здрада чорная расла,*
*Што папамі і ксяндзамі*
*Ў сэрцы кінута была.*
*І цяпер над намі, брацьце,*
*Яшчэ ў сіле той раздор —*
*І папоўскае закляцьце,*
*І ксяндзоўскі нагавор.*

Гэтак рэлігія, пакліканая адыгрываць сярод людзей шляхотную ролю, у сілу нягоднага выкарыстаньня яе для нізкіх і праступных мэтаў, сталася для беларускага народу адным з найвялікшых няшчасьцяў. І гэта ў той час, калі, прыкладам, музульманская рэлігія цюрскіх народаў Расеі была і ёсьць бадай наймагутнейшым нацыянальным фактарам. Падобна сярод летувіскага народу каталіцкі касьцёл быў адным з наймагутнейшых апорышчаў ягонага нацыянальнага адраджэньня.

Трэйцяй, але ня менш вялікай трагэдыяй беларускага народу было тое, што ён, у сілу цэлага раду гістарычных фактараў, страціў сваё запраўднае нацыянальнае імя. Здавалася-б, гэта факт чыста вонкавага значаньня, тым ня меней для нашага народу ён прынёс неаблічальныя шкоды. Яшчэ на зары нашага нацыянальнага адраджэньня — на пачатку і ў першай палавіне XIX стг. розныя нацыянальныя назовы былі тарнаваныя да нашага народу: назоў з эпохі

[114] **Якуб Колас** (сапр. **Канстацін Міцкевіч**, 1882–1956), паэт, празаік, драматург, крытык, публіцыст, класік беларускай літаратуры, народны паэт Беларусі.

ўдзельных княстваў Крывічы, які ў той час з пляменнага назову паступова рабіўся назовам агульна-нацыянальным; Ліцьвіны — наш агульна-нацыянальны назоў з эпохі Вялікага Княства Літоўскага; Беларусы — назоў найнавейшы, раней невядомы, цяпер накіданы нашаму народу расейскім урадам з мэтаю ягонае русыфікацыі. У той яшчэ немагчыма было прадбачыць, каторы з гэтыхназоваў пераможа й станецца вылучным назовам для абазначэньня нашага народу. Ян Чачот[115] і многія ягоныя сучасьнікі называлі наш народ "крывічанскім". Яшчэ ў той час Беларусь і Беларусы найбольш ведамыя былі ў чужынцаў, як Літва й Ліцьвіны, ды і самі яны сябе пераважна гэтак называлі. Але ўжо Францішак Багушэвіч[116] у канцы XIX стг. канчальна замацаваў за нашым народам назоў "беларускі". Гэтак, побач зь вялізарнымі заслугамі для нашага народу, гэты запраўдны *"бацька беларускага нацыянальнага адраджэньня"*, як справядліва назвала яго гісторыя, нясьведама зрабіў нам і вялікую нацыянальную шкоду.

Наш стары нацыянальны назоў "Ліцьвіны" пераняла Жмудзіны, народ, які ніколі перад гэтым Ліцьвінамі не называўся. Для нас ад гэтага была шкода перадусім тая, што Жмудзіны, разам з назовам Ліцьвіны, пераняла й багатую нашую традыцыю Вялікага Княства Літоўскага. Навет яшчэ й сяньня многія выдатныя гісторыкі Захаду ўтаесамліваюць Вялікае Княства Літоўскае зь сяньняшняй маленькай Летувай. На гэтай недарэчнай блытаніне сквапна спэкулююць таксама савецкія й польскія гісторыкі, каб, прыпісваючы Вялікае Княства Літоўскае Жмудзінам або, як мы іх сяньня часта называем, Летувісам, "давесьці" адсутнасьць слаўнай гістарычнай мінуўшчыні ў беларускага народу. І толькі нямногія гісторыкі, што аб'ектыўна вывучаюць Вялікае Княства Літоўскае, маюць ясны пагляд на справу й сьцьверджваюць бясспрэчную беларускасьць гэтага Княства.

Накінуты нашаму народу ў русыфікацыйных мэтах нацыянальны назоў "Беларусы" прынёс нам нязьлічоныя шкоды, бо і ў разуменьні несьвядомых Беларусаў, і ў перакананьні чужынцаў утаесамліваў нас, як "русаў", хоць сабе й "белых", з Расейцамі, а для гэтых апошніх падмацоўваў іхныя імпэрыялістычныя пасяганьні на Беларусь.

[115] **Ян Чачот** (1796–1847), беларускі і польскі паэт, фальклярыст.

[116] **Францішак Багушэвіч** (1840–1900), грамадскі дзеяч, паэт, празаік, публіцыст, перакладчык. Адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры.

Гэта толькі тры, найвялікшыя й найцяжэйшыя ў сваіх выніках перашкоды, што стаялі на шляху нашага нацыянальнага адраджэньня і ставілі нас у беспараўнаньне горшае палажэньне, якога няведалі іншыя народы, паняволеныя царскай Расеяй. Але было яшчэ й шмат іншых, таксама спэцыфічна беларускіх, перашкодаў і цяжкасьцяў. Усе яны стваралі такое палажэньне, якое прэдэстынавала[117] беларускі народ на поўную нацыянальную сьмерць. Аб тых жудасных часох прарок нашага нацыянальнага адраджэньня Янка Купала[118] пазьней пісаў: *"Спаў народ, і ты спала, і ворагі верылі, І дзялілі цябе, ўсімі мерамі мерылі — што памерла ўжо ты, — не адзін так казаў чалавек, — Што ніхто не разбудзіць цябе, што заснула навек"*.

Але вось у XIX стг., калі завітала Вясна Народаў[119], і беларускі народ падае свой голас жыцьця. І для нас пачынаецца нацыянальнае адраджэньне. Спачатку вельмі нясьмелае, сьціплае й беспрэтэнсіянальнае, бо толькі ў галіне культуры, калі першыя пачынальнікі адраджэньня на чале з Дунін-Марцінкевічам[120] пачынаюць пісаць для народу ў народнай мове, маючы перад сабой галоўна выхаваўчыя й дыдактычныя мэты. Пазьней, у канцы стагодзьдзя выступае Багушэвіч і, апрача нараканьня на сацыяльную несправядлівасьць сярод беларускага народу, кідае ўжо й нацыянальныя лёзунгі. Наймагутнейшы зь іх: *"Беларусы, не пакідайце мовы вашай беларускай, каб ня ўмерлі!"* — стаўся адным з найбольш баявых лёзунгаў нашага нацыянальнага адраджэньня і ня страціў сваей актуальнасьці і ў сяньняшнія дні.

Маючы за сабой ужо гэтую сьціплую традыцыю, пасьля 1905 году пачынаецца слаўная ў нашай гісторыі пара беларускага нацыянальнага адраджэньня — нашаніўская пара. Пачынаецца запраўдны беларускі рэнэсанс. Нашаніўства кладзе моцныя й трывалыя асновы беларускага адраджэнскага руху, высоўваючы два прынцыповыя патрабаваньні для беларускага народу: права звацца людзь-

---

117 **Прэдэстынаваць** (англ. *predestine*) — вызначаць, прадвызначаць.

118 **Янка Купала** (сапр. **Іван Луцэвіч**, 1882–1942), паэт, драматург, публіцыст, перакладчык, класік беларускай літаратуры, народны паэт Беларусі.

119 **"Вясна народаў"** — агульная назва шэрагу рэвалюцый, што ахапілі Еўропу ў 1848 г.

120 **Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч** (1808–1884), драматург, паэт, заснавальнік беларускай драматургіі, тэатра.

мі і права звацца народам, быць паўнавартаснай і роўнай нацыяй у сям'і іншых народаў.

Беларускі народ, у бальшыні сваёй яшчэ нацыянальна несьвядомы і амаль поўнасьцю нацыянальна пасыўны, у пэрыяд нашаніўскага адраджэньня выдаў зь сябе рад выдатных нацыянальных змагароў, якія ўсяцэла пасьвяцілі сябе справе нацыянальнага адраджэньня. Гэтыя людзі мелі глыбокую веру ў будучую перамогу свае ідэі, мелі шырокі палітычны кругазор і добра разумелі, як весьці нацыянальную справу. Аб іхнай нацыянальнай дасьпеласьці й палітычнай далёказоркасьці хай пасьветчыць хоць-бы той факт, што яны зразумелі вялізарную шкоду забыцьця народам ягонае слаўнае мінуўшчыны. Таму нашаніўскія паэты, а ў першую чаргу Янка Купала, стараліся ў сваіх творах адтварыць абразы мінулай славы й магутнасьці беларускага народу, каб гэтым узбудзіць у ім пачуцьцё сваей нацыянальнай годнасьці і ўзмоцніць веру ў будучыню.

Нашаніўскі рух яшчэ ня быў рухам масавым. У вельмі малой меры быў ён рухам палітычным. Гэта быў галоўным чынам рух культурны й нацыянальна-ўсьведамляльны. Але гістарычнае значаньне нашаніўства эпахіяльнае. Яно палажыла трывалкія асновы для ўсяго далейшага нацыянальнага руху й прыгатавала грунт для руху палітычнага.

І так у вапошняй фазе Першае сьветавое вайны й беспасярэдна пасьля яе заканчэньня беларускі нацыянальна-адраджэнскі рух пераходзіць у рух нацыянальна-вызвольны ды з руху адзінак і паасобных групаў становіцца ўжо масавым рухам. Гэты рух прыводзіць да скліка624ньня ў канцы 1917 году Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, які на праўных дэмакратычных асновах выказаў волю беларускага народу да вольнага й незалежнага жыцьця і да абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі векапомным Актам 25 Сакавіка 1918 году, 39-ю гадавіну якога і адзначаем сяньня. Беларускі народ цяпер упяршыню актыўна выяўляе сваю нацыянальную сілу й палітычную дасьпеласьць, бо ўсьлед за абвешчаньнем сваёй дзяржаўнасьці ахвярна падняўся на змаганьне за яе ажыцьцяўленьне й замацаваньне. Дзяржаўныя воргана незалежнай Беларусі знайшлі поўнае вызнаньне й падтрыманьне ў народзе, які выступіў з аружжам у руках у вабароне сваёй маладой рэспублікі, завяршаючы шматлікія збройныя акты за незалежнасьць Бацькаўшчыны слаўным Слуцкім паўстаньнем.

Калі-ж Беларусь была пераможаная перавагаю фізычнае сілы ворага і падзеленая няслаўным Рыскім мірам між бальшавікамі й Польшчай, беларускі народ і бальшавікоў, і Палякаў прыняў як сваіх ворагаў і ніколі не пагадзіўся з накінутай яму няволяй па абодвых баках Рыскае мяжы. Народныя думкі й настроі таго часу найлепш выказаныя словамі Якуба Коласа супраць паняволеньня й падзелу Беларусі, сказаныя ім у 1921 годзе:

*Сьціхні ты, змоўкні песьня пакуты,*
*Заварушыся наш край!*
*Люд беларускі, рві свае путы,*
*Новую песьню сьпявай!*
*Нас падзялілі! Хто? Чужаніцы!*
*Цёмных дарог махляры!*
*К чорту іх межы, к д’яблу граніцы!*
*Нашы тут гоні, бары!*[121].

Падзеі 1917–1920 гг. пераконліва паказалі, што зерне нацыянальнага адраджэньня было кінутае ў урадлівую глебу. Ня гледзячы на нязвычайныя цяжкасьці й перашкоды, яно хутка дало багатыя плады.

Але найвялікшая сіла беларускае нацыянальнае ідэі праявілася ў вапошні пэрыяд, калі Беларусь апынулася ў няволі маскоўскага бальшавізму. У часе да 1930 г., калі яшчэ існавала некаторая свабода беларускага нацыянальнага жыцьця й дзейнасьці ў БССР, Беларусы за няцэлае дзесяцігодзьдзе змаглі дабіцца такіх вялізарных дасягненьняў у кажнай галіне нацыянальнага жыцьця, для здабыцьця якіх звычайна патрабуецца ў некалькі разоў даўжэйшага часу. У галіне літаратуры, мастацтва, тэатру, музыкі, навукі й наагул нацыянальнае культуры Беларусь зраўнялася з найбольш разьвітымі народамі Савецкага Саюзу, але ў многіх выпадках дасягнула агульнаэўрапэйскага ўзроўню. Гэта быў час, калі Беларусь узыйшла на свае ўзвышшы!

Ад 1930 г. быў зьнішчаны ўвесь цьвет нацыянальнае інтэлігенцыі, нішчацца найвялікшыя культурныя здабыткі, трывае жорсткая забарона нацыянальнага жыцьця й творчасьці, праводзіцца прымусовая русыфікацыя краю. І ня гледзячы на ўсё гэта, беларускі народ не зламаўся духова, не пакарыўся перад ворагам, ня выракся сваей на-

[121] Недакладная цытата ўрыўкаў з верша Якуба Коласа “Беларускаму люду”.

цыянальнай ідэі. Апошнія месяцы й тыдні прыносяць што раз часьцейшыя весткі аб масавых актах супраціву савецкай уладзе БССР[122], аб дамаганьнях большае свабоды для разьвіцьця нацыянальнае культуры, аб дамаганьнях спыненьня русыфікацыі, аб антысавецкіх выступленьнях студэнцкае моладзі і інтэлігэнцыі.

Гэтак уся гісторыя беларускага нацыянальнага адраджэньня й нацыянальна-вызвольнага руху й змаганьня дае нам многа прыкладаў, што беларускі народ, які стыхійна імкнецца да свабоды й незалежнага жыцьця, зьяўляецца жыцьцяздольным, творчым і прагрэсуючым народам. Нацыянальная ідэя беларускага народу як найвышэйшая мэта ягоных духовых імкненьняў зьяўляецца сілай непераможнай і нязьнішчальнай. А гэта найлепшая зарука таго, што дзяржаўныя прынцыпы, выказаныя 39 год таму ў векапомным Акце 25-га Сакавіка, раней ці пазьней мусяць стацца рэальнай запраўднасьцю.

*П. Вішнеўскі*[123]

## Шляхі паняволеньня[124]

### I

Беларусы — народ з багатай і трагічнай мінуўшчынай. Нажаль, вялікі працэнт спаміж нас жудка мала ведае пра гэнае багатае мінулае і таму не разумее своесаблівага трагізму нашай гісторыі. Такі стан рэчаў толькі ў невялікай меры можна апраўдаць суровымі абставінамі нашага бытаваньня. Вядома, няспрыяльныя абставіны фізычна абмяжоўваюць разьвіцьцё беларускай культуры і вольнай нашай навукі, нярэдка ставячы яму гвалтоўныя запоры. Усё гэта — фізычная няволя, крывавыя кайданы якое народ наш, раней ці пазьней, разломіць, парве. У гэта мы верым, гэтага чакаем, на гэта працуем. Але ёсьць глыбейшая прычына нашых наяўных бедаў —

122 Магчыма, маюцца на ўвазе весткі, пададзеныя ў публікацыях: Запруднік, Я. Забурэньні ў Беларусі // Бацькаўшчына. № 8 (342). 24 лютага 1957; Бунт беларускага студэнцтва (З радыёвай хвалі "Голасу Амэрыкі") // Бацькаўшчына. № 11–12 (345–346). 25 сакавіка 1957 г.

123 **П. Вішнеўскі** — псеўданім Пётры Манькоўскага.

124 Беларус. № 122. Чырвень 1967. С. 2; № 123–124. Ліпень — жнівень 1967. С. 2.

прычына, што папяраджае ўсе іншыя, а якая ў мінулым не дазволіла нам сабрацца зь сіламі, каб ськінуць зь сябе ярмо няволі. Тэй прычынай ёсьць нябачная навонкі духовая няволя, у зрадным павуціньні якое шмат хто з нас затраціў шлях да шчасьця й свабоды.

Паняволеньне народнай душы выражаецца ў яе абцяжэньні чужароднымі наслаеньнямі, якімі адлажыўся ў ёй мут даўгіх вякоў складанага гістарычнага працэсу. Без разьняволеньня народнай душы, без папярэдняга яе ачышчэньня ад шкодных наносаў мінулага цяжка навет і думаць пра вызваленьне самога народу ад фізычнай няволі. На гэтым пункце, здаецца, нязгоды ў нас быць ня можа. Тэма духовага разьняволеньня беларускага народу далёка ня новая, але й ня простая.

Занятыя канкрэтнымі, прыземнымі пытаньнямі дня, мы прысьвячаем гэтай тэме вельмі мала ўвагі як праблеме пераважна тэарэтычнага значаньня. А тымчасам, як ужо адзначана вышэй, справа гэтая прынцыповая й вялікае практычнае вагі на далёкую мэту. Затым варта нам крыху ўважней застанавіцца над аснаўным пытаньнем: у чым-жа існасьць тае духовае няволі, у якую папаў наш народ?

З усіх тых навалаў, што ў мінулых вякох паношыліся на прасторы беларускага народу, галоўнымі былі — польскі й расейскі шавінізм і імпэрыялізм. Дзьве гэтыя нягодныя, узаемна варожыя сабе сілы, гнаныя на нашы землі з рознымі вятрамі, вякамі спаборнічалі ў дасягненьні аднае й тае самае мэты: авалоданьня нашым матарыяльным і духовым дабыткам шляхам паступовага абяздоленьня, зьняволеньня і вынішчэньня Беларусаў як самабытнае нацыі. Пры гэтым пускаліся ў ход усе даступныя сродкі зраднага подступу й гвалту, усе дасюль ведамыя чалавецтву мэтады ашуканства — пачынаючы ад хвальшывага “культуртрэгерства”, ведзенага нашым заходнім суседам пад рэлігійным плашчыкам у нязьменна варожым нам духу, ды канчаючы на ваенным разбоі ўсходняга ў імя ўтапічных прэтэнсіяў да *“ўсяе Русі”*, ізноў-жа ня без рэлігійнае прыкрасы. Як бачым, у працэсе заняволеньня беларускага народу рэлігійны фактар у розных формах быў шырака выкарыстаны ворагамі нашай свабоды. Рэч ясная, гэта не магло не пакінуць на душы народнай свайго атрутнага адбітку, які, як тое бяльмо на воку, заступіў нам праўду. Вось аб тым, якімі нягоднымі маніпуляцыямі ў далейшым і бліжэйшым мінулым суседзі нашыя

намагаліся разьбіць рэлігійную, культурную, сацыяльную й нацыянальную згуртаванасьць і салідарнасьць Беларусаў, мы й хочам тут крыху шырэй разгарнуцца.

Гістарычна першымі з прэтэнзіямі на нашы землі выступілі Палякі. Недзе каля 1385 г. Палякі зрабілі лоўкі дэмарш у вялікага князя літоўскага Ягайлы[125] — чалавека слабога характарам, які чуўся няпэўнена на вялікім княжым пасадзе пасьля падступнага забойства свайго выдатнага дзядзькі в. кн. Кейстута[126]. Вось гэтаму Ягайле Палякі й пасулілі ўладу й гонар вялікі: самую карону польскую разам з маладой каралевай узамен за далучэньне (інкарпарацыю) Літвы[127] да Польшчы і іншыя прывілеі. Ягайла не знайшоў сілы супраціўляцца спакусе й згадзіўся на ўсе чыста дамаганьні Палякаў, аддаўшы ім бяз торгу самога сябе і ўсю вялічэзную прастору Літвы. Згодна тагачасных звычаяў і правоў, ён мог гэта зрабіць як поўны й неабмежаваны гаспадар Вялікага Княства.

І хоць у выніку бунту, што неўзабаве выбухнуў у Літве й на чале якога стаў Кейстутаў сын Вітаўт[128], Палякам так і не давялося пажывіцца "на дармака", а Ягайле фактычна прыйшлося зрачыся Літвы ў карысьць энэргічнага Вітаўта, усё-ж з таго часу Палякі ўхітрыліся ўсталявацца ў нас на зусім іншай дарозе. Палітычна яны былі змушаны адступіць, бо, як ведаем, да інкарпарацыі ніколі не дайшло. Але ў выніку Крэўскае ўмовы[129] яны пакінулі ў Літве свой

---

[125] **Ягайла** (катал. **Уладзіслаў**, каля 1348–1434), вялікі князь літоўскі (1377–1392), кароль польскі (1385–1434), заснавальнік дынастыі Ягелонаў.

[126] **Кейстут** (1297–1382), вялікі князь літоўскі (1381–1382), сын Гедыміна, бацька Вітаўта. Паводле "Летапісца вялікіх князёў літоўскіх", князь Кейстут быў задушаны каморнікамі Ягайлы.

[127] Аўтар ужывае тэрміну Літва ў яго арыгінальным, гістарычным значаньні стара-беларускай дзяржавы, Вялікага Княства Літоўскага. На азначэньне-ж тае часткі калішняга Вялікага Княства, якая сяньня мянуе сябе "Летувай", аўтар таксама ўжывае яе запраўднага гістарычнага назову — Жамойдзь. Яшчэ аўтар уважае, што трэба захаваць нязьменным гістарычнае напісаньне такіх старых словаў, як Літва, Літве, Літвін, княстве і т. п. Усё гэта неабходна, каб супроцьдзеяць хвальшаваньню нашай гісторыі й блытаніне, уведзенай у яе варожымі нам дзейнікамі. — *Заўвага П. Вішнеўскага.*

[128] **Вітаўт** (1350–1430), вялікі князь літоўскі (1392–1430). Адзін з найбольш вядомых кіраўнікоў Вялікага Княства Літоўскага, яшчэ пры жыцці празваны Вялікім.

[129] Маецца на ўвазе **Крэўская унія** — дынастычнае пагадненне паміж Каралеўствам Польскім і Вялікім Княствам Літоўскім, заключанае ў 1385 г.

моцны фарпост — польскі каталіцызм, які, кляшчом упіўшыся ў цела нашага народу, да канца верна служыў *“Богу й Польсцэ”*, толькі ня нам, ня Літве-Беларусі[130].

Палякі йшлі тут сьледам за нямецкімі першаўзорамі. Яны дабіваліся на Літву, каб папярэдзіць Немцаў у іхным *“дранг нах остэн”*[131]. А зайздруючы вялікай і рэальнай карысьці, якую Немцы мелі з таго, што на захадзе пускалі людзям дым у вочы, прадстаўляючы сябе місіянэрамі-крыжаносцамі, пашыральнікамі *“праўдзівай веры”*, хоць іхняй запраўднай мэтай было заваяваньне й германізацыя ўсходніх абшараў. Палякам хацелася іх у гэтым перавысіць. І вось ардынарнай нямецкай падробцы каталіцызму яны супроцьставяць польскую. І трэба ім прызнаць, што ў гэтай бязглуздай прафанацыі рэлігіі яны пакінулі Немцаў далёка за сабою. Бо калі пасьля Лютаравай[132] рэфармацыі Немцы наважна й назаўсёды адмовіліся ад гэтай нізкай гульні, Палякі ад яе па сяньняшні дзень ачуняць ня могуць. Ім цяжка забыцца на тое, як польскі каталіцызм калісь уратаваў іхную, здавалася ўжо прайграную справу ў Літве, калі ў выкананьне пастановаў крэўскага акту Ягайла сам і ўвесь вялікакняжы род ды бальшыня знатных магнацкіх радоў Літвы ўласьцівай[133] пакінулі “грэцкую” веру, як тады афіцыйна звалі праваслаўе, і прынялі “рымскую”, а каталіцкія біскупы-Палякі адразу атрымалі пачэснае месца ў вялікакняжай радзе. Усё гэта дало польскай стыхіі воль-

---

Паводле яго вялікі князь Ягайла меўся ажаніцца з польскай каралевай Ядвігай, сваякі Ягайлы і набілітэт Княства меліся прыняць каталіцтва, а землі Княства далучаліся да земляў Каралеўства Польскага.

[130] Сваімі, мясцамі войстрымі, выступленьнямі пра польскі каталіцызм аўтар ня мае ніякага намеру панізіць у чым-небудзь каталіцкае веравызнаньне як такое і ўважае за патрэбнае падчыркнуць гэтта сваю глыбокую пашану да яго. — *Заўвага П. Вішнеўскага.*

[131] ***Drang nach Osten*** (ням.) — даслоўна “націск на Усход”, выраз, што з’явіўся ў сярэдзіне XIX ст. і актыўна выкарыстоўваўся ў Нямеччыне другой паловы XIX — першай паловы XX ст. для вызначэння нямецкай экспансіі на ўсход, у тым ліку і для пашырэння жыццёвай прасторы немцаў.

[132] **Марцін Лютэр** (ням. *Martin Luther*, 1483–1546), нямецкі багаслоў, пачынальнік рэфармацыйнага руху ў Еўропе ў XVI ст.

[133] Тэрыторыя г. зв. Літвы ўласьцівай прыблізна супадала сваімі межамі зь дзяржавай Гедыміна за выключэньнем зямлі Полацкай і Віцебскай, якія, маючы асобныя чартары-канстытуцыі, належалі да Вялікага Княства на правах аўтаномных акругаў. Жамойдзь да Літвы ўласьцівай ніколі не залічалася. — *Заўвага П. Вішнеўскага.*

ны доступ да самага сэрца Вялікага Княства і запэўніла ёй сталы, паралізуючы ўплыў на вядучы пласт літоўскай грамадзкасьці.

Вось з гэтых вылучна спрыяльных пазыцыяў Палякі й павялі свой ціхі наступ на наш народ, каб *"чорным ходам"* дапяць таго, чаго ім не ставала сіл узяць франтавой атакай. Згодна зь яўна палітычным характарам сваіх намаганьняў, польскае каталіцтва скрозь усіх 400 год свайго дзеяньня ў Літве не паддалося літвінізацыі (г. зн. беларусізацыі) ані на чутачку, застаўшыся рэлігіяй наскрозь чужой і варожай да народу, сярод якога яна пашыралася.

Сяньня неяк дзіўна гучыць такая характарыстыка хрысьціянскай інстытуцыі: на сучасным захадзе цяжка ўявіць такую Царкву. У тыя-ж далёкія часы, калі голас Царквы высока паважалі й слухалі яго ня менш, а часта й больш, чымся голасу сьвецкай улады, пранікненьне на нашыя землі так дасканала замаскаванай агентуры дало пачатак у Літве духоваму, сацыяльнаму й палітычнаму закалоту такой сілы, што нашы прадзеды не змаглі даць яму паважнага адпору, хоць змаганьне зь ім практычна ніколі ня спынялася аж да страты незалежнасьці ў канцы 18-га веку. Пашырэньне польскага каталіцызму ў нас азначала пашырэньне польскай асьветы, польскай мовы, польскай культуры. На ўсіх гэтых дзялянках і разгарэлася было войстрае змаганьне польшчыны зь літоўскай, нашай тагачаснай, стыхіяй, якая той парой у шмат чым перавышала польскую. У пляне гэтага 4-ох вяковага цяжкага змаганьня й трэба разглядаць гісторыю Літвы, ад пакту ў Крэве пачынаючы. Толькі разумеючы і ўлічваючы палітычны клімат краіны ў розныя пэрыяды, можна даць правільную інтэрпрэтацыю сухім гістарычным фактам. А змаганьне з наступам польшчыны было адным з галоўных вызначнікаў палітычнага клімату Літвы тых часоў.

Дасюль нам невядомыя дакладныя прычыны, чаму наш слаўны першадрукар, др. Фр. Скарына[134], мог пасьпяхова выдрукаваць звыш 20 кніг у Празе чэскай, а калі перабраўся ў сваю родную сталіцу Вільню — дык толькі дзьве… Чаму зьліквідавалася там ягоная друкарня? Чаму ён ня мог узнавіць яе дзейнасьці? Чаму была зачынена хвабрыка паперы, што ўжо тады існавала ў Вільні? Ды ўрэшце чаму й кім наш вялікі зямляк і патрыёта быў змушаны ўцякаць зь Вільні за мяжу? Ведаем, што магутныя й выдатныя людзі

[134] **Францыск Скарына** (каля 1490 — каля 1551), гуманіст, асветнік, беларускі першадрукар.

таго часу стараліся ўступіцца за пакрыўджанага вучонага, што кароль Жыгімонт Стары[135] з гэтай мэтай навет выдаў быў яму свой *“зялезны ліст”*. Але чамусьці навет і з тым лістом др. Скарына ня важыўся вярнуцца на бацькаўшчыну, а каратаў свае дні на чужыне. Ці запраўды такому чалавеку ня было чаго рабіць у Літве таго часу? І ці ня было каму там яго абараніць ды наагул памагчы яму? Цяжка даць пакуль што канкрэтныя й задавальняючыя адказы на гэтыя й шмат іншыя пытаньні. Але правільнае ўсьведамленьне сабе агульнага фону, на якім разыграваліся тыя далёкія падзеі, павінны памагчы нам зразумець і жалю годны лёс нашага вялікага прасьветніка, і адважнага шукальніка новых шляхоў разьвіцьця нашай нацыянальнай культуры. А ягонае выгнаньне з роднага краю трэба ўважаць за доказ таго, што ўжо ў тую пару вольнаму разьвіцьцю гэтае культуры ставіліся немалыя перашкоды.

Апанаваць Літву Палякі маглі спадзявацца толькі пасьля яе поўнага паслабленьня. Вось з гэтай мэтай яны й карысталіся тым рэлігійна-палітычным калуном, каб адшчапіць ад нашага здаровага народнага пня адзін па другім грамадзкі пласт. Калі ім не ўдаецца гэта з магнацкім станам — які, хоць і акаталічыўся, ды ўсё-ж застаўся да канца горача патрыятычным і верным абаронцам незалежнасьці Літвы — яны зьвяртаюцца да сярэдняга стану, і тут ім неспадзявана павязло: засьлепленыя міражамі ўлады і эксклюзыўнымі прывілеямі, літоўская шляхта запраўды здрадзіла свайму народу й дзяржаве, стаўшыся паслухмянай прыладай польскай палітыкі ў рэалізацыі яе галоўнай ідэі — інкарпарацыі Літвы ў Карону Польскую. Польская акцыя сярод разагітаванай літоўскай шляхты і контракцыя патрыятычных дзейнікаў у гады перад Люблінскай вуніяй[136] давялі былі край наш на бераг поўнага палітычнага, гаспадарчага й мілітарнага хаосу. І запраўды, Літва аслабела нагэтулькі, што, ня гледзячы на колькі бліскучых перамог над ворагам, ёй стала не па сіле змагацца супроць узбуйнелай і абнаглелай Масквы, якая з канца 15-га веку пачала свае разбойніцкія набегі на нашы ўсходнія рубяжы, адрываючы ад Літвы ўсё боль-

[135] **Жыгімонт I Стары** (1467–1548), вялікі князь літоўскі і кароль польскі (1506–1548).

[136] **Люблінская унія** — акт федэрацыйнага аб’яднання дзвюх дзяржаў Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага ў Рэч Паспалітую абодвух народаў, зацверджаны на Люблінскім сойме ў 1569 г.

шыя й большыя абшары. Так за ўтратай нацыянальнага твару і ідэі насоўвалася здань фізычнай няволі.

Ад зараньня вякоў польскі наступ на Літву вёўся і па лініі хвальшаваньня нашай гісторыі. Сяньня можна сказаць з пэўнасьцяй, што гэнае хвальшаваньне было важным фактам у духовым паняволеньні нашага народу. Вось з такой мэтай Палякі падхапілі былі і пачалі рупна пашыраць легенду пра быццам рымскае паходжаньне Літвіноў[137]. Бязумоўна, не залежыла ім у гэтым на вывышэньні Літвіноў. Важным у гэтай басьні было тое, што яна суліла, быццам запраўднымі, першапачатнымі Літвінамі былі не славянскія плямёны (сяньняшнія Беларусы) Віленшчыны й Наваградчыны, а жыхары тае поўдзікай Жамойдзі, у мове якой можна дашукацца сякой-такой гукавой сходнасьці зь мёртвай лацінай. Стоячы блізка да вялікага князя — асабліва за Ягайлы й Вітаўта, якія шырока карысталіся ўслугамі вучоных "лацінянікаў" — Палякі паступова ўводзяць немалую блытаніну ў нашу тэрміналёгію, хоць наагул у афіцыйных дзяржаўных дакумэнтах Вялікага Княства Жамойдзь, Літва (сяньняшняя Беларусь) і Русь (сучасная Украіна) заўсёды дакладна разьмяжоўваюцца.

Але гэта не перашкаджала далейшаму пашырэньню лягенды ўжо намаганьнямі не Палякаў, а хутчэй іхных ворагаў, якія хапіліся за ўсё, абы нечым Палякаў панізіць… Як ня дзіва, а кампанія гэная дала свой кур'ёзны вынік: хоць дакумэнты й факты сьветчаць нязьбіта, што Жамойдзь ня толькі ня прымала ніякага ўдзелу ў тварэньні літоўскага гаспадарства, ня толькі каля 2-х вякоў зацята працівілася далучэньню да Літвы, але, калі ўрэшце і апынулася ў яе межах (1411 г.), ніколі ня спыніла ўпарта падкрэсьліваць свайго сэпаратызму — ды ўсё-ж, нягледзячы на ўсё гэта, пачалі Жамойцаў, а ня нас зваць *"запраўднымі Літвінамі"*!

Так сьціралася імя наша із старонак гісторыі. Але "заслугі" ў гэтай справе прыходзіцца прыпісаць не адным толькі Паляком. З выдатнай дапамогай прыйшла тут Масква, у інтарэсе якое заўсёды ляжала ачышчэньне ад лішняга грузу гісторыі і народных традыцыяў. У нішчэньні ўсяго, што беларускае, ворагі нашы заўсёды знаходзілі магчымасьці да супрацоўніцтва.

---

137 Маецца на ўвазе легенда пра Палемона — міфічнага родапачынальніка дынастыі літоўскіх князёў, што нібыта ўцёк з Рыма ў час Нерона. Пра яго пісаў Мацей Стрыйкоўскі, а таксама "Хроніка Быхаўца".

## II

Храналягічна другім у гісторыі прэтэндэнтам на нашы душы і на нашы землі выступіла Масква. Гэтай незавіднай сваёй ролі, перанятай яшчэ зь сярэднявечча, яна зацята трымаецца й па сяньняшні дзень. І тут, паралельна з плянамі мілітарнага разбою, у якіх лоўка выкарыстоўваецца паступовае аслабленьне Літвы пасьля яе вуніі з Польшчай, вораг разьвівае своесаблівую стратэгію духовага паняволеньня нашага народу. Зусім падобна, як і з польскім экспансіянізмам, найстарэйшым і бадай найважнейшым фактарам у гэнай стратэгіі быў фактар рэлігійны. Пачалося яно было ад пераносу праваслаўнай мітраполіі з разбуранага Татарамі Кіева ў Уладзімер над Клязьмай, адкуль яе й прыгалубілі да сябе маскоўскія князі яшчэ ў пачатку 14-га веку, каб лепш процідзеяць уплывам новапаўсталай літоўскай мітраполіі зь сядзібай ў Наваградку (1291). Вось так Масква імкнулася ўгрунтаваць ня толькі свае прэтэнзіі на стара-рускую, кіеўскую рэлігійную спадчыну, але й на ролю прадаўжальніцы гэных традыцыяў, гістарычнай часткай якіх яна фактычна ніколі й ня была.

Так пасеена было зерне ідэі зьбіраньня зямель *“всея Русі”* пад сьцяг Масквы. І дармо, што нашы гістарычныя дачыненьні да калішняе кіеўскае дзяржавы былі амаль заўсёды нэгатыўнымі, а часта і адкрыта варожымі, чым мы зусім справядліва вылучаем сябе з кола гістарычнае традыцыі Кіеўскае Русі — Масква з гэтым ніколі не пагаджалася. У гэтым выпадку яна да нас моцна шчодрая: яна ўважае нас у гэным коле нароўні із сабою і ўсім славянскім усходам Эўропы. Гэта, бязумоўна, вельмі-ж далёка ад гістарычнае праўды, але гэтае крытэрыі Масква ніколі не прызнавала. А справы так дасюль укладаліся, што яна магла сабе пазволіць яе зусім ігнараваць. Затое вякамі тарнаваўся да нас Масквою іншы, прасьцейшы і больш выгадны прынцып *“рускай веры”*. Паколькі атрымалі мы яе цераз стары Кіеў, а Масква “замацавала” за сабою спадчынныя правы на ўсё кіеўскае, такім чынам і нам дарога ў адзін кацёл… Разумаваньне зусім яснае, нескладанае. А практычная яго вартасьць для Масквы ўсьцяж замацоўвалася з разьвіцьцём гістарычных падзеяў.

Так ужо з зараньня вякоў гісторыя рэгіструе спробы Масквы ўмешвацца ў справы Праваслаўнай Царквы ў Літве. Пры дапамозе Татараў — магутных таго часу — яна вядзе бясконцыя інтрыгі

ў Канстантынопалі з мэтай поўнай ліквідацыі або прынамся падпарадкаваньня сабе літоўскай мітраполіі. Намаганьні гэныя не асталіся бяз шкодных для нашай Царквы вынікаў. Крэўскі акт і ў гэтай справе стаўся паваротным пунктам: пасьля 4-х вякоў свабоднага і буйнага росквіту праваслаўнага веравызнаньня на нашых землях яно раптам страціла ўсе свае прывілеі, увесь бляск дзяржаўнай рэлігіі і апынулася пад нагонкай, а нават перасьледам. У ваблічча жорсткага наступу на нас польскага каталіцызму, мы няўпрыцям сабе адсланілі былі свой духовы флянк пад узмоцненую маскоўскую атаку.

І Масква не занядбоўвае нагоды. *"Праваслаўныя цары"* і ўладыкі маскоўскія ўсімі даступнымі ім сяродкамі стараюцца ўплываць на лёс праваслаўных у Літве, прадстаўляючы сябе адзінымі *"праўдзівымі"* рэпрэзэнтатамі і абаронцамі *"рускай веры"*, так дабіваючыся ўтоесамленьня ў народным разуменьні паняцьцяў "рускі" і "праваслаўны" з "маскоўскім". Ня можа быць найменшага сумлеву, што ў Царкве нашай тых часоў гэтыя маскоўскія ўплывы былі пусьцілі свае карані. Мела гэта й свой пазытыўны вынік: каб супроцьдзеяць варожай агітацыі сярод праваслаўнага жыхарства, літоўскі ўрад быў змушаны ня толькі прыцішыць акцыю польскага каталіцызму, але канчаткова зраўняць у правох праваслаўных грамадзян Літвы з каталікамі. Але блізу два вякі (1385–1563) поўнай дыскрымінацыі й стала паддуванай маскоўскай карупцыі не прайшлі бясьсьледна. Царква наша паступова затрачае пачуцьцё велічы свае місіі ў народзе, што калісь адухаўляла яе вялікіх прапаведнікаў і асьветнікаў. Яна ўсё больш і больш падпадае пад уплыў апастылага маскоўскага рэлігійнага фармалізму. Утрыманьне непарушнай формы-канону ставіцца вышэй усяго іншага, і таму яна войстра супраціўляецца найменшым спробам мадэрнізацыі ці рэформы яе старых парадкаў. Парушэньне ролі старaславяншчыны ў вабрадах і царкоўнай пісьменнасьці асуджаецца, як ерась. Гэтым і прыходзіцца выясьніць той факт, што перакладзеныя на старабеларускую мову др. Ф. Скарыною кнігі Бібліі ня толькі ня былі прыхільна сустрэтыя Царквою, але яўна ёю перасьледаваліся й нішчыліся. У гэтым мы бачым сумную эвалюцыю Царквы: з Царквы-прасьветніцы старых часоў яна ўжо зьмянілася ў Царкву беспрасьвецьця, самазадаволеную, гатовую служыць таму, хто запэўніць яе прывілеі. Усё гэта яшчэ больш пагаршала цяжкі стан нашай Царквы, у якім яна

знайшлася бязумоўна не з сваёй віны: польскі каталіцызм пазбавіў яе ўрадавай падтрымкі, а маскоўскі фармалізм стаў на перашкодзе яе прыбліжэньню да народнай стыхіі. Так, астаўшыся без апірышча, Царква пачала нямінуча заняпадаць.

Вось, як відаць, каб неяк аздаравіць зьнямоглую нашу Царкву, ды разам даць адпор як заходнім, так і ўсходнім прэтэндэнтам, герархі Царквы пайшлі на запраўды радыкальныя меры: прызнаньне аўтарытэту папы рымскага з захаваньнем поўнай аўтаноміі й старых абрадаў (1596)[138]. Але пара была ўжо вельмі позная, а грунт падмінаваны. І таму гэты станоўкі крок герархаў ня сустрэўся зь вялікім падтрыманьнем ні сярод ніжэйшага духавенства, ні ў шырокіх неасьвечаных народных масах, г. зн. там, дзе, побач з глыбокай прывязанасьцяй да традыцыяў і старыны, жыў і забабонны недавер, а навет і страх перад тым грозным Рымам, які з боку польскага каталіцызму прадстаўляўся гэным масам як бязьлітасная захопніцкая сіла, а ізноў-жа з боку Масквы — як нешта зусім нялюдзкае, дэманічнае, пагражаючае зьнішчэньнем старой “рускай” веры. Так рыхтавалася сцэна пад найбольш трагічныя падзеі нашай гісторыі: заміж адной злучанай Царквы, якая спатрэбілася-б народу пад тую пару, іх у нас аказалася ажно тры. Польска-каталіцкая, якая ні ў чым не хацела паступацца із здабытых пазыцыяў; новая вунійная, якая больш за ўсё насаджалася зьверху актамі адміністрацыйнага парадку, бязь вялікай увагі на настрой жыхарства; ну й старая праваслаўная, канчальна разбураная й часова пазбаўленая сваіх герархаў, а таму ўжо цалком здадзеная на ўспамогу “прававерная” Масквы. Апошні факт заслугоўвае на больш увагі з боку гісторыка: незалежна ад усіх складаных рэзультатаў Берасьцейскай вуніі, якія клічуць свайго дасьледчыка, адзін ускосны яе вынік ня выклікае сумлеваў, а гэта што яна канчальна “ўзаконіла” ролю Масквы як апякункі праваслаўя ў Літве. Гэта быў канец нашай старой праваслаўнай Царквы і пачатак духовага паняволеньня нашага народу Масквою. Як бачым, яно прыйшло да нас на цэлыя два вякі раней за палітычнае паняволеньне (1795)[139].

---

[138] Маецца на ўвазе Брэсцкая царкоўная унія 1596 г.

[139] Маецца на ўвазе Трэці падзел Рэчы Паспалітай 1795 г., у выніку якога дзяржава спыніла існаванне, а беларускія землі апынуліся ў складзе Расійскай імперыі.

Паміж тымі трыма Цэрквамі ў нас і сіламі, што іх успамагалі, ішла бязупынная вайна, у якой прымалі актыўны ўдзел усе палітычныя дзейнікі таго часу: апалячаныя ўрадавыя колы і ўплывовыя асобы, неапалячаныя праваслаўныя магнаты, князі, шляхта, ну й народныя масы, асабліва па гарадох, дзе сукрытая рука Масквы дзеіла найбольш эфэктыўна. Шмат дзе даходзіла да бунтаў разагітаванага натоўпу. У часе аднаго з такіх бунтаў у Віцебску ў 1623 г. быў забіты Полацкі — тады ўжо вуніяцкі — архіяпіскап Язафат[140]. Хоць жахлівае гэта здарэньне шмат каго было ацьверазіла, усё-ж яно не палажыла канцу зацятаму, падсычанаму з варожых нам бакоў змаганьню: калі ў Рыме на аснове цудаў, што здарыліся пры гробе мучаніка, абвесьцілі яго сьвятым, другі бок не астаўся ў даўгу, прадстаўляючы яго як увасабленьне ўсяго найгоршага, ці ня самай нячыстай сілы… І так яно вядзецца аж па сяньняшні дзень. А тымчасам народ наш, апынуўшыся пасяродку між варожымі сабе сіламі, усё яшчэ ня ведае, каму верыць, з чым пагадзіцца, як аднесьціся да накіненай яму рэчаіснасьці. І запраўды, і сягоньня мы ўсё яшчэ пакорна йдзем сьледам то за адным бокам, то за другім, паўтараючы бяскрытычна тое, што нам нехта скажа, а свайго ўласнага беларускага слова ў гэтай справе ня важымся сказаць. Гэта, бясспрэчна, адно із самых сільных духовых путаў, заціснутых ворагам на нашай народнай душы.

Але ў канчальным разьліку ўсё гэта выглядае адно скромнай падрыхтоўкай да тых страшных выпрабаваньняў, якія абрушыліся на нас у першай палавіне 20-га веку. Царызм, нягледзячы на ўсе ягоныя натугі й зьдзекі над намі за больш чым чатыры вякі, ня змог ані падарваць нашай біялягічнай субстанцыі, ані нарушыць багатага скарбу старавечных традыцыяў, якімі народ быў справедку цьвёрда ўрослы ў родную глебу. У карані сваім народ аставаўся жывучым і здаровым у ядры — гатовым успрыяць і закрасаваць на першы пробліск сонца свабоды. Так яно і сталася, як ведаем, таго памятнага дня 25-га Сакавіка 1918 г. Але добра ведамы нам і сумны эпілёг гэнага слаўнага ўздыму ды роля, якую сыграла ў ім ужо на чырвана замаскаваная Масква, што дзеля поўнага духовага й фізычнага зьняволеньня Беларусі хапілася ўжо зусім новых, нялюдзкіх мэтадаў, праўда, ня грэбуючы й старымі. […]

---

140 **Язафат Кунцэвіч** (1580–1623), царкоўны і палітычны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, актыўны прыхільнік і распаўсюднік уніі, за што і быў забіты, прылічаны да святых Каталіцкай царквой.

*Язэп Каранеўскі*[141]

## За іншую канцэпцыю беларускае вонкавае палітыкі
### Да артыкулу А. Дзіды[142] “Сучасныя праблемы беларускае вонкавае палітыкі”[143]

У цэлым радзе папярэдніх нумароў “Бацькаўшчыны” быў надрукаваны вялікі артыкул А. Дзіды “Сучасныя праблемы беларускае вонкавае палітыкі”, што быў прысьвечаны гэтаму так важнаму і, трэба прызнацца, яшчэ не распрацаванаму ў нас пытаньню спэцыяльны артыкул, у якім аўтар намагаўся прадставіць у вагульных рысах цэласьць праблемы, зьяўляецца зьявішчам карысным. Тым ня менш, аднак, яно вымагае далейшага паглыбленьня й папаўненьня, бо задаволіцца канцэпцыяй нашай вонкавай палітыкі, запрапанаванай Дзідам, нельга.

Нельга таму, што аўтар гэтае пытаньне насьветліў даволі аднабакова й схэматычна, запрапанаваўшы адну адзіную канцэпцыю будучай міжгаспадарстваўскай сувязі паняволеных бальшавізмам народаў, не ўзяўшы пад увагу магчымасьці ўзьнікненьня розных канцэпцыяў, якія бясспрэчна могуць паўстаць незалежна ад нашай волі, а якія могуць быць для нас ня менш выгаднымі, чымся тыя, што запрапанаваў Дзіда.

Аўтар правільна сьцьвярджае, што ніводзін народ сярэдня-эўрапэйскага кантынэнту, знаходзячыся ў кляшчох расейскага й нямецкага імпэрыялізму, ня зможа собскімі толькі сіламі здабыць і ўтрымаць свае незалежнасьці, але мусіць свае сілы злучыць із сіламі іншых народаў. І таму будучае вызваленьне й незалежнасьць разглядаюць сяньня палітычныя дзейнікі гэтых народаў толькі ў рамках будучых больш ці менш цесных міжгаспадарстваўскіх сувязяў з мэтаю іхнае пасьпяховае абароны перад імпэрыялістычнымі наступамі і ў мэтах узаемнага супрацоўніцтва. Вось-жа

---

141 ***Язэп Каранеўскі*** — псеўданім Станіслава Станкевіча.

142 Дакладна невядома, хто хаваўся пад гэтым псеўданімам.

143 Бацькаўшчына. № 39 (49). 12 сьнежаня 1948. С. 2–3. Адказ на тэкст: Дзіда, А. Сучасныя праблемы беларускае вонкавае палітыкі // Бацькаўшчына. № 33 (36). 24 кастрычніка 1948. С. 2–3; № 34 (37). 31 кастрычніка 1948. С. 2–3; № 35 (38). 7 лістапада 1948. С. 2–3; № 36 (39). 11 лістапада 1948. С. 2.

за такую канцэпцыю беларускае вонкавае палітыкі ўважае аўтар блёк дзяржаваў цэнтральнае, паўдзённае і ўсходняе Эўропы. У гэты блёк мелі-б увайсьці на правох роўнапраўнасьці наступныя дзяржавы: Альбанія, Сэрбія, Харваччына, Славэнія, Грэцыя, Баўгарыя, Румынія, Мадзяршчына, Чэхія, Славаччына, Польшча, Прыбалтыка (найменш Летува), Беларусь, Украіна, Вольная Казацкая Дзяржава, Паўночны Каўказ, Грузія, Арменія і Айзербайджан. І на гэтым аўтар ставіць кропку, уважаючы гэтую канцэпцыю за адзіна правільную для нас, якой і трэба трымацца ў нашай вонкавай палітыцы.

І вось у гэтай адзіночнасьці й вылучнасьці й крыецца ўся аднабаковасьць і схэматызм канцэпцыі, запрапанаванай Дзідай. Бо ці-ж не формальным толькі схэматызмам будзе выключэньне із свае канцэпцыі Фінляндыі, а праўдападобна й паўночнай Балтыкі (Эстоніі й Латвіі), а ўводжаньне народаў Закаўказьзя, тады, калі гэтыя апошнія ані чуць ня больш зьвязаныя зь сярэдня-эўрапэйскім кантынэнтам, чымсьця й першыя?

Як ведама, ужо сяньня існуе рад розных канцэпцыяў будучага міждзяржаўнага арганізму народаў, а напэўна ў будучыні паўстане іх яшчэ больш. А якая зь іх пераможа, будзе залежыць ад многіх, непрадбачаных сяньня дзейнікаў, часта зусім ад нас незалежных ды навет незалежных ад усіх партнэраў дадзенай канцэпцыі ўзятых разам. Вось таму мы не павінны сябе зьвязваць сяньня з аднэй нейкай канцэпцыяй, а мусім весьці нашую вонкавую палітыку больш гібка й элястычна.

Замест тады зьвязаць сябе з аднэй нейкай канцэпцыяй і сьлепа яе трымацца, лепш змагацца за такія аснаўныя прынцыпы нашае вонкавае палітыкі, якія пры кажнай магчымай канцэпцыі загарантавалі-б нам вольнасьць нашае Бацькаўшчыны й забясьпечвалі-б нас перад новымі імпэрыялізмамі. За такія аснаўныя прынцыпы трэба ўважаць тры наступныя:

1. Беларусь як незалежная дзяржава можа ўваходзіць толькі ў такую міждзяржаўную канстэляцыю, якая творыцца на добраахвотных раўнапраўных асновах, адкідае супрамацыю аднаго народу над другім, вызнае кажнаму народу роўныя правы на дзяржаўную незалежнасьць у ягоных этнаграфічных межах ды выключае міжсобныя імпэрыялістычныя тэндэнцыі ў рамах супольнага міждзяржаўнага арганізму. Бо трэба з жалем сьцьвердзіць, што спасярод некаторых

паняволеных бальшавізмам народаў імпэрыялістычныя тэндэнцыі і імкненьні да няпрошанай “апекі” аднаго народу над другім яшчэ так моцныя, што аб іх разьбіваюцца ўсякія спробы запраўднага задзіночаньня гэтых народаў вакол тае ці іншае фэдэральнае ідэі. І дзеля гэтага ўсякія канцэпцыі будучых міждзяржаўных сувязяў вольных народаў па-за рамы фармальнага дактрынэрства яшчэ ня выйшлі й ня сталіся агульнай, задзіночваючай усе зацікаўленыя народы ідэяй.

2. Аснаўным прынцыпам такой канцэпцыі мусіла-б быць імкненьне да распадзелу расейскае імпэрыі на нацыянальныя гаспадарствы заваяваных і паняволеных ею народаў. Бяз гэтага ня можа быць мовы ня толькі аб незалежнасьці Беларусі, Украіны, Казакіі, Прыбалтыкі, г. зн. краёў, што непасрэдна мяжуюць з этнаграфічнай Расеяй, але і ўсіх іншых народаў, што мрояць сяньня аб вызваленьні з-пад маскоўскага ярма. Таму нязвычайна блізарукай і фальшывай ёсьць, прыкладам, палітыка польскіх эндэцкіх колаў, якія, верныя прарасейскай лініі свайго ідэялягічнага правадыра Р. Дмоўскага[144], яшчэ й сяньня высказваюцца за супольныя граніцы зь вялікай й непадзельнай Расеяй, ня гледзячы на тое, што такая Расея зьяўляецца бадай адзінай прычынай ужо чацьвёртага захвату Польшчы. Непадзельная Расея ў сяньняшні пэрыяд вызваленьня і ўнезалежаньня ўсіх рознакалёравых народаў і вызнаньня за імі былымі іхнымі панявольнікамі ўсіх сувярэнных правоў, зьяўляецца крычучым анахранізмам, супярэчным з дэмакратычнымі ідэямі сяньняшняе эпохі.

3. Трэйцім аснаўным прынцыпам нашае вонкавае палітыкі ёсьць належаньне да такой канцэпцыі, якая была-б найбольш рэалістычнай і найлепей адказвала-б усім нашым нацыянальным патрэбам ня толькі палітычным, але й культурным, цывілізацыйным,

[144] Маецца на ўвазе **Раман Станіслаў Дмоўскі** (пол. *Roman Stanisław Dmowski,* 1864–1939), польскі палітычны дзеяч, публіцыст. У ліпені 1917 г. падаў англійскаму ўраду мемарыял “Упарадкаванне Цэнтральнай і Усходняй Еўропы”, у якім акрэсліваў межы будучай Польшчы. Паводле гэтага праекта ўся Заходняя і Цэнтральная Беларусь уваходзіла ў склад польскай дзяржавы, усходняя мяжа якой праходзіла па так званай лініі Дмоўскага. Адначасова Раман Дмоўскі распрацаваў асновы нацыянальна-дзяржаўнай арганізацыі Другой Рэчы Паспалітай на падставе канцэпцыі інкарпарацыі. У 1923 г. ён быў міністрам замежных спраў Польшчы. Быў у апазіцыі да Ю. Пілсудскага.

гістарычным і гаспадарскім. У гаспадарскіх, прыкладам, дачыненьнях пры плянаваньні будучае незалежнае Беларусі нельга абмінуць такога важнага мамэнту, як доступ да мора. Гэты доступ можа быць пасярэднім ці непасрэднім, або адным і другім разам. Пасярэднім ён можа быць пры помачы цеснай сувязі зь Летувай і Латвіяй, тым больш, што цераз гэтыя краіны йдуць нашыя водныя шляхі: Нёман цераз Лятуву й Дзьвіна цераз Латвію. Добрай магчымасьцю непасрэднага нашага доступу да мора ёсьць цераз прылучэньне да Беларусі тэй часткі Ўсходняе Прусіі з Кэнігзбэргам, якая сяньня прылучаная да РСФСР, ня гледзячы нат на тое, што з гэтай апошняй зусім не гранічыць. Гэтую магчымасьць прадугледзіла ўжо Рада БНР, якая на сваей апошняй пленарнай сэсыі ў пастанове аб вонкавай палітыцы заявіла наступнае: *“беларуская незалежная дзяржава павінна абыймаць усе этнаграфічныя беларускія землі з улучэньнем у яе часткі Ўсходніх Прусаў з Кэнігзбэргам, што павінна быць справядлівай кампэнсацыяй за ўсе калясальныя зьнішчэньні Беларусі й беларускага народу, спрычыненыя нямецкім гітлерызмам у часе Другое сусьветнае вайны, і што дало-б магчымасьць доступу Беларусі да мора, канечнага для ейнага эканамічнага разьвіцьця. Гэтае дамаганьне абгрунтоўваецца яшчэ й тым, што на тэрыторыю часткі Ўсходніх Прусаў, прылучанай сяньня да РСФСР, прымусова перасеsevereная апошнімі гадамі савецкімі ўладамі вялікая колькасьць беларускага жыхарства з этнаграфічнае Беларусі”*. Такога дамаганьня лічыць за праяву нашага імпэрыялізму таксама нельга. Падчас будучага ўпарадкаваньня сярэдня-ўсходняе Эўропы пасьля зьнішчэньня бальшавізму Ўсходняя Прусія ніякім чынам ня зможа вярнуцца да Нямеччыны, бо: а. да таго часу напэўна не астанецца ўжо там ніводнага немца; б. тварыць на яе тэрыторыі расейскага востраву, аддаленага на сотні кілямэтраў ад этнаграфічнае Расеі, не мэтазгодна; і в. ніхто не пагодзіцца на паўторнае тварэньне польскага калідору, які ўжо раз стаўся непасрэднаю прычынаю Другое сусьветнае вайны. Такім чынам гэты кусок Усходняе Прусіі можа прыпасьці або да Польшчы, або Летуве, або Беларусі. Дзеля таго, што два першыя гаспадарствы маюць і бяз гэтага доступ да мора, дык якраз Беларусы павінны карыстацца найбольшымі правамі на гэтую тэрыторыю. А таму нашая вонкавая палітыка ўжо сяньня мусіць ставіць гэтую справу на парадку дня і энэргічна яе абараняць, аб чым, на жаль, у артыкуле Дзіды няма ані слова.

Вось гэта тыя тры аснаўныя прынцыпы нашай вонкавай палітыкі, якімі мы павінны кіравацца пры тварэньні канцэпцыі супольнага міждзяржаўнага блёку вызваленых з-пад бальшавізму народаў. Пры захаваньні гэтых прынцыпаў кажная канцэпцыя для нас добрая, незалежна ад таго, ці, прыкладам, да яе будуць належаць народы каўкаскія, а балканскія не, ці наадварот — прылучацца да яе народы балканскія, а каўкаскія адыйдуць. Якія дакладна народы да гэтае канцэпцыі будуць належыць, гэта справа другарадная. Галоўнае, каб паводля колькасьці і ўдзельнае вагі сяброў дадзенае канцэпцыі была яна настолькі моцная, каб магла пасьпяхова проціўстоіць супраць расейскага й нямецкага імпэрыялізму. А таму нашая вонкавая палітыка не павінна сябе назаўсёды зьвязваць зь нейкай існуючай ужо канцэпцыяй міждзяржаўнага арганізму або тварыць сваю такую-ж чыста схэматычную канцэпцыю, а павінна выходзіць з прынцыпу, што ўсякая канцэпцыя можа быць для нас адпаведная, якая, пры захаваньні вышэй пададзеных умоваў, будзе найлепей гарантаваць вольнасьць і незалежнасьць Беларусі.

У будучым вялікім блёку дзяржаваў, паложаных між Расеяй і Нямеччынай, ня выключаныя вузейшыя рэгіянальныя падблёкі, абумоўленыя палітычнымі, культурнымі ці гаспадарскімі інтарэсамі суседніх народаў. Таму нам, беларусам, ці ня больш мэтазгодна было-б з гледзішча на найбольш нам блізкія інтарэсы аддаць перавагу плянаваньню такога абмежаванага блёку, чымсьці займацца вялікімі канцэпцыямі. Сэсія Рады БНР у ўспомненай ужо пастанове выказалася за мэтазгоднасьць уваходу Беларусі ў балтыцка-скандынаўскі блёк, да якога належалі-б, апрача Беларусі, Летува, Латвія, Эстонія, Фінляндыя, Швэдыя, Нарвэгія й Данія. Пакольні сяньня палітычнае палажэньне скандынаўскіх дзяржаваў зусім іншае, можна было-б пачаць рэалізаваньне гэтай канцэпцыі ад тварэньня толькі беларуска-балтыцкага блёку, тым больш, што зь Летувай, а часткова і з Латвіяй лучаць нас цесныя гістарычныя сувязі, ды й культурныя, а асабліва гаспадарскія мамэнты паміж гэтымі краямі цесна між сабой вяжацца. У кажным выпадку нельга забывацца аб тым, што з прыбалтамі, а ў першую чаргу зь летувіскім народам мы ў будучыні для супольнае карысьці будзем змушаныя ўвайсьці ў цесныя ўзаемадачыненьні. Гэта павінна мець на ўвазе нашая вонкавая палітыка ўжо сяньня, аб чым таксама чамусьці ня ўспомніў Дзіда.

Пішучы гэтыя заўвагі да артыкулу Дзіды, аўтар ня меў пратэнсіі выказаць свой поўны пагляд на канцэпцыю нашае вонкавае палітыкі, бо за адным махам гэтага зрабіць нельга. Яму хадзіла толькі аб скарыгаваньне й дапаўненьне некаторых цьверджаньняў Дзіды ў надзеі, што іншыя нашыя да гэтага пакліканыя людзі прадоўжаць распачатую мною дыскусію, якая была-б нязвычайна карыснай для высьвятленьня цэлага раду кардынальных пытаньняў і ўстанаўленьня канчальных лініяў паступаньня ў нашых вонкавых дачыненьнях.

*Я. З.*[145]

## Незалежнасьць: акт і акцыя[146]

Адзначаючы штовясны ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, мы заўсёды прыгадваем Акт 25 Сакавіка. Нацыянальна-дзяржаўную незалежнасьць мы ўтаесамляем з *актам*, з пэўным, азначаным гістарычным мамэнтам, які прыйшоў і мінуў, пакінуўшы нам Акт. Але незалежнасьць ня толькі й ня гэтулькі акт, колькі акцыя, актыўнасьць; незалежнасьць — ня дзея, што адбылася, а дзея, што трывае. Незалежнасьць ня мае ў сабе закончанасьці, гэта — цягласьць, працэс. І кажны з нас, кажны ідэйны падданы Беларускае Народнае Рэспублікі, становіць арганічную частку гэтага працэсу — нагэтулькі, наколькі сябе гэткай часткай усьведамляе, наколькі мае ў сабе наважанасьці гэткае ўсьведамленьне захаваць. Незалежнасьць пачынаецца ад акту ўсьведамленьня ды ператвараецца ў акцыю ўжыцьцяўленьня.

Незалежнасьць — гэта ня нехта, хто выступае з прамовамі ці фармулюе дэклярацыі; незалежнасьць — гэта шматдзённае, шточасіннае адчуваньне свае людзкое й нацыянальнае годнасьці, культурнае вартаснасьці сябе самога й свайго народу.

Незалежнасьць — гэта веда свае мінуўшчыны, свае культуры, свае мовы. Бо толькі на груньце гэткае веды вырастае вера ў сваё

145 Аўтар тэксту — Янка Запруднік

146 Беларус. № 287. Сакавік 1981. С. 1.

права, вырабляецца пэўнасьць і цьвярдзіня нацыянальнага й чалавечага пачуцьця, дужэе маральная вытрываласьць і стойкасьць, устойлівасьць у грамадзкай працы.

Незалежнасьць — гэта Мэта, з гледзішча на якую ацэньваюцца й адбіраюцца із штадзённага патоку факты ды ўмуроўваюцца ў цьвярдыню нашага сьветагляду.

Незалежнасьць перад тым, як стацца калектыўнай, нацыянальнай, зараджаецца, умацоўваецца ды выяўляецца індывідуальна.

Незалежнасьць у кажным з нас адзначаецца ступеньчасьцяй; незалежнасьць гэта — інтэлектуальна-духовы набытак, што нарошчваецца, большае з кажным засвоеным родным словам, кажным усьведамленым фактам нацыянальнае мінуўшчыны, кажнай успрынятай дэталяй беларускае сучаснасьці.

Незалежнасьць — гэта стан і ўзровень сьведамасьці кажнага ўпаасобку ды ўсіх разам. Незалежнасьць у кажным з нас расьце або адмірае ў меру нашае зацікаўленасьці ў Беларусі, нашага інтэлектуальнага й духовага кантакту зь ёй.

Незалежнасьць — гэта акт волі, які стаецца акцыяй, практыкай жыцьця.

## ДЫСКУСІЯ

*Чэслаў Будзька*

### Балцкая тэорыя сьпераду й ззаду[147]

Ёсьць сярод нашай інтэлігенцыі людзі, якія ўважаюць, што нацыянальная будучыня беларускага народу была-б куды больш забясьпечанай, калі-б нам удалося прапхнуць у навуку тэорыю, што беларускі народ не зьяўляецца народам чыста славянскім. Такая антыславянская тэорыя паходжаньня беларускага народу нам быццам сягоньня нагвалт патрэбная, а гэта галоўна з увагі на нашых славянскіх суседзяў — Палякаў і Расейцаў. Калі Палякі й Расейцы даведаюцца, што мы не зьяўляемся славянамі, дык ім адразу-ж быццам адпадзе ахвота ад імпэрыялістычных пасяганьняў на нашыя землі й на наш народ. З другога-ж боку, калі сам беларускі народ прасякнецца такой тэорыяй, ён быццам будзе мець куды лепшае самапачуцьцё й будзе больш нацыянальна стойкім у дачыненьні да гэтых суседзяў. Выходзячы вось з такіх меркаваньняў, у нас і зрадзілася т. зв. балцкая тэорыя аб паходжаньні беларускага народу.

У 1950 г. супалка "Ўскалось"[148] выдала брашуру Сымона Брагі[149] "Балцкі элемэнт пры паўстаньні сучаснага беларускага народу". З гэтай брашуры я зацытую для ілюстрацыі пару абзацаў:

*"Калі зьвернемся цяпер да плямёнаў, зь якіх пазьней склаўся сучасны беларускі народ, дык яны, бязумоўна, таксама ня трапілі некалі на пустое месца. Увесь прастор на поўначы ад Палесься быў таксама ўжо заселены фінскімі ці мангольскімі, а індаэўрапэйскімі плямёнамі балтаў, што належылі да адной сям'і ў гістарычную ўжо пару згэрманізаванымі Прусамі і сучаснымі Летувісамі ды Латышамі.*

---

[147] Бацькаўшчына. № 7 (542). 12 лютага 1961. С. 3–4.

[148] Маецца на ўвазе **"Баявая Ускалось"** — літаратурнае аб'яднанне на эміграцыі, створанае ў 1949 г. пісьменнікам, журналістам і палітычным дзеячам Сяргеем Хмарам (1905–1992), выдавала аднайменны часопіс.

[149] **Сымон Брага** — псеўданім Вітаўта Тумаша.

*У сваёй наканаванай гістарычным ходам падзеяў экспансіі на поўнач беларускія плямёны й напаткалі гэтыя балцкія народы і празь вякі фільтравалі іх ды ў канцы стапіліся зь імі біялягічна, накідаючы аднак ім адначасна сваю славянскую мову.*

*Некаторыя антрапалёгі гаварылі, што беларускі народ — найчысьцейшы славянскі народ, які найлепш захаваў свае славянскія асаблівасьці. Такі пагляд складаўся бадай перадусім дзеля таго, што ў вадваротнасьць Расейцам ды Ўкраінцам нашыя прашчуры зьліліся ня з чужым, далёкім сабе антрапалёгічна фінскім ці мангольскім элемэнтам, а з блізкімі расава такімі-ж індоэўрапейскімі балтамі, і таму дамешка гэтая ня так кідаецца ў вочы".*

У 1951 г. праф. др. Янка Станкевіч у "Ведзе"[150] пісаў:

*"Да прыходу Славян на тэрыторыі Крывіч-Беларусі жылі Балты… Значыцца, у этнічны склад крывіцка-беларускага народу ўходзяць як Славяне, так і Балты, бо аселае ды ралейнае жыхарства, якім былі Балты, таксама ў часе прыходу іншага народу застаецца на месцы… Пры ўтварэньню з часьці Балтаў і часьці Славян новага — крывіцкага або беларускага — народу запанавала ў іх мова Славян. Гэта зусім згаджаецца з тым, што ўсюдых, дзе толькі Славяне, мяшаючыся зь іншымі народамі, стваралі новы народ, моваю яго рабілася мова славянская (Баўгарыя, Маскоўшчына і інш.)"* ("Кароткі начырк гісторыі Крывіч-Беларусі", "Веда", люты — сакавік, 1951 г., б. 34–36).

Гэтая балцкая тэорыя апошнім часам знаходзіць сярод беларускай эміграцыі ўсё больш сабе прыхільнікаў, прычым найбольшыя энтузіястыя рэкрутуюцца з паміж людзей зь нізкім узроўнем гістарычных ведаў і яшчэ ніжэйшым узроўнем палітычнага думаньня. Напрыклад, у др. У. Рыжага-Рыскага[151] патрыятычнае захапленьне балцкай тэорыяй ідзе поруч з поўнай нэгацыяй нацыянальнай

---

150 **"Веда"** — навукова-літаратурны часопіс, які выдаваўся Янкам Станкевічам ад імя Крывіцкага (Беларускага) навуковага таварыства Пранціша Скарыны ў 1951–1954, 1973 і 1975 гг.

151 **Уладзіслаў Рыжы-Рыскі** (1925?—1978), грамадскі дзеяч, святар. У гады Другой сусветнай вайны дзеяч Беларускай народнай самапомачы ў Глыбоцкай акрузе, сакратар аддзела моладзі БЦР. З 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, Бельгіі, Італіі, Іспаніі, ЗША. Заснаваў уласную рэлігійную структуру "старакаталіцкую субожню" і ад студзеня 1960 г. усклаў на сябе абавязкі апостальскага візітатара для беларусаў-каталікоў. Выдавец шэрагу беларускіх кніг і перыёдыкаў.

беларускай гісторыі. Др. У. Рыжы-Рыскі трымаецца той думкі, што ніякай беларускай нацыянальнай гісторыі ня было, бо беларускі народ за ўвесь час свайго гістарычнага існаваньня ніколі сам не вытварыў сваей дзяржаўнасьці, будучы заўсёды пад нечай акупацыяй: нарманскай, рускай, літоўска-балцкай, польскай і расейскай. Гэтыя свае пагляды ён распашырае сярод чужынцаў у ангельскай мове ("Byelorussia between Tartaria and Rome", Princeton, 1960).

На англамоўным груньце балцкая тэорыя, шыраная Беларусамі, сустракаецца з такой-жа балцкай тэорыяй, прапагаванай там-жа і самімі-ж балтамі. З увагі на гэта, я думаю, было-б цікава пазнаёміцца і з тым, што на гэтую тэму пішуць балты, у даным выпадку — Жамойцы. З гэтай мэтай я ніжэй падаю выняткі з кніжкі інж. В. Жэмакіса[152] ў перакладзе з ангельскае мовы:

«*Археляёгічныя даныя, назовы рэк і мясцовасьцяў, а таксама й летапісы сьветчаць, што якіх тысяча гадоў перад і пасьля Хрыста на сучаснай Беларусі і на землях яшчэ далейшых на ўсход пражывалі розныя жамойцкія плямёны. З гістарычных крыніц мы ведаем, што тры найбольш вядомыя з гэтых плямёнаў займалі наступныя раёны: Kriviai — на поўнач ад Менску і абапал ракі Дзьвіны; Polotenai — абапал ракі Ловаць; і Galindai — на вярхох Дняпра, Волгі і Акі і ў Смаленска-Мажайскім раёне.*

*У VII–IX стагодзьдзях пасьля Хрыста Вікінгі-Расейцы із Скандынавіі ў пошуках найлепшай воднай дарогі ў Візантыю заваявалі раёны ўздоўж рэк Нявы і Волхава, возера Ільмэн, і верхнюю частку ракі Дзьвіны. Тут яны заснавалі дзьве дзяржавы: у Ноўгарадзе й Полацку... Адсюль яны пайшлі на поўдзень рэкамі Дняпром і Бярэзінай і палажылі падмурак пад магутную Кіеўскую дзяржаву. Вікінгі ня доўга ўтрымалі сваё нацыянальнае аблічча, у вельмі кароткім часе яны прысвоілі сабе славянскую мову і абычаі, і толькі вікінская любоў да вайны асталася ў іх адзінай спадчынай па іхных продках.*

*Жамойцкія плямёны, што былі вікінгамі заваёваны і адарваны ад сваіх братоў на захадзе, таксама пераважна страцілі сваю мову й нацыянальную прыналежнасьць, асабліва пасьля таго, як іх змусілі прыняць праваслаўную рэлігію. Жамойцкія Kriviai сталі-*

[152] Відаць, маецца на ўвазе **Вінцас Жэмайціс** (літ. *Vincas Žemaitis*, 1896–1983), інжынер лясной гаспадаркі, этнолаг, грамадскі дзеяч, які ад 1950-х гг. жыў у Чыкага.

*ся славянскімі Крывічамі, Polotenai — Палачанамі (Полаўцамі), а Galindai — Голядззьдзю. Але навет яшчэ і ў XI–XII стагодзьдзях расейскія летапісы называюць Голядзь жамойцкім племям (“Litovskoje Plemia”).*

*Агульнаведамы ўкраінскі гісторык і прафэсар Праскага ўнівэрсытэту Шчэрбакіўскі*[153]*, што памёр у Лёндане у 1957 годзе, у сваёй кнізе “Формацiя Українскoй Нацiї, Нарыс Проiсторыї України”, выдадзенай у Празе ў 1941 годзе, прыходзіць да такога сьцьверджаньня: “A large and important Lithuanian tribe Kriviai became Slavic end in this way their language changed from Lithuanian to (White) Russian”.*

*Жамойцы былі апошнімі сярод суседзяў, што прынялі хрысьціянства і ў вадрозьненьне ад большасьці суседзяў яны былі навернены ў рыма-каталіцкую рэлігію. Гэты факт ёсьць адным з найлепшых сяродкаў для правядзеньня этнаграфічнай граніцы жамойцкага народу (асабліва на ўсходзе). Палякі кажуць, што гэта яны прынесьлі хрысьціянства да Жамойцаў, але ў запраўднасьці іхнае галоўнае зацікаўленьне было не хрысьціянства, а палянізацыя.*

*…У часе расейскай акупацыі пасьля 1795 году Віленскі Унівэрсытэт і біскупскі палац зрабіліся калыскамі польскай мовы.*

*…Жыхары Віленшчыны, чуючы польскую мову ў касьцёлах і ўжываючы расейскую мову ў дзяржаўных установах, пачалі карыстацца беларускаю мовай як мовай пасярэдняю паміж гэтымі двумя мовамі. Апрача таго, яны дадавалі жамойцкія словы, і з гэтага вытварыўся нейкі жамойцка-польска-расейскі жаргон. Народ, сканфузіўшыся, ня ведаў, да якой нацыянальнасьці ён належыць, і называў сябе “tutejšy” — “the local ones”. Спалянізаваныя ксяндзы, выдаючы мэтрыкі нараджэньня або шлюбу, перакладалі жамойцкія імёны на польскія або дадавалі польскія канчаткі на -owski, -ewski, -inski, -wicz, напрыклад: Narutis — Narutowicz, Blazys — Blazewicz, Nagutis — Nagucewicz, Ozys — Ozewicz і т. п.*

*Расейскія камуністыя ўжываюць больш крывыя сяродкі русыфікацыі Жамойцаў, чым пры цары: найперш яны з гэтых “tutejšys” робяць Беларусаў або Палякаў і пасьля ім ужо вельмі лёгка рабіць зь іх добрых Расейцаў і камуністых; якраз з гэтай прычыны так шмат Жамойцаў і пакінута пад беларускай адміністрацыяй.*

---

[153] Маецца на ўвазе **Вадзім Шчарбакіўскі** (укр. *Вадим Щербаківський*, 1876–1957), украінскі гісторык, археолаг, этнограф, мастацтвазнаўца. У 1922–1945 гг. прафесар Украінскага вольнага ўніверсітэта ў Празе.

*Як мы бачылі, Беларусы гэта пераважна мешаніна з жамойцкіх і славянскіх плямёнаў. (І дзеля гэтага ёсьць вельмі натуральна, што сярод па-беларуску гаворачага народу ёсьць ня мала людзей, якія будучы сьведамыя свайго паходжаньня, уважаюць сябе Ліцьвінамі.)*

*Жамойцы й Беларусы жылі разам у ваднэй дзяржаве больш як 500 гадоў: ад Міндаўга*[154] *да 1795 году. Мінулая гісторыя паказвае, што гэтыя два народы заўсёды былі ў вельмі добрай згодзе і гэта дае некаторым людзям аснову для прапаганды вуніі паміж гэтымі двумя дзяржавамі. Польская й расейска-камуністычная акупацыі выхавалі пару беларускіх ультра-нацыяналістых, якія навет не прызнаюць жамойцкай нацыі як такой, але чужымі ўплывамі незакрануты беларускі патрыёт бачыць, што ён ніколі ня знойдзе лепшых прыяцеляў ад Жамойцаў.*

*Тут мы можам зацытаваць словы, сказаныя беларускім рэпрэзэнтантам а. Любімцам: "Літоўская сталіца Вільня мусіць мець адпаведнае тэрытарыяльнае заплечча. Не ўспамінаючы літоўскіх этнаграфічных правоў, я думаю, што зь некаторай добрай воляй ня будзе цяжкасьцяў знайсьці формулу задавальняючую абодвы бакі, паколькі ідзе аб гранічныя правы*"».

А цяпер пару слоў аб гэтай кніжцы інж. В. Жэмакіса. Яна напісана ў дзьвюх мовах: 83 бачыны ў жамойцкай мове і 30 бачын у ангельскай. Кніжка мае загаловак: *"A study of the Frontiers in the region between the Baltic and the Black seas with 5 maps"*. Выдана коштам аўтара ў Чыкага ў 1960 годзе[155].

Зьместам кніжкі зьяўляецца дыскусія чатырох чалавек — Жамойца, Паляка, Украінца й Беларуса, праведзеная быццам у 1945–46 гадох у вадным з дэпіўскіх лягераў (Ансбах, Баварыя). Тэмай дыскусіі было: як маюць на іхную думку выглядаць дзяржаўныя граніцы ў будучыні паміж Балтыцкім і Чорным морам?

---

154 **Міндоўг** (каля 1195 — 1263), першы вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага.

155 Žemaitis, Vincas. Sienų klausimu srity tarp Baltijos ir Juodųjų Jūrų; politinių išeivių 1945–1946 m. (UNRRA stovyklose Vokietijoj) diskusijos ir nutarimai apie vokiečių-lenkų-lietuvių-baltgudžių-ir ukrainų tarpusaves politines sienas = A study of the frontiers in the region between Baltic and Black Seas; the discussion and conclusions reached by political refugees in 1945–1946 (in UNRRA camps in Germany) concerning German — Polish — Lithuanian — White Russian — and Ukrainian mutual frontiers. Chicago, 1960. 122 p.

Прадстаўніком Беларусаў у гэтых дыскусіях быў нейкі а. Любімец, грэка-каталіцкі сьвятар з Баранавіч. Ці асоба беларускага "прадстаўніка" выдуманая ці не, справа ня так ужо й важная, паколькі і ўся гэтая дыскусія выглядае на фікцыю. Для нас тут важна адно: аўтар вельмі хваліць беларускага прадстаўніка, з увагі на гэта мы маем магчымасьць даведацца, як Жамойцы ўяўляюць сабе ідэяльнага Беларуса.

Паколькі я мог з ангельскага тэксту зразумець (жамойцкі тэкст магчыма цікавейшы), ідэяльным Беларусам, паводля аўтара, зьяўляецца такі Беларус, які верыць у балцкую тэорыю, калі ідзе аб паходжаньне беларускага народу, і які да гэтага глыбака перакананы, што Вялікае Княства Літоўскае было створана балтамі. Такі якраз Беларус, з так прамытымі балцкай балбатнёй мазгамі, быўбы запраўды ідэяльным для Жамойцаў партнэрам, калі ідзе аб вызначэньне жамойцка-беларускіх граніц. Бо толькі такі Беларус, які ўважаў-бы сябе балцкім мэтысам, ня толькі ніколі-б не рабіў жамойцкім імпэрыялістам ніякіх труднасьцей (напрыклад, у справе Вільні), але як прадстаўнік беларускага народу (г. зн. зьбеларушчаных Жамойцаў), із скуры вылазіў-бы, каб прыпадабацца свайму новаму старэйшаму брату (г. зн. яшчэ незьбеларушчаным Жамойцам). *"Хочаце Горадню? Калі ласка вам Горадня. Мы-ж, Беларусы, разумеем, што вы, Жамойцы, маеце гістарычнае права да ўсёй беларускай зямлі. Хочаце Менск? Менск..."* Тут ужо запраўды ёсьць над чым задумацца: як дагадзіць Жамойцам, каб і даць ім столькі нашай зямлі, колькі яны хочуць, і каб граніца жамойцка-беларуская не ператварылася ў граніцу жамойцка-расейскую?

Аўтар як прадстаўнік народу, які мае ахвоту стацца нашым старэйшым братам, хочучы паказаць, што яны, як такія, куды лепшыя ад нашых сучасных "старэйшых братоў", прапануе "малодшаму брату", г. зн. нам, балцкім мэтысам, геніяльную на яго думку разьвязку: Беларусы аддадуць Жамойцам столькі зямлі, колькі Жамойцы здолеюць праглынуць, а Жамойцы із свайго боку дадуць Беларусам гойнай рукой столькі-ж зямлі за Масквой, бо-ж і там за Масквой — старая зямля балтаў. І тады паміж двумя народамі наступіць ідэяльная прыязьнь (да рэчы — такая самая, якую нам прапануюць Палякі за тую-ж самую цану).

Нехта, прачытаўшы кніжку інж. В. Жэмакіса, можа сказаць, што ўсё гэта хворыя маячаньні і шкода часу на падобныя гутаркі.

На мой, аднак, пагляд, гэта ня зусім так, бо розныя фантастычныя маячаньні маюць у палітыцы ўсё-ж нешта цалкам рэальнае на ўвазе. У даным выпадку, усякія гутаркі аб мітычных балтах, на маю думку, зводзяцца да аднаго: забалтаць беларускія галовы балтамі так, каб увагу беларускага народу адцягнуць як мага далей ад Вільні, і каб ён урэшце, махнуўшы на Вільню рукою, пачаў "ратаваць" тое, што яшчэ ўдасцца ўратаваць — і на сваёй зямлі, і ў сваёй гісторыі.

*Сымон Брага*

## Балцкія перапалохі[156]

Не ад сяньня нашыя руплівыя суседзі друкуюць сьцірты прапаганднае літаратуры, у якой, як правіла, пашыраюць нашым коштам свае нацыянальныя межы. Асабліва няўтомныя, калі ходзіць пра Вільню ды Віленшчыну, Лятувісы. Зьява гэта старая, як лятувіскі палітычны рух. Дзівіцца дзеля гэтага трэба, што, як бачна з артыкулу "Балцкая тэорыя сьпераду й ззаду", гэтую няспынную прапагандную прадукцыю толькі цяпер адкрыў сп. Часлаў Будзька, дый, начытаўшыся яе, даўся ў паніку.

Пэўне-ж, за падобнаю прапагандаю, кім-бы яна не вялася, трэба сачыць, трэба ў патрэбе ёй супроцьдзеіць, але супроцьдзеіць добра абаснаванаю аргумэнтацыяй і гістарычнай праўдай, а не зьбянтэжанай панікай. Ніколі-ж ня можна дапускацца, каб фантастычныя лятуценьні Жэмакіса ці ішных аб будучай імпэрыяльнай велічы двухмільённае лятувіскае нацыі дэзар'ентавалі нас або сьпіхалі з базы жыцьцёвых і навуковых фактаў і праўды, бо-ж ад гэткае неразважнае рэакцыі ня будзе ніколі аніякае карысьці, а толькі шкода.

Вінаватых за лятувіскую прапаганду й фантазіі па беларускім баку сп. Будзька шукае сярод тых аўтараў, якія прыдумалі, паводля яго, "балцкую тэорыю" ў справе паходжаньня беларускага народу дый прабуюць *"прапхнуць"* яе ў навуку, толькі дзеля свайго, паводля сп. Будзькі, наіўнага прыпушчэньня, што *"калі Палякі й Расейцы*

[156] Бацькаўшчына. № 23 (558). 4 чырвеня 1961. С. 3–4.

*даведаюцца, што мы не зьяўляемся славянамі, дык ім адразу-ж быццам адпадае ахвота ад імпэр'ялістычных пасяганьняў на нашыя землі й наш народ".*

Запраўды, трэба быць зусім нерэальным палітыкам, каб дапускаць паважна, што лятувіская прапаганда ў справе Вільні хоць крыху залежыць ад тых ці іншых паглядаў некага *"з нашае інтэлігенцыі"*. Сп. Будзька відаць не ўсьведамляе сабе таго факту, што ад самых зачаткаў лятувіскага палітычнага руху ў канцы мінулага стагодзьдзя, аж па сяньня, ня толькі ня існуе ніводнае лятувіскае палітычнае партыі, але няма й ніводнага дзеяча, які справу Вільні ставіў-бы накш. Лятувіскія палітыкі ня толькі сяньня, а заўсёды, вехі сваіх *"гістарычных межаў"* тычаць нейдзе пад Вязьмаю дый Мажайскам.

Горш тое, як бачна з артыкулу, сп. Будзька, знайшоўшы "вінаватых", замахнуўся вынясьці й свой сьмяротны, хоць навукова зусім і не матываваны, асуд "балцкае тэорыі", не пазнаёміўшыся перад тым зь яе навуковаю існасьцяй, гісторыяй яе паўстаньня, яе фактамі й довадамі (гутарка гэтта пра *навуковыя* пагляды, а не пра лятувіскія ці беларускія *агіткі*). Бачна гэта яскрава з таго, што сп. Будзька падае аб ей самыя хвальшывыя інфармацыі. З навуковага боку ён яе ня бачыць наагул, а намагаецца зь ёю справіцца палітычна. Дый, ведамая рэч, што навуковыя факты агітацыяй і прапагандай ці самым іх толькі непрызнаньнем, аніяк не даюцца зьмяніць, схаваць ці зьністожыць.

Найперш — няпраўда, што нехта зь Беларусаў *"прапіхае"* ў навуку "балцкую тэорыю". Няпраўда, бо-ж яна ў навуцы яшчэ ад мінулага стагодзьдзя, дый апертая тамака на моцных асновах фактаў з галіны археалёгіі, ономастыкі, моваведы, гісторыі. Няпраўда й тое, што яна быццам *"у нас зарадзілася"*, што яе выдумалі Беларусы. Першыя ў навуцы паставілі яе ў 90-х яшчэ XIX ст. якраз расейскія навукоўцы — Галубоўскі[157] дый Качубінскі[158]. Можа ім, Расейцам, сп. Будзька спрабуе падчапіць латку свайго непаважнага

157 Маецца на ўвазе **Пётр Галубоўскі** (рус. *Пётр Голубовский*, 1857–1907), расійскі і ўкраінскі гісторык, доктар навук, спецыяліст па старажытнарускай гісторыі, належаў да кіеўскай школы гісторыкаў.

158 Маецца на ўвазе **Аляксандр Качубінскі** (рус. *Александр Кочубинский*, 1845–1907), расійскі гісторык, археолаг, філолаг, прафесар кафедры славяназнаўства Новарасійскага ўніверсітэта.

дэмагагічнага тлумачэньня, што "балцкая тэорыя" ня вынік навуковых фактаў, а створаная знарок штучна, у вельмі наіўным, хоць і шляхотным, намеры адвесьці ад беларускага народу й беларускае тэрыторыі апэтыты расейскага імпэр'ялізму?

Дык справа значэньня й вагі балцкага субстрату для пытаньня этнагэнэзы беларускага народу ў навуцы ёсьць, і яно там зусім ня гэткае новае, як памылкова думае сп. Будзька. Яна ў полі сталае навуковае ўвагі ўжо ад канца мінулага стагодзьдзя. Ад тае вось пары "тэорыя балцкага субстрату" распрацоўваецца ў колькі розных навуковых галінах дый увесь час папаўняецца чарадою новых довадаў і фактаў.

Да шырэйшага навуковага абгрунтаваньня праблемы за гэты час прычыніліся ня мала выдатныя навукоўцы рознае нацыянальнасьці — расейскія, польскія, нямецкія, францускія, швэдзкія. Дык пытаньне дыскутуецца н'ат ня ў вузка беларускім, ані навет усходнеславянскім навуковым варштаце. Гэты *"інтэрнацыянальны"* падыход ахоўвае ад таго, каб дасьледная праца ня зьбілася з аб'ектыўных навуковых рэек у кірунку пажаданьняў і амбіцыяў тае ці іншае нацыянальнасьці. Апрача ўспомненых раней Галубоўскага ды Качубінскага да пытаньня балцкага субстрату дакінулі важныя вынікі сваіх навуковых дасьледваньняў, між іншымі, і вучоныя Разваdоўскі[159], Фасмэр[160], Шэрах[161]. У большай ці меншай меры навуковыя асновы пытаньня пацьвердзілі або й пашырылі й ведамы беларусавед Карскі[162], Пічэта[163] дый наш гісторык М. Шкялёнак[164].

159 Маецца на ўвазе **Ян Міхал Развадоўскі** (пол. *Jan Michał Rozwadowski*, 1867–1935), польскі мовазнаўца, этнограф, прафесар Ягелонскага ўніверсітэта.

160 **Макс Фасмэр** (ням. *Max Julius Friedrich Vasmer*, 1886–1962), нямецкі мовазнаўца, лексікограф, славіст, даследчык усходнеславянскай тапаніміі і антрапаніміі.

161 Маецца на ўвазе **Юры Шавялёў** (укр. *Юрій Шевельов,* пісаў таксама пад псеўданімам **Юры Шэрах**, 1908–2002), украінскі лінгвіст і літаратуразнаўца, пісьменнік, даследчык літаратуры. Працаваў у СССР, Нямеччыне і ЗША.

162 **Яўхім Карскі** (1861–1931), філолаг-славіст, заснавальнік беларускага навуковага мовазнаўства і літаратуразнаўства, аўтар грунтоўнага трохтомнага даследавання "Беларусы".

163 **Уладзімір Пічэта** (1878–1947), гісторык, археолаг, педагог, заслужаны прафесар БССР, акадэмік АН БССР.

164 **Мікалай Шкялёнак** (1899–1947), грамадскі дзеяч, гісторык, публіцыст. Аўтар шэрагу прац на гістарычныя тэмы, у тым ліку і "Тэрыторыя Беларусі і яе дагістарычнае насельніцтва" (1938).

Вось гэта ўсё факты. І як у іх сьвятле беспадстаўнае цьверджаньне сп. Будзькі, што "балцкую тэорыю" стварылі ўсяго надовячы ды *"прапіхаюць"* у навуку *"людзі зь беларускае інтэлігенцыі"*. Ня думаю, што сп. Будзька сьведама хвальшыва інфармуе чытачоў. Піша гэтак проста дзеля таго, што, не пазнаёміўшыся глыбей з пытаньнем, піша пра тое, чаго ня ведае, а дзеля гэтага піша ня так, як запраўды ёсьць, а гэтак, як яму выдаецца.

Існасьць г. зв. тэорыі балцкага субстрату ў скароце ў тым, што нашыя славянскія прашчуры ў дагістарычную яшчэ пару сваею экспансіяй ахапілі дый засымілявалі й частку старавечных балтаў, і ў выніку гэтага ў складзе беларускага народу апынулася нейкая частка і этнічна балцкага элемэнту (важна разрозьніць: *балцкага*, а не *лятувіскага*, бо ходзе гэтта пра балцкія дагістарычныя групы, а не пра сучасных лятувісаў ці іхных прашчураў). Існаваньне меншае ці большае долі балцкага субстрату ў этнічнае аснове беларускага народу — факт сяньня агульна ў навуцы прызнаны, і ня чуваць, каб хто з паважнейшых сучасных навукоўцаў, які беларусаведнымі пытаньнямі грунтаўней займаецца, з гэтым цьверджаньнем не пагаджаўся. Існуюць толькі разьбежнасьці ў дакладнейшым азначэньні самой пары дагістарычнага асыміляцыйнага працэсу, ягоных памераў, дый дэталяў яго кансэквэнцыяў гістарычных. У самым-жа прынцыпе гэта сяньня наагул ужо ня "тэорыя", а навуковы факт.

Толькі кампілятар-публіцысты, расейскі вялікадзяржаўнік Вакар[165], зусім як і сп. Будзька, яшчэ й сяньня нічагуткі ня чуў пра існаваньне ў навуцы пытаньня балцкага субстрату, дый таксама наіўна справу ўважае за знарочную выдумку *"беларускіх нацыяналістых"*. У вадказ на гэткія выказваньні Вакара й быў некалі напісаны мой кароткі інфармацыйны артыкул "Балцкі элемэнт пры паўстаньні сучаснага беларускага народу" (1950), цытату зь якога (з памылкаю) прыводзіць сп. Будзька, які побач паўтарыў і ўсе Вакаравы недарэчнасьці пра тэорыю балцкага субстрату.

Не падыйшоўшы паважна да навуковых асноваў сучасных паглядаў пра значаньне балцкага субстрату ў працэсе фармаваньня сучаснага беларускага народу, ня дзіва, што сп. Будзька робе й зусім хвальшывыя высновы пра лягічныя кансэквэнцыі гэтага факту для

---

165 **Нікалас Вакар** (англ. *Nicholas P. Vakar*, 1894–1970), амерыканскі даследчык, аўтар працы *"Belorussia: The Making of a Nation"* (Harvard U. Press, 1956).

гэнэзы Вялікага Княства Літоўскага дый нацыянальнага мінулага места Вільні.

Для правільнага разуменьня гэтых пытаньняў у сьвятле “балцкае тэорыі” важна добра сабе ўсьведаміць, што працэс інтэграцыі балцкага субстрату адбыўся даўно, у дагістарычную яшчэ пару, і дзеля гэтага гісторыя застае беларускі народ ужо на тэрыторыі ў прыблізна сучасных яго межах. З гэтага факту выплываюць і далейшыя важныя выснавы, а пайменна, што ядро Вялікага Княства Літоўскага сфармавалася на бясспрэчна беларускай нацыянальнай тэрыторыі й гэта гістарычны дзяржаўны твор беларускага народу. Таксама й места Вільня некалі станавілася на беларускай зямлі, сярод па-беларуску гаворачага навокала жыхарства.

Дзеля гэтага страх сп. Будзькі, што факт існаваньня балцкага ў нас субстрату можа аслабіць права беларускага народу да Вялікага Княства Літоўскага й да Вільні, цалком беспадстаўны й вынікае зь ягонага неразуменьня істоты абумоўленых “балцкай тэорыяй” этнагэнэтычных працэсаў дый іх пары. Як ведама, у стагодзьдзі мінулым, а ў вялікай меры і ў гэтым, пануючым сярод гісторыкаў быў пагляд аб лятувіскай гэнэзе і этнічнай базе Вялікага Княства Літоўскага (другая “балцкая тэорыя”, якое ня трэба мяшаць з тэорыяй балцкага субстрату!), і толькі з часам пазьней Вялікае Княства абеларушчылася дый стала беларускім гаспадарствам. Восьжа з тэорыі балцкага субстрату вынікае, што для лятувіскае гэнэзы Вялікага Княства няма ніякіх асноваў, бо-ж тэрытарыяльная калыска Вялікага Княства Літоўскага ў вабшары Горадня — Наваградак і ў пару зараджэньня гэтага княства было этнічна й моўна ня менш беларускім, як сяньня.

Працэс нацыянальнае асыміляцыі адменных этнічна субстратаў у гісторыі народаў Эўропы ня нейкая выняткова зьява, а блізу сталае правіла. Гэтак, навука сьцьвярджае, што вельмі вялікую долю фінска-турскага элемэнту ўвабраў у сябе праз стагодзьдзі народ расейскі. Шмат славянскіх плямёнаў і цэлых навет народаў растапілася ў “моры” нямецкім. Не малую келцкую дамешку маюць і брытанскія англасаксы. Таксама на рознай этнічнай аснове складаліся паасобныя народы вялікае раманскае моўнае сям'і. Гэта ўсё агульна ведамыя факты, гэтага ніхто не пярэчыць, гэтага ніхто ня скрывае.

Адзін сп. Будзька затрывожаны моцна й беспадстаўна тым, каб на аснове факту існаваньня дагістарычнага балцкага субстрату

ў складзе сучаснага беларускага народу Жэмакіс і два мільёны лятувісаў і запраўды не праглынулі нас разам з усёй беларускай нацыянальнай тэрыторыяй аж па Волгу ўлучна. Хоць адначасна, на дзіва, ён нейк зусім ня мае аніякага страху перад тым, што правам такое-ж лёгікі беларусаў як славянаў могуць праглынуць ужо ня два, а цэлых сто мільёнаў усходняга нашага славянскага суседа, не гаворачы аб дадатковых дзесятках мільёнаў заходніх ды іншых славянскіх “старшых братоў”.

Ледзь не дзьвесьце гадоў таму за публічнае сьцьверджаньне факту паўстаньня расейскага народу на аснове фінска-мангольскага субстрату царыца Кацярына загадала акадэміка Трэдзякоўскага[166] высячы розгамі[167]. Ведама, што ад гэткіх “аргумэнтаў” факты й навуковая праўда ані шчэзьлі, ані зьмяніліся. Ня зьмяняцца яны ніколі і ад дэмагогіі пра *“мэтысаў”* дый палітычных агітак, незалежна, зь якога боку і ў якой колькасьці іх нехта не прадукаваў-бы.

Выглядае, што ўся бяда сп. Будзькі з “балцкай тэорыяй” у тым, што хоць ён у загалоўку й прыабяцаў паказаць яе *“зь пераду й ззаду”*, дый падышоў да яе ў запраўднасьці не ад навуковае існасьці, не ад “галавы” — ня “зь пераду”, — а толькі “ззаду”. Дзеля гэтага “балцкая тэорыя” й выдалася яму гэткаю брыдкаю дый страшною. Стуль і лішнія балцкія пярэпалахі дый паніка.

166 **Васіль Традзьякоўскі** (рус. *Василий Тредиаковский*, 1703–1769), расійскі паэт, перакладчык, філолаг.

167 Спраўдзіць гэты факт не ўдалося.

## ГІСТОРЫЯ НАЦЫЯНАЛЬНАГА РУХУ

*Янка Станкевіч*

### Беларускае нацыянальнае адраджэньне (1902–1915)

### Нашаніўцы, людзі й плыні (Да 50-х угодкаў выхаду “Нашае Нівы”)[168]

Артыкул мой будзе складацца часткова із студыяў пары, пра каторую ў ім мова, часткова з успамінаў. Канчаючы ў 1909 г. месцкую школу ў Ашмяне (мне было тады 16 год), я быў ужо сьведамы Беларус. Стрэўшыся із супраціўленьнем пры першай спробе ўсьведамленьня сваіх суседзяў, я стаўся бязупынным працаўнём ў вадраджэнскім беларускім руху. Выпісаная ўвосень таго-ж году “Наша Ніва” выпрастала некаторыя мае пагляды. Я адразу стаўся ейным карэспандэнтам. Пад сваімі карэспандэнцыямі я падпісваўся мянушкаю “Янучонак”, утворанай ад бацькавага імені. (Пасьлей я друкаваў і артыкулы ў “НН”, падпісуючы іх здрабнелай хормаю “Станкеўчык” праўдзівага прозьвішча або мянушкамі.) Таго-ж году, паехаўшы на дальшую навуку ад Вільні, я асабіста пазнёміўся з рэдакцыяй “Нашай Нівы”. Адгэтуль я быў звычайна ў цесным супрацавенсьцьве з “Нашаніўцамі”, як із тымі, што пісалі да “НН”, так і з усялякімі іншымі. (Месяцаў сем у 1914 г. я працаваў у самой рэдакцыі “НН”.) Казалі пра мяне, што я знаю ўсіх сьвядомых Беларусаў. Гэта, ведама, было перабольшаньне, але знаў я запраўды шмат, як шырока ведамых, так і мала або й саўсім няведамых. І пасьлей, у часе і асабліва пасьля першае сьветнае вайны аж да другое сьветнае вайны я быў у кантакце, часта ў вельмі блізкім, з Нашаніўцамі.

[168] Бацькаўшчына. № 6 (340). 10 лютага 1957. С. 2–3; № 7 (341). 17 лютага 1957. С. 2–3; № 9 (343). 5 сакавіка 1957. С. 2–3; № 10 (344). 10 сакавіка 1957. С. 3; № 11–12 (345–346). 25 сакавіка 1957. С. 3–5.

Артыкул мой ня будзе высіляючы. Найперш я ня буду гаварыць пра літаратуру; другое, абміну ўсё тое, пра што ўжо пісалі іншыя ў зьвязку з сёлетнімі ўгодкамі “НН”; дый, апрача гэтага, ня ўсё я абыму, бо дзеля абняцьця ўсяго патрабавалася-б шмат болей месца й часу, дый ладне ведаючы пра пару “НН”, я ня ведаю ўсяго чыста. Спадзяюся, адылі, што найважнейшае ведаю і скажу.

Народ беларускі за больш як тысячагодні час свайго гістарычнага жыцьця перажываў розныя поры — поры, у каторых нацыянальнае жыцьцё ягонае бурліла, кіпела, нат буйна пералівалася за родныя граніцы, і поры, калі яно сьцякала ў свае граніцы, а нат і такія поры, у якія гэтае жыцьцё заціхала, тлела і аказвалася адно асобнымі іскрамі. Найцяжэйшай парою ў гісторыі беларускага народу было дзевятнаццатае стагодзьдзе, асабліва пасьля 1839 г.[169], і яшчэ болей па пагроме беларускага ўздыму 1863–1864 гг.[170]. Але й па 1864 г. іскры беларускага сьведама-нацыянальнага жыцьця і імкненьня да нацыянальнага адраджэньня ніколі ня гасьлі, але ня прымалі яны характару шыршае арганізаванасьці.

### *Першая дзеяльнасьць беларускіх сацыялістых*

Зьмена настала ў 1902 г. у Пецярбурзе ў 1902 г. закладаецца “Круг беларускае народнае асьветы і беларускае культуры”[171]. Гэты “Круг”, між іншага, выдаў “Вязанку” (зборнік вершаў) Івана Няслухоўскага[172] і “Калядную пісанку”[173]. Тады яшчэ было забаронена ў Расеі друкаваць пабеларуску; дзеля таго, падаючы “Вязанку”

[169] Відаць, тут маюцца на ўвазе падзеі, звязаныя з ліквідацыяй Грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі, афармленай на Полацкім царкоўным саборы 1839 г.

[170] Маецца на ўвазе паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага.

[171] Відаць, маецца на ўвазе **“Круг беларускай народнай прасветы і культуры”** — культурна-асветная арганізацыя, якая дзейнічала ў Санкт-Пецярбургу каля 1903–1904 гг. і займалася друкам і распаўсюдам беларускамоўных выданняў.

[172] **Ян Неслухоўскі** (псеўд. **Янка Лучына**, 1851–1897), паэт.

[173] “Круг беларускай народнай прасветы і культуры” акрамя “Вязанкі” Янкі Лучыны выдаў зборнік народных казак, а таксама дзве нелегальныя брашуры — на гектографе накладам па некалькі дзясяткаў экзэмпляраў зборнікі “Калядная пісанка” (1903) і “Велікодная пісанка” (1904) (гл.: Туронак, Юры. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2006. С. 47–49).

ў цэнзуру, пісалі, што гэта баўгарскі зборнік вершаў. Таго-ж году ў Лябёдцы Лідзкага павету В. Іваноўскі[174] разам із брацяньнікам Валэйкам[175] выдалі адзін нумар “Свабоды”[176].

Узімку 1902 г. часьць моладзежы сацыялістычнага кірунку закладае “Беларускую Рэвалюцыйную Партыю”[177]. З паміж ейных арганізатараў А. Бурбіс[178] адзначае Івана Луцкевіча[179], Антона Луцкевіча[180] (мянушка “Антон Навіна”), Казімера Каставіцкага[181] (мянушка “Карусь Каганец”), В. Зелязея[182]; гэтыя

[174] **Вацлаў Іваноўскі** (1880–1943), палітык, культурны дзеяч. На пачатку XX ст. — заснавальнік Беларускай сацыялістычнай грамады, а таксама выдавецкай суполкі “Загляне сонца і ў наша аконца”. У 1921–1939 гг. выкладаў у Варшаўскай палітэхніцы. Падчас нямецкай акупацыі — бурмістр Менска.

[175] Маецца на ўвазе пецярбургскі гімназіст (ці студэнт) **Вінцэнт Валейка**, які згадваецца звычайна як асоба, што рабіла клішэ старонак газеты “Свабода” (гл.: Туронак, Юры. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2006. С. 33).

[176] Маецца на ўвазе **газета “Свабода”**, адзіны выпуск якой быў падрыхтаваны ў Санкт-Пецярбургу і выдрукаваны ў фальварку Лябёдка, што належаў Іваноўскім, у 1902 г., але бадай увесь быў знішчаны.
А. Бурбіс. Беларуская Сацыялістычная Грамада ў першым пэрыядзе яе працы (1903–1907), б. 178 (зборнік “Беларусь”, у Менску 1924). — *Заўвага Я. Станкевіча.*

[177] **Беларуская рэвалюцыйная партыя** — нелегальная арганізацыя ў Санкт-Пецярбургу, створаная на аснове беларускага студэнцкага гуртка ў 1902 г.

[178] **Алесь Бурбіс** (1885–1922), грамадскі дзеяч, эканаміст, адзін з заснавальнікаў і лідараў БСГ. Адзін са стваральнікаў беларускага прафесійнага тэатра, аўтар даследаванняў па эканамічнай геаграфіі, гісторыі, этнаграфіі, сельскай гаспадарцы, банкаўскай справе. У 1917 г. узначальваў Маскоўскую арганізацыю БСГ, у 1918 г. консул БНР у Маскве.

[179] **Іван Луцкевіч** (1881–1919), грамадскі і культурны дзеяч, адзін са стваральнікаў БСГ і газеты “Наша Ніва”. Старэйшы брат Антона Луцкевіча.

[180] **Антон Луцкевіч** (1884–1943), грамадска-палітычны дзеяч, гісторык. Брат Івана Луцкевіча. Адзін з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага руху XX ст. Быў сярод заснавальнікаў газет “Наша Доля” і “Наша Ніва”. Старшыня Рады і міністр замежных спраў БНР.

[181] **Карусь Каганец** (сапр. **Казімір Кастравіцкі**, 1868–1918), пісьменнік

[182] **Віктар Зелязей** (1881 — пасля 1951), грамадскі і палітычны дзеяч, публіцыст. Ад 1903 г. быў сябрам і адным з кіраўнікоў БСГ у Менску. У студзені 1906 г. на яго кватэры адбыўся Другі з’езд БСГ. На пачатку 1908 г. арыштаваны разам з малодшым братам Сігізмундам і асуджаны Віленскай судовай палатай на высылку. У 1920-я гг. працаваў у Інбелкульце. Падрыхтаваў даклад “Утварэнне і праца БСГ”, з якім выступіў на пасяджэнні секцыі рэвалюцыйнага руху. У 1951 г. жыў у Ратамцы пад Мінскам.

былі ў Менску. А ў Вільні былі: студэнт-тэхналёг Пранціш Умястоўскі[183] ("Дзядзька Пранук"), гімназісты Аляксандра Бурбіс ("Піліп"). У Пецярбурзе былі: студэнт-тэхналёг Вячаслаў Іваноўскі ("Вацюк Тройца"), студэнтка Алёіза Пашкевічанка[184] ("Цётка"). Партыя, між іншага, *«друкуе ў Лёндане кніжку яго (Пранціша Багушэвіча[185]) твораў на папяроснай паперы пад назовам "Песьні", з надпісам на вокладцы "С разрешения Синодальной типографии"»*[186]. У тым-жа 1902 г. партыя зьмяніла свой назоў на "Беларуская Рэвалюцыйная Грамада". З найэнэргічнейшых працаўнёў у Беларускай Рэвалюцыйнай Грамадзе можна назваць, апрача вышменаваных, — Хвелікса Стацкевіча ("Аганёк")[187], студэнта Пецярбурскага ўнівэрсытэту, родам із Шчучына Лідзкага пав., студэнта Матусэвіча, студэнта рыскае палітэхнікі Аляксандра Ўласава[188].

Як бачым, усё гэта была моладзеж, блізу адны студэнты (студэнтам хіміі быў таксама Антон Луцкевіч, студэнтам Археолёгічнага Інстытуту ў Пецярбурзе быў Іван Луцкевіч).

---

183 **Францішак Умястоўскі** (1882–1940), беларускі культурны і грамадска-палітычны дзеяч. Браў удзел у выданні "Нашай Долі" і "Нашай Нівы". У 1919–1920 гг. удзельнічаў у працы Беларускай вайсковай камісіі, з верасня 1920 г. быў яе старшынёй. У 1920-я гг. прадстаўнік паланафільскага кірунку беларускага руху. У 1927–1928 гг. старшыня Беларускай радыкальна-народнай партыі, рэдактар-выдавец газеты "Беларускі дзень". У 1928 г. адышоў ад грамадскай і культурна-асветніцкай працы.

184 **Цётка** (сапр. **Алаіза Пашкевіч**, 1876–1916), паэтка, грамадская дзяячка, публіцыст.

185 **Францішак Багушэвіч** (1840–1900), грамадскі дзеяч, паэт, празаік, публіцыст, перакладчык. Адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры.

186 У згаданай кнізе "Песні" былі змешчаны вершы не толькі Францішка Багушэвіча, але і Каруся Каганца і Цёткі. Юры Туронак даказаў, што гэтае выданне з'явілася не ў Лондане, а ў Кракаве ў 1904 г. (гл.: Туронак, Юры. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2006. С. 49–52).

187 **Фелікс Стацкевіч** (1879–1967), грамадска-палітычны дзеяч, быў сябрам Беларускай сацыялістычнай грамады, працаваў у падпольнай друкарні ў Менску. Аўтар "Эсперанта-беларускага слоўніка". Пакінуў успаміны пра ўдзел у нацыянальным руху (рукапіс захоўваецца ў БДАМЛМ).

188 **Аляксандр Уласаў** (1874–1941), грамадска-палітычны і культурны дзеяч, публіцыст, рэдактар-выдавец газеты "Наша Ніва".
А. Бурбіс. Беларуская Сацыялістычная Грамада ў першым пэрыядзе яе працы (1903–1907), б. 178. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

### *Праблемы моладзежы*

На гэтым месцы нельга не закрануць праблемы моладзежы, наймя грамадзкай і палітычнай працы ейнай. Ёсьць народы, каторых моладзеж, пакуль не паканчае школаў, грамадзка й палітычна не працуе, але толькі займаецца навукаю й спортам. У другіх народаў, наадварот, моладзеж ідзець уперадзе ў грамадзкім і палітычным руху. Можна зацеміць, што да першых належаць народы, маючыя палітычную незалежнасьць, народы гаспадарстваўвыя; да другіх пераважна належаць народы безгаспадарстваўвыя. У народаў гаспадарстваўвых звычайна ёсьць даволі рабачаёў бяз моладзежы, у народаў-жа безгаспадарстваўвых часта грамадзкіх рабачаёў не стаець. Гэта адна прычына розьніцы ў пастулку моладзежы. Другой прычынаю ёсьць патрэба нацыянальнага ўзгадаваньня самае моладзежы. У народаў гаспадарственных усё жыцьцё працята нацыянальнаю атмасфэраю, дзеля таго там і без грамадзкай працы моладзеж працінаецца ідэялёгіяю свайго народу. Ня тое ў народаў безгаспадарстваўвых; у гэтых не пануе так моцна нацыянальная атмасфэра, бо дзеля гэтага недаволі ў іх нацыянальных установаў, тут моладзеж бяз учасьця ў нацыянальнай працы ня была-б уцягнена ў жыцьцё свайго народу, нацыянальнае жыцьцё памалу рабілася-б ёй няцікавым, чужым, і вырасшы, такая моладзеж заставалася-б бязьдзейнай. Дзеля таго ў народаў бяз свайго гаспадарства, а ў нас асабліва, канечне трэба, каб моладзеж грамадзка працавала, а калі не стаець старшых, дык каб працавала й палітычна.

### *Дальшая дзеяльнасьць беларускіх сацыялістых*

У 1903 г. адбыўся першы зьезд партыі (Беларускае Рэвалюцыйнае Грамады), на каторым было пастаноўлена *“дабівацца краёвай аўтаноміі Беларусі із сомам у Вільні”*. Пастаноўлена таксама *“расправаць зямельную праграму на аснове канфіскацыі бяз выкупу панскіх двароў, скарбовых і іншых”*. На гэтым зьезьдзе Беларуская Рэвалюцыйная Грамада пастанаўляе звацца *“Беларускай Сацыялістычнай Грамадою”*.

Бурбіс (там-жа) адзначае імкненьне Беларускае Сацыялістычнае Грамады прылучыць да сябе закладзеную ў 1904 г. студэнтам Трусоўскім[189],

[189] Сярод заснавальнікаў Сацыялістычнай партыі Белай Русі былі браты Станіслаў і Казімір Трускоўскія.

М. Фальскім[190] і А. Жабаю[191] "Сацыялістычную партыю Белае Русі"[192]. Перамовы, адылі, не давялі да злучэньня. У 1906 г. Сац. Парт. Белае Русі перастала існаваць.

*"Беларуская Сацыялістычная Грамада наагул мела найшыршыя замеры задзіночыць у сабе мясцовыя сацыялістычныя арганізацыі"*[193].

Беларуская Сацыялістычная Грамада ўлетку 1905 г. закладае ў Менску Першы Краёвы Камітэт, а ў Вільні — Другі Краёвы Камітэт. У 1905 г. БСГ выдаець цэлы сьцяг праклямацыяў пабеларуску. У тым-жа годзе партыя нажыла ў Менску сваю нелегальную друкарню. Загадваў ёю Хвэлікс Стацкевіч, каторы дзеля гэтага мусіў наўчыцца друкарства. У сакавіку 1905 г. Грамада склікала *"І-шы сялянскі зьезд, каторы вынес пастанову адабраць зямлю ад паноў… і дабівацца краёвай аўтаноміі Беларусі із соймам у Вільні і інш."*. БСГ арганізавала таксама Беларускі Сялянскі Саюз[194].

У студню 1906 г. у Менску адбыўся 2-гі зьезд БСГ. *"У пытаньню пра гаспадарствавы лад зьезд пастанавіў змагацца за фэдэрацыйную дэмакратычную рэспубліку, за краёвую аўтаномію Беларусі із соймам у Вільні"*. Зьезд распрацаваў арганізацыйны статут і выбраў цэнтральны камітэт, у каторы ўвайшлі браты Іван і Антон Луцкевічы, В. Іваноўскі і А. Бурбіс. У 1906 г. беларуская рэвалюцыйная праца і сярод сялян, і сярод работнікаў (асабліва ў Менску) вялася

---

190 Маецца на ўвазе **Мар'ян Фальскі** (пол. *Marian Falski*, 1881–1974), беларускі і польскі грамадскі дзеяч, навуковец, арганізатар асветы. У 1903–1904 гг. займаўся арганізацыяй нелегальнай беларускай выдавецкай дзейнасці ў Кракаве. У канцы 1904 г. разам з Вацлавам Іваноўскім удзельнічаў у напісанні першага «Беларускага лемантара»

191 **Адам Жаба** (?–1918), аграном, грамадскі дзеяч. Закончыў Варшаўскі ўніверсітэт, факультэт натуральных навук. Працаваў як хімік у лабараторыі Лібава-Роменскай чыгункі, адкуль з'ехаў і паступіў у Пятроўска-Разумоўскую акадэмію. Атрымаў дыплом агранома. У часе Першай сусветнай вайны быў у царскім войску, пасля вайны служыў у Менску ў розных інстытуцыях. Быў фундарам Сацыялістычнай партыі Белай Русі (1904–1906).

192 **Сацыялістычная партыя Белай Русі** — нелегальная палітычная арганізацыя, якая дзейнічала ў 1904–1907 гг. Мела аддзяленні ў Варшаве, Гродне і Менску. Выступала за звяржэнне самаўладдзя і ўсталяванне выбарнай народнай улады, заклікала моладзь не ісці ў войска, далучацца да народнага "бунту".

193 А. Зіміонка: Соцыялістычны рух на Беларусі. II. Партыя соцыялістых-рэвэлюцыянераў, б. 166 (зборнік "Беларусь", у Менску 1924). — *Заўвага Я. Станкевіча.*

194 Бурбіс, там-жа, 179. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

вельмі шырака; адначасна вялася праца сярод народных вучыцялёў і вучаніцкае моладзежы. Улетку 1906 г. БСГ узялася энэргічна за арганізаваньне сельскагаспадарскіх забастовак… У тым самым 1906 г. арганізуецца Беларускі Вучыцельскі Саюз і Беларускі Саюз Вучыцельскіх Сэмінарыяў і інш. Апрача вышменаваных працаўнёў, А. Бурбіс, з каторага я бяру гэтыя ведамкі, завець яшчэ ў сваёй працы некаторых новых выдатнейшых — Ц. Кукеля ("Апанас"), К. Яноўшчанку ("Параска"), С. Скандракова[195] ("Янка"), А. Шабуню. Дадам ад сябе яшчэ колькіх выдатных дзеячоў гэтага часу, наймя быў Станулевіч, ён быў арыштаваны, звольніўся з турмы па рэвалюцыі 1917 г., тады стаўся ведамы як выдатны каапэратыўны арганізатар, памёр у пачатку 20-х на сухоты, на каторыя захварэў у турме. Сюды-ж належыць Язэп Лёсік[196], вучыцель, пісьменьнік і публіцысты і Аляксандра Прушынскі[197] (паэта Алесь Гарун), менскі работнік; абодва яны былі засланыя да Сібіру, скуль зьвярнуліся па рэвалюцыі 1917 г. Прушынскі, праўда, належыў да партыі максымалістых, але ідэялёгічна характарам сваёй дзейнасьці ня розьніўся ад сяброў Беларускае Сацыялістычнае Грамады; сама партыя максымалістых борзда перастала існаваць у Беларусі. Прушынскі, хворы на сухоты, на каторыя захварэў на засланьню, памёр у 1920 г., захварэўшы на крываўку. Лёсік асабліва адзначыўся як нацыянальна-культурны дзеяч у час рэвалюцыі 1917 г. і пасьлей. У 1930 г. расейскія бальшавікі яго арыштавалі й выслалі. Няма ведама, ці жывець[198]. Да Сібіру *"на вечнае пасяленьне"* быў высланы ў 1904 г. вышменаваны В. Зелязей[199]. У 1905–1906 гадох, калі я быў у першай клясе месцкае школы ў Ашмяне, там і ў цэлым павеце гудзела ад дзеяльнасьці беларускіх рэвалюцыянераў Аляксандры

---

[195] **Сяргей Скандракоў** (1876–1953), навуковец-аграном, журналіст, краязнавец. Удзельнік нацыянальнага руху пачатку XX ст. Быў рэдактарам газеты "Голос Белоруссии" (1906), адзін з заснавальнікаў выдавецтва "Мінчук". Пазней працаваў у Інбелкульце.

[196] **Язэп Лёсік** (1883–1940), грамадскі і палітычны дзеяч, пісьменнік, публіцыст, мовазнаўца, педагог.

[197] **Алесь Гарун** (сапр. **Аляксандр Прушынскі**, 1887–1920), паэт, празаік, публіцыст, дзеяч беларускага Адраджэння пачатку XX ст.

[198] Язэп Лёсік быў паўторна арыштаваны ў 1938 г. і ў 1940 г. асуджаны да 5 гадоў зняволення. Паводле афіцыйнай версіі, памёр ад сухотаў у саратаўскай турме.

[199] Бурбіс, там-жа, 180. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

Барановіча[200] і Чыжа[201]. Троху пасьлей Чыж быў ведамы як літаратурны крытык, што пісаў пад мянушкаю "Бульба". Барановіч працаваў на ніве беларускай і паміж дзьвюх сьветных войнаў.

З выступленьняў на міжнародным форуме БСГ адзначу ўдзел яе *"ў зьезьдзе партыяў Расеі ў Парыжу 1904 г. і ў сакавіку 1905 г. удзел у зьездзе ў Жэневе, на каторым былі: фінская партыя дзейнае абароны, ППС[202], армянскія дашнак-цюцюны[203], грузінсія эс-сэр фэдэралістыя, латыскія с-р., расейскія с-р[204]"*[205].

Крыху вышэй адцемленыя пастановы БСГ і скліканага ёю Сялянскага зьезду дамагацца краёвай аўтаноміі Беларусі із соймам у Вільні. Але ўжо тады кіраўніцтва БСГ мела наўвеце незалежнасьць Беларусі. Пра імкненьне БСГ да незалежнасьці Беларусі заявіў дэлегат гэтае партыі Шчасны (відавочна мянушка) на патайным зьезьдзе ў Расеі нацыянальна-сацыялістычных партыяў у 1907 г[206]. У гэным часе лёзунг незалежнасьці Беларусі ня быў пашыраны ў нелегальных закліках, бо народ да ўспрыйма гэтага лёзунга ня быў яшчэ прыгатаваны, а ў дазволеных друках і пагатове ня мог быць такі лёзунг друкаваны, бо ня толькі дамаганьне незалежнасьці Беларусі, але нат дамаганьне аўтаноміі Расея ўважала за зраду гаспадарства і карала як за таковую.

1-га (новага стылю 14-га) верасьня 1906 г. Беларуская Сацыялістычная Грамада пачала выдаваць газэту "Наша Доля". Усяго выйшла 5 нумароў кірыліцаю й лацініцаю кажны і № 6-ы аднэй кірыліцаю. "Наша Доля" мела вельмі радыкальны характар. Із 6-ёх нумароў ейных 5 нумароў былі сканфіскаваныя цэнзурай. Дзеля

---

[200] **Аляксандр Барановіч** згадваецца ва ўспамінах Антона Шукелойця як адвакат, які сярод іншага кіраваў у Ашмянах беларускім гуртком сацыялістычнай моладзі.

[201] Маецца на ўвазе **Альгерд Бульба** (сапр. **Вітаўт Чыж**, 1884–1939), грамадскі дзеяч, этнограф, крытык і публіцыст.

[202] **Польская сацыялістычная партыя** (ППС, *Polska Socjalistyczna Partia — PPS*) — левая палітычная партыя ў Польшчы, заснаваная ў 1893 г.

[203] **Армянская рэвалюцыйная федэрацыя (Дашнакцуцюн)** — армянская палітычная партыя, створаная ў 1890 г. у Тбілісі.

[204] **Партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў** — расійская рэвалюцыйная палітычная партыя, заснаваная ў 1902 г.

[205] Там-жа, б. 181. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

[206] Протоколы Конференции Российских Национально-социалистических Партий 16–20 апреля 1907 г. СПР, 1908, б. 92. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

таго выдаўцы “Нашае Долі” пастанавілі перастаць яе выдаваць і замест яе выдаваць “Нашу Ніву”, каторай першы нумар вышаў 10 (новага стылю 23) лістападу 1906 г., пры гэтым спачатку побач із “Нашай Ніваю” вышлі яшчэ два нумары “Нашае Долі”[207]. “Наша Ніва” мела шмат мярнейшы характар і праіснавала да нямецкае акупацыі ўвосень 1915 г.

Ад назову “Нашае Нівы” ўся разгляданая пара беларускага адраджэньня адзержыла назоў пары “Нашае Нівы” або “Нашаніўскае пары”. Ведама, да гэтае пары належа ня толькі час, калі выходзіла “НН”, але й час папярэдні ад 1902 г., бо ўвесь гэты час адзначаецца аднолькавым характарам беларускае дзеяльнасьці ды з тым самым галоўным стрыжнем у ёй. Характар гэтае пары не зьмяніўся-б ад таго, калі-б галоўная ейная газэта звалася ня “Нашай Нівай”, а начай.

Тое, што “НН”, а неўзабаве і ейныя сяброве — іншыя часапісы беларускія выходзілі ўставічна, без перарыву, вытварыла давер, пэўнасьць, што пачатая дзеяльнасьць не запыніцца, — адным чынам трывалкасьць выдавецтва абумовіла трывалкасьць руху.

### *Плыні*

*Сацыялістыя*. Вышменаваныя дзеячы й працаўні беларускага адраджэнскага руху былі сацыялістыя. Сацыялізм тады ня быў яшчэ скампрамітаваны камуністамі, утажсамляўся зь імкненьнем да роўнасьці й справядлівасьці, моладзеж ім захаплялася й праходзіла, адныя болей, другія меней, сацыялістычную школу. Да ідэялёгіі сацыялізму ў Расеі наагул, а ў Беларусі ў васаблівасьці належыла нэгатыўнае дачыненьне да рэлігіі. І нашыя сацылістыя справамі рэлігійнымі й царкоўнымі ня цікавіліся. Але гэта, казаў той, абавязвала адных іх, такога свайго пагляду яны іншым не накідалі й навонкі зь ім дэманстрацыйна ня выступалі. Да ідэялёгіі сацыялізму таксама належыла падчыркваньне надзвычайнае дэмакратычнасьці беларускага руху. Прыкладам, у сваім часе ў “НН” ня раз адзначалася, што сярод беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў няма вышэй становішчам за народнага вучыцеля. Пра іншую характарыстычную гэтай групе рысу будзе сказана ніжэй. Ладны час толькі адна

[207] Пра “Нашу Долю” гл. артыкул А. Шлюбскага “Новыя матар’ялы да гісторыі “Нашае Долі” (Полымя, 1927, № 3) і таксама артыкул Н. Недасека “Паўвеку “Нашае Долі” (“Беларус”, № 57, у Нью Ёрку, 1957 г.). — *Заўвага Я. Станкевіча.*

гэтая плынь была арганізаваўшыся. Людзі гэтае плыні — не сама плынь — заставаліся хрыбтом беларускага адраджэнскага руху да канца Нашаніўскае пары.

Выдаючы першы нумар “НН”, рэдакцыя ейная заявіла, што яна будзе мець наўвеце, будзе рупіцца не пра адных мужыкоў або паноў, не пра адну якуюсь клясу, але пра ўвесь народ беларускі. Не зважаючы на такую заяву, Нашаніўцы для паноў не працавалі, бо паны іхнае працы не патрабавалі, дый з паміж панства былі адно адзінкі сьвядомых Беларусаў. Менаваная заява, адылі, мела вялікая значэньне й магла высьці толькі ад людзёў шырокага гарызонту. Робячы яе, выдаўцы й рэдактары “НН” пераставалі быць вузкімі партыйнікамі, але станавіліся ходаньнікамі й прадстаўнікамі беларускае нацыі, бо, накш, партыя абымала ўвесь народ із усімі ягонымі клясавымі ідэялёгічнымі розьніцамі. Рупнасьць пра паноў значыла, што іх, як і іншыя клясы беларускага народу, трэба нацыянальна ўсьвядоміць, што яны павінны стацца сябрамі дзейнымі свайго народу. Менаванай заяваю кіраўнікі беларускага руху дапушчалі, што з усіх клясаў могуць быць беларускія ідэйныя працаўні й могуць быць розныя плыні ў беларускім адраджэнскім руху. І таковыя плыні зьявіліся.

*Народная плынь*. Калі неўзабаве беларускі адраджэнскі рух пашырыўся, калі ён закрануў сяло і зь ягонага нутра ўцягнуў у сябе новых вернікаў беларускае ідэі, то зьявілася новая плынь, каторую можна было-б назваць народнай, а сяброў ейных народнікамі. Ня трэба пры гэтым мяшаць іх із расейскімі народнікамі, каторыя хадзілі ў народ, бо нашы народнікі, наадварот, выходзілі з народу, або, яшчэ часьцей, знаходзіліся ў народзе й заставаліся ў ім. Людзі гэтае плыні, ці яны былі няпісьменныя або малапісьменныя, ці інтэлігенты, не праходзілі сацыялістычнае школы дый ніякае іншае партыйнае школы й дзеля гэтага яны былі вольныя ад чужых ідэялёгічных напластаваньняў. Яны падыходзілі да пайма нацыі без мудрагеленьняў, вытвараных у народаў із іншым палажэньнем і іншымі патрэбамі, мудрагеленьняў, што зьмяшчалі ў сабе хвальш. У народаў імпэрыялістычных, што дзяржалі ў залежнасьці, часта ў няволі іншыя народы, дэнацыяналізавалі іх, вытварыўся пагляд, што хто за каго сябе нацыянальна ўважае, такой нацыянальнасьці ён і ёсьцека. Гэткі пагляд, ведама, памагаў імпэрыялістам удзержаваць у няволі паняволеныя народы.

Але й гэткага-ж пагляду былі й беларускія сацыялістыя. У “Нашай Ніве” можна было чытаць артыкулы пяра А. Луцкевіча, у каторых казалася, што наш край ёсьць краем із пяцьма нацыямі. Гэтымі нацыямі ёсьць Беларусы, Лятувісы, Жыды, Палякі й Расейцы[208]. Прамеж таго, Беларусы былі ў сваім краю, а Лятувісы ў сваім; Жыды былі ў тэй або іншай меры ў усіх эўрапэйскіх і некаторых неэўрапэйскіх краёх; Палякі й Расейцы былі ўважаючыя сябе за такіх Беларусы. Насланыя расейскія ўраднікі і аднаго працэнта не складалі, былі малым дробам; а запраўднымі Палякамі былі адно адзінкі. Уважаць апалячаных або абруселых Беларусаў за Палякаў або Расейцаў — значыла супакоеваць іхнае нячыстае сумленьне; бо калі ты такі, за каго сябе ўважаеш, то можаш такім і заставацца. Адраджэнцы народнае плыні добра бачылі, што несьвядомыя Беларусы адно сваім несьвядом’ем розьняцца ад сьвядомых. Калі-ж гэтыя адраджэнцы даведаліся пра беларускае паходжаньне паноў у Беларусі, то яны й да ставілі такія самыя вымаганьні, як да Беларусаў сьвядомых.

Беларускія сацыялістыя вымагалі ад “польскіх” (запраўды апалячаных) паноў у Беларусі, каб яны закладалі беларускія школы (урадавыя школы беларускія былі забароненыя), даводзячы, што гэта іхная павіннасьць да народу, сярод каторага яны жывуць. Такія вымаганьні не пераконвалі тых, каму ставілася. В. Ластоўскі[209], фактычны прадстаўнік народнае плыні, ставіў справу накш, ён вымагаў ад паноў, як ад Беларусаў, памагаць народу беларускаму ў ягоным адраджэньню. *“Сплачуйце доўг”*, пісаў ён у сваіх артыкулах, падпісаных мянушкаю *“Юры Верашчака”*, а то вы здраднікі і заслужуеце найбольшай кары. Іван Луцкевіч зваў гэта дэмагогіяй. Праўда была па баку народным: адно тыя адзінкі з паноў станавіліся ў рады беларускіх адраджэнцаў або прынамся памагалі беларускаму руху, каторыя былі нацыянальна сьвядомыя, уважалі сябе за Беларусаў.

Былі і іншыя рысы ў народнай плыні, навет і такія, якія маглі-б здавацца непатрэбнымі або сьмешнымі. Гэтак, калі сацыялістыя, стыкаючыся із сацыялістамі іншых народаў, стараліся паказаць дэмакратычнасьць беларускага адраджэнскага руху, паказаць, што

208 Прыкл., у № 46 [“Нашай нівы”] із 1911 г. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

209 **Вацлаў Ластоўскі** (1883–1938), грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, пісьменнік, мовазнаўца, літаратуразнаўца, этнограф.

ягоныя ўдзельнікі — гэта дэмос, людзі простыя, звычайна сяляне й работнікі, а калі інтэлігенты, дык ізноў займаючыя нізкія становішчы, звычайна ня вышэй народнага вучыцеля, дык, наадварот, гэтыя простыя і інтэлігенты беспасярэдня з простых, адчуваючы на сабе і на сваіх блізкіх увесь цяжар душэўнага паняволеньня, утажсамленьня варагамі, а за імі й сваймі душэўна паняволенымі, беларускасьці зь цямнотаю, прасьцінёю, мужыцкасьцю, галітой, прыкладам чаго можа служыць тое, што сказала тут мне мая блізкая суседка з краю, старая эмігрантка, што ейны бацька, ведама, гаварыў папросту, бо як ён мог начай гаварыць із каровамі — адчуваючы ўсё гэта, стараліся знайсьці й паказаць, што любячыя беларушчыну (мову і інш.) ёсьць ня толькі людзі простыя, але й людзі інтэлігентныя, і займаючыя высокія становішчы, і багатыя.

Дарма што народная плынь ня была, як такая, арганізаваўшыся, яна была найбольшая і ейныя сяброве зьдзеялі найболей дзеля беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Да народнае плыні належалі аднолькава як Беларусы праваслаўныя, так і каталікі. Розьніцы ня было ніякае або, накш, не зважаючы на рэлігійныя розьніцы, былі адны адным родныя браты. Ня было цёмнага, азіяцкага, перанятага з Маскоўцаў, рэлігійнага фанатызму, што калі іншае веры, дык ты мне вораг. Звычайна ў стычнасьці Беларусаў абедзьвюх вераў рэлігійныя пытаньні не падымаліся, а калі падымаліся, дык яны разглядаліся з гледзішча нацыянальнага. Адным чынам рэлігійная й царкоўная прыналежнасьць ня была характарыстычнай рысаю гэтае плыні.

*Духоўныя ў праваслаўных.* Але ў Беларусаў праваслаўных і каталікоў былі духоўныя, былі сьвятары, і сярод іх рыса рэлігійна-царкоўная мусіла стацца рысаю важнай, рысаю, што апрычыла іх і іхных супрацаўнёў з агульна-народнае плыні ў васобную плынь праваслаўную або каталіцкую. Мусіла гэта стацца з таго часу, калі паўстала сьвядомае беларускае духавенства праваслаўнае й каталіцкае. З духавенствам праваслаўным справа была цяжкая. Яно мела каставы характар да 1-е сьветнае вайны. Праваслаўныя духоўныя сэмінарыі запаўняліся сынамі праваслаўных сьвятароў, каторыя былі зрусыфікаваныя. Сыну беларускага селяніна лучыць у праваслаўную духоўную сэмінарыю было надта цяжка, а звычайна й зусім немагчыма як дзеля свайго матар’яльнага стану, так і дзеля таго, што кіраўніцтва сэмінарыі не жадала мець у сябе за гадунцоў

сялянскіх сыноў. А паповічы зі свае зрусыфікаванае радзімы лучалі ў яшчэ болей зрусыфікаваную духоўную сэмінарыю. Навукова, з навукі гісторыі дайсьці беларускаму праваслаўнаму кандыдату на сьвятара да нацыянальнага сьвядом'я было таксама немагчыма, бо ня было ў Беларусі праваслаўнай духоўнай акадэміі, яе Расейцы даць нам баяліся. Дык будучыя праваслаўныя сьвятары ў Беларусі не маглі самі даходзіць праўды, як гэта робяць у высокіх школах, але як у школах сярэдніх, прымалі гатовую веду, каторую ім давалі ў расейскім сосе насланыя з Расеі русыфікатары або абруселыя ўжо Беларусы-янычары. Скончыўшы духоўную сэмінарыю, маладзён, калі хацеў быць пасьвячоны за сьвятара, жаніўся звычайна з папоўнаю, зн. узноў із зрусыфікаванай дзяўчынаю.

З другога боку, і праваслаўнае сялянства ня імкнулася да таго, каб ягоныя сыны былі сьвятарамі, гэта быў яму ідэал досыць высокі. Тыя сяляне, што стараліся, каб іхныя дзеці “вышлі ў людзі”, абмежаваліся панствам ніжшым, вось каб сын выйшаў за народнага вучыцеля, пісара, хвэльчара. Хто добра скончыў народную школу (3 гады навукі), той мог паступіць у вучыцельскую сэмінарыю, дзе меў усё дармовае — навуку, гасподу і яду. За 4 гады ён быў гатовы вучыцель. Дзеля таго былі й такія сёлы, дзе ня было хаты, з каторай ня было-б вучыцеля.

Зь менаваных прычынаў нацыянальна сьвядомае праваслаўнае духавенства беларускае зьявілася толькі па першай сьветнай вайне.

*Каталіцкая плынь*

У іншым палажэньні былі Беларусы каталікі. Ксяндзы ня мелі сем'яў, дык і не магло быць ксяндзоўскае касты. Як і сяляне праваслаўныя, каталікі ня мелі высокіх ідэялаў для будучыні сваіх сыноў. Ім было-б досыць, калі-б іхныя сыны былі народнымі вучыцелямі, валаснымі пісарамі, хвэльчарамі. Але ў Расеі ня было дазволена Беларусу каталіку быць вучыцелем, таксама не маглі яны быць пісарамі ў валасьцёх. Хвэльчарамі маглі быць, але пра хвэльчарскія школы ня было чуваць, было іх надта мала. Дык найбліжэйшым магчымым ідэялам сялянска-каталіцкіх хлапцоў, асабліва-ж бацькоў, быў ксёндз. Паны ня імкнуліся вучыць сваіх сыноў за ксяндзоў, уважалі палажэньне ксяндза за нізкае й цяжкае сабе. Дык у каталіцкія духоўныя сэмінарыі ішлі дзяцюкі мяшчанскія, сялянскія й засьцянковае шляхты.

Каб паступіць у духоўную каталіцкую сэмінарыю, трэба было або скончыць пяць клясаў гімназіі, што тады ў беларускіх сялян

здаралася рэдка, або здаць эгзамен за аптэкарскага вучаньніка, пасьля гэтага пры паступленьні ў сэмінарыю быў толькі эгзамен з расейскае мовы, гісторыі й геаграфіі Расеі. Прыгатавацца да эгзамену за аптэкарскага вучаньніка можна было або экстэрнам, зн. ня вучачыся ў школе, як шмат хто й рабіў, або скончыць месцкую школу (гарадзкое вучылішча — 4 гады навукі пасьля народнае школы), а потым прыгатавацца й здаваць эгзамен за аптэкарскага вучаньніка з лацінскае й нямецкае мовай і, здаецца, з матэматыкі. У сэмінарыі навука і яда былі дармовыя, таксама гаспода, а на адзежу, кніжкі і палепшаньне яды памагалі сваякі або суседзі, што вельмі спрыялі кандыдатам як-бы ў палусьвятыя ў вачох сялян каталікоў.

Гэткім парадкам дарога Беларусам каталіком да выжшае за народную дармовую школу была шмат большая, чымся праваслаўным да вучыцельскае сэмінарыі. Але з гледзішча на захаваньне свае нацыянальнасьці, няхай і няўсьвядамлянае нацыянальнае апрычонасьці, гэта дарога была бясьпечнейшая: у месцкіх і агульнаасьветных сярэдніх школах не праводзілася такая моўная, да дробязі абдуманая русыфікацыя, як гэта было ў школах закрытых — вучыцельскіх і праваслаўных духоўных сэмінарыях. А польскі ўплыў мог прыходзіць толькі звонку школы.

Беларусы маглі паступаць у дзьве каталіцкія духоўныя сэмінарыі — Віленскую й Магілёўскую, як і такую-ж духоўную акадэмію, якія былі ў Пецярбурзе. Каталіцкая духоўная акадэмія і пры ёй сэмінарыя былі перанесеныя расейскаю ўладаю зь Вільні ў Пецярбург у 1842 годзе. Як і іншыя высокія школы, у тым ліку каталіцкую духоўную акадэмію Расейцы ўважалі за небясьпечныя ў Беларусі й дзеля таго старыя зачынялі, а новыя не дазвалялі. Што да акадэміі ў Пецярбурзе, то расейскі ўрад уважаў, што, вывезеная зь Беларусі, яна ня будзе небясьпечнай расейскім уплывам і што ў расейскай сталіцы ейныя гадунцы падпадуць пад расейскі ўплыў. Ведама, што духоўная акадэмія зь сядзібаю ў Пецярбурзе ня была такою карыснай, якой была-б, калі-б заставалася ў Беларусі, але гадунцы ейныя не русыфікаваліся. Трэба зацеміць, што ў гэтай акадэміі можна было вучыцца толькі на свой кошт.

Кіраўніцтва менаваных сэмінарыяў і акадэміі, як і кіраўніцтва ўсім каталіцкім касьцёлам у Беларусі, было ў руках польскіх, бо расейскі ўрад, жадаючы палягчыць сабе русыфікацыю большыні

Беларусаў, зн. праваслаўных, другую, меншую часьць, каталіцкую аддаў на жыр Палякам.

Найменш васемнаццацігадовыя, а звычайна старшыя дзяцюкі, паступіўшы ў духоўную сэмінарыю каталіцкую, калі да паступленьня яны ня былі спалячаныя, ня вельмі паддаваліся польскаму ўплыву. Апрача таго, у Віленскай сэмінарыі быў не малы лік клерыкаў — гэтак зваліся вучаньнікі каталіцкіх духоўных сэмінарыяў — Лятувісаў, а ў Магілёўскай — Латгальцаў, яны звычайна былі нацыянальна сьвядомыя, бо ў іх нацыянальнае адраджэньне пачалося раней[210]. Лятувісы й Латгальцы сваім прыкладам рабілі добры ўплыў на Беларусаў. У Віленскай сэмінарыі былі й два ксяндзы вучыцелі Лятувісы, адзін зь іх кс. Бразіс вучыў клерыкаў пяяць і беларускія народныя песьні (не на лекцыях, а вонках школы — на праходках, выбегах). У Магілёўскай акадэміі і хіба ў Магілёўскай сэмінарыі прафэсарам грэцкае й лацінскае мовы быў ідэйны Беларус адраджэнец Браніслаў Эпімах-Шыпіла[211]. Карысна было й тое, што ў акадэміі студэнты й самі маглі ўжо дасьледаваць гісторыю свайго народу, а тым самым нацыянальна ўсьведамляцца.

Звычайна Беларусы каталікі паступалі ў сэмінарыі, будучы нацыянальна несьвядомыя, зн. уважалі сябе за Палякоў, хоць далёка ня ўсе былі працятыя польскай ідэялёгіяй. У сэмінарыях часьць Беларусаў нацыянальна ўсьведамлялася, дзякуючы менавіта акалічнасьцям, а галоўна дзякуючы тым, што паступалі ў сэмінарыю нацыянальна сьвядомыя, адзінкі з гэтых адумысьля паступалі ў сэмінарыю дзеля таго, каб, будучы потым ксяндзамі, шырыць сярод народу беларускую сьведамасьць. Яны асабліва займаліся ў сэмінарыях усьведамленьнем сваіх несьвядомых сяброў і найболей у гэтым кірунку зрабілі.

У першых гадох 20-га стагодзьдзя ксяндзоў, сьведамых Беларусаў, было мала. Я асабліва знаў ксяндза Лісоўскага[212] ізь сяла Каранды, Крэўскае воласьці, Ашмянскага павету, ім хтосьці

[210] Наагул можна сказаць, што народы, падпалыя пад заходня-эўрапэйскі ўплыў (швэдзкі, нямецкі, ангельскі й інш.), барзьдзей адроджаюцца, чымся народы, падпалыя пад уплыў расейскі. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

[211] **Браніслаў Эпімах-Шыпіла** (1859–1934), грамадска-культурны дзеяч, выдавец, фалькларыст, мовазнаўца, літаратуразнаўца. Адзін з арганізатараў беларускага грамадска-культурнага руху ў Санкт-Пецярбургу на пачатку XX ст.

[212] **Адам Лісоўскі** (1882–1929), каталіцкі святар, адзін з заснавальнікаў беларускага хрысціянскага руху.

збоку зацікавіўся і памог вучыцца. Прыпадкам я пазнаёміўся таксама з ксяндзом Астрамовічам (паэта Андрэй Зязюля)[213] із сяла Навасады, Гальшанскае вол., Ашмянскага пав. Чувацъ было й пра ксяндзоў Бэту[214], прафэсара ў духоўнай сэмінарыі ў Сэйнах Сувальскае губ., што напісаў і выдаў кніжку "Пчалінка жывёлка малая, а карысьці дае многа", пра кс. Хведзьку[215] і кс. Грынкевіча[216]. Гэтыя тры паходзілі із заходняе Горадзеншчыны. Кс. Грынкевіч арганізаваў у Гародні гурток гімназістых, каторы выдаваў і свой часапіс (не памятаю ягонага назову, здаецца "Каласы", як і ня памятаю, быў ён рукапісны ці літаграфаваны). Дзякуючы кс. Грынкевічу й гэтаму гуртку, усьвядоміліся, між іншым, браты Станіславы Грынкевічы[217], пасьлей дактары мэдыцыны, ксяндзовы братанічы, адылі др. Б. Грабінскі[218], Лабанец[219], Жук[220] і інш., як і браты

---

213 **Аляксандр Астрамовіч** (псеўд. **Андрэй Зязюля**, 1878–1921), каталіцкі святар, паэт.

214 **Генрык Бэта** (1886–1965), беларускі і польскі грамадскі і рэлігійны дзеяч, каталіцкі святар.

215 Маецца на ўвазе **Люцыян Хведзька** (1889–1944), каталіцкі святар. Адзін з пачынальнікаў Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці. Заснавальнік газеты "Крыніца". Служыў у парафіях на Піншчыне і Стаўпеччыне.

216 Маецца на ўвазе **Францішак Грынкевіч** (1884–1933), каталіцкі святар. Удзельнік нацыянальнага руху пачатку XX ст. Быў пробашчам кляштара брыгітак у Гродне.

217 **Станіслаў Грынкевіч (старэйшы)** (1902–1945), палітычны і культурны дзеяч, медык-псіхіятр. У 1931–1936 гг. віцэ-старшыня ЦК Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Летам 1944 г. застаўся ў Беларусі, быў арыштаваны НКУС. 18 траўня 1945 г. ваенным трыбуналам Беларуска-літоўскай ваеннай акругі быў прыгавораны да расстрэлу і ў ліпені расстраляны ў Магілёве.
**Станіслаў Грынкевіч (малодшы)** (1912 —1966), грамадскі дзеяч, медык. Сябра Беларускага студэнцкага саюзу, рэдкалегіі часопіса "Калосье". У 1939 г. быў мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у нямецкі палон. Ад восені 1941 г. да восені 1943 г. сакратар Беларускага камітэта самапомачы ў Берліне, выкладчык на настаўніцкіх курсах пры камітэце. Пазней рэдактар перыёдыкаў "Раніца" і "Беларускі работнік". У 1950 г. перабраўся ў ЗША.

218 **Баляслаў Грабінскі** (1899–1991), грамадскі дзеяч, медык. Адзін з лідараў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. У 1941–1944 гг. старшыня віленскага БНК. Пасля вайны жыў на эміграцыі, працаваў доктарам-стаматолагам у ЗША.

219 Вядома, што нехта **І. Лабанец** у 1923 г. быў абраны на старшыню Беларускага студэнцкага саюза.

220 Відаць, маецца на ўвазе **Ян Жук** (1897–1974), каталіцкі святар. Вучыўся ў Віленскай каталіцкай семінарыі. У 1920 г. рукапакладзены ў святары.

Зянюкі[221]. Зь Віленшчыны былі ксяндзы Пякарскі[222] з-пад Вішнява Ашмянскага (пасьлей Валожынскага) пав. і Рамейка[223]. Старшы векам і становішчам быў кс. Дзянісэвіч[224] у Магілёўскай дыяцэзіі (у Магілёўскай дыяцэзіі працавалі таксама менаваныя ўжо ксяндзы Лісоўскі і Астрамовіч). Першым арганізатарам каталіцкае плыні ў беларускім руху быў ксёндз Пранціш Будзька[225], дзядзька (ня родны) Адварда Будзькі[226], пра яго мова будзе ніжэй.

У 1912–1915 гадох у менаваных каталіцкіх сэмінарыях і акадэміі сьвядомыя Беларусы складалі ладны працэнт[227]. Калі яны былі пасьвячаныя ў ксяндзы, дык усіх нацыянальна сьведамых ксяндзоў Беларусаў было звыш сотні, а некаторыя налічалі й да 150-ёх. У 1917 г. па рэвалюцыі яны на заходнім баку расейска-нямецкага фронту сярод беларускага каталіцкага насельніцтва за кароткі час зрабілі вялікую работу. Пасьлей адылі, у БССР яны былі ўсе зьнішчаныя.

У Беларусі заходняй, пад Польшчай было ня шмат ляпей. Яны й тут былі перасьледаваныя, арыштоўваныя, ссыланыя. Часьць беларускіх ксяндзоў у заходняй Беларусі заклала мінскі ордэн Ма-

---

Служыў у парафіях Дзісеншчыны, Слонімшчыны, Браслаўшчыны і інш. У 1940 г. арыштаваны. Вызвалены ў 1955 г. Ад 1956 г. жыў на Беласточчыне.

221 Маюцца на ўвазе браты Адольф і Янка Зенюкі. **Адольф Зянюк** (1895–1938), грамадскі дзеяч. Ад 1913 г. кіраваў Гродзенскім гуртком беларускай моладзі. Вучыўся ў Санкт-Пецярбургу, Кіеве, Вільні. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза. Выдаваў часопіс "Студэнцкая думка".

222 **Павел Пякарскі** (1889–1954), каталіцкі святар. Служыў вікарыем у Беластоку. Ад 1925 г. быў кіраўніком Ашмянскага дэканата і пробашчам у Жупранах.

223 **Францішак Рамейка** (1885–1931), каталіцкі святар. Змагаўся за беларускую мову ў каталіцкім касцёле.

224 Маецца на увазе **Стэфан Дзенісевіч** (1834–1913), рэлігійны дзеяч, каталіцкі біскуп, тройчы займаў пасаду адміністратара Магілёўскай дыяцэзіі (1903, 1905–1908, 1909–1910).

225 **Францішак Будзька** (1884–1920), каталіцкі святар, культурна-асветны дзеяч, паэт, перакладчык. Адзін з пачынальнікаў беларускага каталіцкага выдавецкага руху.

226 **Эдвард (Адварды) Будзька** (1882–1958), грамадскі дзеяч, паэт, публіцыст, выдавец. Колішні аўтар газеты "Наша Ніва", удзельнік Першага Усебеларускага кангрэса 1917 г. Пасля Другой сусветнай вайны жыў у Чыкага.

227 Такім парадкам бачым і тутака, што першая моладзеж горнецца да руху. — *Заўвага Я. Станкевіча*.

рыянаў[228]. Сябры гэтага ордэну абавязуюцца працаваць сярод свайго народу. Яны залажылі свой манастыр і гімназію ў Друі Браслаўскага павету і цяперака ўважаюць усіх Беларусаў, у тым ліку й праваслаўных, за сваіх братоў, яны ўвесь час салідарна працавалі з праваслаўнымі; пад Польшчаю яны былі праціўнікамі абмежаваньня ў правох праваслаўных і зачыняньня Палякамі праваслаўных цэркваў, што голасна й выказвалі. Адзін зь іх, кс. Адам Станкевіч[229], будучы паслом у сойме, пратэставаў супраць гэтых несправядлівасьцяў.

Прыкладам таго, як жылося ксяндзом Беларусам і як да іх ставіліся польска-каталіцкія ўлады, можа быць жыцьцё й дзейнасьць кс. Пранціша Будзькі. Ведамку пра яго бяру зь ягонага нэкралёгу, што зьмясьціў А. Б. (Адварды Будзька) у № 11 “Крыніцы”[230] з 30 мая 1920 г. (“Крыніца” выходзіла ў Вільні). У гэтым нэкралёгу, між іншага, кажацца:

*“Дайшла да Вільні смутная вестка пра сьмерць ксяндза Пранука Будзькі. Памёр ён у Янотрудзе, што ля ст. Глушаніна, на дарозе між Полацкам і Віцебскам. Пераносячы шмат зьдзеку ад бальшавікоў, захварэў на запаленьне лёгкіх і на Грамніцы 2-га лютага 1920 г. адышоў на той сьвет, маючы ўсяго 36 год.*

*Родам ён із сяла Вознаўшчына Пархвенкаўскае парахвіі Вялейскага пав. Вучыўся сьпярша ў Будслаўскай (народнай) школе, пасьлей у Вялейцы ў паветавай школе, тады ў Вільні, адкуль падаўся ў каталіцкую духоўную сэмінарыю да Пецярбургу. Там зышоўся зь беларускімі дзеячамі ў прафэсара (Браніслава Эпімаха-Шыпілы) і загарэўся да працы дзеля адраджэньня беларускага народу. Яшчэ быўшы клерыкам у сэмінарыі, аддаўся літаратурнай працы, пішучы па-беларуску артыкулікі, а найбольш перакладаючы на беларускую мову рэлігійныя кніжкі. Скончыўшы сэмінарыю, як дыякан ужо, перайшоў на навуку на свой кошт у Духоўную Акадэмію.*

228 **Марыяне** — супольнасць марыянаў беззаганнага зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, каталіцкая мужчынская кангрэгацыя, заснаваная ў 1673 г. у Рэчы Паспалітай.

229 **Адам Станкевіч** (1891–1949), грамадска-палітычны, рэлігійны і культурны дзеяч, каталіцкі святар, адзін з заснавальнікаў і лідараў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі.

230 **“Крыніца”** (да 1925 г. **“Беларуская Крыніца”**) — штотыднёвая газета, орган Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Выдавалася ў Петраградзе, Менску, Вільні ў 1917–1940 гг.

*За год навукі зыйшоўся з грошы і далей у Акадэміі вучыцца ня мог. Зьвярнуўся тады ў сэмінарыю, каб пасьвяціцца за ксяндза. Але там ён быў ужо вядомы як беларускі дзеяч і сьвячэньня ня мог дачакацца. І толькі дзякуючы паддзяржаньню з боку пралата Дзянісэвіча, Беларуса, за год пакуты і за два гады пасля навукі ў сэмінарыі нябожчык дачакаўся сьвячэньня.*

*Быў ён шмат гадоў вікарым у Полацку, адкуль любіў езьдзіць на фэсты да Вулы і да іншых парахвіяў казаць казаньні па-беларуску, на што быў майстрам і адным зь першых казаньнікам беларускім. Быў пасьля шмат год у Пецярбурзе вікарым пры касьцёле сьв. Станіслава. За доўгі час ксяндзоўства быў усё вікарым, а за пробашча лучыць ня меў ласкі, бо быў Беларус, бо меў мэту казаць да сваіх парахвіян Беларусаў казаньні па-беларуску. А каб свае думкі споўніць, нябожчык купіў быў у доўг хвальварк із капліцай у дзервяным доме, дзе і асеў быў у 1917 г., дзе і завёў беларускія казаньні і касьцёльныя песьні беларускай моваю*”[231].

Нацыянальна-адраджэнская плынь сярод беларускага каталіцкага духавенства была да некаторае меры арганізаваўшыся, была яна апрычонай часьцяй беларускае народнае плыні.

Гэткім парадкам мы бачым, што беларускі адраджэнскі рух пары “Нашай Нівы” быў рухам розных плыняў, рухам усенародным; ён не ўмяшчаўся ў васаду “Нашае Нівы”, а сама яна, па якімсь часе, перастала быць ворганам аднае вузкае партыі. З другога боку, дзеля малых ідэялягічных розьніцаў у гэтых плынях, дзеля супольнае нацыянальнае праграмы і нат з практычнага гледзішча супольнай праграмы сацыяльнай, дзеля супольнага кіраўнічага ядра гэты рух фактычна можа быць названы рухам аднае ўсебеларускае партыі, умяшчаючай розныя плыні. Ідэялягічны расьцяг гэтае партыі быў навет вужшы за ідэялягічны расьцяг Рэспубліканскае або Дэмакратычнае партыі ў Задзіночаных Гаспадарствах Амэрыкі. Калі вылучым камуністых, зьявы няпрыроднай на груньце беларускім, дык рух беларускі не зьмяніў свае ідэялягічнае асады дагэтуль, і ён павінен складаць адну шырокую партыю беларускую з рознымі ў ёй плынямі. Але ў гэтую асаду ніяк не маглі-б умясьціцца т. зв. зарубежнікі[232] як цэласьць.

---

[231] Сп. Чаславу Будзьку шчыра дзякую за прысланьне мне выпіскі нэкралёгу. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

[232] **“Зарубежнікі”** — мянушка прыхільнікаў Беларускай Цэнтральнай Рады на эміграцы, атрыманая імі за тое, што пэўны час з тактычных мэтаў

### *Клясавае паходжаньне нашаніўцаў*

Другім мамэнтам шыршага значэньня ёсьцека склад нашаніўскіх адраджэнцаў паводля іх клясавага паходжаньня. Мамэнт гэты набірае большае цікавасьці ў зьвязку з войстрай, доўга трываючай дый дагэтуль нясканчанай супярэчкаю паміж Беларусамі ўсіх ідэялягічных адценьняў, з аднаго боку, і маскоўскімі камуністымі, з другога боку. Беларусы пасьля бальшавіцкае рэвалюцыі даводзілі, што беларуская нацыя складаецца ізь сялянства з малым прыдаткам работніцтва, што сярод Беларусаў няма буржуазіі ані панства, што дзеля гэтага беларуская нацыя бясклясавая і ня можа быць клясавага ходаньня ўнутры яе. Расейскія камуністыя, не падаючы фактаў із сучаснага жыцьця, ані аргумэнтаў, дагматычна цьвердзілі, што сярод Беларусаў ёсьць "кулакі", буржуазія й паны, і што Беларусы канечне мусяць ходацца міжсобку. Стаўленьне праблемы так, як яе ставілі расейскія камуністыя, значыцца ня толькі давесьці быцьцё буржуазіі й пад., але й фізычна яе зьнішчыць разам із ейнымі фізычнымі патомкамі, ды ў часе, калі яна ня мела значэньня, сьветча пра азіяцкі характар гэтых камуністых, пры каторым палітычныя й сацыяльныя праблемы разьвязваюцца масавымі забіўствамі.

Калі зьвернемся да мінуласьці, дык пабачым, што да канца восемнаццатага стагодзьдзя беларускі народ, як і кажны культурны эўропэйскі народ, складаўся з усіх клясаў — ізь сялянства, мяшчан, засьценкавае шляхты, дробных паноў, вялікіх паноў або магнатаў і князёў. Гэтаму ніхто не пярэча, што пачынаючы з палавіны сямнаццатага стагодзьдзя вялікія паны болей і болей пераходзяць пад польскую мову, не перашкаджала ім уважаць сябе за сяброў свайго народу і быць беларускімі патрыётамі. З моваю польскай у вялікага беларускага панства было тое самае, што з мовай францускаю ў панства расейскага 2-ое паловы XVIII і першае паловы

падтрымлівалі беларускіх праваслаўных іерархаў, якія перайшлі ў 1946 г. у Расійскую праваслаўную царкву замяжой. Не дабіўшыся вяртання епіскапаў, сябры БЦР пачалі крытыкаваць іх і падтрымалі з 1950 г. ідэю стварэння Беларускай царквы ў падпарадкаванні канстанцінопальскага патрыярха праз ягоных экзархаў у Амерыцы і Еўропе, але мянушка "зарубежнікі" засталася. У супрацьвагу ім прыхільнікі Рады БНР мелі мянушку "крывічы". Згадка "зарубежнікаў" Янкам Станкевічам выглядае водгукам канфлікту, які ў часе напісання артыкула быў яшчэ ў даволі актыўнай стадыі.

XIX стагодзьдзя. У XIX ст. усе болей і болей беларускіх паноў уважае сябе за Палякаў. Прычынаю было 100%-ае перасьледваньне расейскай адміністрацыяй усяго беларускага, пры шмат меншым перасьледваньню, а то й поўнай талеранцыі (да 1863 г.) польшчыны. Хто з каталікоў Беларусаў не хацеў ісьці ў вабоймы расейшчыны ды мяняць сваю веру, той хаваўся ў польшчыне. Асабліва пасьля паўстаньня ў 1863 г. паны пачалі палячыцца, бо, ліквідуючы паўстаньне, Расейцы фізычна зьнішчылі лепшых людзёў сярод панства, а засталіся эгаістыя.

Але, першае, і неўважаючыя сябе за Беларусаў, нат яўныя шкоднікі, застаюцца Беларусамі, калі яны беларускага паходжаньня, бо як не ад нас залежыць выбіраць сабе бацькоў, так не ад нас залежыць выбіраць сабе нацыю; можна толькі спаўняць або не спаўняць павіннасьці, вынікаючыя з прыналежнасьці да свайго народу. Другое, *"яшчэ ў часы пісьменьніка Дуніна-Марцінкевіча, у 30–40-х гадох мінулага стагодзьдзя, шмат хто зь беларускіх паноў і падпанкаў гаварыў беларускаю моваю і напэўна ўважаў яе за сваю родную"*. І хоць *"пад канец таго-ж стагодзьдзя" "пануючая кляса і інтэлігэнцыя перакінулася на бок Палякаў, або на бок Расейцаў"*, то ўсё-ж такі дзе-ня-дзе можна было спаткаць пана, што беларускую мову ўважаў за сваю родную і ўжываў яе ў сваім штодзённым жыцьці (вялікая паня Вайніловічыха з Наваградчаны, князь Радзівіл[233] із Нясьвіжа, пан Аколаў[234]). Асабліва пасьля паўстаньня ў 1863 г. паны пачалі палянізавацца. Акром Паўлы Бахрыма[235], усе беларускія паэты й пісьменьнікі дзевятнаццатага стагодзьдзя паходзілі з дробных паноў і падпанкаў. Спасярод іх быў і вялікі пан Альгерд Абуховіч (1840–1905)[236], каторага тры апошнія гады жыцьця ўжо ўваходзяць

[233] Магчыма, маецца на ўвазе **Альбрэхт Радзівіл** (1885–1935), палітычны дзеяч, уласнік Нясвіжскай і Клецкай ардынацый. Пасля абвяшчэння БНР ездзіў разам з Раманам Скірмунтам у Берлін і Швейцарыю, каб забяспечыць ёй падтрымку.

[234] Магчыма, маецца на ўвазе **Леанард Падгорскі-Аколаў** (1891–1957), польскі паэт, перакладчык. У 1924 г. у Варшаве выйшаў яго паэтычны зборнік "Беларусь".

[235] **Паўлюк Багрым** (1812–1891), паэт, з спадчыны якога захаваўся толькі адзін верш "Зайграй, зайграй хлопча малы…", што стаў хрэстаматыйным.

[236] Маецца на ўвазе **Альгерд Абуховіч** (1840–1898), паэт, перакладчык. Магілу дзеяча знайшоў у Слуцку Рыгор Родчанка, і дата на ёй адрозніваецца ад тае, што падае Янка Станкевіч.

у разгляданую мною нашаніўскую пару. Нябыцьцё сялянскіх аўтараў у беларускай літаратуры XIX ст. выясьняецца тым, што сяляне або былі яшчэ ў прыгоне (да 1861–1870) або адно кагадзе былі вызваленыя з прыгону і не маглі здабыць адукацыі.

Калі зірнем на тую часьць беларускага народу, што ў сваім штодзённым жыцьці захавала родную мову, дык акажацца, што ёю ёсьць сялянства, мяшчане зь некаторым абмежаваньнем што да Вільні; але і ў Вільні ладная часьць звычайных мяшчан гаворыць дома па-беларуску. Сюды-ж належыць і засьценкавая шляхта, дарма што ў некаторых мясцох мае яна налёт польшчыны. Шляхта пераважна каталіцкае веры, але гэта, ведама, ані ня перашкаджае быць ёй беларускай. Ёсьць нямала шляхты й праваслаўнай. У 1920 г. я кіраваў у Слуцку курсамі беларусаведы для вучыцеляў. На курсах было каля 100 вучыцялёў і вучыцелькаў, і выглядала, што палавіна, калі ня бальшыня, была шляхоцкага паходжаньня й былі праваслаўныя. Такая-ж праваслаўная шляхта ў Клімавіцкім павеце і ў Севершчыне (у беларускай Чарнігаўшчыне).

Беларусы ў БССР, даводзячы, што беларускі народ складаецца із сялян із прыдаткам мало калькасьці работнікаў, да сялян залічалі й засьценкавую шляхту. Гэтак, вышменаваны нашанівец, а ў БССР "наццэм" Язэп Лёсік пісаў: *"Беларуская шляхта — найтыпоўшае беларускае насяленьне... Сучасная беларуская шляхта нічым ня розьніцца ад беларускага сялянства… Як і пераважная бальшыня цяперашняга нашага мяшчанства выдзяляецца із сялянскае масы толькі тым, што жыве ў мястэчках… а не ў сяле, так і сучасная беларуская шляхта непадобная да сялянства хіба толькі тым, што жыве ў засьценках або аднаселямі, а ня сёламі"*[237].

Гэткім парадкам і беларускія "наццэмы" станаўко сьцьвярджаюць, што моўна-беларуская часьць беларускага народу складаецца із сялянства, улучаючы сюды дробную шляхту, і мяшчан, ведама, разам з работнікамі мяшчанамі і работнікамі сялянамі.

Трэба тут зацеміць, што беларускі заможны селянін гэта не тое, што расейскі "кулак". Паймо "кулак" у Беларусі ня было ведамае. Гэта зьява вылучна расейская. "Кулак", як паказвае і ягоны назоў, гэта такі багаты селянін, што эканамічна дзяржаў у сваіх руках цэлае сяло або й ваколіцу, каторых усе сяляне сядзелі ў яго кішані,

[237] Язэп Лёсік. Культурны стан Беларусі к мамэнту Лютаўскае рэвалюцыі, бач. 101–102 (зборнік "Беларусь", Менск, 1924). — *Заўвага Я. Станкевіча.*

і ён бязьміласэрна іх выкарыстоўваў. Гэта быў запраўдны павук-крывапіўца. Зусім ня тое беларускі заможны селянін-гаспадар. Ад яго не дазнавалі крыўды бяднейшыя, і зьнішчэньне яго не папраўіла-б долі ягонага беднага суседа. Дзеля таго нашаніўцы не рабілі розьніцы паміж заможнымі й беднымі беларускімі сялянамі і ня думалі вадзіць іх міжсобку.

Калі зьвернем цяпер увагу на клясавае паходжаньне ўдзельнікаў нашаніўскага адраджэньня, дык найбольш пабачым тут сялян — К. Міцкевіч (праўдзівае прозьвішча Якуба Коласа й Тараса Гушчы), пісьменьнік М. Гарэцкі[238], кс. Пр. Будзька, Адв. Будзька, Язэп Лёсік, кс. Грынкевіч, Паўліна Мядзёлка[239] й шмат іншых. Сялян было найболей, бо іх найболей у народзе. Адылі былі прадстаўнікі засьценкавае шляхты — В. Ластоўскі, Іван Луцэвіч (Янка Купала), інж. Л. Віцень-Дубейкаўскі[240], браты Ч. і Л. Родзевічы[241] і інш. Шляхта фігуруе нярэдка і ў творах Купалавых. Гэтак у "Паўлінцы" і ў "Раськіданым гнязьдзе" — адна шляхта. Работнікі былі Аляксандр Прушынскі (паэта Алесь Гарун) і Зьмітра Жылуновіч (Цішка Гартны[242]) і інш.

---

[238] **Максім Гарэцкі** (1893–1938), пісьменнік, крытык, літаратуразнаўца, лексікограф, фалькларыст.

[239] **Паўліна Мядзёлка** (1893–1974), артыстка, педагог, мемуарыстка, актыўная ўдзельніца нацыянальнага руху першай паловы XX ст.

[240] Маецца на ўвазе **Лявон Вітан-Дубейкаўскі** (1869–1940), дзеяч беларускага нацыянальнага руху, архітэктар. Ад 1919 г. быў старшынёй Беларускага камітэта ў Варшаве. Ад 1922 г. жыў у Вільні, адышоў ад палітычнай працы, займаўся архітэктурна-будаўнічай дзейнасцю.

[241] **Часлаў Родзевіч** (1889–1942), тэатральны і грамадскі дзеяч. Уваходзіў у Першую беларускую трупу І. Буйніцкага. Адзін з заснавальнікаў Беларускага таварыства дапамогі ахвярам Першай сусветнай вайны (1916–1918) і Таварыства ахвотнікаў беларускага народнага штукарства ў Петраградзе. У 1920-я гг. удзельнічаў у рабоце Навукова-тэрміналагічнай камісіі пры Наркамасвеце БССР, займаўся навуковымі даследаваннямі ў галіне прыродазнаўства пры Менскай балотнай станцыі. Аўтар працы пра беларускія народныя танцы, зборніка «Песні з нотамі» (не захаваліся).
**Леапольд Родзевіч** (1895 — пасля 1938), грамадска-палітычны дзеяч, драматург, тэатральны дзеяч, брат Часлава Родзевіча. Ад 1921 г. жыў у Вільні. У 1922 г. увайшоў у Беларускую рэвалюцыйную арганізацыю. Адзін з ініцыятараў уступлення ў 1923 г. БРА ў КПЗБ. Арыштоўваўся польскімі ўладамі. У 1925 г. пераехаў у Менск. Працаваў у Камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі пры АН БССР.

[242] **Зміцер Жылуновіч** (псеўд. *Цішка Гартны*, 1887–1937), празаік, паэт, грамадскі дзеяч. Супрацоўнічаў з газетай "Наша Ніва". З лютага да снежня

Ёсьць тут і дзеці дробных паноў. Пачынальнікі нашаніўскага адраджэньня блізу ўсе былі дробна-панскага паходжаньня. Такія былі браты І. і А. Луцкевічы, Ал. Пашкевічанка (Цётка), праф. В. Іваноўскі, А. Уласаў, пр. Умястоўскі і інш. З большых паноў быў праф. Бр. Эпімах-Шыпіла.

Гэта ня прыпадак, што нашаніўскае адраджэньне пачалі не сяляне. Вызваленыя ў 60-х гадох XIX стг. з прыгону, сяляне не дарма адзержылі зямлю, але мусілі яе выкупляць, ды па цане шмат вышшых за рынкавыя. Выкуп быў скончаны толькі ў пачатку XX ст. Дзеля таго гаспадарскае палажэньне сялян было надта цяжкое, і яны не маглі даць сваім дзецям ня толькі вышшае, але й сярэдняе асьветы. Я памятаю, мой бацька наракаў на майго дзеда, чаму ён ня браў болей зямлі пры надзеле (бо была нейкая такая магчымасьць, хіба прыпадкавага характару, адзержыць болей зямлі), на што дзед адказваў, што немагчыма было-б выкупіць, такія былі вялізныя раты выкупу; а дзед мой быў рупатлівы працаўлівы гаспадар. Што да школаў, дык палажэньне пагаршалася яшчэ тым, што іх было мала, яны бальшыні сялянства былі далёкія, дык і дзеля гэтага дарагія й няпрыступныя.

Сярод нашаніўцаў былі й два сыны беларускіх вялікіх паноў — гэта Казімір Кастравіцкі (Карусь Каганец) і Сяргей Палуян[243]. Першы зь іх быў нат сярод пачынальнікаў нашаніўскага адраджэньня. Не нашаніўцамі, але прыхільнікамі беларускага нацыянальнага адраджэньня былі ў часе “Нашае Нівы” вялікія паны Івашкевіч, Вайніловіч[244] і княгіня Магдалена Радзівіліха[245]. Крышку пасьлей, у 1917 г., у найнеадпавяднейшым магнату рэвалюцыйным часе зактывізаваўся ў беларускім кірунку магнат з Палесься Раман

1918 г. сакратар Беларускага нацыянальнага камісарыята. Рэдактар беларускай бальшавіцкай газеты “Дзянніца”, якая ў 1918–1919 гг. выдавалася ў Маскве. Пазней быў кіраўніком Часовага ўрада першай БССР (1919).

243 **Сяргей Палуян** (1890–1910), публіцыст, празаік, літаратуразнаўца. Паходзіў з сям’і арандатара Епіфана Палуяна, які ў 1897 г. набыў уласны фальварак на Мазыршчыне.

244 **Эдвард Вайніловіч** (1847–1928), беларускі і польскі грамадска-палітычны дзеяч, фундатар мінскага касцёла Святых Сымона і Алены (названы ў гонар ягоных рана памерлых дзяцей). Быў першым старшынёй Краёвай партыі Літвы і Беларусі, падтрымоўваў БНР.

245 **Магдалена Радзівіл** (дзяв. **Завіша**, у першым шлюбе **Красінская**, 1861–1945), дзяячка беларускага нацыянальнага руху, мецэнатка.

Ськірмунт[246]. Колькі месяцаў ён стаяў на чале Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Менску, але кіраўніком беларускага руху ён ня быў. У тым самым часе ў Вільні шчыра прылучыліся да беларускага руху Князь Сьвятаполк-Мірскі[247] і барон Казімер Шафнагель[248]. Пасьля вайны сярод сьвядомых Беларусаў у Вільні быў князь Друцкі-Падбярэскі[249].

Ня было толькі сярод нашаніўцаў купцоў і прадпрыемцаў, і гэта слабое іх месца, як у нас тутака. Чуваць было толькі пра Жывапісцава, каторы на эміграцыі, у Арле, меў асьпяны цялятнік. Праф. інжынер-тэхналёг В. Іваноўскі займаўся, праўда, гаспадаркай і не малой дзейнасьцю, але ён ня меў собскіх прадпрыемстваў, з выняткам часу першае сьветавое вайны, калі ў тым-жа Арле ён быў заклаўшы хвабрыку гранатаў.

Можна зацеміць, што пра шляхоцкае й панскае паходжаньне некаторых нашых цяперашніх сяброў і сябровак ніхто ў нас ня ведае. Таксама ня ведалі і ў пару "Нашае Нівы". Што Сяргей Палуян быў сын вялікага пана з Рэчыцкага павету, я даведаўся толькі па 2-ой сьветавой вайне. Пра Каганца і цяпер пішуць, што ён быў найлепшы прадстаўнік сялянства ў нашаніўскую пару. Прымеж таго Каганец быў адзін з нашаніўцаў, што ня выходзіў з народу, але пайшоў у народ: каб зблізіцца зь сялянамі, ён стаўся лясьніком. Усе нашаніўцы былі сябры й браты Беларусы міжсобку, і заўсёды

---

246 **Раман Скірмунт** (1868–1939), грамадска-палітычны дзеяч, пінскі памешчык. Дэпутат Дзяржаўнай думы 1-га склікання. З красавіка 1918 г. сябра Рады БНР. У 1919 г. стаў адным з заснавальнікаў Польска-Беларускага таварыства ў Варшаве. Ад 1930 г. сенатар Рэчы Паспалітай.

247 Маецца на ўвазе князь **Вінцэнт Святаполк-Мірскі**, які быў актыўным удзельнікам нацыянальнага руху, сябрам Таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны ў Вільні, удзельнікам Беларускай канферэнцыі ў Вільні ў 1918 г., адзін з заснавальнікаў Беларускага дабрачыннага таварыства "Золак".

248 **Казімір Шафнагель** (1854–1922), грамадскі дзеяч, навуковец у галіне батанікі (аўтар працы, прысвечанай імхам) і актыўны ўдзельнік нацыянальнага руху. Адзін з заснавальнікаў Канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі, а таксама Хрысціянскай злучнасці. Аўтар выдадзенага ў 1917 г. звароту "Да нашай краёвай інтэлігенцыі".

249 **Браніслаў (Баляслаў) Друцкі-Падбярэзскі** (сапр. **Сігізмунд Падбярэзскі**, 1894 — пасля 1939), грамадскі дзеяч, літаратар. У 1922 г. балатаваўся ў сойм па Наваградскай акрузе, але не быў абраны. Працаваў сакратаром пры беларускім пасольскім клубе, юрысконсультам газеты "Наш сцяг". Быў сябрам Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

здавалася, што ўсе яны — сяляне. Прычына гэтага тая, што хоць у нашаніўскім адраджэньні і пасьлей і былі прадстаўнікі малога і нат вялікага беларускага панства, але ня было панскае ідэялёгіі. І гэта было шчэ задаўга да нашаніўства. Нат камуністыя прызнаюць, што “*як пісьменьнік і грамадзкі дзеяч Альгерд Абуховіч належаў да перадавых дэмакратычных колаў беларускае інтэлігенцыі другой палавіны XIX стг.*”[250]. У сваіх успамінах А. Абуховіч расказвае ў разьдзеле “Спас” пра сялянскага рэвалюцыянера Пяровіча. Пяровіч узьнімаў народ на расправу із сваймі крыўднікамі — прыгоньнікамі, і ўвесь павет ішоў за сваім заступнікам. «*Сяляне яго вельмі ждалі,* — піша аўтар (Абуховіч) із сымпатыяй да Пяровіча, — *нейкія надзеі загараліся ў іх пры ўспамінах аб ім, але ўсё гэта пакрыта было таемнасьцю. Пяровіч, уцёкшы з маскалёў, хаваўся. Казаў заўсёды, што помсьціцца на панох. Каля Солетнік часьцей зьяўляўся і там ён загінуў. Быў гэта чалавек нязвычайны, калі будучы бандзітам, вынятым з-рад права, праз дваццаць год дзяржаў у страху цэлы павет. І хоць паходзіў із сялян, але быў чалавекам вельмі адукаваным, уроды гожай, мілы й красамоўны. Захаваньне* (паводзіны. — *Я. С.*) *між сялянамі меў нязвычайнае. Насіўся зь нейкімі рэфарматарскімі плянамі і для свае справы знаходзіў прыхільнікаў між сялянамі бацькі. Па сьмерці Пяровіча ягонымі рэфарматарскімі плянамі зацікавілася жандармэрыя, была прасока. Сяляне адчапіліся нічога няведаньнем. Шляхта ня рада йшла на гутаркі аб сваім ворагу. Прасока скончылася зданьнем у маскалі зусім нявінных сялян. Расказвалі сяляне ў вялікай тайніцы пра нейкія “граматы”, нейдзе перахоўваныя ў вучанікоў Пяровіча*»[251].

Нашаніўцы — панскія сыны прымалі пастановы пра адабраньне ад паноў зямлі бяз выкупу. Такія-ж пункты ўводзілі яны ў сваю праграму, і гэты-ж лёзунг быў у пашыраных імі закліках. Найгалаўнейшаю прычынаю таго, чаму ня толькі сяляне, але й прадстаўнікі іншых станаў прынялі ў беларускім руху сялянскую ідэялёгію, відавочна, было тое, што сялянства ня толькі найбольшая складовая часьць беларускага народу, але й найляпей этнаграфічна захаваная, што-ж да паноў, асабліва большых, дык *дзейнымі* сябрамі беларускага народу ёсьць усё-ж ткі цяпер толькі адзінкі; дзеля таго доля народу

[250] С. Майхровіч. Альгерд Абуховіч (час. “Літаратура і Мастацтва”, Менск, 1956, № 48 з 24 лістапада). — *Заўвага Я. Станкевіча.*

[251] Там-жа. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

(як нацыі) беларускага мусіць утажсамляцца з доляю беларускага сялянства, і кажны зь якога стану-б ён не паходзіў, калі ўступае ў рады беларускага руху, мусіць працінацца патрэбамі беларускага сялянства і выходзячага зь яго работніцтва — мусіць прымаць сялянскую ідэялёгію. Гэтак ёсьць ужо ад часу К. Каліноўскага[252].

Дык з гледзішча на свой асабовы склад беларуская нацыя ёсьць нацыяй шматклясавай, хоць прапарцыянальныя дачыненьні між клясамі ў ёй з часам зьмяніліся на карысьць т. зв. клясаў ніжшых; але з гледзішча ідэялягічнага беларуская нацыя ёсьць бясклясавая — сялянска-мяшчанская, разумеючы пад сялянамі й засьценкавую шляхту, а пад мяшчанамі — жыхароў местаў і мястэчак, у тым ліку работнікаў. І дзеля таго ў супярэчцы на разгляданую тэму паміж маскоўскімі камуністымі й беларускімі нацыянальнымі дэмакратамі ("нацдэмамі") праўда была Беларусаў.

## *Праца для свайго народу*

Адцемлю яшчэ пару характарыстычных рысаў нашаніўцаў. Аднэй зь іх было вымаганьне працаваць толькі для справы свайго народу. Выходзілі з таго, што трэба працаваць для таго, хто найболей патрабуе працы. Беларускі народ найболей патрабуе, бо ён паняволены, і адно невялічкая часьць ягоных дзяцей працуе для яго, іншыя — несьвядомыя — аддаюць свае сілы й час чужнікам, звычайна сваім нацыянальным варагом. Дзеля таго сьведамыя Беларусы павінны аддаць усе магчымыя свае сілы й час свайму народу, а то яны будуць ужо сьведама абкрадаць свой народ, што несьвядомыя робяць нясьведама. Дзеля гэтае рысы і іншых характарыстычных рысаў нашаніўства можна было жыць у пару "Нашае Нівы", быць сьвядомым, зн. ідэйным Беларусам, і ня быць нашаніўскім адраджэнцам. Вось, прыкладам, праф. М. Доўнар-Запольскі[253] быў ідэйны Беларус, але ня быў нашанівец. Кваліфікаваны гісторык-нашанівец не чакаў-бы, пакуль В. Ластоўскі (Власт) выдасьць сваю эрзац-гісторыю[254], але напісаў-бы і выдаў-бы сам. Праўда, калі-б

[252] **Кастусь Каліноўскі** (1838–1864), палітычны дзеяч, публіцыст, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. у Беларусі і Літве.

[253] **Мітрафан Доўнар-Запольскі** (1867–1934), этнограф, гісторык, фальклярыст і літаратуразнаўца.

[254] Маецца на ўвазе праца Вацлава Ластоўскага "Кароткая гісторыя Беларусі. З 40 рысункамі" (Вільня: Друкарня Марціна Кухты, 1910).

гэта ён зрабіў пад сваім прозьвішчам, то ня быў-бы прафэсарам унівэрсытэту. Але мог апрацаваць і выдаць (меў свае на гэта грошы) патайно пад іншым прозьвішчам. Яму гэта, адылі, відавочна, і ў дум ня прыходзіла. Ён ня прывык даваць грошы на выданьне сваіх працаў, але адзержываць за іх грошы. Ён жа па сваёй ахвоце закладае ў 1905–1908 гг. гандлёвыя і іншыя школы ў Кіяве, дарма што Беларусам яны там ня былі патрэбныя[255].

Другой вельмі характарыстычнай рысаю нашаніўцаў было нацыянальнае ўсьведамляньне. Нашаніўства і ёсьць нішто іншае, як шырака закроенае й праводжанае нацыянальнае ўсьведамляньне. Усьведамляньне рабілася пры помачы "Нашае Нівы", што да 1912 годы выходзіла кірыліцаю й лацініцаю, із 1912 г. толькі кірыліцаю.

Фактычным (але не ўрадава-адказным) рэдактарам яе спачатку быў Антон Луцкевіч, пасьлей Вацлаў Ластоўскі і Янка Купала. Выдавалася "Саха"[256], сельска-гаспадарскі месячнік. З 1913 году ў Менску выходзіць часапіс для маладзежы "Лучынка"[257] і часапіс для дзяцей "Іскрачка"[258]; абодва рэдагуе Цётка (А. Пашкевічанка). Беларускія студэнты ў Пецярбурзе выдаюць часапіс "Раніца"[259]. Каталіцкая плынь выдае ў Вільні з 1913 г. або з пачатку 1914 г. часапіс "Беларус"[260].

Гаспадарскую старану выдаваньня "Беларуса" забясьпечыў кс. Пр. Будзька, даючы на гэта, відавочна, свае асабістыя сьціплыя

---

255 Гл. А. Саковіч. "Веда", 1952 г., бач. 198. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

256 **"Саха"** — часопіс сельскагаспадарчай тэматыкі, які выходзіў у Вільні ў 1912–1913 гг. і ў Менску ў 1913–1915 і 1920 гг., зноў у Вільні ў 1927–1931 гг.

257 **"Лучынка"** — літаратурна-мастацкі і навукова-папулярны часопіс краязнаўчага кірунку для беларускай моладзі, які выдавала ў Менску ў 1914 г. Алаіза Пашкевіч (Цётка).

258 Хутчэй за ўсё, Я. Станкевіч ўзяў інфармацыю з кнігі Я. Найдзюка "Беларусь учора і сяньня" (Мінск, 1944), дзе было напісана: «*Беларускія адраджэнцы, належна ацаняючы ролю і ўзгадаваньне моладзі, у 1914 г. у Менску пачалі выдаваць адмысловы месячны літаратурна-навуковы часапіс для моладзі "Лучынка" і часапіс для беларускіх дзяцей "Іскрачка"*». Аднак выглядае, што часопіс "Іскрачка" рыхтаваўся, але не пабачыў свет. Гл.: Зубчонак, Н. А. Беларуская журналістыка ў перыяд станаўлення нацыянальна-дэмакратычнага руху (1906–1916 гг.): дапаможнік для студэнтаў Інстытута журналістыкі БДУ. Мінск, 2010.

259 **"Раніца"** — часопіс беларускай студэнцкай моладзі дэмакратычнага кірунку, адзіны нумар якога выйшаў у Пецярбургу ў 1914 г.

260 ***"Biełarus"*** — тыднёвая беларуская каталіцкая газета, якая выдавалася ў 1913–1915 гг.

сродкі або зьбіраючы іх у сяброў гэтае плыні, звычайна ў ксяндзоў Беларусаў. Горшая справа была з рэдагаваньнем гэтага часапісу. Ня было тады ў Вільні ніводнага беларускага ксяндза. Сам кс. Будзька, хоць паходзіў з Віленскае дыяцэзіі, быў ксяндзом у дыяцэзіі Магілеўскай. Дык ня лёгка было знайсьці чалавека, што быў-бы добрым Беларусам, добрым каталіком і добрым рэдактарам. Выбар Будзькаў паў на Баляслава Пачопку[261], Беларуса з-пад Вільні. Было гэта паўзучае недалужнае стварэньне. Празь ягоную недалужнасьць сьветчыць наступнае. Ягоным ідэялам было стацца ксяндзом. Але ён ня мог здаць эгзамену ў каталіцкую духоўную сэмінарыю. Дык ён падрабіў пасьветчаньне. Схвальшаваньне, адылі, выкрылася, і ён ці то ня быў прыняты ў сэмінарыю, ці быў зь яе звольнены. Дзеля такога рэдактара рэдагаваньне “Беларуса” не належала да добрых.

Вельмі добрым снадзівам нацыянальнага ўсьведамляньня была літаратура. Асабліва памагалі ў гэтым вершы Янкі Купалы. Із собскага дазнаньня ведаю, што творы пра гора й галіту беларускага сялянства, зьдзек над ім таксама памагалі пры ўсьведамляньні, як і апісаньні хараства й багацьця Беларусі і яе слаўнага мінулага. Літаратура адбівала жыцьцё і церабіла дарогу новаму жыцьцю. Што нашаніўскі рух меў сваю прыгожую літаратуру, сьветчыць, што ён быў рухам народу, нацыі.

Іншай снадзьдзю ўсьведамляньня быў тэатр, як аматарскія выступленьні ў Вільні і іншых мясцох, так і якісь час разьездны тэатр Ігната Буйніцкага[262].

Але нацыянальнае ўсьведамляньне ня было толькі справаю літаратуры, друку наагул і ў меншай меры тэатру. Павіннасьць нацыянальна ўсьведамляць сваіх несьвядомых братоў і сёстраў, зн. усіх несьвядомых Беларусаў, ставілася да літаратараў і нялітаратараў, да пішучых і няпішучых, — ставілася да ўсіх чыста нашаніўцаў, і яны гэту павіннасьць наагул спаўнялі. Добры прыклад да гэтага

---

[261] **Баляслаў Пачопка** (1884–1940), каталіцкі святар усходняга абраду, рэлігійны і культурна-асветны дзеяч. У 1914–1915 гг. рэдактар-выдавец першай беларускай каталіцкай газеты *“Biełarus”* (Вільня). У гады Першай сусветнай вайны працаваў дырэктарам Свіслацкай настаўніцкай семінарыі. У міжваенны час далучыўся да справы беларускага ўніяцтва. Пасвячоны ў святары ў 1925 г. Ад верасня 1926 г. — пробашч уніяцкага Бабровіцкага прыхода ў Косаўскім павеце. Пераследаваўся польскімі ўладамі.

[262] **Ігнат Буйніцкі** (1861–1917), акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч, стваральнік нацыянальнага прафесійнага тэатра.

даваў сам кіраўнічы цэнтр руху. Як народнікі, так і сацыялістыя праводзілі ўсьведамляючую работу.

Пры спаўняньні павіннасьці ўсьведамляньня і было маё першае знаёмства зь Іванам Луцкевічам. Пачаць гутарку зь незнаёмым пра беларускі рух найлягчэй было карыстаючыся нумарам "Нашае Нівы". Вымеш "Нашую Ніву", робіш выгляд, што чытаеш, хоць яе даўно ўжо бываеш прачытаўшы, папытаешся ў незнаёмага, ці ён чытае "Нашую Ніву", ну й пачынаецца гаворка пра беларускае адраджэньне. Аднойчы гэтак у вагоне я выняў "Нашую Ніву" і зараз пабачыў, што адзін із спадарожнікаў у тым самым прадзеле вагону таксама яе выняў. Быў ім Іван Луцкевіч. Аказалася, што мы абодва вынялі "Нашу Ніву" з тэй самай мэтаю — пачаць усьведамляючую гаворку.

Апрача рэдакцыяў часапісаў, арганізаванымі пунктамі ўсьведамляньня былі Беларускія Кнігарні (яны так і зваліся). Першая Беларуская Кнігарня была ў Вільні, спачатку пры рэдакцыі "Нашае Нівы", а потым асобна ля Завальнае вуліцы №7; тут за сьцяною кнігарні была гаспода В. Ластоўскага, каторы, між іншага, і загадваў кнігарняю. Другая кнігарня была адчынена ў 1913 ці на пачатку 1914 году ў Полацку, туды паслалі Канстанцыю Буйлянку[263]. У 1914 г. адчынілі кнігарню ў Менску й пастанавілі паслаць туды мяне, але ў жніўні пачалася вайна зь Немцамі, мужчынаў майго веку бралі ў войска, і мая кандыдатура за загадніка кнігарні адпала. Здаецца, за загадніка Беларускай Кнігарні ў Менску быў Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.[264]). Быў плян закласьці беларускія кнігарні ў кажным большым беларускім месьце.

Усьвядоміць значыла ня толькі даць веданьне пра беларускі народ і ягоную справу, каторую ўжыцьцяўляў беларускі рух, але й заразом прышчапіць беларускую ідэю. Дзеля таго слова "сьвядомы" ў дачыненьні да Беларуса адзержыла значэньне "ідэйны".

### *Гаспадарская дзейнасьць*

Матарыяльнай базаю беларускага руху павінны былі стацца беларускія гаспадарскія арганізацыі, прадпрыемствы. Нельга сказаць, каб пра гэта нашаніўцы ня рупіліся. Пра рупатлівасьць іхную

[263] **Канстанцыя Буйло** (1893–1986), паэтка, заслужаны дзеяч культуры БССР.

[264] **Ядвігін Ш**. (сапр. **Антон Лявіцкі**, 1869–1922), празаік, публіцыст, паэт, фельетаніст. Аўтар першага беларускага рамана "Золата".

ў гэтым кірунку сьветчыць іхнае памкненьне арганізаваць масавых рамесьнікаў, такіх як, прыкладам, рукавічнікі ў мястэчку Гальшанах Ашмянскага павету (цэлае мястэчка масава рабіла на продаж рукавіцы й панчохі), — каб палепшыць спосаб вырабу й збываць тавар без пасярэднікаў. Але пра якія большыя рэзультаты ў гэтым кірунку ня чуваць было. Былі спробы й каапэратыўнае арганізацыі, але тут былі перашкоды з боку расейскае адміністрацыі. Прыкладам, у Вільні ўлада доўга не зацьвярджала статуту каапэратыўнае крамы “Райніца”. Разважаньні расейскіхураднікаў былі гэтакія: што значыць “Райніца”? Чаму “Райніца”? Райніца — гэта судзіна, у каторую зьбіраюць пчаліны рой. Але калі зьбяруцца такія Беларусы, дык як яны паставяцца да Расеі? Была праўда адміністрацыі: зыбраўшыся, дзейныя Беларусы не маглі-б добра паставіцца да Расеі. Усё-ж-ткі наапошку “Райніца” была зацьверджана: статут ейны падпісалі людзі, у каторых паліцыя не магла дакапацца беларускай дзейнасьці. Пасьлей, па рэвалюцыі, у 1917–1921 гг. беларускі каапэратыўны рух разьвіўся ў вялікую арганізацыю.

Гаспадарская непрактычнасьць нашаніўцаў праявілася і ў закладаных кнігарнях. Прадавалі ў іх толькі беларускія кніжкі й часапісы, што пры малой колькасьці тады друкаванага беларускага слова давала кнігарням дэфіцыт. Прымеж таго, калі-б прадаваць у кнігарнях яшчэ пісьменныя снадзі й матарыялы, дык кнігарні аплачвалі-б сябе. Пасьлей, але ўжо па нашаніўскай пары, гэта й дагадаліся рабіць. Найпершай патрэбай было — купля друкарні, але гэтага нашаніўцы не зрабілі[265]. Відавочна сялянскага або дробна-панскага паходжаньня нашаніўцы, апрача хіба ралейнае гаспадаркі, ня мелі навытаранасьці ў гаспадарскіх прадпрыемствах.

### ***Ходаньне***

Нашаніўцы мусілі ходацца ізь сваймі несьвядомымі братамі Беларусамі ды з русыфікатарамі й палянізатарамі. Расея штогоду кідала шмат мільёнаў на абрусеньне Беларусі. Русыфікацыю сыстэматычна праводзіў гаспадарствавы апарат, войска (тым, што Беларусаў бралі й войска й высылалі зь Беларусі, і тым, што Беларусь была наводнена расейскім войскам), паліцыя, зрусыфікаваная

[265] Вышменаваная нелегальная друкарня БСГ у Менску ўжо дзеля свае нелегальнасьці ня мела гаспадарскага значэньня, ды яна-ж была надта малая. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

царква, школа, друк. Палянізацыю праводзіў спалянізаваны касьцёл і спалячаныя панскія двары, а часткова й вялікія месты, як Вільня й Беласток; апрача таго, помач на палячаньне йшла і з самае Польшчы ў форме друку й капіталу. Зь першым сваім родным праціўнікам і з двума другімі — расейскім і польскім ворагамі беларускі адраджэнскі рух змагаўся ўсюдых — у друку, у грамадзкіх арганізацыях, у клюбах, у школе, у сям'і, пры выпадковых сустрэчах. Русыфікатары карысталіся ў гэтым ходаньні ўсімі вялікімі сяродкамі, што былі ў іхным загадзе: з пачатковае й сярэдняе школы, праз паліцыю й суд, празь няшчысьлёнае мноства ўрадовых выданьняў, празь "брацкія" лісты й школьныя падручнікі, — усюдых ішла прапаганда, што беларускі рух — *"польская інтрыга"*. Тое самае рабілі палянізатары праз спалячаны касьцёл, панскія двары і чысьленыя друкі, даводзячы, што беларускі рух — *"расейская інтрыга"*. Адныя й другія, апрача таго, даводзілі, што беларускае адраджэньне ёсьць плод цёмнага розуму, які хоча загнаць Беларусь у процьму няпісьменнасьці і адсталасьці[266]. Дарма што былі такія няроўныя сілы, *"беларускі нацыянальны рух,* — як добра кажа Цьвікевіч[267], — *перасьледаваны, урадова зганены, да сьмешнага бедны на матарыяльныя сяродкі, памалу, але нямінуча пашыраўся й захапляў усё новыя стані"*[268].

Хіба цікава будзе адцеміць настроі нашаніўцаў па выбуху расейска-нямецкае вайны ў 1914 годзе. Вось-жа, як правіла, нашаніўцы ня прыялі Расеі[269]. Гэта была здаровая рэакцыя, бо нельга прыяць таму, хто дзяржыць цябе ў няволі. Але былі адзінкі ды сярод каталікоў, што ўсётакі зычылі перамогі Расеі. Гэта былі людзі нізкія на вочы (нізкавокія), яны мелі на ўвеце каталіцкую часьць Беларусаў і ўважалі, што ў ходаньні з Палякамі Беларусам-каталіком

---

[266] Тое самае кажа Аляксандр Цьвікевіч у сваёй працы "Западноруссизм. Нарысы зь гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пач. XX стг". Менск, 1929 г., бач. 329–330. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

[267] **Аляксандр Цвікевіч** (1888–1937), палітычны дзеяч, гісторык. На II Усебеларускай канферэнцыі ў Берліне прыняў рашэнне аб спыненні дзейнасці Рады БНР і прызнанні БССР.

[268] Там-жа, бач. 330. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

[269] Пра няпрыяньне нашаніўцаў дый наагул сьвядомых Беларусаў у часе гэтае вайны Расеі сьветча таксама З. Жылуновіч у артыкуле "Люты-Кастрычнік у беларускім нацыянальным руху". Зборнік "Беларусь", 1924 г., Менск, б. 184. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

памогуць Расейцы. Такая спадзева была абмыльная, ды яна не пацьвярджалася сучаснымі фактамі. Расейцы ў некаторай меры памагалі Лятувісам і Эстонцам ды Латышом вызваліцца першым з-пад польскага, а другім і трэйцім з-пад нямецкага ўплыву, але Беларусам-каталіком яны ня думалі памагаць. Расея жадала зрусыфікаваць усіх чыста Беларусаў, але не спадзяючыся даць рады ўсім, згаджалася валей аддаць Беларусаў-каталікоў на жыр Палякам, чымся каб яны захавалі сваё нацыянальнае жыцьцё. Нацыянальна нішчыць праваслаўную часьць Беларусаў і адначасна памагаць іх часьці каталіцкай Расея не магла, бо Беларусы-каталікі ў вялікай меры жывуць перамяшаўшыся зь Беларусамі праваслаўнымі, шмат якія маюць у сваёй радні праваслаўных, а бывае, што й двух родных братоў адзін праваслаўны, а другі каталік, і дзеля таго ідэя беларускага адраджэньня перакідалася-б ад Беларусаў-каталікоў да Беларусаў праваслаўных.

### *Найвыдатнейшыя нашаніўцы*

Калі-б я разглядаў літаратуру, то назваў-бы гэтта Купалу й Коласа, з большымі і меншымі засьцярогамі, паказаў-бы, чаго яны не зрабілі, каб быць вялікімі бяз абмежаньняў, і што зрабілі, каб таковымі ня быць. Але я ня літаратуру разглядаю, але апісваю нацыянальнае адраджэньне; дзеля таго назаву іншых.

Найперш братоў Луцкевічаў. Яшчэ студэнтамі яны пасьвяціліся справе свайго народу, абраклі ёй навуковую й грамадзкую кар'еру, сваё жыццьё; усё жыцьцё й кажную часіну рупіліся пра справу беларускага народу і працавалі дзеля яго. Яны найперш арганізатары нашаніўскага адраджэньня.

Іван Луцкевіч, скончыўшы археалёгічны інстытут, стаўся ведамцам дарагіх старавечных рэчаў. Купляе іх, дзе лучна. Чужыя прадае і заробленыя грошы аддае на беларускую справу, у тым ліку на куплю беларускіх старавечных памяткаў, каторымі не гандлюе. Такім парадкам за свайго недаўгога жыцьця ён стварыў цэлы беларускі музэй, каторы й падараваў Беларускаму Навуковаму Таварыству ў Вільні[270]. Ужо аднаго гэтага даволі, каб заслужыць сабе вечную славу й падзяку патомных. Але гэта толькі адзін бок ягонае дзейнасьці.

[270] **Беларускае навуковае таварыства** дзейнічала ў Вільні ў 1918–1939 гг.

Другім бокам было пашыраньне самае справы й зьбіраньне на яе сродкаў. І ніхто ня мог гэтага так добра зрабіць, як Іван Луцкевіч. Снадзьдзю ягонай была вусная прапаганда, асабістыя знаёмствы і ногі, хадня й падарожжы. *“Мала хто зь Беларусаў разьяжджае”*, — казаў ён. Дыкжэ мала, бо мала было такіх, як Іван Луцкевіч. З выняткам работы каталіцкае плыні, блізу на ўсю іншую работу здабываў сродкі Іван Луцкевіч. Здабываныя ім сродкі йшлі рэдчас і на тое, каб патрэбных руху людзёў паддзержыць матарыяльна ў крытычную часіну іхнага жыцьця. Такое паддзержаваньне вынікала з пачуцьця адказнасьці за ўсю беларускую справу. У ўсёй сваёй дзейнасьці, стыкаючыся з рознымі людзьмі, Іван Луцкевіч быў із мужыком мужык, з панам — пан, з пратэстантам — пратэстант і г. д., але з усімі заставаўся Беларусам.

Зьбіраючы сродкі на беларускую справу, ён, як і ягоны брат Антон, у сваім асабістым жыцьці былі вельмі ашчадныя. А як ставіўся да скарбаў беларускага народу, няхай сьветчыць наступнае. За нямецкае акупацыі 1916–1918 гг. цяжка жылося Луцкевічам у Вільні з гледзішча матарыяльнага, межавала з голадам. А Іван быў яшчэ хворы на сухоты, хоць і не ляжаў. У гэтым самым часе былі ў яго вялікае цаны памяткі, зьбраныя да беларускага музэю, і ён ня важыўся коштам некаторых зь іх палепшыць сабе жыцьцё. Ня дбаў пра сябе, але заўсёды пра справу. Памятаю, як у сакавіку 1918 году едзе зь Вільні з чатырма іншымі дэлегатамі Беларускага Нацыянальнага камітэту[271], у тым ліку з аўтарам гэтых радкоў, да Рады Беларускае Народнае Рэспублікі ў Менску, едзе ў вабледзянелым пажарным аўце, цяжка хворы на сухоты, каб прысьпяшыць прагалашэньне незалежнасьці Беларусі. У вясну 1919 г. блізу не ўстае з ложка. Быў пэўны сьмерці. Але каб брат і іншыя Беларусы мелі чыстае сумленьне, што зрабілі ўсё дзеля ўратаваньня ягонага жыцьця, згаджаецца ехаць лячыцца да Закапанага[272]. Там і памёр улетку таго-ж году. Ад’яжджаючы, сказаў мне, каб у зьвязку зь ягонай сьмерцяй не рабіць ніякіх выдаткаў. *“Выкарыстайце, што можна, для справы, і толькі”*, — казаў.

[271] Відаць, маецца на ўвазе **Беларускі народны камітэт** — каардынацыйны орган беларускіх палітычных, грамадскіх і прафесійных арганізацый, які дзейнічаў у Вільні ў 1915–1918 гг.

[272] **Закапанэ** (пол. *Zakopane*) — горад на поўдні Польшчы, папулярны гарналыжны курорт.

Браты Луцкевічы ўзаемна дапаўняліся. Антон дзеяў пяром. Быў вельмі здольны й плодны публіцысты і вельмі добры рэдактар. Быў таксама добры, выдзержаны й разважны палітык.

Цётка (Алаіза Пашкевічанка) разам з Луцкевічамі належала да найпершых арганізатараў нашаніўскага адраджэньня. Яна паэта, публіцысты й рэдактарка ды заўсёды шырыцелька беларускае ідэялёгіі; заўсёды рупатлівая й дзейная, дарма што хворая на сухоты, на каторыя, як і Іван Луцкевіч, захварэла ў рэвалюцыйным часе, калі мусіла хавацца ад паліцыі і калі даводзілася нат спаць на сходах. З пачаткам вайны дзеля пашырэньня ідэі беларускага адраджэньня апякуецца раннымі жаўнерамі Беларусамі.

У 1916 г. была пошасьць тыфу ў заходняй Беларусі. Цётка арганізуе помач хворым у Лідчыне, дастае лекі, склікае лекараў. Сама на гэтай стані захварэла на тыф і памерла. З гледзішча на адданасьць справе свайго народу, на рупатлівасьць і бязупынную дзейнасьць належыць да найвыдатнейшых жанок у гісторыі Беларусі[273].

Вячаслаў Ластоўскі. Пра Ластоўскага я пісаў у “Бацькаўшчыне” (№ 48 за 1953 г.)[274]. Дзеля таго тут абмежуся адно колькімі словамі. Дарма што ягоная “Кароткая гісторыя Беларусі” была вельмі слабая (адылі зьдзеяла шмат для руху), а праца над моваю яшчэ слабшая — ягоны слоўнік[275] ёсьць запраўды запсаваным матарыялам да беларускага слоўніка — але трэба высака ацаніць добрае разуменьне ў Ластоўскага патрэбаў беларускага руху і беларускага народу наагул. Такімі патрэбамі навуковага характару найперш былі й засталіся дасьледваньні беларускае мовы й гісторыі Беларусі ды выданьні рэзультатаў гэтых дасьледваньняў.

Браніслаў Эпімах-Шыпіла, прафэсар Магілеўскай каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбурзе і дырэктар бібліятэкі Пецярбурскага ўнівэрсытэту. Ягоная дзейнасьць галоўна была сярод вялікае калёніі ў Пецярбурзе. Дзеяў словам і тым кніжным матарыялам, што праходзіў празь ягоныя рукі. Кажны ў Пецярбурзе, хто хоць трохі чуўся Беларусам, да яго даведваўся. Ягоная гаспода была запраўдным беларускім клюбам, высокае культурнае роўні.

[273] Гл. С. Кайрыс. З маіх успамінаў пра Цётку. “Конадні”, № 2, 1954 г. — *Заўвага Я. Станкевіча*.

[274] Гэты артыкул змешчаны ў гэтым томе ніжэй.

[275] Напэўна, маецца на ўвазе “Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік” (Коўна, 1924).

Гасьцінны гаспадар гэтага клюбу частаваў кажнага беларускай справаю. Не забываўся, адылі, ён і пра пачостку накшую: наведнікі мелі ў яго заўсёды малако, гарбату, сыр, масла, каўбасы, кумпяк. Студэнты, што бывалі часта ў Шыпілы госьцмі, сьветчылі, што ўсё гэта было смачнае. Магу пасьветчыць і я, бо й мне здарылася пад канец 1916 г. гасьціць у Шыпілы. Каму ў пашыраньні беларускае ідэі ня мог Шыпіла памагчы асабіста, таму поштаю пасылаў патрэбныя для нацыянальнага ўсьведамленьня кнігі. Быў і мне паслаўшы.

Максім Гарэцкі. Належаў да малодшых нашаніўцаў. Быў усьвядомлены "Нашай Ніваю", будучы вучаньніком ралейна-мерніцкае сярэдняе школы ў Горы-Горках. Паходзіў з найбольш усходняе часткі Імсьціслаўскага павету. Характарыстычным у Гарэцкага ёсьцека разуменьне патрэбаў нацыянальнага ўзгадаваньня сьвядомай ужо беларускай моладзежы, рупатлівасьць і ўменьне праводзіць гэтае ўзгадаваньне.

Аркадзь Смоліч[276]. Да першае сьветавае вайны Смоліч быў студэнтам ралейнае акадэміі ў Пулавах Люблінскае губэрні. Улетку даведаваўся да цэнтру беларускага руху ў Вільні. За і па рэвалюцыі стаўся адным з найвыдатнейшых нацыянальных і гаспадарствавых беларускіх дзеячоў. Ён-жа глыбокі дасьледаваньнік гаспадаркі Беларусі.

Менаваныя — але не адны яны — не маглі жыць безь беларускае працы.

У канцы трэба зацеміць, што хоць у нашым часе заданьні й магчымасьці звычайнага беларускага адраджэньня пашырыліся, тое, што было важнае за "Нашае Нівы", засталося наагул важным і цяперака.

### *Нашаніўства і старая беларуская эміграцыя*

Перад першай сьветавай вайною рух беларускі з кажным годам рос, пашыраўся, але яшчэ і ў 1914 г. шмат было болей мясцовасьцей, дзе пра гэты рух было ціха, чымся тых, дзе ён разьвіваўся. А й там, дзе ён быў, адно малы працэнт людзей быў ім абняты. Дзеля таго нашы эмігранты зь перад першае сьветавае вайны маглі зь ім і ня

---

[276] **Аркадзь Смоліч** (1891–1938), палітык, навуковец, дзеяч культуры, міністр сельскай гаспадаркі БНР. Аўтар першага падручніка "Геаграфія Беларусі" (1919).

сустрэцца, асабліва калі выехалі да Амэрыкі ня ў 1914 годзе, а раней, і чым раней, тым меней мелі магчымасьці пазнаёміцца зь ідучым наперад беларускім адраджэньнем. Іншыя йзноў сустракаліся зь беларускімі адраджэнцамі, але на іхную дзейнасьць не зварачалі ўвагі, глядзелі на яе як на штось пустое, непатрэбнае. Калі адныя й другія прыехалі да Амэрыкі, то пра беларускую справу яны ня думалі, бо яе ня зналі. Былі й такія, якія абцёрліся ў Бацькаўшчыне аб беларускі рух, нат у сем’ях некаторых зь іх былі гарачыя беларускія патрыёты. Абцерця гэнага, адылі, аказалася недаволі: прыехаўшы да Задзіночаных Гаспадарстваў, яны не знайшлі ў сабе сілы самым пашыраць справу свайго народу. А хто ня ідзе наперад, той астаецца ззаду або і адыходзіць назад. Так і сталася зь імі: яны апынуліся ў чужым маскоўскім або польскім рэчышчы. Але былі й такія, хіба нячысьленыя, што глыбака працяліся справаю свайго народу, што да сьмерці ёю жылі. Да іх напэўна належаў той Беларус, што, уміраючы, загадаў адзначыць на магільным помніку сваю беларускую нацыянальнасьць[277]. Імкненьні таковых ня зьгінулі, яны напэўна далі свае плады, дарма што мы пра іх ня ведаем. Цяпер, з прыездам да Амэрыкі новае беларускае эміграцыі, каторай вялікая часьць прайшла школу змаганьня за шчасьлівую долю беларускага народу, старая беларуская эміграцыя мае добрую магчымасьць прылучыцца да адраджэнскага й вызвольнага руху свайго народу; зробяць гэта тыя зь яе, што ня страцілі здольнасьці ісьці наперад. У гэтай сьвятой справе новая эміграцыя павінна памагчы эміграцыі старой.

---

[277] Гл.: М. М-ч. Сьветчаньні камянёў // Беларус. № 55. 20.3.1956. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

*Антон Адамовіч*

## **“Як дух змаганьня Беларусі”**
Да 100-х угодкаў нараджэньня Івана Луцкевіча[278]

*І мне здалось,*
*што быў ты, зноў, са мной*
*І быў-ткі, мусі,*
*як дух змаганьня Беларусі.*

В. Ластоўскі

У 1982 г. шырака, у сусьветным маштабе пад эгідаю ЮНЭСКА былі адзначаныя сотныя ўгодкі ад нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа. Але на папярэдні 1981 году прыпадалі таксама сотныя, а цесна зьвязаныя з Купалавымі-Коласавымі, угодкі ад нараджэньня (10 чырвеня 1881 г.) Івана Луцкевіча (памёр 20 жнівеня 1919 г.). Аднак, для адзначэньня гэтых угодкаў у савецкай Беларусі блізу нічога ня было зроблена. Адтуль дайшоў да нас толькі артыкул кандыдатаў гістарычных навукаў Міколы Іванова[279] й Лява Мірачыцкага[280] “Асьветнік, папулярызатар, зьбіральнік. Да 100-годзьдзя з дня нараджэньня Івана Луцкевіча” зь ягоным фотаздымкам у газэце “Голас Радзімы”[281] № 24 ад 14 чырвеня 1981 году. Як ведама, газэта гэтая разьлічаная не на нутраны ўжытак, а на замежжа, на эміграцыю. І пры зьмяшчаньні гэтага артыкулу, відаць, кіраваліся меркаваньнем, што на эміграцыі-ж угодкі гэтыя павінны будуць адзначаць, дык, значыцца, трэба даць “правільны” пагляд на гэнага Івана Луцкевіча.

І трэба сказаць, што пры ўсім звужэньні асобы Луцкевіча да *“асьветніка, папулярызатара, зьбіральніка”* — і толькі, пры ўсіх

278 Беларус. № 294–295. Лістапад — сьнежань 1981. С. 2; № 296. Студзень 1982. С. 1–2; № 297. Люты 1982. С. 1–2; № 298. Сакавік 1982. С. 1–2; № 299. Красавік 1982. С. 1; № 300. Травень 1982. С. 1, 4; № 301–302. Чырвень — ліпень 1982; № 303–304. Жнівень — верасень 1982. С. 3. Тут тэкст публікуецца па выданні: Адамовіч, Ант. Як дух змаганьня Беларусі. (Да 100-х угодкаў нараджэньня Івана Луцкевіча). Нью Ёрк: Выд. газ. “Беларус”, 1983.

279 **Мікола Іваноў**, даследчык, цяпер жыве ва Уроцлаве.

280 **Леў Мірачыцкі** (нар. 1925), гісторык-славіст, літаратар.

281 **“Голас Радзімы”** — інфармацыйна-асветная газета для беларусаў замежжа, што выдаецца ад 1955 г. Да 1960 г. мела назву “За вяртанне на Радзіму”. Выкарыстоўвалася для прапаганды савецкага ладу жыцця.

засьцярогах пра *“супярэчлівасьць”*, *“палітычныя блуканьні й памылкі”*, пры выторкваньні вырваных з кантэксту часу, паданых як апошняе слова ў часе, сьветчаньняў пакінутага ананімным *“аднаго з сучасьнікаў”* пра нейкую Луцкевічаву прасавецкасьць — пры ўсім гэтым артыкул вытрыманы ў рэдкіх для савецкае журналістыкі межах прыстойнасьці й насычанасьці неперакручанымі фактамі.

Больш-жа ў савецкім друку ў сувязі з угодкамі Івана Луцкевіча нічога ня было. На эміграцыі ўгодкі Івана Луцкевіча былі адзначаныя адмысловай акадэміяй на 19-ым Кангрэсе Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня[282] ў Нью-Брансьвіку 5-га верасьня 1981 году. Асноўны рэфэрат на гэтай акадэміі лёг у васнову гэтага нашага нарысу, які быў выдрукаваны ў газэце “Беларус” (№№ 294–5, 296, 297, 298, 299, 300, 301–2), адкуль і перадрукоўваецца тут зь нявялікімі, чыста тэхнічнымі зьменамі.

Затое ў друку сучаснае Заходняе Беларусі ў складзе Польскае рэспублікі ўгодкі Івана Луцкевіча адзначылі ладна спраўней. Беластоцкая газэта “Ніва”[283] на цэлы тыдзень раней за менскі “Голас Радзімы” (за тры дні перад самой юбілейнай датай — у № 23 ад 7 чырвеня 1981 году) падала артыкул Алеся Каваля[284] “Іван Луцкевіч. 1881–1981”. І артыкул гэты не застаўся адзіным, а выклікаў зьяўленьне сьцягу наступных у тэй-жа “Ніве” Юр’я Туронка[285] (“Па плёнах пазнаеце іх” — у № 25 ад 21 чырвеня), Аляксандры Бэргман[286] (“Спрэчка пра Івана Луцкевіча” — у № 30 ад 26 ліпеня), ізноў Ю. Туронка (“Ліст да Аляксандры Бэргман” — у № 35 ад 30 жніўня) ды ізноў

[282] **Беларуска-Амерыканскае задзіночанне (БАЗА)** — грамадская арганізацыя беларусаў у ЗША, якая была створаная ў 1949 г. і працягвае сваю дзейнасць да сёння.

[283] **“Ніва”** — беларуская газета, што выдаецца ў Беластоку (Польшча) ад 1956 г.

[284] **Алесь Каваль** — псеўданім **Аляксея Каўкі** (нар. 1937), гісторыка, літаратуразнаўцы, грамадскага дзеяча.

[285] **Юры Туронак** (1929–2019), гісторык, доктар гістарычных навук. Жыў у Польшчы. Быў кіраўніком Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Даследчык гісторыі Беларусі, аўтар кніг “Беларусь пад нямецкай акупацыяй”, “Людзі СБМ” і інш.

[286] **Аляксандра Бергман** (пол. *Alaksandra Bergman*, 1906–2005), даследчыца-гісторык, публіцыст. Нарадзілася ў Гродне. Ад 1925 г. была сябрам КПЗБ. У 1934 г. пераехала ў БССР, а ў 1935 г. арыштаваная і прысуджаная да 10 гадоў лагераў. У 1946 г. па праграме рэпатрыяцыі пераехала ў Польшчу. Жыла і працавала ў Варшаве. Даследавала гісторыю Заходняй Беларусі міжваеннага перыяду.

аўтара першага артыкулу А. Каваля (“Яшчэ аб Іване Луцкевічу” ў № 45 ад 8 лістапада ды ў № 46 ад 15 лістапада 1981 году).

Гэтак вывязалася цэлая дыскусія, на некоторых мамэнтах якое нам давядзецца спыняцца ў далейшым.

Адыходным мамэнтам для гэтае дыскусіі сталася малая ведамасьць асобы, жыцьця й дзейнасьці Івана Луцкевіча ў сучаснага беларускага чытацтва, найперш і найбольш у выніку вельмі скупое асьветленасьці гэтае асобы, ейнага жыцьця й дзейнасьці ўва ўсім папярэднім нашым друку наагул.

Запраўды, пра Івана Луцкевіча ў нас дасюль мала што пісалася. На першыя ўгодкі ягонае сьмерці, у 1920 годзе быў выданы ў Вільні невялікі зборнік успамінаў пра яго (“Іван Луцкевіч. Памяці Івана Луцкевіча ў першыя ўгодкі сьмерці яго (20.VXII.1919 — 20.VIII.1920)”, пры згадваньні ў далейшым проста — віленскі зборнік успамінаў).

У 1932 годзе Адам Станкевіч пры нагодзе адзначэньня 25-х угодкаў Віленскае Беларускае Гімназіі[287], якую заснаваў Іван Луцкевіч, сказаў быў, што пра яго трэба напісаць цэлую манаграфію. Але тымчасам ніхто гэткае манаграфіі не напісаў.

У 1953 годзе былі напісаныя ўспаміны Юльляны Вітан-Дубейкаўскае[288], што была вельмі блізкім да Івана Луцкевіча чалавекам, была фактычна ўжо ягонай нарачонай, але гэтыя ўспаміны дасюль ня выдадзеныя друкам, перахоўваюцца ў архіве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку (рукапіс была магчымасьць выкарыстаць тут)[289].

Усё гэта найбольш тлумачыцца тым, што, як вядома з успамінаў пра яго, сам Іван Луцкевіч у жыцьці й працы заўсёды трымаўся на заднім пляне, *“ня любіў лезьці ўперад”*, як сказала Дубейкаўская,

---

[287] **Віленская беларуская гімназія** — найстарэйшая беларуская сярэдняя навучальная ўстанова, якая працавала ў Вільні ў 1919–1944 гг. У 1932–1939 гг. была філіяй польскай дзяржаўнай гімназіі імя Ю. Славацкага. Ад 1924 г. усе прадметы ў гімназіі выкладаліся выключна па-беларуску.

[288] **Юліяна Вітан-Дубейкаўская** (дзяв. **Мэнке**, 1886–1969), настаўніца, грамадская дзячка, мастацтвазнаўца. Ад 1915 г. працавала ў Беларускім камітэце разам з Іванам Луцкевічам. Удзельнічала ў адкрыцці першых беларускіх школ і настаўніцкіх курсаў, Віленскай беларускай гімназіі, дзе потым сама выкладала педагогіку і нямецкую мову. Працавала разам з Цёткай, Антонам Луцкевічам. Жонка Лявона Дубейкаўскага. Ад 1941 г. жыла ў Нямеччыне.

[289] Успаміны Юліяны Вітан-Дубейкаўскай былі апублікаваныя значна пазней: Вітан-Дубейкаўская, Юліяна. Мае ўспаміны. Вільня, 1994.

дый *“ня любіў пяра”* — ня любіў пісаць нешта сам ды пакідаць па сабе нейкі друкаваны сьлед.

Тым-жа часам, усе бадай, хто знаў Івана Луцкевіча, зыходзяцца на тым, што гэта была выключная асоба, наагул, а ў сваёй вызначальнасьці для беларускага руху асабліва. У віленскім зборніку ўспамінаў, у ўступным радакцыйным артыкуле Іван Луцкевіч быў проста названы *“тварцом сучаснага беларускага руху”*, *“гісторыя сучаснага беларускага руху,* — сьцьвярджалася там, — *гэта гісторыя жыцьця Івана Луцкевіча”*. А зусім нядаўна адзін з сучасных гісторыкаў беларускае літаратуры, пры нагодзе сустрэчы зь некаторымі сваякамі Івана Луцкевіча ў Нью-Ёрку сказаў, што *«каб ня было Луцкевічаў, дык ня было-б і нашага нацыянальнага адраджэньня, і “Нашай Нівы”, і ня было-б і ўсіх нас як Беларусаў»*. Гэта, пэўна-ж, можна было-б і дэталізаваць: ня было-б і Купалы й Коласа, угодкі якіх будуць адзначацца налета.

Пэўна-ж, маглі-б, нат, у моц гістарычнае канечнасьці, павінны былі-б быць іншыя асобы, адпаведныя сваёй роляй, дзеяньнямі й значаньнем, але-ж гісторыя мае дачыненьне з тым, што сталася, што было, а ня толькі магло быць, або павінна было-б быць *“у моц гістарычнай канечнасьці”*, азначанай, у канцавым выніку, людзьмі, а ня нейкімі надлюдзкімі сіламі.

Асоба-ж Івана Луцкевіча, безь перабольшаньня кажучы, належыць да асобаў, што адыгралі вызначальную ролю ў гісторыі. Марксыстыя даўжэйшы час не прызнавалі, што асоба наагул грае ў гісторыі вызначальную, ато й проста нейкую ролю як асоба. Казалася, што вызначальную ролю ў гісторыі граюць клясы, пакуль Ленін[290] ня сьцьвердзіў аўтарытэтна, што ідэя гістарычнае канечнасьці не пярэчыць ролі асобы ў гісторыі. Пэўна-ж, нам дазволена падазраваць, што Ленін гэтак сказаў, бо сам імкнуўся бьщь гэткай асобай, якая адыйграла-б ролю ў гісторыі, і ён-ткі адыграў гэткую ролю, і каб ня было Леніна, дык ня было-б і Савецкага Саюзу. І цяпер марксыстыя-ленінцы ўжо гэтую ролю асобы ў гісторыі прызнаюць. Але за Іванам Луцкевічам яны яе пакуль што ня прызналі і напэўна ня прызнаюць.

Адкуль-жа гэтая роля Івана Луцкевіча ў нашай гісторыі? Першнаперш Іван Луцкевіч адразу выявіўся як асоба ня вузкой, якой-

290 **Уладзімір Ленін** (сапр. **Ульянаў**, 1870–1924), стваральнік і лідар бальшавіцкай партыі, у 1917–1924 гг. старшыня Савета народных камісараў РСФСР, пасля — СССР.

небудзь аднэй зацікаўленасьці й занятасьці, а цэлага сьцягу розных зацікаўленьняў і заняткаў. Ужо ў гадох ягонага вучэньня гэта выявілася ў тым, што пайшоў ён на дзьве вышэйшыя навучальныя ўстановы: на юрыдычны факультэт Пецярбурскага ўнівэрсытэту (скончыў у 1905 г.) і ў археалягічны інстытут (скончыў у 1904 г.).

Зацікаўленьне археалёгіяй пачалося ў яго яшчэ ў першых-жа гадох вучэньня ў Лібаўскай Мікалаеўскай гімназіі, дзе ён пад уплывам выкладчыка гісторыі Шэна пачаў глыбака цікавіцца гісторыяй наагул, і шырэй — старасьветчынай наагул, а адтуль — і тэй археалёгіяй, і яшчэ больш практычна — калекцыянаваньнем старасьветчыны, розных антыкаў (ужо ў трэйцяй клясе гімназіі быў назьбіраўшы вельмі паважную калекцыю старых манэтаў), і ўжо тады стаўся антыкварам і заставаўся ім праз усё сваё жыцьцё.

У тых-жа першых гадох вучэньня ў Лібаўскай гімназіі Іван Луцкевіч праз сваіх школьных калегаў Ліцьвіноў і Латышоў пазнаёміўся з нацыянальнымі рухамі іхных народаў і адразу-ж загарэўся ідэяю патрэбы нацыянальнага руху й беларускага народу, нацыянальна-грамадзкае беларускае працы, “беларускае справы”, як звычайна кажацца ў нас. І ўсе ягоныя зацікаўленьні гісторыяй, старасьветчынай, археалёгіяй, антыкварным калекцыянаваньнем адразу-ж сталіся падпарадкаванымі гэтай ідэі, сталіся зацікаўленьнямі канкрэтна гісторыяй Беларусі, беларускай старасьветчынай, археалёгіяй, беларускімі антыкамі, наагул — нацыянальным адраджэньнем Беларусі.

Няцяжка здагадацца, што гэта Івана Луцкевіча меў наўвеце Янка Купала ў аднэй із сваіх эпіграмаў 1913 году:

*Ён і работнік грамадзянскі,*
*Мужыцкі пан і служка панскі,*
*І антыквар, і археоляг,*
*І бібліёляг, і філёляг.*
*А быў-бы слаўным ён зусім,*
*Каб быў чым-колечы адным.*

(У вапошнім зборы твораў Купалы 1973 г. эпіграма гэтая зьмешчаная ў 3-м томе на б. 239.)

Аднак, у сваіх апошніх радкох Купалава эпіграма ў дачыненьні да Івана Луцкевіча ня мела рацыі: бо каб Іван Луцкевіч стаўся *“слаўным зусім”*, зрабіўшыся *“чым-колечы адным”* зь пералічаных у эпіграме

амплюа — скажам, ці толькі адным антыкварам, ці толькі адным археолягам і г. д. — ён свае запраўды *“слаўнае зусім”* гістарычнае ролі не адыграў-бы. Якраз таму, што Іван Луцкевіч быў шмат кім, ён мог сваю ролю адыграць як *“работнік грамадзянскі”*, кіруючы ўвесь беларускі рух свайго часу[291].

Як нацыянальна-грамадзкі працаўнік, “работнік грамадзянскі” Купалавае эпіграмы, Іван Луцкевіч найперш адзначаўся тым, што ўмеў знаходзіць і прыцягваць да сябе й да працы ў “беларускай справе” адпаведных людзей. Першым, каго ён прыцягнуў найбліжэй да сябе й да нацыянальнае справы, знайшоўшы яго яшчэ ў сваёй сям’і, быў ягоны малодшы брат Антон (нарадзіўся 30 студзеня 1884 г. у тых-жа Шаўлях, тады Ковенскае губ., што й Іван, загінуў у савецкіх канцлягерах — 1946 г.[292] дата сьмерці паводля Беларускае Савецкае Энцыкляпэдыі, том 6, б. 444 — на гэтай-жа балонцы кароткая даведка пра яго й пра Івана).

У самым маленсьцве браты шмат вадзіліся й нат біліся міжсобку, як успамінаюць іншыя сям’яне, але ў гадох гімназіяльных Іван усьведаміў Антона нацыянальна, прыцягнуў да сябе ды проста зрабіў сваім дапаўненьнем, найперш — “сваім пяром”, як кажа Дубейкаўская ў сваіх успамінах, бо сам Іван *“ня любіў пяра, ягоныя думкі плылі гэтак хутка, што пяро не пасьпявала за імі, але ён меў дар слова і ўмеў запаляць слухачоў...”*. Найлепшую характарыстыку Івана Луцкевіча з гэтага боку пакінуў Максім Гарэцкі ў сваіх успамінах у віленскім зборніку (б. 42):

*“Вуха, прызвычаенае да славеснай размазьні, бясконца-нуднай гутаркі ці маркотнай маўклівасьці замучаных ідэйнасьцю грама-*

---

[291] Радок “Мужыцкі пан і служка панскі”, калі разумець гэтыя словы літаральна, таксама выглядае бяз рацыі. Але разумець тэты радок трэба барджэй як выражэньне ўражаньня ад вонкавага выгляду й манераў Івана Луцкевіча ў ваччу таго “Мужыка”, у ролі якога Купала любіў выступаць у сваёй паэзіі, пачынаючы ад свайго першага друкаванага вершу пад гэткім загалоўкам — сам Купала ў гэных часах, як відаць з апублікаваных ягоных фатаздымкаў ды некаторых упамінаў аб ім, выглядаў-бы для ягонага “Мужыка” вонкава таксама як “мужыцкі пан” (ці мо дакладней — “паніч”) і “служка панскі”. Не паэта, а празаік Максім Гарэцкі тое самае ўражаньне ад вонкавага выгляду й манераў Івана Луцкевіча выразіў ў сваіх успамінах дакладней — прыметнікам “эўрапейскі”, а ня “панскі” (гл. ягоныя ўспаміны ў віленскім зборніку, б. 41). — *Заўвага А. Адамовіча.*

[292] Насамрэч Антон Луцкевіч памёр 23 сакавіка 1942 г. на перасыльным пункце Аткарска ў Саратаўскай вобласці.

*дзян Беларусі, было прыемна зьдзіўлена сьціснутай, кароткай і цэннай, а галоўнае энэргічнай гутаркай гэтага правадыра беларускага руху. (Пры ўсім тым мова яго — жывая й літаратурная беларуская мова... Яго мова захоплівае, даець веру й надзею, будзіць паснулыя сілы. Яго вочы гараць і прыкоўваюць да намаляваных яго словам абразоў, існуючых і ідэальных. Тыя існуючыя абразы паўстаюць і сьціраюцца, родзяць дурную няверу, што гэта жывы чалавек і чалавек-Беларус так гаворыць... А тыя ідэальныя абразы здаюцца дасьціглымі, бо прахопішся й відзіш ня сон, а запраўднасьць, што жывы чалавек і чалавек-Беларус так гаворыць...*

*Гутарка Івана Луцкевіча была зазвычай цікаўная й цэнная, бо ён меў багатае навуковае знацьцё і аж да сьмерці йшоў разам з сусьветным прагрэсам. Хацелася іноды схапіць карандаш і запісваць за ім, каб ды ня згубілася, ба сам Іван Луцкевіч работу свайго пяра адкладаў на пазьнейшы, вальнейшы ад чорнае працы час — усё адкладаў і забраў ад нас свае знацьцё з сабою ў труну".*

Іван часам рабіў накіды артыкулаў, а Антон тады іх апрацоўваў. Гэтыя артыкулы, апрацаваныя паводля накідаў Івана Луцкевіча ягоным братам Антонам, звычайна падпісваліся псэўданімам "Іван Мялешка" (у газэце "Гоман"[293], у якой працавала Дубейкаўская), тымчасам як свае собскія артыкулы Антон Луцкевіч найчасьцей падпісваў псэўданімам "А. Навіна" (або ініцыяламі гэтага псэўданіму — А. Н.). У першых гадох выданьня "Нашае Нівы" зрэдку зьяўляліся ў ёй і нататкі пяра самога Івана Луцкевіча, фатаздымкі беларускіх краявідаў зь ягонае калекцыі — пад псэўданімам "Шчасны", пад якім ён выступаў часам і палітычна (прыкладам, на канфэрэнцыі "*нацыянальных сацыялістычных партыяў Расеі*" ў 1907 г., пра што яшчэ будзе далей на сваім месцы).

Дык у брату Антону Іван Луцкевіч знайшоў і ўзгадаваў сабе тое "пяро", якое магло ягоныя ідэі адпаведна класьці на паперу. І сам Антон заўсёды гварыў пра Івана як пра свайго правадыра, а ня толькі брата (успаміны Антона Луцкевіча "За дваццаць пяць гадоў (1903–1928)", выдадзеныя ў Вільні Беларускім Выдавецкім Таварыствам у 1928 г., адчыняюцца гэткаю прысьвятаю: "*Пасьвячаю сьветлай памяці ІВАНА — Правадыра, Таварыша, Брата*").

[293] **"Гоман"** — беларуская газета, якая выдавалася ў Вільні лацінкай і кірыліцай з лютага 1916 г. да канца 1918 г. Яе рэдактарамі былі Вацлаў Ластоўскі і Язэп Салавей (з сярэдзіны 1917 г.).

І можна сказаць, што фактычна асоба Івана Луцкевіча поўнасьцяй выявілася ў дзьвюх постацях — ягонай собскай і ягонага брата Антона.

Юльляна Дубейкаўская дала гэткую характарыстыку Івана й Антона ў сваіх успамінах:

*“Іван усім кіраваў, а Антон рабіў усю пісьмовую працу, меў хуткае пяро й добры стыль і быў працавіты, як мурашка. Антон быў спакойны, рэдка выяўляў сваё нездавальненьне, быў мягкога характару й легка паддаваўся ўплывам. Зь ім было легка працаваць: ён, як і Іван, быў адданы сваёй беларускай працы. Але ў яго характары ня было тэй энэргіі, таго палёту і ўздыму, хоць быў вельмі амбітны, як у Івана: Антон ня ўмеў так пазнавацца на людзях ці гэтак іх заахвоціць да працы, як гэта рабіў Іван, аднак і Антон быў добры, сумленны працаўнік беларускае справы, але, нажаль, ня меў кіраўнічых уздальненьняў і пачуцьцяў ў палітыцы, што асабліва выявілася, калі падчас хваробы й пасьля сьмерці Івана ён сіліўся заступіць брата. Але працуючы разам, браты Луцкевічы дапаўнялі адзін аднаго”.*

У цэлай гісторыі, сярод асобаў, што адыгравалі ў ёй тую ці іншую выдатную ролю, цяжка знайсьці гэткі прыклад родных братоў, якія выступалі-б як адна асоба. Зь гісторыі старавечнага Рыму ведамы выпадак братоў Гракхаў, Тыбэрыя[294] й Гая, народных трыбунаў, але дзейнаесць іхная была хоць і аднадушнай, ды не адначаснай (дзейнасьць малодшага брата Гая праходзіла па сьмерці старэйшага Тыбэрыя) і большай энэргічнасьцяй, разнабаковасьцяй талентаў і красамоўствам адзначаўся малодшы брат, а не старшы. Ведамыя таксама браты Ганкуры, Эдмон і Жуль[295], францускія пісьменьнікі XIX в., але гэта былі празаікі-раманістыя, а не палітыкі, а старэйшы брат перажыў малодшага, а не наадварот, як у нашым выпадку братоў Луцкевічаў.

Па Антону і ўжо дзеючы да пэўнай ступені ў ваднэй асобе зь ім, Іван Луцкевіч яшчэ ў гадох гімназіяльнага вучэньня знайшоў

[294] **Браты Гракхі**, старэйшы **Тыберый** (лац. *Tiberius Sempronius Gracchus,* 163–133 да н. э.) і малодшы **Гай** (лац. *Gaius Sempronius Gracchus,* 154/153–121 да н. э.), старажытнарымскія палітычныя дзеячы, народныя трыбуны, рэфарматары.

[295] **Браты Ганкуры**, старэйшы **Эдмон** (фр. *Edmond Huot de Goncourt,* 1822–1896) і малодшы **Жуль** (фр. *Jules de Goncourt,* 1830–1870), французскія пісьменнікі-натуралісты. Паводле старэйшага было закладзенае Таварыства братоў Ганкураў і ўручаецца Ганкураўская прэмія.

і прыцягнуў некаторых калегаў-гімназістых, сярод якіх трэба назваць Адварда Будзьку, што стаўся й застаўся да канца сваіх дзён беларускім нацыянальна-грамадзкім дзеячом (спрабаваў свае сілы таксама і ў пісаньні вершаў, якія зрэдку зьяўляліся ў "Нашай Ніве" ды адзначаныя акадэмікам Карскім у томе III-ім, вып. 3-ім ягоных "Беларусаў", бб. 381–382).

У вапошніх гадох гімназіяльнае навукі, ужо ў Менску, братамі Луцкевічамі быў навязаны кантакт з паэтам Карусём Каганцом (Казімерам Кастравіцкім), які, як успамінаў пасьля Антон Луцкевіч, *"да нас, гімназістаў, прыходзіў... чытаў нам свае беларускія вершы, якія пачаў пісаць у пачатку 90-ых гадоў, ды гутарылі мы зь ім аб беларускай справе"* (Ант. Луцкевіч, "За дваццаць гадоў", Вільня, 1928, б. 7).

У Пецербургу, куды падаліся па вышэйшую асьвету браты, адразу-ж быў знойдзены Вацлаў Іваноўскі, як успамінае Антон Луцкевіч (тамсама, б. 8): «*У першыя-ж дні пасьля прыезду ў сталіцу мы бліжэй зыйшліся з Вацлавам Іваноўскім, тады студэнтам тэхналягічнага інстытуту, родам зь Лідчыны, і стварылі цесную, добра "сьпетую" тройку, узяўшую на сябе ініцыятыву, а пасьля й кіраўніцтва ўсёй працай сярод беларускага студэнцтва*».

Як удакладняў Вацлаў Іваноўскі ў гутарках зь ім у часе апошняе вайны ў Менску, першым і галоўным у гэтай "тройцы" быў Іван Луцкевіч. Празь Іваноўскага ("*пад уплывам Вацюка Іваноўскага*", як піша Ант. Луцкевіч, тамсама, б. 11) былі знойдзеныя й прыцягнутыя «*ў Вільні... Алёізія Пашкевічанка, пасьля па мужу Кейрысовая, мянюшка "Цётка" (спад Васілішак, у Лідчыне), Фэлікс Стэцкевіч, мянюшка "Аганёк" (са Шчучына, у Лідчыне), Аляксандар Бурбіс, мянюшка "Піліп", студэнты Умястоўскія, група вучняў віленскае праваслаўнае духоўнае сэмінарыі з Аўгенам Хлябцэвічам, мянюшка "Халімон спад пушчы" (зь в. Клёнікі, Бельскага пав.), на чале*».

Падобна былі знойдзеныя й прыцягнутыя шэраг асобаў у Менску, сярод іх — Аляксандар Уласаў спад Радашкавічаў (тады студэнт Рыскае палітэхнкі, з часам стаўся рэдактарам-выдаўцом "Нашае Нівы", знайшоў і прыцягнуў, сваім парадкам, Якуба Коласа).

У Пецярбургу таксама быў замацаваны кантакт з аматарам беларускае рукапіснае літаратуры, праф. Браніславам Эпімахам-Шыпілам, які пад уплывам гэтага кантакту із, сказаць-бы, Іваноўскага-Луцкевіцкаю ініцыятыўна-кіраўнічаю "тройкаю" актывізаваўся,

асабліва ў галіне выдавецкае працы (праз Эпімаха-Шыпілу быў прыцягнуты й Янка Купала, знойдзены ў Менску й скантактаваны зь ім Уладзімерам Самойлам[296]).

У Пецярбургу-ж быў знойдзены й прыцягнуты да беларускае справы Вацлаў Ластоўскі, які з часам стаўся сакратаром рэдакцыі “Нашае Нівы”, а ў 1912–13 г.г. ейным фактычным рэдактарам, у 1916–17 г.г. рэдактарам газэты “Гоман”, простага працягу “Нашае Нівы”.

Вацлаў Ластоўскі меў фармальна толькі пачаткавую асьвету, але быў вельмі здольны, проста, можна, сказаць, геніяльны самавук. Знайшоўшы й адразу ацаніўшы яго, Іван Луцкевіч адразу-ж пачаў рабіць зь яго як-бы сваю копію. Сам зацікаўлены ў гісторыі, у старасьветчыне наагул, сам *“антыквар і археоляг”*, паводля Купалавае эпіграмы, Іван Луцкевіч зацікавіў усім гэтым і Ластоўскага, які пад ягоным уплывам і кіраўніцтвам пачаў пісаць першы ў нас нарыс нашае гісторыі з нацыянальнага гледзішча — сваю “Кароткую гісторыю Беларусі” (друкавалася ў “Нашай Ніве” працягамі ў 1909 г., у 1910-ым выйшла асобнаю кніжкаю) ды пакрысе ставацца таксама *“і антыкварам, і археолягам”*, а нат і больш хіба за самога Івана Луцкевіча *“бібліёлягам і філёлягам”*. І можна сказаць, што тая Купалава эпіграма на Івана Луцкевіча пасуе й да Ластоўскага ў дачыненьні да ўсіх ейных “і” ня ў меншай меры.

Аднак, было ў Ластоўскага і яшчэ адно “і”, якога ня было ў Івана Луцкевіча: нябудзённы пісьменьніцкі талент. Ягоную мастацкую прозу, што зьяўлялася ў “Нашай Ніве”, высака ацаніў сваім часам найстражэйшы й найкампэтэнтнейшы крытык нашаніўства Максім Багдановіч[297].

У сваім аглядзе беларускае літаратуры 1910 году “Глыбы й слаі”, ацэньваючы беларускую мастацкую прозу таго году, Максім Багдановіч адзначыў, што *“адзін толькі Власт”* (псэўданім Вацлава Ластоўскага, складзены зь ініцыялу ягонага ймя й першых літараў прозьвішча — А. А.) *“здолеў даць у сваіх абразкох нешта цэннае”*, і ў наступным аглядзе,“За тры гады (1911–1913 г.г.)”, пісаў: *“Власт*

---

[296] **Уладзімір Самойла** (1878–1941), публіцыст, літаратурны крытык, філосаф. Адзін з першых, хто ацаніў і падтрымаў Янку Купалу. У 1930-я гг. працаваў бібліятэкарам Беларускага музея імя І. Луцкевіча.

[297] **Максім Багдановіч** (1891–1917), паэт, публіцыст, літаратуразнаўца, класік беларускай літаратуры.

*надрукаваў усяго 3–4 рэчы, але кажную можна ўзяць за прыклад, як трэба пісаць"*, а ў нарысе "Беларускае адраджэньне" ("Белорусское возрождение", 1914 г.) даў гэткую агульную характарыстыку Ластоўскага-Власта (даецца ў перакладзе з расейскае): *"Ён не пладавіты, але ягоныя нявельмі лічныя апавяданьні заўсёды поўныя пачуцьця глыбокага й хвалюючага, думкі трывожнае й значаннае, заўсёды адзначаліся рэдкаснай разнастайнасьцяй тэмаў і стыляў"* (усе зацытаваныя тут Багдановічавы словы можна знайсьці ў томе II-ім ягоных "Твораў" выданьня Інстытуту Беларускае Культуры, Менск, 1928, на бб. 11, 34, 142, але ў томе II-ім апошняга савецкага акадэмічнага выданьня Багдановічавага "Збору твораў" 1968 г., на адпаведных бб. 102, 132, 239 словаў гэтых ужо няма — пропускі іх адно пазначаныя шматкроп'ямі ў вайстрарогіх дужках — Ластоўскі "неасоба" для савецкага друку й для савецкіх "акадэмікаў", хоць, праўда, у Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі, у 6-ім томе 1972 году выданьня, даведка пра яго зьмешчаная).

І калі ў Купалаву эпіграму на Івана Луцкевіча можна было-б дадаць пад яшчэ адным "і" нешта пра пісьменьніцтва, дык яна да Ластоўскага пасавала-б яшчэ больш, бо запраўды *"а лепш-бы так было зусім, каб быў чым-колечы адным"* — каб быў ён адным толькі пісьменьнікам-мастаком, а асабліва, каб сканцэнтраваўся на гістарычнай мастацкай прозе, першыя большыя рэчы якой у нашай літаратуры зьявіліся якраз спад ягонага пяра (большыя апавяданьні "Смаленскі князевіч" і асабліва "Наезчык", зьмешчаныя ў газэце "Гоман" у 1916 г., а таксама своеасаблівая, адзіная ў сваім родзе ў нас гістарычна-фантастычная рэч "Лябірынты", зьмешчаная ў часапісе "Крывіч"[298] у 1923 г., дзе, між іншага, адзін з гэрояў "сьпісаны", як кажуць, зь Івана Луцкевіча, але больш пра гэта будзе далей на сваім месцы).

З пазьнейшых знахадак людзей Іванам Луцкевічам трэба адзначыць двух філялёгаў з пакліканьня — Янку Станкевіча й Браніслава Тарашкевіча[299]. Пра Янку Станкевіча Дубейкаўская ў сваіх успамінах піша, што гэта быў *"дзельны й зацяты Беларус. Мы ўсе называлі яго*

[298] "**Крывіч"** — беларускі літаратурна-навуковы і грамадскі часопіс, які выдаваўся Вацлавам Ластоўскім і Клаўдзіем Дуж-Душэўскім з чэрвеня 1923 г. да сакавіка 1927 г. у Коўне.

[299] **Браніслаў Тарашкевіч** (1892–1938), грамадска-палітычны і культурна-асветны дзеяч, аўтар "Беларускай граматыкі для школ". У 1922–1927 гг. пасол польскага сойма, у 1925–1927 гг. старшыня Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ).

*Янучок, а я зь Іванам казалі ня раз, што гэта наш Саванарола*[300], *дзеля ягонай фанатычнай адданасьці беларускай справе.*

*— Ён троха аднабаковы й нудны сваім фанатызмам, — казала я іншым разам Івану.*

*— Нічога, — адказаў ён, — і гэткія фанатыкі беларускае справы мусяць быць, з часам вырабяцца, на іх лічыць можна, яны не пахіснуцца і ў працы сябе апраўдаюць".*

Пра Браніслава Тарашкевіча Дубейкаўская піша:

"*...Яго мы ўсе называлі Тарас, яму Іван быў асабліва рады, тэта быў ягоны гадунец, як казаў Іван. Ён сачыў за ягонай навукай у Пецярбурскім унівэрсытэце й ганарыўся, што Тарас як вучань акадэміка Шахматава*[301] *будзе самай выдатнай сілай у пытаньнях беларускай мовы й літаратуры*".

Але далей Дубейкаўская выказвае жаль, што Тарашкевіч "*палітыкай змарнаваў сваё жыцьцё*". Аднак у гэтым нельга ня бачыць і пэўнае віны Івана Луцкевіча, які, хіба-ж, першы заразіў Тарашкевіча гэтым кірункам на палітыку, тым-часам як, пэўна-ж, "*лепш-бы так было зусім, каб быў чым-колечы адным*", і Тарашкевіч — каб быў толькі філёлягам у дадзеным выпадку.

З уменьнем знаходзіць і прыцягваць да сябе і да нацыянальнае працы людзей у Івана Луцкевіча цесна спалучалася й ня менш важнае ўменьне арганізаваць гэтых людзей ды актывізаваць іх у арганізацыйнай працы. Спробы нацыянальнае арганізацыйнае дзейнасьці сярод студэнтаў-Беларусаў у Пецярбургу былі й да прыезду туды Івана Луцкевіча ў 1902 годзе, але адзін з найбольш актыўных удзельнікаў іхных, Вацлаў Іваноўскі, у нашых гутарках зь ім сам гаварыў пра іх як толькі пра спробы. Гэта была найперш спроба зарганізаваць нейкі гурток, як тады гаварылася з расейскага — "*кружок*" аматараў беларушчыны. Але толькі з уваходам у яго Івана Луцкевіча гурток гэты пачаў звацца ўжо ня "кружком", а "Кругам прасьветы й культуры беларускай" ды выяўляць сябе ў культурна-асьветнай і асабліва ў выдавецкай галіне ("Калядная

[300] **Джыралама Саванарола** (іт. *Girolamo Savonarola,* 1452–1498), італьянскі дамініканскі святар, былы манах, кіраўнік Фларэнцыі ў 1494–1498 гг. Ягонае імя згадваецца як прыклад фанатычна адданага сваёй справе чалавека, добрага прапаведніка.

[301] **Аляксей Шахматаў** (рус. *Алексей Шахматов*, 1864–1920), расійскі філолаг, лінгвіст і гісторык, заснавальнік гістарычнага вывучэння рускай мовы, старажытнарускага летапісання і літаратуры.

пісанка”, “Вязанка” Янкі Лучыны — цяпер і на савецкім баку найбольш кампэтэнтныя людзі, як Адам Мальдзіс[302], прызнаюць выданьне “Вязанкі” справай Івана Луцкевіча).

Былі спробы й палітычнай арганізацыйнай працы — заснаваньня “Беларускай Рэвалюцыйнай Партыі” (паводля выразнае аналёгіі зь дзейнаю ўжо тады Рэвалюцыйнай Украінскай Партыяй — РУП[303]), але, ізноў-жа, толькі з прыходам Івана Луцкевіча пачалася фактычная дзейнасьць гэтае арганізацыі ўжо як цэлай “Грамады” — ініцыятыва пераназваньня-ператварэньня Беларускае Рэвалюцыйнае Партыі ў Беларускую Рэвалюцыйную Грамаду належыць відавочна таму-ж Івану Луцкевічу ды адлюстроўвае той-жа кірунак да размаху дзейнасьці, што й пераназваньне “кружка” ў “Круг”. Таксама як і неўзабаўнае ўжо канчальнае пераназваньне-ператварэньне гэтае Беларускае Рэвалюцыйнае Грамады ў Беларускую Сацыялістычную Грамаду.

Словы “сацыялістычны”, “сацыялізм” шмат каго цяпер у нас насьцярожваюць ды проста нат абражаюць: перажылі бо мы на сабе аж два “сацыялізмы” — савецкі, ленінска-сталінскі й нямецкі гітлерскі нацыянал-сацыялізм. Памятаецца, як за часамі гэтага апошняга ў Менску, чалавек, выпіўшы, дамагаўся: “*Дайце мне капіталізму! Бачыў адзін сацыялізм, бачу другі — дайце мне капіталізму!*”

Але за часамі Луцкевічаў сацыялізм быў яшчэ кірункам рэвалюцыйна-ідэалістычным, перадавым грамадзкім кірункам, якім вельмі захаплялася ідэалістычна настроеная моладзь. Кажуць, што нейкі нямецкі прафэсар у тых гадох проста цьвердзіў: “*Хто ў маладосьці ня быў сацыяліст, той на старасьці будзе сьвіньнёй*”. Ня было яшчэ відаць людзям, у які “*рэальны сацыялізм*”, як цяпер завуць на Захадзе той “сацыялізм”, што ў Савецкім Саюзе й ягоных “народных дэмакратыях” — у які гэта “*рэальны сацыялізм*” можа абярнуцца гэты ідэалістычны кірунак, так што ад усяго “сацыялізму” застанецца адна сацыялістычная фразэалёгія, адны словы. І што Луцкевічы дый усе бадай нашыя нацыянальныя дзеячы іхнага часу былі сацыялістымі ды што арганізоўвалі яны беларускую

[302] **Адам Мальдзіс** (нар. 1932), літаратуразнаўца, гісторык, пісьменнік, доктар філалагічных навук, прафесар.

[303] **Рэвалюцыйная ўкраінская партыя** (укр. *Революційна українська партія*) — украінская палітычная партыя, першая актыўная палітычная партыя ў Цэнтральна-ўсходняй Украіне, заснаваная ў 1900 г. у Харкаве.

сацыялістычную партыю — Беларускую Сацыялістычную Грамаду — гэта ніякая ня ганьба іхная, гэта толькі адна з адзнакаў іхнае перадавосьці ў сваім часе.

Найвыдатнейшым, гістарычным вычынам Беларускае Сацыялістычнае Грамады было, ізноў-жа, заініцыяванае й зарганізаванае тым-жа Іванам Луцкевічам заснаваньне беларускае прэсы ў постаці газэтаў "Наша Доля" й "Наша Ніва".

Спробы выданьня беларускае газэты, як і спробы стварэньня нацыянальных арганізацыяў, таксама былі й да прыезду ў Пецярбург братоў Луцкевічаў — добра ведамая спроба таго-ж Вацлава Іваноўскага выдаць газэту "Свабода", але-ж, як ведама, увесь тыраж адзінага першага нумару яе за выняткам пары паасобнікаў быў зьнішчаны самымі-ж выдаўцамі — зьнішчаны, як прызнаваўся ў ваднэй гутарцы праф. Іваноўскі, у ня зусім апраўданай паніцы перад паліцыяй — ня было яшчэ ў выдаўцоў належнае практыкі канспірацыі, залішне было яшчэ асьцярожнасьці й нат проста баязьлівасьці.

Што праўда, газэта выдавалася нелегальна, без афіцыйнага дазволу ўлады, тады яшчэ наагул немагчымага, прымітыўным цыклястыльных, а ня друкарскім спосабам. Але й спроба сябры Беларускае Сацыялістычнае Грамады Казімера Кастравіцкага (Каруся Каганца) выдаваць газэту "Палесьсе", калі для гэтага ўжо адчыніліся легальныя магчымасьці па рэвалюцыі 1905 г., засталася бяз удачы — ня быў атрыманы дазвол на выданьне. І толькі Івану Луцкевічу ўдалося здабыць дазвол і знайсьці віленскага мешчаніна Івана Тукеркеса[304], які згадзіўся падпісваць газэту як рэдактар-выдавец і нат фінансаваць ейнае выданьне.

Гісторыя "Нашае Долі" й ейнага працягу "Нашае Нівы" ў нас даволі ведамая, каб тут была патрэба паўтараць яе. Нагадайма адно, што пастанову пра спыненьне выданьня "Нашае Долі" па канфіскаваньні блізу кажнага зь ейных пачаткавых нумароў паліцыяй Беларуская Сацыялістычная Грамада зрабіла на прапанову найперш таго-ж Івана Луцкевіча, які першы зразумеў, што афіцыйнае зачыненьне "Нашае Долі" няўхільнае, і трэба, пакуль ня позна, закладаць новую газэту "Наша Ніва", зьмяніўшы тон у ёй на больш спакойны, а зьмест пашыраўшы за межы палітычнае рэвалюцыйнае прапаганды больш у кірунку прапаганды нацыянальнае й культурнае. І фармальны рэдактар-выдавец "Нашае Долі" Ту-

[304] **Іван Тукеркес** (1882—?), рэдактар і выдавец газеты "Наша Доля".

керкес, які гэтай пастанове не падпарадкаваўся ды спрабаваў далей выдаваць газэту саматугам, калі пачала ўжо выходзіць “Наша Ніва”, неўзабаве мусіў пераканацца ў рацыі тае пастановы, калі афіцыйнае зачыненьне “Нашае Долі” сталася фактам, і сам Тукеркес быў адданы пад суд, ад якога ўцёк замежы.

У гісторыі выдаваньня “Нашае Долі” й “Нашае Нівы” найперш і хіба найбольш зырка выявілася яшчэ адно вельмі важнае ўменьне Івана Луцкевіча — уменьне знаходзіць і здабываць матар’яльныя сродкі для нацыянальнае працы, асабліва для выдавецтва. Праўда, нейкага новага Тукеркеса, які ўзяўся-б падпісваць і фінансаваць выданьне газэты, знайсьці не давялося, але затое знаходзіліся то тыя, то іншыя ахвярадаўцы й абвесткадаўцы, што памагалі фінансава ў выдаваньні газэты.

Савецкія аўтары, якім адчынены доступ да архіву “Нашае Нівы”, варожа настаўленыя і да гэтае газэты, і да Івана Луцкевіча, цьвердзілі, што *«І. Луцкевіч быў у хэўры з багатымі памешчыкамі, якія спачувалі “беларускай справе” і субсыдыявалі выданьне “Нашай Нівы”. Грашамі памагалі “Нашай Ніве” такія зямельныя магнаты, як Вайніловіч, Івашкевіч, Магдалена Радзівіл і іншыя»* (Л. Абэцэдарскі і інш., “Насуперак гістарычным фактам” — у часапісе “Комунист Белоруссии”[305] № 5, 1963 г., пераклад па-беларуску ў часапісе “Полымя”, № 7, 1963 г., б. 167).

Дубейкаўская ў сваіх успамінах згадвае пра Зыгмунта Нагродзкага[306], собсьніка складу земляробскіх машынаў, сябру Франьцішка Багушэвіча, «*які часам даваў хоць невялікае падтрыманьне “Нашай Ніве” (галоўна даючы ў ёй свае абвесткі)*».

Але галоўным у фінансаваньні “Нашае Нівы” быў сам Іван Луцкевіч, які і на газэту і на ўсю беларускую працу, як піша Дубейкаўская, «*аддае ўсе свае грошы, што здабывае: ці як пасярэднік у гандлёвых транзакцыях із заграніцай, ці як сябра фінансавых прадпрыемстваў, а, найбольш, як антыквар... Ён як археалёг*

---

[305] ***“Коммунист Белоруссии”*** — грамадска-палітычны часопіс, які выдаваўся з такой назвай ад 1952 г. Быў наступнікам часопісаў “Вперед” (1922), “Весткі ЦК КП(б)Б” (1927), “Бальшавік Беларусі” (1927). У 1991 г. яго пераемнікам стаў часопіс “Беларуская думка”.

[306] **Зыгмунт Нагродскі** (1865–1937), грамадска-палітычны дзеяч, гандляр. З маладосці быў знаёмы з Юзафам Пілсудскім. Сябра Францішка Багушэвіча (пра што пісаў Антон Луцкевіч у артыкуле “Фр. Багушэвіч ва ўспамінах сучасьнікаў”).

*знаецца на старасьветчыне, дзе ён можа, там выкупляе рэчы краёвай вартасьці для сваіх музэальных збораў і пры гэтай нагодзе купляе антыкі, каб іх потым за адпаведную цану прадаць... Сам Іван Луцкевіч із сваім братам Антонам жылі надта скромна, гэта я сама бачыла. Па-за працай грамадзкай Іван Луцкевііч быў змушаны траціць вольныя часіны на здабываньне грошай. Калі ён, часта змораны, вяртаўся дамоў із сваіх пошукаў антыкаў, а блізкія яму людзі прасілі яго памятаць аб сабе й сваім слабым здароўі, то ён адказваў: "Ваўка ногі кормяць"».*

І ў другім месцы:

*«Іван Луцкевіч быў найлепшы знавец старасьветчыны й мастацтва на ўвесь край. Усюды, дзе ён толькі ні бываў, ягоныя вочы шукалі старасьвецкіх і мастацкіх рэчаў. Ён меў нейкі спэцыяльны "нюх", каб знаходзіць гэтыя рэчы там, дзе, здавалася-б, зусім ня месца ім. Набываў ён іх, пераважна, як бязвартасныя рэчы, за грашы. Тады ён ведаў, як гэты рэчы рэстаўраваць, і калі яны мелі беларускую характарыстыку — пакідаў іх у сваіх музэйных зборах, калі-ж яны гэтай характарыстыкі ня мелі — прадаваў за належную ім цану».*

Гэта й была галоўная крыніца фінансаваньня выданьня "Нашае Нівы", і з пэўнасьцяй можна цьвердзіць, што каб ня Іван Луцкевіч, "Наша Ніва" не магла-б выходзіць рэгулярна ад 1906 па 1915 год.

Таксама дзякуючы Івану Луцкевічу, ягонай ініцыятыве й вынаходлівасьці ў здабываньні матар'яльных сродкаў на справу, выданьне беларускае газэты было адноўленае ў тэй-жа Вільні, пад нямецкай акупацыяй, толькі пад іншым загалоўкам — "Гоман". Газэта выходзіла ад 1916 г. аж па канец нямецкае акупацыі ў 1918 годзе. Рэдактарам ейным, ужо ня толькі фактычным, а й афіцыйным быў Вацлаў Ластоўскі.

Другім пасьля заснаваньня й забясьпечваньня сталага выхаду нацыянальнае прэсы выдатнейшым вычынам Івана Луцкевіча было запачаткаваньне вываду беларускае справы на міжнацыянальныя (у межах Расейскае імперыі) ды міжнародныя форумы, напачатку таксама праз каналы Беларускае Сацыялістычнае Грамады.

Першым такім форумам быў зьезд сацыялістычных партыяў у 1905 г. у Фінляндыі, дзе ўпяршыню Іван Луцкевіч у сваім выступленьні прадставіў беларускую справу. Тут таксама быў навязаны ім кантакт зь ірляндзкімі рэвалюцыянерамі, які ён падтрымваў

на працягу ўсяго свайго жыцьця, зрэдку дастаючы ад іх хоць і невялікія (самі былі небагатыя) матар’яльныя ахвяры на беларускую нацыянальную справу (гл. віленскі зборнік, б. 9–10).

Пра выступленьне Івана Луцкевіча на другім падобным форуме — на канфэрэнцыі нацыяльна-сацыялістычных партыяў, што адбывалася 16–20 красавіка 1907 г., мы ведаем ужо больш — поўны тэкст гэтага выступленьня зьмешчаны ў выданай пасьля канфэрэнцыі кнізе “Протоколы конференции национально-социалистических партий 16–20 апреля 1907 г.” (Санкт-Петербург, 1908).

Выступаў Іван Луцкевіч на гэтай канфэрэнцыі пад псэўданімам “Шчасны”, пад якім зьмяшчаліся зрэдку ягоныя нататкі ды фотаздымкі зь ягонага збору ў “Нашай Ніве” ў першых гадох ейнага выхаду (як, прыкладам, нататка — “Замчышча ў Наваградку” — з фотаздымкам гэтага замчышча, зьмешчаная ўжо ў № 2 “Нашае Нівы” за 1906 г.). Выступленьне Івана Луцкевіча-“Шчаснага” на гэтай канфэрэнцыі было ягоным дакладам пра гісторыю й пазыцыі Беларускае Сацыялістычнае Грамады, якую ён рэпрэзэнтаваў на канфэрэнцыі.

У гэтым дакладзе найперш зварачае на сябе ўвагу паведамленьне, што Грамада на сваім першым зьезьдзе ў васнову свае праграмы паклала *“прынцып тэрытарыяльнае незалежнасьці для Заходняга краю з соймам у Вільні”* (*“Протоколы”*, б. 92) — гэта адзінае ў літаратуры пытаньня аўтарытэтнае сьцьверджаньне спачатнага незалежніцкага становішча Грамады, пазьней злагоджанага да дамаганьня аўтаноміі, якога беларускі нацыянальны рух трымаўся як адзінага да 1915 г., калі пачаліся выказваньні й захады ў незалежніцкім духу, які канчальна затрыюмфаваў у акце 25 сакавіка 1918 году.

Другое, што зварачае на сябе ўвагу ў разгляданым дакладзе Луцкевіча-“Шчаснага”, гэта выразнае сфармуляваньне стану дачыненьняў Грамады да іншых партыяў, асабліва да Расейскае Сацыял-Дэмакратычнае Работніцкае Партыі (РСДРП), фракцыяй якое былі тады бальшавікі.

«*Што да нашага дачыненьня да іншых сацыялістычных і рэвалюцыйных партыяў*, — казаў Іван Луцкевіч-“Шчасны”, — *дык мы ня трымаемся агрэсыўнае палітыкі, не перабіваем у іншых партыяў ні работнікаў, ні сялянаў, жывём зь імі зьмірна, апрача, зрэшты,*

*РСДРП*[307]*, якая даўжэйшы час у дачыненьні да Грамады трымалася надзвычай агрэсыўна. Да таго-ж яна не прызнае ўжываньня нашае роднае мовы ды трымаецца пагляду, што адмаўляе фэдэрацыйны лад»* (*“Протоколы...”*, б. 95).

Як ведама, бальшавікі й стаўшыся асобнай партыяй, не прызнавалі ані беларускае мовы, ані нат самое Беларусі як нацыі, аж пакуль ня змушаныя былі ў 1917–18 гг. пад ўзьдзеяньнем разгортаньня беларускага нацыянальнага руху, асабліва згадванага ўжо акту 25 сакавіка 1918 г., пайсьці на абвешчаньне свае, фармальна незалежнае Беларускае Савецкае Сацыялістычнае Рэспублікі (БССР) ды дапушчэньня ў ёй разгорнутае беларусізацыі, што было шырака выкарыстанае беларускімі нацыянальнымі працаўнікамі, якіх пасьля ў трыццатых гадох тыя-ж бальшавікі пачалі сыстэматычна нішчыць, пераходзячы ад беларусізацыі да русыфікацыі, што ад таго часу прагрэсуе ўсё больш а больш.

Трэйцяе, і мо найцікавейшае ў выступленьні Івана Луцкевіча-“Шчаснага” на канфэрэнцыі нацыянальна-сацыялістычных партыяў, гэта зробленая ім пры дыскусіі пра г. зв. *“нацыянальныя саюзы”* спасылка на адну думку ведамага лінгвістага, праф. Бадэна-дэ-Куртэнэ[308]. «*Мне ўспамінаецца,* — казаў Луцкевіч-“Шчасны”, — *думка праф. Бадуэна-дэ-Куртэнэ, выказаная ім на леташнім зьезьдзе аўтанамістых: ёсьць людзі, сказаў ён, якія псыхалягічна могуць сябе прызнаць адначасна прыналежнымі да трох нацыянальнасьцяў»* (*“Протоколы...”*, б. 62).

Як было ўжо адзначана (гл. Н. Недасек, *“Большевизм в революционном движении Белоруссии”*, Мюнхен, 1956, б. 181), у гэтым выказваньні можна бачыць выражэньне становішча сваяасаблівага, сказаць-бы, *“полінацыяналізму”* (шматнацыяналізму), якое, мяркуючы і паводля дакумэнтаў, і паводля асабістых успамінаў шмат каго, было вельмі характэрным для грамадаўцаў, асабліва для іхных лідэраў, дый наагул мо для бальшыні ўдзельнікаў беларускага нацыянальнага руху, для якіх, можна сказаць, было тыповым па-

---

307 **Расейская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя (РСДРП)** — палітычная арганізацыя марксісцкага кірунку, створаная ў 1898 г. на з’ездзе ў Менску.

308 **Іван Бадуэн дэ Куртэнэ** (пол. *Jan Niecisław Ignacy Baudouin de Courtenay,* 1845–1929), польскі і рускі мовазнаўца, член-карэспандэнт Пецярбургскай акадэміі навук.

добнае пачуцьцё й прызнаньне псыхалягічнае й культурнае прыналежнасьці адначасна да колькіх нацыянальнасьцяў, дзеля чаго, зрэшты, быў вельмі спрыяльны грунт якраз у Беларусі, дзе бадай кажны ўжо ад нараджэньня ставаўся сваясаблівым паліглётам, апаноўваючы адразу-ж і адначасна тры, а то й чатыры мовы (беларускую, расейскую, польскую, а часам і ідыш) ды ўжо праз гэта ўжываючыся да пэўнай ступені псыхалягічна й культурна ў вадпаведныя гэтым мовам нацыянальнасьці.

І братом Луцкевічам адмалку, пэўна-ж, даводзілася знаць і ўжываць і мову польскую, звычайную ў інтэлігентных каталіцкіх сем'ях на Беларусі таго часу, і расейскую (ня толькі праз школу, але й ад бацькі-чыноўніка), і беларускую (ад найбліжэйшых да малых дзяцей гадавальніцаў-нянек ды хатніх працаўніцаў). З гэткай колькімоўнасьцяй і да іх, як і да вялікага ліку Беларусаў нат ня толькі зь інтэлігентных сем'яў, прыходзіў і той, сказаць-бы, практычны, псыхалягічны й культурны "*полінацыяналізм*", а ў лягічнай пэрспэктыве і, т. ск., "*паннацыяналізм*", які зусім укладаецца ў плян таго разуменьня нацыяналізму, якое найлепш было сфармуляванае ў выпушчанай ў 1939 годзе калектыўнай працы брытанскіх наўчоных пра нацыяналізм, дзе ў разуменьне нацыяналізму ўлучаны мамэнт усьведамленьня апрычонасьці, дабра й інтарэсаў нацыяў наагул, у тым ліку нацыі, да якой належыць дадзеная асоба, а ня вылучна гэтае апошняе нацыі (гл. *Nationalism. A Report by a Study Group of Members of the Royal Institute of International Affairs, Oxford University Press, London-New York-Toronto, 1939, p. XX*).

Гэткае разуменьне — назавем яго брытанскім або ангельскім — розьніцца, з аднаго боку, ад вузкога разуменьня нацыяналізму як, сказаць-бы, "*мононацыяналізму*", якое дапушчае, прынамся ў лягічнай пэрспэктыве, шавінізм ды падобныя пэрвэрсіі, ды якое можна назваць нямецкім (пар. у цытаванай брытанскай працы бб. XIX–XX). З другога-ж боку, розьніцца яно й ад "*інтэрнацыяналізму*" ў савецкім разуменьні, пад які фактычна падстаўляецца расейскі "*мононацыяналізм*".

Але найбольш шырокімі ды важнымі, ужо эўрапейскімі форумамі, на якіх давялося Івану Луцкевічу прадстаўляць беларускую справу, сталіся зьезды народаў Расеі ў Штакгольме і ў Лёзане ў 1916 годзе. Газэта "Гоман" пасьля гэтых зьездаў у № 46 за 21 ліпеня 1916 г., у артыкуле "Першыя выступленьні" за подпісам "І. Мялешка"

(як ужо згадвалася, гэтак падпісваліся артыкулы, накідваныя Іванам, а канчальна апрацоўваныя Антонам Луцкевічам) дала гэткую ацэну гэным падзеям:

*«Народ, каторы сто гадоў маўчаў, губляе зусім свой голас, ня ўмее гаварыць аб сабе й за сябе. Але бываюць такія здарэньні ў жыцьці прыспаных народаў, каторыя прымушаюць іх падаць свой голас, вырываюць той голас з грудзей. У нас, у Беларусоў, гэта першы раз зрабіла вялікая расейская рэвалюцыя, тады вырваўся з грудзей народу крык: "Жыве Беларусь!" — і пачалася ўнутраная творчая работа над адбудаваньнем нацыянальнай культуры, над агульным адраджэньнем. А цяпер зноў вайна прымусіла наш народ заявіць аб сабе, і гэты раз выступіць перад усім сьветам.*

*Такім выступленьнем была дэкларацыя Беларусоў на зьезьдзе народаў Расеі ў Штакгольме й пасылка дэлегатаў на толькі што закончыўшыся зьезд ў Лёзане».*

А напярэдадні гэтага зьезду ў Лёзане той-жа "Гоман" у № 34 за 9 чырвеня 1916 г., у непадпісаным рэдакцыйным артыкуле "Будова асноў будучыны" выказаўся пра справу вызваленьня прыгнечаных — *"уцісканых"* паводля слова газэты — народаў Расейскае імпэрыі зусім у духу згадванага вышэй, падтрымванага Іванам Луцкевічам *"полінацыяналізму"*. Пра гэтую справу вызваленьня ўцісканых народаў Расеі аўтар непадпісанага рэдакцыйнага артыкулу, якім мусіў быць рэдактар газэты Вацлаў Ластоўскі, пісаў:

*«Каб забясьпечыць ім волю, трэба дабіцца ўнутранай перастройкі Расейскай дзяржавы, трэба разарваць адвечныя путы, у якія царскі ўрад закаваў ня толькі "інародцаў", але й свой маскоўскі народ. Гэту справу разьвязаць шмат цяжэй, і правядзеньне ў жыцьцё тэй ці іншай пастановы будзе вымагаць супольнай працы з расейскім народам, каторы гэтаксама, як усе "інародцы", пакутуе пад страшным уціскам і жджэ вызваленьня».*

Гэтак яшчэ ў 1916 г. пісаў Вацлаў Ластоўскі — *"адзін зь ідэолягаў беларускага нацыяналізму"*, як азначае-кляймуе яго Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя (том VI, б. 267). І як-жа актуальнымі гучаць ягоныя словы й сяньня, калі ўсё яшчэ стаіць справа вызваленьня народаў, уцісканых Расейскай — у міжчасе пераназванай ужо ў Савецкую — імпэрыяй, ды як далёка ня ўсе яшчэ, што ўважаюць сябе за тых "ідэолягаў нацыяналізму", усьведамляюць сабе ўсю праўду гэных словаў...

Вацлаў Ластоўскі разам зь Іванам Луцкевічам паехаў у беларускай дэлегацыі на згадваны зьезд (ужо трэйці з парадку) народаў Расеі ў Лёзане, які адбыўся там 27–29 чырвеня 1916 г., і разам зь ім, відаць, узяў удзел у ўкладаньні “Мэмарандуму прадстаўнікоў Беларусі”, паданага на гэты зьезд (беларускі тэкст “Мэмарандуму” быў зьмешчаны ў газэце “Гоман” № 52 за 11 жніўня й № 53 за 15 жніўня 1916 г. у артыкуле “Рэляцыя аб зьезьдзе ў Лёзане”; між іншага, у гэтым “Мэмарандуме” ці ня ўпяршыню быў ужыты тэрмін “*беларуска-крывічанскі*”, за які, ужо ў форме “*крыўска-беларускі*”, як за найбольш адпаведны назоў нашага народу, змагаўся Ластоўскі пазьней, галоўна ў сваім часапісе “Крывіч” у 1923–26 г.г.).

“Мэмарандум прадстаўнікоў Беларусі” даваў сьціслы, але грунтоўны нарыс усяе гісторыі Беларусі ад найдаўнейшых часоў, адразу-ж падчыркваючы, што ад IX да XIII веку гісторыя Беларусі — гэта абраз “*бязупыннага й цьвёрдага змаганьня Беларусоў за сваю абасобленасьць ад Кіева, Ноўгарада і Ўсходу*”, а далей таксама падчыркнена выясьняючы вызначальную ролю беларусчыны ў Вялікім Княсьцьве Літоўскім (“*у васнову дзяржаўнага кіраўніцтва Вял. Княс. Літоўскага прынята была беларуская мова*”) і нарэшце даючы поўны абраз паняволеньня Беларусі Расеяй ды канчаючы аглядам беларускага нацыянальнага руху да вайны, калі “*за 10 гадоў да 1915 г. Беларусы здолелі стварыць сваю літаратуру, высунуць спаміж сябе паэтычныя й літаратурныя таленты, арганізаваць нацыянальныя, культурныя й палітычныя арганізацыі*”. Мэмарандум канчаўся гэткім пасажам:

“*Блізка ўжо год нямецка-расейскі фронт знаходзіцца пераважна на беларускай зямлі, і Беларусам прыходзіцца вынасіць увесь цяжар вайны, падлягаючы поўнай эканамічнай руіне й культурнаму застою. Але як ні цяжкія перажываныя намі варункі, яны пазваляюць нам першы раз за 120 гадоў няволі раскрыць перад культурным сьветам наша бяспраўнае палажэньне ў Расейскай дзяржаве, пазваляюць нам шукаць у культурных народаў сьвету спачуцьця й абароны нашых чалавечых і культурна-народных правоў і карміцца надзеяй, што які-б ні быў канец вайны, культурныя народы сьвету памогуць абясьпечыць Беларусам такую паўнату культурных і палітычных правоў, каторая дасьць нашаму народу змогу вольна разьвіваць свае духоўныя й матар’яльныя сілы, дасьць змогу стацца нам вольнымі гаспадарамі свайго краю*”.

Апрача агалашэньня гэтага мэмарандуму на зьездзе, Іван Луцкевіч выступаў там і асабіста. Юльляна Дубейкаўская піша ў сваіх успамінах, што Іван ёй *“падрабязна апавядаў, як ён бараніў незалежнае становішча Літвы й Беларусі й не пахваліў Немцаў”*, а на ейны заўвет, што той нямецкі ўрадавец, які даваў яму пропуск на праезд у Лёзану, за гэта яго *“па галоўцы не пагладзіць”*, адказаў: *“Ну, няхай гневаецца, на міжнародным форуме нашыя справы іначай ставіць нельга”*.

Нажаль, калі на наступным і найбольш важным міжнародным форуме была-б ізноў нагода Івану Луцкевічу *“паставіць нашыя справы”* — на мірнай канфэрэнцыі ў Вэрсалі ў 1919 г. — ён ужо ня мог зрабіць гэтага, зьлёгшы цяжка хворым і ўжо й не ачуняўшы да сьмерці. Давялося паслаць туды брата Антона, якому нічога зрабіць не ўдалося. Дубейкаўская выказвае ў сваіх успамінах пэўнасьць, што, *каб мог паехаць Іван — было-б зусім іноя...*

А пад той час яшчэ й завайстрыўся на чыста асабістым груньце канфлікт паміж Антонам Луцкевічам і Вацлавам Ластоўскім, якога пачаў разыграваць супраць Антона ўжо і ў справах рэдакцыйных прыстаўлены да газэты “Гоман” нямецкі цэнзар Зузэміль[309]. Зусім зразумела, што Іван Луцкевіч ня мог заняць становішча супраць свайго роднага, да таго-ж улюбёнага, брата нат у чыста асабістых справах, і трыманьне Ластоўскага, як піша Дубейкаўская, *“псавала нэрвы”* Івану.

Што да самога Ластоўскага, дык у яго стаўленьне да Івана Луцкевіча заставалася нязьменным да канца. Калі ўжо па Іванай сьмерці Ластоўскаму давялося ізноў пабываць на тых мясьцінах Заходняй Эўропы, якія ён упяршыню пабачыў, калі яны езьдзілі разам у Лёзану, ён напісаў верш “Рэйнскі вадаспад”, у якім успомніў пра Івана (і гэта адзіны ў цэлай беларускай паэзіі верш, зьвязаны беспасярэдня зь Іванам Луцкевічам). Верш Ластоўскага “Рэйнскі вадаспад”, выдрукававы ў № 2 часапісу “Крывіч” за 1923 г., канчаецца гэтак:

*У гроце камянной,*
*панад шалёнаю кіпежай,*
*стаялі мы з табой, Іване,*
*ўслухаючысь ў змагарны гуд;*

---

[309] **Эдмунд Зузэміль** (ням. *Susemihl*) — нямецкі агент, цэнзар газеты “Гоман”.

*і ты сказаў з задумаю ў вачах:*
*“Во так шуміць нямоўчны бор*
*у нас і дождж аб дах*
*ў бяссонлівых начах”...*
*І ты хацеў, каб бор гудзеў*
*табе пад вечны сон...*
*Адзін стаю я зноў*
*над сьпененай валвой;*
*спаміны ціснуцца навалай…*
*Тутніць у жылах кроў…*
*І я дрыжачаю рукой,*
*зь сьвятарнаю пашанай,*
*пасьцерты ўжо дажджом*
*твой надпіс паднавіў.*
*І мне здалось,*
*што быў ты, зноў, са мной...*
*І быў-ткі, мусі,*
*як дух змаганьня*
*Беларусі.*

Здаецца, што цяжка было-б знайсьці трапнейшае выражэньне самое існасьці духовае пастаці Івана Луцкевіча, як гэтае во *“як дух змаганьня Беларусі”*, і словы гэтыя таму і ўзятыя за загаловак дадзенага нарысу,

І ў мастацкай прозе В. Ластоўскага, як была ўжо нагода згадваць, ёсьць — і таксама адзіны ў цэлай нашай літаратуры — адбітак асобы Івана Луцкевіча: галоўным гэроем найбольшае рэчы свае мастацкае прозы — сваеасаблівае фантастычна-гістарычнае навэлі “Лябірынты” — Ластоўскі зрабіў археоляга, вакол якога быццамбы гуртавалася “Археалягічная Вольная Кантэрфратэрнія” ў Полацку, назваў яго Луцкевічавым імём “Іван Іванавіч” і ў вусны яму ўклаў перафантазіяваныя, калі можна так сказаць, шмат якія выказваньні на тэмы прагісторыі Славянаў і Беларусаў упаасобку, што запамяталіся яму з гутарак з рэальным “Іванам Іванавічам” (гэтак у рэдакцыі “Нашае Нівы” й звалі звычайна Івана Луцкевіча; дарэчы, яшчэ аднаму гэрою тае-ж навэлі, *“які ўпорыста гаварыў па-беларуску, а часам прыкідаўся, што не разумее некаторых словаў парасейску і, па колькі разоў перапытаўшы, паўтараў слова ў перакладзе па-беларуску з асаблівым на яго націскам”* — нададзеная

гэтая рыса рэальнае асобы аднаго з “нашаніўцаў”, — згаданага намі таксама Луцкевічавага “гадунца” Янкі Станкевіча; пра ўсё гэта ведама нам з аднае з гутарак з аўтарам).

Зь іншых мамэнтаў дзейнасьці Івана Луцкевіча трэба было-б яшчэ спыніцца на ягоным вызначальным, ініцыятыўным і кіраўнічым удзеле ў заснаваньні беларускага школьніцтва — упаасобку першай беларускай пачаткавай школы ў 1915 г. ды першай беларускай гімназіі ў 1919 г. у Вільні. Але пра гэта былі зьмешчаныя у газэце “Беларус” (№300) успаміны Юльляны Дубейкаўскае “Беларускае школьніцтва (1915–1919)”, у якіх, калі можна так сказаць, першакрынічна насьветлены гэты мамэнт, дык дзеля ашчаджаньня месца найлепш будзе адно адклікацца да іх.

Таксама ня будзем спыняцца тут і на такім вычыне цэлага жыцьця Івана Луцкевіча, як арганізацыя ім зь ягоных збораў першага беларускага музэю, што па ягонай сьмерці дастаў ягонае ймя — вычын бо гэты зусім натуральны, наказаны і архіеалягічнай асьветай і антыкварнай дзейнасьцяй ягонай, ды становіць агульна ведамы факт, як і, скажам, знахад і першае апісаньне Іванам Луцкевічам такога экспанату гэнага музэю, як пісаны па-беларуску арабскімі літарамі “Аль Кітаб”. Добра й агульна ведамая таксама й доля гэтых вычынаў жыцьця Івана Луцкевіча: музэй ягоны зьліквідаваны савецкаю ўладаю пры ўлучэньні Вільні ў склад Літоўскае ССР, зборы ягоныя распасораныя, і цяпер зь вялікімі цяжкасьцямі адданыя сваёй справе беларускія савецкія музэйныя працаўнікі намагаюцца, зь няпоўнаю яшчэ ўдачаю, зьвярнуць іх у БССР. Таксама тэю-ж уладаю зьліквідаванае, і гэта ўжо без усякага сьледу, беларускае школьніцтва ў Вільні, у тым ліку й першая беларуская гімназія...

Дык тут трэба спыніцца на тым, як укладаліся дачыненьні між гэтаю савецкаю ўладаю й Іванам Луцкевічам. Рэч у тым, што адразу па бальшавіцкім пераввароце ў Петраградзе ў 1918 г. ды ўстанаўленьні савецкае ўлады ў Івана Луцкевіча, як, зрэшты, і ў шмат каго зь іншых беларускіх нацыянальных дзеячоў таго часу, зьявілася было вельмі пазытыўнае стаўленьне да гэтага факту: *“Ён стаяў на груньце, што для Беларусі патрэбна ўлада саветаў... Шчырая дэмакратызацыя краю,* — казаў Іван Луцкевіч, — *якая праводзіцца ўладаю саветаў, павінна прывесьці да нацыянальнага адраджэньня Беларусі”* — гэткае сьветчаньне ў віленскім зборніку (б. 54) пакінуў адзін зь беларускіх нацыянальных дзеячоў таго часу, К. Дуж-

Душэўскі[310], зь якім незадоўга да свае сьмерці быў у цесным кантакце Іван Луцкевіч на груньце арганізацыі беларускіх каапэратываў, што сталася актуальнай тады й была апошняй справаю жыцьця прыкутага ўжо да ложка Івана Луцкевіча.

Цытатаю паданых тутака словаў Дуж-Душэўскага (які названы пры гэтым адно як *“адзін з сучасьнікаў”* Івана Луцкевіча — называць на прозьвішча гэтага “бебурнаца”[311], відаць, не выпадае ў савецкім друку яшчэ больш, як называць Івана Луцкевіча — няма бо пра яго ані згадкі ў Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі, дзе найпракуднейшыя “бебурнацы”, як правіла, ігнаруюцца) канчаецца згадваны намі на самым пачатку адзіны ў савецкай, дый тое адно навонкі кіраванай прэсе юбілейны артыкул пра Івана Луцкевіча — “Асьветнік, папулярызатар, зьбіральнік” — у газэце “Голас Радзімы” ад 18 чырвеня 1981 г. (№ 24).

Аднак, ужо разгон бальшавікамі Ўсебеларускага Кангрэсу, паказаўшы запраўдны твар савецкае *“шчырае дэмакратызацыі краю”*, разьвеяў усякія прасавецкія сымпатыі ў Івана Луцкевіча і ў іншых беларускіх нацыянальных дзеячоў.

Калі-ж напачатку 1919 г. Чырвоная армія заняла пакінутую Немцамі Вільню, дык неўзабаве, як успамінае Юльляна Дубейкаўская, *“Іван дачакаўся вобыску... Ведама, бальшавікі не знайшлі, чаго шукалі, беларускія архівы былі загадзя вынесеныя... Аднак гэты першы вобыск вельмі нас усіх устрывожыў; я пачала ў душы баяцца, каб пэўнага дня не забралі хворага Івана, які вельмі ўстрывожыўся, але не за сябе, а за свой музэй, і наказаў мне прыхаваць лепшыя экспанаты па куткох”*.

Неўзабаве адбыўся яшчэ адзін “вобыск”-ператрус, *“даходзілі яшчэ сумныя весткі, што той ці іншы арыштаваны, ён (Іван) таксама спадзяваўся пабачыць чэкістых, і ўсё разам рабіла яго нэрвовым...* — успамінае далей Дубейкаўская, — *...бальшавіцкія арышты... зрабіліся павальнымі... Іван дачакаўся яшчэ аднаго вобыску (ужо трэйці) і… потым казаў: ...наступны раз ужо за мной*

---

310 **Клаўдзій Дуж-Душэўскі** (1891–1959), грамадска-палітычны дзеяч, інжынер. Ад 1921 г. жыў у Коўне. У 1920–1930-я гг. працаваў у міністэрствах беларускіх спраў, замежных спраў, сувязі Літвы, адзін з кіраўнікоў Беларускага цэнтра ў Літве, Літоўска-Беларускага таварыства.

311 **“Бебурнац”** — мянушка, утвораная ад выразу *“беларускі буржуазны нацыяналіст”*.

*прыйдуць. Нарэшце, у вялікі чацьвер 16 красавіка 1919 г. ужо й прыйшлі, але візыт быў вельмі кароткі, хатнія падслухалі гэткую гаворку чэкістых:*

*— Ну, што-ж нам рабіць зь ім, забіраць ?*

*— Пашто, бачыш, і так дохне.*

*— Ну, дык хай дохне на месцы, чымся нам мёртвае цела цягаць, — і выйшлі”.*

Гэтак Івану Луцкевічу ня судзілася памерці ні на руках, ні ад рук бальшавікоў: на самы Вялікдзень, 19 красавіка 1919 г. яны ўжо мусілі пакінуць Вільню.

Іван Луцкевіч памёр 20 жніўня 1919 г., меўшы ўсяго 38 год, у санаторыі каля гор. Закапанэ, у Польшчы, і быў пахаваны на могілках таго гораду. Аднак на магіле ягонай ня быў пастаўлены трывалы помнік, у гадох завірухі 2-е сусьветнае вайны яна была разбураная, і цяпер на тым месцы пахаваная нейкая Каміля Заліньска[312].

На канчатак застаецца спыніцца на тэй дыскусіі, што прайшла ў беластоцкай газэце “Ніва” ў сувязі зь юбілеем Івана Луцкевіча. У дыскусіі гэтай былі выказаныя ды ў большыні адпаведна высьненыя некаторыя сумляваньні што да фактычнага боку дзейнасьці Івана Луцкевіча. Не бяз пэўнай рацыі адзначалася некаторая, сказаць-бы, “братняя” тэндэнцыйнасьць Антона Луцкевіча, ягонае, як было кінута адным з удзельнікаў дыскусіі, *“жаданьне стварыць у васобе брата Івана патрыярха адраджэнскага руху, яго пачынальніка...”*. Аднак кінутае тут-жа абвінавачаньне ў “падтасоўваньні” Антонам дзеля гэтага пэўных датаў наўдачу ці можна прызнаць поўнасьцяй справядлівым: як было зазначана на сваім месцы, хоць і да прыбыцьця братоў Луцкевічаў у Пецярбург у 1903 г. там ад 1902 г., былі спробы зарганізаваць “Кружок” аматараў беларушчыны, а далей і “Беларускую Рэвалюцыйнуію Партыю”, але толькі з прычыненьнем да гэтых спробаў Івана Луцкевіча сьціплы ”кружок” стаўся “Кругам прасьветы й культуры беларускай”, “Беларуская Рэвалюцыйная Партыя” — “Беларускай Рэвалюцыйнай”, а неўзабаве й “Сацыялістычнай Грамадой”,

Дык хоць Івана Луцкевіча й ня было пры паўстаньні гэтых спробаў, запраўдным пачынальнікам актыўнай і плённай дзейнасьці гэных арганізацыяў яго ўсё-ж прызнаць трэба.

312 Парэшткі Івана Луцкевіча былі перавезеныя ў Вільню ў 1991 г., дзе на могілках Росы была створаная сімвалічная магіла братоў Луцкевічаў.

Нельга таксама ня ўзяць на ўвагу таго, што Антон Луцкевіч у прадмове да свае брашуры “За дваццаць пяць гадоў (1903–1928)” сам засьцярогся: *“Седзючы ў вастрозе, ня маючы ніякіх пісаных ці друкаваных матар’ялаў, магу апірацца толькі на сваёй памяці ды запісаць тое, што ў ёй — пэўна-ж, дужа неідэальна — захавалася”*. Дык і не такі ўжо дзіў, што даты, ня зьвязаныя з мамэнтамі асабістага дазнаньня, павыпадалі з тае памяці.

Патрабуе асобнага й асаблівага выясьненьня справа прыпісванага Івану Луцкевічу артыкулу ў нямецкай мове пра Беларусь, выдрукаванага ў вадным часапісе, што выходзіў у Вене ў 1904 г., калі Іван Луцкевіч быў там.

Ужо ў беластоцкай дыскусіі *было добра выясьнена, што артыкул гэты зьявіўся ў часапісе “Ruthenisehe Revue”, а ня “Ukrainische* (ці *Ruthenisehe*) *Rundschau”* (у № 19 гэтага паўмесячнага часапісу за першую палавіну кастрычніка 1904 г., на бб. 533–538). Нямецкі загаловак артыкулу *“Das totgesagte Weissrussland”* у беластоцкай дыскусіі быў перакладзены як *“прыгавораная да сьмерці Беларусь”*. На самой-жа рэчы *“прыгавораная да сьмерці Беларусь”* панямецку было-б *“Das zum Tode verurteilte Weissrussland”*, а *“Das totgesagte Weissrussland”* — гэта *“Мяртвою абвешчаная Беларусь”* (*totgesagt* літаральна значыць: той, пра якога толькі сказана — *gesagt*, абвешчана, што ён *tot* мяртвы, тымчасам, як ён можа яшчэ й жывы); між іншага, чатыры гады па тым Янка Купала ў вершы 1908 году “Беларушчына” казаў зусім падобна пра Беларушчыну, значыцца — моўную Беларусь: *“І дзялілі цябе, ўсімі мерамі мерылі, — што памерла ўжо ты — не адзін так казаў чалавек”* — і далей: *“Як жыла і жывеш, будзеш жыць, Беларушчына”*; аўтар артыкулу ў *Ruthenisehe Revue* мусіў добра ведаць жывую нямецкую мову — выраз *“totgesagt”* проста не знайсьці ў папулярных падручных слоўніках гэтае мовы. Дык дыскусія вакол “пэсымістычнасьці” гэтага загалоўку паўстала проста зь незразуменьня яго.

Аўтарам артыкулу быў паданы *“Гэб. Палісандэр”*, і ў дужках было пададзена *“Слуцк”*. Ужо ў першым сказе артыкулу аўтар кажа пра Беларусаў як пра сваіх суродзічаў (*Konnationalen*). Але Беларуса з прозьвішчам *“Палісандэр”* (ці ў нямецкай вымове — Палізандэр) знайсьці нельга, гэта выразна псэўданім. Што да прозьвішчнае часткі гэтага псэўданіму — *“Палісандэр”*, дык хоць і ня шырака, але ведамае трапічнае дрэва палісандэр, якое даўней вельмі ўжывалі,

дый цяпер яшчэ ўжываюць пры вырабе дарагое мэблі, і слова гэтае, пэўна-ж, магло быць знанае антыквару Івану Луцкевічу, хоць, ведама, адно гэта ня можа быць сьветчаньнем на карысьць ягонага аўтарства артыкулу.

Паданая-ж у скароце *"Гэб."* іменная частка псэўданіму не паддаецца расшыфраваньню — ані беларускага, ані нямецкага ймя, якое пачыналася-б з *"Гэб"*, знайсьці нельга, гэта хіба пачатак нейкага, але цяжка сказаць якога, слова зь нейкім самастойным значаньнем, як і, *"палісандэр"* прозьвішчнае часткі. Дадатак-жа ў дужках *"Слуцк"* ня можа быць сьветчаньнем ані за, ані супраць Луцкевічавага аўтарства — тут, відаць, барждзэй камуфляж, як і ў псэўданіме: знайсьці нейкага Беларуса, які мог-бы быць аўтарам артыкулу й жыў-бы тады ў Слуцку, проста немагчыма. Нарэшце, што да самога зьместу артыкулу, дык хоць нейкага неверагоднага для Івана Луцкевіча "пэсымізму", які сьветчыў-бы супраць ягонага аўтарства, у ім, як ужо сказана, і ня відаць, але названьне Беларусаў *"народзікам"* (*ein Völklein*) на пачатку магло-б быць некаторым сьветчаньнем падобнага парадку супраць таго аўтарства.

Наагул, найпраўдападабнейшым выдаецца дапусьціць нейкі закамуфляваны ўдзел Івана Луцкевіча ў напісаньні артыкулу — можа, пісаўся гэты артыкул некім іншым зь ягоных словаў і "пад яго", калі так сказаць, а ня ім самым.

Ані ў беластоцкай дыскусіі, ані, здаецца, дзе-небудзь яшчэ, дасюль ня згадвалася, што артыкул *"Палісандэра"* зьявіўся й па-ангельску — у часапісе *"The Anglo-Russian"*[313] за сьнежань 1904 г. (бб. 875–6) пад загалоўкам *"The White-Russians. A Nation driven back into the Middle Ages under Mascovite rule"* ("Беларусы. Нацыя, адкінутая назад у Сярэднія Вякі пад маскальскім панаваньнем") — гэты ангельскі тэкст адшукаў ня гэтак даўно др. В. Кіпель.

У ўступной нататцы ад рэдактара, які зазначае, што сам ён *"народжаны і ўзгадаваны сярод Беларусаў і можа пацьвердзіць сьветчаньне аўтара"*, сказана, што артыкул, *"перакладзены й крыху скандэнаваны"* з *"Ruthenische Revue"* (пры тэй *"кандэнсацыі"* цалком апушчаныя першыя тры абзацы нямецкага тэксту, у якіх давалася супастава Беларусаў з Украінцамі; апушчаны даўгі перадапошні абзац, у якім падаваліся некаторыя дадзеныя пра *"разьвіцьцё белару-*

[313] ***"The Anglo-Russian"*** — штомесячнік, які выдаваўся ў Лондане ў 1897–1914 гг.

*скае літаратуры й нацыянальнае адраджэньне беларускага народу ў 40-х, 50-х і 60-х гадох мінулага стагодзьдзя"* — называўся канкрэтна адно Марцінкевіч[314], ягоны пераклад "Пана Тадэвуша" й "Сялянка", агульна згадвалася пра зьяўленьне ў вапошнім дзесяцігодзьдзі XIX веку *"20–30 нелегальных публікацыяў часткава кірыліцаю, часткава лацінкаю, а таксама этнаграфічных зборнікаў"*, былі таксама апушчаныя й некаторыя паасобныя сказы ў іншых абзацах).

Артыкул *"Палісандэра"* — гэта першая грунтоўная інфармацыя пра Беларусь і Беларусаў, якая зьявілася ў заходняэўрапейскіх мовах, а выйшла выразна з колаў беларускага нацыянальнага руху яшчэ ў 1904 г., перад рэвалюцыяй 1905 году. Тут упяршыню падаваліся факты й лікі пра нацыянальны, сацыяльны, культурны й веравызнальны стан Беларусаў у гістарычным разрэзе.

Хочацца адзначыць таксама пару дэталяў, паданых тут упяршыню — прыкладам, зазначэньне, што Беларусам шкодзіць гэты іхны нацыянальны назоў, дзякуючы якому іх часта ўважаюць за разнавіднасьць тых-жа *"Русаў"* — Расейцаў; трапная спасьцярога, што беларускі народ *"мае, дзякуючы стагоднаму панаваньню белых цароў, меншы лік школаў, як меў ён у XVI стагодзьдзі"*, а таксама цікавае паведамленьне. што ў часе расейска-японскае вайны *"сярод народу пашыраліся чуткі, што паны, жыды і ўсе каталікі пастачаюць грошы, порах і харчы Японцам; што, калі Японцы пераможуць, зь іхнай дапамогаю будзе йзноў уведзены прыгон. Таму абавязак кажнага селяніна складаць ахвяры на карысьць дабраахвотнага флёту й Чырвонага Крыжа, ды ўсіх падазроных асобаў як агітатараў супраць вайны, удаваць уладам... Некаторыя сяляне затрымвалі звычайных турыстых як японскіх шпіёнаў, зьвязвалі іх і перадавалі турэмным уладам"*. Дык выходзіць, што падобная практыка савецкіх уладаў у часе вайны не станавіла сабою нічога новага…

[314] Маецца на ўвазе Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.

*Янка Станкевіч*

## Вячаслаў Ластоўскі

(Рэфэрат, чытаны на Акадэміі, зладжанай 31.10.1953 г. у Нью Ёрку на чэсьць В. Ластоўскага Крывіцкім Навуковым Таварыствам Пр. Скарыны)[315]

*Ад рэдакцыі: У № 43 "Бацькаўшчыны" за 1.11.1953 г. мы коратка адзначылі 70-ю гадавіну з дня нараджэньня Вацлава Ластоўскага. Але Ластоўскі зьяўляецца настолькі выдатнай адзінкай у нашым палітычным, культурным і навуковым жыцьці, што яму належыцца значна болей увагі. Таму ніжэй зьмяшчаем аб ім артыкул Я. Станкевіча, пасьля гэтага зьмесьцім яшчэ абшырны навуковы артыкул аб Ластоўскім[316], а ў пачатку наступнага году Выдавецтва "Бацькаўшчына" маніцца выдаць зборнік ягоных літаратурных твораў[317].*

*Ластоўскі называў сябе заўсёды Вацлавам, так як сябе называюць звычайна пад польскім уплывам Беларусы каталікі з гэтым імем. Аўтар ніжэй зьмешчанага артыкулу называе яго правільна па-беларуску — Вячаславам.*

Вячаслаў Ластоўскі пасьвяціў сябе ўсяго адраджэньню беларускага народу, належачы да тых нячысьленных, што ня толькі ўсёй душою аддаліся справе беларускай, але і ўвесь час свой аддавалі ёй.

---

[315] Артыкул быў передрукаваны ў зборніку «З гісторыяй на "Вы"» (Мінск, 1994, с. 152–157), але ў адрэдагаваным выглядзе. Тут ён падаецца паводле першапублікацыі: Бацькаўшчына. № 48 (179). 6 сьнежаня 1953. С. 3–4.

[316] Склют, Р. Званар Адраджэньня (Вацлаў Ластоўскі) // Бацькаўшчына. № 7 (189). 14 лютага 1954. С. 2; № 8–9 (190–191). 28 лютага 1954. С. 3–4; № 10 (192). 7 сакавіка 1954. С. 2; № 11 (193). 14 сакавіка 1954. С. 2; № 12–13 (194–195). 27 сакавіка 1954. С. 2; № 15–16 (197–198). Вялікдзень 1954. С. 3; № 18 (200). 9 травеня 1954. С. 2; № 19 (201). 16 травеня 1954. С. 2; № 20–21 (202–203). 30 травеня 1954. С. 3–4; № 30–31 (312–213). 15 жнівеня 1954. С. 2; № 35 (217). 26 верасьня 1954. С. 4; № 36–37 (218–219). 10 кастрычніка 1954. С. 2; № 41 (223). 7 лістапада 1954. С. 4; № 42 (224). 14 лістапада 1954. С. 2–3; № 43–44 (225–226). 28 лістапада 1954. С. 5; № 47–48 (229–230). Каталіцкія Каляды 1954. С. 4–5. Перадрук: Скарыніч. Літаратурна-навуковы гадавік. Выпуск 3. Масква — Мінск — Смаленск, 1997. С. 37–51.

[317] Ластоўскі, Вацлаў. Творы. Мюнхэн, 1956.

Із школьнае асьветы В. Ластоўскі меў толькі пачатную школу, але самаасьветаю ён усебакова разьвіўся й быў запраўдным і даволі высокім інтэлігентам. Сваёй інтэлігенцыяй ён мог за пояс заткнуць шмат каго з вышэйшай асьветаю. У гэтым ён быў вельмі падобны да Янкі Купалы, каторы таксама быў самавук.

У вадным месцу Бібліі сказана, што вол мае права есьці з тае баразны або з таго загону, каторы арэць[318]. Але адно права, а другое магчымасьць. Вось-жа, што датыкаецца беларускага нацыянальнага адраджэньня, то можна сказаць, што адно лічаныя рэдкія выняткі мелі такую магчымасьць, а не даводзілася, з гледзішча матар'яльнага, завідаваць таму, хто яе меў. Да лічаных выняткаўадзінак, валоў беларускага адраджэнскага руху, што меў магчымасьць есьці з аранага самым загону, належыў В. Ластоўскі. І ніхто яму, з гледзішча матар'яльнага, гэтага не завідаваў.

З В. Ластоўскім пазнаёміўся я ў 1909 годзе, калі я прыехаў да Вільні. Ён тады быў сакратаром "Нашае Нівы" і заставаўся ім да нямецкае акупацыі ўвосені 1915 г. Ён адзержываў пэнсію ад выдавецтва. Судзячы з таго, як Ластоўскі жыў, пэнсія была больш чымся сьціплая. Жыў ён ля Завальнае вуліцы № 7. Там у першым вялікім пакою памяшчалася спачатку рэдакцыя "Нашае Нівы", а потым беларуская кнігарня, а ў заднім малым пакоіку ды яшчэ

---

318 *«Ці не апостал я? Ці ня вольны я? Ці ня бачыў я Ісуса Хрыста, Госпада нашага? Ці не мая дзея вы ў Госпадзе? Калі іншым я не апостал, дык для вас апостал, бо пячаць майго апостальства — вы ў Госпадзе. Вось мая абарона супроць асуднікаў маіх. Альбо мы ня маем улады есьці і піць? Альбо ня маем улады мець спадарожніцаю сястру жонку, як і астатнія апосталы, і браты Гасподнія, і Кіфа? Альбо адзін я і Варнава ня маем улады не працаваць? Які ваяр служыць калі-небудзь сваім коштам? Хто, пасадзіўшы вінаград, ня есьць пладоў яго? Хто, пасучы статак, ня есьць малака ад статку? Ці толькі па людзкой развазе я гэта кажу? Ці ня тое самае кажа і закон? Бо ў Майсеевым законе напісана: "ня цугляй мызу валу, які малоціць". Ці пра валоў дбае Бог? Альбо, можа, нам гаворыцца? Так, нам гэта напісана; бо, хто арэ, павінен араць з надзеяю, і хто малоціць, павінен малаціць з надзеяю атрымаць спадзяванае. Калі мы пасеялі ў вас духоўнае, дык ці вялікае тое, калі пажнём у вас цялеснае? Калі іншыя маюць у вас уладу, дык ці ня болей мы? Але мы не карысталіся гэтай уладай, а ўсё пераносім, каб не паставіць якое перашкоды зьвеставаньню Хрыстоваму. Хіба ня ведаеце, што слугі пры храме кормяцца з храма? што слугі пры ахвярніку бяруць долю з ахвярніка? Так сама і Госпадзь наказаў прапаведнікам Дабравесьця жыць са зьвеставаньня»* (Першае пасланьне да карынфянаў Сьвятога Апостала Паўла, 9: 1–14 — Цыт. паводле: http://knihi.com/none/Biblija.html).

ў меншай кухні жыў В. Ластоўскі з радзінаю — жонкаю й дачушкаю. Гэта было памяшчэньне такое малое, што яго можна толькі прыраўноўваць да нашых гасподаў у табарах Ды-Пі ў Нямеччыне дый гэтыя напару былі лепшыя. Было яно й сьцюдзёнае, бо далавах, пад усёй гасподаю быў склеп, у каторым памяшчаўся архіў “Нашае Нівы” і быў склад кніжак.

Калі вы ўваходзілі ў господу Ластоўскага, вы не пазнавалі, што гэта была госпада прыватная. Вам здавалася, што ўходзіце ў мастацкае прадаўжэньне рэдакцыі або кнігарні: на сьценах былі паразьвешаваныя абразы і іншыя памяткі старое беларускае культуры.

Асноўнай і, той казаў, службовай (гэтае слова так мала сюды падыходзе!) працаю Ластоўскага было сакратарства або рэдагаваньне “Нашае Нівы”. Але не адным ён гэтым займаўся. Клясычны адраджэнец беларускі займаецца ўсім чыста магчымым, што спрыяе беларускаму руху. Чыста гэтак рабіў і Ластоўскі. Вось-жа ня толькі друкам, але й вусна ён пашыраў беларускую справу — заўсёды, у рэдакцыі, дома й вонках. Сталым, але не аплачаваным супрацоўнікам “Нашае Нівы” і палітычным кіраўніком ад самага пачатку яе быў Антон Луцкевіч. Яго адылі ня часта можна было бачыць, ён рэдка бываў у рэдакцыі, а да госпады Луцкевічаў проста “так”, без патрэбы ня выпадала йсьці. Можна сказаць, што Іван і Антон Луцкевічы мелі дачыненьні зь людзьмі як-бы вышшых сфэраў, з маючымі значаньне ў грамадзкім і палітычным жыцьцю, і да ўсіх іншых у іх не заставалася часу. І Ластоўскі меў дачыненьне з гэнымі “вышшымі” сфэрамі, але ня столькі, колькі Луцкевічы. Затое ён вёў нацыянальна-ўсьведамляючую работу з усімі іншымі, каторымі былі прыяжджаючыя да Вільні беларускія сяляне і іншыя правінцыялы, розныя Віленцы, што ў некаторай меры зацікавіліся сваёю справаю беларускай, прыпадковыя мясцовыя й падарожуючыя гуманістычныя, радзей палітычныя (гэтыя йшлі да Луцкевічаў) дасьледвальнікі, што заходзіліся даведацца, што думаюць або ведаюць пра тое ці іншае пытаньне ў беларускай рэдакцыі. Але асабліва стыкалася з Ластоўскім беларуская моладзеж.

Найперш у самых сабе людзі носяць свайго ворага. У вадных ён меншы, у другіх большы; звычайна найнебясьпечняйшы ў маладзежы. Хрысьціянства гэта добра зразумела і стварыла супроць яго глыбака прадуманыя абаранаючыя сяродкі. Ня гэтымі сяродкамі,

але “заражаючы” маладзёнаў ідэяй беларускага нацыянальнага адраджэньня Ластоўскі ратаваў іх і маральна. Мне здаралася сустракацца зь людзьмі, каторыя казалі, што калі-б Ластоўскі ня прышчапіў ім беларускае ідэйнасьці ў іх школьным веку, дык яны ня толькі зьгінулі-б для свайго народу, але загінулі-б і маральна.

Трэба ведаць, што Ластоўскі ня быў даматур нат у менска-віленскім абсягу; ён нярэдка выяжджаў вонкі, маючы адмысловыя нацыянальна-адраджэнскія заданьні.

Няма што й казаць, што Ластоўскі браў дзейнае ўчасьце ў розным нацыянальным жыцьцю арганізацыйным.

Ластоўскі быў добрым публіцыстым. Ён друкаваў свае артыкулы ў “Нашай Ніве” пад рознымі мянушкамі, галоўна пад мянушкай Юры Верашчака і Власт (скарачэньне імені й прозьвішча). Памятаю, што ягоныя артыкулы адзначаліся гарачым тэмпэрамэнтам і часта нацыянальным абурэньнем.

У сваей вуснай і пісьменьніцкай нацыянальнай прапагандзе Ластоўскі розьніўся ад Антона Луцкевіча і іншых публіцыстых, а таксама ад такіх, як Антон Лявіцкі (пісьменьнік Ядвігін Ш.), што мелі (гэтыя другія) мякка-шляхоцкі падыход да здэнацыялізаванага беларускага панства. Гэтыя, як адныя, так і другія, пісалі пра край із пяцьма нацыямі (Беларусы, Лятувісы, Жыды, Палякі й Расейцы) ды што польскія (запраўды спалячаныя) паны ў Беларусі жаюць павіннасьць закладаць (прыватныя) беларускія школы. Такі спосаб прапаганды не даваў рэзультатаў у тых, да каго ён быў зьвернены. Панове, ведама, мелі павіннасьць закладаць беларускія школы, але яны яе не спаўнялі і, пакуль заставаліся ў чужнацыянальным палоне, ня было надзеі, што споўняць, як ім гэта ня прыпамінай. А што да *“пяцёх нацыяў”*, дык калі браць край у яго палітычна-гістарычнай цэласьці, былі толькі тры народы — Беларусы, Лятувісы й Жыды; а калі абмежавацца аднэй этнаграфічнай Беларусяй, дык два — Беларусы й Жыды. Палякі й Расейцы ў Беларусі — гэта спалячаныя або змаскаленыя Беларусы, і замест адклікацца да іхнага маральна-людзкога абавязку, валей было вымагаць спаўненьня павіннасьці нацыянальнай. Гэтак Ластоўскі й рабіў. *“Сплачвайце доўг!”* — пісаў ён, зварочуючыся да здэнацыялізаванага беларускага панства. Гэткі спосаб быў адзіна правільны. Пэўне й ён — прынамся гэным часам — мала вырваў з чужое ідэялёгіі тых, што былі ў яе моцна ўгразьлі; затое ён ратаваў тых, што былі на дарозе да ўгразьненьня.

Тымчасам спосаб першы ня толькі разьмінаўся з праўдаю, але й быў небясьпечны з боку нацыянальнага: ён заглушаў, усоньваў сумленьне ў бязьдзейных, абыякавых або й проста здраднікаў, бо даволі ім уважаць сябе за небеларусаў, каб чуцца нявіннымі. Ластоўскі і падобныя да яго сваім шчырым прасталінейным спосабам вельмі траплялі да перакананьня тым, што былі беспасярэдня з народу, асабліва моладзежы. Што дыкжэ Ластоўскі тарнаваў такі спосаб, выясьняецца тым, што ён сам быў беспасярэдня з народу.

Посьле доўгага паняволеньня, уціску, зьдзекаў, нішчэньня, нярэдка фізычнага, сыстэматычнай прадуманай асыміляцыі, у нашага народу засталася толькі мова і — мінуласьць. Мала які народ устоіць без свае мовы, а каторы і ўстоіць, як Жыды, дык імкнецца аднавіць сваю мову. А бяз мовы й мінуласьці — гістарычнае традыцыі ніводзін народ ня можа ўстоіць, каб ня стацца пагноем іншым. Дзеля таго мова й гістарычная традыцыя — гэта найпатрэбнейшыя й найдарожшыя скарбы народу. Гэта зразумеў Ластоўскі і парупіўся пра долю гэтых скарбаў. Ён студыюе гісторыю Беларусі ды піша й друкуе сваю "Кароткую Гісторыю Беларусі". Але студыюе, як і ўсё, саматугам, не здабывае навуковае мэтоды. Дзеля таго, дарма што ён ведаў шмат гістарычных фактаў, "Кароткая Гісторыя Беларусі" ягоная слабшая за ўперад іншымі напісаныя, прыкладам, шмат слабшая за гісторыю Беларусі М. Даўнара-Запольскага як з гледзішча навуковага, так і нацыянальнага. Ёсьць вялікае выданьне *"Живописная Россія"*[319], у трэйцім, таксама вялікім томе яе ёсьць гісторыя Беларусі, надрукаваная ў дзьвюх асобных часьцях, адна часьць завецца *"История судьбы Белорусского Полесья"*, другая — *"История судьбы Литовского Полесья"*; абедзьве часьці адна адну дапаўняюць. Дзьве (а не адна) гісторыі Беларусі зьявіліся тут згодна із штучнымі расейскімі назовамі. (Расейцы, забіраючы Беларусь, Віцебшчыну й Магілеўшчыну назвалі *"беларускай губэрняй"*, Меншчыны ніяк не назвалі, а за Віленшчынаю, Горадзеншчынаю разам з Ковеншчынаю пакінулі стары назоў задзіночанага гаспадарства беларускага — *Літва.*) Абедзьве менаваныя часьці гісторыі Беларусі напісаў Адам Кіркор[320], беларускі пан із Сьлівіна

[319] Маецца на ўвазе выданне: Живописная Россия: отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом, и бытовом значении. Под общей редакцией П. П. Семенова. С-Петербург, 1881–1901.

[320] **Адам Кіркор** (1818–1886), гісторык, этнограф, археолаг, публіцыст, выдавец.

ў Магілеўшчыне, вельмі плодны аўтар. Хіба дзеля таго, што гісторыя Беларусі Кіркорава была нейкай ды багатай фактамі цэласьцяй, чаго не ставала іншым асобным гістарычным апрацаваньням, яе браў за зразу (пробку) Ластоўскі і ёю, відаць, найболей карыстаўся.

Але дарма што "Кароткая Гісторыя Беларусі" Ластоўскага, з прычыны нястачы навуковае прыгатовы ў яе аўтара, слабшая за папярэднія, яна зрабіла за іх шмат болей. Прычыны гэтага былі, што яна напісана па-беларуску, што ўжывала, хоць і толькі што неабдумана пашыраны, але ўжо зразумелы інтэлігенцыі назоў "Беларусь", "беларускі", а не якісь "*западнорусский*" і пад., што мела гатовых сваіх чытачоў і пашыральнікаў, якімі былі беларускія адраджэнцы — адным чынам дзеля таго, што гэта было выданьне беларускага руху й дзеля гэтага руху.

Заняўся Ластоўскі й беларускаю моваю. Сярод нашых людзёў ёсьць часта хвальшывае перакананьне, што Беларусу беларуская моваведа ёсьць навукаю найлягчэйшай, — бо што-ж, і так Беларус умее па-беларуску. А тымчасам гэта ня так. І гэта бачым таксама з прыкладу Ластоўскага. Дарма што ён надта рупіўся пра родную мову, мог заняцца толькі слоўнікам ды, выдаўшы слоўнік, запраўды папсаваў багаты матар'ял. Ягоны слоўнік ані навуковы, ані практычны, ані матар'ял да аднаго або другога. І такім ён застанецца, пакуль ягоны зьмест ня будзе правеяны і ня будзе адлучанае зярнё ад мякіны, бо Ластоўскі памяшаў прыродныя словы беларускія із словамі ім самім робленымі або някрытычна запісанымі й выпісанымі. Карыстацца такім слоўнікам трэба вельмі асьцярожна, а ня спэцыялістаму валей і зусім не карыстацца. Шкоднасьць такога карыстаньня адбіваецца на вершах Сяднёва. Але рупнасьць Ластоўскага пра родную мову заслугоўвае найбольшай пашаны. Каб сучасныя нам беларускія студэнты мелі хоць часьць такое рупнасьці, а зь ёй і беларускай мове не пагражала-б вялікая небясьпечнасьць.

Зь менаваным бачым, што Ластоўскі і браў справы глыбака, з карэньня. Дзеля таго-ж ён стараўся аднавіць і пашырыць наш стары, праўдзівы нацыянальны назоў "Крывічы".

Ластоўскі й пісьменьнік. Ён пісаў апавяданьні ды вельмі ўмела й хораша апрацоўвай легенды, што лучылася зь ягонымі гістарычнымі зацікаўленьнямі. Ён і этнограф, але тут такі, як і гісторык. Знаўся ён на памятках старога беларускага й чужога мастацтва,

хоць і далёка быў у гэтым знацьцю ад Івана Луцкевіча. Наапошку трэба адцеміць, што ён заўсёды быў і палітык.

Хто мог спадзявацца ад самавука такога шырокага кругазору, вялікіх веданьняў, такое ўсебаковае дзейнасьці? Ён вялікі ў сваіх імкненьнях, у любові свайго народу і ў працы для яго. З прычыны паднявольнага палажэньня нашага народу Ластоўскі ня меў навуковае прыгатовы. Каб яе меў, дык быў-бы вялікім гісторыкам, у тым ліку гісторыкам мастацтва, а мо’ й моваведам, а напэўна добрым этнографам.

Наш край — гэта край вялікіх людзёў. Летувісы, што прысабечваюць сабе нашу гісторыю, гэта адзначаюць навет у сваім нацыянальным гымне[321]. А калі-б ня нашая нацыянальная няволя, дык вялікіх людзёў у нас было-б шмат разоў болей і працавалі-б яны не на чужых, а свае таленты аддавалі-б свайму народу.

*Лявон Юрэвіч*

## Да гісторыі Беларускіх Збройных Сілаў[322]

Мікола Дзямідаў[323] (1888–1967) — прайшоў свае вялікія дарогі ад Сьвіслацкай Сэмінарыі і 1-й Паўлаўскай Ваеннай Вучэльні да службы ў войсках БНР.

321 Першы слупок “Tautiška giesmė (“Нацыянальнай песні”) гучыць так: *“Летува, Радзіма наша, Ты зямля герояў, Што ў слаўнай мінуўшчыне Бяруць свае сілы”*.

322 Беларус. № 450. Студзень 1998. С. 4–5.

323 **Мікола Дзямідаў** (1888–1967), вайсковы і грамадскі дзеяч, публіцыст. Удзельнік Першай сусветнай вайны, у 1918 г. займаўся ў Вільні арганізацыяй беларускіх вайсковых адзінак. Улетку 1920 г. уступіў у армію С. Булак-Балаховіча, арганізаваў асобны беларускі батальён, які ўдзельнічаў у паходзе 1920 г. Ад 1923 г. у Латвіі на чале таварыстваў “Беларуская хатка” і “Рунь”. У 1940 г. арыштаваны і этапаваны ў Маскву, але неўзабаве вызвалены. У 1941 г. кіраваў Беларускім нацыянальным камітэтам у Дзвінску, потым увайшоў у склад Беларускага нацыянальнага камітэта ў Рызе. У 1942 г. пераехаў у Беларусь, працаваў інспектарам Генеральнага камісарыята, потым рэферэнтам па школьных справах. Удзельнічаў у фарміраванні лідскага батальёна БКА. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне, пазней выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага.

20 сьнежня 1918 г. з часткамі генэрала Кандратовіча[324] ён увайшоў у Горадню й быў прызначаны камэндантам горада і ўсяе акругі. Менавіта ў гэты час у Горадні знаходзіўся Урад БНР. Праз два гады М. Дзямідаў уступіў у армію Булак-Булаховіча[325], які прызначыў прафэсыйнага вайскоўца начальнікам штабу 1-й Беларускай Брыгады, а крыху пазьней — камандуючым усіх Беларускіх Збройных Сілаў, што знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі.

Але-ж беларуская праца адно войскам не абмяжоўвалася. У 1922 г. М. Дзямідаў быў вылучаны ад Беластоцкай акругі на кандыдата ў паслы ў Сойм, а ў 1943 г. на Лідчыне арганізоўваў беларускія школы й самаахову.

Пасьля гэтага — вымушаная эміграцыя ў ЗША, у Чыкага.

У 1964 г. наладзілася ліставаньне М. Дзямідава зь Юркам Віцьбічам, калі пісьменьнік зьвярнуўся да генэрала па дапамогу: на варштаце былі артыкулы пра Булак-Балаховіча. У прыватнасьці, Ю. Віцьбічу здавалася, што *"галоўнай прычынай паразкі Беларускае Арміі зьяўляліся ня столькі справы на фроньце, колькі жыдоўскія пагромы ў тыле. І ці не зьяўляецца ў дадзеным выпадку Карзун-Фэдарэнка бальшавіцкім правакатарам? А тым болей, што ў выснаве ўчыненага ім жыдоўскага пагрому ў Пінску Армія згубіла свайго Бацьку?"* (ліст ад 12.07.1964).

Мікола Янавіч Дзямідаў — гэтак ён падпісваў свае лісты — далёка ня з усім пагаджаўся ў ацэнцы Балаховіча, але быў рады ліставаньню:

«*Багата ўспамінаў аднавілася ў маёй галаве, бо я зьяўляўся наступным за Бацькам Атаманам і Камандуючым пры ягоным наступе на Мазыр авангарднымі, а пры адступленьні ар'ергаднымі атрадамі і апэрацыямі на тэатры ваенных падзеяў, інакш кажучы, на тэрыторыі Беларускай Народнай Рэспублікі.*

---

[324] **Кіпрыян Кандратовіч** (1859–1932), генерал ад інфантэрыі, удзельнік руска-турэцкай вайны 1877–1878 гг., руска-японскай вайны 1904–1905 гг., Першай сусветнай вайны. Ад мая 1917 г. камандаваў 75-й пяхотнай дывізіяй. У 1917 г. быў абраны ў Цэнтральную беларускую вайсковую раду і ўзначаліў працу па арганізацыі прафесійнага беларускага войска. Ад красавіка 1918 г. сябра Рады БНР. Напрыканцы 1918 г. разам з Радай БНР адступіў з Менска і сфарміраваў у Гародні 1-ы беларускі полк. Непрацяглы час удзельнічаў у фарміраванні літоўскага войска.

[325] **Станіслаў Булак-Балаховіч** (1883–1940), вайсковы дзеяч, генерал асобнага атрада БНР, камандзір добраахвотніцкіх атрадаў польскай арміі ў 1920 г.

*Пасьля падаў Бацька рапарт на імя шэфа Вайскова-Дыплямагычнай Місіі ў Латвіі і Эстоніі палкоўніка К. Езавітава*[326] *са зьвярненьнем да Старшыні Рады Міністраў БНР наступнага зьместу: “Атаман Дабравольчаскага Народнага Атраду. 14 лістапада 1919. № 754. Старшыне Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Рапарт.*

*Зьяўляючыся грамадзянінам Беларускай Народнай Рэспублікі, лічу патрэбным, каб маё войска было скарыстана для абароны цэльнасьці й непадзельнасьці мае Бацькаўшчыны, а таму прапаную майму Ўраду залічыць мяне й мой атрад на Беларускую Службу.*

*Генэрал-маёр Булак-Балаховіч”.*

*На гэта Бацька атрымаў адказ:*

*“Вайскова-Дыплянатычная місія Беларускай Народнай Рэспублікі ў Латвіі і Эстоніі. №62. 15 лістапада 1919 г.*

*Атаману Дабравольчаскага Народнага Атрада генэрал-маёру Булак-Балаховічу.*

*Грамадзянін Генэрал!*

*Сёньня мною атрыманы ад Вас для перадачы Старшыне Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі рапарт аб тым, што Вы як грамадзянін Беларусі лічыце патрэбным стаць на абарону сваёй Бацькаўшчыны, каб забясьпечыць ёй цэльнасьць і непадзельнасьць, і просіце залічыць Вас і камандуемае Вамі войска на службу ў Армію Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Глыбока ўзрушаны Вашай заяваю, я срочным чынам напраўляю яго нашаму Ўраду, які, я ў гэтым пэўны, будзе вельмі задаволены ёю і ў самым хуткім часе прышле да Вас паведамленьне аб задавальненьні Вашай просьбы й падзяку ў гатоўнасьці паслужыць Бацькаўшчыне.*

*Да гэтага часу на моцы дадзеных мне Радаю Міністраў паўнамоцтваў я выражаю Вам, Грамадзянін Генэрал, вялікую падзяку*

---

[326] **Канстанцін Езавітаў** (1893–1946), грамадска-палітычны і вайсковы дзеяч. У 1917–1921 гг. намеснік старшыні Цэнтральнай беларускай вайсковай рады, камендант Менска, кіраўнік Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі. У 1921–1944 гг. жыў у Латвіі, быў адным з лідараў беларускага руху на яе тэрыторыі. На Другім Усебеларускім кангрэсе ўзначаліў Галоўную ваенную ўправу Беларускай Цэнтральнай Рады і быў генеральным інспектарам “беларускага вызваленчага войска”, фарміраванага на тэрыторыі Нямеччыны. Пасля рэарганізацыі БЦР ваенны міністр.

*ад імені нашай многапакутнай Бацькаўшчыны й паведамляю Вам, што з гэтага дня Вы і Вашае войска лічыцеся на службе ў Арміі Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Шэф місіі палкоўнік Езавітаў”.*

*Пасьля гэтага адбыўся адпаведны абмен граматамі, а мною быў атрыманы загад аб камандзіраваньні мяне ў чыне рускага капітан-маёра для выкананьня абавязкаў Старшага Ад’ютанта Начальніка Беларускай Брыгады палкоўніка князя Лаппо, які ў канцы кастрычніка 1920 г. захварэў ды быў звольнены, а я стаўся Начальнікам Беларускай Брыгады ў чыне палкоўніка».*

Пасьля адведак Ю. Віцьбіча М. Дзямідаў пісаў да яго: «*Да глыбіні душы я ўзварушаны Вашым прыймом мяне ў сваёй хаце, а яшчэ больш Вашым лістом. Беспасярэдняе спатканьне з Вамі, шчыра кажу, вельмі амаладзіла мяне, мае духовыя сілы. Хочацца жыць! Хочацца верыць у лепшую будучыню!*

*“О, Беларусь, бедная мая старонка: расьце Грыб*[327]*, паўзе Рак*[328]*, каркае Варонка*[329]*! Заклікае Купала. Піша Колас, стогне й плача Мамонька*[330]*”. Даўно калісь, у родным Дзьвінску, здаецца, Васіль Захарка*[331] *ў прысутнасьці Езавітава, Крэчэўскага*[332] *й Бацькі за абедам успомнілі Варонку й Мамоньку. Нявольна ўспамінаюцца даўнія мае часы. Дзякую Вам*» (ліст ад 31.07.1964).

---

327 **Тамаш Грыб** (1895–1938), грамадска-палітычны і культурны дзеяч. Лідар Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Ад пачатку 1920-х гг. жыў у Празе.

328 **Сымон Рак-Міхайлоўскі** (1885–1938), заходнебеларускі дзеяч, пасол польскага сойма (1922–1927), адзін з лідараў Беларускай сялянска-работніцкай грамады.

329 **Язэп Варонка** (1891–1952), палітычны дзеяч, журналіст, выдавец. Першы старшыня Народнага сакратарыята БНР. Ад канца 1918 г. жыў у Коўне. Да красавіка 1920 г. міністр беларускіх спраў ва ўрадзе Літвы. У 1923 г. выехаў у Чыкага (ЗША).

330 **Язэп Мамонька** (1889–1937), палітычны дзеяч, публіцыст. У 1918–1924 гг. сябра Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, паплечнік Тамаша Грыба.

331 **Васіль Захарка** (1877–1943), грамадска-палітычны дзеяч. Ад 23 жніўня 1923 г. міністр фінансаў ва ўрадзе БНР на чале з Аляксандрам Цвікевічам. Ад лістапада 1923 г. жыў у Празе. Пасля смерці Пётры Крэчэўскага ў 1928 г. стаў прэзідэнтам Рады БНР.

332 **Пётра Крэчэўскі** (1879–1928), палітычны і грамадска-культурны дзеяч. У 1919–1928 гг. прэзідэнт Рады БНР. Жыў у Празе.

У тым самым лісьце пісаў, што працуе над матар’яламі, атрыманымі некалі ад Варонкі (а той у сваю чаргу займеў іх ад Езавітава ў 1926 г.), дзе даводзілася, што Кастусь Каліноўскі дажыў да 1898 ці нават да 1911 году.

На гэты ліст Ю. Віцьбіч адказаў: «*Мне здаецца, што матар’ялы К. Езавітава й Я. Варонкі аб праўдападобнасьці жыцьця Каліноўскага да 1898 не адказваюць праўдзе. Перадусім, па самой натуры Кастусь Каліноўскі аніяк не надаваўся на тое, каб на гэткі вялікі час адыйсьці ўбок ад змаганьня за Вольную Беларусь, абы толькі захаваць сваё ўласнае жыцьцё. Па-другое, пэўне-ж пра жыцьцё Каліноўскага да 1911 ведалі-б ягоныя сваякі, але яны пра гэта акурат нідзе ня згадваюць. І ці ня зблыталі тут Варонка і Езавітаў Кастуся Каліноўскага з Франуком Каліноўскім, якога дзед Абрагам быў родным братам Сямёна Каліноўскага — бацькі Кастуся? Франук Каліноўскі ў 1909 г. у пошуках хлеба й шчасьця паехаў у Амэрыку, але праз колькі год зьвярнуўся назад. Яму цяпер 82 гады, жыве ў калгасе “Чырвоная Зьмена” Парыцкага раёну Гомельскае вобласьці з малодшым сынам Яраславам, які працуе брыгадырам калгаса. Другі сын, Станіслаў, — інжынэр, жыве ў Ленінградзе, дачка Ўладыслава — настаўніца.*

*Таму матар’ялы аб жыцьці Каліноўскага да 1911 г. цікавяць толькі як паданьне, што патрабуе разбурэньня, бо спрабуе зьменшыць ягоны гэраічны вобраз*» (ліст ад 16.08.1964).

Апынуўшыся ў Чыкага, М. Дзямідаў расшукваў сваіх старых сяброў-паплечнікаў, браў актыўны ўдзел у царкоўным жыцьці эміграцыі, спадзяваўся пасьпець напісаць успаміны, хацеў пераехаць у Саўт Рывэр, дзе былі, на ягоную думку, больш спрыяльныя ўмовы для працы. Але 23 чэрвеня 1967 г. на 77 годзе жыцьця беларускі генэрал Мікола Дзямідаў памірае.

*“Не загіне Край забраны, покі будуць людзі…”.*

# Да гісторыі антысавецкай партызанкі на Беларусі[333]

Тэма антыбальшавіцкіх паўстаньняў, якая знайшла найбольш поўнае адлюстраваньне ў вядомай працы Юркі Віцьбіча, цікавіла і іншых дасьледнікаў. Алесь Вініцкі[334], прыкладам, удакладняў дату паўстаньня на падставе ўласных дакумэнтаў. У лісьце да Юркі Віцьбіча з нагоды артыкулу апошняга "Як гэта было ў запраўднасьці. Да 50-годзьдзя Нясьвіскага паўстаньня" ад 7.09.69 ён пісаў: *«Хачу сьцьвердзіць маё сьведчаньне аб даце паўстаньня ў Нясьвіжы фотадакумэнтам ад 15.4.1919 г. за нумарам 6556. Ражок "Удостоверения" адарваў на прыкурку. Быў у дарозе, захацелася курыць, махорка была, а паперы не знайшоў, таму й выкарыстаў яго»*[335].

Гісторыя паўстаньняў, постаці змагароў сталіся ня толькі прадметам росшукаў і аднаўленьня, але й спрэчак — і не адно з савецкімі гісторыкамі. Аўген Калубовіч (Каханоўскі)[336] у 1955 годзе пачаў пісаць успаміны пра партызана Сапляка — з унутранай палемікай да артыкулаў Юркі Віцьбіча, але ня скончыў. Арыгінал рукапісу,

---

[333] Беларус. № 454. Травень 1998. С. 4.

[334] **Аляксей Вініцкі** (1891–1972), грамадскі дзеяч. У перыяд нямецкай акупацыі ствараў беларускія школы і аднавіў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне спрыяў арганізацыі беларускіх лагераў Ды-Пі. У 1949 г. пераняў ад А. Орсы дырэктарства ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы, выкладаў геаграфію. У 1956 г. перабраўся ў ЗША. Аўтар працы "Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гг." (Лос Анджэлес, 1972. Ч. I–III).

[335] Тэкст дакумента: *"Дано сие студенту Минского Педагогического Института Алексею Виницкому в том, што ему разрешается провезти из с. Малево Слуцкого уезда в г. Минск ржаной муки тридцать фун., крупы пять фун., масла три фун., сала пять фун., картофеля два с половиной пуда, что подписью и приложением печати удостоверяется"*.

[336] **Аўген Калубовіч** (на эміграцыі **Каханоўскі**, 1912–1987), грамадска-палітычны дзеяч, гісторык. У 1930 г. закончыў педтэхнікум у вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна. Арыштоўваўся савецкімі ўладамі ў 1930 г., 3 гады адседзеў у лагерах. Пасля настаўнічаў у Хойніцкім раёне і ў Менску, працаваў у Наркамаце народнай асветы БССР. Падчас Другой сусветнай вайны быў сябрам Беларускай рады даверу, Беларускай Цэнтральнай Рады, узначальваў Беларускае культурнае згуртаванне. На эміграцыі ўваходзіў у кіраўніцтва Беларускага нацыянальнага цэнтра, Рады БНР, стваральнік Беларускай нацыянальна-дэмакратычнай партыі. Быў прэм'ер-міністрам БНР. Аўтар шматлікіх гістарычных даследаванняў, успамінаў.

які публікуецца ніжэй зь нязначнымі скарачэньнямі, захоўваецца ў Фундацыі імя П. Крэчэўскага.

Л. Ю.

*Правільнае імя Сапляка — Алесь. Паходзіць ён зь сяла Стрэлічава Хойніцкага раёну. Дзеля таго, што ў Стралічаўскім саўгасе й бровары мой бацька ад 1924 да 1938 году быў бухгалтарам, я шмат там жыў, асабліва калі вучыўся ў Бабчынскім пэдагагічным Тэхнікуме (6 км ад Стрэлічава). Самога Сапляка я бачыў шмат разоў, два разы гутарыў зь ім. Ведаю ягонага старэйшага брата, які жыў у Стрэлічаве, і ягоную сястру — жонку аднаго рабочага саўгасу. Аб ім створана на Палесьсі столькі лягендаў, што толькі людзі, якія жылі блізка тых мясьцін і ведалі добра яго, могуць аддзяліць праўду ад легенды. Наагул у ягонай асобе спалучаны партызан і бандыт: чаго было болей — сказаць цяжка. Ён паходзіў з зладзейскай сям'і: ягоны старэйшы брат быў шырока знаным злодзеем, але, пацягаўшыся па турмах, вылечыўся ад гэтае хваробы й стаўся сумленным чалавекам. Сам ён ледзь не зь пялёнак быў дробным злодзеем, амаль ніколі ня жыў дома, а ад 12 год пайшоў у лес. Калі яго забілі, яму было толькі якіх 24–26 год. Гэта было ў 1928 годзе. Апошнія гадоў шэсьць ён быў болей партызанам, чымся бандытам. Найбольшы ўплыў у гэтым кірунку зрабіў на яго ягоны сябра й памочнік Сямкоў — былы студэнт Мазырскага Пэдагагічнага Тэхнікуму, якога як сына кулака звольнілі з тэхнікуму дзесь у 1926–1927 годзе, і ён проста з Мазыра пайшоў у лес, да Сапляка. З гледзішча ідэялягічнага Сямкоў быў самай сьветлай фігурай у атрадзе Сапляка, бо ён далучыўся да яго з мэтаю помсты, палітычнага змаганьня супроць савецкае ўлады. Такі кірунак атраду Сапляка галоўна ён надаў, хоць, праўда, гэтыя моманты былі ў Сапляка й раней. Іншыя-ж сябры атрада — Каган з Кобрыну, Лобан і г. д — пераважна злодзеі й бандыты.*

*Дзеля таго, што Сапляк быў амаль няпісьменны (ён зусім ня вучыўся ў школе, а чытаць і пісаць трохі навучыўся сам), ён мала кантраляваў гэтых сваіх сяброў, хоць сам рабаваў галоўна пошту ці іншыя ўстановы, а людзей не чапаў. Гэткі стан рэчаў клаў і на яго пляму зладзейства й бандытызму. Загінуў-жа ён не апошнім, а першым. Яго забілі ў правакацыйны спосаб у сяле Кухнаўшчына Хойніцкага раёну (гэта сяло хутароў у лесе, дзе была адна зь яго-*

*ных кватэраў). Зь ім быў і Сямкоў, але ўцёк. Апошнія два гады помсьціўся за Сапляка, але быў таксама забіты. Потым быў забіты Лобан. А рэшту атраду судзілі ў 1930 г. у Гомелі; быў даўгі працэс, цягнуўся штось два месяцы, выклікалася колькі сот сьведак. Іх усіх расстралялі. Калі мяне перавялі з турмы НКВД у сьмяротную камэру Гомельскай турмы (нумар 22), я расчытаў на яе сьцяне надпіс, зроблены, відаць, зраненым пальцам. Ня памятаю цяпер дакладнага тэксту, але гэта Каган паведамляў, калі ён будзе расстраляны.*

*Сапляк быў дужа таленавітым чалавекам, а ў вайскова-партызанскіх справах проста геній, але ідэялягічна-маральнае недасьведчаньне й неадпаведныя сябры налажылі на яго пляму бандытызму. Таму, на мой пагляд, толькі добра ведаючым аб ім факты й спрытна лавіруючы ачышчэньнем ад гэтых праяваў бандытызму, зь невялікай рызыкай можна рабіць зь яго героя.*

*Затое знаны на нашым Палесьсі Хомка (Хама Андрэеў Бакіноўскі) зь сяла Хобнае Хойніцкага раёну быў партызанам антыбальшавіцкім у поўным значэньні гэтага слова. Гэта сын селяніна, які скончыў юрыдычны факультэт Пецярбурскага Ўнівэрсытэту, вярнуўся падчас польскае акупацыі дадому, змагаўся супроць палякоў, а потым, да 1926 г., супроць бальшавікоў. У раёне свайго дзеяньня (Хойніцкі, Васілевіцкі, Калінкавіцкі, Мазырскі й блізкія ім раёны) ён сам расстрэльваў зладзеяў, а ў тым і аднаго свайго сябру, які выдраў мёд у вульлі. Хомка ня менш легендарны за Сапляка, і ўсе савецкія ўстановы на Палесьсі дрыжэлі перад ім, нат атрады міліцыі, а ў тым і конныя, якія ён раззбройваў. Гэта крыштальна чысты пад паглядам ідэйным і маральным партызан.*

*Я. З.*

## “Мангольскі праэкт”
(Калі яшчэ “Грамады”[337] не было)[338]

Кажная зьява мае свае прычыны, і зразумець іх — гэта разумець зьяву.

Пра “Грамаду” ў нас пісалася шмат — цікавага й павучальнага. Аднак найчасьцей, як пісалася, дык наўвеце была зьява, што *ўжо* існавала. Але-ж якая была ідэя, што спарадзіла яе, дзе былі ейныя прычыны? Адказу на гэта пакуль што ніхто ня даў: адныя не маглі, іншыя ня ўмелі.

У выдавецтве мюнхэнскага Інстытуту Вывучэньня СССР[339] ды ў ньюёркаўскім выдавецтве *“Scarecrow Press Inc”* выйшла нядаўна праца праф. Ант. Адамовіча “Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры” (па-ангельску)[340]. У кнізе шмат дэталяў і няведамых дагэтуль фактаў зь літаратурнага жыцьця БССР ды з палітычнага жыцьця беларускае сталіцы. У кнізе, між іншага, расказана й пра “Мангольскі праэкт” — драматычны пачатак пазьнейшае катастрофы.

У 1922 г. у Польшчы былі праведзеныя выбары ў сойм. Беларускі рух у Заходняй Беларусі выказаў у гэтай пробе сваю жыцьцяздольнасьць і палітычную сьведамасьць. Бальшавікі не маглі не дагледзіць гэтага. Аднак дзеля таго, што ў Заходняй Беларусі разам з палітычнай сьведамасьцяй выказаўся й здаровы нацыянальна-палітычны розум, у бальшавікоў напрошваўся просты выснаў: выкарыстаць гэты патэнцыял супраць Польшчы, а пасьля зьнішчыць. У бальшавізьме мерка антыбеларускасьці й антыпольскасьці вызначаецца ў залежнасьці ад антыбальшавіцкасьці беларушчыны й польшчыны.

---

[337] Маецца на ўвазе **Беларуская сялянска-работніцкая грамада** (БСРГ) — масавая радыкальная левая партыя, якая дзейнічала на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1926–1927 гг. За кароткі час дасягнула колькасці сябраў больш за 100 тысяч чалавек, пасля чаго была ліквідаваная польскімі ўладамі, а асноўныя яе лідары апынуліся ў турме.

[338] Бацькаўшчына. № 11–13 (397–399). 25 сакавіка 1958. С. 2–3.

[339] **Інстытут вывучэння гісторыі і культуры СССР** заснаваны ў Мюнхене прадстаўнікамі расійскай эміграцыі і ад 1951 г. фінансаваны Амерыканскім камітэтам вызвалення народаў Расіі. Ад 1954 г. у ім быў беларускі аддзел.

[340] Adamovich, Anthony. Opposition to sovietization in Belorussian literature, 1917–1957. New York: Scarecrow Press, 1958. — 204 p.

На другім канцы Савецкага Саюзу ў 1921 г. быў прылеплены ахоўны буфэр: створаная пад выглядам незалежнага гаспадарства й замацаваная пасьля пад пратэктаратам Масквы Мангольская Народная Рэспубліка. Калі беларускі незалежніцкі рух пачаў рабіцца загрозай бальшавіком, у гэтых апошніх зьявілася камбінацыя: чаму-б не падсунуць Беларусам ідэю зрабіць зь Беларусі таксама "буфэр" — гэтым разам на Захадзе сацыялістычнае дзяржавы. Адсюль — "Мангольскі праэкт".

Схэма: у Заходняй Беларусі ўздымаецца антыпольскае паўстаньне; БССР "паўстае" таксама ды йдзе на памогу сваіх заходнім братом; дзьве часткі Беларусі зьліваюцца ў адну дзяржаву, пры чым Усходняя Беларусь карыстае з права свабоднага выхаду з Савецкага саюзу; незалежная Беларусь зварачаецца да СССР з просьбай аб пратэктараце і атрымоўвае яго.

Як наіўна ні выглядае ўсё гэта цяпер, у Менску тады яно шмат каму здалося рэальным, асабліва моладзі.

У міжчасе заходнябеларуская прэса пачала вытыкаць, што бальшавікі разглядаюць вялікую частку беларускае этнічнае тэрыторыі як *"чыста расейскую зямлю"*. Перад гэтым яшчэ праблема гэтая колькіразова ставілася на парадак дня Камуністычнай партыяй Беларусі, аднак бязь ніякіх пазытыўных вынікаў.

Калі да гэтых дамаганьняў далучылася грамадзкая думка Заходняе Беларусі, тады XII зьезд КПБ прыняў рэзалюцыю аб улучэньні ў БССР сумежных беларускіх земляў. Гэтак, 4 лютага 1924 г. было праведзенае *"першае ўзбуйненьне Беларусі"*: да БССР былі далучаныя Віцебшчына й Магілеўшчына. Вялізарная частка беларускае тэрыторыі, аднак, усё яшчэ заставалася ў межах РСФСР.

Гэтым часам справа сакрэтнага "Мангольскага праэкту" набірае разгону. У творах удзельнікаў літаратурнае арганізацыі "Маладняк"[341] зьяўляюцца зашыфраваныя згадкі недалёкага ўсебеларускага паўстаньня. Паэты М. Чарот[342], А. Александровіч[343], Ул. Дубоўка[344]

---

[341] **"Маладняк"** — літаратурнае аб'яднанне, якое існавала ў БССР у 1923–1928 гг., налічвала да некалькіх сотняў сяброў. У 1928 г. было рэарганізаванае ў Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў.

[342] **Міхась Чарот** (сапр. **Кудзелька**, 1896–1937), паэт, драматург, празаік, публіцыст.

[343] **Андрэй Александровіч** (1906–1963), паэт, перакладчык, публіцыст.

[344] **Уладзімір Дубоўка** (1900–1976), паэт, празаік, перакладчык, крытык.

пранізваюць свае паасобныя вершы ідэяй вызваленьня, задзіночаньня й сувэрэннасьці. З вуснаў у вусны перадаецца ўпэўненасьць, што калі ўлада будзе ў беларускіх руках, тады й з бальшавікамі разьлічыцца можна будзе. Маладая паэтка Хмарка[345] пяе ў "Полымі" (1925 г.) сваю "лебядзіную песьню" (верш "Сакавіку"), бяручы за сымбаль вызваленьня й свабоды — Сакавік 1918 г. А пад прыкрыцьцём гэтага недасьветчанага захапленьня расьлі зьнішчальніцкія пляны бальшавікоў.

Сэнатар Васіль Рагуля[346] пакінуў па сабе гэткае сьветчаньне: *«У міжчасе (1924 г.) каля нашых паслоў пачалі ўвівацца савецкія агенты. Аднойчы я застаў у маім памешканьні нейкага чалавека. Ён сказаў, што прыехаў з Саветаў і хоча гутарыць зь беларускімі прадстаўнікамі. Я ўладзіў зборку, запрасіўшы Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага й Мятлу*[347]*. У доўгіх гутарках незнаёмы мне чалавек угаварваў мяне адкінуць "буржуазныя перажыткі", адкінуць пачуцьцё дробнай сялянскай собскасьці й на гэтай базе арганізаваць у Заходняй Беларусі новую партыю. Мае сябры ня ўмешваліся ў нашую дыскусію. На маё пытаньне — што гэта будзе за партыя, камуністычная? — быў адказ: "Не, гэта будзе мосьцік да камунізму". Я ведаў, што прысутныя мае калегі сымпатызавалі Саветам, і дзеля гэтага сказаў: "Таму, што я ня хочу йсьці на другі бераг (камунізм), дык не пайду й на мосьцік. Цяпер я лічу, што мая далейшая прысутнасьць тут лішняя. Маё памешканьне ў вашым распараджэньні, працягвайце. Даю вам слова гонару, што буду аб гэтым маўчаць". Бязь мяне яны пастанавілі арганізаваць новую партыю — Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду. У гэткі спосаб*

345 **Хмарка** (сапр. **Наталля Панамарова**, 1897—?), паэтка. У 1920-я гг. працавала ў Наркамаце асветы БССР, Інстытуце беларускай культуры, Белдзяржвыдавецтве. Друкавалася ў часопісах "Полымя", "Вольны сьцяг", альманаху "Адраджэньне".

346 **Васіль Рагуля** (1879–1955), палітык і грамадскі дзеяч, педагог. У 1922 г. быў выбраны паслом у польскі сойм як беларускі кандыдат. Пасольскія абавязкі выконваў у 1922–1927 гг., у 1928–1930 гг. сенатар. Сябра Беларускага пасольскага клуба. Адзін з лідараў Беларускага сялянскага саюза. Падчас Другой сусветнай вайны быў бурмістрам Дзятлава, пасля вайны — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, Бельгіі, ЗША.

347 **Пётра Мятла** (1890–1936), грамадска-палітычны і культурны дзеяч. У 1922–1927 гг. дэпутат польскага сойма. Адзін з стваральнікаў і лідараў Беларускай сялянска-работніцкай грамады. У 1927 г. арыштаваны і зняволены. У 1930 г. датэрмінова вызвалены, выехаў у БССР, дзе быў рэпрэсаваны.

*нарадзілася і ахрысьцілася Грамада, што пацягнула пасьля за сабою пагібель маіх сяброў, сумленных, шчырых Беларусаў — патрыётаў свае Бацькаўшчыны»*[348].

У саракавыя ўгодкі выяўленьня волі беларускага народу да незалежнага дзяржаўнага жыцьця ды змаганьня за ажыцьцяўленьне гэтага ідэялу трэба памятаць аб бязьмежжы варожых подступаў, аб поўнай амаральнасьці бальшавізму, гатовага на самыя розныя "праэкты" ў імя зьнішчэньня й паняволеньня.

*Янка Станкевіч*

## На бакох[349] "Успамінаў" [350] В. Рагулі[351]

Лацінская прыказка кажа: *"De mortius aut bene aut nihil"*. Тое-ж маем у прыказках беларускіх: *"Пра нябожчыкаў валей маўчаць"*; *"Што зямлёю пакрыта, няхай будзе забыта"*. Гэта, адылі, бяссумлеву тарнуецца толькі да дачыненьняў прыватных, асабістых. У дачыненьнях грамадзкіх, нацыянальных і палітычных яно ня можа быць тарнавана, бо калі-б і тут тарнаваць, дык немагчыма было-б ведаць праўдзівую гісторыю, а яна-ж — вучыцелька жыцьця.

"Успаміны" Рагулевы можна падзяліць на дзьве часьці — на ўспаміны пра самога сябе і на ўспаміны пра здарэньні і іншых людзей.

Сваім жыцьцяпісам Рагуля назваў тое, што ён сказаў пра сябе на дзьвюх бачынах (бач. 9–11). Зь іх чытачы даведаліся, што ён скончыў у 1898 г. Вучыцельскі сэмінар у Маладзечне, у 1906 г. Вучыцельскі інтытут у Вільні, і ў 1922 г. быў абраны паслом на сойм. Дадам, што

348 Рагуля, Васіль. Успаміны. Нью Ёрк, 1957. С. 57–58.

349 Слова "бок" у гэтым значэньню (рас. поле, поль. маргінэс) у цяперашнім нашым друку, здаецца, ужыта тут упяршыню, але даўней яго ў гэтым значэньню Беларусы звычайна ўжывалі. Гэтак Скарына ў перадмове да Псалтыра кажа: "Палажыў ясьмі *на бацэх* некаторыя словы… рускім языком, што каторае (царкоўна-славянскае. — Я. С.) словы знамянуець". Даўнейшай хорме мясцовага склону мн. л. адказуе хорма цяперашняя *на бакох*. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

350 Рагуля, Васіль. Успаміны.

351 Бацькаўшчына. № 18 (404). 4 траўня 1958. С. 2–3; № 19 (405). 11 траўня 1958. С. 2–3; № 20 (406). 18 травеня 1958. С. 3–4.

ў 1944 г. эміграваў на Захад. Гэткім парадкам ягонае самастойнае жыцьцё ў Бацькаўшчыне пратрывала 46 год (ад сканчэньня Вучыцельскага сэмінара ў 1898 г. да эміграваньня ў 1944 г.). Гэтыя 46 год рэзка дзеляцца на дзьве часьці, паміж каторымі граніцаю была восень 1922 г., калі была выстаўлена ягоная кандыдатура ў паслы на сойм.

Першай пары прысьвечана ў “Успамінах” 9 бач. (2 бачыны “Біяграфіі” і каля сямёх бачынаў дальшага зьместу, таксама ў ладнай меры аўтабіяграфічнага). Другой пары прысьвечана ў бальшыні засталая часьць “Успамінаў” (117 бач.). Рагуля, як бачым, скупы на апісаньне свайго жыцьця ў першай пары. Тут я яго магу дапоўніць.

У маю-чырвеню 1917 г., карыстаючыся з таго, што “стары рэжым” разваліўся, я самадумам пакінуў запасны полк у Казані, у каторым служыў, і на месяц з гакам прыехаў да Беларусі. Быў у Магілёве, Воршы, Жлобіне, Гомелі й галоўна ў Менску. Між іншага, у Менску я меў чытаць пра Беларусь у Магілёўскай брыгадзе запасных. Было гэта наконадні Вучыцельскага зьезду ў Менску[352]. Я пасуліў брыгадзе паслаць прадстаўнікоў для прывітаньня зьезду. Яны згадзіліся й выбралі дзеля гэтага трох чалавек, у тым ліку й мяне. Адначасна на маё пасуленьне брыгада прыняла пастанову, у каторай дамагалася перавядзеньня на беларускую мову ўсіх школаў у Беларусі. Ад імені дэлегацыі, а значыцца, і брыгады, зьезд вітаў я. Прачытаўшы пастанову брыгады, я далей разьвіваў пажаданьні, каторыя былі дамаганьнямі беларускага адраджэнскага руху. Супроць гэтага на зьезьдзе ўзьнялася бура, мяне перарывалі, крычэлі, я мусіў задзержывацца з прамоваю, і тады тэндэнцыйны старшыня зьезду даваў слова іншым супроць мяне, каб зрабіць пажаданы сабе настрой. Адным із гэтых іншых ды найкрыклівейшым быў Васіль Рагуля, што быў тады ваеннымураднікам. Ён із перадрукам Статуту Літоўскага 1588 г. даводзіў, што ніякіх Беларусаў ня было й няма, бо вось у Статуце кажацца, што “*Пісар земскі маець па-руску, літарамі й словамі рускімі ўсе лісты, выпісы й позвы пісаці, а ня іншым языком і словы*”. Я такога прыйма на зьезьдзе не спалохаўся, і калі мой праціўнік-русыфікатар пераставаў гаварыць, я прамаўляў далей. Тады было пастаўлена пасуленьне ня даць мне далей гаварыць, што й было прынята бальшынёю зьезду. Пасьля гэтага я вёў у працягу ўсяго зьезду супярэчкі з асобнымі ўдзельнікамі й групкамі зьезду.

[352] Маецца на ўвазе з’езд настаўнікаў Менскай губерні, які адбыўся ў Менску напрыканцы траўня 1917 г.

Удзельнікі зьезду з малымі выняткамі былі Беларусы. Іхнае варожае дачыненьне да справы свайго народу выясьняецца іхным маскоўскім узгадаваньнем. Найменей тры гады хлапца або дзяўчо русыфікавалі, ды бязь ніякага супроцьдзеяньня, у пачатнай школе, пасьлей чатыры гады ўзмоцнена русыфікавалі ў Вучыцельскім сэмінару, дзе вучні жылі ў бурсе, а хто лучыў, як Рагуля, у Вучыцельскі інстытут, дык і там. Ды ізь невялічкімі выняткамі беларускае (з паходжаньня) вучыцельства як звычайных пачатных, так і вышшых пачатных школаў было абмаскалена; гэта былі запраўдныя янычары. Але, з другога боку, вучыцялі ўсіх пачатных школаў у Беларусі былі беспасярэднімі расткамі беларускага этнаграфічнага карэньня, каторым было галоўна сялянства; дзеля таго пры дальшым развою руху ім адчыняліся вочы, і яны, узноў з малымі выняткамі, усьвядоміліся.

Калі я зьвярнуўся зь Беларусі назад да свайго запаснога палку, дык там ужо было ўданьне мне, падпісанае групкай удзельнікаў Вучыцельскага зьезду — вучыцелямі, ахвіцэрамі і ваенным ураднікам Рагуляю. У ўданьні казалася, што я не паступаў на зьезьдзе *“как подобает русскому офицеру”*, што *“оскорбительно выражался о русском народе”*, што *“проявил себя от’явленным врагом России”*. Уданьне было адрысавана спаўняючаму камітэту палку, у каторым вялікую бальшыню складалі жаўнеры. Абвінавачваньне канчалася пасуленьнем *“обезвредить”* Станкевіча *“путем изоляции”*, зн. арыштаваць. Як я ўжо казаў, у калюарах Вучыцельскага зьезду я спрачаўся з непрыяцелямі Беларусаў. Супярэчкі з абодвых бакоў далёка не заўсёды былі ў ветлай хорме. Вычуць у мяне сымпатыі да Расеі нельга было, быў я й ворагам Расеі, але гэтага на зьезьдзе не казаў, а з найбольшых дамаганьняў беларускіх, як усе тады, выстаўляў толькі дамаганьне тэрытарыяльнай аўтаноміі Беларусі. Значыцца, вінавачаньнікі чыталі ў думках. У прыведзеных імі прыкладах часьць была праўдзівая, а другая часьць непраўдзівая, выдуманая.

Абвінавачваньне адказвала настроям этнаграфічна-расейскай часьці жаўнераў, што праявілася зараз па выбуху рэвалюцыі. У войску расейскім да рэвалюцыі із жаўнерамі абыходзіліся, як із статкам, і яны ня важыліся праяўляць свае непрыязьні да ахвіцэра якога-б паходжаньня ён ня быў, хоць-бы й нямецкага ў часе вайны зь Немцамі. З рэвалюцыяй дачыненьні зьмяніліся. Жаўнеры

Расейцы пачалі яўна няпрыязна ставіцца да ахвіцэраў не Расейцаў. Пазнавалі іх паводля прозьвішчаў. У нацыянальнасьці не Расейцаў яны не разьбіраліся; пры меншай няпрыязьні звалі ўсіх бяз розьніцы Палякамі, пры большай — Немцамі. Камандуючым войскамі Казанскай ваеннай акругі быў Паляк — гэн. Сандэцкі[353], дзівак і садысты ў дачыненьню да прапаршчыкаў. Па выбуху рэвалюцыі жаўнеры Расейцы на сваіх вечах вельмі ганялі яго, галоўна з тае прычыны, што ён — Паляк. Сандэцкі мусіў апраўдвацца ў друку, ён пісаў, што ягоны бацька быў Паляк, адтуль у яго польскае прозьвішча, а што маці ягоная Расейка, і сам ён Расеец. Гэта, адылі, не памагло, і агітацыя супроць Сандэцкага скончылася тым, што жаўнеры Расейцы яго цягалі па вуліцы й білі.

Расейская народная непрыязьнь праяўлялася ня толькі да ахвіцэраў не Расейцаў, але й да ўсяго нерасейскага. Улетку 1917 г. у нашым палку зладзілі народны тэатральны паказ. Кажная нацыянальная група дала сцэнку із свайго фальклёру або штось блізкае да фальклёру. Была й расейская сцэна, і яна была найніжэйшай і запраўды нізкой інтэлектуальнай і маральнай роўні. Была гэта сцэна, дзе дзевяць *“парней”* уганяюцца за *“Машай”*, каторая ў канцы аддае сваю любоў таму зь іх, каторы падараваў ёй *“красненький платочек”*. Пасьля гэтага паказу жаўнеры Расейцы досыць войстра выказалі сваё незадавальненьне, але ня дзеля таго, што была згуляна такая расейская сцэнка, а дзеля таго, што былі гульні й нерасейскія.

Пры падобных настроях менаванае абвінавачваньне магло блага скончыцца. Яны адылі не дапялі свае мэты. У спаўняючым камітэце палку былі ня толькі Расейцы, але і іншыя нацыянальнасьці, у тым ліку й Беларусы. Старшынёю камітэту быў прапаршчык Расеец (прозьвішча ня помню, здаецца, Самойлаў). Ён уганяўся за дачкою аднаго ўцекача Беларуса, і, апрача палку, я зь ім сустракаўся

---

[353] **Аляксандр Сандэцкі** (рус. *Александр Сандецкий*, 1851 — пасля 1918), расійскі генерал ад інфантэрыі, камандаваў войскамі Казанскай вайсковай акругі ў 1907–1912 і 1915–1917 гг. У сакавіку 1917 г. выйшаў у адстаўку, па пастанове Часовага камітэта арыштаваны і пасаджаны пад хатні арышт. Абвінавачваўся ў жорсткасці падчас задушэння рэвалюцыі 1905–1907 гг., прыгнятанні асобы салдат, увядзенні расследаванняў на падставе ананімных лістоў, што падрывала маральную сувязь афіцэраў і салдат. Сцвярджалася, што дысцыпліна ў Сандэцкага трымалася толькі на страху, а ягоныя загады супярэчылі законам і г. д. У ліпені 1917 г. справа генерала Сандэцкага была перададзеная суду, але выйшла затрымка і больш да гэтага пытання не вярталіся.

ў беларускіх уцекачоў; дык мы добра зналіся. Ён на пленуме камітэту выясьніў справу так, што гэта адумысловае нацыянальнае пытаньне, і яно не належа да камітэту. Так абвінавачваньне і адкінулі.

Рагуля, як бачым, уважаў сябе за *"истинно-русского"*. Вучачы, да 1920 г., у школах у Беларусі, ён быў русыфікатарам. Няма дзіва, што яму прыяў і памагаў у русыфікацыйнай дзейнасьці *"земскі начальнік"* Ілавайскі, пра што Рагуля ня вытрымаў і ўспомніў у сваіх "Успамінах" (бач. 9). Такім застаўся Рагуля аж да выстаўленьня ягонае кандыдатуры ў сойм увосень 1922 г. Нельга паверыць таму, што ён у 1922 г. быў толькі "русафіл" (б. 19) і хацеў фэдэрацыі з Расеяй (бач. 20). Сам ён у "Успамінах" нічагусенькі ня кажа пра зьмену ў сваіх нацыянальных паглядах аж да выбараў у сойм у 1922 г. Як мы бачылі, Рагуля ў "Успамінах" абмінае няпрыемныя мамэнты із свае русыфікатарскае пары. Праўда была Антона Луцкевіча, каторы ўважаў Рагулю *"за заядлага маскаля"* (бач. 22).

Пералом у нацыянальных паглядах Рагулі стаўся з вызначэньнем ягонае кандыдатуры за пасла ў сойм увосень 1922 г. Ён сам гэты пералом прызнае на бач. 32, хоць паказвае яго ў хорме не такой рэзкай, як было запраўды. Ён не падае прычынаў гэтага пералому, але й так яны ясныя. Ён 24 гады свайго жыцьця аддаў на русыфікацыю Беларусі і мог, наапошку, на свае вочы й на сваёй скуры пераканацца, што гэта прынесла толькі шкоду народу і яму самому. І вось у часіну найбольшай галіты, калі ён, ня прывыкшы, мусіў гаспадарыць на недастатнай лапінцы запушчанай зямлі, ня маючы нат за што купіць ботаў, беларускі рух яму, бяз усякае заслугі зь ягонага боку, пасуліў мандат на сойм, а тым самым і вызваленьне з гора. Гэта мусіла зрабіць даймо, і з гэтае часіны Рагуля ляяльны да беларускае справы, сьвядомы Беларус і нат незалежнік[354].

Але русафілам Рагуля заставаўся й пазьней. Ані ў жыцьцю па 1922 г., ані ў сваіх "Успамінах" ён ня выступае супроць Расейцаў;

[354] Можа хтось падумаць: калі-б Рагуля, да выбараў на сойм, быў такі, як тут кажацца, дык ягоная кандыдатура не магла-б быць выстаўлена. Нажаль, магла-б. А. Назарэўскі, зусім чужы беларускаму руху, а быў выбраны ад Беларусаў за сэнатара. Яшчэ горш было зь Якавюком, каторы быў чарнасоценцам, дзейным ворагам беларускага народу і застаўся такім, уцёкшы да Коўні, дзе служыў у лятувіскай дэфэнзыве і адначасна быў бальшавіцкім агентам. Прычына такіх зьяваў была ў тым, што інтэлігенцыі было мала, дый тыя, што былі, ня зналі адны другіх; ня было арганізацыі, пашыранай па ўсім краю. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

тымчасам ня толькі ў БССР і ў землях беларускіх РСФСР Расейцы панавалі над Беларусамі, але нат у Беларусі Заходняй, зн. пад польскай уладаю расейскія эмігранты і абруселыя Беларусы вельмі шкодзілі беларускаму народу. Імі польскія ўлады карысталіся дзеля запыняньня беларускага руху і перашкаджаньня Беларусам у іхнай нацыянальнай дзеяльнасьці. Сьведама на шкоду Беларусам Польшча кансэрвавала русыфікацыйную спадчыну ў Заходняй Беларусі. Рагуля сам прызнаецца, што, будучы беларускім паслом, ён *“быў прыхільнікам Усходу”* (бач. 54). У сваёй надрукаванай у “Ўспамінах” прамове ў сойме 25 чырвеня 1925 г., Рагуля аж сем разоў мянуе Расейцаў, баронячы іх.

Рагуля піша: «*Грунт для буйнога росту “Грамады” быў старанна прыгатаваны. Яго падрыхтаваў ніхто іншы, як я* (Рагуля. — *Я. С.*)*, спачатку перадвыбарчаю агітацыяй, пазьней пасольскаю*» (бач. 72). Гэта манія вялічча. Выстаўлены кандыдатам за пасла на сойм, Рагуля агітаваў толькі ў Наваградзкім павеце (гл. бач. 24–28 “Успамінаў”). Таксама, будучы паслом, ён выступаў толькі ў павеце Наваградзкім. Пры гэтым, Грамада ня меней разьвівалася ў іншых паветах гэтае акругі[355] і ў іншых беларускіх ваяводзтвах. Грунт пад Грамаду падрыхтаваў беларускі адраджэнскі рух, таксама польская палітыка сваім перасьледваньнем Беларусаў, меней бальшавіцкая прапаганда і вельмі малое значаньне ў гэтай прыгатове меў Рагуля, дый толькі ў Наваградзкім павеце.

Беларускі адраджэнскі рух выцягнуў і самога Рагулю з маскоўскага сьмярдзючага балота, ды ня толькі выцягнуў, але й дзяржаў яго на беларускім становішчу. Пакуль ён, жывучы ў краю, быў моцна зьвязаны зь людзьмі гэтага руху, патуль ён быў з гледзішча нацыянальна-ідэялягічнага болей-меней добры; з аслабленьнем гэтага зьвязку на эміграцыі Рагуля нацыянальна аслаб, калі не сказаць болей. Р. Астроўскага[356] Рагуля добра знаў як чалавека

[355] Рагуля блытае выбарныя акругі з належачымі да іх паветамі. Да Наваградзкае выбарнае акругі належалі паветы: Наваградзкі, Слонімскі, Баранавіцкі, Нясьвіскі й Стаўпецкі, што сьвярджае й Рагуля на б. 20; тымчасам на б. 27 ён чатыры апошнія паветы заве акругамі. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

[356] **Радаслаў Астроўскі** (1887–1976), грамадска-палітычны дзеяч. Да беларускага руху далучыўся перад Першай сусветнай вайной, у 1917 г. актыўна дзейнічаў на Случчыне. У 1924–1936 гг. дырэктар Віленскай беларускай гімназіі. Віцэ-старшыня Беларускай сялянска-работніцкай грамады ў 1925–1927 гг., дырэктар Беларускага кааператыўнага банка. У 1928–1936 гг.

бязьідэйнага й шкоднага. Ён ведае, што Р. Астроўскі, будучы дырэктарам беларускае гімназіі ў Вільні, дзейна разводзіў там камсамол, а потым, пайшоўшы на службу да Палякаў, гэны камсамол *"выкарчовываў"*, як кажа Рагуля (бач. 80). Карчаваньне адбывалася звальняньнем вучняў зь гімназіі і арыштамі іх (там-жа). Рагуля падае ў "Успамінах", *«што па ліквідацыі "Грамады" Астроўскі із жонкаю вымагалі* (і пэўне вымаглі. — *Я. С.*) *вярнуць ім зь Беларускага Банку 1160 дал., каторыя былі на іхныя імёны фікцыйна запісаныя»*[357]. І вось, ведаючы, хто такі Астроўскі, Рагуля на эміграцыі ў Нямеччыне, калі ня зусім быў у русафільска-русыфікатарскім зарубежжу, дык быў зь ім і із стаячым на яго чале Астроўскім у ладнай меры. Ён-жа тады, разам із сваім "сябрам" Сабалеўскім[358], падпісаў хвальшывае ўданьне амэрыканскім уладам на сяброў беларускага нацыянальнага кірунку.

Рагуля кажа, што ён *«пасьля вылучэньня (зь Беларускага Пасольскага Клюбу) Грамады арганізаваў зь Ярэмічам*[359] *Сялянскі Саюз*[360] *з газэтаю "Сялянская Ніва"*[361]*»* (бач. 32). І толькі. Рагуля, што найменшыя дробязі ўспамінае із свае "дзейнасьці", тут абмежваецца толькі гэтай зацемкаю. Бо нічога болей і нельга было сказаць. "Сялянскі Саюз"

актыўны прапагандыст супрацоўніцтва заходнебеларускага нацыянальнага руху з польскімі санацыйнымі ўладамі. Падчас Другой сусветнай вайны супрацоўнічаў з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі, у 1943 г. абраны прэзідэнтам Беларускай Цэнтральнай Рады. Пасля вайны жыў у Заходняй Нямеччыне, Вялікабрытаніі, потым у ЗША.

[357] Бачыны 71 і 72, гл. яшчэ пра Астроўскага на б. 67 і 74–75 "Успамінаў". — *Заўвага Я. Станкевіча.*

[358] **Юры Сабалеўскі** (1889–1957), грамадска-палітычны дзеяч. У 1926–1927 гг. быў дэпутатам польскага сойма, уваходзіў у пасольскі клуб БСРГ, затым у Беларускі пасольскі клуб. Падчас нямецкай акупацыі быў шчыльна заангажаваны ў справу стварэння беларускай адміністрацыі, быў старшынёй Беларускай самапомачы і віцэ-прэзідэнтам БЦР. Пасля вайны жыў на эміграцыі ў ЗША і Нямеччыне. Адзін з кіраўнікоў БЦР.

[359] **Фабіян Ярэміч** (1891–1958), грамадска-палітычны дзеяч. З вясны 1920 г. старшыня віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта. У 1922–1935 гг. быў паслом польскага сойма трох скліканняў. У 1925–1930 гг. старшыня Беларускага пасольскага клуба, адзін з лідараў Беларускага сялянскага саюза.

[360] **Беларускі сялянскі саюз** — нацыянальная партыя, якая дзейнічала ў Заходняй Беларусі ў 1925–1929 гг.

[361] **"Сялянская ніва"** — беларуская газета, друкаваны орган Беларускага сялянскага саюза. Выходзіла ў Вільні з 6 снежня 1925 г. да 7 ліпеня 1930 г. (у 1928–1930 гг. нерэгулярна).

Ярэмічаў і Рагуляў быў блізу поўнай фікцыяй. Да яго належала адно колькі чалавек. Ярэміч яго аформіў і здабыў сродкі на "Сялянскую Ніву", што кароткі час выходзіла. Рагуля блізу нічагусенькі ў гэтым "Саюзе" не рабіў, дый іншыя ў ім нічога не рабілі.

Чытаючы Рагулевы "Ўспаміны" пра самога сябе, у людзей, далёкіх ад падзеяў, можа зрабіцца даймо, калі не пра дзеяльнасьць ягоную, то прынамся пра дзейнасьць. Трэба памятаць, адылі, што гэта піша чалавек пра самога сябе і, як мы ўжо бачылі што да прыгатовы грунту пад Грамаду, ён не аб'ектыўны. Канкрэтных, хоць-бы невялічкіх рэзультатаў свае дзейнасьці ён не падае. Вынятак ёсьцека што да перадвыбарчай агітацыі ўвосень 1922 г. Тут ён карысна выдзяляецца сярод бальшыні іншых кандыдатаў, але ў гэтым ня гэтулькі ягоная заслуга, колькі віна гэнае бальшыні.

Пераходжу да апісаньня Рагулем здарэньняў і асобаў. Агульна мушу зацеміць, што, як бывае ў людзей дробных і драбязьлівых, ён добра памятае найменшыя дробязі, але блытаецца й забываецца што да большых выпадкаў і здарэньняў. Гэтак, прыкладам, разгром Грамады ён адносіць на Каляды 1925 г. (бач. 72 і 75), калі запраўды ён адбыўся на год пазьней — Калядамі 1926; тым самым і шмат іншага, зьвязанага з Грамадою, у яго адзначана ранейшым часам.

Знаючы край і асобных людзей, я зусім згаджаюся з Рагуляю, што пры добрай перадвыбарнай працы можна было правесьці ў 1922 г. найменей 24 паслоў на сойм і ўдвая болей, чымся правялі, сэнатараў да сэнату.

Але нельга згадзіцца з тым, што беларускія паслы не маглі быць выбраныя ў пяцёх выбарных акругах (бач. 15), каторых было 6 (Беластоцкая, Лідзкая, Наваградзкая, Палеская, Віленская й Сьвінцянская, у каторую ўходзіла й Дзісеншчына). За выняткам Віленскай акругі із спалянізаванай Вільняю й Палескай, дзе, паводле Рагулі, прайшоў Ярэміч жыдоўскімі галасамі, у чатырох засталых былі Беларусы выбраныя і, як добра цьвердзіць Рагуля, былі-б Беларусы выбраныя беларускімі галасамі й на Палесьсі, калі-б там вялася работа.

Зацемлю, што Рагуля ня ведаў нат прыблізнае колькасьці Беларусаў пад Польшчаю, зн. у Заходняй Беларусі. У сваёю прамове ў сойме 17 ліпня 1925 г. ён падаў лік Беларусаў пад Польшчаю *"звыш 2-х мільёнаў"* (бач. 119 "Успамінаў"), а прамаўляючы ў сойме 2 сакавіка 1926 г. кажа: *"2 з паловаю мільённы беларускі народ у Польшчы"* (бач. 121). Запраўды-ж было тады Беларусаў у Зах.

Беларусі звыш трох з палавінаю мільёнаў (у 1939 г. было ад чатырох із чэцьверцяй да чатырох з палавінаю мільёнаў)[362].

Магу зрабіць некаторыя папраўкі да Рагулявай характарыстыкі беларускіх паслоў і сэнатараў часу 1922–1927 гг. (бач. 30–32).

Дарма што Баніслаў Тарашкевіч быў знаёмы з польскаю культураю, не пад ейным уплывам ён вырас. Скончыў ён у Вільні расейскую гімназію, а ў Пецярбурзе расейскі ўнівэрсытэт, дзе ягоным вучыцелям быў вельмі ўплывовы ў сваім часе расейскі мовавед Шахматаў. У доме бацькоў Тарашкевіча (я ў іх быў) у с. Чарнулішкі Лаварыскае вол. Віленскага пав. нічагусенькі польскага ня было. Гэта была тыповая беларуская радзіма. Будучы гімназістам, Тарашкевіч быў ужо сьвядомы Беларус. Скончыўшы гімназію, ён пад націскам кіраўнікоў беларускага руху (галоўна братоў Луцкевічаў) паступіў на гістарычна-філялягічны факультэт унівэрсытэту, замест, як хацеў і да чаго гадзіўся сваім характарам і здольнасьцямі, выбраць мэдыцыну. Націск у менаваным кірунку быў зроблены дзеля таго, што патрэбны быў беларускі мовавед (нельга вытрываць, каб не зацеміць, што й цяпер беларускія моваведы патрэбныя, але падобны націск ня робіцца). Дык Тарашкевіч быў гадунцом беларускага руху.

Такім самым гадунцом быў і Сымон Рак-Міхайлоўскі. Ня верыцца мне, каб Рак-Міхайлоўскі быў бязьдзейны ў перадвыбарчым часе ўвосень 1922 г. (Рагуля не мянуе яго ў ліку дзейных тады). Ён быў ведамы як рупны і дзеяльны працавень сярод народнае масы. Кажу гадунец беларускага адраджэнскага руху, а не *"незалежніцкае нівы"*, як кажа пра кс. Адама Станкевіча Рагуля (бач. 30), бо ўсе мы, ранейшае сьвядомае пакаленьне, гадавалася ў вадраджэнскім руху, а незалежніцкая плынь прышла пасьлей як прыродна-палітычны развой.

Сяргея Барана[363] я бачыў адно колькі разоў, на мяне ён рабіў даймо сьвядомага Беларуса.

Пра Ю. Сабалеўскага да нямецкае акупацыі ў 1941 г. я адно трохі прыпадкам чуў; але з таго, як ён выступаў за нямецкае

---

[362] Усяго люднасьці ў Зах. Беларусі было ў 1939 г. каля 5-х міль. (The Population of the Soviet Union. History and Prospekt. By Frank Lorimer. League of Nations. Geneva, 1946, p. 187), з чаго, калі адымем нац. мяншыні, Беларусаў будзе ад чатырох із чэцьверцяй да чатырох з палавінаю мільёнаў. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

[363] **Сяргей Баран** (1892 — пасля 1935), грамадска-палітычны дзеяч. У 1922 г. выбраны ў польскі сойм. У 1923 г. арыштаваны. Асуджаны на "Працэсе 45-ці" да 6 гадоў турмы. У 1926 г. вызвалены. Ад 1928 г. жыў у БССР.

акупацыі і асабліва на эміграцыі, цяжка паверыць Рагулю, каторы з Сабалеўскім “сябраваў” (бач. 31). Рагуля (там-жа) яго далей характарызуе так: «*Гэта быў чалавек асьцярожны, падазраваючы і я (Рагуля) сказаў-бы, палахлівы. Яму ўсе здавалася, дый цяпер здаецца* (гэта ў 1953 г., калі Рагуля пісаў свае “Ўспаміны”. — *Я. С.*)*, што ўсюды за ім ганяюцца агенты польскае дэфэнзывы*». Калі так, дык гэта псыхічна хворы чалавек.

Рагуля кажа, што *“В. Багдановіч*[364] *— шчыры Беларус расейскае культуры”*. Нічагусенькі падобнага! Ён увесь час быў стаўпом расейшчыны ў Вільні, на ім гэная расейшчына й дзяржалася. Толькі плывучы пазьверху нацыянальнага жыцьця, можна гэтак, як Рагуля, пісаць пра Багдановіча. Русафіл Рагуля не адчуваў расейшчыны ў ідэялягічнага Расейца Багдановіча.

Яшчэ кароценькая зацемка пра А. Уласава. Ён калісь, бывала, казаў: *“Ўсё будзе добра, толькі нічога рабіць ня трэба”* ў значэньню не рабіць нічога рызыкоўнага, небясьпечнага, іншыя-ж далі гэтым словам ягоным пашыраны сэнс.

Характарыстычна, што Рагуля не захацеў схарактарызаваць Ф. Ярэміча, каторага добра знаў.

Паглядзім цяперака, як Рагуля ставіцца да нямілых яму людзей. Прывёўшы даты галоўных мамэнтаў свайго жыцьця, Рагуля “Успаміны” пачынае нападам на свайго асабістага праціўніка Антона Луцкевіча. Ён піша: *“Другая частка (Беларусаў) на чале з А. Луцкевічам зрабіла ўгоду з Палякамі ды пад іх крыльцом арганізавала ў Лодзі Найвышэйшую Вайсковую Раду… Пасьля сканчэньня вайны Рада сталася непатрэбнай Палякам, якія яе і зьліквідавалі. Луцкевіч і Тарашкевіч ехалі з Лодзі ў Вільню як кандыдаты ў беларускія міністры, а прыехалі туды як рэфэрэнты. Так старшыня БНР апусьціўся да становішча маленькага польскага ўрадоўца”* (бач. 12).

Тут што ні слова, то няпраўда. Ніякае Найвышэйшае Вайсковае Рады, ані проста Вайсковае Рады ані ў Лодзі, ані ў іншым месцы ня было: але была Беларуская Вайсковая Камісія. Пачала яна арганізавацца ў Вільні і скончыла арганізавацца ў Менску 1919 г.

---

[364] **Вячаслаў Багдановіч** (1876 — пасля 1939), рэлігійны і грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст. На пачатку 1920-х гг. в. а. рэктара Віленскай праваслаўнай семінарыі. У 1922–1930 гг. сенатар Польскай Рэспублікі, сябра Беларускага пасольскага клуба. У 1927–1930 гг. старшыня Беларускага дэмакратычнага праваслаўнага аб’яднання.

З наступленьнем бальшавікоў у ліпні 1920 г. Камісія пераехала да Лодзі. Належалі да Камісіі: Ал. Прушынскі, С. Рак-Міхайлоўскі, капітан Якубецкі[365], палкоўнік Канапацкі[366] (старшыня Камісіі), капітан Фр. Кушаль[367], Якубоўскі[368], П. Аляксюк[369] і Аўсянік[370]. Пасьлей Канапацкі адмовіўся і старшынёю Камсіі быў Фр. Умястоўскі, яго заступаў Фр. Кушаль. Ані Луцкевіч, ані Тарашкевіч да менаване Камісіі не належалі. Луцкевіч ніколі ня быў польскімураднікам.

365 **Андрэй Якубецкі** (1892–?), грамадска-палітычны дзеяч. Сябра БПСР. У 1919–1920 гг. намеснік старшыні і старшыня Беларускай вайсковай камісіі. 17 снежня 1920 г. прызначаны Найвышэйшай Радай Галоўнакамандуючым войскамі БНР. З траўня 1922 г. жыў у Дзвінску ў Латвіі, браў чынны ўдзел у працы мясцовых беларускіх арганізацый.

366 Маецца на ўвазе **Гасан Канапацкі** (1879–1953), вайсковы і грамадскі дзеяч. Удзельнік руска-японскай і Першай сусветнай вайны. У 1919–1920 гг. быў сябрам Беларускай вайсковай камісіі. Ад 1920 г. жыў у Вільні, быў намеснікам старшыні Часовай беларускай рады. Быў сябрам таварыства "Беларуская хатка". У 1944 г. арыштаваны НКУС, перапраўлены ў Мінск, але ў 1946 г. вызвалены. Пераехаў на сталае жыццё ў Быдгашч (Польшча).

367 **Франц Кушаль** (1895–1968), вайсковы і грамадскі дзеяч, муж Н. Арсеневай. Служыў у царскім войску ў 1915–1918 гг., у 1919–1920 гг. быў сябрам Беларускай вайсковай камісіі, якая займалася стварэннем беларускіх вайсковых адзінак у складзе польскага войска. У 1924–1939 гг. кадравы афіцэр польскага войска. Увосень 1939 г. трапіў у савецкі палон, у красавіку 1941 г. выпушчаны пад нагляд НКУС. У 1941–1943 гг. займаў розныя вайсковыя пасады ў Менску: быў кіраўніком афіцэрскіх курсаў, начальнікам штаба Самааховы. У лютым 1944 г. стаў камандзірам Беларускай краёвай абароны. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. У 1967 г. пераехаў з жонкай да сына ў Рочэстэр.

368 Сярод сябраў Беларускай вайсковай камісіі згадваецца нехта **Д. Якубоўскі**.

369 **Павел Аляксюк** (1892–?), дзеяч беларускага нацыянальнага руху. Быў сябрам БСГ, Беларускай народнай партыі сацыялістаў, уваходзіў у выканкамы ВБР і ЦБВР. Адзін з ініцыятараў абвяшчэння БНР. Уваходзіў у Цэнтральную беларускую раду Віленшчыны і Гродзеншчыны. У 1919–1920 гг. узначальваў Беларускую вайсковую камісію. У 1920 г. узначальваў Беларускі палітычны камітэт у Варшаве. У 1920-я гг. займаўся адвакацкай практыкай у Навагрудку, дзе быў віцэ-старшынёй Таварыства беларускай школы.

370 **Антон Аўсянік** (1888–1933?), грамадска-палітычны дзеяч. Сябра БСГ. У 1918 г. старшыня Беларускай рады ў Бабруйску, у 1918–1920 гг. сябра Рады БНР. Сябра шэрагу дэлегацый БНР на міжнародных перамовах. У 1919–1920 гг. намеснік старшыні Беларускай вайсковай камісіі. У 1920–1921 гг. паўнамоцны прадстаўнік БНР у Літве. У 1922–1927 гг. пасол польскага сойма, да 1926 г. уваходзіў у Беларускі пасольскі клуб. Пасля эміграваў у БССР.

У 1920 г. як рэзультат “бунту” ген. Жэлігоўскага[371], зробленага на загад Пілсудзкага[372], паўстала гаспадарства “Сярэдняя Літва”. Мэтаю яе стварэньня было прылучэньне вужшай Віленшчыны, прызнанай бальшавіцкай Масквою Лятуве — да Польшчы. З гледзішча фармальна-праўнага, а спачатку кароткі час у некаторай меры й фактычнага, “Сярэдняя Літва” ня была часьцяй польскага гаспадарства, хоць, ведама, галоўную ролю мелі ў ёй Палякі, каторыя яе стварылі і каторыя мелі войска й паліцыю (не “сярэдня-літоўскія”, польскія, з Польшчы). Апіраючыся на праўны мамэнт, можна было тое-сёе зрабіць для беларускае справы ў гэтай “Сярэдняй Літве”, у каторую з малымі дадаткамі ўходзілі толькі беларускія паветы заходняй часьці былое Віленскае губэрніі. Трэба пры гэтым дадаць, што Паляком залежала на тым, каб ня дэманстраваць штучнасьці гаспадарствавасьці “Сярэдняй Літвы”, таго, што яна створана на тое, каб быць прылучанай да Польшчы. Калі польскае войска арыштавала Антона Луцкевіча, дык, апіраючыся на праўны мамэнт, мы дамагаліся яго безадвалочнага звальненьня. Міністрам — і добрым — нутраных спраў “Сярэдняе Літвы” быў Беларус праф. Вацлаў Іваноўскі. Загаднікам Беларускага аддзелу ў міністэрстве асьветы быў Б. Тарашкевіч, а я быў у гэтым аддзеле рэфэрэнтам. За паўтара месяца, разьяжджаючы і (болей) ходзячы па валасьцёх і сёлах, я адчыніў звыш 200 беларускіх пачатных школаў, а ў 1921 г. Рак-Міхайлоўскі адчыніў у Барунах Вучыцельскі сэмінар[373] і быў у ім дырэктарам.

Чым далей, тым болей адміністрацыя “Сярэдняй Літвы” рабілася чыста польскай і сваім асабовым складам і сваім польскім шавіністычным характарам. Дальшае адчыненьне беларускіх школаў сустракала вялікія перашкоды. Я таксама быў звольнены

---

[371] **Люцыян Жалігоўскі** (пол. *Lucjan Żeligowski,* 1865–1947), польскі палітычны і вайсковы дзеяч, генерал. Браў удзел у польска-савецкай вайне, у 1920 г. камандзір 1-й Літоўска-беларускай дывізіі, якая 9 кастрычніка 1920 г. захапіла Вільню і Віленскі край. Да снежня 1921 г. з'яўляўся вярхоўным правіцелем т. зв. Сярэдняй Літвы.

[372] **Юзаф Пілсудскі** (пол. *Józef Piłsudski*, 1867–1935), польскі палітык і дзяржаўны дзеяч, маршал. У 1919–1922 гг. начальнік польскай дзяржавы, пасля адышоў ад палітычнай дзейнасці. У траўні 1926 г. ажыццявіў дзяржаўны пераварот, усталяваў у Польшчы аўтарытарны рэжым.

[373] **Беларуская настаўніцкая семінарыя ў Барунах** дзейнічала ў 1920–1922 гг., пазней была ператвораная ў польскую.

із становішча беларускага школьнага рэфэрэнта. Зацемлю, што А. Луцкевіч ня быўураднікам і ў "Сярэдняй Літве".

У чым-жа болей вінаваціць Рагуля Луцкевіча? Паводля Рагулі, Луцкевіч быў *"чалавек зь вялікай хваравітай амбіцыяй"* і *"слабы палітык"* (бач. 61). Амбіцыяй абодвых Луцкевічаў было якнайболей зрабіць дзеля адраджэньня й вызваленьня свайго народу. Нічога хваравітага ў гэтым ня было. Тыя, што бліжэй зналі А. Луцкевіча, ніколі не адчувалі ў ім хваравлівае амбіцыі. І ня быў ён слабы палітык. З выняткам Грамады даўгая палітыка А. Луцкевіча наагул, зн. абмінаючы справы меншае вагі, была добрая. З Грамадою вышла вялікая абмылка. Але-ж не адзін Луцкевіч быў ініцыятарам і галоўным арганізатарам Грамады, былі і іншыя. Знаючы добра Луцкевіча, Тарашкевіча, Рака-Міхайлоўскага, Уласава і А. Нэканда-Трэпку[374] (бо й гэтыя два належалі да Грамады), я з чыстым сумленьнем магу цьвердзіць, што, ідучы на супрацоўніцтва з камуністамі, яны кіраваліся вылучна дабром беларускага народу. Але вельмі абмыліліся. Уважаю, што трэба судзіць і за абмылкі, калі пры іх дапушчэньню не на ўсё зварачалі ўвагу. Ня месца тут разглядаць, наколькі ў даным прыпадку была віна, а наколькі прычына ляжала ў тагачасных абставінах. Зварачаю толькі ўвагу, што на іншых галоўных арганізатараў Грамады, у тым ліку на гэтта мною менаваных, Рагуля свайго сьмяротнага прысуду ня выдае. Зн., не за Грамаду Рагуля нападае на Луцкевіча, а за штосьці іншае.

За "зыгзагі" ў палітыцы? Рагуля прызнае, што зыгзагі ў палітыцы быць могуць, а нат, бывае, што й быць мусяць. Паколькі зыгзагі ў А. Луцкевіча былі, то ён пры іх заставаўся заўсёды беларускім патрыётам і паступаў як патрыёт. Калі-б у Луцкевіча ў тым, што Рагуля называе зыгзагам, быў элемэнт *"асабістай карысьці"*, пра што цьвердзіць Рагуля (бач. 80–81), дык ён лёгка мог у 1922 г. кандыдаваць і прайсьці ў сойм, але ён гэтага не зрабіў, бо ўважаў, што былому беларускаму прэм'ер-міністру ня выпадае быць сябрам польскага сойму. Прыблізна ад 1933 да 1939 гг. А. Луцкевіч проста

[374] **Антон Неканда-Трэпка** (1877–1942), грамадскі дзеяч, адзін са стваральнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады, працаваў у складзе выдавецтва "Загляне сонца і ў наша ваконца". З лета 1920 г. у Вільні, выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі, у 1922–1923 і 1928–1930 гг. яе дырэктар. Адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў Таварыства беларускай школы. Выдаў падручнікі па фізіцы і матэматыцы для беларускіх сярэдніх школ. У 1939 г. арыштаваны і высланы ў Сібір, дзе і памёр.

галададаў, але не йшоў на ніякія кампрамісы із сваім нацыянальным сумленьнем. Ня было-б гэтага, калі-б ён быў палянафіл.

Тое, што польскі суд не засудзіў Луцкевіча, як іншых галоўных грамадаўцаў, Рагулі служыць довадам, што ён перайшоў да *“польскае ўгоды”*. Ані ў часе суду, ані пасьля яго ніякіх пазнакаў гэтага ў А. Луцкевіча ня было відаць. Мог суд яго апраўдаць з прычыны нястачы довадаў, бо ён не дэманстраваўся як грамадавец[375]. А калі ўжо займацца дагадкамі і дапушчаць, што А. Луцкевіч у турме даваў некаторыя надзеі або абяцаньні на супрацоўніцтва з Палякамі, дык і за гэта нельга вінаваціць. Вінаваціць можна было-б, калі-б ён такія надзеі спаўняў на шкоду беларускай справе, а гэтага ня сталася[376]. Ня ў тым віна А. Луцкевіча, што ён у 1928 г. быў апраўданы судом, а ў тым, што перад прыходам бальшавікоў у 1939 г. ён ня ўцёк із Вільні[377], і быў замучаны бальшавікамі.

Ня А. Луцкевіч, а Р. Астроўскі пайшоў на польскую работу па ліквідацыі Грамады. Шкода, што А. Луцкевіч не адразу разабраўся ў Аўстроўскім, будучы зь ім у “Цэнтрасаюзе”[378], але ўсё-ж такі разабраўся і разам зь некаторымі іншымі арганізаваў грамадзкі суд над Астроўскім.

Застаецца адна прычына нападу Рагулі на Луцкевіча — гэта, што ў рэдагаваных А. Луцкевічам грамадзкіх газэтах, побач із справядлівымі, былі й несправядлівыя напады на Рагулю, Ярэміча і іншых. Напады былі як рэзультата таго, што Грамада ўпрэглася ў камуністычны воз, і рабіліся напады на загад камуністычнага Крамля Грамадзе. Усе галоўныя кіраўнікі Грамады былі за іх гэтулькі вінаватыя, колькі і Луцкевіч, дарма што яны, ня будучы рэдактарамі, маглі ня шчыра апраўдвацца[379]. Калі верыць Рагулю,

375 Ня вылучна, што А. Луцкевіч сваё апраўданьне судом заўдзячвае Антону Нэканду-Трэпку, свайму здаўна ўставічнаму сябру і адначасна блізкаму сваяку Віленскаму ваяводзе Рачкевічу. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

376 Рагуля паўтарае пушчаную ворагамі А. Луцкевіча байку, што пры арышце ён назваў сябе “Беларус-Паляк”. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

377 Ня меў сілы адарвацца ад беларускага музэю імені свайго брата Івана і чакаў сваіх сыноў з войска. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

378 Газэта “Цэнтрасаюзу” звалася “Беларускі звон”, а не “Беларускі фронт”, як піша Рагуля. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

379 Болей быў вінен Р. Астроўскі, злы дух і найгалаўнейшы кіраўнік Грамады. Ён бяз прынукі зваў усіх неграмадаўцаў “зраднікамі” і “Палячкамі” і гэтак загадваў рабіць сваім агентам. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

дык ён гэтага не разумеў і да іншых галоўных арганізатараў Грамады, з выняткам Астроўскага, ён ставіцца добра, ён піша, што ў яго *"З пасламі грамадаўцамі былі нядрэнныя, калі не сказаць добрыя суадносіны. З Тарашкевічам мы часта па-сяброўску гутарылі. Валошын*[380] *мне давяраў усе партыйныя тайны, а з Сабалеўскім мы сябравалі"* (бач. 61).

Дык справа ня ў тым, якім быў А. Луцкевіч, а справа *асабістай* крыўды Рагулевай. Пачуцьцё гэтае крыўды было бяссумліву падмацавана тым, што ў часе выбараў на сойм, увосень 1922 г. А. Луцкевіч уважаў Рагулю за *"заядлага маскаля"* (гл. вышэй). Як бачым, рэакцыя Рагулі на асабістую крыўду была нясумернай віне Луцкевіча. Можна яшчэ зразумець, што ў 1926 г. Рагуля ў злосьці не палічыўся із словамі, але калі ён не бярэ назад у 1953 г. свайго несправядлівага абвінавачваньня і мяшаньня з балотам (назваў *"Сьмердзюковам"*) чалавека, што аддаў усё сваё жыцьцё беларускаму народу, дык ня ў А. Луцкевічу, але ў сабе паказвае штосьці падобнае.

У псыхіцы некаторых людзей ёсьць дзіўная рыса, што калі яны зробяць каму якую нягоднасьць, дык замест злавацца на сябе, застаюцца злосьнікамі таго, каму нягоднасьць зрабілі. Так было і з Рагуляй.

Другі раз я сустрэўся з Рагуляй у 1926 г. калі, па сканчэньню ўнівэрсытэту ў Празе, я вярнуўся да Беларусі, а ён быў паслом на сойм. Я ня толькі не прыпомніў яму ягонага ўчынку ў 1917 г. на Вучыцельскім зьезьдзе ў Менску, але й не паказваў выгляду, што яго памятаю. Ён, адылі, не забываўся й злаваў на мяне. І тады, і пасьлей, у 1928–1930 гг. калі ён быў сэнатарам, а я паслом, калі мы сустракаліся адзін на адзін, ён, каб наругнуцца мне, гаманіў парасейску.

---

[380] **Павел Валошын** (1891–1937), грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст. Уваходзіў у Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю, потым у Беларускую партыю незалежных сацыялістаў. У 1923 г. абраны дэпутатам польскага сойма, увайшоў у Беларускі пасольскі клуб. Адзін з заснавальнікаў БСРГ. У 1926 г. увайшоў у КПЗБ. У 1927 г. арыштаваны польскімі ўладамі і асуджаны на 12 гадоў турмы. У выніку абмену палітычнымі зняволенымі ў 1932 г. апынуўся ў БССР. Працаваў у Беларускай дзяржаўнай бібліятэцы і ў Бібліяграфічным інстытуце пры гэтай бібліятэцы, займаўся грамадскай дзейнасцю. У 1933 г. арыштаваны па справе "Беларускага нацыянальнага цэнтра" і прысуджаны да расстрэлу, замененага 10 гадамі лагераў. У 1937 г. паўторна прыгавораны да расстрэлу.

Пра мяне Рагуля піша! *“Трэцяя ўгода — Янкі Станкевіча як бязідэйная й чыста шкурніцкая не заслугоўвае, каб аб ёй гаварыць”* (бач. 80). І *“Аб лісьце Янкі Станкевіча не даводзіцца гаварыць шмат. Ягоная праграма зводзілася да атрыманьня пасольскага мандату і зьвязаных з гэтым матарыяльных карысьцяў”* (бач. 88).

Рагуля, каторы падае мноства дробязаў у сваіх “Успамінах”, тут не падаў ніводнага факту ані вялікага, ані найменшага — ён цьвердзіць галаслоўна. З гэтага відаць, што ніякіх фактаў, пацьвярджаючых ягоныя цьверджаньні, ня было.

Я адкажу на цьверджаньні Рагулі не галаслоўна, але фактамі із свайго жыцьця й працы. Я зь беларускаю работаю не чакаў аж пакуль будзе выстаўлена мая кандыдатура на сойм, як гэта было ў Рагулі, але з 1909 г. сыстэматычна працаваў у беларускім адраджэнскім руху. Працаваў дарма, зн. ня меў наўвеце ніякае асабістае карысьці.

Калі-б я меў наўвеце асабістую карысьць, дык у 1919 г., будучы сябрам лятувіскага парлямэнту — Тарыбы (дэлегаваны быў туды Беларускаю Радаю Віленшчыны й Горадзеншчыны разам із Іванам Луцкевічам, В. Ластоўскім і Яз. Туркевічам[381]), пераехаў-бы да Коўні і даставаў-бы там пасольскія дыеты, як гэта зрабіў Ластоўскі; я-ж гэтага не зрабіў і застаўся ў Вільні. Другое, калі-б мне пра матарыяльную карысьць і пасольскі мандат ішло, дык я лёгка гэта мог-бы мець у 1922 г., не паехаўшы да Прагі ў пачатку гэтага году. Але я туды паехаў, каб з большай прыгатоваю быць карысьнейшым беларускай справе. Спэцыяльнасьцю на ўнівэрсытэце я выбраў такую (мовавед), з каторай яшчэ ніхто не забагацеў. Дый з гледзішча нацыянальна-грамадзкага я ў Празе не дзяньгубіў. Трэйцяе, калі, скончыўшы ўнівэрсытэт, я вярнуўся — нелегальна ў ліпню 1926 г. — да Вільні, дык без стараньня із свайго боку мог быць пэўны пасольскага мандату пры наступных выбарах у 1928 г., заставалася мне толькі не пярэчыць майму сваяку кс. Ад. Станкевічу, з каторым я спачатку быў у найлепшых дачыненьнях.

Прыехаўшы, адылі, я пабачыў, што справа стаіць блага. Грамадаўскія паслы працавалі, але побач із работаю нацыянальную яны праводзілі работу пракамуністычную, што міма іх волі падкопвала нацыянальны грунт. Што-ж да неграмадаўцаў, дык сэн.

[381] **Язэп Туркевіч** (1876–?), грамадскі дзеяч. Сябра БСГ. Уваходзіў у Віленскую беларускую раду. Удзельнік пасяджэння, на якім была абвешчаная незалежнасць БНР. У 1922 г. балатаваўся ў польскі сойм, але мандата не атрымаў. Пазней быў рэдактарам шэрагу заходнебеларускіх выданняў.

Назарэўскі[382] нічагусенькі не рабіў, сэн. Багдановіч праводзіў работу расейскую, Ярэміч рупіўся толькі пра свой наступны пасолькі мандат ды дзеля гэтага не працаваў, але толькі стараўся мець добрыя дачыненьні зь людзьмі, ад каторых залежала выстаўленьне ў будучыні ягонае кандыдатуры на пасла на сойм[383]. Ня відаць было й работы Рагулевай. Кс. Ад. Станкевіч, праўда, працаваў, але ён ня рэагаваў на бязьдзейнасьць сваіх сяброў у пасольскім клюбе і ня думаў у будучыні абыходзіцца бязь іх, хоць і дзівіўся, *"калі гэта Багдановіч усьвядоміцца?"*. Зь бязьдзейнасьцю Ярэміча кс. Ад. Станкевіч гадзіўся, як із канечным злом, а што да Рагулі, дык у яго быў адказ, што ён *"хіба штось робіць у Навааградчыне"*. Апрача таго, кс. Ад. Станкевіч выбраў абмыльную дарогу ў варганізаваньню працы. Замест знаходзіць людзей з розумам, энэргіяй, воляю, ён падбіраў супрацаўнёў бяз гэтых якасьцяў, але сьлепа паслушных сабе арганістых — Я. Пазьняка[384], Альбіна Стэповіча[385], Паўла Карузу[386]. Супроць усяго менаванага я мусіў выступаць, крытыкаваць,

---

382 **Аляксей Назарэўскі** (1881 — пасля 1941), грамадска-палітычны і царкоўны дзеяч. У 1922–1927 гг. сенатар. Сябра Беларускага пасольскага клуба. Працаваў у магістраце г. Баранавічы. У 1927 г. быў адным з заснавальнікаў Беларускага дэмакратычнага праваслаўнага аб'яднання, праз кароткі час адышоў ад яго і перайшоў да супрацоўніцтва з афіцыйнымі царкоўнымі праваслаўнымі ўладамі ў Польшчы. Арыштаваны НКУС БССР у студзені 1940 г., асуджаны на 8 гадоў лагераў. У верасні 1941 г. вызвалены з Сіблага і накіраваны ў Паўладарскую вобласць. Далейшы лёс невядомы.

383 Рагуля піша, што ў 1922 г. Ярэміч неразумна, бяз толку ганяўся за пасольскім мандатам сабе асабіста, заняўшы тры пэўныя месцы, што было прычынаю, што Беларусы страцілі два мандаты (бач. 29). Яшчэ большы пагон за мандатам у Ярэміча быў у 1926–1927 гг. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

384 **Янка Пазняк** (1887 — пасля 1939), палітычны і культурны дзеяч. Сябра Хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці з моманту яе заснавання ў 1917 г. У 1928–1936 гг. рэдагаваў газету "Беларуская крыніца", ад 1938 г. — часопіс *"Chryścijanskaja Dumka"*. У канцы 1930-х гг. старшыня Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта. У 1939 г. арыштаваны НКУС, далейшы лёс невядомы.

385 **Альбін Стаповіч** (1894–1934), грамадска-палітычны і рэлігійны свецкі дзеяч, актыўны сябра Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. У 1928–1930 гг. пасол сойма, сябра Беларускага пасольскага клуба. На пачатку 1930-х гг. без асаблівага поспеху спрабаваў стварыць уласную палітычную Партыю беларускіх незалежных радыкалаў.

386 **Павел Каруза** (1900, паводле іншых звестак, 1906 — 1988), грамадска-палітычны і культурны дзеяч. У 1927 г. старшыня ЦК Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі (БХД) і галоўны рэдактар перыядычнага органа БХД — газеты *"Biełaruskaja krynica"*. У 1928–1930 гг. пасол польскага сойма.

пратэставаць і дзеля таго па якімсь часе дайшло да поўнага разыходжаньня.

У 1926 і 1927 гг. я ня думаў пра кандыдаваньне за пасла на сойм. У 1927 г. мая рупнасьць што да сойму зводзілася знайсьці людзей, што былі-б карыснымі пасламі. З гэтым справа ня была лёгкая, бо Ярэміч вымагаў, каб гэта былі людзі, пэўныя яму, пра справу ён ня думаў. Кс. Ад. Станкевіч уважаў, што дыкжэ ягоныя арганістыя будуць пэўныя справе і яму. Калі ў канцы выясьнілася, што ад незалежніцкага кірунку будуць кандыдаваць Ярэміч, Рагуля, Багдановіч і арганістыя, а з боку пракамуністычнага — горшае дый нягоднае 2-ое выданьне Грамады (назвалася яно “Змаганьне”[387]), і я сустрэўся з чалавекам, ціха адданым беларускай справе, каторы пасуліў ад сябе асабіста невялічкую памогу на выбары (не магу яго назваць, бо ён застаўся ў Беларусі), я згадзіўся выставіць асобны сьпісак. Было гэта ўжо досыць позна. Нумар гэтага сьпіску ў Лідзкай акрузе быў 41. На іншыя акругі ня было коштаў.

Нягодная мана Рагулі, што я прыйшоў *“у сойм дзякуючы падтрымцы Кіртыкліса*[388]*, начальніка дэфэнзывы”* (бач. 89). Кіртыкліс памагаў мне толькі, колькі й Рагулю. Хвальшывасьць Рагулева відаць із таго, што ён нічагусенькі ня мае супроць Фл. Валынца[389], каторы прайшоў у сойм з таго самага сьпіску, што і я. Рагуля прызнаецца, што ў часе выбараў у сойм у 1928 г. ягоны *“ўплыў зышоў да мінімум”* (бач. 89), але ён быў выбраны за сэнатара галасамі камуністычнага “Змаганьня”, каторае ня мела свайго сэнатарскага сьпіску (91). Тым-жа часам па

У 1933 г. яго вывезлі ў СССР, дзе арыштавалі і саслалі на Салаўкі. Карузу вызвалілі ў 1947 г., у 1949 г. паўторна арыштавалі і выслалі ў Сібір. Пасля вызвалення ў 1955 г. жыў у Вільні.

[387] Магчыма, маецца на ўвазе **Беларускі сялянска-работніцкі пасольскі клуб “Змаганне”** — беларуская дэпутацкая фракцыя ў польскім сойме ў 1928–1930 гг., створаная ЦК КПЗБ. У фракцыю ўваходзілі І. Дварчанін, Я. Гаўрылік, Ф. Валынец, І. Грэскі, А. Стагановіч, П. Крынчык.

[388] **Стэфан Севярын Кіртыкліс** (пол. *Kirtiklis*, 1890–1951), польскі дзяржаўны дзеяч, у другой палове 1920-х гг. узначальваў аддзел бяспекі Віленскай ваяводскай управы. У 1930–1931 гг. быў віленскім, у 1931–1936 — паморскім, у 1936–1937 — беластоцкім ваяводам.

[389] **Флягонт Валынец** (1879–1937), грамадска-палітычны дзеяч. Быў настаўнікам Радашковіцкай беларускай гімназіі, адным з найактыўнейшых дзеячаў ТБШ. У 1928 г. пасол польскага сойма, уваходзіў у склад Беларускага сялянска-работніцкага пасольскага клуба “Змаганне”. У 1930 г. польскія ўлады арыштавалі яго, у 1932 г. выехаў у СССР. Арыштаваны, загінуў на Салаўках.

сьпіску, выстаўленым мною, пры безграшоўю прайшло ў сойм двух кандыдатаў. Матарыяльнае карысьці я із свайго пасольства ніякае ня меў. Наадварот, маючы мала грошы на выбары, я абяцаў часьці працаўнёў заплаціць па выбарах. Дзеля таго на выбарах я быў бяднейшы, чымся ў якую іншую пару свайго жыцьця.

Рагуля вінаваціць мяне, што будучы ў сойме я *"не ўвайшоў у ніводную беларускую групоўку"* (89). Прычына гэтага была ў наступным. Арганістыя, паслушныя кс. Ад. Станкевічу да выбараў, перасталі яго слухаць, калі сталіся самастойнымі па выбарах. Зь іх найлепшы Альбін Стэповіч мала мог рабіць і яшчэ меней рабіў. Юхневіч[390] нічагусенькі не рабіў. Добра было адно тое, што яны, апрача свайго бязьдзеяньня, нічым іншым не кампрамітавалі Беларусаў. Але Каруза ўставічна кампрамітаваў сваім паступкам. Наколькі гэта былі мізэрныя людзі, відаць із таго, што навет Рагуля чыста іх забыўся, іх ані не ўспамінае, дарма што быў зь імі ў вадным пасольскім клюбе (магчыма, адылі, што ня маючы нічога пра іх сказаць добрага, не хацеў казаць благога). Дык не да іх-жа было прылучацца. Нельга было прылучыцца і да камуністычнага "Змаганьня", гатунку нашмат горшага за сваю папярэдніцу "Грамаду".

Рагуля заяўляе, што я *"ні разу ня выступіў з соймавай трыбуны ў вабароне Беларусаў"* (бач. 89).

Гэта — чыстая й сьвядомая няпраўда. Рагуля добра ведаў, што ў сойме з прамовамі ў вабарону беларускае люднасьці Заходняе Беларусі я выступаў. Памятаю з паміж датаў сваіх прамоваў, што адну прамову я меў на пачатку свайго саймаваньня ўвясну 1928 г., іншую — на пачатку 1930 г. Гэтая другая дата помніцца дзеля таго, што тады я правёў у сойме прызнаньне 250 тысячаў зл. на скончэньне будоўлі будынку Беларускае гімназіі ў Наваградку[391].

---

[390] **Канстанцін Юхневіч** (1896–1971), грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст. Займаўся кааперацыяй, у 1920-я гг. уваходзіў у кіраўніцтва Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. З 1926 г. — у кіраўніцтве Беларускага сялянскага саюза. Супрацоўнічаў з газетай "Сялянская ніва", выступаў на яе старонках як публіцыст. У 1928–1930 гг. быў паслом польскага сойма. У сярэдзіне 1930-х гг. быў намеснікам старшыні Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі. Рэпрэсаваны савецкімі ўладамі. Пасля вяртання з канцлагераў жыў у Слоніме. Загінуў у аўтамабільнай катастрофе.

[391] Да рэдакцыі: калі-б Рэдакцыя "Бацькаўшчыны" зычыла надрукаваць гэтыя і іншыя мае прамовы ў сойме, дык я іх прыслаў-бы, перапісаўшы із сцэнаграфічнага справазданьня. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

Рагуля, цьвердзячы, што я не правёў гэтае прызнаньне, але што *“яму (Ярэмічу) толькі ўдалося працягнуць цераз сойм асыгнаваньне 250 000 зл. на заканчэньне будовы гімназіяльнага будынку ў Навагрядку”* (бач. 95) — сьведама разьмінаецца з праўдаю.

Пры няпрыхільным становішчы да Беларусаў усіх польскіх партыяў, у сойме блізу нічагусенькі патрэбнага беларускай люднасьці нельга было правесьці. Дзеля таго я зьвярнуў увагу на працу на мясцох. Быў закладзены Беларускі Гаспадарскі Зьвяз, каторы адчыніў чатыры Беларускія кнігарні (у Лідзе, Валожыне, Ашмяне й Маладэчне); у іх прадавалі беларускія кніжкі й пісьменныя матарыялы. Прадбачвалася, што кнігарні стануцца самааплачальнымі ўсьведамляючымі і арганізацыйнымі пунктамі, калі із заработку на тавары магчыма стане аплачваць прадаўніка ў кнігарні. З часам кнігарні ў Лідзе, Валожыне і Ашмяне мусілі зачыніць, бо дзеля іх зьнішчэньня польскія скарбовыя ўрады накладалі на іх непамерныя вялікія падаткі. Узмоцненая астачамі тавараў у зачыненых крамах кнігарня ў Маладэчне вытрывала. З часам яе пераняў М. Станкевіч з Гародзькаў Валожынскага пав., і яна праіснавала да вайны. З прыходам бальшавікоў у 1939 г. НКВД М. Станкевіча арыштавала і выслала, а кнігарня была зьліквідаваная. У часе майго паславаньня разьяжджаў ад Бел. Гасп. Зьвязу з гаспадарскімі парадамі інж. М. Гузоўскі[392].

У зацемцы, што зьявілася ў друку пра “Ўспаміны” Рагулі, сказана, што мова іх *“добрая, бойкая”*. Яна бойкая, як гэта й можна спадзявацца ад *“дэмагога”*[393], але ня добрая, бо мае шмат русіцызмаў і палянізмаў, або пад уплывам чужым няправільна ўжытых сваіх словаў.

Няпрыемна мне было займацца “Ўспамінамі” Рагулі, у вялікай меры тэндэнцыйнымі й хвальшывымі. Няхай гэта будзе навукаю іншым, што, пішучы ўспаміны, трэба пісаць праўду, і толькі праўду[394].

---

[392] **Міхась Гузоўскі** (1898 — пасля 1944), грамадска-палітычны дзеяч. Ад 1922 г. жыў у Чэхаславацкай Рэспубліцы. Вучыўся на агранамічным аддзяленні Пражскай палітэхнікі. Быў сябрам Беларускага сялянскага саюза ў Празе, Аб’яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый, “Беларускага сакола”. У 1929 г. вярнуўся ў Заходнюю Беларусь.

[393] Рагуля ў сваіх “Успамінах” із прыемнасьцю часта называе сябе дэмагогам, прыкл. на бач. 32, 92 і інш. — *Заўвага Я. Станкевіча.*

[394] Працяг палемікі вакол “Успамінаў” В. Рагулі на старонках “Бацькаўшчыны” гл. у зборніку Аляксандра Стагановіча “Успаміны пасла” (Мінск, 2011).

*Аляксандр Калодка*

## Пэрыяд вялікага ўздыму[395]

У жнівені сёлета дайшла сюды ў Аўстралію сумная вестка пра сьмерць сьв. пам. архімандрыта Льва Гарошкі. Я знаў Нябожчыка ад маленства. Разам зь ім пачынаў у 1923 годзе навуку ў вышэйшай пачатковай школе (*городское вышеначальное училище*) у Ярэмічах Стаўпецкага павету. Пазьней ён перанёсься ў такую-ж самую школу ў Міры. Будучы пазьней у розных сярэдніх і вышэйшых школах, мы часта супольна праводзілі вакацыі ды ўвесь час утрымлівалі асабістую ці пісьмовую лучнасьць. Бацька Нябожчыка быў селянінам — кавалём, сьлёсарам, фэльчэрам. Быў сьведамым Беларусам і гэтую сьведамасьць пераняў ад бацькі пазьнейшы архімандрыт Леў Гарошка.

У нашай ваколіцы, асабліва ў большых вёсках, навет падчас вайны 1914–1918 гг., былі прыватныя школы. Сярод настаўнікаў часта былі вельмі адукаваныя людзі, якія патрапілі прышчапіць дзецям жаданьне вучыцца. Якраз пасьля польска-бальшавіцкай вайны была адноўленая навука ў вышэйшых пачатковых школах у Ярэмічах і Міры. Там былі настаўнікамі былыя гадунцы нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі, якая прайснавала ад 1875 году аж да прыбліжэньня нямецка-расейскага фронту. Сэмінарыя стаяла на вельмі высокім узроўні й дала Беларусам шмат высока кваліфікаваных настаўніакў. У сэмінарыі гэтай між іншымі вучыліся Якуб Колас, Кузьма Чорны[396] і Адам Багдановіч[397], бацька слаўнага паэта.

Бальшыня настаўнікаў ярэміцкай школы — гэта былыя гадунцы Нясьвіскае настаўніцкае сэмінарыі. Такія настаўнікі, як Новумовіч, Ф. Лічко, У. Пярэська, К. Бітус[398], Груша[399] (два апошнія памерлі на эміграцыі ў ЗША) патрапілі прышчапіць моладзі любасьць да ўсяго

---

[395] Беларус. № 246. Кастрычнік 1977. С. 4–5.

[396] **Кузьма Чорны** (сапр. **Мікалай Раманоўскі**, 1900–1944), празаік, публіцыст.

[397] **Адам Багдановіч** (1862–1940), этнограф, гісторык культуры, мемуарыст, удзельнік рэвалюцыйна-народніцкага руху, бацька Максіма Багдановіча.

[398] Відаць, маецца на ўвазе **Кастусь Бітус** (1885–1971), які пасля Другой сусветнай вайны жыў у Нью-Джэрсі.

[399] Відаць, маецца на ўвазе **Аляксей Груша** (1909–1985), які пасля Другой сусветнай вайны жыў у Нью-Джэрсі.

роднага й даць добрую агульную асьвету. Навука ў Ярэмічах і Міры стаяла на вельмі высокім узроўні. Школа мела 4 клясы. У другой клясе была абавязковая адна замежная мова (нямецкая або француская), у трэйцім — лацінская. Зь іншых прадметаў высака былі пастаўленыя гісторыя, геаграфія, фізыка. У вапошняй чацьвёртай клясе была трыганамэтрыя. Здаецца, у 1924 г. абедзьве школы былі пераведзеныя на польскую мову навучаньня і ўзровень іхны паступова быў абніжаны да звычайнай польскай сяміклясоўкі. Усё-ж выпускнікі абедзьвюх вышэйшых пачатковых школаў пераважна бяз большых цяжкасьцяў складалі экзамены ў шостую клясу беларускіх гімназіяў у Наваградку або ў Клецку.

Леў Гарошка і я распачалі навуку ў Ярэмічах у 1923 годзе. Школа была перапоўнена вучнямі. Звычайна толькі на працягу колькіх зімовых месяцаў наймалася кватэра ў Ярэмічах, і гэта рабілі толькі тыя, што жылі больш за 10 кілямэтраў ад мястэчка. Іншыя, прыкладам, з Турца (4 клм), Лыкавіч (5–6 клм), Лядак (3 клм) кажны дзень хадзілі ў школу пехатой. Зь вёскі Трашчычы (7 клм), адкуль быў Леў Гарошка, вучылася ў школе якіх 20 вучняў, і ўсе яны прыходзілі ў школу пехатой. У завею ці вялікія маразы бацькі па чарзе прывозілі вучняў у школу й забіралі назад. На працягу колькіх гадоў існаваньня абедзьве вышэйшыя пачатковыя школы выпусьцілі сотні абсэльвэнтаў. Ярэміцкую школу наведвала 20–30 чалавек з Турца, сярод іх: Выдрыцкія, Бакеі, Канюхі, Матусэвічы, Рулякі, Абадзінскі, Курчыцкі, Сабалеўскі, Забаўскі; зь вёскі Лыкавічы: Драч і Гімпель, з Даўгінава браты Варэнікі, з Трышчычаў: Л. і А. Гарошкі, Рэшатко й шмат іншых прозьвішчаў, якіх сяньня ня памятую; зь Пясочнай: Шыманскі й Сэрафімовіч, зь Царабостыні: У. Панько, А. Калодка, Я. Стэльмах, із Скорычаў браты Хвалі, зь Ярэмічаў: Ялакі, Бразоўскія, Лічкі, Жалязьняковічы і іншыя, з Малой і Вялікай Вобрыны — вялікая колькасьць хлапцоў і дзяўчатаў.

1923 год — гэта час вялікага імкненьня да навукі нашай найздальнейшай вясковай моладзі. Аднак толькі малой колькасьці мірскіх і ярэміцкіх выпускнікоў удалося атрымаць вышэйшую асьвету. Вышэйшую або сярэднюю асьвету між іншымі атрымалі: сьв. пам. а. Леў Гарошка — багаслоўская акадэмія ў Львове і ўнівэрсытэт у Інсбруку; Уладзімер Панько — Наваградзкая беларуская гімназія й тэхнічны інстытут; А. Калодка — польская гімназія й віленскі ўнівэрсытэт; Хваль — мэдычны факультэт віленскага

ўнівэрсытэту. Нясьвіскую настаўніцкую сэмінарыю скончылі: Зіна Груша (Гарошка)[400], сьв. пам. Альшэўская, Уладзімер Аляшкевіч, А. Сабалеўскі, П. Брылевіч, Гімпель, крыху пазьней — Ядзя Юшкевіч, А. Лічко. С. Конюх атрымаў сярэднюю тэхнічную асьвету. А. Бразоўскі[401] вучыўся на мэдычным факультэце віленскага ўнівэрсытэту, атрымаў ступень доктара мэдыцыны ўжо пасьля вайны, а сяньня працуе на вельмі высокім становішчы ў Міністэрстве аховы здароўя ў Аўстраліі.

Вялізарная бальшыня выпускнікоў засталася, аднак, дома. Ім ня было ніякай магчымасьці ўладзіцца дзесьці на працу. Некаторыя стараліся працаваць грамадзка — арганізаваць драматычныя гурткі, хоры, покуль польская адміністрацыя ня спыніла ўсяго гэтага. Перашкодай для далейшае навукі было цяжкое матарыяльнае палажэньне, беднасьць, а часта ігнарацыя й дурната бацькоў багацейшае моладзі.

Перад вясковай інтэлігенцыяй паўстала пытаньне: а што далей, які-ж выхад із сытуацыі. Пачаліся зьяўляцца пагалоскі, што вось недалёка, усяго за кілямэтраў 30–40, будуецца вялікі прыгожы беларускі дом, дзе патрабуецца шмат людзей. Гаварылася аб бясплатнай навуцы ўва ўсіх школах, аб стыпэндыях для кажнага вучня й студэнта. Натоўпы сьведамай моладзі накіроўваліся на Рубяжэвічы, дзе іх за некалькі польскіх злотых спрытныя мясцовыя людзі пераводзілі праз польска-савецкую мяжу й паказвалі кірунак на Менск. Польскія пагранічнікі як быццам сумысьля прыкрывалі вочы на ўвесь гэты прыгранічны рух. У мінулым годзе др. Ст. Станкевіч публічна выразіў пасьмертную падзяку свайму дзядзьку др. Янку Станкевічу, які адрадзіў яму йсьці ў Савецкую Беларусь *"будаваць гэны беларускі дом"*. Нажаль, аднак, сярод тагачасных

400 Маецца на ўвазе **Зінаіда Гарошка** (1905–1983), педагог, жонка Міколы Гарошкі. У 1929 г. яна закончыла Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Да 1940 г. працавала настаўніцай у школе ў Загор'і (Наваградскі павет). У 1944 г. разам з мужам з'ехала ў Нямеччыну. Ад канца 1940-х гг. жыла ў Нью-Ёрку (ЗША).

401 **Анатоль Бразоўскі** (1918–2010), грамадскі дзеяч, лекар. Вучыўся на медыцынскім факультэце Віленскага ўніверсітэта, завяршыў адукацыю ў Нямеччыне. Ад 1949 г. у Аўстраліі. Пасяліўся ў Перце, здолеў пацвердзіць дыплом і працаваў па спецыяльнасці ў Дэпартаменце аховы здароўя Заходняй Аўстраліі (з часам на кіраўнічых пасадах). Сябра Беларускага аб'яднання ў Заходняй Аўстраліі.

беларускіх дзеячоў у Вільні, Празе й Коўне былі людзі, якія далі асабісты прыклад моладзі, самі перабраўшыся ў БССР.

З адных толькі Трышчычаў каля 20 чалавек перайшло ў кірунку Рубяжэвічаў. Сярод іх Міхась Карповіч (Каўдэрка) з заручніцай, Антон Гарошка, Павал Рэшатка, Іван Монька і іншыя. Монька згодна з пазьнейшымі весткамі меўся быць навет дацэнтам БДУ. Сьледам трашчыцкіх пайшлі хлапцы й дзяўчаты зь іншых вёсак і мястэчак. Усіх пайшло вельмі шмат. Толькі нямногія, пабачыўшы на собскія вочы савецкі “рай”, праз колькі месяцаў вярнуліся дамоў (між іншымі Ўладзімер Панько зь вёскі Церабостынь). Польскія ўлады за нелегальны пераход граніцы звычайна давалі толькі тры месяцы турмы або арышту.

Некаторыя старэйшыя хлопцы з большай адукацыяй пайшлі ў іншым кірунку — у чэскую Прагу, сярод іх: М. Гарошка[402], А. Карповіч, Шавейка, адзін хлопец з Турца, здаецца, Грынько, а тры першыя былі з вёскі Трашчычы.

Што сталася з тымі, якія ўзялі кірунак на Рубяжэвічы? У часох сталінскіх чыстак яны, усе яны, за выняткам аднаго, зьніклі бясьсьледна. Гэным адным, які ня зьнік, быў Анатоль Ялак зь Ярэмічаў. Адбыўшы ссылку, ён, як пісаў у 1939 годзе пасьля “вызваленьня” да брата, працаваў настаўнікам за Уралам. Сярод тых, што загінулі, былі й выдатныя беларускія патрыёты, якія, калі-б мелі магчымасьць атрымаць належную адукацыю, прынесьлі-б шмат карысьці для бацькаўшыны.

КГБ-ўскі біёграф сьв. пам. архімандрыта Льва Гарошкі і Аляксандра Калодкі — Алесь Бажко[403] зь вёскі Даўгінава ўспомніў у расейскамоўным часапісе “Нёман”[404] у 1971 годзе братоў Варэнікаў, ягоных аднавяскоўцаў і суседзяў. Ён пісаў, што малодшы зь іх Мікалай змушаны быў польскай паліцыяй выехаць у Прагу, дзе й студыяваў на ўнівэрсытэце. Вось-жа Васіль і Мікалай Варэнікі,

---

[402] **Мікола Гарошка** (1902–1979), грамадскі дзеяч, інжынер. Вучыўся ў Чэхаславакіі, пасля вяртання на радзіму працаваў у кааперацыі. Пасля Другой сусветнай вайны — на эміграцыі, быў старшынёй Беларуска-Амерыканскага задзіночання ў 1949–1952 і 1965–1967 гг., таксама першым старшынёй Фундацыі імя П. Крэчэўскага. Жыў у Нью-Ёрку (ЗША).

[403] **Алесь Бажко** (1918–2013), пісьменнік, журналіст. Працаваў у газетах “Голас Радзімы”, “Літаратура і мастацтва”.

[404] **“Нёман”** — літаратурна-мастацкі і грамадска-публіцыстычны беларускі часопіс, які выдаецца на рускай мове ў Мінску ад 1945 г.

як і шмат, шмат іншых, пайшлі ў кірунку на Рубяжэвічы, а адтуль у Менск. Пра гэта добра ведае даўгінаўскі пашквілянт Алесь Бажко. Варэнікі ў найлепшым выпадку рабілі “ўнівэрсытэцкія дыплёмы” дзесьці ў Сібіры, калі ня былі проста зьліквідаваныя ў Менску.

Алесь Бажко, якога дасюль людзі завуць даўгінаўскім хуліганам, мае, як відаць зь “Нёману”, доступ да архіваў ЧэКа, ГПУ і НКВД. Добра было-б, каб ён прасачыў жыцьцёвыя шляхі ня толькі ягоных суседзяў Варэнікаў, але й шмат каго іншых, якія пайшлі туды, дзе *“будаваўся беларускі дом”*, пайшлі й не вярнуліся. Я перакананы, што прынамся некаторыя зь іх маглі-б быць карыснымі свайму народу, як быў карысным і ахвярным усё ягонае працавітае жыцьцё сьв. пам. архімандрыт Леў Гарошка, якому Божая Рука паказала дарогу зусім іншую, чымся ў кірунку на Рубяжэвічы.

## **Баранавіцкая малачарня**
## Да гісторыі каапэратыўнага руху ў Заходняй Беларусі й беларуска-польскіх дачыненьняў[405]

*Ад Рэдакцыі: У студзені 1988 году Янка Запруднік правёў гутарку са сьв. п. Пятром Орсам, выпускніком Пражскай палітэхнікі і арганізатарам каапэратыўнага руху ў Заходняй Беларусі. Ніжэй зьмяшчаем гэтае інтэрв’ю.*

*ЯЗ: У Пражскай палітэхніцы, колькі ў ёй было беларускіх студэнтаў, што пасьля вярнуліся працаваць у Заходнюю беларусь? Бо-ж частка зь іх паехала ў СССР?*

<u>ПО:</u> Ня шмат. З мае чацьвёркі — мы трымаліся разам — двух паехала ў Савецкі Саюз, а я і Лявон Гірыс засталіся. Гірыс займаўся на лясным факультэце. Вось ён застаўся. Ён быў сасланы пасьля і пры Хрушчове яго звольнілі.

*ЯЗ: Дык Вы зь ім вярнуліся з Прагі ў Польшчу. Калі?*

<u>ПО:</u> З Прагі я вярнуўся ў 1930 годзе.

*ЯЗ: То Вы ў Празе былі ад 1923 да 1930 года?*

<u>ПО:</u> Так, сем гадоў. Я працаваў у горадзе Паддубіцы на малочным заводзе.

[405] Беларус. № 399. Сакавік 1993. С. 6; № 400. Красавік 1993. С. 7.

*ЯЗ: А Палітэхніку Вы ў якім годзе закончылі?*

ПО: У 30-м. Я вучыўся й працаваў.

*ЯЗ: Якая ў Вас была спэцыяльнасьць, калі Вы вярнуліся ў Беларусь?*

ПО: Аграном малачарства. На Беларусі я арганізаваў малачарні, спажывецкія канторы.

*ЯЗ: Гэта тое, што трэба было Беларусі.*

ПО: Толькі цяжка было, бо ня было людзей.

*ЯЗ: А куды Вы вярнуліся — у Наваградак?*

ПО: У Наваградак, але я там ня жыў, пабыў толькі два-тры дні і паехаў у Баранавічы, бо там была работа, там ужо працавала каапэрацыя. Пачаў яе адзін чалавек, які ўвесь час быў у Польшчы.

*ЯЗ: Як яго прозьвішча?*

ПО: Толкач Міхаіл. У Баранавічах рабіліся прымітыўныя спробы арганізаваць малачарні, а мы ўжо шырэй узялі. Я найбольш на раёне быў, а гэты хлопец заставаўся ў Баранавічах. Там былі дзьве жанчыны, якія прадавалі масла.

*ЯЗ: А на якім прынцыпе быў пабудаваны Ваш каапэратыў? Былі пайкі?*

ПО: Так, былі паі па сто злотаў.

*ЯЗ: І колькі ў Вас было ўсіх пайшчыкоў?*

ПО: Мала было, было толькі шэсьць. Але як пачулі, што такая ёсьць магчымасьць збыту прадукцыі, то прыходзілі больш. Я езьдзіў па вёсках. Рабілі сход, на сходзе прыймалі пастанову, што такая й такая малачарня афармленая ў каапэратыў, і пачыналі працаваць. Некалькі вёсак арганізавалі сваю малачарню, туды прывозілі малако і перараблялі яго на сыр ці масла. Кожная малачарня мела сваё самакіраўніцтва. І такіх малачарняў было 14.

*ЯЗ: Гэта ў якім годзе?*

ПО: У 1938-м. А тады мяне перавялі ў Ліду.

*ЯЗ: А як звалася Ваша баранавіцкае малачарнае таварыства?*

ПО: Малачарскае таварыства з адказнасьцю паямі.

*ЯЗ: Колькі ў Вас было ўсіх пайшчыкоў у 1938-м годзе?*

ПО: Каля 50–60.

*ЯЗ: Хто быў галоўным кіраўніком усяе гэтае карпарацыі?*

ПО: Я быў дырэктарам.

*ЯЗ: Адкуль Вы выпісвалі тое, што Вам было патрэбна з абсталяваньня?*

ПО: Усё куплялася ў Польшчы.

*ЯЗ: А як ставіліся польскія ўлады да Вашай каапэратыўнай дзейнасьці?*

ПО: Нэгатыўна. Шмат шкодзілі.

*ЯЗ: Чаму?*

ПО: Баяліся, што беларусы эканамічную сытуацыю наладзяць — таксама, як украінцы ў Галіччыне. Там у іх быў моцны саюз, багаты. Я зь ім трымаў кантакты. Былі такія зімы на Беларусі, калі было надта мала малака. А ў украінцаў наадварот. То я ад іх масла выпісваў, і яны прысылалі мне бяз грошай, у крэдыт.

*ЯЗ: А што Ваша малачарня вырабляла?*

ПО: Масла й сыр галяндзкі. І больш нічога. Часам, праўда, прадавалі там яблыкі ці яйкі.

*ЯЗ: А ў якой форме выяўлялася польскае нэгатыўнае стаўленьне да Вашай ініцыятывы?*

ПО: Адгаворвалі кліентаў.

*ЯЗ: Ну, але бізнэс у Вас ішоў, калі пачалі зь нічога, а скончылі на 14 малачарнях.*

ПО: Гэта былі невялікія малачарні, была толькі пара вялікіх.

*ЯЗ: А хто быў Вашым галоўным памочнікам?*

ПО: Жонка Ніна[406], яшчэ з Наваградку.

*ЯЗ: Ці на Вас накладалі падаткі?*

ПО: А як-жа!

Сп-ня Ніна Орса: Вы знаеце, як мы працавалі? Па 18 гадзін у дзень. Трэба было краму глядзець, каб чыста было. Улетку муж паедзе па вёсках, а я застаюся адна. А тут — чатыры гадзіны раніцы, і воз за возам вязуць масла ў глыбах па чатыры кілі. І што рабіць? У нас ляднік быў. Я брала малаток, сякеру й запакоўвала тавар. Трэба было таксама паперы афармляць, бо тавар адсылаўся далей у Польшчу, у горад Лодзь.

ПО: Наша беларускае таварыства перад самай вайной увайшло ў польскую супалку.

*ЯЗ: Вы далучыліся да супалкі?*

ПО: Не я далучыўся, польскі ўрад нас далучыў. Яны-ж шкодзілі ўвесь час, не хацелі, каб у нас было што-небудзь. І мяне тады прызначылі ў цэнтральную Польшчу. Раней брата Аляксандра[407]

---

[406] **Ніна Орса** (1911–2000), жонка Пётры Орсы.

[407] Маецца на ўвазе Аляксандр Орса.

(брат Аляксандр быў у Наваградку настаўнікам) вывезьлі, а пасьля мяне вывезьлі.

*ЯЗ: Гэта ў якім годзе?*

ПО: У 38-м.

НО: Але нашыя людзі сказалі ім, што калі Орсу перавязуць у Польшчу, то яны не дадуць прадукцыі. І тады нас перавялі ў Ліду.

*ЯЗ: А ці былі яшчэ якія малачарні беларускія, ведамыя Вам, у Заходняй Беларусі?*

ПО: Ня было. Толькі некаторыя багатшыя гаспадары сам рабілі масла. А такіх малачарняў, як нашая, ня было.

*ЯЗ: Ці Вы мелі малачарню ў Міры?*

ПО: Так, у 1935 ці 1936-м годзе ў Міры была ў нас малачарня. Але пасьля яна, здаецца, зьліквідавалася.

*ЯЗ: А што сталася з Вашым прадпрыемствам, калі ў 1938 годзе Вы змушаныя былі далучыцца да варшаўскае каапэрацыі?*

ПО: Мяне перакінулі ў Ліду. Я там жыў і быў падпарадкаваны варшаўскай цэнтралі.

*ЯЗ: То 1938 г. трэба лічыць канцом Вашага каапэратывы?*

ПО: Так.

*ЯЗ: Каго Вы ведаеце яшчэ ў Заходняй Беларусі з былых пражскіх студэнтаў? Што сталася з Гірысам?*

ПО: Яму аддалі бацькаву хату ў Любчы, і ён там жыў на сваёй гаспадарцы. У яго быў багаты бацька. Яны цэлы маёнтак мелі. Былі яшчэ з Прагі Шавейка, Гузоўскі, Лаўскі[408], Карповіч. Гэта ўсё студэнты зь лясьнічага факультэту.

*ЯЗ: А чым яны займаліся?*

ПО: Лаўскі меў мельніцу, жыў багата, недзе ў Лідзкім павеце.

*ЯЗ: А Мікалай Гарошка?*

ПО: Ён таксама быў "лясьнікам". Вярнуўшыся з Прагі, ён узяў маёнтак у арэнду ў Наваградзкім павеце і прабыў там два гады.

*ЯЗ: І чым ён там займаўся?*

ПО: Вырабляў сыры. Меў кароў з трыццаць, мусіць.

---

408 **Вячаслаў Лаўскі** (1900–1951), грамадскі дзеяч, педагог, публіцыст. Вучыўся ў Навагрудскай беларускай гімназіі, потым у Пражскім політэхнічным інстытуце. Адзін з заснавальнікаў Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый у Празе. Публікаваў артыкулы на тэмы беларускага студэнцкага жыцця. Вярнуўся ў Заходнюю Беларусь, выкладаў у Навагрудскай беларускай гімназіі. У 1942–1944 гг. быў сябрам Лідскага беларускага нацыянальнага камітэта. У 1945 г. арыштаваны. Памёр у зняволенні.

*ЯЗ: Калі гаварыць пра ўсіх беларускіх студэнтаў у Празе, на якія прафэсіі яны спэцылізаваліся?*

ПО: Малочніцтва, лясьніцтва, мэдыцына, электраінжынерыя, будаўніцтва, у тым ліку дарожнае.

*ЯЗ: А як з гуманістычным кірункам? Быў хто-небудзь на праве?*

ПО: На праве ня было нікога. Але былі на мовавед зе: Янка Станкевіч, Натальля Сазановіч, будучая жонка майго брата Аляксандра. Аляксандр быў на прыродаведзе, зрабіў дактарат.

*ЯЗ: Вы казалі, што Аляксандру Орсу выслалі. У якім годзе, адкуль і куды?*

ПО: Яго выслалі з Наваградка, калі зьліквідавалі там у 1936 годзе Беларускую гімназію. Тады Аляксандра выкінулі, а таксама Бітуса, у цэнтральную Польшчу. Далі ім па спэцыяльнасьці работу. Аляксандр там у гімназіі выкладаў.

*ЯЗ: То гэта была свайго роду высылка — так як і расейцы ў Сібір высылалі?*

ПО: І яшчэ ў які час! Зімою ў студзені месяцы, такі мароз трашчаў. З малымі дзецьмі…

*ЯЗ: І гэта што — прыйшоў загад?*

ПО: Загад прыйшоў зь Міністэрства асьветы, і ўсё — мусілі ехаць. Калі ў 1939 г. прыйшлі бальшавікі, то Аляксандр на конях прыехаў з Кельцаў у Баранавічы.

*ЯЗ: Чым тлумачылася тая высылка?*

ПО: Не хацелі палякі, каб беларускае было што-небудзь.

*ЯЗ: І ніякія пратэсты не памагалі?*

ПО: Не-не, нічога. Выслалі таксама Цеханоўскага[409].

*ЯЗ: Варочаючыся да каапэрацыі. Людзі свае гарнуліся да яе?*

ПО: О, так. Былі вельмі талковыя арганізатары. Быў такі Кумейша — унівэрсальны чалавек. Ён усё рабіў: і будаваў, і прадаваў, і купляў. Паходзіў ён зь вёскі Вялікае Падлесьсе, што ў Ляхавіцкім раёне. Людзі былі добрыя, шанавалі нас. Гутарыў я зь людзьмі толькі па-беларуску. Усё гэта палякам не падабалася.

*ЯЗ: Якія былі Вашыя заработкі ў баранавіцкім малачарным каапэратыве?*

---

[409] **Янка Цеханоўскі** (1888–1938), педагог, выпускнік Менскай настаўніцкай сэмінарыі і Політэхнічнага інстытута ў Пецярбургу. У 1918–1921 гг. дырэктар рэальнага вучылішча ў Ракаве, ад 1921 г. дырэктар Наваградскай беларускай гімназіі. Пасля закрыцця гімназіі працаваў у польскай школе ў Ашмянах.

ПО: Малачарскі ўрад выплачваў мне сто злотаў на месяц і адзін працэнт ад абароту. Абарот спачатку быў слабы, але з кожным годам рос.

*ЯЗ: Калі-б палякі не перашкаджалі, то Вы маглі-б разьвіць свой каапэратыў?*

ПО: О, ясна, што так.

*ЯЗ: Ці Вы бралі нейкія пазыкі з польскага банку?*

ПО: Нялёгка было з пазыкай, бо адказнасьць нашая была толькі паямі. Банк, магчыма, і даў-бы пазыку, але ня многа. Дарэчы, каапэратывы малачарскія былі ў нас спалучаныя з каапэратывамі. Калі людзі прывозілі, скажам, сыр, дык назад вязьлі тавар, патрэбны пайшчыкам.

*ЯЗ: Але пра спажывецкія каапэратывы нельга сказаць, што гэта былі беларускія прадпрыемствы?*

ПО: Гэта былі прадпрыемствы польскія, але нашыя людзі належалі да іх.

*ЯЗ: А ці было якое-небудзь культурнае беларускае жыцьцё ў Баранавічах за Вашымі часамі?*

НО: Быў тэатральны гурток. І кіраваў Шах. Заўсёды на Вадохрышча ставілі паказы.

*ЯЗ: Ці ў Вас была якая сувязь зь Вільняю?*

ПО: Часам заяжджаў хто-небудзь, але арганізацыйнай сувязі ня было. Беларускасьці надта такой ня шмат было ў нас. Ішло эканамічнае жыцьцё, і канец на гэтым. Палітыкай мы не займаліся, бо за намі палякі сачылі.

## Інтэрвію з праф. Антонам Адамовічам пра самагубства Ў. Ігнатоўскага[410]

Сёлета мінула 30 гадоў ад часу трагічнага самагубства на 50-м годзе жыцьця прафэсара Ўсевалада Ігнатоўскага[411], закладчыка Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, прэзыдэнта Беларускае

[410] Бацькаўшчына. № 31 (566). 30 ліпеня 1961. С. 3–4.

[411] **Усевалад Ігнатоўскі** (1881–1931), дзяржаўны дзеяч, гісторык, публіцыст. Наркам асветы (1921–1926), стваральнік і старшыня Інбелкульта (1926–1929), першы прэзідэнт Беларускай акадэміі навук (1929–1930).

Акадэміі навук, выдатнага гісторыка і дзеяча беларускага нацыянальнага руху. Маладому пакаленьню Беларусі пра Ўсевалада Ігнатоўскага не гаворыцца цяпер нічога: ні благога, ні добрага. Афіцыйным маўчаньнем партыя думае зацерці сьляды нацыянальнае трагедыі Беларусі, трагедыі зырка ўвасобленае ў самагубсьцьве Ўсевалада Ігнатоўскага.

У 1930 годзе, роўна год перад самагубствам Ігнатоўскага, у Маскве выйшаў IV том "Літаратурнае энцыкляпэдыі", на 416 і 417 балонках якога чытаем:

*"Ігнатоўскі Ўсевалад Макаравіч (год нараджэньня 1881-ы) — гісторык Беларусі і гісторык і крытык беларускае літаратуры. Радзіўся ў сям'і народнага настаўніка ў былой Горадзенскай губэрніі. Распрацаваньнем гісторыі Беларусі пачаў займацца ў 1905 годзе, калі быў высланы пасьля студзеньскіх падзеяў зь Пецярбургу, дзе вучыўся ў Гістарычна-філялягічным інстытуце. У канцы 1906 году ізноў паступіў на гістарычна-філялягічны факультэт Пецярбурскага ўнівэрсытэту, але неўзабаве быў высланы ў Аланецкую губэрню. У 1911 годзе скончыў Дорпацкі ўнівэрсытэт. Па сканчэньні працаваў у сярэдніх школах Вільні, а ад 1914-га году — у Менскім настаўніцкім інстытуце — выкладчык гісторыі. Адначасна ён вёў навукова-дасьледніцкую працу зь гісторыі Беларусі. У 1921 годзе быў выбраны за прафэсара Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Ад 1917 году Ігнатоўскі бярэ актыўны ўдзел у рэвалюцыйным руху, належыць да партыі сацыялістых-рэвалюцыянэраў. У камуністычную партыю бальшавікоў Ігнатоўскі ўступае ў 1920 годзе. Наступна займае становішча сябры Ваенна-рэвалюцыйнага камітэту Беларусі, наркамзема, сябры й прэзыдэнта Беларускае акадэміі навук, сябры ЦК і Бюро ЦК, Цэнтральнага Выканаўчага камітэту БССР і СССР".* Далей у "Літаратурнай энцыкляпэдыі" падаецца агляд гістарычных і літаратурных працаў Усевалада Ігнатоўскага.

Па трох гадох, у 1933, выйшаў 27 том першага выданьня Вялікае Савецкае Энцыкляпэдыі, і там ужо пра Ігнатоўскага ня было ні слова. Тым ня менш Усевалада Ігнатоўскага памятае шмат хто, бо ў 20-х гадох на Беларусі ён быў адным з найбольш дзейных, аўтарытэтных і папулярных людзей.

Прафэсар Антон Адамовіч, беларускі гісторык і літаратуравед, сябра разгромленага на пачатку 30-х гадох літаратурнага згуртаваньня "Ўзвышша", быў блізка знаёмы зь сям'ёй Усевалада

Ігнатоўскага і ў часе ягонага самагубства знаходзіўся ў Менску. Мы папрасілі яго расказаць пра Ўсевалада Ігнатоўскага і ягонае трагічнае самагубства.

*Пытаньне: Прафэсар Адамовіч, якія асабістыя дачыненьні былі ў Вас да асобы Ўсевалада Ігнатоўскага?*

Адказ: Мае дачыненьні былі вельмі блізкія. Мне давялося вучыцца разам із старэйшым сынам Ігнатоўскага Міхасём. Мы зь ім вучыліся разам у Беларускім Пэдагагічным тэхнікуме, які пасьля пачаў насіць імя Ігнатоўскага, аж пакуль бальшавікі ня зьнялі гэтага імя. Сябруючы зь Міхасём, я наведваў ягоную хату і такім парадкам увайшоў у знаёмства з усёй сям'ёй. Тым больш, што Міхасёў пакой быў фактычна выкраены зь вялікага габінэту бацькі, аддзелены толькі кніжнымі паліцамі. Часта бацька заходзіў у гэты Міхасёў пакой, у якім часамі зьбіралася яшчэ колькі іншых сяброў, і меў з намі розныя гутаркі — такога нацыянальна-ўзгадавальнага характару.

*П: Як ставілася менская студэнцкая моладзь да прафэсара Ігнатоўскага?*

А: Наагул, Ігнатоўскага ў колах моладзі, ня толькі студэнцкае моладзі, а наагул, называлі заўсёды “бацькам”, гэта была такая ягоная неафіцыйная мянушка, і яна даволі добра адказвае на Вашае пытаньне. Ён уважаўся агульнабеларускім, казаў той, бацькам беларускага руху ў тых часох.

*П: Прафэсар Адамовіч, які пагляд Ігнатоўскага быў на спосаб выкарыстаньня палітычных абставінаў для беларускага нацыянальнага адраджэньня?*

А: Асноўная ідэя Ігнатоўскага была ў тым, што ўсё трэба выкарыстоўваць для беларускага руху, і паколькі лад стаўся такі, што кіруе ўсім камуністычная партыя, дык трэба выкарыстаць гэтую камуністычную партыю. Я вельмі добра памятаю, як Ігнатоўскі ў 1930 годзе зусім адкрыта казаў аб гэтым на сходзе менскае арганізацыі беларускіх сацыялістых-рэвалюцыянэраў (ён быў сябрам гэтае партыі да таго). Ён проста заявіў там, што *“я пераходжу ў камуністычную партыю, бо толькі гэткім парадкам цяпер можна рабіць беларускую справу”*.

*П: У якіх абставінах адбылося самагубства Ігнатоўскага?*

А: Я тады якраз быў арыштаваны як беларускі нацдэм і быў у падвале менскага ГПУ. Абставіны самагубства Ігнатоўскага зьвязаныя якраз з нашаю справаю беларускіх нацдэмаў, або як

зь яе хацелі зрабіць бальшавікі, справай Саюзу Вызваленьня Беларусі, СВБ, на ўзор украінскага Саюзу Вызваленьня Ўкраіны, працэс якога адбыўся тады перад гэтым. Калі Масква забракавала некаторых кандыдатураў на падстаўныя лідэры гэтай, створанай ГПУ фікцыйнай кансьпірацыі, Масква паставіла заданьне зрабіць гэткім лідэрам прафэсара Ігнатоўскага. Якраз гэта й была прычына ягонага самагубства. Яго пачалі паклікаць у ГПУ, дапытваць і выразна было для яго, што ён рыхтуецца на ролю гэтага лідэра, правадыра беларускіх нацдэмаў на магчымым іхным працэсе, які рыхтавала ГПУ.

*П: У Вашай кнізе пра супрацiў саветызацыі ў беларускай літаратуры гаворыцца пра спробу самагубства Янкі Купалы; гэта таксама было зьвязана з рыхтаваным тады працэсам нацдэмаў?*

<u>А:</u> Зьвязана вельмі цесна. Ігнатоўскі быў абраны за аб’ект на лідэра нацдэмаў пасьля таго, як бальшавікі пабачылі, што Янку Купалу ў гэтай ролі нельга будзе выкарыстаць пасьля ягонае няўдалае спробы самагубства, пра якое весткі разышліся вельмі шырака.

*П: Вы ўспомнілі пра Саюз Вызваленьня Беларусі. Ці ён існаваў у сапраўднасьці?*

<u>А:</u> Нічога такога падобнага не існавала. Усё было зроблена ў габінэтах ГПУ на загад Масквы — на ўзор украінскага СВУ, які таксама нямаведама ці існаваў.

*П: Усевалад Ігнатоўскі, якое становішча ён займаў у тыя часы ў Менску?*

<u>А:</u> Ён быў Прэзыдэнтам Акадэміі навук.

*П: Ён быў арыштаваны?*

<u>А:</u> Не, ён арыштаваны ня быў, але пачаліся допыты, якія ў ягоным становішчы нічога добрага не прадвяшчалі. Апрача таго, як мы пасьля даведаліся з прыватных крыніцаў, прыяцелі Ігнатоўскага, якія мелі весткі з ГПУ, папярэдзілі яго, што рыхтуецца ягоны арышт. Пасьля гэтага папярэджаньня ён і застрэліўся, што было адзіным спосабам ратунку і пратэсту.

*П: Той факт, што Ігнатоўскага ГПУ хацела зрабіць лідэрам на працэсе нацдэмаў, фактычна падмацоўвае цьверджаньне, што ён быў вызначанай фігурай у беларускім нацыянальным руху.*

<u>А:</u> Бязумоўна, у тых часох ён быў найбольш вызначаны ў гэтым руху, асабліва таму, што фактычна ён быў цэнтрам усёй беларускай легальнай нацыянальнай актыўнасьці ў БССР.

*П: Прафэсар Адамовіч, калі Ігнатоўскі пачаў браць удзел у беларускім нацыянальным адраджэньні і што ён пакінуў па сабе як навуковы працаўнік?*

А: Гэта два пытаньні. Калі ён пачаў браць удзел у беларускім нацыянальным руху, дык гэта задакумэнтавана яшчэ за нашаніўскімі часамі. Яшчэ студэнтам ён браў удзел студэнцкім гуртку Юр'еўскага (ці Дорпацкага) унівэрсытэту, і ў “Нашай Ніве” былі зьмешчаныя лісты з таго ўнівэрсытэту, пад якімі можна знайсьці подпіс і Ігнатоўскага. Гэта быў пачатак ягонае дзейнасьці. Пасьля, скончыўшы ўнівэрсытэт, ён таксама пачаў выяўляць сябе як беларускі навуковец. І ўжо будучы выкладчыкам Менскага пэдагагічнага інстытуту, які быў эвакуяваны ў Яраслаўль, ён пачаў чытаць там лекцыі ў гуртках беларускіх студэнтаў пра беларускае нацыянальнае пытаньне. Пасьля гэтыя лекцыі выйшлі асобнай брашурай. Таксама ў той час ён займаецца гісторыяй Горадзеншчыны — гэта быў пачатак ягонай навуковай працы як гісторыка.

Што да другога Вашага пытаньня — якую навуковую спачыну ён пакінуў — дык гэтая навуковая спадчына яго галоўным чынам у гісторыі Беларусі. У гэтай спадчыне ёсьць такія папулярныя падручнікі, як, прыкладам, “Кароткі нарыс гісторыі Беларусі”[412], які даўжэйшы час быў школьным падручнікам беларускае гісторыі. Але тутака таксама ёсьць і паважныя вялікія навуковыя працы, сярод якіх трэба назваць галоўна дзьве — “Гісторыя Беларусі XIX і пачатку XX стагодзьдзя”[413], якая яшчэ выйшла за ягонага жыцьця друкам і прадавалася, і другая, яшчэ больш капітальная праца, — гэта “1863 год на Беларусі”[414], гісторыя ведамага паўстаньня Кастуся Каліноўскага на Беларусі. Гэтая кніга была ўжо надрукаваная,

[412] Кніга “Кароткі нарыс гісторыі Беларусі” Усевалада Ігнатоўскага доўга была школьным падручнікам па гісторыі, вытрымала 5 выданняў: 1-е — у 1919 г. (канфіскаванае польскімі акупацыйнымі ўладамі); 2-е — у 1921 г. у Беларусі; тады ж, але без дазволу аўтара ў Вільні, 3-е выданне, папраўленае і дапоўненае, у 1921 г.; 4-е выданне, перарobленае, у 1926 г.; таксама ў Вільні ў 1927 г.

[413] Маецца на ўвазе праца: Ігнатоўскі, Усевалад. Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецця: лекцыі, чытаныя студэнтам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту. Менск: Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1925. — 251 с. (Перавыдавалася ў 1926 і 1928 гг.)

[414] Маецца на ўвазе праца: Ігнатоўскі, Усевалад. 1863 год на Беларусі: нарыс падзей / Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларускай Акадэміі навук. Кн. 13. Працы Інстытуту гістарычных навук. Т. 5. Менск, 1930. Перадрукавана ў: Ігнатоўскі, Усевалад. Выбранае. Мінск, 2018. С. 387–686.

але ў продаж ня была пушчаная, бо тады якраз пачалося змаганьне зь беларускім нацыянальным дэмакратызмам. Цяпер, як Вам ведама, у савецкай Беларусі накладзеная забарона на ўсю навуковую спадчыну Ўсевалада Ігнатоўскага і навет забарона на ягонае імя.

*Аляксандар Калодка*

## Беларусы ў нямецкіх лягерах сьмерці[415]

Другая сусьветная вайна спрычынілася да жахлівых спусташэньняў па ўсёй Беларусі. Безьліч вёсак спаленых акупантамі, нярэдка разам з жыхарамі, масавыя расстрэлы ў турмах і спэцыяльных лягерах, зь якіх найбольшымі былі Трасьцянец[416], Калдычэва[417] ды пры вуліцы Шырокай у Менску, урэшце транспарты зь перапоўненых на Беларусі турмаў у нямецкія канцэнтрацыйныя лягеры. Колькі ўзапраўды было гэтых транспартаў, ды куды, у якія лягеры — справа дагэтуль не дасьледжаная, таксама дакладна ня ведама, колькі, прыблізна, тысячаў Беларусаў было ў гэтых лягерах. На маю думку, было добрых некалькі дзясяткаў тысячаў.

Найбольшыя транспарты з тэрыторыі Беларусі ішлі ў Асьвенцім (Аўшвіц)[418] ці дакладней у Біркэнаў (Бжэзінка) — галоўны філіял Асьвенціму. Згодна “Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі”, зь лістапада 1942 году да травеня 1944 году з Горадні, Віцебску й Менску было адпраўлена Немцамі ў Асьвенцім адзіннаццаць эшалонаў —

---

[415] Беларус. № 241. Травень 1977. С. 2, 4. Падпісана: *Аляксандр Калодка, № 165621-Асьвенцім, № 48054-Бухэнвальд, Нордгаўзэн-Дора, Роттлебэродэ, Равэнсбурк.*

[416] **Трасцянец** — найбуйнейшы лагер смерці на тэрыторыі Беларусі і акупаваных раёнаў СССР, створаны ў ваколіцах Мінска ў 1941 г. Паводле колькасці знішчаных Трасцянец займае чацвёртае месца пасля Асвенціма, Майданэка і Трэблінкі.

[417] **Калдычаўскі канцэнтрацыйны лагер** смерці існаваў каля вёскі Калдычава цяперашняга Баранавіцкага раёна ў 1942–1944 гг. За гэты час у ім загінулі больш за 22 тысячы чалавек.

[418] **Асвенцім**, або **Асвенцім-Бжэзінка**, або **Аўшвіц-Біркенаў** (ням. *Auschwitz-Birkenau*), — комплекс нямецкіх канцэнтрацыйных лагераў, якія размяшчаліся ў 1940–1945 гг. на поўдні Польшчы ў ваколіцах горада Асвенцім за 60 км ад Кракава. Каля 1,1 млн чалавек былі знішчаныя ў гэтых лагерах.

прыблізна 5700 чалавек. Мне асабіста ведама, што былі таксама транспарты з Полацку ды, апрача таго, у Біркэнаў у 1943 годзе было зьліквідавана 12 тысячаў савецкіх ваеннапалонных, сярод якіх былі, напэўна, і Беларусы.

Асьвенцім, асабліва-ж Біркэнаў, гэта быў узапраўды лягер сьмерці. Харчаваньне было такое, што нармальна людзі паміралі на працягу 4-х месяцаў прабываньня, калі ня было падтрымкі звонку (харчовых пасылак). Бальшыня вязьняў зь беларускіх транспартаў не магла гэтых пасылак спадзявацца, бо высылаць такіх зь Генэральнага Камісарыяту Беларусі было забаронена, таму й сьмяротнасьць сярод Беларусаў ужо ў першых тыднях прабываньня ў лягеры была вялікая. Трэба ўзяць пад увагу, што вязьні былі месяцамі ў акруговых ці раённых турмах, некалькі тыдняў на зборных пунктах, таму й адпорнасьць гэтых людзей на ўмовы жыцьця ў Біркэнаў была вельмі нізкая. Найбольш “папулярнымі” хваробамі, якія спрычыняліся да сьмерці, былі дэзынтэрыя, апухліна рук і ног і кароста. Хворыя паміралі або ў бараках, або ў шпіталі, дзе, звычайна, зь імі ня цырымоніліся доўга, даючы ўколы Фэноля[419]. Праца, пераважна, ня была цяжкая, але дачыненьні лягернай адміністрацыі, асабліва тэй часткі, што складалася зь вязьняў, былі вельмі дрэнныя — біцьцё вязьняў было на парадку дня. Цяжкія рэпрэсыі тарнаваліся да тых вязьняў, якія былі калісь паліцыянтамі або належалі да адміністрацыі акупацыйных уладаў. У маім транспарце, акрамя мяне, было амаль 20 былых паліцыянтаў зь Пяршаяў і Вішнева Валожынскага павету. Гэта былі маладыя хлапцы, сьведамыя Беларусы і адзінай іхнай “віной” было тое, што яны былі каталікамі. Яны былі арыштаваныя разам з польскімі каталіцкімі ксяндзамі-Палякамі падчас тэрарыстычнай акцыі агентаў Вялейскага гэстапо (прозьвішчы іхныя Рэдакцыі ведамыя. — Рэд.), якія на на чале гэстапаўцаў-Латышоў выбраліся на змаганьне з партызанамі. Было аднак бясьпечней “змагацца” з цывільным жыхарствам, паліць хаты, грабіць, забіваць нявінных людзей і прывезьці ў Вялейку некалькі дзясяткаў арыштаваных, чымся змагацца з узброенымі партызанамі. Прывезеныя ксяндзы былі хутка ў Вялейцы расстрэленыя, а былыя паліцыянты апынуліся ў Біркэнаў.

[419] **Фенол** — карболавая кіслата, ядавітае рэчыва, раствор якога выкарыстоўвалі ў лагерах смерці для знішчэння зняволеных.

Зь вялейскай турмы ў нашым транспарце было некалькі Палякаў — удзельнікаў польскай падпольнай арганізацыі ў Вялейцы. Яны й паінфармавалі вязьняў-Палякаў зь іншых баракаў, што сярод нашага транспарту ёсьць былыя паліцыянты-Беларусы. Даведаўшыся аб гэтым, я навязаў лучнасьць зь Міхаілам Карвэцкім, які паходзіў із Смургоншчыны, але перад арыштам працаваў як настаўнік каля Варшавы. Гэта быў вельмі адукаваны чалавек і займаў важнае становішча ў польскім падпольлі. Сярод вязьняў-Палякаў меў вялікі аўтарытэт. Хоць лічыў сябе Палякам, душа ягоная засталася беларускай. Ён абяцаў дастаць нам лепшую працу, параіў не прызнавацца, што мы былі ў паліцыі, ды прасіў нас старацца як найхутчэй дастацца на транспарт у іншыя філіялы (а іх было шмат) пры Асьвенціме. Хутка пасьля гэтага частка былых паліцыянтаў выехала ў Мановіцы, Ополе, Глівіцы. Мне асабіста з чатырма былымі паліцыянтамі ўдалося папасьці на транспарт у Бухэнвальд[420]. Праўда, мы, былыя паліцыянты, нямала былі бітымі вязьнямі-Палякамі, але мы ўсе вырваліся жывымі зь Біркэнаў (апошнім выехаў я).

Іншая была справа з кіраўніком Беларускай Самаахoвы[421] Глыбоцкай акругі. Прозьвішча ягонага я сягоньня ня пэўны, але, здаецца, што капітан Арлоў, былы ахвіцэр царскай арміі. Пасьля першай сусьветнай вайны жыў ён у Глыбоччыне, гутарыў прыгожай беларускай мовай, заўсёды далёка трымаўся ад Палякаў. Адзін Беларус (прозьвішча ягонае ведама Рэдакцыі. — Рэд.) абвінаваціў яго ў глыбоцкім гэстапо ў прапольскіх сымпатыях. Я запрыязьніўся з Арловым у Біркэнаў, мы гутарылі зь ім часта на беларускія тэмы. Я ня мог прызнацца, што ягонага “дабрадзея”, які яго абвінаваціў у прапольскіх сымпатыях, у 1941 г. у Маладэчне даслоўна выратаваў ад сьмерці, рызыкуючы собскай галавой. Арлову як *“беларускаму ваеннаму камэнданту”* нямала таксама дасталося ад Палякаў. Калі мяне вывозілі ў Бухэнвальд, ён ужо ляжаў у шпіталі. Адтуль быў толькі адзін выхад — крэматорыя.

Зь іншых больш ведамых беларускіх вязьняў былі ў Біркэнаў былыя вучні Віленскай беларускай гімназіі Левановіч і Павал Мілюк.

---

420 **Бухенвальд** (ням. *Buchenwald*) — канцэнтрацыйны лагер, які дзейнічаў у нацысцкай Нямеччыне ў 1937–1945 гг. Размяшчаўся каля горада Веймар.

421 **Беларуская самаахова**, або **Беларускі корпус самааховы**, — ваенізаванае фарміраванне на тэрыторыі Генеральнай акругі Беларусь у часе нямецкай акупацыі.

Першы паходзіў з Крэва, папаўся ў лягер дзякуючы жонцы-Расейцы, якая мела сувязь з партызанамі, другі, Мілюк, спад Баранавіч, быў арыштаваны за прыналежнасьць да "Антыфашыстаўскага Саюзу". Ён знаў добра У. Кліма, нават сябраваў зь ім. Мілюк і Левановіч ужо былі кандыдатамі ў шпіталь, а адтуль у крэматорыю — абодвы мелі ўжо апухнутыя рукі й ногі, але яшчэ трымаліся нядрэнна.

У Біркэнаў была прывезеная разам з намі пляменьніца Юстына Мурашкі[422] Галіна Мурашка зь Вішнева Жодзінскага павету. Яна пазьней была загадчыцай блёку ў жаноцкім лягеры Біркэнаў. Яна фізычна трымалася добра і, як было чуваць, добра адносілася да Беларусак. Аб ейным лёсе пасьля вайны мне нічога ня ведама.

У іншых шматлікіх нямецкіх канцэнтрацыйных лягерах была немалая колькасьць Беларусаў. Лягер Штуттгоф[423] (Усходняя Прусія) меў пасьля Біркэнаў бадай найбольшую колькасьць Беларусаў, пераважна сялян з Беласточчыны й Горадзеншчыны. Транспарты із Штуттгофу йшлі ў Бухэнвальд, Маўтгаўзэн[424], Гросс-Розэн[425], Гамбург-Нойгаммэ[426] і інш. Эвакуацыя Штуттгофу пад канец вайны закончылася вельмі трагічна — два нямецкія параплавы, перапоўненыя вязьнямі, былі альянцкімі самалётамі збамбардаваныя й затапіліся. Зь вязьняў ніхто ня выратаваўся. Марскія хвалі доўгія месяцы пасьля заканчэньня вайны выкідалі недалёка гораду Нойштадт трупы вязьняў.

---

422 **Юстын Мурашка** (1890–1952), грамадскі дзеяч. Быў фармальным старшынёй Беларускай сялянскай партыі. У лістападзе 1941 г. прызначаны бургамістрам Ашмянаў. Пазней быў бургамістрам у Валожыне. Арыштоўваўся нямецкімі ўладамі. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Заходняй Нямеччыне, Францыі. Браў удзел у 1-м Сусветным з'ездзе беларускай эміграцыі. У 1950 г. разам з сям'ёй выехаў у Канаду. Жыў у Эдмантане.

423 **Штутгоф** (ням. *Stutthof*) — канцэнтрацыйны лагер, створаны немцамі каля аднайменнай вёскі на ўсход ад Гданьска ў 1939 г. За час вайны праз яго прайшлі больш за 100 тысяч зняволеных, 65 тысяч — загінулі.

424 **Маўтгаўзэн** (ням. *Mauthausen*) — нямецкі канцэнтрацыйны лагер у Верхняй Аўстрыі, які дзейнічаў у 1938–1945 гг. Праз лагер прайшлі каля 335 тысяч зняволеных, 122 тысячы былі знішчаныя.

425 **Грос-Розэн** (ням. *Groß-Rosen*) — нямецкі канцэнтрацыйны лагер, які дзейнічаў у 1940–1945 гг. каля аднайменнай вёскі ў Ніжняй Сілезіі. Праз лагер прайшлі каля 125 тысяч знаволеных, каля 40 тысяч былі знішчаныя.

426 Маецца на ўвазе **Ноенгаме** (ням. *Neuengamme*) — канцэнтрацыйны лагер на паўночным захадзе Нямеччыны, у аднайменным раёне Гамбурга ў 1938–1945 гг. Пераважна функцыянаваў як працоўны лагер.

Нейкая колькасьць Беларусаў была ў Дахаў[427], у шматлікіх філіялах Маўтгаўзэну (Мэндлінк, Вінэр-Нойштадт і інш.[428]), у Флёсэнбургу[429], Ораніенбург-Захсэнгаўзэн[430], Равэнсбрук[431] і іншых. Як правіла, Беларусы насілі на верхняй вопратцы адпаведнага колеру трыкутнік "П" (польская дзяржаўная прыналежнасьць). Навет і тыя Беларусы, што перад вайной былі савецкімі грамадзянамі. У Дахаў было зьліквідавана 7000 савецкіх ваеннапалонных, сярод якіх была, праўдападобна, значная колькасьць Беларусаў. Пад канец вайны некалькі дзясяткаў вайсковых з 30-й беларускай дывізыі СС[432] былі прывезеныя ў канцэнтрацыйны лягер Дахаў і там хутка зьліквідаваныя. Сярод іх быў капітан В. Мікула[433].

Аграмадная бальшыня беларускіх вязьняў — гэта сяляне, былі аднак там прадстаўнікі ўсіх іншых прафэсыяў. Варта тут успомніць сьвятароў нашых большых веравызнаньняў, як

[427] **Дахау** (ням. *Dachau*) — канцэнтрацыйны лагер, які дзейнічаў у нацысцкай Нямеччыне ў 1933–1945 гг. Першапачаткова ў яго зьмяшчаліся палітычныя праціўнікі гітлераўскага рэжыму. Разьмяшчаўся на ўскраіне аднайменнага горада, за 17 км ад Мюнхена.

[428] Канцэнтрацыйны лагер Маўтгаўзэн меў 49 філіялаў па ўсёй Аўстрыі.

[429] **Флёсенбург** (ням. *Flossenbürg*) — канцэнтрацыйны лагер у Баварыі, каля аднайменнага горада. Дзейнічаў у 1938–1945 гг. Праз яго прайшлі каля 96 тысяч зняволеных, каля 30 тысяч загінулі.

[430] **Заксэнхаўзэн** (ням. *Sachsenhausen*) — канцэнтрацыйны лагер, які дзейнічаў у горадзе Араніенбург у 1936–1945 гг. У ім загінулі звыш 100 тысяч чалавек.

[431] **Равенсбрук** (ням. *Ravensbrück*) — канцэнтрацыйны лагер на паўночным усходзе Нямеччыны, за 90 км ад Берліна, які дзейнічаў у 1939–1945 гг. Праз лагер прайшлі каля 130 тысяч зняволеных, загінулі ад 50 да 92 тысяч чалавек.

[432] **30-я грэнадзёрская дывізія СС (1-я беларуская)**, ням. *30 Waffen-Grenadier-Division der SS (weissruthenische Nr. 1)*, была сфарміраваная на тэрыторыі Усходняй Прусіі ў жніўні 1944 г. і складалася пераважна з курсантаў Менскай камандзірскай школы БКА, аддзелаў БКА і беларускай паліцыі парадку. У кастрычніку — снежні 1944 г. дывізія знаходзілася ў раёне Дыжона (Францыя), дзе пэўная частка беларускіх жаўнераў перайшла на бок саюзнікаў. Рэшту беларусаў дывізіі пазней накіравалі на фарміраванне 1-й дывізіі Рускай вызвольнай арміі.

[433] **Віталь Мікула** (1913–1945?), вайсковы дзеяч. У часе нямецкай акупацыі працаваў настаўнікам у Нясвіжы, у структурах БНС і БЦР, у шэрагах Самааховы і Беларускай краёвай абароны, пераклаў на беларускую мову "Страявы вайсковы статут". Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, служыў у 30-й дывізіі войск СС. У выніку канфлікту з камандаваннем дывізіі арыштаваны і зняволены ў канцлагеры Дахау, дзе, праўдападобна, загінуў.

кс. кс. Ст. Глякоўскага[434] й Д. Мальца[435], якія ў Бухэнвальдзе працавалі ў амуніцыйнай хвабрыцы Густлёў-вэркэ ды загінулі там падчас бамбардаваньня альянцкімі самалётамі ў жнівені 1944 году, праваслаўнага сьвятара Барыса Камінскага[436], ведамага на віленскім груньце а. ерадыякана Сяргея Вашчанку зь віленскага Сьв.-Духаўскага манастыра, кс. д-ра Міхала Маскаліка[437], вязьня Захсэнгаўзэну, мастака сьв. пам. Аляксандра Стагановіча (малодшага)[438], вязьня Дахаў, ды іншых.

Асьвенцім і ягоныя філіялы былі вызваленыя савецкай арміяй у канцы 1945 году. Колькі беларускіх вязьняў пабачыла волю? Няведама. Ведама толькі, што яны мусілі быць "перавыхаваныя" празь нейкі час у лягерах Сібіру. Лягеры ў Заходняй Нямеччыне і Аўстрыі былі вызваленыя ў красавіку 1945 году. Толькі малая колькасьць былых вязьняў-Беларусаў апынулася на Захадзе. Зараз-жа пасьля вайны паўстала Ліга былых палітычных вязьняў-Беларусаў, але яна не магла праявіць большай дзейнасьці з прычыны вельмі малой

---

434 **Станіслаў Глякоўскі** (1896–1941), рэлігійны і грамадскі дзеяч, каталіцкі святар. Закончыў Грыгарыянскі інстытут у Рыме са ступенню доктара тэалагічных навук. Ад 1929 г. працаваў у Вільні, выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі. У часе нямецкай акупацыі быў пробашчам касцёла Святых Сымона і Алены ў Менску. Арыштаваны паліцыяй у снежні 1941 г.

435 **Дзяніс Малец** (1909–1941), рэлігійныя дзеяч, каталіцкі святар. Пасвячоны ў святары ў 1937 г. У 1938 г. быў прэфектам мясцовых школаў у Пінску, вікарыем пры Пінскай кафедры. У 1941 г. быў арыштаваны разам са Станіславам Глякоўскім на канферэнцыі ў Менску.

436 **Барыс Камінскі** (?–1969), рэлігійны дзеяч. У часе Другой сусветнай вайны апынуўся ў Нямеччыне, дзе напрыканцы 1940-х гг. атрымаў святарскі сан, пасля чаго выехаў у Аўстралію. У 1956 г. з благаславення архіепіскапа Сяргея (Ахатэнкі) арганізаваў прыход БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці ў Перце і быў адным з ініцыятараў пабудовы тут беларускай царквы. Пасля выехаў у Мельбурн, дзе праз некаторы час пачаў служыць у грэцкай праваслаўнай царкве. Часам браў удзел у службах для беларускіх вернікаў. Загінуў у выніку няшчаснага выпадку.

437 **Міхась Маскалік** (1903–1965), каталіцкі святар усходняга абраду, доктар філалогіі, культурна-грамадскі дзеяч. Вывучаў філасофію і тэалогію ў калегіуме св. Андрэя ў Мюнхене. Заснаваў і кіраваў Саюзам беларускіх студэнтаў у Нямеччыне. У гады вайны выконваў святарскія абавязкі сярод ваеннапалонных, у 1943 г. быў арыштаваны, некалькі месяцаў правёў у канцлагеры Заксэнхаўзэн. Вызвалены дзякуючы намаганням Папскай місіі ў Нямеччыне. Пасля вайны жыў у Заходняй Нямеччыне

438 **Аляксандр Стагановіч (малодшы)** (1921–1974), старэйшы сын грамадскага дзеяча Аляксандра Стагановіча.

колькасьці сяброў. Былыя вязьні, ня толькі Беларусы, але й наагул, падазрона ставіліся да ўсякіх арганізацыяў. Гэткая зьява была й сярод іншых нацыянальнасьцяў.

Далейшыя этапы — гэта лягеры ДП, скрынінгі, эміграцыя. Нейкая колькасьць знайшлася навет у Аўстраліі, але ў грамадзкай працы ўдзелу амаль ніхто ня прыймае.

У 1949 годзе Нямецкая Фэдэральная Рэспубліка забавязалася выплаціць адшкадаваньне былым палітычным вязьням канцэнтрацыйных лягероў. Справа цягнулася гадамі. Толькі малой частцы былых вязьняў на Захадзе ўдалося атрымаць невялічкае адшкадаваньне, затое атрымалі вельмі шчодра Жыды. Урэшце ўмяўшаўся Вялікі Камісар для Ўцекачоў пры Задзіночаных Нацыях[439] і змусіў нямецкі фэдэральны ўрад яшчэ раз перагледзіць гэтую справу. Нямецкая Фэдэральная Рэспубліка забавязалася выплаціць былым вязьням, якія знаходзяцца на Захадзе, адшкадаваньне ў форме аднаразовай сумы, а ў выпадку ўтраты 25 % і больш здароўя, выплачваць месячную пэнсію. На першы пагляд пастанова Вялікага Камісара і адпаведныя нямецкія законы былі вельмі спагадлівыя й лібэральныя, на практыцы, аднак, пэтэнтам[440] даводзілася перажыць яшчэ раз страшэнны кашмар. Розныя фармуляры, лекарскія і аптэчныя пасьветчаньні ад 1953 году — усё гэта трэба было перакласьці на нямецкую мову ды зацьвердзіць судом або натарыюсам, што забірала шмат часу й грошай. Працэдура цягнулася гадамі, а былыя вязьні тымчасам паміралі. Заканчэньнем усяго для тых, што яшчэ жылі, былі лекарскія агледзіны лекарамі-спэцыялістамі, аплачванымі нямецкімі консулятамі. Агледзіны трывалі гадзінамі й былі спалучаныя з дакладным палітычным апытаньнем пэтэнта на манер нямецкага гэстапа.

З 36 000 заяваў, зложаных у нямецкую фэдэральную ўстанову, пазытыўны адказ атрымала 5000 асобаў, зь іх толькі 3300 атрымала месячную пэнсыю, пераважна 300 нямецкіх марак, астатнія аднаразовае адшкадаваньне ў суме каля 8000 нямецкіх марак. Некалькі дзясяткаў Беларусаў у Аўстраліі таксама атрымалі нямецкае адшкадаваньне або пэнсыю.

---

[439] Маецца на ўвазе **Упраўленне Вярхоўнага камісара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па справах бежанцаў** — арганізацыя сістэмы ААН, створаная ў 1951 г., якая займаецца аказаннем дапамогі ўцекачам.

[440] ***Petent*** (пол.) — прасіцель, той, хто звяртаецца з просьбаю ў афіцыйныя структуры.

## *Pro Domo Mea*[441]

У сакавіку 1976 году я атрымаў ліст зь нямецкага кансуляту з запытаньнем, ці я як былы вязень канцэнтрацыйнага лягеру Нордгаўзэн-Дора[442], філіял Ротлебэродэ, згадзіўся-б даць паказаньні аб умовах жыцьця й працы ў Ротлебэродэ[443], дзе я прабываў больш як год. Зусім зразумела, што я мог-бы адмовіцца, не зрабіў гэтага аднак, бо сваймі паказаньнямі, я перакананы, аддаў-бы апошнюю паслугу маім замучаным і замардаваным сябром-вязьням. Справа ў тым, што Нямецкая Фэдэральная Пракуратура, аддзел у Любэк знайшла 14 асобаў з аховы і адміністрацыі лягеру ў Роттлебэродэ, у тым ліку двух апошніх камэндантаў. Усе яны абвінавачаныя ў забойствах, катаваньнях і расстрэлах вязьняў, асабліва падчас эвакуацыі лягеру ў красавіку 1945 году. З 2000 вязьняў амаль 1500 было застрэленых падчас эвакуацыі. Гэта былі змораныя голадам людзі, якія не маглі ісьці. Іх ахова лягеру сьпіхала ў прыдарожныя равы й застрэльвала. Сярод іх было таксама й некалькі Беларусаў.

Я ўжо слабы й зьняможаны голадам і маршам уцёк на сёмы дзень эвакуацыі, празь пяць дзён быў злоўлены нямецкай паліцыяй, страшэнна зьбіты ды ўкінуты ў канцэнтрацыйны лягер Равэнсбрук, адкуль, крыху ачуняўшы, узноў уцёк, дастаў ад спатканых польскіх работнікаў асабістыя дакумэнты, геаграфічную карту й цывільную вопратку, што й дапамагло мне дабрацца да Швэрына[444] (Мэкленбургія), дзе й застала мяне капітуляцыя Нямеччыны.

Мае паказаньні ў нямецкім кансуляце 6 красавіка 1976 г. трывалі шэсьць гадзінаў. Зноў устала перад вачыма ўсё перажытае, аб якім часта стараўся забыцца. Суд адбудзецца ў горадзе Любэк, дзе мне, напэўна, давядзецца выступаць як сьведку абвінавачваньня. Прыйдзецца яшчэ раз прыпамінаць усё тое, што перажываў больш як трыццаць гадоў таму. Будзе каштаваць шмат нэрваў і безьліч бяссонных начэй.

У канцы хацеў-бы падчыркнуць адну характэрную зьяву ў канцэнтрацыйных лягерах — дачыненьні Беларусаў функцыйных да

[441] ***Pro Domo Mea*** (лац.) — тут: пра сябе.

[442] **Нордхаўзэн-Дора** (ням. *Nordhausen-Dora*) — канцэнтрацыйны лагер у 5 км ад горада Нордхаўзэна ў Цюрынгіі, які дзейнічаў у 1943–1945 гг.

[443] **Ротлеберодэ** (ням. *Rottleberode*) — лагер у структуры лагераў Нордхаўзэн-Дора, створаны ў сакавіку 1944 г. Утрымліваў каля тысячы чалавек.

[444] **Шверын** (ням. *Schwerin*) — горад у Нямеччыне, адміністрацыйны цэнтр у зямлі Мекленбург — Пярэдняя Памеранія.

іншых беларускіх вязьняў, ды ня толькі гэтых першых, але навет і ўжо апалячаных Беларусаў.

Сьв. пам. Міхал Карвэцкі, настаўнік, аб якім ужо згадвалася, вельмі шмат дапамагаў Беларусам у Біркэнаў. Ён пазьней быў перавезены ў Дахаў, адтуль у Альлях[445], дзе й загінуў падчас бамбардаваньня Мюнхэну ў вапошнія дні перад канцом вайны.

Сьв. пам. доктар права Міхал Чэрэўка, мой старэйшы калега зь віленскай польскай гімназіі, былы старшыня Братняй Помачы студэнтаў віленскага ўнівэрсытэту, сын земляўласьніка з ваколіцаў возера Кромань (Налібоцкая пушча), у Бухэнвальдзе й Роттлебэродэ доўгі час меў розныя функцыі і шмат памагаў Беларусам ды браў іх у вабарону перад польскімі шавіністамі. Падчас эвакуацыі Роттлебэродэ быў застрэлены аховай лягеру пры спробе ўцёку.

Апрача ўжо раней успомненай Галіны Мурашкі былі яшчэ іншыя жанчыны Беларускі, якія, будучы функцыйнымі ў жаноцкіх лягерах Бжэзіна й Равэнсбрук, памагалі і апякаваліся Беларусамі.

Нарэшце вязьні-Ўкраінцы. Мне давялося прайсьці праз пяць нямецкіх канцэнтрацыйных лягераў. Усюды нешматлікія функцыйныя Ўкраінцы вельмі спагадліва адносіліся да Беларусаў ды памагалі, дзе і як маглі. Ім таксама, як і ўсім пералічаным вышэй, ад нас, былых вязьняў-Беларусаў, належыцца шчырая падзяка.

Дачыненьні вязьняў-Палякаў да Ўкраінцаў, за вельмі малымі выняткамі, былі вельмі варожыя, перадусім ад 1944 году, калі ў шмат якіх лягерах зьявіліся як дапаможныя ахоўнікі ўкраінскія эсэсаўцы. Іхныя зьверствы ды зьдзекі над вязьнямі (таксама і Ўкраінцамі) былі без параўнаньня горшымі, чымся Немцаў. Таму ўся злосьць Палякаў, прынамся ў тых лягерах, дзе я быў, вылівалася на Ўкраінцаў. У васноўнай масе Палякі з этнаграфічнай Польшчы мала ведалі, хто такія Беларусы, мы былі для іх нейкім племям Русінаў-Украінцаў, у іхнай злосьці ня раз даставалася ў той-жа самай ступені нам, Беларусам, як і Ўкраінцам. Вось дзеля гэтай прычыны ўкраінскія вязьні былі нашымі натуральнымі саюзьнікамі й братамі. Паняцьце *"білоўкраінца"* ці "малодшага брата" зьявілася ўжо пазьней на эміграцыі як ненармальны, хворы твор украінскіх нацыяналістычных арганізацыяў.

---

[445] **Алах** (ням. *Allach*) — канцэнтрацыйны лагер у сістэме лагераў Дахау, які дзейнічаў у 1943–1945 гг. у Мюнхене. Зняволеныя сярод іншага працавалі на мясцовай парцалянавай фабрыцы.

*Вінцэнт Жук-Грышкевіч*

## Рэфлексіі на сьмерць ксяндза Віктара Шутовіча[446]

Прачытаў я ў “Зьнічы”[447] № 76 артыкул-нэкралёг В. Карасэвіча[448], прысьвечаны ксяндзу Віктару Шутовічу[449], і зжахнуўся. Божа, чаму-ж нам, Беларусам, трэба цярпець столькі за сваё роднае слова, нават у пазнаньні Тваёй Божай Праўды ды ў малітве да Цябе? То-ж Ты абдарыў народы мовамі адпаведнымі, каб кожны зь іх на сваёй мове ня толькі разумеўся міжсобку, але й лепш разумеў рэлігійную навуку ды мог у лепшым і глыбейшым разуменьні выказаць Табе жалі, скаргі й просьбы свае. Усе-ж народы роўныя перад Табой, як і мовы іхныя. Чаму-ж тады мы мусім цярпець перасьлед мовы нашай ня толькі ў штодзённым жыцьці, але і ў Сьвятынях Тваіх, збудаваных нашымі-ж рукамі на Славу Тваю? Ды цярпець гэты перасьлед ня толькі ад недаверкаў, але і ад такіх-жа хрысьціян, як мы, толькі зь іншай мовай — ды ад біскупаў і сьвятароў з гэтай мовы? І не калісь даўно — у цемнаце сярэднявечча, а ў нашых часох у 20-м веку?

Такія рэфлексіі зьявяцца хіба што ў кожнага Беларуса, які прачытае нэкралёг, прысьвечаны ксяндзу Шутовічу. Але той-жа нэкралёг ськіруе нашы думкі, асабліва ў каталікоў старэйшых векам, да нашых дзіцячых гадоў і недалёкага мінулага з часоў польскай акупацыі Заходняй Беларусі. Прыпомнім мы тады, як вучылі нас маліцца на польскай мове, і як мы, не разумеючы мовы, мармыталі бяссэнсоўна польскія словы і таму думкамі былі невядома дзе, але толькі не ў малітве. Тое самае было, калі мы пашлі ў касьцёл, дзе ўся маса беларускіх вернікаў паўтарала незразумелыя польскія сло-

---

[446] Бацькаўшчына. № 9–10 (623–624). Жнівень 1964. С. 6–7.

[447] ***“Źnič”*** — рэлігійны часопіс, што выходзіў у Рыме ў 1950–1975 гг. пад рэдакцыяй а. Пётры Татарыновіча.

[448] **В. Карасэвіч** — псеўданім Вацлава Пануцэвіча.

[449] **Віктар Шутовіч** (1890–1960), рыма-каталіцкі святар, педагог, публіцыст. Пасвячоны ў святары ў 1913 г. у Вільні. Быў вікарыем у парафіях Барадзенічы Браслаўскага павета, у польскай парафіі Тжцянэ, у Харошчы пад Беластокам (да 1943 г.). Пасля адступлення немцаў пераехаў у Мінск, дзе стаў пробашчам катэдральнага касцёла. Арыштаваны бальшавікамі ў студзені 1945 г., да 1956 г. знаходзіўся ў лагерах Комі АССР. Апошнія гады быў пробашчам у Барысаве.

вы ў малітве або слухала польскае казаньне, незразумелае для іх. Ксяндзамі, як правіла, былі чужынцы — Палякі. Калі-ж трапляўся Беларус — дык і яму ягоныя зьверхнія польскія духоўныя ўлады загадвалі маліцца й казаньні казаць па-польску — для сваіх-жа братоў Беларусаў. Калі-ж гэты ксёндз трымаўся прынцыпаў хрысьціянскай справядлівасьці, хацеў быць запраўдным пастырам свайго народу й маліўся й прамаўляў да яго ў зразумелай яму беларускай мове — тады яго спатыкаў лёс ксяндза Шутовіча. Так пацярпелі ад польскай каталіцкай гіерархіі й дзяржаўнай адміністрацыі, а найбольш хіба ад арцыбіскупа Яблжыкоўскага[450] ксяндзы — і то выдатныя — Абрантовіч[451], Станкевіч[452], Цікота[453], Гадлеўскі[454], Рэшаць[455],

---

450 **Рамуальд Ялбжыкоўскі** (пол. *Romuald Jałbrzykowski*, 1876–1955), польскі каталіцкі дзеяч, доктар тэалогіі, ад 1926 г. быў арцыбіскупам Віленскім.

451 **Фабіян Абрантовіч** (1884–1946), каталіцкі святар, адзін з ідэолагаў і заснавальнікаў беларускага хрысціянскага руху. Пасьля рэвалюцыі 1917 г. працаваў у Менску, на пачатку 1920-х гг. выкладчык эвакуяванай з Менска ў Наваградак, а пазней у Пінск каталіцкай семінарыі. У 1929–1938 гг. узначальваў каталіцкую місію ўсходняга абраду ў Манчжурыі і Кітаі. Улетку 1939 г. знаходзіўся ў Польшчы. Арыштаваны савецкімі ўладамі, памёр ад катаванняў у Бутырскай турме ў Маскве.

452 Маецца на ўвазе Адам Станкевіч.

453 **Андрэй Цікота** (1891–1952), рэлігійны і культурна-грамадскі дзеяч, каталіцкі святар. Адзін з заснавальнікаў Беларускай хрысціянскай дэмакратычнай злучнасці. Пасля 1923 г. жыў у Друйскім кляштары айцоў марыянаў, у 1933–1939 гг. двойчы абіраўся генералам ордэна айцоў марыянаў у Рыме. У 1939 г. накіраваны ў Харбін, дзе заняў пасаду адміністратара каталікоў усходняга абраду. У 1948 г. арыштаваны, скончыў жыццё ў савецкім лагеры.

454 **Вінцэнт Гадлеўскі** (1888–1942), нацыянальны дзеяч, каталіцкі святар. Адзін з заснавальнікаў і лідараў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. У міжваенны час за беларускую нацыянальную дзейнасць арыштоўваўся польскімі ўладамі. У другой палове 1930-х гг. быў выдаўцом і рэдактарам газеты “Беларускі фронт”. Заснавальнік і ідэолаг Беларускай незалежніцкай партыі. Ад верасня 1941 г. у Менску, прызначаны галоўным школьным інспектарам пры Генеральным камісарыяце Беларусі. Арыштаваны і расстраляны немцамі.

455 **Язэп Рэшаць** (1890–1958), рэлігійны дзеяч, педагог. Вучыўся ў Рыме. Ад пачатку 1920-х гг. працаваў на тэрыторыі Заходняй Беларусі, у Гродне і Вільні (выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі і Віленскім універсітэце). З прыходам біскупа Ялбжыкоўскага быў пераведзены ў Беласток і далей у Мазовію. У 1938 г. выехаў у ЗША. Жыў у бенедыкцінскім кляштары Св. Пракопа ў Лайлі (Ілінойс).

Глякоўскі, Татарыновіч[456], Гэрмановіч[457], Тарасэвіч[458] ды шмат іншых. Гісторыя ніколі не забудзе гэтай ганьбы. Мясцамі даходзіла да таго, што польскія ксяндзы, надужываючы свой сьвятарскі аўтарытэт, ашуківалі несьвядомых сялян. Яны цьвердзілі, што Бог ня выслухае малітвы на беларускай мове, што толькі па-польску й па-лаціне можна маліцца, бо, нават гаварылі яны, Матка Боская гаварыла па-польску, недарма-ж яна абвешчана каралевай кароны польскай.

Такое цёмнатворства існавала толькі ў Заходняй Беларусі, бо што датычыць Савецкага Саюзу — дык там ішло і ідзе далей адкрытае зьнішчэньне ўсіх рэлігіяў, як такіх. Гэта кожнаму ведама. Польшча-ж была хрысьціянскай дзяржавай і на ўвесь сьвет хвалілася свабодай і талеранцыяй да ўсіх рэлігіяў, а адначасна дыскрымінавала праваслаўе і перасьледавала Беларусаў за ўжываньне сваёй роднай мовы ў сьвятынях.

У тым-жа часе шматлікія хрысьціянскія місіянэры пранікалі ў самыя глухія закуткі сьвету, да розных дзікіх і паўдзікіх плямёнаў і, каб несьці ў іхнае асяродзьдзе Хрыстову навуку, зразуменьне яе — вучыліся іхных цяжкіх моваў і дыялектаў самі, каб прамаўляць на

---

456 **Пётра Татарыновіч** (1896–1978), каталіцкі святар, педагог і публіцыст. Перад Другой сусветнай вайной працаваў у парафіях Заходняй Беларусі. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Рыме, дзе выдаваў беларускі каталіцкі часопіс *“Źnič”*, заснаваў беларускую рэдакцыю “Радыё Ватыкана”.

457 **Язэп Германовіч** (1890–1978), рэлігійны дзеяч, пісьменнік, педагог. Друкаваўся ў беларускіх выданнях “Крыніца”, “Хрысціянская думка”, пісаў пад псеўданімам Вінцук Адважны. У 1932–1936 і 1938–1948 гг. працаваў у Харбіне ва Усходняй місіі. У 1948 г. быў арыштаваны кітайскімі камуністычнымі ўладамі і выдадзены Саветам, асуджаны на 25 гадоў прымусовых лагерных работ. Адбываў пакаранне ў Сібіры. Па вызваленні ў 1955 г. выехаў у Польшчу, адтуль у 1959 г. пераехаў у Рым і далей у Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Лондане ў Марыян Хаўзе.

458 **Ян Тарасевіч** (1892–1978), рэлігійны і грамадскі дзеяч. З 1911 г. жыў у ЗША. У 1917–1918 гг. вывучаў тэалогію ў Манрэалі (Канада), у 1925 г. закончыў Фрыбурскі каталіцкі ўніверсітэт у Швейцарыі. У 1923 г. быў рукапакладзены на святара. У 1926 г. выкладаў у семінарыі ў Нью-Ёрку. З 1937 г. працаваў у кляштары ў Лайле каля Чыкага. У 1941 г. стаў адным з заснавальнікаў і старшынёй (да 1948 г.) Беларуска-Амерыканскай нацыянальнай рады ў Чыкага. Аўтар шэрагу філасофска-тэалагічных трактатаў, друкаваўся на старонках міжваенных заходнебеларускіх і паваенных эміграцыйных рэлігійных перыёдыкаў. Пахаваны на могілках кляштара Св. Пракопа ў Лайлі (Ілінойс).

іх да сваіх вернікаў і такім чынам сумленна выконваць абавязкі апосталаў хрысьціянства. У нас-жа, у геаграфічным цэнтры Эўропы было зусім наадварот: польскае духавенства з дапамогай дзяржаўнай адміністрацыі змушала Беларусаў слухаць і ўжываць у рэлігійным жыцьці незразумелую для іх мову пастыраў — польскую мову, зусім не клапоцячыся, ці вернікі разумелі гэтую мову, ці не, навука Хрыстова ў гэтай мове пранікала ў іх душы, ці не. Пра апошняе дбалі найменш. Пробашч маёй парахвіі, напрыклад, сьмяяўся з майго *"войчэнаш курысь ес"*[459], але не паклапаціўся вытлумачыць па-беларуску значэньне слоў гэтай вялікай малітвы. Малітва на незразумелай мове адмаўлялася мэханічна, бяз удзелу пачуцьця й сьведамасьці. Яшчэ адзін прыклад: гаспадыня мэханічна адмаўляла малітву, а яе сьведамасьць сачыла за тым, што робіцца ў хаце й каля хаты. Тым часам, у хату ўвайшла курыца й скочыла на стол. Гаспадыня перарвала малітву й крыкнула: *"Акыш, каб цябе каршун!"* — а то й горш вылаялася, пасьля чаго прадаўжала сваю малітву. Мясцовыя палякі любілі расказваць пры кілішку анэкдоты пра такія выпадкі. Але гэта былі ня анэкдоты, а праўдзівыя жыцьцёвыя факты. Гэта была прафанацыя Хрыстовай веры, а анэкдоты й насьмяханьне Палякаў былі зьдзекам над душой беларускай, імі-ж патаптанай.

Хто-ж быў вінаваты за гэты зьдзек і прафанацыю рэлігіі? Польскія ксяндзы. Ім хадзіла перш за ўсё пра тое, каб не дапусьціць у рэлігійнае жыцьцё беларускай мовы, каб Беларусы гаварылі малітвы па-польску, хоць і не разумеючы зьместу. Ім хадзіла пра тое, каб праз польскія пацеры Беларусы палячыліся. Яны служылі ня справе хрыстовай веры, а польскай дзяржаве. Яны былі польскімі дзяржаўнымі ўрадоўцамі ў касьцёле, а ня пастырамі сваіх авечак. Яны патапталі аб'яўленьне Сьвятога Духа, дзякуючы якому апосталы Хрыстовыя пазналі ўсе малітвы ды панесьлі ў гэтых мовах Хрыстову навуку ўва ўсе канцы сьвету. Польскія ксяндзы маюць на сваім сумленьні не аднаго Беларуса, які пры такіх адносінах зьняверыўся, стаў рэлігійна абыякавым або і атэістам.

Хтосьці спытае, чаму Беларусы не пратэставалі? Пратэставалі і яшчэ як! Але пратэсты на мясцох былі здушаны польскай паліцыяй, а весткі аб гэтым і пратэсты ў беларускай прэсе былі

[459] Гаворка пра першы радок малітвы "Ойча наш" па-польску — *"Ojcze nasz, któryś jest w niebie"*.

канфіскаваны польскай цэнзурай. Польская-ж прэса была за адно з прыгнятальнікамі.

Чаму-ж тады Ватыкан дапускаў да такой ганьбы? Да Рыму было далёка, а польскія ўлады старанна кантралявалі ўсе зносіны з заграніцай. У Ватыкане-ж сядзела моцная польская рэпрэзэнтацыя, якая прадстаўляла рэлігійнае жыцьцё ў Польшчы ў сваёй вэрсіі й старалася не дапусьціць пабочных, няпрыемных для яе вестак. Да таго-ж голас у Ватыкане мог мець толькі біскуп, да годнасьці якога не дапускалі Беларусаў тыя-ж цёмнатворцы на працягу стагодзьдзяў. А найважнейшай перашкодай быў канкардат паміж Ватыканам і Польшчай[460], паводле якога ніхто ня мог умешывацца ўва нутраныя справы каталіцкага касьцёлу ў Польшчы. Канкардат гэты й быў выкарыстаны польскімі дзяржаўнымі й каталіцкімі духоўнымі ўладамі дзеля самаволі ў дачыненьні да Беларусаў. Таму польскія біскупы маглі забараніць ўжываньне беларускай мовы ў касьцёле ды пераводзіць ксяндзоў-Беларусаў зь беларускіх парафіяў. Ксяндзы нашы апынуліся ў Мазуршчыне, у цэнтральнай Польшчы, у Амэрыцы ці Кітаі, але не маглі ўжо мець парафіі ў Беларусі. Вось характэрны прыклад. У 1922 годзе на фэсьце ў Новым Пагосьце ў Браслаўскім павеце было з суседніх парафіяў 24-х ксяндзоў, зь якіх быў толькі адзін Паляк і адзін Лятувіс (з Браслава), а ўсе іншыя 22 былі Беларусы. Праз наступных-жа 5 год, г. зн. у 1927 г., ня было ўжо ніводнага ксяндза Беларуса на парафіі ва ўсім Браслаўскім і Дзісьненскім паветах. Тое самае было і ў іншых паветах. Трымаліся яшчэ нейкі час толькі айце Марыяне ў Друі ды чутны былі водгукі змаганьня за беларускую мову ў касьцёле ксяндза Гадлеўскага — у другім канцы Віленшчыны — у Жодзішках. На арцыбіскупскі пасад у Вільні прыйшоў Яблжыкоўскі. Ён забараніў вернікам чытаць “Беларускую Крыніцу”, ворган Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі[461]. Беларускія ксяндзы, што ўтрымаліся ў краі не на парафіях, былі пад сталым наглядам духоўных і паліцыйных уладаў.

---

[460] Маецца на ўвазе канкардат паміж Ватыканам і Польшчай, падпісаны ў 1925 г.

[461] **Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД)** — палітычная партыя нацыянальна-дэмакратычнага характару, заснаваная ў 1917 г. у Петраградзе. Сярод заснавальнікаў былі Фабіян Абрантовіч, Вінцэнт Гадлеўскі, Адам Станкевіч і інш.

Тое, што прайшоў ксёндз Шутовіч, ёсьць найлепшай ілюстрацыяй рэлігійнага жыцьця на Беларусі пад акупацыямі: польскай, нямецка-гітлераўскай і расейска-бальшавіцкай. Бязумоўна, пад расейска-бальшавіцкай акупацыяй было яму найгорш, бо тут, апрача цярпеньняў духовых, дайшлі яшчэ жахлівыя цярпеньні фізычныя. Але тут ксёндз Шутовіч цярпеў ад ведамых ворагаў, а не ад самых хрысьціян, што на кожным кроку падкрэсьліваюць сваю вернасьць каталіцкаму касьцёлу.

У Савецкім Саюзе ксёндз Шутовіч выконываў такое самае заданьне, якое выконывалі першыя апосталы Хрыста на пачатку хрысьціянскае эры. Яны, натхнёныя Сьвятым Духам, пайшлі ў народныя гушчы з Хрыстовай навукай, не баючыся варожых хрысьціянству сілаў, ды ў цяжкіх абставінах закладалі падваліны пад хрысьціянскую царкву, і не адзін зь іх загінуў мучанікам на сваім цярністым шляху. Такім-жа, як апосталы, быў і ксёндз Шутовіч. Ён пайшоў адбудоўваць з руінаў каталіцкі касьцёл на Беларусі бяз ніякага падтрыманьня, калі прыйшла бальшавцікая навала. Ён адзін рабіў працу за ўсіх і, мучаны ворагамі Бога доўгімі гадамі, загінуў сьмерцю мучаніка ад непасільнай апостальскай працы й перасьледу. Ён новы мучанік за Хрыстову веру з нашага народу. Уся Беларусь будзе ганарыцца ім і будзе рабіць пілігрымкі да сьціплай магілы яго пад Барысавам[462]. А прыдзе час, што і ўвесь хрысьціянскі сьвет прызнае мучанікам за хрыстову веру гэтага сьвятога чалавека.

Лічу за вялікі гонар, што меў шчасьце спаткацца з гэтым вялікім сьвятаром — хоць два разы толькі. Было гэта ў 1922 годзе восеньню. Тады адбываліся першыя выбары ў польскі сойм. Тады была яшчэ такая-сякая свабода. Беларусы йшлі на выбары ў гэтак званым блёку нацынальных мяншыняў Польшчы пад №16. На маю долю выпала быць выбарным інструктарам на Браслаўскі й Дзісьненскі паветы ад Беларускага Выбарчага Камітэту ў Вільні. Я езьдзіў па мястэчках і вёсках Браслаўскага павету, зьбіраў сходы сялян і арганізоўваў мясцовыя выбарчыя камітэты. Трапіў і ў Барадзенічы[463]. Даведаўся, што там быў ксёндз-Беларус — зайшоў да яго. Ксяндза Шутовіча ня было дома. Я пагаварыў толькі зь ягонай сястрой, ад якой даведаўся, што ў нядзелю будзе фэст у аднэй з капліцаў барадзеніцкай парафіі,

[462] Віктар Шутовіч пахаваны на старых барысаўскіх могілках.

[463] **Барадзенічы** — цяпер вёска ў Браслаўскім раёне Віцебскай вобласці.

на які зьбярэцца шмат народу. Я пастанавіў скарыстаць з гэтай нагоды. Тады ў памешканьні ксяндза Шутовіча мне кінулася ў вочы вельмі-ж скромная абстаноўка.

У нядзелю я прыехаў у капліцу й пасьля багаслужбы зрабіў мітынг. Было шмат сялян, і яны слухалі мяне ўважна. Сярод сялянскае масы я заўважыў ксяндза Шутовіча. Ён быў да канца сходу й пры абмене думак у часе выбараў мясцовага выбарчага камітэту. Голасу ён не забіраў. Сход прайшоў гладка, ніякай апазыцыі ня было. Пасьля сходу я падыйшоў да ксяндза Шутовіча й пазнаёміўся зь ім. Ён запрасіў мяне на гарбату. Вельмі цешыўся з беларускага выбарчага руху й запэўніваў мяне, што ў Браслаўскім павеце № 16 атрымае шмат галасоў, бо тут ёсьць многа сьвядомых Беларусаў. Распытваўся пра мяне й Віленскую Беларускую Гімназію, якую я нядаўна скончыў. Радзіў мне дабівацца на ўнівэрсытэт, бо ў нас мала інтэлігенцыі, казаў ён.

Ксёндз Шутовіч быў вельмі простым і непасрэдным у дачыненьні зь людзьмі. Ён дбаў пра сваіх вернікаў, і тыя любілі яго. З усімі справамі яны зьвярталіся да яго, і ён дапамагаў, як родны бацька. Таму шнур людзей у ягоным памешканьні, здавалася, ніколі не перарываўся.

Другі раз я спаткаўся з ксяндзом Шутовічам на фэсьце ў Новым Пагосьце пасьля мітынгу. Там я меў даволі моцную перапалку з “*вызваленцамі*”. Польская радыкальная партыя “Вызваленьне”[464] падшывалася пад патрэбы Беларусаў, нават іх агітатары прамаўлялі па-беларуску ды пашыралі сваю літаратуру ў беларускай мове. Мне было цяжка змагацца зь імі, але дапамаглі мясцовыя сьведамыя Беларусы (асабліва адзін студэнт-мэдык, прозьвішча яго не магу прыгадаць), і я перамог. Мы выбралі мясцовы выбарчы камітэт, а вызваленцы паехалі зь нічым. Пасьля мітынгу я зайшоўся да тамтэйшага ксяндза. Пробашчам у Новым Пагосьце быў Беларус (прозьвішча ня памятаю), ён прыняў мяне прыхільна. Нечакана я натрапіў на вялікую групу ксяндзоў-Беларусаў, якія прыехалі на фэст. У сталовай, дзе яны сядзелі, я ня чуў іншай гутаркі, як толькі беларускую. Яны ведалі ўжо пра вынікі мітынгу й зацікавіліся мной. Абступілі мяне й распытваліся пра падрабязнасьці мітынгу.

[464] Маецца на ўвазе **Польская народная партыя “Вызваленне”** (пол. *Polskie Stronnictwo Ludowe “Wyzwolenie”*) — польская сялянская партыя левацэнтрысцкай арыентацыі, якая дзейнічала ў 1915–1931 гг.

Быў тут і ксёндз Шутовіч. Мы сустрэліся зь ім, як знаёмыя, і ён мне даў нейкія даручэньні для сваёй сястры ці пляменьніцы ў Вільні, што была загадчыцай беларускага прытулку пры Беларускай Гімназіі. У гутарцы са мной ён наракаў на польскіх асаднікаў, якія былі вельмі агрэсыўнымі да ўсяго беларускага й шмат прыкрасьцяў рабілі нашым сялянам, а нават ксяндзам-Беларусам. Ён раіў мне высьцерагацца іх, бо могуць пабіць, пакалечыць, і расправы на іх ня знойдзеш, казаў ён. На разьвітаньне раіў мне, каб я — малады й без дасьветчаньня — пры ўсёй маёй дазнанасьці, асабліва-ж палітычнай, не пераставаў быць хрысьціянінам.

У далейшым жыцьці мне не давялося спаткацца з ксяндзом Шутовічам. Мае жыцьцёвыя дарогі ня скрыжаваліся больш зь ягонымі. Але ягоная асоба сапраўднага сьвятара, ягоныя словы да мяне моцна заселі ў маёй памяці.

# ГІСТОРЫЯ АДУКАЦЫІ

*Натальля Арсеньнева*

## Кузьня духу

(Крыху ўспамінаў)[465]

*Шумна у клясе, шумна і нудна,*
*Сьцены шырокія душаць мяне.*
*Словы настаўніка ціха, марудна*
*Льлюцца, іх слухаць ня хочацца мне.*
*Там, ля дзьвярэй, так вясёла сьмяюцца,*
*Тыя — чытаюць, а тыя — крычаць.*
*Я-ж, я гляджу на праменьні, што йрвуцца*
*Ў цёмную клясу і ў шыбах гараць.*
*А за вакном штось шапочуць таполі,*
*Неба сінее прыветная даль.*
*Даль, што ня зьведаць яе нам ніколі,*
*Сьветла-празрыстая, быццам крышталь.*
*Дыхае сьвежасьцяй сад пажаўцелы,*
*Ў салі "Ад веку мы спалі" пяюць…*
*Нудна сядзець мне у клясе дзень цэлы,*
*Калі праз вокны паціху, нясьмела*
*Восені гукі плывуць…*

Як даўно гэта было! Колькі год таму? Лепш ня лічыць… А яшчэ й сяньня, перачытваючы гэты, адзін зь першых маіх "школьных вершаў", я ня толькі выразна бачу й нашую вялікую, змрочную клясу, ня толькі чую манатонны голас настаўніка эканамічнае геаграфіі (нудная рэч!) і прыпамінаю постаці маіх сяброўак і сяброў, але адчуваю настрой гэтае даўно мінулай гадзіны, той дзіўны восеньскі смутак, якім так часта сьціскалася тады, ды сьціскаецца й сяньня маё сэрца днямі, калі *"дыхае сьвежасьцяй сад пажаўцелы"*, калі на сьвеце пануе восень.

---

465 Бацькаўшчына. № 16 (500). Вялікдзень 1960. С. 5.

Чым-жа патлумачыць тое, што далёкія дні юнацтва, праведзеныя на школьнай лаўцы Першае Віленскае Беларускае Гімназіі, не патрапілі зацерціся ў маёй памяці, як шмат чаго іншага, што жывуць яны й хвалююць мяне даўно аджытымі радасьцямі й смуткамі навет яшчэ тут, на далёкім, цяжкім выгнаньні? Я думаю — таму, што мне давялося вучыцца якраз не ў якой іншай, а ў Першай Віленскай Беларускай Гімназіі, у старых Базыльянскіх мурох роднае Вільні.

Створаная зь вялікімі цяжкасьцямі й намаганьнямі, проста зь нічога, колькімі гарачымі, натхнёнымі людзьмі, яна і ў вучнях будзіла гэткую-ж самую ймклівасьць. У ейных мурох ня можна было заставацца пасыўным, абыякавым. Мы, групка гарачае, як заўсёды гэта бывае, моладзі, так гэта і адчувалі. І таму з мыроў улюбёнае школы шмат, шмат хто з нас вынес ня толькі большыя ці меншыя веды, але й нясьцішнае каханьне да ўсяго роднага, да свае школы, настаўнікаў, Вільні, да свайго народу, да Бацькаўшчыны, ды жаданьне бачыць яе вольнаю й шчасьліваю.

У часох, калі я паступіла вучыцца ў Гімназію, а было гэта неўзабаве пасьля ейнага заснаваньня, склад настаўнікаў нязвычайна спрыяў якраз патрыятычнаму, нацыянальнаму ўзгадаваньню беларускае моладзі. Досыць сказаць, што ў нас выкладалі браты Луцкевічы (Іван — заснавальнік Гімназіі, нядаўна быў памёр, і я яго, на вялікі жаль, не засьпела). А. Смоліч, аўтар адзінае ў нас у той час ды шырака карыстанае й сяньня "Геаграфіі Беларусі", фізык Трэпка[466], браты Багдановічы[467], сп-ня Дубейкаўская (тады яшчэ Ю. Мэнкэ), вядомая ўсім нашым вілянчуком цётка Алёна[468], ксёндз

466 Маецца на ўвазе Антон Неканда-Трэпка.

467 Вядома, што ў Віленскай беларускай гімназіі выкладалі Вячаслаў Багдановіч (Закон Божы) і ягоны брат **Генадзь Багдановіч** (1885–1938?), грамадскі дзеяч, педагог. З 1919 г. настаўнічаў у Дрысе, пазней у Віленскай беларускай гімназіі. Выдаваў газету "Незалежная думка". У 1924 г. выехаў у СССР, працаваў у Віцебскім педагагічным тэхнікуме і Ветэрынарным інстытуце. У 1930 г. арыштаваны па справе "Саюза вызвалення Беларусі". Высланы ў г. Слабадскі Кіраўскай вобласці. У 1937 г. арыштаваны паўторна. Загінуў у зняволенні.

468 **Алена Сокалава-Лекант** (1893–1960), настаўніца беларускай мовы і арыфметыкі ў Віленскай беларускай гімназіі. Уваходзіла ў кіраўніцтва Беларускага прафесійнага настаўніцкага саюза. У 1919 г. стала сябрам Беларускага навуковага таварыства ў Вільні. Пасля 1944 г. рэпрэсаваная савецкімі органамі, высланая. У 1950-я гг. вярнулася ў Вільню.

Адам Станкевіч, ну й перадусім — улюблены, строгі настаўнік, хросны бацька мой на паэтычнай ніве, пісьменьнік Максім Гарэцкі. Ён меў на мяне найбольшы ўплыў, і хто ведае, ці сталася-б я наагул паэткай Натальляй Арсеньневай, каб не ягоныя ўважлівыя, крытычныя, але й сьвятыя для мяне дачыненьні да майго таленту, які толькі-што прабіваўся, як парастак з-пад зямлі, каб не ягоныя добрыя парады, ягоныя назіраньні за маім ростам. А Антон Луцкевіч, наш выкладчык гісторыі, а пасьля й беларускае літаратуры! У ім проста вычувалася глыбокая пашана й каханьне нашае мінуласьці, піэтызм да кажнага слова нашых старых хронікаў, кнігаў. А якія цікавыя рэчы расказваў ён нам пра Максіма Багдановіча, зь якім быў у вельмі блізкіх дачыненьнях, як перахоўваў ён кажны шматок паперы, запісаны рукою паэты, кажны ягоны ліст! Ён, Луцкевіч, якраз і навучыў мяне любіць і разумець Багдановіча, імкнуць па ягоных сьлядох, кахаць тое, што ён кахаў і, не лякаючыся, упарта йсьці за ягонаю радаю паэту:

*Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,*
*Абрабіць яго трэба зь цярпеньнем.*
*Як ударыш ты ім — ён як звон зазьвініць,*
*Пырснуць іскры з халодных каменьняў*[469].

Цяжкія тады былі часы. І халодныя, і галодныя. Настаўнікі й вучні цярпелі шмат нястачаў. Вайна (праўда, ня гэтак, як апошняя перажытая намі) выбіла жыцьцё людзей з прывычнае каляіны й шмат каму было цяжка ўзноў трапіць у яе. Настаўнікі працавалі месяцамі бяз грошы, раніцай у клясах, па абедзе — на грамадзкай ніве, а начамі — пішучы артыкулы, апавяданьні — творачы. Вучні, паўгалодныя, дзяліліся кніжкамі, сшыткамі, кавалкам хлеба. Крыху дапамагала амэрыканская ІМКА[470], дакармліваючы нас у вадмысловай кухані, але ўсё гэта сяньня забылася, зацерлася ў памяці, як запраўды нявартае ўвагі. Але жыцьцё, якім жыў тады наш малады дух, не забудзецца, хіба, ніколі. Не забудзецца, не памрэ ў памяці й кузьня гэтага духа — Першая Віленская Беларуская Гімназія, якая

[469] Урывак з верша Максіма Багдановіча "Песняру".

[470] **ІМКА** (*YMCA, Young Men's Christian Association*) — міжнародная хрысціянская культурна-асветніцкая арганізацыя, заснаваная ў 1844 г. у Лондане. Ажыццяўляла культурную, асветніцкую, спартыўную дзейнасць, асабліва сярод моладзі.

на ўсё жыцьцё зрабіла мяне тым, чым я ёсьць. Загартаваўшыся ў гэтай кузьні, я магла сьмела пісаць ў найцяжэйшыя часіны мае жыцьцёвае вандроўкі — змагарныя, кагадзе мінулыя гады, пад кулямі й бомбамі:

*Лёс мне казаў сяньня быць амазонкай,*
*Меч даў у рукі, а сэрцу адвагу,*
*Годзе сьпяваць па сасоньніках гонкіх,*
*Годзе зьмярканьні абдорваць увагай.*
*Сьмела наперад, ня ў сонечны вырай,*
*Як бы ня надзіў ён мёдам і хлебам,*
*Але праз шэры трыпутнік і пырнік*
*Бацькаўскай сьцежкай, радзімаю глебай.*
*Сьмела, наперад! Насустрач лагчынам,*
*Вольхам, апырсканым травенскай цьвільлю,*
*Хмарам пярэстым, падзеям і чынам,*
*Дзе пехатою, а дзе — і на крыльлі!*
*Іх — не зламіла нам горкае ўчора,*
*Іх нам ня зьвяжа й змагарнае сяньня.*
*Сьмела, наперад, хай рэха уторыць*
*Нашаму маршу па сьцежках жарсьцьвяных!*
*Клікаць жыцьцё, жыць скупою надзеяй*
*Сьмешна, — пакору час пылам распыліць.*
*Сяньня — мы самі жыцьцём палымнеем,*
*Сяньня мы самі й надзея, і сіла!*
*Сьмела-ж, наперад, ня ў вырай прывольны,*
*Як бы ня надзіў ён мёдам і хлебам,*
*Але па нашую ўпартую долю,*
*Птушка, што ўсё шчэ лунае ў паднеб'ях!*[471].

[471] Верш Наталлі Арсенневай "Сьмела, наперад!" (1944).

*А. Негнявіцкі*[472]

## Беларуская гімназія ў Навагрудку
Успаміны[473]

*Вучыся, нябожа, вучэньне паможа*
*Змагацца зь нядоляй, зь няволяй…*
*Што муча сягоньня, што думкі трывожа,*
*Зьбяжыць і ня прыйдзе ніколі.*

Янка Купала

Беларускія гімназіі, што існавалі пасьля Першай сусьветнай вайны ў Польшчы, згулялі ці не найбольшую ролю ў сэньсе далекасяжнасьці, трываласьці й прагрэсу адраджэньня нашай Бацькаўшчыны праз навучаньне і ўзгадаваньне нашага маладога пакаленьня, якое, прайшоўшы цярністы шлях, прыймае сягоньня актыўны ўдзел у далейшым змаганьні за волю й незалежнасьць Беларусі. Да ліку гэтых гімназіяў належала й Беларуская Гімназія ў Наваградку, што зьяўлялася ня толькі кузьняй навучаньня і ўзгадаваньня моладзі, але й цэнтрам аб’яднаньня сьведамага беларускага элемэнту й пашырэньня па цэлай Наваградчыне, а можа й далей, узгадаваўчае нацыянальнае працы. Настаўніцкая штодзённая праца, што вымагала цярплівасьці і ахвярнасьці, не зьяўлялася тады аб’ектам, які прыносіў эфэктыўныя сукцэсы, славу й матарыяльныя выгады. Звычайна настаўнікі, пасеяўшы зерне веды й нацыянальнага ўзгадаваньня на ніве беларускай, часта трацілі свае сілы і адыходзілі ад нас у вечнасьць незаўважанымі грамадзтвам. Гэтаму спрыяла ў значнай меры няволя каляніяльнае сыстэмы нашай Бацькаўшчыны. Так сталася з апошнім дырэктарам Наваградзкай Беларускай Гімназіі Я. Цеханоўскім, які пасьля закрыцьця гімназіі быў высланы з Наваградчыны й неўзабаве памёр на высланьні[474]. Праўдападобна й некаторыя старэйшыя настаўнікі, якія не пакінулі роднага краю, ужо ня жывуць.

---

[472] ***А. Негнявіцкі*** — псеўданім Аляксандра Орсы.

[473] Бацькаўшчына. № 44 (326). 28 кастрычніка 1956. С. 3–4; № 45 (327). 4 лістапада 1956. С. 3; № 46 (328). 11 лістапада 1956. С. 3–4; № 49 (331). 2 сьнежаня 1956. С. 3.

[474] Ян Цеханоўскі памёр у 1938 г. у Ашмянах, куды быў скіраваны на працу.

Дзеля таго, што я зьяўляюся адзіным настаўнікам на эміграцыі гэтае гімназіі і што, праўдападобна, шмат чаго няведама шырэйшаму грамадзтву зь яе жыцьця, лічу сваім абавязкам пакінуць у форме кароткіх успамінаў сьлед для гісторыі, тым больш, што мой удзел у жыцьці гэтае гімназіі быў амаль ад пачатку да ліквідацыі яе польскай уладай — на пачатку ў ролі апякуна свайго брата — вучня, а пазьней ужо ў ролі настаўніка.

Арганізацыя Наваградзкай Беларускай Гімназіі была зусім адменная ад арганізацыі гімназіяў у нармальна існуючых гаспадарствах, якія прызначаюць на гэта пэўныя субсыдыі, настаўнікаў, будынак і г. д. Яна ня мела гэтых нармальных умоваў апрача моцнае волі і ахвярнасьці настаўнікаў ды сьведамае кампактнае масы беларускага жыхарства Наваградчыны. Дзеля большага зразуменьня паўстаньня гімназіі ў паняволенай Беларусі неабходна хоць коратка зьвярнуць увагу на пераходныя гістарычныя падзеі, што адбыліся перад адкрыцьцём яе ды спрыялі заніку гэтак доўга дзеючай забароны беларускага школьніцтва расейскаю ўладаю.

У верасьні 1915 г. заходняя частка Наваградзкага павету з горадам Наваградкам была занятая Немцамі, і расейска-нямецкі фронт устабілізаваўся да канца Першае сусьветнае вайны на Нёману і яго даплыву Сурвячы. У часе вайны ўсе мястэчкі й вёскі Наваградчыны ў франтавой паласе былі зьнішчаныя дашчэнту, і на іхных месцах былі збудаваныя акопы ды рознага выгляду бліндажы. У 1919 г. Немцы адыйшлі, і Наваградчыну занялі бальшавікі, якія адчынілі ў г. Наваградку расейскую школу другой ступені. Ня доўга прыйшлося існаваць гэтай школе, бо Наваградчына дый уся Беларусь стала пляцдармам новых ваенных падзеяў паміж ужо бальшавікамі й Польшчай. Зьнішчэньне ды абядненьне ад расейска-нямецкай вайны яшчэ больш пашырылася ў Наваградчыне ў выніку некалькіразовага пераменнага пераходу ваюючых арміяў. Голад як вынік даўгагадовай вайны спрычыніўся, асабліва ў усходняй Наваградчыне, да сьмерці значнай колькасьці жыхарства, якое вярнулася на свае котлішчы й жыло ў землянках. У 1921 г. нарэшце быў падпісаны Рыскі мір паміж Польшчай і бальшавікамі, і Наваградчына была прылучана да Польшчы. Раптоўная зьмена расейскага каляніхатара на польскага была ня лепшаю для беларускага насельніцтва і ў першую чаргу для беларускай інтэлігенцыі, якая была адсунена ад дзяржаўных і грамадзкіх устаноў, каб даць мейсцы Палякам з цэнтру Польшчы ды насаджаным на

беларускай зямлі польскім асаднікам з мэтаю палянізацыі. Гэтае духовае і аграрнае паняволеньне беларускага насельніцтва змушала яго шукаць выхаду з такога прымусовага тупіку.

У самым Навагрудку было ў бальшыні жыдоўскае жыхарства, якое пад уплывам даўгое русыфікацыі трымалася расейшчыны, што ўплынула на адкрыцьцё прыватнае расейскае гімназіі гуманістычнага тыпу ў 1921 г. як прадаўжэньне бальшавіцкай школы другой ступені. Настаўнікі яе былі пераважна Беларусы, Жыды, Татары й Расейцы. Гаспадаром гімназіі быў Бацькаўскі камітэт з старшынёю сьвятаром Б. Бабкоўскім (пазьнейшым Япіскапам Бэнэдыктам[475]). Маладая польская ўлада, калі яшчэ быў тэатэрычна модны прапагандовы лёзунг *“За нашую й вашую вольнасьць”*, лічылася з фактам існаваньня гімназіі, але ніякае матарыяльнае дапамогі не давала. Абітурыенты гімназіі ня прыймаліся ў польскія школы таму, што польская школьная ўлада ня прызнавала матуральных пасьветчаньняў раўнапраўнымі з польскімі матурамі. З гэтае прычыны Жыды й другія паступова пачалі пераходзіць у польскую гімназію, што прысьпяшыла замену расейскае гімназіі на беларускую.

Ужо ад самага пачатку існаваньня гімназіі настаўнікі — Беларусы й сьведамыя прадстаўнікі грамадзтва пачалі паступовы пераход гімназіі з выкладовае расейскае мовы на беларускую. З гэтаю мэтай быў запрошаны беларусавед Я. Цеханоўскі, які пачаў выкладаць беларускую мову ў старэйшых клясах, а малодшыя клясы поўнасьцю перайшлі на выкладовую беларускую мову. Такім чынам праз пару гадоў Навагрдзкая гімназія ператварылася ў беларускую з выкладаньнем паляністыкі (польскае мовы й гісторыі). Адначасна яна ператварылася з гуманістычнага тыпу ў матэматычна-прырадаведны тып. З кажным годам насельніцтва Наваградчыны ўсё больш залечвала глыбокія ваенныя раны й палепшвала свой гаспадарскі быт ды ўсё больш і больш пасылала сваіх дзяцей у родную гімназію. У жыцьці гімназіі прыймалі актыўны ўдзел беларускія дзеячы Наваградчыны, як бацькі сваіх дзяцей ды апякуны, на чале з паслом

[475] **Венедыкт** (свецк. **Васіль Бабкоўскі**, 1876–1951), рэлігійны дзеяч. Ад 1918 г. святар кафедральнага сабора ў Навагрудку, ад 1937 г. — настаяцель Успенскага Жыровіцкага манастыра. Падчас нямецкай акупацыі быў епіскапам Берасцейскім, архіепіскапам Гарадзенскім і Беластоцкім, экзархам Усходняе Прусіі. Праціўнік абвяшчэння аўтакефаліі БАПЦ. У 1944 г. эвакуяваўся ў Нямеччыну і ўвайшоў у склад кліру Рускай праваслаўнай царквы замяжой. Быў архіепіскапам Берлінскім і Германскім.

і сэнатарам у польскім парлямэнце сьв. п. В. Рагулям і адвакатам сьв. п. П. Сьвірыдам[476]. Мясцовая польская ўлада адносілася варожа да гімназіі і таму яна ўстаўляла розныя дручкі ў нармальнае кола яе жыцьця. Дзесяткі мэмарандумаў было зложана ў міністэрства асьветы Бацькаўскім камітэтам з мэтаю абароны яе ад шавіністычнае мясцовае ўлады. Пэрсанальна найбольш перасьледаваўся настаўнік Я. Цеханоўскі як больш актыўны дзеяч беларускі ў Наваградчыне, які змушаны быў пакінуць гімназію й выехаць у Францыю. Вярнуўся ён у Наваградак у 1928 г. пры новым ваяводзе Бэчковічу[477] на дамаганьні жонкі й беларускага грамадзтва.

Віленская Кураторыя, якой безпасярэдня падпарадкавалася гімназія, візытавала яе й дамагалася, каб настаўнікі, якія ня мелі польскіх дыплёмаў, складалі настаўніцкі фаховы эгзамен і палянiстыку пры ўнівэрсытэце, што давала права на выкладаньне ў сярэдняй школе. Гэткія вымаганьні выконваліся да азначанага часу, і настаўніцкі пэрсанал гімназіі паступова здабываў правы, што яшчэ больш замацоўвала яе існаваньне.

Беларускае грамадзтва плаціла ўсе дзяржаўныя й грамадзкія падаткі й таму мела права на фінансавую дапамогу гімназіі, але ў рэчаіснасьці ня было гэтага да 1929 г. Бацькаўскі камітэт гімазіі зь вялікімі цяжкасьцямі аплачваў наняты дом пад гімназію й мізэрную пэнсію настаўнікам за фактычныя навучальныя гадзіны. Часта камітэт ня выплачваў пэнсіі настаўнікам па некалькі месяцаў, і некаторым зь іх бацькі вучняў памагалі емінай. Памешканьне пад гімназію было малое, і навука адбывалася ў дзьве зьмены, што яшчэ больш ускладняла працу настаўнікаў. Толькі надзвычайная прывязанасьць настаўнікаў да школы, самаадданасьць і згода ды зычлівыя дачыненьні грамадзтва Наваградчыны змаглі паканаць усе недахопы матарыяльнага характару й стварыць маналіт у вабароне гімназіі перад яе ліквідацыяй польскаю ўладаю ў першым этапе яе існаваньня.

[476] **Павел Свірыд** (1886–1948), грамадскі дзеяч, юрыст. У 1930-я гг. працаваў у Наваградку. У часе нямецкай акупацыі быў старшынёй Наваградскага акруговага суда. Сябра БЦР. Ад 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Памёр у Равенсбургу (Заходняя Нямеччына).

[477] **Зыгмунт Казімір Бэчковіч** (пол. *Zygmunt Kazimierz Beczkowicz*, 1887–1985), польскі палітык і дзяржаўны дзеяч, у 1926–1931 гг. — наваградскі, у 1931–1933 гг. — віленскі ваявода. Выступаў за правядзенне больш гнуткай дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да беларусаў.

2-га ліпеня 1929 г. адбылася мая прамоцыя на ўнівэрсытэце Карла 4-га ў Празе Чэскай. Зь вялікай радасьцю ды ўдзячнасьцю пакінуў я ўнівэрсытэт, але неўзабаве радасьць маю замяніў смутак, бо трэба было, як нявольніку, выбіраць куток для далейшага жыцьця й працы. Былі дзьве рэальныя магчымасьці: варочацца дамоў у Польшчу, зь якое я ўпотай перайшоў у Чэхію, або аставацца ў Чэхіі. Цяга да роднага кута была перавагаю да павароту на Бацькаўшчыну, не зважаючы на тое, што мне трэба было стаць перад судом за нелегальны пераход граніцы. Польскі кансулят у Празе пагадзіўся выдаць мне часовы пашпарт на пераезд граніцы ў Польшчу з адзнакай, што я буду суджаны ў краю. Праз пару тыдняў я быў гатовы да ад’езду. Сябры мае правялі мяне на станцыю, і я пакінуў Злату Прагу.

Гэтак, як і пасьля Першай сусьветнай вайны, у якой прышлося браць удзел, мне суджана было другі раз вяртацца ў родны край. Будучыня мая ў той час была нявыразная. Чэскі дыплём не даваў мне ў Польшчы ніякага права заняць адпаведнае становішча без настрыфікацыі яго. Бацькаўшчына, сям’я й родныя былі адзінай пацехаю. Няволя роднага краю, як ніколі, адчувалася на кажным кроку, тым больш, што гэта быў зусім недалёкі час ад разгрому польскаю ўладаю Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады. Сотні Беларусаў сядзела яшчэ ў польскіх турмах, а беларускае насельніцтва застрашвалася й каралася за ўсякія прыдзірлівыя справы паліцэйскімі протаколамі. Як-жа выразна кідалася мне ў вочы розьніца ў ролі чэскага паліцэйскага й паліцэйскага польскага. Першы зьяўляўся абаронцаю й дараднікам свайму народу пры выкананьні сваіх абавязкаў, а другі — прыдзірлівым эгзэкутарам Беларуса. Дух дэмакратычнага чэскага ладу выразна адрозьніваўся ад духа польскае паліцэйшчыны. Пры такой сытуацыі ня было ніякае надзеі на якуюсь працу па-за невялікаю бацькоўскаю гаспадаркаю разам з сваім братам. Аднак лёс вырашыў іначай. Неспадзеўкі прыехаў да мяне настаўнік Беларускае Гімназіі ў Наваградку М. Чатырка[478], які запрасіў мяне

[478] **Міхал Чатырка** (1883–1940?), грамадска-палітычны і культурны дзеяч. У 1924–1934 гг. выкладаў у Наваградскай беларускай гімназіі фізіку і матэматыку. Быў старшынёй Наваградскай павятовай управы ТБШ. У 1927 г. абраны дэпутатам і сябрам управы Наваградскага павятовага сойміка. Пасля ліквідацыі гімназіі ў 1934 г. польскія ўлады выслалі Чатырку ў заходнюю Польшчу (Цеханув). Увосень 1939 г. вярнуўся ў Любчу, у якой нарадзіўся. Тут Саветы арыштавалі яго і выслалі ў Ачынскія лагеры (Краснаярскі край), дзе ён і памёр.

на становішча настаўніка гэтае гімназіі. Зь першага верасьня 1929 г. я пачаў настаўніцкую працу і адначасна стаў кіраўніком хлапецкае бурсы гэтае гімназіі. Ад гэтага часу суджана было мне разам з другімі настаўнікамі гімназіі і яе апекунамі перажыць усе мамэнты ў жыцьці гімназіі аж да яе ліквідацыі польскаю ўладаю.

Дырэкцыя гімназіі пераслала маю просьбу да Віленскае Кураторыі аб зацьверджаньні мяне настаўнікам гімназіі. Тры гады высылалася такая просьба з усё новымі матывамі й тры гады Куратория не зацьвярджала мяне. Нарэшце ў 1931/32 школьным годзе начальнік пэрсанальнага аддзелу Кураторыі Глухоўскі пасьля візытацыі мае лекцыі сказаў мне, што апошні раз таляруецца маё незацьверджанае настаўніцтва і параіў складаць эгзамены пры польскім унівэрсытэце. Іншага выхаду ня было, і я вясною 1932 г. у працягу двух месяцаў злажыў усе прыпісаныя пісьмовыя й вусныя спэцыяльныя эгзамены разам з паляністыкаю ў Варшаўскім унівэрсытэце, а ўвосені гэтага году пэдагагічны эгзамен у Віленскім унівэрсытэце. Гэтыя ўнівэрсытэты й выдалі мне дыплём з правам навучаньня ў сярэдніх школах з польскаю выкладоваю моваю.

На пачатку 1929/30 школьнага году на становішча дырэктара гімназіі быў прызначаны Я. Цеханоўскі. Пэдагагічная Рада складалася пераважна з настаўнікаў, што мелі доўгую школьную практыку. Да іх належалі М. Чатырка, П. Скрабец[479] (мае настаўнікі яшчэ перад Першаю сусьветнаю вайною), А. Данілевіч[480] і сьв. п. М. Мілоў[481].

---

479 **Пятро Скрабец** (1882–1963), грамадска-культурны дзеяч. У 1920–1940-я гг. настаўнічаў на Навагрудчыне, быў дырэктарам Навагрудскай беларускай гімназіі. У 1945 г. савецкія ўлады арыштавалі і выслалі яго на 8 гадоў у Магадан, пасля адбыцця тэрміну вярнуўся ў Навагрудак.

480 **Аляксандр Данілевіч** (1877–1954), педагог, выпускнік Свіслацкай настаўніцкай семінарыі. Працаваў у розных пачатковых школах, вучыўся ва ўніверсітэце Шаняўскага ў Маскве на фізіка-матэматычным факультэце. За палітычную дзейнасць быў арыштаваны і высланы ў Верхаянск. У Навагрудскай беларускай гімназіі выкладаў алгебру, геаметрыю і трыганаметрыю. Аўтар падручніка па алгебры. Пасля закрыцця гімназіі пераехаў у Вільню, дзе выкладаў у розных установах вышэйшую матэматыку.

481 Відаць, маецца на ўвазе **Яўген Мілоў** (?—1932), расеец паводле паходжання, выпускнік матэматычнага факультэта Казанскага ўніверсітэта. У 1914 г. мабілізаваны ў войска, пасля рэвалюцыі служыў афіцэрам у генерала Урангеля. У 1920 г. інтэрнаваны, пасяліўся на тэрыторыі Польшчы. Ад 1923 г. да канца жыцця працаваў у Навагрудскай беларускай гімназіі выкладчыкам матэматыкі, фізікі, хіміі і рысунку.

Да пэдагагічнага пэрсаналу належалі сьвятары Б. Бабкоўскі і М. Гарбацэвіч[482] — выкладчыкі рэлігіі, Б. Зенькевіч — выкладчык нямецкае мовы, настаўнік пяяньня й музыкі, З. Бараноўская[483] й Б. Аўгустын — настаўнікі паляністыкі. Назаўсёды асталося ў памяці ўражаньне ад першага паседжаньня пэдагагічнае рады, калі дырэктар Я. Цеханоўскі прывітаў мяне ад імя цэлае рады як новага настаўніка. Гэта былі ўводзіны мяне ў сьвятыню беларускага гімназіяльнага навучаньня і ўзгадаваньня моладзі.

Вынікі навучаньня ў гімназіі былі вельмі добрыя, аб чым сьветчылі частыя 100 % выпускі матурыстых, нягледзячы на тое, што ў “непанствовых” з правамі гімназіях матуральныя эгзамены былі пашыраныя і адбываліся ў прысутнасьці прадстаўніка Куратрыі. Зь гімназіі выходзілі матурыстыя сьведама адданыя беларускай справе. Сягоньня ёсьць ужо з гэтае моладзі шмат добрых працаўнікоў за волю свайго народу й навуковых працаўнікоў. Прыхільнікі нашае няволі калісь называлі гэтую моладзь камуністымі. Гэта была звыклая прапагандовая хлусьня. Гімназія выхоўвала моладзь ня толькі праз навуковыя дысцыпліны, але й праз мастацкую пазашкольную працу. Гімназіяльны хор і мастацкі гурток пад кіраўніцтвам настаўніка музыкі й сьпеваў кампазытара А. В.[484] здабыў славу ўва ўсёй Наваградчыне. У самым Наваградку вельмі часта адбываліся канцэрты, і заўсёды заля кіна была перапоўненая. Музычныя творы настаўніка кампазытара: “Старыя ліпы”, “Касцы”,

---

[482] **Мікалай Гарбацэвіч** (?–1961), праваслаўны святар. Быў настаяцелем сабора Св. Мікалая ў Наваградку, выкладаў у Наваградскай беларускай гімназіі. Пасля Другой сусветнай вайны быў у Нямеччыне, служыў у Шверыне. Перайшоў у клір РПЦЗ. У 1950-я гг. служыў у ЗША, у прыватнасці ў 1955 г. — настаяцель царквы Раства Прасвятой Багародзіцы ў г. Іры (Пенсільванія). Пахаваны ў Свята-Траецкім манастыры ў Джорданвілі (Нью-Ёрк).

[483] Магчыма, маецца на ўвазе **Зоф’я Барановіч**, пра якую згадвае Андрэй Чэмер у сваёй кнізе “Наваградзкая беларуская гімназія” (Вільня, 1997). Яна працавала ў гімназіі ў 1921–1931 гг.

[484] Маецца на ўвазе **Антон Валынчык** (1896–1985), кампазітар, хармайстар і педагог. Закончыў Жыровіцкую духоўную семінарыю. У міжваенны час працаваў выкладчыкам музыкі і спеваў у рэальным вучылішчы ў Лунінцы, пасля ў Клецкай і Наваградскай беларускіх гімназіях, а таксама ў беларускай настаўніцкай семінарыі ў Слоніме. У гады Другой сусветнай вайны жыў у Слоніме, дзе кіраваў рознымі харамі. Пасля вайны працаваў у Ашмянах, Горках, Маладзечне, з 1961 г. жыў і працаваў у Гродне. Пісаў харавыя кампазіцыі на вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа і іншых паэтаў.

“Я люблю густыя шумы”, “Вось і паў ужо змрок”, “Над возерам” і др. дзесяткі разоў выконваліся на сцэне й заўсёды магічна дзеілі на душу слухача й выклікалі буру воплескаў.

Вандраваньні мастацкага гуртка па Навaградчыне былі з рознымі прыгодамі й навет загражаючымі жыцьцю. Успомню адну з найбольшых.

Вясною 1930 г. мастацкі гурток з дырэктарам і некаторымі настаўнікамі ехаў у вадну з сыботаў у мястэчка Любчу й Негнявічы. Першы канцэрт адбыўся ў Любчы, а на другі дзень у нядзелю ўсе вандроўнікі прыехалі ў Негнявічы. Хор адсьпяваў Службу Божую ў царкве, а вечарам адбыўся цудоўны канцэрт. Пасьля канцэрту вечарам гурток выехаў на нанятым аўтобусе ў Навaградак. Я астаўся ў Негнявічах і заначаваў у сваёй маткі. Неяк пад раніцу якісь-та чалавек разбудзіў нас і паведаміў аб тым, што аўта з вучнямі перавярнулася на Папялусе і што ёсьць забітыя. Брат мой хутка запрог каня, і я зь ім, як мага, паехаў да месца катастрофы. Праз гадзіны паўтары, што выдаліся мне аж занадта доўгімі, мы былі на Папялусе, але тут было толькі перавернenae аўта. Даведаліся, што забітых няма, але было шмат пакалечаных. Едзем далей. Чуць сьвет мы ўжо ў Навaградку. Нас паінфармавалі, што некалькі вучняў раненыя, а некалькі напіліся бэнзіны. Мой брат быў ранены й знаходзіўся ў шпіталі. Дырэктар і настаўнікі былі толькі выкіненыя з аўта. Якжа гэта сталася? Вось-жа хто ехаў зь Негнявічаў у Навaградак, дык добра ведае перад вёскаю Гарадэчна дзьве стромыя гары: Папялуху й Дубовую, што спускаюцца ў эўразійную даліну вёскі Гарадэчна. На Папялусе (яна больш стромая) тармазы аўта сапсаваліся, і яно што раз хутчэй пакацілася з гары і з усяго размаху ўвалілася ў канаву. Вынік катастрофы быў такі, што некалькі вучняў адзначыліся на ўсё жыцьцё шрамамі на твары ад сшытых ранаў, а некалькі — пашкодзілі нутраныя органы бэнзынаю.

Абітурыенты гімназіі, будучы ўжо студэнтамі, не пакідалі культурнае працы сярод беларускага насельніцтва ня толькі ў Навaградчыне, але й другіх куткох Беларусі. На гэтым месцы мушу зазначыць, што да такіх адданых беларускай справе належаў сьв. п. Пётра Першукевіч, студэнт Віленскага ўнівэрсытэту, які памёр ад сардэчнай хваробы. Магчыма, што катастрофа на Папялусе й вандраваньні пехатою прыскорылі яго сьмерць. Вечная яму памяць!

Беларуская гімназія ў Наваградку была да 1929 г. прыватнаю і, як было сказана вышэй, яе пасьветчаньні сьпеласьці не давалі права ўступаць матурыстым у польскія высокія школы. Яны змушаны былі шукаць аддушыны па-за межамі Польшчы, каб здабыць высокую асьвету. Гэта быў для паняволенае беларускае моладзі цяжкі шлях, што быў зьвязаны зь нелегальным пераходам граніцаў (аб атрыманьні загранічнага пашпарту ня прыходзілася навет і думаць) і паўгалодным жыцьцём.

З 1929/30 школьнага году гімназія атрымала дзяржаўныя правы, і нашым матурыстым адчыніліся дзьверы польскіх унівэрсытэтаў і другіх высокіх школаў. Як-жа гэта сталася, што польская ўлада здабылася на такую ласку? Да часу разгрому Беларускае Грамады польскі ўрад вёў палітыку хуткае палянізацыі Беларусаў. Аднак магутнасьць Беларускае Грамады й рост іншых арганізацыяў паказала адваротнае, і таму польская ўлада, не адмаўляючыся ад мэты асыміляцыі, пачала падыходзіць да гэтае справы зыгзагамі, дапускаючы кароткія праявы лібералізму. Такі лібералізм быў праяўлены да Беларускае Гімназіі ў Наваградку тадышнім нованазначаным Наваградзкім ваяводаю Бэчковічам. Азнаёміўшыся навочна з дрэннымі ўмовамі гімназіі, ваявода Бэчковіч разам з тадышнім Наваградзкім старостаю Грынеўскім[485] і яго жонкаю запекаваўся ёю: было нанятае лепшае памешканьне для гімназіі, наняты будынак для жаночае й хлапецкае бурсы, заснаваны камітэт будовы гмаху беларускае бурсы, здабыты правы гімназіі, і нарэшце ў 1931/32 школьным годзе гімназія была ператворана ў філію панствовай гімназіі імя А. Міцкевіча ў Наваградку. З выменeных

[485] **Ежы Грынеўскі** (пол. *Jerzy Hryniewski*, 1874–?), польскі палітычны і грамадскі дзеяч, паходзіў са шляхты Дзісенскага павета. Закончыў гімназію ў Рызе і Маскоўскі ўніверсітэт. У 1899 г. быў адміністрацыйна сасланы ў Перм, пасля вяртання з высылкі ў 1903–1914 гг. працаваў намеснікам дырэктара ў металургічным сіндыкаце ў Маскве. Падчас Першай сусветнай вайны служыў у штабе Маскоўскай вайсковай акругі, у 1917 г. звязаўся з Польскай вайсковай арганізацыяй, быў адзін са стваральнікаў яе выведніцкай пляцоўкі ў Маскве. У 1920 г., пасля выкрыцця арганізацыі бальшавікамі, быў арыштаваны. У Польшчу прыехаў у 1921 г., пасля зробленага польска-савецкага абмену вязнямі. Некалькі гадоў знаходзіўся пад падазрэннем з боку польскіх спецслужбаў, але пасля перавароту Ю. Пілсудскага ў траўні 1926 г. быў заклікаsны на дзяржаўную службу. У 1927–1932 гг. быў наваградскім старастам, у 1932–1937 гг. — старастам Тухольскага павета на Памор’і.

рэформаў заслугоўвае на асаблівую ўвагу камітэт будовы гмаху беларускае бурсы. Пякучая патрэба ўласнага будынку гімназіі й дух лібералізму былі выкарыстаны да актыўнага зрэалізаваньня будовы гмаху. Настаўнікі й прыхільнікі гімназіі стварылі камітэт, у які ўвайшлі прадстаўнікі беларускага й польскага грамадзтва з старшынёю старасьцінаю Т. Грынеўскаю[486] й заступнікам яе адвакатам П. Сьвірыдам. Статут камітэту быў зацьверджаны акруговым судом з назовам: Камітэт будовы гмаху Беларускай бурсы ў Навагрaдку. Як праўная арганізацыя камітэт адразу прыступіў да працы. На яго просьбу магістрат Навагрaдку бясплатна ахвяраваў пляц, а ваявода Бэчковіч выдаў дазвол на збор ахвяраў сярод насельніцтва Навагрaдзкага павету. Сьв. п. інжынер Мацееўскі, сябра камітэту, апрацаваў плян гмаху й каштарыс яго на агульную суму 300 000 злотых. Паводля гэтага пляну прадбачваўся не будынак бурсы, а 4-х павярховы гімназіяльны гмах з кляснымі пакоямі, кабінэтамі й вялікаю заляю. Запраектавана было паравое аграваньне, але, поруч з гэтым былі пабудаваныя й кахлявыя печы на дровы. Разыходжаньне статуту з плянам было таму, што, згодна з праўнымі вымогамі, гімназіяльны будынак мог будавацца тады толькі мадэрны, кошт якога сягаў-бы мільёну, а можа й больш, злотых, што было не пад сілу Беларусам безь дзяржаўнае дапамогі.

Дазвол ваяводы на збор ахвяраў і беспасярэдні ўдзел у ім настаўнікаў і сяброў камітэту гэтак зацікавіў беларускае насельніцтва Навагрaдзкага павету, што, праўдападобна, ня было гаспадаркі, якаябы ня ўнесла свае ахвяры. Мне прыдзелена была Негнявіцкая гміна, і я ў часе збору ахвяраў перажыў некалькі ўзрушаючых мамэнтаў.

---

[486] **Тэкля Грынеўская** (пол. *Tekla Hryniewska*, 1880–?) паходзіла з памешчыцкага роду Дзісенскага павета. У 1903 г. выйшла замуж за Ежы Грынеўскага, актыўна дапамагала яму ва ўсіх пачынаннях, у тым ліку ў вядзенні выведвальнай дзейнасці ў Маскве на карысць Польскай вайсковай арганізацыі падчас польска-савецкай вайны. Адказвала за сувязь з латвійскімі дыпламатамі, якім перадавалася здабытая мужам агентурная інфармацыя. У 1920 г. арыштаваная бальшавікамі, спрабавала скончыць жыццё самагубствам, але была выратаваная. У 1921 г. была вызваленая ў рамках польска-савецкага абмену вязнямі, выехала разам з мужам у Польшчу. Актыўна займалася грамадскай дзейнасцю, у тым ліку цікавілася беларускай этнаграфіяй. У 1931 г. у часопісе *"Ziemia"* надрукавала артыкул "Пра народнае мастацтва на Навагрaдчыне".

Сяляне пераважна ахвяроўвалі збожжа, і адзін перад другім стараліся даць больш. Але сярод пудовых ахвяраў прыносіліся найбяднейшымі й фунтовыя, што сьветчыла аб адданасьці іх да свае роднае справы. Хіба што гэтыя ахвяры ў параўнаньні да маёмасьці ахвярадаўцаў былі найбольшыя. Ужо прайшло больш як 25 гадоў ад часу збору ахвяраў, а яшчэ й сягоньня рэпрадакуюцца словы аднае старэнькае жанчыны: *“Вазьмеце і ад мяне гэтых пару жменяў жыта, бо больш ня маю. Можа дасьць Бог, і мае ўнукі будуць хадзіць у сваю родную школу”*. Гэтая старэнькая жанчына інтуіцыйна вычула, што значыць свая школа. Зразумела, што беларускае дзіця траціла гады ў чужой школе на вывучэньне чужой мовы і дзякуючы гэтаму адставала ў навуцы й перапіхалася праз цэлую школу. Практычна выглядала так, што пасьля сканчэньня польскае пачатнае школы сотні тысячаў беларускае моладзі праз некалькі год зноў варочаліся да анальфабэтызму — спадарожніку духовае няволі. Сабранае збожжа было праданае, і ахвяры дасягнулі некалькі дзясяткаў тысячаў. У дадатку да гэтага была ахвяравана значная колькасьць драўлянага матарыялу на рыштаваньне й прывезены каменьні на фундамэнт гмаху. Настаўнікі разам з вучнямі зраўнялі ахвяраваны пляц і выкапалі паглыбленьні на фундамант. Будаўляны камітэт закупіў у Горадні 100 000 цэглы, якую пераважна бацькі вучняў перавязьлі са станцыі Наваградак на школьны пляц. Такім чынам амаль усё было падрыхтавана да закладу фундаманту й мураваньня гмаху.

Трапілася так, што ў гэтым 1929 г. у восені адбыўся аб’езд Наваградчыны прэзыдэнтам польскае рэспублікі праф. І. Масьціцкім[487]. Гэты мамэнт быў выкарыстаны із згодаю й падтрымкаю ваяводы Бэчковіча будаўляным камітэтам для закладкі прэзыдэнтам вуглавога каменя пад будову гмаху. Працэс закладкі быў вельмі ўрачысты. На гімазіяльным плацы адбылася служба Божая з удзелам Горадзенскага Япіскапа Аляксея[488] й нава-

[487] **Ігнацы Масціцкі** (пол. *Ignacy Mościcki*, 1867–1946), польскі палітык і навуковец, у 1926–1939 гг. прэзідэнт Польскай Рэспублікі.

[488] **Аляксей** (свецк. **Аляксандр Грамадскі**, 1862–1943), рэлігійны дзеяч, праваслаўны іерарх. З 1928 г. — архіепіскап Гродзенскі, з красавіка 1934 г. — архіепіскап Валынскі. У 1940 г. перайшоў у юрысдыкцыю Маскоўскай патрыярхіі. У жніўні 1941 г. узначаліў Украінскую аўтаномную царкву. У 1943 г. забіты ўкраінскімі падпольшчыкамі, сябрамі Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў.

градзкага праваслаўнага сьвятарства. Пасьля гэтага прэзыдэнт у прысутнасьці свае сьвіты, Наваградзкага ваяводы й старосты, будаўлянага камітэту, дырэктара, настаўнікаў і вучняў гімназіі ды масы грамадзтва зрабіў закладзіны й тут-жа злажыў сваю ахвяру. Гэты асаблівы выпадак стварыў сярод беларускага грамадзтва ўпэўненасьць спрыяльных адносінаў польскае ўлады да Беларусаў дый заахвоціў беларускае грамадзтва да большае ахвоты будовы свайго гмаху.

Надыйшла зіма, і ўсякія работы пры будове прыпыніліся. Камітэт будовы меў вялікія выдаткі, і яго матарыяльныя сяродкі значна паменшыліся. Нягледзячы на гэта, сябры будаўлянага камітэту мелі запал да далейшае працы й з надыходам вясны пачалі рэялізаваць сваю думку. Сталася так, што старшыня камітэту Т. Грынеўская выехала на пару месяцаў з Наваградка, і функцыі старшыні пачаў выконваць заступнік адвакат П. Сьвірыд. На паседжаньні камітэту было пастаноўлена неадкладна прыступіць да далейшае будовы. Вапну Наваградзкія купцы пагадзіліся даць у крэдыт, а Івенецкія муляры чакаць плату за мураваньне. Хутка пачаў расьці будынак. Да павароту Т. Грынеўскай першы паверх быў вымураваны, але камітэт набыў значныя даўгі. Надыйшла другая зіма. Будаўляны камітэт памалу здабываў сяродкі й часткова выплачваў даўгі, але ён ня меў магчымасьці да далейшае будовы. Паўстала думка дастаць грошы ад польскага ўраду праз асыгнаваньне парлямантам. Была зложана просьба, і парлямант асыгнаваў 200 000 злотых. Будаўляны камітэт атрымаў 60 000 зл., пакрыў даўгі і ўвесну 1931 г. прыступіў да далейшае будовы. Гмах вырас да страхі, і былі пастаўлены крохвы, але камітэт зноў набыў даўгі. Тымчасам дух лібэралізму пачаў паволі разьвейвацца. Польскі ўрад затрымаў далейшую выдачу асыгнаваных грошаў, а ваявода Бэчковіч быў пераведзены на становішча пасла ў Латвію. Старосту Грынеўскага перавялі на Памор’е.

Вельмі даўгое матарыяльнае й духовае паняволеньне беларускага народу ў самым цэнтры Эўропы зьяўляецца анармальнасьцю. Таму беларускі народ адносіўся і адносіцца з пагардаю да калянізатараў (ніколі да народаў) нашых заходніх і ўсходніх суседаў, але ня страціў сваёй дабрадушнасьці да тых асобаў, якія выяўлялі да яго хоць каплю людзкасьці. Вось і ў дадзеным выпадку

лібэральнага адношаньня да нашае гімназіі ў Наваградку ваяводы Бэчковіча і старасьціны Т. Грынеўскай было ацэнена жычліва, што выявілася з боку гімназіі й беларускага грамадзтва ў часе разьвітальнага ад'езду іх на новыя становішчы. Спантанічны выяў сымпатыі да гэтых асобаў ў форме падзякі за добрыя ўчынкі з прыпаднясеньнем скромных памятных падарункаў і пажаданьнем ім усяго найлепшага закрануў не адно сэрца й душу гэтым простым і шчырым беларускім *"дзякуем"*! Агромная маса вучнёўскае моладзі й старэйшага грамадзтва выявіла гэтую ўдзячнасьць на вуліцы Гродзенскай, што была перайменаваная на вуліцу Бэчковіча.

На становішча Наваградзкага ваяводы быў назначаны Сьвідэрскі[489], які быў нядоўга й да справы будовы гмаху адносіўся нэгатыўна. Пасьля Сьвідэрскага ваяводаю быў ведамы ўсёй Польшчы экзэкутар-кіраўнік кацэту ў Бярозе Картускай Костэк-Бэрнадзкі[490]. Зь яго прыездам дух Бэчковіча зусім зьнік і пачаўся паход проціў гімназіі. У канцы 1932 г. будаўляны камітэт забясьпечыў будынак ад вывятрэньня й пакрыў гмах папаю. На гэтым яго работа прыпынілася зусім. Купцы пачалі вымагаць ад камітэту даўгі й нарэшце выставілі будынак на ліцытацыю. Адвакат П. Сьвірыд як старшыня камітэту і яго заступнік дырэктар гімназіі Я. Цеханоўскі стараліся не дапусьціць прадажы будынку зь ліцытацыі. Імя Прэзыдэнта праф. І. Масьціцкага як закладчыка гмаху было пэўным козырам у Беларусаў, і польскай уладзе было нейк нязручна забраць гэты будынак. Ліцытацыя цягнулася аж да закрыцьця гімназіі на пачатку школьнага 1934–35 г. Адвакат П. Сьвірыд, дырэктар гімназіі і амаль усе настаўнікі мелі жыраваныя вэксьлі, якія змушаныя былі аплачваць. Асабліва даліся ў знакі яны адвакату Сьвірыду. Ён-жа ня толькі бясплатна вёў судовыя справы на працягу ўсяго часу, але й сам плаціў судовыя кошты.

1933/34 школьны год быў апошнім годам існаваньня Беларускае Гімназіі ў Наваградку. Дух лібэралізму замяніўся духам палі-

---

489 **Стэфан Свідэрскі** (пол. *Stefan Świderski*, 1895–1978), польскі палітык, у 1932–1935 гг. наваградскі ваявода.

490 **Вацлаў Костэк-Бярнацкі** (пол. *Wacław Kostek-Biernacki*, 1884–1957), польскі палітык, у 1931–1932 гг. наваградскі, у 1932–1939 гг. палескі ваявода. Ініцыятар стварэння канцэнтрацыйнага лагера ў Картуз-Бярозе.

цэйшчыны, што прыпыніла яе існаваньне. Першым паліцэйскім крокам ваяводы Костка Бэрнардзкага быў афіцыяльны адносьнік да дырэкцыі гімназіі ў справе зафіксаваньня пэдагагічнаю радаю гімназіі ляяльнасьці да польскай рэспублікі. Помню, як-бы ўчора гэта было, адбылося паседжаньне пэдагагічнай рады з настаўнікамі польскае гімназіі, якія выкладалі паляністыку ў нашай гімназіі. Пасьля прачытаньня дырэктарам гімназіі адносьніка ваяводы ні адзін з настаўнікаў не знайшоў хоць што-небудзь сказаць у справе ляяльнасьці. Адбылося некалькі мінутовае маўчаньне. Дзеля таго, што на парадку дня было толькі гэтае паліцэйскае пытаньне, дык дырэктар гімназіі падзякаваў настаўнікам за прысутнасьць і зачыніў паседжаньне, якое называлася нямым паседжаньнем, або, як жартавалі некаторыя настаўнікі, паседжаньне ў справе падліваньня лою.

У часе летніх вакацый 1933 г. зьявілася ў Наваградчыне некалькі маладых асобаў у форме студэнтаў польскіх высокіх школаў. Гэтыя нібы студэнты пачалі наведваць старэйшых вучняў гімназіі й даводзіць ім, што яны зьяўляюцца камуністамі. Лаючы польскі ўрад, яны нібы былі зьдзіўлены, што ў гімназіі няма камуністычнае ячэйкі і адначасна прапанавалі пры іх дапамозе залажыць іх. Справа такое агітацыі цягнулася аж да пачатку школьнага году. Калі вучні зьехаліся ў Наваградак, дык вымененыя студэнты пачалі ўпотай арганізоўваць зборку вучняў на Наваградзкім замку. Аднаго вечару прыйшоў да мяне як кіраўніка бурсы вучань 7-е клясы й сказаў мне аб назначанай зборцы. Адразу стала ясна, што гэта дзеюць польскія выведвальнікі, якія часта стасавалі гэткі спосаб да беларускай моладзі, каб стварыць судовы працэс. Загадка палягала на тым, што паліцыя арыштоўвала сабраўшыхся разам з выведвальнікамі і тымі праклямацыямі, што прыносілі ім. Выведвальнікаў выпускалі ўпотай на волю, а рэшту асобаў саджалі ў турму. Праклямацыі былі доказам прыналежнасьці да камунізму. На гэтай падставе я катэгарычна забараніў вучням прымаць удзел у назначанай зборцы. Хутка пасьля тэрміну зборкі адзін з выведвальнікаў, які называў сябе *"Сашкаю"*, прыйшоў у бурсы, каб выклікаць вучняў. Аб гэтым здарэньні зараз-жа было даведзена дырэктару гімназіі, які апытаў усіх пакліканых на сход вучняў, напісаў некалькі актаў-апытальнікаў за подпісамі

вучняў і таксама забараніў ім навет гутарыць з такімі студэнтамі. Праз тыдзень польская паліцыя арыштавала ўсіх вучняў, якія мелі гутаркі з гэтымі выведвальнікамі (сышчыкамі) і пасадзіла іх у турму. На запытаньне дырэктара гімназіі аб падставе арышту паліцыя адказала, што арыштаваным вучням будзе хутка выданы акт абвінавачваньня. Аднак прайшло яшчэ некалькі дзён, і вучні ніякага акту абвінавачваньня не атрымалі. Дырэктар гімназіі катэгарычна дамагаўся або звольніць з турмы арыштаваных, або абвінаваціць іх у праступстве. Паліцыя змушана была ўсіх вучняў выпусьціць з турмы з умоваю, што яны праз дзень мусілі рэгістравацца ў паліцыі. Пэдагагічная рада гімназіі змушана была часова прыпыніць наведаньне гэтымі вучнямі гімназіі да выясьненьня іх праступства. Праходзілі тыдні, месяцы, і іх справа не вырашалася. Нарэшце быў сфабрыкаваны акт абвінавачваньня, і праз нейкі час вызначылі суд. Выявілася, што 2 вучні былі падкупленыя паліцыяй і разам з выведвальнікамі — студэнтамі, сярод якіх быў ведамы *“Сашка”*, даказвалі, што ўсе арыштаваныя вучні належалі да камуністычнае ячэйкі ў гімназіі. Дырэктар гімназіі, сьвятары — выкладчыкі рэлігіі й настаўнікі выступалі на судзе сьветкамі й даказвалі, што ніякае камуністычнае ячэйкі ў гімназіі ня было й што суд апіраецца на доказах выведвальнікаў (сышчыкаў) і перакупленых 2 вучняў. Дырэктар гімназіі падаў у суд усе акты-апытальнікі, якія былі падпісаныя й тымі вучнямі, што былі перакупленыя. На ўсё гэта суд адказаў, што дзяржава ў інтарэсах абароны можа ўжываць усе спосабы. Пастанова суду была наступная: 2 вучні, што прызналіся ў сваёй нібы віне й сьветчылі проціў сваіх калегаў, былі звольненыя, а рэшту засудзілі на 2 гады. Такімі ганебна-паліцэйскімі спосабамі польская ўлада шукала камуністых сярод невінаватых беларускіх вучняў, каб мець фізычную падставу да ліквідацыі гімназіі. Калі-б навет і былі вучні сымпатыкі камунізму, што часта здаралася і ў польскіх гімназіях, дык гэта не магло быць падставаю да закрыцьця гімназіі. Даволі было-б звольніць іх з гімназіі, што й рабілася ў польскіх гімназіях.

У ліпені 1934 г. дырэкцыя гімназіі (філіі) атрымала ад Віленскай Куратарыі паведамленьне аб тым, што беларуская філія пры польскай гімназіі імя Адама Міцкевіча ў Наваградку закрываецца. Настаўнікі гімназіі з поўнымі кваліфікацыямі й правамі вы-

кладаць у сярэдніх школах былі часова прыдзелены да польскіх сяміклясовых школаў, а пазьней пераведзены ў польскія гімназіі ў цэнтр Польшчы. Дырэктар гімназіі Я. Цеханоўскі быў прыдзелены да сяміклясовай школы ў горадзе Ашмяне, дзе й памёр ад разрыва сэрца. Там быў і пахаваны, а пазьней цела яго перавезена было ў Вільню. Куратория, што йшла па сьлядох Косткі Бэрнардзкага ў адносінах да беларускае культурнае ўстановы, старалася замаскаваць свой нясумленны ўчынак выдуманым матывам малое фрэквэнцыі[491] вучняў гімназіі, а Міністэрства Асьветы, высылаючы настаўнікаў з роднага краю, спасылалася на дабро школы, гэтак, як Саветы, займаючы Заходнюю Беларусь, з аднае няволі ў другую *"падавалі брацкую руку"*. Пасьля закрыцьця беларускае гімназіі адзін старэйшы беларускі селянін выказаў наступную прарочую думку: *"Пачалі палякі кусацца, як мухі перад канцом, мусіць, надыходзіць канец і польскаму панаваньню"*.

Беларуская Гімназія ў Навагрудку перастала жыць. Астаўся Камітэт Будовы Гмаху Бурсы Беларускай і незакончаны будынак з даўгамі. Паўстала пытаньне аб тым, што рабіць зь недакончаным будынкам, а галоўнае, дзе ўзяць грошы на пакрыцьцё даўгоў? Камітэт сабіраўся вельмі часта й ня мог выйсьці з тупіку. Шмат было розных прапановаў, але ніякае карысьці Беларусам яны ня сулілі. Праходзілі месяцы, і нарэшце бургамістр Навагрудзкага Магістрату запрапанаваў камітэту здаць будынак у арэнду гэтаму-ж магістрату. Камітэт паважна зацікавіўся гэтаю прапановаю, і старшыня камітэту П. Сьвірыд як фаховец абмяркаваў гэтую справу з боку праўнага, і камітэт пагадзіўся з прапановаю бурмістра. Прыпамінаюцца наступныя галоўныя пункты ўмовы: 1. Будынак здаецца Навагрудзкаму Магістрату на 29 год. 2. Магістрат забавязаўся выплаціць усе даўгі, што былі зьвязаныя з будоваю гмаху, і поўнасьцю закончыць яго. 3. Будынак павінен быць выкарыстаны толькі для школьных патрэбаў.

Магістрат выканаў умову і некалькі год перад Другою сусьветнаю вайною польская гімназія імя Адама Міцкевіча ў Навагрудку займала гэты будынак. У часе нямецкае акупацыі ў гэтым будынку была Беларуская Настаўніцкая Сэмінарыя, матуральныя курсы й сяміклясавая школа, праводзячы навучаньне ў дзьве зьмены.

[491] ***Frekwencja*** (пол.) — наведвальнасць.

Вось гэтак памерла не сваёй сьмерцю Беларуская Гімназія ў Наваградку, але тое зерне, што пасеяла гімназія, упала на добрую беларускую глебу, і яно дало добры плён, які ёсьць зарукаю да адраджэньня Бацькаўшчыны.

*Юзэфа Найдзюк*

## Беларуская сярэдняя гандлёва-адміністрацыйная школа ў Баранавічах (1942–1944)

Успаміны[492]

Пасьля заканчэньня 7-е клясы пачатковае школы ў Ляхавічах я ўладзілася на летнія канікулы ў маленькім ляхавіцкім шпіталі як санітарка. Дырэктарам шпіталю быў др. Лобан. Ад яго я даведалася, што ў Баранавічах адкрываюцца сярэдня-прафэсыйныя школы. Нягледзячы на ваенны час, наша інтэлігенцыя старалася штосьць ад немцаў здабыць, а менавіта хоць крыху асьветы для моладзі.

У Баранавічах у 1942 годзе былі адчыненыя сярэднія беларускія школы: тэхнічная (500 асоб — хлопцы), мэдычная (450 асоб — хлопцы й дзяўчаты), гандлёва-адміністрацыйная (450 асоб — хлопцы й дзяўчаты), прагімназія, мастацкая, літаратурныя курсы, настаўніцкія. Моладзь у гэтых школах і на курсах была з навакольных вёсак, мястэчак і навет зь іншых паветаў ды акругаў.

Я залічылася на першы курс Гандлёва-адміністрацыйнай школы, дырэктарам якой быў Аляксандр Русак[493], а ягоным заступнікам —

[492] Беларус. № 408. Сьнежань 1993. С. 4.

[493] **Аляксандр Русак** (1907–1957), грамадска-палітычны дзеяч, інжынер. У 1939–1941 гг. старшыня Беларускага камітэта ў Познані, улетку 1941 г. арганізатар Беларускага камітэта ў Горадні, у 1942 г. у Баранавічах заснаваў Адміністрацыйна-гандлёвую школу. У 1943 г. бурмістр Баранавічаў. У паваеннай Нямеччыне арганізатар Беларускага лагера ў Рэгенсбургу. Спрычыніўся да арганізаванага выезду беларусаў у ЗША і стварэння беларускага асяродку ў Саўт-Рыверы. З 1948 г. старшыня Галоўнай управы Цэнтральнага прадстаўніцтва беларускай эміграцыі, у першым урадзе БЦР — міністр замежных спраў і аддзела фінансаў БЦР, з 1952 г. кіраўнік выканаўчага органа БЦР (аналаг урада БНР). Адзін з ініцыятараў стварэння Беларускага кангрэсавага камітэта.

Кастусь Вадэйка[494]. Праграма навучаньня была разьлічаная на чатыры гадавыя курсы. Два апошнія курсы рыхтавалі вучняў па спэцыяльнасьцях: стэнографы, адміністратары, таваразнаўцы, сакратаркі.

У 1943 годзе нашага дырэктара А. Русака паклікалі на становішча старшыні г. Баранавічаў. Дырэктарам школы стаўся К. Вадэйка, а ягоным намесьнікам — Мячыслаў Перагуд (Рагажэцкі)[495].

Вучні па заканчэньні першага й другога курсаў на час летніх вакацыяў па-магчымасьці адбывалі практыку ў адміністрацыі. У 1943–44 навучальным годзе я была ўжо на другім курсе. Хочацца мне адзначыць некаторых настаўнікаў і іхныя прадметы.

Беларускую мову ў нас выкладала Аўгенія Левановіч[496]. Яна ўсю сваю душу і сілы ўкладала ў свой прадмет, хацела кожнаму вучню прышчапіць любоў, пашану да роднай мовы, культуры й літаратуры. Левановіч была кляснай апякункай нашай групы А і вяла літаратурна-драматычны гурток.

Альгебру і геамэтрыю выкладаў Мячыслаў Перагуд, вельмі сур’ёзны й вымагальны да свайго прадмету пэдагог.

---

494 **Кастусь Вадэйка** (1883–1963), грамадскі дзеяч. У часе Другой сусветнай вайны займаў пасаду справавода, затым намесніка загадчыка і загадчыка мабілізацыйнага аддзела ў Галоўным кіраўніцтве вайсковых спраў БЦР. Пасля вайны жыў на эміграцыі, у 1949 г. быў настаўнікам беларускай пачатковай школы ў Шляйсгайме (Нямеччына). Пазней пераехаў у ЗША. Пахаваны на могілках Жыровіцкай Божай Маці ў Іст-Брансвіку.

495 **Мечыслаў Рагажэцкі** (сапр. **Мікалай Перагуд-Пагарэльскі**, 1894–1964), грамадскі дзеяч, педагог. Закончыў матэматычны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта. Працаваў настаўнікам. Падчас нямецкай акупацыі нядоўгі час працаваў выкладчыкам матэматыкі ў Гандлёвай школе ў Баранавічах. У Нямеччыне выкладаў матэматыку ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. Пазней перабраўся ў ЗША.

496 **Аўгіння Воўк-Левановіч** (у шлюбе **Каранеўская**, 1919–1983), грамадская дзяячка. У 1937 г. закончыла Віленскую беларускую гімназію, паступіла на хімічны факультэт Віленскага ўніверсітэта. У 1939 г. вярнулася ў Мядзведзічы, дзе пачала працаваць настаўніцай беларускай мовы ў мясцовай школе. Падчас нямецкай акупацыі настаўнічала ў Баранавічах. Дэлегатка ад Баранавіцкае акругі на Другі Усебеларускі кангрэс. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, у Нямеччыне. У 1946 г. пабралася шлюбам з інжынерам Міколам Каранеўскім. Ад 1949 г. жыла ў Сіднэі (Аўстралія). Сябра Беларускага культурна-грамадскага клуба. Ад 1976 г. супрацоўніца Беларускага радыё ў Сіднэі.

Выкладчыкам гандлёвай арытмэтыкі быў Варанец, які вельмі дбаў, каб вучні зналі табліцу множаньня (да 20) і розныя хуткія арытмэтычныя апэрацыі, як прыкладам: якія лічбы дзеляцца бяз рэшты на 3 ці 5?

Настаўнік агульнай бухгальтэрыі, Таргонскі, вельмі намагаўся данесьці да нас свой прадмет.

Тэхніку і арганізацыю гандлю ды каапэрацыю тлумачыла нам Тамара Кашкурэвіч, якая заўсёды пільна прыглядалася да паводзінаў кожнага пры адказах на ейныя пытаньні.

Таваразнаўства й карэспандэнцыю вучыла нас Белацаркоўская, сымпатычная асоба й выдатная выкладчыца.

Фізыку і хімію выкладаў сур’ёзны Арэнь.

Стэнаграфію мы апаноўвалі пад кіраўніцтвам Фуні Арабей, якая вельмі любіла свой прадмет і вымагала, каб вучні паважна да яго ставіліся.

Гісторыю Беларусі мы пазнавалі ад самаго дырэктара К. Вадэйкі. Ён быў для кожнага бацькам, стараўся дапамагчы, параіць пры ўсякай патрэбе.

Вацлаў Пануцэвіч выкладаў у нас грамадазнаўства і быў таксама заўсёды гатовы кожнаму дапамагчы ў цяжкіх ваенных абставінах.

Выкладаліся ў нас таксама нямецкая мова, сьпевы, фізычнае ўзгадаваньне. У школе былі гурткі: літаратурна-драматычны, харавы, танцавальны, фізкультурны і музычны.

Гандлёва-адміністрацыйная школа вельмі цесна супрацоўнічала з Мэдычнаю. Была супольная бурса для дзяўчат, супольна ладзілі розныя сьвяткаваньні. Дырэктарам Мэдычнае школы быў др. Віктар Войтанка[497], а ягоным заступнікам — а. Леў Гарошка.

497 **Віктар Войтанка** (на эміграцыі **Васілеўскі**, 1912–1972), грамадскі і рэлігійны дзеяч, лекар, сын Сцяпана Войтанкі. Закончыў медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза. Падчас нямецкай акупацыі быў бурмістрам Баранавічаў. Удзельнік Беларускага царкоўнага сабору. Ад 1943 г. акруговы лекар у Слоніме, у 1944 г. доктар-інспектар Беларускай краёвай абароны. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945–1949 гг. жыў у паўднёва-заходняй Нямеччыне (Бадэн-Вюртэмбэрг, француская зона акупацыі). Ад 1950 г. жыў у штаце Нью-Джэрсі, ЗША. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, яго Нью-Джэрсійскага аддзела. Пасля смерці бацькі ў 1968 г. вырашыў стаць святаром і быў высвячаны 15 чэрвеня 1969 г. Служыў у парафіі царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку (Нью-Джэрсі), заснаванай ягоным бацькам.

Працавалі там здольныя выкладчыкі-дактары: Смаршчок[498], Мінкевіч[499], Малецкі[500], Кароль[501] і іншыя.

У 1943 г. у Менску паўстала арганізацыя — Саюз Беларускае Моладзі (СБМ)[502], галоўнымі кіраўнікамі якога былі Міхась

---

498 **Мітрафан Смаршчок (Рэпкаў-Смаршчок**, псеўд. **Анатоль Бярозка**, 1915–2008), лекар, грамадскі дзеяч, паэт. Вучыўся на медыцынскім факультэце Віленскага ўніверсітэта. У 1939 г. выехаў на працу на Берасцейшчыну, працаваў у чыгуначным шпіталі ў Брэсце. У часе нямецкай акупацыі працаваў у Баранавічах. Быў вывезены ў Нямеччыну ў канцэнтрацыйны лагер. Каля 1950 г. прыехаў у ЗША на запрашэнне шпіталя ў Мантысела. У мясцовым шпіталі працаваў на розных пасадах, удзельнічаў у яго разбудове, кіраваў домам для старых. Быў прафесарам Універсітэта Мінесоты, займаўся даследаваннем хваробаў сэрца. Сябра БІНіМа. Аўтар зборніка "Адзінаццаць вершаў" (1989), а таксама кнігі "Анатоль Бярозка. Выбранае" (Мінск, 2004).

499 **Мікалай Мінкевіч** (1909–1980), грамадскі дзеяч, лекар, зяць Р. Астроўскага. Закончыў Віленскую беларускую гімназію. Вучыўся на медыцынскім факультэце Віленскага ўніверсітэта. У 1942 г. закончыў універсітэт у Коўне. Ажаніўся з дачкой Р. Астроўскага. У 1942–1944 гг. працаваў лекарам у Баранавічах, ад сакавіка 1944 г. галоўны лекар БКА. Дэлегат Другога Усебеларускага кангрэса. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Працаваў лекарам пры *UNRRA* і *IRO* ў брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны. У 1949 г. выехаў з сям'ёй у Аргенціну, дзе працаваў галоўным лекарам пры шпіталі ў Сан-Луісе. У студзені 1955 г. пераехаў у ЗША. Працаваў у шпіталях у штатах Ілінойс, Агаё, Місуры, Індыяна, Мічыган.

500 **Язэп Малецкі** (1906–1982), грамадскі дзеяч, лекар. Закончыў гімназію ў Друі, а пазней — медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Віленскім беларускім камітэце, у медыцынскай школе ў Баранавічах, быў намеснікам прэзідэнта БЦР на Вілейскую акругу. Ад 1949 г. жыў у Аўстраліі, займаўся лекарскай практыкай у Сіднэі. Актыўны сябра ўправы Беларускага аб'яднання ў Новай Паўднёвай Валіі, а ў 1960–1961 гг. яго старшыня. Адзін з дырэктараў Беларускага культурна-грамадскага клуба ў Сіднэі. Адзін з ініцыятараў стварэння і старшыня Федэральнай рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі ў 1979–1980 гг. Аўтар аўтабіяграфічнай кнігі "Пад знакам Пагоні" (Таронта, 1976).

501 **Усевалад Кароль** (1919–1984), грамадскі дзеяч, лекар. Закончыў медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза. У часе нямецкай акупацыі працаваў лекарам у Баранавічах. Арыштаваны НКУС у 1944 г., асуджаны на 10 гадоў. Па вызваленні жыў у Баранавічах.

502 **Саюз беларускай моладзі** (СБМ) — беларуская моладзевая арганізацыя, створаная ў чэрвені 1943 г. з мэтай *"выхавання маладых, ідэйных, мужных і паслядоўных будаўнікоў новай Беларусі"*.

Ганько[503] (для хлапцоў) і Надзея Абрамава[504] ды ейныя памочніцы Лена[505] і Зося Аляхновіч[506], Вэроніка[507] і Анэля Катковіч[508], Надзя Міцкевіч[509] і іншыя (для дзяўчат).

---

503 **Міхась Ганько** (1918–?), грамадска-палітычны дзеяч. У гады Другой сусветнай вайны працаваў у аддзеле прапаганды Генеральнага камісарыята Беларусь. З 1943 г. узначальваў Кіраўнічы штаб СБМ. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, далейшы лёс невядомы.

504 **Надзея Абрамава** (на эмігр. **Тэадаровіч**, 1907–1979), грамадская дзяячка, галоўная кіраўнічка юначак СБМ, сябра Рады даверу, удзельніца Другога Усебеларускага кангрэса. Летам 1944 г. эвакуявалася ў Нямеччыну. Пасля вайны працавала ў мюнхенскім Інстытуце вывучэння СССР, займалася пытаннямі рэлігіі і атэізму, выдавала часопіс “Рэлігія і атэізм у СССР”.

505 **Алена Аляхновіч**, паводле гісторыка Юрыя Туронка, была супрацоўніцай Кіраўнічага штаба СБМ, загадчыцай курсаў для кіраўнічак юначак у Драздах, ад лютага 1944 г. — Краёвай школы СБМ у Фларыянаве. Летам 1944 г. эвакуявалася ў Нямеччыну. Пасля капітуляцыі Нямеччыны жыла ў лагеры ў г. Вайдэн. Выйшла замуж, пераехала ў Чыкага (ЗША).

506 **Зоф’я Аляхновіч** (у шлюбе **Каліноўская**, 1926–?), супрацоўніца Кіраўнічага штаба СБМ, арганізатарка курсаў для кіраўнічак юначак у Драздах. Летам 1944 г. эвакуявалася ў Нямеччыну, да канца лютага 1945 г. працавала ў штабе СБМ у г. Тропаў, пазней у Берліне. Пасля капітуляцыі нейкі час жыла ў Швайнфурце. У 1947 г. выйшла замуж. У 1950 г. выехала ў Аўстралію. Жыла ў Канберы, да беларускага жыцця дачынення не мела.

507 **Вераніка Катковіч** (у замустве **Клентак**, 1918–?), дзяячка СБМ. Падчас нямецкай акупацыі вучылася ў Менскай медыцынскай школе. У 1943–1944 гг. узначальвала менскую дзявочую арганізацыю СБМ. Была намесніцай Надзеі Абрамавай. Летам 1944 г. выехала ў Нямеччыну. У 1945–1948 гг. працавала ў польскай ваеннай місіі ў Берліне. У жніўні 1949 г. арыштаваная ва Уроцлаве і перададзеная савецкім органам. Асуджана на 10 гадоў лагераў. У 1956 г. вызвалена па амністыі, вярнулася да мужа ў Польшчу. Сястра Анелі Катковіч.

508 **Анеля Катковіч** (1914–1982), грамадская дзяячка. Падчас нямецкай акупацыі працавала перакладчыцай у Менскай гарадской управе. Улетку 1944 г. выехала ў Нямеччыну. Пасля капітуляцыі працавала ў Польскай вайсковай місіі ў Берліне. У 1949 г. была адазваная ў Польшчу, дзе была арыштаваная і асуджаная да 10 гадоў лагераў у Сібіры. Пасля вызвалення вярнулася ў Польшчу. Жыла ў Варшаве.

509 **Надзея Міцкевіч** (у шлюбе **Касмовіч**, 1923–?), дзяячка СБМ. Вучылася ў Віленскай і Нясвіжскай гімназіях. Падчас нямецкай акупацыі настаўнічала. Была павятовай кіраўнічкай юначак у Нясвіжы. З лютага 1944 г. праводзіла заняткі ў краёвай школе СБМ у Фларыянаве. Удзельнічала ў Другім Усебеларускім кангрэсе. Летам 1944 г. выехала ў Нямеччыну. Жонка Дзмітрыя Касмовіча, пляменніца Якуба Коласа і Міхася Міцкевіча.

Уся школьная моладзь належала да СБМ. На зборках кіраўнікі вучылі любіць родную мову, літаратуру, гісторыю, вывучалі народныя і патрыятычныя песьні, гаварылі пра патрэбу змагацца за вольную й незалежную Беларусь.

Для кіраўнікоў СБМ наладзілі курсы ў Альбэртыне[510] й Флёр'янаве[511].

У Баранавічах кіраўнікамі СБМ былі Раіса Кішкель, Карповіч, Лена Левановіч і іншыя. Дружыновай нашай групы СБМ была вучаніца трэцяга курсу Гандлёвай школы Лось, а галоўным кіраўніком хлапецкай групы быў Кастусь Гарошка.

Моладзь баранавіцкіх школаў любіла й паважала сваіх настаўнікаў і кіраўнікоў СБМ, бо яны вучылі нас любіць і шанаваць усё сваё, не шкадаваць працы на карысьць Беларусі. Шмат хто зь іх пасьля дорага паплаціўся за гэтую сваю патрыятычную працу, а то і загінуў у савецкіх турмах ці на высылцы. Але зярняты, кінутыя імі на глебу маладых душаў, у шмат якіх выпадках прарасьлі й далі добры плён.

*Аляксандр Калодка*

## Адміністрацыйна-гандлёвы інстытут у Маладэчне (1942–1944)[512]

Нямецкія акупацыйныя ўлады ў тэорыі дазвалялі адчыняць толькі пачатковыя беларускія школы, у вынятковых выпадках згаджаліся на адну настаўніцкую сэмінарыю ў акрузе. І ўжо зусім вынятковым выпадкам было адчыненьне сярэдняе мэдычнае школы ў Баранавічах. Але адміністрацыйна-гандлёвы інстытут? Немагчыма! Але ён існаваў, працаваў, дзякуючы нязломнай волі аднаго чалавека, ведамага беларускага пэдагога, апошняга дырэктара Віленскае беларускае гімназіі перад Другой сусьветнай вайной — Барыса Кіта[513].

---

[510] **Альбярцін** — вёска ў прыгарадзе Слоніма, палацава-паркавы комплекс, цяпер знаходзіцца ў межах горада.

[511] **Фларыянава** — сядзіба Бохвіцаў у Ляхавіцкім раёне Брэсцкай вобласці.

[512] Беларус. № 311. Чырвень — ліпень 1983. С. 4.

[513] **Барыс Кіт** (1910 —2018), навуковец, педагог, грамадскі дзеяч. Закончыў фізіка-матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта, польскія ўлады

Барыс Кіт разам зь Яворскім, школьным інспэктарам Маладэчанскага раёну, пастанавілі ў 1942 г. адчыніць у Маладэчне настаўніцкую сэмінарыю. Гэта ня была-б першая пэдагагічная школа ў Маладэчне. Шмат раней ужо, бо ад 1864 г. існавала ў Маладэчне настаўніцкая сэмінарыя. Яна была дзейнай аж да пачатку І-й сусьветнай вайны й дала Беларусі шмат выдатных пэдагогаў.

За часамі міжваеннае Польшчы была тут польская гімназія, дастацца ў якую беларускай моладзі было вельмі цяжка, амаль немагчыма. У 1940 г. было тут пэдагагічнае вучылішча, якое праіснавала толькі адзін год.

Кіт і Яворскі ў выніку вялікіх стараньняў дасталі ў 1942 г. ад Сівіцы[514], кіраўніка школьнага аддзелу Генэральнага Камісарыяту Беларусі, дазвол на адкрыцьцё настаўніцкай сэмінарыі. З будынкамі (сэмінарыя мелася мясьціцца ў некалькіх будынках) ня было клопатаў. Тое самае было й з настаўніцкім пэрсаналам. У мясцовай маладэчанскай друкарні былі выдрукаваныя й зараз-жа распаўсюджаныя абвесткі, што вось неўзабаве адчыняецца ў Маладэчне настаўніцкая сэмінарыя, і моладзь заклікалася да складаньня заяваў на прыймо.

Пад кіраўніцтвам заступніка школьнага інспэктара Магера былі праведзеныя кароткія ўступныя экзамены, набрана больш за 200 сэмінарыстых, і пачалася навука. Адылі радасьць дырэктара сэмінарыі Барыса Кіта й настаўніцкага пэрсаналу была кароткая. Камісар Вялейскае акругі, даведаўшыся аб існаваньні школы, прыехаў у Маладэчна й зачыніў ня толькі сэмінарыю, але й друкарню, дзе былі выдрукаваныя згаданыя абвесткі. Апрача таго камісар шукаў Б. Кіта, каб арыштаваць яго. Рэч у тым, што сэмінарыя была адкрыта без дазволу акруговага камісара, які ўважаў, што аднае сэмінарыі (а гэткая ўжо існавала ў Вялейцы) зусім ставала для акругі.

Барыс Кіт паехаў, ці, дакладней, уцёк у Менск і зьявіўся да Сівіцы. Гэты аднак нічога ня мог ці не хацеў зрабіць і пасьля нара-

двойчы арыштоўвалі яго. Быў выкладчыкам і дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі, падчас нямецкай акупацыі арганізоўваў беларускія школы. З 1948 г. жыў у ЗША, адзін з заснавальнікаў Злучанага беларуска-амерыканскага дапамаговага камітэта, у 1972 г. пераехаў у Нямеччыну.

514 **Ёжэф Сівіца**, сілезкі немец, які з кастрычніка 1941 г. узначальваў Школьны інспектарат у Генеральным камісарыяце Беларусь, а з кастрычніка 1942 г. таксама кіраваў Выдавецтвам школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі і фактычна выконваў функцыю цэнзара друкаваных кніг.

ды із сваім заступнікам-Беларусам др. Яўхімам Скуратам[515] паслаў Кіта як дырэктара сэмінарыі ў Паставы Глыбоцкае акругі.

На нейкі час справа адкрыцьця настаўніцкае гімназіі ў Маладэчне крыху прыціхла. Пазьней аднак ужо згадваны Яворскі ў паразуменьні з Кітам пачаў рабіць стараньні ў акруговага камісара аб адкрыцьці гандлёвае школы. Пасьля напорных намаганьняў дазвол на адкрыцьцё школы быў атрыманы, і Барыс Кіт быў выкліканы з Паставаў за ейнага дырэктара.

Па доўгіх нарадах зь Яворскім і ўсебаковай кансультацыі зь іншымі больш актыўнымі Беларусамі Маладэчна было пастаноўлена не затрымоўвацца на ніжэйшай, а ўкласьці й праводзіць праграму сярэдня-вышэйшай гандлёвай школы — фактычна, адміністрацыйна-гандлёвага інстытуту.

Са школьнымі будынкамі ня было ніякага клопату, таксама з настаўніцкім пэрсаналам. Дзякуючы стараньням Кіта, удалося здабыць колькі вельмі добрых сілаў, як, прыкладам, др. Дзімітрыява — адваката, спэцыялістага гандлёвага права, Макарэвіча — дацэнта БДУ, знаўцу нямецкае мовы, Шчаснага — выпускніка Вышэйшае Гандлёвае Школы ў Варшаве, выкладчыка бухгальтэрыі, Капычова — выкладчыка матэматыкі, Янку Давідовіча[516] — выкладчыка беларускае мовы, Вольгу Пагуду[517] ды іншых, прозьвішчы якіх не магу ўжо прыпомніць. Было больш за 20 настаўнікаў. Паколькі Барыс Кіт быў

---

[515] **Яўхім Скурат** (1906–1992), грамадскі дзеяч. Закончыў Віленскі ўніверсітэт, аддзел французскай філалогіі (1939), у 1939 г. — аддзяленне Парыжскай Сарбоны. Падчас нямецкай акупацыі займаўся арганізацыяй беларускага школьніцтва. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Канадзе, дзе закончыў Тэхнічны інстытут электронікі. Быў сябрам Згуртавання беларусаў Канады, Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе.

[516] **Янка Давідовіч** (1909–1976), педагог, дзеяч культуры. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі і на гуманітарным факультэце Віленскага ўніверсітэта. Належаў да Беларускага студэнцкага саюза. У часе вайны жыў у Маладзечне. Працаваў у Маладзечанскай гандлёва-адміністрацыйнай школе. З канца 1944 г. жыў на Пастаўшчыне. Працаваў настаўнікам, завучам, дырэктарам школаў, інспектарам РАНА Пастаўскага раёна. Завочна закончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. М. Горкага (аддзяленне беларускай мовы і літаратуры). Быў у блізкіх сяброўскіх дачыненнях з народным паэтам Беларусі Максімам Танкам.

[517] **Вольга Пагуда** (?–2009), педагог. Была жонкай Юльяна Саковіча, пасля смерці якога выхоўвала дачку. Паводле звестак С. Ярша, памерла ў Літве (гл.: Беларускі Рэзыстанс. № 2 (7). 2009. С. 156).

і ў далейшым дырэктарам настаўніцкае сэмінарыі ў Паставах, куды часта выяжджаў, яго ў Інстытуце заступаў др. Дзімітрыёў.

Вучняў было больш за 300 асобаў. Яны паходзілі пераважна з Маладэчанскага й Радашковіцкага раёнаў. Заняткі вяліся на дзьве зьмены ў паралельных клясах (курсах) ад 8-е ўраньні да 12-е і ад 12-е да 4-е папаўдні. Апрача агульнаадукацыйных прадметаў, былі й спэцыяльныя, як гандаль, таваразнаўства, бухгальтэрыя, права, асновы адміністрацыі ды іншыя.

Прыплыў кандыдатаў на 1943–44 навучальны год быў такі вялікі, што давялося рабіць конкурсныя ўступныя экзамены: на 120 месцаў было 240 кандыдатаў.

У 1944 г. у школьным аддзеле Генэральнага Камісарыяту Беларусі насталі зьмены. Адыйшоў Сівіца, на ягонае месца быў прызначаны Пуст. Прыймаючы школьны аддзел, Пуст спасьцярог, што паводля праграмы маладэчанская школа ня была ніжэйшай ці нават сярэдняй школай, але сярэдня-вышэйшай, дык выклікаў у Менск Б. Кіта, якому зрабіў вялікі скандал і загадаў зараз-жа зачыніць Інстытут. Кіт аднак не сьпяшаўся з зачыненьнем. Гэта было ў другой палавіне чырвеня 1944 г., калі бальшавіцкі фронт набліжаўся да Менску. Б. Кіт, між іншым, быў дэлегатам на ІІ-гі Ўсебеларускі Кангрэс[518], пабыўшы на якім ён вярнуўся ў Маладэчна і ўрачыста закончыў 1943–44 навучальны год. Толькі малая колькасьць настаўнікаў ведала пра размову Барыса Кіта з Пустам.

Адміністрацыйна-гандлёвы Інстытут у Маладэчне даў за час свайго існаваньня добрыя веды вучням, даў нацыянальнае ўзгадаваньне (існавалі пры ім розныя агульна-ўзгадавальныя гурткі й гурткі мастацкае самадзейнасьці) ды забясьпечыў вучняў перад вывазам на працу ў Нямеччыну.

Вялізарная частка вучняў засталася на Беларусі. Частка-ж іх жыве ў Польшчы, частка апынулася на Захадзе. Усе яны дабразычлівым словам успамінаюць дырэктара Барыса Кіта, заслужанага беларускага пэдагога, які рызыкаваў жыцьцём, каб моладзь магла атрымаць у жудасныя акупацыйныя часы патрэбную асьвету.

---

[518] **Другі Усебеларускі кангрэс** — з'езд прадстаўнікоў беларускага народа, які адбыўся 27 чэрвеня 1944 г., ва ўмовах нямецкай акупацыі Беларусі, у Менску. Падчас яго была абвешчаная незалежнасць краіны ад Расіі, а Беларуская Цэнтральная Рада называлася пераемніцай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Барыс Кіт зь вялікім сумам, як і шмат хто з нас, пакінуў Бацькаўшчыну. У дзень ягонага ад'езду на чыгуначную станцыю зьявілася вялікая грамада вучняў. Некаторыя прынесьлі нават на дарогу яму прадукты харчаваньня.

Барысу пашчасьціла на эміграцыі добрую частку жыцьця прысьвяціць пэдагагічнай дзейнасьці, апрача дзейнасьці навуковай.

У травені сёлета Барыс Кіт абараніў дысэртацыю на Рэгензбурскім унівэрсытэце і атрымаў навуковы тытул доктара філязофіі ў галіне гісторыі й матэматыкі.

Доктару Барысу Кіту, майму земляку з Бацькаўшчыны й вялікаму прыяцелю, з гэтай нагоды складаю найлепшыя пажаданьні.

*Міхась Лужынскі*

## Яшчэ пра Маладэчэнскую гандлёвую школу (1943–1944)[519]

У верасьні летась мінула сорак гадоў як у Маладэчне была адчыненая сярэдняя гандлёва-адміністрацыйная школа. Першы год былі створаныя два курсы. Вучні, што вучыліся ў польскай гімназіі або скончылі больш за сем клясаў савецкае школы, былі залічаныя на 2-гі курс (было 26 вучняў) і дзьве паралельныя клясы першага курсу мелі па 30 асобаў кожная.

Увосень 1943 г. у школу прынялі 120 вучняў, стварыўшы тры паралельныя клясы. Уступны конкурс быў цяжкі, бо аплікантаў было больш за 200. Наймалодшым вучням было па 15–16 год, а найстарэйшаму 26. У пераважнай бальшыні гэта былі дзеці сялянаў з Маладэчанскага, Вялейскага, Ашмянскага й Радашкавіцкага паветаў. Мясцовых маладэчанскіх вучняў было каля 30. Хлапцоў было значна больш як дзяўчат, у прапорцыі бадай 2:1.

Мясьцілася школа на Менскай вуліцы ў былым прыватным доме, у якім былі абсталяваны тры клясы, маленькі настаўніцкі пакой ды яшчэ меншая канцылярыя.

Навучаньне было разьлічанае на чатыры гады. Заняткі вяліся на дзьве зьмены, шэсьць дзён на тыдзень. Вывучаліся ўсе прадметы

[519] Беларус. № 308–309. Студзень — люты 1989. С. 6.

сярэдняе школы, а таксама гандаль, тавараднаўства, бухгальтэрыя і на апошніх курсах — права.

Сама задума гэтае фаховае школы была надзвычай разумная. Выпускнік школы мог заняць якую-хоць пасаду ў гандлёвай арганізацыі, адкрыць агенцыю імпарту і экспарту, дастаць працу бухгальтара ў любым прадпрыемстве, адміністратара ў раённай ці гарадзкой управе або сакратара суду. Як ведама, у нас усе гэтыя становішчы блізу бяз выключэньня былі абсаджаныя чужынцамі.

Дырэктарам школы быў Барыс Кіт. Ён карыстаўся вялікай пашанай, усе неяк ведалі ягоную біяграфію — былы выкладчык Віленскай Беларускай гімназіі й шчыры патрыёт. Ён выстараўся для ўсіх нас пасьветчаньні па-нямецку й па-беларуску са здымкам уласьніка, якія нам вельмі дапамагалі даяжджаць дадому цягніком. Немцы, як ведама, зацятыя фармалісты і да паперак, напісаных па-нямецку, ставіліся з павагай.

Заступнікам дырэктара быў др. Дзімітрыёў — віленскі юрыст, што спэцыялізаваўся ў гандлёвым праве. Ён выкладаў гандаль і права. Гэта быў надзвычайны чалавек. Перад вайной ён быў заможны й вельмі багата апранаўся. Ён нагэтулькі выдзяляўся сярод бедна апранутага натоўпу ваеннага часу, што яму салютавалі нямецкія жаўнеры і афіцэры. У яго на кожны дзень тыдня быў іншы касьцюм. З трэйцяга гузіка камізэлькі зьвісаў таўсты залаты ланцужок. У правай кішані камізэлькі быў залаты кішэнны гадзіньнік, які наш выкладчык даставаў усяго адзін раз на гадзіну, заўсёды каля пяцёх хвілін да канца лекцыі.

Падручнікаў, апрача фізыкі, хэміі і альгебры менскага выданьня, зусім ня было. Даводзілася пісаць канспэкты ў часе лекцыяў. Дзімітрыеў, гэтая суцэльная прэцэзія[520], таксама практыкаваў мастацтва ашчаджаньня словаў. Прыйшоўшы са школы, трэба было перапісаць канспэкт. Перапісваючы, я часта стараўся замяніць, выкінуць або дадаць хоць адно слова, але гэта мне ніколі не ўдавалася. Дзімітрыеў дасканальна ведаў ангельскую й нямецкую мовы й даволі добра гутарыў па-беларуску.

Чалавекам, які прышчапіў нам любасьць да беларускае мовы, быў выкладчык беларускае літаратуры Янка Давідовіч. Гэта быў таксама пэдант, ён густоўна апранаўся й вельмі карэктна трымаўся. Гутарыў крыштальна чыстай літаратурнай мовай, вымагаў гэтага

---

520 Відаць, маецца на ўвазе ***precyzja*** (пол.) — дакладнасць.

ад нас, і мы старанна яго насьлядоўвалі. Ён прымушаў нас чытаць і кожны другі тыдзень выклікаў, каб папытацца, хто што за апошні час прачытаў. Раз выклікаў адну паненку й спытаў, што яна прачытала, а яна — *"Самотнэ душэ"*. Відавочна абураны, настаўнік павышаным тонам сказаў: «*Чытай Сяцькевіча*[521], *Гогаля*[522], *Талстога*[523], *а "Самотнэ душэ" пакінь, бо сама такою застанешся*».

Беларускую мову выкладала сп-чна Оля Пагуда — прыгожая сінявокая бляндынка, у якой мы ўсе хлапцы былі закаханыя. На пачатку 1944 г. яна перажыла асабістую трагэдыю. Ейны нарачоны, Юльян Саковіч[524], ахвіцэр Беларускае Краёвае Абароны, быў сярод белага дня застрэляны ў Лідзе польскім падпольлем. Ох, як відавочна завяла гэтая сінявокая кветка.

Выкладчыкам гісторыі быў дацэнт менскага ўнівэрсытэту Макарэвіч. Ён таксама пацярпеў, бо ў першыя дні вайны бомбай была забітая ягоная жонка, і ён жыў у Маладэчне зь 9-гадовай дачушкай. Чалавек вельмі таварыскі, мог нат даць закурыць старэйшым вучням, але на занятках быў вельмі вымагальны.

Другім выкладчыкам гандлю быў Шчасны з Навагр득чыны. Ён скончыў вышэйшую гандлёвую школу ў Варшаве, ведаў ангельскую й нямецкую мовы, але сваёй карыстаўся ня зусім добра, часта ўжываючы дыялектызмы. Ён казаў *"чатэры"* — гэтак мы яго й празвалі.

Хіба хопіць пра настаўнікаў. Усе яны, напоўгалодныя, жылі ў Маладэчне, але недаядалі толькі да восені 1943 г., калі зь ініцыятывы Сідарэвіча (з Хажова) і Лужынскага (з Палачанаў) быў скліканы бацькоўскі сход, выбраны камітэт, які ўстанавіў аплату за навуку — 1 пуд мукі і 1 кг тукаў[525] за вучня ў год. Трэба тут адцеміць, што ўсе

---

521 **Генрык Сянкевіч** (пол. *Henryk Adam Aleksander Pius Sienkiewicz*, 1846–1916), польскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі 1905 г.

522 **Мікалай Гогаль** (рус. *Николай Гоголь*, 1809–1852), рускі і ўкраінскі пісьменнік.

523 **Леў Талстой** (рус. *Лев Толстой*, 1828–1910), рускі пісьменнік, мысляр, публіцыст.

524 **Юльян Саковіч** (1906–1943), грамадскі дзеяч. Выпускнік Віленскай беларускай гімназіі, затым вучыўся ў Віленскім універсітэце. Сябра Беларускага студэнцкага саюза, Таварыства беларускай школы, КПЗБ. Арыштоўваўся польскімі, а пасля савецкімі ўладамі. У перыяд нямецкай акупацыі быў начальнікам адміністрацыйнага аддзела Беларускай народнай самапомачы і акруговым старшынёй БНС у Лідзе. Забіты польскімі падпольшчыкамі.

525 ***Тук*** — тлушч.

бацькі, навет з партызанскіх раёнаў, акуратна аплачвалі падатак, ну і, ведама, відавочна павесялелі й пакруглелі нашыя настаўнікі.

Пры школе быў гурток мастацкае самадзейнасьці, а таксама літаратурны гурток, да якога належалі ня толькі вучні, але й аматары пяра з ваколіцаў. Гэтымі гурткамі кіраваў школьны інспэктар Магер. Ад восені 1943 г. у школе выкладаў ігру на піяніна й скрыпцы расейскі кампазытар й віртуоз-скрыпач Камароўскі. Яго зь лягеру ваенна-палонных нейкім чынам вырваў праф. Кіт, і ён часта даваў канцэрты клясычнай музыкі на скрыпцы пад акампанімэнт сваіх вучаніц.

Багатая на падзеі была восень 1943 году. Аднаго прыгожага дня ў школу прыехаў акруговы кіраўнік Саюзу Беларускае Моладзі Пятро Сьценьнік[526]. А 12-й гадзіне, калі абедзьве зьмены былі ў школе сабраўшыся на школьным пляцы, ён выступіў з патрыятычнай прамовай, зьмест якое зводзіўся да аднае звароткі маршу СБМ:

*Сяньня сілы маладосьці*
*Сорам дома марнаваць,*
*Трэба шчыльнымі радамі*
*Йсьці Радзіму будаваць!*

І пайшлі, пайшлі ўсе да аднаго!

Неўзабаве была прывезеная ўніформа, і хлопцы, вельмі зграбна выглядаючы, пачалі вучыцца муштры. Паліліся над Маладэчнам маршовыя песьні:

*Як шырока і далёка*
*Беларуская зямля,*
*Заклікае вёску, горад*
*Кліч магутны юнака:*
*— Гэй, з намі,*
*Гэй, з намі радамі…*

“А ў лузе каліна”, “А ў гушчарах”[527] ды іншыя маршовыя песьні.

---

526 **Пётра Сценнік** (1914 (1920) — ?), дзеяч СБМ. Вучыўся ў Дзісенскай гімназіі. Быў кіраўніком СБМ на Вілейскую акругу. Улетку 1944 г. выехаў у Нямеччыну, адкуль перабраўся ў Чэхію (1945), дзе яго арыштавалі савецкія спецслужбы і вывезлі ў СССР. Далейшы лёс невядомы.

527 Магчыма, маецца на ўвазе песня на верш Наталлі Арсенневай “У гушчарах”, музыку напісаў Мікола Шчаглоў-Куліковіч.

На пачатку травеня 1944 г. у школу зноў прыехаў кіраўнік СБМ Сьценьнік зь лейтэнантам паветраных сілаў Фэрманам. Зноў склікалі ўсіх вучняў, гэтым разам хлопцаў, і Фэрман сказаў наступнае: *"Сёньня разыгрываецца лёс усяе Эўропы, а таксама вашае Бацькаўшчыны. Беларусы ўжо стварылі сваю армію ў форме Беларускае Краёвае Абароны. Аднак мадэрная армія ня можа быць эфэктыўнай без свайго лётніцтва. Я заклікаю вас, юнакі, ісьці ахвотнікамі ў паветраныя збройныя сілы. Некаторыя з вас стануць пілётамі, іншыя — навігатарамі або борт-мэханікамі"*.

І пайшлі — 46 хлапцоў. Па нейкім тыдні рэкруты выехалі ў Менск, дзе іх абмуньдзіравалі і ў палавіне чырвеня 1944 г. вывезьлі ў Нямеччыну, бо ўжо набліжаўся фронт. У Нямеччыне яны былі прыдзеленыя да зэнітнай артылерыі. Магчыма, Немцы ня зусім абманулі нашых юнакоў. Узімку 1944–45 году ў Брэмэне старэйшы лейтэнант Кэнінг даваў ім лекцыі нямецкае мовы й мастацтва артылерыі. Відаць, нейкі загад быў зьверху.

Пра далейшую долю настаўнікаў Маладэчанскае гандлёвае школы ведаю мала. У вольным сьвеце знаходзіцца цяпер толькі праф. Барыс Кіт, цяпер навуковец міжнароднае славы. Бальшыня вучняў засталася дома. Ёсьць два дзесяткі ў Польшчы, а таксама трох у Ангельшчыне, двух у ЗША, двух у Канадзе і адзін у Аўстраліі.

Прысьпешна б'ецца сэрца, калі прыпамінаю той трывожны час, час змаганьня й нацыянальнага ўздыму беларускага народу і нашага юнацкага ўдзелу ў ім.

# ГІСТОРЫЯ ЭМІГРАЦЫІ

*М. М-ч*[528]

## Сьветчаньні камянёў[529]

Эміграцыя Беларусаў за межы краю або акіян пачалася пасьля забору нашага краю Расеяй. Цяжкія эканамічныя абставіны жыцьця ў гэтым "Забраным Краі" змушалі людзей пакідаць свой родны кут ды шукаць лепшае долі на чужыне. Шмат Беларусаў перасялілася ў Задзіночаныя Штаты Амэрыкі і асела ў большых колькасьцях у Нью Ёрку. Вельмі шмат было такіх, што ехалі на часовы побыт, у заработкі, з мэтай вярнуцца на Бацькаўшчыну да свае радзімы. Нідзе не пададзена ды й не падлічана, колькі Беларусаў пакінула свой край з гэтых прычынаў.

Як гэта ні дзіўна, але баржджэйшае ўяўленьне аб узгляднай колькасьці эміграцыі ды долі першых беларускіх эмігрантаў мы можам здабыць ад нямых сьветкаў — надмагільных камянёў. Калі мы па Нью-Ёркаўскіх хрысьціянскіх могільніках прыгледзімся да гэтых нямых сьветкаў, дык пабачым, што Беларусаў спачывае ўжо тут вельмі а вельмі шмат. Адначасна гэтыя сьветкі пакажуць тую сумную долю, якая спаткала першых пасяленцаў. Век першых пасяленцаў быў вельмі кароткі, звычайна да 40–45 год, а найчасьцей паміралі ў маладзейшым веку. Якія гэтаму былі прычыны? Цяжка ўсталіць на аснове размовы із старымі эмігрантамі. Такіх прычынаў было шмат: адменныя абставіны жыцьця, рознасьць клімату, эпідэміі ды іншыя. Але вызначаецца і адна паважная — цяжкія абставіны працы. У той час, калі сацыяльная ахова працоўных была слабая, перасяленец, падпісаўшы кантракт з пэўнай фірмай, выкарыстоўваўся надмерна, і ягонае сілы не ставала на даўжэйшы век. І вось як гэта часта-густа здаралася, чалавек, што паехаў у заработкі, каб вярнуцца дамоў узбагачаным, неўзабаве зношваўся

528 ***М. М-ч*** — крыптанім Міхася Міцкевіча.

529 Беларус. № 55. Сакавік 1956. С. 6.

ды завяршаў жыцьцё; надзеі на зварот аказаліся марнымі, ён навек заставаўся тут, пакінуўшы па сабе толькі знак у выглядзе камяня з напісам: *"Пожыв 32 годы"*. Не *пражыў* век, а толькі крыжу *пажыў*.

Ёсьць магілкі ў Нью-Ёркаўскай дзялянцы *Maspeth*, дзе Беларусаў пахавана ці не найбольш, супраць розных хрысьціянскіх народаў. Пакладіся яны цэлымі калёніямі, па колькі дзясяткаў або й сотняў, невялікімі групамі й паасобнымі магіламі па ўсім могільніку плошчаю каля 50–60 дзесяцінаў. Часам кідаюцца ў вочы арыгінальныя напісы на камянёх. Вось напісана на камені ўзбоч дарогі: *"Прохожы увзгляні на прах Я в дома — а ты в гостях"*. Знаменны напіс над аднэй магілай *"Пётр Белянскій Белорус"* сьветчыць, што чалавек паміраючы, лепшай памяткаю па сабе ўважаў адзначыць сваю нацыянальнасьць. Мусіць горкая праўда, што найлепшы розум прыходзіць у часе скону. На адным камені вызначаецца трагічны знак: уклятая цяпер бальшавіцкая эмблема — серп з малатком. Як часта чалавек захапляецца тым, што становіць ягоную загубу!

Гэтыя нямыя сьветкі сьцьвярджаюць, што найбольш Беларусаў выяжджала з былых губэрніяў: Віленскай, Горадзенскай, Менскай. Паводля ўзгляднай колькасьці ім дараўнацца, а можа й перасягнуць, здолее Украінская Галіччына ды Валыншчына, якая й на могільніку сталася суседкаю Беларусаў.

Цяперашнія старэйшыя Беларусы, што былі мацней загартаваныя да жыцьцёвых нягодаў, — людзі маўклівыя, у сабе замкнутыя. Толькі сардэчныя прыязныя дачыненьні выклікаюць іх на размовы ды на выкрыцьцё сваіх думаў. Зь іх мы даведваемся, звычайна, аб пакрыжаваных жыцьцёвых плянах, страчаных надзеях, разьдзеленых сем'ях ды аб тэй сумоце, што замкнула чалавека ў самым сабе.

Паколькі Беларусы выяжджалі пераважна адзінкамі, а ня сем'ямі, дык гэта было вельмі спрыяльнай акалічнасьцяй да хуткай асыміляцыі. Спрычынілася яшчэ да гэтага нястача свае царквы, той падзел Беларусаў на праваслаўных ды каталікоў ды пашырэньне польскімі й расейскімі сьвятарамі грэшнага й недарэчнага цьверджаньня "польскай" і "рускай" вераў. Гэтыя сьвятары служылі, ведама, ня Хрысту, але кажны свайму імпэрыялізму. Але-ж за даўгі час навука іхная прыліпла да Беларусаў: нясьведамыя Беларусы так і ўважаюць: калі каталік, значыць, паляк, а праваслаўны — значыць рускі. Гэтая акалічнасьць і на эміграцыі ня спрыяла скупленьню Беларусаў у сваіх калёніях. Беларусы паводля рэлігіі папрыставалі

ў бальшыні — каталікі да палякаў, а праваслаўныя — да расейцаў, і гэтак павялічылі колькасьць эміграцыяў польскай ды расейскай.

Звычайна сярод моладзі беларускага паходжаньня ўжо не пачуеш беларускай мовы за выняткам тых сем'яў, што прыехалі цалком ды ня так даўно. І з сумам трэба сьцьвердзіць, што ўсе гэтыя людзі для Беларускае Нацыі, бадай, страчаныя. А колькі іх? Няведама. Адно з пэўнасьцяй трэба сказаць, што лічыць іх трэба сотнямі тысячаў.

Калі-ж мы прыгадаем той масавы разгон Беларусаў па расейскіх канцлягерох ды па стэпах Сібіру й Караганды, куды зьвезена колькі міліёнаў, а таксама паваенны вываз Беларусаў-каталікоў у занятыя Прусы, на сучасную польскую тэрыторыю, што зноў-жа колькасна сягае міліёну — дык абраз трагэдыі Беларускага Народу паўстае з усёю жахлівасьцю й гарчынёю.

## Інтэрвію зь Пятром Орсам

Пра беларускіх студэнтаў у Празе[530]

*"Беларус": У якім годзе Вы трапілі ў Прагу і ў моц якіх акалічнасьцяў Вы туды паехалі?*

Орса: У Прагу я прыехаў у 1923 годзе.

*Б.: Ці Вас туды нехта накіроўваў, ці Вы самі паехалі?*

О.: Справа такая была. Расейская гімназія ў Наваградку, у якой я вучыўся, мела настаўнікаў, што былі зьвязаныя з Беларускім Камітэтам у Вільні[531]. Камітэт меў сувязь з Прагаю, з адным чалавекам там, прозьвішча якога было Вяршынін[532].

*Б.: Гэта з тым, што быў паслом ураду БНР?*

О.: Так, ён супрацоўнічаў з урадам БНР, памагаў выпісваць студэнтаў, спатыкаў іх, калі яны прыяжджалі. Жонка ягоная была Чэшка, вельмі прыемная жанчына. Яна апекавалася намі ў першых днёх.

---

530 Беларус. № 344. Люты 1988. С. 4.

531 Магчыма, маецца на ўвазе **Беларускі нацыянальны камітэт** (БНК), каардынацыйны прадстаўнічы орган беларускіх нацыянальна-дэмакратычных партый і арганізацый у Заходняй Беларусі. Існаваў у Вільні ў 1921–1938 гг.

532 **Мікола Вяршынін** (1878–1934), грамадска-палітычны дзеяч. Пасля рэвалюцыі 1905–1907 гг. жыў у эміграцыі ў Аўстра-Венгрыі. Ад 1918 г. быў неафіцыйным прадстаўніком урада БНР у Чэхаславацкай Рэспубліцы. Ад 1921 г. старшыня Беларускай грамады ў Празе.

Што да стыпэндыяў, дык у тым часе ў Празе былі дзейныя ўкраінскі камітэт, украінскі пэдагагічны інстытут імя Драгаманава[533]. Чэскі ўрад стыпэндыі нам, Беларусам, даваў праз украінскі камітэт. Вяршынін меў сувязі і з Чэхамі, і з Украінцамі.

Вяршыніну памагалі Аляксандр Шах, Каўцэвіч[534], Верамей[535] і яшчэ некалькі чалавек. Яны мелі сярэднюю асьвету з расейскае школы, пераважна землямеры, і трапілі ў Прагу першыя ды выпісвалі ўжо, хто каго знаў. Яны вялі работу, а Вяршынін толькі кіраваў, каардынаваў.

Мяне знаў Шах, то ён мне напісаў: прыяжджай! Я й паехаў. З расейскае навaградзкае гімназіі ў Празе было шмат такіх, што нават ня скончылі школы, ня мелі атэстату сьпеласьці. Віленскі камітэт націснуў на Наваградак, зьвярнуўся да гімназіі з прапановаю, што калі маеце здольных вучняў, дык давайце прозьвішчы і будзем іх пасылаць у Прагу, хоць яны й ня скончылі гімназіі. Вось і пасылалі. У гэтую групу папаў і я. І мы нелегальна прыехалі ў Прагу.

*Б.: Колькі ў Празе было беларускіх студэнтаў, калі Вы туды прыехалі?*

О.: Чалавек дванаццаць.

*Б.: Як-жа Вам удалося перайсьці польска-чэхаславацкую мяжу?*

О.: Мой брат Аляксандар[536] кіраваў мною. Я яго пасьля таксама выпісаў у Прагу. Калі мы даведаліся, што прапанова такая прыйшла з Прагі — што можна ехаць вучыцца, калі хто хоча, хоць і ня мае яшчэ поўнае сярэдняе асьветы, — дык я пачаў зьбірацца. Паехала нас чатырох.

*Б.: Усе з Наваградку?*

О.: Усе з Наваградку. Даехалі мы да Кракава, там у гасьцініцы пераначавалі, а назаўтра такі вось лівень быў, як сягоньня. У капусьце нейкай ляжалі ў агародзе, хаваліся. Мы ўжо мелі вызначанае

533 **Украінскі вышэйшы педагагічны інстытут імя М. Драгаманава** — вышэйшая навучальная ўстанова ў Празе, заснаваная ў 1923 г. пры падтрымцы чэшскага ўрада. Дзейнічаў да 1933 г.

534 **Міхась Каўцэвіч** (1899–1937), грамадска-палітычны дзеяч, навуковец. Ад 1922 г. жыў у Чэхаславацкай Рэспубліцы. У 1928 г. закончыў Пражскі электрамеханічны інстытут, у 1928–1930 гг. аспірант гэтага інстытута. Актыўны дзеяч беларускага прасавецкага руху ў Празе.

535 Відаць, маецца на ўвазе **Мікалай Верамей** (1898–1937), грамадскі і палітычны дзеяч, публіцыст. Пазней жыў у Заходняй Беларусі, быў сябрам КПЗБ.

536 Маецца на ўвазе Аляксандр Орса.

месца, дзе павінны былі пераходзіць граніцу. Пераводзіў нас нейкі гураль, які там жыў, Паляк. Ён быў зьвязаны з нашымі, нашыя яму ўжо далі зарабіць. Ён нас прыняў, пасяліў на гары ў нейкім хляве. Мы там начавалі. А назаўтрае пабудзіў і кажа: *"Ідзём"*. І мы бягом — да граніцы. Была там рэчка, яе трэба пераходзіць. Мы пачакалі троху, пакуль вартавы паліцыянт пайшоў, і калі гураль сказаў нам *"Цяпер бягом!"*, мы ўсе разам і пабеглі. Пераляцелі тую рачулку і ўваліліся на другім баку ў канаву ды нейкі час там ляжалі. Тады наш пераводчык кажа: *"Цяпер ужо можаце ісьці"*. Мы й пайшлі.

*Б.: Гэта якою парою году было?*

*О.:* Было гэтай во парой, увосень.

*Б.: То вам там давялося памёрзнуць.*

*О.:* Мы ў тэй канаве папрастуджваліся. На чэскім баку нас сустрэў другі пераводчык і кажа: *"Цяпер прайдзеце пяшком дзьве станцыі"*. Твардошын і — другой не памятаю. Мы прайшлі дзьве станцыі і зьявіліся ў чэскі банк, каб выменяць залатыя грошы на чэскія. Тады інфляцыя была ў Польшчы, і пакуль мы даехалі да граніцы, дык тыя нашы польскія грошы нічога ня былі вартыя. Я ня меў золата, толькі паперкі, а мой калега меў золата. Дык ён мне пазычыў і з чэскім пераводчыкам разьлічыцца, дзесяць рублёў золатам. Добры хлопец быў. Ну, і банк вымяняў нам гэтыя грошы. І паехалі мы далей цягнікам да Прагі. Папацёмку знайшлі патрэбную вуліцу, дзе жыў Вяршынін, пазванілі, разбудзілі яго. Жонка ягоная нас абагрэла, мы пераспалі ў іх, а назаўтра пайшлі ў студэнцкі дом. Там заапекаваліся намі ўжо студэнты-Беларусы. Наш прадстаўнік пайшоў да Ўкраінцаў. У Украінцаў прыймала так званых бежанцаў Украінская Хатка. Вось мы й паехалі туды. Там нас прынялі, мы там паелі, папілі, адпачылі. І далей пайшло студэнцкае жыцьцё.

*Б.: А Ўкраінцаў шмат там было?*

*О.:* Яны там моцныя былі, мелі свой пэдагагічны інстытут з уласнай прафэсурай. У Падбарадах[537] была ўкраінская сельскагаспадарчая акадэмія, былі матуральныя курсы[538], якія дапамагалі

[537] **Сельскагаспадарчая акадэмія ў Падэбрадах** — украінская вышэйшая навучальная ўстанова ў Чэхаславацкай Рэспубліцы. Створана па ініцыятыве Украінскага грамадскага камітэта на чале з Мікітам Шапавалам пры фінансавай падтрымцы Міністэрства замежных спраў Чэхаславацкай Рэспублікі. Дзейнічала ў 1922–1935 гг. У акадэміі навучаліся і беларускія студэнты.

[538] **Матуральныя курсы** — навучальныя курсы, выпускнікі якіх атрымоўвалі атэстат аб сярэдняй адукацыі, што давала права на паступленне ў ВНУ.

вось гэткім, як я, каторыя ня мелі матуры. Ад нас-жа, казаў, некаторыя ехалі зь незакончанай сярэдняй асьветай, дык яны ўжо ў Празе вучыліся на ўкраінскіх матуральных курсах, атрымоўвалі пасьветчаньні ды кіраваліся на палітэхніку. Чэхі адразу прыймалі. Вось і я цэлы год правучыўся на матуральных курсах, здаў экзамен і пайшоў на палітэхніку, якую й скончыў. Са стыпэндыямі да 1926 году ня было ніякіх праблемаў. З матуральным пасьветчаньнем можна было ісьці на які-хаця факультэт чэскіх вышэйшых навучальных установаў.

*Б.: А што сталася ў 1926 годзе?*

*О.:* Перасталі выдаваць стыпэндыі.

*Б.: Чаму?*

*О.:* Выдаткавалі тыя грошы, што мелі на гэтую мэту.

*Б.: Валянтын Сельвясюк*[539] *у беларускім студэнцкім часапісе "Сустрэчы"*[540]*, што выходзіць у Варшаве, піша: "У 1925 годзе чэскі ўрад прызнаў БССР і спыніў стыпэндыі".*

*О.:* Чэхі тады прызналі ўрад БССР, але стыпэндыі ня зусім спынілі, яшчэ былі такія адзінкі, якім яны памагалі вучыцца. Прыкладам, нашаму пазьнейшаму епіскапу Тамашчыку[541] стыпэндыя была дадзеная пасьля 1925 году, калі мяне ўжо ня было ў Празе, і вучыўся ён на палітэхніцы.

*Б.: У якіх галінах беларускія студэнты ў Празе здабывалі веду, апрача малочнае тэхналёгіі, якой займаліся Вы?*

*О.:* Былі на лясьніцтве, мэдыцыне, прыродаведзе, электрычнай, будаўлянай або дарожнай інжынерыі.

---

У першай палове 1920-х гг. каля 20 беларусаў закончылі ўкраінскія матуральныя курсы ў Падэбрадах і Юзэфове.

539 **Валянцін Сельвясюк** (нар. 1965), грамадскі дзеяч, літаратар. Жыве ў Польшчы.

540 **"Сустрэчы"** — часопіс беларускіх студэнтаў у Польшчы. Выдаваўся ў Варшаве ў 1983–1990 гг. (у 1983–1984 гг. пад назвай "*Spotkanie*").

541 **Уладзімір Тамашчык** (царк. **Васіль**, 1900–1970), грамадскі і царкоўны дзеяч. У беларускім руху ўдзельнічаў з 1920-х гг. Вучыўся ў Празе і жыў там да вайны. У гады Другой сусветнай вайны вярнуўся ў Беларусь, праводзіў беларускую грамадска-культурную працу ў Беластоку. З 1944 г. — у эміграцыі, жыў і працаваў у Мюнхене. У 1949 г. пастрыгся ў манахі, прыняўшы імя Васіль, пасля чаго вышэйшымі духоўнымі іерархамі Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ўзведзены ў сан епіскапа ў беларускай царкве Св. Мікалая ў г. Розенгайме. У 1951 г. абраны адміністратарам БАПЦ у ЗША, Канадзе і Еўропе.

*Б.: А як з гуманістычнымі кірункамі?*

О.: На лінгвістыцы былі Янка Станкевіч, Натальля Сазановіч (будучая жонка майго брата Аляксандра).

*Б.: Колькі было ўсіх беларускіх студэнтаў у Празе? Бо вось той-жа Сельвасюк у “Сустрэчах” піша, што ў 1923 годзе там было больш за 150 асобаў.*

О.: Мажліва. Але ня ўсе прызнаваліся Беларусамі. Можа, там і 200 было, але некаторыя, відаць, сябе падавалі за Расейцаў. У Празе, трэба ведаць, была вялікая расейская эміграцыя, было нешта каля 18 тысячаў расейскіх студэнтаў. Расейцы мелі свае вышэйшыя школы ў Празе.

*Б.: А як выглядала жыцьцё нашых студэнтаў?*

О.: Спачатку было нядрэннае, у гадох 1922–1924, а ў 1926 пагоршала ўжо.

*Б.: Але перад тым, як яно пагоршала, якое яно было? Быў саюз? Былі зборкі?*

О.: Было аб’еднаньне студэнцкае — АБС, Аб’еднаньне Беларускіх Студэнтаў, і, як казаў, да 26-га году было гарманійнае жыцьцё. Але пасьля таго, як нас наведалі госьці зь Менску ў 1925 г. на чале з Купалам і Цішкам Гартным, і нашы, так сказаць, зьнюхаліся ды арганізавалі прасавецкі кружок, справы пайшлі на горшае.

*Б.: Ці Вы памятаеце сустрэчу з Купалам?*

О.: А як-жа! Памятаю. На гэнай сустрэчы справу ўсю вялі Цішка Гартны і Верамей, адзін з нашых студэнтаў. Кірунак гутаркі быў прасавецкі, арыентацыя на БССР. Яны нам казалі: прыяжджайце ў Савецкую Беларусь, у Менск, там разгортваецца беларуская праца. Дык некалькі чалавек запісаліся й паехалі ў Менск — мае калегі, якія пераходзілі мяжу са мною, усе паехалі, і сьлед іхны прастыў!

*Б.: Ці Вы памятаеце прозьвішчы іхныя?*

О.: А чаму-ж не? Каўцэвіч[542], Аніськовіч[543], Шыманко[544]…

---

[542] Міхась Каўцэвіч пераехаў у БССР у 1930 г. Ад 1931 г. быў навуковым супрацоўнікам Фізіка-тэхнічнага інстытута БелАН. У 1937 г. арыштаваны і прысуджаны да расстрэлу.

[543] **Віктар Аніськовіч** (1897–?), эміграцыйны дзеяч. У 1922 г. закончыў украінскія матуральныя курсы ў Юзэфове. Навучаўся ў адной з пражскіх ВНУ. Быў сябрам “Беларускага Сакола”.

[544] **Мікола Шыманка** (1901–1986), грамадскі дзеяч. Ад 1923 г. вучыўся на агранамічным факультэце Політэхнічнага інстытута ў Празе. Меў прасавецкія настроі. У 1931 г. арыштаваны чэшскімі ўладамі і высланы ў БССР. Працаваў

*Б.: Яны паехалі ў Менск, ужо скончыўшы сярэднюю асьвету?*

О.: Так, усе скончыўшы.

*Б.: У 1925 годзе адбылася гэтак званая Бэрлінская канфэрэнцыя*[545]*, туды Цішка Гартны таксама езьдзіў.*

О.: Памятаю. Ад нас таксама дэлегат быў.

*Б.: Ад студэнцкага саюзу?*

О.: Так. Езьдзіў туды Лаўскі[546]. Калі вярнуўся з Бэрліну, казаў: бяда, нападаюць на нас палітычна. БНР-аўцы варочаюцца ў Менск. І паехалі-ж: Заяц[547], Пракулевіч[548], Мамонька, Цьвікевіч, усе паехалі. Не паехаў толькі Крэчэўскі, старшыня Рады, ды Захарка, ягоны сакратар. Яны паўміралі тут, у Празе.

*Б.: На гэтай-жа глебе й спрэчка вядзецца: ці зьліквідавалася ў 1925 годзе Рада БНР? Але паколькі старшыня Крэчэўскі ня даў*

---

навуковым супрацоўнікам у БелАН. У 1935 г. быў арыштаваны за "антысавецкую агітацыю" і прысуджаны да 5 гадоў папраўча-працоўнай калоніі. Адбываў зняволенне ва Ухта-Пячорскім лагеры ў Комі АССР. Вызвалены ў 1940 г. Пасля Другой сусветнай вайны жыў у Гродне.

545 Маецца на ўвазе **Другая Усебеларуская канферэнцыя**, якая адбывалася 12–16 кастрычніка 1925 г. у Берліне як нарада беларускіх палітычных дзеячаў у эміграцыі, скліканая з ініцыятывы старшыні Рады Міністраў БНР Аляксандра Цвікевіча. На канферэнцыі, дзе прысутнічалі і прадстаўнікі БССР, былі прынятыя пастановы аб спыненні дзейнасці Рады Міністраў БНР і прызнанні Менска "*адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі*". Пастановы Рады Міністраў не мелі сілы, бо яна не магла засядаць асобна ад Прэзідыума Рады БНР. Старшыня Рады БНР Пётра Крэчэўскі і яго намеснік Васіль Захарка не прызналі рашэнні Другой Усебеларускай канферэнцыі,

546 Маецца на ўвазе Вячаслаў Лаўскі.

547 **Леанард Заяц** (1890–1935), грамадска-палітычны дзеяч, сябра БПС-Р. Ад лютага 1918 г. — у складзе Народнага сакратарыята БНР, дзяржаўны кантралёр. Пасля расколу Рады БНР (снежань 1919 г.) загадчык канцылярыі і дзяржаўны сакратар у Народнай Радзе БНР. Ад лістапада 1923 г. жыў у Празе. У 1925 г. вярнуўся ў Менск. Працаваў кансультант-інспектарам бюджэтнага ўпраўлення наркамата фінансаў БССР. У 1930 г. арыштаваны ДПУ БССР па справе "Саюза вызвалення Беларусі". Сасланы на 5 гадоў ва Уфу. У 1935 г. паўторна арыштаваны абласным упраўленнем НКУС СССР. Памёр у турме падчас следства.

548 **Уладзімір Пракулевіч** (1887–1938), юрыст, грамадска-палітычны дзеяч, старшыня Беларускай рады Случчыны, адзін з кіраўнікоў Слуцкага збройнага чыну. Ад жніўня 1923 г. дзяржаўны сакратар урада БНР на чале з А. Цвікевічам, разам з якім у лістападзе 1923 г. пераехаў у Прагу. У 1926 г. пераехаў у БССР, працаваў у Дзяржбібліятэцы БССР, Інбелкульце, БелАН. Арыштаваны ў 1930 г. па справе "Саюза вызвалення Беларусі". У 1938 г. пасля паўторнага суда расстраляны.

*згоды на ліквідацыю ўраду, значыцца, юрыдычная цягласьць Рады БНР не перарвалася.*

*О.:* Правільна.

*Б.: Якое ўражаньне на Вас зрабіў Купала? Што Вам запаміталася з тае сустрэчы зь ім?*

*О.:* Па-мойму, ён ня быў захоплены й ня надта агітаваў, каб ехалі. Ён быў маўклівы, нічога такога не гаварыў.

*Б.: А хто быў палітычным актывістам у студэнцкай грамадзе?*

*О.:* Каўцэвіч. Мы прыпушчалі, што ён меў сувязь з савецкім паўпрэдзтвам.

*Б.: Ці Вам засталося ў памяці што-небудзь з дзейнасьці ўраду БНР у Празе?*

*О.:* Пару разоў мы сьвяткавалі ўгодкі Акту 25 Сакавіка ў студэнцкім доме. Прыходзілі Заяц, Пракулевіч, Захарка. Захарка быў асабліва актыўны ў БНР. Захарка ў Празе памёр, пахаваны на могілках у вёсцы Маджаны[549]. Крэчэўскі-ж пахаваны на Альшанах, праскіх могліцах. Там шмат нашых студэнтаў пахавана.

*Б.: Ці Вы думаеце, што можна было-б знайсьці Захаркаву магілу?*

*О.:* Помнік стаяў, няўжо-ж яго хто ськінуў. Чэхі помнікаў ня ськідвалі.

*Уладзімер Брылеўскі*

## Беларусы ў даваеннай Варшаве
Жменя ўспамінаў[550]

Думаю, што мала хто з чытачоў “Беларуса” ведае, што перад Другой сусьветнай вайной, напрыканцы 30-х гадоў, у Варшаве існавала беларуская арганізацыя. У той час, калі ў Заходняй Беларусі пад Польшчай беларускае арганізацыйнае жыцьцё было польскімі адміністрацыйнымі ўладамі амаль цалком зьліквідаванае, шмат якія беларускія дзеячы й культурна-грамадзкія працаўнікі былі гэнымі ўладамі перасьледаваныя — сядзелі ў турмах і ў Картускай

[549] Магіла Васіля Захаркі, як і магіла Пётры Крэчэўскага, знаходзіцца на Альшанскіх могілках у Празе.

[550] Беларус. № 250. Люты 1978. С. 5.

Бярозе або, у лепшым выпадку, былі высланыя ў этнаграфічную Польшчу, у Варшаве на пачатку 1937 г. было заснавана Беларускае Культурна-Асьветнае Таварыства.

Польскія ўлады (урадавы камісарыят сталічнага гораду Варшавы) далі дазвол на заснаваньне новай беларускай арганізацыі толькі таму, што яна паўстала ня ў Вільні ці ў іншым горадзе на беларускім этнаграфічным прасторы, а ў Варшаве, і была арганізацыяй культурна-асьветнай (паводля статуту), а не палітычнай. Памагло й тое, што сярод сяброў-заснавальнікаў былі такія ведамыя асобы, як прафэсары Варшаўскага ўнівэрсытэту Казура[551] й Руткоўскі[552] (абодва беларускага паходжаньня), у ляяльнасьці якіх польскія ўлады не сумляваліся. Апрача іх, сябрам-заснавальнікам і душой арганізацыі быў былы грамадавец з Глыбоччыны Пётра Ластаўка[553], гарачы беларускі патрыёт. Гэта ён хадаўся, каб атрымаць дазвол, і правёў усю падрыхтавальную працу: напісаў заяву да ўладаў, апрацаваў праэкт статуту і ўпрасіў Казуру й Руткоўскага, каб згадзіліся быць сябрамі-заснавальнікамі Таварыства.

Ядром новазаснаванай арганізацыі, вакол якога пачалі гуртавацца Беларусы, пераважна работнікі, што жылі й працавалі ў сталіцы Польшчы, былі беларускія студэнты Варшаўскага ўнівэрсытэту, Палітэхнікі і іншых варшаўскіх вышэйшых школаў. Студэнты Беларусы праваслаўнага багаслоўя пры Варшаўскім унівэрсытэце, пераважна зрусыфікаваныя сьвятарскія сыны, але для будучай кар'еры запісаныя праваслаўнымі Палякамі, да беларускай арганізацыі не прымкнулі. Некаторыя зь іх, праўда, падчас Другое сусьветнае вайны, калі пачаўся беларускі нацыянальны ўздым, улучыліся ў працу на беларускай культурна-асьветнай ніве.

---

551 Магчыма, маецца на ўвазе **Станіслаў Казура** (пол. *Stanisław Kazuro*, 1881–1961), польскі кампазітар, дырыжор, педагог. Паходзіў з-пад Вільні. У 1917–1939 гг. прафесар Варшаўскай кансерваторыі.

552 Магчыма, маецца на ўвазе **Броніслаў Руткоўскі** (пол. *Bronisław Rutkowski*, 1898–1964), польскі арганіст, педагог, музычны крытык, дырыжор і кампазітар. Паходзіў з Камаяў (цяпер Віцебская вобл.). У 1927 г. быў рэктарам Варшаўскай кансерваторыі. Ад 1955 г. жыў і працаваў у Кракаве.

553 **Пётра Ластаўка** (1907–1968), грамадскі дзеяч. Сябра БСРГ. Арыштоўваўся польскімі ўладамі, у выніку чаго перабраўся з роднага Глыбокага ў Варшаву, дзе арганізаваў Беларускае культурна-асветнае таварыства. Пасля Другой сусветнай вайны ўваходзіў у кіраўніцтва Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

У хуткім часе студэнт Панько зарганізаваў беларускі студэнцкі хор. Сьпеўкі адбіваліся ў памешканьні Ўкраінскага Студэнцкага Саюзу на Старым Месьце. З часам таварыства займела сваё собскае памешканьне з заляй, кухняй і буфэтам у цэнтры гораду пры Сьвентакржыскай вуліцы, у якім чыталіся лекцыі, рэфэраты й ладзіліся канцэрты самадзейнасьці.

Бадайшто найвялікшай імпрэзай была беларуская вечарына-баль, зладжаная 6 лютага 1937 г. дзякуючы стараньням Пётры Ластаўкі ў канцэртнай залі Вышэйшай Музычнай Школы імя Карловіча[554], у якой ён працаваў бібліятэкарам. На пачатку вечарыны, перад танцамі, адбыўся канцэрт, у якім выступілі: студэнцкі хор пад кіраўніцтвам Панька, які выканаў некалькі беларускіх народных песьняў, салістка-сьпявачка, студэнтка Варшаўскай Кансэрваторыі Чарняўская[555] і піяністка Тромбіні-Казура[556]. Пад канец вечарыны ў суседняй меншай залі за супольным сталом група студэнтаў з паэтам Гальляшом Леўчыкам[557] у цёплай сяброўскай атмасфэры прыемна праводзіла час, слухаючы дэклямаваныя ім собскія вершы й сьпяваючы разам зь ім беларускія песьні.

У гэным годзе ў Варшаву зь Міляну (Італія) пераехаў славуты беларускі сьпявак-тэнар Міхась Забэйда-Суміцкі[558] й пачаў выступаць у Варшаўскай опэры й даваць канцэрты ў залі Варшаўскай кансэрваторыі ды іншых канцэртных залях Варшавы. У другой частцы кажнага канцэрту ён сьпяваў беларускія народныя песьні ў гарманізацыі ведамых кампазытараў. Дзякуючы галоўна стараньням Пятра Ластаўкі, ведамая варшаўская фірма “Одэон” выпусьціла

---

554 **Мечыслаў Карловіч** (пол. *Mieczysław Karłowicz*, 1876–1909), народжаны ў Вішневе (цяпер Гродзенская вобл.) польскі кампазітар і дырыжор.

555 Відаць, маецца на ўвазе **Яўгенія Чарняўская-Орса**, спявачка. Паходзіла з Лідчыны. У 1930-я гг. вучылася ў Варшаўскай кансерваторыі і актыўна выступала на беларускіх і ўкраінскіх імпрэзах у Варшаве і Вільні. Пасля заканчэння кансерваторыі сляды яе губляюцца.

556 Маецца на ўвазе **Маргарыта Трамбіні-Казура** (пол. *Margerita Trombini-Kazuro*, 1891–1979), польская піяністка, педагог, жонка Станіслава Казуры. Ад 1919 г. выкладала ў Варшаўскай кансерваторыі.

557 **Галляш Леўчык** (сапр. **Ілля Ляўковіч**, 1880–1944), паэт, беларусазнаўца, публіцыст, перакладчык, музыкант.

558 **Міхась Забэйда-Суміцкі** (1900–1981), спявак і педагог. У 1932–1934 гг. вучыўся ў Італіі. Быў салістам Харбінскай, Міланскай, Пазнанскай, Варшаўскай опер, Нацыянальнага тэатра ў Празе.

некалькі грамафонных кружэлак зь беларускімі песьнямі Забэйды-Суміцкага.

Аднак знайшліся польскія шавіністыя, якім беларуская арганізацыя навет у Варшаве была, мякка кажучы, не да спадобы. У хуткім часе пасьля згаданай вечарыны ў польскім тыднёвіку "Вем вышстко"[559] ("Усё ведаю"), які дэмакратычныя польскія газэты называлі *"органам шантажыстаў"*, зьявіўся вялікі пагромны артыкул-данос на Беларускае Культурна-Асьветнае Таварыства, поўны злоснай хлусьні. Памятаю, як у абсальвэнта юрыдычнага факультэту ўнівэрсытэту Аркадзя Арэхву[560], які жыў у той час у грандыёзным Студэнцкім Доме на пляцы Нарутовіча, зыйшліся студэнты — Мікола Орса,[561] Гінько[562], Міхась Вітушка[563],

559 ***"Wiem wszystko"*** — польскі тыднёвік, які выходзіў у Варшаве ў 1930-я гг.

560 **Аркадзь Арэхва** (1910–1993), грамадскі дзеяч, юрыст. Закончыў юрыдычны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у аддзеле судоў Менскай гарадской управы, з 1943 г. — пракурор Менскай акругі. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у ЗША, актывіст Беларускай Цэнтральнай Рады.

561 **Мікола Орса**, малодшы брат Аляксандра і Пётры Орсаў. Закончыў Наваградскую беларускую гімназію, паступіў у Галоўную школу сельскай гаспадаркі ў Варшаве, на факультэт ветэрынарыі, працаваў па спецыяльнасці. У кастрычніку 1939 г. быў удзельнікам Народнага сходу Заходняй Беларусі ў Беластоку і выступаў на ім з прамовай. Быў прызначаны абласным ветэрынарам Баранавіцкае акругі. У 1941 г. арыштаваны і высланы ў Сібір. Пасля вызвалення на радзіму не вярнуўся, памёр у 1970-я гг.

562 Магчыма, маецца на ўвазе **Янка Гінько** (1912–1980-я), грамадскі дзеяч. У 1939 г. закончыў Варшаўскі політэхнічны інстытут па спецыяльнасці інжынер геадэзіі. У 1940–1941 гг. працаваў па сваёй спецыяльнасці ва Усходняй Беларусі. Падчас нямецкай акупацыі працаваў старшынёй Беларускай народнай самапомачы ў Глыбокім. Сябра ЦК БНП, кіраўнік палітычнай рэферэнтуры партыі. У 1944 г. адмовіўся працаваць наменнікам прэзідэнта БЦР у Слуцку. Лейтэнант БКА. Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэса. З лета 1944 г. — у батальёне "Дальвіц". 17 лістапада 1944 г. дэсантаваўся ў раёне Ліды. У снежні трапіў у палон НКУС. Праходзіў на працэсе кіраўніцтва БНП у Мінску ў 1946 г., атрымаў 25 гадоў лагераў. У 1953 або 1954 г. трапіў на Інту. Вызваліўся пасля 1956 г., застаўся працаваць на Інце. Ажаніўся і з дапамогай жонкі атрымаў дазвол на пражыванне ў Маскве.

563 **Міхась Вітушка** (1907–1945?), вайсковы і палітычны дзеяч. У часе навучання ў Пражскім універсітэце і Варшаўскім політэхнічным інстытуце ўваходзіў у кіраўніцтва Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый і Беларускага культурна-асветнага таварыства ў Варшаве. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР кароткі час выконваў абавязкі начальніка міліцыі ў Нясвіжы. У ліпені 1941 г. наменнік каменданта дапаможнай паліцыі ў Менску. Увосень

Бахар[564], Чатырчанка й ніжэй падпісаны, каб супольна прачытаць гэны артыкул і напісаць спраставаньне-пратэст. Ніякіх дрэнных кансэнквэнцыяў для Беларускага Культурна-Асьветнага Таварыства хлусьлівы артыкул ня выклікаў, і яно праіснавала да пачатку Другой сусьветнай вайны ў 1939 годзе.

*В. П.*[565]

## Янка Чарапук-Змагар[566]

16 лістапада 1957 г. сумная вестка абегла Беларусаў у Чыкаго. Зусім нечакана ад удару сэрца памёр Янка Чарапук-Змагар[567], былы надзвычайны пасол Міністэрства замежных справаў Беларускай Народнай Рэспублікі ў гадох 1920–1922, афіцыяльны прадстаўнік Беларускай Нацыянальнай Сувязі ў Амэрыцы з даручэньня Рады БНР, заслужаны беларускі дзеяч, заснавальнік шматлікіх беларускіх нацыянальных арганізацыяў у Амэрыцы і актыўны іх сябра,

1941 г. пасля ўсталявання нямецкай цывільнай адміністрацыі з'ехаў у прыфрантавую зону Беларусі, дзе займаў пасаду намесніка інспектара паліцыі парадку прыфрантавой зоны групы армій "Цэнтр". Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэса. Быў выкладчыкам разведвальна-дыверсійнай школы ў Дальвіцы. Паводле адной з найбольш пашыраных версій, забіты ў баі неўзабаве пасля дэсантавання на тэрыторыі БССР.

564 Магчыма, маецца на ўвазе **Васіль Бахар**, які ў гады Другой сусветнай вайны апынуўся на Беласточчыне і стаў дырэктарам беларускай школы ў Гайнаўцы. У 1945 г. быў арыштаваны органамі НКУС і вывезены, паводле акрэслення А. Чэмера, "*на шахты ў Крывы Рог*".

565 ***В. П.*** — крыптанім Вацлава Пануцэвіча.

566 Бацькаўшчына. № 51–52 (385–386). Каталіцкія Каляды 1957. С. 3, 6.

567 **Янка Чарапук** (на эміграцыі **Змагар**, 1896–1957), палітычны дзеяч. Вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбурскага ўніверсітэта. У 1918 г. супрацоўнік Міністэрства замежных спраў Украінскай Народнай Рэспублікі, чалец Беларускай рады ва Украіне. Ад канца 1918 г. — на Гродзеншчыне, быў сакратаром Цэнтральнай беларускай рады Віленшчыны і Гродзеншчыны. Ад канца 1919 г. жыў у Рызе, працаваў сакратаром Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі, сябра Народнай Рады БНР. У 1922 г. выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага. Адзін з ініцыятараў стварэння Беларускага народнага камітэта ў штаце Ілінойс, Беларуска-амерыканскага нацыянальнага клуба. Уваходзіў у міжнародную каталіцкую арганізацыю "Рыцары Калумба" (меў найвышэйшую ступень).

звычайны сябра Рады БНР Амэрыканскага сэктару, усімі любляны й паважаны гарачы патрыёт Беларусі.

Янка Чарапук нарадзіўся 12 жніўня 1896 г. у Новым Двары, Сакольскага пав. б. Горадзенскай губэрні ў беларускай сялянскай каталіцкай сям'і. Пачатковыя навукі атрымаў у родным мястэчку, гімназію скончыў у Горадні ды ў 1914 г. быў паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбурскага ўнівэрсытэту. Першая сусьветная вайна й расейская рэвалюцыя не дазволілі яму закончыць унівэрсытэцкіх студыяў, але затое ўключылі яго ў беларускі нацыянальна-вызвольны рух, які пульсаваў у сталіцы расейскай імпэрыі вельмі моцна. Тут-жа была вялікая беларуская калёнія, згуртаваная ў розныя арганізацыі, як, напр., "Беларускае Таварыства Помачы Пацярпеўшым ад Вайны"[568], "Цэнтральны Камітэт Беларускай Сацыялістычнай Грамады", "Беларуская Хрысьціянская Злучнасьць"[569], выдавецкае таварыства "Загляне сонца і ў наша ваконца"[570] і інш. Тут-жа выходзілі беларускія часапісы "Сьветач"[571] й "Дзяньніца"[572].

Наагул беларускі нацыянальна-вызвольны рух ня быў чужы маладому й гарачаму юнаку й раней. Ягоны сваяк а. Францак Грынкевіч, таксама Навадворскі Беларус, шырыў нацыянальную сьведамасьць сярод гімназіяльнай моладзі ў Горадні ў гуртку "Хатка" які ў гадох 1909–1914 вёў ажыўленую дзейнасьць, ладзячы беларускія прадстаўленьні, чытаньні, экскурсіі, а ў 1913 г. навет выдаваў свой часапіс "Колас нашай нівы". Усё гэта ўздымала юнацкія крыльлі Янкі, але ў Пецярбурзе прышлося прабаваць першых палётаў.

568 **Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны** — дабрачынная арганізацыя дапамогі беларускім бежанцам у часе Першай сусветнай вайны, заснаванае ў Петраградзе ў 1916 г. Дзейнічала да 1918 г.

569 **Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць** — нацыянал-дэмакратычная партыя, заснаваная ў 1917 г. Яе заснавальнікамі і ідэолагамі былі беларускія каталіцкія ксяндзы. З 1926 да 1936 г. існавала пад назвай Беларуская хрысціянская дэмакратыя, пазней рэарганізавалася ў Беларускае нацыянальнае аб'яднанне.

570 **"Загляне сонца і ў наша аконца"** — першая легальная беларуская суполка, якая дзейнічала ў Санкт-Пецярбургу ў 1906–1914 гг.

571 **"Светач" ("*Swietač*")** — штотыднёвая грамадска-палітычная газета, заснаваная ў Пецярбургу ў 1916 г. Выходзіла па-беларуску лацінкай пад рэдакцыяй Э. Будзькі.

572 **"Дзянніца"** — беларуская газета, заснаваная З. Жылуновічам у Пецярбургу ў 1916 г. У 1918 г. аднавіла выхад. У 1918–1919 гг. выходзіла ў Маскве.

Будучы студэнтам права і эканамічных навукаў, Янка Чарапук высоўваецца ў рады актыўных студэнтаў Беларусаў, а калі выбухла рэвалюцыя 1917 г., ён усёцэльна захапляецца беларускім дзяржаўна-вызвольным рухам і аддае сябе поўнасьцю на службу Бацькаўшчыне.

Актыўную службу Бацькаўшчыне пачаў Янка Чарапук у 1918 г., калі ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі ў сувязі з эвакуацыяй Немцамі з Беларусі перанёсься ў Горадню ды ў Горадзеншчыне, згодна з ранейшай дагаворанасьцю зь Летувіскай Тарыбай, разгарнуў сваю дзейнасьць. Тут ён коратка працаваў у штабе Горадзенскага гарнізону, а наступна прыдзелены быў у Беларускую Вайсковую Дыпляматычную Місію[573], якая была пад кіраўніцтвам палкоўніка Кастуся Езавітава, дзе выконваў функцыі сакратара. У сувязі з захопніцтвам Горадзеншчыны польскімі войскамі ў 1919 г. урад БНР і названая дыпляматычная місія перанесьліся ў Рыгу, і адтуль Янка Чарапук езьдзіў з надзвычайнымі даручэньнямі на Ўкраіну да ўраду Пятлюры[574], а пасьля ў Нямеччыну і Чэхію. 2 чэрвеня 1920 г. перайшоў на службу ў Міністэрстве Замежных Справаў БНР у якасьці надзвычайнага пасла і на гэтым становішчы астаўся аж да свайго выезду ў Амэрыку, гэта ёсьць да 1922 г.

Пэрыяд 1917–1922 гг. гэта час бурлівых падзеяў і высілку беларускага нацыянальнага актыву адрадзіць і замацаваць сваю дзяржаўнасьць. Ня будучы ў стане супрацьстаяць маскоўска-польскай навале, урад БНР, знайшоўшы сваё апірышча ў Лацьвіі, а потым у Летуве ды ў канцы ў Чэхіі, шукаў міжнароднай справядлівасьці ўва ўсіх вольных краінах. Высілкі гэтыя не асталіся бяз посьпеху. Шматлікія вольныя дзяржавы, як Украіна, Фінляндыя, Эстонія, Лацьвія, Летіва, Чэхія дэ юрэ прызналі БНР, а беларускія консуляты, прадстаўніцтвы й дыпляматычныя місіі пакрылі густой сеткай важнейшыя гарады Эўропы, а навет дзейнічалі ў Маскве, Растове, Стаўрапалі і іншыя гарадох Расеі. Трэба было ўзмоцніць акцыю за акіянам, у Амэрыцы, асабліва ў Чыкага, дзе налічвалася немалая беларуская калёнія, ды гэтым падмацаваць дзейнасьць Нью Ёрк-

573 **Вайскова-дыпламатычная місія БНР у Латвіі і Эстоніі** — дыпламатычна-консульская ўстанова БНР, створаная на падставе консульства БНР у Рызе ў 1919 г. пад кіраўніцтвам К. Езавітава.

574 **Сымон Пятлюра** (укр. *Симон Петлюра*, 1879–1926), украінскі вайсковы дзеяч, кіраўнік Дырэкторыі Украінскай Народнай Рэспублікі ў 1919–1920 гг.

скага прадстаўніцтва БНР. Выбар Янкі Чарапука на гэтую місію ня быў прыпадковы. Цяжкая, няўдзячная нацыянальна-адраджэнская праца вымагала энтузіязму й нязгаслай веры ў нацыянальную ідэю. *"Толькі энтузіязм можа рабіць нашу справу, бо на такую ахвярную працу, як мы, толькі і можа пайсьці энтузіясты, які верыць у праўду й сваю справу,"* — пісаў прэз. Крэчэўскі Янку Чарапуку ў Чыкага, хвалячы ягоны нацыяльны рамантызм.

### *Падрыхтоўка й выезд у Амэрыку*

Падрыхтоўка на выезд у Амэрыку Янкі Чарапука пачалася яшчэ летам 1920 г. У гэтым часе ён выслаў свайго бацьку Антона Чарапука[575] за пашпартам БНР у Нямеччыну (пашпарт быў выстаўлены 30 чэрвеня 1920 г. у Рэвэлі[576]), а адтуль апошні выехаў у Грэнд Рапідс, Мічыгэн, арганізуючы магчымасьць для прыбыцьця сына.

Тымчасам на палітычным беларускім груньце становішча пагаршалася. Вайна польска-савецкая спынілася восеньню 1920 г., і пачаўся торг беларускімі землямі, які закончыўся 18 сакавіка 1921 г. падпісаньнем ведамага Рыскага дагавору аб падзеле Беларусі і Украіны між Польшчай і Расеяй пры прытакваючым маўчаньні заходніх дзяржаваў.

Падзел Беларусі выклікаў агульнае абурэньне беларускага народу і ягонай эміграцыі ўва ўсіх краінах. Пратэстацыйныя мітынгі адбыліся таксама і ў Чыкага, арганізаваныя "Беларускім Нацыянальным Камітэтам"[577] пры ўдзеле Антона Чарапука, Чопкі[578] і іншых патрыётаў. Тут зарганізаваўся таксама "Камітэт Абароны Беларусі", які пасылаў афіцыяльныя пратэсты да заходніх дзяржаваў супраць чарговай крыўды Беларускага народу. Як бачым, Чыкаго быццам падрыхтавалася на прыезд афіцыяльнага прадстаўніка БНР.

І ўрэшце 3 лютага 1922 г. Янка Чарапук разам з жонкай Зінаідай атрымаў візу ад Амэрыканскага консуляту ў Коўне на выезд у Амэрыку і туды выехаў 14 чэрвеня 1922 г. з Рыскага порту. Афіцыяльным ягоным спонсарам ў Амэрыцы быў Беларус Янка Аршуловіч з Грэнд Рапідс, Мічыган.

---

575 **Антон Чарапук** (1879?–?), бацька Янкі Чарапука. Прыехаў у ЗША ў 1919 г.

576 Гэты пашпарт захоўваецца цяпер у Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане.

577 **Беларускі нацыянальны камітэт у Чыкага** — грамадская арганізацыя, заснаваная ў 1921 г.

578 Маецца на ўвазе **Павел Чопка**, беларускі дзеяч у Чыкага.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі дакумантам з дня 8 красавіка 1922 г. за подпісамі старшыні Рады Беларускай Нацыянальнай Сувязі А. Галавінскага[579], намесьніка В. Захаркі і сакратара Міхалевіча ўпаўнаважыла Я. Чарапука да *“прадстаўніцтва Беларускай Нацыянальнай Сувязі як на Беларусі, так і ў Амэрыцы”* (паводля дакуманту, які знаходзіцца ў архіве БНР).

Прыехаўшы ў ЗША Янка Чарапук пабачыў у большых гарадох вялікія масы беларускай маласьведамай або зусім нясьведамай эміграцыі. У самым Чыкаго лік сягаў больш 25 000 (паводля попісу з 1920 году прыблізны лік Беларусаў у Амэрыцы быў наступны: 255 000 — у Нью Ёрку, 107 000 — у Пэнсыльваніі, 48 000 — у Нью Джэрсі, 38 000 — у Ілінойс, 32 000 — у Массачузетс, 31 000 — у Огаё і г. д. агулам каля 700 000). Уся эміграцыя падзяліла сябе паводля веры “польскай” і “рускай” на “польскіх” і “рускіх” (так, як гэта было на Бацькаўшчыне) і гуртавалася каля сваіх парахвіяў, якія зарганізованыя былі польскім і расейскім духавенствам яшчэ на пачатку XX ст. Адсутнасьць дзяржаўнага сацыяльнага, мэдычнага й пасьмертнага забясьпечаньня ў Амэрыцы давалі магчымасьць зьвязваць эмігрантаў пры царкоўных арганізацыях узаемадапамогі на выпадак хваробы, сьмерці або беспрацоўя, у якія кажны эмігрант укладаў частку свайго капіталу. Вырваць адтуль беларускіх выхадцаў была нялёгкая справа: трэба было або тварыць беларускае эканамічнае апірышча, лепшае ад існуючых царкоўных, або пайсьці за цячэньнем “польска-расейскай” вады, уключыцца ў чужыя па духу арганізацыі і прабаваць знутры справу беларускага ўсьведамленьня.

Янка Чарапук верыў, што ўдасца разгарнуць трэйцюю магчымасьць: разгарнуць беларускі нацыянальны рух у Амэрыцы незалежна ад чужынецкіх арганізацыяў пры дапамозе нацыянальнага энтузіязму. Ён верыў, узварухнуць беларускую стыхію змогуць нацыянальныя актывістыя й таму ўжо ў першых лістах да Ўраду БНР

[579] **Аляксандр Галавінскі** (1886–?), грамадскі дзеяч. Закончыў Кіеўскі політэхнічны інстытут (1912). У 1918 г. прадстаўнік Рады БНР ва Украіне, дарадца Міністэрства замежных спраў БНР. Ад 1921 г. — у Літве, адзін з кіраўнікоў беларускіх эсэраў. Удзельнічаў у спробе ліквідацыі Рады БНР у 1925 г., разам з А. Цвікевічам і іншымі дзеячамі пераехаў у БССР, дзе працаваў у ВСНГ, а таксама ў Навукова-даследчым інстытуце прамысловасці. Арыштаваны ў 1930 г. і неўзабаве высланы на 5 гадоў у Ніжні Ноўгарад. Далейшы лёс невядомы.

у Празе Чэскай прасіў прысланьня больш людзей, а ў першую чаргу Язэпа Варонку, якога добра ведаў з часу супольнай працы ў Коўне. Прэзыдыюм БНР пад кіраўніцтвам старшыні Пётры Крэчэўскага поўнасьцю падтрымоўваў гэткую ідэю. Вось якія дзяржаўныя беларускія заданьні ўскладаліся на плечы маладога прадстаўніка БНР у Амэрыцы:

Ліст прэзыдэнта Крэчэўскага да Янкі Чарапука:

*“Рада Беларускай Народнай Рэспублікі*

*Прэзыдыюм*

*Ліпеня 25 дня 1923 г.*

*№ 79*

*Члену Рады й Ўпаўнаважанаму ў Амэрыцы ад ураду Беларускай Народнай Рэспублікі Івану Чарапуку.*

*Згодна з Вашымі лістамі гатуемся да пасылкі дэлегата на кангрэс у Чыкаго, якім пэўне будзе Я. Варонка. Даклады аб палітычным становішчы ўнутры й заграніцай хутка Вам перашле Міністар Загранічных Спраў А. Цьвікевіч, а таксама і мэмарандум у Вашынгтон.*

*Праграма Кангрэсу мне рысуецца так:*

*1. Арганізацыя на мясцох (аблічэньне Беларусаў ува ўсёй Амэрыцы і Канадзе і ўтварэньне ўсюды Беларускіх Камітэтаў).*

*2. Барацьба з эксплятацыяй беларускіх эмігрантаў і ўтварэньне ўласнага Бюра Працы ў месцы высадкі эмігрантаў і транзытнага ў Гамбургу ці ў Брэмэне.*

*3. Самаапбажэньне і помач Бацькаўшчыне як ахвярамі, так і дзяржаўнай пазыкай (плян прыкладаю).*

*4. Адносіны да Беларускай Народнай Рэспублікі й Савецкай Беларусі.*

*5. Адносіны да акупацыі Усходняй Беларусі Масквой і Заходняй — Польшчаю.*

*6. Вызначэньне ўсходніх граніцаў Польшчы 18 сакавіка г. г. і гвалт польскіх уладаў над Беларусамі.*

*7. Аб’яднаньне й падпарадкаваньне ўсіх арганізацыяў цэнтру Ўраду БНР, які зьяўляецца адказным за палітыку як на мясцох, так і заграніцай.*

*8. Выбары Цэнтральнага Камітэту для Амэрыкі й Канады.*

*Увага: Рэлігійны падзел Беларусаў на праваслаўных і каталікоў як прычыну да падзелу Беларусаў між Расеяй і Польшчай павінен быць*

*адкінуты з агідай. Трэба растлумачыць жыхарству ўсю бязглузнасьць такога становішча.*

*Пасылаю Вам адозву да членаў Рады й беларускіх арганізацыяў, якую пастарайцеся надрукаваць і ў амэрыканскіх газэтах ды разаслаць Беларусам. Таксама прыкладаю праэкт Дзяржаўнай пазыкі і адозвы да заграанічных Беларусаў.*

*Перагледзеце гэты праект, унясеце папраўкі й прышліце назад; калі гэтая камбінацыя можа мець посьпех, то мы прыступім да яе зьдзяйсьненьня.*

*Пасылаю Вам і форму часовай квітанцыі на папярэднюю падпіску на пазыку. Разумеецца, такую адозву лепш за ўсё было-б надрукаваць раней у амэрыканскай прэсе і ад імя Ўпаўнаважанага выдаваць квітанцыі й прыймаць падпіску.*

*Усе матарыялы, якія я Вам паслаў, скарыстайце ў прэсе.*

*Надзвычайна важна, каб Вы адразу зараз-жа далі поўную інфармацыю аб тым, што ёсьць. Колькі сяброў у Чыкагскім Камітэце, дзе ёсьць ужо беларускія гурткі з адрасамі, бо трэба нам арыентавацца добра, каб падымаючы нацыянальную глебу, не дапусьціць абмылак. Як гэта рэч трудная — Вы ведаеце, а таму й павінна быць ўсё ведама.*

*Усе гэтыя справы паведамляйце афіцыяльна, каб мы маглі іх скарыстаць усюды як матарыялы, маючыя вагу, а ня толькі як прыватныя лісты Чарапука.*

*Прыгас на беларусі рух у Амэрыцы глядзіць даволі скэптычна й больш прыпісвае Вашаму энтузіязму, чым фактычнаму становішчу, тлумачачы гэта далёкасьцю прасторы паміж Чыкаго й другімі цэнтрамі. Але ён пэўна ня ведае беларускай натуры, а судзіць па Летувісах, якія надта цяжкія "нападʼём". Беларус, праўда, зьбіраецца й прыглядаецца доўга, але калі робіць, то робіць! Толькі энтузіязм можа рабіць нашу справу, бо на такую ахвярную працу, як мы, толькі й можа пайсьці энтузіясты, які верыць у праўду і ў сваю справу.*

*У такіх цяжкіх і маральных, і матарыяльных варунках, як працуем мы, знойдзецца ня многа ахвотнікаў. Збоку можа яно й здаецца рамантычным, але толькі гэтая рамантычнасьць і дае нам сілу для далейшай працы.*

*Каб мы апіраліся толькі на рэальных фактах — ужо даўно памерлі-б.*

*Дакумэнты дакладаю.*

*Старшыня Рады БНР і Дзяржаўнай Калегіі П. Крэчэўскі".*

Прыпіска рукой: "*Чуць, атрымалі Ваша пісьмо, дзе Вы паведамляеце амаль аб усім тым, аб чым я пішу Вам у гэтым лісьце. Думкі сходзяцца. Мажліва, калі будуць грошы, вышлем і Цьвікевіча".*

Як бачым з вышэйпададзенага дакуманту, Янку Чарапуку як прадстаўніку БНР на Амэрыку ставіліся нялёгкія заданьні. Мы як новая зьмена ў Амэрыцы разумеем гэта вельмі добра, якія вялікія цяжкасьці зьвязаныя з нацыянальнай беларускай працай сярод старой эміграцыі!

Але энтузіям маладога Янкі Чарапука, назваўшага сябе на амэрыканскай зямлі Змагаром[580], меў немалы посьпех.

## *Беларуская дзейнасьць у Чыкаго*

Пасьля прыезду ў Чыкаго Янка Чарапук адразу прыступіў да актыўнай дзейнасьці. Разумеючы, што для вызваленьня Беларусі патрэбная вайсковая арганізацыя, ён у травені 1923 году ў Чыкага заснаваў Аддзел Беларускага Стралецкага Саюзу (цэнтраля была ў Новым Ёрку), а крыху пазьней склікаў Першы Зьезд (Кангрэс) беларускай эміграцыі ў Амэрыцы — ЗШ і Канады, які накрэсьліў праграму нацыянальна-палітычнай дзейнасьці на будучыню.

Актыўная дзейнасьць Янкі Чарапука знайшла ня толькі прызнаньне ўраду БНР, але і пахвалу, што відаць зь ніжэй пададзенага дакуманту:

*"Беларуская Народная Рэспубліка*

*Рада Народных Міністраў*

*27 жніўня 1923 г.*

*Яго Дастойнасьці Грамадзяніну Яну Чарапуку,*

*Чыкаго, Ільль., Амэрыка.*

*Глыбокапаважаны Пане!*

*Маю гонар давесьці да Вашага ведама, што згодна з маім дакладам аб Вашай нацыянальна-патрыятычнай чыннасьці ў Паўночна-Амэрыканскіх Штатах Урад БНР на сваім паседжаньні 26 жніўня 1923 г. пастанавіў:*

*1. Выказаць Вам, паважаны Грамадзянін, сваю сардэчную падзяку за тую працу, якая, Вамі праведзеная апошнім часам, асабліва*

[580] Янка Чарапук афіцыйна ў амерыканскіх дакументах пазначаўся як *John Zmahar*.

*ў зьвязку із скліканьнем першага зьезду беларускай эміграцыі ў Амэрыцы — З. Шт. і Канады.*

*2. Прызначыць Вас сваім сталым прадстаўніком у Амэрыцы з правамі charge d'Affaires*[581].

*З радасьцю даводзячы аб вышэйпаданым да Вашага ведама, надсылаю Вам пры гэтым адпаведнае паўнамочча.*

*Прыміце запэўненьні і г. д.*

*А. Цьвікевіч, Старшыня Ураду БНР і Міністар Заграгічных Спраў".*

Яшчэ больш ажывілася дзейнасьць, калі прыехаў Я. Варонка і далучыўся да іх І. Лабач[582], М. Аблажэй[583], П. Чопка, В. Трафімовіч і іншыя. Праца разгортывалася, і восеняй 1923 г. названым актывам пакліканая была да жыцьця беларуская грамадзкая арганізацыя Беларуска-Амэрыканскі Нацыянальны Саюз зь Я. Варонкам на чале.

Пры БАНС дзейнічаў Беларускі Клюб, бібліятэка, прэсавае бюро і сталы Камітэт Помачы работнікам і сялянам Заходняй Беларусі ды асьветная камісія. Праведзеная масавая зборка грошаў на 25 сакавіка 1924 г. (каля 5000 дал.) была перасланая на Бацькаўшчыну ў Вільню беларускім нацыянальным арганізацыям. Дзейнасьць Чыкаскай арганізацыі не абмяжоўвалася самім Чыкаго. У канцы тыдняў Я. Чарапук і Я. Варонка часта выяжджалі ў навакольныя месты, дзе былі беларускія скупішчы (Кеноша, Грэнд Рапідс, Дэтройт, Кліўленд, Індыяна Гарбор, Арго і інш.), праводзілі мітынгі й выступалі з патрыятычнымі прамовамі.

Аднак актыўнасьць і энтузіязм Янкі Чарапука, Я. Варонкі, І. Лабача і інш. не змаглі даканаць цуду, гэта значыць узбудзіць беларускія нацыянальныя ідэалы ў эмігранцкіх малапісьменных нясьведамых масах, у дадатку зьвязаных асэкурацыйным вузлом з чужынецкімі прыцаркоўнымі арганізацыямі.

«*Уся гэта маса,* — пісаў пазьней Я. Варонка ("Амэрыканскі Беларус" 16 лютага 1930 г.) — *у большай частцы беларускія сяляне,*

---

581 ***Charge d'Affaires*** (фр.) — паверaны ў справах.

582 **Ігнат Лабач**, адзін з найбольш актыўных дзеячаў беларускай эміграцыі ў ЗША ў міжваенны перыяд. Жыў у Чыкага. У 1935 г. быў адным з заснавальнікаў Беларуска-амерыканскага грамадскага задзіночання, у 1941 г. — Беларуска-амерыканскай нацыянальнай рады.

583 **Макар Аблажэй** (1894–1984), грамадскі дзеяч у Чыкага. Удзельнік Беларуска-амерыканскага саюза, Беларуска-амерыканскай нацыянальнай рады.

*пакінуўшыя сваю бацькаўшчыну ў “царскую пару”. У сваім хатнім жыцьці яны гутараць па-беларуску, пяюць беларускія песьні, а калі — і расейскія, то на беларускі лад. Публічна, у “обществе” Беларусы стараюцца гутарыць, як могуць, па-расейску. У гэтым асяродзьдзі ня рэдкія выпадкі навет варожых адносінаў да беларускага адраджэньня, хаця-б чыста культурнага, ня кажучы ўжо аб палітычным»*.

*“Каталікі-Беларусы — усёцэльна ў абдымках паланізма. Толькі дзе-ні-дзе сярод іх заўважаецца свайго роду сэпаратызм, але ён большага разьвіцьця ня мае”*.

Патрэбная была доўгая, мазольная выхаваўчая праца, каб гэты просты народ успрыняў сваю собскую ідэялёгію і пачаў тварыць сваё нацыянальнае “я”. І вось Чыкаскі беларускі актыў пайшоў у кірунку ўсьведамленьня эміграцкіх масаў, аднак выбраў лёгкую, а адначасова небясьпечную дарогу, пайменна, пачынаючы ад 1926 г. сам далучыўся да Расейскага Народнага Праваслаўнага Таварыства[584] і заняў у ім месца расейскіх “культурносьбітаў”. Я. Варонка пачаў выдаваць расейскі тыднёвік *“Вестник”*[585] у Чыкаго, пераняў кіраўніцтва расейскімі школамі, арганізаваў аддзелы РНПО сярод Беларусаў у навакольных гарадох. Тры з паловай гады і Янка Чарапук быў настаўнікам у ваднэй з такіх расейскіх школаў для беларускіх эміграцкіх дзяцей. Ведама, беларускі актыў выкарыстоўваў, як мог, свой удзел у расейскай стыхіі дзеля шырэньня нацыянальнага ўсьведамленьня эмігрантаў у нацыянальным беларускім духу. Так, напрыклад, амаль у кажным нумары *“Вестника”*, *“Русского Обозрения”*[586] мы знойдзем доўгія і вартасныя артыкулы аб беларускай мінуўшчыне, мове, культуры, жыцьці, аб паняволеньні, або кароткія інфармацыі аб дзейнасьці беларускіх арганізацыяў у Чыкаго ці ў іншых мясцовасьцях сьвету. Беларуская інфармацыйная служба ў расейскай амэрыканскай прэсе заслугоўвае поўнасьцю на прызнаньне, і ў гэтым, ведама, заслуга беларускага Чыкаскага

[584] **Рускае народнае праваслаўнае таварыства** — арганізацыя выхадцаў з Расійскай імперыі ў ЗША, заснаваная ў 1912 г., у яе кіраўніцтва напрыканцы 1920-х гг. уваходзіў Язэп Варонка.

[585] ***“Вестник = Russian Weekly Herald”*** — рускі тыднёвік, “орган незалежнай грамадскай думкі”, які выходзіў у Чыкага ў 1927–1930 гг.

[586] ***“Русское обозрение”*** — руская штодзённая незалежная літаратурная і грамадская газета, якая выдавалася ў Чыкага ў 1926–1956 гг.

актыву. Гэты актыў выкарыстоўваў таксама расейскія арганізацыі, у якіх меў свае ўплывы, дзеля абароны беларускіх інтарэсаў, як, напрыклад, праводзіў пратэстацыйныя мітынгі супраць польскага тэрору ў Заходняй Беларусі, ладзіў канцэрты, акадэміі з мэтай дапамогі палонным, дзецям і ўдовам — ахвярам польскага перасьледу, падымаў голас у вабароне ўсходніх зямель, далучаных да Масквы (параўнай, напрыклад, артыкул "Давай Смаленск" у № 3 "Беларускай Трыбуны"[587]).

Дзеля асаблівай беларускай акцыі актыў выдаваў ад 23 кастрычніка 1926 г. да 15 сакавіка 1932 г. па-расейску *"Беларускую Трибуну"*. Усяго выйшла 10 нумароў гэтага на высокім узроўні ўтрымоўнанага часапісу, выдаванага галоўным чынам дзякуючы ахвярнай працы Макара Аблажэя. Уся гэтая цэнная інфармацыйная і ўсьведамляючая акцыя аднак ня была накіраваная на самавызначэньне беларускай эміграцыі, і такім чынам беларускі актыў ня меў даплыву новых сілаў ды ня мог адарвацца ад занятага становішча, а працуючы ў вагульным расейскім рэчышчы, мімавольна замацоўваў русыфікацыю Беларусаў, для якіх беларуская праблема станавілася неразьдзельнай часткай агульнарасейскай…

Янка Чарапук ня прымыкаў душою да гэтай расейскай стыхіі. Ён у трыццатых гадох зусім адышоў ад актыву, прабаваў весьці нацыянальную працу на сваю руку, нават у вадзіночку, дзеля чаго ўступіў у амэрыканскую каталіцкую арганізацыю "Рыцары Калюмба", каб знайсьці большыя знаёмствы й кантакты з амэрыканскімі кіруючымі дзейнікамі. Гэтыя знаёмствы й кантакты ён выкарыстоўваў не для сябе асабіста, але дзеля пашырэньня беларускай справы, дзеля здабыцьця сымпатыяў для беларускага вызвольнага руху. У гэтых мэтах ён памяшчаў у амэрыканскіх розных газэтах інтэрв'ю аб БНР і Беларусі, кароткія інфармацыі аб беларускім руху, аб долі Беларускага народу.

Калі Сталінскі жорсткі наступ ударыў у беларускі адраджэнскі рух у БССР і зьліквідаваў яго, пятая бальшавіцкая калёнія дзейнічала ў замежжы. Яна паралізавала дасюлешні беларускі незалежніцкі рух у Амэрыцы (хай сабе ў расейскай вопратцы). "Беларуская Трыбуна" больш ужо не пабачыла сьвету, а таксама замерла беларуская арганізацыя Беларуска-Амэрыканскі Нацыянальны Саюз

[587] ***"Белорусская Трибуна"*** — рускамоўная беларуская газета ў Чыкага, якая выходзіла ў 1926–1932 гг. пад рэдакцыяй Язэпа Варонкі.

(1933). Частка беларускага актыву ўключылася ў бальшавіцкія рэйкі і разам з расейскімі арганізацыямі павяла бальшавіцкую русыфікацыйную работу, у якой больш не знайшлося месца для "сэпаратыстых". Янка Чарапук (і некаторыя іншыя, як І. Лабач, М. Аблажэй, П. Чопка) не пайшоў на службу бальшавіцкім інтарэсам, яшчэ больш ізаляваўся ад расейска-бальшавіцкай стыхіі, настарожыўся, як белавескі зубра… Адзінокасьць, магчыма, мела ўплыў на ягонае асабістае жыцьцё.

Нацыянальная нясьхільнасьць Янкі Чарапука ў часе найбольшага разгулу бальшавіцкіх агентаў у Амэрыцы, у часе апошняй сусьветнай вайны былі прычынай нацкаваньня амэрыканскіх ворганаў бясьпекі на яго як быццам фашыстага ды ягонага арышту й паліцыйнага нагляду. Усё гэта аднак не зламала ягоных ідэялаў і ягонага чулага сэрца да Бацькаўшчыны-Беларусі. І вось калі на вызваленай Беларусі закіпела адроджанае беларускае жыцьцё ў 1941–42 гг., беларускі нацыянальны актыў ізноў злучыўся ў Чыкаго. Хацелася ізноў крочыць той самай дарогай, што ўвесь народ, зноў будзіць эмігранцкія масы з расейскага адранцьвеньня. Так была заснаваная ў Чыкаго ў 1942 г. Беларуска-Амэрыканская Нацыянальная Рада[588] старымі барацьбітамі Янкам Чарапуком, Ігнатам Лабачом, Паўлам Чопкам, Макарам Аблажэям, а. Янкам Тарасэвічам і Язэпам Варонкам з нацыянальнымі беларускімі ідэяламі.

Ад імя новай арганізацыі ладзіліся сьвяткаваньні 25 Сакавіка пісаліся мэмарыялы ў Вашынгтон у справе абароны цэласьці зямель Беларусі, выкарыстоўвалася мясцовая прэса для нацыянальнай прапаганды. Вось некаторыя вытрымкі з аднаго такога артыкулу "У вабароне цэласьці Беларусі", зьмешчанага ў газэце *"Русское Обозрение"* 26 чэрвеня 1943 г., гэта ёсьць у тым часе, калі ішоў торг беларускімі землямі на карысьць Польшчы:

*"Беларусь займае даволі вялікую прастору, больш за 450 000 км$^2$. У 1920 г. насельніцтва Беларусі раўнялася 17,8 мільёнаў, з чаго 77 прац. тварылі Беларусы.*

*Зямлі і хлеба хопіць для ўсіх жыхароў Беларусі, калі яна станецца краінай вольнай, зямля пяройдзе ў рукі сялянства, а земляробства будзе весьціся паводле правілаў сучаснай аграноміі.*

---

588 **Беларуска-амерыканская нацыянальная рада** — беларуская грамадская арганізацыя, заснаваная ў Чыкага 27 кастрычніка 1941 г. на чале з а. Янам Тарасевічам.

*І добра ды лёгка будзе ўсім жыць у Беларусі, калі там будуць існаваць на асновах справядлівасьці свае ўлады, урад, суды і іншыя ўстановы, і будуць разьвівацца родныя школы і запраўднае хрысьціянства.*

*Беларускі народ зможа зьдзейсьніць свае ідэялы, шчасьліва наладзіць сваё жыцьцё толькі ў тым выпадку, калі ён будзе жыць, працаваць, цярпець і працьвітаць разам. Там сіла й перамога, дзе адзінства.*

*Найбольшым няшчасьцем беларускага народу пасьля Першай сусьветнай вайны й расейскай рэвалюцыі было тое, што ён быў раздроблены, а Беларусь, ягоная Бацькаўшчына — падзеленая на 5 частак… У такіх умовах беларускі народ быў ні жывы, ні мёртвы — ён толькі мучыўся, цярпеў, пражыў Гальготу, пераносіў мукі… але аднак жыцьцё сваё ўдзяржаў.*

*Цяпер зноў польскі ўрад на чужыне, а таксама прадстаўнікі былых урадаў Лацьвіі й Летувы дамагаюцца беларускіх земляў. Самі ўзяць іх ня могуць. Яны спадзяюцца на Англію і Амэрыку, што іменна ўрады гэтых краінаў памогуць ім у спрэчках за падзел Беларусі.*

*Сьвятым абавязкам амэрыканскіх грамадзянаў, выходцаў зь Беларусі — усёроўна, ці лічаць яны сябе Беларусамі, ці проста рускімі — памагчы свайму народу ў гэтым споры.*

*Беларусы павінны заявіць перад краінай (чытай Амэрыкай) аб тым, што Заходняя Беларусь, дзе жыве больш за 4 міль. Беларусаў, ня Польшча, а запраўдная частка Беларусі. Трэба пісаць жалобы прэзыдэнту Рузвальту супраць польскіх прэтэнсіяў. Трэба інфармаваць амэрыканскую прэсу ў гэтай справе. Трэба гаварыць Амэрыканцам, што ў запраўднасьці прадстаўляе сабой Заходняя Беларусь.*

*Амэрыканскі ўрад павінен ведаць, што Беларусы маюць права на самавызначэньне й дамагаюцца яго на моцы Атляntычнай Граматы (Хартыі). Амэрыканцы павінны бараніць правы 4 міль. Беларусаў супраць Польшчы, якая адкідае гэта права ды імкнецца зьнішчыць Беларускі народ на собскай тэрыторыі”.*

Апрача гэтага зьмяшчаліся артыкулы ў чужынецкай прэсе, даказваючыя беларускасьць зямель, на якія прэтэндуюць Летувісы й Палякі. На ўвагу заслугоўвае артыкул Васіля Захаркі аб беларускасьці Вільні й Віленшчыны, зьмешчаны беларускім Чыкаскім актывам у *“Русском Обозрении”* 30 травеня 1942 г. № 22. Як бачым, у саракавых гадох нацыянальная ідэя, якая ўсьцяж паланіла Янку

Чарапука, злучыла ізноў увесь беларускі актыў да супольнай працы ў гурце БАНРады.

## *Сустрэча з новай эміграцыяй*

Хіба хто з новай эміграцыі не запярэчыць, што прыезд у Чыкаго вяжацца ў той ці іншай форме зь іменем Янкі Чарапука. У яго асобе кажны знайшоў шчырага прыяцеля, гатовага ўсім падзяліцца ды ад шчырага сэрца дапамагчы ўва ўсіх справах, усьцяж непагаслы зьніч нацыянальнага патрыятызму й цёплых адносінаў да вызвольнага беларускага руху. Аб гэтым могуць сказаць прадстаўнікі розных беларускіх угрупаваньняў, як сп. сп. Ніхаёнак[589], сустрэўшыся зь Янкам Чарапуком-Змагаром яшчэ ў 1948–1949 гг., М. Дзямідаў, прэзыдэнт БНР М. Абрамчык[590], В. Пануцэвіч, архіяпіскап Васіль[591], М. Шчорс[592], Ясюк[593] і шмат, шмат іншых асобаў.

589 **Янка Ніхаёнак** (1920–1986), грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў Вермонце (ЗША), жыў у в. Лебедзева Маладзечанскага павета. У часы нямецкай акупацыі настаўнічаў. Ад 1944 г. на эміграцыі ў Францыі. Адзін з першых прыбыў у ЗША і стаў адным з арганізатараў беларускага жыцця. Выдаваў часопісы "Беларус у Амэрыцы", "Віці", дапамагаў у выданні першых нумароў газеты "Беларус". Быў сябрам БАЗА.

590 **Мікола Абрамчык** (1903–1970), палітык і грамадскі дзеяч. Перад вайной жыў у Францыі, запачаткаваў там арганізацыю беларускіх эмігрантаў "Хаўрус". У гады Другой сусветнай вайны жыў у Берліне, супрацоўнічаў з газетай "Раніца". У 1947 г. стаў прэзідэнтам Рады БНР. Жыў у Парыжы.

591 Маецца на ўвазе архіепіскап Васіль (Тамашчык).

592 **Мікола Шчорс** (1913–1995), грамадскі дзеяч, выпускнік медыцынскага факультэта Віленскага ўніверсітэта. У 1935–1937 гг. старшыня Беларускага студэнцкага саюза. У 1939 г. выехаў у Варшаву, ад 1940 г. старшыня Беларускага камітэта ў Варшаве. 19 чэрвеня ў Берліне на пасяджэнні беларускага актыву быў абраны старшынёй Беларускага нацыянальнага цэнтра — прабраза ўрада будучай Беларусі. Пасля адмовіўся ад палітычнай дзейнасці і вярнуўся ў Варшаву. Ад восені 1944 г. жыў у Нямеччыне, у 1949 г. выехаў у ЗША. Адзін са стваральнікаў Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі (БККА) і ягоны старшыня ў 1951–1955 гг.

593 **Эмануіл Ясюк** (1906–1977), грамадскі дзеяч, інжынер. У 1930-я гг. закончыў Універсітэт Льежа (Бельгія). Падчас нямецкай акупацыі старшыня Стаўпецкага раёна, удзельнічаў ва Усебеларускім царкоўным саборы (жнівень 1942 г.) і Другім Усебеларускім кангрэсе. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Ад пачатку 1950-х гг. жыў у Пасэйку (Нью-Джэрсі, ЗША), суўладальнік кампаніі "Крыс Электронікс". Адзін з кіраўнікоў арганізацыі "Амерыканскія прыхільнікі БЦР", віцэ-прэзідэнт Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі, адзін з фундатараў будоўлі царквы Св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы.

Знаходзіў таксама ён час на ўтрымоўваньне шырокай карэспандэнцыі з многімі беларускімі дзеячамі. *"Чытаючы Твае лісты,* — пісаў да яго 7.17.1951 г. др. С. Грынкевіч, — *чытаючы іх па чарзе, з кажным прачытаным сказам узрастала маё глыбокае задавальненьне. Ня гледзячы на гады і адарваньне ад свайго асяродзьдзя, Твой энтузіязм, як і глыбокая нацыянальная мараль ды патрыятызм, у нічым не прытупіліся, а, наадварот, у Тваёй асобе праявілася далёказорная палітычная сьпеласьць пры ўдалым дыпляматычным падыходзе".*

Прыезд у Чыкаго прэзыдэнта БНР М. Абрамчыка ў сакавіку 1950 г. і ягоная сустрэча зь Янкам Чарапуком, арганізацыя радыёвай прамовы прэзыдэнта да Чыкаскай калёніі 25 сакавіка ў 32 гадавіну абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў радыёгадзіне Я. Варонкі зацяжылі на ягоных далейшых дачыненьнях да беларускага вызвольнага руху. Ён пераканаўся, што ідэя БНР, за якую ён змагаўся ў пэрыядзе самастанаўленьня Беларусі, надалей таксама чыстая, незалежніцкая й жывая ў радох новых барацьбітоў. Ён усёцэльна ізноў уключыўся ў БНРаўскі вызвольны рух і стаўся актыўным сябрам Рады БНР. Жаданьнем ягоным было, каб увесь стары Чыкаскі актыў, а ў першую чаргу Я. Варонку як першага старшыню ўраду БНР уключыць на бэнэраўскі шлях. Ягоны высілак закончыўся ўдачна апублікаваньнем "Звароту да Беларусаў усяго сьвету" ("Бацькаўшчына", 6 красавіка 1952 г.), у якім заклікаецца усіх Беларусаў стаць дружна пры БНР і яе правадырох:

*"Да Беларусаў сьвету.*

*25-га сакавіка ёсьць Беларускім Нацыянальным Сьвятам. Гэта значыць, што ўсе Беларусы бяз розьніцы рэлігійных і палітычных пераконаньняў ў гэты Вялікі Дзяржаўны Дзень — усе душою і сэрцам тварэце адну супольнасьць і зьвярнецеся з чужыны сваімі імкненьнямі да Бацькаўшчыны Беларусі!*

*Да часу вольных выбараў на беларускай зямлі мы, першыя прадстаўнікі Беларускай Народнай Рэспублікі, уважаем, што найвышэйшым прадстаўніком БНР зьяўляецца сп. інж. Мікола Абрамчык. Усе вайсковыя й цывільныя беларускія ўстановы на сьвеце павінны даць Яму падтрымку й дапамогу.*

*Чыкаго, 24 сакавіка 1952 г.*

*Падпісалі:*
*Язэп Варонка, былы Прэм’ер-Міністар БНР.*
*Янка Чарапук, былы Міністар Надзвычайных Справаў БНР”*[594].

Асабліва вялізным нацыянальным дасягненьнем лічыў Янка Чарапук стварэньне Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Хоць сам быў практыкуючым каталіком і сябрам ордэну “Рыцары Калюмба”, утрымоўваў сардэчныя зносіны з архіяпіскапам Васілём, сакратаром Сыноду БАПЦ, а калі Дастойны Госьць наведаў Чыкага ў лістападзе 1951 г., выявіў самую сардэчную апеку, арганізацыю побыту Ўладыкі ды глыбокую пашану:

*“Я як Беларус-дзяржаўнік,* — пісаў ён у вадным зь лістоў да арх. Васіля 15.8.1951 г., — *уважаю гістарычны акт абвешчаньня Аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы як другі важны акт пасьля абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі”.*

А свайго боку і арх. Васіль у сваіх гарачых лістах да Янкі Чарапука выказваў пашану да яго, прыяцельскія адносіны ды стараўся накіраваць яго на нацыянальную роўнавагу, калі ў некаторых пытаньнях праяўляў ён хістлівасьць.

Аўтарытэт Янкі Чарапука (падобна, Я. Варонкі і І. Лабача) стараліся выкарыстаць дзеля партыйных мэтаў прадстаўнікі ад БЦР, прапануючы склікаць быццам “аб’яднаўчыя” Кангрэсы, адкідаючы аўтарытэт існуючай Рады БНР і яе кіраўніцтва. У адносінах да Янкі Чарапука асаблівую актыўнасьць праявіў быў др М. Шчорс у 1951 г. так у сваім наведаньні яго ў Чыкага, як і ў сваіх шматлікіх лістох, якія знаходзяцца ў архіве БНР[595], аддзел Чыкага. Янка Чарапук некаторы час быў засугэраваны[596] прапагандавай ідэяй нацыянальнага пагаджэньня, прычым, праўдападобна, думаў, што яму ўдасцца гэта выканаць, бо-ж сугэстыі Кангрэсовага Камітэту[597] гучэлі патрыятычна й паклікаліся на прыклады іншых нацыянальнасьцяў, ведамых Я. Чарапуку. Калі аднак з далейшых лістоў М. Шчорса, а асабліва

594 Арыгінал гэтага ліста захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.

595 Частка згаданых лістоў, відаць, сёньня захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане, рэшта была перададзеная з БІНіМа ў БДАМЛМ.

596 ***Sugerować*** (пол.) — прапаноўваць.

597 **Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі (БККА)** — грамадская арганізацыя, створаная ў 1951 г., якая мела на мэцце каардынацыю розных беларускіх структураў у ЗША, аднак здолела аб’яднаць толькі мясцовых прыхільнікаў БЦР.

зь лісту з дня 18.10.1951 г. стала ясна, што крыецца пад агульнай патрыятычнай фразэалёгіяй адносна т. зв. пагадненьня, Янка Чарапук настаражыўся да БЦРаўскай групы і шукаў выясьненьняў у сваіх найлепшых прыяцеляў: арх. Васіля й др. С. Грынкевіча і іншых. Цяпер, маючы перад сабой выказваньні абодвых бакоў, ён як дзяржаўны муж стаў на баку дзяржаўнай ідэялёгіі БНР.

«*Чаму я не адказаў на Ваш апошні ліст,* — пісаў ён др. М. Шчорсу, — *я як беларускі дзяржаўнік быў яшчэ тады на раздарожжы, ня ведаў, што Вам адсказаць. Але апошнія падзеі ў Чыкаго канчаткова пераканалі мяне, што Вы й Вашая арганізацыя ня хочаце служыць беларускім інтарэсам, наадварот, Вы саюзьнікі Расейцаў. Што сталася? Мы ў Чыкаго чакалі на Я. М. Япіскапа Васіля. Даведаліся аб гэтым і Расейцы. Нашы людзі тут, праваслаўныя Беларусы, плянавалі адцягнуць ад расейскага кіраўніцтва адну тут цэркву, дзе выключна старыя Беларусы. І вось расейскія манархістыя зараз-жа пасьпяшылі паслаць сюды самога Анастазія*[598]*, каб перашкодзіць Беларусам. Ну, што-ж, Расейцы як Расейцы, яны робяць сваю нам варожую работу. Ня гэта страшнае, але страшнае тое, што Ваш сьвяшчэньнік Лапіцкі*[599] *зараз-жа пасьпяшыў памагчы расейскім манархістым сваёй злосьцяй і брудам на нашу дзяржаўную справу сьвятую БАПЦ і Япіскапа Васіля! Стварыўся адзіны фронт Расейцаў і Вас! Гэтага для мяне даволі! Бо-ж для мяне ўжо ясна, што расейцы атакуюць толькі тое, што для іх шкоднае, а для нас карыснае. Вось-жа, не хачу бачыць болей такіх “белоруссов”, якія памагаюць нашым вечным ворагам.*

---

598 Магчыма, маецца на ўвазе кіраўнік РПЦЗ **Анастасій** (**Аляксандар Грыбаноўскі**, 1873–1965), праваслаўны іерарх. У 1906–1918 гг. епіскап Серпухаўскі, архіепіскап Кішынёўскі і Хоцінскі. Ад 1919 г. — на эміграцыі. У жніўні 1936 г. быў абраны кіраўніком РПЦЗ. Ад 1950 г. жыў у ЗША.

599 **Мікалай Лапіцкі** (1907–1976), грамадска-рэлігійны дзеяч. Высвячаны ў святары ў 1934 г., працаваў у прыходах у Ашмянах, Стэфанпалі (Дзісненскі павет). З 1942 г. — у Менску, актыўны прыхільнік БАПЦ. З лета 1944 г. — на эміграцыі, настаяцель першай беларускай царквы на Захадзе — царквы Св. Еўфрасінні Полацкай у Рэгенсбургу. З 1950 г. — у ЗША. Ініцыятар стварэння беларускіх прыходаў у юрысдыкцыі Канстанцінопальскага (сусветнага) патрыярхату. Арганізаваў беларускую праваслаўную парафію ў Саўт-Рыверы, яе настаяцель у 1950–1976 гг. Узначальваў Царкоўную Раду беларускіх праваслаўных парафіяў у Паўночнай Амерыцы.

*А Вы яшчэ хваліцеся такою сваёю парахвіяю! Для мяне як беларускага дзяржаўніка адна царква Япіскапа Васіля даражэйшая за сто такіх шкодных нам парахвіяў і яшчэ розных рэфэратаў, бо яна Царква нашая, самастойная, гэта наша гісторыя, а ад такіх шкодных парахвіяў з часам і сьлед загіне, а цяпер бяда!»*.

Аж да сваёй неспадзяванай сьмерці Я. Чарапук-Змагар ня зыйшоў зь беларускага незалежніцкага дзяржаўніцкага шляху БНР. Ён амаль да апошняга часу быў старшынём Чыкаскага Аддзелу Рады БНР, у гадох 1950–1953 — старшынём Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады, а ў 1953–1957 старшынём кантрольнай камісіі Згуртаваньня Беларусаў Штату Іліноіс. У 1955 г. Я. Ч. пераҗыў цяжкое пакалечаньне ад самахадовага выпадку, якое каля году трымала яго ў пасьцеле, а пасьля выздараўленьня і ўключэньня зноў у нацыянальную працу наглая сьмерць перарвала ягонае жыцьцё. У яго асобе страціў Беларускі вызвольны рух старога барацьбіта, гарачага патрыёту. Хай будзе яму лёгкай зямля амэрыканская, а памяць аб ім застанецца назаўсёды ў нашым народзе!

*М. Відук*[600]

## Аб прызнаньні беларускае нацыянальнасьці ў Францыі[601]

*Ад рэдакцыі: У "Бацькаўшчыне" мы падалі былі зацемку аб прызнаньні францускім урадам беларускае нацыянальнасьці і абяцалі зьмясьціць артыкул на гэтую тэму, каб паказаць, як нашыя суродзічы гэтага дасягнулі.*

*Робячы гэта цяпер, мы хочам адцеміць, што высілкі й настойлівасьць нашых суродзічаў у Францыі запраўды варта ўзяць у прыклад беларускай эміграцыі і ў іншых краінах, дзе справа прызнаньня беларускае нацыянальнасьці яшчэ не разьвязана. З другога боку, артыкул гэты паслужыць таксама цікавым матарыялам да гісторыі нашае эміграцыі.*

600 ***М. Відук*** — відавочна, псеўданім айца Льва Гарошкі.

601 Бацькаўшчына. № 30 (312). 22 ліпеня 1956. С. 2, 4; № 31 (313). 29 ліпеня 1956. С. 3; № 33 (315). 12 жнівеня 1956. С. 2, 4; № 34 (316). 19 жнівеня 1956. С. 3–4.

* * *

Фактычна, змаганьне Беларусаў у Францыі за прызнаньне свае нацыянальнасьці пачалося ў канцы 1930 году, ад часу паўстаньня “Хаўрусу”[602].

“Хаўрус”, зарэгістраваны ў прэфэктуры як беларуская культурна-асьветная арганізацыя з пяцьма аддзеламі на правінцыі, лікам каля 300 сяброў, хутка ўвайшоў у каалізію з францускай адміністрацыяй у трактаваньні нацыянальнасьці сваіх сяброў.

Згодна з францускай (як, зрэшты, і іншых эўрапэйскіх дзяржаваў) канцэпцыяй, паняцьце нацыянальнасьці поўнасьцяй пакрываецца з паняцьцем дзяржаўнае прыналежнасьці. Адсюль: які пашпарт — такая й нацыянальнасьць. Выняткам, праўда, зьяўляліся асобы безьдзяржаўныя (апатрыды), але права на безьдзяржаўнасьць прызнавалася толькі расейскай, армянскай і пазьней гішпанскай эміграцыям як эміграцыям масавым. Дзеля адрозьненьня кожнага з гэтых безьдзяржаўных грамадзян да акрэсьленьня “апатрыд” дадавалася акрэсьленьне паходжаньня (орыжын[603]): паходжаньня расейскага, паходжаньня армянскага й г. д.

Беларуская эміграцыя ў сваёй масе (каля 80 %) прыехала ў Францыю з польскімі пашпартамі, рэшта — з латыскімі, летувіскімі і інш. Таму нацыянальнасьць Беларусаў азначалася ў дакумэнтах, выдаваных ім францускай адміністрацыяй, паводля іхных пашпартоў. Нязначная колькасьць нашых “безьдзяржаўных” запісвалася “*расейскага паходжаньня*”.

З паяўленьнем “Хаўрусу” пачалі часамі здарацца й кур’ёзныя рэчы. Скажам, якісь аддзел ці цэнтраля ладзяць баль, спэктакль ці мітынг (а такія рабіліся досыць часта), падае ў паліцыю прозьвішчы асобаў, адказных за парадак гэтае імпрэзы — зразумела, кагосьці ізь сяброў свае арганізацыі. І вось атрымоўваецца часамі: антыпольскім мітынгам кіруе Паляк. Быў адзін выпадак, калі на адным з такіх мітынгаў Беларусы пабіліся з Палякамі. Фармальна-ж, паводля рапартаў паліцыі, пабіліся Палякі з Палякамі з-за Беларусаў пры поўнай адсутнасьці апошніх.

---

602 **Хаўрус беларусаў у Францыі** — беларуская арганізацыя, заснаваная ў 1930 г. Л. Рыдлеўскім і М. Абрамчыкам (афіцыйна зарэгістраваная ў 1931 г.). Дзейнічала да пачатку Другой сусветнай вайны. Пазней аднавіла дзейнасць у 1970-я гг.

603 ***Origin*** (анг.) — паходжанне.

У 1937 годзе, калі заносілася на вайну, парыская прэфэктура пастанавіла ўзмоцніць кантроль над чужынецкімі арганізацыямі. Старшыня “Хаўрусу” атрымаў блянкі з прэфэктуры, якія мусіў дакладна запоўніць, падаючы дадзеныя аб кажным ізь сваіх сяброў. Нацыянальны склад сяброў “Хаўрусу” паводля гэных фармуляраў выявіўся так: каля 200 Палякаў, каля двух дзясяткаў Латышоў, Летувісаў, некалькі “з паходжаньня” Расейцаў, адзін Югаслаў і адзін… Кітаец (першы прыехаў зь Югаславіі, другі — з Манджурыі).

Старшыня “Хаўрусу”, зьявіўшыся ў прэфэктуру, перад тым як падаць гэныя паперы, задаў камісару пытаньне, ці могуць да “Хаўрусу” належаць небеларусы — ну, прыкладам, Кітайцы, Палякі й г. д. (Галоўнай-жа мэтай кантролю прэфэктуры было вылавіць замаскаваных пад рознымі формамі арганізацыяў розных інтэрнацыянальных агентур.) Таму ў вадказ старшыні “Хаўрусу” камісар выбухнуў нэрвовым крыкам, хоць пасьля, разабраўшыся, і сьмяяўся, разводзячы бязрадна рукамі.

Можна было-б прывесьці шмат падобных прыкладаў з калізіяй між Беларусамі й францускай адміністрацыяй як на фоне арганізацыйнага, так і прыватнага жыцьця. Нагодаў да гэтага было безьліч, і трэба сказаць, што сябры “Хаўрусу” ніколі не прапушчалі нагоды, каб у падобным выпадку не падняць праблемы беларускае нацыянальнасьці.

Гэткае змаганьне хоць і ня мела тады беспасярэдняга ўплыву на становішча адносна Беларусаў вышэйшых францускіх уладаў, якія трымаліся прынцыпу — нацыянальнасьць гэта дзяржаўная прыналежнасьць — мела адылі, як пабачым ніжэй, значэньне для будучыні, бо ўсе прыведзеныя вышэй прыклады каалізіяў награмаджвалі кучы рапартаў ніжэйшых адміністрацыйных уладаў да вышэйшых, над чым давялося пазьней паважна задумацца і самому францускаму ўраду, а асабліва з мамэнтам выбуху вайны.

## *Вайна 1939 году*

Выбух вайны ў 1939 годзе паставіў беларускую эміграцыю ў Францыі, з аднаго боку, у вельмі цяжкую сытуацыю, аднак з другога боку, гэта была вельмі добрая нагода, каб заакцэнтаваць свае вымогі нацыянальнага адасабленьня. Бязумоўна, тут вымагалася цяпер большае мужнасьці, а часамі нат не малой, як пабачым, рызыкі.

Як ведама, за тры тыдні часу саюзная Францыі Польшча была занятая Немцамі, а Заходняя Беларусь — Саветамі. Польскі ўрад, перабраўшыся ў Францыю з рэшткамі свае арміі, на падставе франсуска-польскае вайсковае канвэнцыі пачаў мабілізацыю сваіх грамадзян, што жылі ў Францыі, ды якіх налічвалася тут каля мільёну, а ў тым ліку каля 50 тысяч Беларусаў і каля 100 тысяч Украінцаў. Польскія вайскова-вэрбавальныя камісіі хутка зьявіліся ўва ўсіх гмінах (мэроўствах), а па гарадох — у камісарыятах, у асысьце францускіх вайсковых прадстаўнікоў і паліцыі. Кажны польскі грамадзянін прызыўнага веку павінен быў зьявіцца перад такой камісіяй.

Апрача афіцыяльных паведамленьняў францускіх гмінных управаў або камісарыятаў аб абавязковым зьяўленьні на камісію, былі таксама й досыць суровыя папярэджаньні з боку польскага ўраду, дзе прыпамінаўся закон аб дэзэртырстве. Атмасфэра стваралася надзвычай напружаная. Цэнтраля “Хаўрусу” пастанавіла аднак абвесьціць гэтай польска-вэрбунковай акцыі самы рашучы бой, сьведама лічачыся з надзвычайнай рызыкай.

За некалькі дзён перад тым, як польскія камісіі пачалі сваю акцыю, цэнтраля “Хаўрусу” выпусьціла адозву да ўсіх Беларусаў Францыі, у якой гаварылася: зьяўляцца на выклік францускіх уладаў арганізавана групамі, але пры гэтым выказваць свой паважны пратэст супраць пакліканьня іх у польскую армію. Былі дадзеныя наступныя інструкцыі:

1. Мы не Палякі, а Беларусы.

2. Польскі ўрад захапіў нашыя землі ў 1919–1920 гадох гвалтам, незаконна. Мы маем свой эгзыльны ўрад.

3. Польскі ўрад завёў на нашых землях палітычны і эканамічны тэрор, у выніку чаго мы змушаны былі пакінуць свае хаты й шукаць прытулку ў Францыі.

4. Францыі мы ўдзячныя за гасьціннасьць й гатовыя ўступіць дабраахвотнікамі ў францускую армію, а ў польскую армію як армію нашых акупантаў ня пойдзем.

Адозва гэтая мела шырокі водгук сярод беларускае эміграцыі. У цэнтралю “Хаўрусу” хутка прыйшлі весткі, што па ўсіх гмінах і камісарыятах Францыі беларускія прызыўнікі зьявіліся групамі, але, стоячы адасоблена ад Палякаў, паўтаралі тое, што было сказана ў інструкцыі “Хаўрусу”. Рэакцыя ўрадоўцаў польскае мабілізацыйнае

камісіі была зразумелая, але эгзэкутыва[604] належала Французам. Характэрна і ня менш павучальна тое, што ў тых мясцовасьцях, дзе знаходзіліся хоць маленькія аддзелы ці групкі "Хаўрусу", якія сваёй дзейнасьцяй на працягу сямі год зарэкамэндавалі сябе ў вачох Французаў Беларусамі — ня мелі цяпер ніякіх прыкрасьцяў. Наадварот — знаходзілі падтрымку і абарону з боку мясцовых францускіх уладаў перад польскай камісіяй. Але ў тых мясцовасьцях, дзе такіх беларускіх асяродкаў ня было, а людзі нашыя, блытаючыся па розных польскіх арганізацыях, былі ведамыя як польскія "патрыёты", — пры цяперашніх заявах, што яны не Палякі, нярэдка даставалі ў сьпіну гумовых палак ад францускае паліцыі ды былі арыштоўваныя як польскія дэзэртыры. *"За вашую Польшчу хочаце, каб біліся Французы"*, прыгаворвалі паліцыянты. Цэнтраля "Хаўрусу" хутка атрымала весткі, што на працягу нейкага тыдня часу было арыштавана больш за дзьве сотні такіх "пратэстантаў". У Міністэрстве нутраных спраў зьвінелі званкі з усіх правінцыяльных прэфэктураў з запытаньнямі: *"Што рабіць з гэтымі людзьмі, якія апратэстоўваюць сваю польскасьць?"*.

Цэнтраля "Хаўрусу" зрабіла энэргічны дэмарш у Міністэрстве вайны і Міністэрстве нутраных спраў, насьвятляючы ў абшырным мэмарандуме ўсю паважнасьць справы ды бяспраўныя прэтэнсіі Палякаў да беларускае эміграцыі, спасылаючыся на дэкрэт прэм'ера польскага ўраду Славой-Сакалоўскага[605] (гэты апошні свайго часу быў выдаў дэкрэт, што кажны польскі эмігрант, прабыўшы пяць год заграніцай, траціў аўтаматычна польскае грамадзянства, калі ён не рабіў у сваім кансуляце адпаведнага рэкурсу). Хоць, праўда, дэкрэт гэны практычна быў накіраваны галоўным чынам супраць жыдоўскае эміграцыі, і нашым людзём у 90 % не рабілася перашкодаў пры павароце дадому, калі яны сваечасова й не рабілі адпаведнага рэкурсу (а не рабіў яго ніхто з нашых людзей з тае простае прычыны, што ніхто зь іх ня ведаў аб існаваньні гэнага закону), тым ня менш, спасылка на гэты закон у мэмарыяле давала "Хаўрусу", акрамя палітычных, пэўныя юрыдычныя падставы. Найважнейшым аднак быў стыхійны масавы супраціў нашых людзёў

[604] ***Egzekutywa*** (пол.) — тут: выкананне.

[605] Маецца на ўвазе **Славой Феліцыян Складкоўскі** (пол. *Sławoj Felicjan Składkowski*, 1885–1962), польскі палітычны і вайсковы дзеяч. Прэм'ер-міністр Польшчы ў 1936–1939 гг.

супраць польскай мабілізацыі ды такі-ж супраціў і Ўкраінцамі. Сытуацыя стварылася запраўды вельмі паважная і надта прыкрая для францускага ўраду.

Францускі ўрад прыняў нарэшце пастанову, што Беларусы і Ўкраінцы маюць права выбару між польскай арміяй і арміяй францускай. Пастанова гэтая, праўда, ня была апублікаваная, але прадстаўніку “Хаўрусу” і Ўкраінцаў было сказана аб гэтым вусна. Бяссумлеўна, былі дадзеныя адпаведныя інструкцыі і францускім вэрбавальным камісіям для набору дабраахвотнікаў у францускую армію, бо ад гэтага часу Беларусы, зьяўляючыся з адпаведнымі пасьведчаньнямі “Хаўрусу”, прыймаліся ў францускую армію бязь аніякіх перашкодаў.

### *“Легіён Чужынцаў на час вайны” і барацьба вакол яго*

Зь першых дзён вайны францускі ўрад, маючы на ўвеце прабываньне ў Францыі каля трох зь лішнім мільёнаў чужынцаў зь вельмі высокім працэнтам людзёў прызыўнога веку (бо то-ж работніцкая маса), дэкрэтаваў стварэньне асобнай дабраахвотнай вайсковай фармацыі пад назовам “Легіёну Чужынцаў на час вайны”.

Каб падахвоціць уступленьне ў гэты Легіён розных нацыянальнасьцяў, з боку Вайсковага міністэрства дэкляравалася стварэньне ў гэтым Легіёне паасобных нацыянальных батальёнаў. Хутка пасьля гэтага па ўсіх гарадох Францыі зьявіліся вэрбавальныя камісіі. Да гэтых камісіяў хлынулі былі ня толькі Беларусы і Ўкраінцы, але й самыя Палякі. Аднак, прыняцьце польскіх грамадзян у кароткім часе было спынена на інтэрвэнцыю польскага ўраду. Вышэй прыгаданая прапанова францускага ўраду, што Беларусы і Ўкраінцы маюць права паміж францускай а польскай арміямі, нанова адчыніла дзьверы Беларусам і Ўкраінцам.

Дзеля таго, што Палякі і далей запісваліся ў францускі Легіён, вэрбавальныя камісіі, каб унікнуць новых калізіяў з польскім урадам, вымагалі пасьветчаньняў аб нацыянальнасьці. Выдаваныя “Хаўрусам” пасьветчаньні аб беларускай нацыянальнасьці, такім чынам, адгароджвалі Беларусаў ад Палякаў. Гэта быў першы выпадак, калі францускія ўстановы, прынамся дэ факта, пачалі прызнаваць беларускую нацыянальнасьць.

Змаганьне на гэтым адылі ня спынілася. З польскага боку вялася прапаганда супраць Легіёну, з боку беларускага і ўкраінскага — за

Легіён. З часам гэтае змаганьне набрала настолькі гострыя формы, што францускім уладам ня раз даводзілася тармазіць яго. Былі нат выпадкі і нярэдкіх арыштаў сяброў “Хаўрусу”, допытаў і рэвізіяў у цэнтралі арганізацыі ды нат кароткага (4-х гадзіннага) арышту ейнага старшыні.

Цяжкасьці змаганьня нашых суродзічаў за сваю нацыянальнасьць яшчэ пабольшаваліся тым, што савецкая амбасада таксама павяла акцыю за ўступленьне ў польскую армію. Апраўдваючыся, што няма змогі выдаваць пашпартоў Беларусам з заходняе Беларусі, далучанае цяпер да БССР, таму што Францыя гэтага далучэньня ня прызнала, — савецкая амбасада радзіла ўступаць у польскую армію. Як у самой амбасадзе, так і праз сваіх агентаў, звычайна, гаварылася: *“Калі вы пойдзеце ў польскую армію, то, бязумоўна, пры ўсіх выніках вайны вас ніхто ня зможа абвінаваціць, бо вы былі змабілізаваныя як грамадзяне польскае дзяржавы. Дабраахвотнасьць-жа — гэта ўжо ў прынцыпе нешта палітычнае. Для вас асабліва небясьпечна, калі пападзяцё ў палон”.*

Бязумоўна, тут савецкая амбасада мела рацыю, і рацыя гэтая асноўвалася галоўна на іхным собскім страху аб магчымасьці стварэньня беларускіх і ўкраінскіх нацыянальных батальёнаў, аб чым савецкая амбасада была, пэўна-ж добра паінфармаваная.

Ня гледзячы аднак на ўсе гэтыя цяжкасьці, Беларусы ў Францыі вельмі энэргічна змагаліся за сваю нацыянальнасьць. Было больш за пару дзясяткаў выпадкаў, калі прызнаньне нацыянальнасьці здабывалася праз некалькітыднёвую турму (куды садзілі пасьля арышту польскай жандармэрыяй у Францыі, якая вылоўлівала польскіх дэзэртыраў). Працэс гэтага змаганьня быў спынены нямецкай акупацыяй Францыі.

Вынікі гэтага змаганьня можна было-б падсумаваць так:

Каля 1250 нашых сяброў было прынята ў францускую армію (Легіён) як Беларусы. Каля тысячы было прынята раней (да інтэрвэнцыі польскага ўраду) у агульным ліку *“Палякаў”*, якія затым, паводле сьветчаньняў “Хаўрусу”, паперапісваліся на Беларусаў. Галоўнае-ж, што ў гэтым пэрыядзе змаганьня за беларускую нацыянальнасьць нашыя людзі, праходзячы праз вэрбавальныя камісіі — прынятыя ці адкінутыя (а апошніх быў высокі працэнт) — атрымоўвалі ўжо дакумэнты з францускай (хоць і вайсковай пакуль што) установы, што яны — Беларусы.

## *Нямецкая акупацыя*

Як было ўжо сказана, з прынятых у Легіён Беларусаў францускія ўлады паклікалі толькі каля 50 чалавек. Рэшта ўсе заставаліся дома. Зборны пункт для фармаваньня й вайсковага вышкаленьня легіянэраў знаходзіўся каля Клермонт-Фэрана (Цэнтральная Францыя). Усіх легіянераў налічвалася там ужо каля пару тысячаў; быў гэта запраўды міжнацыянальны легіён, уключна навет зь нямецкімі і аўстрыяцкімі добраахвотнікамі. Зразумела, кажная нацыянальная група трымалася свайго гурту. Гэтак, нацыянальнымі калёнамі яны й рушылі, яшчэ ня зусім узброеныя, на поўдзень Францыі перад наступам нямецкіх войскаў. У маршы па дарозе кожная калёна сьпявала свае нацыянальныя ці вайсковыя песьні, — хто што ўмеў — бо францускіх песень іх яшчэ не навучылі.

Пасьля падпісаньня замірэньня, Немцы запатрабавалі ад ўраду Пэтэна[606] дэмабілізацыі Легіёну. Пэтэнаўскі ўрад спачатку перафармаваў легіянэраў у працоўныя кампаніі, а незадоўга іх пачалі звальняць зусім. Некаторыя зь легіянэраў напачатку баяліся вяртацца зь неакупаванай у акупаваную тэрыторыю Францыі (пад акупацыяй было прыблізна ¾ усяе Францыі). Потым, аднак, усе зь іх вярнуліся да сваіх сем’яў, і ад Немцаў ніхто зь іх не пацярпеў за сваё добраахвотніцтва. Бальшыня-ж былых легіянэраў атрымалі ад пэтэнаўскага ўраду й тую прэмію, якая, згодна кантракту, мусіла быць выплачаная пасьля вайны. У некаторых бюрах Французы ўпіраліся: *“Як-жа вы хочаце прэміі, калі былі ў войску ўсяго 2–3 месяцы”*. *“Не мая віна,* — адказваў легіянэр, — *я падраджаўся на час вайны; вайна скончылася, давайце прэмію”*. Але рабіла гэтак нязначны працэнт іх. Звычайна, кажны, вярнуўшыся дахаты, стараўся найменш прыпамінаць у якой-бы там ні было францускай установе аб сваім легіянэрстве, баючыся наткнуцца на якогась занадта шчырага пэтэнаўца, каб ня быць выданым ды не пайсьці ў нямецкі палон. Але з гэтым абыйшлося бязь ніводнага інцыдэнта. Француская адмінстрацыя ў цэлым застаючыся ўся на месцы, супрацоўнічала зь Немцамі толькі фармальна, але ня шчыра.

[606] **Анры Філіп Петэн** (фр. *Philippe Pétain*, 1856–1951), французскі генерал і палітык, кіраўнік калабарацыянісцкага ўрада “Вішы” падчас Другой сусветнай вайны. Пасля вайны суджаны французскім судом і асуджаны ім да смяротнага пакарання, замененага на пажыццёвае зняволенне.

Вось для ілюстрацыі прыклад. Калі гэстапо запрасіла ў парыскай прэфэктуры паліцыі Парыжу правесьці расьсьлед ува ўсіх чужынецкіх арганізацыях, хто-б змог у супрацоўніцтве зь Немцамі працягваць сваю актыўнасьць, дык анкета была праведзена так, што ўсе (хіба за выключэньнем двух-трох) чужынецкія арганізацыі былі закрыты.

Яшчэ кур'ёзьней выйшла з вылаўленьнем "*небясьпечнага элемэнту*". Зразумела, аб пэўнай частцы такога элемэнту Немцам было ведама і без Французӑў. Таму нямала арыштаў было праведзена гэстапам самастойна. Але калі крыху пазьней Немцы зьвярнуліся да парыскай прэфэктуры з просьбай аб дапамозе ў гэтым кірунку, дык Французы, доўга не марудзячы, бухнулі гэстапу каля 10 тысячаў картатэчных лістоў з прэфэктуры зарэгістраваных калісьці французкай паліцыяй асобаў, як западозраных у сувязах з фашызмам ці нацызмам. У канцэнтрацыйным лягеры "Кампэнь", кілямэтраў з 80 на паўночны ўсход ад Парыжу, было сагнана такім чынам каля 20 тысяч, небясьпечных, але-ж для абодвых бакоў, новых "саюзьнікаў". Найзаядлейшыя дэмакраты-антыфашыстыя й найзаядлейшыя фашыстыя мелі нагоду ў кампэньскім лесе, як колісь на волі ў Парыжы, прадаўжаць свае дыспуты, і то досыць доўгі час — часамі па 8–10 месяцаў — бо нямецкім сьледчым ворганам, якія адзначаліся сваёй характэрнай Немцам акуратнасьцяй, запраўды было цяжка справіцца з такім вялікім лікам асобаў. Траплялася часамі так, што некаторыя найзаядлейшыя дэмакраты-антыфашыстыя выпускаліся зь лягеру раней, як найзаядлейшыя фашыстыя: вядома, хто хутчэй папаў на чаргу разбору свае справы. Напрыклад, генэрал Шапавал[607], вядомы ўкраінскі эсэр, быў звольнены нешта праз 5–6 месяцаў, а італьянскі лідэр мясцовых фашыстаў — толькі праз 8 месяцаў.

Зразумелая рэч, што пры такім стане кажны беларускі эмігрант стараўся сядзець як найспакайней пры перамене ці абнаўленьні сваіх дакумэнтаў — трымаўся тактыкі абы "ліха-ціха", а француская адміністрацыя ізноў — які пашпарт, такая нацыянальнасьць.

Толькі пад канец 1942-га і пачатак 43-га году, калі Францускі Рэзыстанс (партызанка) сваёй актыўнасьцяй моцна занепакоіў

[607] Маецца на ўвазе **Мікола Шапавал** (укр. *Микола Шаповал*, 1886–1948), украінскі вайсковы і палітычны дзеяч, генерал-харунжы, эсэр. Ад 1924 г. жыў у Францыі. У 1929–1948 гг. старшыня Украінскай грамады ў Францыі.

нямецкія акупацыйныя ўлады — Немцы пастанавілі правесьці дакладную і абавязковую рэгістрацыю чужынцаў у Францыі, з разьлікам пэўней на іх аперціся, як на Французаў.

Былі арганізаваныя на бэрлінскі ўзор г. зв. "установы даверу" для кажнае нацыянальнасьці. Гэтыя ўстановы павінны былі правесьці перапіс сваіх суродзічаў. У прэсе й праз радыё было абвешчана аб гэтым усім эмігрантам. Кіраўніка на беларускую "ўстанову даверу" на Францыю не знайшлося. Адных адкідалі Немцы зь недаверу, іншыя, якім яны прапанавалі — ухіляліся самі. Дзеля таго перапіс Беларусаў быў даручаны Ўкраінцам. Да ўкраінскае "ўстановы даверу" Беларусы адылі не згалошваліся. Таму крыху пазьней пры Ўкраінцах быў заснаваны беларускі аддзел, але й гэта не памагло. Урэшце рэшт, Немцы пастанавілі прывесьці на такога кіраўніка Беларуса зь Нямеччыны.

Прыбылы ў Парыж у пачатку 1944 году сп. Люткевіч меў перадусім на заданьне праверыць, ці запраўды ёсьць база для заснаваньня "ўстановы даверу". Ён месяцы тры абʼяжджаў галоўныя беларускія асяродкі і, відавочна, ягоная справаздача была пераконваючаю ў Бэрліне, бо дзесьці ў травені 1944 году ён (Люткевіч) вярнуўся назад з Бэрліну ў Парыж з мандатам кіраўніка ды інструкцыямі заснаваць самастойную беларускую "ўстанову даверу". Нажаль, чалавек гэты не надаваўся да такое працы ў так складаных абставінах. Ён быў занадта прымітыўны ды занадта верна адданы свайму начальству. Ён настолькі сьлепа верыў у перамогу Немцаў, што калі нават напярэдадні захопу ў Парыжы ўлады французкай партызанкай мэтро спыніла рух ды забаставала ўся адміністрацыя й паліцыя, а Амэрыканцы й дэголеўскае войска знаходзілася ў 20 кілямэтраў ад Парыжу — Люткевіч пехатой па Парыжы выконваў свае абавязкі і ніяк не хацеў паслухаць Беларусаў змыцца дзесьці на вёску, як яму раілі. Як той Сенкевічаў Бартэк Звыценжца[608], ён так даседзіўся ў сваім "урадзе", што потым злоўлены Амэрыканцамі, бедалага мусіў яшчэ адседзець у кацэце каля двух год. Таму актыўнасьць Люткевічавае "ўстановы даверу", апрача анэкдотаў, не пакінула па сабе ніякага сьледу. Ужо за часоў навет беларускага аддзелу пры ўкраінскай "установе даверу", на чале якога стаяў адзін мясцовы работнік-Беларус, было больш зроблена. Гэты работнік, прынамся выкарыстоўваючы магчымасьці руху, калі і не парэгістраваў Беларусаў, дык прынамся пры разьездах павышукваў нашых па-

608 Маецца на ўвазе герой твора Генрыка Сянкевіча *"Bartek Zwycięzca"* (1882).

разгубліваных людзёў на правінцыі ды навязаў зь імі асабістыя кантакты, якія прыдаліся пазьней у будучыні, пасьля вызваленьня Францыі, для арганізацыйнага жыцьця.

Некаторыя "ўстановы даверу" іншых народаў, прыкладам украінская, прарабілі досыць карысную працу. Карысную тым, што за шмат каго кіраўнік ўстановы мог заступацца ды мець сьпіскі ў сабе ўсіх сваіх суродзічаў, якіх яны не сьпяшаліся перадаваць Немцам (асабліва гэта выявілася карысным у будучыні), а, як і 99 % францускай пэтэнаўскай адміністрацыі, супрацоўнічалі з партызанкай.

Таму з прыходам Амэрыканцаў і Дэ Голя[609] звычайна рабілася так, што кіраўнік такое "ўстановы даверу" ўцякаў, а ўрад з картатэкай і добра абсталяванай канцылярыяй захопліваўся сваёй-жа "партызанкай", і так паўставала чарговая арганізацыя. У Беларусаў, аднак, так ня сталася. Нашым арганізацыям пасьля матарыяльна давялося значна цяжэй, трэба было пачынаць усё нанова — затое, праўда, з маральна-этычнага боку ніхто зь Беларусаў як арганізаваная група ў Францыі не скампрамітаваўся.

### *Голас Рэзыстансу (руху супраціву)*

У ліпені 1944 году армія Дэ Голя ў асысьце Амэрыканцаў заняла Парыж. Нямецкая армія адкацілася за Рэйн. На нейкі час устанавілася быццам падвойная ўлада. Хоць уся адміністрацыя-паліцыя пэтэнаўскага ўраду, як выявілася, была зьвязаная з Рэзыстансам і цяпер нанова заняла свае ўрады, — адылі на вуліцах усіх гарадоў паявіліся ўзброеныя цывільныя людзі з павязкамі рэзыстанскае міліцыі на рукавох. Людзі гэтыя бегалі па кватэрах, вышукоўваючы нямецкіх "калябарантаў". Цэнтральны камітэт Рэзыстансу праводзіў сьледзтвы-суды. Асаблівую "актыўнасьць" цяпер праяўляў "рэзыстанс" камуністых. Чужынецкія арганізацыі або часапісы маглі зьяўляцца толькі з дазволу Камітэту Рэзыстансу. Прэфэктура паліцыі (з прыходам Немцаў), закрыўшы ўсе чужынецкія арганізацыі й часапісы, дазволу на аднаўленьне актыўнасьці ім не давала (дазвол гэты быў дадзены толькі пазьней, праз тры-чатыры гады). Дзеля таго й "Хаўрус" ня мог узнавіць свае актыўнасьці. Арганізацыя-ж для беларускае эміграцыі была цяпер патрэбная асабліва, бо на тэрыторыі Францыі

[609] **Шарль дэ Голь** (фр. *Charles André Joseph Marie de Gaulle*, 1890–1970), францускі вайсковы і дзяржаўны дзеяч, лідар руху Супраціву, прэзідэнт Францыі ў 1959–1969 гг.

апынулася нямала нашых новых эмігрантаў (дэпартаваных Немцамі на працу ды зь беларускае арміі), сытуацыя якіх была асабліва цяжкая. Адзіным выхадам для заснаваньня беларускае арганізацыі было аперціся на наш беларускі Рэзыстанс.

### *Беларускі Рэзыстанс дэмакратаў і камуністых*

Кіраўніцтва “Хаўрусу”, абмеркаваўшы сытуацыю, пастанавіла як найбарджджэй адшукаць некаторых сваіх сяброў, што былі зьвязаныя з дэмакратычнымі партыямі францускага Рэзыстансу, і стварыць зь іх новую беларускую арганізацыю. Незадоўга група такіх Беларусаў была адшукана. Ачоліў яе нябожчык інжынер Л. Рыдлеўскі[610], які толькі што вярнуўся зь лесу паўдзённае Францыі, дзе ён прабыў каля пяцёх гадоў. Было пастаноўлена прасіць Хрысьціянскі Сындыкат Францускіх Работнікаў[611] дазволіць стварыць пры ім беларускую сэкцыю і эвэнтуальна дазволіць выдаваць беларускую газэту. Беларуская дэлегацыя ў складзе а. Ф. Чарняўскага[612], Прэзыдэнта М. Абрамчыка і інж. Л. Рыдлеўскага, прынятая генэральным сакратаром Францускага Хрысьціянскага сындыкату, сп. Буляду[613],

610 **Лявон Рыдлеўскі** (1903–1953), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Слуцкай беларускай гімназіі. У 1920 г. далучыўся да слуцкіх паўстанцаў. Пасля раззбраення паўстанцаў на польскай тэрыторыі, у 1921 г., жыў у Вільні, дзе вучыўся на настаўніцкіх курсах. Закончыў Віленскую беларускую гімназію, у 1923 г. пераехаў у Прагу. Закончыў Політэхнічны інстытут (1928) з дыпломам інжынера. У 1929 г. разам з М. Абрамчыкам выехаў у Францыю. У 1930 г. стаў адным з арганізатараў Хаўрусу беларусаў у Францыі. Падчас Другой сусветнай вайны быў у шэрагах французскага Супраціву. Па вайне вярнуўся ў Парыж, дзе актыўна ўдзельнічаў у стварэнні Аб’яднання беларускіх работнікаў у Францыі, выданні “Беларускіх навінаў”.

611 Маецца на ўвазе **Французская канфедэрацыя хрысціянскіх працаўнікоў** (фр. *Confédération française des travailleurs chrétiens, CFTC*) — французская прафсаюзная хрысціянская арганізацыя, заснаваная ў 1919 г.

612 **Францішак Чарняўскі** (1893–1979), рэлігійны дзеяч, каталіцкі святар, выдавец. Вучыўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. У 1920 г. атрымаў святарскае пасвячэнне. У 1924–1927 гг. вучыўся ў Рыме ў Папскім Грыгарыянскім універсітэце і Усходнім інстытуце. Ад 1929 г. жыў у Францыі. Абслугоўваў рэлігійныя патрэбы работнікаў на вугальных капальнях. Пераехаў у Бельгію, у 1953–1955 гг. — у кляштары бенедыкцінаў. Рэдагаваў бюлетэнь “Божае слова”. У 1957 г. выехаў у ЗША. Выдаваў часопіс “Сяўбіт”.

613 **Марыс Буляду** (фр. *Maurice Bouladoux*, 1907–1977), французскі прафсаюзны дзеяч. У 1953–1961 гг. прэзідэнт Канфедэрацыі французскіх хрысціянскіх працаўнікоў.

спаткала з боку апошняга поўнае зразуменьне. Апрача дазволу на стварэньне арганізацыі “Аб’еднаных Беларускіх Работнікаў Францыі” пры Францускім Хрысьціянскім Сындыкаце, была дадзена згода сп-ом Буляду і выдаваць газэту “Беларускія Навіны”[614] як дадатак да газэты “Сындыкалізм” воргану ФХС, галоўным рэдактарам якога зьяўляўся сам сп. Буляду.

Інж. Рыдлеўскі ачоліў наваствораную беларускую арганізацыю, а таксама ўзяў рэдактарства “Беларускіх Навінаў”. Заснаваньне такое арганізацыі з уласным друкаваным ворганам у тых абставінах пад апекай такой аўтарытэтнай арганізацыі, як Француская Хрысьціянская Дэмакратыя, духовым бацькам якое тады ўважаўся дэ Голь, мела ня толькі вялікае маральнае й практычнае значаньне для Беларусаў у Францыі, але й па-за ейнымі межамі.

Інж. Рыдлеўскі згрупаваў хутка вакол сябе каля сотні сябраў у Парыжы, перакінуў працу на правінцыі, дапамагаў у выробленьні дакумэнтаў, пасылаў на прафэсыянальныя курсы сяброў свае арганізацыі, выцягваў з розных польскіх лягероў і вартаўнічых кампаніяў Беларусаў пад сваю апеку.

### *Па лініі беларускага Рэзыстансу камуністых*

У Паўночнай Францыі сярод вуглякапальных работнікаў быў асабліва актыўны антынямецкі рух. Дамінавала там кіраўніцтва камуністых. За час нямецкае акупацыі беларускія шахцёры асабліва вызначыліся сваёй адвагай і вайсковым спрытам. Існавалі навет некалькі асобных чыста беларускіх брыгадаў із сваімі кіраўнікамі, якім даручаліся найадказьнейшыя заданьні. Да запалу ў змаганьні зь нямецкімі нацыстамі беларускіх шахцёраў спрычынілася тое, што шмат якім зь іх удалося пабываць падчас нямецкае акупацыі ў Беларусі. Вось-жа, вярнуўшыся пасьля назад у Францыю, сваімі расказамі аб “*парадках у Беларусі*” яны вельмі спрычыніліся да заактывізаваньня сваіх сяброў у францускім Рэзыстансе. Як выявілася потым, у гэтых паўночных раёнах Францыі беларускі актыўны Рэзыстанс налічваў блізу дзьве тысячы сяброў. Іхныя прасавецкія дагэтуль сымпатыі цяпер у баёх пад кіраўніцтвам францускай кампартыі яшчэ больш паглыбіліся. Нічога дзіўнага, што ўсе гэтыя людзі пасьля вызваленьня Францыі, да таго — пад сьпевы

[614] **“Беларускія навіны”** — беларуская газета, якая выдавалася ў 1945–1947 гг. у Парыжы Лявонам Рыдлеўскім. Усяго выйшла 8 нумароў.

дыфірамбаў Саветам і шмат якімі дэмакратамі (уключна аж да дэ Голя) нічога больш не жадалі як павароту на Бацькаўшчыну. Пачаліся безупынныя даезды да савецкае амбасады ў Парыжы. Але кансулят штосьці з выдачамі пашпартоў і адпраўкай на "*родзіну*" гэтых людзей не сьпяшаўся, абмяжоўваючыся толькі запаўненьнем анкетаў. Работнікам нашым нецярпелася.

Увосень 1944 году ў вадным з цэнтраў вуглякапальняў Лібэркурту адбыўся мітынг беларускіх і ўкраінскіх шахцёраў, якія пастанавілі паслаць цяпер арганізавана сваю дэлегацыю ў савецкі кансулят у Парыжы. У склад дэлегацыі былі выбраныя два Беларуса і два Ўкраінцы. Дэлегаты мелі выясьніць: 1. калі дакладна яны змогуць паехаць дадому і 2. прасіць дапамогі і апекі савецкага кансуляту да часу выезду дадому.

Трэба адцеміць, што дапамогу і апеку дэлегаты разумелі ў сэнсе стварэньня арганізацыі й выдаваньня газэты ды выстаўленьня ім калі не пашпартоў, дык прынамся пасьведчаньняў аб іхнай прыналежнасьці да савецкіх рэспублік (да БССР і УССР).

Для нікога ў Францыі ня было сакрэтам, што расейская белая эміграцыя гуртам хлынула цяпер у савецкі кансулят, разгарнула была шырока сваю арганізацыйную й выдавецкую акцыю пры дапамозе й фінансаваньні з савецкае амбасады. Дзьве вялікія газэты "*Русский Патриот*"[615] (пазьней перайменаваны на "*Советский Патриот*") і "*Русские Новости*"[616] заваднялі Францыю. Беларускія і ўкраінскія "патрыёты", прыслаўшы сваю дэлегацыю ў Парыж, лічылі сябе больш у праве дамагацца ад савецкага кансуляту такое дапамогі.

Два беларускіх дэлегаты раней як ісьці ў савецкі кансулят зайшлі да былых кіраўнікоў "Хаўрусу". Дэлегаты гэтыя не належалі да сорту заядлых "камуністых". Былі гэта вельмі сымпатычныя й разумныя хлапцы, сумавалі па доме й хацелі як мага хутчэй вярнуцца ў вызваленую ад Палякаў Беларусь. Змушаныя абставінамі трымацца з камуністымі, яны заўсёды былі ляяльнымі й да "Хаўрусу". Яны прызналіся аб сваёй місіі, сваіх плянах і прасілі ў хаўрусаўцаў рады. А галоўнае, як выдаваць газэту? Хаўрусаўцы парадзілі ім цьвёрда дамагацца ад кансуляту стварэньня із свайго Рэзыстансу

---

615 ***"Русский Патриот"*** — руская газета, якая выдавалася ў Парыжы ў 1943–1948 гг. (ад 1945 г. з назвай "*Советский патриот*").

616 "***Русские новости = Les Nouvelles Russes***" — руская штотыднёвая газета, якая выходзіла ў Парыжы ў 1945–1970 гг.

на поўначы Францыі асобнае арганізацыі “Беларускіх патрыётаў” (усе тады прасавецкія арганізацыі любілі сябе так называць) і дамагацца свайго беларускага воргану. Паказалі ім (дэлегатам) нат *“як робіцца газэта”*…

### *“Калі вам, таварыш консуль, у морду, выбачце, у рожу плявалі…”*

Беларускую дэлегацыю прыняў савецкі консуль Гузоўскі[617]. Апошні прыняў іх вельмі цёпла, частаваў *“дарагімі папяросамі”*, выказаў захапленьне адвагай і баёвасьцяй іхных сяброў Беларусаў і запэўніў, што ўсе яны змогуць прыехаць дадому. Але калі прыступілі да абмеркаваньня другое часткі наказу дэлегатаў — дапамога, апека, газэта — дык консуль Гузоўскі адразу пачаў іх угаворваць прылучыцца да “расейскіх патрыётаў”, а пісаць у расейскія газэты *“Советский Патриот”* і *“Русские Новости”*. Спрэчка вялася доўга. Аргумэнты беларускіх дэлегатаў, што мы асобны народ, што савецкая Беларусь — асобная дзяржава, што ўсе іхныя сябры на Поўначы Францыі, Палякі, Чэхі, Галяндцы і г. д. маюць свае арганізацыі й газэты, што зь іх будуць сьмяяцца іхныя сябры, ніяк не пераканалі консуля. Тав. Гузоўскі ўсё ўгаворваў прылучыцца да Расейцаў — ня трэба будзе наймаць новых памешканьняў, у Беларусаў мала інтэлігенцыі й г. д. Бачачы такую ўпартасьць консуля, адзін з дэлегатаў нарэшце ўсхваляваўся й падскочыўшы заявіў: *“Таварыш консуль, як-жа гэта Вы гоніце нас да гэнай белагвардзейскай банды? То-ж яны дзясяткамі гадоў ня толькі апошнімі словамі бэсьцілі Ваш Савецкі Саюз, а й плявалі Вам у морду* (другі дэлегат штурхануў у бок аратара), *выбачце, у рожу плявалі Вам, таварыш консуль. Мы-ж вас баранілі, а цяпер Вы гоніце нас да іх. Калі так, то мы лепей не паедзем у Ваш Савецкі Саюз, чым ісьці да расейскае белагвардзейскае банды”*.

Консуль, кажуць, дзесьці выйшаў, а пасьля вярнуўшыся, згадзіўся на самастойную арганізацыю “Беларускіх патрыётаў”. Але што да газэты — угаварыў Беларусаў на супалку з Украінцамі. Адна, кажа, бачына, будзе ўкраінскай, другая — ваша.

---

[617] **Аляксандр Гузоўскі** (рус. *Александр Гузовский*, 1904–1986), супрацоўнік савецкіх органаў дзяржаўнай бяспекі. Пасля вызвалення Францыі ён да 1946 г. працаваў першым сакратаром, саветнікам Амбасады СССР у Францыі.

## *У супалцы з Украінцамі*

Супольным ворганам для ўкраінскіх і беларускіх “патрыётаў” мелася быць тыднёвая газэта *“Бацьківшчына”*[618], якую Ўкраінцы пачалі спачатку выдаваць самі, а пасьля пачалі зьяўляцца артыкулы і ў “беларускай” мове, а пазьней — і цэлыя бачыны. Супалка гэтая трывала аднак ня доўга. Штось на сёмым-восьмым нумары “беларуская” мова зусім зьнікла. Сталася гэта адылі ня з прычыны няладу беларускіх і ўкраінскіх работнікаў, а з прычыны канфлікту ў “вярхох”. Віной была нyздатнасьць таварыша рэдактара апанаваць беларускую мову. Сама тэхніка рэдагаваньня *“Бацьківшчыны”* была досыць скамплікаваная. Хоць афіцыйным рэдактарам гэтай газэты лічыўся нейкі т. Саўчын, галіцкі эмігрант у Парыжы, але фактычна ён быў толькі карэктарам. Запраўдную рэдакцыю, як украінскай, так і беларускай частак, складалі ўрадоўцы з савецкае амбасады. Таму ўсе матарыялы, уключна з карэспандэнцыяй і хронікай, т. Саўчын насіў у амбасаду, дзе ўсё й рэдагавалася. Беларускую частку рэдагаваў нейкі вайсковец (капітан), што прыехаў зь Менску. Капітан так “стылізаваў” артыкулы й карэспандэнцыю, прысыланую “беларускімі патрыётамі”, а т. Саўчын пры карэкце да таго насычаў украінскімі галіцызмамі, што нашыя работнікі стварылі кучу анэкдотаў. Дзясяткі выразаў, як *“жаніўся на ёй”*, *“блага ўстроены Мінск”*, (з расейскага *“благоўстроенный”*) і да таго падобных ядавітых фразаў з мовы капітана-Саўчына жвава падхопліваласяпраціўнікамі “беларускіх патрыётаў”. *“Ну вось,* — кпілі з апошніх, — *сам капітан піша, што Мінск будзе блага ўстроеным горадам, а вы кажаце, што там усё йдзе на лепшае”*. Капітан наваліўся на Саўчына, што той псуе беларускую мову карэктай. Апошні нарэшце ня вытрымаў і ад карэкты беларускай часткі адмовіўся. Пачалі шукаць па Парыжы карэктара Беларуса, але ніхто не знаходзіўся, і беларуская балонка з “Бацьківшчыны” зьнікла. Амбасада нарэшце пастанавіла выдаваць беларускую газэту асобна. У друкарні *“Новар”* была навет зроблена ўмова на друк, але да выданьня такой самастойнай газэты “беларускіх патрыётаў” штосьці не дайшло.

---

618 ***“Батьківщина”*** — украінская газета прасавецкай арыентацыі, якая выходзіла ў Парыжы ў 1946–1948 гг.

### *Змаганьне Расейцаў за адасабленьне Беларусаў*

Аб’яднаньне Беларускіх Работнікаў у Французскім Хрысьціянскім Сындыкаце шпарка разгарнула сваю працу як на нутраным, так і на вонкавым адрэзку.

На нутраным йшла жвава мабілізацыя сяброў арганізацыі, паўсталі аддзелы на правінцыі, у Парыжы былі арганізаваныя курсы беларусаведы, курсы падрыхтоўкі будучых адміністратараў для Беларусі, больш-менш рэгулярна выходзілі “Беларускія Навіны”.

На вонкавым адрэзку Аб’яднаньне Беларускіх Работнікаў увайшло ў цеснае супрацоўніцтва зь Міжнародным Хрысьціянскім Сындыкалізмам, а ў асаблівасьці з Французамі ды такімі-ж аддзеламі пры Французскім Хрысьціянскім Сындыкаце народаў сатэліцкіх ды народаў Заходняе Эўропы (Італьянцаў, Гішпанцаў і г. д.).

Аб актыўнасьці АБР штораз часьцей пачалі зьяўляцца артыкулы ў францускай прэсе, а ў асаблівасьці гучным рэхам адбіўся ў прэсе францускай, галяндзкай і інш. выступ беларускіх хрысьціянскіх жанчын на Сусьветным Кангрэсе Матак у Парыжы ў травені 1947 году, калі падчас дакладу нашае дэлегаткі аб лёсе беларускае Маці больш як паўтысячная заля дэлегатаў з цэлага сьвету голасна расплакалася[619].

Расейская антыбальшавіцкая эміграцыя бадай на працягу двух год пасьля вызваленьня Францыі не давала навонкі ніякага знаку жыцьця. Наогул, уражаньне было такое, што ўсе Расейцы цяпер уключыліся ў супрацу “савецка-патрыятычнага руху”, калі на бачынах “Савецкага патрыёту” фігуравалі такія ягоныя супрацоўнікі, як адмірал Кедрын[620], япіскапы ды архіяпіскапы.

Толькі пад канец 1946 году невялічкая група Расейцаў уздумала публічна выступіць як антыбальшавікі. Шлях для здабыцьця дазволу на газэту яны выбралі такі самы, як і Беларусы, Украінцы ды дзясятак іншых эміграцыяў — праз заснаваньне пры Французскім Хрысьціянскім Сындыкаце свайго аддзелу. Сабраўшы больш за дзясятак сябраў “хрысьціянскіх работнікаў” (як Мельгуноў[621],

---

619 Інфармацыю пра беларускі ўдзел у згаданым кангрэсе гл.: Беларускія Навіны. № 3 (8). 28.06.1947. С. 4.

620 Маецца на ўвазе **Міхаіл Кедраў** (рус. *Михаил Кедров*, 1878–1945), расійскі ваенна-марскі дзеяч, віцэ-адмірал. Ад 1920 г. жыў у Парыжы.

621 **Сяргей Мельгуноў** (рус. *Сергей Мельгунов,* 1879–1956), расійскі палітычны дзеяч, гісторык. Ад 1926 г. жыў у Парыжы. У 1950–1954 гг. рэдагаваў

Лазарэўскі[622]), яны зьявіліся да генэральнага сакратара, сп. Буляду, з просьбай зарэгістраваць іх і дазволіць ім выдаваць газэту *"Русская Мысль"*[623] як дадатак да француськага "Сындыкалізму". Але кіраўніцтва Францускага Хрысьціянскага Сындыкату да гэтрага часу ўжо спаткалася з цэлым шэрагам прыкрасьцяў з боку камуністых, якія з уласьцівай ім зацятасьцю атакавалі Хрысьціянскі Сындыкат у прэсе, у парлямэнце ды па лініі ўраду за *"прыкрываньне"* ў Хрысьціянскім Сындыкаце *"фашыстых"*, *"гітлераўскіх калябарантаў"*, *"гэстапаўцаў"* і г. д.

Для сп. Буляду кажная новая чужынецкая сэкцыя, газэта дадавала яшчэ й нямала клопатаў і тэхнічнага характару (кантроль зьместу газэты, кантынгент на паперу й т. п.). Таму сп. Буляду пачаў шукаць выхаду, каб расейскую сэкцыю далучыць да нейкай ужо існуючай і, як яму здалося, найлепш да беларускай. Выгадным для сп. Буляду было йшчэ тое, што Расейцы, пад кіраўніцтвам інж. Рыдлеўскага, не дадуць падставаў для атакі камуністых супраць нейкага супрацоўніцтва з нацызмам і фашызмам. Пастанова аб далучэньні Расейцаў да Беларусаў, зразумела, ніяк не магла задаволіць Расейцаў. Дэмаршы іхныя ня спыняліся. Білі яны галоўным чынам на недаступнасьць для Расейцаў беларускае мовы. І як гэта бывае заўсёды ў жыцьці, што ў аргумэнтах зацікаўленых западзраецца неаб'ектыўнасьць — сындыкальныя ўлады, выклікаўшы інж. Рыдлеўскага, запыталіся, ці ён знаходзіць запраўды недаступнай беларускую мову для Расейцаў і ці ягоныя сябры нічога-б ня мелі супраць прыняцьця Расейцаў як сваю падсэкцыю і эвэнтуальна сядзець зь імі за адным сталом (дзеля нястачы памешканьня Французы далі адзін вялікі пакой для ўсіх нацыянальных аддзелаў, расставіўшы для ўрадаваньня кажнае сэкцыі адзін стол), а "Беларускія Навіны" абслугоўваць Расейцаў. Інж. Рыдлеўскі, наагул будучы па характары чалавекам вельмі кволым і схільным на ўсялякія магчымыя кампрамісы, згадзіўся і сядзець з Расейцамі за адным сталом, і абслугоўваць іх "Беларускімі Навінамі".

---

часопіс *"Возрождение"*, ад 1951 г. быў старшынёй Каардынацыйнага цэнтра антыбальшавіцкай барацьбы (КЦАБ).

[622] **Уладзімір Лазарэўскі** (рус. *Владимир Лазаревский*, 1897–1953), журналіст, выдавец, галоўны рэдактар газеты "*Русская Мысль*".

[623] ***"Русская Мысль = La Pensée Russe "*** — руская газета, орган рускай секцыі Французскай канфедэрацыі хрысціянскіх працаўнікоў. Выдавалася ў Парыжы ў 1947–2008 гг.

Расейцы потым уклалі абшырны мэмарыял да францускіх сындыкальных уладаў, у якім даводзілася на прыкладах беларуска-расейскага слоўніка і асобных сказаў, як гэта беларуская мова далёкая й зусім незразумелая Расейцам, а інж. Рыдлеўскага прасілі падтрымаць іх на самастойную для Расейцаў сэкцыю й газэту, божачыся, што беларуская мова ім горш недаступная, як польская. Урэшце, францускія сындыкальныя ўлады дазволілі Расейцам на арганізаваньне самастойнае сэкцыі, на асобны ад Беларусаў столік ды на асобную газэту *“Русская Мысль”* (гэтай самай *“Мысли”*, што выходзіць у Парыжы й сяньня і якая, дарэчы, аб Беларусах і беларускай мове піша зусім інакш, чымся гаварылі ейныя закладчыкі ў 1946 годзе).

Мы прывялі гэты выпадак адасабленьня Расейцаў ад Беларусаў таму, што ён бяз сумлеву выняткковы ў гісторыі нашых узаемадачыненьняў з Расейцамі, калі апошнім з усёй энэргіяй ды й шчырасьцю прышлося даводзіць чужынцам праўду аб беларускай мове. А з другога боку, выпадак гэты цікавы тым, што сказаць такую праўду чужынцам можна змусіць нат і Расейцаў, калі беларуская зарганізаваная грамада займае ў свой час сабе належнае месца.

### *Беларуская нацыянальнасьць у ўрадавых установах (унра-іраўскі пэрыяд)*

У пэрыяд ад часу вызваленьня Францыі да 1948 году Беларусы ня мелі асаблівых цяжкасьцяў у прызнаваньні ім францускімі ўрадавымі ўстановамі беларуская нацыянальнасьці.

Спрыялі гэтаму абставіны падвойнага парадку: 1. Самі Французы апынуліся ў такім становішчы, што атоесамліваць цяпер нацыянальнасьць з падданствам практычна былі ня ў стане. Каля двух мільёнаў эмігрантаў сатэліцкіх народаў (Палякаў, Румынаў, Вугорцаў, балканскіх і балтыцкіх народаў), адмовіўшыся ад падданства сваіх марыянэткавых урадаў, не маглі прыняць цяпер кляўзулі на “нацыяналітэт”, бо гэта азначала-б прызнаваньне імі існуючых у іхных краёх рэжымаў. Францускі ўрад, шукаючы формулы для азначэньня нацыянальнасьці гэтых эмігрантаў — спачатку (у некаторых установах) пісаў ім у “карты побыту”: *“нацыянальнасьць неакрэсьленая”*, але хутка зьмяніў на *“з паходжаньня... Паляк, Румын”* і г. д. Словам, да гэтых эміграцыяў была прыстасаваная формула, якая, як мы ўжо бачылі раней, практычна ўжывалася ў дачыненьні

да беларускае і ўкраінскае эміграцыяў перад ці дакладней — у пачатку Другой сусьветнай вайны. 2. Для датарнаваньня такое формулы і да беларускае эміграцыі спрыяла яшчэ й тое, што беларуская эміграцыя Францыі цяпер ужо выйшла з замкнутых нацыянальных рамкаў свайго арганізацыйнага жыцьця на форум міжнацыянальны. Акрамя нашага ўдзелу, як мы бачылі, у міжнацыянальным сындыкальным руху, Беларусы Францыі таксама ўзялі актыўны ўдзел у міжнацыянальных грамадзка-палітычных арганізацыях.

Пачынаючы зь першых дзён вызваленьня Францыі на парыскім тэрэне наладзіўся быў цесны кантакт між палітычнай элітай сатэліцкіх народаў з палітычнымі дзеячамі Беларусаў і Ўкраінцаў. Дзеячы гэтыя сыходзіліся штотыдня пад рознымі формамі зборак (Клюбу Цэнтральнай Эўропы, розных камісіяў, журналістых і г. д.), дзе абмяркоўвалася агульная палітычная сытуацыя ды эвэнтуальна падрыхтоўваліся розныя дэмаршы дзеля абароны праўнага й палітычнага палажэньня сваіх эміграцыяў. У ўсіх падобных дэмаршах ніколі не адсутнічала беларускае прадстаўніцтва. Таму кансэквэнтна і ўсякія дасягненьні супольных дэмаршаў аўтаматычна пашыраліся й на Беларусаў.

У часе калі ў Францыі арганізаваўся францускі аддзел міжнароднае ўстановы ІРО[624] для апекі над эміграцыяй, у Парыжы быў створаны камітэт з прадстаўнікоў народаў Цэнтральнае Эўропы (сатэлітаў), Беларусаў і Ўкраінцаў, які паставіў сабе заданьнем дамагчыся ад Французаў уключыць гэтых прадстаўнікоў у арганізм ІРО-ўскай установы ў Францыі як дапамаговы апарат для апекі над сваімі эміграцыямі. У склад гэтага камітэту ад Беларусаў увайшоў інж. Рыдлеўскі, а ў складзе дэлегацыі ў цэнтралю ІРО ў Жэневу езьдзіў сп. Прэзыдэнт Абрамчык. Дэмарш успомненага камітэту ў Жэневе й Парыжы даў пазытыўныя вынікі. Французы згадзіліся на ўключэньне ў іраўскія ўстановы Францыі прадстаўнікоў ад вышэй названых эміграцыяў, у тым ліку і ад Беларусаў. Было гэта вельмі важным асягненьнем для Беларусаў у Францыі, перадусім з маральна-праўнага боку, бо заснаваная іраўская ўстанова, апрача

[624] Маецца на ўвазе **Міжнародная арганізацыя па справах бежанцаў** (*International Refugee Organization, IRO*) — арганізацыя, заснаваная ААН 20 красавіка 1946 г. для дапамогі бежанцам, якія з’явіліся ў выніку Другой сусветнай вайны. Пераемніца ЮНРРА сярод іншага арганізоўвала як рэпатрыяцыю людзей у тыя краіны, дзе яны жылі да пачатку вайны, так і іх эміграцыю на сталае жыхарства ў іншыя краіны. Завяршыла працу ў 1952 г.

сацыяльна-матарыяльнае апекі над эмігрантамі на французкім тэрэне, зьяўлялася свайго роду кансулятам для эміграцыі (без пасьветкі з гэтае ўстановы нельга было атрымаць з прэфэктуры дазволу на пабыт у Францыі, права на працу, прадоўжаньня побыту, розных пасьветак натарыяльнага характару, пасьветчаньня аб нацыянальнасьці, атрыманьня пашпарту на выезд заграніцу і г. д.).

Інж. Рыдлеўскі, такім чынам, меўся быць дапамаговым урадоўцам гэтае ўстановы ў беларускіх справах.

### *Што значыць, калі здабытыя пазыцыі застануцца незамацаваныя*

Францускі аддзел ІРО раней як залічыць у свой штат адпаведную колькасьць такіх урадоўцаў, прыступіў да рэгістрацыі чужынцаў паводля нацыянальнасьці. Беларуская эміграцыя ў гэтым выпадку, на жаль, не зразумела сэнсу праводжанае перапісі. Адны, знаходзячыся шчэ ў палоне псыхозу страху перад прымусовай рэпатрыяцыяй, іншыя з прычыны сваёй простае нядбайнасьці трымаліся прынцыпу *"абы ліха-ціха"* і адпаведных анкетаў у ІРО сваечасова не падалі. У выніку гэтае перапісі Беларусаў па нацыянальнасьці не сабралася навет поўная тысячы. Каб утрымаць свае пазыцыі, інж. Рыдлеўскі згадзіўся быць пасярэднікам паміж беларускай эміграцыяй і ІРО ў якасьці бясплатнага памочніка. З праўнага гледзішча гэта не мяняла палажэньня, але з боку практычнага мела вялікае значаньне. Ня маючы магчымасьці сядзець стала ў іраўскай установе, інж. Рыдлеўскі выпаўняў анкеты на атрыманьне розных патрэбных папераў зацікаўленым асобам у сваёй кватэры. Прыеджджыя людзі з правінцыі часта не маглі застаць яго ў хаце, а часам і не шукаючы яго, ішлі проста ў ІРО, дзе яны, часамі не арыентуючыся, а часамі дзеля браку часу пападалі ў рукі ўрадоўцаў польскіх ці расейскіх і гэтым самым павялічвалі нацыянальныя групы апошніх. Праўда, ня было платных прадстаўнікоў у ІРО і ад народаў балтыцкіх з прычыны нязначнае колькасьці іхных эмігрантаў у Францыі, але іхнае становішча ў сэнсе трактаваньня іхнае нацыянальнасьці не вымагала столькі пільнасьці, як з нашага боку. Каб палепшыць справу, Беларусы зьвярнуліся да прафэсара А. Шульгіна[625] — украінскага

[625] **Аляксандр Шульгін** (укр. *Олександр Шульгин*, 1889–1960), украінскі палітычны, грамадскі, культурны і навуковы дзеяч. Ад 1927 г. жыў у Парыжы, быў удзельнікам розных украінскіх арганізацый у Францыі. Сярод іншага

ўрадоўца з ІРО — з просьбаю аб ягоную згоду на тэхнічную дапамогу Беларусам, якія зьяўляюцца безпасярэдня ў ІРО па розныя дакуманты ды эвэнтуальна на правядзеньне пры такіх нагодах іхнае рэгістрацыі. Праф. Шульгін згадзіўся, але нягледзячы на ягоныя найшчырэйшыя й найпрыязьнейшыя адносіны да Беларусаў, ён ня мог, зразумела, дапільнаваць усяго таго, што мог-бы чалавек, вылучна заняты Беларусамі.

Справа аднак неяк ішла памысна, і прынамся ўсім, хто зарэгістраваўся Беларусам да канца 1948 году, выдаваліся ІРО-м адпаведныя дакуманты, а ў прафэктуры гэтыя дакуманты прызнавалі, як і ўсе іншыя.

У пачатку-ж 1949 году ў парыскай прафэктуры раптам пасьветчаньні ІРО пачалі адкідаць, а незадоўга ў ІРО афіцыяльна заявілі, што пасьветчаньні аб беларускай нацыянальнасьці выдавацца больш ня будуць. Беларуская эміграцыя мусіла нанова пачынаць змаганьне за прызнаньне свае нацыянальнасьці. Змаганьне гэтае прыймала ціраз досыць войстрыя й прыкрыя формы як для Беларусаў, так і Французаў. Людзі нашыя ўваходзілі ў канфлікты з француcкай адміністрацыяй. Узьнікалі няраз прыкрыя інцыдэнты. Прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў нанова мусілі абіваць парогі вышэйшых францускіх установаў ды складаць мэмарандумы.

### *Ізноў дэмаршы, ізноў тузаніна...*

Справа з прызнаваньнем беларускае нацыянальнасьці нанова заблыталася й тузаніна навокал гэтага зацягнулася амаль на два гады.

На бяду Беларусаў, адбыліся некаторыя зьмены на вярхох пэрсаналу самога ІРО. На месца вялікага прыяцеля Беларусаў палкоўніка Донзо, які дэцыдаваў у выдаваньні пасьведчаньняў аб нацыянальнасьці, прыйшоў нейкі натуралізаваны Расеец жыдоўскага паходжаньня, які адразу паставіўся няпрыхільна да Беларусаў. З нашага боку з прычыны цяжкой хваробы пaступова пачаў адыходзіць ад актыўнага арганізацыйнага жыцьця інж. Рыдлеўскі[626]. Айцу Льву[627],

ў 1948–1952 гг. быў украінскім прадстаўніком у IRO, а ў 1952–1960 гг. — у арганізацыі па абароне бежанцаў і бездзяржаўных у Міністэрстве замежных спраў Францыі.

626 У сувязі з цяжкай хваробай Лявон Рыдлеўскі на пачатку 1953 г. выехаў у Лондан.

627 Маецца на ўвазе айцец Леў Гарошка.

які заняў ягонае мейсца, нейкі час было досыць цяжка зарыентавацца, каб знайсьці галоўны корань гэтае прычыннае залежнасьці, ці, як кажацца, выкрыць, *"дзе зарыты сабака"*. Дзеіў а. Леў аднак вельмі энэргічна, бесьперапынна складаў адзін за другім мэмарандумы, хадзіў па розных установах; было аднак уражаньне, што нехта недзе перашкаджае — усё заставалася бяз выніку.

Праўда, і ў самых колах францускае адміністрацыі пачалася нейкая блытаніна. Правінцыяльныя прэфэктуры ў большыні ня ставілі перашкодаў у прызнаньні беларускае нацыянальнасьці і паводля раней выдадзеных пасьветчаньняў IPO, але ў Парыскай прэфэктуры пасьветчаньні гэтыя адкідалі. Узьнялася йзноў вайна. У вапошняй (прафэктуры Парыскай) пры кажным зьяўленьні нашых людзёў урадоўцы перакрэсьлівалі ў "картах побыту" беларускую нацыянальнасьць, надпісваючы зьверху *"Паляк"* ці *"Расеец"* *"з паходжаньня"*, часам — *"індэтэрмін"* (*"неакрэсьлены"*) з прыстаўкай малюсенькай (з гарошынку) пячаткі *"Папраўлена"*. Адны з гэтым часамі мірыліся, другія пратэставалі, іншыя-ж нат рабілі скандалы. Канфлікты нарасталі з кажным днём. Былі навет выпадкі, што некаторыя нашы сябры, не дабіўшыся свайго, пакідалі Францыю. Адзін з такіх (студэнт Сарбонны), дабіўшыся аўдыенцыі ў міністра нутраных спраў, склаў на ягоныя рукі пісьмовую заяву, што нягледзячы на тое, што ён любіць Францыю, ён змушаны пакінуць яе, бо ягонае сумленьне й нацыянальны гонар яму не дазваляюць насіць у дакумантах чужую нацыянальнасьць. Ён зьвярнуў прэфэктуры сваю "карту побыту" і выехаў.

Здарыўся адзін асабліва прыкры выпадак у Парыскай прэфэктуры з адным новапрыбылым зь Нямеччыны нашым сябрам. Пабачыўшы, што ў ягоную картку ўпісалі *"Расеец з паходжаньня"*, ён запатрабаваў аўдыенцыі ў шэфа па справах нацыянальнасьцяў. Не дабіўшыся аднак і там свайго, ён нэрвова шпурнуў гэную картку назад і замест на стол (як ён мецiў) карта папала ў шэфа. Гэты няпрыемны інцыдэнт удалося потым ліквідаваць пры інтэрвэнцыі нашых вышэйшых чыньнікаў.

Францускім уладам нельга было не пасьпяшацца, каб як мага хутчэй палагодзіць справу з беларускай нацыянальнасьцяй. Даходзіла да гэтага шэраг драбнейшых выпадкаў, часамі нат наіўна-камічных, тым ня менш, прыкрых сваімі наступствамі. Прыкладам, адзін работнік, вярнуўшыся дадому, разгледзіўся, што побач маленькай

пячаткі *"Папраўлена"* ёсьць яшчэ месца на адну папраўку. Доўга ня думаючы, ён перакрэсьліў *"Полёнэ"* (*"Паляк"*) і дапісаў *"Белёрусьсен"*. Зразумела, потым меў прыкрасьць у прафэктуры.

Некаторым спрытнейшым хлапцом, што рабілі добрае ўражаньне на маладых дзяўчат і ўдовак, не перапраўлялася нацыянальнасьці. Урадоўкі рабілі ўражаньне, што не заўважалі. У выніку ўсяго гэтага ў практыцы паўстала цэлая блытаніна. Ня толькі ў арганізацыі нашай паявіліся, як калісь, сябры розных "нацыянальнасьцяў", але і ў сем'ях: сын, дачка часамі Беларусы, а бацька й маці *"Палякі"* ці *"Расейцы"* або наадварот.

У красавіку 1951 году а. Леў узяў сабе на дапамогу Прэзыдэнта Абрамчыка, які вярнуўся ў той час з Амэрыкі. Узброіўшыся нанова падрыхтаваным мэмарыялам і рознымі дакумантамі, абодва пайшлі ў "атаку" па ўрадах. Прэзыдэнт Абрамчык потым жартаваў, што праблема беларускае нацыянальнасьці была ня толькі добра ведамай для вышэйшых урадоўцаў IPO, прэфэктуры й Міністэрства нутраных справаў, але і ўсім сторажам гэтых установаў. Айца Льва ўсюды спатыкалі як добра знаёмага, прапускалі ўсюды без чаргі. У гутарках выяўлялася, што мы маем шмат і прыхільнікаў, але нямала было й праціўнікаў. Адным было дзіўна, чаму Беларусам ня прызнаецца іхнае нацыянальнасьці, таму спачувалі, давалі парады; другім — дзіўна, чаму гэта Беларусы так дамагаюцца, якое гэта мае для іх (Беларусаў) значэньне? Дзеля таго злаваліся, што ім дакучаюць, сварыліся. Дарэчы, варта адзначыць, што аргумант нашых дэлегацыяў адносна ўваходу Беларусі ў склад Аб'еднаных Нацыяў, а гэтым самым і прызнаньне Францыяй Беларусі як нацыі, "зьбіваўся" заўсёды нашымі праціўнікамі тым, што савецкі кансулят у Францыі, выдаючы пашпарты сваім грамадзянам паходжаньня з этнічных беларускіх земляў, таксама беларускае нацыянальнасьці не прызнае і ў рубрыцы "нацыянальнасьць" піша не Беларус, а *"савецкі"*.

У дэмаршы гэтым была адылі выяўлена асноўная прычына ўсяе гэтае валакіты з беларускай нацыянальнасьцяй, а менавіта, што выдаваныя раней IPO-м пасьветчаньні і прызнаваньне іх прафэктурай ня было ўзаконена ўрадам. Прэфэктура, агледзіўшыся, што ня мае ў гэтай справе загаду свайго вышэйшага начальства (Міністэрства нутраных справаў), пачала адкідаць пасьветчаньні IPO, а міністр нутраных справаў ня мог даць такога загаду, бо ня меў распара-

джэньня Міністэрства вонкавых справаў, якое і зьяўлялася ў гэтым выпадку адзінай кампэтэнтнай установай.

У травені 1951 году а. Леў з Прэзыдэнтам Абрамчыкам на аўдыенцыі ў Міністэрстве вонкавых справаў пераканалі высокага ўрадоўца Ўсходняга Аддзелу ў бясспрэчным праве беларускае эміграцыі на прызнаньне ім іхнае нацыянальнасьці. Апошні, згадзіўшыся з усімі аргумэнтамі нашае дэлегацыі, абяцаў справу нашую паставіць на разгляд паседжаньня спэцыяльнае камісіі і абяцаў з свайго боку падтрымку.

І праўда, нешта за тры тыдні часу прафэсар Шульгін паведаміў беларускага прадстаўніка, што зь Міністэрства вонкавых справаў прыйшла ў IPO паперка і што апошняе (Міністэрства вонкавых справаў) ня мае ніякіх засьцярогаў у прызнаваньні беларускае нацыянальнасьці.

IPO пачало нанова выдаваць Беларусам пасьведчаньні аб нацыянальнасьці, а прэфэктура — іх прызнаваць. Беларуская эміграцыя нанова супакоілася. Людзі нашыя пры кажнай нагодзе перапраўлялі ў сваіх картках прымусова ўпісаныя ім калісьці чужыя нацыянальнасьці на сваю беларускую. Здавалася, усё ўжо ўпарадкавана, але, нажаль, нешта праз два гады у Парыжскай прэфэктуры нанава пачалі перакрэсьліваць беларускую нацыянальнасьць, і на гэты раз з яшчэ большай энэргіяй, а людзі нашыя — рэагаваць з яшчэ большай нэрвовасьцяй.

### *Прапаўшая грамата*

З “паперкай” Міністэрства вонкавых справаў здарылася нешта падобнае да тэй гогалеўскай *“прапаўшае граматы”*[628].

Адміністрацыя IPO, перадаючы свае справы новапаўсталаму на месца IPO воргану — Бюро (Офіс) Апекі над Уцекачамі й Безьдзяржаўнікамі (апатрыдамі) — паперкі тэй аб прызнаньні беларускае нацыянальнасьці не передало. У першым годзе свае практыкі Бюро (Офіс), як і перад ім IPO, прадаўжала адылі па традыцыі выдаваць Беларусам пасьветчаньні, але потым ці то зь ініцыятывы прэфэктуры, ці самога Бюра выявілася, што зь беларусамі йзноў ня ўсё ў парадку. Няма падставы! Няма пастановы Міністэрства вонкавых справаў!

[628] Маецца на ўвазе аповесць Мікалая Гогаля “Зніклыя граматы” (“Пропавшие грамоты”).

Прафэсар Шульгін ды некалькі іншых урадоўцаў цьвердзілі, што “паперка” гэтая была, яны навет цытавалі зьмест яе, што яна знаходзілася ў актах шэфа Славянскага Аддзела ІРО! Ператрэсьлі, перашукалі ўсё — не знайшлі!

Выхад з гэтага, здавалася, быў зусім просты: папрасіць у Міністэрстве вонкавых справаў копію, і ўсё ў парадку, што й было Бюром зроблена. Але выявілася, што ў Міністэрстве вонкавых справаў ад тэй “паперкі” не засталося ніякага сьледу.

Айцец Леў з Прэзыдэнтам Абрамчыкам пайшлі йзноў асабіста ў Усходні Аддзел Міністэрства вонкавых справаў. Нажаль, таго самага шэфа ўжо не знайшлі. Былі там зьмены ў пэрсанале. Пераглядзілі кнігі, але аб цьверджанай а. Львом і Прэзыдэнтам Абрамчыкам пастанове ў Міністэрстве нічога не знайшлося. Патрэбен быў новы дэмарш, новы мэмарандум! Справа зноў пачала зацягвацца ды нанова прыймаць прыкрыя формы як для нашых людзей, так і для прафэктураў, якія ўжо трэці раз павінны былі перарабляць Беларусам іхныя дакумэнты.

Павясьне 1955 году быў зложаны новы абшырны мэмарыял Міністэрству вонкавых справаў ад імя чатырох беларускіх арганізацыяў (“Хаўрусу”, Аб’еднаньня Беларускіх Хрысьціянскіх Работнікаў, Саюзу Беларускае Моладзі[629] й Беларускай каталіцкай Місіі[630]).

Сэнатар Пэзэ[631], старшыня сэнацкае камісіі для вонкавых справаў, зацікавіўшыся праблемай беларускае нацыянальнасьці, з свайго боку выслаў ліст Міністэрству вонкавых справаў, у якім ён вельмі энэргічна дамагаўся як найхутчэйшага ўпарадкаваньня справы прызнаньня беларускае нацыянальнасьці.

Няма сумлеву, што ліст старшыні сэнацкае камісіі адыграў у гэтым апошнім нашым дэмаршы найгалоўнейшую ролю, ня толькі ў сэньсе разьвязкі прызнаньня нам нацыянальнасьці, але і ў прыскораньні яе.

Штосьці ў чэрвені-ліпені 1955 году, калі справа прызнаньня беларускае нацыянальнасьці ў практыцы набрала самыя няпрыем-

---

629 Відаць, маецца на ўвазе **Беларуская незалежніцкая арганізацыя моладзі (БНАМ)**, заснаваная ў Парыжы 26 сакавіка 1949 г. Першым кіраўніком быў Янка Філістовіч.

630 **Беларуская каталіцкая місія** была заснаваная ў Парыжы ў 1946 г.

631 **Эрнэст Пэзэ** (фр. *Ernest Pezet*, 1887–1966), французскі палітычны дзеяч. У 1946–1959 гг. сенатар Нацыянальнай Асамблеі Францыі. Быў намеснікам старшыні камісіі па замежных справах.

ныя для нас формы (быў дадзены кіраўнікам Бюра Апекі загад забраць ад прафэсара Шульгіна ўсе беларускія анкеты й разьдзяліць іх паміж польскім і расейскім аддзеламі згодна іхнае дзяржаўнае прыналежнасьці да 1939 году) і калі айцец Леў з Прэзыдэнтам Абрамчыкам у гэты час зьявіліся ў Міністэрства вонкавых справаў, дык ім там адказалі, што прызнаньне беларускае нацыянальнасьці прынцыпова ўжо разьвязана пазытыўна і што чакаюць толькі на подпіс адсутнага ў той час міністра.

У той-жа дзень Бюро было тэлефанічна паведамлена аб гэтым Міністэрствам вонкавых справаў. Бюру дазвалялася правізарычна выстаўляць Беларусам пасьветчаньні аб іхнай нацыянальнасьці. 27 кастрычніка 1955 году прызнаньне беларускае нацыянальнасьці было праведзена і аформлена.

Айцец Леў як прадстаўнік беларускае эміграцыі атрымаў зь Бюра афіцыяльнае паведамленьне аб гэтай так важнай і доўгачаканай пастанове Міністэрства вонкавых справаў.

Пастановай гэтай закончылася 25-гадовае змаганьне беларускае эміграцыі за прызнаньне свае нацыянальнасьці.

Ад гэтага часу нашым суродзічам Бюро (Офіс) Апекі над Уцекачамі й Безьдзяржаўнымі пачало выдаваць усе належныя дакумэнты ад імя і з пячаткай Міністэрства вонкавых справаў, а ў тым ліку — і пасьветчаньні аб беларускай нацыянальнасьці, якія цяпер бясспрэчна прызнаюцца ўсімі дзяржаўнымі ўстановамі Францыі.

### *Высновы*

Прызнаньне беларускае нацыянальнасьці для нашых суродзічаў у Францыі ў той самай форме, як і эміграцыям усіх сатэлітных народаў (цяпер Беларусам больш ня пішацца *“з паходжаньня”*, а проста — *“рэфюж’е белёрусьен”*, што азначае па сэньсе — *“беларускі палітычны эмігрант”*) мае для нас усіх вялікае маральнае й палітычнае значэньне. Камэнтары да гэтага, пэўне-ж, лішнія.

Што беларускай эміграцыі спатрэбілася на асягненьне свае мэты аж 25 гадоў, зьяўляецца рэчай зусім нармальнай, калі прыняць пад увагу тыя псыхалягічныя перадумовы заходня-эўрапэйскіх дзяржаваў што да трактаваньня “нацыянальнасьці” наагул ды інтэнцыю нашых суседзяў з заходу і ўсходу выкарыстаць гэта для сваіх мэтаў.

Беларуская эміграцыя ня толькі ня можа мець жалю да вышэйшых францускіх установаў за такую зацягласьць справы прызнаньня

беларускае нацыянальнасьці, а наадварот — мусіць быць асабліва ўдзячная Францыі, бо Францыя зьяўляецца ў гэтым сэньсе першай дзяржавай, якая не аглядаючыся на іншыя эўрапэйскія дзяржавы прыняла такую пастанову. Для нашых суродзічаў у іншых краінах пры падобным змаганьні адным з мацнейшых аргумэнтаў можа быць таксама прыклад пастановы францускага ўраду.

За гэты так даўгі пэрыяд змаганьня беларускае эміграцыі за свае правы выявілася і нямала цікавых рэчаў, якіх нельга не адцеміць.

1. Вытрываласьць нашых суродзічаў, якія пры ўсіх і ўсякіх абставінах патраплялі выдзяляць зь сябе актыў, які станоўка і пасьлядоўна, не адступаючы ад пастаўленае сабе мэты, упарта змагаўся ды патрапіў выклікаць да сябе сымпатыі й прыхільнасьць францускіх уладаў.

2. На шляху гэтага змаганьня нашыя суседзі з усходу й захаду рабілі усе магчымыя перашкоды, каб не дапусьціць да абасабленьня Беларусаў у якой-бы то ні было форме, а асабліва да праўнафармальнага прызнаньня ім нацыянальнасьці; але гэтага ім не ўдалося дасягнуць. Асабліва наглядна выявілася ўся цыніка бальшавікоў, якія так галасна крычучы аб сувэрэннасьці беларускага народу, праз сваю-ж амбасаду ў Францыі стараліся ўжыць усе спосабы, каб ня было чутно беларускага ймя. (Ляпей у польскую армію, ляпей да “рускіх патрыётаў”, у пашпарце — ляпей *“савецкі”*, абы не беларускае штосьці асобнае.)

3. Сярод францускай грамадзка-палітычнай эліты заўсёды можна знайсьці людзей зь нязгаслым духам францускага гуманізму, якія пры ўсіх абставінах, і ня гледзячы на абставіны, гатовыя фанатычна ўступацца ў вабарону несправядліва пакрыўджаных.

Да такіх людзёў, якія прыйшлі й нам у дапамогу, трэба ў першую чаргу залічыць сп. сэнатара Пэзэ, які, асьведаміўшыся з нашай справай, узяўся за яе з усёй прачуленасьцю й энэргіяй.

Таксама беларуская эміграцыя ня можа застацца бяз удзячнасьці сп. амбасадару Гэру, шэфу Бюра Апекі, ды ягонаму заступніку сп. міністру Монкле, якія сваімі сымпатыямі й парадамі шмат дапамаглі нам. Таксама ўдзячныя мы сп. праф. Шульгіну, які ня толькі ўзяў на сябе цяжар тэхнічнае працы ў Бюры над Беларусамі, нёс і нясе яго далей, але й заўсёды прачульваўся нашай справай так, як-бы сваёй собскай — украінскай.

На заканчэньне ў пару словах:

## *Што застаецца нашым суродзічам у Францыі яшчэ дарабіць?*

1. Кажны Беларус, у дакумантах якога з тых ці іншых прычынаў упісана небеларуская нацыянальнасьць, павінен безадкладна перамяніць яе на беларускую.

2. Кажны сьведамы палітычна Беларус павінен падбаць аб сваіх суродзічах менш актыўных ці нат і зусім пасыўных, каб яны зарэгістраваліся ў Бюры (Офісу) Апекі над Уцекачамі й Безьдзяржаўнікамі (апатрыдамі) як Беларусы.

3. Кажны актыўны беларускі эмігрант у Францыі павінен сабе прыпомніць, што такое доўгае змаганьне за нашу нацыянальнасьць, якое каштавала столькі высілкаў, а шмат якім часам нат і рызыкі, павінна быць цяпер даведзена да канца праз выкарыстаньне ўсіх наступстваў з дасягнутае намі мэты. Дзеля таго прапаганда й дапамога павінны быць паведзены так, каб ніводзін з нашых суродзічаў сваёй нядбайлівасьцяй не пабольшваў ліку чужых, няпрыязных нам народаў ды штучна зьменшваў лік Беларусаў — затрудняючы нашу агульную дый сваю собскую сытуацыю.

Перагістроўвацца-ж і атрымоўваць дакуманты пад сваёй собскай нацыянальнасьцяй цяпер зусім проста й лёгка. А як гэта правесьці тэхнічна — хай кажны зьвернецца да а. Льва Гарошкі на адрас: *95, rue deSevres, Paris Vie*. Тыя-ж, што пападаюць у Парыж беспасрэдна ў Бюро (Офіс) Апекі з правінцыі, хай зьвяртаюцца да праф. Шульгіна, кіраўніка Ўкраінскага аддзелу, ад якога атрымаюць таксама ўсю належную дапамогу.

*Міхась Швэдзюк*

## Беларусы ў Афрыцы ў 1942–1948 гадох[632]

Сьв. памяці а. Міхаіла Бажэр'янава[633]

Разам з польскім войскам пад камандаваньнем генэрала Андэрса[634], якое ў 1942 г. выехала з СССР, было шмат беларускіх цывільных людзей — сем'і вайскоўцаў, іх дзеці, а таксама й сіроты й г. д. Пасадка на параходы адбывалася ў порце Краснаводск на Касьпійскім моры, адкуль плылі да іранскага порту Пэхлеві, а адтуль дабіраліся пераважна да Тэгерану. Вайскоўцы накіроўваліся далей — у Ірак і Палестыну, а цывільныя на кароткі час засталіся ў Тэгеране.

Тут пачалася перагрупоўка цывільных з мэтаю разьвезьці іх па ўсім сьвеце. Гэтыя няшчасныя людзі, ахвяры сталінска-камуністычнага рэжыму (былыя "спецпереселенцы") трапілі — хто ў Індыю, хто ў Новую Зэляндыю, хто ў Палестыну, Ліван, Мэксыку, Танзанію (тады Танганіка), Радэзію, Уганду, Паўднёвую Афрыку ды ў іншыя краіны. Сялілі пераважна ў лягерох. Людзям далі бясплатнае ўтрыманьне, лячэньне, школьную асьвету. Хто меў здароўе ды сілы, яшчэ троху дарабляў на розных работах. Дзеці пайшлі ў польскія школы — пачатковыя й сярэднія.

Адзін з найбуйнейшых лягероў у Афрыцы — Тэнгеру (*Tengeru*) — знаходзіўся ў Танганьіцы, каля мястэчка Аруша (*Arusha*). У гэтым

---

632 Беларус. № 450. Студзень 1998. С. 4–5.

633 **Міхаіл Бажар'янаў** (1911–1946), праваслаўны сьвятар. Нарадзіўся ў Вільні, але па паходжанні, верагодна, расеец. Напярэдадні Другой сусветнай вайны быў святаром у в. Вершлак Брэсцкага павета. У 1940 г. вывезены ў Сібір, дзе быў мабілізаваны ў польскае войска. Арганізоўваў праваслаўнае жыццё ўцекачоў з СССР на Блізкім Усходзе. У 1942 г. выдаў у польскай мове "Праваслаўны малітоўнік", а ад студзеня 1943 г. выдаваў штомесячнік *"Ziarenko prawosławne"*. У 1943 г. прыехаў у Танзанію, дзе заапекаваўся праваслаўнымі вернікамі польскіх цывільных лагераў. У 1944 г. выдаў у Найробі лацінкай "Праваслаўны малітоўнік". Разам з вернікамі пабудаваў праваслаўную царкву ў лагеры Тэнгеру.

634 **Уладзіслаў Андэрс** (пол. *Władysław Anders*, 1892–1970), польскі вайсковы і палітычны дзеяч, у часе Другой сусветнай вайны кіраўнік польскіх узброеных фармаванняў, дзе было багата беларусаў. Пасля вайны жыў у Лондане, дзе ўдзельнічаў у польскім экзільным урадзе.

лягеры аказалася шмат беларусаў (мужчыны, няздатныя да войска, жанчыны, дзеці, сіроты). Сярод гэтых людзей апынуліся мая маці, бабка й тры сястры, а таксама мая будучая жонка са сваймі бацькамі й братамі.

На шчасьце, у лягеры пасяліўся праваслаўны сьвятар айцец Міхаіл Бажэр'янаў (5.11.1911–20.08.1946). Ён быў расеец, паходзіў зь Вільні. Па словах людзей, якія добра ведалі яго, айцец М. Бажэр'янаў быў вельмі адукаваны, высокакультурны і энэргічны чалавек.

Дзякуючы апошняй з гэтых якасьцяў, у Тэнгеры вельмі хутка зьявілася царква, у якой рэгулярна адпраўлялася Божая Служба. У царкве былі вельмі прыгожыя іконы — іх намаляваў адзін італьянскі мастак (тады ваеннапалонны). Царкву наведвалі ня толькі праваслаўныя беларусы і ўкраінцы, але й мясцовыя грэкі.

Зарганізаваў а. Міхаіл і два царкоўныя хоры — дзіцячы й дарослы. Маладыя хлапцы, яшчэ школьнікі, былі ўцягнутыя ў царкоўную працу ў якасьці прыслужнікаў, памочнікаў пры канцылярыі, у друкарні ды г. д. Таму ня дзіўна, што двое хлопцаў з Тэнгеру, ужо пасьля вайны, уступілі ў праваслаўны клір. Адзін зь іх — сьв. памяці Уладзімір Мароз[635] (1994) — быў дыяканам, другі — Уладзімір Зайка[636] (цяпер жыве ў Аўстраліі) — сьвятар.

Побач царквы збудавалі клюб для праваслаўнае моладзі. Гэта рабілася, каб свае трымаліся разам і ня страціліся, не пагубляліся ў чужым (польскім) асяродзьдзі.

А. Міхаіл з дапамогаю іншых людзей выкладаў у школах Закон Божы; езьдзіў ён і ў іншыя лягеры Афрыцы, дзе былі праваслаўныя вернікі, каб несьці душпастырскую апеку, падтрымліваць у людзях дух у чужым, не заўсёды спагадлівым акружэньні.

---

[635] **Уладзімір Мароз** (1932–1994), грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў в. Струга (цяпер Столінскі раён Брэсцкай вобл.). У 1940 г. разам з бацькам быў вывезены ў Архангельскую вобласць Расіі. Ягоны брат Мікалай служыў у Арміі Андэрса, сям'я прыехала ў Іран у якасці цывільных сваякоў і трапіла ў лагер у Танганьіцы ў Афрыцы. У 1948 г. разам з маці і сястрой прыехаў у Вялікабрытанію. Быў сябрам ХАБР, спяваў у хоры, заснаваным гэтай арганізацыяй. Вучыўся на святара і атрымаў дыяканскія свячэнні. Дапамагаў у багаслужбах у царкве Св. Еўфрасінні Полацкай у Лондане.

[636] **Уладзімір Зайка**, праваслаўны святар, які жыў у Вялікабрытаніі. У 1990 г. выехаў у Перт (Заходняя Аўстралія), дзе стаў настаяцелем парафіі БАПЦ Жыровіцкай Божай Маці.

Сьвятар заклаў у Тэнгеру друкарню, у якой выдаваў па-польску свой часапіс *"Promyk Prawoslawny"* ("Праваслаўны прамень"), царкоўную літаратуру, дапаможнікі ды г. д.

У 1944 г. у горадзе Найробі (*Nairobi*), Кенія, ён выдаў вялікі малітоўнік на 188 бачын. Напісаны ён пераважна на царкоўна-славянскай мове польскай лацініцай зь польскамоўнымі ўстаўкамі. Зьмест малітоўніка, апроч уласна малітваў, складаюць сьвятая літургія, вячэрня, трапары, акафісты, месяцаслоў ды інш.

Гэтаю кнігаю карыстаюцца аж да сёньня праваслаўныя вернікі, раскіданыя па ўсім белым сьвеце, і варта добрым словам памянуць а. Міхаіла за ўчыненую справу.

На вялікі жаль, некаторыя палякі — бязь ніякіх рацыянальных прычынаў — былі варожа настаўленыя да беларусаў, а яшчэ горш да ўкраінцаў. Відаць, так праяўлялася пачуцьцё крыўды палякаў за высяленьні, зьдзейсьненыя бальшавікамі, якія ў сьвядомасьці першых асыцыяваліся з расейцамі, а значыць, з праваслаўнымі. А пра тое, што разам зь імі былі выселеныя саветамі ды трапілі на катаргу й праваслаўныя беларусы — *"красавякі-асаднікі"* хутка забыліся.

Гэтыя людзі забыліся і яшчэ пра адно: вывозілі беларусаў часта за тое, што яны некалі служылі ў "польскіх" маёнтках, абраблялі "панскую" зямлю ды пільнавалі "панскія" лясы. Аднак у разуменьні *"крэсавякоў"* беларусы і ўкраінцы былі *"рускімі"* або *"схізматыкамі"*, ад якіх палякі вякамі цярпелі…

Нянавісьць да праваслаўных у Тэнгеры была настолькі вялікаю, што няведамыя хуліганы ўчынілі зьнеслаўленьне царквы.

На гэта адзначым, што з боку праваслаўных да палякаў ня было варожасьці, наадварот — беларусы і ўкраінцы цалкам ляяльна ставіліся да польскіх паплечнікаў, шчыра служылі ў польскай арміі, ваявалі, пралівалі кроў і гінулі за Польшчу. Ці-ж гэтыя людзі не заслужылі на лепшае стаўленьне да сябе?!

Айцец Міхаіл не заставаўся абыякавы да гэтай варожасьці — ён вырашыў бараніць сваіх вернікаў друкаваным словам. У часапісе *"Promyk Prawoslawny"* (№ 7 (48) з 1–15.04.1945 і № 8 (49) з 16–30.04.1945) зьявіўся перадрук артыкула князя В. Баратынскага *"Папежыца Яніна"* ў скарочаным перакладзе на польскую мову, які ўпершыню быў апублікаваны ў Парыжы ў 1939 г. Артыкул прысьвечаны жанчыне на імя Яніна (*Joanna*), якая ў сярэдзіне IX ст. нібыта была папам рымскім (навукоўцы да сёньня ня прыйшлі да

адзінай думкі адносна праўдзівасьці гэтай гісторыі). Публікацыя выклікала хвалю пратэстаў сярод палякаў-каталікоў, прайшлі сходы, пасыпаліся зьнявагі ў бок а. Міхаіла.

Дзякуючы сьвятару Бажэр'янаву, шмат беларусаў у лягерох Афрыкі ня выракліся свае нацыянальнасьц. Там-жа, дзе ня было людзей, падобных да а. Міхаіла, некаторыя беларусы паддаліся апалячваньню.

Мне невядома, што сталася зь сямьёй, з роднымі а. Міхаіла. Казалі, што ягоная жонка-"матушка", якая таксама была ў глыбі СССР, праз драматычныя абставіны не змагла выехаць разам зь ім у Іран. Прынамсі, у згаданым вышэй малітоўніку ёсьць просьба маліцца за збаўленьне душ Божых: Аляксандра, Аляксандра, Людмілы, Кацярыны і а. Міхаіла.

У сярэдзіне 1940-х а. Міхаіл пачаў хварэць — стала кепска з ныркамі — і трапіў у шпіталь у Дар-эс-Салямс, Танзанія, а 20 жніўня 1946 г. памёр, не пражыўшы й 35 гадоў. Былыя ягоныя прыхаджаны з Тэнгеру ды мясцовыя грэкі паставілі на магіле ў Дар-эс-Саляме вельмі прыгожы помнік з надпісам на ангельскай мове.

У 1948 г. пачалася ліквідацыя лягероў, у тым ліку і ў Афрыцы. Людзі пачалі зьяжджаць у іншыя краіны на сталае жыхарства. З зразумелых прычынаў былыя "*спецпереселенцы*" нават і ня думалі пра вяртаньне на Бацькаўшчыну. Найбольш цывільных з Афрыкі выехала ў Брытанію, каб злучыцца са сваймі мужамі, сынамі, бацькамі, якія служылі ў польскай арміі на Захадзе, а таксама прыбывалі ў Брытанію зь Італіі, Нямеччыны, Палестыны, Эгіпта на дэмабілізацыю. Тут пачыналася "нармальнае" эміграцыйнае жыцьцё. Шмат хто зь беларусаў пакідаў Брытанію ды перабіраўся ў ЗША, Канаду, Аўстралію, Паўднёвую Афрыку.

Гэтак закончыўся яшчэ адзін этап той даўгой і трагічнай дарогі, якая пачалася для мяне 10 лютага 1940 году моцным ударам у дзьверы прыкладам вінтоўкі ды крыкамі энкэвэдыстаў: "*Открывай дверь!*", *а потым* "*Собирайтесь с вещами!*".

# Інтэрвію зь князем Базылём Сьвятаполк-Мірскім[637]

*Ад Рэдакцыі. Вельмі нядаўна праз Аўстрыю ў Заходнюю Нямеччыну прыбыў князь Базыль Сьвятаполк-Мірскі[638], які адбыў адзінаццацігадовы тэрмін зьняволеньня ў савецкіх турмах і канцэнтрацыйных лягерах. Князю Сьвятаполк-Мірскаму — 52 гады. Гэта адзін зь нешматлікіх прадстаўнікоў старога беларускага арыстакратычнага роду, які ня згубіў сувязі з нашым народам, захаваў любоў да Беларусі і ейнага гістарычнага мінулага. Князь Сьвятаполк-Мірскі вызначаецца шырокімі дэмакратычнымі паглядамі й горача падтрымоўвае беларускі вызвольны рух, які, як паважныя чытачы пабачаць ніжэй, ня гасьне навет у савецкіх канцлягерах. Адным зь першых крокаў кн. Сьвятаполк-Мірскага ў вольным сьвеце было навязаньне сувязі з нашай эміграцыяй.*

*Ніжэй зьмяшчаем інтэрвію нашага карэспандэнта з князем Сьвятаполк-Мірскім.*

*Пытаньне: Вельмі Вам дзякуем, Князю, за вашу гатовасьць адказаць нам на некалькі пытаньняў ды падзяліцца з намі Вашымі перажываньнямі. Ці не маглі-б Вы расказаць нам, у якіх абставінах Вы былі арыштаваныя й засуджаныя?*

Адказ: У 1945 годзе ўвосені я быў арыштаваны, ці, дакладней кажучы, украдзены на аднэй з вуліцаў гораду Вены. Мяне зусім нечакана схапілі і ўштурхнулі ў самаход дзьве зусім мне невядомыя цывільныя асобы. Як выявілася пасьля, гэта былі ахвіцэры савецкай разьведкі. Мяне завезьлі ў нейкую вільлю ды ўкінулі там у маленькі сыры склеп. Пасьля двух тыдняў допытаў мяне адтуль самалётам даставілі ў Маскву. Пасьля сьледзтва ў маскоўскіх турмах мяне выслалі на Далёкую Поўнач у лягер, засудзіўшы г. зв. *“особым совещанием”* на дваццаць год *“папраўча-працоўных лягераў”* ці, інакш кажучы, канцлягероў.

*Пытаньне: Ці да высылкі ў лягер доўга давялося Вам сядзець у турме?*

[637] Бацькаўшчына. № 11–12 (345–346). 25 сакавіка 1957. С. 4, 8.

[638] **Васіль (Базыль) Святаполк-Мірскі** (?–1974), князь, грамадскі дзеяч. У 1945 г. быў выкрадзены ў Вене савецкімі спецслужбамі, дастаўлены ў Маскву, асуджаны на 11 гадоў лагераў. Па вызваленні выехаў на Захад, жыў у Мюнхене.

<u>Адказ:</u> Сьледзтва цягнулася цэлы год у ведамых усяму сьвету маскоўскіх засьценках — турмах Лефортава[639] й Лубянка[640].

*<u>Пытаньне:</u> І ў які лягер выслалі Вас адбываць тэрмін зьняволеньня?*

<u>Адказ:</u> Мой першы лягер — перасыльны — быў у Пячоры. Пасьля мяне паслалі далей на поўнач. Там давялося мне пабыць у шмат якіх лягерах за час майго зьняволеньня.

*<u>Пытаньне:</u> Вас часта перакідалі зь лягеру ў лягер?*

<u>Адказ:</u> Вельмі часта, і ня толькі мяне — гэта бальшавіцкі прынцып. Яны часта перакідаюць зьняволеных з аднаго лягеру ў другі, каб ня даць ім магчымасьці арганізоўвацца наагул, а таксама, каб супрацьдзеіць арганізаваным масавым уцёкам.

*<u>Пытаньне:</u> У лягерах, дзе Вам давялося быць, хіба як і ўсюды ў савецкіх канцлягерах — людзі самых розных нацыянальнасьцяў?*

<u>Адказ:</u> Цяжка сабе ўявіць большую мазаіку з гледзішча нацыянальнай прыналежнасьці й грамадзянства. Бязумоўна, асноўную масу складаюць народы Савецкага Саюзу, г. зн. савецкія грамадзяне. Але й чужынцаў — не савецкіх грамадзян — у лягерах вялічэзная колькасьць. Навет такіх, якіх, здавалася-б, ужо ніяк не пабачыш у савецкіх канцлягерах, як, прыкладам, Гіндусаў, Японцаў, Інданэзыйцаў, Філіпінцаў, Карэйцаў, афрыканскіх Нэграў, Бразылійцаў і шмат іншых, не гаворачы аб прадстаўнікох усіх эўрапэйскіх народаў.

*<u>Пытаньне:</u> Як яны там апынуліся?*

<u>Адказ:</u> Гісторыя іхных арыштаў самая розная. Аднак у шмат якіх выпадках яна падобная на маю: іх лавілі, як жывёлу на паляваньні, усюды, дзе толькі бальшавіцкая рука мела доступ.

*<u>Пытаньне:</u> Ці не маглі-б Вы сказаць некалькі слоў аб нацыянальным складзе зьняволеных, бяручы пад увагу толькі людзей з камуністычных краінаў?*

<u>Адказ:</u> Менш за ўсё ў лягерах Расейцаў; больш за ўсіх — Украінцаў, Беларусаў, Палякаў, Эстонцаў, Летувісаў, Латышоў. Найбольшы працэнт складаюць Украінцы. У лягерах таксама вельмі шмат прадстаўнікоў народаў Сярэдняе Азіі й Каўказу.

---

[639] **Лефортава** — цяпер следчы ізалятар Міністэрства юстыцыі РФ, у 1954–1991 гг. следчы ізалятар КБД у раёне Лефортава ў Маскве.

[640] Маецца на ўвазе ўнутраная турма КДБ, што знаходзіцца ў будынку КДБ на Лубянскай плошчы ў Маскве.

Пытаньне: *Чым, на Вашу думку, гэта выясьняецца?*

Адказ: Больш за ўсіх у лягерах прадстаўнікоў тых народаў, якія падчас апошняе вайны былі пад нямецкай акупацыяй. Бальшавікі вывезьлі адтуль усіх “нядобранадзейных”, у першую чаргу нацыянальна сьведамы элемэнт, пагалоўна абвінавачваючы яго ў калябарацыі з акупантамі. Я, прыкладам, знаў у лягеры аднаго Ўкраінца, якога засудзілі на 25 гадоў, што ён папраўляў Немцам калёсы на іхных вазох! “Калябаранцтва” было для бальшавікоў добрым прэтэкстам. Але, як я казаў, у лягерах таксама шмат прадстаўнікоў народаў Сярэдняй Азіі й Каўказу, якія не пакідаюць нацыянальнага супраціву.

Пытаньне: *Вы нядаўна сказалі, што зьняволеных часта перакідаюць зь лягера ў лягер, каб ня даць ім магчымасьць арганізоўвацца. Ці не хацелі Вы гэтым сказаць, што зьняволеныя маюць свае падпольныя арганізацыі?*

Адказ: Бачыце, на гэтае пытаньне мне вельмі цяжка адказаць так, каб не пашкодзіць сябрам, якія засталіся *там*. “Бацькаўшчыну” напэўна чытаюць і бальшавікі. Магу толькі сказаць, што ў няшчасьці людзі аднэй нацыянальнасьці задзіночваюцца асабліва моцна. Арганізаваны супраціў у лягерах існуе. Вось чаму бальшавікі так часта перакідваюць зьняволеных. Яны намагаюцца знэўтралізаваць гэты супраціў, што ім, зрэшты, не ўдаецца.

Пытаньне: *Ці Беларусы таксама маюць свае арганізацыі?*

Адказ: Беларусы далёка не зьяўляюцца выключэньнем у гэтым выпадку. Наадварот — хоць іх у лягерах параўнальна менш за Ўкраінцаў, беларускія арганізацыі гэткія-ж актыўныя, як і ўкраінскія.

Пытаньне: *Якія мэты ставяць гэтыя арганізацыі?*

Адказ: Іх можна сфармуляваць вельмі коратка: змаганьне зь вечным ворагам, змаганьне за аднаўленьне свабоды й нацыянальнае незалежнасьці. Да гэтага дадам, што нашы суродзічы, хоць і асьцярожныя, але волялюбныя і ніколі ня звыкнуцца з накінутым ім бальшавіцкім ярмом. Будучы ў лягерах, яны стараюцца арганізавана супрацьставіцца ўсяму таму, што магло-б іх загубіць па адным. А супрацьставіцца чэкістым можна толькі зарганізавана, і гэта трэба ўмець рабіць. На гэтым месцы я хацеў-бы расказаць Вашым чытачом аб выдатных беларускіх дзеячох, зь якімі мне даводзілася сустракацца ў зьняволеньні. Нажаль, цяпер яшчэ на гэта ня час.

*Пытаньне: Мы вас вельмі добра разумеем. Цяпер можа скажаце нам пару слоў аб умовах жыцьця зьняволеных. Ці шмат зьмянілася ад часу, калі Вы апынуліся ў зьняволеньні, да мамэнту Вашага выхаду зь лягеру? Калі так, дык у чым гэтыя зьмены палягаюць?*

Адказ: Маё адзінаццацігадовае прабываньне ў зьняволеньні я дзялю на два асноўныя пэрыяды: пэрыяд сталінскі й пасьлясталінскі. Першы пэрыяд самай нялюдзкай жорсткасьці, голаду, хваробаў і розных перасьледаў. У другім пэрыядзе жыцьцё ў лягерах крыху палепшала. Гэты пэрыяд характарызуецца намаганьнямі калектыўнага кіраўніцтва паказаць сябе лепшымі за Сталіна[641], паказаць сваю *"гуманнасьць"*, захоўваючы хоць мінімальныя нормы *"сацыялістычнае законнасьці"*. З гэтай прапагандовай мэтай яны пачалі плаціць за работу ды крыху лепш карміць, а таксама зьнялі краты з вокнаў і нумары з вопраткі. Бязумоўна, чалавеку з вольнага сьвету і гэтае "лягчэйшае" жыцьцё было-б нязносным і жудасным. Спатрэбілася-б цэлая кніга, каб апісаць усё хоць збольшага.

*Пытаньне: Ці зьняволеныя ў савецкіх канцлягерох паінфармаваныя аб тым, што робіцца вонках лягераў, г. зн. на гэтак званай "волі" ў Савецкім Саюзе, а таксама за ягонымі межамі?*

Адказ: На Захадзе я сустрэўся з хвальшывым перакананьнем, што зьняволеныя поўнасьцю ізаляваныя ад вонкавага сьвету і таму ня ведаюць, што там дзеіцца. На справе-ж у лягерах ведама *ўсё*, што робіцца на "волі". Зьняволеныя атрымоўваюць сьвежыя навіны ад "новых", якія ўвесь час прыбываюць у лягеры. Яны расказваюць усё, што чулі й бачылі — расказваюць шмат больш, чымся расказалі-б яны, будучы на "волі". Там за лішняе слова можна папасьціся, а ў лягеры баяцца ўжо няма чаго. Да гэтага, ёсьць зьняволеныя, якія езьдзяць на пропускі за "зону". Там яны сустракаюцца зь мясцовым насельніцтвам, якое і дзеліцца зь імі навінамі аб падзеях у Савецкім Саюзе, а таксама весткамі, якія яны чуюць праз радыё з-за мяжы.

*Пытаньне: Дык людзі слухаюць перадачы з-за мяжы?*

Адказ: Так, пры кажнай магчымай нагодзе.

*Пытаньне: Ці Вас адразу пасьля звальненьня зь лягеру накіравалі ў Нямеччыну?*

---

[641] **Іосіф Сталін** (сапр. **Джугашвілі**, 1878–1953), савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, у 1922–1953 гг. Генеральны сакратар ЦК ВКП(б) (пазней КПСС), у 1941–1953 гг. старшыня ўрада СССР (Савета Народных Камісараў, пазней — Савета Міністраў СССР).

Адказ: Пасьля звальненьня я амаль два месяцы жыў пад Масквой, дзе мог свабодна сустракацца з насельніцтвам.

*Пытаньне: Што Вы можаце сказаць аб жыцьці на “волі” ў Савецкім Саюзе?*

Адказ: Жыцьця “вольных” таксама беспрасьветнае. Сябры партыі жывуць яшчэ адносна добра, але рэшта… аднаго толькі хапае ў магазынах — гарэлкі. Іншыя рэчы або трэба браць з боем, або задарагія для людзей ізь сярэднім заробкам.

*Пытаньне: Гэта напэўна цікавіць нашых чытачоў: чым тлумачыцца тое, што Вас выпусьцілі за межы Савецкага Саюзу?*

Адказ: Гэта было й для мяне вялікай і нечаканай неспадзеўкай. На маю думку, амнэстыя й дазвол на выезд із Савецкага Саюзу чужым грамадзянам выясьняецца тым-жа, што й пэўныя палёгкі ў лягерах, аб якіх я гаварыў. Паколькі я маю нямецкае грамадзянства і маю тут сям’ю, мяне выпусьцілі із Савецкага Саюзу. Хрушчоў[642] намагаецца цяпер усімі праўдамі й няпраўдамі паказаць сьвету гэтак званы “новы твар” савецкае палітыкі. Я папаў у шчасьлівую для мяне фазу гэтае палітыкі. Гэтая прапаганда дорага каштуе савецкаму ўраду, але, як відаць — аплачваецца.

*Пытаньне: І апошняе, што мы-б хацелі папытацца ў Вас: якое ўражаньне зрабіў на Вас вольны сьвет пасьля гэтак доўгага побыту ў Савецкім Саюзе?*

Адказ: Што вам на гэта сказаць? Адкажу на гэта пасярэдня: я вельмі шкадую, што не магу сабраць усіх тых спадароў на Захадзе, якія жаляцца, што ім не стае птушынага малака, ды выслаць іх у Савецкі Саюз прынамся на год. І ня ў лягер — гэтага я ім ніяк не жадаю — а на “волю”, з усімі правамі савецкіх грамадзян, каб яны маглі працаваць у сваёй прафэсіі. Пасьля году я хацеў-бы сустрэць усіх гэтых спадароў і, нічога не гаворачы, паглядзець ім у вочы. Тады-б мы зразумелі адзін аднаго…

---

642 **Мікіта Хрушчоў** (рус. *Никита Хрущев*, 1894–1971), дзяржаўны дзеяч СССР, Першы сакратар ЦК КПСС у 1953–1964 гг. Старшыня Савета Міністраў СССР у 1958–1964 гг.

*Вінцэнт Жук-Грышкевіч*

## Успаміны пра Пётру Сыча[643]

*Апошні раз мне пеў Пясьняр…*
*Пасьля спачыў ён вечным сном*
*Пад туліпанаў курганом.*
*Але пабегла ў вольны сьвет —*
*Мінстрэль і волат — песьня-след.*

П. Сыч[644]. Вячорны звон

Наш Пятрусь быў бравы хлопец. Дзіўны і асаблівы, просты й скамплікаваны. Просты ў адносінах, скамплікаваны ў душы й характары. Бравы — бо сьмелы і адважны, сумленны, просталінейны й беспасрэдны. Ён рэзаў праўду ў вочы й ня любіў разьбірацца, каго гэта датычыць. Яго рэалізм у слове й пісьме не аднаго мог абразіць, але бадай-што немагчыма было на яго за гэта крыўдзіцца, бо пад войстрым словам хавалася праўда, а ў душы ягонай было столькі дабраты, спачуваньня.

Ён заўсёды шукаў праўды, справядлівасьці, сумленнасьці ў сучасным заблытаным, скумеканым сьвеце і патрапіў знаходзіць гэтыя асновы людзкога "я". А раз знайшоў — бараніў іх сумленна, стойка і адважна, і ніякая сіла не магла зьвіхнуць яго зь ягоных устояў.

---

643 Бацькаўшчына. № 9–10 (623–624). Жнівень 1964. С. 6–7.

644 **Пётра Сыч** (1912–1964), літаратар, журналіст. У 1929 г. закончыў гімназію ў Вялейцы, два гады правучыўся на філалагічным факультэце Віленскага ўніверсітэта і вымушаны быў кінуць навучанне, уладкаваўся на працу чыноўнікам. Супрацоўнічаў з рэдакцыямі польскіх газет у Вільні. У 1939 г. мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у савецкі палон. Уцёк, але зноў быў арыштаваны. У чэрвені 1940 г. быў пераведзены з вялейскай у полацкую турму, асуджаны на 10 гадоў лагераў. Пакаранне адбываў у Комі АССР. Далучыўся да Арміі Андэрса, разам з якой прайшоў праз Іран, Ірак, Сірыю, Палесціну, Егіпет. Браў удзел у бітве за Монтэ-Касіна, баях за Анкону і Балонію. У 1946 г. апынуўся ў Вялікабрытаніі. Сябра Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. Актыўны аўтар і супрацоўнік часопіса "Беларус на чужыне". У 1951 г. пераехаў у Заходнюю Нямеччыну. Жыў у Мюнхене. Быў галоўным рэдактарам сатырычнага часопіса "Шарсцень", супрацоўнічаў з газетай "Бацькаўшчына". Ад 1954 г. намеснік галоўнага рэдактара беларускай рэдакцыі Радыё "Вызваленне".

Пачуваўся да абавязку й быў кансэквэтным. За што ўзяўся — выканаў. У адносінах да людзей і працы — верны й ляяльны. Ня зносіў маны й шуканства, падхалімствай паклёпаў.

Меў багатую, чульлівую мастацкую натуру, адораную разнаякімі здольнасьцямі. Быў ён і пісьменьнікам, і публіцыстам, і паэтам, і маляром — з задаткамі да скульптуры. На вялікі жаль, гэтыя ўроджаныя здольнасьці не знайшлі належнага афармленьня ў сыстэматычнай адукацыі, культываваньні, і таму наш мастак да канца жыцьця застаўся мастаком-дылетантам. Жыцьцёвыя нягоды моцна білі нашага Пятруся й не далі магчымасьці сканцэнтравацца, разьвіцца ў аднэй, найбольш адпаведнай яму галіне. Таму хіба-што на дне душы ягонай затаілась нейкая прыніжанасьць, няпэўнасьць у свае сілы, а мо’ й крыўда на свой жыцьцёвы лёс.

Сярэднюю асьвету, якую ён атрымаў у польскай гімназіі ў Вялейцы, не расцэніваў высока. Таксама і асяродзьдзе польскіх *“крэсовых кацыкаў”*, у якім ён працаваў урадаўцам у Вялейскім павеце перад вайной. І польскае войска, у якое ён трапіў у часе вайны ды атрымаў рангу паручніка, не імпанавала яму. Ён пачуўся сам сабой толькі тады, як улучыўся ў шэрагі беларускага вызвольнага руху.

Як бачым — ні польская школа, пачатковая й сярэдняя, ні асяродзьдзе польскіх урадаўцаў, ні нават польская афіцэрская школа й служба ў польскай арміі не змаглі вырваць ці зламаць беларускасьць Пётры Сыча. Яна моцна сядзела ў ім і выявілася вялікім патрыятызмам у ягонай шматгадовай, ня раз гэраічнай, беларускай рабоце, як толькі ён знайшоў сваю праўду, беларускую праўду.

*Спамін пляцецца пад віхор,*
*Як слуцкіх паясоў узор.*

П. Сыч. Вячорны звон

Спаткаўся я з Пятром Сычом у бальшавіцкім вастрозе ў Полацку, куды летам 1940 г. быў перавезены з вастрогу ў Вялейцы разам зь ведамым беларускім дзеячам Антонам Нэкандай-Трэпкам, ягоным вучнем зь Віленскай тэхнічнай школы Кастусём Мацкевічам ды з масай беларускіх сялян, польскіх урадаўцаў і вайсковых. У нашай камэры, апрача беларускай групы, былі два Лятувісы, адзін Француз і некалькі Палякаў. Пятрусь кінуўся ў вочы тым, што ляпіў з хлеба цудоўныя шахматныя фігуркі, і дзякуючы яму мы маглі гульнёў у шахматы забіць цягучую вастрожную нуду. Пазнаўшыся

бліжэй, мы даведаліся, што Пётра Сыч ёсьць Беларусам спад Ільлі Вялейскага павету. Хоць быў гадунцом польскай гімназіі, чуўся Беларусам, арыентаваўся ў беларускіх справах, зачытваўся Купалам і Коласам. Пра праф. Трэпку й мяне чуў яшчэ раней. Незаўважна далучыўся да нашай групы.

У Полацку мы сядзелі нядоўга. У жніўні Пятруся, мяне й Мацкевіча выклікалі і адчыталі прысуд тройкі НКВД. Засуджаных пасадзілі разам, але асобна ад тых, якіх ня выклікалі, і мы ўжо больш не пабачылі праф. Трэпку. Бог ведае, які яго спаткаў лёс[645]. Нас-жа незадоўга завязьлі ў Воршу, пасадзілі ў вялізны зборны эшалён і павязьлі на поўнач у Печлаг (лягер на Пячоры). У вагоне знайшоўся яшчэ адзін Беларус, які далучыўся да нас, — Павал Асіповіч[646]. Ён некалькі год таму скончыў Радашковіцкую Беларускую Гімназію[647].

Падарожжа трывала каля шасьцёх тыдняў у страшэнных умовах. Вязьлі нас то цягнікам, то баржамі па рацэ, то гналі пехатой, то зноў вязьлі грузавікамі. Кармілі салёнай камсой, а вады давалі мала й рэдка. Мы ўсе захварэлі бягункай і страшна цярпелі ад смагі. Падтрымоўвалі адзін другога на духу й фізычна. На адным з пераходных пунктаў Пятрусь пачуўся так блага, што ня мог устаць. Там яго забралі ў шпіталь, і мы надоўга страцілі кантакт зь ім. Пазьней мы даведаліся, што як ён паправіўся, забралі яго ў будаўляную калёну, дзе ён моцна пагараваў, пакуль ня стаўся *“художнікам”*. *“Художнік”* у лягерох быў *“пэрсона грата”*, ён карыстаўся прывілеямі

---

645 У 1942 г. Антон Неканда-Трэпка накіроўваўся з Сібіры ў Армію Андэрса, памёр у дарозе.

646 **Павел Асіповіч** (1923–1997), грамадскі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Маладзечанскай гандлёва-адміністрацыйнай школе, Менскай афіцэрскай школе БКА, у складзе якой апынуўся на выгнанні і быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС. Перайшоў на бок саюзнікаў і далучыўся да Другога польскага корпуса. Ад 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі, там жа ў 1948 г. дэмабілізаваўся. Закончыў Польскую гандлёвую школу ў Глазга. Працаваў бухгалтарам у Вялікабрытаніі, Гане і Нігерыі. Пазней пасяліўся ў Лондане. Быў адным з найбольш актыўных беларусаў у Вялікабрытаніі, сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. Адзін з заснавальнікаў Англа-Беларускага таварыства.

647 **Радашкавіцкая беларуская гімназія** — сярэдняя навучальная ўстанова, якая існавала ў мястэчку Радашкавічы ў 1922–1928 гг. Ініцыятарам яе стварэння быў вядомы беларускі дзеяч Аляксандр Уласаў. Зачыненая польскімі ўладамі за камуністычную дзейнасць.

й прыхільнасьцяй начальства, якому малявалі партрэты. Таму пазьней Пятрусь ажыў. Калі нас прывязьлі на прызначанае месца — на паграніччы тайгі з тундрай — разагналі па розных калёнах, і ўтрымоўваць нейкую сувязь нам было немагчыма.

Спаткаліся мы зноў з Пятрусём аж у Іраку ў Другім Польскім Корпусе[648]. Ён быў у ранзе *"плютанговага падхаронжага"* й выконваў функцыю асьветнага афіцэра ў сваім аддзеле. Я-ж быў паштовым падафіцэрам у сваім аддзеле. Мы пастанавілі вышукоўваць Беларусаў, утрымліваць зь імі сувязь ды старацца групавацца па меры магчымасьці бліжэй адзін да аднаго. Пазьней, пры рэарганізацыі Корпусу, нам удалося трапіць у адну транспартную калёну ды ў адзін зьвяз, у якім, дарэчы, Пятрусь быў зьвязным. Тут ён захварэў на малярыю, і я яго адведваў у шпіталі. Калі ён паправіўся і вярнуўся ў аддзел, мы яшчэ зь месяц прабылі разам, адводзячы душу ў гутарках і разважаньнях. Хутка калёна наша была разьвязана, і нас разлучылі. Я трапіў у санітарную транспартную калёну, а Пятрусь у пяхоту, дзе атрымаў рангу падпаручніка. Ад гэтага часу мы бачыліся рэдка ў Іраку, у Палестыне, у Эгіпце.

Справа нашых спатканьняў шмат паправілася, як мы прыехалі ў Італію. Вясной 1944 году нам удавалася часамі спатыкацца большай групаю: я з Пятрусём, Асіповіч, Бабарыка ды іншыя часам даходзілі. Сытуацыя зноў пагоршылася з пачаткам баёў за Монтэ Касіно[649]. Усім нам нялёгка паводзілася, але Пятрусь прайшоў тут найгоршае пекла. Апісваў ён гэтую жахлівую падзею вельмі рэалістычна ў сваім апавяданьні "Сьмерць і салаўі"[650]. Пад Монтэ Касіно Другі Корпус меў вялізарныя страты, і баявыя аддзелы трэба было папаўняць. Тады і я апынуўся ў пяхоце. Але ў Пятрусёў

[648] Маюцца на ўвазе створаныя ў часе Другой сусветнай вайны польскім ваенным дзеячам генералам Уладзіславам Андэрсам (1892–1970) узброеныя фармаванні з рэпрэсаваных у СССР былых польскіх грамадзянаў, якія мелі назву **Другі польскі корпус**, або Армія Андэрса. У шэрагах гэтага войска было багата беларусаў.

[649] **Бітва пад Монтэ-Касіна** — серыя бітваў Другой сусветнай вайны, у выніку якіх саюзніцкія войскі пераадолелі ўмацаваную лінію Густава і занялі Рым. 11–18 траўня 1944 г. у вырашальным змаганні за ўмацаванае абацтва на гары каля горада Касіна (ключавы пункт нямецкай абароны) галоўную ролю адыгралі жаўнеры Другога польскага корпуса генерала Андэрса.

[650] Маецца на ўвазе твор, які пазней убачыў свет як: Сыч, Пётра. Сьмерць і салаўі (успаміны афіцэра-беларуса спад Монтэ-Касыно). Мюнхэн: Выдавецтва "Бацькаўшчына", 1965. — 62 с.

батальён мне трапіць не ўдалося, дык мы бачыліся рэдка. Пазьней людзей майго веку замянілі маладымі палякамі з палонных, дык я зноў быў пераведзены ў транспартную калёну. А Пятрусь доўга яшчэ ваячыў на першай лініі. Быў 4 разы паранены, адляжаў у шпіталі й нарэшце быў прызначаны ў тэхнічны аддзел. Ад гэтага жыцьцё было лягчэйшым і цікавейшым, і мы зноў спатыкаліся часьцей.

Асабліва цікавымі сталі спатканьні нашы, калі вясной 1945-га году я быў прызначаны выкладчыкам у вайсковай сярэдняй школе. Пятрусь быў тады маім частым госьцем у вільлі над Адрыятыкай. Вайна ўжо скончылася. Ня было ніякай небясьпекі й рвачкі. Жыцьцё плыло спакойна й выгодна. Сонечная Італія — гэта суцэльны музэй старадаўнасьці й мастацтва — сталася нашай домэнай. У часе ваенных пераходаў мы пазналі гэты край і пакахалі яго. Мы пабывалі ва ўсіх гарадох Італіі, адведалі найважнейшыя музэі й галярэі мастацтва, дык было аб чым пагаварыць і падыскутаваць. Адно на нашых сэрцах ляжала каменем мучаніца Беларусь. Мы ваявалі з адным тыранам людзтва, а тым часам другі тыран — ня лепшы — акупаваў нашу Бацькаўшчыну. Усё больш і больш даходзіла да нас цяжкіх вестак з дому. Былі ўжо ў кантакце з айцом Сіповічам[651] у Рыме, а крыху пазьней з інж. Абрамчыкам у Парыжы ды нашымі суродзічамі ў Нямеччыне. Чыталі “Беларускія навіны”. У Італіі-ж выявілася тады шмат маладых Беларусаў, якія прышлі сюды з нямецкай арміяй. Спатыкаліся зь імі, гутарылі, зьбіралі весткі зь Беларусі. Усім нам балела душа за ейны лёс. Думалі, разважалі будучыню Беларусі, пра сваю будучыню. Заседжваліся да познай ночы ў вільлі над Адрыятыкай. Сытуацыя была трагічная. Прайшлі савецкія вастрогі й лягеры, крываваліся на франтох вайны з надзеяй на новы, вольны, справядлівы сьвет, а як скончылася вайна, дык аказалася, што

[651] **Часлаў Сіповіч** (1914–1981), рэлігійны дзеяч, біскуп. У 1938–1947 г. жыў у Рыме, дзе закончыў Папскі Грыгарыянскі ўніверсітэт і Папскі ўсходні інстытут. У 1944–1946 г. апекаваўся беларускімі жаўнерамі Арміі Андэрса, раскватараванымі па ўсёй Апенінскай паўвыспе. Праводзіў сярод іх дабрачынную і асветніцкую працу. У 1947 г. прызначаны рэктарам Беларускай каталіцкай місіі візантыйска-славянскага абраду ў Вялікабрытаніі. У 1960 г. высвячаны на біскупа, пазней быў прызначаны апостальскім візітатарам для беларусаў за мяжой. У ліпені 1963 г. прызначаны генералам ордэна марыянаў, на гэтай пасадзе заставаўся да 1969 г.

й Бацькаўшчына ў няволі, а мы бяздомныя. Тады мы й знайшлі сваё заданьне: трываць на эміграцыі, арганізавацца, з вольнага сьвету вясьці змаганьне за вольнасьць Беларусі. Модэна[652] была далейшым працягам нашых спатканьняў, толькі ў шырэйшым кругу, бо з удзелам вучняў-Беларусаў з вайсковых сярэдніх школаў.

Наступным этапам была Англія й Лёндан і ЗБВБ[653] як уцелаўленьне плянаў жаўнераў-Беларусаў. На сцэну выступіла маса Беларускіх патрыётаў, якая й стварыла гэту арганізацыю. Спачатку Пятрусь толькі час-ад-часу мог супрацоўнічаць з ЗБВБ, але як толькі звольніўся з войска — з душой і целам увайшоў у нашу грамаду і яе працу. Мы зь ім нанялі тады “флят”[654] у Лёндане й пачалі жыць разам. Пятрусь працаваў у прасавальні, дзе зарабляў сабе на пражыцьцё. Увесь вольны час мы аддавалі грамадзкай працы.

Божа! Колькі энтузіязму было тады ў нашай грамадзе! Беларускае жыцьцё на эміграцыі проста кіпела. Арганізацыі, часапісы й газэты расьлі, як грыбы па дажджы, у вольных краінах Эўропы і Амэрыцы. Мы ня толькі жылі, мы гарэлі тым палымяным жыцьцём беларускага ўздыму на эміграцыі. Былі пэўныя, што створаная па вайне міжнародная палітычная сытуацыя часовая, што хутка прыйдуць новыя падзеі, якія ў сваім зараве прынясуць вызваленьне ўсім паняволеным народам, у тым ліку й нам, Беларусам.

Але надзеі нашыя не апраўдаліся. Упорыстая інэртнасьць сьвету перамагла. І мы хоць *“не распакоўвалі яшчэ сваіх валізак”*, мусілі думаць аб далейшым эміграцыйным жыцьці. Ізноў мы з Пятрусём змушаны былі разлучыцца. Але гэтым разам, хоць у розных краінах, мы былі ў тэй-жа самай грамадзе беларускай эміграцыі, рабілі тую-самую беларускую справу.

Пятрусь аказаўся вельмі плодным у пісаньні. Пісаў артыкулы, апавяданьні, вершы, сатыры й жарты. Пісаў у “На шляху”[655], “Бела-

---

652 **Модэна** (іт. *Modena*) — горад у італьянскім рэгіёне Эмілія-Раманья, адміністрацыйны цэнтр аднайменнай правінцыі. Знаходзіцца на паўночны захад ад Балоны.

653 **ЗБВБ, Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі** — арганізацыя, заснаваная ў Лондане ў 1946–1947 гг.

654 ***Flat*** (англ.) — кватэра.

655 **“На Шляху”** — бюлетэнь Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, што выходзіў у Лондане пераважна лацінкай у 1946–1951 гг.

рус на чужыне”[656], у камбатанцкім часапісе, выдаваў час-ад-часу гумарыстычны часапіс “Шарсьцень”[657], які, як і камбатанцкі часапіс ды шмат іншых выданьняў, сам-жа афармляў з мастацкага боку. Пазьней пачаў друкавацца ў “Бацькаўшчыне” і быў супрацоўнікам яе ды незаменным супрацоўнікам Беларускай Сэкцыі Радыя Свабода да апошніх дзён сваіх.

Спаткаліся мы зноў з Пятрусём праз тры гады, калі зьявілася магчымасьць прамаўляньня да беларускага народу праз радыё. Тут адкрылася баёвая лінія — лінія псыхалёгічнай вайны. Трэба было выяўляць маскоўскі імпэрыялізм ды разьбіваць ману і ашуканства пэрфіднай[658] бальшавіцкай прапаганды, а адначасна змагацца з Амэрыканцамі й расейскімі шавіністамі на месцы за беларускі й незалежніцкі зьмест нашых праграмаў. Трэба было зносіць інтрыгі й паклёпы ды быць гатовым на спатканьне савецкіх агэнтаў, што сачылі з-за вугла. Не адзін супрацоўнік радыя быў замардаваны іхнай бандыцкай рукой — у тым ліку й наш сябра Лявон Карась[659].

На гэтай цяжкой пляцоўцы Пятрусь аказаўся трывалейшым за мяне. Зломаны хваробай, я адыйшоў[660], а ён, хоць быў адным з першых у гэтай працы й перажыў цяжкую хваробу, ня зышоў з свайго месца, з надарваным здароўем ён дабыў на ім да самай сьмерці.

---

656 **“Беларус на чужыне”** — грамадска-культурны часопіс, які выдаваўся ў Лондане ў 1947–1950 гг. Рэдактары — Аляксандр Надсан, Кастусь Амор. Выйшлі 42 нумары.

657 **“Шарсцень”** — беларускі гумарыстычны часопіс, які выходзіў у Мюнхене пад рэдакцыяй П. Сыча ў 1952–1954 гг. Выйшлі 14 нумароў.

658 ***Perfidny*** (пол.) — вераломны, злосны.

659 **Леанід Карась** (1923–1954), грамадскі дзеяч, журналіст. Працаваў настаўнікам. Ад лета 1944 г. апынуўся ў Нямеччыне. У беларускім лагеры ў Міхельсдорфе працаваў у лагернай ахове і вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Разам з іншымі сябрамі “Дванаццаткі” ў 1948 г. як *DP* прыбыў у Вялікабрытанію. Працаваў у вугальных капальнях. У 1950 г. выехаў на навучанне ў Бельгію. Вучыўся на агранамічным факультэце Лювенскага ўніверсітэта. На пачатку 1954 г. пераехаў у Мюнхен, дзе працаваў у беларускай рэдакцыі Радыё “Вызваленне”. Загінуў пры нявысветленых абставінах: цела з адзнакамі катаванняў знайшлі ў рацэ Ізар. Паводле адной з версій, да гэтага мела дачыненне савецкая выведка.

660 Вінцэнт Жук-Грышкевіч быў першым кіраўніком беларускай службы Радыё “Вызваленне / Свабода” ў 1954–1956 гг. Не змог працягваць працу па стане здароўя.

Так сходзіліся й разыходзіліся нашы жыцьцёвыя дарогі. Даражэнькі Дружа. Гэтым разам Твая дарога абарвалася назаўсёды[661], і мы больш не сустрэнемся на гэтым сьвеце. Цяжкая й цярністая была твая дарога. Але прайшоў ты яе сумленна й вытрывала. У ролі жаўнера з гонарам выконваў заданьні змагара з аднэй тыраніяй, а з другой — у ролі беларускага грамадзкага працоўніка, пісьменьніка й публіцыстага. *"Азімут сэрца — кірунак Беларусь"*, аб якім ты сказаў так прыгожа ў інаўгурацыйнай нашай радыёвай праграме — быў тваім кірункам, ён прысьвечваў табе ў жыцьці й працы.

Цябе ня стала, Пятрусь. Усім нам цяжка з гэтым пагадзіцца. Гэта вялікая страта для беларускай справы й нас асабіста. Нястане й іншых, а *"Азімут сэрца — кірунак Беларусь"* будзе жыць заўсёды ў сэрцах беларускіх і давядзе да нашай мэты тых, што будуць жыць.

Твой Вінцук.

---

661 Пётра Сыч памёр у Мюнхене 20 чэрвеня 1964 г.

*Мікалай Бэліна-Падгаецкі*

## З даўніх успамінаў былога камуністага[662]

*Ад Рэдакцыі. Перад намі даўно выдадзеная, для нас амаль няведамая кніжка Мікалая Бэліны-Падгаецкага "Чырвоная бура" ("L'ouragan rouge", 2-e edition, Paris, 1936).*

*Хто-ж такі аўтар гэтае кніжкі? Гэта сын абшарніка, маёнтак якога знаходзіўся дзесьці недалёка ад Менску. У часе Першай сусьветнай вайны, атрымаўшы ў прысьпешаным парадку ступень афіцэра, ён апынуўся ў расейскім экспэдыцыйным корпусе ў Грэцыі. Рэвалюцыя 1917 г. У 1919 г. ён ужо ў Парыжы, здэмабілізаваны й бязь ніякіх сродкаў да жыцьця. Пагоня за кавалкам хлеба. Урастаньне ў пралетарскае асяродзьдзе й знаёмствы з камуністымі. За некалькі год аўтар — перакананы і актыўны камуністы.*

*"21-га студзеня 1927 г. у гадавіну сьмерці Леніна і пасьля дзесяцёх год расстаньня я ступіў першы раз на зямлю мае краіны", — піша ён. Гэта было ў Наварасійску.*

*У хуткім часе яго накіроўваюць у Менск, дзе працуе журналістым у менскай расейскай газэце "Рабочий"[663]. У пачатку 30-х уцякае на Захад, дзе й публікуе свае ўспаміны ў форме вышэйназванае кніжкі.*

*Для нас гэтая кніжка цікавая тым, што дзея адбываецца ў васноўным у Менску ды некалькі разьдзелаў прысьвечана жудасным малюнкам калектывізацыі на Беларусі. На жаль, мы мусім абмежавацца толькі ніжэйпададзеным урыўкам, а таксама дзьвёма сцэнамі (закрыцьцё Белае царквы ў Менску й "чыстка" Цішкі Гартнага), што будуць паданыя ў наступных нумарох. Аўтар зазначае, што прозьвішчы некаторых людзей, дзеля бясьпечнасьці іх, ён не падае або зьмяняе іх.*

---

662 Бацькаўшчына. № 51–52 (385–386). Каталіцкія Каляды 1957. С. 7; № 1–2 (387–388). Праваслаўныя Каляды. 7 студзеня 1958. С. 7; № 3 (389). 19 студзеня 1958. С. 3.

663 ***"Рабочий"*** — грамадска-палітычная газета, якая выдавалася ў Менску ад 1927 г. Ад 1937 г. мела назву *"Советская Белоруссия"*.

Тэлефон ад галоўнага рэдактара газэты *“Рабочий”*:

*— Ты, зразумела, павінен ведаць Дабрынскага…*

*— Так, таварыш рэдактар…*

Дабрынскі — гэта польскі камуністы, які ў менскім ГПУ кіруе службай шпіянажу ў каталіцкім асяродзьдзі. Гэта ён арганізуе правакацыі, арыштоўвае сьвятароў і вернікаў і г. д. Бо трэба ведаць, што ГПУ мае адмысловыя сэкцыі для нагляду за кажным культам. Дабрынскі — чалавек каля сарака гадоў, худы й нэрвовы да найвышэйшай ступені. Я пазнаў яго на менскім унівэрсытэце, дзе мы разам вывучалі тэорыю марксізму; пазьней я сустракаў яго ў часе свае журналістычнае працы.

*— Вось што! Ты пойдзеш да Дабрынскага, які дасьць табе дакуманты супраць каталікоў. Скажаш яму, што гэта я цябе прыслаў...*

Гадзіну пазьней, пасьля тысячы фармальнасьцяў, каб дастацца ў будынак, што зусім ня гэтак лёгка для таго, хто… не арыштаваны, я быў у кабінэце Дабрынскага.

*— Так, мы маем для вас пэўныя матарыялы,* — сказаў ён, — *але трэба, каб вы іх не пазьней, як пасьлязаўтра, апублікавалі.*

*— Зразумела, таварыш. Камунікаты рэдакцыя публікуе заўсёды,* — адказаў я, каб штосьці сказаць. Гэты Дабрынскі, з усьмешкай крыху жорсткай і з даўгімі валасатымі рукамі, ня выклікаў у мяне асаблівае сымпатыі.

*— Так, калі мы вам дазваляем!* — заўважыў ён.

*— Гэта зразумела… Але калі вы самі мяне клікалі…*

*— Але, але! Перадусім, гэта ўжо палагоджана з вашым рэдактарам, і вы атрымаеце загады. Вось у чым ход. Вы ведаеце касьцёл на менскім прадмесьці “Залатая горка”*[664]*?*

*— А як жа, знаю касьцёл і навет крыху старога сьвятара…*

*— Вось-жа якраз пытаньне сьвятара. Вы ведаеце, што ён зрабіў?*

*— Не.. а што такое?*

*— Ён сілай прыцягнуў да споведзі дзяцей з усяго кварталу, навет піянэраў. Дайшло да таго, што амаль уся польская школа на “Залатой горцы” ў мінулую нядзелю спавядалася ды прычашчалася!*

*— Сьвятар прыцягнуў іх сілай? Як гэта зразумець? Хіба ў пераносным значэньні?*

---

[664] **Залатая горка** — колішняе прадмесце, сёння адна з вуліц амаль у цэнтры Мінска. Тут знаходзіцца касцёл Св. Роха.

Дабрынскі завагаўся на момант:

— *Так, калі вы хочаце,* — сказаў ён. — *Але, ведаеце, можна пісаць, што ён ужыў сілу… Ён пратэставаць ня будзе!*

— *Чаму-ж так?*

— *Не, не!* — прадоўжваў ён, усьміхаючыся. — *Сьвятар пратэставаць ня будзе, ён ужо не ў сваёй парахвіі.*

— *Арыштаваны?*

— *Так, і ў наступным тыдні пойдзе на пяць год у Салаўкі. Толькі ня пішэце, што ён прысуджаны. Ён мае сваіх прыхільнікаў, і гэта можа выклікаць камплікацыі. З гэтымі каталікамі ніколі ня ведаеш.*

— *А можна напісаць, што ён арыштаваны?*

— *Таксама не. Некаторыя ягоныя вернікі думаюць, што ён паехаў у Маскву. Дадайце адно, што ён ня зможа больш перашкаджаць…*

— *Добра.. Але ўсё-ж — што ён такое зрабіў?*

— *Ён хадзіў ад дому да дому работнікаў і службоўцаў каталікоў; гутарыў з бацькамі й дзяцьмі. Вы-ж ведаеце, якія яны, гэтыя Палякі* (для аўтара Беларусаў не існуе; праваслаўныя — гэта Расейцы, каталікі — Палякі. — Рэд.). *Праўду кажучы — але гэта ня пішэце — яны заўсёды маюць больш даверу да іхнага сьвятара, чымся да вас! Вось што! Касьцёл быў поўны народу, дзеці прычашчаліся масай… Але ён дорага заплоціць за сваю перамогу, гэты пракляты ксёндз!*

Я ведаў, да якое ступені работнікі, ня лічачы іншых каталікоў Беларусі, засталіся вернымі іхнай веры. Перад маімі вачыма скептыка прахадзілі сцэны жанчын ды таксама й мужчын перад статуямі сьвятых у цэрквах Менску, і то якраз у пэрыяд, калі гэтая вера магла дорага каштаваць.

І цяпер арыштоўваюць гэтага старога сьвятара толькі таму, што ён выконваў свой абавязак. Ці-ж гэта справядліва нават з гледзішча няверуючага? Абавязкам бязбожнікаў было-б давесьці жыхарству, што сьвятар мыляецца, а яны кажуць праўду… Што мы паказваем гэтым арыштам, калі ня слабасьць нашае дактрыны? Гэты сьвятар цяпер большым пераможцам над намі, чымся калі-б ён быў на свабодзе.

— *У чым-жа, на справе, абвінавачваецe гэтага сьвятара?* — папытаўся я, не разважаючы шмат над адценьнем майго пытаньня.

— *Як так — у чым?* — зьдзіўляецца шэф. — *Вось дзе няўдалае пытаньне, таварыш журналіст!*

*— Але-ж, не, таварыш Дабрынскі!* — падхапіў я, каб паправіцца. — *Я вас пытаюся, як мы павінны сфармуляваць абвінавачваньне.*

*— А, гэта што іншае.. Добра, вы скажаце, што ён абвінавачаны ў контррэвалюцыйнай акцыі й змове супраць бясьпечнасьці савецкай дзяржавы…*

*— Зразумела, таварыш…*

Што іншага я мог сказаць кіраўніку ўсемагутнай сакрэтнай паліцыі?

*— А вось яшчэ некалькі фактаў, якія нядрэнна дадаць,* — сказаў Дабрынскі, перагортваючы пакет рапартаў. — *Перадусім у закрыстыі мы знайшлі контррэвалюцыйныя лістоўкі і амаральныя кніжкі, што належалі сьвятару і якія ён даваў чытаць сваім парахвіянам.*

*— Амаральныя кніжкі?*

*— Так, вы можаце сказаць, што гэта былі кніжкі амаральныя. Трэба навет аб гэтым напісаць. Апрача гэтага, учора раніцай банда каталікоў, выходзячы з касьцёлу, заатакавала работнікаў, якія вярталіся з працы.*

*— І чаму?*

*— Зразумела, каб адпомсьціць за арышт сьвятара. Гэта здарылася перад каталіцкай катэдрай гораду. Вы можаце дадаць, што віноўныя ўжо арыштаваныя. Трэйці выпадак, што здарыўся ў Бабруйску, яшчэ больш паважны,* — прадаўжаў Дабрынскі. — *Там каталіцкія сьвятары раздавалі тым сваім парахвіянам, што пэўныя палітычна й наведваюць касьцёл, адмысловыя карткі, кажучы, што тыя, хто ня будзе мець тых картак, будуць расстраляныя Палякамі, як толькі тыя забяруць Бабруйск. Бачыце — контррэвалюцыя на сто працэнтаў!*

І, адводзячы мяне:

*— Скажаце свайму галоўнаму рэдактару, што мы хочам пабачыць артыкул яшчэ перад публікацыяй, а публікаваць — не раней, як пасьлязаўтра.*

*— Усё ў парадку, артыкул вам прынясецца.*

*— Ага, яшчэ адно, вы вольныя заўтра раніцай?*

*— Так…*

*— Ну, дык чакайце мяне а восьмай гадзіне перад уваходам у ГПУ. Мы паедзем разам у мястэчка К., якое знаходзіцца, як ведаеце, амаль на польскай мяжы. І там я вам абяцаю адну неспадзеўку!*

*— Што за неспадзеўка, таварыш Дабрынскі? Вы разумееце, я павінен ведаць, каб атрымаць згоду свайго галоўнага рэдактара.*

*— Добра, вось яна: заўтра, у часе службы ў дзесяць гадзін сьвятар у К. публічна адмовіцца ад Бога й свайго сьвятарства. Вы разумееце, што гэта за страшны ўдар для каталікоў па абодвух бакох мяжы? Што вы на гэта?*

*— Буду пунктуальна на ўмоўленым месцы, таварыш Дабрынскі!*

...Вялікі касьцёл быў поўны народу, калі разам з Дабрынскім і яшчэ некалькімі агентамі менскага ГПУ, усе ў цывільным, мы ўвайшлі маленькімі дзьвярыма збоку ў гэты стары й слаўны Божы дом.

*— Гэта ў часе казаньня зробіць ён зробіць сваю дэклярацыю, —* шэпча мне на вуха Дабрынскі. *— Глядзеце, ён ужо ўзыходзіць на амбону.. Ну й сьмешнае-ж будзе казаньне, я вам кажу!*

І зьвяртаючыся да агентаў:

*— Эй, вы, уважайце добра, рассыпцеся па куткох і пры першых адзнаках незадавальненьня ці бунту — усіх з царквы. Зразумелі?*

Агенты зьмяшаліся з масай вернікаў.

Я гляджу на сьвятара, чалавека яшчэ даволі маладога, які мае адклікаць перад гэтай масай вернікаў усё, што ён меў зь веры, усё, што было сьвятым для яго й застаецца сьвятым для стольких прысутных тут людзей.

Ён бледны, і ягоныя рукі, што павінны багаславіць, трасуцца...

Сумленьне, што грызе перад сьвятакрадзтвам, ці страх перад вернікамі, якія яго яшчэ паважаюць, але якія за мінуту зьненавідзяць яго? Трагічная хвіліна!

*— Грамадзяне, я вас ашукаў! Грамадзяне, Бога няма, а рэлігія — гэта выдумка капіталістых, каб ашукоўваць працоўныя масы! Гэта опʼюм для пралетарыяту! Я больш не хачу быць сьвятаром, ні служыць капіталізму!*

Ён працягвае голасам дрыжачым, няўпэўненым, быццам паўтарае дрэнна вывучаную лекцыю. Ён працягвае пад зьдзіўленымі, перапалоханымі паглядамі масы й пад пасьмешлівай ухмылкай Дабрынскага. Ён працягвае, але я ўжо ня слухаю.

Бо што-ж ён можа мне сказаць новага, гэты сьвятар, які адмаўляе існаваньне Бога, гэты зраднік, адзіны між тысячамі гэрояў, якія ўжо памерлі ці яшчэ пакутуюць для славы Божае ў савецкіх турэмных засьценках? Быў ён прынамсі шчырым у сваім адмаўленьні, верыў у тое, што казаў? Бязумоўна, душа — гэта кніга, якую цяжка

расшыфраваць. Хто ведае? Магчыма, паміма ўсяго, перада мной, перад масай у гэтай царкве разыгралася запраўды страшная драма сумленьня… Але чаму дэклярацыя гэтага сьвятара паўтарае слова па слове ўсё тое, што кажуць супраць Бога афіцыяльныя прапагандыстыя, тое, што можна чытаць на гэтую тэму ў савецкай прэсе, ува ўсіх антырэлігійных брашурах, прызначаных “адукаваць масы”? Сьвятар, які шчыра хацеў-бы парваць з Богам, які-б зразумеў, што рэлігія — гэта выдумка, а атэісты праўду кажуць, дык ці-ж не знайшоў-бы ён словаў больш жывых, чымся гэтыя бедныя газэтныя фразы?

І чаму так хітра пасьміхаецца таварыш Дабрынскі? Ня ён гэта беспасярэдні аўтар “казаньня”, якога сьвятар чытае толькі... копію?

Не, я не гляджу больш на гэтага беднага чалавека, я адвяртаюся да масы. Што думае яна пра гэту нячуваную й грозную падзею, што адбываецца на яе вачох? На момант у сьвятыні запанавала сьмяротная цішыня. Страх у вачох, маса слухае рэнэгата…

А пасьля грозны крык:

— *Бязбожнік! Бог цябе бачыць! Праклятым будзеш!*

І ўсе, як адзін, кідаюцца на калені й сьпяваюць паўголасам, але зь якім адданьнем, псальмы на хвалу Богу!

— *Пайшлі! Ах, што за гісторыя!* — злосна сьціснуўшы зубы, працадзіў Дабранскі. І празь дьзверы ў закрыстыі мы пакідаем касьцёл разам з бледным, як труп, сьвятаром.

Аўта рушыла ў кірунку Менску. Але гарачыя галасы вернікаў, хвалячых Бога, пагоняй ляцелі за намі. Павінен я прызнацца, што ў той момант я быў, я, няверуючы, сэрцам разам зь імі, там, у іхнай сьвятыні.

### *Закрыцьцё Белай царквы ў Менску*

Аднойчы ў лютым 1928 г. мяне паклікалі ў камітэт партыі гораду Менску.

— *Ёсьць паважнае заданьне для вас, таварыш,* — сказаў мне сакратар.

— *Добра, таварыш сакратар, што трэба?*

— *Заўтра а восьмай гадзіне вечарам трэба будзе зрабіць вялікі даклад у клюбе Леніна для работнікаў чыгункі. Што-небудзь супраць рэлігіі й сьвятароў, разумееш? Трэба правесьці рэзалюцыю, у якой працоўныя дамагаюцца ад ураду, каб закрыць Белую царкву.*

I дадае, перадаючы мне поўнасьцяй зрэдагаваны тэкст:

— Гэтая рэзалюцыя павінна быць прагаласаваная такой, якой ёсьць, бо копія яе ўжо разасланая ў рэдакцыі менскіх газэтаў. Пасьлязаўтра яны яе надрукуюць на першай бачынцы. А рэшту палагодзь з прысутным тут сакратаром камуністычнае ячэйкі чыгуначных майстэрняў.

— *О, усё ў парадку, пойдзе, як па масьле!* — голасна заявіў сакратар Абрамовіч. — *Рэзалюцыя дастаткова даўгая, каб пры ёй заснуў хоць які сход, і яе, як выходзячую ад работнікаў, прадставіць прэзыдыюму Гучка, які сам беспартыйны і амаль веруючы. Прынамсі яго лічаць такім.*

— *І ён згаджаецца?* — зьдзіўлены, пытаюся я.

Сакратар ячэйкі ўсьміхаецца і адказвае мне, патакаючы.

— *З вашага боку, таварыш, трэба, каб даклад быў як найдаўжэйшы, каб зацягнуць сход да другое ці трэцяе гадзіны раніцы,* — заканчвае ён, бяручы шапку, — *а я бяру на сябе рэшту. Вы пабачыце, што рэзалюцыя будзе прагаласаваная… Усяго добрага, таварыш!*

Я быў ашаломлены. Ня будучы яшчэ добра ў курсе практыкі камуністых і іхных дачыненьнях з працоўнымі масамі, я наіўна верыў, што перадусім трэба пераканаць працоўных у непатрэбнасьці рэлігіі.

Замест гэтага — што за паганая камэдыя мае разыгрецца на маіх вачох у клюбе Леніна!

І ўсё прайшло запраўды *"як па масьле"*. Усё было *"цудоўна наладжана"*. Каб прадоўжыць сход, пачалі яго ня ў восем гадзін, а ў дзесяць. Мой даклад закончыўся толькі пасьля паўночы. Камуністыя, вызначаныя больш-менш загадзя, для формы задалі колькі пытаньняў; славутая рэзалюцыя, адбітая ў сакратарыяце на машынцы і прадстаўленая ў канцы Гучкам, была прынятая "аднагалосна".

Яна была "прагаласаваная", але як і кім? Перадусім — ужо было каля трох гадзін раніцы. Вельмі мала работнікаў засталося ў залі. Ды й гэтыя былі настолькі змучаныя, што, напэўна, нічога не разумелі, што ім Гучка зачытваў. Яны думалі толькі аб адным: хутчэй прагаласаваць за тое, чаго ад іх дамагаюцца. Усяадно, ня сёньня, дык цераз тыдзень іх змусяць паддацца. Дык канчайма сход, вяртаймася дадому — спаць! Бо-ж цераз тры-чатыры гадзіны трэба йсьці на працу!

І ўжо гэтай раніцай менскія газэты сьпявалі перамогу!

А тымчасам іхная перамога была перадчасная. Жанчыны ды й шмат якія чыгуначнікі, даведаўшыся, што здарылася, пастанавілі не дапусьціць да закрыцьця іхнай дарагой царквы. І раніцай вызначанага на закрыцьцё дня іх сабралася каля сотні перад уваходам у царкву, спакойна заяўляючы сваім мужыкам, работнікам і камуністым, міліцыянэрам і ГПУ:

— *Вы ўвойдзеце сюды толькі па нашых трупах.*

— *Вы-ж самі галасавалі за закрыцьцё царквы!* — адказвалі ім камуністыя. — *Пашто-ж тады ўсё гэтая гісторыя!*

— *Мы галасавалі? Ніколі ў жыцьці! Мы навет ня прысутнічалі на сходзе…*

— *Але-ж вашыя мужыкі…*

— *Нашы мужыкі — гэта ня мы!* — адказвалі жанчыны. — *Мы не згаджаемся зь імі — і ўсё!*

У запраўднасьці-ж гэтае "*не згаджаемся*" ня зусім тут падыходзіла. Бо-ж і бальшыня работнікаў была супраць закрыцьця. Толькі што гэтым разам жанчыны паказалі сябе адважнейшымі за мужчынаў. Праўда, паміма ўсяго, гэтым разам жанчыны рызыкавалі менш. Дзіўная рэч — жанчыны выйгралі справу: царкву ў гэты дзень не закрылі. Энэргічная пастава вернікаў разгубіла камуністых. Аднак яны адступілі толькі па тое, каб пасьля лепш скочыць наперад.

Арыштавалі старога сьвятара Белай царквы — ён толькі што вярнуўся з выгнаньня — прысудзілі яго пад агульным закідам "*контррэвалюцыйнай акцыі*" на высылку ў Салаўкі, дзе ён напэўна загіне ад голаду й холаду. Адначасова арыштавалі каля дзесяці чалавек, аднаго дымісіяванага, аднаго доктара й г. д., абвінавачаных у вядзеньні "*контрарэвалюцыйнай акцыі*" пад кіраўніцтвам старога безабароннага сьвятара. Такім чынам было "даведзена", што сьвятары працуюць супраць савецкай улады, а царква — гэта "*гняздо рэакцыі*". І выбіраючы ахвяраў у васяродзьдзі блізкім да чыгуначнікаў, застрашвалі іх, каб зламаць гэтым усялякі супраціў.

— *Арыштоўваецца шмат людзей, віноўных у змове супраць савецкае ўлады,* — казалі працоўным камуністыя. — *Бачыце, да чаго даводзіць абарона сьвятароў!*

— *А ці заўтра не наступіць чарга на мяне ці маю жонку,* — думалі нешчасьлівыя.

Калі гэтай вельмі “дэмакратычнай” мэтодай масы былі “перакананыя”, было прыступлена да новай “кансультацыі” ў тымжа пытаньні: *“трэба ці ня трэба закрыць праваслаўную Белую царкву на Савецкай вуліцы ў Менску?”*. Але гэтым разам было пастаноўлена не арганізаваць мітынгаў з дакладамі, а правесьці справу “па-сямейнаму”, г. зн. на тайных сходах у майстэрнях ці бюрах арганізаваць “кансультацыі”, забясьпечваючыся, каб ніхто пасьля ня мог сказаць, што ён не галасаваў, ды даючы падпісваць “галасуючаму” адмыслова выпрацаваную формулу. Так як больш ці менш актыўныя праціўнікі закрыцьця былі ў той ці іншы спосаб *“правізарычна элімінаваныя”*, а тыя, што яшчэ вагаліся, былі стэрарызаваныя, каб ведаць, што рабіць, выглядала, што гэтым разам закрыцьцё будзе “аднагалосным”.

Бязбожнікі Менску бралі адплату. Гадзіны Белай царквы былі палічаныя.

Усе гэтыя махінацыі непакоілі мяне, калі я йшоў па Савецкай вуліцы, каб быць прысутным як прадстаўнік газэты *“Рабочий”* пры афіцыйным і дэфінітыўным закрыцьці Белай царквы. Гэтым разам таксама я быў *“добра ў курсе справы”*. Да такое ступені, што ўжо ня было ніякага сумлеву што да запраўднай вартасьці “дэмакратыі”. Пазьней, падчас усялякіх выбараў і галасаваньняў ці то ў ролі журналістага, ці то выбаршчыка, я сьцьвярджаў, нажаль, поўную пагарду да апініі народу, аднолькавую камэдыю з прэтэнзіяй на свабоду, заўсёды зьвязаную з тэрорам.

Мяне ахапіла страшнае жаданьне ня йсьці на гэтую экзэкуцыю, пакінуць чырвоны журналізм. Але мяне затрымоўвалі дзьве рэчы. Перадусім, паміма абуральнага боку паступкаў, зусім магчыма, што савецкі рэжым хоча шчасьця для народу, які, бяссумлеўна, ня будучы яшчэ палітычна дастаткова вырабленым, сам яшчэ ня ведае, што для яго добрае, а што дрэннае.

Калі камуністычная палітыка папраўляе долю гэтых масаў, думаў я, дык трэба дараваць неадпаведныя мэтады, якія цяпер ужываюцца.

Толькі пазьней давядзецца мне пераканацца, што камунізм ня толькі не паправіў матар’яльнага й маральнага палажэньня масаў, але куды шмат пагоршыў яго.

Па-другое, я хацеў бачыць канец гэтага змаганьня між камунізмам і рэлігійным пачуцьцём, якое праявілася з такой сілай у ваба-

роне Белай царквы. Дзе-ж лепшае месца да нагляданьня, як палажэньне рэпартэра!

І, нарэшце, ня трэба скрываць, я ведаў, на што наражаецца чырвоны журналісты, калі адмаўляецца служыць рэжыму. А я меў жонку і двое дзяцей. І, апрача ўсяго, у гэным часе, хаця ўжо вельмі здэзарыентаваны, я зусім ня быў ворагам камунізму.

Вось гэтыя думкі займалі мяне ў пахмурны й даждлівы дзень у красавіку 1928 г., калі разам з фатографам рэдакцыі я прыбліжаўся да Белай царквы. Ужо разьлягаліся гвалтоўныя грукаты молату. Двух найбольш актыўных бязбожнікаў з чыгуначнай майстроўні, рызыкуючы жыцьцём, залезьлі на вяршыню высачэзнае званіцы, каб зьбіць адтуль крыж ды на ягоным месцы завесіць чырвоны сьцяг, ахвяраваны ячэйкай бязбожнікаў, які павінен азначаць *"бліскучую перамогу марксісцкага атэізму над контррэвалюцыйным хрысьціянствам"*.

Унізе чакаў пануры й маўклівы натоўп.

Удары молата з зацятасьцяй падвойваюцца, але хрысьціянскі крыж трымаецца. Я гляджу на натоўп. Мужчыны з апушчанымі галовамі стаяць маўкліва. Некаторыя падаюць на калені й набожна хрысьцяцца. Дзе-ж гэты "энтузіязм", які я павінен апісаць у сваім артыкуле на першай бачынцы?

— *Госпадзі, памілуй... Госпадзі, памілуй,* — чую некалькі галасоў за мной.

Урэшце сіла двух маладых і здаровых чалавек перамагае. Крыж хіліцца, на момант быццам вагаецца і падае з глухім, як усхліп, грукам на зямлю. І адразу-ж на ягоным месцы разьвіваецца на ветры чырвоны сьцяг. Некалькі воплескаў, слабых і ненаважаных — камуністыя вітаюць сьцяг.

Маса — пахмурная й нярухомая. Жанчыны плачуць і моляцца амаль на ўвесь голас. Іх больш за сотню стаіць на вуліцы на каленях з вачыма, скіраванымі ў шэрае неба.

— *Вось табе гісторыя!* — бурчыць мой фатограф. — *Ці-ж варта здымаць гэты малюнак, хутчэй жудкі, чым радасны? Ясна, што такое фатаграфіі нельга было-б выслаць у Маскву!*

— *Сфатаграфуйце чырвоны сьцяг на званіцы й гэтага будзе дастаткова,* — адказваю яму. — *А таксама, калі хочаце, гэтых двух, што зьбілі крыж. Я думаю, яны ня будуць мець нічога супраць пабачыць свае твары ў газэтах.*

*— Але! Толькі гэта й застаецца!*

Некаторыя перамогі нагадваюць хутчэй паражкі. Ці-ж крыж быў сяньня пераможаны чырвоным сьцягам? Але як напісаць артыкул?

Так! І я напісаў. А назаўтрае раніцы гэты славуты артыкул заняў цэлую першую бачынку “Рабочага”. Мушу прызнацца — цяжка было рэдагаваць.

Як я гэта рабіў? Перш-наперш, рэч абавязковая для кажнага савецкага журналіста, — *“изложение убеждений”* камуністычных і атэістычных. Гэтая частка была фактычна даволі лёгкай, бо я быў камуністам з перакананьня. Далей ішла *“гісторыя пытаньня”*, *“ворагі працоўнае клясы”* і *“маса бязбожнікаў”* — зусім маленькай была гэтая *“маса”*! Тут ужо было крыху цяжэй, трэба было “забыцца” на ўсё, што… не падабалася-б камуністычнай партыі.

Найцяжэйшая была трэйцяя частка — “урачыстае” закрыцьцё царквы. *“Чырвоны сьцяг узьняты на званіцу”*, *“два бязбожнікі, што зьбіваюць крыж, гэты сымбаль рэакцыі”* — усё гэта магло ісьці. Але плач і малітвы жанчынаў, пахмурныя абліччы мужчынаў, сярод якіх я бачыў нямала камуністых, і гэты народ на каленях у гразі перад царквой, якую зачынялі — трэба было “забыцца” й на гэта?

Не! Я ня мог ісьці аж так далёка. Усімі магчымымі сродкамі, з камуністычнымі ў васноўным *“выясьненьнямі”*, я ўсё-ж напісаў, што бачыў. І тады мяне паклікалі да *“таварыша галоўнага рэдактара”*.

*— Што гэта за гісторыя з гэтымі жанчынамі ў плачы?* — і паказвае мне мой артыкул, перачыркнуты тоўстымі чырвонымі лініямі — ён прайшоў кантролю камітэту партыі. — *Таварыш сакратар згодны з тэарэтычнымі вывадамі; літарацкае афармленьне — таксама добрае. Але гэтыя жанчыны, што плачуць? Скуль ты іх узяў?*

*— Дык жа…*

*— Ах, не, не. Раз-два замяні гэта! Задавальненьне, радасьць — вось што патрэбнае!*

*— Але-ж, таварыш рэдактар, жанчыны плакалі. У маім артыкуле я паясьняю й даволі войстра крытыкую іхнае настаўленьне.*

*— Ты крытыкуеш! Ці-ж я цябе пытаюся, што там здарылася? Я табе кажу, што ты мусіш пісаць!*

*— Добра, таварыш рэдактар,* — уздыхнуў я, — *пастараюся зьмяніць тое, што будзе магчымым.*

*— Трэйцюю частку трэба зьмяніць. Там.. гэных жанчын, што моляцца й плачуць, мы іх ня хочам! На іх месца дай нам бязбожнікаў, якія бурна аплядуюць чырвоны сьцяг. Вось твой артыкул і сьпяшайся!*

Пасьля, падумаўшы:

*— Не... Пакінь мне артыкул. Я папраўлю сам.*

І вялікі алавік *"таварыша галоўнага рэдактара"* пачаў зьнішчальна прагульвацца па маіх картках. Цераз поўгадзіны ён мяне заклікаў ізноў:

*— Вось і ўсё. Дай перабіць на машынцы й перашлі адразу-ж у друкарню. З камітэтам усё палагоджана. Я прачытаў артыкул сакратару праз тэлефон.*

Назаўтрае ўсё гэта зьявілася вялікімі літарамі. Усё было "палагоджана". Але-ж, Божа мой, ці-ж гэта быў мой артыкул?

### Як "чысьцілі" Цішку Гартнага

І вось вялікая заля кінатэатру "Колізэум" (колішняя праваслаўная царква, зачыненая ў 1920 годзе) на вуліцы Валадарскага ў Менску, дзе аднаго вечару ў сьнежні 1930 году *"чысьцілі"* беларускага пісьменьніка Цішку Гартнага, сябру камуністычнае партыі й былога дырэктара дзяржаўнага выдавецтва Беларусі, абвінавачанага ў сымпатыях да беларускага "нацыянал-дэмакратызму" (рух, мэтай якога было стварэньне беларускай, амаль буржуазнай, незалежнай ад СССР, рэспублікі), а які на справе быў толькі "вінаваты" ў тым, што даволі сьцюдзёна адносіўся да "грандыёзных справаў" Сталіна ў дачыненьні да вёскі. Я бачу, як быццам гэта было ўчора, тры вечары мукаў, прысьвечаных на тое, каб зьдзеквацца й насьміхацца з чалавека, з інтэлектуалістага.

На сцэне Цішка Гартны, чалавек пяцідзесяці гадоў, нізкага ўзросту, крыху таўставаты, з круглымі акулярамі на канцы носу. Ён паважным і манатонным голасам заканчвае перад перапоўненай заляй (падумайце, *"судзілі"* аднаго зь лепшых пісьменьнікаў Беларусі і ў дадатак ведамага камуністага!) вымушаную споведзь свайго жыцьця. І цяпер, крыху з пагардай, а яшчэ больш із смуткам, ён чакае шматлікіх ды таксама абавязковых пытаньняў, на якія трэба адказваць, хоць-бы яны былі дурныя, абразьлівыя ці навет датычылі (а гэта амаль нямінуча) ягонага прыватнага, інтымнага жыцьця.

Ён спакойны, гэты Цішка Гартны. Ён амаль абыякавы да ўсяго, што робіцца на залі. Бо ён ведае, што будуць гаварыць іншыя і што скажа ён, ягонае ймя будзе вычыркнута зь лісты сяброў партыі. Дык пашто-ж гэтая камэдыя "*чысткі*", праводжанай "*пралетарскімі масамі*" ў гэтай залі, калі прысуджэньне нямінучае? Гэтая камэдыя патрэбная перадусім на тое, каб можна было пасьля сказаць (асабліва па-за савецкімі межамі), што ў Савецкім Саюзе сам "*народ*" судзіць "*шкоднікаў*", а таксама каб маральна зьнішчыць "*чышчанага*". Так, каб зьнішчыць! Не таму, што ён "*шкоднік*". Вельмі часта, а фактычна заўсёды, гоняць найлепшых, найбольш разумных і гуманных. І якраз таму, што гэтыя людзі мелі сьмеласьць сумлявацца, мелі адвагу не пагаджацца з маскоўскімі бонзамі. А гэтае адвагі Сталін не дароўвае ніколі.

На сцэне чалавек, пісьменьнік. На залі, унізе ля ягоных мог, расхваляваная маса, сярод якой выдзяляецца кампактныя групы "сталінцаў" бяз сэрца й літасьці, гатовых на ўсё. Праціўнікі, гатовыя паперабівацца.

Хвіліна пытаньняў і адказаў надыйшла. Пачаўся жудасны маральны зьдзек.

— *А можа таварыш Гартны скажа нам, чаму ён у сваіх літаратурных творах не атакуе кулакоў?* — крыху насьмешлівы голас даносіцца з глыбіні залі.

— *Я пісьменьнік, а не журналісты,* — паясьняе Цішка Гартны. — *Гэта толькі артыкуламі можна адказваць на кажную палітычную кампанію. Літаратурны-ж твор вымагае месяцаў, часта нават гадоў для падрыхтоўкі.*

— *Але-ж вы, таварыш, прынамсі да цяперашняга, зьяўляецеся камуністым. Няпраўда?* — працягвае той-жа голас.

— *Так, я камуністы…*

— *Дык калі вы камуністы, чаму ня робіце таго, што загадвае партыя?*

— *Спрэцызуйце вашае пытаньне.. Я не разумею, што вы хочаце ведаць.*

— *Прэцызую: камуністычная партыя загадала ўсім, асабліва пісьменьнікам, дапамагаць калектывізацыі. Чаму таварыш Гартны нам не дапамагае? Таму што ня згодны з палітыкай партыі?*

— *Я напісаў адзін артыкул…*

— *Ах, так?! Але-ж вы там нічога не сказалі супраць кулакоў!* — крычыць з канца залі іншы “сталінец”.

— *Я пісаў, як мог.*

— *А ў вашых раманах,* — працягвае першы, — *чаму ў раманах вы не атакавалі ворагаў працоўнае клясы?*

— *Пісьменьніку не загадваецца!* — адказвае Цішка Гартны. — *Мне шкада, што вы гэтага не разумееце.*

— *Я разумею, ды яшчэ як!* — крычыць той. — *Вы зусім не камуністы. Я скончыў, таварыш старшыня!*

— *Хто яшчэ мае пытаньні?* — пытаецца старшыня “тройкі”.

— *Я, таварыш старшыня,* — крычыць нехта. — *Я хачу ведаць, колькі Цішка Гартны зарабляе ў месяц.*

— *Дзьвесьце пяцьдзесят рублёў, калі вас цікавіць,* — адказвае пісьменьнік, паварушыўшы плячыма.

— *А я хачу папытацца таварыша Гартнага, якая розьніца між сацыялізмам і капіталізмам?* — пытае іншы.

— *Што гэта, я ў палітычнай школе? Здаю экзамен?* — ускрыквае Цішка, чырванеючы ад злосьці. — *Я адмаўляюся адказваць на падобныя пытаньні.*

— *Бяру гэта да ведама,* — зь іранічным сьмехам адказвае той, хто пытаўся.

— *Таварыш Цішка Гартны, я павінен вас папярэдзіць, што вы забавязаныя адказваць на ўсе пытаньні, якія вам задаюць!* — строга заўважыў старшыня “тройкі”.

— *Навет на найбольш дурныя?*

— *Пытаньняў дурных няма. Таварыш, лічэцеся із славамі!*

— *Я ня вучань!*

— *Я вам загадваю адказваць. Хутчэй!*

— *Ну, хай сабе,* — кажа Гартны, і ягоныя рукі трасуцца ад непаўстрыманай злосьці. — *Вось-жа я адказваю, што гэтае розьніцы ня ведаю.*

— *Камітэт трох возьме на ўвагу ваш адказ, таварыш Гартны!* — суха сказаў старшыня.

І сваім войстрым голасам зьвяртаючыся да залі:

— *Таварышы, хто яшчэ мае пытаньні?*

Тры доўгія вечары трывала гэта подлая камэдыя. Тры доўгія вечары зьдзекваліся з чалавека, інтэлектуалістага, пісьменьніка. Першыя два вечары ад васьмі да дванаццаці — пытаньні дурныя,

грубыя, недалікатныя, а апошні вечар — абразы, пагрозы, насьмешкі спушчаных з ланцуга “сталінцаў” супраць безабароннага чалавека, супраць пісьменьніка, “праступствам” якога быў толькі сумлеў (і наколькі апраўданы!) што да важнасьці й карысьці *“грандыёзнае сацыялістычнае справы”*.

Цішка Гартны быў выкінуты з камуністычнае партыі. Пакінуўшы ў верасьні 1931 г. Менск, а пасьля й СССР, я ня меў нагоды даведацца пра далейшы лёс гэтага чалавека[665].

— *Што за сьвіньні!* — зь нястрыманай злосьцяй працадзіў праз зубы побач мяне таварыш У., калі пасьля апошняга вечара “чысткі” Цішкі Гартнага амаль а першай гадзіне ночы мы йшлі па Савецкай вуліцы. — *І гэты хлеў яны хочуць называць сацыялізмам!*

Таварыш У. зьяўляецца (фактычна, зьяўляўся, бо цяпер у няласцы) таксама ведамым камуністым. Я яго вельмі добра ведаў у тым часе (1928–1929), калі ён займаў даверанаю пасаду старшыні “Галоўліту”[666] Беларусі, арганізацыі, якая займалася цэнзурай усяе літаратуры Беларускай сацыялістычнай рэспублікі. Трэба сказаць, што быў ён цэнзарам даволі лібэральным, навет залібэральным для ўмоваў СССР. Праўда, ён не застаўся доўга на гэтай адказнай пасадзе, і калі трапіў у няласку, дык гэта напэўна з прычыны свайго лібэралізму. Гэта быў праўдзівы ідэялісты, перакананы й бязінтэрэсоўны камуністы, чалавек, які ніколі не выкарыстоўваў свае сытуацыі, каб нажыцца ці палагоджваць свае асабістыя справы. Тып вельмі рэдкі, якога аднак час ад часу можна сустрэць навет і ў СССР.

— *Хадзі, зайдзем да мяне на чарку,* — раптам кажа мне У., калі мы апынуліся ля ягонага памешканьня. — *Маю яшчэ кусок каўбасы. Пагаворым крыху.*

— *Пракляцьце! Пракляцьце!*

У. усхваляваны праходзіўся па малым пакоі, дзе мы двох і ягоная разбуджаная жонка заканчвалі ноч пасьля бурнага вечару ў кінатэатры “Колізэум”.

[665] Зміцер Жылуновіч быў выключаны з партыі ў студзені 1931 г. У лістападзе 1936 г. быў арыштаваны, а ў красавіку 1937 г. быў змешчаны ў Магілёўскую псіхіятрычную лякарню, дзе і памёр (афіцыйна — ад гангрэны лёгкіх, паводле іншай версіі — скончыў жыццё самагубствам).

[666] **Галоўнае ўпраўленне па справах літаратуры і выдавецтваў** — орган дзяржаўнага кіравання, які ажыццяўляў цэнзуру друкаваных выданняў і абарону дзяржаўных інтарэсаў у СМІ. У Беларусі быў створаны ў 1923 г.

— *Андрэй, прашу цябе, супакойся!* — кажа ягоная жонка, кідаючы нясьмелы позірк у мой бок. — *Мы-ж не самі.. Таварыш…*

— *Будзь спакойнай за гэтага таварыша, я яго ведаю,* — адказвае У. — *Ён ня з тых, што прадаюць людзей…*

— *Супакойцеся, я ня з тых…*

— *Бачыш,* — кажа У., зьвяртаючыся да жонкі, — *А перадусім я чытаў ягоныя кніжкі, ён заразумны, каб пагаджацца з тым, што робіцца! А прытым, каб ён навет пайшоў заўтра ў ГПУ й перадаў нашую гутарку, дык думаеш, я-б пабаяўся-б?* — загрымеў У., штораз больш знэрваваны. — *Я, які змагаўся ўсё сваё жыцьцё за сацыялізм, але не за гэты хлеўны сацыялізм! Я, які ў часе грамадзянскай вайны тройчы пераходзіў лінію белых, каб рабіць прапаганду ў іхных тылох! Я, які быў два разы арыштаваны й прысуджаны на сьмерць жандарамі Врангеля*[667] *і які два разы ўцёк зь іхнае турмы ў Растове! Я маю баяцца Сталіна і ягоных шпіёнаў?! О, не, таварыш. Хай прыходзяць. Я іх добра сустрэну!*

У. быў у гэты момант надзвычайны. Вочы блішчэлі, усё цела дрыжэла ад усхваляванасьці, кулакі нэрвова заціснутыя, голас поўны злосьці й запраўднае адвагі. Вось хто не пабаіцца адкрыта глянуць у вочы навет і сьмерці!

У цішыні я падыймаюся й моцна паціскаю яму руку.

— *Так, таварыш, якое рашчараваньне, якое агромнае рашчараваньне!* — уздыхнуў У. і ягоныя вочы напоўніліся сьлязьмі. — *Бачыш, для нас, што з аружжам у руках змагаліся за сацыялізм, цяжка глядзець на ўсё гэта!*

— *Але-ж гэта сацыялізм, таварыш,* — заўважыў я, — *У кажным выпадку — сацыялізм у будове. Прынамсі нас у гэтым запэўніваюць.*

— *Не, не, гэта не сацыялізм, за які я і іншыя змагаліся, пралілі столькі людзкое крыві! Не! Мы змагаліся не за гэтакі хлеў! Мы хацелі бачыць усіх людзей вольнымі, шчасьлівымі, задаволенымі. Мы хацелі запраўднага братэрства на зямлі! І нам даюць брудны хлеў, дзе людзі — людзі! — панумэраваныя, як жывёла ў бойні, павінны заставацца кажны на сваім месцы, ня рухаючыся, ня думаючы. Гэта-ж горш, тысячу разоў горш, чымся царызм. Не, не, гэта не сацыялізм!*

— *Аднак-жа...*

---

[667] Барон **Пётр Урангель** (рус. *Пётр Врангель*, 1878–1928), расійскі вайсковы дзеяч, адзін з кіраўнікоў Белага руху, галоўнакамандуючы рускай арміяй у Крыме і Польшчы.

*— Добра! Калі гэта сацыялізм, дык я яго не хачу! Не хачу! Не хачу!* — закрычаў У., трацячы над сабой панаваньне.

*— Андрэй, прашу цябе,* — адазвалася жонка, — *Таварыш разумее, але-ж ёсьць іншыя... суседзі.*

Аблакаціўшыся на стале, У. плакаў па сваіх неажыцьцяўлёных снах — даць шчасьце на зямлі тым, што церпяць. Ён выплакваў сваю веру ў сацыялізм.

*Натальля Орса*

## Вайна й паездка ў Янавічы й Маскву. Павестка. Паварот на Бацькаўшчыну. Прага. Купала ў Празе

Успаміны[668]

У 1914 г. памерла мама й пакінула бацьку й чацьвёра дзяцей. Суседзі ўгаворвалі бацьку жаніцца, але ён наадрэз адмовіўся, кажучы — “*цяпер дзеці ня маюць маткі, а як жанюся, ня будуць мець і бацькі*”. Цяжка яму было спраўляцца з гаспадаркай і малымі дзецьмі, тым больш што ён ня мог працаваць на гаспадарцы — меў пашкоджаную нагу. Старэйшая сястра працавала ў школе й дома ня жыла. На цяжкія работы тата наймаў, а хатнія, лягчэйшыя, выконвала я зь меншаю сястрою. Усе хатнія работы былі нам зацяжкія, дык мы ўсё скардзіліся, што цяжка, але з часам трохі прывыклі й так-сяк спраўляліся.

Аднаго разу тата прывёз вялічэзны конусападобны стаўбур цукру, пасьцяліў настольнік, пабіў цукер на кускі з курынае яйцо ды кажа: “*Гэта табе, дзетка, работнікі. — Гэта-ж,* — кажу, — *цукер, а не работнікі. — Як ты сваім каляжанкам дасі па куску, дык яны з вамі пераначуюць* (тата часта тыднямі не начаваў дома — езьдзіў шыць) *і памогуць унесьці бульбу са склепу й дроў — а цукру не шкадуйце, я ізноў куплю*”. На вёсцы, ведама, дзеці рэдка мелі цукер, дык сяброўкі ахвотна прыходзілі начаваць. Прыйшоўшы са школы, мы хуценька парабілі — трэба было прынесьці сена карове, унесьці

[668] Беларус. № 411. Сакавік 1994. С. 4–5; № 415. Жнівень 1994. С. 4–5; № 418. Лістапад 1994. С. 4–5; № 424. Травень 1995. С. 6–7.

бульбы са склепу, дроў у хату, каб заўтра толькі падпаліць у печы, ды як усё параблена, вячэралі, а тады рабілі хатнія заданьні, трохі пагулялі, а потым залазілі на печ і смакталі цукер. Гэта былі прыемныя часы, я іх і цяпер ўспамінаю як нейкія асаблівыя мамэнты з майго жыцьця.

Па сканчэньні царкоўна-прыходскай школы я пачала прасіць тату, каб пусьціў мяне вучыцца. Тата вельмі цаніў навуку, ён вельмі быў шчасьлівы, што хоць адну дачку вывучыў на настаўніцу, і гэтым ганарыўся, але быў ён, запраўды, у цяжкой сытуацыі. Старэйшая сястра ўгаворвала пусьціць мяне ў навуку, а суседзі бунтавалі бацьку. Помню, цэлае лета толькі й гутарылі ў хаце пра гэта. Нарэшце сястра сказала тату, што найме жанчыну і будзе аплачваць кожны месяц, а як хоча вучыцца, то няхай ідзе.

Пасьля некаторых падрыхтовак сястра паехала са мною ў Яновічы Віцебскай губ. Там была закрытая школа для дзяўчат, якую яна скончыла, дык і мяне туды завезла. Усе іспыты я прайшла добра, дык сястра пакінула мяне, сама паехала дамоў, бо трэба было пачынаць у школе навуку, хоць бальшыня дзяцей у пачатковых школах пачыналі хадзіць пазьней, калі ўжо ня трэба было пасьвіць жывёлу. Пераважна гэта было каля Пакроваў[669], навет і пагаворка была *"Прыйшлі Пакровы — заганяй у хлеў каровы"*.

За гэты час нямецкае войска акупавала нашу мясцовасьць, дык сястра не магла дабрацца дадому — са Стоўбцаў вярнулася й паехала ў Петраград, а мяне завядоміла пісьмова, што яе ня пусьцілі дамоў і яна нічога ня ведае пра тату й сясьцёр. Гэтая вестка так на мяне падзейнічала, што я ўвесь дзень ляжала й плакала. Адна настаўніца пачала ўгаворы, каб ня плакала, а як не памаглі ўгаворы, то войстра сказала: *"Як ня будзеш займацца — выкінем са школы"*. Ведаючы, што няма каму плаціць за ўтрыманьне, я пачала шмат працаваць і ўвесь вольны ад клясаў час праводзіла за кніжкамі. Гэтак праз некаторы час я заваявала першынства ў клясе па навуцы. Так, няўгледкі надышлі Каляднія канікулы. Усе цешыліся, што па іх прыедуць і забяруць дамоў, яны будуць ласавацца смачнаю ядою,

[669] **Пакроў** — свята, якое адзначаюць пераважна ва ўсходнеславянскім праваслаўі, адно з вялікіх святаў у беларускай царкве, звязанае з з'яўленнем Божай Маці ў Влахернскім храме ў Канстанцінопалі ў 910 г. Адзначаецца 14 кастрычніка. Свята шырока адзначалі ў сялянскім асяроддзі як знак заканчэння палявых працаў.

бо ім, гасьцям, будуць даваць усё лепшае і будуць спаць колькі захочуць і як захочуць (у школе вымагалі, каб лажыліся на сьпіне, а рукі паверх коўдра, чаго ўсе вельмі ня любілі). Я ня прыймала ўдзелу ў гутарках, а ўсё думала, як я буду жыць і дзе спаць і што есьці, як усе разьедуцца. Я ведала, што ўсе вялікія пакоі — як спальні, сталовая, кухня, вучэльня й заля для гульняў — замыкаліся на ўвесь час канікулаў, але нікога ні пра што ні пытала. І вось надыйшоў дзень адʼезду. Хутка пасьля сьнеданьня пачалі прыяжджаць бацькі. Пачалося ажыўленьне. Усе бегаюць, разьвітваюцца, сьпяшаюцца, а я сядзела ў куточку і ўсё паглядала на гэтую суматоху. Адна дзяўчына падыйшла да мяне разьвітацца й запытала, ці я куды паеду й што думаю рабіць. Я сказала, што ня маю куды ехаць, а потым дадала: *“Бог мяне ня любіць”*. На яе запытаньне, чаму я так думаю, адказала, што яна мае тату й маму, то й мае куды ехаць на сьвята, ды расплакалася. У гэты мамэнт падышла адна настаўніца, абняла мяне ды кажа: *“А ты будзеш у мяне сьвяткаваць”*. І пачала ўгаворваць, каб ня плакала, што цяпер, дзякуючы вайне, многа такіх, як я, і сказала, што напісала сястры, што возьме мяне да сябе на канікулы.

Праз тры дні дзяўчына, якой я сказала, што Бог яе любіць, а мяне не, прыехала з братам і забрала мяне да сябе, і ў іх я прабыла ўсе канікулы. Жылі яны кілёмэтраў 25 ад школы на хутары. Яе бацька быў шляхціч, але жылі яны небагата. Дзеці вельмі ганарыліся, што яны *“дваране”*, а бацька заўсёды зь імі жартаваў: *«Ня будзеце добра вучыцца й памагаць працаваць дома, то прадам “дваранства” й застанецеся мужыкамі»*. Яны пачынаюць прасіць яго не рабіць гэтага, бо яны будуць памагаць у рабоце, толькі каб быць *“дваранамі”*. Бацька пачынае расказваць, што яму ўжо нехта дае сто рублёў, але ён спадзяецца ўзяць больш за дзьвесьце, дык трохі пачакае. Адзін раз паслаў іх прынесьці сена каровам ды пытае мяне, ці мы памагалі тату ў рабоце, а калі я расказала, як я працавала з малою сястрою, то ён ня мог паверыць.

На наступны дзень я пайшла зь імі ў гумно. Наскублі сена, а потым я пачала падгаворваць іх нарэзаць сечкі, дык дзядзьку будзе лягчэй. Дзяўчына прызналася, што яна ніколі гэтага не рабіла (а яна была старэйшая за мяне), а як спрабавала, то згадзілася, што ня так цяжка. З гэтага часу я і яны выконвалі ўсю хатнюю работу бяз бацькі, а ён быў вельмі задаволены і павёз нас усіх сустракаць Новы Год у Сураж ды ня скупіўся на прыемнасьці для нас. Калі-ж

ён прывёз нас пасьля канікулаў у школу, то купіў мне чаравікі й запрапанаваў прыехаць на ўсё лета да іх. *“Ты, кажа, навучыла маіх дваранаў працаваць”*. Я была вельмі задаволеная падарункам і абяцала прыехаць. Але гэтага зрабіць не магла, бо сястра напісала, каб я ехала да цёткі на цэлае лета ў Кіеў, што я й зрабіла.

Вялікодныя канікулы правяла йзноў у Краўчанскіх на хутары. Было разводзьдзе, сядзелі пераважна дома. Адзін раз дзядзька сказаў: *“Калі хочаце, то завязу вас у Капельку”*. На маё запытаньне, што гэта такое, вытлумачыў, што гэта такая маленькая каплічка, якой ужо больш за 300 год, і ён любіць туды езьдзіць. Маленькая царква на чалавек ня больш 50, алтар, уся аздоба — рэзьба па дрэве і ўсе іконы на драўляных дошках выразаны або выпалены. Дзядзька як увайшоў перахрысьціўся й нейкі момант стаяў, ціха молячыся, а потым журыў нас, што мы не памаліліся. Ён гаварыў, што нейкая шынкарка, прадаючы гарэлку чаркамі, зьлівала астаткі й прадавала ізноў, і гэтак праз усё жыцьцё, ды за сабраныя такім спосабам грошы пабудавала гэтую каплічку, а таму й назвалі Капелькай. Мажліва, што гэта была вуніяцкая каплічка.

Сястра гэтым часам кончыла курсы сясцёр міласэрдзя ў Петраградзе й была назначаная ў 5-ы Георгіеўскі шпіталь у Маскве. Па пераезьдзе ў Маскву сястра напісала мне, каб я ехала да яе ў Маскву, каб не спазьніцца на экзаміны ў гімназію. Я была такая шчасьлівая, што буду вучыцца ў гімназіі, што не магла дачакацца дня ад’езду. У Маскве на станцыі сустрэла мяне сястра й сказала, што пры дапамозе нейкай генэральшы ўладзіла мяне ў *“Общежитие для учащихся беженцев”*, куды мы адразу й паехалі, а празь дзень я ўжо прыступіла да іспытаў. Вынік іспытаў быў добры, дык прапанавалі затрымацца ў 4-й клясе, але трэба было падагнаць нямецкую мову, зь якой я ня была зусім знаёмая. І вось я ўжо вучаніца 3-й клясы эвакуяванай Рыжскай гімназіі імя Людмілы Іванаўны Тайлавай[670]. Я потым даведалася, што гэта была адна з найлепшых гімназіяў у Рызе. Вучаніцы былі зь сем’яў вышэйшых рускіх урадоўцаў і заможных латышоў. У 3-й клясе было 42 вучні, зь іх адна жыдоўка, 4 рускія і я — беларуска, астатнія латышкі. У часе лекцыяў на спэцыяльнай лаўцы сядзела клясная дама (у кожнай клясе была клясная дама) і натавала

[670] **Людміла Тайлава** (рус. *Людмила Тайлова*, 1851–1938), педагог, заснавальніца і ўласніца жаночай гімназіі ў Рызе. Згаданая жаночая гімназія была адной з найбольш вядомых і папулярных рускіх прыватных гімназій. Дзейнічала ў 1884–1932 гг., у тым ліку ў 1915–1918 гг. у эвакуацыі ў Маскве.

абсалютна ўсё пра кожную вучаніцу ў дзёньнік, а ў сыботу вучаніцы несьлі дзёньнікі дамоў і ў панядзелак прыносілі ў школу падпісаныя бацькамі або апякунамі. Пры такім парадку ні адна вучаніца не магла адсутнічаць або не зрабіць хатніх заданьняў.

Тут хачу расказаць пра адзін выпадак, які пакінуў сьлед у маім жыцьці. Расейскую мову выкладала Лідзія Іванаўна Богосцева. Яна заўсёды чытала мае хатнія працы як лепшыя. Адзін раз кажа, што я так *“красіво і грамотно пішу, а говорю с польскім выговором”*. Я пачала даказваць, што я ня полька, а руская, бо хаджу ў царкву, а не ў касьцёл, а яна мне: *“Ты хадзі куды хочаш, а выгавар у цябе польскі”*. Я пачувала сябе вельмі пакрыўджанай. На перапынку клясная дама сказала мне, каб ня крыўдзілася на Лідзію Іванаўну, бо я ня руская, але і ня полька, а беларуска, і абяцала заўтра нешта прынесьці й паказаць. На наступны дзень я зь нецярплівасьцю чакала й паглядала на яе, што яна мне пакажа. На перапынку яна паклікала мяне, дастала невялічкую кніжку й папытала, ці я бачыла гэта й ці ўмею чытаць. З чытаньнем у мяне нічога ня вышла, дык я зьбянтэжаная пачала апраўдвацца, што нас у школе ня вучылі так чытаць. *“Ты паслухай, а я табе пачытаю”*. Як толькі яна прачытала пару сказаў, я выкрыкнула: *“У нас так гавораць”*. Так я першы раз сустрэлася з беларускаю кніжкаю, а была гэта “Дудка Беларуская” Мацея Бурачка[671]. На маё запытаньне, дзе яна купіла кніжку, сказала, што ёй падарыў ахвіцэр-беларус, яе жаніх, і што ён забіты ў пачатку вайны, ды радзіла ня гневацца на настаўніцу, што назвала мяне полькай, і не баяцца прызнацца, што я беларуска. Гэтае яна паўтарыла разы тры. Цяпер, як пачну прыпамінаць, як яна гаварыла са мною, то прыходжу да перакананьня, што яна была сьведамай беларускай, паходзіла яна са Старой Русы. Пасьля гэтага выпадку настаўніца часта ўжывала беларускую мову ў гутарцы са мною.

У бурсе таксама былі пераважна латышкі, але ўжо тут было 18 беларусак — усе бежанкі. Гэтыя бурсы для бежанцаў знаходзіліся пад апекаю Тацянінскага камітэту[672]. Дзеці мелі кватэру, ежу, вопратку й нейкую апеку ў галіне выхаваньня. Кіраўнічкай

---

671 **“Дудка беларуская”** — паэтычны зборнік Францішка Багушэвіча, выдадзены пад псеўдонімам Мацей Бурачок у Кракаве ў 1891 г.

672 **Таццянінскі камітэт** — Камітэт вялікай княжны Таццяны Мікалаеўны для часовай дапамогі пацярпелым ад ваенных дзеянняў, створаны непрыканцы 1914 г. у Маскве. Дзейнічаў да 1917 г.

была старэйшая жанчына польскага паходжаньня. Яна мела памочніцу — выхавальніцу й дзьве работніцы пры кухні. Выхавальніца даглядала за дзяўчатамі — часам каторай дапамагала рабіць хатняе заданьне, а ў нядзелю ці сьвята пасьля сьнеданьня вадзіла нас па розных музэях, галярэях або на опэры на дзённыя спэктаклі, а па абедзе маглі ісьці да сваякоў, калі хто хацеў. Дзякуючы ёй мы пазнаёміліся амаль з усімі культурнымі здабыткамі, што знаходзіліся ў Маскве або блізка каля Масквы. У некаторых мясцох былі па некалькі разоў.

Аднаго разу паклікала мяне кіраўнічка й сказала, што сястра званіла й прасіла, каб я прыйшла да яе, ідучы ў гімназію, або са школы пасьля лекцыяў. Я вырашыла, што мусіць важная справа, хуценька сабралася, каб управіцца перад лекцыямі. Вельмі-ж нецярпелася даведацца, у чым справа. Як толькі я ўвайшла ў хату, сястра паказала мне паперку, якую я не магла, на жаль, прачытаць, бо напісаная яна была па-беларуску, а сястра глядзіць на мяне ўважна й пытае: *"Можа, ты дзе што зрабіла? Чаму прыслалі павестку? Заўтра рана схадзі й даведайся, у чым справа. А можа ты ня хочаш прызнавацца?"* Я расплакалася й пачала даказваць, што нічога не зрабіла й нічога ня знаю. Даючы гэтую "павестку", сястра загадала нікуды не хадзіць і ні з кім не гаварыць аб гэтым.

Выйшаўшы ад сястры, я вырашыла ня йсьці ў школу, а шукаць "суд", бо гэтая справа важнейшая за школу. Не памятаю, на якой вуліцы, блізка Сухаравай вежы[673], знайшла я патрэбны мне нумар дому, але ніяк не магла дастаць званок, каб пазваніць. Паклала на ходніку кніжкі, каб вышэй было, падскоквала, але не магла дастаць, аж нейкі чалавек, ідучы, запытаў, што мне трэба. Даведаўшыся аб маім клопаце, пазваніў і пайшоў, а я й далей стаяла, бо ніхто не адчыняў. Ужо наважылася пакінуць ды йсьці, аж пачула ў сярэдзіне нейкі рух ды дадумалася пастукаць нагою ў дзьверы. Пачула жаночы голас: *"Адчыніце дзьверы — нехта стукае"*, а ў вадказ мужчынскі голас: *"Няхай звоніць, а ня стукае — на тое й званок ёсьць"*. Я пастукала яшчэ мацней. Нарэшце адчыняюцца дзьверы, і нейкі малады мужчына запытаў, чаму я не званю, а стукаю. Я сказала, што не магла дастаць да званка, а на пытаньне, што мне трэба, паказала

673 **Сухарава вежа** — помнік рускай грамадзянскай архітэктуры ў Маскве, пабудаваны ў 1695 г. на перакрыжаванні Садовага кальца, Срэценкі і 1-й Мяшчанскай вуліцы. Была разбураная ў 1934 г.

“павестку” й пачала гаварыць, што мы нічога не рабілі й ні ў чым не вінаватыя — чаму нас клічуць у суд.

Мусіць, я мела вельмі перапалоханы выгляд, бо ён пачаў заспакойваць, што ніхто нас у суд ня кліча, і мы дарма перапалохаліся, ды запрапанаваў зайсьці ў сярэдзіну — усё вытлумачыць. Я сказала, што сястра загадала нікуды не заходзіць і нікому нічога не гаварыць.

*“Як-жа я табе, дзяўчынка, раскажу, чаму вам выслалі павестку, калі ты ня хочаш зайсьці?”* — сказаў мужчына. У гэты момант падыйшла нейкая жанчына й пачала ўгаворваць, каб я не баялася зайсьці. Можа, угаворы жанчыны падзейнічалі, а можа, пачуўшы родную мову, набралася адвагі й зайшла. Там было 18 асобаў жанчын і мужчын. Яны зацікавіліся мной і пачалі шаптацца міжсобку, а я ўсё аглядалася на дзьверы, каб ведаць, куды ўцякаць. Адна з прысутных дзяўчат гукнула: *“Дзядзька Купала, ідзеце паглядзіце, якую маем сьпявачку”*. На гэты воклік зь нейкай баковачкі выйшаў мужчына й, падышоўшы да мяне, усьміхнуўся ды кажа: *“Вось добра, што ты прыйшла!”* Я сказала: *“Здравствуйце”* і зрабіла рэвэранс (у гімназіі на гэта зьвярталі вялікую ўвагу). Мужчына, што адчыніў дзьверы, са злосьцю гукнуў: *“Кажы добры дзень, а ня дрысьце, няхай маскаль др..ць!”* Іншая дзяўчына зрабіла яму заўвагу, што ён ужывае брыдкія словы: *“Ты, Васілёчак, канфузіш яе, гэта-ж яшчэ дзіця!”* А ён у сваю абарону: “*Не Васілёчак, а Базылёчак — няхай гаворыць панашаму!”* Я ня знала, як гэта па-нашаму, а той дзядзька мне вельмі не спадабаўся, і голас ягоны я запомніла на ўсё жыцьцё.

Купала зусім іначай абыйшоўся са мною: перапытаў, як зваць, адкуль, што робіць тата, мама, я ўсё расказала, а ён слухаў уважна, а як пачала гаварыць, што мама памерла, дык расплакалася. Ён пачаў мяне суцяшаць, пасадзіў на калені, а потым пачаў пытаць, як я гаварыла дома з татам і мамай. Я ня ведала, што сказаць. Ён, мусіць, пабачыў, што я не разумею, чаго ён хоча, ды запытаў: *“Як у вас гавораць, калі прыходзяць у хату?” — “Добры вечар”. — “Ну а ўдзень як кажуць?” — “Удзень у нас усе працуюць на полі, дык у хату ня ходзяць”.*

Тут выбух сьмеху. Я ня знала, чаму ўсе сьмяюцца, і запытала, што я кепскага сказала, што ўсе сьмяюцца? Купала адказаў, што я добра сказала, бо, запраўды, у нас удзень усе працуюць, і пачаў пытаць, як я гаварыла з мамай, ці так, як людзі гавораць у Маскве, ці так, як ён

гаворыць. На мой адказ *“так, як вы гаворыце”*, сказаў: *“Ну то й добра, цяпер будзем гаварыць так, як гаварылі з мамамі”*. У знак згоды я кіўнула галавою, а Купала пачаў тлумачыць мне, чаму выслалі “павестку”. Хочучы арганізаваць хор, пачалі зьбіраць сьпевакоў, і нехта падаў нашае прозьвішча і адрас, таму й выслалі павестку; сказаў, каб абавязкова прыйшла ў сераду на 5-ю гадзіну з сястрою і каб не баялася гаварыць так, як гаварыла з мамаю.

Выйшаўшы й пабачыўшы на Сухаравай вежы гадзіньнік, я пайшла дамоў, бо ў школу ўжо было позна. Пазнаёміўшыся з маімі прыгодамі, сястра са сваёю сяброўкаю (таксама беларускаю з Драгічына) пастанавілі хадзіць на сьпеўкі, калі будуць пачынаць а гадзіне 6-й, бо да 5-й працавалі. У назначаны дзень, ідучы са школы, я зайшла на сьпеўкі і сказала, што сястра і яшчэ адна дзяўчына будуць хадзіць на сьпеўкі, але калі толькі будуць пачынацца а 6-й гадзіне, бо да 5-й мусяць працаваць. Усе вельмі ахвотна згадзіліся, асабліва пасьля, як я сказала, што сястра кіравала школьным хорам, а я таксама ўмею сьпяваць і знаю ноты, бо ў Янавічах вучылі. На гэтай першай сьпеўцы навучыліся сьпяваць дзьве песьні: *“Чаму-ж мне ня пець”*[674], а другую ня помню — нешта пра Данілу.

На наступную сьпеўку мы прышлі ўтрох. Якое-ж было расчараваньне, калі прачыталі запіску, прымацаваную на дзьверах, што сьпеўка не адбудзецца, а калі ізноў сабрацца — будзе паведамлена. Ніякага паведамленьня мы не атрымалі, але праз нейкі час, калі я сустрэла адну харыстку на вуліцы, яна сказала, што Купала недзе мусіў пераехаць, а ён быў галоўным ініцыятарам-арганізатарам гэтага хору, дык усё і затрымалася зь ягоным ад’ездам.

Ня знала я тады нічога пра Купалу й нічога ня чула пра яго, а сустрэча зь ім засталася ў памяці як прыемны момант майго жыцьця. Купала быў вельмі лагодны, уважлівы й вельмі цікавіўся ўсім. Доўга распытваў пра ўсё, а як я гаварыла, то вельмі ўважліва слухаў. Мне было прыемна, што ён гаварыў са мною, як з дарослаю. Даўжэйшы час пасьля гэтай сустрэчы мы толькі й гаварылі пра яго.

Купала не дамагаўся, не прасіў, а навет і не падгаворваў — сваім лагодным, дабрадушным падыходам да чалавека змушаў яго слухаць, пагоджвацца зь ім. Доўга гучэлі яго словы ў маёй памяці: *“Ну, то будзем гаварыць так, як гаварылі з мамамі”*. Праз гадоў дзесяць судзіў мне лёс сустрэцца зь ім ізноў — у іншым месцы і пры іншых абставінах.

---

674 ***“Чаму-ж мне ня пець”*** — беларуская народная песня.

На Смаленскім вакзале разьвіталася зь сястрою і еду дамоў. Цягнік імчыць. Стаю і гляджу ў вакно, а думак поўная галава, і ўсе круцяцца каля дому. Апошні прыпынак. Выходжу з вагону. Нейкі чалавек падыходзіць і пытае, куды мне трэба; вырашылі дабірацца разам — будзе таньней. Праехаўшы кілёмэтраў 5–7, пабачыла акопы, бліндажы, калючым дротам укрэйзаныя абшары палёў, а хатаў няма, людзей таксама ня відно нідзе. Тут толькі першы раз мільганула думка: *“А што, як і дома гэткая пустэча”*. Усю дарогу далей перад вачыма стаяла гэтае спусташэньне. Прыехалі. Мой спадарожнік разьвітаўся і пайшоў, а я ня ведаю, што рабіць — ехаць назад ці заставацца. Цяжка было ўспрыняць халодным розумам усё пабачанае: хата безь дзьвярэй, вокны, пазабіваныя дошкамі, сьвірна, хлявоў няма.

Асабліва ўразіла мяне адсутнасьць склепу, зь якім былі зьвязаныя прыемныя ўспаміны зь дзіцячых гадоў. Сабраліся суседзі, ад іх даведалася, што тата й дзядзька вывезеныя ў Горадзенскую губ. Тры кілёмэтры ад нас жыў яшчэ адзін татаў брат. Даведаўшыся, што ён ня вывезены, вырашыла ісьці да яго. Дзядзька сказаў, што ўжо надумаўся быў ехаць шукаць бацьку, бо адзін чалавек яму сказаў, што ён павінен быць у Сакольніцы або недзе блізка: *“Цяпер, як ты прыехала, то зараз-жа пасьля Каляд паедзем, а на сьвята мусім быць дома”*.

Дні тры перад Калядамі ўскочыла ў хату суседка й сказала, што група людзей вярнулася з Горадзенскай губ. і паміж імі тата зь дзецьмі. Паехалі забралі іх і Сьвята правялі ў дзядзькі. Пасьля Новага Году ўзяліся прыводзіць хату ў такі стан, каб можна было ў ёй жыць. Уставілі дзьверы, найгорай было з вокнамі: ня можна было дастаць шкла, але й гэтую перашкоду паканалі. Як запалілі ў печы, дык тата і кажа: *“Дзякуй Богу нябеснаму й тым, што не разьвярнулі печы”*, а потым залез на печ і пытае: *“Дзеці! Няўжо-ж гэта я на сваёй печы?”*

Многа гора й недаяданьня працярпелі мы тады. Голад, сьмерць на кожным кроку. Людзі падалі, як мухі. Страх было сустрэцца з чалавекам: гаворыць з табой і тут-жа можа ўпасьці мёртвым. Такая барацьба з голадам цягнулася покуль не дачакаліся хлеба са свайго поля. Пры такой сытуацыі ня магло быць і гутаркі аб прадаўжэньні навукі.

Тут мушу сказаць пару словаў, чаму людзі вёскі сядзелі ў сваіх хатах, а майго бацьку й братоў выселілі. Перад першай сусьветнай вайной эканамічны стан сялянаў быў цяжкі, ня было дзе зарабіць, хоць на найменшую патрэбу ў гаспадарцы. Царскі ўрад заахвочваў пераяжджаць у менш заселеныя губэрніі і даваў усялякія дапамогі

й грашовыя пазычкі на льготных умовах. Вось-жа шмат хто, шукаючы лепшага жыцьця, пераяжджалі ў іншыя мясцовасьці. Тры сям'і, што жылі каля нас, ліквідавалі свае гаспадаркі й пераехалі ў Сібір. Мой дзед з татам купілі іхныя пляцы. Гаспадаркі гэтыя былі ня вельмі бедныя, і пляцы іхнія вялікаватыя, дык атрымаўся досыць ладны кавалак зямлі паміж нашай сядзібай і вёскай. Калі фронт пасунуўся, й нямецкае войска заняло гэтую масцовасьць, то ім спадабалася, што вясковыя будынкі аддаленыя, і ў нашай сядзібе разьмясьціўся штаб. Бацьку й дзядзькоў выселілі і адправілі ў Горадзенскую губэрню.

Нарэшце, зь вялікімі цяжкасьцямі, у 1921 г. паехала ў Наваградак і паступіла ў 7-ю клясу гімназіі. Скончыла гімназію ў 1923 г. і атрымала матуру з “дадаткам”. Усе матурыстыя праклінаЛі гэты дадатак. Гэта была пасьветка ад Віленскага куратара, у якой сьцьвярджалася прызнаньне матуры раўнапраўнай з матурамі дарэвалюцыйнымі, але не давала права вучыцца ў вышэйшых навучальных установах на *“Обшажэ Жэчы Посполітэй Польскі”*[675]. Дык уласьціва гэты “дадатак” і спрычыніўся да шуканьня магчымасьці прадаўжаць навуку за межамі бацькаўшчыны.

Даведаліся мы, што ў Празе чэскай даюць студэнтам дапамогу, і нашыя беларусы там ёсьць. Напісала я аднаму знаёмаму й папрасіла вестак пра мажлівасьці навукі ў Празе. Хутка атрымала адказ і поўны маршрут, як ехаць нелегальна (бо ён так ехаў), *“а тут аб усім даведаешся”*. Параіў абавязкова паехаць у Вільню й папрасіць А. Луцкевіча, каб напісаў пару слоў да Вяршыніна. Паехала ў Вільню. А. Луцкевіч даў мне пісьмо й кажа: *“Перадай Вяршыніну — гэта наш консул у Празе”*. Памаўчаў крыху, глянуў на мяне, усьміхнуўся й гаворыць: *“Я ўжо некалькі лістоў даў хлапцом і дзяўчатам, але ты першая дзяўчына, што едзеш нелегальна. Ты йдзеш у сьвет, ідзеш па сьлядох Скарыны. Здабывай навуку, беражы наш скарб — мову, а як скончыш, дай нашаму народу колькі будзеш мець сілы. Дай Божа табе посьпеху”*. Калі даведаўся, што я маю замер чакаць усю ноч цягніка на станцыі, папрасіў а. Аляксандра Каўша[676], каб узяў

[675] ***Obszary Rzeczypospolitej Polskiej*** (пол.) — абшары, тэрыторыя Польскай Рэспублікі.

[676] **Аляксандр Коўш** (1890–1943), грамадска-палітычны і рэлігійны дзеяч, праваслаўны святар, адзін з лідараў БСРГ і бухгалтар Беларускага

мяне да сябе пераначаваць. *"Ты падумай толькі: яна хоча ехаць нелегальна да Прагі вучыцца, я даў да Вяршыніна ліст"*. А. Аляксандр вельмі ахвотна запрапанаваў начлег, тым больш, што яны жывуць блізка станцыі. Пайшлі. Я пераспала, а рана выехала дамоў.

Прыехаўшы, я завядоміла майго сябру й парадзіла яму таксама паехаць да Луцкевіча і папрасіць рэкамэндацыю, што ён і зрабіў. Умовіліся сустрэцца ў Лідзе на станцыі пры цягніку, што йдзе ў патрэбны нам кірунак. Ва ўмоўлены дзень і час я там была, але майго сябры ня было. Вырашыла чакаць наступнага цягніка, але й з наступным яго ня было, і я паехала адна. На патрэбнай мне станцыі вышла й накіравалася шукаць чалавека, што перапраўляў праз граніцу ды як раз і трапіла куды трэба. Сустрэў мяне гуцул гадоў 50 і сказаў: *"Я — Марцін, я знаў, што вы прыедзеце, бо тут ужо тры хлапцы, што хочуць пераходзіць граніцу, і яны казалі, што прыйдзе дзяўчына. Я вас усіх павяду ноччу"*. Паказаў мне ісьці ў хату, а сам недзе пайшоў. Праз некалькі часінаў вярнуўся й сказаў, што адзін хлопец хоча, каб я зь імі шла, а два зь яго сьмяюцца, што трэба будзе ня толькі яе клунак цягнуць, але й самую. Увесь мой клунак важыў ня больш, як тры-чатыры фунты, а зьбіраючыся ў такую дарогу, ніяк не разьлічвала на чыюсь дапамогу, і таму вельмі было прыкра чуць такія гутаркі. Па некаторай надуме запытала яго, ці можа мяне адну перавесьці. Сказаў, што можа, але мушу плаціць адна тое, што ўсе разам, і што пойдзе са мною толькі на наступную ноч, бо хлопцы прыйшлі першыя. Ноччу перад адыходам загадаў мне ня выходзіць з хаты й нікому не адчыняць. Чакала я, пакуль вернецца, і не магла заснуць. Вярнуўся, калі ўжо было відна, і сказаў: *"Хіцілі"*. Я вельмі перанялася гэтым, а ён зайшоў за перагародку, і хутка пачуўся храп з просьвістам на ўсю хату. Ён амаль увесь праспаў, а я і на міг не заснула: усё стаялі перад вачамі хлопцы, ужо й злосьць на іх прайшла. Пад вечар прачнуўся й сказаў зьбірацца, а сам недзе пайшоў і доўга ня было, а як вярнуўся, то гукнуў *"ідэмо"* і каля дзьвярэй чакаў, покі я ўзяла пальто. Прышлі ў лес. Цёмна, страх мяне апанаваў такі, што я ўжо хацела вярнуцца, але ён пачаў угаворваць, што *"ўсэ будэ горазд"*. Яму і ў голаў не прыйшло, што я яго баюся ня менш, як таго, што могуць злавіць. Ішлі досыць доўга, паміж кустоў, на балоце — я ледзь патрапляла за ім. Нарэшце

каапэратыўнага банка. У 1920-я гг. служыў у царкве Святой Параскевы Пятніцы ў Вільні.

прыглушаным голасам сказаў асьцярожна ступаць, каб пад нагамі не трашчала, бо тут ужо блізка граніца. Селі каля куста й сядзелі ціха некалькі хвілін. Крануў мяне за руку й паказаў на чалавечую постаць, што набліжалася ў наш бок. Гэта быў пагранічны патруль. Як толькі салдат прайшоў міма нас і вярнуўся назад, Марцін паказаў рукой пераходзіць дарогу (гэта была граніца). Я мігам перабегла дарогу й села пад кустом. Перад гэтым Марцін расказаў мне дакладна, як ісьці далей, дзе перачакаць, у які бок накіроўвацца і якою мяжою ісьці. Самае галоўнае было перайсьці канаву па чыгуначных шпалах, праз якую пераходу ня было, а толькі цягнікі хадзілі. Менш як чвэрць кілёмэтра стаяла хатка пагранічнікаў, і ў бок гэтага чыгуначнага мосьціка выходзіла вакно, празь якое яны пільнавалі. Праз гэтае-ж вакно яны й хлапцоў пабачылі ды злавілі. Прайшоўшы гэты мосьцік, адразу трэба было ўваліцца ў канаву й прайсьці ў кусты, а тады паміж кустоў адыйсьці далей і пачакаць, пакуль ён дасьць сыгнал — калі махне белаю хусьцінкай тры разы, то йдзе, а калі два — то чакаць пад кустом. Мажліва, з нэрвовага напружаньня й страху згубіла тое мейсца, дзе пераходзіла мосьцік і адкуль меўся быць сыгнал; гляджу, шукаю, а яго няма, і ня ведаю, што рабіць. Павярнулася ў другі бок і бачу — махае некалькі разоў па тры. Трэба ісьці, а слабасьць апанавала такая, што не магу перастаўляць ног. Мушу прабірацца далей ад пагранічнікаў. Ужо зусім разьвіднела. Людзі едуць працаваць на поле. Сабралася з сіламі й пайшла, заглядаючы ў паперку, дзе запісана, куды накіроўвацца. Нарэшце пабачыла шырокую мяжу, а на ёй статуя Маткі Божай. Так узрадавалася, бо тут ужо блізка станцыя, толькі перайсьці малую горку. Вырашыла трохі адпачыць.

На станцыі сказалі, якім цягнікам ехаць да Прагі і дзе рабіць перасядку, але білета ня далі за польскія грошы, то мусіла ісьці ў горад, каб вымяняць грошы на чэскія кароны. Усё зрабіла й чакаю цягніка, што мае быць каля 5-й гадзіны папаўдні. Як толькі цягнік рушыў, увайшоў кандуктар, праверыў білет і сказаў перасесьці ў Багуміле[677]. У Багуміле мела клопат зь білетам. Баючыся, што могуць злавіць на граніцы й перакінуць назад у Польшчу, ня выменяла ўсіх грошай, а толькі частку, за якія далі мне білет толькі да

[677] Маецца на ўвазе **Багумін** (чэш. *Bohumín*) — горад на паўночным усходзе Чэхіі, у Мараўскасілезскім краі, недалёка ад мяжы з Польшчай, важная чыгуначная станцыя.

Багуміля. У Багуміле грошай ноччу вымяняць не магла. Парадзілі заплаціць у цягніку кандуктару. Заняла мейсца і еду ўжо аж да Прагі. Праз некалькі хвілін адчыняюцца дзьверы і гукае: *"Білеты!"* Каб мела білет або чэскія кароны, усё было-б у парадку. Польскіх грошаў не захацеў браць, сказаў, каб у Празе на станцыі выменела і яму заплаціла. Я абяцала гэта зрабіць, і ён рушыў ісьці, а потым затрымаўся й пытае візу. Зрабілася мне горача і аж у вачох пацямнела. Стараюся не паказваць свайго хваляваньня, дастаю ліст Луцкевіча й даю. Ён чытаў, пераглядаў, а потым кажа: *"Я ніколі ня бачыў такой візы, можа, я не магу добра прачытаць па-руску"*. Я сказала, што гэта па-беларуску напісана. Ён пачаў расказваць, што ў часе вайны быў у палоне ў русаў, і што людзі вельмі добрыя, і яму жылося добра, і пайшоў, а я засталася са сваёю *"візаю"* й ня верыла, што так усё скончылася. Каля 8-й гадзіны раніцай прыехалі ў Прагу. Кандуктар не забыўся на мяне, завёў у банк, я выменела грошы й заплаціла яму зь ліхвою.

Вышла са станцыі й думаю: *"Няўжо я ўжо ў Празе, няўжо не злавілі, няўжо ніхто нічога ня будзе ўжо пытаць!?"* Аднак яшчэ ня ўсё кончана. Трэба шукаць сп. Вяршыніна. Зь меркаваньняў эканамічных вырашыла дабірацца да Студэнцкага Дому пешкі. Пайшла. Баючыся сустрэцца з паліцыяй, пыталася ў людзей і дабралася да Студэнцкага Дому па дванаццатай. Села на лаўцы, каб трохі адпачыць і надумацца, што рабіць далей. Студэнты групамі і ў адзіночку мітусяцца туды-сюды. Ідзе адзін чалавек, галаву апусьціўшы, нешта задумаўся. Чамусьці была ўпэўненая, што нейкі зямляк. Устала з лаўкі і пытаю, ці ня знае каго з беларусаў або якую беларускую арганізацыю. Усьміхнуўся, а потым: *"І трэба-ж якраз трапіць, я беларус"*. Сказаў сваё прозьвішча ды пытае, ці гэта мяне хлопцы пакінулі на граніцы. *"А хто вам сказаў?"* — *"О, сягоньня толькі й гутаркі ў Студэнцкім Доме пра гэта. Сп. Вяршынін як даведаўся пра іхнае захаваньне, сказаў, што ня будзе ім даставаць стыпэндыі"*. Хлапец завёў мяне ў Студэнцкі Дом. Тут зьбегліся студэнты й пачалі распытваць, як і што. Парадзілі йсьці да сп. Вяршыніна — ён жыў хвілін 5 або 7 хады ад Студэнцкага Дому. Адзін сказаў, што йдзе ў той бок і завядзе мяне. Пайшлі.

Вяршынін, старэйшы чалавек гадоў 65, эміграваў з Расеі як сацыяліст пасьля няўдалае рэвалюцыі 1905 г., быў ува многіх краінах Эўропы покі не асеў у Чэхіі. Паходзіў з Панямоньня. Ён даставаў

стыпэндыі для студэнтаў і дапамогу для нашага экзыльнага ўраду: Крэчэўскаму, Захарку, Цьвікевічу, Пракулевічу, Зайцу, Грыбу, Бадуновай[678] і іншым. Я дала яму ліст ад сп. Луцкевіча. Прачытаўшы ліст, папрасіў студэнта, каб схадзіў у Студэнцкі Дом і прывёў адну студэнтку, а мне кажа: *"Яна заўсёды вас да манашак начаваць, там затрымаецеся, колькі можна, а як атрымаеце стыпэндыю, то ім заплаціце"*. На маё запытаньне, ці я магу быць упэўнена, што атрымаю, кіўнуў галавою, а потым сказаў, што будзе старацца.

Справа са стыпэндыяй цягнулася амаль шэсьць тыдняў. Прышлося перажыць многа клопатаў, але неяк уладзілася. Пачала хадзіць на лекцыі, і ўнармавалася студэнцкае жыцьцё.

Аднойчы завядомілі студэнтаў, што адбудзецца сход і просяць усіх зьявіцца, бо вельмі важная справа — прыедуць госьці з бацькаўшчыны: Янка Купала і іншыя пісьменьнікі. Усе вельмі ўсьцешыліся, пачалі даваць розныя прапановы, каб якнайлепей сустрэць дарагіх гасьцей. Матарыяльны стан студэнтаў быў вельмі цяжкі, за выняткам пару асобаў, якім памагалі бацькі з дому, таму ня было й мовы аб тым, каб зрабіць хоць-які небудзь пачастунак.

Вырашылі сустрэць іх песьняй "Ад веку мы спалі"[679] і тут-жа пачалі практыкавацца сьпяваць. Аднойчы посьле лекцыяў прыходжу ў Студэнцкі Дом і бачу: нашыя дзяўчаты й хлопцы ажыўлена гавораць каля дошкі, на якой вывешваюць абвесткі. Адразу мігнула думка: *"Прыехалі"*. Я туды. Кожны хацеў прачытаць сам, каб пераканацца ў праўдзівасьці абвесткі: *"Павінны сабрацца ў залі, дзе адбываюцца нашыя зборкі, на 6-ю гадзіну"*. Так усе перажывалі гэтую падзею, што калі мы зь сяброўкай прыйшлі перад 5-й гадзінай, то там ужо была амаль уся студэнцкая грамада, і ўсе нэрвова паглядалі на дзьверы. Хутка пасьля 6-й студэнт, якому даверылі пільнаваць каля ўваходу, гукнуў *"Ідуць!"*. Усе ўсхапіліся і стаялі, каб з пашанай сустрэць дарагіх гасьцей. Адзін студэнт падбег і адчыніў шырэй дзьверы, і праз момант паказалася постаць нявысокага, досыць поўнага чалавека ў бранзовым убраньні ў акулярах, а за ім ішоў бляндын... і я адразу пазнала

---

678 **Палута Бадунова** (1885–1938), грамадска-палітычная дзяячка. У 1918–1925 гг. сябра БПС-Р. У 1923–1925 гг. жыла ў Празе.

679 **"Адвеку мы спалі"** — песня на словы Аляксандра Мікульчыка (раней лічылася, што словы народныя), напісаная ў 1905 г. Яе называлі "Беларускай марсельезай" і на пачатку 1920-х гг. яна выкарыстоўвалася як гімн беларускага нацыянальнага руху.

таго самага Купалу, што сустракала ў Маскве. За Купалам ішлі іншыя. Як толькі Купала пераступіў парог, грымнула “Ад веку мы спалі”. Ён, як відаць, не спадзяваўся гэтага — адразу пачаў сьпяваць з намі, а потым сьціх, і як мы кончылі першую зваротку, гукнуў: *“Як маецеся?”* А мы й стаялі з адкрытымі ратамі, каб сьпяваць наступную. Усе заўважылі, што ён не хацеў, каб сьпявалі далей.

Пачакаўшы, пакуль яны занялі свае мейсцы, мы паселі. Адзін студэнт прывітаў гасьцей ад нас і пажадаў ім добра правесьці час і пазнаёміцца з горадам. Потым гаварыў Купала. Усе мы зь вялікім напружаньнем слухалі, бо спадзяваліся, што ён нешта надзвычайнае скажа, нешта патрыятычнае. А ён сказаў, што прыехалі ў Карлсбад лячыцца й вырашылі адведаць нас. Яшчэ сказаў, што навуку ён атрымаў “самапасам”; расказаў, што хворы на печань, а на заўвагу аднаго студэнта, што ў гэтым выпадку ня можна піць, адказаў: *“Ці ж вы ня ведаеце, што клін трэба выганяць клінам?”* Хлапцы адказалі дружным сьмехам, аднак усе адчулі нейкую стрыманасьць, недагаворанасьць, насьцярожанасьць. Наступны гаварыў Міхась Чарот, малады хударлявы хлапец — ён прачытаў нам сваю паэму “Босыя на вогнішчы”. Купаліха[680] на сустрэчы ня была, толькі мужчыны: Купала, Зарэцкі[681], Чарот і Цішка Гартны.

Пасьля гэтай сустрэчы хлопцы пару разоў хадзілі да іх у гатэль, каб пагаварыць, але госьці ўсё альбо ня мелі часу, альбо кудысь ішлі, альбо проста ў гатэлі гаварылі, што іх няма дома — дык хлопцы потым перасталі й хадзіць. Нехта са студэнтаў запытаў, калі сустрэліся прыпадкава, дзе яны ўсё ходзяць? Чарот адказаў: *“Ходзім ізучаць нізы”*. Доступ да іх меў толькі адзін студэнт, што першы даведаўся пра іхны прыезд. Гэты студэнт паходзіў зь Любчы ў Наваградчыне. Тут у Амэрыцы я даведалася, што па сканчэньні студыяў ён паехаў у Менск, там быў арыштаваны й па дарозе ў ссылку расстраляны на нейкай станцыі. Пакойны сп. С-к ехаў зь ім у тым самым вагоне і мне гэта расказваў.

Два дні пасьля сустрэчы перадалі мне, што сп. Вяршынін мае да мяне справу й просіць, каб зайшла да яго. Пайшла, а там сядзіць Купала й нейкая жанчына. Пазнаёміліся. Я запытала Купалу, ці помніць

[680] Маецца на ўвазе **Уладзіслава Францаўна Луцэвіч** (1891–1960), педагог, літаратуразнаўца, жонка Янкі Купалы.

[681] **Міхась Зарэцкі** (сапр. **Касянкоў**, 1901–1937), празаік, драматург, перакладчык, крытык.

ён дзяўчыну, што ў Маскве прыходзіла на сьпеўку. Падумаў трохі, усьміхнуўся ды кажа: *"Помню, так, помню! Мне вельмі спадабалася, як на маё запытаньне, што кажуць, як уваходзяць у хату ўдзень — адказала, што ўдзень ніхто ня ходзіць па хатах, бо ўсе працуюць"*. Запытаў, ці ня ведаю я тую дзяўчыну, памаўчаў мамэнт, а потым павярнуў галаву ў мой бок і з усьмешкаю сказаў: *"А ці ня ты гэта часам была?" "Так, так, дзядзька Купала, гэта была я!"*, і мы шчыра прывіталіся. "*Чаго-ж ты плачаш? Тады ў Маскве плакала й цяпер плачаш". "Тады я плакала, бо пра маму гаварыла, а цяпер з радасьці, што йзноў з Вамі сустрэлася"*. Вось дзе давялося спаткацца ізноў, праз гадоў 9 ці 10, за тысячу кілямэтраў, зноў у чужой краіне. Тут сп. Вяршынін расказаў, як прыехала нелегальна і як мяне хлопцы пакінулі на граніцы, але тут ужо, кажа, прайшло. *"Цяпер ты дапамажы Купалісе — вы пагаварэце, а мы пойдзем пакурыць"*.

Купаліха цікавілася апекай і выхаваньнем анармальных дзяцей і хацела паглядзець якую-небудзь установу, школу або прытулак для анармальных. Сп. Вяршынін, ведаючы, што я ў парадку лекцыяў наведвала такія ўстановы, парадзіў ёй мяне. Я ахвотна згадзілася, бо прыемна было быць яе спадарожніцай. Былі якраз летнія вакацыі — на лекцыі хадзіць ня трэба было, дык і калясілі па Празе і яе ваколіцах.

Першы дзень быў вельмі афіцыйны, але потым устанавіліся прыемныя, цёплыя, сардэчныя адносіны. А пераход ад афіцыйнасьці да сардэчнасьці паўстаў пасьля таго, як адзін чалавек на вуліцы зьвярнуўся да яе з запытаньнем: як папасьці на Вацлаўскае намесьце[682]? Яна страшэнна занепакоілася і хацела вярнуцца дамоў, бо была перакананая, што гэта *"сэксот"*[683]. Я ня ведала, што гэта *"сэксот"*, дык яна мне вытлумачыла. Колькі я ні ўгаварвала яе, нічога не памагае, а нарэшце: *"Чаму, кажа, ён зьвярнуўся да мяне, а не да цябе?" "Таму што вы старэйшая й былі бліжэй да яго"*. Трохі паспакайнела, а потым гаворыць: "*Мы ўжо адвыклі ад такога жыцьця"*. Пачала расказваць, як хлапцы (пісьменьнікі) пасьля сустрэчы са студэнтамі з абурэньнем расказвалі, як студэнты ім задавалі такія пытаньні, што ня можна было адказаць. Купала ўспрыняў гэта за нармальную зьяву ў суадносінах студэнтаў са старэйшымі, але маладыя хлопцы лічылі гэта за правакацыю, асабліва

682 ***Václavské náměstí*** (чэш.) — **Вацлаўская плошча**, адна з найвялікшых плошчаў у свеце, цэнтр Новага Месца ў Празе.

683 ***Сексот*** (ад рус. *секретный сотрудник*) — таемны супрацоўнік сакрэтных службаў, які здабываў неабходную інфармацыю і інш.

іхні *“ахраньнік”*. На маё запытаньне, хто *“ахраняе”* і ад чаго, адказала: *“Ад вас, а хто — самі ведаеце”. “Гэта, мусіць, той, што ў акулярах?”* — толькі апусьціла галаву, а потым дадала, што ён пісьменьнік. *“Як яго прозьвішча?” — “Я нічыйго прозьвішча ня ведаю”*. Пасьля такога адказу я нічога больш не пытала.

Аднаго разу, ідучы з прытулку для анармальных, зайшлі ў магазын з гатовай вопраткай. Яна купіла сабе дзьве добрыя блюзкі ды выказала жаданьне яшчэ што-небудзь купіць, але баялася, каб хто не пабачыў, бо была моцна перакананая, што за ёю сочаць. Я парадзіла выбраць патрэбныя рэчы, а я буду плаціць і вазьму пакунак. Яна-ж вырашыла, што лепей, каб я прышла адна празь дзень-два і ўзяла ды нікому не казала. Разьвіталіся каля ейнага гатэлю. А я, каб не зрабіць памылкі, завярнулася ды пайшла ў магазын, набрала выбраных рэчаў на ўсе грошы, што яна мне дала, і на другі дзень рана занесла ёй. Яна пачала распытваць мяне, ці хто бачыў, як я брала, ды што я сказала прадаўчыні і г. д. Бачучы, што яна вельмі перажывае, я яе супакоіла, што ў краме сказала, што гэта мая цётка, што жыве на Падкарпацьці й карыстаецца дома толькі ўкраінскай моваю, а таму ня ўмее гаварыць па-чэску. Яна была вельмі задаволена й сказала: *“Ну то й называй мяне цёткай”*. Ад гэтага часу я пачала называць яе цёткаю.

*“Трэба-ж пахваліцца, што мы прыдбалі”* — з гэтымі словамі яна накіравалася ў бок Купалы, а я за ёю. *“Добры дзень, дзядзька Купала!”* Ён усьміхнуўся, а потым кажа: *“Цяпер-жа ніхто ня ходзіць па хатах, бо ўсе працуюць на полі”. “Дзядзька не забыўся гэтага, а мне сорам, што я так тады сказала”. “Не, не забыўся — я кажа з паўгода ўсё расказваў пра гэты выпадак знаёмым”*. Агледзеўшы пакупкі, сказаў, каб купіла яшчэ што трэба: «*Ідзі, ідзі, ня бойся, ніхто за табой ня ходзіць, толькі пастарайся, каб з гэтым “шэршнем” ня сустрэлася*». Я зразумела, пра якога *“шэршня”* яны гавораць, але зрабіла выгляд, што ня чула. Гэты дзень мы хадзілі па магазынах, а потым сп-ні Купалісе захацелася пабыць у чэскім кіно.

На наступны дзень цётка Купаліха запрапанавала выехаць за горад і правесьці дзень на сьвежым паветры. Купала сказаў, што хіба заўтра, бо ён сягоньня ня можа. Я параіла паехаць і агледзіць сьляпінец (прытулак для сьляпых), гэта за горадам у вельмі прыгожай мясцовасьці. Яна ахвотна згадзілася са мною, і мы паехалі. Ехалі аўтобусам да апошняга прыпынку, а потым ішлі яшчэ трохі.

Быў гэта вялічэзны будынак на ўзгорку, а за ім лес. Каля будынку сям-там невялікія кусьцікі, і ўсё пакрыта зялёнай травой. Калі мы пасьля візыту выйшлі, то цётка Купаліха прасьлязілася: *“Вот дзе гіронія лёсу — жыць у такой прыгожай мясцовасьці й нічога ня бачыць. Якія яны нешчасьлівыя! Добра, што ўрад імі апякуецца. Усе чысьценькія, добра накормленыя, а ў нас...”* Так перанялася ўсім пабачаным, што не магла гаварыць. Я запрапанавала сесьці на траву. Села яна, а празь хвілю села я — поруч зь ёю. *“Не, не, сядзь лепш процiў мяне — ты будзеш бачыць за мною, а я за табою, каб нас ніхто не падслухаў”*. Нейкі мамэнт сядзелі моўчкі, а потым яна сказала, што ня хоча больш нікуды ісьці і глядзець, як людзі турбуюцца аб сваіх няшчасных дзецях: *“Усёроўна я не дапамагу нічым, толькі буду перажываць, што ў нас ня так, як дзесь. У нас вельмі многа дзетак бяздомных, бяздольных. Вывезеных бацькоў дзеткі паасталіся, ня маючы ніякай апекі — страшэнна бядуюць, ядуць што папала”*. Гаварыла, што Купалаву радню павывозілі, а некаторыя дзеці засталіся ў іх. Відаць, ёй хацелася выгаварыцца, выліць трохі сваёй бяды-гора, а я, баючыся, каб ня сьціхла, моўчкі слухала, і ня толькі пытаньнем, але рухам не хацела яе спудзіць. Расказвала пра недахопы прадуктаў, пра арышты, вывазы людзей са сваіх хатаў, пра ўпадак маралі й людзей, пра Коласа, як яго амаль кожную ноч трусілі пэўнага часу, і ён нічога не пісаў, акрамя “Чытанак для беларускіх дзетак”. Наракала на маладых пісьменьнікаў, што не шанавалі старэйшых, а ўсё стараліся зрабіць ім прыкрасьць, каб дагадзіць уладам. Потым расплакалася і празь сьлёзы гаварыла, як ім цяжка жыць увесь час пад страхам, асабліва як надыходзіць ноч, бо прыходзяць, трусяць, арыштоўваюць, вывозяць ноччу. На маю прапанову застацца ў Чэхіі сказала: *“Не, мой Яначка ня згодзіцца”*.

На наступны дзень паехалі за горад. Купала захацеў пабачыць поле, пабыць далей ад людзей. Як пабачылі дарогі, абсаджаныя сьлівамі, дык пачаў распытваць, хто садзіў, а хто зьбірае плён. Я сказала, што няўпэўненая, хто садзіў, але зьбірае кожны каля свайго поля, дык, думаю, што й гаспадары кожны перад сваім полем. Падумаўшы мамэнт, памахаў галавой і толькі прамовіў: *“Ну і хітрыя людзі, умеюць выкарыстоўваць усё”*.

Паселі на траве. Купала лёг на сьпіне, падлажыў рукі пад галаву ды кажа: *“Трэба добра ўглядзецца ў неба, ці яно такое, як наша”*. Я сказала, што не такое, бо ў нас жаўронкі сьпяваюць,

а тут я ніколі ня чула жаўронкаў, — згадзіўся са мной. Пачаў распытваць пра студэнтаў, пра жыцьцё ў Чэхіі, пра навуку. Мяне зьдзівіла пытаньне: *"Хто гэты студэнт, што нас вітаў першы?"*. Я расказала, што знала пра таго студэнта; глянуў на жонку, потым кажа: *"Я так і думаў, значыць, і ў вас сярод студэнтаў ёсьць такія, як і ў нас. Ох, людзі, людзі, калі-ж апомніцеся, калі?"* Запытаў мяне, што я думаю рабіць, як скончу. Я сказала, што яшчэ не надумалася. Ён паглядзеў на жонку, а потым на мяне, хацеў нешта сказаць, ды стрымаўся, дык жонка за яго сказала: *"Ня ўздумайце толькі ехаць у Менск"*, а ён паправіў: *"Да нас вас будуць падгаворваць ехаць, сьцеражыцеся, не паддавайцеся ўгаворам"*. Потым пачаў распытваць пра жыцьцё нашых людзей пад Польшчай. Чаму наша моладзь едзе ў чужыя краіны, а ня вучыцца ў Вільні? Распытваў пра Луцкевіча, Ластоўскага і іншых. Я адказвала, што знала. Відаць, гэтыя апавяданьні яго вельмі ўзрушылі. Сьціх і пару хвілінаў маўчаў. Я, каб зрабіць яму прыемнасьць, расказала, як яго "Паўлінка" наведвала вёскі і ўсюды была вітаная, як найлепшая госьця. Зварухнуўся: *"Так? О, значыць, жыве дух беларускі ў народзе!" — "Так, Яначка, жыве, мы памром, а народ беларускі будзе жыць"*, — сказала цётка Купаліха.

Прыемна было паляжаць на зялёненькай мураўцы, але мусілі вяртацца, сонца ўжо ідзе адпачываць. Купаліха пачала йзноў прасіць, каб я хаця каму не сказала пра нашую гутарку. Я старалася запэўніць яе, што стрымаю дадзенае слова. І стрымала. Прайшло ўжо 56 гадоў, а я нікому й слова не сказала аб маіх гутарках з Купалам. Аб іх знала толькі адна асоба — мой пакойны муж[684], які часта прыпамінаў мне пры гутарках з другімі: *"Ты абяцала"*.

У жыцьці чалавека 56 гадоў вялікі адсяг часу, а сустрэча гэтая такая сьвежая ў маёй памяці — як-бы гэта было ўчора.

Купала наш належыў да тыпу людзей, што сваім сьціплым захаваньнем, абыходжаньнем зь людзьмі прыцягваюць да сябе, змушаюць задумоўвацца над іхнімі словамі. Ён не агітаваў, ня крычаў, не падгаворваў і не прасіў, а як магнітам прыцягваў. Ён любіў свой Край, свой народ, сваю мову, звычаі. Тады, у чужым краю, ён балесьне перажываў за свой народ. Гэта ён мне сказаў: *"Наш народ мучаньнік"*.

Трэцяя сустрэча з Купалам адбылася ў 1940 годзе, у Наваградку, у школе. Загадалі, каб усе настаўнікі са сваімі клясамі ішлі ў гім-

---

684 Маецца на ўвазе Аляксандр Орса.

настычную залю, разьмясьцілісь і чакалі гасьцей, а якіх — не сказалі. Адна настаўніца шапнула мне, што прыехаў Купала й Лынькоў[685]. Уладкаваліся й чакаем. А я ўсё думала, як мне зь ім пагаварыць, як адыйсьці? Раптам прыпомніла, што ў Празе ён гаварыў, што ў іх вельмі часта знаёмяцца ўжо знаёмыя людзі — пры сустрэчы пры іншых робяць выгляд, што ніколі не сустракаліся. От-жа вырашыла, што і я гэтак мушу захоўвацца.

Увайшоўшы, яны прывіталіся агульным *"Добры дзень"*. Праз момант Купала пачаў прыглядацца да моладзі, і тут нашы пагляды спаткаліся. Я пабачыла, што ён пазнаў мяне, ды трошкі кіўнула галавою. Усьміхнуўся, але ніякага руху не зрабіў. Праз пару хвілінаў падышоў да аднае групы, падаў руку настаўніку, сказаў нешта вучням і накіраваўся да мяне. Падаў руку, запытаў, ці добра вучацца, а потым прыглушаным голасам сказаў, што хацеў-бы пагаварыць са мной, але ня мае часу. Я сказала, што мы ведаем пра яго хваробу, што ўвесь народ перажывае. Міг падумаў, а потым ткнуў вялікім пальцам сабе ў грудзі ды сказаў: *"Што-б ні сталася, а Купала, тут, застаўся Купалам"*. Падыйшоў да яшчэ аднэй клясы ды разьвіталіся. На гэтым закончылася сустрэча, аб якой дазваляю судзіць вам.

*Натальля Арсеньнева*

## Як я сталася паэтам

(Жменька ўспамінаў)[686]

*Пачын*
*яшчэ ня ўсё, —*
*канцы ўсяму карона.*
Натальля Арсеньнева

Быць паэтам — нялёгка. Бо паэта-ж таму й паэта, што адчувае й бачыць тое, чаго ня ўмеюць заўважыць іншыя. І слых у яго гастрэйшы, і вочы больш відучыя, і думкі — сьміглейшае маюць крыльле. Ды побач з гэтым, паэта — і звычайная людзкая істота. Мусіць есьці, спаць, прыймаць крыўды, шмат крыўдаў, ды й сам,

[685] **Міхась Лынькоў** (1899–1975), пісьменнік, народны пісьменнік БССР.
[686] Бацькаўшчына. № 16 (500). Вялікдзень 1960. С. 4–5.

часам, робіць крыўды іншым. Мусіць узгарацца, гаснуць, расьці, красаваць, дацьвітаць, а нарэшце — памерці. Таму ў вадчуваньнях і перажываньнях кажнага паэты ўсячасна змагаюцца цела й дух. Змагацца-ж ўсё жыцьцё — цяжка…

Я, адылі, яшчэ ніколі ня ўгнулася гэтак перад жыцьцёвымі нягодамі, каб наракаць на кон, што прысудзіў мне быць паэтам. Хай адно імгненьнямі, а кажны паэта, бясспрэчна, узносіцца панад жыцьцёваю роўняю ў часіны натхненьня, дакранаецца нечага няўхопнага, дзіўнога й безназоўнага, чаго ніколі не краналі й не крануць іншыя. Не... Я глыбака ўдзячная свайму *“старому крывіцкаму кону”* за ўсё, чым ён мяне надарыў. *“Багаслаўлёны й ён, і вечны чар жыцьця!”*[687].

Пісаць я пачала ня вельмі рана, у кажным выпадку ніякім “геніем” ні ў пяць, ні ў дзесяць навет год я ня была. Праўда, маючы пяць год я ўжо зусім гладка, хоць усё яшчэ ў голас, чытала дзіцячыя кніжкі, пераважна казкі; маючы шэсьць год, пачала вучыцца граць на піяніне, а яшчэ раней — псаваць паперу, крэмзаючы ламлівымі каляровымі алавікамі дамкі з комінамі, круглыя сонцы й чалавечкі на цененькіх ножках. Але хто-ж зь дзяцей ня робіць гэтага!

Пісаць вершы я пачала, маючы ўжо год чатырнаццаць. Вучылася я тады Кацярынінскай жаночай гімназіі ў Багдановічавым месьце Яраслаўлі, што над Волгай. Памятаю, як сяньня, што я вельмі зайздросьціла маім сяброўкам, якія зьмяшчалі ў нашым вучнёўскім часапісе свае вершы. Ці раз, застаўшыся адна ў хаце, я марнавала гадзіны, сілячыся выліць на паперу хоць пару радкоў — нічога неяк не ўдавалася. Аж раптам, зусім нечакана, удалося! Памятаю, што быў гэта верш пра неба і аблокі, якія так лена плылі ў той дзень над яблынамі саду, куды выходзілі вокны нашага пакою, ды што пачынаўся ён словамі *“Па сініх нябёсах аблокі плывуць, бліскучыя, белыя горы”*. Верш гэты быў, пэўне-ж, яшчэ мала да запраўднага вершу падобны, але радасьці маёй і гонару ня было межаў!

Тымчасам рэвалюцыя 1917 году, “кастрычнік”, Яраслаўскае паўстаньне супроць бальшавікоў улетку 1918 году[688] ды іншыя падзеі прымусілі маіх бацькоў пакінуць Яраслаўль і спрабаваць падавацца на захад, бліжэй да роднае Вільні. Цяжкія, нясталыя ўмовы жыцьця,

---

687 Радок з верша Наталлі Арсенневай “На парозе новага года” (1947).

688 **Яраслаўскае паўстанне** — эпізод Грамадзянскай вайны, антыбальшавіцкі мяцеж гараджанаў, арганізаваны Саюзам абароны Радзімы і Свабоды Барыса Савінкава. Паўстанне адбывалася 6–21 ліпеня 1918 г.

што зусім ня спрыялі паэзіі, перапынілі на нейкі час разьвіцьцё маіх паэтыцкіх здольнасьцяў. Зімку 1918 году і ўвесь 1919 год мы пражылі ў мястэчках і вёсках Дрысеншчыны й Полаччыны, чакаючы моманту, каб перайсьці ваенную мяжу й вярнуцца ў Вільню. У гэтых вось мястэчках і вёсках я, дзіця места, упяршыню шчыльна сутыкнулася із сялянскай Беларусяй, зь ейнаю прыродаю, бытам, моваю, песьнямі, казкамі… Мая маладая й рамантычная душа прагна ўспрымала ўсё гэта й недзе глыбака, у самой нетры, пачало нараджацца новае нейкае пачуцьцё — шчырая любасьць да ўсяе гэтае прыгажосьці.

Неўзабаве пачалася польска-бальшавіцкая вайна. Узімку, недзе пасьля Каляд, польскія легіянеры занялі былі Краслаўку[689], недалёка якое, над возерам, мы тады жылі. А колькі тыдняў пасьлей, у прамерзлым, набітым хворымі жаўнерамі і ўцекачамі таварным вагоне — нашая сям’я накіравалася нарэшце, этапамі, у Вільню.

Зіма 1919–1920 году была вельмі маразяная й сьнежная. Памятаю, на станцыі ў Краслаўцы, куды мы ледзь дацягнуліся з нашае вёскі, балюча ўсхвалявала мяне відовішча сьнежных гурбаў ля пэрону, а ў іх — жудасныя горы на камень замерзлых трупоў у зялёных жаўнерскіх шынялёх, паскладаныя, як дровы. Стоцьма ўзьнятая ў шэрае зімовае неба рука аднаго сьнілася мне яшчэ гады пасьлей… Памятаю я й Дзьвінск. Лютую сьцюжу. Першую пераправу, з хатомкамі, праз замерзлую Дзьвіну (чыгуначны мост быў зьнішчаны вайною), чаканьне на іншы цягнік у халоднай, напоўразбуранай станцыі, дзіўную млявасьць у стомленым хворым целе, стукат колаў, страшэнную смагу…

Нарэшце, недзе ў студзені 1920 году, цяжка хворыя на гішпанку[690], мы прыехалі ў Вільню, пакіненую блізу пяць год таму…

Ня памятаю ўжо, як далі сабе рады бацькі з намі, чацьвёркаю няпрытомных ад гарачкі дзяцей, як знайшлі начлег, як прывезьлі нас на новую кватэру… Ачуняла я ў нейкім незнаёмым пакоі, каб даведацца, што мая сястра Галя памерла папярэдняе ночы ад запаленьня лёгкіх, якім ускладнілася ейная гішпанка. Мы-ж, г. зн. я, малодшая сястра й брат, пачалі пакрысе ачуньваць.

---

689 Відаць, маецца на ўвазе **Краслава** (лат. *Krāslava*) — цяпер горад на паўднёвым усходзе Латвіі, на рацэ Заходняя Дзвіна.

690 **Гішпанка**, або **гішпанскі грып**, — самая масавая пандэмія грыпу за гісторыю чалавецтва, што цягнулася 18 месяцаў у 1918–1919 гг. па ўсім свеце. Ад хваробы памерла ад 50 да 100 млн чалавек. Назву атрымала ад таго, што ў Іспаніі было першае масавае заражэнне.

Гэтак трапілася, што дачка гаспадароў кватэры, нанятае маймі бацькамі ў першы дзень нашага звароту ў Вільню, Люба Русецкая, вучылася ў Першай Віленскай Беларускай Гімназіі, кагадзе заснаванай. Яна дала мне чытаць, здаравеючы, у ложку, колькі беларускіх кніжак, між імі “Рунь”[691] Максіма Гарэцкага. Кніжка гэтая вельмі глыбака, чамусьці, увайшла мне ў душу. Была гэта першая беларуская кніжка, якую я трымала ў руках. Праўда, гэткія апавяданьні зборніку, як “У лазьні”, ня зусім мне падабаліся, бо ўражалі маё, перачуленае цяжкай хваробай адчуваньне, грубаватымі словамі й занадта рэалістычнымі вобразамі. Затое апавяданьне “Патаёмнае” ды іншыя цалкам апанавалі мае пачуцьці. Яны — і ня менш патаёмнае для мяне ймя аўтара “Патаёмнага” Максіма Гарэцкага, урасьлі моцным карэньнем у маё маладзенькае сэрца.

А неўзабаве й мы — я, сястра й брат — таксама апынуліся ў старых Базыльянскіх мурох, у Першай Віленскай Беларускай Гімназіі, я — у сёмай клясе, сястра Вольга — у пятай, а брат Сяргей — у чацьвёртай. Вучыцца нам было спачатку цяжкавата. Мне, прыкладам, трэба было ад пачатку “зубрыць” лацінскую граматыку, бо лацінскае мовы ў Яраслаўскай гімназіі ня вучылі, мусіла падагнаць матэматыку, узяцца за беларускі правапіс. Але я з прагай кінулася да навукі й неўзабаве была аднэй зь лепшых вучаніцаў у сваёй клясе.

Цяжкія гэта былі часы. Галодныя й халодныя. Неставала блізу ўсяго. Шмат хто і з настаўнікаў і з вучняў галадавалі. Ня было нястачы толькі ў вадным — у вагні, у навазе, у вахвярных сэрцах, у людзёх, якія, дарма што холад і голад, аддана працавалі з аднэю думкаю — дапамагчы Беларусі й гэтак жорстка пакрыўджанаму вайною беларускаму народу стацца незалежнымі й шчасьлівымі. Людзей гэтых было ня шмат, але іхны агонь дзіўна лёгка перакідаўся на іншых і ад самага пачатку надаў быў Першай Віленскай Беларускай Гімназіі, дзіцяці нябожчыка Івана Луцкевіча, народжанай апошнімі намаганьнямі ягонага духу, дарма што цела канала ўжо ў вапошняй стадыі сухотаў, той кірунак, які спрычыніўся да пасьлейшае ейнае характарыстыкі — *“кузьня беларускіх дзеячоў”*, а па-мойму — *“кузьня беларускага духу”*.

Людзі, якія вучылі тутка беларускую моладзь у 1919, 1920, 1921, 1922 ды пасьлейшых гадох, навучылі мяне на ўсё жыцьцё горача любіць Беларусь, пакрыўджаную, падзеленую й паняволеную, але

---

[691] **“Рунь”** — зборнік апавяданняў Максіма Гарэцкага, выдадзены ў Вільні ў 1914 г.

гэткую прыгожую й чароўную. Уцелаўленьнем-жа гэткага ўспрыйманьня стаўся для мяне, блізу зь першых дзён навукі ў гімназіі, настаўнік беларускае мовы й літаратуры, аўтар "Руні" й "Патаёмнага" — Максім Гарэцкі. Памятаю, калі я пабачыла яго ўпяршыню на лекцыі ў нашай 7-й клясе, мяне насамперш уразілі ягоныя вочы — вялікія, цёмныя, гарачыя, быццам два чорныя зьнічы (я гэтак і падумала тады — "*зьнічы*") на худаватым, асцэтычным, крыху татарскага складу твары. Іншых вачэй, падумала я, аўтар "Патаёмнага" мець і ня мог. Зразумела я тады таксама й тое, што я мушу цяпер якнайхутчэй дасканала апанаваць беларускую мову й заўсёды, заўсёды, найляпей за ўсіх у клясе, ведаць задаваныя нам Гарэцкім лекцыі зь беларускай літаратуры.

І я дапяла свае мэты, як заўсёды ў жыцьці патрапіць дапяць яе кажны, хто запраўды шчыра нечага хоча. У восьмую клясу я перайшла з добрымі адзнакамі і зь беларускае мовы, і зь літаратуры.

Тымчасам мінула лета 1920 году, трывожнае, поўнае падзеяў і зьменаў. Вільню занялі былі на колькі часу, а тады ў посьпеху пакінулі бальшавікі. Аднак заняткі ў Беларускай гімназіі, якую я ўжо моцна пасьпела палюбіць, пачаліся ў сваім часе, і я ўзноўкі сустрэлася зь сябрамі й настаўнікамі, між імі й з Максімам Гарэцкім. На вялікі мой жаль, ён ня быў ужо выкладчыкам літаратуры ў нашай клясе. Ды сувязь мая зь ім дзеля гэтага не парвалася, а яшчэ памацнела. Бо цяпер я займела зь ім гаркое й салодкае злучво — пачала ўзноў пісаць вершы, зь якімі пільна сьпярша хавалася, а нарэшце, перамагаючы нясьмеласьць, наважылася аднойчы паказаць Гарэцкаму. "Паказаць" — гэта было: высачыць Гарэцкага пасьля званка на лекцыю ў пустым калідоры, калі ён накіроўваўся паўзь дзьвярэй нашае клясы на лекцыю ў суседнюю, тыцнуць яму ў рукі запісаныя аркушы, прамармытаць нявыразна нешта накшталт "*вось я... напісала вершы*" і — рынуцца наўцёкі. Але дарма што мае дзіўныя паводзіны, Гарэцкі зразумеў, у чым справа, моўчкі ўзяў мае вершы, глянуў на іх і, не сказаўшы нічога, пайшоў. Памятаю, як сяньня, было гэта ў сыботу, недзе ў канцы верасьня ці ў пачатках кастрычніка 1920 году. Увечары ў нас у гімназіі была чародная вучнёўская вечарына. Пачыналася яна звычайна рэфэратам, выступам вучнёўскае самадзейнасьці ці тэатральнай пастаноўкаю, а канчалася — агульнымі танцамі.

Гэтага памятнага для мяне вечару першым выйшаў на сцэну Гарэцкі. Памаўчаўшы, ён абвесьціў прысутным, што мае для іх

добрую навіну: *“У нас зьявілася новая Буйлянка”*, сказаў ён, *“новая паэтка, якая ўжо сяньня ці не перавышае Канстанцыю Буйлу сваім талентам. Вось паслухайце”*. І Гарэцкі пачаў чытаць... дадзеныя яму нараніцы мае вершы. Было іх два: “Восень” і “Сьветлы дзень дагарае над сумнай зямлёю”. Даю тутака адзін зь іх, як “узор” маіх самым першых “твораў”:

Восень

*Хай жаўцее, сьціхае сад з кажнай гадзінай,*
*Сонца ласкі гарачыя ўсюды ня сее,*
*Хай гарыць, як зыход, лісьць чырвонай асіны,*
*Хай апошнія кветкі у садзе бялеюць —*
*Будзем чакаці вясны!*
*Хай паўзуць паласою калматыя хмары,*
*Хай цямнее рака, хай жыцьцё замірае, —*
*Не агорнуць нас восені горкія мары —*
*Кажны з нас яшчэ сьветлае шчасьце пазнае, —*
*Будзем чакаці вясны!*
*Хай у душах надзея на долю канае,*
*Усё мінецца, бы ў летні дзянёк навальніца.*
*Прыйдзе час — сонца сіняй вышою зазьзяе,*
*Закрасуюць залёнаю руньню зямліца.*
*Будзем чакаці вясны*!

Калі я пісала гэтыя вершы, мне было 17 год. Тады, хіба, і пачалася мая літаратурная “кар’ера”. Месяцаў шэсьць пасьлей мае вершы, якія я пякла ў тыя гады, як бліны, пачалі друкавацца ў беларускіх часапісах і газэтах, а праз колькі год, у 1927 годзе, у Вільні выйшаў друкам першы мой зборнік “Пад сінім небам”, да якога я адважылася ўзяць як мотто радкі з Гётэўскага[692] “Фаўста” — *“Ins hohe Meer werd ich hinaus geniesen”*. Пішу “адважылася”, бо разумею сяньня, як словы высокадасьпелага Гётэўскага твору не пасавалі да школьнае лірыкі тагачасных маіх вершаў (зусім, як тая славутая *“кветка да кажуха”*[693]!).

Зборнік “Пад сінім небам” хай і вельмі шчыры, але гэткі яшчэ недасканалы, быў адылі прыхільна сустрэты беларускаю крытыкаю.

[692] **Ёган Вольфанг фон Гётэ** (ням. *Johann Wolfgang von Goethe*, 1749–1832), нямецкі пісьменнік і навуковец.

[693] ***Kwiatek do kożucha*** (пол.) — устойлівы выраз, які значыць нешта неспалучальнае, не пасуючае адно да другога.

Літаратуравед А. Навіна (Антон Луцкевіч) і іншыя вельмі навет хвалілі яго. Перачытваючы бачынкі “Пад сінім небам” сягоньня, я выразна магу прасачыць па вершах зборніку шлях майго паэтычнага разьвіцьця, узбагачаньня мовы. Якая розьніца, прыкладам, паміж некаторымі зусім яшчэ школьнымі вершамі, напісанымі ў 1920 годзе, але датаванымі 1921 годам (калі яны ўпяршыню былі надрукаваныя), і вершамі, датаванымі, скажам, 1925 годам! Ды што-ж зробіш? Якім-бы мой першы зборнік ня быў, і сама кніжка, і ейны аўтар маюць адно выбачэньне — сваю тагачасную зялёную маладосьць!

Але вернемся да Першае Віленскае Беларускае Гімназіі, да Максіма Гарэцкага і іншага шчэ чалавека, які меў таксама ці малы ўплыў на разьвіцьцё мае творчасьці — да настаўніка беларускае літаратуры ў нашай 8-й клясе Антона Луцкевіча.

Гарэцкі быў вельмі суровым, маламоўным настаўнікам і крытыкам. Ён блізу ніколі не правіў слабейшых месцаў маіх, бо здараліся-ж і гэткія, а проста аддаваў іх мне, зацеміўшы: *“гэтак па-беларуску не гаворыцца”* або *“гэтае месца раджу перапрацаваць”* ці штось іншае. Неўзабаве я навучылася разумець яго ня толькі з паўслова, а гледзячы адно на ягоныя шырокія, цёмныя бровы, якія то насупліваліся, то ўзьнімаліся ўгару, залежна ад уражаньня. Рух гэтых броваў, нячастая ўсьмешка на вузкіх вуснах — былі тым стымулам, што вёў мяне наперад, прымушаў упарта працаваць над сабой, над моваю… Узорамі маймі ў беларускай мове й вершаскладаньні былі ў тыя часы Алесь Гарун (зборнік “Матчын дар”[694]), некаторыя вершы Купалы, прыкладам, улюблены мой “Гімн Сонцу” (*“Вольным гоманам хвоек высокіх”*), а крыху пасьлей — і ўжо неад’емна — Максім Багдановіч, другі Максім у маім жыцьці, мой недасяглы ў творчасьці ўзор на даўгія гады.

Максім Гарэцкі вельмі высака цаніў вершы Багдановіча, асабліва аснаваныя на беларускім народным фальклёры творы апошніх год. Але запраўды разумець, любіць і цаніць Багдановіча навучыў мяне Антон Луцкевіч. Я магла гадзінамі слухаць і вельмі злавала, што званок перапыняў лекцыю, калі А. Луцкевіч апавядаў нам пра паэту, пра свае сустрэчы й гутаркі зь ім, чытаў нам ягоныя творы, у тым ліку шмат тых, што не ўвайшлі ў “Вянок” (пераклады з Вэрлена[695]),

---

694 **“Матчын дар”** — зборнік твораў Алеся Гаруна, які выйшаў у Менску ў 1918 г. Дакладная назва “Матчын дар: думы і песьні, 1907–1914 гг.”.

695 **Поль Верлен** (фр. *Paul Verlaine,* 1844–1896), французскі паэт, заснавальнік літаратурнага імпрэсіянізму і сімвалізму.

даваў нам у рукі ягоныя лісты, тлумачыў, захапляючыся, будову Багдановічых вершаў, выкрываў іхныя “схаваныя скарбы”. Я так прасякла была тады наскрозь Багдановічам, што вельмі дзіўлюся, як гэта адзіным у маёй творчасьці вынікам гэтага была вязанка вершаў “Зачараваны Кут”, зьмешчаныя як апошні разьдзел у зборніку “Пад сінім небам” і аснаваныя, маўляў апошнія творы Багдановіча, на беларускім фальклёры, але якія-ж незарадныя, раўнуючы да ягоных!

Максім Гарэцкі ніколі не хваліў мяне, хіба, за вочы, што-б я ні напісала. Але ганіў часта. За русіцызмы ў мове, за памылкі ў правапісе. Аглядаючыся назад, я думаю, што гэны мэтад узгадаваньня паэткі Натальлі Арсеньневай быў ня зусім правільны. Хай я й заслугоўвала суровае крытыкі, ня можна нікога адно ганіць, не падбадзёрваючы час-ад-часу хай сабе маленькаю пахвалой. Я, прыкладам, адчувала вынікі гэнага мэтаду на сабе ўсё пасьлейшае жыцьцё, адчуваю навет і цяпер, бо *“строгасьць”* Гарэцкага ўзгадавала ў мяне сумлеў, няверу ў свае сілы, у сваю вартасьць. Што-б я ня пісала напрацягу сарака год мае творчасьці, мне заўсёды здавалася й здаецца, што, хай іншыя й хваляць, гэта няшчырасьць зь іхняга боку, і вершы нічога ня вартыя. І я вельмі перажывала свае, найчасьцей уяўныя, няўдачы.

Але гэткі ўжо быў Гарэцкі ў дачыненьні й да іншых і да сябе — суровы, справядлівы й вельмі паважаны. Прынамся, гэткім ён заўсёды быў у гімназіі. Пазнаць-жа ягоную істоту, тое, што ён адчуваў і думаў, я ніколі ня мела нагоды. За вялікая розьніца дзяліла мяне, нясьмелую 17-цёхгадовую дзяўчынку-вучаніцу, ад кляснага настаўніка й прызнанага беларускага пісьменьніка Максіма Гарэцкага. Як шкада, што пасьлей, падросшы, я ўжо ня сустрэла яго на сваім шляху!

Два гады навукі ў гімназіі прамінулі вельмі хутка. Дарма што гэта былі найцяжэйшыя ў матар’яльным дачыненьні гады майго жыцьця й што вельмі часта на працягу гэтых год даводзілася мне класьціся спаць бязь вячэры ці выходзіць у гімназію непасьнедаўшы — я заўсёды ўспамінаю іх зь нейкай асаблівай любасьцяй і ўсхваляваньнем. Мо таму, што тут якраз я сталася паэтам, а, прынамся, зрабіла пачын…

*Н. Саковіч*[696]

## Мой удзел у археалягічнай экспэдыцыі[697]

Археалёгія дае ключ для разуменьня старажытных культураў. У Эўропе, Афрыцы, Азіі, Амэрыцы археалёгі адкрылі загінутыя культуры, якія некалі красавалі ў сіле й прыгастве, але якія ўканцы агнём і мячом былі вынішчаныя. Тысячагодзьдзямі ляжалі яны закрытыя зямлёю, забытыя ўсімі людзьмі.

Амаль заўсёды адкапаныя археалёгамі помнікі прыносілі чалавецтву новыя веды аб гэтых культурах, больш дакладныя, чымся сьветчаньні старажытных гісторыкаў ці падарожнікаў, якія жылі шмат бліжэй да тых часоў.

Гісторыя старажытнасьці Беларусі, мала дасьледаваная, нярэдка хвальшаваная або вельмі тэндэцыйна насьвятляная расейскімі й польскімі навукоўцамі, чакала на сваіх дасьледчыкаў.

Гэта разумелі нашыя нацыянальныя лідэры й навукоўцы. І ў пару 20-х гадоў, калі на момант здавалася, што для беларускіх навукоўцаў настала мажлівасьць самім вывучаць свой край, Інстытут Беларускае Культуры (пазьней рэарганізаваны ў Беларускую Акадэмію Навук) прызначыў вялікія сродкі на вывучэньне беларускіх архіваў, на археалягічныя раскопкі.

Увесну 1928 г. я пачула, што ўлетку адбудзецца археалягічная экспэдыцыя. Навуковыя працаўнікі Інбелкульту Канстанцін Палікарповіч[698], Аляксандр Ляўданскі[699] і Сяргей Дубінскі[700] пасылаліся

---

[696] ***Н. Саковіч*** — псеўданім Іны Рытар-Каханоўскай.

[697] Бацькаўшчына. № 16 (500). Вялікдзень 1960. С. 11.

[698] **Канстанцін Палікарповіч** (1889–1963), археолаг, кандыдат гістарычных навук. Ад 1926 г. сябра гістарычна-археалагічнай камісіі Інбелкульта, ад 1929 г. працаваў у Інстытуце гісторыі АН БССР.

[699] **Аляксандр Ляўданскі** (1893–1937), археолаг, кандыдат гістарычных навук. Ад 1927 г. загадчык аддзела археалогіі Беларускага дзяржаўнага музея, ад 1931 г. вучоны сакратар, загадчык секцыі археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР. Расстраляны ў 1937 г.

[700] **Сяргей Дубінскі** (1884–1937), археолаг, гісторык. Ад 1925 г. сябра гістарычна-археалагічнай камісіі Інбелкульта, ад 1929 г. працаваў у Інстытуце гісторыі АН БССР. У 1930 г. арыштаваны па справе "Саюза вызвалення Беларусі", але вызвалены. Працаваў як навуковы супрацоўнік Акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры у Ленінградзе. У 1937 г. расстраляны.

на раскопкі стаянкі палеаліту каля сяла Бердыжа[701] Чачэрскага раёну, а таксама на раскопкі некаторых гарадзішчаў і курганоў на Сожы й Дняпры.

Да гэтае экспэдыцыі рыхтаваліся й мае сябры з унівэрсытэту — Сяргей Шутаў[702], Мікола Ўлашчык[703] і Алесь Каваленя[704]. Кажны з гэтых хлапцоў меў ужо дасьведчаньне ў археалёгіі й навет невялікія друкаваныя працы. Праўда, Сяргей быў студэнт-мэдык, але ўвесь свой вольны час аддаваў археалёгіі. На летніх вакацыях, разам із Міколам і Алесем — студэнтамі-гісторыкамі — вандраваў ён пехатою па Беларусі, занатоўваючы курганы, гарадзішчы для ўкладаньня археалягічнае карты ці прыймаў удзел у археалягічных раскопках. Іхныя апавяданьні аб папярэдніх экспэдыцыях захаплялі мяне, і я мела вялікае жаданьне паехаць у экспэдыцыю.

Экспэдыцыя набліжалася. Трэба было штосьці рабіць, каб трапіць у яе. З навуковых працаўнікоў, што яе ачольвалі і ад якіх залежыў мой удзел, я ведала асабіста толькі Сяргея Дубінскага. У 1926–1927 годзе група студэнтаў пад ягоным кіраўніцтвам укладала бібліяграфічную картатэку з археалёгіі. Некаторы час у гэтай групе працавала і я.

Мы працавалі ў невялікім пакоі на другім паверсе Дзяржаўнай Бібліятэкі. Пакой месьціўся за заляй для навукоўцаў і студэнтаў-дыплёмнікаў. Часта, скончыўшы працу, мы не сьпяшаліся разыходзіцца. Іншы раз далучаўся да нас хтось із дыплёмнікаў. Усе мы расьлі й фармаваліся духова ў пару жорсткіх гістарычных канфліктаў. Шмат пытаньняў хвалявала нас. Там пачула я праўдзівы неафіцыйны пагляд праф. Пічэты[705] на марксізм. Казалі, што ў ва-

701 **Бердыж**, або **Бердыжская стаянка**, — археалагічны помнік эпохі палеаліту, які знаходзіцца ў Чачэрскім раёне Гомельскай вобласці (за 300 м ад вёсці Падлужжа). Адкрыты К. Палікарповічам у 1926 г.

702 **Сяргей Шутаў** (1906–1972), краязнавец. У 1929 г. закончыў БДУ. Браў удзел у археалагічных экспедыцыях Інбелкульта 1925–1928 гг.

703 **Мікалай Улашчык** (1906–1986), гісторык. У 1924–1930 гг. працаваў у Дзяржбібліятэцы БССР, закончыў БДУ ў 1929 г. Друкаваўся ў “Звяздзе”, удзельнічаў у стварэнні “Летапісу беларускага друку”. Арыштаваны ў 1930 г. па справе “Саюза вызвалення Беларусі” і асуджаны на 5 гадоў высылкі. Да 1955 г. неаданарозова арыштоўваўся і адбываў пакаранне ў лагерах. Па вызваленні працаваў у Інстытуце гісторыі АН СССР. Даследаваў беларускія летапісы.

704 **Аляксандр Каваленя** (1895–1937), археолаг. У 1929 г. закончыў БДУ. Ад 1932 г. працаваў у Інстытуце гісторыі АН БССР. Адзін з аўтараў трохтамовага выдання “Працаў” археалагічнай камісіі Інбелкульта. Расстраляны ў 1937 г.

705 **Уладзімір Пічэта** (1878–1947), гісторык, археолаг, педагог, заслужаны прафесар БССР, акадэмік АН БССР. Быў першым рэктарам БДУ (1921–1930).

сяродзьдзі блізкіх людзей ён выказаўся: *“Марскізм стаўся догмай. А дзе дагматызм — там ніяшчыцца навука. Нашая гістарычная навука пад пагрозай”. “Ці-ж толькі навука пад пагрозай?* — разважалі мы. — *Нашае жыцьцё, нашае нацыянальнае існаваньне пад пагрозай. Рэальная вартасьць жыцьця падмяняецца камуністычнай дэклямацыяй. Ці пераможа нацыянальны пачатак, ці задушыцца ў лябірынце бальшавіцкага цынізму?”*

Дубінскі часта заставаўся “пасядзець” з намі таксама, але пакуль тэма была не археалягічная, ён больш маўчаў. Ён быў чалавек гадоў сарака. Маленькі, шчуплы, вельмі блізказрочны, глядзеў ён на сьвет задуменна, праз тоўстыя шкелцы акуляраў. Няраз здавалася, штоглядзіць ён на цябе й не пазнае, быццам жыве ён у іншым сьвеце. Аднак, калі хто пытаўся ў яго аб чымсь з археалёгіі, яго-ны твар пачынаў сьвяціцца. Тлумачачы, ён выцягваў зь кішэні чарапкі, крамні. *“Хадзячы музэй”*, — жартавалі мы паміж сабою, але ставіліся да яго з пашанаю. Мы адчувалі, што ён вельмі самотны й цешыцца, калі хто із студэнтаў адведае яго.

Ён меў невялікі пакоік, завалены кніжкамі і археалягічнымі выкапнямі. Першае ўражаньне ад пакою было, што ў ім няма ніякага парадку, і на ўсім ляжыць тоўсты пласт пылу. Але калі аднойчы мы, дзяўчаты-студэнткі, ветліва прапанавалі навесьці крыху парадак, Дубінскі разгневаўся.

— *Бяда, калі жанчына зьявіцца ў хаце,* — выгаварваў ён нам. — *Далей парадку яна нічога ня бачыць.*

І ў той самы дзень мы даведаліся, што нягледзячы на знадворную хаатычнасьць і пыл, у пакоі кажная рэч, кажны чарапок мелі сваё непарушнае месца.

Мы бачылі ў яго на палічках Вяргілія[706], Гарацыя[707], Авідзія[708] й ведалі, што ён меў звычай у хвіліны адпачынку чытаць старажытных

---

У 1930 г. арыштаваны і прысуджаны да 6 гадоў высылкі. Ад 1935 г. — у Маскве. У 1946 г. адзін з заснавальнікаў і першы дырэктар Інстытута славяназнаўства АН СССР.

706 **Публій Вяргілій Марон** (лац. *Publius Vergilius Maro*, 70–19 да н. э.), старажытнарымскі паэт. Аўтар вядомага эпасу “Энеіда”.

707 **Квінт Гарацый Флак** (лац. *Quintus Horatius Flaccus*, 65–8 да н. э.), старажытнарымскі паэт залатога стагоддзя рымскай літаратуры. Аўтар шматлікіх сатырычных і лірычных твораў, паэтычных пасланняў.

708 **Публій Авідзій Назон** (лац. *Ovidius*, 43 да н. э. — 17/18), старажытнарымскі паэт, аўтар шматлікіх любоўных лірычных элегій.

аўтараў. Ягоныя дасканалыя веды з лацінскае мовы, ягоную дабрату іншы раз і выкарыстоўвалі.

Памятаю, для сэмінара я працавала над тэмай аб гандлёвых дачыненьнях Літвы із Заходняй Эўропай у пачатку XV стагодзьдзя. Трэба было перачытаць умовы, напісаныя па-лацінску.

— *Я зусім заблыталася з "Liber Transitus"*[709], — скардзілася я Дубінскаму з надзеяй, што ёнператлумачыць мне тэкст.

Я не памылілася. Дубінскі дапамог мне. І цяпер я пастанавіла таксама прасіць яго дапамагчы мне трапіць у экспэдыцыю.

Лягчэй за ўсё было спаткаць Дубінскага ў Дзяржаўнай Бібліятэцы. Я накіравалася туды. Мне пашанцавала. Я ўбачыла яго ў залі для навукоўцаў. Ён, як і заўсёды, чытаў, нізка схіліўшыся над кніжкай, і не заўважаў нікога. Я ўзяла кніжку таксама, села за стол побач і чакала, пакуль ён ня скончыў чытаць.

Зь бібліятэкі мы выйшлі разам.

— *Я хачу з вамі пагаварыць,* — сказала я. — *Вельмі важная справа для мяне.*

— *Ізноў лацінскі тэкст?* — усьміхнуўся ён.

— *Не, архэалягічная экспэдыцыя,* — із запалам сказала я. — *Я хачу ў яе трапіць, і толькі вы можаце мне ў гэтым дапамагчы.*

Дубінскі некаторы час нічога не адказваў, і сэрца маё замерла ад думкі, што ён адмовіць.

— *Ці ня будзе гэта для вас зацяжка?* — нарэшце спытаўся ён.

— *Я абсалютна пэўная ў сабе, і ні працы, ні гарачыні, ні дажджу — нічога не баюся,* — сьпяшалася я запэўніць яго.

— *Усё роўна, іншы раз вы будзеце адчуваць сябе вельмі стомленай... Выгодаў ніякіх. Спыняемся мы па сялянскіх хатах...*

— *Гэта я ўсё чула ад хлапцоў,* — перабіла я яго, — *І, ведаеце, ніколі ня думаеш аб цяжкасьцях, калі запраўды чым-небудзь цікавішся.*

— *Ваш удзел залежыць ня толькі ад мяне, але добра, я пагавару аб вас із Палікарповічам і Ляўданскім,* — паабяцаў ён.

За некалькі дзён Дубінскі паведаміў мяне, каб я зьбіралася.

У экспэдыцыю мы выяжджалі зь Менску на Буда-Кашалёва вечаровым цягніком. Спаткаліся ўсе на станцыі. Ня было з намі толькі аднаго, Янкі Калодкіна, сябры, здаецца, Бабруйскага Акруговага Краязнаўчага Таварыства. Ён далучыўся да нас пазьней, недзе ў дарозе.

[709] ***Liber Transitus*** (лац.) — свабоднае перамяшчэнне.

У той вечар я пазнаёмілася із Палікарповічам і Ляўданскім. Я бачыла іх і раней на паседжаньнях Археалягічнае Камісіі Інбелкульту, слухала іхныя рэфэраты.

Людзі кажуць, што аблічча чалавека — гэта адбітак ягонага характару. Мне гэта асабліва прыгадалася, калі я ў той вечар спаткалася ізь Ляўданскім.

Ён быў высокі, мускулісты, ізь зьлёгку пакручастымі валасамі на галаве, пасаджанай на грубай шыі й плячох. Калі ён гаварыў ці голасна сьмяяўся, здавалася, што ён стаіць крыху адкінуўшыся назад, моцна ўпёршыся нагамі ў зямлю, і трымае цэлы сьвет за лейцы.

Палікарповіч рабіў уражаньне чалавека вельмі стрыманага. Голас ягоны гучэў ціха, але сказы былі павольныя, абдуманыя. Падчас экспэдыцыі ён быў нястомны ў працы, але ўсю сваю энэргію аддаваў вылучна навуковым досьледам, ніколі ня дбаючы аб практычны бок працы, які цалкам ляжаў на Ляўданскім.

*"Якія яны розныя"*, — часта думала я аб іх.

Ляўданскі выдаваўся мне добрым старэйшым сябрам, хоць іншы раз рэчы, аб якіх ён гаварыў, мне не падабаліся.

Аднойчы ён спытаўся ў мяне:

— *Вы ведаеце Ластоўскага?*

— *Ведаю. Ён і ягоная жонка блізкія знаёмыя нашай сям'і.*

— *Што вы думаеце аб ім?*

— *Маю да яго вялікую пашану,* — сказала я.

Я бачыла, як твар Ляўданскага спахмурнеў:

— *А я іншае думкі аб ім,* — сказаў ён адрывіста.

Ляўданскі пераехаў на працу ў Менск із Смаленскага Ўнівэрсытэту. Ён быў яшчэ маладым навукоўцам. На Смаленшчыне ён прымаў удзел у раскопках гарадзішчаў і курганоў, друкаваўся ў *"Научных Известиях Смоленского Государственного Университета"* і выдаў аб сваіх досьледах асобную кніжку. У ягоных навуковых высновах адчуваліся прарасейскія канцэпцыі. Гэтыя прарасейскія сымпатыі можна было вычуць у ім у жыцьці, хоць ворагам беларушчыны ён тады ня быў. Нажаль, пазьней аб ім гэтага сказаць ня можна было.

Працуючы ў Беларускім Дзяржаўным Музэі, Ляўданскі сутыкнуўся із Вацлавам Ластоўскім. Ластоўскі, адзін зь лідэраў беларускага адраджэнскага руху, прасякнуты ідэямі вялікага прошлага свайго краю, бескампрамісны вораг усяго "прамаскоўскага", зь

Ляўданскім працаваў беспасярэдня як дырэктар музэю. Паміж імі складаліся адразу няпрыхільныя дачыненьні.

Ластоўскі быў ідэялісты, але Ляўданскі ня бачыў яго такім. Ён уважаў Ластоўскага за фанатыка, амбітнага самалюбцу, зацікаўленага толькі ў дыскрымінацыі яго, Ляўданскага, як навукоўцы.

Кажны чалавек, атручаны падазронасьцю, робіцца небясьпечным. Незадавальненьне супраць Ластоўскага абярнулася ў Ляўданскага ў незадавальненьне супраць усяго нацыянальнага, беларускага. З часам у Ляўданскага разьвілася халодная цяжкая нянавісьць наагул да ўсяго беларускага. У той-жа час ён бачыў вялікую моц нашых навукоўцаў і разумеў, што яна можа быць атакаванай толькі праз абвінавачваньні. І ўжо ад 1929 г. ён не прапускаў нічога, што-б магло разбурыць беларускую нацыянальную навуку, навет фантастычных даносаў. Гэта стала ягонай амбіцыяй, ягоным задавальненьнем, ягоным асабістым абавязкам.

У 1930 годзе Ластоўскі быў арыштаваны, вывезены, пасьля чаго сьлед па ім загінуў. Ляўданскі застаўся ў Беларусі. І ў гэтым трагэдыя не асабістасьцяў, а нацыі.

У Буда-Кашалёва мы прыехалі позным раньнем. Адсюль нанялі вазы, бо чыгункі да месца палеалітычнай стаянкі ня было. Дзень выдаўся гарачы. Вельмі часта мы спыняліся каля вясковых студняў, паілі коні, пілі самі. Мы ўсе моцна запаліліся ў той дзень і адчувалі сябе зморанымі гарачынёю; усе, апрача Палікарповіча.

— *Ня варта піць шмат вады. Гэта выклікае большую смагу,* — раіў ён нам.

Палікарповіч у дарозе ня піў вады. Толькі яшчэ на станцыі, калі мы сьнедалі, заказаў ён шклянку вельмі моцнай гарбаты. Пазьней, у экспэдыцыі, ён штодня асобна сабе гатаваў такую гарбату. Мне заўсёды здавалася, што цёмная скура на ягоным твары й вузкія шчыльна сьціснутыя вусны набылі чырвона-бурштынавае адценьне гэтае моцна згатаванае гарбаты.

Палікарповіч ня быў гаваркім, як Ляўданскі, але калі ён аб чымсь апавядаў, яго было вельмі цікава слухаць.

Неяк ужо пасьля раскопак у раёне Сожу, калі мы плылі параплавам ад Чачэрску на Гомель, я засталася позна на палубе. Прырода заўсёды хвалявала маё выабражэньне, і я, хоць чулася зморанай пасьля дня працы, не хацела йсьці ў каюту. Застаўся на палубе й Палікарповіч.

Мы глядзелі на раку, абапёршыся на парэнчы палубы. Зацягнутае хмарамі неба амаль не адбівалася ў вадзе. Начную цемень і ціш парушаў толькі шум вады ад руху параплава. Я прызвычаілася, што Палікарповіч маўклівы, і ўздрыгнулася ад нечаканасьці, калі ён загаварыў.

— *Чалавек заўсёды сьведама ці нясьведама ў пошуках праўды, у пошуках адказу, у чым сутнасьць ягонага існаваньня.*

Чулася нейкая напружанасьць у ягоным звычайна ціхім голасе, і гэта мяне зьдзівіла. Я павярнулася да яго тварам, але ён працягваў гаварыць, гледзячы на раку.

— *Адных гэтае шуканьне прыводзіць да ведаў, у другіх прыймае дзіўныя формы.*

Раптам ён павярнуўся да мяне так, што цяпер мы былі твар у твар.

— *Вы ведаеце, што па гэтых прыгожых берагох захаваліся хлыстоўскія абшчыны?* — сказаў ён.

— *Не,* — адказала я. — *Я навет добра ня ведаю, які іхны догмат.*

— *У пошуках праўды таксама,* — сказаў ён.

Я паглядзела на яго зь недаверам: “*Ці не жартуе ён?*” — падумала я. Не, ён не жартаваў, ягоны голас заставаўся сур’ёзным.

Ад яго пачула я тады, што хлыстоўскія абшчыны ці караблі паўсталі ў Маскоўшчыне ў сярэдзіне 17-га стагодзьдзя, што ў 18-м ст. некаторыя зь іх, як і стараверы, уцяклі ў Беларусь ад перасьледу маскоўскіх уладаў, што праз стагодзьдзі жывуць слустоўцы, ці хрыстоўцы, як яны самі сябе завуць, паміж нашымі людзьмі адасоблена. У часе “радзеньняў” бегаюць яны па коле, б’юць цела дубцамі (хлыстамі), каб выгнаць із яго нячыстую сілу, даходзяць да экстазу.

Я слухала ягонае апавяданьне, углядалася ў цёмныя берагі, і ўсё здавалася мне нерэальным палохаючым. Ад неба, ад зямлі, ад вады, навет ад голасу Палікарповіча пацягнуліся да мяне халодныя далоні страху.

Я доўга не магла заснуць у тую ноч. “*Чаму шуканьне прыгаства й праўды ў чалавека часта набывае збочаныя формы?*” — думала й не знаходзіла адказу.

Гэта Палікарповіч адкрыў палеалітычную стаянку каля Бердыжа. Бердыская стаянка зьяўляецца першай і найбольш значнай спасярод палеалітычных стаянак Беларусі. У ваднэй із сваіх

пазьнейшых працаў аб гэтай стаянцы Палікарповіч зазначае, што яна *"й да гэтага часу ня можа ўважацца за дастаткова вывучаную. Раскопваўся ўвесь час па ўмовах заляганьня стаянкі ня цэнтр яе, а пэрыфырыя"*.

Пад кіраўніцтвам Палікарповіча на гэтай стаянцы праводзіліся раскопкі ад 1926 да 1929 году кажнае лета, а таксама ў 1938 і 1939 гг.

Ён адносіць гэтую стаянку да стадыі пазьнейшага ці верхняга палеаліту (канец ледавіковае эпохі, 30–20 тысяч гадоў да нашае эры). На ягоную думку, тут існаваў даўгі час людзкі пасёлак, бо была знойдзена вялікая колькасьць касьцей мамантаў і іншых жывёлаў, а паміж імі крамнёвыя канцы для дзідаў, разцы, нажы, зробленыя першабытным чалавекам.

Адкрыцьцё палеаліту ў Беларусі мела вялізарнае навуковае значэньне й было сэнсацыяй таго часу. За вынікамі раскопак сачылі, імі цікавіліся ўва ўсім сьвеце. Аб рэштках гэтае стаянкі, аб ейнае фаўне, аб гэалягічных умовах знаходжаньня яе цяпер ёсьць вялікая колькасьць друкаваных працаў, якія прыносяць новыя веды аб першых кроках жыцьця чалавека ў нашым краі й наагул на зямлі.

У тое лета, на час раскопак, мы спыніліся блізка стаянкі ў невялікай вёсцы Падлужнае. Аглядаючыся назад, я бачу чыстую хату нашых гаспадароў, лаўку каля вакна, на якой я спала, вялікі стол у куце, заўсёды засланы белым саматканым абрусам, і шырокую пяшчаную вуліцу, па якой я перад сьнеданьнем сьпяшалася на возера памыцца, а пазьней з усімі йшла на працу.

Стаянка знаходзілася высока на берагавой тэрасе р. Сожа, на правы бок невялікае лагчыны, каля выхаду гэтае лагчыны да ракі. Зь верху, дзе мы працавалі, было далёка відаць увесь краявід.

Дзялянка стаянкі, дасьледаваная намі ў 1928 г., мела 30 кв. мэтраў. Спачатку зьнялі верхнія пласты пяску, у якіх ня было сьлядоў рэшткаў. Усю дзялянку разьбілі на панумараваныя квадраты. Кажны браў асобны квадрат і вельмі асьцярожна, уважліва ачышчаў рэшткі ад пяску невялічкімі пэндзалямі й шуфлікамі. Усё, што знаходзілі, фатаграфавалі, занатоўвалі на пляне, паказваючы нумар квадрата й глыбіню залягаьня. Глыбіня залягаьня рэшткаў была значная і ў некаторых мясцох даходзіла да 5-ці ці 6-ці мэтраў.

Адкапалі мы тады каля 500 цэлых і паламаных ці разьбітых костак жывёлаў. Як і ў папярэдніх экспэдыцыях, гэта былі галоўна косьці мамантаў, а таксама косьці быка, дзікага каня, пячорнага

мядзьведзя, вялікага ваўка. Косьці дзівілі сваімі памерамі, асабліва канцавіны, біўні і чарапы мамантаў.

Ізноў на стаянцы знайшлі каменныя прылады й некалькі вугольчыкаў ад вогнішча. Усё гэта сьведчыла аб чалавеку, які тут жыў тысячы гадоў назад, паляваў на мамантаў, апрацоўваў сваю здабычу прымітыўнымі каменнымі нажамі, скрабкамі, разцамі. Нат шліфаваньня каменьня чалавек тады яшчэ ня ведаў. Ня ведаў ён і глінянага начыньня.

У першы дзень на раскопках хлапцы падклалі ў мой квадрат шчарнелы гліняны чарапок і вельмі цешыліся, калі я, не распазнаўшы падману, паказала яго Палікарповічу.

У часе раскопак наведвалі нас краяведы й карэспандэнты з Бабруйску, Гомелю, Віцебску.

У часе раскопак праца вельмі захапляе і, хоць працаваць даводзілася ад раньня да вечара, ніхто ня думаў аб зморанасьці. Мы сьпяшаліся скончыць раскопкі, пакуль стаялі цёплыя сухія дні. Ужо праз тыдзень верхні пласт залеганьня рэшткаў быў ачышчаным. Па ўсёй дзялянцы грувасьціліся чыстыя, высахлыя, выбеленыя тысячагодзьдзямі косьці. Дзіўна разіў кантраст паміж гэтай вялічэзнай грудай касьцей і жывым хараством беларускага лета. Але ў гэтым кутку ля Сожа, дзе сярод забалочаных лугоў захавалася шмат гарадзішчаў, дзе ўсьцяж пад сачыстым зялёным мурогам можна бачыць курганы, насыпаныя стагодзьдзямі таму нашымі продкамі над сваімі нябожчыкамі, дзе ў мове й звычаях вясковых людзей жыве водгук былога — усё апавядае аб неперарыўным бясконцым жыцьці, якое заўсёды ўзьнімаецца над жыцьцём зьмерлых.

Памятаю, у купальскі вечар гаспадыня сказала нам, што хлапцы й дзяўчаты зь вёсак *“хараша гуляюць ля Сожа”*. Мы пастанавілі пайсьці за вёску, на край лагчыны, каб пабачыць. Прыйшлі туды, калі сьцямнела.

Перад намі далёка ўнізе, уздоўж ракі, высака шугалі й віхрыліся чырвоныя языкі вогнішчаў. Яны падалі бліскучымі плямамі на чорную паверхню ракі, выхоплівалі блізка сябе зь цемені зялёнае ўзьбярэжжа, постаці людзей, дзяўчатаў зь вянкамі над вадой. У цішы ночы чуліся далёкія людзкія галасы, сьмех, купальскія песьні. Словы песьняў даходзілі ня ўсе, губляліся ў далячыні, але мы іх ведалі…

Малюнак, што бачылі вочы, гіпнатызаваў. Не хацелася гаварыць, а толькі слухаць ды глядзець на жывое паданьне із сівое старажытнасьці.

Мы заставаліся над лагчынаю доўга, пакуль ня згасьлі вогнішчы. Ідучы дамоў, размаўлялі ціха, быццам баяліся парушыць таямнічыя чары купальскае ночы.

У тры ці чатыры тыдні скончылі мы працу на стаянцы, але Падлужнае не пакінулі. Стуль хадзілі мы па ваколіцах, укладаючы архэалягічную карту, раскапалі некалькі курганоў каля Сожа насупраць Чачэрску, зрабілі пробныя раскопкі аднаго гарадзішча. Усё знойдзенае на раскопках запакавалі і адаслалі ў Менск.

У тое лета архэалёгі ўва ўсёй Беларусі зрабілі нямала. Па Сожы, Дняпры, Дзьвіне й Сьвіслачы было дасьледавана шмат стаянак, 7 селішчаў, 42 гарадзішчы, 128 кураганоў. Быў сабраны вялізарны навуковы матар'ял. Археалягічны аддзел Беларускага Дзяржаўнага Музэю ўзбагаціўся экспанатамі з жыцьця ў Беларусі ў пару палеаліту, нэаліту, бронзавага пэрыяду й пачатку зялезнага.

Ня можна пярэчыць, што і ў вапошнія дзесяцігодзьдзі вядуцца досьледы помнікаў культуры, квітнеўшай некалі на Беларусі. Але цяпер скарбы нашае гісторыі вывозяцца. У "Літаратуры й Мастацтва" (№ 75–1401 за 1959 г.) у нататцы "Раскопкі на Навградзкай зямлі" кандыдат гістарычных навук Ф. Гурэвіч[710] зазначае: *«Па "ўраджайнасьці" гэты год незвычайны... Як ніколі за апошнія тры гады мы вязём у Ленінград больш 2000 знаходак»*.

Узбагачаецца ленінградзкі музэй! А ці-ж гэта пацеха для нас, Беларусаў?

---

710 **Фрыда Гурэвіч** (рус. *Фрида Гуревич*, 1912–1988), савецкі археолаг, доктар гістарычных навук. Вывучала археалогію Беларускага Панямоння.

## Дзьве гутаркі з праф. Ант. Адамовічам
(З радыёвай хвалі "Вызваленьне")[711]

### *1. Янка Купала сорак год таму*

*Пытаньне: Дзядзька Антось, учора вось увечары я пераглядаў шасьцітомнік Купалы, апошняе выданьне. Мне кінулася ў вочы, што ўвесь 1917 год — год Кастрычніцкае рэвалюцыі — Купала творча маўчаў. У шасьцітомніку новоднага Купалавага вершу з 1917 году.*

Адказ: Маўчаў? І так, і ня зусім так. Гэта было, праўду кажучы, не маўчаньне, а насьцярожанасьць. Пачалася яна яшчэ ў 16-м годзе, а ў 1918-м вылілася ў вадкрытую варожасьць да бальшавізму, сэнс якога паэта адразу-ж зразумеў. Вось чытай адсюль.

*Пытаньне: А гэта што за кніжка ў Вас?*

Адказ: А гэта "Спадчына", выбар паэзіі Янкі Купалы, што выдала беларускае выдавецтва "Бацькаўшчына" ў Мюнхэне ў 1955 годзе.

*Для Бацькаўшчыны*  
*Я ўзноў заснуўшую, было, жалейку,*  
*Бяру і пробую ў ёй галасоў:*  
*Ці хопіць сьветлых, звонкіх думак-слоў,*  
*Ці гладка пойдзе песьня-дабрадзейка?*  
*І пачынаю граць з трывогай нейкай,*  
*Хоць песьня як і з даўных б'е часоў…*

*Пытаньне: Калі гэты верш напісаны?*

Адказ: За год пасьля бальшавіцкага "кастрычніка", калі паэта пабачыў, *што* бальшавізм прынёс Беларусі.

*Пытаньне: Ці пазьней Купала разгарнуў у сваіх творах гэтую трывогу, якая, бясспрэчна, вычуваецца ў ягоным вершы "Для Бацькаўшчыны"?*

Адказ: А як-жа! У вершы "Крыўда", датаваным 30 кастрычніка 1918 году, Купала апісвае, як людзі Крыўду адолелі, ськідаючы расейскага цара; паэта ўсхвалёвана выказвае спадзяваньні, што ўзбудзіў у народзе рэвалюцыйны 1917 год:

711 Бацькаўшчына. № 11–13 (397–399). 25 сакавіка 1958. С. 9.

*І мілай пацехай зазьзяла*
*І доля і слава людзкая,*
*Дый толькі, знаць, слава і хвала*
*Недаўгавечнай бывае.*

Чытай далей апошнюю зваротку:

*Раскованы раб сябе выдаў —*
*Ня ўзьнёсься ўвысь дух чалавечы,*
*Нявольнік пабратаўся з Крыўдай*
*І ў помач ёй даў свае плечы.*

Вось-жа бальшавікоў Купала вызначыў як *“раскованых рабоў”* і ў далейшых сваіх творах часта ўжываў гэтае азначэньне.

Пытаньне: *Скажэце, Дзядзька Антось, ці савецкая літаратурная крытыка не спрабавала паясьніць гэтыя вершы як пісаныя супраць Немцаў, што былі ў 18-м годзе на Беларусі?*

Адказ: Было й гэткае. Калі грамілі “нацдэмаў” на пачатку 30-х гадоў, дык партыйны крытык Лукаш Бэндэ[712] спрабаваў (праўда, асьцярожна) прыпісваць заміж антыбальшавіцкасьці антынямецкасьць Купалавым творам 18-га году. Але-ж Купала ня быў і аднаго дня пад нямецкай акупацыяй. Усе ягоныя наймацнейшыя антыбальшавіцкія рэчы пісаныя ў Смаленску пад бальшавікамі. Не дарма, зрэшты, Купалавых твораў 1918-га году, за выняткам пары рэчаў, і ня знойдзеш у ніводным савецкім выданьні.

Пытаньне: *У мяне яшчэ адно пытаньне: у Купалы ёсьць санэт, загалоўлены “Наша гаспадарка”. Ён канчаецца гэткімі словамі:*

*Так гаспадарым мы і дома, і за домам,*
*Усё ждучы пацехі зь севу і жніва,*
*Ждучы дарма, як летам жджэ расы трава.*
*Чужы й свой хлеб становіцца жорсткім комам*
*І душыць кліч: ці доўга будзе нам заломам*
*Варшава панская і царская Масква?*

[712] **Лукаш Бэндэ** (1903–1961), крытык-вульгарызатар. Друкаваўся ад 1925 г. Працаваў у Інстытуце мовы, літаратуры і мастацтва БССР, Дзяржаўным выдавецтве ў Ленінградзе, Інстытуце рускай літаратуры (Пушкінскі дом). У часе Другой сусветнай вайны — у войсках НКУС (Ленінград). Аўтар некалькіх кніг, шматлікіх артыкулаў і складальнік хрэстаматый па беларускай літаратуры.

Адказ: Ну вось, гэта таксама верш з тае пары. I цікава, што напісаны ён якраз на першыя ўгодкі бальшавіцкае рэвалюцыі, 1-га лістапада 1918 году — тымчасам, як Масква ўжо ня была царскай.

Пытаньне: *Дык як тады, скажэце, калі ласка, разумець такую неадпаведнасьць, як “царская Масква”, калі цара ўжо ня было?*

Адказ: А разумець трэба так, як разумеў тады Купала: для Беларусі бальшавіцкі “кастрычнік” ніякае палёгкі ня прынёс.

### *2. Дакумэнты й факты аб падзеях на Беларусі сорак год таму*

Пытаньне: *9-га сакавіка 1918-га году Выканаўчы Камітэт Рады I-га Ўсебеларускага Кангрэсу выдаў Другую Ўстаўную Грамату для народаў Беларусі. Чым гэты дакумант найбольш характэрны?*

Адказ: Азначыць яго можна вельмі коратка: *канстытуцыя*. Гэта быў закончаны, але не разгорнуты асноўны закон Беларускай Народнай Рэспублікі. Пэўную канстытуцыю Беларускай Народнай Рэспублікі меўся зацьвердзіць Установчы Сойм Беларусі, скліканы на дэмакратычных асновах.

Пытаньне: *Якія галоўныя моманты вызначыла Другая Ўстаўная Грамата?*

Адказ: Перш за ўсё Выканаўчы Камітэт Першага Ўсебеларускага Кангрэсу пастанавіў: *“Беларусь у межах расьсяленьня і лічбовай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнай Рэспублікай”.*

Пытаньне: *Які-ж нутраны лад меўся быць у гэтай дзяржаве?*

Адказ: Вось якраз гэты лад і вызначыўся ў наступных сямёх пунктах Другой Устаўной Граматы.

У межах Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчалася свабода слова, друку, сходаў, забастовак, аб’еднаньняў; бязумоўная свабода сумленьня, недатыкальнасьць асобы й памешканьня — якраз усё тое, чаго не дала на практыцы *савецкая канстытуцыя*.

Пытаньне: *Ці гаварылася ў Другой Устаўной Грамаце пра іншыя нацыянальнасьці, якія жылі на беларускіх землях?*

Адказ: Гаварылася. Гэтаму пытаньню была таксама адведзеная належная ўвага. Вось як было разьвязанае нацыянальнае пытаньне ў Беларусі ў 1918 годзе: *“У межах Беларускай Народнай Рэспублікі (запісана ў 6-м параграфе Другой Устаўной Граматы) усе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію; абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі”.*

Між іншага, апошняе палажэньне што да моваў было перанятае і Беларускай Савецкай Рэспублікай, хоць і не адразу. У 20-х гадох у БССР былі чатыры афіцыяльныя мовы: беларуская, жыдоўская, расейская й польская.

*Пытаньне: Яшчэ адно пытаньне: ці Другая Ўстаўная Грамата гаварыла што-небудзь пра работнікаў?*

Адказ: Бязумоўна. Восьмы параграф Граматы гучыць гэтак: *"У межах Беларускай Народнай Рэспублікі ўстанаўляецца найбольшы васьмігадзінны рабочы дзень"*.

*Пытаньне: А сялянскае пытаньне?*

Адказ: Таксама было разьвязанае. У 7-м параграфе Граматы гаворыцца: *"Зямля перадаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць"*.

*Пытаньне: Скажэце, калі ласка, як паставіліся бальшавікі да гэтага выяўленьня волі беларускага народу?*

Адказ: Выключна варожа. З усяго, што здарылася пасьля, выразна відаць, што да такое пастаноўкі нацыянальнага пытаньня на Беларусі яны зусім ня было гатовыя. Яны ня мелі ніякіх намераў паважна браць на ўвагу інтарэсы беларускага народу. Аб гэтым сьветчаць факты.

Ведама, прыкладам (і гэта не хавае савецкая гісторыя), што гэта бальшавікамі разагналі Першы Ўсебеларускі Кангрэс у канцы 1917-га году, які, аднак, здолеў абвесьціць Беларусь Рэспублікай.

Далей. У лютым 1918-га году Выканаўчы Камітэт Усебеларускага Кангрэсу абвесьціў сябе часовай уладай на Беларусі. Бальшавікі-ж у гэтым часе здабыліся толькі на гэтак званы "Беларускі нацыянальны камісарыят"[713]. Заданьне гэтага "Камісарыяту" зводзілася да *"задаваленьня праз ворганы Савецкай улады культурна-асьветных патрэбаў беларускае нацыянальнасьці"*. Пра самавызначэньне-ж беларускага народу з царскае імпэрыі, ягоныя нацыянальныя правы, пра патрэбы беларускае дзяржавы тады яшчэ бальшавікі не казалі ні слова.

Урэшце незалежнасьць Беларускае Савецкае Рэспублікі як найвышэйшая форма задавальненьня вымогаў беларускай нацыі была

[713] **Беларускі нацыянальны камісарыят (Белнацкам)** — аддзел Народнага камісарыята па справах нацыянальнасцяў СНК РСФСР. Дзейнічаў у Петраградзе ў лютым 1918 г., а пасля ў Маскве да сакавіка 1919 г. Старшыня — Аляксандр Чарвякоў.

абвешчаная бальшавікамі куды пазьней: у Смаленску 1-га студзеня 1919 году.

Пэўна-ж, яны спачатку мусілі лічыцца з жаданьнямі нашага народу. Аднак, пачуўшыся на сілах, перахапілі ідэю незалежнасьці ды, прыкрываючыся незалежніцкай тэрміналёгіяй, здушылі права нашага народу жыць свабодна ў згодзе з *праўдзівымі* дэмакратычнымі прынцыпамі, якія абвясьціла Другая Ўстаўная Грамата 9-га сакавіка 1918-га году.

*Вітаўт Кіпель*

## **Беларусавед Вальтэр Егер**[714]
## Зь бібліяграфічнай і архіўнай дзейнасьці Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва[715]

Бібліяграфічная праца ў БІНІМе вядзецца ў некалькіх напрамках: амаль падрыхтаваная бібліяграфія беларускага друку беларускае дыяспары ад 19 ст. да канца 1997 году; расьпісваецца беларускі пэрыядычны друк ад дваццатых гадоў, складаецца картатэка беларусікі ў замежных мовах. І вось працуючы з беларусаведнымі друкамі ў нямецкай мове ды пераглядаючы архівы, зьвязаныя зь Нямеччынай, удалося папоўніць біяграфічны нарыс аднаго з найбуйнейшых нямецкіх беларусаведаў першае паловы нашага стагодзьдзя — Вальтэра Егера.

Вальтар Егер зьяўляецца аўтарам значнае працы пра Беларусь у нямецкай мове "*Weissruthenien. Land — Bewohner — Geschichte — Volkswirtschaft — Kultur — Dichtung*", выдадзенай у Бэрліне ў 1919 г. Гэтая кніга — ілюстраваны зборнік артыкулаў пра гісторыю, эканоміку, культуру, літаратуру Беларусі. У кнізе ёсьць і пераклады Купалавых твораў, падаецца карта БНР. Неабходна зазначыць, што ў часе, калі Вальтар Егер працаваў над гэтай кнігай, сярод нямецкіх дасьледнікаў было некалькі добрых знаўцаў тагачаснае

[714] **Вальтэр Егер** (ням. *Walter Jäger*, 1885–?), нямецкі журналіст, які ў часе Першай сусветнай вайны быў у Беларусі. Аўтар першай абагульняльнай нямецкамоўнай працы, прысвечанай Беларусі.

[715] Беларус. № 449. Сьнежань 1997. С. 4–5.

Беларусі, а некаторыя вызначаліся вельмі паважнымі працамі зь беларусазнаўства (А. Іпэль, праф. Р. Абіхт[716], П. Вэбэр).

Пра Вальтэра Егера ў нашай даведачнай літаратуры мала дадзеных, дый іх нялёгка знайсьці, як і нялёгка расшукваць артыкулы пра Беларусь у замежных мовах. Таму й прапануем увазе маладога пакаленьня чытачоў біяграфію заўважнага ў галіне беларусікі навукоўца (тым болей, што ягонае імя згадваецца шмат разоў у кнізе "Ўспаміны Вітан-Дубейкаўскай"[717], бібліяграфічныя зьвесткі сталіся даступнымі, дзякуючы дзейнасьці Ю. Дубейкаўскай, Вальтэра Егера й др. В. Тумаша).

Ня ведаючы нічога пра лёс Вальтэра Егера, але з упэўнасьцю, што для гісторыі пра гэтага навукоўца трэба ведаць больш, др. Вітаўт Тумаш у 1954 годзе зьвярнуўся да сп-ні Юліяны Дубейкаўскае, якая ў гады І сусьветнае вайны жыла ў Вільні ды была асабліва блізкай супрацоўніцай братоў Луцкевічаў, з просьбай даслаць інфармацыю, калі яшчэ нешта захавалася, пра Вальтэра Егера, А. Іпэля ды іншых нямецкіх аўтараў часоў І сусьветнае вайны ды іхную сувязь зь віленскімі беларусамі.

У гэтай справе сп-ня Дубейкаўская напісала адразу да самога Вальтэра Егера, які тады жыў у савецкай зоне Нямеччыны, у Ваймары, просячы прыслаць аўтабіяграфічную даведку з успамінамі пра гады прабываньня ў Вільні, пра супрацоўніцтва там зь беларусамі ды пра абставіны выхаду кнігі "*Weissruthenien*". Аўтабіяграфію, хоць і вельмі кароткую, Вальтэр Егер даслаў адразу, але з умоваю не публікаваць яе пры ягоным жыцьці.

Мінула ад таго часу больш за 40 гадоў. У 1969 г. памерла адданая ахвярнай нацыянальна-грамадзкай працы братоў Луцкевічаў Ю. Дубейкаўская. Напэўна, ня жыве ўжо й Вальтэр Егер. І таму час выдрукаваць кароткую біяграфічную даведку пра шчырага прыяцеля беларусаў, супрацоўніка Луцкевічаў ды рэдактара-выдаўца кнігі пра Беларусь і беларусаў у нямецкай мове.

Аўтабіяграфія Вальтэра Егера друкуецца тут у перакладзе зь нямецкае мовы, зробленым Ю. Дубейкаўскай. Гэты пераклад

---

716 **Рудольф Абіхт** (ням. *Rudolf Abicht*, 1850–1921), нямецкі філолаг-славіст, адзін з першых даследчыкаў і папулярызатараў беларускай культуры ў Нямеччыне.

717 Маецца на ўвазе кніга: Вітан-Дубейкаўская, Юліяна. Мае ўспаміны. Вільня, 1994. — 190 с.

сп-ня Дубейкайская пераслала яшчэ ў 1954 г., а разам з гэтым й фатаграфію В. Егера, датаваную 1919 годам — менавіта тады выйшла ягоная кніга “Weissruthenien”.

## Аўтабіяграфія В. Егера

*Нарадзіўся я ў 1885 г. у Бэрліне, школу, рэальную гімназію скончыў у Дрэздэне. Вучыўся пасьля ў Фрайбургу, Мюнхэне, Бэрліне, і пасьля 6-х сэмэстраў паступіў у тэатр ды стаў артыстым. Да Першае сусьветнае вайны выступаў на сцэне ў Тэмпліц, Фрайбургу, Бэрліне й Нюрнбэргу.*

*Калі з пачаткам Першае сусьветнае вайны мяне паклікалі ў армію, я хутка быў уключаны ў лік супрацоўнікаў газэты Х Арміі — “Zeitung der X Armee” — у Вільні. Тут мне дstaручылі кіраўніцтва культурна-мастацкім аддзелам газэты. Маючы за заданьне пазнаёміць чытачоў газэты Х Арміі з жыцьцём, гісторыяй і мастацтвам акупаванага краю, мне прыйшлося бліжэй заняцца гэтымі заданьнямі. Тут мушу зь вялікай удзячнасьцяй успомніць дапамогу братоў Антона і Івана Луцкевічаў. Асабліва апошні як археалёг і знаўца гісторыі й мастацтва гэтага краю даваў мне каштоўныя парады, выбіраў матар’ялы для перакладаў, якія я пасьля апрацоўваў. Асабісты кантакт зь беларусамі дапаўняў маё азнаямленьне з гэтым краем. Гэтак у газэце Х Арміі шмат артыкулаў было прысьвечана гісторыі й культуры Літвы й Беларусі.*

*У канцы 1918 г. нямецкая армія пакінула Вільню, я апынуўся ў Нямеччыне, дзе хутка быў звольнены з войска. Я й мой былы супрацоўнік у Вільні, др. Альбэрт Іпэль, пастанавілі выдаць як рэзультат нашае працы ў Вільні кнігу аб Беларусі, якая й была выдрукаваная ў 1919 г. у Бэрліне пад назовам “Weissruthenien”.*

*Др. Іпэль асабліва цікавіўся мастацтвам Беларусі й разам з Іванам Луцкевічам, карыстаючыся багатымі музэйнымі зборамі апошняга, ладзіў на пачатку лета 1918 г. дзьве выстаўкі беларускага мастацтва, адну ў Вільні, другую ў Менску.*

*Пасьля заканчэньня вайны я працаваў як літаратар у Бэрліне. У 1923 г. пераехаў у Мюнхэн, дзе пераважна працаваў як журналіст у радыёперадачах аб літаратуры, тэатры й фільмах. У 1942 г. у вадным з часапісаў Ваймару я пераняў працу кіраўніка аддзелу культурных справаў і туды пераехаў. Ад 1945 г. ізноў працую як незалежны літаратар.*

*На пытаньне пра др. Альбэрта Іпэля, нажаль, я не магу нічога адказаць. Ад канца 1919 г. я зь ім больш не сустракаўся й ня ведаю, дзе ён жыве ці й наагул яшчэ жыве.*

*Вальтэр Егер, Ваймар, лістапад 1945 г.*

*Заўвагі перакладчыцы.*

*Ад сябе магу дадаць, што сп. Вальтэр Егер калісьці мне пісаў, што гады, пражытыя ў Вільні, як і яе жыхары, гасьцінны дом маіх бацькоў, у якім ён часта спатыкаў майго сябру Івана Луцкевіча, наша супольная праца й гутаркі, — навучылі яго любіць гэты горад і край, дзе людзі яшчэ захавалі шмат сэрца й шчырасьці.*

*Вельмі шкадую, што нічога не магу падаць пра др. Альбэрта Іпэля. Калі ён вясною 1919 г. ладзіў разам зь Іванам Луцкевічам выстаўкі, я ня мела магчымасьці дапамагаць, бо мая маці ў гэты час цяжка хварэла. Гэтак я не магла ўключыць др. Іпэля ў кола маіх добрых знаёмых. Ведаю толькі, што Іван Луцкевіч вельмі цаніў супрацу й дапамогу др. Іпэля.*

*Юльляна Вітан-Дубейкаўская, Нюрнбэрг, 25 лістапада 1954 г.*

*Аляксандра Саковіч*[718]

## Прафэсар Пётра Бузук[719]

Асоба праф. Пётры Бузука[720], ягоная навуковая дзейнасьць, ягоны трагічны лёс — усё гэта, бяссумлеўна, зацікавіць ня толькі нашых навукоўцаў[721], але і ўсё беларускае грамадзтва, тым больш,

718 ***Аляксандра Саковіч*** — псеўданім Іны Рытар-Каханоўскай.

719 Беларус. № 3 (27). 7 лютага 1953. С. 3; № 4 (28). 24 лютага 1953. С. 3.

720 **Пётра Бузук** (1891–1938), літаратуразнаўца, лінгвіст, пісьменнік, педагог, прафесар. Вучыўся ў Ціраспалі, Адэсе. Працаваў у Новарасійскім універсітэце, адкуль у 1925 г. яго запрасілі ў Менск. У Інбелкульце ўзначальваў дыялекталагічную камісію. У 1930 г. арыштаваны ў справе “Саюза вызвалення Беларусі”, але праз некаторы час вызвалены. З 1931 г. дырэктар Інстытута мовазнаўства АН БССР. У 1934 г. ізноў арыштаваны і высланы ў Волагду на тры гады. Працаваў бібліятэкарам, потым выкладаў нямецкую мову ў Валагодскім педынстытуце. У 1937 г. ізноў арыштаваны і прысуджаны да расстрэлу.

721 Пра Пётру Бузука выдадзена кніга: Рамановіч, Яўгенія; Юрэвіч, Алена. П. А. Бузук: [агляд жыцця і навуковай дзейнасці вучонага-лінгвіста]. Мінск, 1969. — 101 с.

што праф. Бузук пакінуў па сабе вялікую навуковую спадчыну, запраўдны скарб у беларускай моваведнай навуцы, ды й загінуў разам з лепшымі сынамі нашае бацькаўшчыны толькі таму, што адважыўся вольна, не кіруючыся *“генэральнай лініяй партыі”* працаваць на дабро Беларусі.

Калі ня мыляюся, праф. Бузук быў запрошаны на працу ў Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт у канцы 1925 ці ў пачатках 1926 году. Да гэтага ён быў дацэнтам аднаго з адэскіх інстытутаў. Было ведама, што гэта малады навучоны-лінгвіста, які ўжо шмат зрабіў у галіне ўкраінскае моваведы.

Па прыезьдзе ў Менск праф. Бузук пачаў працаваць ня толькі ў Унівэрсытэце, але абняў таксама кіраўніцтва моваведнаю дасьледчаю працаю ў Інстытуце Беларускае Культуры. У Унівэрсытэце ён чытаў лекцыі па “Параўнальнай граматыцы славянскіх моваў”, “Дыялекталёгіі” і інш. для студэнтаў-лінгвістаў. Чытаў ён лекцыі прыгожай беларускаю мовай. Аднак трэба зазначыць, што лекцыі ягоныя ня вельмі захаплялі студэнтаў. Можа, віною гэтаму была тэма лекцыяў, можа, крыху сам лектар, а можа й студэнты, якія ў бальшыні захапляліся літаратурай. Затое сам лектар, праф. Бузук, выклікаў шмат гутарак і вялікае зацікаўленьне студэнтаў. Гаварылі, што ягоная маці была малдаванкай, а бацька — беларусам, і навет што Бузук мае сваякоў па бацьку ў Бабруйшчыне. Ці было так запраўды — ня ведаю.

Цікавасьць да сябе й гутаркі выклікаў праф. Бузук і сваім даволі арыгінальным шлюбам. Хутка пасьля прыезду ў Менск ён неяк апынуўся ў гасьцёх у аднае працаўніцы 1-га Беларускага Дзяржаўнага Тэатру[722]. Гасьцей было шмат. Гэта быў усё шумны й вясёлы тэатральны народ. Бузук, які быў вельмі гутарлівы, чуўся ня менш вясёла за рэшту гасьцей. Але неўзабаве ён сьцішыўся. Праз акно пакою ён пабачыў на ганку дзяўчынку, што гуляла з кацянём, ня ведаючы, што за ёй назіраюць. Ейная прыгажосьць і грацыя так захапілі ўражлівага Бузука, што ён не хацеў адыйсьці ад акна, навет калі гаспадыня прыйшла клікаць гасьцей да стала. Выявілася, што зграбная дзяўчынка — малодшая 16-гадовая сястра гаспадыні. Яе паклікалі да гасьцей, пазнаёмілі з Бузуком і пасадзілі побач. Нехта пачаў іх жартам сватаць. Праз колькі тыдняў яны пажаніліся.

---

[722] **Беларускі дзяржаўны тэатр** (БДТ-1) быў адкрыты ў 1920 г. у будынку Менскага гарадскога тэатра. Цяпер гэта Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы.

Праф. Бузук прыехаў на Беларусь у слаўную пару нязвычайнага ўздыму творчых сілаў беларускага народу. Бальшавізм, накіданы гвалтам, ня меў зусім прыхільнікаў сярод беларусаў. Прадстаўнікі бальшавіцкай улады ў вялікай бальшыні былі чужынцамі, якія ня ведалі ні жыцьця, ні патрэбаў беларускага народу. Панавалі ў тую пару й сярод беларускага народу й сярод інтэлігенцыі нацыянал-дэмакратычныя ідэі, якія мелі на Беларусі глыбокія гістарычныя традыцыі. Шмат хто навет верыў, што існуе магчымасьць пераросту нацыянал-дэмакратызму над камунізмам. Беларускія культурныя працаўнікі, воляю лёсу раскіданыя тады па ўсім сьвеце, сьцягваліся на бацькаўшчыну. Нашыя навукоўцы й мастакі не шкадавалі сілаў, і кажны з радасьцю аддаваў плады свайго творчага генія на дабро адроджанай краіны. Адна па аднэй паўставалі й расьлі беларускія высокія школы. Побач зь іншымі культурна-асьветнымі ўстановамі вырас у вышэйшую навуковую ўстанову й Інстытут Беларускае Культуры. Моваведамі ІНБК-ту, дзе працаваў і праф. Бузук, за параўнальна кароткі час было зроблена вельмі шмат. У 1926 годзе ў іх паўстала думка склікаць Акадэмічную Канфэрэнцыю па рэформе беларускага правапісу. Ім хацелася прарабіць гэткую працу ў галіне беларускай моваведы, каб яна стала набыткам усяго славянскага сьвету, каб у выніку гэтае працы і сама беларуская мова па праву заняла між іншых славянскіх моваў належнае ёй пачэснае месца.

14-га лістапада 1926 году Акадэмічная Канфэрэнцыя была скліканая. На яе былі запрошаныя й прыехалі ня толькі прадстаўнікі ўкраінскае й расейскае моваведнае навукі, але й моваведы-славістыя з Польшчы, Нямеччыны, Летувы і Лацьвіі. Былі сярод гасьцей і нашыя культруныя дзеячы з эміграцыі: Ластоўскі, Езавітаў, Жылка[723] і інш. Тыя-ж, што хоць і былі запрошаныя, але не маглі прыехаць — прыслалі Канфэрэнцыі свае прывітаньні й заўвагі што да беларускага правапісу і абяцадла. Былі лісты з заўвагамі ад прафэсароў Адольфа Чорнага[724] й Ляцкага[725] (Чэхаславаччына),

---

[723] **Уладзімір Жылка** (1900–1933), паэт, перакладчык. У 1923–1926 гг. вучыўся ў Чэхіі на гісторыка-філалагічным факультэце Карлавага ўніверсітэта ў Празе. У 1926 г. пераехаў у БССР. Быў сябрам згуртавання “Узвышша”, працаваў у газеце “Звязда”. Арыштаваны ў 1930 г. Памёр у лагернай бальніцы.

[724] **Адольф Чэрны** (чэш. *Adolf Černý*, 1864–1952), чэшскі паэт, публіцыст, прафесар славістыкі, заснавальнік і рэдактар часопіса “*Slovanský přehled*”.

[725] **Аўген Ляцкі** (1868–1942), гісторык літаратуры, крытык, збіральнік беларускага фальклору. Ад 1922 г. жыў у Празе. Узначальваў кафедру ў Карлавым універсітэце.

праф. Сьвяньціцкага[726] й Бадуэна-дэ-Куртэнэ (Польшча), акад. Ляпунова[727] (РСФСР), праф. Цімчанка[728] і А. Курылы[729] (Украіна) ды інш.

У Канфэрэнцыі прынялі ўдзел блізу ўсе выдатнейшыя славістыя. Гэта надавала ёй агульна-славістычны характар. Кажны беларус разумеў, што гэта “*Першае сьвята беларускае навуковае думкі*” (як назваў канфэрэнцыю ў сваёй прамове паэт Ул. Жылка) і кажны ганарыўся й цешыўся з гэтага.

У прыгожа прыбранай беларускімі нацыянальнымі сьцягамі залі (партрэт Леніна быў зьняты са сьцяны Я. Лёсікам і вынесены з залі “*каб не абражаць пачуцьці замежных гасьцей*”). 14-га лістапада праф. Ігнатоўскі адчыніў Канфэрэнцыю. Ні прывітальных тэлеграмаў ад бальшавіцкіх “правадыроў”, ні няшчырых “падзякаў” ня было. Госьці віталі адно беларускую навуку, беларускі народ. Заля была перапоўненая. Тут можна было пабачыць красу і ўсяе беларускае навукі й беларускага мастацтва: праф. Ігнатоўскага, Язэпа Лёсіка, А. Цьвікевіча, паэтаў Дубоўку і Жылку, братоў Гарэцкіх[730], С. Некрашэвіча[731], Ластоўскага і шмат іншых, якія ўсе пазьней без пары загінулі. Быў на Канфэрэнцыі й праф. Бузук як адна з найбольш дзейных ейных асобаў. Ягоны даклад “Беларуская мова сярод іншых славянскіх моваў” выклікаў вялікае зацікаўленьне. Параўноўваючы факты, якія набліжаюць беларускую мову да іншых

[726] **Іларыён Свянціцкі** (укр. *Іларіон Свєнціцький,* 1876–1956), украінскі этнограф, доктар філалагічных навук. Стваральнік і першы дырэктар Нацыянальнага музея ў Львове. Ад 1914 г. працаваў на кафедры славянскай філалогіі Львоўскага ўніверсітэта. У 1926 г. быў запрошаны да ўдзелу ў Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе правапісу ў Менску, але прыехаць не змог, даслаў прывітанне.

[727] **Барыс Ляпуноў** (рус. *Борис Ляпунов*, 1862–1943), рускі і савецкі лінгвіст-славіст. У 1924–1929 гг. прафесар у Леніградскім дзяржаўным універсітэце.

[728] **Аўген Цімчанка** (укр. *Євген Тимченко*, 1866–1948), украінскі савецкі філолаг-русіст, украініст. Акадэмік АН УССР. У 1918–1932 гг. прафесар Кіеўскага ўніверсітэта.

[729] **Алена Курыла** (укр. *Олена Курило*, 1890 — пасля 1946), украінская мовазнаўца, дыялектолаг, аўтар падручнікаў па ўкраінскай мове. Ад 1921 г. працавала ў Інстытуце ўкраінскай навуковай мовы АН УССР.

[730] Маюцца на ўвазе Максім Гарэцкі і **Гаўрыла Гарэцкі** (1900–1988), геолаг, географ, эканаміст, грамадскі дзеяч.

[731] **Сцяпан Некрашэвіч** (1883–1937), мовазнаўца, адзін з арганізатараў акадэмічнай навукі Беларусі.

славянскіх моваў, ён адкінуў тэорыю радаводнага дрэва і, карыстаючыся тэорыяй хваляў, давёў самастойнасьць беларускае мовы. У сваім дакладзе ён, між іншага, сказаў: «*Некаторыя славістыя, скіраваўшы ўвагу на цэнтральнае палажэньне славацкай мовы сярод трох іншых славянскіх моваў, падкрэсьлівалі яе цікавасьць, якая зьяўляецца вынікам гэтага цэнтральнага становішча ўспомненай мовы. Але бясспрэчна, каб для гэтых мовазнаўцаў беларуская мова ня была "наречием единого русского языка", яны тое самае павінны былі-б сказаць і адносна нашай (падчыркнена аўтарам) мовы, якая знаходзіцца паміж польскай, украінскай і дзьвума падмовамі расейскае мовы*» ("Матар'ялы Акадэмічнае Канфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі", Менск, 1927 г., стар. 5).

Тады нікога не зьдзівіла, што праф. Бузук, гаворачы аб беларускай мове, ужыў слова "*нашая*", бо ён, як і ўсе беларусы, адчуваў сябе гаспадаром на Канфэрэнцыі. Ён разам з усімі даводзіў навукова, якую багатую культурную спадчыну мае Беларусь, і як шмат можа зрабіць народ, калі аддана працуе на дабро і адраджэньне свае Бацькаўшчыны.

Я вельмі добра памятаю праф. Бузука ў тыя дні на канфэрэнцыі. На агульных паседжаньнях, якія адбіваліся ў вялікай залі клюбу, ён увесь час сядзеў побач з украінскім дэлегатам Німчынавым[732], ажыўлена перамаўляючыся зь ім і рэагуючы на кажны выступ. А паміж імі маўклівая, крыху як-бы засмучаная, сядзела маладзенькая жонка Бузука. Запраўды, яна мела нязвычайна прыгожыя, тонкія, клясычныя рысы твару. Гэткія твары мы нярэдка сустракаем у беларускіх жанчын Наваградчыны, адкуль паходзілі ейныя бацькі. Яна моўчкі ўсьміхалася, калі муж ці Німчынаў зьвярталіся да яе, але ейныя сьветла-блакітныя вочы заставаліся невясёлыя. Ды й на самой справе, ці магло што цікавіць на Канфэрэнцыі гэтую жанчынудзіця? Ці разумела яна наагул зацікаўленьні свайго мужа? Ня думаю. Але Бузук чуўся ў сямейным жыцьці шчасьлівым. Ведаю, што ў 1927 годзе ў часе экспэдыцыі на паўдзённа-ўсходнія межы Беларусі, якая адбывалася пад кіраўніцтвам праф. Бузука і ў якой прыймалі ўдзел мае блізкія сябры-студэнты, Бузук часта прызнаваўся, што добра мець наіўную й пяшчотную маладую жонку. Праўда, хлапцоў тады крыху дзівіла гэтая адчыненасьць прафэсара.

---

[732] **Канстанцін Нямчынаў** (укр. *Кость Німчинов*, 1898–1937), украінскі мовазнаўца, славіст. У 1920-я гг. прафесар у Харкаўскім інстытуце народнай асветы.

У тую шчасьлівую паласу свайго жыцьця праф. Бузук зрабіў вельмі шмат для беларускай моваведы. Кажнае лета (1926, 27 і 28 гады) ён кіраваў дыялектычнымі экспэдыцыямі па Беларусі, і мы маем з тых год цэлы шэраг ягоных друкаваных працаў: “Да характарыстыкі паўночна-бел. дыялектаў. Гутаркі Нэвэльскага і Вяліскага паветаў”, Менск, 1926; “Аснаўныя пытаньні мовазнаўства”, Менск, 1926; “Да гісторыі прадгістарычнай эпохі славянскай фонэтыкі”, т. 1, “Зборнік Аддзелу Мовы і Літаратуры Інбелкульту”; “Мова і правапіс твораў Якуба Коласа”, Менск, 1926. Тады-ж была падрыхтаваная і адданая ў друк “Лінгвістычная геаграфія Беларусі”, ілюстраваная 20-ма картамі. У пэрыядычных выданьнях таго часу таксама друкавалася вялікая колькасьць ягоных артыкулаў: “Асаблівасьці мовы Цішкі Гартнага”, «Увагі аб мове і стылю “Маладнякоўцаў”», “Аб беларуска-ўкраінскім літаратурным пабрацімстве” і шмат іншых. Апрача таго ён друкаваў і вершы пад псэўданімам П. Росіч ці проста Р-ч. У “Маладняку”[733] за за 1927–28 гг. можна знайсьці гэткія ягоныя вершы як “Здрада”, “Зіма ў Беларусі”, “У Крыме” і апавяданьні “Радасьць за ісьціну”, “Алімэнты”.

Я цяпер не магу дакладна пераказаць зьмест ягоных вершаў, але ведаю, што ў сваёй бальшыні гэта была лірыка, якая лічылася намі, студэнтамі, ня вельмі каштоўнай. Калі мы высака цанілі навуковыя творы й дасьледваньні праф. Бузука — дык аб вершах ягоных жартам гаварылі, што *“Бузук гуляе ў вершы”*. Тут, у Нью-Ёрскай Публічнай Бібліятэцы, ёсьць толькі адзін зь ягоных вершаў, прысьвечаны Янку Купалу й надрукаваны ў “Полымі”[734].

Але ў Беларусь прыйшлі Трыццатыя гады — цёмная пара нашае гісторыі, калі беларуская навука была разгромленая, калі лепшыя інтэлектуальныя сілы Беларусі былі бязьлітасна вынішчаныя, калі беларускаму народу пачалі гвалтам *“устаўляць мазгі”* на бальшавіцкі лад, калі альфай і амэгай усяго жыцьця сталіся “*Ўказаньні Таварыша Сталіна*”. Тымчасам некаторыя беларускія ідэйныя навукоўцы і дзеячы засталіся на волі. Між імі быў і праф. Бузук. Палажэньне іхнае было нялёгкае. Яны ведалі, што за кажным іхным крокам сочаць і што кажнае часіны яны могуць быць

[733] **“Маладняк”** — літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс, які выдаваўся ў Менску ў 1923–1932 гг.

[734] **“Полымя”** — літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс, што выдаецца ў Менску ад 1922 г.

арыштаваныя. Да таго іх мучыла й тое, што іхныя блізкія сябры пакутуюць ці загінулі, у той час, як яны, быццам здраднікі, застаюцца на волі. Гэткія ўмовы, бяссумлеўна, ня былі стымулам для творчай працы, і пачынаючы ад 1931 году праф. Бузук нічога ня друкуе. Затое ў бальшавіцкім друку аб ім пачынаюць пісаць.

Рэзкую крытыку навуковых тэорыяў і дапушчэньняў праф. Бузука мы знаходзім у дакладзе В. Баркоўскага[735] "Бойкі на мовазнаўчым фронце", прачытаным у Інстытуце Мовазнаўства Беларускае Акадэміі Навук 5-га лютага 1931 г. У часапісе "Савецкая краіна"[736], які пачаў выдавацца, пачынаючы ад 1931 г. Беларускай Акадэміяй Навук заместа краязнаўчага часапісу "Наш Край"[737], друкуюцца артыкулы: "Контр-рэвалюцыйная дзейнасьць беларускіх дэмакратаў у галіне мовы", "Мовазнаўства як сродак клясавай барацьбы ў руках беларускіх нацыянал-дэмакратаў" і інш. Ці мог запраўды навуковец займацца навукова-творчай працай у Акадэміі, дзе... навукова-дасьледчая дзейнасьць Акадэміі навук павінна выходзіць з указаньняў, даных у лісьце тав. Сталіна (Пастанова ЦК КП(б)Б, "Савецкая Краіна", нум. 1-шы, Менск, 1932, стар.1)? І Бузук, які так шмат зрабіў для беларускае навукі за 1926–29 гады, па-праўдзе, нічога ня даў у 1930–33 гадох.

Толькі ў "Савецкай краіне" нум. 12 за 1931 год пад артыкулам "Год працы Інстытуту Мовазнаўства БАН", падпісаным трыма асобамі, знаходзім мы й імя праф. Бузука: "*Барацьба за марксісцкаленінскае мовазнаўства зьяўляецца асноўнай задачай лінгвістаў БССР. Галоўная задача Інстытуту мовазнаўства БАН — праводзіць моўную палітыку пад кіраўніцтвам партыі ў кірунку, указаным тав. Сталіным на XVI зьезьдзе ЦК КП(б)Б*" ("Савецкая краіна", нум. 12, 1931, стар. 86).

Гэтыя колькі радкоў вычарпальна характарызуюць зьмест артыкулу і абставіны, у якіх вымушаны быў працаваць апошнія гады праф. Бузук.

Увосені 1933 г. у стэнаграме выступленьня 2-га сакратара ЦК КП(б) Беларусі Шаранговіча, надрукаванай у газэце "Зьвязда", га-

[735] **Віктар Баркоўскі** (1900–1982), мовазнаўца, прафесар, доктар філалагічных навук (ад 1950). У 1930-я гг. працаваў у Магілёўскім педагагічным інстытуце, выступаў па пытаннях рэформы правапісу.

[736] **"Савецкая краіна"** — беларускі краязнаўчы часопіс, які выходзіў у 1930–1933 гг. як спадчыннік часопіса "Наш край".

[737] **"Наш край"** — краязнаўчы часопіс, які выдаваўся ў Менску ў 1925–1930 гг.

варылася аб новым памацненьні нацыянальных ухілаў. Праф. Бузук называўся ў стэнаграме беларускім нацыянал-дэмакратам. Хутка пасьля гэтага праф. Бузук быў арыштаваны, але праз нейкі час адпушчаны з турмы. Якою цаною дасталася яму воля — няведама. Толькі быў гэта ўжо не даўнейшы Бузук. Ён стаўся маўклівым, адсоўваўся ад людзей. Часта яго бачылі на могілках. Ён хадзіў паміж магілкамі, гутарачы сам з сабой, ці гадзінамі сядзеў на лавачцы, ахапіўшы галаву рукамі. Што яго мучыла?

Разьвязка надыйшла неўзабаве. Праф. Бузук абліўся газаю й падпаліў сябе. Яго адратавалі, але арыштавалі ізноў. І ягоная сям'я ўжо нічога аб ім ня чула.

У апошнюю вайну мне давялося спаткаць ягоных дзяцей. Іх было трое — дзьве дзяўчынкі й хлопчык. Маці іхная перад самай вайной выехала зь Менску на поўдзень лячыцца, і вайна разлучыла яе зь дзецьмі, якія засталіся з цёткай. Адна з дзяўчатак была маёй вучаніцай. Як дзіця, рана пазбаўленая бацькі, яна із пачуцьцём успамінала яго. Але ўсе ейныя апавяданьні аб ім тычыліся галоўным чынам таго, як тата быў вясёлы, як ён любіў гуляць ізь імі, як ён вазіў яе, малую, разам ізь сястрою на плячох…

У мяне было ўражаньне, што дачка блізу ня ведала аб выдатных навуковых працах свайго бацькі і тым, якую каштоўную навуковую спадчыну ён пакінуў па сабе.

*Уладзімер Клішэвіч*

## Пра Ўладзімера Хадыку[738]

Ст. Крушыніч[739] у артыкуле "Рэгабілітацыя Ўладзімера Дубоўкі"[740] на аснове таго, што Ўладзімер Хадыка[741] рэгабілітаваны і "*аднаўлены ў правах сябры СП БССР*", прыходзіць да высснаву, што Ўл. Хадыка жыве. Ст. Крушыніч паклікаецца на Ант. Адамовіча

[738] Бацькаўшчына. № 18 (404). 4 травеня 1958. С. 2–3.

[739] Ст. Крушыніч — псеўданім Станіслава Станкевіча.

[740] Крушыніч, Ст. Рэгабілітацыя Ўладзімера Дубоўкі // Бацькаўшчына. № 14–15 (400–401). Вялікдзень 1958. С. 5.

[741] **Уладзімір Хадыка** (1905–1940), паэт, перакладчык. Друкаваўся ад 1926 г. Сябра "Маладняка". Працаваў у часопісе "Полымя". Аўтар кніг "Суніцы"

й на Ю. Віцьбіча, што яны прытрымліваюцца вэрсіі быццам Хадыка памёр і што такое *“пераконаньне панавала ў вольным сьвеце”*.

Дык я хачу паўтарыць тое, што было напісана мною вясной 1942 г. яшчэ дома ў менскай беларускай прэсе.

Вестку аб сьмерці Ўл. Хадыкі прынёс на Бацькаўшчыну ня хто іншы, як я — аўтар гэтых радкоў. Мы перазімавалі зіму 1937 году й пачатак 1938 году ў лягеры Новая Іванаўка, 70 кілямэтраў на поўдзень ад гор. Марыінску, у Сібіры.

У гэтым лягеры былі: Ул. Хадыка, Алесь Звонак[742], Сяргей Знаёмы[743], Сымон Баранавых[744], Барыс Мікуліч[745], Шушкевіч[746], М. Сяднёў[747],

---

(1926), “Выбраныя вершы” (1932), “Радасны будзень” (1935). У 1936 г. арыштаваны і адпраўлены ў ГУЛАГ. Загінуў у лагеры.

742 **Алесь Звонак** (сапр. **Пётр Звонак**, 1907–1996), паэт, сцэнарыст, перакладчык. Друкаваўся ад 1925 г. Працаваў у газетах “Чырвоная Полаччына”, “ЛіМ”, часопісе “Маладняк”, на Беларускім радыё. У 1936–1954 гг. — у сталінскіх лагерах. Ад 1955 г. жыў у Мінску. Аўтар кніг “Буры ў граніце” (1929), “На лінію агню” (1932), “Мая Радзіма” (1935) і інш.

743 **Сяргей Знаёмы** (сапр. **Сяргей Клопаў**, 1909 — пасля 1944), журналіст, празаік, паэт. Друкаваўся ад 1929 г. Сябра Саюза пісьменнікаў СССР ад 1934 г. У 1936 г. працаваў літаратурным рэдактарам на Беларускім радыё. Тады ж арыштаваны і ў 1937 г. прысуджаны да 8 гадоў зняволення. Паводле некаторых звестак, уцёк з лагера на Калыме. Далейшы лёс невядомы.

744 **Сымон Баранавых** (сапр. **Сымон Баран**, 1900–1942) празаік, дзіцячы пісьменнік. Удзельнік літаратурных аб’яднанняў “Маладняк” і БелАПП. Працаваў у Беларускім радыёцэнтры, быў адказным сакратаром часопіса “Беларусь калгасная”. Сябра СП СССР ад 1934 г. У 1936 г. арыштаваны і ў 1937 г. прысуджаны да 10 гадоў зняволення. Загінуў у лагеры на Калыме.

745 **Барыс Мікуліч** (1912–1954), празаік, крытык. Працаваў карэктарам і рэдактарам у выдавецтве, адказным сакратаром газеты “Літаратура і мастацтва”. Сябра “Маладняка” ад 1928 г., СП БССР ад 1934 г. Арыштаваны ў 1936 г. і праз год асуджаны да 10 гадоў лагераў. У 1943 г. атрымаў статус ссыльнага. У 1947 г. вярнуўся ў Беларусь, дзе з яго была знятая судзімасць. Паўторна арыштаваны ў 1949 г., высланы ў Сібір на вечнае пасяленне. Рэабілітаваны праз тры месяцы пасля смерці. Асноўныя яго творы былі апублікаваныя пасмяротна.

746 **Станіслаў Шушкевіч** (1908–1991), паэт, перакладчык. Сябра “Маладняка” ад 1926 г., працаваў у Кніжнай палаце і Дзяржаўнай бібліятэцы БССР, газеце “Літаратура і мастацтва”. Арыштаваны ў 1936 г., асуджаны да 8 гадоў пазбаўлення волі. У 1937–1946 гг. знаходзіўся ў лагеры і высылцы ў Кемераўскай вобласці, пасля чаго вярнуўся ў Беларусь.

747 Масей Сяднёў у 1936 г. быў арыштаваны і прыгавораны да зняволення, якое адбываў на Калыме. У 1941 г. быў вернуты ў Мінск на перагляд справы.

Тодар Лебяда[748], Апанас Куляшоў[749], Кастусь Суднік[750], Хама Марцыновіч[751], на Цэнтральнай быў Каплеўскі[752].

25 траўня 1938 году некаторых з нас накіравалі этапам на Калыму. Сюды папалі: Алесь Звонак, Сяргей Знаёмы, Масей Сяднёў і інш. Ул. Хадыка, Тодар Лебяда, Апанас Куляшоў і іншыя засталіся ў Новай Іванаўцы.

Ад г. Марыінску да Ўладывастоку мне давялося ехаць сумесна з Алесем Звонакам. Спалі мы разам, бо ўдалося захапіць ніжнія нары, і так мы зь ім не разлучаліся ўсю дарогу. Шмат аб чым давялося мне гутарыць з А. Звонакам. Памятаю, ён мне чытаў верш “Слупы гудуць” Ул. Хадыкі.

У Новай Іванаўцы А. Звонак, Шушкевіч, Сяргей Знаёмы працавалі ў брыгадзе нейкага Андрыяна. Разам зь ім працаваў нехта Маеўскі — Беларус з Гомельшчыны.

У чэрвені 1940 г., калі мяне вязьлі з Калымы назад у менскую турму, я выпадкова сустрэў Маеўскага. Мы хутка адзін другога пазналі. Я пачаў распытваць у Маеўскага навіны. Ён мне расказаў, што хутка пасьля нашага ад’езду іх многіх сабралі на іншы этап і накіравалі да Байкалу. Разам з Маеўскім у гэтым самым этапе быў і Ўл. Хадыка. Працавалі яны на пабудове чыгункі. Вось амаль даслоўна, што сказаў Маеўскі:

*“12 траўня 1940 г. выйшлі на працу. Раскопвалі гару. Вялікі камень скаціўся зь верху. Хадыка не пасьпеў з прычыны слабасьці ад-*

---

748 **Тодар Лебяда** (сапр. **Пятро Шырокаў**, 1914–1970), паэт, драматург, журналіст. У 1930-я гг. рэпрэсаваны савецкімі ўладамі. У 1943 г. ягоная драма “Загубленае жыццё” была пастаўленая на сцэне менскага гарадскога тэатра і карысталася вялікім поспехам. Ад лета 1944 г. — у Нямеччыне. У 1945 г. вярнуўся ў Беларусь, арыштаваны органамі МДБ і асуджаны на 25 гадоў лагераў.

749 Магчыма, маецца на ўвазе **Апанас Куляшоў** (1913–?), студэнт 4-га курса Вышэйшага педінстытута. Арыштаваны ў 1936 г. і ў 1937 г. прысуджаны да 5 гадоў зняволення.

750 Магчыма, маецца на ўвазе **Канстанцін Суднік** (1910–?), студэнт 4-га курса Вышэйшага педінстытута. Арыштаваны ў 1936 г. і прысуджаны ў 1937 г. да 6 гадоў зняволення.

751 Магчыма, маецца на ўвазе **Фама Марціновіч** (1913–?), студэнт 4-га курса Вышэйшага педінстытута. Арыштаваны ў 1936 г. і ў 1937 г. прысуджаны да 5 гадоў зняволення.

752 Магчыма, маецца на ўвазе **Якаў Каплеўскі** (1909–?), студэнт 4-га курса Вышэйшага педінстытута. Арыштаваны ў 1936 г. і прысуджаны ў 1937 г. да 6 гадоў зняволення.

*скочыць, і [камень] пахаваў пад сабою Хадыку. Ні слова не прамовіў. Я яго там пахаваў і на магіле паставіў драўляны крыж*".

Гэтая сумная навіна мяне глыбака кранула. Толькі вясною 1942 г. Бацькаўшчына даведалася гэтую навіну. Вось зь якой крыніцы чэрпаў матар'ял і Ант. Адамовіч, і Ю. Віцьбіч. Ня хочацца верыць, што Маеўскі хлусіў, бо ў гэтым ня было ніякай патрэбы, а тым больш, што ён адзіны быў жывым сьветкам трагічнай сьмерці паэты. Наадварот, Маеўскі як хрысьціянін падчыркнуў, што ён на магіле паставіў крыж. Нельга было не паверыць гэтаму чалавеку. Аб такіх рэчах зьняволеныя ня хлусяць.

Я не настойваю на тым, каб пахаваць паэту. Калі толькі Ўл. Хадыка ў запраўднасьці жыве й піша, дык ён за гэта прабачыць, і лягенда аб ягонай сьмерці адпадае сама сабой. Калі-ж Ул. Хадыкі няма ў жывых, дык мы, Беларусы, у 18-ю гадавіну ягонай сьмерці павінны ўшанаваць ягоную памяць 12 траўня — дзень яго трагічнай сьмерці.

7 красавіка, 1958. Каліфорнія.

*Сымон Брага*

## Ад сіняга неба да шэрай зямлі
### Трыццацілетні творчы шлях Натальлі Арсеньневай[753]

*Усё, што у сэрцы жыве і пяе —*
*Вершы мае…*

Н. Арсеньнева

### Першыя акорды

*Як ня любіць мне восень залатую,*
*Калі праз вопратку асін густую*
*Тон прабіваецца чырвоны — слаўны тон —*
*І ў золаце стаіць маўклівы, пышны клён?*

[753] Бацькаўшчына. № 11–12 (90–91). 25 сакавіка 1952. С. 4–5; № 14 (93). 6 красавіка 1952. С. 3–4.

Вось першыя мастацкія акорды, зь якімі Натальля Арсеньнева паяўляецца ў нашай літаратуры 30 гадоў таму. Так пачынаецца ейны першы друкаваны і адзін зь першых напісаных наагул вершаў — “Восень”.

Гэты абраз маестатычнай у сваёй задумнай красе восені з выноснымі, залітымі золатам і яркаю чырваньню, маўклівымі клёнамі ды асінамі, гэтае выражанае ў вершы захапленьне красою прыроды зьяўляюцца характэрнымі для першай, пачатковай пары літаратурнай творчасьці Арсеньневай. Аддаць, адбіць у сваіх творах усю гармонію навакольных хварбаў і гукаў паэтка і ставіць сабе за галоўную мастацкую задачу.

*Сонца вясьняныя першыя косы,*
*Грукат крыніцаў і раньнія росы,*
*Восені жоўта-чырвонай адцені,*
*Смуткі зьмярканьня, начы лятуценьні,*
*Сэрца развагі і сэрца парывы,*
*Песьні, што ўлетку плывуць панад нівы,*
*Плач лясуна, карагод русалчыны,*
*Чары і звады начное часіны,*
*Смутнай балотніцы сьмех, прычытаньне,*
*Роднай старонкі ціхое каханьне,*
*Усё, што ў сэрцы жыве і пяе, —*
*Вершы мае…*

Такое мастацкае “крэдо” і праграма, якім Арсеньнева пачынае свой першы зборнік вершаў з 1927 г. “Пад сінім небам”.

Пра *“восені жоўта-чырвонай адцені”* ды *“сонца вясньняныя першыя косы”*, пра красу прыроды Беларусі наагул, пэўна-ж, пісалі ў нас і раней нашыя паэты-нашаніўцы. Ды ў іхных апісаньнях цяжка знайсьці той узвышаны, мажорны тон малярскага захапленьня харaством роднае зямлі, як гэта сустракаем у Арсеньневай. Пераважаючы, тыповы для іх, абраз нашай зямлі, гэта бедная краіна з шэраю, няцікаваю прыродаю. Нават і краса ейная апеівалася звычайна з тыповым нашаніўцам сэнтымэнтальным, сьлязьлівым расчуленьнем. Падыход такі склаўся не бяз выдатнага ўплыву ведамага расейскага народніцтва.

Як бачым, у зусім іншыя тоны ўдарае Натальля Арсеньнева з сваіх першых мастацкіх акордаў. Не сьлязьлівая расчуленасьць ды

бядавальніцкі сум, а гордае захапленьне з хараства бацькаўшчыны стаюцца аснаўнымі рысамі пясьнярскай творчасьці Арсеньневай. Ня кволы, расчулены пэсымістычны сэнтымэнталізм, а жыцьцярадасны жыцьцёвы аптымізм — лейтматыў мастацкага сьветаадчуваньня паэткі.

Гэтае, у прынцыпе аптымістычнае супроцьлежнае нашаніўцам сьветаадчуваньне, якое стала пазьней характэрным для ўсёй творчасьці пясьняркі, і вызначае для новай паэткі зразу месца не сярод нашых нашаніўцаў, а між пісьменьнікамі новай літаратурнай пары міжваенных гадоў, якая дагэтуль ня мае яшчэ нажаль свайго назову ў гісторыі нашай літаратуры.

Вельмі мала, амаль зусім няма, у першым зборніку вершаў грамадзкіх; у вершах настраёвых пераважна таксама скарыстаныя вершы-вобразы прыроды. Каля палавіны зборніка займае затое вялікі разьдзел — “Зачараваны кут”. У ім памешчана каля дзесяці даўжэйшых вершаваных паэмак — насьледваньня і перапрацовак народных казак, легэндаў, апавяданьняў у духу Багдановічавай “Старой Беларусі”. Самыя назовы гэтых паэмак характэрныя: “Зачараваны кут”, “Балотніца”, “Плач старога лясуна”, “Сны”, “Лебядзінае возера” і г. д.

Гэтым разьдзелам Арсеньнева фактычна складала яшчэ сваю дань папярэдняй літаратурнай пары, якая асабліва любавалася рамантычнаю тэматыкаю з народнай легендарнай творчасьці, народнай міталёгіі, народных казак. Трэба не забывацца, што хросным бацькаю Арсеньневай у літаратурнай галіне быў настаўнік гісторыі беларускай літаратуры ў Віленскай Беларускай Гімназіі, у якой яна вучылася, нашанівец, ведамы пісьменьнік-празаік і першы гісторык нашай літаратуры — Максім Гарэцкі. На ягоныя гэта рукі нясьмела складала свае першыя вершы маладая паэтка. Ад яго яна мела й першае цэннае слова настаўніцкай крытыкі й рады. “*Гарэцкі навучыў мяне паважна і крытычна ставіцца да кажнага слова й цаніць мову, ейную чысьціню і прыгажосьць*”, — кажа сама Арсеньнева.

Першы зборнік спаткаў прыхільна й нашаніўскі крытык Антон Навіна. Ён падчыркнуў высокі мастацкі ўзровень вершаў, хараство апісаньняў прыроды, высокія музыкальныя якасьці, а таксама некаторую замкнёнасьць у сваёй паэтычнай краіне “*фантазыі й хараства, дзе пануе непадзельна музыка гукаў*” (А. Навіна. Адбітае жыцьцё. Вільня, 1929).

Зь літаратурных папярэднікаў на зборніку заўважаюцца выразныя ўплывы ў тэхніцы й падборы тэматыкі нашаніўскага нашага майстры формы, *“пясьняра чыстай красы”*, другога Максіма — Багдановіча. Пад выразным ягоным уплывам паўстаў перадусім цэлы апошні разьдзел зборніка — “Зачараваны кут”. Але і тут адчуваецца пругкая індывідуальнасьць маладой паэткі, якая шукае й пракладае свае арыгінальныя шляхі ў афармленьні таго самага народнага легендарнага матар’ялу.

### *Гады працы, росту і — адзіноты*

Гімназыяльныя й першыя пасьлягімназыяльныя гады плоднай літаратурнай працы, вынікам якіх і быў першы зборнік “Пад сінім небам”, хутка аднак абрываюцца. “Хроснага бацьку”, М. Гарэцкага, за актыўную нацыянальную дзейнасьць палякі выкідаюць за межы свайго *“моцарства”*[754]. З другой стараны, сам ход жыцьця кладзе ўсё большыя, ды зусім не літаратурныя, задачы і вымаганьні. У 1922 г. пясьнярка выходзіць замуж. Два гады пазьней яна ўжо маці двух сыноў.

Другая, вельмі неспрыяючая творчасьці рэч, — пясьнярка жыцьцёва-палітычнымі абставінамі змушаная пакінуць Вільню — культурна-нацыянальны цэнтр усяго духовага жыцьця Заходняй Беларусі. А да Вільні яна была моцна прывязаная ад дзён свайго маленства. Аб гэтай *“крывіцкай Мэцы”* — кажучы словамі Жылкі — вось пра што гавора нам сама пясьнярка: *“Вільню я лічу сваёй праўднай бацькаўшчынай, бо толькі тут я пачала памятаваць сябе, пачала жыць сьведамым жыцьцём; тут я вырасла, вучылася, пазнала добрае й благое, і гора, і радасьць. Вільню я люблю і па ёй толькі сумую”*. У вершы “Вечар у Вільні” (“Сягоньня”), пісаным у самой Вільні ўжо ў 1944 г., знаходзім і такія шматгаворачыя радкі:

*Манюся тут сваю апошнюю зару*
*Я сустракаць, адсюль — пайсьці адвечным шляхам.*

І вось гэтую каханую Вільню даводзіцца кідаць, спачатку для малога Слоніма, а пазьней, ад 1924 г., праз цэлых 13 гадоў даводзіцца ўжо жыць далёка ня толькі ад Вільні, але і ад беларускай зямлі наагул, на польскім Памор’і. Праз усе гэтыя гады толькі летняю звычайна парою ды накоратка, удаецца пясьнярцы вырвацца ў Беларусь,

754 ***Mocarstwa*** (пол.) — тут: дзяржава.

каб наведаць мужаву бацькавіну ў Дорах (Валожыншчына) ды пераездам глянуць вокам і на сваю Вільню. Адарванасьць ад Вільні, ад беларускай зямлі і беларускага асяродзьдзя, а перадусім ад беларускага, хаця і сьціплага, літаратурнага жыцьця, кладзе сваё выразнае таўро на далейшую літаратурную творчасьць Арсеньневай.

Беларускае культурна-нацыянальнае жыцьцё ў Заходняй Беларусі паддаецца тымчасам усё ўзрастаючаму асыміляцыйнаму ціску Варшавы. Друк, прэса, душаныя безагляднаю паліцыйнаю рукою польскай адміністрацыі, ледзь дыхае. Літаратурных часапісаў ды выданьняў замала, каб празь іх можна было ўтрымаць нейкую жывейшую лучнасьць. І маладая пісьменьніца астаецца сама на адзіноце, далёка ад усіх, зданая на свае жаночыя сілы. Па некаторым часе адчуваецца ўжо значнае памяншэньне літаратурнай “прадукцыі”, хаця пясьнярка й намагаецца ўвесь час пісаць, намагаецца красьці час і сілы ад хатніх, сямейных абавязкаў. Асабліва малаплодныя гады 1928–34.

Ды ўсё-ж і праз гэтыя гады адчуваецца выдатны рост. Хаця вершы й нешматлікія, але яны на значна вышэйшым тэхнічным узроўні, як вершы першага зборніка. Тэматыка ў васнаўным і далей астаецца тая самая, але мастацкае афармленьне значна дасканаліцца, стае ўжо ўсё часьцей беззаганным, бездакорным. Цяпер паэтка ўжо свабодна гаспадарыць мастацка-тэхнічнымі прыёмамі вершаваньня, фармальных зрываў у ёй ужо ня сустрэць. Кажны верш кіданы свабодна і пэўна ў рытмы, разьмеры, задуманай мастацкай кампазыцыі, усё багацейшай вобразнасьці. У вершы чуецца няпрымушаная натуральная музыкальная суладнасьць. Пясьнярка выразна перастае з “пачынаючай” у “дасьпелую”.

У палавіне трыццатых гадоў літаратурны фронт Заходняй Беларусі неспадзеўкі значна ажыўляецца. Раптоўным, яркім мэтэорам на моцна захмараным палітычным небасхоне загараецца няштодзённы талент Максіма Танка[755]. Новы падыход да тэй-жа самай нацыянальна-вызваленчай тэматыкі, буйная мэтафарычная вобразнасьць паэтычнай мовы, багацьце новых тэхнічна-мастацкіх прыёмаў, нетарнаваных дагэтуль іншымі пісьменьнікамі Заходняй Беларусі, робіць адразу вялікае ўражаньне як на чытача, так і на

[755] **Максім Танк** (сапр. **Яўген Скурко**, 1912–1995), народны паэт Беларусі (1968), акадэмік АН Беларусі (1972), грамадскі і палітычны дзеяч. Паходзіў з Заходняй Беларусі і быў сябрам Наталлі Арсенневай.

самых пісьменьнікаў. Танк, гэта была моцная струя сьвежага паветра, што значна ажывіла заметны ўжо застой на літаратурным фроньце Заходняй Беларусі. Пад ягоным уплывам пераглядаюць крытычна ўсю сваю дасюлешнюю творчасьць і сваё старое тэхнічна-мастацкае аснашчэньне Міхась Машара[756] (хаця-б цыкль “Краіна сініх балот”), Міхась Васілёк[757] (“З пад стрэх саламяных”), Хведар Ільляшэвіч[758] (“Захварбаваныя вершы”). Усе перастрайваюць струны на новы лад. Не астаецца бяз гэтага асьвяжаючага, творчага ўплыву й Арсеньнева.

У выніку сутыку з творчасьцю гэтага трэцяга Максіма свайго пясьнярскага жыцьця паэтка ажывае, актывізуецца, пачынае ізноў пісаць верш за вершам і ўжо за год (1937) зьбіраецца на цэлы новы зборнік — “Жоўтая восень”. Усе бадай вершы гэтага зборніка друкаваліся па розных часапісах Заходняй Беларусі, але асобнаю кнігаю, дзеля матар’яльных перашкодаў, выйсьці яму так і не ўдалося.

## *“Жоўтая восень”*

Новы зборнік вершаў з мастацкага гледзішча вялізарны крок наперад. Па тэматыцы гэта далейшы працяг першых, прыродаапісальных, разьдзелаў “Пад сінім небам”. Мажорныя малярскія вобразы роднай прыроды пераважаюць над усім.

---

756 **Міхась Машара** (1902–1976), паэт, перакладчык, публіцыст. Пачаў свой творчы шлях у Заходняй Беларусі, дзе выдаў шэраг паэтычных зборнікаў (“На сонечны бераг”, “Напрадвесні” і інш.). Па вайне пераважна быў вядомы як празаік, паслядоўнік сацрэалістычнага канона.

757 **Міхась Васілёк** (сапр. **Міхась Касцевіч**, 1905–1960), паэт. За беларускую дзейнасць арыштоўваўся польскімі ўладамі. У 1939 г. трапіў у нямецкі палон, адкуль уцёк і далучыўся да партызанскай барацьбы. Пасля вайны працаваў у скідальскай раённай газеце “Чырвоны сцяг”, пазней — у абласной газеце “Гродзенская праўда”. Сябра СП СССР ад 1945 г.

758 **Хведар Ілляшэвіч** (1910–1948), грамадскі дзеяч, журналіст, пісьменнік. Закончыў гістарычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Падчас нямецкай акупацыі — у Беластоку, кіраваў Беларускім камітэтам, рэдагаваў штотыднёвік “Новая Дарога”. У ліпені 1944 г. выехаў у Берлін, працаваў у рэдакцыі газеты “Раніца”. У 1944 г. выдаў восем кніг з сэрыі “Народная бібліятэчка”. Пасля капітуляцыі Нямеччыны жыў у лагеры Ватэнштэт, настаўнічаў у беларускай гімназіі, апекаваўся беларускім скаўтынгам. Аўтар кніг: “Навагоднія запросіны” (1946), “У Купальскую ноч” (1946), “Песні выгнання” (1947), “Апавяданні” (1948). Загінуў у аўтакатастрофе.

З зборніка цалком зьнікае рамантычны разьдзел народных пераказаў і легендаў, хаця некалькі іх праз гэты час і было яшчэ напісана. Пашыраецца затое тэматыка ў іншым кірунку. Пясьнярка пачынае асьмельвацца выглядаць з *"васільковых палёў"* ды *"пушчы залатой"* і ў места, у *"горад празаічны"*, зь ягонай своясаблівай, зусім адменнай яркай красой ды нэрвовым рытмам жыцьця. Гэтая спроба неспадзеўкі дае вельмі добрыя рэзультаты. Чуйкая мастацкая вобразнасьць лёгка ўхаплівае адменны рытм меставога пэйзажу, а высокая ўжо мастацкая тэхніка без натугаўператаплівае гэты новы ў дасюлешняй творчасьці сьвет у сваім паэтычным гарне ды дае нам творы першараднай мастацкай якасьці (напр. "Места", "Месячнай ноччу", "Паралель").

З тэматычнага гледзішча кідаецца ў вочы адна асаблівасьць: амаль трэцяя частка вершаў зборніка прысьвечаная восені. Гэты факт падчырківаецца й самым загалоўкам зборніка. Як ведама, сваю мастацкую кар'еру пясьнярка таксама пачала вершамі аб восені ды ў першым зборніку была іх значная колькасьць. Цяпер-жа яны выразна задамінавалі над усёй тэматыкай новага зборніка.

Чаму якраз хварбы ды настроі задумнай, элегійнай восені найбольш чаравалі паэтычную вобразнасьць пясьняркі, сказаць цяжка. Але вось гэтая краса, апяяная ёю як у нікога зь іншых нашых паэтаў. Цікава будзе адцеміць, што і другой нашай пясьняркі, Ларысы Геніюш[759], мы таксама сустракаем неабыякавыя адносіны да восені. І ў ейным першым зборніку цэлы разьдзел прысьвечаны самой восені ды ейным настроям. Калі пясьнярка некалі сваімі ўжо першымі тонамі выразна й станоўка стала на новыя літаратурныя пазыцыі, супроцьлежныя ў шмат чым старэйшым нашаніўскім, дык усё-ж у зборніку "Пад сінім небам" яшчэ на кажным кроку натыкаемся й на старыя, нашаніўскія рэквізыты. Цэлы разьдзел "Зачараваны кут" пісаны цалком у духу нашаніўскага рамантызму. Нават і сярод іншых вершаў зборніка яшчэ там-сям сустрэнем, хаця і рэдкія, але тыповыя звароты, перанятыя з паэтычнага слоўніка папярэдняй літаратурнай пары. Такіх радкоў, як *"Адвечныя сьлёзы вылівае народ"*, або *"Вёскі там... гразь, саламяныя стрэхі"* не пастыдаўся-б і самы

[759] **Ларыса Геніюш** (1910–1983), паэтка, празаік, грамадская дзяячка. У міжваенны і ваенны час жыла ў Празе, адкуль была вывезеная савецкімі спецслужбамі пасля вайны. У 1949 г. прыгаворана да 25 гадоў зняволення ў лагерах. Па вызваленні жыла ў Зэльве (Гродзенская вобл.).

салідны нашанівец (прыпомнім хаця-б Коласавае *“Край наш родны, край наш бедны, гразь, балота ды пясок”*).

У ваднэй аднак галіне першы зборнік астаецца цалком на тым самым этапе разьвіцьця, як і паэзыя нашаніўская — у галіне мастацкай тэхнікі.

Зусім ня тое ў “Жоўтай восені”. Тут ужо ня толькі сваім сьветаадчуваньнем пясьнярка адыходзіць ад нашаніўскіх узораў, але і наскрозь новаю мастацкаю хвормаю верша. Ня бяз уплыву Танка, як і суседніх нам літаратураў, паэтка раптам раскрывае перад сабою новы, нязнаны дагэтуль, а так багаты сьвет новых тэхнічных магчымасьцяў, якія значна ўзбагачаюць музыкальна ейны верш, надаюць яму непараўнальна багацейшыя хвормы новай гукавой гармоніі.

Першая знаходка: пясьнярка адкрывае, што ня толькі рымамі, словамі з дакладна тымі самымі гукавымі канчаткамі, можна рымаваць вершы — што даўней было абавязываючым, амаль абсалютным канонам кажнага добрага паэты. Калі ў сваю пару Купала некалькі разоў скарыстаў з свабаднейшых рымаў, дык Яўхім Карскі ў сваіх *“Белоруссах”* адразу вытыкнуў яму гэта як недахоп, загану. Зусім новыя паняцьці й правілы вершаванай гармоніі заводзяцца ў навейшай літаратуры. Там пісьменьнікі сьведама стараюцца ўжываць побач дакладных рымаў і прыблізныя рымы, асонансы, гэта значыць рымуюць словамі з канчаткамі толькі зьбліжанымі, але не аднолькавымі. Арсеньнева, як усё нашае новае паэтычнае пакаленьне, адкрывае, што хаця рымы рэч музыкальна і прыгожая, але яны з аднэй стараны знасіліся, “прыеліся”, ды крыху аднатонныя ў параўнаньні да музыкальна багацейшых асонансаў, бо асонансы, гэта ня толькі паўтарэньне, пярэзвы таго самага, тых самых дакладных гукаў, але гэта быццам водклік акордам на акорд, дзе побач з ідэнтычнымі гукамі адзываецца разам, шалясьціць і цэлая гама блізкіх толькі гукаў, пабочных, асонуючых.

Другая навінка: паэтка намагаецца асанацыі даваць ня толькі ў канцы радка, але стараецца насыціць імі ды алітэрацыямі і ўвесь верш, ад пачатку да канца, гукавой гармоніяй заліваецца ўвесь радок. Здаралася гэта, праўда, спарадычна, і ў ранейшых паэтаў, ды цяпер гэта культывуецца з поўнай сьведамасьцяй. Прыклад: *“Вечар цені ў засенях усьпеніў... Матылём ля гурб віецца вецер, сонцу сонnаму пасьцелю сьцеле...”*.

Трэцяя розьніца — у музыкальнай ролі рытму. Музыкі кажуць, што душа музыкі, гэта рытм. Стуль і аснаўны музыкальны нэрв верша — гэта ягоны рытм. У нашай нашаніўскай паэзыі ён, адзначаны на канцы выразнымі, дакладнымі рымамі, вычуваецца вельмі выразна. Асабліва рытмічная паэзыя найбольшага з нашых нашаніўцаў, Янкі Купалы (што падцеміў ужо на пачатку ягонай творчасьці Максім Багдановіч).

У нашай навейшай паэзыі праз награмаджэньне нутраных асонацыяў, "алітэрацыяў" ды іншых музыкальных прыёмаў, а часткова і праз тарнаваньне менш рэзкіх канцавых рымаў-асонансаў, рытм верша быццам прытушаецца, прыкрываецца зьверху дадатковымі музыкальнымі прыёмамі і б'е больш глыбака, глуха, чым гэта ёсьць у нашаніўцаў. Вось у гэтым ляжыць прычына таго, што для нашага вуха тыповая нашаніўская паэзыя гучыць больш рытмічна, навейшая — больш гарманічна.

Гэта што да новай гукова-музыкальнай стараны вершаў Арсеньневай. Але паяўляецца адначасна і яркая розьніца ў самой мове вершаў, у характары ейнай вобразнасьці. Новыя пісьменьнікі праяўляюць тэндэнцыю ды амбіцыю стварацъ асобную, адмысловую *паэтычную* мову, якая да сваёй загушчанай вобразнасьцяй ды выбуялым мэтафорызмам само сабой розьнілася-б ад мовы прозы ды пазваляла-б у скупых радкох невялікага верша зачараваць магчыма вялікі ды багаты сьвет мастацкіх вобразаў і думкі.

Калі паэтычная мова нашаніўцаў, абстрагуючы ад ейных музыкальных компонэнтаў — рытму, разьмеру, рымаў, няшмат розьніцца ад нармальнай мовы прозы, дык цяпер паяўляецца нязвычайная яе мэтафорызацыя. Таму цяпер верш чытаецца часта і больш цяжка, патрэбны час ды некаторая і прыгатаванасьць, каб адчуць ягоны мастацкі сэнс, бо кажная фраза, зварот можа быць канцэнтраваным згусткам думкі або вобразаў. Стуль частае й нараканьне на *"вяжкасьць"*, *"незразумеласьць"* новых вершаў, іхную *"нямасавасьць"*. (Прыклады ў Арсеньневай: *"Вецер поўна ў гліняны гладышак нацадзіў залатое зары"*, *"Мятуць бярозы валасамі нябёс запылены дыван"*.)

Вось усе гэтыя фармальныя асаблівасьці нашай навейшай паэзыі паяўляюцца ў большай ці меншай меры і ў "Жоўтай восені" Арсеньневай. Адчуваецца, што перад пясьняркаю адкрываюцца новыя, нязнаныя ёй раней гарызонты вершавой гармоніі, і яна яе

тарнуе з захапленьнем нованавернутай. Трэба адзначыць, што ў “Жоўтай восені” і з гледзішча беларускай мовы бачны значны рост. Мова вершаў цяпер куды багацейшая, а таксама й куды чысьцейшая, як раней. У першым зборніку-ж яшчэ адчувалася змаганьне пісьменьніцы з чужымі моўнымі ўплывамі, асабліва расейскімі налётамі з гадоў ваеннага бежанства ў Расеі і расейскай школы. Цяпер лішні барбарызм — вялікая рэдкасьць. Памаглі ў працы над сваёй моваю і сталыя штогоднія летнія выезды з Польшчы ў Валожынскія Доры.

Вось у выніку паказанай раней фармальнай “рэвалюцыі” гадоў 1936–1937 паэтка значна ўзрасла, скрэпла, “змужнела” ў сваёй творчасьці. Ды нягледзячы і на гэта, пясьнярка ўсё-ж наракае ў сваіх вершах і ўспамінах, што і цяпер ёй не хапае слоў, каб выказаць усю тую красу ды гармонію, якая расхінаецца перад чулаю паэтычнай фантазыяй.

На гэта астаецца адна надзея, што ўсё-ж некалі — мо’ аж на схоне жыцьця — прыйдзе аднак той дзень, калі яна патрапіць у словах перадаць увесь чар таго сьвету, які сяньня няўхопна лунае перад узбуджанай фантазыяй:

*Але прыйдзе мой дзень*
*І знайду я патрэбныя словы,*
*Тыя словы, якія цяпер*
*Не пачую ніколі й нідзе.*
*Буду ўмеці чмялямі гусьці*
*Ў раззалочаным цьвеце ліповым*
*І шаўковай шасьцець асакой*
*На зялёнай, бліскучай вадзе.*
*Зашумяць, запяюць у акордзе*
*Залёныя хвалі калосься,*
*Пахінуцца мядзянай сьцяною*
*Вяршаліны вечныя дрэў.*
*Туманамі заплача над жоўтымі*
*Межамі восень —*
*Лебядзінаю песьняю людзі*
*Ахрысьцяць мой сьпеў!*

(“Лебядзіная песьня”)

## *Зачараваны кут красы*

Дзеля высокіх мастацкіх якасьцяў — дасканальнай формы з музыкальным багацьцем і чарам малярскай вобразнасьці — вершы Арсеньневай чыталіся ахвотна ў Заходняй Беларусі ўсімі тымі, хто любіць паэзыю і красу. Але пасьля прачытаньня ўжо некалькі беззаганных вершаў з адной і той-жа тэматыкай — хараство прыроды, настроі і абразы восені — у чытачоў паўставала часта і некаторае зьдзіўленьне, недаразуменьне.

У тым усё вастрэйшым змаганьні за нацыянальнае быць ці ня быць з наступаючым польскім шавінізмам прынялася агульна як правіла вымаганьне, каб і пісьменьнік сваю творчасьць уключаў у гэтае змаганьне, станавіўся сам на фронт актыўнай барацьбы.

У "Жоўтай-жа восені" чытач тымчасам знаходзіў быццам спакойную, зацішаную галярэю цудоўных настраёвых пэйзажаў, дзе нішто, ніякі галас навакольных спраў і падзеяў ня муціў узвышанай маестатычнай цішыні.

Выглядала, быццам пясьнярка зачынілася ў свой собскі пясьнярскі казачны сьвет, свой *"зачараваны кут"*, ды ня той ужо з "Пад сінім небам" кут лягендаў з лясунамі і балотніцамі, а зачараваны куст хараства, *"чыстай красы"*, гаворачы словамі Навіны. Гэты кут, гэтая сьвятыня красы была ўзьведзеная і ейнае існаваньне абаснованае словамі Багдановічавага "Апокрыфу": няма красы бяз пажытку, бо сама краса і ёсьць той пажытак для душы.

Ужо ў "Пад сінім небам" у ўводным да зборніка вершы пясьнярка заклікала:

*Ад няпрыветных песьняў гора,*
*Ад смуткаў шэрае зямлі,*
*У неба сінь, у неба мора*
*Пагляд прыстаўшы падымі.*
*Пад сінім небам няма распачы*
*Глухой, бязьмежнай,, што гнець ўсё,*
*Пад сінім небам усё іначай,*
*Здаецца дзіўным, як сон жыцьцё…*

У "Жоўтай восені" гэты адыход *"пад неба сінь"* ад *"смуткаў шэрае зямлі"* кансэквэтна праведзены й завершаны. Пясьнярка чуецца быццам вэсталка ў паганскай сьвятыні красы, дзе шумяць сымфоніі хварбаў і гукаў, сонечных захадаў і ўсходаў, туманных

месячных ночаў, дзе з віхрамі на ветры носяцца пад небам лісты на *“асеньніх фэстывалях”*.

*Не ў царкоўцы малітвай, сьвятою вадой,*
*Ахрысьціў мяне нехта ў зялёнай дуброве.*
*Як паганін, я пушчы пяю залатой,*
*Разумею палёў васільковых размовы.*

Тымчасам і на далёкае ад беларускай зямлі польскае Памор’е даходзіць хоць позны й слабы, але тым ня менш балючы водгалас тамашняга жыцьця і падзеяў. Існуе нейкі кантакт і з малым, замкнутым у сабе беларускім літаратурным сьветам Заходняй Беларусі (*“літаратурным мікрокосмосам”*, як назваў тады яго адзін польскі літаратурны крытык). Там пяюць на іншы лад і ноту маладыя пясьняры. Пра гэта чуе пясьнярка, разумее розьніцу і песьняром Заходняй Беларусі прысьвячае свой вельмі цікавы, праграмны на тую пару верш “Маладым паэтам”:

*Вам дадзелі пакора, цярплівасьць і Бог,*
*Як жабрак, вы па шчасьце не цягнеце жмені.*
*Вершы вашыя пугамі б’юць па людзёх,*
*Агнявымі маланкамі паляць сумленьні.*
*Я-б хацела гарэць і змагацца, як вы,*
*Разам з вамі каваці чаканае раньне.*
*Але дні мае іншыя маюць правы:*
*Сыпкім золатам ліпаў маняць і цыганяць.*
*Мае дні над аржоньнем цьвітуць туманом*
*І плывуць серабраным у даль павучыньнем,*
*І зьвіняць алавяным асеньнім дажджом,*
*І ў лясох верасамі мядзянымі стынуць.*
*Нібы жоўтая восень, я стаю над жыцьцём*
*І гляджу на яго, хоць наўкола — змаганьне.*
*Мае вершы над сонным балотам трысьцё,*
*Мгла сівая асеньняга раньня.*

На гэтыя радкі пясьняркі адзываюцца сваімі прывітальнымі, сяброўскімі вершамі Машара і Танк, у якіх побач выражанага прызнаньня высокай красы і майстэрства, чуецца і некаторы сяброўскі дакор з прычыны “розных дарог”. Гэтыя пясьнярскія пярэзвы хоць і былі немалым падбадзёрваючым стымулам для далей-

шай творчасьці, але аднак не павярнулі паэткі да іншай тэматыкі, бліжэйшай да балючых штодзённых пытаньняй беларускага народу Заходняй Беларусі. Паэтка і надалей астаецца ў сваім паэтычным зачараваным царстве красы і гармоніі, прыгожым, як казка з “Тысячы і адной ночы”, як нерэальны сон.

### *Паварот да шэрае зямлі*

Прабуджэньне з гэтага сну надыходзіць хутка, і яно значна розьнілася ад прабуджэньня казачнай зачараванай князёўны.

Не прайшло і сямі месяцаў ад трыумфальнага *“вызваленьня братоў Заходняй Беларусі”*, як адной раньняй раніцай у дзьверы памешканьня пясьняркі ў Вялейцы, дзе яна тады жыла з сваімі сынамі, рэзка пастукалі, і на парозе паявіліся энкавудыстыя з вінтоўкамі “на перавес”. Пасьля грунтоўнагаператрусу рэчаў саджаюць усіх на грузавую машыну, вязуць на станцыю, ладуюць на таварны цягнік разам з тысячамі іншых дэпартаваных жанчын і дзяцей — і пачынаецца доўгае падарожжа ў ведамых умовах на прызначанае месца ссылкі — Казахстан.

Цэлы доўгі год свайго жыцьця давялося мадзець у казахстанскай ссылцы. Зразумела, не да вершаў там было. Летам пухлі рукі ды ногі ад цяжкой катаржнай працы: трэба было капаць ды мясіць гліну, рабіць цэглу — казахстанскі “саман”. Доўгімі зімовымі начамі бязь сьвечкі, бяз газы, бяз нашай лучыны нават, бо ў Казахстане няма дроваў, крэплі рукі ды чэлясы ад холаду, данімаў голад.

На шчасьце, дзеля нейкіх сваіх мяркаваньняў, пасьля году ссылкі, паэтцы НКВД дазваляе вярнуцца разам з сынамі ў сваю Валожыншчыну. Гэты факт захаваў для нас і для беларускай літаратуры пісьменьніцу, бо ўжо за некалькі месяцаў пачынаецца нямецка-савецкая вайна.

З лязгатам ды гулам танкаў ды машынаў праз землі Беларусі струменяць на ўсход нямецкія арміі Гітлера[760]. У спаленым ды разьбітым Менску пачынае паволі гуртавацца жменька актыву і беларускай інтэлігенцыі, каб разглянуцца сярод руінаў, што тут можна ўратаваць, што можна зрабіць для сталічнага места, для Беларусі. Адна з першых між імі — Натальля Арсеньнева.

---

[760] **Адольф Гітлер** (ням. *Adolf Hitler*, 1889–1945), заснавальнік нацыянал-сацыялізму, правадыр Нацыянал-сацыялістычнай нямецкай рабочай партыі, у 1933–1945 гг. рэйхсканцлер, у 1934–1945 гг. фюрэр Нямеччыны.

Умовы жыцьця, а тымбольш працы, вельмі неспрыяючыя. Ды ўсёжтакі сёе-тое можна пачынаць. І хутка паяўляюцца першыя новыя вершы пясьняркі. Самы першы зь іх верш “Паўшым” (верасень 1941 г.) аддае нам настроі і перажываньні з ваеннага пабоішча.

Гэтым вось вершам пачынаецца новы, зусім новы этап літаратурнай дзейнасьці Арсеньневай. Сяньня, з некаторай ужо пэрспэктывы, можна сказаць, што ўся літаратурная творчасьць пісьменьніцы перасечаная брутальнаю цэнзураю казахстанскай ссылкі НКВД на дзьве, значна розныя ад сябе, палавіны. Падобна да вялікага пераломy ў галіне фармальнай у 1936–37 гадох, цяпер назіраем другі, ня менш важны, перелом, у тэматыцы паэтычнай творчасьці.

За гады новай ды плоднай творчасьці паяўляецца новы зборнік “Сягоньня” (Менск, 1944). Паварот да паэзыі пасьля гадавога прымусовага “гасьцяваньня” ў НКВД на ссылцы ды ў нязвычайна суворыя дні нямецкай акупацыі ў Беларусі ня прыходзіць бяз хістаньняў ды нутранога змаганьня над цяжкім пытаньнем: пісаць ці не? А калі так, дык як тады пісаць? Адказ на гэта ў тую пару ня быў і такі просты.

Хаця фронт вайны на даўжэйшы час і перасоўваецца на ўсходнія ўскраіны Беларусі, але змаганьне на беларускіх землях не спыняецца і надалей. Беларусь цяпер знаходзіцца фактычна пад падвойнаю камбінаванаю акупацыяй і мае дзьве ўлады — уладу дня і ўладу ночы. Ад безагляднага змаганьня гэтых дзьвёх сілаў найбольш церпяць нявінныя людзі, беларуская вёска.

Вяртацца такой парой да папярэдняй тэматыкі ў сваю спакойную галярэю пышных пэйзажаў бацькаўшчыны — зарэзкі, забалючы дэсананс з акружаючымі падзеямі, з крывавым “сягоньня”:

*Не змалюеш лёсаў сьвету,*
*Цяпер вішнёвай пеннай бэляй,*
*Жыцьцё — зусім не акварэльля,*
*І ў час вайны не да санэтаў,*
*Не да мадоннай Рафаэля.*

З другой стараны, што вартыя вершы, гэтыя марныя вершы наагул у пару, калі свой сьпеў зьнішчэньня вядуць гарматы ды свой шалёны фэстываль на беларускай зямлі спраўляе ўжо ня восень, а сьмерць?

*Пажарышчаў дзікіх мой верш*
*І так не згасіць,*
*Ня змые з душ людзкіх*
*Пурпуравай крыві.*

У такія апокаліптычныя дні пясьнярцы выглядае часам нават, што *“паэта гэта міт камічна-недарэчны”*.

Пасьля даўжэйшых хістаньняў і нутраной барацьбы ў пясьняркі паўстае цьвёрдая пастанова, што і ў гэтую пару, акурат мо’ ў гэтую, ня можна адступаць, хавацца ў бязьдзейнасьць.

*Трэба быць песьняром і цяпер,*
*Калі дзень нас са сьмерцю братаньне,*
*Калі ночы, як ранены зьвер,*
*У цёмных норах залізваюць раны.*

Дык пісаць трэба. Але робіцца таксама ясна, што ня можна адгараджывацца ад “сяньня”, ад долі ўсяго народу. Абавязак кліча ўлучыцца ў гэтае бурнае жыцьцё, поўнае небясьпекі й магілаў. Трэба вярнуцца з “пад сіняга неба” назад на “шэрую зямлю”, на якой тымчасам “смуткі” ды “роспач” крывавым бязьмежным морам разьліліся.

І ўсю сваю новую творчасьць пясьнярка прысьвячае ўжо не абстрактнай красе, а жыцьцю, наўкольнаму, строгаму, жорсткаму жыцьцю ўва ўсіх ягоных праявах. Новая, нацыянальна-грамадзкая тэматыка залівае цяпер усю творчасьць Арсеньневай, не пакідаючы амаль ніякага месца для ейных папярэдніх тэмаў, нават і для каханай “Жоўтай восені”.

Калі ў новыя вершы і ўплятаюцца і цяпер абразы прыроды, штрыхавыя пэйзажы, дык і яны маюць тут накшую мастацкую функцыю, яны ня існуюць самі для сябе. Гэта толькі мастацкі фон, дэкарацыя для галоўнай тэмы верша, гэта мастацкія рамы, або часам уводны ці замыкаючы настраёвы акорд. Красы для красы, мастацтва для мастацтва цяпер не знайсьці — яно памерла ў Казахстане.

Цяпер у кажным сваім вершы пясьнярка рэагуе на актуальныя падзеі дня, церпіць і цешыцца, трымфуе і трывожыцца разам з усімі. Заместа даўнейшых русалак і лясуноў яна дае нам цікавыя рэалістычныя партрэты калгаснага стоража, ткальлі, жняі, маці.

З фармальнага гледзішча атрымліваецца ўражаньне, што новыя матывы і тэмы, што раптоўна ўварваліся шырокаю хваляю ў дагэтуляшні мастацкі сьвет пісьменьніцы, быццам бураць, крышаць старыя, цесныя і недапасованыя ім формы. Формы гэтыя не адказваюць болей новым дасадным вобразам брутальнага навакольнага жыцьця. Яны заквольныя, замістэрныя да новага зьместу.

З музыкальнага гледзішча ў вершах паяўляюцца цяпер ня толькі асанансы, але і дысанансы, перабоі. Ды і сама асанацыя часта набірае цьвёрдыя, кантаватыя формы, сьведама тарнуецца да болей цьвёрдых, рэзкіх гукаў і тонаў.

У падобным кірунку адбывае сваю эвалюцыю і вобразнасьць вершаванай мовы. І вобразнасьць ня дбае шмат цяпер аб тое, каб чытач пераймаў іх з прыемнасьцяй. Наадварот — у вершах часта сустрэнем сьведамыя, рэзкія, дасадныя звароты да мэтафары.

І калі прыраўняць “Сягоньня” да “Жоўтай восені”, часта на першы пагляд паўстае ўражаньне, што вершы быццам нешта згубілі з сваёй папярэдняй музыкальнасьці. Але гэта памылковы вывад. Ходзе тутка аб зьявішча іншага значэньня й характару: тут гармонія сьпеўнай, мяккай суладнасьці дзеля накшага зьместу сьведама пераходзіць у больш сьмелую гармонію рэзкіх тонаў і гукаў.

Частыя дыскусыйныя, палемічныя тэмы вершаў надаюць некаторым зь іх характар рымаванай паэтычнай журналістыкі. З гэтага гледзішча Арсеньнева знайшлася пад уплывам падобных палемічных вершаў і цэлых паэм Дубоўкі, з творамі якога акурат ёй прышлося бліжэй пазнаёміцца ў Менску.

### *Сустрэча з тэатрам ды опэраю*

Менск, як і ўся Беларусь, пад нямецкай акупацыяй трымаўся на галоднай ня толькі харчовай, але і духовай норме. Прэса і друк былі заціснутыя да межаў мінімальнай неабходнасьці. Гэта моцна тармазіла развой навуковага і літаратурнага жыцьця. Адзіная культурная галіна, у якой адкрываліся яшчэ некаторыя шырэйшыя магчымасьці працы, быў тэатр і опэра.

Ужо ад восені 1944 г. пачынаецца руплівая, хоць і цяжкая праца над узнаўленьнем разбуранай вайной тэатральнай дзейнасьці. Вялікая першакода ў гэтым — нястача свайго багацейшага рэпэртуару, як і рэпэртуару сусьветнай драматычнай творчасьці ў беларускім перакладзе.

Калі працаўнікі тэатру пачынаюць разглядацца зь пісьменьнікамі, хто мог бы парадзіць у гэтай бядзе, увага скіроўваецца на Арсеньневу. Ейная высокая мастацкая культура дае заруку таго, што дадзеныя заказы будуць выкананыя з фаховым майстэрствам. І паэтка хутка з цэлым сэрцам і душою ўцягваецца ў тэатральнае жыцьцё й працу ваеннага Менску.

У гадох 1941–44 яна перакладае для тэатру тэксты і лібрэтто гэткіх ведамых твораў: “Кармэн” Бізэ[761], “Зачараваная жалейка” Моцарта[762], “Разьбіты кубак” Кляйста[763], “Аўген Анегін” Чайкоўскага[764], “Вольны стралец” Вэбэра[765], “Цыганскі барон” Штраўса[766] і “Затонуты звон” Гаўптмана[767]. Усе пераклады адзначаюцца сваёй багатаю моваю і на высокай мастацкай вышыні.

У Менску тымчасам захаваліся і першарадныя кампазытарскія сілы, а між імі і ведамы добра нам сваім талентам Мікола Куліковіч (Шчаглоў)[768]. У яго зараджаецца ідэя напісаньня новых беларускіх

---

761 **Жорж Бізэ** (фр. *Georges Bizet,* 1838–1875), французскі кампазітар, аўтар аркестравых твораў, рамансаў, фартэпіянных п’ес, а таксама опер. Наталля Арсеннева пераклала лібрэта яго найбольш вядомай оперы “Кармэн” для Менскага гарадскога тэатра ў 1941 г.

762 **Вольфганг Амадэй Моцарт** (ням. *Wolfgang Amadeus Mozart*, 1756–1791), аўстрыйскі кампазітар. Наталля Арсеннева пераклала лібрэта яго опер “Вяселле Фігара” і “Чароўная жалейка” для Менскага гарадскога тэатра ў 1942–1943 гг.

763 **Генрых фон Кляйст** (ням. *Bernd Heinrich Wilhelm von Kleist*, 1777–1811), нямецкі драматург, паэт, празаік. Наталля Арсеннева пераклала яго камедыю “Разбіты кубак”.

764 **Пётр Чайкоўскі** (рус. *Пётр Чайковский*, 1840–1893), расійскі кампазітар, дырыжор, педагог. Наталля Арсеннева пераклала тэксты арый яго оперы “Яўген Анегін”.

765 **Карл Марыя фон Вебер** (ням. *Carl Maria von Weber*, 1786–1826), нямецкі кампазітар, дырыжор, піяніст. Наталля Арсеннева пераклала лібрэта яго оперы “Вольны стралец” для Менскага гарадскога тэатра ў 1942–1943 гг.

766 **Ёган Штраўс-сын** (ням. *Johann Strauß*, 1825–1899), аўстрыйскі кампазітар, дырыжор, скрыпач, “кароль вальса”. Лібрэта яго аперэты “Цыганскі барон” Наталля Арсеннева пераклала для Менскага гарадскога тэатра ў 1942 г.

767 **Герхард Гаўптман** (ням. *Gerhart Johann Robert Hauptmann*, 1862–1946), нямецкі драматург, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры 1912 г. Наталля Арсеннева пераклала яго казачную драму “Затонуты звон”.

768 **Мікалай Шчаглоў-Куліковіч** (1893–1969), кампазітар, музыколаг, этнограф, паэт. Ад 1937 г. працаваў выкладчыкам у Беларускай кансерваторыі. Быў адным з арганізатараў Тэатра оперы і балета Беларусі, з 1939 г. музычны рэдактар Беларускага радыё. У часе нямецкай акупацыі кіраваў аркестрам

опэраў. Па лібрэтто да опэры кампазытар зьвяртаецца да Арсеньневай. Так хутка паўстае опэра “Лясное возера”, адыграная першы раз у менскім тэатры ў 1943 г. Сюжэт да лібрэтто ўзяты з паэмы “Лебядзінае возера” з зборніка “Пад сінім небам”. Аснаўны тон опэры: каханьне, пяшчотнасьць, туга, пакора перад лёсам. Паэтка дае да опэры і некаторыя народныя мэлёдыі, пачутыя некалі ў Дорах, якія і ўплятаюцца кампазытарам ў опэрную музыку.

Слухачы прыймаюць опэру з захапленьнем. Фаховая крытыка адзываецца аб ёй з прызнаньнем і пахвалай. Гэта дае ахвоту кампазытару й паэтцы распачаць працу над другой опэрай, ужо гістарычна-гэроічнага зьместу, аб Усяславе Чарадзеі[769]. Тут як галоўныя матывы сустракаем гэроічны трагізм, змаганьне за бацькаўшчыну, трыумф перамогі. Амаль адначасна паўстае і опэрэта таксама на словы Арсеньневай “З выраю”.

“Усяслай Чарадзей” быў закончаны кампазытарам ды пробна быў адыграны ў студыі менскага радыя. Рыхтаваўся ён ужо і на сцэну, ды далейшыя падзеі не дазволілі гэтага рэалізаваць.

Аб сваёй працы з менскім тэатрам успамінае пісьменьніца: «*Працы для тэатру, пробы, праслухоўваньні нязвычайна падабаліся мне. Каб гэта залежала ад мяне, я-б да канца жыцьця не хацела ніякае іншае. Тут, у тэатры, чуеш свае словы, сваю працу жывымі, зьлітымі з мэлёдыямі, так што і яны самі робяцца мэлёдыяй. А бяз гэтага каму яны, гэтыя словы, патрэбныя? Дробная жменька людзей мо' і прачытае іх, мо' і зразумее, і на гэтым усё. Прачытаныя, яны забываюцца, яны паміраюць. А колькі ёсьць людзей, што анічога не разумеюць на паэзыі? Якія сваёй “мудрай” крытыкай патрапяць давясьці нават цярплівага з натуры паэту да роспачы? Не, я сапраўды дзякую лёсу, што ён хоць коратка, а даў пачуць мне мае словы са сцэны, даў ім жыцьцё, кроў і цела. Хай-жа сяньня спачываюць у супакоі!*».

### *Выгнанскім шляхам*

З 1944 г. пачынаецца для пясьняркі, як і для дзесяткаў тысяч іншых беларусаў, нялёгкі выгнанскі-эміграцыйны шлях. Хаця лягер-

---

у Менскім гарадскім тэатры. З 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне, а пасля ў ЗША. Пакінуў вялікую музычную спадчыну.

[769] **Усяслаў Брачыславіч** (**Усяслаў Чарадзей**, 1029–1101), найбольш вядомы полацкі князь (1044–1068 і 1071–1101), а таксама князь кіеўскі (1068–1069).

ныя ўмовы жыцьця з грамадзкім раскладам ды сваркамі і ня спрыяюць творчасьці, у 1948 г. паўстае новы зборнік вершаў “Не астыць нам”, у які ўваходзяць часткова і вершы, пісаныя яшчэ ў Менску.

З гэтага зборніка відаць, што паэтка і надалей астаецца пры грамадзка-нацыянальнай тэматыцы. Фармальныя якасьці і прыёмы ў васнаўным тыя-ж, што і ў “Сягоньня”. Песьні эмігранцкія, тыповыя песьні выгнаньня, тугі, суму, абязьверваньня і веры.

І на гэтым зборніку праца не абрываецца. Не спыняецца яна і з пераездам за акіян у зусім адменныя, чужыя, нязнаныя сабе ўмовы жыцьця. Пераезд вадаплавам дае нам цікавую нізку вершаў з новаю марской тэматыкай. Гэта цыкль “Між берагамі”. Цыкль гэты паказвае, што і зусім новыя матывы пісьменьніца асвойвае бяз труду, дзякуючы як свайму таленту, так і высокай мастацкай культуры.

Другі, ужо наскрозь “амэрыканскі” цыкль: “Першае кола” ёсьць прыкладам таго, што пясьнярка знаходзіць тэмы для сваіх вершаў і на амэрыканскай зямлі, сярод выносных небаскробаў Нью Ёрку ды стромых вулічных каньёнаў Мангатану. Чуйкае мастацкае вока і тут, сярод каменя ды бэтону, пазнае першыя сымптомы вясны па *“красках, што да губ дзяўчаты туляць”*, ды ня без зьдзіўленьня наглядае, як *“з кажнага гранітнага зьвяна сьмяецца ў твар яна вясноваі зялёна!”*.

Гэтыя два новыя цыклі вершаў сьветчаць нам, што і ў новых амэрыканскіх умовах мастацкай сваёй дзейнасьці пясьнярка ня спыняе ды што ейныя песьні не замаўкаюць і падчас шэрых будняў хвабрычнай працы.

## ***Вывады***

Як бачым, мастацкая творчасьць пясьняркі не абрываецца. Пісьменьніца сяньня з гледзішча набытага літаратурнага дасьведчаньня ды высокай мастацкай культуры і тэхнікі, у апогэі сваіх магчымасьцяў. Прыкладная трыццацілетняя сыстэматычная праца над сваімі здольнасьцямі не асталася бязь сьледу. І таму беларуская літаратура, беларускі народ можа яшчэ шмат чаго спадзявацца ад сваёй сяньняшняй юбілянткі.

Вось таму і зарана яшчэ будзе сяньня вызначаць дакладнае месца пісьменьніцы ў нашай новай беларускай літаратуры ды даваць ёй апошнюю, канчатковую ацэну. Зробяць гэта некалі нашыя

адумыслоўцы крытыкі ды гісторыкі літаратуры зь неабходнай большай пэрспэктывы гісторыі і часу.

На сяньняшні-ж дзень трэба прызнаць ды падчыркнуць яўны і бясспорны факт: трыццацілетняя літаратурная творчасьць Натальлі Арсеньневай дала беларускай літаратуры шматлікія ўзорныя творы бездакорнай гармоніі і красы, дала беларускаму народу многія патрыётычныя песьні веры й змаганьня за сваю волю, за сваю будучыню.

Не адзін ужо верш пясьняркі пакладзены на ноты нашымі музыкамі-кампазытарамі павандраваў разам з нашымі эмігрантамі па сусьветных шляхох беларускага выгнаньня.

Ужо дасюлешняя літаратурная творчасьць пісьменьніцы дае беларускай літаратуры трывалыя мастацкія вартасьці. Ейная сутычнасьць з тэатрам ды опэраю пакіне таксама трывалы сьлед у гісторыі нашага драматычнага ды опэрнага мастацтваў.

І таму ўжо сяньня, у трыццацілетнюю гадавіну творчасьці, належыцца юбілянтцы заслужаная ўдзячнасьць і падзяка ад беларускага народу і ад беларускай зямлі.

*Юрка Віцьбіч*

## З нагоды сьмерці Міхася Клімковіча[770]

Паводля вядомае лацінскае прыказкі, пра памерлых трэба прыгадваць або добра, або ніяк. Аднак калі сам Рым гэтае свае мудрасьці ня прытрымліваўся, дык чаму яна мае стацца законам для нас? Запраўды, паспрабуйце пад ейным кутом падыйсьці да сьмерці Сталіна. З аднолькавым посьпехам яе можна прыстасаваць да скананьня кажнага сталінца. І менавіта ў сувязі з гэтым антычным падыходам да нябожчыкаў нэкралёг Спадара Ст. “Памёр Міхась Клімковіч[771]” (Бацькаўшчына, № 234–235)[772] спакідае значны нясмак у тых, хто ведаў яго асабіста, ды ў дадатак дэзарыентуе чытачоў.

[770] Бацькаўшчына. № 11 (241). 13 сакавіка 1955. С. 4.

[771] **Міхась Клімковіч** (1899–1954), крытык-вульгарызатар, драматург. Друкаваўся ад 1928 г. У 1932–1934 гг. старшыня аргкамітэта, у 1934–1939 гг. старшыня Праўлення СП БССР.

[772] Маецца на ўвазе артыкул: Ст. Памёр Міхась Клімковіч // Бацькаўшчына. № 4–5 (234–235). 30 студзеня 1955. С. 2.

Калі даць веры нэкралёгу, дык Міхась Клімковіч зьяўляўся *“адным з найлепшых Беларусаў”*, што стаўся *“ахвярай жахлівае бязьлітаснае сыстэмы бальшавіцкага тэрору”*. Далей, быццам разьбежнасьць з гэтай сыстэмай прывяла яго да спробы самагубства, пасьля якое ён, падбіты фізычна й душэўна, *“выразна пачаў выслужвацца бальшавіком”*. А перад тым ня выслужваўся? Яшчэ далей, маўляў, *“каб патрапіць у тон вымогам часу”*, ён нібы дэманстрацыйна пачаў гаварыць у Доме Пісьменьніка па-расейску. І гэтак далей, і гэтак далей аж да прыпушчэньняў, што самую сьмерць Клімковіча сучасныя расейскія акупанты адмыслова спазьніліся належным чынам адзначыць. І ўсе гэтыя штучныя домыслы, пабудованыя на выпадковым уражаньні, як Клімковіч у часе Другое Сусьветнае вайны, не пасьпеўшы ўцячы да Масквы пад ахову сваіх гаспадароў, або навет знарок пакінуты імі на Беларусі, як шпег, паводзіўся перад *“адным уплывовым Беларусам у Барысаве”*.

Калі бальшавікі зьнішчылі беларускія літаратурныя згуртаваньні, стварыўшы замест іх пісьменьніцкі калгас — ССП БССР[773], які ачоліў не *“абраны пісьменьнікамі”*, як адзначана ў нэкралёгу, але прызначаны бальшавікамі на гэтую адказную пасаду Міхась Клімковіч — сябра ЦК КП(б)Б. Тое, што гэта *“государево око”* накрэмзала, як *“інжынер чалавецкіх душаў”*[774], ня вытрымлівае аніякага параўнаньня з найвыдатнымі творамі тых нашых пісьменьнікаў, якіх яно зьнішчыла. Клімковіч не ахвяра, а сынонім *“жахлівае бязьлітаснае сыстэмы бальшавіцкага тэрору”*. Ягоную спробу ў далейшым падрэзаць сабе горла брытвай ня трэба, даруйце, блытаць зь гіракіры Янкі Купалы. Гэта была роспач аднаго бальшавіцкага кар’ерыста, пад якога ў той час падкапаўся другі — Андрэй Александровіч. Пасьля, на жаль, няўдалае спробы на самагубства Клімковіч ня толькі адпаведна з партыйным статусам ня згубіў партбілету, але спрычыніўся да арышту Чорнага, Галавача[775],

---

773 **ССП БССР** — Саюз савецкіх пісьменнікаў БССР.

774 ***“Инженеры человеческих душ”*** (рус.) — выраз, аўтарам якога з’яўляецца пісьменнік Юры Алеша. Але знакамітым выслоўе стала дзякуючы Іосіфу Сталіну, які агучыў яго ў сваім выступе на сустрэчы з пісьменнікамі ў Маскве ў 1932 г.

775 **Платон Галавач** (1903–1937), празаік. У 1929–1930 гг. намеснік наркама асветы БССР. Быў адказным рэдактарам газеты “Чырвоная змена”, рэдактарам часопісаў “Маладняк”, “Полымя”. Адзін з лідараў літаратурных аб’яднанняў “Маладняк” і БелАПП. У 1937 г. арыштаваны і расстраляны.

Александровіча, Хведаровіча[776] і шмат іншых. Ужыцьцё ім на сходах расейскае мовы цалкам адпавядае пашыранаму ў той час тэрміну — *“падхалімаж”*. І нарэшце пэўне не за абяцанку *“пісаць у чыста нацыянальным духу вялікую трагэдыю п. н. «Барбара Радзівіл»”* атрымаў Клімковіч мэдаль *“За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне”*.

Прашу ў высокашаноўных чытачоў прабачэньня за асабістае, але яно супадае з агульнанацыянальным. Ніколі й ні пры якіх абставінах ня ў стане забыць, што Клімковіч разам з Александровічам і Лыньковым зьяўляецца аўтарам вялікага артыкулу “Нашыя абвінавачваньні Ю. Віцьбічу” (Газ. “Літаратура і Мастацтва” за 1934 г.), як і яму належыць наступнае выказваньне:

*«Яшчэ большыя налёты нацыяналізму ў Віцьбіча. У свой час як рэдактар яго кнігі “Лшона Габоа Бійрушалайм” (“У наступным годзе ў Ерусаліме”) я ўскрыў сіяністкую сутнасьць гэтае назвы, ускрыў замілаваньне бандытам Нілёнкам, жаль загінуўшай шляхты і ксяндзоўства, паказаў клясавыя карэньні, адкуль ішлі гэтыя зьявы ў яго творчасьці. Віцьбіч многа зьняў з свае кнігі, выправіў шмат архаізмаў і правінцыялізмаў. Аднак мы дапусьцілі гнілы лібэралізм у тым, што друкавалі (зь некаторымі толькі зьменамі) яго рэчы ў “Полымя Рэвалюцыі”, ня ўскрылі пераклічку Віцьбіча зь яўрэйскімі нацыяналістамі. Мусяць правы тут таварышы, што ў кніжцы Віцьбіча мы маем сваесаблівую спробу беларускага нацыяналізму захаваць свой твор у форму яўрэйскага нацыяналізму, прапагандаваць свае мэты праз прапаганду нацыяналізму другой нацыі»* (Беларуская Акадэмія Навук. Інстытут Мовазнаўства. Пісьменьнікі БССР аб рэформе правапіса беларускай мовы. Выд. Бел. Акад. Навук. Менск, 1934 г. Стар. 83).

Хто зразумее пакуты падсавецкага пісьменьніка, вымушанага забіваць сваіх ім-жа народжаных улюбёных гэрояў, абы толькі ня

[776] **Мікола Хведаровіч** (1904–1981), паэт, празаік, перакладчык. У 1932–1933 гг. рэдактар двухтыднёвіка “Чырвоная Беларусь”. Сябра СП БССР ад 1934 г. У 1933–1934 гг. загадчык кабінета маладога аўтара СП БССР. У 1934–1937 гг. адказны сакратар часопіса “Полымя рэвалюцыі”, сакратар часопіса “*Минск*”. Быў членам літаратурных аб'яднанняў “Маладняк” і БелАПП. Арыштаваны ў 1938 г. і асуджаны да 8 гадоў зняволення. Паўторна арыштаваны ў 1949 г., сасланы ў Енісейск. У 1956 г. вярнуўся ў Беларусь.

бачыць іх на каленках ці на катарзе? Ня выпадкова “Крывічы”[777] Міхася Зарэцкага распачынаюцца ад сьмерці галоўнага гэроя твору.

Застаўся недарэзаны Міхась Клімковіч бальшавіком дарэшты. Прынамсі ягоная прадмова да зборніка Якуба Коласа (Мінск, Дз. Выд. БССР, 1946 г.) канчаецца наступна:

*“Прапануемы ўвазе чытача зборнік вершаў Якуба Коласа абдымае сабой асноўныя лірычныя вершы паэта з 1906 па 1941 гг. Ён павінен запоўніць той прабел, які атрымаўся ў нашых бібліятэках у сувязі з барбарскім зьнішчэньнем Немцамі і іх лакеямі, беларуска-нямецкімі нацыяналістычнымі прахвостамі, у часе іх часовага гаспадараньня на нашай Радзіме, твораў народнага паэта рэспублікі”.*

Хіба не да нас зьвяртаецца менавіта ў гэтым зборніку Якуб Колас?

*Гэй, выгнаньнікі,*
*Сябры любыя,*
*Да канца, браты,*
*Будзьма цьвёрдымі.*

Хіба выданьне “Бацькаўшчынай”, нягледзячы на сьціплыя эміграцыйныя магчымасьці, “Новае Зямлі”[778] і “Сымона Музыкі”[779] ня сьветчыць аб нашай агульнай пашане да свайго народнага паэты? І хіба абвінавачваньне Міхася Клімковіча не зьяўляецца доказам ягонае вылучнае подласьці?

Прыйдзе час, і ніхто не пазьбегне справядлівае ацэнкі з боку Бацькаўшчыны і Народу. Аднак не расейскім бальшавіком ды ня ўбогаму калябаранту Клімковічу нас судзіць! Няхай пухам гібельная Сібірская зямля ўсім замардаваным ім! Няхай парасьце лапухом ягоная магіла!

---

777 **“Крывічы”** — раман Міхася Зарэцкага, значная частка якога загінула ў 1930-я гг.

778 Маецца на ўвазе выданне: Колас, Якуб. Новая Зямля (паэма). Мюнхэн: выдавецтва “Бацькаўшчына”, 1952. — 246 с.

779 Маецца на ўвазе выданне: Колас, Якуб. Сымон Музыка (паэма). Мюнхэн: выдавецтва “Бацькаўшчына”, 1955. — 214 с.

*Станіслаў Станкевіч*

## Няведамы разьдзел у біяграфіі Міхася Клімковіча[780]

20 лістапада летась споўніліся 75-я ўгодкі ад нараджэньня беларускага пісьменьніка Міхася Клімковіча. У сувязі з гэтым мне моцна хацелася зафіксаваць у друку вельмі важныя факты зь ягонага жыцьця ў часе нямецкае акупацыі, да якіх давялося спрычыніцца й мне, а якія адно агульна, а не ўва ўсіх дэталях, былі ведамыя маім найбліжэйшым супрацоўнікам у Барысаве. Даўгі час я ўсё-ж паўстрымоўваўся ад ужыцьцяўленьня гэтага майго жаданьня, баючыся, што некаторыя нашыя людзі маглі-б сяньня ацаніць гэта, як выяў маёй нясьціпласьці. Але пазьней усё-ж прыйшоў да перакананьня, што, затаіўшы ведамыя мне факты, я зрабіў-бы вялікую крыўду і памяці Міхася Клімковіча, і гісторыі беларускай літаратуры, бо факты гэныя ў некаторай ступені рэгабілітуюць Міхася Клімковіча ад тых, дарэчы, правільных і абгрунтаваных зьвінавачаньняў пісьменьніка за ягоную творчасьць і ягоныя асабістыя паводзіны ў 30-х гадах. Гэта й прымусіла мяне цяпер, колькі месяцаў пасьля ягоных угодкаў, сказаць гэтта ўсё тое, што мне асабіста ведама пра Міхася Клімковіча.

Але спачатку колькі словаў пра Міхася Клімковіча ў даваенным часе. Міхась Клімковіч нарадзіўся 20 лістапада 1899 году ў вёсцы Сялітрынкі каля Барысава, а памёр 5 лістапада ў 1954 годзе. Пачаўшы друкавацца ў 1926 годзе, ён шырака разгарнуў сваю творчасьць у 30-х гадох як аўтар галоўна драматычных паэмаў зь гісторыі Беларусі XVI–XIX стагодзьдзяў (“Кацярына Жарнасек”, трылёгія “Георгій Скарына”, лібрэта да опэры “Кастусь Каліноўскі” і іншыя). З 1932 году быў ён старшынём Арганізацыйнага Камітэту Саюзу пісьменьнікаў Беларусі, а напрыканцы 30-х гадоў — старшынём Саюзу пісьменьнікаў Беларусі. Належыў да Камуністычнае партыі ад 1920 году.

У пагромных 1930-х гадох Міхась Клімковіч, падобна як Андрэй Александровіч і некаторыя іншыя пісьменьнікі, адыйграў няпрыгожую ролю, апраўдваючы ў друку гэныя пагромы ды ўдаючы

[780] Беларус. № 215. Сакавік 1975. С. 4; № 216. Красавік 1975. С. 4.

іншых пісьменьнікаў, якія сталіся ахвярамі гэных пагромаў. Праўда, з прычыны цкаваньня Андрэя Александровіча, ведзенага супраць яго, Клімковіча, каб і яго не спаткала доля зацкаваных і арыштаваных, спрабаваў скончыць самагубствам, падразаючы сабе горла брытвай. Яго аднак уратавалі, але на шыі застаўся рубец ад брытвы, пасьля чаго ён гаварыў прыцішаным сіпатым голасам.

Зь Міхасём Клімковічам я сустрэўся ўпяршыню ў сакавіку 1941 году, калі Народны Камісарыят Асьветы БССР наладзіўшы быў тыднёвы курс для выкладчыкаў беларускай і расейскай мовы й літаратуры ў пэдагагічных вучылішчах БССР, і мне як выкладчыку беларускай мовы і літаратуры ў наваградзкім пэдвучылішчы давялося прыймаць удзел у гэтым курсе. Моцна цікавячыся беларускай літаратурай, я траха ўвесь час, вольны ад заняткаў на курсе, праводзіў у Доме Пісьменьнікаў на Савецкай вуліцы, дзе звычайна вечарамі зьбіралася ладная колькасьць пісьменьнікаў. Там я й пазнаёміўся зь некаторымі пісьменьнікамі, у тым ліку й з нашаніўцам Зьмітраком Бядулем[781]. Калі-ж мне давялося гутарыць із самым старшынём пісьменьніцкага Саюзу Міхасём Клімковічам, мяне няпрыемна ўразіла тое, што хоць я зварачаўся да яго па-беларуску, ён гаварыў толькі па-расейску. У гэны-ж вечар у Доме пісьменьнікаў адбывалася нейкая неафіцыйная пісьменьніцкая нарада, на якой было дазволена застацца й мне. Хоць усе пісьменьнікі гаварылі на нарадзе па-беларуску, Клімковіч выступаў толькі па-расейску.

У гэным часе, хоць гэта было коратка пасьля масавых сталінскіх пагромаў, і людзі былі яшчэ запалоханыя, пераход Беларусаў на расейскую мову ўсё-ж успрымаўся як недарэчны дысананс. Пра гэта пацьвердзіў і наступны факт. Пад канец нашага курсу адбывалася ў Доме пісьменьнікаў сустрэча настаўнікаў — удзельнікаў курсу зь беларускімі пісьменьнікамі. Усе пісьменьнікі й настаўнікі выступалі толькі па-беларуску. Калі-ж на трыбуне зьявіўся адзін настаўнік з Гомеля й пачаў прамаўляць па-расейску, на залі і за прэзыдыяльным сталом загучэлі галасы: *“гавары па-беларуску!”*. Падобная “нацыяналістычная” рэакцыя сяньня хіба была-б немагчымая.

І вось гады нямецкая акупацыі. Ад канца ліпеня 1941 году мне давялося быць бурмістрам гораду Барысава й начальнікам Барысаўскага

[781] **Змітрок Бядуля** (сапр. **Самуіл Плаўнік**, 1886–1941), паэт, празаік, мовазнаўца.

раёну. Ня гэтулькі ў моц маіх службовых абавязкаў, колькі з жаданьня бліжэй пазнаёміцца з жыцьцём жыхарства ды із станам ягонае нацыянальнае сьведамасьці, я вельмі часта разьяжджаў па ўсім раёне, трапляў у найбольш аддаленыя й глухія ягоныя куткі, не зважаючы на небясьпеку, бо ўжо ад вясны 1942 году ў цэлым раёне быў моцны партызанскі рух. Вярнуўшыся вечарам з кажнае паездкі ў раён, я звычайна заходзіў да начальніка паліцыі Кавалеўскага, што жыў насупраць мяне па другім баку вуліцы, каб даведацца, што ў часе маёй адсутнасьці сталася ў горадзе. І вось калі неяк зімой напачатку 1942 году, вярнуўшыся з раёну, я зайшоў да Кавалеўскага, той адразу пахваліўся: *"Нашыя хлопцы арыштавалі сяньня камуністычнага пісацеля!" — "Дзе?" — "Ды недалёка, у вёсцы Сялітрынкі, кілямэтраў 6 адгэтуль". — "А як ягонае прозьвішча?" — "Клімковіч".*

Калі барысаўская паліцыя каго-небудзь арыштоўвала, яна спачатку трымала яго ў паліцыйным арышце, што знаходзіўся на першым паверсе двухпавярховага дому ў цэнтры гораду. На другім паверсе месьцілася паліцыйная ўправа. Пасьля першага апытаньня арыштаванага, ягоную справу паліцыя мусіла адразу-ж перадаваць у нямецкае СД, якое пераводзіла яго ў гарадзкую турму, зь якой ужо рэдка хто выходзіў на волю. Дык першым маім пытаньнем начальніку паліцыі Кавалеўскаму было, ці справа Клімковіча перададзеная ўжо ў СД. Той адказаў, што ў гэны дзень ён раней пакінуў управу паліцыі, але думае, што ягоны сакратар ня мог-бы гэтак хутка аформіць справы арыштаванага й перадаць яе ў СД. Тады я настойліва сказаў Кавалеўскаму не перадаваць гэтае справы й заўтра рана ў СД, бо я сам хачу пабачыць арыштаванага й заўтра рана прыеду ў паліцыю.

Справа Міхася Клімковіча моцна мяне занепакоіла. Гэта быў час, калі Немцы вылоўлівалі ўсіх сяброў Камуністычнай партыі і, з рэдкімі выняткамі, расстрэльвалі іх. А Клімковіч-жа быў ня простым партыйцам, а партыйцам прынамся сталічнага маштабу й зь вялікім партыйным стажам, пры гэтым займаў высокае і адказнае становішча старшыні Саюзу пісьменьнікаў Беларусі, якое ЦК КПБ давяраў толькі асобам пэўным і выпрабаваным у іхнай адданасьці партыі. Было ясна, што сытуацыя Міхася Клімковіча была безнадзейная… І я наважыўся ратаваць яго, думаючы, што гэта мне ўдасца, як удавалася ў шмат якіх падобных выпадках перад гэтым, хоць выпадак апошні быў асабліва цяжкі й рызыкоўны.

Калі назаўтрае раніцы я зьявіўся ў паліцыі, начальнік паліцыі Кавалеўскі паведаміў, што яшчэ ўчора пасьля таго, як ён пакінуў канцылярыю, сакратар перадаў справу ў СД, але Клімковіч яшчэ знаходзіцца ў паліцыйным арышце. Тады я папрасіў Кавалеўскага прывесьці арыштаванага ў свой кабінэт і на кароткі час пакінуць нас адных. І вось прыводзяць арыштаванага ў рудой стандартнай савецкай гімнасьцёрцы, згорбленага й зьбедненага. Калі канвойныя паліцыянты пакінулі нас адных, я запытаў Клімковіча, ці пазнае ён мяне? Адказ быў, што не. Тады я запытаў, ці прыгадвае ён нашую першую гутарку ў Доме пісьменьнікаў у Менску год таму? Ён таксама адказаў, што не. Калі-ж я назваў маё прозьвішча, ён адразу адказаў, што яно яму ведамае, і ён цяпер здагадваецца, хто я. Не ўдаючыся ў даўгую гутарку, я сказаў яму, што хачу яго ратаваць, як Беларуса й беларускага пісьменьніка, і спадзяюся, што мне гэта ўдасца, што зараз-жа паеду ў СД і паручуся за яго асабіста. Ніякіх забавязаньняў я ад яго не патрабаваў, адно папрасіў, каб адразу-ж пасьля звальненьня спад арышту ён абавязкова зайшоў да мяне на маё прыватнае памешканьне, ды перадаў яму мой адрыс.

Адразу пасьля гэтага я паехаў у СД, і там мне даволі лёгка ўдалося дабіцца звальненьня спад арышту Клімковіча. Магчыма й таму, што начальнік СД гаўптштурмфюрэр, здаецца, Дорн паводля прозьвішча, мне неяк аднойчы хваліўся, што мае вялікія сымпатыі да Беларусаў, што будучы раней шэфам СД у Беластоку, меў кантакты з Беларускім камітэтам у Варшаве й наагул пазнаў Беларусаў з добрага боку. Выпусьцілі Клімковіча на волю адразу-ж пасьля майго наведаньня СД.

Аднак наўсуперак ягонаму абяцаньню Клімковіч у гэты дзень да мяне на памешканьне не зьявіўся. Не зьявіўся й наступнага дня. Я пачаў трывожыцца й падазраваць, што тут тоіцца нешта загадкавае. Доўга ня думаючы, падвечар таго-ж дня я паслаў у Сялітрынкі фурмана раённай управы да Клімковіча з маёй запіскай, у якой яго прасіў гэтай-жа фурманкай прыехаць да мяне ў Барысаў.

І вось па колькі гадзінах мы з Міхасём Клімковічам сядзелі ў мяне за сталом, шчыра і адкрыта гутарылі аж да позна ночы.

У той вечар, калі я меў першую даўжэйшую і, як я перакананы й сяньня, шчырую і зь ягонага боку гутарку зь Міхасём Клімковічам на другі дзень пасьля ягонага звальненьня спад арышту, ён быў яшчэ моцна ўсхваляваны й навет зьбянтэжаны тым, што

сталася толькі ўчора. Ягоныя выказваньні й рэплікі былі хаатычныя й фрагмэнтарычныя. Пра сваю дзейнасьць і ролю ў беларускай літаратуры да вайны ён стараўся гаварыць агульна і як найменш, відаць, тэма гэтая была яму ня вельмі прыемная. Затое колькі разоў ён зазначаў, што цяпер, будучы спакойным за сваё жыцьцё, ён усе свае сілы аддасьць літаратурнай дзейнасьці. Трымаўся ён з годнасьцяй, не абвінавачваў самога сябе за сваю даваенную літаратурную й не літаратурную дзейнасьць, затое, добра гэта памятаю, ён моцна падчыркваў, што абставіны, у якіх яму даводзілася жыць і працаваць, асабліва ў гадох крывавае яжоўшчыны, былі гэткія жахлівыя, што поўнасьцяй можа іх зразумець адно той, хто сам іх пражыў.

Калі назаўтрае раніцай, выходзячы на працу ў раённую ўправу, я зь ім разьвітаўся й сказаў, каб ён пачакаў у мяне ў хаце, а за нейкае паўгадзіны прыедзе тая самая фурманка, што прывезьла яго ўчора ў Барысаў, каб адвезьці яго дамоў у Сялітрынкі, Клімковіч сказаў, што проста ня ведае, як мне дзякаваць за сваё выратаваньне. Я-ж адказаў яму, што гэта было ня больш і ня менш як выкананьне майго натуральнага абавязку як беларускага патрыёта ў дачыненьні да другога беларускага патрыёта. Ніякіх палітычных забавязаньняў я яму не прапанаваў, а ён із свайго боку — і ў гэтым выяўлялася таксама ягоная чалавечая годнасьць — ніякіх абяцаньняў што да сябе самога не рабіў.

Клімковіч стараўся быць як мага няпрыкметным навонкі. Я не заўважаў за цэлы год часу, каб ён зь кім небудзь з барысаўцаў часта кантактаваўся або каб дзе-небудзь у публічных месцах наагул паказваўся. Адзіны вынятак рабіў ён для барысаўскага Беларускага тэатру. Яшчэ ў лістападзе 1941 году ўдалося зарганізаваць у Барысаве Беларускі тэатр, дырэктарам якога быў малады энтузіясты беларускай культурнай дзейнасьці Ўкраінец паводля нацыянальнасьці Антон Рудэнка, а рэжысорам і мастацкім кіраўніком Іван Кір'янаў, добра ведамы шмат якім Беларусам на эміграцыі. Выэміграваўшы ўлетку 1944 году на Захад, ён у вапошняй фазе вайны й па вайне актыўна працаваў аж да свайго загадкавага самагубства ў горадзе Рэгэнзбургу ў папулярным у Заходняй Нямеччыне ансамблі "Жыве Беларусь". Барысаўскі тэатр, укамплектаваны з прафэсыйных і вельмі здольных артыстых аматараў, быў на высокім мастацкім і нацыянальным узроўні і праславіўся гэткімі беларускімі пастаноўкамі, як "Паўлінка" і "Раськіданае гняздо"

Я. Купалы, “Пінская шляхта” В. Дуніна-Марцінкевіча, “Пан Міністар” Ф. Аляхновіча[782] і іншымі, а так-жа вельмі добрым хорам пад кіраўніцтвам Кучко.

Міхась Клімковіч, паводля жанру сваёй творчасьці галоўна драматург, часта наведваў пастаноўкі гэтага тэатру. І адна адзіная за ўвесь гэты час мая канкрэтная прапанова Міхасю Клімковічу была тая, што я аднойчы папрасіў яго напісаць рэцэнзію на адну з пастановак тэатру ў менскую “Беларускую газэту”[783]. Клімковіч зрабіў гэта ахвотна, хоць рэцэнзію падпісаў не сваім прозьвішчам, а псэўданімам.

Зы мной Міхась Клімковіч сустракаўся вельмі часта, але стараўся як найменш наведваць мяне ў раённай управе, а звычайна прыходзіў да мяне на прыватнае памешканьне. Пры хаце, у якой я жыў у Барысаве, быў ладны садок, абгароджаны разам з хатай наглуха ад вуліцы высокімі дошкамі (гэтак пераважна адгароджваліся ў савецкім часе собсьнікі прыватных дамоў у горадзе ад непажаданага чужога вока).

Вяртаючыся папаўдні з працы ў раённай управе дамоў, я часта заставаў Клімковіча ў садку каля маёй хаты, дзе ён, чакаючы на мяне, звычайна ляжаў на траве й штосьці чытаў ці пісаў.

Нашыя гутаркі былі пераважна на літаратурныя тэмы. Бязь ніякага накіроўваньня з майго боку, а цалком із собскае ініцыятывы Клімковіч перапрацоўваў тады апублікаваную яшчэ ў 1937 годзе сваю драматычную паэму “Кацярына Жарнасек” на беларускую гістарычную тэму з XVI стагодзьдзя. Летам 1942 году ён колькі разоў

---

[782] **Францішак Аляхновіч** (1883–1944), тэатральны дзеяч, драматург. Закончыў Варшаўскую драматычную школу (1907). Працаваў рэпарцёрам у Вільні, дзе трапіў пад пераслед расійскіх уладаў. У 1913 г. вярнуўся ў Вільню і быў арыштаваны і асуджаны да аднаго году турмы. У чэрвені 1918 г. пераехаў у Менск. Вясной — летам 1919 г. выдаваў у Вільні часопіс “Беларускае жыцьцё”, пасля чаго зноў пераехаў у Менск. Дырэктар і рэжысёр Беларускага тэатра ў часе польскай акупацыі. Ад ліпеня 1920 г. — у Вільні. У 1924 г. выдаў кнігу “Беларускі тэатр”. У 1926 г. выехаў у Менск, дзе быў арыштаваны і высланы ў лагер на Салаўках. У 1933 г. быў абменены савецкімі ўладамі на вязня польскай турмы Браніслава Тарашкевіча. Ад сакавіка 1942 г. рэдактар тыднёвіка *“Biełaruski Hołas”* у Вільні. Забіты ў сваёй кватэры, як мяркуецца, савецкімі спецслужбамі.

[783] **“Беларуская газэта”** (да 5 лютага 1942 г. “Менская ґазэта”) выдавалася ад 27 ліпеня 1941 г. да 28 чэрвеня 1944 г. у Менску. Самае буйное беларускае антысавецкае перыядычнае выданне ў перыяд Другой сусветнай вайны.

чытаў мне сьвежа напісаныя ўрыўкі новага варыянту гэтага твору. Беларускі паэта барысаўчанін, які ў гэным часе працаваў у Барысаве настаўнікам і быў добра знаёмы мне па вайне ў сваім уводным артыкуле да “Збору твораў у двух тамох” Міхася Клімковіча, выдадзенага ўжо па ягонай сьмерці ў 1959 годзе Дзяржаўным Выдавецтвам Беларускай ССР, пра гэты твор Клімковіча пісаў:

*«Драматычная паэма “Кацярына Жарнасек” сваім ідэйным астрыём накірава супраць ілжывай контррэвалюцыйнай “тэорыі” беларускіх нацыяналістаў аб “залатым веку”. Нацыяналісты крычалі аб тым, што нібыта культура на Беларусь ішла з Захаду, што быццам той пэрыяд, калі наш народ знаходзіўся пад уладай польскіх паноў і літоўскіх князёў, быў “залатым векам”. Міхась Клімковіч выкрывае гэты міф, паказвае, што XVI стагодзьдзе было стагодзьдзем жорсткага сацыяльнага і нацыянальнага ўціску беларускага народу»*.

І ўзаўпраўды гэткую ідэйную ськіраванасьць мела драматычная паэма “Кацярына Жарнасек” у сваім першапачатковым савецкім варыяньце. Цяпер-жа перапрацоўваў яе пісьменьнік ужо ў нацыянальным пляне.

Апрача гэтага, Міхась Клімковіч пачаў пісаць у гэным 1942 годзе паэму “Барбара Радзівіл”, урыўкі зь якое чытаў ён мне летам 1942 году ў садку каля майго памешканьня. Паэма пісалася таксама ў зырка нацыянальным беларускім пляне.

Напачатку 1943 году, калі ўжо можна было прадбачыць, што савецкая армія ў сваім пераможным паходзе на захад зойме й Беларусь, у захоўваньні Клімковіча й гутарках ягоных зы мной заўважаліся выразны неспакой і падэнэрваванасьць. Я заўважаў, што ён хоча нешта мне сказаць, на штосьці намякае, але ўсьцяж паўстрымоўваецца выказаць сваю думку да канца. І вось аднойчы вясной 1943 году ён усё-ж сказаў, што з прыходам савецкае арміі ягоная доля будзе незайздросная. Калі-б ня тое, — казаў ён далей, — што я за яго паручыўся, ён пайшоў-бы да партызанаў, каб гэтым застрахавацца перад бальшавікамі, як рабілі тады многія з Усходняй Беларусі, у тым ліку й добра ведамыя мне асабіста Беларусы як перакананыя антыбальшавікі. Але на гэта ён ня можа адважыцца, — казаў Клімковіч, — каб не падвесьці мяне.

Я колькі мог адгаворваў яго ад гэтае думкі. Калі-ж пабачыў, што ён усё роўна застаецца пры сваім ды што ўсё-ж магчыма пой-

дзе ў партызаны, я парадзіў яму інсцэнізаваць свой пераход да партызанаў гэтак, каб выглядала, што быццам ня ён пайшоў у партызаны, а партызаны схапілі яго сілаю, як часта яны тады й рабілі, сілком і подступам хапаючы нявыгадных ім Беларусаў. Клімковіч нічога не сказаў, ці скарыстае ён з гэтай магчымасьці, ці не, але было відаць, што ён успакоіўся.

І вось колькі дзён пазьней аднае раніцы, калі я быў яшчэ ў ложку, раптам зьявіўся да мяне ў хату старшыня Неманіцкай воласьці Валатоўскі, у склад якой уваходзіла й Клімковічава вёска Сялітрынкі, і ўсхваляваным голасам паведаміў: *Сяньня ноччу напалі на Сялітрынкі партызаны і ўвялі з сабой нашага пісацеля!* Вестка гэтая ня была для мяне неспадзеўкай. За сябе я не патрабаваў баяцца. У гэным часе апэравала ў Барысаве ўжо іншая адзінка СД, дый ёй было не да Клімковіча. У гэным часе ўвесь Барысаў й суседнія раёны танулі ў полымі партызанскай вайны.

Міхась Клімковіч, як згадвалася ў першай частцы гэтага артыкулу, памёр 5 лістапада 1954 году. На леташнія ўгодкі ў газэце "Літаратура й Мастацтва" за 22 лістапада паэта Станіслаў Шушкевіч у прысьвечаным гэтым угодкам артыкуле пра ваенныя гады Клімковіча пісаў: *"На пярэдадні Вялікай Айчыннай вайны пісьменьнік быў на лячэньні ў адным зь літоўскіх курортаў. Калі пачалася вайна, ён зь цяжкасьцю прабіраецца на Беларусь. Тут партызаны й падпольшчыкі далі М. Клімковічу прытулак, а праз пэўны час хворага вывезьлі самалётам у Маскву"*. Гэта ўсё, што павінен ведаць падсавецкі чытач пра ваенныя гады пісьменьніка. Часапісы "Полымя" і "Беларусь"[784], што таксама ў сваіх лістападаўскіх нумарох за леташні год прысьвяцілі артыкулы на Клімковічавы ўгодкі, пра ваенныя гады ягоныя не згадалі ніводным словам.

Былы савецкі пісьменьнік Андрэй Клёнаў[785], што летась апынуўся на Захадзе й часам піша скрыпты для Радыя "Свабода", наведваў Міхася Клімковіча перад самай вайной у Менску і па вайне ў Маскве,

784 **"Беларусь"** — ілюстраваны штомесячны грамадска-палітычны часопіс, заснаваны СП БССР у 1944 г. Выходзіў спачатку ў Маскве, а потым ў Мінску.

785 **Андрэй Клёнаў** (сапр. **Арон Купершток**, 1920–2004), пісьменьнік, перакладчык. Друкавацца пачаў у 1935 г. Першы зборнік вершаў *"Мои друзья"* выдаў у 1940 г. З пачаткам нямецка-савецкай вайны пайшоў добраахвотнікам на фронт. Па вайне вучыўся ў Маскоўскім дзяржаўным педагагічным універсітэце і ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага. У лютым 1973 г. эміграваў у Ізраіль, у 1974 г. пераехаў у ЗША. Жыў у Брукліне, Нью-Ёрк.

ён-жа й пераклаў на расейскую мову ягоную драматычную паэму “Кацярына Жарнасек”. У ваднэй сваёй радыёвай перадачы пра Беларусь Андрэй Клёнаў пісаў: *“Па вайне Клімковіч расказаў мне, што ён застаўся быў пад гітлераўскай акупацыяй, не пасьпеўшы эвакуявацца, перахоўваўся ў сваёй роднай вёсцы на Барысаўшчыне на падстрэшшы ў жонкі, а пасьля перайшоў да партызанаў”.* З гэтага выглядае, што ўсю сваю гісторыю зь ягоным арыштам падчас акупацыі й звальненьнем спад арышту, ён затаіў.

Яшчэ перад канцом вайны Міхась Клімковіч аднавіў сваю творчасьць у Саветах і ў гэткім-жа нізкапаклоньніцкім і бальшавіком, і Расеі духу, як і да вайны. Ужо ў 1944 годзе ён напісаў верш, што стаўся Дзяржаўным гімнам Беларускай ССР. Ён пачынаецца словамі:

*Мы — Беларусы з братняю Русьсю*
*Разам шукалі к шчасьцю дарог.*
*У бітвах за волю, ў бітвах за долю*
*Зь ёй здабылі мы сьцяг перамог!*

У гэткім-жа нізкапаклоньніцкім тоне ўслаўляе Клімковіч ў далейшых словах гімну “дабрадзействы” Леніна й Камуністычнай партыі для беларускага народу. Апрача колькіх іншых кнігаў, па вайне апублікаваў Міхась Клімковіч драматычную трылёгію “Георгій Скарына” й лібрэта да опэры “Кастусь Каліноўскі”, у якіх асэнсаваў галоўных гэрояў з груба тэндэцыйных савецкіх пазыцыяў і ў прарасейскім духу.

У 1946 годзе быў выдадзены ў Менску невялічкі зборнік апавяданьняў і нарысаў Міхася Клімковіча “Лясное возера” пра партызанскую дзейнасьць над возерам Палік, што сваёй паўдзённай часткай уваходзіць у паўночную частку Барысаўскага раёну, і ў самым горадзе Барысаве. У другой палавіне 50-х гадоў мне, будучы тады ў Мюнхэне, давялося прачытаць ці гэты зборнік, ці часапісныя варыянты зьмешчаных у ім твораў (сяньня дакладна ня памятаю). Мяне заінтрыгавала тады ў гэтых творах адно: у той час, калі вельмі дакладна прыгадаў аўтар у гэтых сваіх творах навет найдрабнейшыя аўтэнтычныя факты і асобы з часоў нямецкае акупацыі ў Барысаве й Барысаўскім раёне, сярод названых ім “здраднікаў” ён нат ня ўспомніў майго прозьвішча, тым часам як савецкі друк у гэным часе й да самых апошніх гадоў не абмінае мяне сваёй увагай, згад-

ваючы пра Барысаў у часе акупацыі. Гэта паказвае, што й па вайне Міхась Клімковіч захаваў да мяне пачуцьцё сваёй удзячнасьці.

Выпадак з Міхасём Клімковічам вельмі характэрны й вымоўны для ўсяе беларускае падсавецкае літаратуры. Ён паказвае, што і Клімковіч, і шмат якія іншыя беларускія пісьменьнікі, пра якіх мы думаем як пра бяспрынцыпных партыйных выслужнікаў, што не за страх, а за сумленьне стараліся служыць партыі і ейнай антыбеларускай палітыцы, у душы сваёй, прынамся ў сваёй бальшыні, гэткімі ня былі. У іншых нармальных абставінах яны праявілі-б сябе як шчырыя і адданыя беларускія патрыёты й сумленныя людзі. Стацца рэнэгатамі сваёй бацькаўшчыны і янычарамі свайго беларускага народу змусілі іх няўмольныя абставіны. У гэтым найвялікшая трагэдыя шмат якіх Беларусаў, у гэтым і трагэдыя Міхася Клімковіча.

## Якуб Колас[786]

На 74-м годзе веку скончыў сваю цярністую жыцьцёвую дарогу адзін з найвыдатнейшых нашых паэтаў і пісьменьнікаў Канстантын Міцкевіч, ведамы найбольш пад псэўданімамі Якуб Колас — Тарас Гушча. Вестка пра гэта, хоць і ня была нечаканай, споўніла гарачынёй сэрцы тых, хто бліжэй знаў паэту, ведаў ягоныя думкі, жаданьні і ягоную таргэдыю. Шмат хто з нас аплакаў Коласа ўжо даўно, калі няпрошаныя гаспадары Беларусі — бальшавікі зламалі ягоную волю ды змусілі яго апяваць новых узурпатараў — панявольнікаў і цела і душаў людзкіх. Бо з таго часу Колас як нацыянальны паэта й пісьменьнік быў памёршы. Усё, што стварыў паэта на савецкім матарыяле, ня мае ні высокай мастацкай, ні ідэялягічнай вартасьці, а часам бывае й нацыянальна кампрамітацыйным. Можна, як шмат хто, вінаваціць самога Коласа ў падданьні бальшавізму, бо лепш прыняць сьмерць ад гвалтоўнікаў, як жыць у духовай няволі й выконваць іхную волю. Але гэта мы можам пасуджаць так жывучы на волі. Іначай будзе разважаць усякі, хто перажыў бальшавіцкія духовыя катаваньні, калі бальшавіком залежыць зламаць

[786] Беларус. № 57. Кастрычнік 1956. С. 1. Газету ў гэты час рэдагаваў Міхась Міцкевіч, таму ёсць вялікая верагоднасць, што аўтарства некралога належыць менавіта яму.

чалавечую волю, а ня зьнішчыць чалавека фізычна. Магчыма, што слабасьць чалавечае натуры не дала Коласу запыніцца перад патрабаваньнямі гвалтоўнікоў, магчыма — пачуцьцё адказнасьці за сям'ю. Ды галоўнае ня ў гэтым. Калі мы прасочым, як бальшавікі ломяць волю не адно паэтаў, пісьменьнікаў ды наагул ўталентавітых мастакоў, але сваіх і чужаземных навучоных, што трапілі ў іхныя рукі, а таксама вайскоўцаў вышэйшае рангі ды змушаюць супраць волі служыць бальшавізму, дык нас ахапляе запраўдны жах перад гэтай сыстэмай, якая ня грэбуе ніякімі нялюдзкімі спосабамі, каб згвалціць натуру й волю чалавека. Вось гэтай нялюдзкай сыстэмай найперш трэба тлумачыць зламаньне й волі Якуба Коласа, а дзеля гэтага — выбачыць паэту за тыя ўчынкі, тыя творы, што даў ён пад ціскам савецкіх душагубаў.

Фактам ёсьць і застанецца, што бальшавікі заплямілі ймя Якуба Коласа як народнага паэты, а горасьць і жаль для тых, хто бліжэй знаў і цаніў яго як паэту і як чалавека, пабольшваецца фактам ягонае сьмерці ў няволі. Напэўна, калі-б мог, Колас выказаў-бы свае апошнія жаданьні й просьбы зусім не ў бальшавіцкім духу. На горкі жаль, панявольнік пераджыў яго.

Як у часох паўстаньня бальшавізму Колас ненавідзеў бальшавікоў, так і апошнімі гадамі жыцьця ня стаўся ён бальшавіком — гэта ведама найбліжэйшым да паэты людзям. Уся ягоная натура, сьціплая й глыбока нацыянальная, — гэта абсалютная супрацьлежнасьць бальшавізму. Ягоная духовая трагедыя была глыбокая й ня кажнаму спасьцерагальная. Яе перапыніла сьмерць.

Творца "Новае Зямлі", "Сымона Музыкі", "У Палескай глушы" ды іншых вялікіх твораў, Колас як можа ніхто зь іншых паэтаў і пісьменьнікаў адтварыў у васобах і вобразах нацыянальную трагедыю беларускага народу. Не адзначаючыся палкасьцю народнага трыбуна Янкі Купалы, творчасьць Якуба Коласа важкая глыбаканацыянальным зьместам. Таму яна так блізкая, так зразумелая, так палоніць душу Беларуса, і таму яна, як дарагі дар, застанецца для народу назаўсёды. Колас для Беларусі застанецца такім, якім ён ёсьць у "Сымону Музыку" ды іншых рэчах, што створаныя ў вольным духу. Будучыня затрэ бальшавіцкія плямы на ім, а сучаснасьць прамаўляе за тое, што лепш не асуджаць паэту за творы пад нялюдзкім прымусам, а маліцца за супакой душы яго.

*Масей Сяднёў*

## Перачытваючы Якуба Коласа[787]

Гэта ні ў якім разе ня спроба крытычнага агляду творчасьці Якуба Коласа — ніякай катэгарычнай ацэны гэтай творчасьці мы ня хочам даваць. Мы проста хацелі-б выказаць колькі думак, можа й ня новых, у сувязі з Коласам, перачытваючы яго, і то не ўсяго, а перачытваючы толькі некаторыя яго, праўда, найбольшыя творы (“Новую зямлю”, “Сымона музыку”, “На прасторах жыцьця”, “Адшчапенца”, “Дрыгву”).

Дасюль я, можна сказаць, ня ведаў Коласа. Не літаральна, канешне. Я захапляўся Коласам у мае вучнёўскія гады, вучыўся ў яго, як цяпер кажуць, паэтычнага майстэрства (хоць гэным майстэрствам я больш забавязаны Янку Купалу), ведаў усе этапы ягонай творчасьці, на якія дзяліла яе нашая крытыка. Але значэньня Коласа для нас я ня ведаў. Ня толькі “значэньня” (гэта занадта агульнае слова), а проста ня ведаў, якога вялікага мастака мы маем у асобе Якуба Коласа. Або я занадта ідэялізаваў яго (у маленсьцьве), або недаацэньваў ці й зусім адмаўляў (у сталейшыя гады). У мяне ня было сталага крытэрыя. Я не хачу сказаць, што гэты крытэры канчальна ўсталіўся цяпер. Ён мяняўся ў залежнасьці ад мае “эстэтыкі”. Юнаком я сьніў пра беларускага Пушкіна[788] ці Міцькевіча[789], пра беларускіх Гётэ, Дантэ[790], Байрана[791], Шэксьпіра[792]. Мае пошукі беларускага гэнія ішлі як у чыста літаратурным кірунку, так і ў нацыянальна-палітычным. Мне патрэбны быў нейкі абсалютны аўтарытэт, які быў-бы прызнаны ня толькі Беларусамі, а і ўсім сьветам. І вось, калі я пачынаў чытаць з такім крытэрыем Якуба Коласа ці

[787] Беларус. № 83. Люты 1964. С. 2.

[788] **Аляксандр Пушкін** (рус. *Александр Пушкин*, 1799–1837), паэт, класік рускай літаратуры.

[789] **Адам Міцкевіч** (1798–1855), беларуска-польскі паэт, публіцыст, дзеяч польскага нацыянальна-вызваленчага руху.

[790] **Дантэ Аліг’еры** (іт. *Dante Alighieri*, 1265–1321), італьянскі паэт, аўтар “Боскай камедыі”.

[791] **Джордж Гордан Байран** (англ. *George Gordon Noel Byron*, 1788–1824), ангійскі паэт-рамантык, драматург.

[792] **Уільям Шэкспір** (англ. *William Shakespeare*, 1564–1616), англійскі драматург, паэт, акцёр.

Янку Купалу, я не знаходзіў у іх ня толькі Гётэ, Дантэ, Байрана, але й тых-жа Міцькевіча й Пушкіна, якія ў нейкім дачыненьні як-бы бліжэй да іх. Бясспрэчна, Колас быў валадаром маіх дум, але ён, здавалася, не даваў усяго, што патрабавала мая тагачасная “эстэтыка”. Колас, здавалася, не даваў той “вышыні”, якую давалі прыгаданыя “абсалютныя” аўтарытэты. Колас уражаў пачуцьцёва, але ня гэтак узбагачаў духова й стаяў як-бы вонках тае “эстэтыкі”.

У роўніцы нацыянальна-палітычнай я шукаў падмацаваньня свае веры ў народ. Як за адзінае выйсьце ў тых абставінах, я чапляўся за літаратуру — хто мог-бы ў ёй праславіць нас як нацыю? Коласавага імя зноў-жа не хапала й тут. Гэта наіўна, але я так думаў тады. Не ратаваў тут мяне й Купала з сваім *“А Беларусы нікога ня маюць, няхай-жа ім будзе хоць Янка Купала”*[793].

І толькі перачытваючы Коласа йзноў, я, можна сказаць, адчыніў Коласа. Можа хто скажа, што я спазьніўся з гэтым.

Дарэмна я шукаў у Коласе Гётэ, Дантэ, Байрана: Колас ня Гётэ, ня Дантэ, ня Байран. Колас значна меншы за іх, наколькі меншы сам наш народ. Меншы, зразумела, у гістарычна-культурным разрэзе, а не ў разрэзе чалавечай годнасьці. Наш народ, не із сваёй віны, а зь віны нейкага гістарычнага лёсу, меншы менавіта сваім *самастойным* гістарычна-дзяржаўным узростам, ён як-бы не прайшоў той дзяржаўна-палітычнай стадыі, пры якой ён мог-бы пасьпяхова закончыць сваю культурна-гістарычную місію. Дзяржаўнасьць для нас — гэта пытаньне жыцьця й сьмерці. У сваёй дзяржаве мы атрымалі-б свайго роду ін’екцыю, разам з тым падужэла-б і нашая бактэрыя “нацыяналізму”.

Але Колас, тым ня менш, нагэтулькі-ж вялікі для нас, наколькі вялікімі зьяўляюцца для нас Гётэ, Дантэ, Байран і г. д., хоць вялікі па-свойму. Гэта нічога, што Колас нязнаны ў сьвеце так, як яны — Беларусы як безьдзяржаўная нацыя ня маюць сродкаў “выкінуць” Коласа й Купалу ў шырокі сьвет, бо-ж слава таго ці іншага пісьменьніка залежыць яшчэ й ад таго, наколькі ягоны народ здолее “праславіць” яго ў вачох ўсё таго-ж сьвету. Часамі мне здаецца, што калі-б у нас, для прыкладу, і зьявіўся вялікі паэта, скажам, роўны сваім талентам з Гётэ, дык усё роўна у нас ня было-б Гётэ — у нас не хапіла-б патэнцыялу забясьпечыць такі талент.

[793] Радкі з верша Янкі Купалы “Я не паэта” (1905–1907).

Чаму Якуба Коласа можна мераць меркаю запраўды вялікага паэты? Таму што ён гэніяльна, па-мастацку так-жа гэніяльна, як і нашыя “абсалютныя” аўтарытэты, адтварыў жыцьцё нашага народу, няхай і на яго “ніжэйшым”, так-бы сказаць, “сялянскім” узроўні. Зрэшты, уся нашая клясычная літаратура — сялянская. Сялян як субстанцыю нашага народу Колас і ўвекавечыў у сваіх творах і разам зь імі назаўсёды застанецца няўмірушчым. Апісваючы свой “ніжэйшы” аб’ект — сялян — Колас быў такім-жа мастаком слова, якімі былі нашыя “абсалютныя” аўтарытэты, апісваючы свой “вышэйшы” аб’ект. Розьніца паміж Коласам і, скажам, Гётэ толькі ў гэтых узроўнях.

Значыць, як мастака слова, няхай сабе й “ніжэйшага” слова, паколькі ён мае “ніжэйшую” матэрыю, Коласа можна паставіць побач найвялікшых паэтаў і мераць меркаю запраўды вялікага паэты. Што-ж тычыцца такіх “абсалютных” аўтарытэтаў, як Міцькевіч і Пушкін, дык узровень іх той-жа самы, Коласаўскі, калі абадраць зь іх чужое залатое пер’е — рамантызм і байранізм.

Цікава зазначыць факт, што ў той-жа самы час, калі Колас адтвараў жыцьцё нашага народу на яго “ніжэйшым”, сялянскім узроўні, дык другі наш паэта — М. Багдановіч — дбаў пра вышыню Гётэ, Дантэ, але ягоная паэтычная дзейнасьць была на нашай глебе да некаторай меры штучнай, хоць, як паказала гісторыя, вельмі й вельмі карыснай.

У межах гэтага тэзісу аб Коласе хацелася-б яшчэ сказаць трохі аб некаторых мастацкіх асаблівасьцях Коласа.

Колас меў надзвычайную здольнасьць, якая мяжуе з гэніяльнасьцяй, здольнасьць адтвараць. Адтварэньне — гэта і ёсьць мастацкі мэтад Коласа. Колас, мяноўна, адтварае, а неператварае, ён амаль нічога не арганізуе, не адбірае, ня узводзіць свайго матарыялу ў нейкую вышэйшую ступень. Будзь што будзе — Колас зусім некампазыцыйны паэта. У яго ёсьць толькі слабая спроба кампазыцыі. Гэта можна сказаць ня толькі пра паэтычныя творы (“Новая зямля” і “Сымон музыка”), але навет і пра празаічныя — “На прасторах жыцьця”, “Адшчапенца” й пра славутую “Дрыгву”, дзе, нягледзячы на ўсё кампазыцыйнае “майстэрства” Коласа, у сюжэтным сэньсе твор рыхлы. На жаль, не ўдалося мне перачытаць Коласавай палескай трылёгіі, перакладзенай, дарэчы, на польскую мову. Калі Колас абагульняе, абагульненьне відавочнае,

а выводзіць ідэю — ідэя застаецца голай (гэта тычыцца й такіх твораў, як “Новая зямля” й “Сымон музыка”, не гаворачы ўжо пра “Дрыгву”, “На прасторах жыцьця”, “Адшчапенца”, “Рыбакову хату” і іншыя). Колас вялікі тады, калі ён творыць нясьведама, сьлепа, стыхійна, нэўтральна. І ў гэтым сэньсе Колас ня меншы Міцькевіча, Пушкіна, Лермантава[794]. Гэтая “нэўтральнасьць” Коласава якраз і абяртаецца ў вялікую актыўную сілу мастацкага ўзьдзейнічаньня. Што найгастрэйшым зьяўляецца ў Коласа, дык гэта ягонае паэтычнае вока, зрок, потым — пачуцьці. Коласава творства мы ўспрыймаем зрокава й пачуцьцёва, але ніколі — “ідэялягічна”. “Ідэялягічны” Колас самы нясьцерпны. І такога Коласа час, бязумоўна, адкіне. Хаця Колас толькі адтварае, натуралістым яго нельга назваць, нэўтральнае адтварэньне занадта тыповае, каб перайсьці ў натуралізм. Тыповасьць у Коласа даходзіць да таго, што ў яго бадай няма тыпаў, характараў, пэрсанажаў. Усе Коласавы пэрсанажы — гэта хутчэй абстракцыя: у іх няма шырэй разгорнутага індывідуальнага жыцьця. Пэрсанажы бяруцца Коласам з рэчаіснасьці гатовымі, складзенымі. Яны ўмоўныя, тыповыя. Яны могуць навет запамінацца, бо надзеленыя адменнымі рысамі, але яны бяз руху, бяз нутранога канфлікту. Героі Коласа часткава ўспрыймаюцца як фальклёрныя вобразы. Адылі ад гэтага творы Коласа набываюць як-бы яшчэ большы *агульна-нацыянальны* характар.

Што зусім лягічна ў сьвятле сказанага, творчасьць Коласа бесканфліктная, калі ня лічыць сацыяльнага канфлікту: пан-мужык. Але і ўся нашая літаратура толькі з такім канфліктам. І, як мне здаецца, нашая літаратура чакае цяпер на паэту зь іншай канфліктнасьцяй, што ляжыць дзесьці глыбей, у роўніцы нашага духу. Калі нашая літаратура ня споўніць гэтага, у нас ніколі ня будзе нечага вышэйшага, большага, чым Колас і Купала. І Колас з Купалам застануцца ў нас тады запраўды нашай лебядзінай песьняй. Але мы ў гэта ня хочам верыць.

794 **Міхаіл Лермантаў** (рус. *Михаил Лермонтов*, 1814–1841), рускі паэт, празаік, драматург.

*Алесь Карповіч*

# Кніга аб беларускім тэатры й драме
## “The Byelorussian Theater and Drama” by Vladimir Seduro[795]. Research Program on the USSR. New York, 1955, p. 22+517[796]

Кніга Ул. Сядуры “Беларускі тэатр і драма”, якая выйшла сёлета ў сьвет у ангельскай мове ў выданьні амэрыканскае “Дасьледніцкае праграмы СССР” — першая салідная праца, прысьвечаная гэтаму пытаньню.

Гісторыю тэатра нельга адарваць ад гісторыі народу: інтэнсыўнасьць разьвіцьця тэатральнага мастацтва цесна павязана з пульсам грамадзкага жыцьця, і зьмест гэтага мастацтва, як чульлівы барамэтар, паказвае грамадзка-палітычнае “надвор’е”. Залатая эпоха Пэрыклеса[797] ў клясычнай Грэцыі дала непараўнальны тэатр элінаў, рэзанансу якога не змаглі прыглушыць тысячагодзьдзі; цёмная эпоха сярэднявечча парадзіла сваесаблівыя тэатральныя жанры; цудоўныя майстры драматургіі ўпрыгожылі эпоху Рэнэсансу; Француская Рэвалюцыя выклікала да жыцьця новы тэатральны зьмест, — імкненьні кажнае гістарычнае эпохі й мэнтальнасьць кажнага народу знайшлі свой адбітак у тэатральнай эстэтыцы, далі ёй сваесаблівую непаўторнасьць, склалі асобны тэатральны стыль. Таму й гісторыя тэатру прываблівала

795 **Уладзімір Сядура** (псеўд. **Глыбінны**, 1910–1995), пісьменнік, літаратуразнаўца, культуролаг. Уваходзіў у літаратурнае аб’яднанне “Маладняк”, быў сябрам БелАПП. Арыштаваны ў 1933 г. у Маскве, высланы на тры гады ў Сібір, у 1935 г. датэрмінова вызвалены. У 1941 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю “Максім Горкі як гісторык рускай літаратуры”. У 1942–1944 гг. галоўны рэдактар часопіса “Новы шлях” (Рыга). Ад 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку ў Нямеччыне. У 1951 г. перабраўся ў ЗША. Узначальваў кафедру сучасных моў і рускай літаратуры ў Школе гуманітарных навук Рэнселерскага політэхнічнага інстытута ў Троі (штат Нью-Ёрк).

796 Бацькаўшчына. № 40–41 (270–271). 9 кастрычніка 1955. С. 6.

797 **Перыкл** (494–429 да н. э.), старажытнагрэцкі палітычны і дзяржаўны дзеяч, стратэг Афінаў у 444–431 і 429 гг. да н. э. Кіраванне Перыкла паспрыяла палітычнаму і эканамічнаму росквіту Афінаў, іх пераўтварэнню ў буйны культурны цэнтр старажытнага свету.

дасьледнікаў культуры, і гэтаму пытаньню прысьвечаныя шматлікія й глыбокія зьместам працы.

Гісторыя беларускага тэатру як самастойная дысцыпліна доўгі час не знаходзіла адпаведнага дасьледніка. Некаторыя дадзеныя зь гісторыі тэатральнага мінулага ў Беларусі можна знайсьці ў працах зь гісторыі расейскага й польскага тэатраў. Аднак першы, хто зацікавіўся гэтым пытаньнем як самастойнаю галінаю, быў наш выдатны драматург Францішак Аляхновіч, які ў 1924 годзе выдаў у Вільні кнігу “Беларускі тэатр”. Кніга гэтая зьмяшчае характарыстыку беларускага тэатру дасавецкага пэрыяду і ахоплівае, гэткім чынам, толькі пэрыяд тэатральных пачынаньняў. Спробы іншых тэатраведаў пашырыць і прадоўжыць працу над дасьледваньнем далейшага разьвіцьця беларускага тэатру ня далі канкрэтных вынікаў, бо матар’ялы гэтых дасьледваньняў загінулі ў часе разгрому беларускіх культурных сілаў у падсавецкай Беларусі ў 30-х гадох. Асобныя артыкулы аб праблемах тэатральнае культуры БССР і рэцэньзіі на спэктаклі беларускіх тэатраў, раськіданыя па бачынах савецкае пэрыядычнае прэсы, у бальшыні выпадкаў недаступныя чытачу. Апрача таго, дзеля свае тэндэнцыйнасьці яны ня могуць даць запраўднага вобразу тэатральнага жыцьця ў савецкай Беларусі.

Праца Ул. Сядуры — гэта першая спроба даць вольную ад тэндэцыйнасьці сынтэтычную гісторыю беларускага тэатру — ад ягоных крыніц аж да нашых дзён. Кніга складаецца з чатырох частак: перадсавецкі пэрыяд (крыніцы беларускага тэатру, тэатральныя пачынаньні ў XIX ст., нашаніўская пара), гісторыя разьвіцьця Першага Беларускага Дзяржаўнага Тэатру — БДТ І, гісторыя разьвіцьця Другога Беларускага Дзяржаўнага Тэатру — БДТ 2 (які пасьля Другое Сусьветнае Вайны атрымаў назоў тэатру імя Якуба Коласа) і гісторыя вандроўнага тэатру Уладыслава Галубка[798]. Гэтакім чынам, праца Ул. Сядуры ахоплівае ўсе найважнейшыя этапы й разьдзелы беларускага тэатральнага жыцьця. Багатая фактычным матар’ялам, кніга праводзіць чытача праз эпоху станаўленьня беларускага тэатру, праз кароткі пэрыяд “рэнэсансу” беларускай тэатральнай культуры ў 1920–28 гг., калі таталітарны рэжым яшчэ ня так моцна, як пазьней, скоўваў разьвіцьцё твор-

[798] **Уладзіслаў Галубок** (сапр. **Голуб**, 1882–1937), драматург, празаік, рэжысёр, акцёр, мастак.

чае думкі; праз багаты жахлівымі падзеямі наступны пэрыяд, калі тэатар стаўся толькі прыладай для мастацкага ажыцьцяўленьня палітыкі партыі. Перад чытачом паўстае галярэя вобразаў выдатных прадстаўнікоў нашай тэатральнай культуры — драматургаў, рэжысэраў і актораў, якія ў вабставінах сталай небясьпекі перасьледваньняў за ўсялякія "ўклоны" тварылі малады беларускі тэатар. Аўтар кнігі знаёміць чытача із стылявымі асаблівасьцямі гэтага тэатру, разгортваючы перад ім на падставе гістарычных дадзеных і арыгінальных дакумэнтаў складаны вобраз стылявых мэтамарфозаў, што паўставалі ў выніку зьменаў фарватэру партыйнага карабля ды ў выніку змаганьня між прадстаўнікамі розных плыняў тэатральнае эстэтыкі.

Шматлікія фотаздымкі, прыкладзеныя ў канцы кнігі, частка зь якіх ужо даўно сталася архіўным здабыткам, прадстаўляюць выдатных тэатральных дзеячоў і паасобныя сцэны тэатральных пастановак.

У багатую бібліяграфічную частку ўваходзяць сьпісак беларускіх драматургічных твораў, літаратура да гісторыі беларускага тэатру й пералік паасобных артыкулаў аб беларускім тэатральным жыцьці ў пэрыядычным друку.

Канчаецца кніга пэрсанальным і прадметным індэксамі.

Праца, якую ўклаў аўтар у сваю кнігу, — бясспрэчна вялізарная. Адсутнасьць дадзеных зь гісторыі беларускага тэатру выклікала неабходнасьць крапатлівага зьбіраньня матар'ялу, у бальшыні выпадкаў пераасэнсоўваньня яго з адпаведнымі вывадамі, і, пасьля гэтага, сынтэзу яго — абагульненьне паасобных дэталяў, фактаў і зьявішчаў у адзінае цэлае. Усе гэтыя этапы аўтар праводзіць добрасумленна і дасканала. Але на гэтым навуковы досьлед не канчаецца. Як вынік усяго працэсу дасьледніцкае працы звычайна паўстае нейкая рэзультатыўная раўнадзеючая як эквівалент дзейнасьці розных паводля характару, накіраванасьці і інтэнсыўнасьці сілаў. Гэтая раўнадзеючая ў пляне досьледу гісторыі беларускага тэатру мусіла-б паказаць, ці далі ўсе паасобныя шматлікія інгрэдыенты гэтага зьявішча нешта новае, непаўторнае, ці засталося тое самае, што ўжо калісь было, і нічога новага сабой не ўяўляе. Трэба адказаць на пытаньне, ці творчая практыка выдатных майстроў нашага тэатральнага мастацтва — драматургаў, рэжысэраў і актораў — нягледзячы на розьніцу іхнае творчае індывідуальнасьці і на

вымушаную неабходнасьць тварыць у вабставінах таталітарнага рэжыму, ці дае гэтая творчая практыка гаварыць, што як вынік складанага спляценьня палітычных і эстэтычных фактараў паўстала нешта новае, што характарызуе сабой беларускі нацыянальны стыль у тэатральным мастацтве. Нам здаецца, што яснага адказу на гэтае кардынальнае пытаньне аўтар не дае, і ў чытача міжвольна ствараецца ўражаньне аб пэўнай эклектычнасьці беларускага тэатральнага мастацтва, якое склалася на базе выкарыстоўваньня творчага дазнаньня расейскага і эўрапэйскага тэатраў (як пачынае аўтар характарыстыку стылю БДТ I, бач. 68), або зьявілася толькі паўторам мастацкае практыкі “Маскоўскага Мастацкага Акадэмічнага Тэатру”, МХАТ[799], (як можна сьцьвердзіць зь ліста рэжысэра БДТ 2 С. Хачатурава, у якім ён называе гэты тэатр *“плоць ад плоці й кроў ад крыві МХАТу”*, бач. 264).

Нельга гаварыць, што аўтар зусім не кранае паняцьця нацыянальнага беларускага стылю пры аглядзе творчае практыкі вядучых тэатраў Беларусі, але ён ужывае гэтае паняцьце хутчэй як дадатковае да прымату й прыёрытэту МХАТ-аўскай школы ў мастацтве гэтых тэатраў. У распрацаваньні гэтага пытаньня хацелася-б бачыць менш цытаваных выказваньняў іншых, небеларускіх аўтарытэтаў, але больш самастойных аўтарскіх высновак як вынік усебаковага апанаваньня фактычнага матар’ялу й глыбокага мэтадалягічнага аналізу творчае дзейнасьці паасобных стваральнікаў беларускага тэатру.

Гэтым фактычным матар’ялам, як ужо адцемлена, кніга вельмі багатая. Бязумоўна, якасьць гэтая — рэч толькі пазытыўная, але часам празьмерная дэталізацыя залішне абцяжвае дасьледваньне і не дапамагае ягонай лёгіцы. Мы ня думаем, што камусь будзе цікава ведаць, што кампазытар Кулікоўіч у сваёй маладосьці часта наведваў тэатр мініятураў у Санкт-Пэтэрбурзе, і мы сумляваемся, што якраз гэтая акалічнасьць бадай праз палову стагодзьдзя адбілася на стылі й рэпэртуары кіраванай ім канцэртна-эстраднай групы “Жыве Беларусь!”[800] (бач. 179). Побач з падобнай праз-

---

[799] **Маскоўскі мастацкі акадэмічны тэатр (МХАТ)** — драматычны тэатр, заснаваны ў 1898 г. К. Станіслаўскім і У. Неміровічам-Данчанкам (да 1919 г. — Маскоўскі мастацкі тэатр).

[800] **“Жыве Беларусь!”** — тэатральна-мастацкая трупа, створаная ў Нямеччыне пад кіраўніцтвам Аўгена Кавалеўскага з былых акцёраў Менскага гарадско-

мернай дэталізацыяй часам забываюцца аўтарам больш патрэбныя рэчы. Ён спамінае, прыкладам, нейкага камуніста Козакава, загадчыка мантавальнай часткі БДТ I (ён навет і ў пэрсанальны індэкс трапіў, але ўжо як актор!), але зусім не спамінае прозьвішча жанчыны-рэжысэра Гаянэ Тушмалавай[801], якая шмат чаго зрабіла ў пэрыяд працы тэатру пад нямецкай акупацыяй. Не пададзеныя таксама прозьвішчы кампазытараў, якія працавалі над музычным афармленьнем рэпэртуару БДТ I, хоць аб пазытыўных якасьцях гэтае музыкі аўтар гаворыць (бач. 75). Ня зусім прадуманай здаецца нам фармулёўка аўтара аб тым, што музыка да тэатральных п’есаў, паступова *“выдзяляючыся”* з гэтых п’есаў, ператварылася ў опэрныя спэктаклі (бач. 76).

Некаторыя ацэны акторскага майстэрства зьяўляюцца недагаворанымі. Аўтар, прыкладам, піша, што часта вядучым акторам БДТ I даводзілася спалучаць у сваёй творчай практыцы розныя, а часам і супрацьлежныя акторскія амплюа — ролі псыхалягічныя й рэалістычныя (актору Ўладамірскаму[802]) і што актор заўсёды ўдала выходзіў з усіх цяжкасьцяў (бач. 78). Цяжка пагадзіцца з падобным “унівэрсалізмам” выдатнага актора. У ягоным творстве заўсёды ёсьць галоўнае й другараднае, і націск трэба ставіць якраз на галоўнае, бо гэтае галоўнае і ёсьць ключ для разуменьня творчае індывідуальнасьці й творчага дыяпазону актора. Аднак усе гэтыя й падобныя ім недахопы зусім зразумелыя ў гэтай шырака й глыбака задуманай працы.

Салідны досьлед Ул. Сядуры, які абыймае 517 бачынак тэксту, бясспрэчна, прынясе сур’ёзную дапамогу ўсім, хто цікавіцца гісторыяй культуры беларускага народу ды паслужыць абшырнай крыніцай ведаў для чытача й навукоўца-чужынца, а гэтым і кладзе пачатак запраўды навуковаму распрацоўваньню пытаньняў зь гісторыі беларускага тэатру.

---

га тэатра ў 1945 г. Гастралявала па лагерах для перамешчаных асобаў у другой палове 1940-х гг.

801 Магчыма, маецца на ўвазе **Гаянэ Тушмалава** (1892–1971), якая пазней працавала тэатральным педагогам на Урале.

802 **Уладзімір Уладамірскі** (сапр. **Малейка**, 1893–1971), акцёр, народны артыст БССР (1938), народны артыст СССР (1955). У 1924–1959 гг. працаваў у Беларускім дзяржаўным тэатры.

*А. Г.*[803]

## "Беларуская літаратура ў супраціве саветызацыі"
(Antony Adamovich: Opposition to Sovietization in Belorussian Literature (1917–1957). Munich. Institute for the Study of the USSR, 1958, 204 p.)[804]

Бесьперапынная навала тэндэнцыйнасьці й хвальшу аб Беларусах, Беларусі і яе мінулым, выпісваных Масквой у тысячах тамоў і "экспартаваных" на Захад ды прыйманых тут за добрую манэту, давялі да таго, што мы былі для Захаду ні больш, як толькі нейкая сваесаблівая фальклёрная катэгорыя.

Колькі было пакладзена натугаў і колькі іх робіцца цяпер, каб супрацьдзеіць гэтаму хвальшу, каб сказаць нашае слова, каб перасьцерагчы тых, што прывыклі разглядаць нас такімі, як нас намалявалі ці малююць нашыя некаторыя суседзі, а ў найбольшай ступені Расейцы. Літаратура аб Беларусі ў заходніх мовах яшчэ вельмі й вельмі бедная. Патрэба-ж узрастае хуткімі тэмпамі з году ў год. І, бязумоўна, мы ня можам сяньня спадзявацца, што гэты недахоп запоўняць заходнія навукоўцы й дасьледнікі, якія, часамі і ня з дрэннае волі (часамі!) паўтараюць усё той-жа стары хвальш, падсунуты ім. Дзеля гэтага асаблівае значаньне маюць тут працы беларускіх навукоўцаў, і кажная новая пазыцыя ў гэтай галіне — гэта нашае дасягненьне на шляху ня толькі навет да дэмаскаваньня няпраўды, й наагул да "адкрываньня" перад заходнім сьветам новага нязьведанага краю з усімі ягонымі праблемамі.

Разгляданая гэтта кніжка Антона Адамовіча, выдадзеная ў ангельскай мове, адыграе ў гэтай галіне сваю незаменную ролю.

Пашыранае значаньня (што якраз падчыркнуў у сваёй прадмове да гэтае кнігі Др. А. Дальлін[805]) мае й той факт, што Ант. Адамовіч — найбольш кваліфікаваны да такое тэмы: па-першае — гэта ведамы літаратуравед і крытык, па-другое — сам

[803] ***А. Г.*** — крыптанім Алеся Марговіча.

[804] Бацькаўшчына. № 5 (391). 2 лютага 1958. С. 4.

[805] **Аляксандр Далін** (англ. *Alexander Dallin*, 1924–2000), амерыканскі саветолаг, палітолаг, спецыяліст па Усходняй Еўропе, прафесар Стэнфарда і Калумбійскага ўніверсітэта. Ад 1971 г. кіраваў Цэнтрам расійскіх і ўсходнееўрапейскіх даследаванняў у Стэнфардзе.

браў беспасярэдні ўдзел у літаратурным жыцьці й падзеях, разгляданых у гэтае працы.

Як ужо пададзена ў самім назове, у кнізе разглядаецца пэрыяд 1917–1957 гг., г. зн. — супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры на працягу ўсяго часу існаваньня савецкае ўлады. Асноўны-ж аднак націск пакладзены на пэрыяд дваццатых і пачатак трыццатых гадоў, пэрыяд, у якім мы бачым, з аднаго боку, бурны рост і разьвіцьцё беларускай літаратуры, з другога — наступ на яе бальшавікоў, якія імкнуліся саветызаваць яе і, такім чынам, падпарадкаваць яе сваім утылітарным мэтам.

Савецкая цэнзура, хоць спачатку яшчэ мо без належнай практыкі, войстра сачыла за ўсімі "ўхіламі" ў літаратуры, а таму пісьменьнікі, адаптаючыся да абставінаў, выпрацоўвалі сваесаблівую тэхніку зашыфроўваньня антыкамуністычнага зьместу ў сваіх творах. Ант. Адамовіч падае шматлікія прыклады такога зашыфроўваньня ды паказвае на запраўды антыкамуністычны зьмест у творах, якія на першы пагляд здаваліся-б зусім у лініі, а прынамся ня супраць тагачасных савецкіх вымогаў у літаратуры. Да гэтага трэба дадаць, што ў такіх творах паэты й пісьменьнікі выказвалі ня толькі сваё адмоўнае настаўленьне да бальшавізму, але тут мы знаходзім адважныя заклікі да змаганьня за запраўды вольную бацькаўшчыну, знаходзім візію незалежнае Беларусі. Зразумела, у далейшым бальшавікі ім гэтага не даруюць.

Аўтар асабліва шырака й падрабязна разглядае падзеі 1929 году ў беларускай савецкай літаратуры. Гэта быў кульмінацыйны пункт ейнага супраціву саветызацыі, супраціву, ведзенага й кіраванага "Ўзвышшам"[806], найбольш апазыцыйнай групай у тагачаснай літаратуры. У працы прыводзяцца ўсе бальшавіцкія махінацыі, што змусілі ўзвышэнцаў спачатку да прызнаньня сваіх "памылак", а пасьля й да ліквідацыі самога згуртаваньня ў 1931 годзе.

Гэта быў пэрыяд самага войстрага наступу бальшавікоў на беларускую літаратуру, наступу, пасьля якога ўжо не заставалася ніякае аддушыны для апазыцыі, і які завяршаў саветызацыю літаратуры. Дзесяткі пісьменьнікаў было выэлімінавана фізычна

[806] **"Узвышша"** — літаратурнае аб'яднанне, якое існавала ў БССР у 1926–1931 гг., выдавала аднайменны часопіс. Пасля працэсу аб "Саюзе вызвалення Беларусі" некаторыя сябры згуртавання (Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча, Адам Бабарэка, Антон Адамовіч, Фелікс Купцэвіч, Уладзімір Жылка) былі высланыя.

(турмы, ссылкі, лягеры), іншыя-ж былі загнаныя ў адзіна дазволены літаратурны калгас — Саюз Савецкіх Пісьменьнікаў — із сваімі правінцыяльнымі філіямі ў нацыянальных рэспубліках. Ды й гэтыя апошнія пісьменьнікі пасьлей былі яшчэ раз “чышчаныя” ды ў бальшыні сваёй падзялілі долю першых.

Аўтар, камэнтуючы творы паэтаў і пісьменьнікаў ды паказваючы на апазыцыйны зьмест іх, прыводзіць у сваёй працы шматлікія найбольш характэрныя ўрыўкі з гэтых твораў, што дае змогу самому чытачу пераканацца ў правільнасьці вывадаў аўтара.

Багатая бібліяграфія, якую аўтар сабраў для свае тэмы, будзе мець вялікае значэньне для дасьледнікаў, што дагэтуль карысталіся бібліяграфіяй прыпадковай, пераважна толькі савецкай, афіцыяльна дапушчанай.

У канцы кнігі падаюцца кароткія біяграфічныя дадзеныя аб 43 больш ведамых беларускіх паэтах і пісьменьніках. Гэты даведкавы матар’ял асабліва важны ў сувязі з тым, што аб пісьменьніках апазыцыйных, зьліквідаваных ці памерлых у ссылцы, ніводзін дасьледнік ня знойдзе ніякіх дадзеных у савецкай даведкавай літаратуры.

Трэба адцеміць, што гэты слаўны й няменш трагічны пэрыяд супраціву беларускай літаратуры ня прызнаецца бальшавікамі. Ізь сяньняшніх савецкіх падручнікаў, “гісторыяў” і “нарысаў” зь літаратуры чытач ніколі не даведаецца аб падзеях таго часу, аб пісьменьніках, аб іхных творах. Яны старанна прамоўчваюцца, як быццам іх ніколі ня існавала.

Апошнімі часамі, праўда, у менскай газэце “Літаратура і Мастацтва” падымаліся галасы за рэгабілітацыю пісьменьнікаў і цэлых літаратурных згуртаваньняў, як, прыкладам, “Узвышша”, ды за поўны і аб’ектыўны разгляд тагачаснае літаратуры. Дагэтуль нічога з гэтага ня выйшла. Зрэштай, каб і дапусьціць на момант думку, што партыя магла-б згадзіцца на частковую рэгабілітацыю апазыцыйных пісьменьнікаў і тагачасных літаратурных згуртаваньняў, дык ніяк нельга сабе ўявіць, каб бальшавікі здабыліся *аб’ектыўнасьці* й *поўны* разгляд апазыцыйнае беларускае літаратуры.

У сувязі з апошнім праца Ант. Адамовіча мае першараднае значэньне, з аднаго боку, як праца піянерская, што дапаўняе такую вялізарную пробель у гісторыі беларускай літаратуры, з другога боку — як каштоўны дакумант, які дэмаскуе маскоўскую палітыку ў дачыненьні нацыянальных культураў, у дадзеным выпадку ў галіне літаратуры.

*Я. Ст.*[807]

## Вянкі ўюць[808]

У камэнтары да твораў Максіма Багдановіча, што цяпер друкуюцца ў “Бацькаўшчыне”[809], неаднойчы паўтараецца: «*Верш ня ўплецены ў новую рэдакцыю “Вянка”*».

*Плятуць* рэчы грубыя, як кашы, лубкі, пляцёнкі. З гэтым згаджаецца й тое, што карэнь дзеяслова *“пляту-плесьці”* той самы, што й карэнь словаў *“плот”*, *“пярэплат”* (*“азярод”*), розьніца толькі ў супені самагуку. Але ўжо пужку не плятуць, а *ўюць*. І пагатове не плятуць, а ўюць такую мастацкую рэч, як вянок. Калі ўюць вянок із красак і пад., дык уюць яго і зь вершаў. Ёсьць, праўда, і вершаплёты, але Багдановіч да іх не належа. Карэнь дзеяслова *ўю* (з *вью*-) *“віць”* той самы, што й карэнь слова *“вянок”*, розьніца толькі ў ступені самагуку. Гэтак, паходжаньне менаваных словаў згаджаецца зь іх ужываньнем у мове.

За адным гакам ня лішне мо будзе зацеміць, што паясы — *ткуць*. Таксама віцьцё розьніцца сваёй тэхнікай ад пляценьня. Прыклад на віцьцё вянка:

*Дзевачкі йдуць, вяночкі ўюць,*
*Я свой разьвіваю.*
*Па красачцы, па васілёчку*
*Я свой раськідаю.*

(Песьня запісаная ў Імглінскім павеце. Косіч. 235 — “Живая Старина”[810], 1901, т. II). Падобных прыкладаў сустракаецца мноства з усіх беларускіх мясцовасьцяў.

Аднойчы здарылася мне чуць, як беларускі інтэлігент прасіў селавую дзяўчыну *“сплесьці”* яму пояс; тая адчула гэта як зьнявагу свайму ўменьню і адказала, што *плесьці* пояса яна ня будзе, але — вытча.

[807] ***Я. Ст.*** — крыптанім Янкі Станкевіча.

[808] Бацькаўшчына. № 5 (391). 2 лютага 1958. С. 4.

[809] На працягу жніўня 1957 — чэрвеня 1958 г. на старонках газеты “Бацькаўшчына” публікаваліся творы Максіма Багдановіча, што пазней склалі зборнік: Багдановіч, Максім. Вянок паэтычнай спадчыны. Нью Ёрк — Мюнхэн, 1960.

[810] ***“Живая старина”*** — часопіс, які выдаваўся ў 1890–1916 гг. этнаграфічным аддзяленнем Імператарскага рускага геаграфічнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу.

*Антон Адамовіч*

## **Абы ўмеючы ды разумеючы...** (Вымушаная розьведка з сэмантыкі — заміж ліста ў рэдакцыю)[811]

Добрыя людзі зварачаюць мне ўвагу, што ў № 5 (391) “Бацькаўшчыны” ад нядзелі 2 лютага сёлета на б. 4, пад рэцэньзіяй на маю кніжку (за якую належыцца шчыры дзякуй рэцэнзэнту сп. А. Г.) зьмешчаная зацемачка “Вянкі ўюць” пяра Я. Ст., якія няпрыязна, хоць і недалужна, чапляецца да выразу *«вершы, ня ўплеценыя ў “Вянок”»*, ужыванага ў камэнтарах да твораў Максіма Багдановіча (да таго-ж яшчэ перакручваючы яго да запраўднага нонсэнсу на “верш, *ня ўплецены ў новую рэдакцыю* “Вянка”, чаго там знайсьці аніяк нельга). Паколькі камэнтарыя гэныя й той выраз належаць таксама мне, дык ствараецца ўражаньне, што зацемачка Я. Ст. выразна *“падплеценая”* пад рэцэньзію А. Г., як лыжка (ці тутака мо лепш — лапаць, калі ня выходзіць з кола пляценьня) дзягцю, што мае закрасіць карэц мёду рэцэньзіі.

Адылі, мне йдзецца тут не пра такое арыгінальнае частаваньня мяне паводля рэцэпту: сербані, куме, саладзенькага, а гаркаватым хіба дзёгцікам прагані-закусі — на сваім не задаўгім яшчэ вяку ды ў нашым кручаным сьвеце ўсялякага ўжо пакаштавалася — а пра самую існасьць справы. Бо недалужная сваёй непрадуманасьцяй зацемачка Я. Ст. уся грунтуецца на вялікім непаразуменьні існасьці рэчы, якую ён бярэцца аўтарытэтна распраўляць, ды можа ўвесьці ў блуд таго, хто, як і Я. Ст., не захоча — ці наагул не ахвочы — думаць, каб разумець.

Існасьць-жа рэчы тутака ў сэмантыцы — значаньнях словаў мовы, што належаць да разьдзелу моваведы, вельмі важнага, а ў дачыненьні да нашае мовы ані не распрацаванага. Дык зацемачка Я. Ст. змушае зрабіць розьведку ў гэты разьдзел, і ў гэтым хіба ейная вартасьць, хоць і адзіная. Пачынаць другую розьведку здалёку не даводзіцца, бо адразу ясна, што праводжанае Я. Ст. вырозьненьне значаньняў дзеясловаў *плесьці* й *віць* у пляне “грубасьці” або “мастацкасьці” тых рэчаў, да назоваў якіх гэтыя дзеясловы ў мове

[811] Бацькаўшчына. № 19 (405). 11 травеня 1958. С. 3–4.

тарнуюцца, зусім не прадуманае й ніякімі сэмантычнымі меркаваньнямі ня можа быць паважна ўгрунтаванае, бо “грубасьць” такіх рэчаў, як кашы, лубкі, пляцёнкі, а “мастацкасьць” гэткіх, як вянкі (ды… пужкі?) вызначаецца не прыродаю ці прызначэньнем гэтых рэчаў, а найперш і найбольш іхным выкананьнем, афармаваньнем — ня іхным “*што*”, а іхным “*як*”, як заўсёды бывае, калі ход аб мастацкасьці. І кашы, і лубкі, і пляцёнкі, і нат той няшчасны плот, а ня толькі вянок могуць быць мастацкімі — мастацкімі творамі ў запраўдным сэньсе гэтага слова, а могуць, пэўне-ж, быць і партацкімі, ня толькі “грубымі” — у тым ліку й вянок, але-ж. Праводжаны Я. Ст. падзел рэчаў на “грубыя” й “мастацкія” паводля самое іхнае прыроды ці прызначэньня псыхалягічна карэніцца хіба ў старым прымітыўным адрозьненьні рэчаў “простых” (тых-жа “грубых”), мужыцкіх ды зусім, або больш, “панскіх”, “далікатных” і з сучасным інтэлігентным разуменьнем мастацтва й мастацкасьці нічога супольнага ня мае.

Розьніца ў значаньні паміж сынонімамі (бо гэта сынонімы — словы блізкага значаньня — *плесьці* й *віць*, калі яе прадумаць і дасьледаваць, ляжыць у зусім іншым пляне — у пляне самое тэхнікі й тэхналёгіі, матар’ялу й спосабу выкананьня дзеяньняў, што гэтымі дзеясловамі абазначаюцца. Гэтак, *віць* выразна абазначае дзеяньне *задзіночаньня* паасобных аднародных вузейшых і даўгаватых элястычных элемэнтаў *спушчаньнем* іх у вадно, у вадну шырэйшую суцэль, у якой гэтыя элемэнты ўжо трацяцца, зьліваюцца, ня вылучаюцца больш, як такія, творачы новае, маналітнае адзінства, як гэта ёсьць у нітцы, у вяроўцы, у вераўчанай пужцы, у птушыным гнязьдзе. *Плесьці*-ж абазначае дзеяньне *злучаньня* паасобных, не канечна аднародных і вельмі элястычных, звычайна ўжо шыракаватых, хоць і таксама даўгаватых элемэнтаў *прапушчаньнем* іх адзін пад адзін у пэўную канструкцыю — суклад, у якім элемэнты гэтыя ўжо ня зусім трацяцца, вылучаюцца, а то й увыпукляюцца, відаць і самі па сабе ў новым, але вальнейшым адзінсьцьве, як гэта ёсьць у такіх рэчах, як тыя кашы, лубкі, пляцёнкі, або плот з пераплотам, або ў дзявочай касе, або ў лапці лыковым ці лазовым. Бывае, што адны й такія самыя рэчы можна й віць і плесьці, залежна ад таго, зь якога матар’ялу. Вось, Я. Ст. безапэляцыйна заяўляе: “*Але ўжо пужку не плятуць, а ўюць*”, а ў народнай песьні (а на яе-ж сам Я. Ст. паклікаецца як на найвышэйшы аўтарытэт) пяецца:

*Ходзе Ільля на Васільля, носе пугу,*
*Плецяную, драцяную,*
*Дзе пугай махне, там жыта расьце…*

(Беларускі Зборнік Раманава[812],
том I, б. 447, № 6).

Выглядае, што ўжо з дроту — драцяную пужку якраз плятуць, тымчасам як зь вяроўкі, пэўна-ж, віць можна й трэба. Тое самае й зь вянком — для Я. Ст. наступной па пузе *“такой мастацкай рэчай”*: яго можна віць і плесьці, гледзячы, з чаго і як. Наагул, шмат чаго можна плесьці й віць, абы ўмеючы й разумеючы, і мастацка, і партацка, як казалася — хто як умее.

Тутака наша мова зусім згаджаецца зь іншымі мовамі, у тым ліку і з расейскай, на якую гэтта паклічамся, бо яе-ж у нас больш знаюць (хіба й той-жа Я. Ст.), чымся, скажам, якую ангельскую. Даль[813] у сваім выясьняльным (*“толковым”*) слоўніку, які так шануюць і некаторыя нашы філялёгі (дый яшчэ з прэтэнзіяй на адзіных, а ў сваім родзе дык і ўзапраўды адзіныя[814]), выясьняе расейскі дзеяслоў *вить* гэтак: *“скручивать, спускать пряди в одну нить или вервь”* (том 1, выд. 3, пад рэд. Праф. Бадуэна-дэ-Куртэнэ, б. 509), а *плести* гэтак: *“решетить впереборку, пропуская наниз и наверх”* (том 3, б. 313). Што да вянкоў, дык у прыкладах пад *вить* Даль падае: *“Навили венков”*, а пад *плести* — зусім гэтак-жа: *“Наплели венков”*. Зь іншых прыкладаў ягоных цікавымі тут могуць быць: *“Завивать венки”* і — *“Веночница — женщина, плетущая, продающая цветочные венки”* — пад *венок* (том 1, б. 812); *“Хмель вьется вокруг тычыны”* пад *вить* (том 1, б. 509) і — *“Хмель плетется по плетню, вьется”* або *“выплести этот узор”* (хіба-ж узор — *“мастацкая рэч”*?) — пад *плести* (том 2, б. 313). Кажны, хто прадумае гэтыя азначэньні й прыклады, ня будзе пярэчыць, што ўжываньне і ў нашай мове зусім гэткае-ж.

812 **Еўдакім Раманаў** (1855–1922), этнограф, фальклярыст, археолаг. Тут маецца на ўвазе выданне: Романов, Е. Белорусский сборник. Вып. 1–2: Песни, пословицы, загадки. Киев, 1885.

813 **Уладзімір Даль** (рус. *Владимир Даль*, 1801–1872), расійскі навуковец і пісьменнік, вядомы як аўтар *“Толкового словаря живого великорусского языка”*.

814 *Антон Адамовіч тут намякае на самога Янку Станкевіча, які ў сваіх працах часта спасылаўся на слоўнік Даля; гл., напрыклад ягоную працу «Крывіччына ў “Толковым словаре живого великорусского языка” В. Даля» (Ян Станкевіч. Збор твораў у двух тамах. Том 1. Менск, 2002. С. 511–534).*

Вырознасьць значаньняў *віць* і *плесьці* пашыраецца й на выводныя ад іх словы, твораныя зь іншымі прыстаўкамі, як, прыкладам, *завіць* і *заплесьці*, або *увіць* і *ўплесьці*. Ясна, што *ўвіць* краску або кветку ў той-жа *вянок* нельга, каб яе ня *"скруціць"*, як добра кажа той Даль, г. зн. ня зьнішчыць як краску. Таму краскі ў вянок і *ўплятаюцца*, а ня *ўвіваюцца*, дык *уплятацца* маюць і вершы, калі ў пераносным пляне кажацца пра іх як пра краскі ў паэтычным вянку — Багдановічавым "Вянку" ў нашым выпадку. Таму й выраз *"вершы, уплеценыя"* або *"ня ўплеценыя"* ў "Вянок" — зусім на месцы й над адзіны магчымы ў дадзеным вобразным кантэксьце.

Мала таго, выраз гэты проста паходзіць з паэтычнага словаўжываньня самога Максіма Багдановіча, які ў вершы "Плакала лета" (у тым-жа сваім "Вянку") кажа:

*Кветкі асеньнія, родныя, бледныя!*
*Вырасьлі вы, каб узраз-жа і зьгінуць.*
*Можа таму і душа надарваная*
*Гэтак любоўна вянок з вас сплятае.*

І ў гэткім словаўжываньні ён не адзіны ў нашай паэзіі. У найбліжэйшага да яго постацяй, калібрам і месцам Алеся Гаруна чытаем (у вершы "Людзям", уступным да ягонага адзінага зборніка "Матчын дар"):

*Люблю вянкі сплятаць з надзеяй…*

Дый у Якуба Коласа таксама маем (у вершы "Усход сонца"):

*Сьветлых хмарак валаконцы*
*Сталі у кружочак*
*Вышай лесу, процi сонца*
*І сплялі вяночак.*

А найлепш дык у самога Янкі Купалы. Пэўне-ж, у яго, як і ў іншых, можна знайсьці, калі трэба, і такое: *"вяночак зьвіў-бы табе я"* (у зборніку "Шляхам жыцьця", у разьдзеле "Для яе"), ды тут-жа знойдзецца й верш "Дзяўчына й вянок" (у тым самым зборніку й разьдзеле), што пачынаецца гэтак:

*Сонца ўтульна пазірала,*
*Птушкі пелі на ўсе тоны;*
*Кветкі дзеўчына зрывала*

*Ля дубровы, ля зялёнай.*
*Заплятала ў вяночак,*
*Прымярала на галоўцы…*

А ў ваднэй з найпаэтычнейшых ягоных рэчаў — у паэме “Яна і Я” (у зборніку “Спадчына”), у разьдзеле 13 — “На сенажаці” — маем:

*Кветкі зь ёю рвём, вянок сабе пляце —*
*Карону-яснацьвет зь нявысьненай красы…*

У гэтых прыкладах няма й мовы аб г. зв. *“вымаганьнях вершу”*, што маглі-б неяк абумовіць зьяўленьне формаў ад *плесьці*, а не ад *віць*; вымаганьні гэтыя ані не парушыліся-б, каб было *зьвівае* заміж *сплятае* ў Багдановіча, *зьвіваць* заміж *сплятаць* у Гаруна, *зьвілі* заміж *сплялі* ў Коласа, *сплёў-бы* заміж *зьвіў-бы*, *завівала* заміж *заплятала*, а нат і *уе* (ці, як сам паэта дый іншыя нашыя паэты любяць — *віе*) заміж *пляце* — у Купалы. Адпадае тут і магчымы — асабліва ў самога Багдановіча, дый у Коласа — расейскі ўплыў, паколькі, як відаць было вышэй з Даля, і ў расейскай мове вянкі можна й плясьці, і віць, зусім гэтак, як і ў нашай.

Няма цяпер магчымасьці вышукваць прыклады ў зборніках народных песьняў (ня меў яе, відаць, і Я. Ст., калі па свой адзіны прыклад сягнуў хіба ў падручную, прынагодную на той час, а вельмі рэдкую *“Живую Старину”* з Косіч заміж капітальнейшых і аўтарытэтнейшых зборнікаў Раманава, Шэйна[815] ды інш.), але мо калі пры зручнасьці ўдасцца пашукаць ды знайсьці адпаведныя прыклады і там.

Да *віць* і *плесьці* Я. Ст. *“за адным гакам”* і, праўда, зусім *“нялішне”* прыплёў і яшчэ адзін дзеяслоў — сынонім тае-ж групы — *ткаць*. Вось-жа й тут розьніца йдзе зусім у тым-жа пляне — у пляне тэхнікі, тутака нат ужо й *“машыннае”*, хоць яшчэ й прымітыўнае — *“красённае”*: *ткаць* — значыць шчытна злучаць накрыж пераплеценыя элемэнты (ніткі), разьмешчаныя двума радамі — уздоўжнымі (“аснова”) й упоперачнымі (“уток”). Гэтак, пэўна-ж ткуць і паясы, ды гэтак нат і павук сваё павучыньне тчэць (ці, як вобразна пяецца ў тэй-жа песьні — *“кросенцы снуець”*). Гэтак і ў расейскай мове, паводля таго-ж Даля: *“ткать — пропу-*

[815] **Павел Шэйн** (1826–1900), педагог, этнограф, фальклярыст, збіральнік беларускай народнай творчасці.

*скать уток по основе, плести из нитей сетчаную, более или менее частую связь, полотенище. Посредством накрест переплетенных, протянутых туда и сюда нитей изготовлять материю, причем в натянутый строй пропускаются нити в противоположном направлении"* (том 4, б. 771). І тая самая селавая дзяўчына, на высокі аўтарытэт якой паклікаецца Я. Ст., добра *"адказала, што плесьці паяса яна ня будзе, але вытча"*, хоць *"адчула зьнявагу"* тут барджэй ня проста свайму ўменьню, а ўменьню апэраваць складанейшаю, ня толькі ручною, а, як-ні-як, ужо й машыннаю тэхнікаю (дарэчы, у слове *"вершаплёт"*, між іншага таксама прыплеценым Я. Ст., зьнявага ўжо ў зусім іншым — у падчыркваньні мамэнту мэханічнага наагул, а ня духовага, вызначальнага для вершаў — наўдачу, ці *"вершавіў"*, або *"вершаткаль"*, каб яны былі, гучэлі-б для паэты меншаю зьнявагаю). Паяскоў-жа плеценых, а нат і вітых (шнуровых дый раменных), што пашыраныя былі й бываюць цяпер у местах, селавая дзяўчына хіба ніколі ня бачыла й таму пэўная была, што іх можна адно ткаць.

Гэтак вось выплятаецца справа, завітая зацемкаю Я. Ст. Мо каму здасца, што задрабная яна, каб ёй гэтулькі ўвагі й месца. Пэўна-ж, з гледзішча на запраўдныя пабудныя матывы зацемкі гэтай мо й так, але дзеля культуры нашае маладое літаратурнае мовы, асабліва-ж на чужыне, гэта зусім не драбяза, і за прычынак да высьненьня тут можна над і падзякаваць, хоць і давялося на яго ўрваць крыху часіны ад нечага іншага, мо й "актуальнейшага" ды важнейшага. На канчатак хацелася-б адно прыпамянуць тое, што нядаўначка так добра сфармулявала была Рэдакцыя беларускіх выданьняў Інстытуту Вывучэньня СССР на шпальтах гэтае-ж "Бацькаўшчыны": што справы мовы, словаўжываньня (дый наагул усякія хіба справы) *"заўсёды варта як найбольш і з розных бакоў абдумваць і прадумваць"* (гл. "Бацькаўшчыну", №3 (389) ад нядзелі 19 студзеня сёл. б. 4, "Ліст у рэдакцыю"). Непрадуманы пасьпех і тут заўсёды будзе адно на сьмех.

…А вянкі і віць, і плесьці можна, абы здароўе, абы ўмеючы ды разумеючы як.

## Страх моваведаў перад "маскалём"[816]

У тэкстах усіх сямёх нумароў газэты "Мужыцкая Праўда"[817] словы "*маскаль*", "*маскоўскі*" ўжытыя 48 разоў. Словы гэтыя, як ведама, сустракаюцца і ў беларускім фальклёры, і ў беларускіх паэтаў, прыкладам, у Янкі Купалы ("*Просім папросту: кіньце нас мучыць, ляхі, маскалі!*"[818]) або ў Якуба Коласа ("*І із нас душы ня выняў ні маскаль, ні польскі пан*"[819]). Але калі вы хочаце даведацца, што значыць слова "*маскаль*", дык пяцітамовы Тлумачальны Слоўнік Беларускай Мовы (Мінск, 1977–1984) вам не паможа, там гэтага слова няма. Засталіся толькі паабапал яго "*маска*" й "*маскарад*". Гэтыя два словы ў пэўным сэньсе падказваюць прычыну зьнікненьня таго трэйцяга…

---

[816] Беларус. № 344. Люты 1988. С. 1.

[817] **"Мужыцкая Праўда"** — нелегальная газета, якая выдавалася лацінкаю ў 1862–1863 гг. на Гарадзеншчыне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Першая беларускамоўная газета.

[818] Цытата з верша Янкі Купалы "Папросту" (1912).

[819] Цытата з уступу да паэмы "Сымон-музыка" Якуба Коласа.

*Ул. Неманові*[820]

## Сьпі спакойна...[821]

*Маці родная, маці краіна,*
*Ня усьцішыцца гэтакі боль.*
*Ты прабач, Ты прымі свайго сына —*
*За Цябе яму ўмерці дазволь.*

Максім Багдановіч

*Я больш не магу быць камуністым.*

*За час майго падарожжа па Францыі я пазнаў значэньне слова "Свабода". Але я не магу адмовіцца і ад мае краіны, я не магу наважыцца застацца заграніцай…*

*Сьмерць — адзінае вырашэньне драмы, якую я перажываю.*

*Няхай прабачыць мне мая краіна.*

*Няхай прабачыць мне мая жонка й мае дзеці..*

Усевалад Краўчанка[822]

Мінула ўжо некалькі тыдняў ад трагічнай даты 27-га жніўеня. У той дзень, далёка ад Беларусі, у францускім горадзе Кан, перад адным з гатэляў натоўп народу й францыская паліцыя стаялі перад разьбітым мёртвым целам беларускага пісьменьніка Ўсевалада Краўчанкі. Паліцыя знайшла і ліст, у якім Краўчанка тлумачыў свой крок. І вось, на вуліцы францускага гораду, а заадно і перад вачыма цэлага сьвету ляжаў нямы труп. І ўсё-ж ён гаварыў галасьней за жывых, галасьней за сваіх былых калегаў-пісьменьнікаў, што разам зь ім прыехалі ў Францыю — і тым больш за тых, што засталіся ў Беларусі…

Усевалад Краўчанка быў у поўным росквіце сваіх жыцьцёвых і творчых сілаў. Яго з поўным правам можна было-б назваць сынам рэвалюцыі — як з гледзішча веку, так і творчага шляху. Ён быў сябрам партыі. І раптам: *«Я больш не магу быць камуністым.. Я пазнаў значэньне слова "Свабода"… Няхай прабачыць мне мая краіна»*…

820 ***Ул. Нематовіч*** — псеўданім Уладзіміра Цвіркі.

821 Бацькаўшчына. № 38–39 (573–574). 24 верасьня 1961. С. 1.

822 **Усевалад Краўчанка** (1915–1961), пісьменнік. Скончыў жыццё самагубствам падчас камандзіроўкі ў Францыю.

У якой краіны просіць нябожчык Краўчанка прабачэньня? Можа, у *“всеоб’ятной советской родіны”*, гэтай турмы народаў? Не — сам за сябе гаворыць маленькі, але які-ж шматзначны эпізод, які меў месца падчас аднаго з папярэдніх падарожжаў пісьменьніка заграніцу — у Італіі. На пытаньне аднаго Італьянца Усевалад Краўчанка адказаў: *“Мы сапраўды савецкія турысты, але не Расейцы, а Беларусы”*. А як-жа красамоўна сьветчыць аб бязьмежнай любові да свайго роднага краю і тое, што ў сваім перадсьмяротным лісьце пісьменьнік паставіў яго — родны край — навет перад сваёй сям’ёй і дзяцьмі…

*“Няхай прабачыць мне мая краіна…”*.

За што прасіў прабачэньня ў роднага краю Ўсевалад Краўчанка? Пэўна-ж, не за тое, што ён *“ня можа быць больш камуністым”*, не за тое, што ён *«пазнаў значэньне слова “Свабода”»*…

Як мы казалі, Усевалада Краўчанку з поўным правам можна назваць сынам рэвалюцыі. Ён вырас ужо ў падсавецкай Беларусі, ягоны сьветапогляд фармавалі ад самага пачатку бальшавіцкія акупанты. Не забываймася, што сваю літаратурную творчасьць ён пачаў у 1933-м годзе, а тады яму было толькі 18 год… Ці трэба дзівіцца, што на працягу даўгіх год малады пісьменьнік паставіў свой неаспрэчны талент на службу рэжыму, які, быццам — а гэта-ж убівалі ў галовы моладзі на кажным кроку — прынёс нацыянальную свабоду і сацыяльную справедлівасьць народам, паняволеным раней у былой Расейскай царскай імпэрыі — а значыцца й Беларусі? Бо патрыётам свайго краю Ўсевалад Краўчанка быў заўсёды. Верачы бальшавіцкай прапагандзе, ён думаў, што служачы рэжыму, ён служыць Беларусі.

Але із сталасьцяй прыходзіць роздум. Пісьменьнік, па-першае, ня мог ня ўсьведаміць сабе, што ягонае пяро ня можа перaступіць рамак партыйных дырэктываў, што гэтыя дырэктывы скоўваюць ягоны талент, не даюць яму адлюстроўваць рэчаіснасьць, бараніць правы свайго народу. Усевалад Краўчанка зразумеў, што ён — нявольнік. Ён наглядаў жыцьцё свайго народу, жыцьцё іншых народаў СССР — і пабачыў, што яны ўсе нявольнікі рэжыму, які пазбавіў іх элемэнтарных людзкіх і народных правоў. Мала таго — ён урэшце ўсьведаміў сабе, што аддаючы свой талент на службу гэтаму рэжыму, ён здраджвае свой народ. У душы Ўсевалада Краўчанкі паволі нарастае пералом. Партыйны білет, ардэны й мэдалі,

матарыяльна забясьпечанае жыцьцё не асьляпілі гэтага сумленнага чалавека й Беларуса.

Што-ж рабіць? Пратэставаць? Але як гэта магчыма ўва ўмовах бальшавіцкай дыктатуры?

І ўсё-ж Усевалад Краўчанка пратэстуе — у меру магчымасьцяў, ужываючы сваю адзіную зброю — пяро. Ён пратэстуе супраць бальшавіцкае няволі, заяўляючы — быццам, між іншага — што чалавек вольны можа мяняць свае пляны паводле ўласнага жаданьня (у апавяданьні “Зорка Вэнэра”), супраць таго, што *“лезуць у душу з капытамі”* (у апавяданьні “Цяжкае вяртаньне”), што Беларусы ня горшыя за іншых (у прыгаданай ужо “Зорцы Вэнэры”) — і гэтак далей. Стаўшыся рэдактарам часапісу для дзяцей “Бярозка”, ён атрымаў магчымасьць унікаць у сваёй творчасьці “сацрэалістычных” шаблёнаў і прысьвяціў сваю галоўную ўвагу ўзгадаваньню беларускіх дзяцей у духу любові да свайго роднага краю. Ягоная апошняя кніга, для моладзі — “Злачынства ля зялёнай тоні” — прысьвечаная ахове роднай прыроды. І, пэўна-ж, ня толькі родную *прыроду* меў на ўвазе Ўсевалад Краўчанка…

Нягледзячы на ўжо насьпелую сьведамасьць антынароднасьці бальшавіцкага рэжыму, для пісьменьніка ня мог ня быць шокам новы праэкт праграмы КПСС, дзе, побач з абабітымі фразамі аб *“вырашаным нацыянальным пытаньні”* адкрыта й цынічна абвяшчаецца аб заплянаваным культурным і нацыянальным генацыдзе паняволеных Масквой народаў. Сэрца патрыёта, носьбіта беларускае культуры не магло ня ўздрыгануцца…

Апошняе турыстычнае падарожжа ў Францыю дапоўніла чару горычы Ўсевалада Краўчанкі…

Беларуская савецкая прэса спачатку маўчала. Толькі 5 верасьня — 9 дзён пасьля трагічнай сьмерці пісьменьніка — зьявіліся нэкралёгі й спачуваньні. Пэўна-ж — толькі таму, што маўчаць далей было нельга. Аб гэтым ужо гаварыў цэлы Менск. Партыйныя заправілы былі прыпертыя да сьцяны. Урэшце, яны пастанавілі прапусьціць у друк вестку аб *“заўчаснай трагічнай сьмерці”* Усевалада Краўчанкі, не паведамляючы ні аб месцы, ні аб абставінах гэтай сьмерці. Але й тут яны выдалі самых сябе, саромліва абмінуўшы маўчаньнем факт, што пісьменьнік быў сябрам КПСС, што ён быў узнагароджаны ордэнам “Знак Пашаны” і мэдалямі за калішнюю службу рэжыму — рэжыму, у знак пратэсту супраць якога ён ахвяраваў цяпер жыцьцё.

*“Няхай прабачыць мне мая краіна…”.*

*“Ты прабач, Ты прымі свайго сына, за Цябе яму ўмерці дазволь”* — ці ня гэтыя радкі Багдановічавае “Пагоні” гучэлі ў думках Усевалада Краўчанкі, калі ён пісаў свой перадсьмяротны ліст?

Сьпі спакойна, верны сыну Беларусі! Ты ня мусіш прасіць у яе прабачэньня. Ты памёр за яе, пайшоў на найбольшую ахвяру, каб зьвярнуць увагу сьвету на няволю твайго народу. Ты памёр і за тых, што, як і ты раней — прымушаныя абставінамі, носяць партыйны білет, але ў душы застаюцца патрыётамі свайго народу.

Сьпі спакойна, верны сыне Беларусі!

*Янка Запруднік*

## Спадчына бацькоў: “Агледзіны”
(Да 100-годзьдзя ад нараджэньня Янкі Купалы і Якуба Коласа)[823]

*І ў белы дзень, і ў чорну ноч*
*Я ўсьцяж раблю агледзіны…*
Янка Купала. “Спадчына”

*Беларусь — гэта ідэя, спадчына бацькоў.*
Я. Купала. Привет белорусскому слову!

### *Прымат духовага зьместу*

У багатай інтэлектуальнай спадчыне беларускага народу, створанай у вялікай меры ў вабставінах варожае аблогі, знаходзяцца крыніцы паглыбленьня духовае моцы ў нашым далейшым змаганьні за людзкую й нацыянальную годнасьць. Крыніцы гэтыя, аднак, раськіданыя, пакрытыя бросьняю хвальшу. Казённыя сьцежкі папракладаныя ў іншыя бакі. Беларуская думка ў палоне чужых цытатаў.

Працэс заняволеньня народу пачынаецца ад фізычнага гвалту, а канчаецца гвалтам духовым. *“Зь ярмом даў і песьню чужынец”* —

[823] Беларус. № 286. Люты 1981. С. 1, 5; № 287. Сакавік 1981. С. 1, 5.

вешча перасьцерагаў Пясьняр Забранага Краю[824] ў вершы “Казка аб песьні” (які царская цэнзура прапусьціла, а савецкая ўсё йшчэ забараняе).

Працэс разьняволеньня йдзе ад акту духовага да фізычнага. “*Ня нізкі ўзровень культуры выклікае ейнае падпарадкаваньне, а наадварот, падпарадкаваньне выклікае застой*”, — сьцьвердзілі блізу стагодзьдзе таму беларускія студэнты ў Пецярбурзе, выдаўцы часапісу “Гоман”[825].

Узаемасувязь духовае няволі зь няволяй фізычнай, прымат духовага элемэнту ў некаторых абставінах змаганьня добра разумелі і гоманаўцы, і нашаніўцы, калі ставілі на першы плян рэгабілітацыю й разьвіцьцё народнае душы й нацыянальнай культуры. Гэтак-жа добра разумеюць гэта й сучасныя матар’ялістычныя гаспадары Беларусі, што робяць гэткі ўпор на культурна-ідэйны аспэкт, на русыфікацыю. І ня дзіва: у азначэньні самога зьместу “Беларусі” ляжыць ідэя, праявы духу, пакінутыя прашчурамі ў культурна-творчых набытках. *“Беларусь — не геаграфічнае паняцьце, Беларусь — гэта сьвет, гэта ідэя, гэта спадчына нашых бацькоў...”* — нагадваў яшчэ раз свайму народу Янка Купала ў годзе сьмяротнае ваеннае небясьпекі ды напярэдадні свае й дагэтуль нявысьветленае сьмерці ў Маскве ў 1942 годзе (гл. Я. Купала. Публіцыстыка. Мінск, 1972, б. 110).

### *Слова, выкінутае зь песьні*

*“Ад прадзедаў спакон вякоў мне засталася спадчына”*, — пяюць сяньня “Песьняры”[826] купалаўскія радкі. Але-ж вякі, ведама, пакінулі ў спадчыну ня толькі *“бусла клёкат”* ды *“крык вароніных грамад”*, пра якія згадвае песьня, але пакінулі яе канцэптуальнае завяршэньне ўсяго, паняцьце *“Старонкі Роднае”*, якое павінна быць расшыфраванае, раскрытае і ўсьвядомленае ў кантэксьце *“прадзедаў”* і *“вякоў”*. Пра гэта якраз клапаціўся Янка Купала, калі пісаў зваротку таго самага свайго вершу, якое цяпер не

[824] Маецца на ўвазе Янка Купала.

[825] ***“Гомон”*** — нелегальны гектаграфічны часопіс на рускай мове, які выдаваўся ў 1884 г. у Санкт-Пецярбургу беларускай народніцкай групай. Меў падзагалоўкам *“Беларускі сацыяльна-рэвалюцыйны агляд”*.

[826] **“Песняры”** — вакальна-інструментальны ансамбль, створаны Уладзімірам Мулявіным у Мінску ў 1969 г.

дазволілі “Песьняром” улучыць у выконваную імі купалаўскую песьню:

*І ў белы дзень, і ў чорну ноч*
*Я ўсьцяж раблю агледзіны,*
*Ці гэты скарб ня збрыў дзе проч,*
*Ці трутнем ён ня зьедзены.*

Мінуўшчына нашая — і нашая сучаснасьць! — багатая ня толькі на пчолаў, але й на трутняў.

На прыклад пчолаў — як яны *“бароняць вульляў сваіх”* — паказваў нам яшчэ ў першай палавіне XVI стагодзьдзя наш вялікі палачанін Франьцішак Скарына. А народ у сваёй неспасьціжнай мудрасьці сказаў пра тое самае паэтычна й па-беларуску неагрэсыўна: *“Кожная сасна свайму бору песьню пяе”* (гл. “Беларуская народная творчасьць. Прыказкі й прымаўкі ў 2-х кнігах. Кн. I, Мінск, 1976, б. 260).

Сосны й сасонкі Беларускага Бору штораз выразьней і гучней пяюць свае песьні.

### *“Унутраны ўзрыў”*

Валянтына Коўтун[827] і Анатоль Фядосік[828], рэцэнзуючы ў 1979 годзе кніжку песьняў сваіх паўдзённых суседзяў, “Украінскія народныя песьні ў запісах Ёсіпа й Хведара Бадзянскіх” (Кіеў, 1978 г.), адзначылі тое, што й да іх адзначалася ў беларускім савецкім друку: *«Апошнім часам і ў нас, на Беларусі, і ў нашых братніх рэспубліках назіраецца своесаблівы “ўнутраны” ўзрыў усеагульнай цікавасьці да культурнай спадчыны свайго народу. Скарбы архіваў, запісы песень, казак, легенд набываюць новае жыцьцё сярод нашых сучасьнікаў»* (“Літаратура й Мастацтва”, 21.XII.1979).

Своесаблівы гэты *“ўнутраны ўзрыў”* у тым — пра што Коўтун і Фядосік, калі-б і хацелі, не маглі сказаць выразна — што ён пракладае шлях да *“агледзінаў”* спадчыны бацькоў — ці скарб ня збрыў дзе проч, ці трутнем ён ня зьедзены.

Каб устанавіць, што-ж збрыло, а што засталося ды што з гэтага трутнямі паедзена, патрэбен Крытэры. Каб ведаць, што ў сянь-

---

827 **Валянціна Коўтун** (1946–2011), паэтка, празаік, літаратуразнаўца.

828 **Анатоль Фядосік** (1926–2005), фальклярыст, доктар філалагічных навук, заслужаны дзеяч навукі Беларусі.

няшней спадчыне ад Бацькоў, а што — Траянскі Конь і Дары Данайцаў[829].

*"'Унутраны' ўзрыў усеагульнай цікавасьці да культурнай спадчыны народу"* можа адбывацца толькі адначасна з *"узрывам маральным"*, што ачысьціў-бы, як гром ачышчае паветра, асабістую і калектыўную існасьць чалавека. І выявы гэткага *"выбуху"* можна распазнаць на духовым абліччы сучаснае Беларусі.

Гэтак, у рэцэнзіі на аповесьць Яўгена Лецкі[830] "Па цаліку" Ўладзімер Юрэвіч[831] адзначае частае ўжываньне цяпер у беларускай літаратуры слова *"маральны"*, у чым Юрэвіч бачыць *"адлюстраваньне надзённай патрэбы грамадзтва ўзмацніць чалавечыя* (дапоўнім Юрэвіча: і нацыянальныя. — *Я. З.) асновы жыцьця"* ("Маладосьць"[832], 1978, № 8, б. 182).

У Лецкавай аповесьці сын робіць выклік бацькавай *"абыякавасьці, усёдаравальнасьці тым, хто яшчэ ў нядаўнім мінулым зьдзекваўся з чалавека"*. На бацькава пытаньне *"То чаму табе канешне за гэтую праўду ваявацьʔ"* — сын-праўнік — адказвае: *"А перш за ўсё дзеля таго, каб сябе чалавекам адчуць!" "Я,* — заяўляе прадстаўнік малодшага пакаленьня, — *чалавекам быць хачу, такім, каб ня крывіць душою ні перад кім, а найперш — перад самым сабою! Каб можна было адчуваць, што ты ня нейкая гніда, якая вечна ўсяго баіцца і перад кожным сябе прыніжае, а чалавек са сваімі перакананьнямі! Ад гэтых перакананьняў, хай сабе рэжуць мяне, дык я ўсё роўна не адступлюся"* (тамсама).

Гэтак вось мы — сьветкамі сымптомаў Вялікага Выбуху, зь якога запачаткоўваецца маральны Сусьвет — ня быць *"гнідаю"*. Тое, што мучыла і Янку Купалу на пачатку 1920-х гадоў, калі ён (у вершы "Перад будучыняй", забароненым сяньня на Беларусі) глядзеў на душы, паедзеныя трутнем чужапаклонства і жахаўся ад таго, што бачыў навокал сябе:

---

829 **Траянскі конь** — у старажытнагрэцкай міфалогіі вялізны драўляны конь, нібыта падараваны данайцамі асаджаным траянцам. Апошнія ўцягнулі каня ў горад. Уначы данайцы, якія хаваліся ўсярэдзіне каня, выйшлі з яго, перабілі варту, адкрылі гарадскія вароты, упусцілі сваіх таварышаў і такім чынам авалодалі Трояй.

830 **Яўген Лецка** (нар. 1944), пісьменнік, літаратуразнаўца.

831 **Уладзімір Юрэвіч** (1916–2005), пісьменнік, літаратуразнаўца.

832 **"Маладосць"** — штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс, які выдаецца ў Мінску ад 1953 г.

*Нявольніцтва й жабрацтва так нас зьела*
*І так нам высмактала з сэрца сок,*
*Што нат у вочы глянуць, плюнуць сьмела*
*Ня сьмеем, стоптаныя на пясок.*

Сяньня, устаючы зь пяску й праціраючы вочы, мы пабачылі, што, як сьцьвердзіў адзін з нашых сучасьнікаў на Беларусі, *“не арол нам печань дзяўбе, а верабей з суседзкага даху”*[833], а часамі грызуць і свае-ж *“гніды”*…

### *“Ад чаго адмаўляцца?”*

*“Каб сябе чалавекам адчуваць”* (а ў шырэйшым купалаўскім пляне — *“людзьмі звацца”*, нацыяй быць), трэба адчуць сябе спадкаёмцамі культурнае й духовае спадчыны бацькоў: адкапаць гэтую спадчыну, пазнаць і ўсьведаміць яе, спасьцігнуць ейнае значаньне й прызначэньне. У ёй бо захаваны зьмест купалаўскае *“Старонкі Роднае”*, у ёй цудадзенная моц кветкі папараці. Да гэткага пазнаньня — да самапазнаньня, а празь яго да самасьцьверджаньня — кіруецца сяньня беларуская літаратура ў сваіх лепшых творах, літаратурная крытыка ў сваіх больш уніклівых прадстаўніках, беларускае мастацтва, моваведа, гістарыяграфія ў сваіх сумленных тварцох і дасьледніках.

Аналізуючы творчасьць Васіля Быкава[834], Алесь Адамовіч[835], адзін з набольш цікавых сучасных літаратурных крытыкаў, адзначае ў Быкава ўзьмацненьне з кажнай аповесьцяй увагі да *“буйнага нацыянальнага тыпу”*. Пры гэтым Алесь Адамовіч і ад сябе, і, як выглядае, ад Быкава ставіць цэнтральнае пытаньне: *“А што мы, хто мы ў гэтым вірлівым сьвеце? За што трымацца, ад чаго адмаўляцца, каб служыць дабру, сьвятлу, а не чаму-небудзь іншаму?”* (“ЛіМ”, 4.IV.80).

Ад чаго мы сяньня павінны адмаўляцца, робячы агледзіны спадчыны бацькоў? Паслухайма тых, хто адважыўся выказацца на гэту тэму.

Адным зь першых закрануў гэтае пытаньне — і то на высокім арганізацыйным форуме — старшыня Саюзу пісьменьнікаў Беларусі Пя-

---

[833] Радкі з верша Анатоля Вярцінскага “Непраметэі” (1969).
[834] **Васіль Быкаў** (1924–2003), пісьменнік, грамадскі дзеяч.
[835] **Алесь Адамовіч** (1926–1994), пісьменнік і грамадскі дзеяч.

трусь Броўка[836]. На чацьвёртым пісьменьніцкім пленуме ў студзені 1962 году, гаворачы пра Купалаву й Коласаву літаратурную спадчыну, Броўка сьцьвердзіў, што на *“вялікай частцы”* твораў Купалы савецкага часу *“ляжыць непатрэбны прывесак”*. Колас, казаў Броўка, яшчэ пры жыцьці пасьпеў перагледзіць свае творы сам (наколькі гэткі перагляд быў магчымы — Колас памёр 13 жніўня 1956 году — пытаньне адчыненае), але вось Купалава творчасьць засталася неперагледжанай. *“І цяпер,* — казаў Броўка, — *трэба думаць, што рабіць”*. *«Мне здаецца,* — выказваў ён сваё меркаваньне, — *што з тых твораў, у канцы якіх словы “вялікі Сталін”, былі проста прычэпленыя, як віза для друку, словы гэтыя неабходна зьняць… Янка Купала, калі-б ён жыў, з радасьцю зрабіў-бы сам сёньня»* (“ЛіМ”, 2.11.62).

Справа ачышчэньня спадчыны ад *“непатрэбных прывескаў”* і *“візаў для друку”* — гэта ня толькі пытаньне творчасьці Купалы й Коласа. І ня толькі сталінскіх часоў. Гэта праблема ўсяго творчага і ацэначнага працэсу, праблема псыхалёгіі й маральнае атмасфэры савецкае сацрэалістычнае творчасьці.

Зрабіць агледзіны спадчыны бацькоў сталінскага трыццацігодзьдзя, пэўна-ж, ня поле прапалоць: павырываў *“вялікага Сталіна”* з павершаваных разораў і — калі ласка! — загон паэзіі чысты. За *“вялікім-жа Сталінам”* — цэлы сьвет жудасьцяў ляжыць, неапісаны й недасьледаваны. Багаты для пісьменьнікаў, сацыялёгаў і гісторыкаў на сюжэты й тэмы, на выявы змрочных закуткоў людзкое душы, ён мусіў-бы прыцягнуць да сябе ўвагу дасьледнікаў у моц пасьлядоўнага тарнаваньня прынцыпу — і маральнага забавязаньня: *“Ніхто не забыты, нічога не забыта!”*. Хоць у краі Парадоксаў цяжка спадзявацца на пасьлядоўнасьць…

## *Літаратурная Хатынь[837] Беларусі*

Што хаваецца за *“непатрэбным прывескам” “вялікі Сталін”*, сказалі — калі пра гэта можна было гаварыць зь меншай рызыкай — тыя, што гэны *“прывесак”* перажылі.

Сьветлая й пакутлівая памяць Купалы й Якуба Коласа вымагае сяньня, напярэдадні іхнага стагадовага юбілею, удумацца ў гэныя

[836] **Пятрусь Броўка** (1905–1980), грамадскі дзеяч, пісьменнік, перакладчык.

[837] **Хатынь** — вёска ў Лагойскім раёне Мінскай вобласці, знішчаная разам з жыхарамі ў 1943 г. нямецкімі карнымі войскамі. Сёння мемарыяльны комплекс у памяць усіх спаленых вёсак Беларусі.

сьветчаньні — перш-наперш задакумэнтаваць іх, як належыцца — асэнсаваць увесь іхны трагізм зь ня меншай інтэнсыўнасьцяй, зь якою дакумэнтуецца і асэнсоўваецца апошняя вайна на Беларусі. Вайна трывала чатыры гады, сталіншчына — трыццаць. Прапорцыя адказнасьці Гітлера й Сталіна за сьмерць кажнага чацьвёртага жыхара Беларусі не разгледжаная ды не ўстаноўлена яшчэ.

Іван Мележ[838], робячы на пленуме Саюзу пісьменьнікаў Беларусі ў 1969 годзе агляд беларускае літаратуры да 100-годзьдзя ад нараджэньня заснавальніка савецкае сыстэмы, Леніна, ня мог не закрануць, хоць мімабегам і апалягетычна, *“змрочныя зьявы”* сталіншчыны: *“Трыццатыя гады,* — нагадаў Мележ, — *прынесьлі ў нашае жыцьцё і многа горкага трагічнага”* (“ЛіМ”, 21.XI.69).

Міхась Лынькоў, падводзячы балянс беларускае літаратуры да 50-годзьдзя БССР, пісаў у кнізе “Летапіс эпохі” (Мінск, 1968, бб. 86–87) пра часы панаваньня культу асобы: *“Атмасфэра падазронасьці, недавер’я да чалавека, злосных паклёпаў, беспадстаўных абгавораў і абвінавачваньня прывяла да рэпрэсіяў, да гібелі такіх пісьменьнікаў, як Ц. Гартны, М. Чарот, М. Зарэцкі, А. Дудар*[839]*, П. Галавач, А. Вольны*[840]*, С. Баранавых, Я. Нёманскі*[841],

[838] **Іван Мележ** (1921–1976), празаік, драматург, публіцыст, народны пісьменнік Беларусі.

[839] **Алесь Дудар** (сапр. **Дайлідовіч**, 1904–1937), паэт, празаік, крытык, перакладчык. Друкаваўся ад 1921 г. Адзін з арганізатараў і заснавальнікаў літаб’яданьня “Маладняк”. Арыштаваны ў 1929 г., высланы на 3 гады ў Смаленск. Зноў арыштаваны ў 1936 г. і ў 1937 г. расстраляны. Аўтар кніг “Беларусь бунтарская” (1925), “Сонечнымі сцежкамі” (1925), “І залацісцей, і сталёвей” (1926), зборніка апавяданняў “Марсельеза” (1927), зборніка артыкулаў “Пра літаратурныя справы” (1928).

[840] **Анатоль Вольны** (сапр. **Ажгірэй**, 1902–1937), паэт, празаік, драматург. Друкаваўся ад 1922 г. Быў сябрам літаратурнага аб’яднання “Маладняк”. Арыштаваны ў 1936 г. і ў 1937 г. расстраляны. Аўтар зборнікаў паэзіі “Камсамольская нота” (1924, з А. Александровічам), “Чарнакудрая радасць” (1926), “Табе” (1927), рамана “Ваўчаняты” (1925, у суаўтарстве з А. Александровічам і А. Дударом), аповесцяў “Два” (1925), “Антон Савіцкі” (1927).

[841] **Янка Нёманскі** (сапр. **Іван Пятровіч**, 1890–1937), празаік, публіцыст, эканаміст. У 1927–1932 гг. член праўлення літаратурнага аб’яднання “Полымя”. У 1933–1936 гг. узначальваў кафедру фінансавых дысцыплін у Беларускім дзяржаўным інстытуце народнай гаспадаркі. Арыштаваны ў 1937 г. і расстраляны.

*У. Галубок, У. Хадыка, Т. Кляшторны*[842]*, З. Аксельрод*[843]*, Я. Бранштэйн*[844]*, І. Харык*[845]*, Ю. Таўбін*[846] *і інш.*".

Якуб Колас казаў Юльяну Пшыркову[847] яшчэ на пачатку 1940 году пра тых самых людзей, што й пасьля Міхась Лынькоў, толькі што Пшыркову, як і іншым, спатрэбілася больш за чвэрць стагодзьдзя, каб падаць да публічнага ведама Коласава выказваньне: "*Я многіх асабіста ведаў,* — казаў Колас, — *гэта былі чэсныя людзі, добрыя пісьменьнікі й навуковыя работнікі. Тут дзейнічала злая рука, намагаючыся вынішчыць усё жывое, здаровае й здольнае мысьліць*" ("Полымя", 1967, № 6, б. 201).

Максім Лужанін[848] на пятым зьезьдзе пісьменьнікаў Беларусі (1966 год) у дакладзе пра паэзію гаварыў пра "*зварот у паэтычны строй*", зварот пасьмяротны або перадсьмяротны некаторых ахвяраў "*горкага, трагічнага часу*", пра які ў 1969 годзе згадваў і Мележ пад ленінскае стагодзьдзе. Параўнаньне згаданых Лужаніным прозьвішчаў з вышэй паданым пералікам прозьвішчаў у Лынькова дадае яшчэ й гэткія: Язэп Пушча[849], Зьмітрок Астапенка[850],

842 **Тодар Кляшторны** (1903–1937), паэт, перакладчык. Сябра "Узвышша", пасля ліквідацыі згуртавання — у БелАПП. Працаваў на радыё, у рэдакцыях газет. Арыштаваны ў 1936 г. і ў 1937 г. расстраляны.

843 **Зэлік Аксельрод** (1904–1941), паэт, перакладчык. У 1941 г. арыштаваны і расстраляны.

844 **Якаў Бранштэйн** (1897–1937), крытык і літаратуразнаўца. У 1932–1937 гг. адказны сакратар СП БССР. Арыштаваны ў 1936 г. і ў 1937 г. расстраляны.

845 **Ізі Харык** (1898–1937), паэт, грамадскі дзеяч, публіцыст. Быў старшынёй секцыі яўрэйскіх пісьменнікаў СП БССР ад часу яе заснавання ў 1934 г. Арыштаваны ў 1936 г. і ў 1937 г. расстраляны.

846 **Юлі Таўбін** (1911–1937), паэт, перакладчык, сябра БелАПП. У 1933 г. асуджаны да 2 гадоў высылкі, у 1936 г. арыштаваны паўторна, у 1937 г. расстраляны. Выдаў зборнікі "Агні" (1930), "Каб жыць, спяваць і не старэць…" (1931), "Тры паэмы" (1931), "Мая другая кніга" (1932), "Таўрыда" (1932).

847 **Юльян Пшыркоў** (1912–1980), літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук, прафесар, даследчык творчасці Якуба Коласа.

848 **Максім Лужанін** (сапр. **Аляксандр Каратай**, 1909–2001), паэт, празаік, кінадраматург, перакладчык.

849 **Язэп Пушча** (сапр. **Плашчынскі**, 1902–1964), паэт, крытык, перакладчык. Арыштаваны ў 1930 г. па справе "Саюза вызвалення Беларусі". Вызвалены ў 1935 г. У 1937–1941 гг. жыў у Мурамскім раёне Уладзімірскай вобласці, настаўнічаў. У гады вайны на фронце. Пасля зноў у Мурамскім раёне. Рэабілітаваны ў 1956 г. Вярнуўся ў Мінск у 1958 г.

850 **Змітрок Астапенка** (1910–1944), паэт, перакладчык. Друкаваўся ад 1926 г. У 1933 г. арыштаваны і асуджаны на 3 гады зняволення. У 1936 г.

Андрэй Александровіч, Сяргей Дарожны[851], Міхась Багун[852], Валеры Маракоў[853].

Вось яна — літаратурная Хатынь Беларусі, над якою павінны былі-б званіць таксама хаўтурныя званы народнае Памяці. Павінен быць устаноўлены поўны сьпіс прозьвішчаў Літаратурнае Хатыні ды сьцьверджана, колькі зь іх загінула ад Гітлера, а колькі — ад Сталіна. Гэта да ўсіх таксама датычыць і ад імя ўсіх іх таксама грымяць словы з напісу на мэмарыяльным вянку Хатыні, складзенага Нілам Гілевічам[854], сучасным першым сакратаром пісьменьніцкага Саюзу Беларусі: *“Людзі добрыя, помніце! Мы любілі жыцьцё, і Радзіму, і вас, дарагія.. Наша просьба да ўсіх: хай жалоба і смутак абернуцца ў мужнасьць і сілу…”.*

### *“Пад жорсткім напорам вульгарызатараў”*

У дакладзе таго-ж Івана Мележа на ленінскае стагодзьдзе згадваліся таксама й прозьвішчы пакутнікаў, што *“былі на доўгія гады адарваныя ад роднай зямлі, ад творчай працы”*: Янка Скрыган[855], Сяргей Грахоўскі[856], Мікола Хведаровіч, Уладзімер Дубоўка,

---

зноў асуджаны на 8 гадоў. Аўтар зборнікаў паэзіі “На ўсход сонца” (1931), “Краіне” (1931), “Абураныя” (1932).

[851] **Сяргей Дарожны** (сапр. **Серада**, 1909–1943), паэт, перакладчык. Друкаваўся ад 1925 г. Быў сябрам згуртаванняў “Маладняк” і “Узвышша”. У 1936 г. арыштаваны, прысуджаны да 8 гадоў зняволення. Загінуў у зняволенні. Аўтар кніг “Звон вясны” (1926, у суаўт. з І. Плаўнікам), “Васільковы россып” (1929), “Пракосы на памяць” (1932).

[852] **Міхась Багун** (сапр. **Блошкін**, 1908–1938), паэт, празаік, перакладчык. Друкаваўся ад 1925 г. У 1932–1936 гг. працаваў у Дзяржвыдавецтве БССР і ў рэдакцыі газэты “ЛіМ”. Арыштаваны ў 1936 г. і прысуджаны да 8 гадоў зняволення. Памёр у перасыльнай турме. Аўтар кніг “Рэха бур” (1931), “Рэвалюцыі” (1932).

[853] **Валеры Маракоў** (1909–1937), паэт. Друкаваўся ад 1925 г. Быў сябрам літаб’яднання “Маладняк”. У 1936 г. арыштаваны, расстраляны. Аўтар кніг “Пялёсткі” (1926), “На залатым пакосе” (1927), “Вяршыні жаданняў” (1930), “Права на зброю” (1932).

[854] **Ніл Гілевіч** (1931–2016), паэт, грамадскі дзеяч, народны паэт Беларусі.

[855] **Янка Скрыган** (1905–1992), пісьменнік, паэт, публіцыст, крытык. Арыштаваны ў 1936 г. і прысуджаны да 10 гадоў лагераў. У 1946 г. вызвалены, але пазбаўлены грамадзянскіх правоў на 5 гадоў. У 1949 г. арыштаваны зноў і высланы ў Сібір. У 1954 г. рэабілітаваны. Вярнуўся ў Мінск. Працаваў у “Полымі”, выдавецтве “Беларуская савецкая энцыклапедыя”.

[856] **Сяргей Грахоўскі** (1913–2002), паэт, празаік, перакладчык. Арыштаваны ў 1936 г. і ў 1937 г. прысуджаны да 10 гадоў зняволення. Вызвалены ў 1946 г.,

Рыгор Бярозкін[857], Алесь Звонак, Алесь Пальчэўскі[858], Станіслаў Шушкевіч, Юрка Гаўрук[859], Ядзьвіга Бяганская[860].

Гэта з тых, што былі замоўкшы, калі не навечна, дык *“на даўгія гады”*. А тыя, што засталіся былі “тварыць”? «*Творчыя арганізацыі,* — напісаў пасьля пра іх Міхась Ярош[861] у кнізе “Янка Купала і беларуская паэзія” (Мінск, 1971, б. 199), — *асабліва “Маладняк” (БелАПП) — перажывалі крызіс. Узмужнеўшая вульгарна-сацыялістычная крытыка травіла многіх паэтаў, абвінавачваючы іх ува ўсіх сьмяротных грахох, нават у варожым стаўленьні да савецкай улады. Пад жорсткім напорам вульгарызатараў паэты нярэдка вымушаны былі пераглядаць свае ранейшыя творчыя прынцыпы, “перабудоўвацца”*».

Як казаў Пятрусь Броўка на згадваным пісьменьніцкім пленуме ў 1962 годзе: *“Усе мы аддалі пэўную даніну культу”*.

Дык выкінуўшы *“з радасьцю” “вялікага Сталіна”* з Купалавае спадчыны, трэба ставіць далейшае пытаньне: ці не адмовіўся-б

---

але ў 1949 г. арыштаваны зноў. Асуджаны на пасяленне ў Новасібірскай вобласці. У 1956 г. вярнуўся ў Мінск, працаваў у часопісах “Бярозка”, “Вясёлка”.

857 **Рыгор Бярозкін** (1918–1981), крытык, журналіст. Першы раз арыштаваны ў 1941 г., але ўцёк, ваяваў. У 1949 г. арыштаваны паўторна і асуджаны на 10 гадоў лагераў. Знаходзіўся ў зняволенні ў Карагандзінскай і Омскай абласцях. Вызвалены ў 1955 г. Вярнуўся ў Мінск. Працаваў у газеце “Літаратура і мастацтва”. У канцы 1950 — пачатку 1960-х гг. шмат публікаваўся, імкнуўся аднавіць імёны рэпрэсаваных паэтаў.

858 **Алесь Пальчэўскі** (1905–1979), пісьменнік. У 1936 г. рэпрэсаваны. Пакаранне адбываў у Ніжагародскай вобласці. У 1946–1948 гг. настаўнічаў на Міншчыне. У 1949 г. быў зноў незаконна асуджаны і высланы ў Краснаярскі край. У 1955 г. вярнуўся ў Мінск. Доўгі час быў адказным сакратаром часопіса “Вясёлка”.

859 **Юрка Гаўрук** (1905–1979), перакладчык, паэт, крытык, рэжысёр. У 1935 г. арыштаваны і прысуджаны да 8 гадоў пазбаўлення волі. Больш за 20 гадоў працаваў на розных работах у Карэліі, Усходняй Сібіры, Комі АССР. У 1958 г. вярнуўся ў Мінск, працаваў у Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы.

860 **Ядвіга Бяганская** (1908–1992), празаік, перакладчык. Арыштаваная ў 1937 г. і прысуджаная да 10 гадоў зняволення, якое адбывала на Калыме. У 1948 г. вярнулася ў Беларусь, ад 1955 г. жыла ў Менску, працавала рэдактарам на Беларускім радыё.

861 **Міхась Ярош** (1929–1987), крытык і літаратуразнаўца. Навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН БССР.

Янка Купала наагул, калі не ад усяго, дык ад большае часткі таго, што ён напісаў пасьля свае спробы самагубства ў 1930 годзе ў атмасфэры нішчэньня дзяржаўным паліцыйным апаратам *“усяго жывога, здаровага і здольнага мысьліць”*? Да разгляду гэтага пытаньня — у дачыненьні да Купалавае творчасьці й творчасьці ўсіх іншых — мы забавязаныя маральна купалаўскім запаветам *“і ў белы дзень, і ў чорну ноч”* рабіць агледзіны спадчыны бацькоў.

### *“Падключацца да памяці народу”*

Гэткае-ж пытаньне датычыць і літаратурнае крытыкі. Пацьверджаньне гэтага знаходзім у нядаўняй заяве Алеся Адамовіча пра тых, хто выступаў на Другім пленуме праўленьня Саюзу пісьменьнікаў СССР у пытаньнях крытыкі ў сакавіку 1935 году: *“Каб яны ўсе былі жывыя,* — піша Алесь Адамовіч з 45-гадовае рэтраспэктывы, — *і атрымалі сёньня магчымасьць сьцерці або спаліць словы, якія так грозна (і палахліва) вымаўлялі ў розныя гады, думаю, што ахвотна і пасьпешліва зрабілі-б гэта”* (“ЛіМ”, 4.IV.80).

Пытаньне *“ад чаго адмаўляцца”*, каб ведаць, чаго трымацца, датычыць, зразумела, ня толькі да часапісьменства й літаратурнае крытыкі, але й да ўсяго мастацтва, а таксама й гістарыяграфіі, да разуменьня ўсяе свае мінуўшчыны, з чаго арганічна выплывае й разуменьне сучаснасьці. Адам Мальдзіс, рэцэнзуючы кнігу М. Лазарука[862] “Станаўленьне беларускай паэмы”, пашырыў быў крыху выказваньне сваіх літаратурных сяброў: *“У 30-я гады вульгарныя сацыёлягі па сутнасьці закрэсьлівалі ўсю беларускую літаратуру XIX стагодзьдзя”* (“ЛіМ”, 14.1.69). І ці толькі гэта.

Дарэчы, Янка Саламевіч[863], ушаноўваючы ў газэце “Зьвязда”[864] за 16 лістапада летась, з нагоды 75-годзьдзя жыцьця, *“дзядзьку Янку Скрыгана”*, аднаго з тых, што *“былі на доўгія гады адарваныя ад роднай зямлі, ад творчай працы”*, адзначыў важнасьць Скрыганавых літаратурных партрэтаў пісьменьнікаў 1920–1930-х гадоў. *“Гэта,* — кажа Саламевіч пра Скрыганавы ўспаміны, — *вельмі важная работа*

---

[862] **Міхась Лазарук** (1926–2000), літаратуразнаўца, крытык, педагог. Доктар філалагічных навук.

[863] **Янка Саламевіч** (1938–2012), літаратуразнаўца, фалькларыст, бібліяёграф, перакладчык.

[864] **“Звязда”** — штодзённая грамадска-палітычная газета, якая выдаецца ў Мінску ад 1917 г.

*пісьменьнікаў у галіне мэмуарыстыкі, якая ў нас пакуль бедная. Асабліва мала зьвестак пра пісьменьнікаў даваеннага часу"*.

Мы ведаем, чаму мала. Дэвіз *"ніхто не забыты"*, як ён ўжыцьцяўляецца ў савецкім афіцыйным друку, датычыць толькі ахвяраў брунатнага, але чырвонага фашызму.

Цяпер у літаратурнай творчасьці мы з асаблівай увагай варачаемся назад, да вытокаў сваіх. Алесь Адамовіч, пішучы пра пэрыяд апошняе вайны, слушна адзначыў нядаўна: *"Вялікая справа й шмат значыць для нацыянальнай літаратуры — умець слухаць свой народ, падключацца да яго памяці"* ("ЛіМ", 25.IV.80). І Алесь Адамовіч, абмяркоўваючы гэту праблему ў шырэйшым міжнародным кантэксьце, паказвае на добры прыклад нямецкага пісьменьніка Гэрмана Канта[865] (старшыня ўсходненямецкае пісьменьніцкае арганізацыі). Кант, кажа беларускі крытык і шукальнік праўды, *"ня з тых Немцаў, што хаваюць галаву ў пясок забыцьця й спадзяюцца, што іншыя людзі ў іншых краінах усьлед за імі зробяць тое-ж самае са сваімі галовамі. Ён ведае, што ўся праўда патрэбная, неабходная перш за ўсё і больш за ўсё самім Немцам, нямецкаму народу"* (тамсама).

Алесь Адамовіч падгледзіў, між іншага, што Немцы, калі яны апынаюцца сярод прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяй, дык, памятаючы часы Гітлера, намагаюцца паказваць сябе *"проста людзьмі"*. І Алесь Адамовіч, асэнсоўваючы ганебныя часы гітлершчыны, ставіць дыягназ ды прапісвае лекі: *"Пасьля таго, як пацукалоў* (Гітлер. — *Я. З.*), *завёў цябе да іх* (ад "проста людзей". — *Я. З.*), *павабіўшы ў "звышлюдзі", вяртаньне даецца нялёгка. І не праз забыцьцё мінулага, а праз самаачышэньне праўдай, праз суд мінулага"* (тамсама).

Сказана красамоўна й моцна! Але не да канца. Бо наколькі Немцам патрэбная праўда пра *"пацукалова"*-Гітлера, нагэтулькі, калі ня больш, Беларусам патрэбная праўда пра *"пацукалова"* Сталіна. Інакш паўгалавы застаецца схаванай у *"пяску забыцьця"*.

Але-ж! *"Вяртаньне даецца нялёгка"*, ды вяртацца трэба — "праз суд над мінулым".

Пытаньне агледзінаў спадчыны сталінскага 30-годзьдзя, аднак, пасьля таго, як была сьверджаная наяўнасьць у ёй *"непатрэбных прывескаў"*, гэтак і ня было разгледжанае, ня было нат

[865] **Герман Кант** (ням. *Hermann Kant*, 1926–2016), нямецкі пісьменнік.

пастаўленае ўва ўсёй сваёй трагічнай паўніні й самаачышчальнай патрэбе.

### *Што — направа, а што — налева?*

Практычна зь некаторымі *“непатрэбнымі прывескамі”* партыйныя бюракраты спрабавалі сваім часам справіцца ціхама, за зачыненымі дзьвярыма, пры дапамозе сакрэтных адміністрацыйных цыркуляраў. Калярытны сьлед гэтае тапорнае апэрацыі застаўся на старонках газэты “Літаратура й Мастацтва” ў форме рэпартажу М. Замскага “Квадратура кругу”. Вось частка сьветчаньня:

*«У Мазыры, на чыгуначнай станцыі, невядома зь якіх часоў стаіць цагляны пакгаўз. Звычайны пакгаўз. І звонку, і ў сярэдзіне пакрыты паравозным курадымам, які, здаецца, уеўся ў цэглу, у драўляныя перакрыцьці, у цымэнтаваую падлогу. У такім памешканьні можна хаваць цьвікі, запасныя часткі, утыль. Але тут ужо вось паўтара дзясятка год ляжаць кнігі.*

*У аднэй з баковак гэтыя кнігі наваленыя пад самую столь.*

*Дзьверы бакоўкі выходзяць у залю. На падлозе тут раськівданыя кучы кнігаў, на якіх, забраўшыся з нагамі, сядзяць жанчыны. Узмах рукі — кніжка ляціць налева. Узмах — направа.*

*Цікаўлюся ў загадчыка кніжнай базы (так называецца пакгаўз) — пажылога мужчыны з даўно няголеным тварам: які лёс чакае кнігі, што паляцелі налева, а які — што направа.*

*— Што налева — на сьпісаньне, што направа — загадана пакуль што не чапаць. Відаць, пойдзе на ўцэнку.*

*Я слухаю яго й думаю пра тое, што бачыш, слова якое бяскрыўднае прыдумана — “сьпісаньне”. А кнігі проста пойдуць пад нож, на макулятуру. Падымаю з падлогі некалькі такіх кніжак. Купала, Колас, Чорны, Бядуля, Брыль*[866]*, Мележ, Аўрамчык*[867]*.*

*Загадчык, заўважыўшы маё вялікае зьдзіўленьне, крыўдзіцца: Што я — сам прыдумаў? Ёсьць спэцыяльны сьпіс, зацьверджаны Камітэтам па друку. Магу паказаць.*

*Перагортваю тоўстую кніжку зь пералікам твораў, што падлягаюць сьпісаньню. Я. Купала — пяцітомны збор твораў. Я. Брыль — “У забалоцьце днее” і “Верасьнёвая рунь”. І. Мележ — “Мінскі напра-*

---

[866] **Янка Брыль** (1917–2006), народны пісьменнік Беларусі.

[867] **Мікола Аўрамчык** (1920–2017), паэт, пісьменнік, перакладчык.

*мак” і п’еса “Пакуль мы маладыя”. М. Аўрамчык — “Дружба” і г. д. і г. д. Кніжкі выданьняў 1949–1951 гадоў. Але-ж усё гэта выдавлася й пазьней і неаднаразова.*

*Празь некалькі дзён я зайшоў у Мінску ў Камітэт па друку пры Савеце Міністраў БССР. Прыняў мяне Анатоль Фаміч Барушка, намесьнік старшыні камітэту, начальнік галоўвыдата.*

*Чым мы кіруемся, калі загадваем сьпісваць тую ці іншую кніжку? Па-першае, яе маральным зносам, па-другое, фізычным, калі можна так сказаць..*

*— У Купалы маральны знос?*

*— Не, вядома, але ёсьць у яго некалькі вершаў, якія прадыктаваны часам культу асобы.*

*Ня будзем наіўнымі, ёсьць сапраўды літаратура, якую трэба сьпісваць — у свой час было выпушчана нямала кніжак-аднадзёнак. Сёньня яны ня маюць ніякай цікавасьці, ніякай каштоўнасьці. Іх сапраўды трэба сьпісваць, пушчаць на макулятуру. Але калі з-за двух-трох, хай пяці-шасьці вершаў пушчаецца пад нож пяцітомнае выданьне — гэта, даруйце, проста марнатраўства. Калі з-за аднаго прозьвішча, з-за назвы друкарні, у якой друкавалася тая ці іншая рэч, сьпісваецца ўся кніга — гэта, даруйце, проста глупства. Відаць, вірус перастрахоўкі, ой, яшчэ які жывучы»* (“ЛіМ”, 2.IX.66).

Найбольш жывучы гэты вірус у самое партыі ў дачыненьні да ейнае собскае-ж і нашае мінуўшчыны.

Элемэнт *“маральнага зносу”* ўласьцівы савецкай сацрэалістычнай творчасьці.

Газэта “Вашынгтон Пост”[868] (10.VI.1980) пішучы пра адставаньне савецкае эканомікі, спасылалася на выказваньне першага сакратара Беларусі П. Машэрава[869] пра тое, што ў машынабудаўлянай прамысловасьці рэспублікі блізу палавіна мэталю йдзе ў адпады. Дык у выпадку з мэталем лёгка ўстанавіць, што — дэталь, а што — істужка адпад. А ў сфэры культурна-творчай? Як вызначыць тут, што — налева, а што — направа, калі рабіць гэта бяз *“спэцыяльнага сьпісу”*, зацьверджанага Камітэтам па друку?

---

[868] ***“The Washington Post”*** — амерыканская штодзённая газета, заснаваная ў 1877 г.

[869] **Пётр Машэраў** (1918–1980), палітычны і дзяржаўны дзеяч. У 1965–1980 гг. першы сакратар ЦК кампартыі БССР.

### *Крытэры: Беларусь і чалавечнасьць*

Як і сам запавет пра *“агледзіны”*, Янка Купала пакінуў нам і Крытэры, пры дапамозе якога гэтыя агледзіны трэба рабіць: *“Беларусь — гэта ідэя”*. У гэтай формуле сувязь і ўзаемадзеяньне двух элемэнтаў — матар’яльна-канкрэтнага (Беларусь як сума фізычных аспэктаў: жыхарства, тэрыторыя, эканоміка) і абстрактнага (ідэя) — палягае на тым, што *“ідэя”* павінна станавіць дынаміку разьвіцьця *“Беларусі”*: вызначыць тэндэнцыю ходу падзеяў, характар дзеяньня чалавека, ягонае маральнае дачыненьне да сваёй дзейнасьці. Інакш кажучы, *“ідэя”* — гэта матар’яльны й духовы дабрабыт *“Беларусі”* ў патэнцыі, на шляху да свайго ўжыцьцяўленьня ды разьвіцьця, спрычыніцца да чаго пакліканыя творцы культурных вартасьцяў. І вартаснасьць *“спадчыны бацькоў”* — тае, што створаная, і тае, што ствараецца — павінна была-б вызначацца перш-наперш заклапочанасьцяй творца пра духовы й матар’яльны дабрабыт Беларусі ў ейным калектыўным і паасабовым выяўленьні. Пры ўмове захаваньня прынцыпу чалавечнасьці, гэтак глыбака ўласьцівага шмат якім творцам беларускае літаратуры апошняга стагодзьдзя.

*Юрка Віцьбіч*

## Пойдзем далей сваёй дарогай[870]

*Я набіваю сваю стрэльбу сольлю для адных і кулямі — для другіх.*

Ф. Вальтэр[871]

Нязломны змагар за вольнасьць чалавецтва — вялікі Францує Вальтэр — і… *"товарищ"* Вольга Зубко[872], ці — Штайнвэг, як звалася яна ў сваім гітлераўскім пашпарце для "фольксдойтчаў"[873], або — Тополя, паводле псэўдоніму, абранага ёю для свае культавае музы. Здаецца, што паміж імі агульнага? Але пры міжвольным успаміне аб апошняй адразу згадваюцца словы першага: *"Крый мяне, Божа, ад падробленых сяброў, а з ворагамі я сам дам сабе рады"*. Між іншага, той-жа старадаўны афарызм можна знайсьці ў розных варыяцыях і ў Кнізе Прамудрасьці Ісуса, сына Сірахава, і ў Квінтыліяна[874], і ў Авідзія, і на шаблі Яна Сабескага[875]. Аднак, усё-ж пры чым тут кагадзе прыгаданая грамадзянка?

У № 521 савецкага прапагандовага лістка "Голас Радзімы" Вольга Зубко-Штайнвэг-Тополя зьмясьціла зацемку "На бацькоўскай

[870] Бацькаўшчына. № 31 (566). 30 ліпеня 1961. С. 4.

[871] **Вальтэр** (фр. *François-Mari Arouet de Voltaire*, 1694–1778), французскі філосаф, раманіст, гісторык, драматург і паэт эпохі Асветніцтва.

[872] **Вольга Тополя** (сапр. **Зубко**, 1902–?), пісьменніца. Падчас нямецкай акупацыі працавала ў "Беларускай газеце", выдавецтве "Менск". Ад 1944 г. — на эміграцыі. Жыла ў баварскім Лавінгене, пазней у лагеры Ватэнштэт. Друкавалася ў беларускіх эміграцыйных перыёдыках. Аўтар кніг: "Снягурка і мурка" (1946), "Маці" (1948). У 1948 г. вярнулася ў БССР. Друкавалася ў газеце "Голас Радзімы".

[873] **"Фольксдойчы"** (ням. *Volksdeutsche*) — азначэнне "этнічных немцаў", якія жылі ў дыяспары, то бок за межамі Нямеччыны.

[874] **Марк Фабій Квінтыліян** (лац. *Marcus Fabius Quintilianus*, каля 35 — каля 96), рымскі рытар, аўтар самага поўнага падручніка па аратарскім майтэрстве, што дайшоў да нас з Антычнасці.

[875] **Ян III Сабескі** (1629–1696), кароль польскі і вялікі князь літоўскі (1674–1696).

зямлі”, да якое, магчыма, дзеля большай дакумэнтальнасьці, завяртанцы прыклалі ейную фотакартку, хоць у ёй няма аніякае патрэбы. Досыць толькі зірнуць на самую зацемку, каб спазнаць Вольгу Зубко, якая яшчэ з часоў далёкага дзявоцтва і да сучаснага свайго старэцтва недарэчна (а можа й хваравіта) прабуе накінуць сустрэчным мужчынам сяброўства й каханьне…

У гэтай сваёй зацемцы Вольга Зубко плявузгае, што быццам Юрка Віцьбіч зьяўляўся на чужыне ейным сябрам і нібы раіў ёй вярнуцца ў СССР, каб… унікнуць шкодных уплываў газэты “Бацькаўшчына”. У сваёй падлабызьніцкай хлусьні Вольга Зубко нагэтулькі перабрала мерку, што нават наскрозь ілжывыя завяртанцы пэўне пачуліся пакрыўджанымі за добра знанага ім Віцьбіча, бо паказалі ёй паасобнікі “Бацькаўшчыны” зь ягонымі антыбальшавіцкімі творамі. А цяпер дазвольце мне давесьці ейную ману з дапамогай яе-ж самой. Слова мае “*товарищ*” Зубко, якая, адбыўшы 12 год ссылкі, нарэшце дасталася Менску і там загаласіла зпад завяртанскае падваротні аб сваім убогім падсавецкім шчасьці.

У маім асабістым архіве захавалася жменя лістоў Вольгі Зубко. Шануючы суродзічаў і “Бацькаўшчыну”, я ня зьбіраюся рабіць агульны агляд гэтых лістоў, бо наразе цалкам хопіць пачатку апошняга зь іх, а ўласьне:

*“13.7.48.*

*Дарагі і шаноўны Спадар Віцьбіч!*

*Мусіць, цяпер я ня маю ўжо права называць Вас так… Вы мяне асудзіце страшэнна.*

*Не магу ўстрымацца, каб не напісаць Вам гэтых апошніх радкоў, хоць мы з Вамі людзі розных шляхоў і перакананьняў.*

*Я іду шляхам Тодара Лебяды*[876]*. Гэта ўжо зроблена і павароту няма. Можа, гэта вар’яцтва, бо, пэўна, аддаю сябе на турму і пакуты”.*

Ну й што-ж! Вольнаму воля, а шалёнаму поле. Не шкада мне тых зайцаў, што ўцякалі з Белавежы, таму што выйшаў загад падкаваць зуброў, як ня турбуе мяне й лёс тае цьмы, што ляціць на вогнішча, або жабаў, што самыя лезуць у ляпу гадзюкі. Але-ж адзінае, як засьведчыла ў сваім лісьце сама Вольга Зубко, не падлягае сумніву, што Юрка Віцьбіч не зьяўляўся ейным сябром і ня штурхаў яе да звароту ў СССР.

---

[876] Тодар Лебяда ў 1945 г. вярнуўся з Нямеччыны ў Беларусь.

У тым-жа самым лісьце Вольга Зубко згадвае паэту Хведара Ільляшэвіча, якога яна ў ДП-лягеру Ватэнштаце перасьледавала сваім каханьнем[877]. Яна піша аб ім:

*"І з Хведарам я не магу гаварыць больш. Мала таго, ён — мой ідэёвы вораг, але ён ня верыць мне наагул".*

Але ў сваім вершы "Хведару Ільляшэвічу", рукапіс які перад мной, Зубко, між іншым, сумуе, што

*Ды былі падарэмны мае ўсе стараньні, —*
*У шалёнай, упартай з табой барацьбе*
*Ты адрынуў, пракляў нат маё ты каханье...*

Хведар Ільляшэвіч быў маім сябрам. Ён ня ў стане ўзьняцца з магілкі ў Нямеччыне, каб запярэчыць хваравітай хлусьні Вольгі Зубко аб ейных сябрах і палюбоўніках. Таму я ўважаю сваім сьвятым абавязкам падаць характэрную вытрымку зь ягонага ліста да мяне за 17.7.48:

*"Прыкра ўсё-ж з гэтай Таполяй. Ёй зрабілі столькі дабра, так стараліся дапамагаючы, а яна замест працаваць (усе варункі для гэтага яна мела)… вярнулася ў СССР. Зрэштай, яна сама выразна заявіла, што яе шлях — туды. Аб Дубоўцы, Пушчы і іншых яна расказала, што яна іх ненавідзіць. І наагул — паскудзтва!*

*Я нават і задаволены, што мы пазбавіліся такога барахла, або і варожага элемэнту. Пойдзем далей сваёй дарогай!".*

Дык пойдзем далей сваёй дарогай. Правакацыйная зацемка Вольгі Зубко-Штайнвэг-Таполі сьветчыць толькі ды вылучна аб поўным банкруцтве завяртанцаў. Трапна зазначыў у сваёй прыказцы наш народ: не цяляці ды ваўка спаймаці.

---

877 Ліставанне Вольгі Зубко з 1940-х гг. публікавалася. Гл.: Тапол, Вольга. Лісты (1946–1948) // Запісы БІНіМ. № 24. Нью-Ёрк, 1999. С. 184–235; Адзінец, Аляксандар. Падарожжа самотнае душы [Вольга Таполя] // Запісы БІНіМ. № 32. Нью-Ёрк — Менск, 2009. С. 144–178

*Юрка Віцьбіч*

## **Трымай злодзея!..**
## Хто скраў крыж Еўфрасіньні Прадславы[878]

У савецкага пісьменьніка Тараса Хадкевіча[879], аўтара кніжкі *“Моя Белоруссия”* (Выдавецтва “Беларусь”, Менск, 1963 г.) ёсьць адпаведны яму настаўнік і правадыр. Прынамсі, на старонцы 156-й гэтае кніжкі ён, пераламіўшыся ў вернападданы гак, дае слова Мікіце Хрушчову, які з прычыны праекту пабудовы Чарнаморска-Балтыцкае воднае трасы праз Прыпяць і Нёман урачыста абвяшчае: *“Толькі ўзімку, калі замерзнуць рэкі, мы вычуем патрэбу ў Дарданэлах і Гібралтару”*.

І прашу ўявіць сабе цяпер Гібральтар, які мае ўшырыню ад 14 да 44 кілямэтраў, а ў глыбіню да 1181 мэтра, ці больш за кілямэтра. Гэта значыцца, што калі сучаснаму Нёману ды падпершы яго вялізнымі грэблямі, дадаць глыбіню Гібральтара, дык пад вадой зьнікне, крый божа, уся Беларусь, якое вышэйшы пункт — Сьвятая гара — узвышаецца над паверхняй акіяну на 346 мэтраў. А калі паглыбіць ды пашырыць рэчышча Нёману й Прыпяці да глыбіні й шырыні таго-ж самага Гібральтару, дык вада ва ўсіх беларускіх рэках і вазёрах забракне, каб напоўніць да краёў выкапаную прорву, падобную да Вялікага каньёну Калярада.

Аб такіх параўнаньнях ня марылі ні барон Мюнхгаўзэн[880], ні Тартарэн з Тараскону[881], ні Хлястакоў[882]. Таму няма нічога дзіўнага, што ідучы ўсьлед за гэткім манюком, як Мікіта Хрушчоў, Тарас Хадкевіч на старонцы 55-ай свае кніжкі, маючы на ўвазе сабор Сьвятое Сафіі

[878] Бацькаўшчына. № 7–8 (621–622). Ліпень 1964. С. 5.

[879] **Тарас Хадкевіч** (1912–1975), пісьменнік, перакладчык, публіцыст. Працаваў у газетах “Звязда”, “ЛіМ”, быў літаратурным кансультантам СП БССР.

[880] **Карл Фрыдрых Еранім барон фон Мюнхгаўзэн** (ням. *Karl Friedrich Hieronymus Freiherr von Münchhausen,* 1720–1797), нямецкі барон, ротмістр расійскай службы, адавядач, які стаў літаратурным персанажам. Ягонае імя стала выкарыстоўвацца для пазначэння людзей, што расказваюць неверагодныя гісторыі.

[881] **Тартарэн з Тараскона** — галоўны герой цыкла раманаў французскага пісьменніка Альфонса Дадэ. Тартарэн часта распавядаў пра свае няздзейсненыя подзвігі.

[882] **Іван Аляксандравіч Хлестакоў** — персанаж камедыі Мікалая Гогаля “Рэвізор”, які ў правінцыйным горадзе выдаў сябе за рэвізора з сталіцы.

ў Полацку, сьцьвярджае: *“у ягоным сутарэньні, напярэдадні вайны, былі знойдзеныя фрэскі часоў першае пабудовы сабора”*.

А да гэтае собскае вынаходкі на тае-ж шматпакутнай 55-ай старонцы дадае: *“За часы вайны крыж Еўфрасіньні*[883] *быў скрадзены гітлераўскімі захопнікамі”*.

У параўнаньні з гэтай бессаромнай хлусьнёй блякне навет глыбіня хрушчоўскага “Палескага Гібральтару”.

У 1939 годзе аўтар гэтых радкоў ачольваў акурат тую навуновую экспэдыцыю, якая, паводля Хадкевіча, знайшла ў сутарэньні Полацкае Сафіі старадаўнія фрэскі. Слоў няма, мы сапраўды знайшлі пад тынкам цэнтральнае апсіды сабору фрэскі, але яшчэ задоўга да нас — у 1912 г. навуковец Паўлінаў[884] — на тае-ж самае сьцяне, хоць і ў іншым мейсцы, тож знайшоў іх. Затое аніякіх фрэскаў у сутарэньні, якое таксама дасьледвалі, каб удакладніць плян старое Сафіі, мы ня выявілі дый ня шукалі іх там. Нашыя далёкія продкі былі даволі разумнымі, каб ня ўпрыгожваць высокамастацкімі фрэскамі звычайны й для іхняга часу падмурак.

Той, хто добра ведае савецкую рэчаіснасьць, добра-ж і разумее, што ня ў стане была навуковая падсавецкая экспэдыцыя паставіць сабе галоўнай мэтай пошукі крыжа Еўфрасіньні-Прадславы. Прызначэньне гэтае экспэдыцыі, гаспадаром якой зьяўлялася *“Кіраўніцтва па справах мастацкіх пры СНК БССР”*, вызначалася цалкам ейным назовам — *“Экспэдыцыя па ахове помнікаў рэвалюцыі, гісторыі і мастацтва”*[885]. Аднак удзельнікі экспэдыцыі ведалі пра крыж Еўфрасіньні-Прадславы як выдатны помнік гісторыі, літаратуры й мастацтва.

І мы шукалі крыж Еўфрасіньні-Прадславы. Перадусім — у сучаснай яму паводля свайго паходжаньня царкве Сьвятога Спаса, у кельлі якое ён знаходзіўся на працягу стагодзьдзяў. Аднак нам дазволілі дасьледваць гэтую царкву толькі звонку, бо ўнутры яе

[883] **Еўфрасіння Полацкая** (свецк. **Прадслава**, 1104–1167), полацкая князёўна, ігумення, беларуская святая. На яе замову майстар Лазар Богша вырабіў каштоўны крыж, згублены ў 1940-я гг.

[884] *Андрэй Міхайлавіч Паўлінаў (1852–1897), расейскі архітэктар, археоляг, рэстаўратар, гісторык архітэктуры, сярод іншага аўтар працаў пра старажытныя храмы Полацку й Віцебску (Труды IX археологического съезда в Вильне 1893 г. — М.: 1895. — Т. 1). — Заўв. Ю. Віцьбіча.*

[885] Матэрыялы гэтай экспедыцыі захаваліся ў паперах Юркі Віцьбіча і цяпер знаходзяцца ў БДАМЛМ.

знаходзілася сховішча *"Военведа"*[886]. Полацкі камандант, пад наглядам якога мы апынуліся каля царквы, даволі шчыра адзначыў: *"Вы не беспокойтесь, что не осматриваете внутренность этого здания. Мы оттуда всё выбросили, а старые картины на стенах закрасили"* (Вы ня турбуйцеся, што ня аглядаеце гэты будынак унутры. Мы адтуль усё выкінулі, а старыя малюнкі на сьценах зафарбавалі).

Мы шукалі далей крыж Еўфрасіньні-Прадславы ў саборы Сьвятое Сафіі, прыстасаваным пад сховішча збожжа раённага *"Заготзерно"*[887]. Мы пазьней шукалі яго ў сакрэтных сховах гістарычных і мастацкіх музэяў Полацку, Віцебску, Магілёву, Менску, трапляючы туды праз фільтры *"Особых отделов"*. А нашыя спробы даведацца аб ягоным лёсе ад палачанаў скончыліся выклікам у Полацкае раённае аддзяленьне *"НКВД"* і папярэджаньнем ягонага начальніка "таварыша" Міхайлава: *"Я советую вам прекратить поиски этого креста"* (Я раю вам спыніць пошукі гэтага крыжа).

За час вайны мне давялося нейкі час жыць у Полацку. Адпраўлялася Божая служба ў паруганай перад тым Сьвятой Сафіі. Да адчыненае зноў царквы Сьвятога Спаса ў бадай тысячагадовым жаночым Спаскім манастыры зыходзіліся з усіх бакоў Надзьвіньня былыя старыя манашкі, якія цудам захаваліся ад савецкага перасьледваньня. І вось нарэшце ад аднае зь іх я дазнаўся, што крыж Еўфрасіньні-Прадславы быў рэквізаваны супрацоўнікамі папярэдніх *"НКВД"* — *"ГПУ"* для патрэбаў *"Фонда Индустриализации"*. Ужо пазьней, на чужыне, мне давялося пачуць, што гэты крыж нібы знаходзіцца цяпер у Швэцыі, у прыватнае калекцыі аднаго тамтэйшага мільянэра.

І хіба ня відавочна пасьля гэтага, што на пытаньне — Хто скраў крыж Еўфрасіньні-Прадславы? — можна адказаць толькі: Сталінскія захопнікі.

Аднак на тэй-жа старонцы 55-ай, дзе Тарас Хадкевіч хлусіць сваім чытачом пра фрэскі ў сутарэньні Сьвятое Сафіі і пра крыж Еўфрасіньні-Прадславы, нібы скрадзены гітлераўцамі, ёсьць даволі слушныя радкі, а ўласьне: *"Ня мелася, бадай, у старажытнарускае дзяржавы* (!? — *Юр. В.*) *такое нясупакойнае, такое, ужываючы*

---

[886] ***Военвед*** (рус.) — ваеннае ведамства.

[887] ***Заготзерно*** (рус.) — маецца на ўвазе Усесаюзная кантора па нарыхтоўцы і збыце зерня, якая кіравала зерненарыхтоўчымі пунктамі.

*сучасны тэрмін, нядысцыплінаванае зямлі, як зямля Полацкая. Князі полацкія або падбівалі Ноўгарад, або вялі бясконцавую спрэчку зь Кіявам, або на іх саміх, каб уціхамірыць, нападалі князі бадай усяе Русі. Зразумела адно, што зямля Полацкая была багатая й вычувала сваю моц, каб ня стацца дробным удзелам, пазбаўленым пэўнае аўтаноміі”.*

Пэўне-ж Тарас Хадкевіч не разумее або з прычыны свае падсавецкае абмежаванасьці ня ў стане зразумець, што калі старадаўнія палачане стала змагаліся з намерам чужаземных захопнікаў пазбавіць іх незалежнасьці, дык сучасныя хадкевічы ўхваляюць расейска-бальшавіцкі лад, які ператварыў Беларусь у дробны ўдзел Масквы. Але-ж акрамя калябарантаў хадкевічаў існуе беларускі народ, які зьяўляецца крэўным спадкаемцам вольналюбівых палачанаў. Мы шчыра верым у тое, што ўрэшце-рэштаў ён пераможа сваіх захопнікаў і створыць сваю незалежную дзяржаву, а тады знойдзе й свой нацыянальны скарб — крыж сьвятое Еўфрасіньні-Прадславы, князёўны Полацкае.

*Юрка Віцьбіч*

## Трубадур віцебскіх падпольных пацукоў[888]

*Вам, цемнатворцам блізкім, далёкім,*
*Шлю свой прывет і ласку ад сэрца;*
*Дзякуй шлю вам, шмялём сьлепавокім,*
*Дзякуй! Хай далей моц ваша прэцца!*

Янка Купала

Каб у чытача адразу склалася адпаведнае ўражаньне, што зь сябе ўяўляе бэсэсэраўскі пісьменьнік Рыгор Няхай[889], агляду кніжкі якога “Героі не адступаюць” (Менск, 1965) прызначаны гэты артыкул, не залішне спачатку прыгадаць ягоны твор “Ці ёсьць

[888] Бацькаўшчына. № 1 (634). Сакавік 1966. С. 4.

[889] **Рыгор Няхай** (1914–1991), пісьменнік. Ад 1946 г. працаваў у газеце “Літаратура і мастацтва”. У 1952–1954 гг. загадчык аддзела крытыкі і публіцыстыкі часопіса “Полымя”, у 1956–1957 гг. рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР.

у цябе хоць кropля сумленьня", зьмешчаны ў № 843 газэціны "Голас радзімы". Бяссорамна выхваляючы ў ім сябе ды спрабуючы забрудзіць паэту Масея Сяднёва, ён, між іншага, павучальна махае яму пальцам:

*"Вось так, Масей Сяднёў… Памятаеш, восеньню 1939 года, калі я ішоў у армію, сустрэў цябе на Віленскім сквэры ў Мінску. Мы тады прыселі на лавачцы, і ты чытаў свае новыя вершы".*

Ці хіба-ж увосені 1939 г. запраўды мелася гэтая ідылія? У той час савецкі катаржнік Масей Сяднёў гібеў у адным з шматлікіх канцлягероў Калымы, дзе, як ён пазьней пісаў,

*Падганялі мяне штыкамі*
*Аб каменьне я раніў цела,*
*Каб чырвонымі агнямі*
*Золата яшчэ больш зіхацела.*

Толькі вайна вызваліла Масея Сяднёва зь Менскай турмы, куды яго напярэдадні яе прывезьлі энкавэдэшнікі на перагляд справы, каб накінуць да адпакутаваных ім пяці год яшчэ столькі ды потым канчаткова дабіць на Калыме. Ці патрэбна тут якая яшчэ далейшая характарыстыка Рыгора Няхая як чалавека й пісьменьніка?

Кніжка "Героі не адступаюць" напісана, як сьцьвярджае анатацыя да яе, на падставе дакумантальнага матар'ялу й прысьвечана змаганьню віцебскага камуністычнага падпольля, разам зь вядомай Верай Харужай[890], супраць фашыстых. І перадусім зьвяртае на сябе ўвагу сам ейны назоў. Мімаволі дзівіцца, чаму савецкі грамадзянін Рыгор Няхай ускосна пляміць армію савецкай Расеі, што адступіла ад Бугу аж да Волгі. Дарэчы, царская Расея ў часе Першай сусьветнай вайны не дапусьціла тых-жа немцаў да Дзьвіны й Дняпра. Калі шкурнікі, ратуючы сваю скуру, даюць драла, дык і гэроі часам адступаюць, але каб урэшце-рэштаў перамагчы. Ніколі не адступаюць толькі фанатыкі, якія таму заўжды гінуць. Тыповым доказам гэтага й зьяўляецца Вера Харужая.

Варта спачатку прыгадаць жыцьцё Веры Харужай, каб пераканацца ў тым, што ейная заўчасная сьмерць зьяўляецца зусім натуральнай. Перакінутая ў 1924 г. з СССР у Польшчу для дывэрсыйнай працы, яна — савецкая грамадзянка — прызначаецца там сакратаром

[890] **Вера Харужая** (1903–1942), дзяячка вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, адна з арганізатараў антыфашысцкага падполля ў Віцебску.

ЦК ЛКСМ Заходняй Беларусі. У 1928 г. на “Працэсе 133”[891] у Беластоку Вера Харужая прысуджаецца да 8 год турмы, але ў 1932 г. польскі ўрад абменьвае яе — савецкага шпега — на свайго шпега, выкрытага саветамі, і яна вяртаецца ў СССР. Цікава, што за часы яжоўшчыны яе абвінавачваюць у польскім шпегоўстве і высылаюць у Казахстан, але напярэдадні вайны яна зноў на волі. Маючы, такім чынам, вялікую шпегаўска-дывэрсыйную практыку, Вера Харужая ў 1942 г. накіроўваецца Масквой у падбіты немцамі Віцебск для падпольнай барацьбы, дзе праз якога паўтара месяца гіне. Чаму-ж этак хутка?

Распачну з другараднага й разам з тым зусім дастатковага, каб ня толькі віцебскія паліцыянты, але й жыхары зьвярнулі ўвагу на Веру Харужую як на падазроную асобу. Згодна з плянам Масквы, дзеля абжыцьця ў Віцебску яна разам з 30-мі (!) адначасна зь ёю дасланымі камсамолкамі, мелася ў ім адкрыць… кравецкае атэльe. З аднолькавым посьпехам можна было ў горадзе, дзе бракавала жменькі мукі для заціркі, наладзіць гандаль абрыкосамі і ананасамі. А хіба не заўважылі-б усе нечаканае зьяўленьне ў беларускім Віцебску вялікай групы дзяўчат, што размаўляюць на дакладнай расейскай мове ды аж з маскоўскім націскам? Акрамя таго, блага падробленыя дакуманты Веры Харужай на імя Карнілавай Ганны аніяк не адпавядалі ейным спробам выдаваць сябе ў Віцебску за немку з Рыгі. А ў дадатак сама Харужая зусім не прытрымлівалася элемэнтарных правілаў кансьпірацыі, бо ў часе першага допыту ў СД адна з арыштаваных віцяблянкаў адразу выкрывае яе, называючы Верай.

Аднак усё-ж ня ў гэтым палягае галоўная прычына гібелі Харужай. Як хлусіць Няхай, у акупаваным Віцебску меліся *“сотні, тысячы людзей, якія шукалі сувязі з падпольлем”*. Так толькі здавалася Маскве і ейным лёкаям. А ў запраўднасьці пераважная бальшыня віцяблянаў спрабавала ставіцца нэўтральна як у дачыненьні да фашыстых, гэтак і да камуністых, што зусім не выпадкова. Калі за часы вайны на іх палявалі чужынцы, дык за мірныя часы тое-ж ня ў меншай ступені практыкавалі “свае” гэпэўшнікі. Калі захопнікі немцы пакінулі па сабе ў страшэнных ярох Тулава[892] магілы зака-

---

891 **“Працэс 133-х”** — суды над удзельнікамі беларускага руху, асабліва кіраўніцтвам КПЗБ, якія адбываліся ў акруговым судзе Беластока ў красавіку — траўні 1928 г.

892 **Тулава** — вёска ў Віцебскім раёне. Каля яе ўІлаўскім (Тулаўскім) яры ў 1941 г. немцы расстралялі каля 20 тысяч віцебскіх габрэяў.

таваных імі віцяблянаў, дык перад тым, за 1918–1940 гг., захопнікі расейцы таксама расстралялі ў глыбокім Духаўскім рове бяз ліку іх. Калі за фашыстых тыя з віцяблянаў, што там-сям працавалі, даставалі штодня да 200 грамаў хлеба на дарослых і па 100 грамаў на дзяцей, дык за камуністых за часы іхных першых пяцігодкаў яны атрымлівалі яго па харчовых картках ад 500 да 100 грамаў на дарослых і ні каліва на дзяцей. Досыць прыгадаць галодны бунт 1933 г., пасьля якога блізу 700 кабет і падлеткаў паляглі ў магілах на Чычагоўскіх Батарэях[893]. Яны прасілі ў "свае" ўлады акраец хлеба (200 грамаў), а дасталі ад яе на душу па два залатнікі волава. Таму нічога дзіўнага няма, што камуністыя, як і фашыстыя, не зьяўляліся для віцяблянаў і ні сябрамі, і ні таварышамі.

Зразумела адсюль, чаму вельмі кволае віцебскае камуністычнае падпольле складалася ў большыні сваёй ні з віцяблянаў, а з выпадковых ды чужых у горадзе людзей, што пацьвярджае й сам Рыгор Няхай у сваім творы. Гэткім зьяўляецца, напрыклад, адзін зь ягоных галоўных падпольных гэрояў — шавец, або *"братка"*. Яму, афіцэру, сапёру савецкай арміі, камандзер загадаў падарваць мост празь Дзьвіну, а ён замест гэтага самохаць апынуўся з гранатай у руцэ ў акопах каля Юр'евай горкі[894]. У выснаве яго цяжка паранілі, а па ўцалелым мосьце хутка перайшлі на другі бок ракі сотні нямецкіх танкаў і гарматаў ды тысячы жаўнераў, перасьледуючы рэшткі савецкіх арміяў. Хіба не падлягаў ён, паводля вайсковага статуту любой краіны, расстрэлу на мейсцы, але за тое Няхай… уздымае яго на шчыт. Кіраўнік віцебскага падпольля інжынэр Максім, ён-жа "Медны", знаходзіўся ня ў тых бездапаможных акопах, бо — *"адганяў паравозы да Смаленску"*. Карацей кажучы — уцякаў, бяручы прыклад з вышэйшых партыйных шкурнікаў накшталт першага сакратара Віцебскага абкому КП(б)Б Стулава[895], якія, калі немцы былі яшчэ пад Полацкам, уцёк у Маскву аж на самалёце,

---

[893] **Чычагоўскія батарэі** — абарончыя збудаванні ў Барысаве, звязаныя з вайной 1812 г. У 1919–1933 гг. на іх адбываліся расстрэлы жыхароў Барысаўшчыны савецкімі ўладамі.

[894] **Юр'ева горка** — лесапарк у заходняй частцы Віцебска, дзе да Другой сусветнай вайны знаходзілася Георгіеўская (Юр'еўская) праваслаўная царква.

[895] **Іван Стулаў** (1904–1964), партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1938–1944 гг. — першы сакратар Віцебскага абкама КПБ. Пазней партыйны функцыянер у Маскве.

а таксама з першага сакратара ЦК КП(б)Б Панамарэнкі[896], што ў часе панічнага драпаку забіў сваёй аўтамашынай у прадмесьці Менску шасьцігадовую дзяўчынку Насту Бульбянік. І зусім натуральна, што як толькі над ім навісла пагроза выкрыцьця, колішні няўдалы ўцякач Максім "Медны" адразу перапаўзае за партызанскую сьпіну, пакідаючы ў віцебскім падпольлі бадай вылучна адну беспартыйную сям'ю Вераб'ёвых разам з бабкай Марыляй, на якой трэба затрымацца асобна.

Як падгледзіў Няхай, бабка Марыля *"бухнулася перад маленькім абразком"*. Перадусім, хіба не характэрна гэтае пагардліва-зьняважальнае — *"бухнулася"* для стылю *"інжынэра чалавецкіх душаў"*, хоць, між іншым, ён і ня здагадваецца, што няма вялікіх абразкоў. Аднак больш істотнае ў іншым. Яна, глыбака рэлігійная, нібы малілася за перамогу бальшавікоў, за разбуральнікаў усіх сьвятыняў, што ў ейным-жа горадзе, як блюзьнюры й барбары, зьнішчылі выдатныя помнікі рэлігіі, гісторыі й мастацтва — велічны Вусьпенскі сабор[897], "Чорную Тройцу"[898], Уваскрасенскую Рынкавую царкву[899], Тройцу Маркаў манастыр[900] і ўрэшце-рэштаў сэрца старадаўняга Віцебску — бяз мала тысячагадовую царкву Дабравешчаньня[901]. А калі толькі бабка Марыля й запраўды малілася за зварот іхняга панаваньня, дык вельмі нагадывала пры тым тую старую, пра якую Ян Гус[902] сказаў: *"О, сьвятая прастэча"*.

---

[896] **Панцеляймон Панамарэнка** (1902–1984), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, у 1938–1948 гг. першы сакратар ЦК КП(б)Б.

[897] **Успенскі сабор** — храм у Віцебску, помнік архітэктуры віленскага барока. Каменны храм быў пабудаваны ў 1715–1743 гг. і ўзарваны ў 1937 г. Адноўлены ў 2010 г.

[898] **Царква Святой Тройцы ("Чорная Тройца")** — драўляны храм у Віцебску, закладзены ў канцы XVI — на пачатку XVII ст. і разбураны ў 1928 г.

[899] **Свята-Васкрасенская (Рынкавая) царква** — праваслаўны храм на заходнім баку Рынкавай плошчы ў Віцебску, помнік архітэктуры віленскага барока. Пабудаваная ў XVIII ст. і разбураная ў 1936 г. Адноўлена ў 2008 г.

[900] **Свята-Траецкі Маркаў манастыр** — мужчынскі праваслаўны манастыр у Віцебску, заснаваны ў XIV—XV стст. Быў зачынены ў 1920 г. Адроджаны ў 2000 г.

[901] **Дабравешчанская царква** — праваслаўны храм у Віцебску, помнік архітэктуры XII ст., знаходзіцца ў цэнтры горада на беразе Заходняй Дзвіны. У 1961 г. была ўзарваная. Адноўленая ў 1993–1998 гг.

[902] **Ян Гус** (чэш. *Jan Hus*, 1369–1415), ідэолаг чэшскай Рэфармацыі.

Ня трэба пасьля ўсяго гэтага зьдзіўляцца, чаму 24 лістапада 1942 г. у сутарэньні старажытнага будынку былой духоўнай сэмінарыі, прыстасаваным пад турму СД, загінула Вера Харужая. Ня было на каго ёй абаперціся — ні на беларускі Віцебск, ні на ягонае расейскае падпольле. Няхай галосіць па ёй Масква ды скуголяць на маскоўскі лад бэсэсэраўскія калябаранты. А хіба не паказальна, што скончыла яна сваё жыцьцё менавіта ў гэтым будынку на Вусьпенскай горцы? Даруйце за асабістае — там вучыліся мае дзяды, бацька й дзядзькі. Амаль усе яны загінулі пакутніцкай сьмерцю ў нязьлічоных савецкіх канцлягерох толькі за тое, што зьяўляліся сьвятарамі. І вечная памяць усім закатаваным бальшавікамі пастырам, усіх веравызнаньняў, нашай шматпакутнай Беларусі.

Пасьля гібелі Веры Харужай, шпурнутай Масквой у пашчу Бэрліну — Максім "Медны", крыху адсопшыся ў хмызьняках бліжэйшага балота, зноў аб'явіўся ў Віцебску і, паводля Рыгора Няхая, сказаў: *"Да пакараньня сьмерцю прысуджаны многія — Рэкша, Пятроў, рэдактар газэты, пісьменьнік-пасквілянт. Хай нам не ўдасца прывясьці ў выкананьне прыгавор над усімі імі, але мы пакажам, што падпольле жыве, дзейнічае"*.

А каб выканаць гэтае «*партызанскія разьведчыкі добра вывучылі рэжым дня рэдактара газэты і яго паплечніка-"пісьменьніка". Яны хоць і ахоўваліся паліцаямі на рабоце, дома і ў дарозе, але жылі на гарадзкіх кватэрах і падступіцца да іх можна было*».

30 лістапада 1942 г. рэдактар газэты А. Брандт[903] быў забіты на вуліцы, аднак не віцебскім падпольлем, а партызанамі, што прыйшлі зь лесу. Гэты тэрарыстычны акт сьведчыць, па-першае, аб тыповай бальшавіцкай пагардзе да далейшага лёсу сваіх грамадзянаў, а па-другое, увогуле безсэнсоўны й бязмэтны. У адказ на яго немцы па свайму звычаю вырашылі расстраляць 50 закладнікаў зь мясцовай турмы, што складаліся пераважна з кабетаў і падлеткаў, затрыманых у часе аблаваў на гарадскіх рынках. Тагачасны бургамістар Віцебску зь вялікай цяжкасьцю, але дамогся замены расстрэлу адпраўкай іх на работу ў Нямеччыну, скуль яны вярнуліся па вайне. Гэтак ненавісная камуністам газэта ня спыніла сваё існаваньне ні на адзін нумар а на другі дзень пасьля забойства А. Брандта прыехаў

[903] **Аляксандр Брандт** (?–1942), выкладчык рускай мовы і літаратуры, у часе акупацыі быў рэдактарам газеты "Новы шлях", а ягоны бацька Леў Брандт быў бургамістрам Віцебска.

з Смаленску ейны новы рэдактар. І можа грудзі тых пазавугольных забойцаў упрыгожваюць сёньня розныя бляшанкі-цацанкі, але сваім коштам яны таньнейшыя за суравежкі[904].

Пісьменьніка, а ўласьне Юрку Віцьбіча сьмерць наразе абмінула, аднак зусім не таму, што, як запэўнівае Рыгор Няхай, той *“пасьля сьмерці друга* (сябры, дружбака — у перакладзе з расейскае мовы на беларускую. — Юр. В.), *адчуўшы нешта нядобрае і для сябе, у той-жа дзень выехаў у Мінск пад больш надзейную ахову”*.

Перадусім трэба заўважыць, што за часы вайны Віцьбіч ніколі ня меў пры сабе аніякае зброі, акрамя пёрка. Потым, ніхто рашуча яго не ахоўваў на рабоце, дома і ў дарозе, хоць жыў ён ня ў цэнтры Віцебску, дзе знаходзілася рэдакцыя газэты, а на ягонай ускраіне — Гутараўшчыне. Праўда, па ім аднойчы, калі ён працаваў на сваім гародзе, стралялі зводдаль з дахавага вакна ды раз уначы падпальвалі ягоную хату, але ён не пабег у СД, каб тым самым, на савецкі вузор, выклікаць гібель сваіх ні ў чым не вінаватых землякоў-віцяблянаў. У кажным нумары газэты друкаваліся ягоныя творы, а паміж імі артыкул “Шакалы вандруюць па лясах”, прызначаны, як гаворыць сам назоў, маскоўскім бандытам. Толькі ў кастрычніку 1943 г. (г. зн. не празь дзень, а праз год пасьля забойства А. Брандта) Віцьбіч выехаў зь Віцебску ў Менск і зусім не таму, што спалохаўся падпольных аблезлых пацукоў, што самі сябе палохаліся. Да самага гораду наблізіўся фронт, і спыніла сваё існаваньне мясцовая газэта.

Загадам Масквы Веры Харужай пасьмяротна нададзена годнасьць гэроя Савецкага Саюзу. Адначасна яна ўзнагароджана ордэнам чырвонага сьцягу. Ейнае імя накінута вуліцам, калгасам, заводам, школам, параплавам і г. д. У гонар яе творац мастакі й разьбяры, кампазытары й драматургі, паэты й пісьменьнікі, а паміж апошнімі й нябог Няхай. Між тым, уся гэтая штучна разьдзмутая слава ня вартая й паленага шэлягу. Вера Харужая зьяўляецца падвойнай ахвярай бальшавізму й фашызму ды бясслаўна загінула, як гіне толькі ў часе нечаканай паводкі ўпарты, але недабачлівы зямельны крот. Ніхто з старэйшага пакаленьня віцяблянаў, што перажылі вапошнюю вайну ў Віцебску, ня дасьць веры кніжцы Рыгора Няхая “Героі не адступаюць”. Аднак і маладыя, што нарадзіліся па вайне, усё больш і больш бяруць пад сумлеў бальшавіцкую прапагандовую чаўпню. Вось даведай-

[904] **Суравежкі** — грыбы, тое ж, што і сыраежкі.

цеся, калі ласка, ад самых саветчыкаў, як гавораць цяпер маладыя проста ў вочы старэйшым "гэроям".

У № 52 газэты "Літаратура і Мастацтва" за 1965 г. ёсьць артыкул "Што засталося па-за спісам", у якім, паміж рознага іншага, аўтар разказвае: "*Мінулым летам мне давялося разам з былым партызанам-падрыўніком — Героям Савецкага Саюза Уладзімерам Парахневічам зрабіць паездку па Бабруйшчыне, па мясьцінах, дзе ён партызаніў. У адным мейсцы на беразе рачулкі Ола Уладзімер Аляксеевіч прыгадаў: вось тут яны ўдвух з сябром у няроўным баі зьнішчылі групу фашыстаў з суседняга гарнізону. Ён пачаў расказваць, як гэта было. Мясцовы хлопчык год чатырнаццаці круціўся побач, прыслухоўваўся да нашай размовы, а потым пераканана, амаль са злосьцю сказаў: Геро-і! А пра нас не падумалі, што немцы праз вас маглі вёску спаліць!*"

Пачакайце яшчэ, пачакайце й дачакаецеся. Рана ці позна, але гэтая самая моладзь супольна з бацькамі ськіве маскоўскае паняволеньне ды ўздыме на сваіх плячох Вольную й Незалежную Маці-Беларусь.

*Юрка Віцьбіч*

## Ці ня сорамна, дзядзька Шырма?[905]

У сяголятнім студзені ў Менску адбылася так званая дэкада расейскага мастацтва ў БССР. Пад ёй там цяпер разумеюцца звычайныя гастролі тэатраў савецка-імпэрскае Масквы па гарадох ейных каляніяльных народаў. З гэтае прычыны на старонках бэсэсэраўскіх газэтаў зьявілася ладне акафістаў, якім бракуе пачуцьця ня толькі нацыянальнай, але й чалавецкай годнасьці. А паміж імі адно зь першых месцаў па свайму прыслужніцтву займае артыкул Рыгора Шырмы[906] з паказальным назовам: "Калі ласка!", зьмешчаны ў газэце "Советская Белоруссія" ад 10 студзеня г. г.

Свой вернападданы твор Рыгор Шырма распачынае ўрачыстым лёзунгам: "*Наш саюз зь вялікім расейскім народам уходзіць сваім*

[905] Бацькаўшчына. № 4 (632). Травень — ліпень 1965. С. 7.

[906] **Рыгор Шырма** (1892–1978), дырыжор, фальклярыст, грамадскі і музычны дзеяч.

*карэньнем у далёкае мінулае".* Ці хіба гэта адпавядае праўдзе? Няма тут нават патрэбы спасылацца на шматлікія гістарычныя факты, бо цалкам хопіць створанага народам фальклёру. І можа лепш было-б замест "Калі ласка!" нацягнуць паміж дзьвюма вежамі 13-ціпавярховых дамоў на менскай Прывакзальнай плошчы вялікі транспарант зь беларускай народнай прыказкай: *"Тату, тату, лезе чорт у хату. — Дарма, сынку, абы не маскаль".*

Нядрэнна было-б таксама, каб дзяржаўная акадэмічная капэля пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы прывітала яшчэ на вакзальнай плятформе маскоўскіх гасьцей, продкаў якіх нашыя продкі сустракалі са зброяй у руках, сьпевам беларускай народнай гістарычнай песьні:

*Масква стала наракаці,*
*Места Воршу пакідаці.*
*А як з Воршы уцякалі,*
*Рэчку невялічку праклінали:*
*Бадай ты, рэчка, сто лет высыхала,*
*Як нашая слава тутака прапала.*

Зьгінаючыся ў сваім алілуйным артыкуле ў крук перад Масквой, Рыгор Шырма спрабуе забрудзіць сьветлы вобраз нязломнага змагара за Беларусь, сьцьвярджаючы, што *"Кастусь Каліноўскі — вучань і пасьлядоўнік расейскіх рэвалюцыйных дэмакратаў".* Няўжо? Усе мы ў сваіх сэрцах, да апошняга іхнага тыхканьня, перахоўваем ягоныя перадсьмяротныя словы: *"Беларусы! Браты мае родныя! З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіцца мне пісаць да вас".* І далей: *"Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што толькі тады зажывеш шчасьліва, калі над табой маскаля ўжо ня будзе".*

Асабліва захапляецца Рыгор Шырма былым Віленскім настаўніцкім інстытутам, бо, маўляў, ягоныя студэнты літаральна нядасыпалі, вывучаючы расейскую культуру, і таму, быццам, добра яе ведалі. А між тым сам сябе ў гэтым сэньсе падважвае. Так ён піша: «*Незабывальны рэпінскі "Паляшук", які абапёрся на агароджу недзе каля Прыпяці*». Ну навошта дарэшты распранацца на вачох у расейцаў, якія бяз сумлеву ведаюць гэты малюнак, што знаходзіцца ў Трэцьцякоўскай галярэі ў Маскве?

Не "Паляшук", а "Беларус". І не з-па-над Прыпяці, а з-па-над Дзьвіны. Свой эцюд "Беларус" Рэпін[907] напісаў у 1896 г. пад Віцебскам, у маёнтку Здраўнева, на беразе Дзьвіны каля ейнага

[907] **Ілля Рэпін** (рус. *Илья Репин*, 1844–1930), рускі і ўкраінскі мастак.

грымотнага парогу Закладзень. Ягоны тыповы "Беларус" з адзабальнай самавітасьцю, з пачуцьцём чалавецкай годнасьці, з гонарам і без варожасьці глядзіць на вас. Няхай на ім саматканая, але разам з тым беласьнежная сьвітка, падпярэзаная саматканым, але прыгожым каляровым пасам з кутасамі, аднак ён, трапна адбіты й па-мастацку адкрыты І. Рэпіным, нічым не падобны на рэпінскага-ж "Мужычка з палахлівых" (1877), зь якога, дарэчы, усе капаўкі падабралі затуканыя бэсэсэраўскія паслугачы Масквы.

Прабачце, дзядзька Шырма, але-ж другую няпрыемнасьць вы падклалі студэнтам Віленскага настаўніцкага інстытуту, калі пішаце, што ім дужа падабаліся наступныя радкі зь Лермантава: "*Лучем румяного заката Твой стан, как лентой, обовью*"[908] (Руменны прамень сонца на заходзе абвіне тваю постаць, як істужка).

Значыцца, кепска, вельмі блага яны ведалі Ю. Лермантава, абраўшы зь ягонай дасканалай творчасьці выпадковы альбомны вобраз. І ці зрабілася за вас няёмка расейцам, калі толькі яны, хай сабе зь нязвычайнай для іх ветлівасьці, чыталі ваш артыкул у "Советской Белоруссіі"?

Мы далей арганічна ня ў стане падзяліць бязьмежную радасьць Рыгора Шырмы з тае прычыны, што "*вялікі пралетарскі пісьменьнік*" Максім Горкі[909] захапіўся творам Янкі Купалы "А хто там ідзе", пераклаўшы яго на расейскую мову ды надаючы яму адначасна годнасьць беларускага… гімну. Да гэтага добрага твору трэба падыходзіць цяпер у гістарычным пляне. Ён быў пісаны Янкам Купалам яшчэ ў нашаніўскія часы, калі падбітыя Беларусы марылі не пра незалежнасьць, а пра тое, каб хоць — "*людзьмі звацца*". Магчыма ўласьне таму "А хто там ідзе" і спадабаўся расейцу да апошняй кроплі крыві, Горкаму, які, мабыць, спадзяваўся, што далей гэтага сьціплага жаданьня Беларусы ня пойдуць. І ніякага дзіва ў тым, што гэты верш ніколі ня будзе беларускім гімнам, як ня стаўся ім і "Ад веку мы спалі". Аднак справа нават і ня ў гэтым, а можа… акурат у гэтым.

Максім Горкі ў сувязі з вершам "А хто там ідзе" ў сваім лісьце да М. Коцюбінскага[910] паблажліва ахарактыразаваў Янку Купалу

---

908 Цытата з паэмы М. Лермантава "Дэман".

909 **Максім Горкі** (рус. *Максим Горький*, 1868–1936), рускі пісьменнік, драматург, грамадскі дзеяч.

910 **Міхайла Кацюбінскі** (укр. *Михайло Коцюбинський,* 1864–1913), украінскі пісьменнік, грамадскі дзеяч, класік украінскай літаратуры.

й Якуба Коласа як *"славные ребята"*. У бэсэсэраўскіх выданьнях гэтыя *"ребята"* звычайна дыпляматычна й хлусьліва перакладаюцца як *"хлопцы"* замест, даруйце, адпаведнага тэрміну нашай мовы — *"блазнота"*. Ці адважыўся-б Максім Горкі так назваць сваіх сучасьнікаў у расейскай літаратуры — Льва Талстога[911], Чэхава[912], Буніна[913], Купрына[914], Андрэева[915] ды іншых? І няма ў гэтым ягоным выказваньні нічога апрача расейскай вялікадзяржаўнай пагарды да *"нейкіх"* беларускіх дудароў.

А можа я ня маю рацыі? Магчыма й дагэтуль беларускі народ марыць пра тое — каб *"людзьмі звацца"*? І згадваецца перадусім нашая добрая беларуская моладзь на чужыне, якая, таму яна й моладзь, любіць часам пазабавіцца. Акрамя тутэйшых танцаў яна ведае й паважае свае родныя скокі — "Лявоніху" і "Мяцеліцу", "Бульбу" і "Юрачку", "Гняваш" і "Калаўрот" ды ладне іншых, аб якіх даведалася ад сваіх бацькоў і дзядоў. Аднак ніколі нашая вольная моладзь не пачне танцаваць *"Польку трудовых резервов"*, аб існаваньні якое мы нечакана дазналіся з тае-ж "Советской Белоруссіі" ад 23 сакавіка г. г. Мы тут на чужыне перадусім і дарэшты — людзі і кожны з нас паасобку — чалавек, а ня нейкія рэзэрвы. А там, на нашыя глыбокі жаль і боль, былі калісьці Беларусы *"быдлам"* для панскай Варшавы, *"рабочим скотом"* для царскага Санкт-Пецярбургу, *"унтэрмэншамі"* для фашыстоўскага Бэрліну, каб урэшце-рэштаў стацца *"трудовым резервом"* для бальшавіцкай Масквы. Дык што яшчэ больш агіднае — іх прымушаюць праз скокі з адмысловым назовам выхваляць гэтую зьняважлівую рабаўласьніцкую мянушку.

Дзядзька Рыгор Шырма! Хіба вы не разумееце, што вашае добрае імя зрабілася, апраўдываючы вашае прозьвішча, шырмай, параванам, заслонай для недалужных завяртанцаў, якіх цалкам характа-

---

[911] **Леў Талстой** (рус. *Лев Толстой*, 1828–1910), рускі пісьменнік, мысляр, публіцыст.

[912] **Антон Чэхаў** (рус. *Антон Чехов*, 1960–1904), рускі пісьменнік, драматург, лекар.

[913] **Іван Бунін** (рус. *Иван Бунин*, 1870–1953), рускі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1933).

[914] **Аляксандр Купрын** (рус. *Александр Куприн*, 1870–1938), рускі пісьменнік, перакладчык.

[915] **Леанід Андрэеў** (рус. *Леонид Андреев*, 1871–1919), рускі пісьменнік, прадстаўнік літаратуры Сярэбранага веку, пачынальнік рускага экспрэсіянізму.

рызуе ўбогі ўва ўсіх адносінах папіхач Лявон Прокша[916]? Уласьне дзеля гэтага вы ім і патрэбныя, бо Беларусы на чужыне па старой памяці шануюць усё-ж вас, а ня іх. І разам з тым мы — колішнія падсавецкія грамадзяне — добра ведаем, што вы ня ў стане былі наразе з гонарам прыгадаць маскоўскім гасьцям, што першую п’есу для першага маскоўскага тэатру напісаў Беларус Сымон Полацкі[917]. І таксама разумеем, што ня можа вашая выдатная капэля выканаць, прыкладам, песьню на гнеўныя словы нашага Нацыянальнага Прарока Янкі Купалы:

*Чужак-дзікун, крывёю ўпіўшысь сьвежай,*
*Запрог цябе ў няволю, ў батракі,*
*І тваю маці-бацькаўшчыну рэжа,*
*Жывую рве на часьці, на кускі.*
*Сыноў тваіх расьсеяў па ўсім сьвеце,*
*Як птушак ястраб з гнёздаў разагнаў;*
*Бацькі дзяцей, а бацькоў сваіх дзеці*
*Сярод магіл шукаюць і канаў.*

[916] **Леанід Прокша** (1912–1994), пісьменнік, журналіст. У 1956–1972 гг. галоўны рэдактар часопіса *“Коммунист Белоруссии”* і рэдактар газеты “Голас Радзімы”.

[917] **Сімяон Полацкі** (сапр. **Самуіл Пятроўскі-Сітняновіч**, 1629–1680), праваслаўны і грэка-каталіцкі дзеяч, пісьменнік. Ад 1664 г. жыў у Маскве, дзе з часам стаў выхавацелем царскіх дзяцей.

*А. Галубіцкі*[918]

## Праклятай памяці Картуская Бяроза[919]

У якіх толькі канцэнтрацыйных лягерах ня прыйшлося цярпець Беларусам за апошнія дзесяцігодзьдзі? Аб усіх шмат пісалася. Гэта былі або апісаньні дакумэнтальнага тыпу, або проста ўспаміны тых, каму ўдалося перажыць той ці іншы лягер.

Аб адным-жа з такіх лягераў, а ў якім якраз Беларусы складалі вялікі працэнт, у нас пісалася няшмат, а маладзейшае пакаленьне аб ім наагул мала што ведае. Гэта быў польскі канцэнтрацыйны лягер у Картускай Бярозе на Палесьсі.

Калі аб ім мала пісалася, дык гэта не таму, што гэты лягер быў мала ведамы, ці што ўмовы вязьняў там былі лепшыя, чымся дзе-небудзь. Перадусім у перадваеннай Польшчы пісаць аб ім нельга было, а асабліва нам, Беларусам. З надыходам-жа вайны — прыйшлі іншыя лягеры: савецкія, нямецкія… і ўжо Бяроза сталася не актуальнай.

Польскія афіцыйныя дзейнікі заўсёды стараліся затушоўваць скандалічны факт існаваньня гэтага лягеру. Але ўжо ў 1941 годзе журналісты Станіслаў Мацкевіч (Цат)[920] выдае ў Лёндане "Гісторыю Польшчы" (ад 1918 да 1939 году), у якой пару бачынак прысьвячае Бярозе. Сёлета-ж у польскім незалежным дыскусійным двутыднёвіку "*Zaczyn*" праз тры нумары друкуецца вялікі артыкул В. Б. Кука "Ад Берасьця да Бярозы". Артыкул гэты тым важнейшы, што ён базуецца на рапарце былага галоўнага каманданта польскай паліцыі генэрала К. Заморскага[921] й на вы-

---

918 ***А. Галубіцкі*** — псеўданім Алеся Марговіча.

919 Бацькаўшчына. № 11 (241). 13 сакавіка 1955. С. 2.

920 **Станіслаў Мацкевіч** (пол. *Stanislaw Mackiewicz*, псеўд. **Цат** (*Cat*), 1896–1966), польскі палітычны публіцыст кансерватыўных поглядаў, манархіст. Жыў у Вільні, быў заснавальнікам і нязменным рэдактарам газеты "*Słowo*". Пасля Другой сусветнай вайны выехаў у эміграцыю, жыў у Лондане, дзе некаторы час быў прэм'ерам польскага эміграцыйнага ўрада. У 1955 г. вярнуўся ў Польшчу.

921 **Кордыян Заморскі** (пол. *Kordian Józef Zamorski,* 1890–1983), генерал брыгады Войска Польскага. У другой палове 1930-х гг. галоўны камендант Дзяржаўнай паліцыі.

ясьненьнях былога польскага прэм’ера ген. Ф. Славой-Складкоўскага[922].

Апіраючыся на дзьве вышэй названыя крыніцы, мы пастараемся, наколькі гэта дазваляе разьмер газэтнага артыкулу, падаць нашым чытачам запраўдныя факты адносна Бярозы.

Вось-жа яшчэ на пачатку В. Б. Кук зазначае, што: *“Берасьце* (дзе былі ўвязьненыя праваднікі апазыцыі. — *А. Г.*) *і Бярозу прыдумалі людзі, якія дайшлі да ўлады сілай, а ня могучы яе замацаваць дэмакратычным шляхам, так як бальшыня грамадзтва была супраць іх, ужывалі мэтады НКВД і Гэстапо”*.

Ніякае апісаньне пекла Бярозы не заменіць тае часткі рапарту ген. К. Заморскага, дзе гаворыцца аб псыхічным стане паліцыянтаў пасьля адбыцьця службы ў лягеры.

*“Людзі* (паліцыянты. — *А. Г.*), *што адтуль выходзілі, не маглі йсьці ў нутраную службу. Яны былі колькі месяцаў у Жырардове*[923]*, каб: 1. самым забыцца аб асабістых перажываньнях у службе Бярозы, 2. каб забыцца ўжываных там мэтадаў. І толькі тады я ім даваў прыдзелы на пастарункі. Паміма гэтага было тры выпадкі самагубства сярод паліцыянтаў, якія хварэлі нэрвова пасьля Бярозы”*. У канцы рэпорту ён дадае: *“Больш у справе Бярозы ня ведаю нічога, як толькі тое, што запраўды людзі пасьля пару месяцаў службы выходзілі адтуль зьдзічэлымі, што паказвае на ўмовы, якія там існавалі”* (“*Zaczyn*”, № 2/41).

Гэтак гаворыць сам галоўны камандант польскае паліцыі. І нельга забывацца, што гэта гаворыцца аб паліцыянтах, якія несьлі службу ў лягеры. Калі-ж яны, пільнуючы вязьняў, выходзілі адтуль зьдзічэлымі пасьля пару месяцаў і некаторыя канчалі самагубствам, дык што-ж тады казаць аб самых вязьнях, якія туды пасылаліся не на пару месяцаў!

Канцэнтрацыйны лягер у Картускай Бярозе быў падпарадкаваны палескаму ваяводзе Костку-Бернацкаму[924]. Усім было вядома, што гэты чалавек быў хваравлівым садыстам. «*Ён з любасьцяй*, — кажа С. Мацкевіч, — *прыдумваў пыткі і з праўдзіва дэгэнэрацкай любасьцяй называў іх пяшчотнымі назовамі, як “гімнастыкай”,*

---

922 Маецца на ўвазе Славой Феліцыян Складкоўскі.

923 **Жырардув** (пол. *Żyrardów*) — горад у Мазавецкім ваяводстве Польшчы, за 45 км на паўднёвы захад ад Варшавы.

924 Маецца на ўвазе палескі ваявода Вацлаў Костэк-Бярнацкі.

*“рэгулямінам” і г. д.».* Такая “гімнастыка” заключалася ў тым, што вязьням у прысеўшай пазыцыі і з паднятымі ўверх рукамі загадвалі хадзіць, бегаць, узыходзіць і зыходзіць з сходаў на працягу сямі гадзінаў бяз перапынку. Прыгэтым паліцыянты білі іх па-зьверску палкамі. Іншая-ж “гімнастыка”, аб якой расказваў Мацкевічу Сьвяжэўскі, была ня менш страшнай: на новазбудаваную шасу, пакрытую дробнымі каменьчыкамі, выгналі групу вязьняў, паставілі іх на калені й загадалі пасоўвацца наперад; паліцыянты-ж увесь час білі іх палкамі ды што 20 мэтраў загадвалі цалаваць тыя палкі, і гэтак група нешчасьлівых мусіла пасоўвацца два кілямэтры.

У Бярозе, апрача палітычных вязьняў, былі таксама й крыміналістыя, якія пераважна выконвалі функцыі дыжурных заляў, інструктараў “гімнастыкі” й г. д. Біцьцё трывала цэлы дзень, кажа Мацкевіч. І калі паліцыянты білі ўсіх, дык крыміналістыя яшчэ ў сваю чаргу білі палітычных.

Іншай, ужо арыгінальнай рысай гэтага лягеру была забарона гаварыць міжсобку. За адное сказанае слова вязьня замыкалі ў арышт, дзе пры адчыненых вокнах у часе марозу ён мусіў сядзець на сьцюдзёным бэтоне, з голымі нагамі й толькі ў кашулі й калесонах; церазь дзень ён атрымоўваў палову дзённае турэмнае порцыі і праз шэсьць дзён і начэй што поўгадзіны мусіў мэльдаваць у вакно: *“panie komendancie, melduje poslusznie...”*[925].

Яшчэ аднэй арыгінальнасьцей была забарона маліцца, хрысьціцца, насіць на шыі мэдалікі й крыжыкі. Гэтыя правіны караліся таксама біцьцём. І як ня дзіўна, але ў гэткіх выпадках навет тыя, што ніколі ня верылі ў Бога, пачыналі быць шчыра веруючымі.

Аб усіх гэтых зьдзеках навонкі цяжка было даведацца, таму што калі каму ўдавалася быць вольным, дык пры выпушчаньні яму казалася: *“Калі будзеш штосьці гаварыць, дык пападзеш сюды яшчэ раз і тады…”*. А так, кажа Мацкевіч, як Бяроза ня была месцам ізаляцыі, а папросту месцам пытак, дык такое абяцаньне мела сваю вагу.

Можа хто й падумае, што Мацкевіч, які сам быў вязьнем у Бярозе, спэцыяльна ў чорных фарбах малюе ўмовы гэтага лягеру. Аднакжа словы Мацкевіча падмацоўвае хаця-б цытаваны ўжо напачатку рапарт ген. Заморскага. Да гэтага нельга таксама забывацца, што

[925] ***“Panie komendancie, melduje poslusznie...”*** (пол.) — “Пане каменданце, паслухмяна дакладаю…”.

з Мацкевічам, дзякуючы ягоным сувязям, лепш абыходзіліся, чым зь іншымі вязьнямі. Ён сам даслоўна кажа:

*“Зрэштай мяне асабліва ня білі, і я вельмі далёкі ад ўважаньня Бярозы за найбольш асноўны пункт абвінавачваньня супраць Рыдза*[926] *й Славоя. Хай бы сабе мелі не адну, а дзесяць Бярозаў, але каб затое ўмелі разьвязаць праблему нацыянальнай абароны й замежнай палітыкі”.*

Нам, Беларусам, хапіла і аднэй Бярозы. Колькі нашых самых лепшых людзей адтуль не вярнуліся, або паварочваліся поўнымі калекамі й нядольнымі больш да нармальнага жыцьця! А за што? На гэта часткова дае адказ той-жа Мацкевіч, кажучы, што *“хапіла помсты якогась паліцыянта ці гміннага пісара, каб пасадзіць кагось у Бярозу”*. Але да гэтага адказу трэба яшчэ дадаць, што ўжо найменшая рыса беларускай нацыянальнай сьведамасьці магла стацца прычынай помсты з боку паліцыянта й пісара. А найбольш крыўдным было тое, што “культуртрэгеры” ў васобах польскіх паліцаяў, войтаў, пісараў і старостаў у гэтых нацыянальных праявах ня бачылі нічога іншага, як камунізм. У 1939 годзе, калі зьнікла польская ўлада, усе вязьні Бярозы маглі вярнуцца дадому, толькі беларускім лёс судзіў іншае. Бальшыню зь іх пасьля нейкага часу арыштавалі бальшавікі. І пэўна-ж не таму, што яны ў Бярозе за камунізм цярпелі, а якраз таму, што з гэтым камунізмам нічога супольнага ня мелі, бо былі беларускімі патрыётамі.

Пішучы аб Бярозе, мы зусім ня мелі на мэце штучнага адкапваньня мінуласьці з мэтай паглыбленьня нянавісьці Беларусаў да Палякаў. Зусім ясна, што ў Бярозе Палякі сядзелі гэтаксама, як і Беларусы. І зразумела, што ўвесь польскі народ ня можа несьці адказнасьці за тое, што іхныя цемняры і авантурнікі вытваралі на г. зв. “крэсах усходніх”. Мы толькі хочам падкрэсьліць, з чым, думаем, згодзяцца і ўсе чэсныя Палякі, што садыстым і іншым дэгэнэратам тыпу Косткі-Бэрнацкага, што сяньня ў лёнданскім “Зьвёнзку зем всходніх”[927] мрояць аб павароце на свае месцы кацыкаў на “крэсах усходніх”, у будучай Беларусі месца ня будзе.

---

[926] Маецца на ўвазе **Эдвард Рыдз-Сміглы** (пол. *Edward Rydz-Śmigły*, 1886–1941), польскі вайсковы і палітычны дзеяч. У 1917 г. узначальваў Польскую вайсковую арганізацыю, у 1918 г. вайсковы міністр. У 1920 г. камандзір 2-й арміі і Паўднёвага фронту. У 1935–1939 гг. фактычны дыктатар Польшчы.

[927] Відаць, маецца на ўвазе ***Związek Ziem Wschodnich Rzeczypospolitej Polskiej*** (пол.) — польская эміграцыйная арганізацыя, заснаваная ў 1955 г. у Лондане.

*А. Негнявіцкі*[928]

## Негнявічы — мой родны кут
Успаміны[929]

*Мой родны кут, як ты мне мілы!*
*Забыць цябе ня маю сілы!*
*Ня раз, утомлены дарогай,*
*Жыцьцём вясны маей убогай,*
*К табе я ў думках залятаю*
*І там душою спачываю.*

Якуб Колас

Нарадзіўся я ў невялікім мястэчку, якіх гэтак шмат было на Беларусі — у Негнявічах 4 ліпеня 1896 г. Мястэчка Негнявічы было тады валасным цэнтрам Наваградзкага павету Менскай губэрні. На Беларусі ў залежнасьці ад зьмены каляніяльнай улады мяняўся і адміністрацыйны падзел. Так, пры польскай ужо ўладзе, з 1921 г. Негнявічы належалі да Наваградзкага павету й Наваградзкага ваяводзтва. Пасьля “падачы *брацкай рукі*” бальшавікамі ў 1939 г. Негнявічы належалі да Любчанскага раёну Баранавіцкай вобласьці. Нядаўна бальшавіцкая ўлада зьліквідавала Баранавіцкую вобласьць і далучыла Любчанскі раён зь Негнявічамі да Горадзенскай вобласьці. Кажны гаспадар-калянізатар кіраваўся пры адміністрацыйным падзеле ня прыроднымі асаблівасьцямі ды патрэбамі Беларусі, а сваімі палітычна-гаспадарскімі мэтамі, каб як найлепей эксплуятаваць калёнію.

Негнявіцкая воласьць разам з суседнімі воласьцямі: Шчарсоўскай, Карэліцкай, Любчанскай і Гарадзішчанскай займае вельмі ўраджайную ўсходнюю частку Наваградзкага ўзвышша, што з сваёю Замкаваю гарою й местам Наваградкам дамінуе над ваколіцай. Рака Нёман, што абмяжоўвае Негнявіцкую, Шчарсоўскую й Любчанскую воласьці з паўночнага ўсходу, творыць луку, якая выгінаецца ў шырокую Наднёманскую нізіну. На правым беразе Нёмна разьляглася слаўная Налібоцкая пушча.

---

928 ***А. Негнявіцкі*** — псеўданім Аляксандра Орсы.

929 Бацькаўшчына. № 37 (319). 9 верасьня 1956. С. 2–3.

Негнявіцкая й Шчарсоўская воласьці, з гледзішча некаторых асаблівасьцяў свайго быту, твораць супольную краіну Шчарсоўшчыну, а ейных насельнікаў завуць шчарсунамі. Да гэтых шчарсуноў з прадвеку належалі й мае продкі. Шчарсоўшчына, займаючы ўсходнюю частку Наваградзкага ўзвышша ў суседзтве з Наднёманскай нізінай, творыць сабой раўніну, што паступова падымаецца ў заходнім кірунку. Нёман і яго даплыў Валоўка, заліваючы вялікі абшар і наносячы на яго мул, утварыў тут вельмі ўраджайную глебу мурожных сенажацяў, а лёсава-сугліністыя глебы — пшанічныя палі Шчарсоўшчыны. Як багатая наша бацькаўшчына падобнымі да Шчарсоўшчыны ўраджайнымі абшарамі, што належаць да цудоўнай мазаікі краявідаў Беларусі.

Мястэчка Негнявічы знаходзіцца амаль у цэнтры Негнявіцкай воласьці. Калі ўзяць радыюс у 6 км, дык амаль увесь абшар гэтае воласьці ўвойдзе ў плошчу круга з малымі адхіленьнямі. Мястэчка Негнявічы ўтварылася на скрыжаваньні дарогаў паміж мястэчкам Любчам і Карэлічамі (у вадлегласьці 10 км ад іх) ды паміж Наваградкам (у вадлегласьці 18 км) і Шчорсамі (6 км). На гэтым малым абшары паразьмешчваліся сёлы й вёскі, што ў бальшыні спалучаны паміж сабой. На абшары Негнявіцкае воласьці знаходзяцца такія групы вёсак: Баярская й Пабрэзя; Старыя Негнявічы, Дуб'е, Вярбіцы, Сланеўская Воля, Весялова, мястэчка Негнявічы й Паплава; Роскаш, Задвора, Харосіца, Падкасоўе, Аўдзевічы і Антонаўшчына; Булгацкія Лычыцы, Поўшава й Малыя Лычыцы. Вёскі Малы Сялок, Падгура, Мілушава, Лаўрышава й Гнесічы знаходзяцца паасобку. Калісьці вымененыя групы вёсак, як сіроты, із сваімі саламянымі стрэхамі, былі сьціснутыя вялікімі абшарамі маёнткаў графа Храбтовіча[930]: Негнявічы, Марысін, Адамполь і Косы Двор; Буглацкія Лычыцы, Мілушава, Фэліксава й Вярбалова належалі да паноў.

Гэткія маёнткі, асабліва Храбтовічавы, былі пастаўлены ўзорна ў сэнсе агракультуры, і з аднаго боку, былі прыкладнымі аб'ектамі для сялянства, а з другога — зьяўляліся светкамі сацыяльнай несправядлівасьці, што грасавала ня толькі ў Негнявіцкай воласьці, але й на цэлым абшары Беларусі. Матарыяльны прыбытак гэтых маёнткавых паноў ішоў не на карысьць беларускага народу,

930 Магчыма, маецца на ўвазе **Апалінары Канстанцінавіч Храптовіч-Буцянёў** (1879–1945), уладальнік маёнтка Шчорсы, дыпламат.

а вывозіўся з нашага каляніяльнага краю. Ня дзіва таму, што Расейцы да першае сусьветнае вайны пашыралі лягенду аб беднасьці Беларусі, якая нібы зьяўляецца перашкодаю да ейнае незалежнасьці. Дабрабыт далёка меншых за Беларусь прыбалтыцкіх незалежных гаспадарстваў поўнасьцю зьнівэляваў гэтае хвальшывае цьверджаньне.

Сялянскія надзелы былі тут пераважна па 4 маргі[931] (паўтара морга раўняюцца аднэй дзесяціне або, прыблізна, аднаму гэктару) ворнай зямлі й па 3 маргі сенажаці. Найменшыя надзелы былі па адным маргу ворнае зямлі й па адным маргу сенажаці. За некалькі дзясяткаў гадоў ад часу скасаваньня паншчыны да першае сусьветнае вайны шмат надзелаў падзялілася ў выніку прыросту насельніцтва, і некаторыя жыхары змушаныя былі выяжджаць у Амэрыку, а ў вапошнія гады — у Сібір на пасяленьне. Часта ў ваднэй хаце жыло па некалькі сем'яў пад дамінуючым кіраўніцтвам бацькі.

Прывязанасьць да свае зямлі і ахвота да працы на ёй — неадлучная рыса натуры беларускага селяніна. У Шчарсоўшчыне ня было ніводнага кавалачка зямлі, што ляжала-бы адлогам. Малазямельнасьць і бязьмерная цяга да ўласнае зямлі з кажным годам павышалі ейную цану, і перад першаю сусьветнаю вайною дзесяціна добрае якасьці каштавала навет больш за тысячу залатых рублёў. Імкненьне селяніна да пабольшаньня свае гаспадаркі змушала яго да бязьмернай працавітасьці, ашчаднасьці й самавыстарчальнасьці. Кажны гаспадар у прынцыпе сеяў усе гатункі збожжа за выняткам тых, што кепска расьлі або буялі (у Шчарсоўшчыне амаль ня сеялі гароху й грэчкі). Вялікая ўвага была зьвернена на вырошчваньне бульбы й лёну. Бульба была галоўнаю спажываю селяніна і жывёлы, а зь лёну выраблялісі розныя гатункі палатна — на бялізну, вопратку ды ўсякія гаспадарскія патрэбы.

Цяжкая была доля жанчынаў, якія ў працягу году аддавалі шмат часу на догляд і апрацоўку лёну. Трэба было палоць, рваць, абіваць, слаць або мачыць, церці, трапаць, часаць, прасьці, ткаць, бяліць ды нарэшце, з палёгкай і задавальненьнем, складаць у кублы[932] або ў купры[933] гатовыя вырабы. Не дарма быў так пашы-

---

[931] **Морг** — мера зямельнай плошчы, вядомая ў Беларусі ад XVI ст., роўная 0,71 га.

[932] **Кубел** — кадка з накрыўкай.

[933] **Купар** — куфар, выраб корпуснай мэблі з адкідной ці здымнай накрыўкай.

раны звычай вечарніцаў, калі дзяўчаты зьбіраліся ў прасторнай хаце даўгімі зімовымі вечарамі прасьці кудзелю, а хлопцы як спадарожнікі прыходзілі на заляцаньні. Пры такім гуртавым і вясёлым настроі дзяўчаты не заўважалі стомы і адна перад другою на выперадкі стараліся напрасьці больш ручаек, тым больш, што хлопцы спацікалі іх пільнасьць ды спрыт у працы. Затое замужнія жанчыны сядзелі за прасьніцаю самотна да поўначы дома, калышучы часамі малых ды марачы аб тым, колькі губкаў кужалю, зрэбнага палатна, сукна й шарачку мусяць яны выткаць увесну. Так год у год праходзілі для жанчыны зімовыя вечары пры слабым сьвеце лучыны або газоўкі аж да першага пеўня пры частым завываньні ў коміне зімовае завірухі.

Ня былі бяз працы ў гэтым зімовым часе й гаспадары. Напаіўшы й накарміўшы на ноч жывёлу, гаспадары выконвалі вечарамі розную працу, што неабходная была для гаспадаркі або пабочнага заработку. Трэба было пашыць або паправіць лапці для цэлае сям'і, паправіць збрую, зрабіць неабходную бандурку або іншыя сталярскія рэчы й г. д. Калі-ж наладжвалася добрая санная дарога, сяляне цэлымі месяцамі дзень-удзень езьдзілі ў лес, што быў далёка за Нёмнам, каб навазіць сабе на цэлы год дроў, будаўлянага матарыялу, а часта й зарабіць якісь рубель прывозам шурак у маёнткі ды будаўлянага матарыялу да Нёмну на сплаў. Уставаў гаспадар у гэтым часе дадня, карміў каня й выяжджаў з дому. Толькі пад самы вечар варочаўся дамоў, бо далёка трэба было ехаць у бязьмежную Налібоцкую пушчу. Ранічкамі тысячы гаспадароў у пустых хурманках ехалі борзда па зімовых дарогах проста па балотах на правым беразе Нёмна, каб пасьля полудня крочыць пешкі разам з канём каля цяжкіх саней. Цэладзённая праца, часамі па калена ў сьнезе, пры вялікіх марозах выконвалася неўзначай і навет не адчувалася холаду і ўтомленасьці. Толькі едучы дамоў прыпаміналася, што ў мяшку зь сенам для каня ёсьць торбачка з хлебам. Часта хурманы прыпыняліся ў в. Каледзіной або Гнесічах, каб выпіць кручок гарэлкі й закусіць мерзлым хлебам і салам. Якая-ж смачная яда была тады! Выпіўшы й падмацаваўшыся, гаспадары, чырвоныя й бадзёрыя, у вясёлым настроі варочаліся дамоў, каб, адпачыўшы, заўтра зноў выехаць у лес.

У працягу зімовых месяцаў, калі мароз, як будаўнік, скоўваў балотныя абшары, Налібоцкая пушча напаўнялася людзьмі, якія

ўдзень і ноч нястомна вывозілі вялізарную масу дрэва. З прыходам вясны Налібоцкая пушча аж да наступнае зімы пусьцела, і толькі лясьнікі час ад часу, абыходзячы свае абшары, нарушалі лясное жыцьцё, калі расьліны й жывёлы сьпяшаліся выкарыстаць сілу сонечнага сьвятла й цяпла для папаўненьня запасаў энэргіі, што была патрачана ў зімовым часе. Нешта таемнае й магутнае адчувалася тады ў пушчы. Незаўважна ў гэтай жыцьцёвай мітусьні адбывалася заканамерная барацьба за існаваньне ў ланцугу вечнага эвалюцыйнага працэсу.

Вясна зусім спыняла лясную работу й прымацоўвала селяніна на кароткі час да свае хаты, бо размоклыя грунтавыя дарогі й разьліў Нёману зь ягонымі даплывамі змушалі яго быць дамаседам. Не пакладаў рук ён і цяпер ды выконваў цэлы шэраг працы: пілаваў і калоў дровы, будаваў і правіў гаспадарскія будынкі, ладзіў гаспадарскія прылады. А жанчыны, апрача штодзённае працы, сядзелі за кроснамі. Хутка Наднёманскае возера сплывала, ральля паступова выхысала й вабіла селяніна да веснавых палявых прыгатаваньняў і сяўбы ў першую чаргу аўса, пра які прыказка кажа: *“Сей авёс у гразь, дык будзеш князь”*. Пазьней сеялі іншыя яравыя збожжы, а пасьля вазілі гной і садзілі бульбу. Лён сеяўся найпазьней. Трэба зазначыць, што шчарсуны ў гаспадараньні перанялі шмат чаго ад маёнткаў гр. Храбтовіча. Рольная сыстэма была тут шматпольная без ужываньня зялёнага гною — лубіну. Гаралі поле ў склад і роськід. Гаспадарскія прылады ўводзіліся навейшага тыпу: зялезныя плугі, спружыноўкі, іглы й радлы для культывацыі бульбы ў рады. Вазы перад самаю першаю сусьветнаю вайною былі амаль усе на зялезных восях — разворы маянковага тыпу. Гатункі збожжа ўжывалі палепшаныя або, як казалі, завадзкія, што даставаліся з маёнткаў. У маёнтках гр. Храбтовіча была заведзена ў канцы 19-га ст. нямецкая сялянска-гаспадарчая культура, што паступова пераймалася й шчарсунамі. Воз на зялезных восях і прыгожы конь з раменнаю збруяю былі неад’емнаю адзнакаю шчарсоўскага гаспадара.

Надыходзіла гарачае лета. За тыдзень да Яна[934] шчарсуны пачыналі косьбу. Сенажаці былі пераважна на правым беразе Нёману побач з Налібоцкаю пушчай. Цэлымі тыднямі касцы жылі на сена-

[934] Маецца на ўвазе свята **Купалле (св. Яна)**, якое адзначаецца па старым стылі з 23 на 24 чэрвеня, па новым — з 6 на 7 ліпеня.

жацях, каб раніцою пры расе касіць, а ўдзень сушыць сена. За лета дзясяткі тысячаў вазоў сена перавозілася з-за Нёману ўва ўсе вёскі Шчарсоўшчыны. Неўзабаве пачынаў надыходзіць і Пёцер[935] — пара жніва. Калі сенажаці Шчарсоўшчыны былі далёка ды поле было адносна блізка й жнеі кажны дзень пасьля сьнеданьня дома выходзілі жаць, а вечарам зь песьнямі варочаліся назад. Празь некалькі тыдняў жніва канчалася, і поле пакрывалася прыгожымі й густымі мэндлямі[936]. Надыходзіла пара звозу збожжа ў гумны. Шмат хурманак снавала ўзад і ўперад паміж полем і вёскай. З кажным днём мэндлі зьнікалі, і асіраценае поле ператваралася ў ральлю з паасобнымі смугамі[937] ўжо пажаўцелай бульбы або канюшыны, што вырасла на ржышчах жыта ці аўса.

Надыходзіла восень — пара сяўбы жыта, пшаніцы й капаньня бульбы. Усё часьцей і часьцей чуліся гукі цапоў пры малацьбе або праніка[938] пры абіваньні жанчынамі лёну. Да Пакроў уся палявая праца канчалася, і гаспадары ўсю ўвагу зьвярталі на малацьбу, а жанчыны на апрацоўку лёну. Зьліжаўся найбагацейшы час, калі ўсё збожжа было змалочана й зерне ссыпана ў сьвірны або пасы ў сенях. Частка плёну прадавалася на пакрыцьцё выдаткаў, што неабходныя былі для куплі гаспадарскіх прыладаў ды наагул патрэбных рэчаў, каб быць прыгатаваным да зімовае пары.

Было-б няпоўнае ўяўленьне аб Шчарсоўшчыне й шчарсунох паводля гэтага апісаньня іхнага гадавога ўкладу жыцьця ня прыгадаўшы характэрных бытавых асаблівасьцяў і традыцыяў.

Шчарсуны выдзяляліся сярод беларускага народу сваёю вопраткаю. Сьвяточная вопратка была прыстасаваная да халоднае й цёплае пары. Жанчыны насілі ўзімку перактыканыя спадніцы[939], вышываныя блюзы й белы ў стан кажух з клінаватым ззаду каўняром ды закотамі на запясьцях рук. Кажух падпярэзваўся прыгожым саматканым поясам з кутасамі. Такая форма кажуху была толькі ў шчарсуноў, і шылі іх рукамі спэцыяльныя краўцы. Яны хадзілі

935 Маецца на ўвазе дзень **св. Пятра і Паўла**, які ў праваслаўнай традыцыі прыпадае на 12 ліпеня.

936 **Мэндлі** — тое ж, што снапы, бабкі, мэтлікі.

937 **Смуга** — тут: пэўная тэрыторыя, працяглы кавалак зямлі, занятыя чымсьці, адрозныя ад астатняй прасторы.

938 **Пранік** — пляскаты драўляны брусок з ручкай, якім аббівалі лён.

939 **Ператыканая спадніца** — спадніца з вытканымі малюнкамі, арнаментам.

з хаты ў хату й шылі ад позьняй восені да вясны. На галаву жанчыны завязвалі спэцыяльную каляровую хустку — драпоўку з фрэндзлямі[940]. У валасы пад хустку ўкладалася палойка лёну — накосьнік, каб лепей трымаліся рагі. Замужнія жанчыны накладалі на галаву пад драпоўку чапец як адзнаку замужнасьці. Чорныя чаравікі з высокімі халяўкамі дапаўнялі ўбор. У цёплы час дзяўчаты й маладзіцы хадзілі пераважна ў каляровых ператыканых спадніцах, хвартухох ды гарсэтах, а старэйшыя жанчыны адзявалі часамі сярмягу ў стан з саматканага сукна.

Мужчыны таксама насілі белыя ў стан кажухі з такімі самымі каўнерамі, але без закотаў на руках. Падпярэзваліся яны рамянямі з ласінае вырабленае скуры. Нагавіцы шыліся з дамовага сукна. Паверх кажухоў, асабліва старэйшыя мужчыны, надзявалі белыя з палатна халаты. Летнія нагавіцы шырокага пакрою шыліся з палатна.

Асабліва прыгожа выглядалі маладыя дзяўчаты й маладзіцы ў сваіх уборах. Гэтая прыгажосьць дэманстравалася ў сьвяточныя дні й на фэстах.

Шчарсуны любілі павесяліцца й паскакаць. Ня было сьвята, каб пасьля службы ў царкве ня было ўладжана на сяле гуляньне. Скакалі тады пераважна шчарсоўскую “Лявоніху”, што складалася з двух каленаў. У першым — хлопцы бадзёра хадзілі ў кругу пад павольную музыку з рознымі прыпеўкамі й выглядалі сабе дзяўчыну, якія стаялі наўкола гэтага кругу. Празь нейкі час кажны хлапец клікаў выбраную дзяўчыну, і калі ўсе пары былі ў камплекце, музыкант пад каманду *“круці!”* пачынаў борзда йграць другое калена лявоніхі, а пары ўтваралі адзіны жывы кругаварот. Лявоніха скакалася з малымі перапынкамі гадзінамі. Скакалі таксама кадрыль і польку.

Як ахвоча зьбіралася моладзь на вясельлі сваіх сяброўак і сябраў, каб ушанаваць і ўпрыгожыць яго скокамі й песьнямі!

Шчарсоўскае вясковае вясельле мае свае традыцыйныя асаблівасьці. Калі хлопец нагледзіў сабе дзяўчыну, дык ён з дазволу бацькі й маткі ехаў да яе ў сваты — звычайна ўвечар пад якоесь сьвята. Сват ішоў у хату, а малады чакаў, пакуль яго паклічуць. Калі запоіны ў дзяўчыны былі першыя, дык яна абавязкова мусіла прыняць свата і пасьля, у выпадку неспадобы, варочала грошы за

---

[940] **Фрэндзлі** — кутасы.

выпітую гарэлку. У выпадку-ж поўнае згоды пасьля першых малых запоінаў адбывалася падрыхтоўка да вялікіх запоінаў, на якія запрашаўся большы круг сваякоў і знаёмых, і на якія прыходзілі без запросу дзяўчаты й хлопцы. Ад першых да другіх запоінаў прадстаўнікі ад маладое наведвалі бацькоў маладога, каб навочна пераканацца аб заможнасьці маладога й дамэтнасьці замуства, а прадстаўнікі маладога дагаворваліся аб пасагу.

Вясельле адбывалася з усімі традыцыямі тры дні. За некалькі дзён да вясельля адбывалася прыгатаваньне закускі й куплялася гарэлка. Звычайна на сярэдняе вясельле ішло па 50 гарцаў[941] або 200 бутэлек гарэлкі ў маладога й маладой.

Наконадні вясельля рашчынялі каравай, і дзяўчаты-падружкі цэлы вечар рабілі адпаведныя формы караваю зь цеста. Прыгатаваньні адбываліся пры пяяньні традыцыйных песьняў пад кіраўніцтвам свацеі й старэйшых маладзіцаў.

У першы дзень вясельля малады із сваім сватам і дружынаю на ўбраных вазох і ўпрыгожаных добрых конях прыяжджаў да маладое, каб забраць яе ў царкву. Маладая із сваёю свацеяю й дружынаю садзілася на прыбраныя вазы і ўсе разам ехалі да царквы. Бацькі маладых заставаліся дома. Пасьля шлюбу маладая пара садзілася разам на адзін воз і на чале ўсіх вясельнікаў накіроўвалася зь песьнямі да хаты маладое, дзе сустракалі іх з хлебам і сольлю ды чаркаю гарэлкі.

Нарэшце, на жаданьне свата, малады з дружынаю выяжджаў да маладое, каб забраць яе ў свой дом. Пры ўезьдзе на панадворак маладое цэлая груба хлопцаў запыняла воз маладога й вымагала ад яго па традыцыі выкупу за маладую ў форме некалькіх бутэлек гарэлкі, што, звычайна, пасьля моцнага торгу, выконвалася. Вароты адчыняліся, і дружына маладога зноў супольна зь вясельнікамі маладое прадаўжала вясельны пачастунак. Пасьля сват, абвязаны ручнікам, стукаў сваім бізуном аб бэльку й заклікаў вясельнікаў да падарунку й мусу выпіць чарку гарэлкі. Скончыўшы гэты традыцыйны абавязак, сват забіраў маладую пару й разам з дружынаю ехаў да хаты маладога. Уваходзячы ў хату маладога маладая як

[941] **Гарнец** — колішняя адзінка вымярэння аб'ёму сыпкіх прадуктаў (збожжа, крупы, мукі і інш.), розны ад 2 да 7 літраў. У Вялікім Княстве Літоўскім ужываўся малы (каля 2,8 літра) і цэхавы (каля 5,6 літра) гарцы. Лічылася, што гарнец роўны чвэрці вядра.

будучая гаспадыня сеяла жыта й грошы — сымбаль шчасьця й багацьця. Маладая абдароўвала матку й бацьку маладога ручнікамі, а родных яго паясамі, што былі прыгатаваныя ёю ў дзявочым веку. Далей маладая пара садзілася за сталом на пачэснае месца, і вясельны пачастунак разам з песьнямі й скокамі прадаўжаўся. Пасьля маладых адводзілі на адпачынак — улетку, звычайна, у гумно. Празь нейкі час свацея із сватам ішлі будзіць іх; адначасна сьцьверджвалася мутацыя дзяўчыны ў маладзіцу як адзнака высокай маральнасьці й годнага ўзгадаваньня.

Тымчасам зьбліжаўся вечар другога дня вясельля, і свацея з дружкамі рыхтаваліся да завіваньня маладое, гэта значыць, да накладаньня на ейную галаву пад хустку-драпоўку чапца — адзнакі маладзіцы. Дружкі сьпявалі адпаведныя да завіваньня песьні, а маладая з плачам не давала налажыць ёй чапец. Выяўленьне маладою такога супраціву сьветчыла аб тым, што яна пакідала дзявочае жыцьцё й пераходзіла ў грамаду маладзіцаў. У гэтым часе дарылі маладога, і свацея дзяліла на купры маладое каравай ды давала яго кажнаму даральшчыку, а сват чарку гарэлкі.

Вясельнікі гулялі далей, і на трэйці дзень адбывалася заканчэньне вясельля традыцыйнай вясёлаю гульнёю ў "казакоў". Падпіўшыя вясельнікі маладога ў рознай жартаўлівай вопратцы пеша й конна вырушылі на чале з музыкантам да вясельнікаў маладое. Па дарозе яны скакалі, пяялі й вытваралі камічныя сцэны. Такія самыя "казацкія" прыгатаваньні адбываліся і ў вясельнікаў маладое. Сустрэўшыся, "казакі" супольна вясёлаю гурбою ехалі і ішлі да маладое пары, каб там супольна закончыць на трэйці дзень вясельле.

На чацьвёрты дзень частка вясельнікаў яшчэ пахмялялася, і ў непрацоўны час гэтакае пахмельле адбывалася ўжо ў складчыну яшчэ нейкі час.

Мястэчка Негнявічы мела тады 70 двароў. У лік гэтых двароў уваходзіла 15 з жыдоўскім жыхарствам, што займалася выключна гандлем. У самым цэнтры знаходзілася праваслаўная царква Казанскай Божай Мацеры[942]. На ўзбоччы, паміж Негнявічамі

[942] **Царква ў гонар Казанскага абраза Маці Божай** — праваслаўны храм у в. Нягневічы, пабудаваны ў 1795 г.

й Сланеўскай Воляй, была другая царква Мікалая Чудатворца, а ў сяле Лаўрушава — трэйцяя, Прачыстай Багародзіцы[943].

Усе вёскі воласьці былі падзелены паміж гэтымі цэрквамі на тры прыходы. Каталікаў было толькі пару сем’яў у цэлай воласьці. Яны належалі да прыходу ў Наваградку, бо бліжай ня было касьцёла. Пры цэрквах былі прыходзкія школы і адна народная школа ў мястэчку. Валасная ўправа й паліцэйскі ўрад з аднаго ўрадніка ды *"казённая вінная лаўка"* былі тымі ўстановамі, што дбалі аб правапардку й манапольным заробку на гарэлцы. Вымененыя ўстановы былі расейскімі цэнтрамі.

Высокая нацыянальная культура на Беларусі з зусім адменным укладам жыцьця ня мела чаго пераймаць ад сваіх акупантаў. Навет расейская мова, што панавала ў школах і ўстановах, мела вельмі малы ўплыў, які стушоўваўся ў кампактнай беларускай масе. Русыфікаваліся толькі нялічныя адзінкі, якія дапялі нявысокіх, звычайна, становішчаў у расейскіх урадах, ды тыя, што былі ў маскалёх і прыносілі з сабой моўную мешаніну, якая, аднак, пазьней зьнікла. За 125 год расейскага духовага паняволеньня шчарсуны не паддаліся маскоўскім уплывам і захавалі сваю культуру, якая праменявала ад самастойнага й незалежнага жыцьця Беларусі.

Найчарнейшым учынкам маскоўскае ўлады было тое, што яна забараніла ў 1867 г. беларускую мову й гэтым адцяла магчымасьць друкаваць і пашыраць беларускае слова. Аднак беларускія паэты распаўсюджвалі свае творы ў рукапісах. Да такіх паэтаў належаў і самародак-паэта Я. Марозік зь вёскі Лаўрушава Негнявіцкай воласьці, які ў пажылым ужо веку ў пачатку 20-га ст. пашыраў свае вершы сярод сялянаў.

Канчаючы гэты вынятак з маіх успамінаў, мушу зазначыць, што шчарсуны, як і ўвесь беларускі народ, нягледзячы на моцны наступ палянізацыі й русыфікацыі, непарушна захавалі сваю нацыянальную апрычонасьць і выдалі з свайго асяродзьдзя ідэйных адраджэнцаў, ахвярнасьць якіх ёсьць зарукаю ўскрошаньня Беларусі.

---

943 Відаць, маецца на ўвазе царква **Успення Прасвятой Багародзіцы**, або **Свята-Успенская царква,** — праваслаўны храм у вёсцы Лаўрышава, помнік драўлянага дойлідства канца XVIII ст. Належыць Свята-Елісееўскаму Лаўрышаўскаму мужчынскаму манастыру.

*Юрка Віцьбіч*

## "Кепска каля Віцебска, а ля Воршы 'шчэ горшы"[944]

*Засеяце зялеза, волава, патроны —*
*І чорнай сьмерці колас хутка зашуміць…*
*Вы будзеце жаць гібель, пошасьці і стогны,*
*Пакуту малаціць.*

Зьмітрок Бядуля

Заўзяты вораг марксістых, запраўдны правадыр працоўных Фэрдынанд Ласаль[945] неяк заўважыў: *"Калі мой вораг хаваецца за статыстыку, я дасканала вывучаю яе, а потым бязьлітасна абвальваю ейныя, толькі на першы погляд голыя лічбы, на ягоную галаву, калі мой вораг шукае прытулку ў нібы пазажыцьцёвых формулах альгебры, я, апранаючы іхнія касьяцкі ў плоць, і тут падбіваю яго"*. Гэтая тактыка выдатнага нямецкага трыбуна адразу прыгадваецца, калі ў ЗША трапляе ў рукі прабальшавіцкая газэта з адпаведным назовам *"Русский Голос"*[946]. Бадай у кажным нумары яе сустракаюцца артыкулы й нарысы савецкіх журналістых, прысьвечаныя гарадом сучаснае БССР. Паводля іхняе пісаніны, гарады Беларусі расквітнелі толькі пасьля Кастрычніцкае рэвалюцыі ў Расеі. Каб давесьці гэтую недарэчнасьць, яны параўноўваюць гмахі хвабрыкаў і заводаў, пабудаваных мэтраполіяй-Масквой у сваёй калёніі БССР, з хацінамі *"Северо-Западного Края"* Расейскай імпэрыі ў канцы мінулага і пачатку цяперашняга стагодзьдзяў. Між тым і гмахі, і хаціны сьветчаць толькі аб тым, што расейскі бальшавізм зьяўляецца натуральным працягам расейскага царызму. Зьмянілася толькі форма расейскага імпэрыялізму, а не ягоны зьмест. Прыкладам гэтаму ёсьць Ворша, якую вышэйадзначаная газэціна часта-густа прыгадвае.

---

[944] Бацькаўшчына. № 42 (324). 14 кастрычніка 1956. С. 2–3; № 43 (325). 21 кастрычніка 1956. С. 2–3; № 45 (327). 4 лістапада 1956. С. 2–3; № 46 (328). 11 лістапада 1956. С. 2; № 47–48 (329–330). 25 лістапада 1956. С. 3–4.

[945] **Фердынанд Ласаль** (фр. *Ferdinand Lassalle*, 1825–1864), нямецкі філосаф, юрыст, эканаміст, палітычны дзеяч. Выступаў за ўсеагульнае і роўнае выбарчае права, стварэнне з дзяржаўнай дапамогай асацыяцый рабочых, дасягненне бяскласавага грамадства шляхам рэформаў і інш.

[946] ***"Русский голос"*** — радыкальная рускамоўная газета, якая выходзіла ў ЗША ад пачатку XX ст.

Існуе ў нашым народзе прыказка: *“Кепска каля Віцебска, а ля Воршы ’шчэ горшы”*. Перадусім трэба заўважыць, што глебы паміж Віцебскам і Воршай складаюцца бадай з аднаго супяску, і таму дабрабыт тутэйшага сялянства вышэйшы, чым там на Беларусі, дзе пашыраныя пяскі й падзолы. Пасьля гэтага прыходзіш да выснаву, што не эканамічныя прычыны парадзілі гэтую красамоўную прыказку.

Там, дзе ўжо паўнаводныя Дзьвіна й Дняпро найбольш набліжаюцца паміж сабой, паўсталі на першай Віцебск, а на другім Ворша. Гэтыя два гарады разам з Смаленскам складаюць на мапах Беларусі трохкутнік, ведамы пад характэрным назовам Смаленскае Брамы. Не падаюцца нават пераліку ўсе заваёўнікі, што ў сваёй крывавай і вогненнай пуцявіне з усходу на захад або наўзварот ішлі праз гэтае міжрэчча. Між іншым, шырыня яго ўсяго толькі 90 кілямэтраў, якую ў дадатак звужалі з тагачаснага вайсковага пункту гледжаньня на 30 кілямэтраў аж дагэтуль там-сям непраходныя Верацейскія балоты і Бабінавіцкая пушча. Трэба яшчэ прыгадаць, што адразу за Дняпром, наўсьцяж ягонага левага берагу, цягнецца натуральны мур, складзены з дэвонскіх вапнякоў — узвышша Смаленска-Варшанскі Клін, які рака перагрызае ў Кабяляцкіх парогах і пасьля гэтага зьмяняе свой кірунак. І хоць ключом да Брамы зьяўляўся надаўшы ёй сваё імя Смаленск, але ніхто з наезьнікаў — ад Нарманаў да Расейцаў — не адважваўся спакінуць на флянгах свайго галоўнага наступу Віцебск і Воршу, зьнішчаючы іх бадай заўсёды дарэшты. Адсюль і паходзіць кагадзе прыгаданая гістарычная прыказка.

На першы даволі пашыраны погляд здаецца, што назоў — Ворша, у сувязі зь ягоным канчаткам -ша, фінскага паходжаньня. Аднак гэтае прыпушчэньне, як і гэрб, дараваны ў 1781 г. Расеяй Воршы з тлумачэньнем: *“у блакітным полі пяць стрэлаў, бо горад гэты пабудаваны старажытнымі Ськіфамі, якія гэтую зброю з посьпехам ужывалі”*, ня маюць рацыі. Вялікі сьлед заставілі ў Расеі ў помніках ды геаграфічных назовах Фіны, і навет дагэтуль захаваліся там іхнія сваяцкія па крыві й мове народы. Дарэчы крыху аб гэтых фінскіх народах, да якіх у нас, Беларусаў, няма нічога акрамя сымпатыі. Пра вольналюбных Чарамісаў або, як яны сябе называюць, Марыйцаў, у расейскім фальклёры існуе народжаная яшчэ за часоў Івана Лютага[947] прыказка: *“З аднаго боку — Чараміся,*

[947] Маецца на ўвазе **Іван IV Грозны** (1530–1584), вялікі князь маскоўскі і ўсяе Русі (1533–1584).

*а з другога — сьцеражыся”*. І нарэшце прыгадваецца горкая прыказка самых Марыйцаў: *“Русь прываліла, нас усіх падбіла”*.

Ня меншы сьлед спакінулі па сабе Ськіфы, апісаныя падрабязна яшчэ Гэрадотам[948]. Аднак няма ніякіх падставаў заглядацца на Ськіфаў вачыма расейскага паэты Аляксандра Блока[949], які, атаесамліваючы іх з Расейцамі ўвогуле і з расейскім бальшавізмам у прыватнасьці, пісаў:

*Так, Ськіфы мы, так, азіяты мы*
*З касымі і хцівымі вачыма*[950].

Варта толькі зірнуць на высокамастацкія залатыя вырабы, знойдзеныя ў Чартамлыцкім ськіфскім кургане, досыць у дадатак прыгадаць самы назоў іхнае сталіцы ў Крыму — Нэаполь Ськіфскі, на месцы якога сьпярша ўзьнікнуў горад Ак-Мячэць, а ў сучаснасьці знаходзіцца горад Сімферопаль, каб зразумець, чаму ня толькі Эліны-Грэкі ўплывалі на Ськіфаў, але самыя, пад іхнім уплывам, часткова страцілі апрычонасьць свае мовы і навет пачалі апранацца па-ськіфску.

У нязьлічоных курганох Смаленскае Брамы археалёгі дагэтуль не знайшлі ніякіх выразных сьлядоў ні Ськіфаў і ні Фінаў. Затое натрапілі яны на могільнікі другое паловы першага тысячагодзьдзя нашае эры, для якіх характэрныя ўсе адзнакі старажытных славянскіх плямёнаў. Пайменна, яшчэ тых Славянаў, якіх сьпярша Рымляне Карнэлі Тацыт[951] і Пліні Старэйшы[952], а потым Грэк Клаўдзі Пталамей[953] называлі Вэнэдамі. Пазьней гоцкі гісторык Іордан[954] ды Грэкі — імпэратар Маўрыцы Мудры[955] і Пракоп Кесарыйскі[956] мя-

---

[948] **Герадот Галікарнаскі** (484–425 да н. э.), старажытнагрэцкі гісторык.

[949] **Аляксандр Блок** (рус. *Александр Блок*, 1880–1921), рускі паэт, крытык, прадстаўнік сімвалізму.

[950] Перакладзеная цытата з верша Аляксандра Блока “Скіфы” (1918).

[951] **Публій Карнелій Тацыт** (лац. *Publius Cornelius Tacitus*, каля 55–120), старажытнарымскі гісторык, адзін з найвядомейшых аўтараў Антычнасці.

[952] **Пліній Старэйшы**, або **Гай Пліній Секунд** (лац. *Gaius Plinius Secundus*, 23–79), старажытнарымскі празаік-эрудыт, аўтар “Натуральнай гісторыі”.

[953] **Клаўдзій Пталемей** (87–165), старажытнагрэцкі астраном, астролаг, матэматык, оптык, тэарэтык музыкі і географ.

[954] **Іардан** (лац. *Jordanes*, ? — пасля 555), гоцкі гісторык. Аўтар працы “Аб паходжанні і дзеяннях гетаў”.

[955] Маецца на ўвазе **Флавій Маўрыкій Тыберый Аўгуст** (лац. *Flavius Mauricius Tiberius Augustus*, 539–602), візантыйскі імператар (582–602), якому прыпісваюць аўтарства трактата “Стратэгікон”.

[956] **Пракопій Кесарыйскі** (лац. *Procopius*, 500 — пасля 562), візантыйскі гісторык.

нуюць ужо — Склавіны і Анты. У творы бізантыйскага імпэратара Канстанціна Порфірогенэта[957] паміж іншымі Славянамі адзначаюцца *"Крывітеіні"* або Крывічы. Археалёгі знайшлі ў курганох Смаленскае Брамы грошы афінскія, эгіпскія, кірэнэйскія, сыракузкія, макэдонскія, рымскія, арабскія — дыргемы. І хочацца таксама прыгадаць, што арабскі падарожнік і пісьменьнік Ахмед Ібн-Фадлан[958] апісвае асабіста яму знаёмых Славянаў як *"народ дужы, спрытны, высокі, зь сьветлымі валасамі, з прыгожым тварам"*.

Колішнюю адсутнасьць на тэрыторыі Смаленскае Брамы Фінаў і Ськіфаў пацьвярджаюць гістарычныя пісьмовыя дакумэнты. Паводля іх, Ворша зьяўляецца аднагодкам Менску і ўпяршыню прыгадваецца ў 1067 г. у "Васкрэсэнскім Летапісу"[959] як урочышча на Ршы, а крыху пазьней вядомая як Рша Камень. І адразу тым самым высьвятляецца паходжаньне ейнага назову. Пайменна гэтак — рша — нашыя продкі называлі пашыраную на Беларусі балотную іржу або руду, якая, акрамя Воршы, адбілася ў назовах гораду Ржэву ды шматлікіх Рудняў, Рудабелкі, Рудзянцу і г. д. Ці наўрад хто з нас ня бачыў на бацькаўшчыне балотныя вазёрцы, ціхаплынныя рэчкі й ручаі, на якіх зьверху ляжыць тонкі пласт зялезнага сіню, а часам, ад большае прысутнасьці фосфару, іхняя вада зьзяе ўсімі колерамі вясёлкі. І сінь, і вясёлка зьўяляюцца першай адзнакай таго, што пад імі на дне залягае балотная руда. У цяпершанія часы домнаў, мартэнаў, вагранкаў здаюцца ўбогімі маленькія складзеныя з камню або гліняныя печы, вядомыя на тагачаснай мове як домніцы, там-сям знойдзеныя археалёгамі. У іх засыпалі пластамі дрэўны вугаль і балотную руду, а потым пры дапамозе аднаго або двух звычайных кавальскіх паддувалаў руда тапілася, зялеза сьцякала на дно домніцы і пасьля некалькіх разоў перакоўвалася ў кузьнях. Няма нічога дзіўнага ў тым, што значна пазьней балотная руда або буры зелязьняк, які мае ўсяго ад 20 да 40 % чыстага зялеза, сталася нявыгоднай для здабываньня зь яе зялеза. Аднак усё-ж толькі ў канцы мінулага стагодзьдзя ў маёнтку князя Радзівіла на Барысаўшчыне зачыніўся апошні завод па вытапу зь яе зялеза. Затое ў пачатку нашага стагодзьдзя, і характэрна, што ў Кудаеве пад Воршай, Немцы адчынілі хімічны завод па вырабу

957 **Канстанцін VII Парфірагенет** (905–959), візантыйскі імператар (913–945).

958 **Ахмад Ібн-Фадлан** (?–?), арабскі вандроўнік і пісьменнік X ст.

959 **Васкрасенскі летапіс** — агульнарускі летапісны звод XVI ст.

хварбаў з балотнае руды, які існуе дагэтуль. Але за тыя даўнія часы *“рша”* або балотная руда давала нашым прашчурам зялеза, зь якога кавалі яны прылады працы і змаганьня — сякеры й косы, стрэлы й суліцы, мячы й тарчы.

У верасьні 1939 г., або паводля савецкага часалічэньня — на 2-м годзе 3-е сталінскае пяцігодкі, што *“адзначала пераход ад сацыялізму да камунізму”*, мне давялося на чале навуковае экспэдыцыі па дасьледваньню помнікаў рэвалюцыі, гісторыі і мастацтва наведаць Воршу, якую й перад тым добра ведаў. У пуцявіне па чыгунцы празь гістарычную Смаленскую Браму мне прыгадаўся далёкі 1067 г., ці летапісная дата нараджэньня Воршы, якая лучыць яе зь імям нашага князя Ўсяслава Вялікага. Тагачасныя ўкраінскія або кіеўскія князі, пераканаўшыся, што навет гэткія крывавыя бітвы, як 3 сакавіка 1067 г. на берагох Нямігі, не даюць ім канчатковае перамогі над беларускімі або полацкімі князямі, пайшлі на хітрыкі. Яны, прысягаючы перад крыжам, што нічога благога ня ўчыняць князю Ўсяславу, запрасілі яго ў тым-жа годзе пад Воршу для пагадненьня, але тут закулі ў ланцугі, і бяз малага два гады пакутаваў ён у сутарэньні пад палацамі кіеўскіх князёў. І пакараў Бог кіеўскага князя Ізяслава[960] за зьдзек над крыжам. Палоўцы разьбілі ягонае войска, а пасьля гэтага абураныя кіяўляне выгналі яго самога, запрасіўшы на свой князёўскі пасад Усяслава. Аднак, хоць гэты багаты пасад зьяўляўся марай для ўсіх князёў, Усяслаў неўзабаве бяз усякага жалю спакідае яго, бо як тлумачыць гэты ягоны ўчынак “Слова аб палку Ігаравым”: *“У Полацку яму заутраньню ў Сьвятой Сафіі званілі, Ён у Кіяве зачуў тыя званы”*.

І адразу, як сонца за хмарай, зьнікае далёкае мінулае. Цягнік з грукатам бяжыць па масту праз звычайную нашую рэчку з чаротам ды лілеямі. На ейным адхоным беразе відаць вялізны нярухомы натоўп. Як на вока, дык прыблізна 2–3 тысячы людзей стаяць плячо да пляча, і паасобныя твары зьліваюцца ў вадзін, што адбівае боль і пакуту. Натоўп пільнуюць з усіх бакоў, наставіўшы на яго свае вінтоўкі, салдаты ў шапках з малінавага колеру аколкам ды вялікія сабакі. Скуль гэтыя гаротнікі? Адтуль, дзе шумяць Белавежа і Налібокі, дзе адлюстроўваецца ў чыстым Нёмане прыгожая Горадня, дзе красуецца васількoвая Наваградчына, дзе

[960] Маецца на ўвазе **Ізяслаў Яраславіч** (1024–1078), князь тураўскі і вялікі князь кіеўскі (1054–1068, 1069–1073, 1077–1078).

дыміць Беласток. Усяго толькі два тыдні таму іх гвалтам далучылі да СССР, каб цяпер разам зь дзесяткамі іншых заходніх Беларусаў заслаць у гібельныя лягеры Калымы й Варкуты, Ігаркі і Караганды. З натоўпу ўзьнялося некалькі рук, вітаючы цягнік, і адразу-ж пачуліся стрэлы й брэх сабакаў. Менш чым хвіліну прабягаў цягнік праз той мост, але тая родная грамада застанецца ў памяці да скону жыцьця.

Усяслаў Вялікі! Прабацька Бацькаўшчыны! Прачніся, адбудзіся, зірні на свой магутны народ, які ты вёў калісьці ад перамогі да перамогі. Ён і цяпер, дарма што вычувае нявыказныя пакуты, падбіты, але ўсё-ж не забіты, бо гэта-ж іменна ён — народ у сваім гімне беларускіх выгнанцаў агалошвае:

*Ніколі й нідзе Беларусь не загіне,*
*Ніколі й нідзе Беларусь не памрэ,*
*Ні ў турмах, ні ў концах, ні ў клятых краінах,*
*Ні ў дзікім прыгоне, ў маскоўскім ярме*[961].

Цягнік набліжаецца да Воршы. І зноў прамільгнула мінулае, але на гэты раз ужо недалёкае, перадрэвалюцыйнае. На першы погляд навет здаецца дзіўным, якім чынам перахаваўся аж да 1939 г. тыповы абшарніцкі каменны двухпавярховы будынак з антрэсолямі, з калянадай, зь ліпавым паркам вакол. Чаму пашкадавала яго іскра з-пад сялянскага крэсіва? Будынак захаваўся таму, што ў ім нарадзіўся той дваранін, які, распачаўшы сваю вайсковую кар’еру з паручніка царскае гвардыі стаўся потым маршалам Савецкага Саюзу. Каб стацца апошнім, ён ліквідуе ўлетку 1918 г. паўстаньне левага эсэра Мураўёва ў Сімбірску[962], потым у 1919 г. на чале арміяў змагаецца

[961] *«У перасыльнай турме Волагды Дубоўка напісаў “Песьні беларускіх выгнанцаў”, якія сталіся запраўдным гімнам ссыльных беларусаў. Гімн, дзякуючы выгнанцам, выйшаў на “волю”, захаваўся ў людзкой памяці й праз гады быў выдрукаваны ў беларускай эміграцыйнай прэсе»* (Адамовіч, Ант. Да гісторыі беларускае літаратуры. Менск, 2005. С. 1002). Ананімна верш быў надрукаваны ў газеце “Раніца” (Берлін), 10 студзеня 1942 г., № 1 (65). У версіі Адамовіча замест *“маскоўскага ярма”* — *“маскальскае ярмо”*.

[962] **Мяцеж Мураўёва** — эпізод Грамадзянскай вайны ў Расіі, паўстанне ўсходніх частак Чырвонай арміі 10 ліпеня 1918 г. супраць бальшавікоў пад кіраўніцтвам былога левага эсэра Міхаіла Мураўёва (1880–1918). Выступленне супала па часе з паўстаннем левых эсэраў у Маскве ў ліпені 1918 г. У часе мяцяжу быў захоплены Сімбірск.

з Калчаком[963] і Дзянікіным[964], пазьней у 1920 г. пад лёзунгам *"Даеш Варшаву!"* дасягае бадай што Віслы, у сакавіку 1921 г. ён-жа перамагае свабодалюбны Кранштадт[965] і ўрэшце-рэштаў прысутнічае ў 1936 г. як прадстаўнік СССР на каранацыі ангельскага караля Эдуарда Восьмага[966] — цяперашняга гэрцага Віндзорскага. Міхал Тугачэўскі[967] нарадзіўся ў гэтай камяніцы, якая для экспэдыцыі тым ня менш ужо не зьяўляецца помнікам рэвалюцыі. За два гады перад ёй — 11 чэрвеня 1937 г. — Міхал Тугачэўскі дастаў у парадку бальшавіцкага самапажыраньня сваю кулю ў патыліцу ў сутарэньнях Лубянкі. І калі ад пераважнае бальшыні беларускае шляхты найцьвёрдыя празрыстыя дыямэнты, яскрава зялёныя смарагды, нібы крывавыя лалы-рубіны, вядомыя ў нашай мове як шляхотнае каменьне, дык пры ўспаміне аб зрусыфікаваных дваранах Тугачэўскіх прыгадваюцца толькі словы Француза Ромэна Ролана[968]: *"У сэрцы двараніна менш гонару, чым у ляжках селяніна"*.

Хоць да Воршы ладне кілямэтраў, але ўжо відаць вялікую вежу, вышынёю зь 10-ці павярховы гмах. Гэта пабудаваны бальшавікамі зерневы элеватар, які па сутнасьці зьяўляецца помнікам годнае Кастрычніцкае рэвалюцыі. Хоць тутэйшыя супяскі больш плодныя, чым пяскі й падзолы, але разам з тым усё-ж яны ня суглінкі ды

---

963 **Аляксандр Калчак** (рус. *Александр Колчак*, 1874–1920), расійскі военачальнік, адзін з кіраўнікоў флота Расійскай імперыі ў часе Першай сусветнай вайны, з лістапада 1918 г. абвешчаны дзеячамі Белага руху вярхоўным кіраўніком і вярхоўным галоўнакамандуючым.

964 **Антон Дзянікін** (рус. *Антон Деникин*, 1872–1947), расійскі военачальнік, палітычны і грамадскі дзеяч, пісьменнік, мемуарыст, публіцыст і ваенны дакументаліст. Выконваючы абавязкі вярхоўнага кіраўніка Расіі (4 студзеня — 4 красавіка 1920 г.). Адзін з кіраўнікоў Белага руху.

965 Маецца на ўвазе **Кранштацкі мяцеж** — узброены выступ у сакавіку 1921 г. у крэспасці Кранштат экапажаў караблёў Балтыйскага флоту і мірных жыхароў супраць бальшавікоў і палітыкі "ваеннага камунізму".

966 **Эдуард VIII** (англ. *Edward VIII*, 1894–1972), кароль Вялікабрытаніі і Ірландыі, імператар Індыі на працягу 10 месяцаў у 1936 г. Адрокся ад кароны на карысць свайго брата Георга VI, пасля адрачэння атрымаў тытул герцага Віндзарскага.

967 **Міхаіл Тухачэўскі** (рус. *Михаил Тухачевский*, 1893–1937), савецкі вайсковы дзеяч, маршал Савецкага Саюза.

968 **Рамэн Ралан** (фр. *Romain Rolland*, 1866–1944), французскі пісьменнік, грамадскі дзеяч, вучоны-музыказнаўца. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1915).

чарназёмы. Трэба зусім апарожніць засекі вялікае абшары вакол, каб напоўніць збожжам ненажэрнае чэрава гэтае вежы, разьзятую ляпу Масквы. І заслугоўвае гэты помнік рэвалюцыі гнеўных словаў узвышэнца Уладзімера Дубоўкі:

*І аруды парожнія сіратою заўсёды,*
*Нявыказнаю госьцяй у хлебе мякіна,*
*А для панства зьбіралі, складалі слодыч*
*У траіх, як і ўся краіна*[969].

Ворша — найвялікшы на Беларусі чыгуначны вузел, які мае тры станцыі — Цэнтральная, Заходняя і Ўсходняя. Яшчэ ў 1867 г. праз Воршу пралягала Маскоўска-Берасьцейская чыгунка, што злучала цэнтр Расеі з Эўропай, у 1902 г. яе перасекла тут Віцебска-Жлобінская чыгунка, якая пазьней сталася часткай магістралі Пецярбург — Адэса, а ў сучасным аж 6 гучных, дымных ды іскрыстых чыгуначных прамянёў абкружаюць Воршу.

За саветаў за колькі хвілінаў перад праходам міжнароднага цягніка Негарэлае-Манчжурыя міліцыя выганяла з вагзальных плятформаў усіх грамадзянаў Савецкага Саюзу або тых, што ўжо *"знаходзяцца на мяжы сацыялізму з камунізмам"*, каб, пэўне, чужынцы ня зблыталі іх, худых і абшарпаных, з сухотнікамі й жабракамі. Напярэдадні вайны праз Воршу ішлі даўжэзныя эшалёны з нафтай і вуглём, хлебам і жывёлай — падарункі Сталіна Гітлеру. Колькі іх праходзіла відаць з таго, што яны часам закаркоўвалі сабой вялізны вузел з мноствам дадатковых каляінаў, і толькі ў 1939 г. тут былі 4 значныя сутычкі цягнікоў, якіх звычайна савецкі друк ня прыгадваў. Ворша зьяўляецца перасядачнай станцыяй для віцеблянаў, што едуць у Менск, і тут ім даводзілася 8–9 гадзінаў чакаць адпаведнага цягніка. Можа, ужо гэтае характарызуе клопаты *"найвялікшае ў сьвеце чыгуначнае дзяржавы"* аб сувязі паміж двума найбольшымі гарадамі БССР, але тое, што давялося мне — віцебляніну — пабачыць тут у студзені 1940 г., яшчэ больш паказальна для савецкае рэчаіснасьці.

Звычайна чырвонаармейцаў адпушчаюць у горад невялічкімі групамі, сувора забараняючы ім наведваць рэстараны ды піўніцы, і таму мяне, як і кажнага, зьдзівіла, што ідучы адзін за адным, яны паступова перапоўнілі і бяз гэтага заўсёды вельмі людны вагзал.

[969] Цытата з верша Уладзіміра Дубоўкі "Трое іх".

У Воршы няма вялікіх казармаў. Чырвонаармейцы прыйшлі сюды з вайсковага эшалёну, які недзе на глухіх каляінах падалей ад людзкога вока чакаў на далейшы шлях. На вагзале чырвонаармейцы накіраваліся не да адпаведнае, прызначанае вылучна для іх, залі, дзе побач з бюстамі Леніна і Сталіна былі газэты і агітацыйная літаратура, а да буфэту, які гандляваў толькі гарэлкай. Нарэшце зьявіўся камендант эшалёну камісар з трыма чырвонымі кубікамі на пятліцах і загадаў чырвонаармейцам спакінуць вагзал, але яны яго не паслухаліся. Тады ён пачаў упікаць іх: *"Як вам, байцам чырвонае арміі, ня сорамна гэтак паводзіцца? Вы-ж едзеце, каб абараняць нашую сацыялістычную радзіму ад агрэсіі міжнародных капіталістых. Між тым вы зьневажаеце давер ураду, партыі і асабіста нашага вялікага правадыра і дарагога таварыша Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна"*. У вадказ да яго падыйшоў адзін з чырвонаармейцаў і па-расейску, але з выразнай гомельскай гаворкай нашае мовы запяяў пашыраную савецкую бульварную песеньку з гульлівым матывам:

*Капітан, капітан, усьміхніцеся,*
*Ведзь усьмешка гэта флаг карабля!*
*Капітан, капітан, падцягніцеся,*
*Толькі сьмелым пакараюцца мара.*

Пачырванелы ад абурэньня капітан пад агульны сьмех і чырвонаармейцаў, і бязь малага ўсіх пасажыраў зьнікнуў, каб праз кароткі час зьявіцца з двумя ўзброенымі зьвязамі, якія гвалтам павыганялі з вагзалу чырвонаармейцаў.

Магчыма, Амэрыканец, Француз, Немец паставяцца да гэтага здарэньня як да чагосьці, што не заслугоўвае ўвагі, але ў падсавецкіх умовах яно зьяўлялася публічным пратэстам, палітычнай дэманстрацыяй. Праз тыдзень-два гэтыя чырвонаармейцы загінулі ў штрафных-карных батальёнах, атакуючы доты лініі Манэргейма[970]. А тады ў Воршы яны спрабавалі ў гарэлцы патапіць сумленьне, бо, як і пераважная бальшыня падсавецкіх людзей, лічылі

[970] **Лінія Манэргейма** (фін. *Mannerheim-linja*) — комплекс абарончых збудаванняў паміж Фінскім залівам і Ладагай даўжынёй каля 135 км, створаны ў 1920–1930-я гг. на фінскай частцы Карэльскага перашыйку для стрымлівання магчымага ўдару з боку СССР. Адыграла вялікую ролю ў часе "зімовай вайны" 1940 г. Лінія названа ў гонар фінскага маршала Карла Густава Эміля Манэргейма (1867–1951), прэзідэнта Фінляндыі ў 1944–1946 гг.

непатрэбнай і злачыннай вайну з маленькім гэраічным фінскім народам.

Хоць горад Ворша, ці былое ўрочышча на Ршы, або — Рша Камень, знаходзіцца на адлегласьці трох кілямэтраў ад гораду Воршы Чыгуначнае, але бяз малага за 100 год яны злучыліся разам, і вуліца, што іх злучыла, вядомая цяпер пад назовам — праспэкту Сталіна. Ад Воршы Чыгуначнае ўласьне Воршы й ня відаць — яна ляжыць у лагчыне Дняпра пры ўтоку ў яго рэчкі Варшыцы, ці ранейшае Ршы. Гэткая аселасьць зьяўляецца адмысловай і калісьці мела вялікае стратэгічнае значаньне. Часам вораг, асабліва ў зімовыя завеі або блукаючы ў вакольных пушчах, праходзіў паўз Воршы, а потым зьнянацку даставаў ад яе з боку або з тылу балесны ўдар.

З чаго мусілі распачаць сваю працу чатыры падсавецкія навукоўцы, якія тады афіцыйна менаваліся экспэдыцыяй па дасьледваньню помнікаў рэвалюцыі, гісторыі і мастацтва? Бяз сумлеву толькі з помніка “гэнію чалавецтва” Уладзімеру Ільлічу Леніну, безь якога нельга ўявіць сабе ні адзін савецкі або тым часам саветамі акупаваны горад. Характэрна, што архітэктурным ансамблям для гэтага помніку бальшавікі абралі ў Воршы не свае пабудовы, а зьмясьцілі яго перад фасадам велічнага калісьці трынітарскага касьцёлу, потым праваслаўнага сабору, які яны прыстасавалі пад “Дом Культуры”.

Ленін у скульптуры ніколі не адпавядаў Леніну ў жыцьці. Апошняе знайшло мастацкі адбітак у вершы расейскага паэты Вісарыёна Саянава[971], дзе вядомы “Медны коньнік”, або Пётра Першы[972], у сувязі з перайменаваньнем Пятраграду ў Ленінград запытваецца ў аўтара або вінавайцы гэтага здарэньня:

*Хто ён і якога чына?*
*Прыпушчаю, нізенькі мужчына?*
*Няпітушчы! Яго-б закалыхала*
*Ад аднаго пятроўскага бакала.*

Савецкія скульптары, імкнучыся ператварыць нізенькага, скулястага й касавокага Леніна ў манумэнтальную веліч, перабіралі мерку, ствараючы прататып перадапошняга расейскага імпэратара

[971] **Вісарыён Саянаў** (рус. сапр. *Виссарион Махнин*, 1903–1959), рускі савецкі пісьменнік, лаўрэат Сталінскай прэміі (1949).

[972] **Пётр I** (1672–1725), маскоўскі цар і першы імператар Расійскай імперыі.

Аляксандры Трэйцяга[973]. Аднак калі сам Аляксандра Трэйці, нагадваючы па свайму целаскладу гогалеўскага Сабакевіча[974], знаходзіў адпаведны, калі не гістарычны, дык анатамічны адбітак у помніках, затое Ленін набываў у скульптуры карыкатурны характар.

Нас толькі цешыць гэты сьвядомы або падсьвядомы зьдзек зь Леніна. Разам з тым мы зусім слушна абураемся з тае прычыны, што ён трапіў як манумэнт у беларускую адвеку Воршы. Гэты манумэнт Беларусы ўжо аднойчы зьнішчалі, але ён адноўлены зноў. Аднак урэшце-рэштаў, дапамажы нам Божа, на гэтае мейсца прыйдзе назаўсёды ў бронзы або мармуру гэтман Вялікага Княства Літоўскага Канстанцін Астроскі[975] — пераможца маскалёў пад Воршай. На пастамэнце знойдуць адбітак ягоныя гэраічныя воі — драбы (пяхотнікі) і гарматнікі (артылерыстыя), аб якіх прыгадвае прысьвечаная векапомнай бітве 1514 г. беларуская гістарычная песьня:

*Сталі хлопцы-пяцігорцы*
*Каля рэчкі на прыгорцы:*
*Гучаць разам з самапалаў,*
*Зь сяміпадых ад запалаў;*
*Б’юць паўсоткаю з гарматаў…*

І ўпрыгожыць гэты народны помнік канчатак з тае-ж народнае-ж песьні:

*Слава Воршы ўжо нягорша,*
*Слаўся, пан Астроўскі!*

Толькі пасьля агляду помніка Леніну экспэдыцыя накіравалася на тое месца, дзе калісьці знаходзіўся магутны Варшанскі замак, але нічога не знайшла акрамя рэшткаў аднаго зь ягоных валаў. Таксама бадай нічога не знайшла яна аб ім у тагачаснай літаратуры акрамя таго, што спачатку ён быў драўляным, а потым каменным. Калі аб другое цьвярдыні Смаленскае Брамы — Віцебску дайшлі

[973] **Аляксандр III Міратворца** (1845–1894), імператар Расійскай імперыі (1881–1894).

[974] **Міхаіл Сабакевіч** — памешчык, персанаж паэмы Мікалая Гогаля “Мёртвыя душы”. Знешнасцю нагадвае няўклюднага мядзведзя.

[975] **Канстанцін Астрожскі** (1460–1530), дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, вялікі гетман літоўскі (1497–1500, 1507–1530), пад кіраўніцтвам якога была атрыманая перамога ў бітве пад Оршай (1514).

да нас і апісаньне польскага гісторыка Стрыйкоўскага[976], і чарцёж віцебскіх двух замкаў — Узгорскага і Ніжняга, складзены ў 1579 г. сакратаром кароннае канцылярыі караля Сьцяпана Баторага[977], і чарцёж тых-жа замкаў з адзначэньнем назоваў усіх ягоных вежаў, складзены ў 1664 г. па загаду ваяводы Васіля Шэрамецьцева[978] для цара Аляксея Міхайлавіча[979], і мэмуары італійца Аляксандры Гвагніні[980], ротмістра Віцебскіх замкаў на працягу дзесяці год, і Альгердавая Гара[981], скапаная бальшавікамі пасьля апошняе вайны для пабудовы на ейным месцы тэатру ды ладне іншых гістарычных пісьмовых дакумантаў і архэалёгічных досьледаў; калі ў Смаленску дайшоў часткова навет да сучаснасьці мур даўжынёю ў два з паловай кілямэтры і 19 вежаў з ранейшых 38, дык не пашанцавала ў гэтым сэньсе Воршы. Захавалася толькі найпадрабязнае апісаньне ад 1560 г. будынку, у якім зьмяшчалася сталая ўстанова тутэйшага дзяржаўцы і час ад часу адбываліся павятовыя соймікі. У гэтым апісаньні будынку адзначаныя ўсе ягоныя *“каморы”* (пакоі) з сталамі *“округлымі”*, дубовымі, з ладамі добрымі, з *“абалонамі”* (шыбкамі) шклянымі, скуранымі ды папяровымі, з *“комінамі”* (печкамі) глінай абмураванымі. Вядома таксама з “Попісу” 1567 г., што калі, напрыклад, павет Дарагіцкі дае Вялікаму Княству Літоўскаму 3752 коняў, г. зн. коньнікаў і 111 драбаў, дык Аршанскі — 7 коньнікаў і 2 драбы, але тут-жа падаецца характэрнае тлумачэньне, што аршанцы нясуць сталую вайсковую службу пры сваім замку, бо ён прымежны і таму адным з першых прымае на сябе часам нечаканы ўдар

[976] **Мацей Стрыйкоўскі** (пол. *Maciej Stryjkowski*, 1547–1593), польскі гісторык, пісьменнік і дыпламат. Аўтар “Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі” (1582).

[977] **Стафан Баторы** (1533–1586), кароль польскі і вялікі князь літоўскі (1576–1586), князь трансільванскі (1571–1576).

[978] **Васіль Шарамецьеў** (рус. *Василий Шереметьев*, 1622–1682), рускі вайсковы і дзяржаўны дзеяч, стольнік, баярын, ваявода ў Мцэнску, Табольску, Смаленску, Магілёве і Кіеве.

[979] **Аляксей Міхайлавіч** (1629–1676), другі маскоўскі цар з дынастыі Раманавых. Пры ім у выніку вайны з Рэччу Паспалітай да Маскоўскай дзяржавы адышлі Браншчына, Смаленшчына і Левабярэжная Украіна.

[980] **Аляксандр Гваньіні** (іт. *Alessandro Guagnini*, 1534–1614), выдавец і, магчыма, аўтар некалькіх гісторыка-геаграфічных твораў, у тым ліку “Апісання еўрапейскай Сарматыі” (1578).

[981] Гл.: Віцьбіч, Юрка. Пагібель Альгердавае гары // Беларус. № 198. Кастрычнік 1973. С. 2–3.

ворага. Вось бяз малага і ўсё аб старадаўнім аршанскім замку, які знаходзіўся там, дзе рэчка Варшыца ўцякае ў Дняпро. Хіба варта заўважыць, што некаторыя навукоўцы някрытычна паставіліся да народных паданьняў аб тым, нібы тутэйшы замак калісьці менаваўся замкам каралевы Боны[982], а іншыя, ідучы ўсьлед за пагалоскамі, навет сьцьвярджаюць, што тут некалі жыў… баярын Орша. Запраўды, на Беларусі ёсьць шмат замкаў каралевы Боны — жонкі караля Жыгімонта Трэйцяга Старога[983], дачкі гэрцага Мэдылёнскага Галеацо[984], і велічныя крушні аднаго зь іх, пабудаванага ў 16-м стагодзьдзі італійскімі архітэктарамі ў стылі рэнэсансу, знаходзяцца паблізу ад Воршы ў мястэчку Смалянах, але якраз да Воршы Бона ня мела аніякага дачыненьня. Затое ў “Адказе караля Жыгімонта Трэйцяга паспольству ад паноў-рады” за 1531 г. між рознага іншага прыгадваецца: *“Што тэж датычыцца замку Воршы, кароль яго міласьць немалую суму пеняжную рачыў даці і людзей казаў з воласьці Любашанскае к рабоце таго замку паслаці”*. А што да баярына Воршы, дык пэўне-ж гэтая пагалоска паходзіць ад паэмы расейскага паэты Лермантава *“Баярин Орша”*[985], якая ня мае пад сабой гістарычнага падмурку.

Мы пракапалі на замчышчы глыбокія траншэі, каб адшукаць пад зямлёй сьляды мінуўшчыны і не знайшлі іх. Адзінае, што нагадывала замак, гэта стары замкавы, парослы імхом і навет дрэўкамі вадзяны млын на Варшыцы. Як і ў далёкую старадаўніну, вада з шумам круціла ягонае кола, але пасьля бясплодных археалёгічных пошукаў прыгадаўся нам сьпярша пэсымыстычны выраз пахмурнага Грэка Гэракліта Эфэскага[986]: “*Усё цячэ, усё зьмяняецца*”. Запраўды, над млынам вісела вялікая шыльда — *“Промкамбінат”* — а ў ім за памол з кажнага пуда збожжа спаганяліся цяжэйшыя за сваю фізычную вагу хунты. Аднак адразу загучэла ў сэрцы млынам на-

[982] **Бона Сфорца** (іт. *Bona Sforza d’Aragona*, 1494–1557), каралева польская і вялікая княгіня літоўская, другая жонка Жыгімонта I Старога, маці Жыгімонта II Аўгуста.

[983] Бона Сфорца была жонкай **Жыгімонта I Старога** (1467–1548), вялікага князя літоўскага і караля польскага (1506–1548).

[984] Маецца на ўвазе **Джан Галеаца Марыя Сфорца** (іт. *Gian Galeazzo Maria Sforza*, 1469–1494), герцаг міланскі (1476–1494)

[985] ***“Боярин Орша”*** — паэма М. Лермантава, напісаная ў 1835–1836 гг.

[986] **Геракліт Эфескі** (544–483 да н. э.), старажытнагрэцкі філосаф, заснавальнік першапачатковай школы дыялектыкі.

роджаная жыцьцёва-сьцьвярджальная мэлёдыя цудоўнага Франца Шубарта[987]: *“Круцяцца жорны і шумяць, круцяцца”*.

І адразу сталіся для нас гэтыя жорны сымбалічнымі — яны перамелюць, ператруць тое ліхалецьце, якое тымчасам абвалілася на нашую Бацькаўшчыну.

У трох кілямэтрах ад Воршы, на беразе Дняпра, там, дзе ўцякае ў яго рэчка Арэхаўка, знаходзіцца ўрочышча Дубкі. Хоць і ня першымі, але мы таксама дасьледвалі тут бадай нязнаную дагэтуль нашым шырокім колам Варшанскую пячору. Уваходы ў дзьве зь іх ад часу абваліліся, але затое захаваўся ўваход у трэцюю, што ляжыць на вышыні 12 мэтраў над узроўнем Дняпра ў малаводзьдзе. На першы пагляд выпадковага падарожніка, ён нагадвае звычайную зьвярыную нару. Таму можа няма нічога дзіўнага ў тым, што сябры экспэдыцыі адмовіліся дапамагчы ейнаму кіраўніку ў дасьледваньні пячоры. Мне давялося аднаму, паволі, нагамі ўпярод, палезьці ў пячору — плечы застравалі паміж ейнымі сьценкамі, і нельга было прыўзьняць галавы. Апошняе, што пабачыў, перш чым апынуцца ў цемры, гэта дзьве лодкі на Дняпры, на якіх людзі з доўгімі шастамі ні то вымяралі глыбіню ракі, ні то шукалі тапельца. Неўзабаве нара пашыралася, і я, выпрастаўшыся на ўвесь рост, запаліў сьвечку і разгарнуў захопленую з сабой кніжку.

Падзямельная пячора складалася з трох калідораў зь нішамі ў сьценках і з агульнай даўжынёй у 36 мэтраў. Ейныя скляпеньні мелі розную форму — і паўкруглую, і востракутную. Хтосьці калісьці выкапаў гэтую пячору ў пяшчана-глiністых адкладах зь вялікім дадаткам жвіру. Абы-дзе ізь сьценаў выпірала адшліхаванае некалі вадой каменьне, там-сям у сьценах былі прапластаваньні белага рачнога пяску, таўшчынёй ад 3 да 4 сантымэтраў. Дзе колечы грубыя карані вылезьлі з скляпеньня і, апынуўшыся ў паветры, скрывіліся, каб найхутчэй дастацца сьцяны і зноў зьнікнуць у спажыўным для іх асяродзьдзі. Пэўне-ж карані вялікага дубу над пячорай, што разам зь іншымі дубамі даў назоў урочышчу. Накідваючы плян пячоры, я заўважыў, што ў ім няма асабліва вялікіх разьбежнасьцяў з плянам, складзеным 13 год перад тым навуковай экспэдыцыяй на чале із слаўным інбелкультаўцам

[987] **Франц Петэр Шуберт** (ням. *Franz Peter Schubert*, 1797–1828), аўстрыйскі кампазітар, заснавальнік венскай класічнай музыкі, адзін з пачынальнікаў рамантызму ў музыцы.

прафэсарам Іванам Сэрбавам[988]. А выснавы тае экспэдыцыі разам з плянамі былі ў выцягнутай мной з-за пазухі кніжцы — добрым краязнаўчым часапісу “Наш Край” за 1926 г., які рэдагаваў узвышэнец Зьмітрок Бядуля. І ня выпадкова часапіс гэты я разгарнуў толькі апынуўшыся пад зямлёй, бо там, на паверхні, ён быў забаронены і спалены, а прафэсар Іван Сэрбаў загінуў у бальшавіцкім высланьні.

Не падлягала сумлеву, што гэтую пячору выкапала не падзямельная вада, а чалавек. Дагэтуль навукова не даведзена, хто і зь якой мэтай яе выкапаў, і дасьледнікі звычайна абмяжоўваюцца больш ці менш адпаведнымі праўдзе прыпушчэньнямі. Гэтак, на думку адных, пячору выкапалі злачынцы, хаваючыся ў ёй ад кары. Ці наўрад гэтае адпавядае праўдзе, бо ўваход у пячору здалёк відаць з боку Дняпра, які заўсёды зьяўляўся людным. І тады прыгадваецца, што калі ў 1939 г. урочышча Дубкі лічылася за калгасам Ларыёнаўка, дык, паводля пляну генэральнага межаваньня Воршы і ейнае ваколічнасьці ў 1783 г., яно належала *“ігумену Куцеінскага манастыра*[989] *Кірылу з брацьцяй”*. Пасьля гэтага прыпаміну навуковец у сваіх пошуках капальнікаў пячоры бадай набліжаецца да праўды.

Першым помнікам хрысьціянскае старадаўніны Воршы, які перахаваўся да нашых дзён, ёсьць старажытнае Варшанскае Эвангельле, напісанае на пэргаменьце ў 13 ст. Надзвычай характэрна для лёсу нашых кнігаў тое, што яго знайшлі на вуліцы паміж іншых кніжок, выкінутых у 1812 г. Французамі з будынку Смаленскае духоўнае сэмінарыі. Пазьней у дакумантах 15 ст. прыгадваюцца тутэйшыя Мікалаеўская і Юр’еўская цэрквы, ад якіх не захавалася ніякага сьледу, і навет невядома, дзе яны знаходзіліся. У 1627 г. на

---

[988] Маецца на ўвазе **Ісак Сербаў** (1871–1943), этнограф, фалькларыст, археолаг. У 1910–1913 гг. як сябра Рускага геаграфічнага таварыства арганізоўваў этнаграфічныя экспедыцыі ў Беларусь. Ад 1923 г. выкладчык, загадчык кафедры этнаграфіі БДУ, ад 1925 г. сакратар секцыі этнаграфіі Інбелкульта. Ад 1929 г. навуковы сакратар кафедры этнаграфіі і фальклора Інстытута гісторыі АН БССР.

[989] **Куцеінскі Богаяўленскі манастыр** — праваслаўны мужчынскі манастыр, заснаваны ў Воршы ў XVII ст. Быў вядомы сваёй друкарняй, абсталяванне якой было вывезенае ў Маскву ў часе вайны ў 1675 г. Манастыр быў разрабаваны і спыніў дзейнасць пасля вайны 1812 г. Ад 1980-х гг. паступова адраджаецца.

рэчцы Куцеінкі Багдан Статкевіч-Заверскі[990] закладае Варшанскі Куцеінскі мужчынскі манастыр. Праз тры гады ён разам з сваёй маткай Алёнай з дому Агінскіх будуе там-жа паблізу жаноцкі манастыр[991]. Першы манастыр ня ўстане амінуць ні адзін добрасумленны гісторык Беларусі, бо зь ягонае друкарні выйшла шмат кніжак, а паміж імі ў 1653 г. другое выданьне “Лексікону” Памвы Бярынды[992], у прадмове да якога адзначалася, што ён *“патрэбны і пажытачны многім”*. Ён ня пройдзе паўз таго, што пад уплывам высокамастацкіх гравюраў Куцеінскае друкарні ў беларускіх друкарнях увогуле адбыўся пераход ад маляўнічага прынцыпу да графічнага. Ён падкрэсьліць, што ў іконах Куцеінскае друкарні наўсуперак правілам іканаграфіі адбіліся беларускія краявіды і нацыянальная вопратка. Ён не аміне таксама і нашага культурнага дзеяча ігумена Ёіля Труцэвіча[993], які ў сувязі зь невядомымі дагэтуль прычынамі на другі год пасьля выданьня “Лексікону” пераяжджае разам з друкарняй у Маскву. Аднак варта прыгадаць, што дагэтуль Расейцы рабуюць ня толькі культурныя рэчовыя каштоўнасьці падбітых імі народаў, але вывозяць іхніх культурных дзеячоў і выдатных майстроў, прымушаючы працаваць на сябе. У гэтым сэньсе ігумен-друкар Труцэвіч нічым ня розьніцца ад прыгаданых у тагачасных перапісных кнігах Масквы аружэйніка Максіма Міхайлава з Копысю, рэжчыка Кліма Міхайлава з Шклова, Якуба Іванава зь Віцебску, Андрэя Фёдарава з Воршы — знанага скульптара й рэжчыка па дрэву. Разам з тым зусім ня выпадкова на чале шматлікіх манастыроў стаўся, як відаць з прывілеяў і граматаў Рэчы Паспалітае Куцеінскі манастыр, набыўшы навет назоў “Беларускае Лаўры”. Паказальна, што ягоны суворы манастырскі статут нагадвае статут Кіева-Пячорскае Лаўры, якая самы свой назоў дастала ад вялікіх Дальніх і Блізкіх пячораў, выкапаных манахамі.

---

990 **Багдан Статкевіч** (?–1651), дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, кашталян мсціслаўскі (1644–1646) і новагародскі (ад 1646), праваслаўны мецэнат.

991 Маецца на ўвазе **Успенскі манастыр** — праваслаўны жаночы манастыр у Оршы, заснаваны ў 1631 г. Зачынены ў 1918 г. Адноўлены ў 1996 г.

992 **Памва Бярында** (паміж 1550 і 1570 — 1632), лексікограф, паэт, перакладчык, выдавец.

993 **Іаіль Труцэвіч** (?–1654), грамадскі і культурны дзеяч, друкар, пісьменнік, ігумен Куцеінскага Богаяўленскага манастыра. Кіраўнік Куцеінскай друкарні.

А калі яшчэ ўзяць пад увагу, што за часы слыннага мітрапаліта Пётры Магілы[994] тут было 200 манахаў, якія, паводля летапісу, *“падражали в теле житию ангельскому”*, дык магчыма супадае з праўдай, ёсьць імавернае прыпушчэньне, што яны капалі гэтую пячору.

Калі, спакідаючы сярэднявечча, я вылязаў праз нару зь пячоры, дык адразу вычуў савецкую рэчаіснасьць. Справа ня ў тым, што па Дняпры з Воршы на Дуброўны, выконваючы свой плян, ледзьледзь цягнуў супраць вады вялікую баржу дробненькі параходзік пад назовам “Ільліч” і ўвесь ад натугі ахутаны парай, здавалася, вось-вось выбухне. “Ільліча” я заўважыў пазьней, а сьпярша сяброў экспэдыцыі, што, сустрэўшы мяне, як свайго збаўцу, крычэлі: *“Пакажэце ім хутчэй свой дакумант, што мы маем права на вокамерныя пляны і фотаздымкі, якія вы запрапанавалі нам зрабіць! Яны пагражаюць нам арыштам!”*

Тады толькі я заўважыў каля іх людзей з тых самых лодкаў, якія бачыў, залязаючы ў пячору. Хоць я адразу паказаў ім адмысловую паперку, але дастаў ад аднаго зь іх даволі зьедлівую і проста, як для савецкага жыцьця, небясьпечную вымову: *“А чаму вы ня пытаецеся пра нашы дакуманты? Пэўне, вам не стае савецкае пільнасьці? Абыдзёншчына вас заядае? Можа, спадзяецеся, што за ўсім падазроным мае сачыць вылучна НКВД, а ня кажны чэсны грамадзянін Савецкага Саюзу?”*.

Не пасьпеў я адказаць, што ня лічу іх за падазроных, а таму іхныя дакуманты мяне ня цікавяць, як мне тыцнулі іншую паперку, паводля якое людзям з шастамі дазвалялася дасьледваць дно Дняпра для пабудовы ў гэтым месцы празь яго маста.

Тагды ў верасьні 1939 г. я знаходзіўся ў варшанскай пячоры ня больш за 10 хвілінаў. Толькі празь якія тыдзень-два мне пачало прыгадвацца, што ў часе ейнага дасьледваньня ад майго руху там-сям зь пячорных сьценаў звальваліся паасобныя пяшчынкі, а часам навет пачыналі цурчэць, як маленькі вадаспад. І пазьней у падсавецкія нялюдзкія ночы я ўва сьне кашмарыў. Мне здавалася, што вялікі дуб з пашкоджанай пяруном вяршалінай ня ўтрымае больш сваім карэньнем тысячапудовы зямельны цяжар, а той вось-вось абваліцца й жыўцом пахавае, раздушыць.

---

[994] **Пётр Магіла** (1597–1647), епіскап Канстанцінопальскай праваслаўнай царквы, мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсяе Русі, 3-і экзарх Канстанцінопальскага трона (1632–1647).

Два гістарычныя помнікі спакінула ў Воршы Расейская імпэрыя — акопы Паўночнае вайны і верставы або гэтак званы Кацярынінскі слуп 18 стагодзьдзя. У часе Паўночнае вайны, у 1706 г. Пётра Першы наведаў Воршу і загадаў зрабіць вайсковае ўмацаваньне, каб перашкодзіць магчымай пераправе Швэдаў праз Дняпро. З таго часу бліжэйшы завулак дагэтуль мае назоў Лягернага, а паміж ім і ракой захаваліся акопы, якія тады абмяжоўвалі сабой вялікі трохкутны пляц, але паступова Дняпро падмыў ягоны адзіны бок. Цяпер трохкутнік уяўляе зь сябе луг, які ў 1939 г. арандавала ў гаркамгасу арцель біндзюжнікаў, а ў часе тае вайны яго ахоўваў батальян незабытнага для Беларусаў капітана Салаўёва. Гэты капітан, цалкам годны свайго імпэратара, дае поўнае ўяўленьне аб трагэдыйнасьці ўсхвалёнае Расейцамі Паўночнае вайны для беларускага народу.

28 верасьня 1708 г. капітан Салаўёў, выконваючы асабісты загад Пётры Першага, з усіх бакоў падпаліў Віцебск. Паводля расейскіх гісторыкаў, гэтая кара зусім зразумелая, бо віцебляне даслалі швэцкаму каралю Карлу Дванаццатаму[995] вялікую для таго часу суму ў 7 тысяч талераў. Аднак яны, віцебляне, што сьвядома апушчаюць тыя-ж гісторыкі, зьяўляліся тады падданымі не Расейскае імпэрыі, а Рэчы Паспалітае, а значыцца аніякіх абавязкаў перад першай ня мелі. Нарэшце пасьля таго, як вышэйадзначаныя казённыя гісторыкі шчыра адзначаюць: *“Пётра Першы, не жадаючы, каб Швэды ў Магілёве знайшлі сабе належны прытулак і якую-колечы іншую карысьць, загадаў сваім татарскаму й калмыцкаму палком зьнішчыць горад, што тыя й выканалі 8 верасьня 1708 г.”*.

Больш чым верагодна, што з тае-ж прычыны быў спалены й Віцебск. Асаблівую пікантнасьць набываюць пасьля гэтага для нас, Беларусаў, словы *“вялікага настаўніка й правадыра міжнароднага пралетарыяту”* Карла Маркса[996]: *“Пётра Першы захапіў тое, што зьяўлялася абсалютна неабходным для прагэсу ягонае краіны”*.

І хіба падпалы Пётры Першага, якія ня мінулі й Воршы, ня супадаюць, падкрэсьліваючы сабой крэўнае сваяцтва Расейцаў усіх колераў, із загадам 3 ліпеня 1941 г. *“найвялікшага правадыра ўсіх часоў”* Сталіна аб *“голай зямлі”*?

---

995 **Карл XII** (швед. *Karl XII*, 1682–1718), кароль Швецыі ў 1697–1718 гг.

996 **Карл Маркс** (ням. *Karl Marx*, 1818–1893), філосаф, грамадскі дзеяч, палітычны журналіст, сацыёлаг, эканаміст, заснавальнік філасофіі дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізму.

У Воршы, там дзе Савецкая пераходзіць у Шклоўскі шлях, насупраць колішняе разьніцы, якая, зусім зьмізарнеўшы пры саветах, тым ня менш займела назоў — Мясакамбіната, знаходзіцца спакінуты 18 стагодзьдзем цагляны абэліск. Гэта адзін з двух-трох дзесяткаў верставых, гэтак званых Кацярынінскіх слупоў, што захаваліся на Беларусі. Цікава, што тагачасная вярста, вядомая пад назовам Каломенскае, складалася не з 500 сажняў, як пазьней, а 700. Дарэчы, і цяпер Расейцы высокага чалавека называюць Каломенскай вярстой, а ў нашым фальклёры яго мянуюць Бабінавіцкай вярстой, што паходзіць ад мястэчка Смаленскае Брамы Бабінавічаў, дзе гэтыя слупы былі. З г. зв. Кацярынінскага слупу ў Воршы аблез ранейшы тынк, зьверху зьнікла сьпічастае кап'ё, у ягоным падмурку быў значны выбай, і акурат каля яго хтосьці, браўшы пясок, спакінуў вялікую яму.

Пасьля падзелу Рэчы Паспалітае, за часы расейскае царыцы Кацярыны Другое[997], на акупаванай гэткім чынам Беларусі распачалося будаўніцтва паштовых шляхоў. Гэтыя шляхі — шырокія, абсаджаныя абапал бярозамі, чым нагадвалі прысады, з цаглянымі верставымі слупамі зьяўляліся тады вузорам для ўсяе Расейскае імпэрыі. Тагочасны падарожнік Расеец Дабрынін[998], захапляючыся ў сваіх мэмуарах выгодай і прыгажосьцю гэтых шляхоў, робіць выснаў: *"Я стаўся нагэтулькі дзіўным, што навет і не адразу памысьліў, што ўсё намі бачанае ёсьць плод дзейнасьці і высокаасьвечанага густу галоўнага расейскага начальніка графа Чарнышова[999]".*

Аднак прычым тут намесьнік царыцы генэрал-губэрнатар "Белоруссии" граф Чарнышоў, як і сама царыца. Будаваў іх, гацячы сваймі касьцьмі балаты, прыгнечаны й падбіты беларускі народ, які яшчэ ў часы свае дзяржаўнае незалежнасьці пракладаў праз пушчы Альгердавы й Вітавыя шляхі. І пэўне-ж гэтыя шляхі зьяўляліся вузорнымі, калі іхнія сьляды захаваліся дагэтуль.

---

997 **Кацярына II** (1729–1796), імператрыца ўсерасійская ў 1762–1796 гг. Пры яе актыўным удзеле адбыліся падзелы Рэчы Паспалітай.

998 Відаць, маецца на ўвазе **Гаўрыла Дабрынін** (рус. *Гавриил Добрынин*, 1752–1824), расійскі мемуарыст, аўтар нататак *"Истинное повествование, или Жизнь Гавриила Добрынина, им самим написанная в Могилёве и в Витебске"*.

999 Маецца на ўвазе **Пётр Чарнышоў** (рус. *Пётр Чернышев*, 1712–1733), расійскі дыпламат, граф, дзейны таемны саветнік, сенатар. У ягонай канторы служыў Гаўрыла Дабрынін.

Паблізу ад верставога слупа 18 стагодзьдзя, або там, дзе Савецкая вуліца яшчэ не перайшла ў Шклоўскі шлях, знаходзяцца два старадаўніх паруганых будынкі колішняга францішканскага манастыра — былое агульнажыцьцё манахаў і касьцёл. Навет звонку яны здаюцца нязвычайнымі, і гэтая нязвычайнасьць яшчэ больш выпукляецца пасьля азнаямленьня з іхняй гісторыяй.

На працягу 17 і 18 ст. ст. у праваслаўнай Воршы паступова ўзьнікае шмат каталіцкіх манастыроў. У 1604 г. зьявіліся ў ёй езуіты, у 1612 г. францішканы, у 1650 г. — бэрнардыны, у 1714 г. — трынітары, у 1774 г. — базыльяне, акрамя таго тут паўсталі два жаночыя манастыры — базыльянскі й марыявіцкі. Ужо ў 1608 г. езуіты, як адзначае, спасылаючыся на гістарычныя крыніцы, вялікі Беларус Пётра Крэчаўскі ў сваёй працы "Гісторыя беларускай кнігі"[1000], адабралі ў жыхароў Воршы й спалілі ўсе кнігі, што на езуіцкі часта-густа вельмі абмежаваны пагляд, зьяўліся варожымі для каталіцызму. Па сутнасьці, у гэтым сэньсе езуіты нічым рашуча ня розьняцца ад маскоўскіх стральцоў, якія ў 1656 г. на плошчы тае-ж Воршы выканалі загад цара Аляксея Міхайлавіча: *"Книги Литовской печати собирати и на пожарах сжечь, чтобы ересь и смута в мире не была"*, або ў перакладзе на нашую мову: *"Кніжкі Беларускага друку зьбіраць і на вогнішчах спаліць, каб іхнія ерась і бунтаніна ў сьвеце ня былі"*. І цяжка сказаць, хто тады больш зьнішчыў кніжак накшталт "Лексікону" Памвы Бярынды — ці езуіты, ці стральцы.

Мне прыгадваецца таксама пагалоска, што калі бальшавікі прыстасоўвалі ў Воршы праваслаўны сабор пад свой "Дом Культуры", дык знайшлі ў ягоных таўшчэзных сьценах труны трынітараў. Касьцякі, на якіх захаваліся рэшткі сутанаў, мелі на грудзёх крыж, а пры боку меч. Сьпярша я ня даў гэтаму веры, але трапіўшы ў Воршу, пагаварыўшы там з жывымі сьветкамі гэтае знаходкі, пабачыўшы адмысловыя фотаздымкі, пераканаўся ў тым, што пагалоска адпавядае праўдзе. Навет калі прыпусьціць, што гэты меч зьяўляўся толькі сымбалічным, дык усё-ж аніяк не супадае ён з хрысьціянскай сымбалічнасьцю крыжа. Таму, падыходзячы да былых францішканскіх будынкаў, пабудаваных у 1680 г. коштам

[1000] Маецца на ўвазе праца: Гісторыя беларускай кнігі // Замежная Беларусь: зборнік гісторыі, культуры і эканомікі. Кн. 1. Прага: Выд-ва імяні Ф. Скарыны, 1926. С. 99–116.

шляхціца Калкоўскага, я старанна адганяў ад сябе прадузяты пагляд, на які ня мае права ні адзін навуковец.

Няпрыемнае ўражаньне спакідае вонкавы выгляд былога францішканскага будынку. І справа тут палягае ня ў тым, што гэты цагляны двыхпавярховы будынак, пабудаваны бяз малага 300 год таму, але ў поўнай адсутнасьці ўсякага дагляду за ім. Толькі тамсям захаваўся на ягоных сьценах тынк, і плямы на ім нагадываюць рабізну спакінутай воспай на твары. Цалком захаваліся вапенныя шовы і навет ад часу здаваліся акамянелымі, затое цэгла паміж імі абы-дзе часткова выпятрылася ды вывалілася, а таму самае кладзеньне сталася падобным да пчаліных сотаў. Яшчэ больш змрочны выгляд усяму будынку надавалі таўшчэзныя краты ў ягоных брудных вокнах. Увогуле вонкавы выгляд будынку бяз словаў сьветчыў аб тым, што ягоным сучасным гаспадаром зьяўляецца гаркамгас — аддзел камунальнае гаспадаркі гарсавету.

Калі будынак меў два паверхі над зямлёй, дык таксама два сутарэньні пад ёй. Мы апушчаемся ў глыбейшае — бяз вокнаў, ізь сьценамі таўшчынёй больш за 3 мэтраў. Паветра дасягала сюды толькі праз адтуліны, што, пачынаючыся ад падлогі, мелі ў вышыню 5 цэнтымэтраў, у шырыню — 10 і пад кутам у 45 градусаў ішлі ў сьценнай таўшчыні дагары, маючы каля 5 мэтраў даўжыні. Толькі лёгшы на вільготную падлогу, можна было заўважыць, недзе здавалася страшэнна далёка, палоску дзённага сьвятла. Аднак пабачыўшы ў гэтым ніжэйшым сутарэньні крукі з рэшткамі іржавых ланцугоў, мы пераканаліся, што тыя невядомыя Беларусы, якія пакутвалі тут, толькі зводдаль бачылі адсьвет гэтага дзённага сьвятла на падлозе. Прыпушчэньне некаторых расейскіх гісторыкаў, нібы тут каталікі мардавалі праваслаўных, не адпавядае праўдзе хіба ўжо таму, што францішканскі манаскі ордэн, паводле самага свайго статуту, не зьяўляўся інквізыцыйным. Затое на падставе архіўных дадзеных, як і пасьля гутаркаў ізь сьветкамі, экспэдыцыя ўдакладніла, што калі ў 1863 г. царызм скасаваў манастыр, дык у гэтым будынку зь цягам часу зьмяшчалася — сьпярша махорачная хвабрыка, потым з 1903 і па 1928 гады — царская й бальшавіцкая турма і нарэшце майстэрні Белдзяржтрансу[1001] ў вышэйшым сутарэньні, а ў двух паверхах кватэры работнікаў.

---

[1001] **Белдзяржтранс** — Беларускі дзяржаўны трэст аўтамабільна-гужавых, складскіх і транспартна-экспедыцыйных спраў пры Галоўным упраўленні шашэйных і грунтовых дарог і аўтатранспарту БССР, што дзейнічаў ад 1933 г.

Прыстасаваньне гэтага старога даўняга будынку пад турму не зьяўляецца чымсьці выпадковым. У пяці кілямэтрах ад Полацку на высьпе Дзьвіны знаходзіцца Струня, дзе ўлетку жылі вуніяцкія архіяпіскапы, зь якіх Смагаржэўскі[1002] пабудаваў тут царкву, а вакол яе мур з 12 капліцамі. Царызм прыстасаваў гэтую царкву пад жаноцкую турму, парадзіўшы такім чынам пашыраную ў Надзьвіньні прыказку: *"Цяжка, як у Струні"*. Таксама ў турмы перабудаваў ён і будынак замку ў Барысаве і палац Сапегаў у Старым Быхаве. І ўсе гэтыя турмы царызм адказаў бальшавізму.

Не падлягае сумневу, што найбольш небясьпечныя для царызму й бальшавізму іхнія ворагі гібелі ня ў двух паверхах за кратамі, а ў глыбейшым сутарэньні. Таму зразумела маё ўсхваляваньне, калі, дасьледуючы сьцены гэтага сутарэньня, пабачыў параўнальна нядаўна выдрапаныя словы: *"Няўжо я ніколі больш не пабачу сонца?"*.

Хто адбіў у гэтых словах свой перадсьмяротны стогн? Сьпярша адразу прыгадалася француская жаўнерская песьня:

*Заўтра людзі сустрэнуць сонца,*
*Будуць есьці і піць*
*І нават мо' ня ўспомняць,*
*Як мы хацелі жыць.*

Аднак можа сум францускага жаўнера найбольш выпукляўся на прыгожым фоне, адбітым у словах украінскага паэты:

*На сьвеце ёсьць пявучы Лянгедок,*
*Шампань-квітненьне Францыі вясёлай,*
*Дзе сонца песьціць кажны хутарок,*
*А ў вінаградах патанулі сёлы*[1003].

— але сама па сабе несла ды нясе свае пакуты, закутая ў кайданы Маці-Беларусь.

---

[1002] **Ясон Смагаржэўскі** (1715–1788), царкоўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, уніяцкі архіепіскап Полацкі (1762–1780), мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі (ад 1780).

[1003] Цытуецца верш украінскага паэта Максіма Рыльскага (1895–1964):

*На світі є співучий Лангедок,*
*Цвіте Шампанню Франція весела,*
*Де в сонці тоне кожен городок*
*І в виноградах утопають села.*
*Десь є Марсель і з моря дух п'яний,*
*Десь є Париж, дух генія й гамен.*

У змаганьні з расейскім царызмам Ворша займае на Беларусі адно зь першых месцаў. Вядома, што на працягу рэвалюцыі 1905 г. сюды на чыгуначны вакзал і ў горад дасылаліся ўрадам 4 роты 314-га пяхотнага Каднікаўскага палка, рота 185-га пяхотнага Сядлецкага палка, рота пяхотнага Рыбінскага палка, батарэя 67-е артылерыйскае брыгады, сотня 2-га Данскога казацкага палка, эскадрон 3-га драгунскага Сумскага палка, эскадрон лейб-гвардыі гусарскага Гродненскага палка. І пэўне-ж найбольшы адбітак гэтая заўзятая барацьба знайшла ў напісаным канцылярыйнай мовай "Данясеньні памочніка Магілёўскае губэрнскае жандарскае ўправы ў Дэпартамэнт паліцыі аб забастоўцы на станцыі Ворша" ад 12 кастрычніка 1905 году.

*"11 сего октября"*, каля 4-е гадзіны ўдзень на плятформы Маскоўска-Берасьцейскае чыгункі зьявілася невядомая маладая жанчына і зьвярнулася да работнікаў і пасажыраў з словамі: *"Падыйдзіце да мяне бліжэй, мне трэба вам штосьці сказаць"*. Вакол яе адразу стварыўся *"натоўп з 300 чалавек"*, якому яна пачала чытаць *"нейкую праклямацыю"*, растлумачваючы ейны зьмест і ўрэшце вельмі голасна выклікнула: *"Далоў самадзяржаўе!"* — што адразу паўтарыў увесь натоўп. Жандары й салдаты, зьбіваючы работнікаў, што абаранялі гэтую жанчыну, схапілі яе й павялі ў Варшанскую турму, але чыгуначнікі на рамізьніках іх апярэдзілі, і ў самым горадзе яшчэ большы натоўп з тым-жа крыкам *"Далоў самадзяржаўе!"* спрабаваў выратаваць арыштаваную. Каля самае турмы гэтая жанчына зьвярнулася да народу: *"Бывайце, браткі!"*.

І далей у жандарскім данясеньні значыцца:

"*Затрыманая адмовілася падаць сваё імя, яна беларуска-польскае народнасьці, год 25*".

У перакладзе з расейска-жандарскае мовы на нашую не падлягае сумневу, што невядомая жанчына растлумачвала зьмест лістоўкі па-беларуску, а па свайму веравызнаньню зьяўлялася каталічкай. Хто яна — Алёіза? Адэля? Зося? Юзэфа? Мы ня ведаем, але для ўсіх нас яна: Дарагая! Родная! Незабытная!

Варшанцы ўпарта сьцьвярджаюць, што ў гэтым самым сутарэньні гібеў агульназнаны антыбальшавіцкі партызан Чырвонец. Той самы Чырвонец, зь вядомага на Радні Цёмнага Лесу, што гаспадарыў у 14 раёнах. Той самы Чырвонец, які ў прысьвечанай яму

п'есе ўзвышэнца Васіля Шашалевіча[1004] "Воўчыя ночы" гаворыць: *"Усюды, дзе ступіць наша нага, агонь сялянскіх паўстаньняў будзе шугаць да самага неба! І гэта будзе сялянская рэвалюцыя супраць бальшавікоў, рэвалюцыя, якой яшчэ ня бачыў сьвет!"*.

І хай сабе ня ў Воршы, а ў лютым 1925 г. у горадзе Клімавічах скончыў жыцьцёвы, да мэтэору падобны шлях, Чырвонца, але характэрна, што народ спалучае ягоныя пакуты менавіта з гэтым жудасным сутарэньням.

Можа, яшчэ больш падкрэсьлівае ўсю брыдоту царызму тое, што прыстасаваўшы будынак пад турму, ён спакінуў на ягоным франтоне барэльеф сьвятога Францішка Асіскага[1005]. Што мае агульнага з кратамі і ланцугамі сьвяты, які маліўся за людзей да зьяўленьня стыгматаў-крывавых адзнакаў Хрыстовых ранаў на сваім целе, які, акрамя людзей, любіў кветкі і птушкаў, мянуючы іх сваймі "малымі сёстрамі". І хіба ня цудам ёсьць тое, што летась у Асізах паміж штучных ружаў, якія трымае ў руках статуя сьвятога Францішка, зьвіла сабе гняздо птушка, а сёлета зьвярнулася з выраю зноў да яго, якое ніхто зь людзей не адважыўся зьнішчыць. Бальшавікі зьнішчылі барэльеф, зьмясьціўшы на ягоным месцы эмблему прафсаюзу дрэваапрацаўнікоў, а пад ёй выбілі сугучныя кратам і ланцугом словы Леніна: *"Прафсаюзы — школа камунізму"*.

Дарэчы, на даху будынку яны пабудавалі пляцоўку для вартаўніка, які меўся ахоўваць гэтую цяперашнюю бальшавіцкую маёмасьць ад замежных "дывэрсантаў".

Паблізу ад колішняга агульнажыцьця францішканаў узвышаецца іхні-ж велічны старадаўні касьцёл. З чатырох бакоў падпіраюць ягоныя сьцены контрафорсы, гэтак характэрныя для старасьветчыны. Калі пасьля паўстаньня 1861 г. расейскі царызм скасаваў у Воршы, як і па ўсёй Беларусі, бадай усе каталіцкія манастыры й касьцёлы, дык, зачыніўшы тутэйшы францішканскі манастыр,

---

1004 **Васіль Шашалевіч** (1897–1941), паэт, празаік, драматург. Друкаваўся ад 1927 г. У 1917–1924 гг. настаўнічаў у Беларусі. Потым працаваў сцэнарыстам на кінафабрыцы ў Ленінградзе. У 1930 г. арыштаваны па справе "Саюза вызвалення Беларусі", знаходзіўся пад следствам да 1931 г. Паўторна арыштаваны ў 1936 г. У 1937 г. прысуджаны да 10 гадоў зняволення, загінуў на лесапавале.

1005 **Францыск Асізскі** (1181–1226), заснавальнік ордэна францысканцаў, а таксама свецкага ордэна братоў і сёстраў Пакаяння. Ушаноўваецца каталікамі як святы.

спакінуў ягоны касьцёл як парафіяльны для каталікоў Воршы і ейнага павету. Аднак няма і ў гэтай галіне розьніцы паміж царызмам і бальшавізмам. Калі першы, далучаючы з вуніі да праваслаўя з дапамогай казацкіх бізуноў, адначасна адлітоўваў мэдалі з надпісам *“Отторженные с ненавистью, возвращенные с любовью”* — дык другі, арыштоўваючы аднаго за адным ксяндзоў, накладаючы на касьцёлы вялікія падаткі, прымусіў такім чынам тутэйшых вернікаў у 1920 г. *“дабраахвотна адмовіцца ад касьцёла”*. Пасьля гэтага ў будынку за розныя часы зьмяшчаліся — піянэрскі клюб, прафтэхшкола, аўташкола Белдзяржтрансу і нарэшце гараж таго-ж самага *“трансу”*. І за гэтыя-ж часы бальшавікі ськінулі ягоны кумпал з крыжам, пабудаваўшы на іхным месцы ня толькі блюзьнерскую ўвогуле, але й тэхнічна ўбогую пляцоўку для зэнітных кулямётаў.

Гэты касьцёл, як і шмат іншых касьцёлаў на Беларусі, быў высьвячаны ў імя сьвятога Антона Падуанскага[1006], сучасьніка Францішка Асіскага і аднаго зь першых францішканаў. Мы ня ведаем, пад якім прозьвішчам ён нарадзіўся у 1195 г. у ваднэй з найбагацейшых сем’яў Лісабоны. Затое ведаем, што атрымаўшы найлепшую для таго часу асьвету, ён адмовіўся і ад пасадаў, здабытых гэтай асьветай, і ад багацьцяў, якія дасталіся яму ў спадчыну, і ад невядомага нам прозьвішча, каб стацца манахам. Аднак, калі пераважная большасьць манахаў адыходзіла на самату ў манастырскія кельлі, дык Антон Падуанскі пайшоў да самых людзкіх гушчаў. Высокі й худы асцэт, у старай латанай выцьвілай ад сонца і дажджоў сутане, у кішэнях якое знаходзілася ўся ягоная маёмасьць, падпярэзаны не сымбалічнай з кутасамі, а звычайнай вяроўкай, навет узімку босы і зь непакрытай галавой, ён, як вандроўны казальнік, ішоў ад вёскі да вёскі, ад гораду да гораду праз Партугалію, Гішпанію, Францыю, Італію. Ягоны вонкавы выгляд, да якога яшчэ трэба дадаць упалыя вочы, у якіх заўсёды сьвяціўся агонь незямнога натхненьня й глыбокае веры, ягоныя палкія і красамоўныя казаньні, у якіх набытае схалястычнай асьветай выкладалася для ўсіх зразумелай мовай, спакідалі на простых людзей вялікае ўражаньне. Яго часам суправаджалі натоўпы, а часам пільнавалі ворагі — пераважна іншыя непадобныя да яго манахі, каб забіць. Запальваючы

---

[1006] **Антоній Падуанскі,** ён жа **Фернанда дэ Буён** (лац. *Antonius Patavinus*, 1195–1231), каталіцкі святы, прапаведнік, адзін з самых знакамітых францысканцаў.

вакольных і згараючы пры гэтым сам, ён памёр у 1231 г. нестарым, траццацішасьцёхгадовым, у Падуі. Характэрна, што наўсуперак звычаю каталіцкая царква ўжо ў наступным 1232 г. абвясьціла яго сьвятым, надаючы да яго імя назоў гораду Падуі, дзе скончылася ягоная місыйная вандроўка па зямлі. Тае самае італійскае Падуі, што шмат гаворыць беларускаму сэрцу. Гэта-ж у ейным унівэрсытэце здабываў асьвету *“сын Лукаша з Полацку”*, вялікі Беларус, наш першадрукар доктар Францішак Скарына.

Праз праломленую ў бакавой сьцяне браму мы моўчкі праходзім у паруганы Дом Божы. Аднак прычым тут брама, пры ўспаміне аб якой заўсёды прыгадваецца ў нас Войстрая Брама з абразом Найсьвятое Дзевы і з магутнымі коньнікамі па бакох яго. Гэта звычайныя вароты для праезду аўтобусаў Белдзяржтрансу. Абшарпаныя, латаныя ды пералатаныя, яны займаюць усю плошчу будынку, дзе мы дарма шукаем якога-небудзь сьледу ягонага ранейшага прызначэньня. І нечакана я ўздрыгнуў. У вузкім праходзе паміж аўтобусамі на падлозе я заўважыў частку мазаічнага надпісу. Адштурхнуўшы ўбок аўтобус і вызваліўшы з-пад ягоных колаў надпіс, мы прачыталі: *“Salve!”*, а пад ім меўся паміж першай і апошняй літарамі старагрэцкага альфабэту, паміж Альфай і Омегай Лябарум-Крыж Канстанціна Вялікага. *“Salve”* — або ў перакладзе з латыні *“дабрыдзень!”*. Далёкая мінуўшчына вітала нас. Хто-б ты ня быў — кароль ці жабрак, праваслаўны ці каталік, дзед ці дзіця. *Salve!* І прыгадалася мне з натхнёнага агняпісу-Апокаліпсіса: *“Я ёсьць Альфа і Омега, пачатак і канец, кажа Госпад, які ёсьць, і быў, і прыйдзе, Уседзяржыцель”*.

А пасярэдзіне — Лябарум, што меўся на сьцягах рымскіх легіёнаў, крыж магутнага імпэратара Рыма й закладніка Канстанцінопаля, зь якога асьвяціла Беларусь Сьвятло Хрыстовае. Па свайму, па праваслаўнаму, я ў душы пабожна перахрысьціўся і з болям спакінуў сьвятыню.

— *Вы хлусіце,* — кажа мне той ці іншы прыхільнік *“Русского Голоса”*, паміж якімі ёсьць ладне зусім не благіх, але спадманутых савецкай прапагандай Беларусаў з старое эміграцыі. — *З таго часу, як Вы бачылі Воршу, мінула 17 год. Нянавісьць палітычнага эмігранта асьляпіла вашыя вочы. Вы адарваныя ад штодзённага сучаснага жыцьця, ад цяперышчыны свайго народу й краіны. Вы таму зусім не ўяўляеце сабе сучаснае Воршы.*

Аднак я ня думаю, каб тая сьвятая нянавісьць ды мяне асьляпіла. Мне запраўды не давялося, аб чым ні каліва не шкадую, пабачыць у Воршы помнік работы скульптара Бэмбаля[1007] герою Савецкага Саюза Канстанціну Заслонаву[1008], імя якога накінута й старому чыгуначнаму дэпо і яшчэ больш старой вуліцы. Яму-ж у дадатак паблізу ад вагзалу прысьвечаны адмысловы музэй. Мастакі Зайцаў[1009], Волкаў[1010], Хрусталёў[1011], Раманаў[1012] больш ці менш паэтычна адбілі яго ў сваіх малюнках. Кампазытар Аладаў[1013] стварыў опэру “Андрэй Касьценя”, якога першаўзорам зьяўляецца тэй-жа Заслонаў. Драматург Маўзон[1014] напісаў аб ім п’есу, якую на сцэне паставіў Саньнікаў[1015], а ролю Заслонава выканаў Платонаў[1016]. Дарэчы, зьвярніце ўвагу на прозьвішчы і гэроя, і ягоных трубадураў. Урэшце-рэштаў не амінула Заслонава й Белдзяржкіно, сфабрыкаваўшы аб ім фільм. Інжынэр чыгуначнага дэпо станцыі Ворша камуністы Заслонаў стаўся пасьмяротна гэроем Савецкага Саюза таму, што ў часе вайны ачольваў змаганьне тутэйшых партызанаў зь Немцамі, а ў сувязі з гэтым рэклямуецца там, як — *“запраўдны сын беларускага народу”*. Між тым у часе

[1007] **Андрэй Бембель** (1905–1986), скульптар, заслужаны дзеяч мастацтаў БССР, народны мастак БССР.

[1008] **Канстанцін Заслонаў** (1909–1942), савецкі партызан, герой Вялікай Айчыннай вайны.

[1009] Відаць, маецца на ўвазе **Яўген Зайцаў** (1908–1992), мастак, народны мастак БССР. У 1948–1950 гг. старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР.

[1010] Відаць, маецца на ўвазе **Валянцін Волкаў** (1881–1964), мастак, народны мастак БССР, прафесар.

[1011] **Уладзімір Хрусталёў** (1896–1954), мастак, педагог. Карціну “Канстанцін Заслонаў” намаляваў у 1950 г.

[1012] Магчыма, маецца на ўвазе **Сяргей Раманаў** (1914–2001), мастак, удзельнік партызанскага руху падчас Вялікай Айчыннай вайны.

[1013] **Мікалай Аладаў** (1890–1972), кампазітар, педагог, народны артыст БССР.

[1014] **Аркадзь Маўзон** (сапр. **Арон Маўшэнзон**, 1918–1977), драматург. Аўтар сцэнара да фільма “Канстанцін Заслонаў” (1949).

[1015] **Канстанцін Саннікаў** (1896–1965), рэжысёр і акцёр, народны артыст БССР. У 1948–1952 гг. мастацкі кіраўнік Беларускага акадэмічнага дзяржаўнага тэатра імя Я. Купалы. За спектакль “Канстанцін Заслонаў” атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР у 1948 г.

[1016] **Барыс Платонаў** (1903–1967), акцёр, народны артыст СССР (1948). Ад 1922 г. працаваў у Беларускім акадэмічным дзяржаўным тэатры імя Я. Купалы. У 1961–1963 гг. яго кіраўнік.

вайны запраўдныя сыны беларускага народу рыхтаваліся да таго моманту, калі фашызм і бальшавізм перагрызуць адзін аднаму глоткі, каб пасьля гэтага зь вінтоўкамі ў руках і з дапамогай дэмакратычнага сьвету аднавіць Незалежную Беларусь. Таму з нашага незалежніцкага пункту гледжаньня хай сабе й Беларус па свайму паходжаньню, але фашыстоўскі калябарант Фабіян Акінчыц[1017] гэткі-ж вораг нашае Нацыянальнае Ідэі, як і бальшавіцкі калябарант Канстанцін Заслонаў. І можа ніхто лепш не ахарактэрызаваў Заслонава, як Маўзон, у п'есе якога той кажа: *"Мы — расейскія людзі. Наша матка — Масква"*.

Мы даём веры таму, што ў сучаснай Воршы адноўлены элеватар і льнокамбінат, пабудаваны варштатны завод "Красный Борец" і завод кравецкіх машынаў. Аднак з таго-ж самага *"Русского Голоса"* (20.12.51) мы ведаем, што Варшанскі завод *"Красный Борец"* да тэрміну адправіў вяртыкальна-сьвідравальныя варштаты Сталінградзкай і Куйбышэўскай ГЭС, Волга-Данскому каналу і ў Кахоўку. Чаму ня ў Полацк або ў Слонім? Мы таксама даём веры таму, што ў сучаснай Воршы пабудаваныя або будуюцца цагляны камбінат, птушкакамбінат, мясакансэрвны камбінат, лазьняпральны камбінат і розныя новыя прадпрыемствы *"гарадзкога прамысловага камбіната"*. Што датычыць беларускіх лазьняў, дык яны прыгадваюцца яшчэ ў апокрыфах у сувязі з падарожжам сьвятога Апостала Андрэя Першымпакліканага[1018]. Што датычыць птушкакамбінату, дык калі гаспадару аднае зь нязьлічоных у Амэрыцы курыных фармаў сказаць, што ягоная фарма, на якой ад трох да пяці тысяч кураў абслугоўвае сям'я з двох-трох асобаў, зь якіх яшчэ адна ў дадатак працуе на бліжэйшай фабрыцы, ёсьць камбінат, які мае дзяржаўнае значаньне, дык зусім слушным адказам будзе ягоны покатны сьмех.

Мы ня сумняваемся ў тым, што ў пасьляваеннай Воршы, спаленай усё-ж не фашыстамі, як сьцьвярджалася бальшавікамі на Нюрэнбэрскім працэсе, а імі, паводля сталінскага загаду аб

---

[1017] **Фабіян Акінчыц** (1886–1943), грамадскі дзеяч, юрыст, журналіст. У 1933 г. заснаваў Беларускую нацыянал-сацыялістычную партыю, разам з У. Казлоўскім выдаваў часопіс "Новы шлях". У 1939 г. выехаў у Берлін. У 1940 г. узначаліў беларускае бюро пры Міністэрстве прапаганды, кіраваў школай беларускіх прапагандыстаў у Вустраве пад Берлінам. Застрэлены ў Менску.

[1018] **Андрэй Першазванны** — адзін з 12 апосталаў Хрыста.

“голай зямлі”, зусім ня цяжка плянаваць новую Воршу, хоць ва ўсім вольным сьвеце пляніроўка гарадоў адбываецца бязь іхняга суцэльнага зьнішчэньня. Аднак “генэральны плян” перабудовы Воршы, як адзначана ў кнізе “Мастацтва Савецкай Беларусі”, выдадзенай у 1955 г. у Менску, мае адбыцца па вузору “радыяльна” кальцавое маскоўскае сыстэмы. Масква, якую вычарпальна сымбалізуе ейны Крывакалейны закавулак[1019], што, адыходзячы ад Мясьніцкае вуліцы да яе-ж і прыходзіць, мае стацца прыкладам для каляніяльных гарадоў. А хіба мы ня ведаем, што цяпер у Воршы ёсьць Красная (не Чырвоная) плошча, бо ёсьць у Маскве Красная плошча, якую цалкам характарызуюць крывавае Лобнае Мейсца[1020] і маўзалей з муміямі Леніна й Сталіна. І мы ведаем таксама, што ў цяперашняй Воршы, акрамя праспэктаў Леніна й Сталіна, ёсьць між іншым і праспэкт Тэкстыльшчыкаў, які, дарэчы, складаецца з васьмі чатырохпавярховых дамоў. Пяць, а можа шэсьць асобаў, адданых дарэшты савецкаму рэжыму, або ягоных гайдукоў, займаюць у ім кватэры, а ў іншых іхніх шматлікіх пакойчыках туляцца па аднае, а магчыма па дзьве сям’і. І няма зларадства з гэтае прычыны, бо не нашыя браты й сёстры тэкстыльшчыкі схавалі ў касьцёле Антона Падуанскага пад коламі аўтобусаў прызначанае таксама ім *Salve!*, бо нічога акрамя болю ня вычуваем мы за лёс свайго народу, якога крывёю ад крыві зьяўляемся на чужыне.

Яшчэ Овідзій казаў: *“Пакуль жыву, спадзяюся”*. Спадзяемся й мы, палітычныя эмігранты, што ўрэшце-рэштаў нашая Бацькаўшчына станецца Вольнай і Незалежнай. Спадзяемся, што адыйдзе ў нябыт і станецца архіўным здабыткам прыказка *“Кепска каля Віцебска, а ля Воршы ’шчэ горшы”*. Аднак мы ня толькі спадзяемся, але скарыстоўваючы ўсе свае магчымасьці, змагаемся за ажыцьцяўленьне нашае Сьвятое Нацыянальнае Ідэі.

Мы чуемо дагэтуль, як паводля “Пскоўскага Першага Летапісу”[1021] ў 1514 годзе: *“Бысть побоіще веліе Москвічем с Літвою под*

[1019] **Крывакаленны завулак** — да 1901 г. завулак у Басманным раёне Масквы.

[1020] **Лобнае месца** — помнік сярэднявечнага рускага дойлідства ў Маскве на Краснай плошчы. Створанае прыблізна ў XVI ст. і да 1917 г. выкарыстоўвалася для хросных хадоў падчас праваслаўных сьвятаў, а таксама для абвяшчэння царскіх загадаў. Часам выраз “лобнае месца” ўжываецца як сінонім эшафота.

[1021] **Першы пскоўскі летапіс** адносіцца да XV–XVII стст. і мае некалькі рэдакцый.

*городом под Оршею, і воскрічаша і возопіша жены Оршанкі на трубы Московскія, і слышаті было стуку і грому велікому межы Москвіч і Літвою”.*

Мы не забываймо, як паводля “Летапісца Вялікага Княства Літоўскага”: *“І нашоў князь Канстантын войска Маскоўскае за Воршаю горадам, за Дняпром, на рацэ Крапіўніцы, і перабродзіўшыся з усім войскам і з дзелы цераз Днепр, і ўдарыліся войскі межы сабе ў пятніцу месяца сенцябра 8 дня, на самы празьнік Раства Прачыстае Богамацеры. І быў бой вельмі вялікі, бо ня роўна было Масквы ў пяць кроць больш, ніжлі Літвы.*

*І памог Бог каралю Жыгімонту і войску Літоўскаму, іж Маскву на галаву пабілі, і ваявод, што найстарых усіх паімалі…”.*

І можа нашае, а магчыма наступнае пакаленьне пабачыць, як адродзіцца, як зьдзейсьніцца старая беларуская гістарычная песьня, прысьвечаная той заўзятай бітве:

*Масква стала наракаці,*
*Места Воршу пакідаці,*
*А як з Воршы уцякалі,*
*Рэчку невялічку пракліналі:*
*“Бадай ты, рэчанька,*
*Сто лет высыхала,*
*Як нашая слава тут прапала,*
*Бадай высыхала*
*Да скачэньня сьвету,*
*Што нашай славанькі ужо нету”.*

*Уладзімер Брылеўскі*

## Чым славіцца Залесьсе[1022]

На поўнач ад славутай вёскі Лоска, у вадлегласьці 18 кілямэтраў ад яе, ляжыць другая слаўная мясцовасьць — Залесьсе. Каб з Лоска даехаць да яго, трэба перасякчы ўсю паўночную частку Ашмянскага ўзвышша ўпоперак. Паабапал дарогі на ўзгор’ях — палі і яловыя

[1022] Беларус. № 264. Красавік 1979. С. 2.

лясы. Мінуўшы вёску Загор'е, за якой узвышша канчаецца, спускаючыся да вёскі Панізьзе, вачом адкрываецца прыгожы від на шырокую раўніну — пойму ракі Вяльлі.

Як вокам кінуць, далёка на гарызоньце віднеецца сінь левабярэжных лугоў і завялейскіх лясоў, спасярод якой выдзяляецца нейкі белы пункт — гэта вадакачка на чыгуначнай станцыі Залесьсе на лініі Вільня — Менск. Каля станцыі да канца апошняй вайны быў невялікі пасёлак. За часоў польскага панаваньня пасьля 1920 году была ў ім нейкі час г. зв. утраквістычная (двумоўная польска-беларуская) пачатковая школа, а пазьней польская сямігадовая школа зь беларускай мовай як адным з прадметаў. Амаль усе настаўнікі у ёй былі сьведамыя Беларусы на чале з кіраўнікам школы беларускім патрыётам Пётрам Зяновічам (загубленым у 1944 годзе бальшавікамі ў Вялейскай турме). З часам іх усіх выслалі на працу ў школах у этнаграфічную Польшчу, а на іхнае мейсца адтуль прыслалі настаўнікаў Палякаў. За часоў савецкай, пасьля "вызваленьня" Заходняе Беларусі ў верасьні 1939 г., а пазьней нямецкай акупацыі ў часе Другой сусьветнае вайны школа была беларускай.

Цяпер Залесьсе, паводле Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі, вёска ў Смургонскім раёне Горадзенскай вобласьці, цэнтр сельсавету й калгасу "Чырвоны партызан", мае 806 жыхароў і 258 гаспадарак (у 1971 годзе). У ёй знаходзіцца лясьніцтва, ёсьць сярэдняя школа (пэўна расейская), дом культуры, бібліятэка, дзіцячы сад, бальніца, аптэка, дом для перастарэлых, пошта, сталоўка, 5 крамаў і помнік 36 савецкім воінам і партызанам, што загінулі ў Другую сусьветную вайну.

Няхай чытача не зьдзіўляе вялікі лік загінулых *"савецкіх воінаў і партызанаў"*. З паўторным прыходам савецкай улады ў Залесьсе вярнуўся й жахлівы сталінскі тэрор. Шмат выдатнейшых людзей было арыштавана. Шмат мужчынаў бальшавікі змабілізавалі й пагналі, як ненадзейных, у штрафных батальёнах на ваенны фронт, дзе яны, галоўным чынам пад Бэрлінам, амаль усе загінулі. А загінулыя партызаны былі, як і сказана ў энцыкляпэдыі, чырвоныя, але-ж у ёй не сказана, што яны былі не мясцовыя беларускія, а савецка-расейскія. Уначы партызаны рабавалі вёскі, а Немцы пасьля днём іх палілі *"за сувязь з партызанамі"*.

Але ня ўсім гэтым, і пэўна-ж, ня чыгуначнай станцыяй славіцца Залесьсе, ані навет тым, што каля яго (адзін кілямэтр на поўнач)

плыве прыгажуня Вяльля, а палацам у былым маёнтку князёў Агінскіх і ягоным будаўнікам, князем Міхалам Клеафасам Агінскім[1023]. Род князёў Агінскіх выводзіўся ад Рурыкавічаў. Ён пачаўся ад Данілы Сьвятаслававіча, унука Кіеўскага князя Ўладзімера[1024] й пляменьніка Ізяслава, сына Рагнеды[1025]. Агінскія займалі высокія становішчы ў Вялікім Княстве Літоўскім: былі гэтманамі, канцлерамі, ваяводамі, маршалакамі й дыпляматамі ў чужых краінах. Багдан Агінскі[1026], падкаморы троцкі (жыў у першай палавіне 17 стагодзьдзя) быў старастам ведамага Віленскага праваслаўнага брацтва. Перайшоўшы ў другой палавіне 17 стагодзьдзя ў каталіцтва, Агінскія паступова апалячыліся. Аднак Рыгор Антон Агінскі[1027] (сын Яна[1028], які ўдзельнічаў у бітве польска-літоўскіх войскаў з Туркамі пад Венай у 1683 годзе) у 1696 годзе ачоліў канфэдэрацыю войска літоўскага, якая дамаглася зраўнаньня ў правох літоўска-беларускай шляхты з польскай, і быў аўтарам праэкту аддзяленьня Вялікага Княства ад Польшчы. Але найбольш праславіліся зь іх Міхал Казімер[1029] і Міхал Клеафас Агінскія.

Міхал Казімер, ваявода Віленскі, а пазьней вялікі гэтман Літоўскі, змагаўся з расейскай навалай — войскамі Суворава[1030]. Ён пабудаваў ведамы канал, які злучаў раку Шчару зь Ясельдай, а тым самым Нёман з Прыпяцяй, і які носіць ягонае імя. У Слоніме стварыў опэрны тэатр і капэлю, заснаваў друкарню й пабудаваў

[1023] **Міхал Клеафас Агінскі** (1765–1833), кампазітар, дыпламат і вайсковы дзеяч Рэчы Паспалітай. Найбольш вядомы яго твор — паланэз “Развітанне з Радзімай”.

[1024] **Уладзімір Святаслававіч** (каля 960 — 1015), кіеўскі князь, пры якім адбылося хрышчэнне Русі.

[1025] **Рагнеда** (966–1000), полацкая князёўна, дачка Рагвалода, адна з жонак кіеўскага князя Уладзіміра.

[1026] **Багдан Агінскі** (?–1625), дзяржаўны і вайсковы дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, палкоўнік войска ВКЛ, падкаморы троцкі.

[1027] **Рыгор Антоні Агінскі** (?–1709), дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, вялікі гетман літоўскі, маршалак трыбунала ВКЛ.

[1028] **Ян Агінскі** (каля 1625 — 1684), дзяржаўны і ваенны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, гетман польны літоўскі.

[1029] **Міхал Казімір Агінскі** (1730–1800), дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, гетман вялікі літоўскі, мецэнат, дыпламат, кампазітар, паэт.

[1030] **Аляксандр Сувораў** (рус. *Александр Суворов*, 1730–1800), расійскі вайсковы дзеяч, граф, князь, генералісімус. Кіраваў расійскімі войскамі ў часе задушэння паўстання Тадэвуша Касцюшкі.

некалькі прадпрыемстваў. Пісаў музычныя творы — пераважна палянэзы. Маёнтак Залесьсе ён прадаў свайму пляменьніку Міхалу Клеафасу.

Міхал Клеафас Агінскі пабудаваў у Залесьсі палац у клясычным стылі, а каля яго разьбіў парк у ангельскім стылі з характэрнымі яму крывымі лініямі дарожак, павілёнамі, мосьцікамі і іншымі архітэктурнымі пабудовамі малых формаў. У парку паставіў камень-помнік Касьцюшку[1031]. Частка парку, якая прылягае да рэчкі Драі, прытоку блізкай Вяльлі, займеў заапарк. Яшчэ й сяньня тое месца жыхары суседніх вёсак, хоць там даўно-даўно няма ніякіх зьвяроў, называюць Зьвярынцам. Побач з даўнім Зьвярынцам, але трохі вышэй — невялікі стары запушчаны праваслаўны магільнік яшчэ з часоў вуніі, на якім пахаваныя продкі жыхароў суседняй вёскі Міхневічы. На ім, сярод старых сосен, стаяць каменныя памятнікі з польскімі напісамі. Ад палацу яшчэ й сяньня йдуць у розных кірунках, як-бы праменьнямі, алеі-прысады, званыя тамачнымі людзьмі "*плянтамі*". Пры тым кажная алея абсаджаная іншымі дрэвамі: ёсьць алея ліпавая, кляновая, бярозавая і інш. Дзьве зь іх, перасякаючы чыгуначную лінію й шлях Вільня — Менск зь векавымі бярозамі абапал, званы гасьцінцам, даходзяць да Вяльлі. Пры бярозавай алеі стаіць старадаўняя, пабудаваная ў 16 стагодзьдзі, драўляная Юр'еўская царква. Кажны год вясной, на Юр'е[1032] — храмавое сьвята, а ў восені на Пакровы адбываліся да апошняй вайны "фэсты", на якія зьбягалася мноства народу. У той час, калі ў перапоўненай вернікамі царкве адпраўлялася ўрачыстая саборная багаслужба, навонкі яе жабракі — калекі й некалекі — манатонна сьпявалі свае пацеры, фатограф-прафесыянал рабіў жадаючым 5-цімінутныя фотаздымкі, а крамары з недалёкіх Смургоняў бойка прадавалі цукеркі, ліманяду, піва й славутыя смургонскія абаранкі.

Князь Міхал Клеафас Агінскі быў вялікім патрыётам сваёй Бацькаўшчыны. Ён таксама, як і ягоны дзядзька, змагаўся супраць наступу Расеі. Падчас паўстаньня 1794 году, правадыром якога быў

1031 **Тадэвуш Касцюшка** (1746–1817), палітычны і вайсковы дзеяч Рэчы Паспалітай, кіраўнік вызвольнага паўстання 1794 г., удзельнік вайны за незалежнасць ЗША, нацыянальны герой Беларусі.

1032 **Юр'я** — традыцыйнае свята, якое адзначаецца 6 траўня (23 красавіка па старым стылі).

Касьцюшка, ён камандаваў сфармаваным і ўзброеным сваім коштам конным аддзелам, зь якім браў удзел у некалькіх бітвах. Змагаўся таксама супраць прускіх войскаў. Уваходзіў у склад паўстанскага ўраду — Нацыянальнай Рады. Пазьней, у 1811 годзе, ён падаў цару Аляксандру Першаму[1033] праект заснаваньня вялікага Гэрцагства Літоўскага на правох аўтаноміі із сталіцай у Вільні, які цар адкінуў. Але найбольш ведамы ён як кампазытар — аўтар опэры "Зэліс і Валькур або Банапарт у Каіры" й перадусім папулярных, надзвычайна мэлядыйных, поўных лірызму палянэзаў, зь якіх цудоўны палянэз ля мінор "Разьвітаньне з Бацькаўшчынай" здабыў сабе несьмяротную славу. Ён напісаў ведамы "Марш паўстанцаў" (1794 г.) і некалькі іншых маршаў і патрыятычных вайсковых песьняў. Пісаў таксама вальсы, мазуркі, рамансы й модныя ў той час мэнуэты. Пераважную бальшыню сваіх музычных твораў ён напісаў у Залесьсі. Пад адкрытым небам із запрошанымі музыкантамі часта даваў канцэрты. Па ўсім парку тады разьлягаліся гукі клясычнай музыкі. Ад 1815 г. Міхал Клеафас жыў на выгнаньні, у Флярэнцыі, дзе й загінуў, прабіты штылетам царскага агента. Там і пахаваны.

Пазьнейшыя Агінскія нічым не праславіліся. Хіба толькі апошні ці перадапошні зь іх, які быў расейскім сэнатарам, тым — як мне расказваў стары дзед Яблонскі, што памятаў тыя часы, — што загадаўшы сваім слугам забіць вала й цэлага яго сьпячы, зладзіў баль, на які запрасіў сваіх суседзяў — дробных паноў Вятхоўскага й Яневіча, ад якіх ён хацеў прыкупіць зямлі, але яны не хацелі прадаць. Баль цягнуўся некалькі дзён. Пад канец баляваньня яны падпісалі купчую й такім чынам суседнія з Залесьсем вёскі Вётхава й Яневічы перайшлі ў собскасьць князя.

Пасьля Першай сусьветнай вайны ў маёнтку Залесьсе не аказалася собсьніка. Польскія ўлады маёнтак распарцэлявалі. Ворная зямля й сенажаці былі распрададзеныя, а лясы за Вяльлёй сталіся дзяржаўнай собскасьцю. Цэнтр маёнтку з палацам, паркамі й фруктовым садам купіла пані Жаброўская[1034] (з апалячаных паноў Ваўчацкіх), жонка прафэсара мэдыцыны Варшаўскага Ўнівэрсытэту. Летам у палацы трымала пэнсіньён для гарадзкіх летнікаў-вакацыянераў. Із суседнімі сялянамі жыла ў згодзе.

[1033] **Аляксандр I** (1777–1825), імператар Расійскай імперыі (1810–1825).

[1034] **Марыя Жаброўская** набыла сядзібу Агінскіх у 1930 г. Створаны ёю пансіён дзейнічаў да 1937 г.

У блізкай з суседняй з Залесьсем вёсцы Зарудзічы нарадзіўся й жыў паэт Алесь Салагуб[1035], які пасьля зьняволеньня польскімі ўладамі ў віленскай турме на Лукішках, паверыўшы бальшавіцкай хлусьні, што ў тагачаснай БССР будуецца *"беларускі нацыянальны дом"*, перайшоў у 1928 годзе польска-савецкую граніцу й жыў некаторы час у Менску. Аўтару гэтых радкоў давялося быць у хаце бацькоў паэты. Маці дала пачытаць паштовую картку ад яго адтуль, у якой ён горача заклікаў свайго наймалодшага брата быць Беларусам і вучыцца. Як ведама, Алесь Салагуб пазьней быў загублены бальшавікамі. Давялося мне таксама выпадкова, блудзячы па страшэнна запушчаным парку, убачыць на сьцяне эстрады для аркестры Міхала Клеафаса вялікі, праз усю сьцяну, напіс вуглём, як мне тады падумалася, рукою Алеся Салагуба: *"Няхай жыве незалежная Беларусь!"*. Былі гэта як-бы разьвітальныя словы паэты з Залесьсем.

Залесьсе, дзякуючы сасновым лясом, чыстаму паветру, сухому пяшчанаму грунту й блізасьці Вяльлі з цудоўнымі пляжамі й залёнымі лугамі, славілася як курортная мясьцовасьць. Перад першай сусьветнай вайной у лесе ля чыгункі стаялі дачы заможных расейскіх вайсковых пэнсіянэраў і чыноўнікаў, пасьля якой, паколькі блізка, каля Смургоняй, прабягала лінія фронту, засталіся ад іх адны фундаманты. А перад апошняй вайной кажнага лета ў Залесьсе прыяжджалі на вакацыі "паны" — інтэлігэнцыя і ўрадаўцы з Вільні, а навет з далёкай Варшавы.

Сяньня ў Залескім палацы месьціцца Дом адпачынку. Але ўсё гэта, як пісаў сваім часам у "Беларусе" — не чарнілам, а крывёю — Юрка Віцьбіч у сваім мастацкім нарысе пра Залесьсе "Ад палянэзу да шчабёнкі"[1036], сапсавана пабудовай савецкай уладай у Залесьсі над ракой Вяльлёй прамысловага прадпрыемства — гідрамэханічнага пясчана-гравійнага кар'еру й сілікатнага заводу. На месца ціхай красы прыйшоў расейска-савецкі Молах.

---

[1035] **Алесь Салагуб** (1906–1934), паэт. Друкаваўся з 1925 г. Закончыў віленскую беларускую гімназію ў 1927 г. і ў 1928 г. нелегальна перабраўся ў БССР. Закончыў БДУ. Арыштаваны ў 1933 г. Расстраляны па справе "Беларускага нацыянальнага цэнтра".

[1036] Маецца на ўвазе публікацыя: Віцьбіч, Юрка. Ад палянэза да шчабёнкі // Беларус. № 169. Травень 1971. С. 3.

*Уладзімер Брылеўскі*

## Славутыя Смургоні: калісь і сяньня[1037]

*Ехаў раз я ад Кіяны,*
*Ды ў Смаргоні і не п'яны,*
*І даехаў на Ваўкелы,*
*А конь добры быў — мой белы.*

Францішак Багушэвіч.
Здарэньне.

Хто з чытачоў ня чуў пра Смургоні й славутыя смургонскія абаранкі! Думаю, што такога ня знойдзецца. А некаторыя з чытачоў і прыяжджалі калісь у Смургоні на кірмаш. Аднак сяньня ўжо забабонны дзядзька-селянін, які быў-бы пазбаўлены сваёй собскай гаспадаркі й загнаны прымусам у калгас, ня мог-бы ехаць у Смургоні *сваім* канём — ні белым, ні якім іншым — як за часоў Багушэвіча, бо яго ў яго ня было-б: усіх коней бальшавіцкая ўлада даўно вывела, забраўшы ў іх ад гаспадароў у калгасы, у якіх бальшыня зь іх была змораная голадам. Калісь, перад Першай і Другой сусьветнымі войнамі ў Смургонях адбываліся кажны тыдзень вялікія кірмашы, на якія зьяжджалася мноства народу з усіх бакоў — з блізкіх і далёкіх вёсак. Сяньня, калі хто-небудзь з калгасьнікаў і мае штонебудзь прадаць із свайго маленькага прысядзібнага ўчастка, дык яму трэба дабрацца да аўтобусу, каб ім даехаць да Смургоняў. Няма ведама, як дабіраюцца людзі з далейшых ад аўтамабільнай дарогі вёсак.

З чароўна-рамантычнага калісь Залесься ў прамыслова-гандлёвыя Смургоні — 12 кілямэтраў. Туды вядзе адна дарога на паўночны захад па раўніне, уздоўж левага берагу Вяльлі — шлях Менск — Вільня, які адразу за Залесьсем ідзе каля вёскі Міхневічы, над якой узвышаецца мураваная зь бела-шэрых каменьняў царква, а пару кілямэтраў далей каля нічым няпрыкметнай (хіба толькі тым, што там знаходзіцца Смургонскі камбінат сілікатабэтонных вырабаў) вёскі Белая. Ад Белай аж да самых Смургоняў ляжыць вёска Шутавічы, зь якой выйшла некалькі беларускіх патрыётаў і нацыянальна-культурных дзеячоў, як ксёндз Віктар Шутовіч, няўтомны змагар за родную

[1037] Беларус. № 266. Чырвень 1979. С. 7–8.

мову ў каталіцкіх сьвятынях у б. Заходняй Беларусі пад Польшчай, мгр. Янка Шутовіч[1038], рэдактар і выдавец беларускага літаратурнага часапісу “Калосьсе”, што выходзіў у другой палавіне трыццатых гадоў у Вільні, а пазьней дырэктар ведамага віленскага Беларускага Музэю імя Івана Луцкевіча, і Альфонс Шутовіч, бурмістр Смургоняў падчас нямецкай акупацыі ў вапошнюю вайну. Недалёка Смургоняў дарога колькі разоў лагодна ўздымаецца й спускаецца па нявысокіх узгорках. Адзін зь іх завецца Дзевіч-Гара. Назоў паўстаў ад таго, што калісь у гэным месцы была знойдзена няведама кім забітая маладая прыгожая дзяўчына. Перад уездам у Смургоні да апошняй вайны стаяла табліца з намаляваным на ёй стаячым на задніх лапах мядзьведзем, трымаючым меч у пярэдніх лапах — гэрбам гораду. Галоўная вуліца — Віленская (цяпер Савецкая) — перасякае рэчку Гервятку, якая плыве цераз Смургоні й праз два кілямэтры на поўнач ад гораду ўпадае ў Вяльлю.

Смургоні былі ўжо ведамыя ў 15-м стагодзьдзі як мястэчка ў Ашмянскім павеце Віленскага ваяводзтва, якое належала да Зяновічаў. У 16-м стагодзьдзі у Смургонях быў пабудаваны ведамы, абароннага тыпу, кальвінскі збор (які пазьней стаўся каталіцкім касьцёлам, потым праваслаўнай царквой, а пасьля Другой сусьветнай вайны ўзноў — касьцёлам), папяровая мануфактура, школа, шпіталь. Зь першай палавіны 17-га стагодзьдзя Смургоні былі собскасьцяй князёў Радзівілаў, а пазьней графаў Пшэзьдзецкіх. У гэным-жа стагодзьдзі ў Смургонях была заснаваная Радзівіламі ведамая “Смургонская акадэмія” — дрэсіроўка мядзьведзяў, у якой іх вучылі “танцаваць”, барукацца, кланяцца, пасьля чаго павадыры, якіх звалі мядзьведнікамі, вадзілі іх па кірмашох ня толькі ў межах Рэчыпаспалітай, але і ў замежжы — у Нямеччыне, Вугоршчыне і ішных краёх Эўропы. Пасьля Паўночнай вайны, у якой кароль Рэчыпаспалітай Аўгуст II Саксонскі[1039] быў саюзьнікам расейскага цара Пятра I ў ягонай вайне ізь Швэцыяй, швэдзкі кароль Карл XII на чале сваіх войскаў, заняўшы ў 1707 годзе Горадню, Ліду, Смургоні, змусіў расейскія войскі пасьпешна адступіць аж за Дняпро. У Смургонях тады была нейкі час ягоная галоўная гаспода. Пасьля 3-га

[1038] **Янка Шутовіч** (1904–1973), грамадскі і культурны дзеяч, літаратуразнаўца, выдавец. У 1935–1939 гг. выдавец і рэдактар часопіса “Калоссе”.

[1039] **Аўгуст II Моцны** (1670–1733), кароль польскі і вялікі князь літоўскі ў 1697–1706 і 1709–1733 гг.

разьдзелу Рэчыпаспалітай у 1795 г. і прылучэньня Віленскага ваяводзтва з усёй заходняй часткай Беларусі да Расеі Смургоні былі валасным мястэчкам Віленскай губэрні. У Смургонях, адступаючы ад Масквы, у лістападзе 1812 г. Напалеон[1040] пакінуў сваю абмарожаную раньнімі марозамі армію, адкуль да Вільні яго эскартавалі верныя польскія ўланы Дунін-Вансовіча[1041].

Смургонцы пазьней ня раз паўставалі супраць расейскага царскага дэспатызму. У часе Лістападаўскага паўстаньня 1831 г. гэраічна змагаўся звыш двухтысячны конны аддзел “дэспаратаў”, зарганізаваны собсьнікам Смургоняў графам Канстантынам Пшэзьдзецкім. У рэвалюцыі 1905 г. Смургоні, галоўным чынам работнікі мясцовых гарбарняў, прыймалі самы дзейны ўдзел. На *“усмирение мятежа”* на дапамогу мясцовай паліцыі зь Вільні была прысланая казацкая сотня, а потым і рота пяхоты.

У канцы мінулага й напачатку XX стагодзьдзя Смургоні былі буйным цэнтрам гарбарскай і швэйнай прамысловасьці. У 1904 г. у Смургонях, якія налічвалі тады 10 тысячаў жыхароў, было 20 гарбарскіх заводаў, вырабы якіх разыходзіліся па ўсёй Расейскай імпэрыі. Бацька ніжэйпадпісанага, якога Расейцы, забраўшы ў войска, завезьлі служыць аж у Омск на Сібіры, казаў, што бачыў на кажухох, якія выдавалі салдатам-вартаўнікам у лютыя сібірскія маразы надзяваць паверх муньдзіраў, кляймо *“Смаргонь”*. Апрача гэтага, у пякарнях гораду выпякаліся славутыя ня толькі на Віленшчыне, але й далёка паза ейнымі межамі, смургонскія абаранкі. У горадзе было вельмі шмат розных крамаў.

У Першую сусьветную вайну Смургоні былі амаль цалкам разбураныя. Блізка каля іх даўжэйшы час праходзіла лінія фронту. Стралялі з двух бакоў, бо горад быў паміж нямецкай і расейскай перадавымі лініямі, як-бы на нічыёй зямлі. Нейкім цудам уцалелі старадаўні касьцёл (б. кальвінскі збор) на Віленскай вуліцы й царква на Рынкавым пляцы ў цэнтры гораду. Першыя гады пасьля вайны людзі жылі ў зямлянках. Мала-памалу горад адбудаваўся. Гарбарні

[1040] **Напалеон Банапарт** (фр. *Napoleon Bonaparte*, 1769–1821), генерал французскай рэвалюцыйнай арміі, першы консул Першай Французскай рэспублікі (1799–1804), імператар (1804–1814).

[1041] **Станіслаў Дунін-Вансовіч** (пол. *Stanislaw Dunin-Wąsowicz*, 1785–1864), польскі вайсковы дзеяч. Палкоўнік французскай службы (1815), брыгадны генерал Войска Польскага (1831).

адбудаваныя ня былі, але крамы адчыніліся і абаранкі ў пякарнях выпякаліся ў меншай колькасьці ўзноў. Была заснаваная польская сярэдняя гандлёвая школа, якая праіснавала да Другой сусьветнай вайны. Пасьля прыходу бальшавікоў у верасьні 1939 годы й да прыходу Немцаў у чырвені 1941 году былі дзьве агульнаадукацыйныя сярэднія школы (дзесяцігодкі): беларуская й расейская.

Зь першых дзён польска-нямецкай вайны ў верасьні 1939 г., якой распачалася Другая сусьветная вайна, з паліцаў смургонскіх крамаў зьнікла соль і шмат іншых неабходных тавараў, а з прыходам бальшавікоў у гэным-жа верасьні зачыніліся й самыя крамы. А ў вадчыненых савецкіх дзяржаўных крамах паліцы былі амаль пустыя: апрача чорнага, грубога памолу й дрэнна сьпечанага, цяжкога, як цагліна, хлеба, сярнічак і груба пасечаных сьцебляў тытуну, г. зв. “*карашкоў*”, у іх больш нічога нельга было купіць. Прамысловых тавараў таксама амаль ня было зусім, а калі вельмі рэдка й зьяўляліся, дык у вабмежаванай колькасьці й вельмі нізкай якасьці. На сялянаў былі наложаныя непасільныя прымусовыя нормы высечкі й вывазу лесу да Вяльлі на сплаў у Нямеччыну й страшэнна высокія падаткі — грашовыя і ў натуры, г. зв. “*пастаўкі*” збожжа, лёну, сена, мяса, малака і яек. Не стала шматлюдных кірмашоў, ня было чаго прадаваць і купляць. І толькі дзеля таго, каб здабыць грошай на аплату падаткаў і куплю самых неабходных рэчаў, як соль, сярнічкі й карасіна, сяляне былі вымушаныя прывозіць што-небудзь прадаць з харчовых прадуктаў, пераважна сала й масла. Калі дадаць да гэтага тэрор НКВД — арышты й вываз у Сібір ды прымусовы ўдзел у розных абрыдлых агітацыйных мітынгах і прапагандовых лекцыях, дык жыцьцё стала немагчымым. І людзі ў роспачы казалі: “*Як-жа далей жыць?*”

З прыходам Немцаў у чырвені 1941 г. польскія элемэнты ў Ашмяншчыне, захапіўшы самаўрадавую адміністрацыю ў свае рукі й зарганізаваўшы сваю паліцыю, павялі дзікі тэрор супраць беларускага нацыянальнага актыву, удаючы Беларусаў Немцам як “камуністых”. У Смургонях і Смургонскім раёне бушавалі фольксдойч з Пазнаншчыны Вольтман[1042] і ягоны памагаты Коло. У вёсцы Шутавічы іхнай паліцыяй быў арыштаваны Вайцех Шутовіч[1043],

[1042] **Вольтман** (?–?), обер-лейтэтант, кіраўнік раённай паліцыі ў Смаргоні. Удзельнічаў у масавых забойствах габрэяў у Смаргоні.

[1043] Ёсць звесткі, што **Войцех Шутовіч** быў расстраляны на станцыі Гудагай у 1943 г.

які ніколі не вярнуўся. Хадзілі чуткі, што яго патаемна замардавалі. Быў таксама арыштаваны Юстын Мурашка, актыўны Беларус яшчэ з часоў "Нашай Нівы" й Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, каапэратыўны дзеяч, не зважаючы на тое, што ён быў у часе творанай Палякамі г. зв. "Сярэдняй Літвы" віцэ-старастам Ашмянскага павету. Пазьней, улетку 1943 г., польскія-ж тэрарысты з "Арміі Краёвай" замардавалі на Лідчыне Юльяна Саковіча, які паходзіў із заможнай сялянскай сям'і спад Крэва ў Смургонскім раёне. Калі ў восені 1941 г. у Смургоні прыехаў зь Вялейкі беларускі дзеяч Аляксандр Калодка, арганізатар беларускай паліцыі ў Вялейскай акрузе, у складзе якой былі тады Смургоні, арыштавалі і яго, але зьнішчыць яго ім не ўдалося.

Арышт Калодкі спрычыніўся да канца іхнага тэрарыстычнага самаўладзьдзя: яны самі былі на некаторы час арыштаваныя. Дзякуючы захадам Аляксандра Калодкі, у Смургонях заіснавала беларуская адміністрацыя й паліцыя: начальнікам Смургонскага раёну, бурмістрам гораду Смургоняў і камендантам паліцыі сталі Беларусы. Міравым раённым судзьдзём быў таксама Беларус, стары юрысты Стэцкевіч. Ён-жа быў і кіраўніком раённага аддзелу Беларускай Народнай Самапомачы. Ува ўсім раёне школы сталі беларускімі. У Смургонях была адноўленая, але ўжо як беларуская, сярэдняя гандлёвая школа, галоўна дзякуючы захадам мясцовага адваката Капусьцінскага[1044], які стаў ейным дырэктарам. На пачатку 1942 г. Смургоні наведаў галоўны інспэктар беларускага школьніцтва зь Менску ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі й правёў, разам зь мясцовым інспэктарам Янчуковічам, раённую настаўніцкую канфэрэнцыю. Але ўжо пад вясну 1942 г., на ўпорыстыя дамаганьні Лятувісаў, Немцы далучылі Смургоні й частку Смургонскага раёну зь гістарычным Крэвам да Генэральнага Камісарыяту Лятувы, дазволіўшы, аднак, на далейшае існаваньне беларускага школьніцтва.

Пасьля савецка-партызанскага й нямецкага тэрору, з паўторным прыходам бальшавікоў у ліпені 1944 г. цераз Смургоні, як усюды па ўсёй Беларусі, пракаціўся крывавы вал савецкага сьмершаўскага

[1044] **Канстанцін Капусцінскі** (?–?), адвакат. Закончыў Варшаўскі ўніверсітэт. Нядоўгі час працаваў ваенным следчым, але перайшоў на адвакацкую практыку і перабраўся з сям'ёй у Смаргонь. Быў вядомым гарадскім адвакатам. У часе нямецкай акупацыі дырэктар мясцовай гандлёвай школы. Пасля вайны жыў у Вільні.

тэрору. Шмат людзей было арыштавана, а яшчэ больш мужчынаў было забрана ў штрафныя батальёны на загубу на перадавых лініях фронту. Сялянства было пагалоўна загнанае гвалтам у ненавісныя прыгонныя калгасы.

Сяньня ў Смургонях, паводля Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі, налічваецца адзіннаццаць з палавінаю тысячаў жыхароў (у 1973 г.). Існуюць наступныя прадпрыемствы: лесазавод (тартак), завод масла й сухога малака, раённае аб'еднаньне Сельгастэхнікі й спэцыялізаванае аддзяленьне Сельгастэхнікі, камбінат бытавога абслугоўваньня, цэх мэблявырабаў, лясгас (прадпрыемства лясной гаспадаркі). Будуюцца камбікормавы завод і лёназавод. Ёсьць тры сярэднія школы (пэўне ўсе расейскія), школа-інтэрнат, школа рабочай моладзі, завочная школа, дзіцячая музычная й дзьве спартовыя школы, пяць дашкольных установаў, Дом Культуры, кінатэатр, тры бібліятэкі, бальніца. Ёсьць ня толькі, як водзіцца, помнік "усепрысутнага" Леніна, але і *"ўдзельніцы рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі В. К. Сінкевіч*[1045]*"* ды... нейкаму расейска-савецкаму душагубу *"чэкісту А. С. Іванову*[1046]*"*, а таксама помнік і мэмарыяльная дошка *"на ўшанаваньне памяці савецкіх воінаў, якія загінулі ў баёх за Смургоні"*.

У Смургонскім раёне, 24 кілямэтры на паўдзённы захад ад Смургоняў, ляжыць вёска Кушляны, у якой знаходзіцца дом, у якім жыў, пісаў свае творы й памёр Бацька беларускае нацыянальнае літаратуры — Франьцішак Багушэвіч.

*Уладзімер Брылеўскі*

## Доля й нядоля Ашмяны і Ашмяншчыны[1047]

Старадаўні шлях, званы гасьцінцам, а цяпер магістральная аўтамабільная дарога Менск — Вільня, пачаўшы ад Астрашыц-

[1045] **Вікторыя Сінкевіч** (1914–1939), удзельніца рэвалюцыйнага руху.

[1046] **Аляксандр Іваноў** (1924–1950), удзельнік партызанскага руху у Заходняй Беларусі ў часе нямецкай акупацыі. Быў камандзірам партызанскага аддзялення, удзельнічаў у дыверсійных аперацыях. Ад 1945 г. працаваў у Смаргонскім райаддзеле КДБ. Загінуў пры выкананні службовых абавязкаў.

[1047] Беларус. № 268. Жнівень 1979. С. 2.

кага Гарадка, ідзе ўвес час, цераз Радашкавічы, Краснае, Маладэчна, Лебедзева, Залесьсе й Смургоні, на паўночны захад. Цераз 8 кілямэтраў за Смургонямі шлях, дайшоўшы да шырокай нізіны, поймы ракі Ашмянкі, паварачвае на паўдзённы захад, у кірунку Ашмяны. Перасекшы чыгуначную лінію Менск — Вільня, якая абмінае Ашмяну, а якая дасюль ішла раўналежна із шляхам налева ад яго, ён ідзе гэтай нізінай, якая ляжыць паміж усходняй і заходняй градамі Ашмянскага ўзвышша.

Калі мы ўжо прыгадалі Ашмянскае ўзвышша, дык трэба тут сказаць пару словаў і пра яго. Пачынаецца яно спад Вільні й цягнецца маляўнічымі градамі на паўдзённы ўсход аж пад Маладэчна. Утварыліся яны, грады ўзвышша, у пэрыяд дняпроўскага лядавіка, які, адступаючы, нагарнуў іх. Найвялікшы пункт узвышша — Мілідаўская гара (320 мэтраў абсалютнай вышыні) недалёка, каля 7 клм., ад гістарычнага Крэва. Лядавік, пасоўваючыся, утварыў даліны рэк Ашмянкі, Гальшанкі й нёманскай Бярэзіны. Ашмянскае ўзвышша зьяўляецца водападзелам паміж сыстэмай Вяльлі (рака Ашмянка) і Нёману (Бярэзіна).

За 10 кілямэтраў ад Ашмяны дарога праходзіць цераз славутую вёску Жупраны, перасякаючы каля яе раку Ашмянку. У Жупранах, вёсцы ведамай яшчэ з 15-га стагодзьдзя, пахаваны Бацька беларускага нацыянальнага адраджэньня, першы нацыянальны беларускі паэта — Францішак Багушэвіч. На вясковым парахвіяльным могільніку каля касьцёлу на ягонай магіле стаіць помнік. За Жупранамі дарога лагодна падымаецца, ідучы па ўсходняй ускраіне заходняй грады Ашмянскага ўзвышша: направа ад яе цягнуцца нізкія ўзгор'і, пакрытыя палямі, якія па левым баку дарогі йдуць раўнінай. Перад Ашмяной дарога спускаецца і ізноў ідзе раўнінай аж да самага гораду, які разьлёгся ўздоўж яе ля ракі Ашмянкі.

Ашмяна — горад старадаўні, які быў ведамы ўжо ў 14-м стагодзьдзі. Першы раз ён успамінаецца ў пісаных актах з 1384–85 гадоў. А ўспамінаецца ў сувязі з тым, што тады жыхары Ашмяны пасьпяхова адбілі напад на яе нямецкіх крыжакоў, якія рабілі ў тыя часы частыя набегі на землі Вялікага Княства Літоўскага. У 1435 годзе тут былі разьбітыя Жыгімонтам Кейстутавічам[1048]

[1048] **Жыгімонт Кейстутавіч** (каля 1365 — 1440), вялікі князь літоўскі (1432–1440), сын Кейстута, брат Вітаўта.

войскі Сьвідрыгайлы[1049], сына Альгерда[1050]. У 16-м стагодзьдзі горад атрымаў магдэбурскае права. Пасьля адміністрацыйнае рэформы 1564–66 гг. Стаў цэнтрам Ашмянскага павету ў Віленскім ваяводзтве Вялікага Княства Літоўскага. Падчас паўстаньня 1794 г. супраць захопніцкай інтэрвэнцыі Расеі паўстанцы ўзялі ўладу ў Ашмяне, як і ў іншых гарадох заходняй часткі Беларусі, у свае рукі. Пасьля трэйцяга падзелу Рэчыпаспалітай у 1795 годзе Ашмяна апынілася пад расейскім панаваньнем у межах Віленскай губэрні. Аднак ашмянчукі з гэтым не пагадзіліся й ня зьмірыліся. Яны бралі ўдзел і ў пазьнейшых паўстаньнях — у Лістападаўскім (1830) і ў Студзенскім (1863–64). Вясной 1831 году Ашмянскі й сумежныя зь ім паветы былі ахопленыя паўстаньнем поўнасьцяй. Расейскі палкоўнік Вярзулін[1051], брыгада якога была кінутая на здушэньне паўстаньня ў паўночна-заходняй частцы Беларусі, вымардаваў тады ў Ашмяне 350 жыхароў. Ашмянчукі ўзялі чынны ўдзел і ў паўстаньні 1863 году.

На тэрыторыі Ашмяншчыны знаходзяцца ведамыя зь гісторыі старажытныя й славутыя мясцовасьці — Крэва, Гальшаны, Лоска.

У Крэве (цяпер у Смургонскім раёне), калішняй (у 14-м стагодзьдзі) сталіцы Крэўскага княства, знаходзяцца руіны калісь магутнага, заснаванага вялікім князем Гэдымінам[1052], замку, у якім у 1382 г. Ягайла трымаў закаванах у кайданы, схопленых ім, свайго дзядзьку Кейстута і ягонага сына Вітаўта. Вітаўту пры дапамозе сваёй жонкі ўдалося адтуль уцячы, а Кейстут, ягоны бацька, які ўсё сваё жыцьцё гэраічна змагаўся із захопніцкім Тэўтонскім ордэнам (нямецкімі крыжакамі) быў на загад Ягайлы задушаны. У Крэўскім замку ў 1385 г. Ягайла заключыў фатальную вынікамі для Вялікага Княства Літоўскага вунію з Польшчай. Як у свой час пісаў у “Беларусе” сьв. пам. Юрка Віцьбіч у сваім мастацкім нарысе

---

1049 **Свідрыгайла** (каля 1370 — 1452), вялікі князь літоўскі (1430–1432), сын Альгерда.

1050 **Альгерд** (каля 1295 — 1377), вялікі князь літоўскі (1345–1377), дзядзька Вітаўта.

1051 Маецца на ўвазе **Пётр Верзілін** (рус. *Пётр Верзилин*, 1791–1849), расійскі вайсковы дзеяч. У 1831 г. як палкоўнік і камандзір Горскага казачага палка ўдзельнічаў у задушэнні паўстання 1830–1831 гг. на тэрыторыі Беларусі і Польшчы, за што быў узнагароджаны ордэнам Св. Станіслава II ступені і знакам Virtuti Militari III ступені.

1052 **Гедзімін** (1275–1341), вялікі князь літоўскі (1316–1341).

пра Крэва, “Ахутаная гулам гарматнім Літва”[1053]: *“І гэта, магчыма, тут, у тэй-жа самай вялікай вежы закладзены падмурак пагібелі Вялікага Княства Літоўскага, якое перад тым усё больш і больш набывала беларускую апрычонасьць”*.

Гальшаны, якія першы раз успамінаюцца ў гістарычных дакумэнтах з 13-га стагодзьдзя, былі ў 14–15-м стагодзьдзях цэнтрам удзельнага княства й сядзібай слыннага роду князёў Гальшанскіх. Князь Іван Альгімунтавіч Гальшанскі[1054], прыхільнік вялікага князя Вітаўта, быў ягоным намесьнікам у Кіеве. Сын Івана, Сымон[1055], быў намесьнікам Вітаўта ў Ноўгарадзе. Другі сын Івана, Міхал[1056], намесьнік вялікага князя ў Кіеве з 1422 году, быў прыхільнікам незалежнасьці Вялікага Княства Літоўскага ад Польшчы. Ён у 1433 г., будучы ваяводам Сьвідрыгайлы, брата Ягайлы, які пасьля сьмерці Вітаўта стаў вялікім князем, разьбіў пад Маладэчнам задзіночаныя з польскімі войскі князя Жыгімонта Кейстутавіча. Сонька Гальшанская[1057], выйшаўшы замуж за Ягайлу (яна была ягонай чацьвёртай жонкай), сталася польскай каралевай — заснавальніцай дынастыі Ягялёнаў. Іншая князёўна Гальшанская, Ульляна[1058], была другой жонкай Вітаўта. Род князёў Гальшанскіх вымер у 1556 годзе. У Гальшанах часткова захаваўся пабудаваны ў першай палове 17-га стагодзьдзя князем Паўлам Сапегам[1059], тагачасным собсьнікам Гальшанаў, замак-палац. Ім-жа пабудаваны там і велічны францішканскі барочны касьцёл.

---

[1053] Маецца на ўвазе публікацыя: Віцьбіч, Юрка. Ахутаная гулам гарматнім Літва // Беларус. № 188. Сьнежань 1972. С. 3–4.

[1054] **Іван Гальшанскі** (?–1401), князь, адзін з найбліжэйшых паплечнікаў вялікага князя Вітаўта. Намеснік вялікага князя ў Кіеве ад 1397 г.

[1055] **Сямён Гальшанскі Люты** (каля 1370 — 1433), князь. Каля 1420 г. быў намеснікам вялікага князя ў Ноўгарадзе Вялікім. Актыўны ўдзельнік барацьбы Жыгімонта і Свідрыгайлы за ўладу ў Вялікім Княстве Літоўскім.

[1056] **Міхаіл Гальшанскі** (?–1433), князь. Каля 1422 г. быў намеснікам вялікага князя ў Кіеве. Актыўны ўдзельнік барацьбы Жыгімонта і Свідрыгайлы за ўладу ў Вялікім Княстве Літоўскім.

[1057] **Соф’я Гальшанская** (1405–1461), князёўна з роду Гальшанскіх, каралева польская з 1422 г., апошняя жонка караля Уладзіслава II Ягайлы.

[1058] **Ульяна Гальшанская** (1375–1448), князёўна з роду Гальшанскіх, другая жонка князя Вітаўта ад 1418 г.

[1059] Магчыма, маецца на ўвазе **Павел Францішак Сапега** (1657–1715), дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага. У 1704–1713 гг. сакратар вялікі літоўскі. У 1715 г. біскуп Жамойцкі.

У нашыя часы Ашмяншчына спарадзіла такіх выдатных Беларусаў, дзеячоў беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху, як: ксёндз Адам Станкевіч, ксёндз Віктар Шутовіч, др. Янка Станкевіч, Янка Шутовіч, ксёндз Язэп Гэрмановіч (паэта й пісьменьнік Вінцук Адважны), др. Станіслаў Станкевіч — галоўны рэдактар нашае газэты “Беларус”, Антон Шукелойць[1060] — старшыня Галоўнае Ўправы БАЗА і іншыя. Усім прыйшлося сустрэцца з варожым процідзеяньнем польскіх уладаў, а некаторым зь іх і быць спачатку імі, а пазьней расейска-бальшавіцкімі ўладамі перасьледаванымі. Кс. Адам Станкевіч, ведамы беларускі грамадзка-палітычны й рэлігійны дзеяч, памёр у канцэнтрацыйным савецкім лягеры ў Сібіры.

З прыходам Немцаў падчас Другой сусьветнай вайны польскія шавіністыя захапілі ў Ашмяншчыне адміністрацыйную ўладу ў свае рукі й, зарганізаваўшы сваю паліцыю, павялі дзікі тэрор ня толькі супраць беларускага нацыянальнага актыву, але й наагул супраць нацыянальна сьведамых Беларусаў. Яны замардавалі роднага брата ксяндза Адама Станкевіча Валентага зь вёскі Арляняты Крэўскай воласьці.

Увосень 1941 г. у Ашмяне й Ашмянскім раёне заіснавала беларуская самаўрадавая адміністрацыя з начальнікам раёну Юстынам Мурашкам на чале. Пачалі працаваць беларускія пачатковыя школы. Памятаю, як прыемна было ніжэй падпісанаму, запрошанаму начальнікам раёну на ўрачыстае сьвяткаваньне 24-х угодкаў Акту 25 Сакавіка ў Ашмяне, бачыць поўную залю прысутных, а перадусім вучняў мясцовай беларускай школы ў поўным складзе, на Акадэміі,

---

1060 **Антон Шукелойць** (1915–2017), грамадска-культурны дзеяч. Ад 1939 г. працаваў у сістэме адукацыі, у тым ліку інспектарам-метадыстам Ашмянскага раёна, займаўся адкрыццём беларускіх школ. Ад 1940 г. быў дэпутатам Ашмянскага гарадскога савета. 23 чэрвеня 1941 г. арыштаваны НКУС і пасаджаны ў менскую турму. Пры пераводзе ў турму ў м. Крупкі змог вызваліцца. Працаваў у гарадской адміністрацыі Менска, адказваў за захаванне гістарычных і архітэктурных помнікаў. Ад канца жніўня 1941 г. прызначаны дырэктарам Менскага гістарычнага музея, пазней таксама загадваў аддзелам Беларускага культурнага згуртавання. Ад лютага 1944 г. працаваў у аддзеле краязнаўства і музеяў пры БЦР. Ад ліпеня 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне працаваў у гаспадарцы баварскага баўэра. Па вайне два гады вывучаў археалогію ва ўніверсітэце *UNRRA* і Вольным украінскім універсітэце ў Мюнхене. У 1952 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Нью-Ёрку. Быў сябрам Беларуска-Амерыканскага задзіночання, уваходзіў у кіраўніцтва Нью-Ёркскага аддзела, а таксама ад 1975 г. быў старшынёй Галоўнай управы арганізацыі.

падчас якой зьмястоўны даклад прачытаў Марыян Пяцюкевіч[1061], які быў у той час у Ашмяне раённым школьным інспэктарам.

Пераважаючая бальшыня насельніцтва Ашмяншчыны — рыма-каталікі. Гэтая акалічнасьць паслужыла "асновай" нейкаму ігнаранту, польскаму ксяндзу, які хаваецца пад псэўданімам Я. Мірскі, напісаць у свой час у гэткім паважным польскім часапісе, як парыская "Культура"[1062], бязглузьдзіцу, што Ашмяншчына зьяўляецца *"амаль этнічна чыстай польскай часткай Віленшчыны"*.

Пасьля далучэньня Ашмяншчыны Немцамі да Генэральнага Камісарыяту Лятувы польскі тэрор узнавіўся ў большым маштабе. Рыскалі банды польскіх партызанаў. Улетку 1943 г. польскія тэрарысты замардавалі ў Крэве праваслаўнага сьвятара, актыўнага нацыянальнага Беларуса Міхаіла Леванчука[1063] і ягоную дачку Ларысу[1064] разам з зь ягонай пляменьніцай зь Менску. Абедзьве яны былі настаўніцамі ў мясцовай беларускай школе. Яны-ж, польскія тэрарысты, замардавалі ў гэным годзе праваслаўнага сьвятара ў Трабах. У гэным часе яны вымардавалі ў Крэўскай воласьці й сваякоў Юльяна Саковіча, замардаванага імі коратка перад гэтым на Лідчыне. У старажытных Гальшанах Палякі вясной 1944 г. атруцілі ашмянскага праваслаўнага благачыннага (дзекана) старога пратаярэя Ўладзімера Юзьзюка[1065], які карыстаўся сярод жыхарства пашанай і аўтарытэтам. Аб ім піша Я. Малецкі ў сваёй кнізе "Пад знакам Пагоні"[1066]. Як ведама, польскія партызаны г. зв. "Арміі

---

1061 **Марыян Пецюкевіч** (1904–1983), этнограф, грамадскі дзеяч, публіцыст. У 1930-я гг. вучыўся ў Віленскім універсітэце, працаваў у бібліятэцы Інстытута Усходняй Еўропы (цяпер Бібліятэка Урублеўскіх).

1062 "***Kultura***" — польскі эміграцыйны штомесячны часопіс, што выдаваўся ў 1947–2000 гг. спачатку ў Рыме, а потым у Парыжы. Заснавальнік і галоўны рэдактар — Ежы Гедройц (1906–2000).

1063 **Міхаіл Леванчук** (1888–1944), праваслаўны святар. Быў святаром у Крэве. У часе нямецкай акупацыі дамогся адкрыцця беларускай школы. Забіты партызанамі Арміі Краёвай.

1064 **Ларыса Леванчук** (1922–1944), дачка святара Міхаіла Леванчука, якая працавала ў адкрытай ім школе. Была забітая разам з бацькам.

1065 Магчыма, маецца на ўвазе **Уладзімір Юзвюк** (1868–?), праваслаўны святар. Дэпутат IV Дзяржаўнай думы ад Віленскай губерні, заснавальнік і кіраўнік віленскага аддзялення Саюза рускага народа.

1066 Маецца на ўвазе выданне: Малецкі, Язэп. Пад знакам Пагоні: успаміны. Таронта, 1976.

Краёвай”[1067] у заходніх акругах Беларусі, якія быццам змагаліся побач із савецкімі партызанамі супраць нямецкіх акупантаў, з часам перайшлі на іхны бок. Немцы пачалі даваць ім аружжа, амуніцыю й навет правіянт дзеля змаганьня із савецкімі партызанамі. Але яны ў запраўднасьці ня толькі змагаліся супраць іх, колькі зьнішчалі мясцовы беларускі нацыянальны актыў.

Сёньня ў Ашмяне, паводля Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі, на цэнтральнай вуліцы — Савецкай — гандлёвабытавыя прадпрыемствы і асноўныя навучальныя й культурныя ўстановы: дзьве сярэднія школы, школа работніцкай моладзі, сярэдняя школа-інтэрнат, музычная й дзіцячая спартовыя школы, тры дашкольныя ўстановы, сельска-гаспадарскі тэхнікум, сельскае прафэсыянальна-тэхнічнае вучылішча. Гэта даволі шмат, калі ўзяць пад увагу, што перад апошняй вайной у Ашмяне былі адно польская гімназія й сямігадовая пачатковая школа. Апрача гэтага, у Ашмяне ёсьць: дом культуры, кінатэатр, чатыры бібліятэкі, бальніца, турма і Ашмянскі краяведны музэй імя Франьцішка Багушэвіча. Думаецца аднак, што сэрца паэты, калі-б ён жыў сяньня, зусім ня цешылася-б з усяго гэтага, а наадварот — сьціскалася-б ад болю, бо амаль усе гэтыя ўстановы — расейскія, а не беларускія. І ўся Беларусь, як і за часоў Багушэвіча, — паняволеная Масквой.

---

[1067] **Армія Краёва (АК)** — польскія антыфашысцкія і антысавецкія падпольныя ўзброеныя фармаванні часоў Другой сусветнай вайны.

*Пётра Сыч*

## Лёрэтанскія званы[1068]

...Андрэй яшчэ раз падхапіўся і, прабегшы пару крокаў, рынуўся ў якісь равок. Была апошняя хвіліна, бо зараз-жа над ім загудзеў густы рой валавяных чмялёў. Цэлым пеклам нячысьцікаў завыла сэрыя нэбэльвэрфэраў[1069]. Андрэй зрабіўся плоскі, як блін, і ўсёй сілай мускулаў хацеў уліпнуць у зямлю. Як-жа ён хацеў, хаб зь цела карэньні ўрасьлі ў сьцюдзёны грунт! Каб ня трэба было падымацца, каб ня чуць гэтага сьвісту, выцьця і трэску.

Ён баяўся, як і ўсе, бо няма такіх, што не баяцца сьмерці, залежыць толькі, як хто можа дзяржаць свае нэрвы ў руках, ад яго пачуцьця абавязку, эмацыянальнага стану. Ужо самая сьведамасьць фізычнага болю, калі зялеза будзе разрываць жывое цела — пужае дастаткова.

Такая зялёная, сьвежая трава ў раўку! Яшчэ навет сонца ня выпіла ўсей расы — так прыемна студзіць заліты потам твар! Ах, каб можна было цяпер заснуць! А трэба ісьці, падымаць жаўнераў, бо пакуль ён ляжыць, яны ня пойдуць. Трэба іх весьці ўперад, туды, дзе за насыпам у кустох злосна кашляе і плюе волавам спандаў[1070] і некалькі шмайсэраў[1071].

На беразе раўка крывавіцца некалькі красак маку; рупны чмель увіхаецца на іх, як працавіты селянін на сваей гаспадарцы, і бубніць ціхенька. Яго вайна ня цікавіць, а валавяныя чмялі ня пужаюць. Вінаградная лаза чапляецца простага пня морвы, як кволая

---

[1068] Бацькаўшчына. № 4–5 (234–235). 30 студзеня 1955. Літаратурны дадатак. С. 4.

[1069] ***Nebelwerfer*** (ням.) — нямецкая рэактыўная сістэма залпавага агню часу Другой сусветнай вайны.

[1070] ***Spandau*** (ням.) — іншая назва нямецкага станкавага кулямёта *MG 08,* які вырабляўся ў Нямеччыне ад 1908 г. і асабліва папулярны быў падчас Першай сусветнай вайны.

[1071] **Шмайсер** — простанародная назва пісталета-кулямёта *MP 38, MP 38/40, MP 40,* распрацаванага фірмай ERMA ў 1930-я гг. Гэтая зброя не мела дачынення да вырабаў канструктара зброі Хуга Шмайсера.

дзяўчына апіраецца на моцным плячы дзяцюка. Зьверху — эмалія неба і пякучае, ліпнёвае сонца.

Каб ня гэта сьмерць, што гудзіць над галавой!

З-з-з! — сэрыя волава загудзела так нізка над зямлёй, што аж краскі маку закалыхаліся мацней, а чмель, адарваўшыся ад іх, забурчэў злосна.

Нехта ззаду заенчыў страшна, другі нехта крыкнуў: *“Санітары!”*

Ах, яшчэ на хвілінку прылажыць галаву да сьвежай травы! На кароткую хвіліну, напрыклад, пакуль далічыць да пяці, а пасьля бегчы ўперад...

*— Не, трэба падыймацца. Задоўга ляжу...*

Левую нагу падцягнуў пад грудзі, правай моцна ўпёрся ў зямлю, каб мацней адбіцца і шпарчэй скочыць.

Раптам недзе здалёку справа даляцела стройная мэлёдыя званоў. Андрэй аглянуўся. Далёка, на высокім узгорку, на эмаляваным фоне неба сінеўся рэнэсансовы купал, а на ім постаць жанчыны. Ніжэй, паміж двума ўзгоркамі, блішчэў Адрыятык.

Дзіўны, быццам-бы з гэтага сьвету, супакой, мэлёдыяй званоў расходзіўся ад гэнага купала з статуяй Добрай Маткі на шчыце. Андрэй загледзіўся ачараваны. Гэта нешта знаёмае, дзесьці бачанае. Калісь даўно на якімсь малюнку. Але дзе? Што гэта? Што гэта? Змучаны маршамі і акцыяй, ён мала зьвяртаў увагі, дзе ён быў. Дык цяпер кінуў вокам на карту: вось тут аб’ект, які ён мае здабываць, тут кірунак наступленьня, а што там на права?

Маленькія літаркі надпісу выкрычалі яму слова, знанае мільёнам сэрцаў і ў мільёнах сэрцаў знаходзячае водгук:

Лёрэто!

Дык гэта-ж слаўнае, цудоўнае Лёрэто!

І у тэй-жа хвіліне перад вачамі зьявіліся даўно забытыя вобразы, якія нат’ ужо перасталі сьніцца ў гэтай бязьмежнай валацузе: вясковы, дзеравяны касьцёл паміж аграмадных ясеняў і таполяў. Вечаровыя багаслужбы ў траўні. У касьцёле пахне бэз, воск і кадзіла; у вячорную цёплую вусьціш вырываецца нястройны, але натхнёны і шчыры сьпеў вернікаў:

*“...Аздараўленьне хворых,*
*Прыпынішча грэшных,*
*Пацеха сумных*
*Маліся за нас!..”*

I:

*“Тваей абароне аддаемся!..”*

Лёрэтанская літанія.

Пасьля: за зубатай чорнай сьцяной лесу тухнуць апошнія зоры. Вечар ап’яняе водарам бэзу і салаўінай песьняй. І душа, перапоўненая першым каханьнем і надзеяй шчасьця, пяець натхнёны гымн моладасьці і Залатавалосай Казцы...

Андрэй глядзеў у захапленьні на купал цудоўнай сьвятыні, а вусны нясьведама, у такт званоў, шапталі даўно забытыя словы малітвы.

Новая артылерыйская кананада прыклікала яго да рэчаіснасьці.

— *Божа! Я задоўга ляжу. Трэба ўперад!*

А да насыпу, адкуль плююць волавам скарастрэлы, яшчэ больш ста мэтраў чыстым полем. Гэта сьмерць. А трэба. Абавязак!

Зноў прыгатаваўся скочыць і ўжо зьбіраўся крыкнуць: *“За мной, наперад!”* — раптам ззаду голас радыстага: *“Затрымацца!”* Зараз пачуўся глухі нарастаючы грукат.

Андрэй азірнуўся і аж крыкнуў з радасьці: на падмогу прыціснутай густым агнём пяхоце ішлі танкі. Церазь некалькі хвілін страшны раскудахтаны скарастрэламі вал замоўк.

Толькі справа расходзілася стройная, мяккая музыка Лёрэтанскіх званоў...

*Пётра Сыч*

## Чатырнаццаць Калядаў на чужыне

Успаміны[1072]

Карспляц[1073] раве гістэрычна какафоніяй нэонаў. Натоўпы людзей таўкуцца ў карытах вуліц, месячы і мяшаючы з балотам бязупынку падаючы сьнег. Кажны сьпяшаецца ўсхваляваны, аб’ючаны

---

1072 Бацькаўшчына. № 50–51 (181–182). 25 сьнежаня 1953. Літаратурны дадатак. С. 6–7; № 3 (185). 17 студзеня 1954. С. 3; № 4–5 (186–187). 31 студзеня 1954. Літаратурны дадатак. С. 7.

1073 ***Karlsplatz*** (ням.) — **Карлава плошча**, адна з найбуйнейшых плошчаў у цэнтры Мюнхена.

пакункамі. Прапіхаючыся цераз натоўп і бачучы, што людзі нясуць ялінкі і якіясь бліскучыя фінціклюшкі для ўпрыгожваньня гэных дрэўцаў, я толькі цяпер прыпомніў, што набліжаюцца Калядныя Сьвяты. І ўспомніўшы, прыпомніў, што калісь і я перажываў гэта — тады, калі меў свой дом, сям'ю і... Каляды...

Калі-ж гэта ўсё было? Так даўно, што аж здаецца няпраўда...

14 гадоў... У дачыненьні да вечнасьці, гэта дробязь, капля ў акіяне, зярнё пяску на Сахары, але ў жыцьці чалавека... Тымбольш што гэтае жыцьцё толькі адно...

Дзікі боль журбы запусьціў войстрыя кіпці ў сэрца. Пачуўся такі адзінокі, як-бы заблудзіўся ў бязьмежнай тайзе. Так я зажадаў вырвацца з гэтага раскрычанага, чужога натоўпу.

Быццам-бы як калісьці ў нас: белы рой сьняжынак круціцца ў паветры і ціхенька засыпае лябірынты дарожак у *Englischer Garten*[1074]. Тут зімой, ды яшчэ ў зьмярканьне можна блудзіць цэлыя гадзіны, не спатыкаючы чалавека і ня чуючы гарадзкога шуму. І тут я ў цішыні ды пустцы парку правандраваў думкамі па ўсіх дарогах чатырнаццацігадовай бяздомнай валацугі. На экране памяці, як жывыя, замітусіліся вобразы краін, людзей, здарэньняў, перажываньняў...

1939. ВЯЛЕЙСКАЯ ТУРМА

Першы раз у жыцьці дзень 24 сьнежаня прайшоў спакойна: ніхто не загадваў цёрці маку, бегчы купляць цукар ці насіць дровы.

Нашая 21 камэра — свайго роду дэмакратычная рэспубліка: усе нутраныя праблемы паддаюцца пад агульную дыскусію і вырашаюцца бальшынёй галасоў. Сяньня бальшыня пастанавіла ляжаць цэлы дзень на нарах. Дык і ляжым спрасаваныя, як селядцы ў бочцы. Пачынаюцца гутаркі на кулінарныя тэмы: якія стравы прыгатаўляліся на Куцьцю, колькі дзён мусіў вісець застрэлены заяц, каб "скрушэў", якім соўсам паліваць смажаную качку і г. д. Наагул кулінарныя тэмы — найпапулярнейшыя сярод галодных вязьняў.

Самаабман няшкодны, — але ня вельмі прыемны... Цераз завешаныя дзераўлянымі кашамі вокны зімовы дзень цадзіў мутнае сьвятло, якое чуць-чуць забельвала згушчаны смурод камэры. Хвіліны паўзьлі, як спаралізаваная чарапаха або вошы за

[1074] ***Englischer Garten*** (ням.) — **Англійскі сад**, ці **Англійскі парк**, у Мюнхене, адзін з найбуйнейшых гарадскіх паркаў у свеце. Створаны ў 1792 г.

каўняром. Напасьледак недзе згас яшчэ адзін для нас няперажыты дзень. На калідоры загрукаталі катлы і сорак восем чалавек хутка сарваліся зь бярлогаў. Апалонік мутнай цёплай вады, у якой плаваюць кускі мерзлай бручкі — вячэра. Хто болей ашчадны, выцягвае з пад сяньніка закручаны ў ганучку ці хустачку кусок чорнага, як зямля, хлеба, які заашчадзіў з раньняга пайка на вячэру. Куцьця!

Вячэра прайшла бяз слова. Углядаючыся ў твары сувязьняў, бачу глыбокі цень суму ў упадзінах вачэй, з грудзей вырываецца цяжкі ўздох. Не адзін сьлязьмі дасаліў нясоленую зупу...

Пасьля вячэры старшыня камэры запрапанаваў:

*— А цяпер, сябры, давайце зробім паляваньне. Заўсёды на Куцьцю паны мелі звычай паляваць з нагонкай.*

Гэта штодзённая, усімі ўстаноўленая, усіх абавязуючая “паўгадзіна гігіены”. Кажны сьцягвае зь сябе рызманы, імітуючыя бялізну, і пачынаецца паляваньне. На недахоп зьвярыны наракаць ня можна, і кажны паляўнічы мае “на раскладзе” шматлікія трафэі.

У камэру ўбягае стражнік з паперкай у руках:

*— Хто на літару “ы”?*

*— На “ы”? Хіба на “і”...*

*— Усёроўна, хай на “і”. Хто?*

*— Іваніцкі. Інглёт...*

Стражнік круціць галавой, напасьледак пакрывае нас густым матам і выходзіць. Церазь некалькі хвілін вяртаецца і, паказваючы ня мяне:

*— Цябе як завуць?*

Кажу сваё прозьвішча.

*— Дык што-ж ты такі ды гэтакі не адклікаешся, калі я пытаю?*

*— Бо ты пытаеш на “ы”, а я на “с”, а толькі другая літара “ы”...*

*— Тут табе не акадэмія, дык і без навуковых дысэртацыяў! Давай на дапрос!*

Да гэтага часу я хадзіў на сьледзтва даволі ахвотна. Мой сьледчы быў чалавек зусім культурны, мацюжыў у меру, ня біў ніколі ды даваў курыць добрыя папяросы. Здаецца, штодзень-бы хадзіў — толькі дзеля гэных папяросаў.

Таму хуценька нацягнуўшы на плечы вашывую сарочку, я быў гатоў і, паводле рэгуляміну, залажыўшы рукі назад, чакаў ля дзьвярэй. На калідоры стражнік перадаў мяне байцу. Той зарэцытаваў мне добра ведамую формулу перадасьцярогі, якую мы, крыху пе-

ракручваючы, травэставалі: *“Крок улева — правакацыя, крок управа — агітацыя, крок уперад — буду лічыць пабегам і ўжыву аружжа. Давай уперад!”*

Пярвей я быў апытаваны ў сьледчым аддзеле турмы, цяпер-жа баец загадаў мне ісьці за вароты. Тры месяцы ня быў я на дварэ, дык цяпер, хапіўшы сьвежага марознага паветра — упіўся. Сярдзіты мароз кінуўся на мяне быццам ліхі зьвер. Паветра было, як сярэбраны звон, сьнег скрыпеў пад нагамі, а гэты скрып будзіў сваё рэха пад глыбокім, набітым зорамі, скляпеньнем. На вуліцы ня было жывога чалавека, толькі ў дамох вялікія, незакратаваныя вокны былі поўныя сьвятла, у іх прастакутніках прасоўваліся цені, можа накрывалі стол на куцьцю... Вунь там з боку знаёмы дом і ў вакне мітусіцца сьцень — можа Лена...

Улучаем з байцом шпарчэйшы ход, бо мароз, як сабака, скубець за цела. Вось і будынак сьледчай установы.

Сьледчы мой сяньня не ў настроі. Зь месца глушыць мяне абшырным лексыконам адборных расейскіх камплімэнтаў. За мной становіцца нейкі тып, выгляд якога ўзбуджае фізычную пашану: здаравенны дзяціна з даўжэзнымі рукамі, закончанымі кулакамі, кажны з добрую булку хлеба. Сьвіныя вочкі міргаюць пасьвіному абыякава. Лёгка было дадумацца, што зь інтэлігенцыяй хлапец нічога ня меў супольнага і ня прысутнічаў, каб мяне дапытваць. Яшчэ раз глянуў я на яго кулакі і мае гадунцы за каўняром захадзілі неспакойна. Папробваў я падкуць салодкай усьмешкай гэнага гарыла, але твар яго быў быццам каменнага Сфінкса, толькі вочкі міргалі пасьвіному.

— *Гэта балдавешка адкоціць мне сяньня Куцьцю. Хіба на бублік сатрэць...* — прышла мне ў галаву невясёлая думка.

Але ня было часу аддавацца мэдытацыям, бо сьледчы Максіменка гнуў аднаго мацюга за другім. Нашая канвэрсацыя была выняткова кароткая: ён быў зашмат цікавы, а я ніяк ня мог гэнай цікавасьці задаволіць.

Яшчэ ён раз праехаўся ўздоўж і ўпоперак па матушцы-Расеі, што я пакорна выслухаў. Пасьля ён зашыпеў:

— *Дык ня скажаш? Чуў Іван?!*

Пакуль я здолеў дадумацца, што цяпер наступіць — Іван вухнуў...

Цэлы рой зорак — толькі ня Бэтлеемскіх — быццам-бы камары мак затаўклі, замітусіўся ў маіх вачох і я клясычным краўлем сплыў

з крэсла на падлогу. Адылі ня доўга там аставаўся, бо Іван падняў мяне, як шчанюка, за каўнер і пасадзіў на крэсьле.

— *Ну, можа цяпер будзеш толкам гаварыць?* — паінфармаваўся Максіменка.

Я хацеў штосьці адказаць, але, замест слоў, з роту выляцелі два зубы.

— *Гэта пачатак, увэртура, а канцэрт я яшчэ табе дам! Іван, адаслаць яго ў камэру!*

— *Як на увэртуру, зусім хлёстка!* — думаў я, выходзячы з кабінэту, папіханы ўслужным Іванам. — *О, гадзіны! І гэта ў ноч паяднаньня й прабачэньня!.. Вот табе et in terram pax hominibus bonem voluntatis*[1075]*...*

Баец, які мяне чакаў, глянуўшы на мой франтон, ухмыльнуўся:

— *Здорава! Ну нічога, жыць будзеш, толькі...*

Далейшая частка сэнтэнцыі была менш пацяшаючая. Канвойны ведаў, што ў такіх выпадках рабіць: завёў мяне ў нейкую каморку і пасадзіў над чэрапам, каб адхаркаўся.

Па дарозе ў турму неяк мяне дзіўна сьцягвала на правы бок, быццам параплаў наладаваны нераўнамерна на адзін борт.

— *Нічога, наступны раз атрымаю на другі бок і будзе раўнавага,* — пацяшаў я сябе.

Бо чым іншым мог пацяшацца?..

## 1940. БАЛЬНІЦА Ў ЛЯГЕРЫ ЛЯ ВАРКУТЫ

Паўтарагадзінны дзень прасунуўся незаўважна і, ня прынёсшы ніякіх уражаньняў, распоўзься ў сутоньнях тайгі. Каляровыя істужкі палярнай зары замітусіліся на небе. Мароз даціскаў 40 градусаў.

У залі, дзе ляжалі цяжэй хворыя нашы людзі, сабраліся мы ўсе, каторыя маглі хадзіць, каб супольна правесьці гэты ўрачысты вечар. Хтось прывалок з двара ялінку. І дзіва! Кажны з нас меў найменшы тэрмін 8 гадоў лягераў, але бязь ценя шаблёну ці позы жадалі адзін другому, каб наступную Куцьцю праводзіў на волі. Хаця ў сьвеце нічога на гэта не паказвала, у нас была нейкая вера, што нешта мусіць здарыцца, перамяніцца. Сьмерць, якая люта кінулася на нас зь першых дзён прыезду ў лягер, прытупіла сваю касу. Мы пачалі акліматызоўвацца і адчулі, што перажывём...

[1075] ***Et in terra pax hominibus bonem voluntatis*** (лац.) — *“А на зямлі супакой людзям добрай волі”* — словы з хрысціянскага гімна “*Gloria in excelsis Deo*”.

Пасьля паўголасам сьпявалі каляднія песьні. Настрой быў паважны, але ня журботны.

Расейцы, якія ня мелі ўяўленьня аб гэтых сьвятах, глядзелі на нас зьдзіўленыя, але ніводзін не закпіў. Толькі Белой, заядлы камуніст, які адыёзна ненавідзеў усяго заходняга, гаркнуў:

— *Паразіты! Сухапутныя піраты! Буржуйскія забабоны адкалываюць!*

Але іншыя аблажылі яго дваццаціпавярховым матам і ён дэманстрацыйна адвярнуўся да сьцяны.

З найбольшым зьдзіўленьнем глядзела на нас дзяжурная сястра Паліна. Хаця яна не разумела зьместу, яе субтэльная жаночая душа інтуіцыйна вычула, што тут дзеецца нешта няштодзённае. Калі мы пачалі разыходзіцца, яна затрымала мяне на калідоры:

— *Вы сумныя?*

— *Вельмі! Цяжка мне перажываць гэту ноч тут і аднаму...*

Я больш прыкінуўся, чым было ўзапраўды.

— *Вы ня можаце ўпадаць у дэпрэсію. Хадзіце, памажыце мне мерыць хворым тэмпэратуру і разносіць лякарствы, а пасьля раскажыце мне пра сяньняшнюю ноч...*

*

— *Так!* — сказала яна недзе пасьля поўначы. — *Гэта было штось чароўнае. Хай навет легенда, міт, але прыгожы, якога другога я ня чула. Прамэтэйскаму да яго далёка...*

*

Золак дня застаў нас яшчэ ў дзяжурцы. Жыцьцё і моладасьць тут таксама мусілі сказаць сваё слова і жадаць сваіх правоў...

Так у жудасным савецкім лягеры, пад марозным, разьзіхацелым палярнымі зорамі небам завязалася гарачая, шчырая прыязьнь, якая мела пераможна прайсьці ўсе цяжкія пробы нявольнага жыцьця, зрасіць балючай сьлязой дэкрэт, які прыносіў мне волю, і застацца чароўным успамінам на ўсе часы...

1941. КАЛГАС ПАД САМАРКАНДАЙ (УЗБЭКІСТАН)

На каго Гэра, на таго і ўсякая халера...

Не памагло нам, што мы зь першым сьняжком на Варкуце, 28 верасьня, з “амнэстыйнымі” дэкрэтамі ў кішані, уцяклі з паўночнай

тайгі аж да падножжа Паміру — зіма дагнала нас і там. 20 градусаў марозу ў Узбэкістане — нешта ня штодзённае. Холад упіваецца ў нашы, скурай абцягнутыя, косьці, вострымі клыкамі, а лягерныя ватаваныя рызманы — раздольле вашэй, не ратуюць ад яго зубоў.

Савецкая ўлада адаслала нас з Ташкенту на работы ў калгасах: там маем чакаць на прыезд польскай арміі з Тоцкага і Бузулуку, якую перакідаюць у Узбэкістан. Узбэкі далі нам маленькі хляўчук на памешканьне. Некалькі ахапкаў саломы — цэлае ўмэбляваньне. Ізь сьцяны вынулі адну цагліну, каб упусьціць крыху сьвятла і паветра.

Пакуль была работа ў полі і мы хадзілі зьбіраць хлапок ды капаць бульбу, калгас даваў на рыла па 600 грамаў хлеба, бульбы ды крыху заправаў, як солі, цыбулі, лою і іншых. Апрача таго Узбэк, у якога хтось працаваў, таксама, часамі падкарміў... Але цяпер, як работы ня стала, атрымоўваем толькі 300 грамаў джугары[1076], якую мусім малоць у жорнах і з гэтага кажны з нас два разы ў дзень варыць сабе зацірку. Гэта ўсё. Скардзіліся старшыні калгасу, што галадаем, але той адказаў нам савецкай прыказкай у ўзбэцкім жаргоне: *“Ты не работаць, ты мало кушаць”...*

Прабавалі ляпіць у праснакі бітае шкло, ды падкідаць козам ці авечкам: некалькі здохла. — Мелі баль, бо Узбэкі дохлага або хворага не ядуць. Але як гэта пачало паўтарацца зачаста — схамянуліся і загразілі нам, што нас аддадуць у НКВД. Упалявалі пару сабак. Цяжка праходзілі цераз глытаўку, але голад ня цётка. Зноў паўсталі авантуры, бо Узбэк, бадай, лягчэй сьцярпеў-бы, каб яму забілі жонку, чымсьці сабаку ці каня.

Цяпер нас 20 чалавек сядзіць сьціснутых у цесным хляўчуку, кішкі гаркаюць, зубы ляскочуць, злосьць спаганяем на вашох. Вошы — стыхія! Ня ведама, скуль плывуць, як паводка — амаль заліваюць.

Я хаджу маляваць Узбэкам партрэты, за што яны плацяць емінай. Некаторыя плятуць нашы беларускія кошыкі — таксама за праснакі. Гэтак маем змогу ўтрымоўваць некалькі слабых і хворых.

Паміж нас, жыхароў узбэцкага хлява, недалёка ад гробу Тамэрляна[1077] — цэлая мазаіка тыпаў, шырокі маштаб клясаў і сацы-

---

[1076] **Джугара** — від сорга, збожжавая расліна, што вырошчвалася ў савецкі час у Сярэдняй Азіі.

[1077] Відаць, маецца на ўвазе **Гур-Эмір** — маўзалей сярэднеазіяцкага дзяржаўнага дзеяча і заваёўніка Тамерлана (1336–1405) у Самаркандзе.

яльных паходжаньняў: быўшыя абшарнікі, ахвіцэры, паліцыянты, урадоўцы, прафэсары. Але найбольш сялян — на шчасьце, бо гэта найболей спрытны, зарадны і вытрымалы элемэнт. Узбэкі аж цмокаюць з захапленьня бачучы беларускага дзядзьку пры рабоце: сякера ці чэкмэн, молат ці каса — зьмяняецца ў пярун у яго руках. Нашы кошыкі з лазы Узбэкі бачылі першы раз, увесь калгас зышоўся дзівіцца як на цуд. Цяпер заказаў — хоць разарвіся, толькі лазы не хапае.

Ня гледзячы на розьніцу паходжаньняў, сярод нас няма антаганізмаў ні ненавісьці. Савецкі бізун — ідэяльны штрыхулец, зраўняў усіх. Панская вош ссала мужыка, мужыцкая даіла пана, а цераз вашэй кроў мяшалася...

На куцьцю я скончыў маляваць Узбэку партрэт яго сына, каторы цяпер на вайне. Да двух мэдаляў, якія былі на фатаграфіі, я зь лёгкай рукі, ад сябе, дамаляваў яшчэ пяць. Убачыўшы такога гэроя, старыя аж прыселі з захапленьня. Абдзялілі мяне праснакамі, лоем, кішмішам, што ледзь дамоў давалок. Была багатая куцьця, чуць ня баль. У лоі смажылі праснакі, заместа агіднай заціркі з джугары, варылі кампот з сушанага уруку і кішмішу. Рыгор, дзядзька з пад Баранавіч, добра прадаў кошыкі і навет прынёс кубак мёду. Адразу пашоў да хворага Б., калісь собсьніка трох маёнткаў і адліў яму палавіну нэктару, кажучы лагодна:

— *Еш, панок, мажа калісь, як буду ісьці цераз твае лугі, ты мне палкай адудзячысься...*

— *Думаю,* — сказаў я, — *што калі Бог дазволіць нам вярнуцца дамоў, будзеце жыць па братэрску і вашы антаганізмы застануцца тут з вашывымі фуфайкамі. Нашы непраходныя Рубіконы сацыяльных розьніцаў цяпер вошы перапаўзьлі...*

— *Дай Божа!* — згадзіўся бязь перакананьня Рыгор. — *Але ня ведаю, ня ведаю...*

Пан зьбянтэжаны маўчаў...

— *Ну, браточкі,* — дадаў Рыгор, — *пры гэтым Сьвятым Вечары пажадаем сабе, каб Бог зьмілаваўся над намі, ды капянуў нас і мы выкаціліся з гэтага раю ў якоесь капіталістычнае пекла...*

Мароз шчырыў зубы на дварэ.

Паводля савецкай прэсы, пад Масквой замярзала нямецкая армія. Мы-ж ня ведалі: цешыцца з гэтага ці сумаваць...

## 1942. ІРАЦКАЯ ПУСТЫНЯ ПАД КАНАКІНАМ

Як вокам сягнуць — палавая пустыня й палавое неба, так што цяжка разрозьніць, дзе канчаецца адно, а пачынаецца другое. Уся пустыня пакрытая палаткамі, паміж якімі ўдзень валочыцца нуда, ноччу выюць шакалы, ну і часьценька сьвярдзёлкі гамсінаў[1078] верцяць дзіркі ў небе. Ня раз можна бачыць дзясяткі слупоў пяску, якія, прабягаючы цераз пустыню, зносяць і комкаюць усё, што ім трапляецца па дарозе, пакуль вецер не пакрышыць іх на туманы дробненькага пылу, які праціскаецца ўсюды. Нездарма ў Курдыстане ёсьць няпісанае права, што калі гамсін дзьмець бязупынна пяць дзён, а Курд зарэжа сваю жонку — не адказвае за свой праступак. Гэта нешта жуткае, што рвець ня толькі ліны палатак, але й нэрвы.

Добры Бог зьлітаваўся над намі і вывеў нас з савецкага раю ў Бабілёнскую пустыню. У Касьпійскім порце Паглеві засталася стыхія вашэй, голаду й страху. Як у калейдаскопе замігцелі цудоўныя ў сваей дзікасьці пэрскія горы, блакітны Тэгэран, а цяпер ужо месяцамі трывае спракудлівая стыхія пустыннай нуды. Легендарны Ўсход, аб якім мроілася, начытаўшыся казак Шэхэрэзады, прынёс расчараваньне. Казкавы Багдад — бруд, смурод і бедната. Праўда, нейдзе за высокімі мурамі існуе роскаш і сунега зацішных гарэмаў, але туды гяўрам[1079] няма ўваходу. Ды і ў Багдад рэдка ёсьць нагода паехаць. На штодзень астаюцца: шакалы, скарпіёны, фалянгі, чорныя ўдавы, гадзіны, гамсіны ды мірахы (фатаморганы або “фатаміграны”) — міражы зроку й лятуценьняў...

Усё-ж нешта добры Кон даў нам пацеху. Гэта — арак[1080]. Хаця прыскам смаліць глытаўку, адылі, сьцёбнуўшы тройчы, чалавек ажыўляецца і, у залежнасьці ад тэмпэрамэнту, выяўляе гэтае ажыўленьне: адныя аплявушацца да крыві, іншыя ўзварушваюцца да сьлёз.

На Куцьцю палаткі прыбралі пальмовымі лапкамі. Далёка ім да нашых сьвежых, ядраных, пахучых ялінак!

Ежы — хоць расьперажася, араку — хоць заліся!

Камандзеры абходзяць палаткі зьвязаў. Сыплюцца ўрачыстыя, баявыя прамовы, што паб’ём, пераможам, дойдзем, пяройдзем... Жаўнеры, знуджаныя гэтай рэторыкай, чакаюць, калі ахвіцэры

[1078] **Гамсін**, або **хамсін**, — сухі гарачы вецер паўднёвых напрамкаў у паўночнаўсходняй Афрыцы і краінах Блізкага Усходу.

[1079] **Гяур** — у мусульманаў чалавек іншай веры.

[1080] **Арак** — моцны (каля 60 %) алкагольны напой у азіяцкіх народаў.

пойдуць у свае палаткі і можна будзе распачаць штурм на арак. Урэшце пачалася агульная папойка, крыху калідуючая з дэмакратыяй, але згодная з вайсковай дысцыплінай: ахвіцэры асобна п'юць віскі і джын, жаўнеры ў сваім гэце хлышчуць арак.

Да мяне зьвярнуўся стары падахвіцэр — шэф:

*— Калі ласка, пойдзем да мяне ў палатку. Я зрабіў нашую праўдзівую беларускую куцьцю, з макам. І шчупачка, таксама, прыпёк...*

*

Сьлёзы мяшаліся з добрым віном, радасьць волі — з сумам і турботамі аб тых, што асталіся там, за Касьпійскім морам...

З палатак пачалі вырывацца песьні. Спачатку калядныя й даволі стройныя, калі-ж скончыўся запас калядак, сьпевакі перайшлі на патрыятычны рэпэртуар, які зьмяніўся ў дрындушкі. Паволі, у меру даліванага араку, сьпеў пераходзіў у выцьцё, якому заўторылі шакалы. Да іх далучыліся галодныя сабакі зь недалёкай курдыйскай вёскі.

Далёка за поўнач на пустыні разьлягалася нястройнае выцьцё людзей і зьвяроў, якое адбівалася ад нізкага, валавянага скляпеньня неба.

1943. БЭТЛЕЕМ, БАЗЫЛІКА НАРАДЖЭНЬНЯ

Дык гэта тут!.. Дзесяткі параў дзіўна мокрых вачэй уліплі ў сярэбраную зорку і ўбогія ясьлі ля яе ў падзямельлі Базылікі. Узварушэньне сьціскае горла. Гэта тут — 1943 гады таму нарадзіўся Той, Каму не знайшлося месца ні ў хаце, ні карчме, ні ў сэрцах людзей... Найвышэйшы Маестат зыйшоў найніжэй, бо аж у пастырскі хлеў, каб на зямлю прынесьці супакой і валадарства Божае...

Так тут ціха, што чуецца біцьцё сэрцаў. А недзе там, далёка, над сьветам шалее бура вайны, мільёны людзей гінуць у лягерах, канцэтах, крэматорыях, у пунях жыўцом гараць падпаленыя старыя, жанчыны, дзеці... У імя чаго?

Як цяжка слабым людзкім розумам зразумець глыбіню Божай мудрасьці і справядлівасьці!..

*

Базыліка Нараджэньня знаходзіцца ў руках праваслаўных манахаў, якія пры ўваходзе бяруць даволі салоную аплату за ўступ ад кажнага паломніка. Каб не абражаць рэлігійных пачуцьцяў розных

веравызнаньняў, у капліцы Нараджэньня забаронена сьпяваць калядныя песьні, за выняткам... польскіх. Гэтая дзіўная традыцыя бярэ свой пачатак ад 1885 году, калі адна група польскіх паломнікаў, цераз недагляд адміністрацыі не папярэджаная аб забароне, засьпявала калядныя песьні. Так паўстаў прэцэдэнс, які стаўся правам. Разумеецца, Палякі не абняхайваюць выкарыстоўваць гэтае права.

Ня ведаю, як сьпявалі Нованароджанаму пастушкі, калі за зоркай Бэтлеемскай прыбеглі ў стайню, але нашыя калядкі маглі толькі Дзіцятка спужаць, бо ўсе галёкалі з такім энтузіязмам, што аж здавалася сьвятыня дрыжэла, а перапалоханыя манахі зьбегліся ў падзямельле. У дадатак, у цеснай капліцы даволі няпрыемна панесла перагарам араку: не адзін ваяка на вячэры ў Еразаліме або па дарозе ў Бэтлеем заглянуў глыбей у пляшку, каб гадней ушанаваць сьвятое месца. Аднак цяпер усе глыбока ўзварушаныя, калі кажны падае на калені й цалуе сярэбраную зорку перад яслямі.

*

Ужо на дварэ Эдзя Пракаповіч, да якога ніякімі спосабамі ня прышчэплівалася вайсковая дысцыпліна, пацягнуў мяне канфідэнцыяльна за рукаў:

*— Ня мог гэта маленькі Ісус нарадзіцца ў нас, на Беларусі? Мы — народ лагодны, Яго-б дастойна ўшанавалі і ня ўкрыжавалі-б, як гэныя нехрысьці...*

*— Дык хоць сяньня аддай Яму належную пашану і ня ўпіся.*

Зь кішэні Эдзявага плашча цікава вытыркнула галоўку бутэлька.

*— Як-бы гэта выглядала, каб я, шавец, з шавецкай сям'і, ня выпіў у такі ўрачысты вечар? Гэта была-б Боская абраза!..*

Як можна было дыскутаваць з гэнай шавецкай філязофіяй?

*

*— Спадар лейтэнант, а нашто там, у капліцы Нараджэньня тырчыць узброены жыдоўскі паліцыянт ды яшчэ ў шапцы?*

*— Ён пільнуе, каб хтось ня ўкраў зоркі з пад ясьляў або каб манахі розных веравызнаньняў ня біліся між сабой, што пярвей часта здаралася.*

*— І то ў такім сьвятым месцы! О, злыдні! Ды й наагул, яны тут ізь сьвятасьцяў зрабілі кірмаш!* — абураюцца жаўнеры.

— *Браткі!* — крыкнуў нехта баявейшы. — *Давайце пойдзем ды выцягнем за вушы вон гэнага паліцыянта ад Ісусавых ясьляў!*

Ахвотнікаў пабіцца за веру знайшлося шмат. Каб ратаваць сытуацыю, я мусіў даць войстры загад машыраваць да вазоў.

*

Цёмная, душная ноч навісла над Еразалімай. Ужо далёка па поўначы выходжу на балькон гатэлю. У Еразаліме абавязвае "блекаўт" і ўва ўсім горадзе ані сьвятла, але на ясьнейшым фоне неба справа чарнее вежа Давіда, насупраць-жа высіцца Гальгофа. Далей налева, над далінай Юзафата, узносіцца Гара Распусты, дзе калісьці стаяў палац 300 жонак і наложніцаў Салямона і аўтар Бааля. Пада мной сьпіць старая Еразаліма. Там, між беднымі, лепленымі з гліны хаткамі ўецца Крыжовая Дарога.

Растрэсеныя нэрвы ня хочаць успакоіцца. На чорным фоне ночы фантазія рысуе вобразы мінулага: выразна чую, як натоўп вые: *"Вараву! Вараву!"*, а Пілат усьцяж мые рукі і знуджаным голасам кажа: *Ecce Homo!* Лагодны голас Вучыцеля глушыць выцьцё натоўпу. Набожны сьпеў крыжаносцаў мяшаецца з крыкам забіваных імі жанчын і дзяцей. Над Гальгофай зьявілася рыцарская постаць Годфрыда дэ Буён[1081] і расплылася ў пустцы...

*Pater, dimitte illis*[1082]...

Было мне сумна й жутка...

Далёка, за Маабскімі горамі, на небе разьліваліся аблезлыя хварбы зары. Із стромкага мінарэту, быццам ракета, сарваўся зычны голас муэзіна, заклікаючы славіць Аляха. Еразаліма будзілася, штодзённае жыцьцё выбягала з муравейніка. І я выбягаю з гатэлю. Так хочацца мне прайсьціся вузкай *"Via Dollorossa"*[1083] — насустрач Чалавека з крыжам...

*

У садзе Гэфсімані — бальсам супакою. Шэрыя, старэнькія аліўкі, якія, паводля сказу, памятаюць Хрыста, быццам-бы абмёрлі — не

---

[1081] **Годфрыд Бульёнскі** (фр. *Godefroi de Bouillon*, каля 1060 — 1100), герцаг Ніжняй Латарынгіі, адзін з кіраўнікоў першага крыжовага паходу.

[1082] ***Pater, dimitte illis*** (лац.) — *Ойча, даруй ім.*

[1083] ***"Via Dollorossa"*** (лац.) — "шлях смутку", "шлях пакутаў" — вуліца ў Старым горадзе Ерусаліме, па якой, лічыцца, праходзіў шлях Ісуса на Галгофу.

скрануць галінкамі. Паміж імі сівенькі францішканін чуць рушыцца, паліваючы градкі.

Перада мной маленькая даліна Юзафата, далей Залатыя Вароты Старой Еразалімы. Усё тут: кажнае дрэва й камень, былі сьветкамі найвышэйшае хвалы і найніжэйшага паніжэньня Хрыста, і ўсё, здаецца, аб гэтым памятае.

Усё — за выняткам людзей...

## 1944. НА ФРОНЬЦЕ Ў ІТАЛІІ

Стыхійны град волава загнаў нас у хату заможнага італьянскага контадзіно[1084]. Тыповы ў Італіі дом селяніна: на нізе сьвіран, пуня і хлеў, на паверху памешканьні. Цяпер палавіна страхі і паверху разьбітыя артылерыйскімі гранатамі, ля хаты відаць некалькі ямаў вырваных лятунскімі бомбамі. Хатка ня мела ніякага стратэгічнага значэньня і бачна, што ангельскі лятак выпаражніўся над ёй проста дзеля жарту, каб напужаць беднага контадзіно і ягоных бамбінаў[1085]. Яшчэ калі мы падходзілі да хаты, было чутна рыканьне кароў, калі-ж ускочылі ў дом і каровы пачулі людзей — рыканьне падвоілася і сталася бязупынным.

Язэп, саракапяцігадовы дзядзька з Глыбоччыны, гаспадар ад дзесяткаў пакаленьняў, узьлез да мяне на паверх, скуль я наглядаў ваколіцу:

*— Дазвольце мне дагледзіць каровак. Гаспадары паўцякалі, і бедная жывёлінка ўжо некалькі дзён мучыцца.*

Атрымаўшы дазвол, дзядзька шпарка ўзяўся за гаспадарку і мне зьнізу чуліся яго бойкія загады:

*— Васіль, ускубі сена. Пане Савіцкі, прынясі пару ахапкаў саломы. О, паршывы пасташутнік! Так бедную жывёлу абняхаіў!*

Расставіўшы забясьпечаньні, я заглянуў у хлеў: у паасобных загародках тузаліся прывязаныя тры палавыя каровы і дзьве цялушкі. Ля іх увіхаўся ўвесь зьвяз: адны насілі сена, другія падсьцілалі сьвежую салому, хтось прывалок вядро пшаніцы. Падцёлкі ўспакоіліся, але каровы тузаліся далей.

Язэп недзе пабег і вярнуўся, нясучы тры вядры.

*— Выдаіць іх, браткі, трэба. Хто ўмее даіць кароў?*

---

[1084] ***Contadino*** (іт.) — фермер.
[1085] ***Bambino*** (іт.) — дзіця.

Знайшліся і такія спэцыялістыя, але ў гэтай апэрацыі прыняў удзел увесь зьвяз, бо калі адны даілі, іншыя казычылі кароў за вушамі, іншыя дзяржалі хвасты, каб не сьцябалі дояк.

На гэту акцыю ўлез заступнік камандзера дывізіі. Я скочыў рапартаваць аб сытуацыі, але гэны стары ваяка мякка ўсьміхнуўся, загледзіўшыся на мітусьню жаўнераў каля жывёлы. Праўда, пасьля, адазваўшы мяне на бок, бурчэў, што зьвяз, заместа ляжаць на агнявых становішчах, доіць кароў, аднак яшчэ раз вярнуўся ў хлеў і сам пагладзіў па шыі адну зь іх. Перад адыходам паведаміў нас, што наступленьне затрымоўваецца на гэтай лініі, і мы можам тут на пару дзён загаспадарыцца. Гэта вестка выклікала шчырую радасьць.

— *Хлопцы!* — сказаў палкоўнік, далей казычучы карову за вушамі. — *Заўтра распачынаюцца калядныя сьвяты, таму, пры нагодзе, што вас бачу, ужо сяньня жадаю вам, каб Бог дазволіў да наступных Калядаў вярнуцца цэлымі і здаровымі дамоў, да вашых...*

Бадзёры адказ зашумеў у хлеве. Мы тут-жа віншавалі камандзера з нагоды атрыманьня генэральскай рангі. Як-бы на запярэчаньне нашага добрага настрою, ля сьцяны з трэскам разарвалася сэрыя з нэбэльвэрфэраў, аж параненая хатка парушылася неспакойна.

Адыходзячы, камандзер сказаў жартаўліва:

— *Ну, пільнуйце вашай гаспадаркі, ды гэтай жывёле крыўды не зрабіце. Тым больш, што, чую, і куры пад страхой ёсьць. За цэласьць вы адказны,* — звярнуўся да шэфа. — *Калі-б было небясьпечна, перавясьці кароў на тылы, у футар пад гарой.*

Разьвітваючыся зы мной, генэрал сказаў:

— *На наступны год вярнуцца дамоў... Як гэта гучыць дзіўна і...*

— *І ня рэальна...*— дакончыў я.

— *Ну, трымайся!*

Паціснуў мне руку і пачаў сходзіць з крутога абрыву ў вузкую далінку між гораў. Адышоўшы некалькі крокаў, адвярнуўся і кінуў:

— *А людзей ашчаджай...*

*

Я разглянуўся: навокал расьсьцілалася прыгожа зімовая панарама. Ззаду высіліся Апэніны, пераход якіх каштаваў нам столькі поту і крыві. Сьпераду горы тарасамі ўзгоркаў ападалі і пераходзілі

ў даліну, якая цягнулася далёка на поўнач. Дзесь там за лініяй кругагляду Болёнія — мэта цяперашняй кампаніі. Паўкілямэтра перада мной, у даліне над рэчкай Сэньё — мястэчка Рыолё ді Банье. Там сядзяць Немцы.

Нічым ня спыненая, крылатая думка паляцела церазь нямецкія пазыцыі на паўночны ўсход — дамоў... Італьянскія ўзгоркі здаваліся неяк дзіўна падобныя да нашых беларускіх. Напружаныя болем нэрвы абвісьлі, воля зьмянілася дэпрэсіяй. У мутнай пэрспэктыве агульнай сытуацыі на сьвеце, як зрок у гэтым чужым даляглядзе, губляліся сэнс ахвяр і высілкаў для гэтай чужой вайны. Астаткам сілы волі я сабраўся ў кучу і павалокся да свайго зьвязу.

Там жаўнераў мучылі іншыя цяжкія праблемы: як і ўсё, гаспадарка давала шмат клапотаў, бо хаця кароў накармілі і выдаілі, яшчэ трэба было напаіць, а ў цэлым будынку ані кубка вады. Праўда, ля дому была студня з калаўротам, але да яе мэтраў дваццаць і зусім як на далані бачна Немцам зь мястэчка.

Язэп ня мог супакоіцца: *“бедная жывёлінка мучаецца, ды й генэрал загадаў даглядаць”*. Урэшце зьвяртаецца да мяне:

*— Дазвольце папробваць...*

*— Пакінь, яшчэ галавой наложаш. Неўзабаве сьцямнее, тады нешта прыдумаем.*

Але толькі я адыйшоўся ў другі канец дому, як затрашчэў нямецкі шпандаў, пасьля забразгалі вёдры і ў хлеве грукнулі дзьверы. Я ўскочыў у хлеў, а там Язэп з Савіцкім засопшыся абтрасаюцца ізь сьнегу.

*— Што, папробвалі?*

*— О, гады печаныя!* — адказаў Язэп, падмацоўваючы праклён няцэнзуральнымі эпітэтамі ў расейскай вэрсіі.

Палажэньне камплікавалася, бо каровы, убачыўшы вёдры, рваліся з ланцугоў, а жаўнеры сушылі галовы, як іх ратаваць. Да агульнай рады далучыліся ангельскія абсэрватары артылерыі, якія пасьля нас прывалаклі сюды свае тэлефоны, лярнэты ды іншае прычындальле. Яны таксама зацікавіліся праблемай і пачалі кратаць думніцамі. Раптам адзін малады падахвіцэр крыкнуў: *“Бойс, ай ноў, ай гэв э гут айдія!”*[1086]. І пачаў выкладаць свой плян. Хадзіла аб тое, што трэба сьціраваць навалу палка артылерыі на нямецкія агнявыя становішчы, а ў часе гэтага ён скочыць зь іншымі выцягнуць вады. Ангельцы любяць газард, а яшчэ больш заклады.

[1086] ***Boys, I know! I have a good idea!*** (англ.) — *Хлопцы, я ведаю! У мяне ёсць ідэя!*

Зь месца пачалі закладацца: *“ай бэч ю!”*[1087], *“ай донт тынк соў”*[1088]. Справа дайшла да іх капітана, які, крыху падумаўшы, буркнуў: *“ол райт”*[1089]. Я паказаў яму месцы, скуль бачыў агонь нямецкіх “шпандаваў”, і ён пачаў прыстрэльвацца. Калі-ж агонь быў на мэце, капітан даў знак быць гатовым. Цераз некалькі хвілін цэлая бура зялеза праляцела над намі і ўрэзалася ў нямецкія пазыцыі, за ёй другая, трэцяя. Як толькі першыя гранаты разарваліся, Ангелец і двух нашых скочылі да студні.

Але, хаця навала артылерыі прыціснула і асьляпіла нямецкія кулямёты, з-за ўзгоркаў з выцьцём мільёна чарцей вырвалася сэрыя нэбэльвэрфэраў. За першай пашлі наступныя. Пекла закіпела ля хаты і наша экспэдыцыя ледзь з духам ускочыла ў хлеў. З чатырох вядзёр, усё-ж два былі поўныя. Ды што гэта было на пяць кароў?

Тут з помаччу прыйшоў малы Паўлючок, мой абсэрватар. Як абсэрватар у полі, быў ён слабенькі, за тое ў вышукваньні алькаголю ў паграбох — гэніяльны. Дык і цяпер, хапіўшы два парожнія вёдры, пабег недзе і цераз некалькі хвілін вярнуўся з поўнымі вёдрамі віна.

— *У пограбе ёсьць вялізныя тры бочкі. Гэта зусім маладое, слабенькае, можна паіць навет дзіця ў калысцы — не пашкодзіць...*

Памыліўся аднак, бо нашкодзіла: каровы ўпіліся і былі новыя прычыны да непакою.

У будучыні Язэп знайшоў выхад: як цямнела, раскладаў за ўзгоркам агоньчык і тапіў сьнег, а пасьля паіў кароў. Гаспадарцы ён аддаўся ўсей душой. Выходзячы на становішчы, даваў камусь загад, як і што мае зрабіць. Калі хтось нясучы сена, растрос жменьку на калідоры, Язэп, зьбіраючы, бурчэў: *“Зь цябе гаспадар як... Дар Божы марнуеш”*...

*

Назаўтрае была Куцьця. Шэрае неба нізка навісла над зямлёй і сеяла сьнегам. Рэдкі артылерыйскі агонь час ад часу разьдзіраў зімовую вусьціш. Апаўдні прыляцелі ангельскія самалёты і, няведама пашто, разбурылі некалькі бедных хатак на нямецкім баку.

Пад вечар, быццам на якісьці магічны загад, на ўсім фроньце залягла цішыня. Позна прывезьлі нам вячэру: кацёл зьмерзлай бульбы і бляшанку руму. Мул, які нёс біф, скаціўся ў протхлю. Ніхто ня

[1087] ***I betcha you*** (англ.) — *Іду ў заклад.*
[1088] ***I don’t think so*** (англ.) — *Я так не думаю.*
[1089] ***All right*** (англ.) — *Добра.*

ўзяўся ні за ежу, ні за водку. Вольныя ад службы жаўнеры сядзелі ў хлеве і шэптам гутарылі, або лепш — мроілі. Я выйшаў абысьці лініі забясьпечаньняў. Было ціха, аж звaніла ў вушах. Раптам пачуўся стрэл нэбэльвэрфэра.

— *Во гады!* — падумаў я, прысядаючы ў роў. — *Гэтакага сьвята не ўшануюць!*

Але заместа разарвацца з трэскам, гранаты шпокнулі, быццам хтось адчыніў бутэльку шампанскага: прапагандовыя ўлёткі. Немцы жадалі нам вясёлых сьвятаў, але радзілі пераходзіць да іх.

Раптам я затрымаўся, ня веручы вушам. У мястэчку Немец пеў *"Stille Nacht..."*[1090]. Малады, мяккі барытон дрыжэў сэнтымэнтальнай журбой. Можа па каляровым Тыролі ці чароўным Райнляндзе...

Я стаяў ачараваны. Здавалася, што гэта пяе нехта блізкі, свой, што нічога ня перашкаджае пайсьці паціснуць яму руку і разыйсьціся ў імя Таго, што радзіўся сяньня, каб на сьвеце ўладалі любоў і супакой...

*Б. Халко*[1091]

## Радзіма

Вольны пераклад П. Сыча[1092]

Людзі цярпелі, прывыкалі
Да кіслага шчаўя,
Сьлізкіх вербалозаў,
Да стрэхаў,
На якіх мох успоўзаў,
Да бедных палёў і мачыхі спагадаў,
Хоць іх чалавек касьцямі гнаіў,

[1090] ***"Stille Nacht..."*** (ням.) — "Ціхая ноч…" — вядомая калядная песня.

[1091] Магчыма, маецца на ўвазе **Збігнеў Тадэвуш Халко** (пол. *Zbigniew Tadeusz Chałko*, 1921–1994), польскі журналіст, паэт. Удзельнік Варшаўскага паўстання 1944 г., пасля якога апынуўся ў канцлагеры. У 1945 г. трапіў у Армію Андэрса, ваяваў у Італіі. Як вайсковец у 1946 г. апынуўся ў Вялікабрытаніі, у 1951 г. выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага.

[1092] Бацькаўшчына. № 14–15 (400–401). Вялікдзень 1958. С. 6.

Потам паліў,
Якія жменямі спад сахі
Ірве вецер ліхі
Пад неба поўнае хмарных стадаў.
А пасьля ўрасьлі
Ў каменьні,
гліну,
пясок,
Які радзіць ня мог
І да самага зямлі дна,
Дзе ўжо нічога няма,
Капаліся кіпцюрамі, жменямі
Ў цаліну, ў стэп,
Абы толькі ўрасьці карэньнямі
Ў ськібку — чорны хлеб.
Зь бедных уласных справаў,
З лопуху,
Шчаўя,
З траваў
Плялі вянок — мужыцкі німб,
І йшлі па грудзе босыя,
Абдзёртыя,
Праставалосыя,
Ды зерне да галодных вуснаў
Адрывалі з думкай спакуснай
І кідалі яго ў жывот зямлі пусты,
Каб праз хмыз, дзірваны і кусты
Маглі надзеяй ганарыцца,
Што зямля пачне каласіцца.
І гэтага поля набалелыя далі
Людзі Радзімай назвалі…

*Наталля Гардзіенка*

## Газеты “Бацькаўшчына” і “Беларус” у архіўных зборах

Нягледзячы на тое што артыкулы з газет “Бацькаўшчына” і “Беларус” ад пачатку 1990-х гг. сталі актыўна передрукоўвацца ў метраполіі, што ўбачыла свет кніга Лявона Юрэвіча “Летапісны звод сусвету Чалавека Сведамага” (Мінск, 2006) ды што складзеная анталогія, якую чытач трымае ў руках, феномен згаданых перыёдыкаў, іх значэнне для айчыннай публіцыстыкі, гісторыі эміграцыі і проста лёсаў суродзічаў яшчэ далёкія ад асэнсавання і ацэнкі ў інтэлектуальных колах Беларусі. А матэрыялаў для даследаванняў і дыскусій тым часам дастаткова, як і падставаў для цікавасці да іх. Бо “Бацькаўшчына” і “Беларус” — гэта не пасыпаныя нафталінам бібліятэчна-архіўныя рарырэты, што належаць выключна мінуламу. Іх змест і кантэкст існавання шмат у чым актуальныя для сучаснасці і тым самым яшчэ больш вартыя ўвагі не толькі гісторыкаў.

Газеты “Бацькаўшчына” і “Беларус”, як і іншыя перыёдыкі эміграцыі, сталі з’яўляцца ў метраполіі ад пачатку 1990-х. Прывозілі і перадавалі іх самі эмігранты. Так, прыкладам, частку перыёдыкаў з уласнай калекцыі ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі перадаў пісьменнік з Канады Кастусь Акула. Багатую калекцыю эміграцыйных газет і часопісаў паспеў сабраць за час свайго існавання Навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны пад кіраўніцтвам прафесара Адама Мальдзіса. Сёння найбольш поўныя камплекты газет “Бацькаўшчына” і “Беларус” можна знайсці ў дзвюх найбуйнейшых бібліятэках краіны — у Нацыянальнай бібліятэцы і Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа.

Па-за бібліятэкамі найбуйнейшая калекцыя эміграцыйнай перыёдыкі, у тым ліку газеты “Бацькаўшчына” і “Беларус”, захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Сюды паасобныя нумары або цэлыя гадавікі гэтых выданняў траплялі і працягваюць трапляць з фондамі і кнігазборамі пісьмен-

нікаў, гісторыкаў, літаратуразнаўцаў: Наталлі Арсенневай, Уладзіміра Сакалоўскага, Аляксея Каўкі, Юрыя Туронка, Міхася Швэдзюка і інш. Шмат парупіліся пра папаўненне камплектаў згаданых газет у БДАМЛМ Зора і Вітаўт Кіпелі ды Валянціна Трыгубовіч, што адмыслова прывозілі ці перадавалі асобнікі, якіх не ставала. У выніку ў бібліятэцы архіва-музея захоўваецца нават некалькі камплектаў газеты “Бацькаўшчына” і даволі вялікая колькасць нумароў газеты “Беларус”, хоць усё яшчэ з лакунамі за 1950–1980-я гг.

Акрамя саміх выданняў, дзякуючы рупнасці фондаўтваральнікаў у БДАМЛМ апынуліся і фрагменты архіваў гэтых газет. Што праўда, больш-менш цэласнага архіва газеты “Беларус” не існуе. Рэдактары, якія змяняліся даволі часта, асабліва ў 1950-я, відавочна, трымалі рэдакцыйную перапіску разам з уласнай. Таму дакументы, датычныя гісторыі “Беларуса”, сёння расцярушаныя па розных зборах. Найвялікшая частка архіва газеты захоўваецца ў фондзе Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНіМ) у Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы. Калекцыя з нумарам ReCAP 16–125604 утрымлівае 8 скрыняў з дакументамі “Беларуса” за 1950–1993 гг.: шэсць з іх — з карэспандэнцыяй, сёмая — з адміністрацыйнымі матэрыяламі, а восьмая — з фінансавымі. Акрамя таго, частка карэспандэнцыі 1960–1970-х гг. разам з архівам Станіслава Станкевіча, відавочна, трапіла ў Беларускую фундацыю П. Крачэўскага ў Нью-Ёрку. Ліставанне “Беларуса” з 1980-х — пачатку 1990-х, змяшанае з уласным ліставаннем тагачаснага галоўнага рэдактара Янкі Запрудніка, часткова накіравалася ў зборы Ратгерскага ўніверсітэта, а часткова — у мінскі БДАМЛМ. Таксама ў архіў-музей з БІНіМа цягам апошніх гадоў разам з дакументамі Зоры Кіпель і іншых трапляюць асобныя фрагменты рэдакцыйнага ліставання ад 1950-х да сярэдзіны 1990-х. Архіў жа “Беларуса” 2000–2010 гг. захоўваецца ў тагачаснага галоўнага рэдактара Марата Клакоцкага.

Такім чынам, у яшчэ не апрацаваных фондах БДАМЛМ сёння захоўваюцца некаторыя фрагменты рэдакцыйнага ліставання газеты “Беларус”. Частка перапіскі з беларусамі з Бацькаўшчыны з 1980-х — пачатку 1990-х з архіва Янкі Запрудніка была апублікаваная ў кнізе “Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны” (Мінск, 2016).

У параўнанні з дакументамі “Беларуса” архіў газеты “Бацькаўшчына” расцярушаны менш. Вялікая яго частка, як і ў выпадку з “Беларусам”, захоўваецца ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы.

У калекцыі ReCAP 16–25603 захоўваецца сем скрыняў рэдакцыйнага архіва, з якіх пяць займае карэспандэнцыя, а дзве астатнія — адміністрацыйныя і фінансавыя дакументы. Другі вялікі фрагмент архіва “Бацькаўшчыны”, які напрыканцы жыцця пераслаў з Нямеччыны таксама ў нью-ёркскі БІНіМ адзін з апошніх яе выдаўцоў Павел Урбан, намаганнямі архівіста Лявона Юрэвіча трапіў у мінскі БДАМЛМ. Тут найбольш сістэмна захаваныя дакументы 1947–1952 гг., а таксама невялікія фрагменты рэдакцыйнага ліставання 1950–1960-х гг. Магчыма і тое, што частка ліставання 1952–1962 гг. разам з архівам Станіслава Станкевіча трапіла ў Беларускую фундацыю П. Крачэўскага.

Як мы ўжо згадвалі, “Бацькаўшчына” і “Беларус” — больш шырокія і значныя з’явы для беларускай эміграцыі, чым проста газеты, і фонды мінскага БДАМЛМ дазваляюць даследчыку гэта зразумець. А паколькі згаданыя дакументы мала вядомыя сёння па-за архівам-музеем, спынімся на іх крыху падрабязней.

Найперш трэба згадаць, што архіў газеты “Бацькаўшчына” складае не толькі ліставанне, але і кнігі карэспандэнцыі, касавыя кнігі, падпісныя лісты, спісы супрацоўнікаў. І гэтыя дакументы важныя як для гісторыі газеты, так і для разумення таго кантэксту, тае сітуацыі, у якой яна ствaралася.

Сярод захаваных у БДАМЛМ дакументаў “Бацькаўшчыны” вялікую цікавасць мае касавая кніга, што вялася ад лістапада 1947 г. да канца 1951 г. Дзякуючы падрабязным запісам 1947–1949 гг. можна даволі дакладна ўявіць, за кошт чаго жыла газета ад самага яе заснавання. Асноўныя выдаткі ішлі на паперу, друк, раз’езды супрацоўнікаў рэдакцыі па справах арганізацыі выдання, канцылярскія і паштовыя выдаткі. Галоўны ж прыбытак ішоў ад распаўсюду “Бацькаўшчыны”, падпіскі (сярод першых падпісчыкаў газеты былі Леў Акіншэвіч, Мікола Дзямідаў, Янка Станкевіч), ахвяраванняў (у першыя месяцы багата ахвяравалі Аляксандр Калодка, Аўген Кавалеўскі, Вітаўт Тумаш). Асноўную дапамогу даваў Беларускі камітэт на амерыканскую зону Нямеччыны, а таксама жыхары лагера Остэргофэн, дзе газета пачала выходзіць, дамовіліся выдаткоўваць на выдавецкі фонд па 4 % сваіх прыбыткаў. Але ўсіх тых грошай на стабільны друк газеты, відавочна, не хапала. Каб неяк зарабіць, супрацоўнікі рэдакцыі займаліся перапродажам дэфіцытных у паваеннай Нямеччыне тавараў, дасыланых суродзічамі з-за мяжы: асабліва дарагімі былі

цыгарэты, прадавалі таксама каву і інш. Часам на друк таго ці іншага нумара даводзілася браць пазыку ў банку, якую потым трэба было вярнуць. У выніку, паводле запісаў касавай кнігі, штомесячнае сальда газеты было станоўчае, але пераважна за кошт згаданых пазыкаў. Найбольш жа ўскладнілася сітуацыя пасля грашовай рэформы ў Нямеччыне. Гэта пацвярджае і тагачаснае ліставанне.

З ліста скарбніка Віталя Кажана да распаўсюдніка газеты ў Канадзе Язэпа Пітушкі ад 01.02.1949:

«…*Падам коратка аб палажэньні ў Нямеччыне (матарыяльны бок). Хіба ведаеце аб існаваньні “Маршаль пляну”, які мае пры помачы амэр. даляраў паставіць на ногі Эўропу. Рэзультаты гэтай помачы ў Нямеччыне відаць на кожным кроку. Тавараў паявілася розных і ў вялікай колькасьці. Усё можна дастаць па нармальнай цане бязь ніякіх там картак, за выключэньнем некаторых прадуктаў харчаваньняў. Нават фота-апараты “Ляйка” і то ёсьць у вольнай продажы (да 1000 н. марак). З гэтага ёсьць зусім зразумелым, што пасылка тых ці іншых прадуктаў, каб тут іх перавясьці на грошы ўжо не аплачваецца. Чорны рынак замёр. Напр., 1 фунт кавы ў склепе 12–13 марак, а на чорна максімум 10 марак; пачка амэр. цыгарэт у склепе 5 марак, на чорна 4 маркі. Факт, што толькі валюта на чорна даражэй ад цаны стабільнай. Даляр амэр. нармальна каштуе 3 маркі і пара дзесяткаў фэнігаў, а на чорна ад 10 да 14 (залежыць ад велічыні банкноту — больш даражэй).*

*Эканамічная адбудова Нямеччыны йдзе хутка наперад, але для ДП гэта “не падабаецца”, то трудней здабыць грош. Працу здабыць у немцаў вельмі цяжка, бо немцы і сваіх беспрацоўных маюць. З ДП працуе вельмі малы працэнт пры адміністрацыі лягероў і іншых ІРО-ўстановах, а і ад гэтых адцягваюць па 70 марак у месяц за харчаваньне, кварэту і т.д.*

*Такое палажэньне моцна адбілася на ўсе ДП-выдавецтвы, а ў тым ліку і на нас. Мы апошнім часам зьвярнуліся з афіцыяльным заклікам да ўсяго сьведамага нашага грамадзтва… На адвароце гэтага “СОС” падаю Вам для ар’ентацыі сьпісак усяго атрыманага з Канады. Трэба сказаць праўду — каб усе нашыя асяродкі так канкрэтна падтрымлівалі “Бацькаўшчыну”, дык магчыма мы і не патрабавалі пісаць такіх зваротаў…*».

У касавай кнізе пазначаныя бадай усе кальпартары “Бацькаўшчыны” першых гадоў, усе асяродкі, дзе яна распаўсюджвалася.

Аценіць тое, што стаіць за лічбамі прыбыткаў ад продажу газеты, таксама дазваляе рэдакцыйнае ліставанне.

З ліста распаўсюдніка газеты “Бацькаўшчына” ў беларускім лагеры ў Ватэнштэце Язэпам Гладкім:

«…*Грошы за праданыя газеты я адсылаю не сыстэматычна, і пры гэтым не адзначаю, што атрымана за “Бацькаўшчыну”, а што за выданьні з Англіі. Пры такой маёй бессыстэматычнасьці, Вам немагчыма праверыць, ці ўсе яны дайшлі да Вас. Чым далей, тым меней газет разходзіцца ў нашым лягеры. Гэта сьведчыць аб тым, што людзі грошы не маюць, не працуюць, а сыгарэты зусім адтанелі. Калі хто некалькі фенікаў і набудзе, дык больш перавагі аддае селядцу, як газэце. Апошняга № надта мала разышлося, хоць нават прабавалі і па кватэрах разносіць. Магчыма, што прыдзецца зьменшыць прысылку блізка ўдвое. Апошні раз я вам выслаў 29 ДМ, а заўтра вышлю 13 ДМ. Мы з Вамі не зусім яшчэ разрахаваўшыся. Мы Вам вінаваты за 12 лемантароў, а Вы нам, што Вам некалі перадаў Віньніцкі 22,50 ДМ, што быў вінен нам, ды яшчэ мы Вам некалькі кніжак паслалі. Але нічога, пасьля палічымся*».

Цягам часу ў раздзеле “Прыход” касавай кнігі “Бацькаўшчыны” сталі пераважаць запісы з пазначэннем прыбытку ад продажу валюты, найперш амерыканскіх даляраў. Рэдакцыя адмыслова звярталася да суродзічаў у іншых краінах з просьбаю дапамагчы найперш грашовымі сродкамі — самым каштоўным у тагачаснай Нямеччыне.

З ліста галоўнага рэдактара Станіслава Станкевіча да шведскіх беларусаў Васіля Лукашыка і Альберта Асоўскага ад 10.02.1949:

«…*Мы вельмі цешымся, што Вы маеце поўнае зразуменьне да нязвычайна цяжкага матарыяльнага становішча “Бацькаўшчыны” й выказваеце гатоўнасьць прыйсьці нам з матарыяльнай помаччу. Таму моцна дзякуем за высланую нам пачку, якой мы яшчэ не атрымалі, і на абяцаньне памагаць у далейшым.*

*Што тычыцца формы дапамогі, то прадуктамі ані матарыяламі слаць ня варта, до цяпер у Нямеччыне пасьля валютнай рэформы й дзякуючы помажы з пляну Маршаля ёсьць усяго дастаткова, ня маюць толькі людзі, г. зн. ДП грошаў. Таму грошы маюць тут цяпер вялікую цану. Але ніякім чынам ня варта перасылаць грошаў афіцыяльна, бо тады выплачваецца тут нямецкімі маркамі паводля афіцыяльнага курсу й на гэтым шмат трацiцца. Прыкладам даляр ЗША прыватна каштуе сяньня 12–14 марак, і то цяпер тут*

*найніжэйшы яго курс, а афіцыяльна толькі… каля 3 марак. Дык калі-б Вы й атрымалі дазвол пераслаць нам грошы афіцыйна, то з гэтага дазволу лепш не карыстаць. Найлепш за тое прысылаць іх у амэрыканскай валюце, адпаведна схаванымі ў прадуктовай ці іншай пачцы. Толькі ў такім выпадку трэба загадзя паведавіць нас, што задзеная пачка зьяўляецца цэннай.*

*Пры нагодзе хочацца зазначыць, што матарыяльнае палажэньне "Бацькаўшчыны" сяньня на толькі катастрафальнае, што дзякуючы гэтаму "Бацькаўшчына" пачала ўжо выходзіць нерэгулярна й існуе паважная загроза спыненьня яго наогул. Адзіная надзея на выдатную й сыстэматычную помач заграніцы. Але й тут цяжка. Прыкладам нашыя ў Ангельшчыне, на якіх мы найбольш надзеіліся, зьяўляюцца сяньня абцяжаранымі сплачваньнем даўгоў у сувязі з куплю собскага дому ў Лёндане. Але пакуль што надзеі ня трацім, можа неяк выкарабкаемся і з гэтага крызысу.*

*Яшчэ хачу напомніць, што калі ходзіць аб прадукты й іншыя рэчы, то тут у Нямеччыне яшчэ сякую такую цану маюць цыгарэты, хаця таксама апошнім часам невялікія (3–4 маркі за 20 штук), а нумар газэты адыходзіцца каля 400 марак».*

Тое, пра што пісаў рэдактар "Бацькаўшчыны", далося ў знакі ўжо ў 1949-м, але найбольш адчулася ў наступныя два гады. І касавая кніга стала весціся менш ахайна, больш фрагментарна, гэтак выходзілі і нумары газеты.

Яскрава адбіліся асаблівасці і матэрыяльнага стану, і ўзаемадзеяння з распаўсюднікамі, і агульнай рэдакцыйнай кухні ў ліставанні "Бацькаўшчыны". Прычым важна, што захаваліся не толькі "лісты з месцаў", але і копіі адказаў рэдакцыі. Акрамя вялікай часткі карэспандэнцыі, звязанай з кальпартажам, з часам усё большая частка ліставання была звязаная ўласна са зместам газеты. Чытачы дасылалі абвесткі, рэагавалі на тыя ці іншыя артыкулы, падавалі звесткі для публікацыі.

Прыкладам, у кастрычніку 1949 г. рэдакцыя атрымала ліст ад былых навучэнцаў настаўніцкай семінарыі ў Наваградку, а пасля — жаўнераў Наваградскага эскадрона Янкі і Алеся, якія прасілі апублікаваць наступную абвестку: *"Двох сябраў Янка й Алесь у веку 1) 25 гадоў 2) 26 гадоў. Высокія й прыстойныя, з добрым характарам. Вэтыраны Навагрaдзкага Эскадрону жадаюць запазнаць дзьве зямлячкі ў тым-жа веку. Цэль: супольная эміграцыя".*

Частымі ў пошце рэдакцыі былі крытычныя водгукі на апублікаваныя матэрыялы. Падамо тут вытрымку з ліста Даната Яцкевіча з Мельбурна да адміністратара газеты Янкі Запрудніка ад 16 студзеня 1956 г.:

«*…У апошняй атрыманай лятунскай поштай газэце, Вы ўзнова пісалі аб беларускай школе ў Мэльборне і прыпісалі гэта “згуртаваньню” і Нікану*[1093]*. Я-ж Вас папераджаў — не рабіць гэта! Як сорамна! Прыпісваць сабе работу, зробленую іншымі! Уся гэта Ваша карэспандэнцыя гэта адна мана — ні слова праўды! Школу зрабілі яны т. зв. “зарубежнікі”. Нікан быў толькі ад таго, піхаць і пляткаваць. Ялінка для дзяцей не была зарганізавана гэтым разам толькі таму, што мая жонка і дырэктар школы сп. Жураўлевіч не схацелі, каб яшчэ раз іхнюю працу “Бацькаўшчына” прыпісала паляку Нікану. […]*

*Далей колькі разоў у карэспандэнцыях Нікана ў газэту Вы ўспомнілі імя а. Барыса Камінскага. Не рабіце гэтага ніколі больш, гэта п’яніца і хуліган, які ўжо сядзеў у цюрме за напад на сястру чырвонага крыжа ля госпіталя St. Helen. А цяпер мае ўмоўны час да паправы адзін год. Мог бы прыслаць Вам выразкі з аўстралійскіх газэт, але гэта не асабліва патрэбна. Дык аб гэткім “сьветару” можа гаварыць толькі падобны да яго вернік! Дык што ў гэтым “гістарычнага” бача газэта?..*».

Вядома, што, акрамя выдання газеты, “Бацькаўшчына” займалася і кнігадрукам. Адзін з цікавых чытацкіх водгукаў, падпісаны *“Ф. Скурат (жанчына)”*, датычыў менавіта гэтага:

«*…Пераглядаючы сьпісак выдадзеных за апошнія гады “Бацькаўшчынай” кніжок, мне прыйшло на думку наступнае пытаньне: “Ці не належала-б цяпер заняцца падрыхтоўкай да друку твораў аднае з нашых беларускіх паэтак?” — Беларускае грамадзтва на чужыне адзначала сёлета 40-ыя ўгодкі творчасьці Натальлі Арсеньневай. Якім прыгожым падарункам для паэткі было-б выданьне асобнай кніжкай яе твораў! Мяне асабіста цікавілі-б таксама творы й іншых нашых паэтак.*

*Падчас апошняй вайны на лекцыі бел. літаратуры было пастаўлена студэнткамі настаўніцкіх курсаў можа нат’ крыху гіранічнае пытаньне: “Ці беларуская літаратура налічвае жанчын-паэтак? Бо як дагэтуль Вы пазнаёмілі нас з творамі выключна паэтаў і пісьменьнікаў”. На шчасьце настаўнік меў якраз падрыхтаваную*

[1093] Маецца на ўвазе Мікола Нікан.

*на гэтую лекцыю творчасьці Цёткі й такім чынам выдатна адбіў зласьлівы штуршок.*

*Выдаючы свае родныя беларускія кніжкі і газэты ў вельмі цяжкіх і часта няспрыяльных умовах, мы можа не здаём сабе справы, што яны будуць за сотні гадоў “маналітамі”, “дальмэнамі”, з якіх будучыя пакаленьні будуць чытаць нашу гісторыю, падзеі нашых дзён…*» (Білевіль, 17.09.1962).

Такога кшталту лістоў ад 1948 і да 1963 г. захавалася ў архіве “Бацькаўшчыны” сотні. Сярод адрасатаў амаль усе вядомыя беларускія дзеячы БНРаўскага кірунку, а таксама простыя беларусы з Англіі, Аргенціны, Аўстраліі, Бельгіі, Бразіліі, ЗША, Канады, Нямеччыны, Францыі, Швецыі і інш. Прыкладам, захаваўся з дзясятак лістоў ад нікому невядомага суродзіча ў Нарвегіі Яна Пашкевіча.

У карэспандэнцыі адлюстравалася і прыватнае, і арганізацыйнае жыццё беларусаў у розных краінах, рэдакцыйная кухня і штодзённасць суродзічаў. Лісты дапамагаюць спраўдзіць факты па біяграфіі іх аўтараў або храналогію дзейнасці тых ці іншых арганізацый. Прыкладам, у ліпені 1959 г. “Бацькаўшчына” атрымала ліст Мікалая Лянкевіча з Згуртавання беларусаў Аргенціны пра тое, што на з’ездзе 28 чэрвеня 1959 г. аднагалосна было пастаноўлена распусціць згуртаванне *“з прычыны недахопу матар’яльных сродкаў, а таксама абыякавасьці сяброў да свае нацыянальнае справы”*.

Сярод карэспандэнцыі газеты захавалася некалькі дзясяткаў дакументаў, датычных кантактаў з беларусамі Польшчы. Ад 1956 г. прыходзілі лісты ад Беларускага грамадска-культурнага таварыства і газеты “Ніва”, ад А. Давідзюка, Паўла Кожуха, Мацея Канапацкага, Францішка Пяткевіча, Юрыя Туронка. Захаваліся таксама вытрымкі з “Нівы” 1956–1957 гг. пра беларускае жыццё, а таксама цікавы рускамоўны артыкул «*Белорусская газета “Бацькаўшчына”, ее распространение и влияние в Польше и БССР*», падпісаны *У. Ц.*, з аповедам пра дачыненні з беларусамі Польшчы і пра дасылку газеты ў БССР і водгук на яе.

Побач з ліставаннем у архіве ўтрымліваюцца спісы кальпартараў газеты за 1954 г. з сумамі дасланых за яе продаж (і продаж кніг) грошаў, рэестр атрыманай карэспандэнцыі ад 26.04.1953 да 01.01.1954, а таксама дзясяткі цікавых спісаў. Прыкладам, пералікі беларусаў і *“асабістыя аплаты”* за 1949–1950 гг., 4 спісы супрацоўнікаў газеты “Бацькаўшчына” ў лістападзе 1950 г. для атрымання цыгарэтаў

(пазначаныя Бранiслаў Дубоўскі, Уладзімір Лазар, Даніла Клімовіч, Аляксандр Лук’янчук, Стэфан Мізін, Ян Лукашэвіч, Ян Груцько, Лонгін Шаметыло, Васіль Грышчук, Юзэфа Брэчка, Аляксандр Жогла, Ліля Вержбіцкі, Марыя Лукашэвіч, Ніна Якубовіч, Анатоль Барысаў і інш.). Вялікую цікавасць у тых, хто вывучае гісторыю беларускіх Ды-Пі і наогул гісторыю эміграцыі, могуць выклікаць і спісы беларусаў з лагераў у Нямеччыне за 1950 г. Каштоўна, што тут звесткі пра асобаў часта пададзеныя з пазнакамі датаў нараджэння. Сотні імёнаў беларусаў з лагераў Бакнанг, Фельдмохінг, Шляйсгайм, Розэнгайм вартыя стаць крыніцай стварэння адмысловай базы звестак.

Часам даследчыкі наракаюць на незахаванасць (ці, дакладней, недаступнасць) архіваў эміграцыйных перыёдыкаў, паводле якіх можна было б вызначыць крыніцы іх фінансавання і асаблівасці функцыянавання. Наяўныя сёння ў БДАМЛМ дакументы з архіваў “Бацькаўшчыны” і “Беларуса” ды некаторых іншых замежных беларускіх газет і часопісаў, відавочна, дапамогуць адказаць на пытанні і даследчыкаў, і ўсіх тых чытачоў, хто, акрамя непасрэдна зместу перыёдыкаў, зацікавіцца і тымі асобамі, якія стаялі за тэкстамі, і абставінамі, у якіх выходзілі выданні.

# АЎТАРЫ

**Антон Адамовіч** (1909–1998), грамадскі дзеяч, літаратуразнавец, гісторык, публіцыст, літаратар. Уваходзіў у літаб’яднанне “Узвышша”. У 1930 г. арыштаваны па справе “Саюза вызвалення Беларусі” і высланы ў Глазаў, у 1934 г. пераведзены ў Вятку (Кіраў), дзе працаваў у навучальных установах. Арыштаваны паўторна ў 1937, вызвалены ў 1938 г., вярнуўся ў Мінск, працаваў у школе. Закончыў БДУ. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Менскай гарадской управе, “Беларускай газеце”, галоўным рэдактарам выдавецтва “Менск”, уваходзіў у Цэнтральную Раду БНС, выконваў абавязкі рэферэнта па справах прэсы і прапаганды Генеральнага камісарыята Беларусь. Увосень 1943 г. выехаў у Нямеччыну. Па вайне працаваў у Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбургу, быў адным з заснавальнікаў газеты “Бацькаўшчына”, яе рэдактарам. Ад 1949 г. жыў у ЗША. Займаўся навуковымі даследаваннямі, аўтар вялікай колькасці літаратуразнаўчых прац. Адзін з заснавальнікаў БІНіМа.

**Наталля Арсеннева** (у шлюбе **Кушаль**, 1903–1997), паэтка, грамадская дзяячка, жонка Франца Кушаля. Нарадзілася ў расійскай дваранскай сям’і. З 1905 г., за выняткам 1915–1919 гг., жыла ў Вільні. Закончыла Віленскую беларускую гімназію. У 1922 г. узяла шлюб з вайсковым дзеячам Францам Кушалем. Жыла ў Польшчы. У 1940–1941 гг. разам з сынамі Яраславам і Уладзімірам перабывала ў высылцы на поўначы Казахстана. У траўні 1941 г. атрымала дазвол вярнуцца ў Беларусь. У 1942–1944 гг. працавала ў “Беларускай газеце”, перакладала лібрэта для Менскага гарадскога тэатра. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку была ў Нямеччыне, дзе ўдзельнічала ў беларускім культурным жыцці ў лагерах Ды-Пі, выкладала ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1950 г. пераехала ў ЗША. У 1952–1954 гг. рэдагавала газету “Беларус”, потым працавала ў нью-ёркскім офісе беларускай рэдакцыі Радыё “Свабода”. Была сябрай Галоўнай управы Беларуска-Амерыканскага задзіночання, управы БІНіМа. У 1967 г. пасля смерці нявесткі, Наталлі КулІковіч-Кушаль, разам з мужам пераехала да сына Уладзіміра ў Рочэстэр. Аўтарка шэрагу паэтычных зборнікаў, а таксама словаў гімна “Магутны Божа”.

**Уладзімір Брылеўскі** (1917–2002), грамадскі дзеяч, журналіст. Закончыў афіцэрскую школу ў Дэмбліне (*Dęblin*, Польшча), навучаўся ў сельскагаспадарчым інстытуце ў Пулавах (*Puławy*, Польшча). Падчас нямецкай акупацыі Беларусі быў начальнікам Смургонскага, потым Жодзішкаўскага паветаў. Улетку 1943 г. арыштаваны, некаторы час утрымліваўся

ў Вялейскай турме, потым адпраўлены ў канцлагер, аднак па дарозе ўцёк. Паўлегальна пераехаў у Рыгу, дзе працаваў карэктарам часопіса “Новы шлях”. З канца 1944 г. — у Нямеччыне. Арганізаваў беларускую школу ў Гановеры. Напрыканцы 1940-х гг. выехаў у ЗША, жыў у Саўт-Рыверы, браў удзел у нацыянальным руху, супрацоўнічаў з польскім часопісам “Культура” (Парыж, галоўны рэдактар Ежы Гедройц). Надрукаваў у газеце “Беларус” і часопісе “Беларуская думка” ўспаміны пра дзеячаў беларускага нацыянальнага руху: В. Іваноўскага, Р. Астроўскага, В. Гадлеўскага, Х. Ілляшэвіча, К. Езавітава.

**Часлаў Будзька** (1913–1985), грамадскі дзеяч, гісторык, педагог. Закончыў Віленскую беларускую гімназію, а ў 1938 г. — аддзяленне гісторыі гуманістычнага факультэта Віленскага ўніверсітэта. Браў удзел у нацыянальным грамадскім руху, быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза. За актыўную грамадскую дзейнасць пазбаўлены права працаваць па спецыяльнасці. Уладкаваўся ў кааператыўнае таварыства ў Варшаве, потым працаваў у Кельцах. Падчас Другой сусветнай вайны знаходзіўся ў Нямеччыне. Па сканчэнні вайны жыў у лагеры ў Ватэнштэце, выкладаў гісторыю ў Беларускай гімназіі. У 1948 г. як Ды-Пі прыбыў на працу ў Вялікабрытанію, быў сябрам мясцовага Згуртавання беларусаў. У 1951 г. выехаў у ЗША, жыў у Чыкага. Быў актывістам Чыкагскага аддзела Беларуска-Амерыканскага задзіночання. Займаўся грамадска-асветніцкай працай, гістарычнымі даследаваннямі, праектаваннем вышыванак і дываноў.

**Мікалай Бэліна-Падгаецкі** (1896–1967), журналіст, пісьменнік. Закончыў кадэцкі корпус у Пецярбургу, удзельнічаў у Першай сусветнай вайне і Белым руху. Пасля паразы Белага руху ад 1919 г. жыў у Францыі, дзе ўступіў у камуністычную партыю. У 1927 г. пераехаў у Савецкі Саюз. Жыў у Менску, працаваў у газеце *“Рабочий”* і часопісе “Чырвоная Беларусь”. У 1934 г. уцёк з СССР. Жыў у Бельгіі. Аўтар аўтабіяграфічнай працы “Чырвоная бура” (*“L'ouragan rouge”*) пра жыццё ў Савецкім Саюзе. У 1941–1946 гг. працаваў у Бельгійскім Конга, выдаў зборнік апавяданняў “Бельгія ваюе”.

**Юрка Віцьбіч (Стукаліч)** (сапр. **Серафім Шчарбакоў**, 1905–1975), літаратар, публіцыст, краязнаўца, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў сям'і святара. Навучаўся ў педагагічным тэхнікуме. У 1922–1933 гг. працаваў на хімічных заводах у Маскве. Уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне “Узвышша”, у 1939 г. прыняты ў Саюз пісьменнікаў СССР. У часе нямецкай акупацыі актыўна выступаў у друку, выдаў два зборнікі публіцыстыкі: “Вяліскія паўстанцы” і “Нацыянальныя святыні”, публікаваў артыкулы, прысвечаныя гісторыі Беларусі. Быў сябрам Беларускага культурнага згуртавання, рэдактарам

часопіса “Узвышша”, адзіны нумар якога быў падрыхтаваны ў 1944 г. З лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1946 г. у Нямеччыне стварыў і ўзначаліў літаратурнае аб’яднанне “Шыпшына”, выдаваў аднайменны часопіс, а таксама часопісы “Звіняць званы Святой Сафіі”, “БІС”, газету “Беларускае Слова”. З 1949 г. жыў у ЗША. Друкаваўся ў беларускім і рускім перыядычным друку, у тым ліку ў *“Новом русском слове”*. Супрацоўнічаў з Радыё “Свабода”. Як пісьменнік дэбютаваў у 1929 г. у часопісе “Узвышша”. Аўтар кніг прозы “Смерць Ірмы Лаймінг” (1932), “Формула супраціўлення касцей” (1937). У эміграцыі выдаў кнігу гістарычных нарысаў “Плыве з-пад Святое гары Нёман” (Мюнхен, 1956) і зборнік артыкулаў на рускай мове *“Мы дойдем”* (Нью-Ёрк, 1975).

**Леў Гарошка** (1911–1977), рэлігійны дзеяч, пісьменнік. У 1928–1931 гг. навучаўся ў Наваградскай беларускай гімназіі, потым — у Львоўскай духоўнай акадэміі, у 1936–1937 гг. — у Каталіцкім універсітэце ў Інсбруку (Аўстрыя). У 1937 г. быў рукапакладзены на святара ў Львове. У 1937–1939 гг. працаваў душпастырам у розных месцах Пінскай дыяцэзіі. У 1939 г. загадам наваградскага ваяводы быў выселены з памежнай паласы і жыў у Збуражы каля Маларыты. У 1939–1944 гг. працаваў у Баранавічах, у тым ліку і выкладчыкам у медыцынскай школе. З лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945 г. арганізоўваў беларускае душпастырства ў Берліне і Мюнхене, потым пераехаў у Рым. У 1946 г. прызначаны Усходняй кангрэгацыяй для душпастырства беларусаў у Францыі, пераехаў у Парыж. У 1946–1957 гг. быў рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі. У 1946 г. выдаў малітоўнік “Божым шляхам”, а ў 1947–1957 гг. рэдагаваў рэлігійна-грамадскі часопіс “Божым шляхам”. Пісаў пад псеўданімамі Л. Дварэцкі, Анатоль Жменя, Л. Іскра, Пракоп Каваль ды іншымі. Аўтар шэрагу брашураў рэлігійнай тэматыкі. У 1959 г. паступіў у навіцыят айцоў-марыянаў у Рыме. У 1960 г. быў пераведзены ў Лондан, дзе прызначаны на пасаду рэктара Беларускай каталіцкай місіі ў Англіі. У 1962 г. прыняў манаства ў капліцы Св. Апосталаў Пятра і Паўла ў Лондане. Да 1969 г. заставаўся рэктарам місіі ды ігуменам законнага дома ў Лондане. Быў адным з выкладчыкаў у школе-інтэрнаце імя Кірылы Тураўскага. Далучыўся да Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі, уваходзіў у Галоўную ўправу, быў намеснікам старшыні арганізацыі. У 1965 г. атрымаў годнасць архімандрыта. У 1970 г. перабраўся ў Рым, дзе кіраваў Беларускай секцыяй Ватыканскага радыё. Адначасова выконваў абавязкі рэктара Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі.

**Вінцэнт Жук-Грышкевіч** (1903–1989), грамадскі дзеяч, педагог. Закончыў факультэт славянскай філалогіі і гісторыі Карлавага ўніверсітэта ў Празе. Выкладаў беларускую мову і гісторыю ў Віленскай беларускай гімназіі, беларускую мову ў Праваслаўнай духоўнай семінарыі і Вышэйшай

школе палітычных навук у Вільні. У 1939–1942 гг. быў у савецкай высылцы, адкуль трапіў у Армію Андэрса. Служыў на Блізкім Усходзе, у Афрыцы, Італіі. У 1945–1948 гг. выкладаў гісторыю і псіхалогію ў вайсковых польскіх школах у Італіі і Вялікабрытаніі. Быў адным з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі і першым старшынёй гэтай арганізацыі (1947–1948). Напрыканцы 1947 г. увайшоў у кіраўніцтва Рады БНР. Заснавальнік Беларускага хрысціянскага акадэмічнага аб’яднання “Жыццё”. У студзені 1950 г. выехаў у Канаду. У Атаўскім універсітэце абараніў доктарскую дысертацыю “Лірыка Янкі Купалы”. У 1954–1956 гг. — першы кіраўнік беларускай рэдакцыі Радыё “Вызваленне”. Вярнуўся ў Канаду, разам з жонкай Раісай Жук-Грышкевіч пасяліўся ў Бэры. Стаў адным з заснавальнікаў Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады. У 1970–1982 гг. — старшыня Рады БНР.

**Янка Запруднік** (да эмігр. **Сяргей Вільчыцкі**, нар. 1926), грамадскі дзеяч, гісторык, публіцыст. Вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў лагеры Ды-Пі ў Рэгенсбургу. У 1948 г. з “Дванаццаткай” выехаў у Вялікабрытанію. Працаваў у вугальных капальнях. Быў сябрам ЗБВБ і іншых беларускіх арганізацый. У 1950 г. выехаў на навучанне ў Бельгію. У 1954 г. закончыў гістарычны факультэт Лювенскага ўніверсітэта. У 1954–1957 гг. працаваў у беларускай рэдакцыі Радыё “Вызваленне” ў Мюнхене, супрацоўнічаў з газетай “Бацькаўшчына”. У 1957 г. выехаў у ЗША, дзе да 1991 г. працаваў у нью-ёркскай рэдакцыі Радыё “Свабода”. У 1981–1995 гг. быў галоўным рэдактарам газеты “Беларус”. У 1969 г. у Калумбійскім універсітэце (Нью-Ёрк) абараніў доктарскую дысертацыю “Палітычная барацьба за Беларусь у царскіх Дзяржаўных думах (1906–1917)”. У 1967–1975 гг. чытаў курс гісторыі Беларусі ў Куінс-каледжы Нью-Ёркскага ўніверсітэта, а таксама ў Калумбійскім універсітэце. Аўтар 7 кніг, 11 брашураў і сотняў артыкулаў па гісторыі Беларусі. Уваходзіў у кіраўніцтва БАЗА і БІНіМа, прэзідыум Рады БНР, управу Фундацыі імя П. Крэчэўскага.

**Аляксандр Калодка** (1911–1985), грамадскі дзеяч. Закончыў гарадское вучылішча ў Ярэмічах (Карэліцкі раён) і ў 1926 г. паступіў у Віленскую беларускую гімназію. У 1928–1932 гг. навучаўся ў польскай гімназіі імя А. Міцкевіча ў Вільні. Супрацоўнічаў з газетамі “Беларускі дзень” і “Сялянская ніва”. У 1938 г. закончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўніверсітэта з дыпломам магістра права. Працаваў у юрыдычным аддзеле грамадскага забеспячэння. У 1940–1941 гг. настаўнічаў у Вільні. З верасня 1941 г. працаваў надзвычайным упаўнаважаным гебітскамісара ў Вялейцы, дзе займаўся беларусізацыяй адміністрацыі. У 1943 г. арыштаваны вялейскім гестапа. Быў вязнем канцэнтрацыйных лагераў у Асвенціме, Бухенвальдзе ды інш. Па сканчэнні вайны працаваў у Беларускім нацыянальным камітэце, супрацоўнічаў з беларускай прэсай, Арганізацыяй

былых вязняў нямецкіх канцэнтрацыйных лагераў. Сябра Рады БНР з яе аднаўлення ў 1947 г. У траўні 1948 г. прыехаў у Аўстралію, працаваў на цукровых плантацыях у Квінслендзе, а пазней — рабочым у Мельбурнскім порце. Арганізатар сектара Рады БНР у Аўстраліі, першага Беларускага клуба ў Мельбурне. У 1950 г. стаў адным з заснавальнікаў апалітычнага Беларускага аб’яднання ў Аўстраліі, якое, аднак, праз год пакінуў. Сябра Згуртавання беларусаў у Вікторыі, Згуртавання беларускіх камбатантаў, Каардынацыйнага камітэта беларускіх арганізацый у Аўстраліі, Беларускага цэнтральнага камітэта ў Вікторыі. Сталы аўтар зацемак пра жыццё беларусаў Мельбурна ў газетах “Бацькаўшчына” і “Беларус”. Сябра БІНіМа.

**Алесь Карповіч** (1909–1992), кампазітар, музыказнаўца, педагог, грамадскі дзеяч. Музычную адукацыю атрымаў на гісторыка-тэарэтычным факультэце Маскоўскай кансерваторыі. Працаваў як загадчык навуковай часткі і дацэнт Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі ў Менску. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў Заходняй Нямеччыне, дзе працаваў як выкладчык у музычнай школе ў Ольдэнбургу. Пазней пераехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Быў сябрам БІНіМа.

**Вітаўт Кіпель** (нар. 1927), грамадскі дзеяч, навуковец, даследчык беларускай эміграцыі. У 1933–1942 гг. разам з бацькамі жыў у Расіі, пасля навучаўся ў Менску. У 1944 г. выехаў з бацькамі ў Нямеччыну. У 1945–1948 гг. вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы, займаўся скаўтынгам. Потым паступіў на медыцынскі факультэт Цюбінгенскага ўніверсітэта, а ў 1953 г. закончыў Лювенскі ўніверсітэт па спецыяльнасці геолаг. У 1955 г. атрымаў ступень доктара мінералогіі. Быў заступнікам старшыні Саюза беларусаў Бельгіі. У 1955 г. пераехаў у ЗША. Працаваў у навукова-вытворчых фірмах, у Балтымарскім універсітэце (штат Мэрыленд). У 1959–1985 гг. — у Даследчым цэнтры навукі і тэхналогіі Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі (у тым ліку на пасадзе выканаўчага дырэктара). У 1962–1963 гг. навучаўся ў Ратгерскім універсітэце (Нью-Джэрсі) на спецыяльнасці “бібліятэказнаўства”. Лідар беларускага рэспубліканскага руху. У 1960–1980-х гг. супрацоўнічаў з Радыё “Свабода”. У 1972–1982 гг. — старшыня Федэрацыі беларускіх рэспубліканскіх клубаў. У 1974 г. абраны на старшыню Рэспубліканскай федэрацыі штата Нью-Джэрсі. Рэдактар газеты нью-джэрсійскіх рэспубліканцаў *“Heritage Review”*. Заснавальнік і дырэктар беларускіх фестываляў у Нью-Джэрсі (1976–1979). У 1972 г. у Вашынгтоне абраны на заступніка старшыні Нацыянальнай канфедэрацыі амерыканскіх этнічных групаў. У 1975 г. узнагароджаны медалём Паняволеных народаў Эйзенхаўэра. У 1978–1982 гг. — старшыня Этнічнай рады штата Нью-Джэрсі. З 1982 г. — старшыня БІНіМа. Аўтар працы “Беларусы ў ЗША” (1993, 2017; англамоўнае выданне — 1999), шэрагу грунтоўных

бібліяграфічных даведнікаў, а таксама дзясяткаў публікацый, у тым ліку артыкулаў беларусазнаўчай тэматыкі ў амерыканскіх энцыклапедыях.

**Уладзімір Клішэвіч** (1914–1978), пісьменнік, грамадскі дзеяч. Па заканчэнні настаўніцкіх курсаў працаваў настаўнікам у Слуцку, з 1933 г. — студэнт Менскага педагагічнага інстытута. У 1936 г. быў рэпрэсаваны, сасланы на Калыму. У жніўні 1940 г. вернуты на дарасследаванне ў Менск. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Слуцку, рэдагаваў “Газету Случчыны”. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. З 1948 г. жыў у ЗША. Друкаваў вершы з 1931 г. Выдаў зборнік вершаў “Далячынь” (1965) і паэму “Васіль Каліна” (1965). У Мінску выйшаў зборнік “Сняцца сны мне залатыя” (1973).

**Міхась Лужынскі** (1926–2011), грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў сялянскай сям’і. Вучыўся ў польскай школе ў Гарадку, а ў 1942 г. паступіў у Гандлёвую школу ў Маладзечне. Сябра СБМ. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, па сканчэнні вайны апынуўся ў беларускім лагеры Ды-Пі ў Ватэнштэце. Ад 1950 г. разам з жонкай выехаў у Аўстралію. Пасяліўся ў Сіднэі, дзе далучыўся да беларускага грамадскага жыцця. У 1952 г. — першы старшыня асобнай арганізацыі прыхільнікаў Рады БНР Беларускага аб’яднання ў Новай Паўднёвай Валіі. У 1953–1954 гг. — рэдактар крывіцкага варыянта часопіса “Новае жыццё”. Пазней — сакратар Беларускага культурна-грамадскага клуба, а ў 1982–1986 гг. і ад 1988 да 2011 г.— яго старшыня. Ад 1976 г. быў сябрам Беларускага радыёвага камітэта, ад 1983 г. на працягу дзесяцігоддзя быў фактычна адзіным стваральнікам беларускіх радыёпраграмаў у Сіднэі. У 1976–1980 гг. — сакратар Федэральнай рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі. Памёр падчас турыстычнай паездкі.

**Пётра Манькоўскі** (псеўд. **Пётра Вішнеўскі**, 1916–2002), грамадскі дзеяч, публіцыст. Нарадзіўся ў горадзе Таропец. Вывучаў юрыспрудэнцыю ва ўніверсітэтах Вільні, Мюнхена, Нью-Ёрка. Ачольваў Беларускую студэнцкую асацыяцыю ў ЗША. У 1980–1990-я гг. быў скарбнікам Кансісторыі БАПЦ, пасля М. Міцкевіча рэдагаваў “Голас Царквы”.

**Алесь Марговіч** (псеўд. **Алесь Галубіцкі**, 1927–1967), журналіст, грамадскі дзеяч, выдавец. У часе Другой сусветнай вайны настаўнічаў. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, па сканчэнні Другой сусветнай вайны апынуўся ў беларускім лагеры ў Рэгенсбургу. Навучаўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У Міхельсдорфе заснаваў выдавецтва “Крыніца”, дзе выходзіў часопіс “Напагатове!”. У 1948 г. разам з іншымі сябрамі “Дванаццаткі” прыбыў у Вялікабрытанію для працы ў вугальных капальнях. З 1948 г. быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі. Быў сакратаром Другога з’езда гэтай арганізацыі. З 1949 г. таксама быў сябрам Згуртавання беларускіх камбатантаў. У 1950 г. выехаў на навучанне ў Бельгію. Закончыў факультэт паліталогіі і сацыялогіі Лювенскага ўніверсітэта. Працаваў

у Інстытуце вывучэння СССР у Мюнхене. Рэдагаваў “Беларускі зборнік” і “*Belorussian Review*”, выдаваныя інстытутам. Супрацоўнічаў з газетай “Бацькаўшчына” і беларускай рэдакцыяй Радыё “Вызваленне / Свабода”.

**Міхась Міцкевіч** (псеўд. **Антось Галіна**, 1897–1991), грамадскі і рэлігійны дзеяч, пісьменнік, педагог, наймалодшы брат Якуба Коласа. Навучаўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Удзельнічаў у Першым Усебеларускім кангрэсе. Працаваў школьным інспектарам, зарганізоўваў беларускае школьніцтва. З верасня 1939 г. быў настаўнікам, потым дырэктарам школы ў Мікалаеўшчыне. З 1944 г. — на эміграцыі. Адзін з арганізатараў беларускага лагера Ды-Пі ў Рэгенсбургу. Адзін з заснавальнікаў Беларускага нацыянальнага камітэта ў Нямеччыне, а таксама Беларускай гімназіі імя Я. Купалы, дзе працаваў настаўнікам. Аўтар чатырох чытанак для дзяцей. У 1950 г. выехаў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амерыканскага задзіночання, актывістам Нью-Ёркскага аддзела арганізацыі. У 1954–1962 гг. быў рэдактарам газеты “Беларус”. Выкладаў у беларускай школе ў Нью-Ёрку. У 1970–1981 гг. пасля смерці ўладыкі Васіля займаўся выданнем часопіса “Голас Царквы”. Перакладаў на беларускую мову кананічныя і службоўныя тэксты.

**Юзэфа Найдзюк** (дзяв. **Брэчка**, 1927–2004), грамадская дзеячка, жонка Часлава Найдзюка. У часы нямецкай акупацыі вучылася ў Баранавіцкай гандлёва-адміністрацыйнай школе, была сябрам СБМ. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыла ў лагерах Ды-Пі ў Розенгайме і Шляйсгайме. У 1945–1947 гг. вучылася ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы, была адной з кіраўнічак беларускіх скаўтаў. Працавала ў тэхнічным аддзеле беларускай рэдакцыі Радыё “Вызваленне”. У 1956 г. прыбыла ў ЗША. Пабралася шлюбам з Ч. Найдзюком і пераехала ў Каліфорнію. Была сябрам Беларуска-Амерыканскага задзіночання, актывісткай яго Каліфарнійскага аддзела.

**Аляксандр Орса** (1896–1959), грамадскі дзеяч, педагог, брат Пётры Орсы, муж Наталлі Орсы. У 1913 г. закончыў Наваградскае гарадское вучылішча, потым — двухгадовыя настаўніцкія курсы. Мабілізаваны ў царскае войска, закончыў школу прапаршчыкаў і быў накіраваны на фронт. У 1918 г. вярнуўся на радзіму, настаўнічаў. У 1923–1929 гг. навучаўся ў Празе ва Украінскім педагагічным інстытуце, потым у Карлавым універсітэце. Доктар прыродазнаўчых навук. У 1929–1934 гг. выкладаў прыродазнаўства ў Наваградскай беларускай гімназіі. У 1938 г. разам з сям’ёй прымусова выселены ў этнічную Польшчу, аднак з пачаткам Другой сусветнай вайны вярнуўся ў Беларусь, настаўнічаў, працаваў школьным інспектарам у Наваградскай акрузе. З 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне быў дырэктарам Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбургу, Міхэльсдорфе. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Працаваў

лабарантам у шпіталі. Арганізоўваў першыя беларускія школкі ў ЗША. Адзін з заснавальнікаў Беларуска-Амерыканскага задзіночання і БІНіМа. Старшыня Нью-Ёркскага сектара Рады БНР.

**Наталля Орса** (дзяв. **Сазановіч**, 1903–1990), грамадская дзеячка, педагог, жонка Аляксандра Орсы. Закончыла Наваградскую гімназію, а ў 1927 г. — Украінскі педагагічны інстытут у Празе. Працавала выхавальніцай дзявочага інтэрната ў Наваградскай беларускай гімназіі, а таксама выкладала беларускую мову і літаратуру, у тым ліку і ў Наваградскай настаўніцкай семінарыі ў часе нямецкай акупацыі. З 1944 г. — на эміграцыі. Выкладала ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне. У 1949 г. выехала ў ЗША. Жыла ў Нью-Ёрку. Выкладала ў беларускіх школах. Была сябрай Беларуска-Амерыканскага задзіночання, уваходзіла ва ўправу і кіравала жаночай секцыяй Нью-Ёркскага аддзела арганізацыі. Радная БНР.

**Пётра Орса** (1898–1990), грамадскі дзеяч, брат Аляксандра Орсы. У 1920-я гг. закончыў агранамічны факультэт у Празе, быў спецыялістам у галіне малочнай індустрыі. У часе нямецкай акупацыі ўзначальваў аддзел сельскай гаспадаркі Беларускай Цэнтральнай Рады, удзельнічаў у Другім Усебеларускім кангрэсе. Пасля Другой сусветнай вайны жыў спачатку ў Нямеччыне, а пазней у ЗША. Пасяліўся ў Саўт-Рыверы, быў радным БЦР, сябрам Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі, прыхаджанінам царквы Св. Еўфрасінні Полацкай.

**Вацлаў Пануцэвіч** (да эмігр. **Папуцэвіч**, псеўд. **Мікола Волаціч**, 1910–1991), грамадскі дзеяч, гісторык, педагог. У 1936–1939 гг. навучаўся на юрыдычным факультэце Віленскага ўніверсітэта. Уваходзіў у склад Беларускага інстытута навукі і гаспадаркі, быў сябрам Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. У 1936 г. увайшоў у склад ініцыятыўнай групы дзеля стварэння Беларускага нацыянальнага фронту. У 1939–1941 гг. настаўнічаў у Горадні. Падчас нямецкай акупацыі працаваў на розных адміністрацыйных пасадах у Баранавічах. З лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945 г. узначаліў Беларускую гімназію імя М. Багдановіча ў Ватэнштэце. З 1946 г. кіраваў Згуртаваннем крывіцкіх скаўтаў на чужыне. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага. Быў актывістам мясцовага аддзела Беларуска-Амерыканскага задзіночання. Займаўся даследчай дзейнасцю (вывучаў рэлігійную гісторыю Беларусі), браў актыўны ўдзел у арганізацыі грэка-каталіцкай парафіі Св. Хрыста-Збаўцы ў Чыкага. Рэдактар часопісаў "Беларуская царква", "Літва".

**Іна Рытар-Каханоўская** (псеўд. **Аляксандра Саковіч**, 1906–1997), пісьменніца, грамадская дзеячка, другая жонка Аўгена Каханоўскага. З 1921 г. жыла ў Менску, вучылася ў Беларускім педагагічным тэхнікуме, закончы-

ла гістарычнае аддзяленне педфакультэта БДУ. Працавала выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры. Першы муж Сеўрук (ажаніліся ў 1930 г.) быў высланы на Калыму. З малой дачкой вярнулася ў Беларусь. Падчас нямецкай акупацыі жыла на радзіме бацькоў у Ярэмічах (цяпер Карэліцкі раён Гродзенскай вобл.), настаўнічала, была выкладчыцай у Наваградскай настаўніцкай семінарыі. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыла ў беларускім лагеры Ды-Пі ў Рэгенсбургу, выкладала нямецкую і англійскую мовы ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Тут у выніку трагічнага выпадку загінула яе дачка. У 1950 г. выехала ў ЗША. Жыла ў Нью-Ёрку, брала ўдзел у нацыянальным грамадскім жыцці, уваходзіла ў Галоўную ўправу Беларуска-Амерыканскага задзіночання, управу БІНіМа. У 1955 г. узяла шлюб з А. Кахаioўскім і пераехала ў Кліўленд. Выкладала ў беларускай суботняй школцы, займалася літаратурнай творчасцю. У 1986 г. выйшаў збор твораў “У пошуках праўды”.

**Станіслаў Станкевіч** (псеўд. **Алесь Крыга, Язэп Каранеўскі**, 1907–1980), грамадска-культурны дзеяч, літаратуразнаўца, публіцыст, крытык, выдавец. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. У 1933 г. закончыў гуманістычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. У 1936 г. абараніў доктарскую дысертацыю “Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі”. Браў актыўны ўдзел у працы Беларускага студэнцкага саюза, рэдагаваў часопіс “Студэнцкая думка”. У 1937–1938 гг. стажыраваўся ў навучальных установах Югаславіі і Балгарыі. У 1939–1941 гг. — выкладчык у Наваградскай педагагічнай вучэльні. У 1941–1943 гг. — бурмістр Барысава, у 1944 г. намеснік прэзідэнта БЦР на Баранавіцкую акругу. Дэлегат Другога Усебеларускага кангрэса. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1944 — пачатку 1945 г. у Нямеччыне рэдагаваў берлінскую газету “Раніца”. Быў актыўным прыхільнікам аднаўлення Рады БНР. Ад 1947 г. радны БНР. У 1948–1962 гг. рэдактар газеты “Бацькаўшчына” (Мюнхен). Заснавальнік філіі БІНіМа ў Заходняй Нямеччыне. Быў навуковым сакратаром Інстытута вывучэння СССР у Мюнхене. У 1963 г. выехаў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амерыканскага задзіночання, у 1963–1965 гг. — старшынёй арганізацыі. Супрацоўнік Радыё “Свабода”. У 1963–1980 гг. рэдагаваў газету “Беларус” (Нью-Ёрк). Аўтар шэрагу літаратуразнаўчых працаў, сотняў публікацый. Пахаваны ў Іст-Брансвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**Янка Станкевіч** (1891–1976), грамадскі дзеяч, мовазнавец, журналіст. Вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі, але быў выключаны за беларускія погляды. На пачатку 1914 г. працаваў у “Нашай Ніве”, але з пачаткам Першай сусветнай вайны быў мабілізаваны ў царскае войска. У 1917 г. апынуўся ў аўстрыйскім палоне. У 1918–1920 гг. сябра Рады БНР. Закончыў Пражскі Карлаў універсітэт (1926) са ступенню “доктар славянскага мовазнаўства

і гісторыі”. Выкладаў беларускую мову ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах Вільні і Варшавы. У 1928–1930 гг. — пасол польскага сойма. Выдаваў часопіс “Родная мова” (1930–1931). У жніўні 1939 г. зняволены польскімі ўладамі. Пазней, ратуючыся ад бальшавікоў, выехаў у Літву, а затым у Нямеччыну. Падчас нямецкай акупацыі вярнуўся ў Беларусь. Уваходзіў у склад Цэнтралі Беларускай народнай самапомачы, займаўся адукацыйнымі праектамі (школьніцтва, выдавецтва). У 1944 г. перабраўся да сям’і ў Прагу. У паваеннай Нямеччыне настаўнічаў у беларускіх лагерах, выкладаў у Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Стварыў Крывіцкае навуковае таварыства Пранціша Скарыны. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку, пазней у Нью-Джэрсі. Адзін з заснавальнікаў БАЗА. Выдаваў часопіс “Веда”. Уваходзіў у першы склад рэдкалегіі газеты “Беларус”, друкаваўся ў газеце “Бацькаўшчына”. Аўтар шэрагу навуковых і навукова-папулярных працаў, дзясяткаў артыкулаў, першага поўнага перакладу Бібліі (супольна з М. Гітліным). Супрацоўнічаў з Інстытутам вывучэння СССР у Мюнхене, пры якім быў выдадзены шэраг ягоных працаў.

**Пётра Сыч** (1912–1964), пісьменнік, журналіст, грамадскі дзеяч. У 1929 г. закончыў гімназію ў Вялейцы, два гады правучыўся на філалагічным факультэце Віленскага ўніверсітэта і вымушаны быў кінуць навучанне, уладкаваўся на працу чыноўнікам. Супрацоўнічаў з рэдакцыямі польскіх газет у Вільні. У 1939 г. мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у савецкі палон. Уцёк, але зноў быў арыштаваны. У чэрвені 1940 г. быў пераведзены з вялейскай у полацкую турму, асуджаны на 10 гадоў лагераў. Пакаранне адбываў у Комі АССР. Далучыўся да Арміі Андэрса, разам з якой прайшоў праз Іран, Ірак, Сірыю, Палестыну, Егіпет. Браў удзел у бітве за Монтэ-Касіна, баях за Анкону і Балонью. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. З 1948 г. быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі. Быў актыўным аўтарам і супрацоўнікам часопіса “Беларус на чужыне”. З 1949 г. — сябра Згуртавання беларускіх камбатантаў. У 1951 г. пераехаў у Заходнюю Нямеччыну. Жыў у Мюнхене. Быў галоўным рэдактарам сатырычнага часопіса “Шарсцень”, супрацоўнічаў з газетай “Бацькаўшчына”. З 1954 г. быў намеснікам галоўнага рэдактара беларускай рэдакцыі Радыё “Вызваленне / Свабода”.

**Масей Сяднёў** (1913–2001), паэт, празаік. У 1933–1936 гг. вучыўся ў Менскім педагагічным інстытуце. Быў рэпрэсаваны і высланы на Калыму. У 1941 г. вернуты ў Беларусь на перагляд справы. З пачаткам вайны вярнуўся да бацькоў, працаваў на гаспадарцы. У 1943 г. разам з бацькамі выехаў на Захад. Жыў у Беластоку, працаваў у перыёдыку “Новая Дарога”, Беларускім камітэце. У 1950 г. выехаў у ЗША. Выкладаў рускую мову ва ўніверсітэце Індыяны. У 1968–1983 гг. працаваў у беларускай рэдакцыі Радыё “Свабода”, быў яе кіраўніком. Аўтар кніг “На край святла” (1947),

“Спадзяванні” (1947, 1948), “У акіяне ночы” (1947), “Цень Янкі Купалы” (1947), “Ля ціхай брамы” (1955), “Патушаныя зоры” (1975), “Раман Карзюк” (1985), “І той дзень надышоў” (1987), “А часу больш, чым вечнасьць” (1989).

**Вітаўт Тумаш** (1910–1998), грамадскі дзеяч, лекар, навуковец (скарыназнаўца). Закончыў Віленскую беларускую гімназію. У 1933–1938 гг. вучыўся на медыцынскім факультэце Віленскага ўніверсітэта. Адзін з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага саюза і Таварыства прыяцеляў беларусаведы. Па сканчэнні навучання працаваў у этнічнай Польшчы. Пасля верасня 1939 г. працаваў у Беларускім нацыянальным камітэце ў Варшаве. У 1940–1941 гг. — старшыня Беларускага камітэта ў Лодзі. З пачаткам нямецкай акупацыі Беларусі ў ліпені — лістападзе 1941 г. быў кіраўніком цывільнай адміністрацыі Менска. Напрыканцы 1941 г. выехаў у Нямеччыну, займаўся лекарствам, уваходзіў у рэдакцыі берлінскіх газет “Раніца” і “Беларускі работнік”, працаваў у берлінскім аддзеле Беларускай народнай самапомачы. У 1948 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Меў лекарскую практыку, а ўвесь вольны час прысвячаў грамадскай і навуковай дзейнасці. Сябра БАЗА, быў старшынёй Нью-Ёркскага аддзела арганізацыі. Адзін з заснавальнікаў БІНіМа і яго кіраўнік ў 1955–1982 гг. У 1979–1982 гг. быў старшынёй Фундацыі імя П. Крэчэўскага. Аўтар шэрагу навуковых працаў, найперш скарыназнаўчай тэматыкі.

**Уладзімір Цвірка** (да эмігр. **Вадзім Сурко**, псеўд. **Уладзімір Немановіч**, 1928–1992), грамадскі дзеяч, журналіст. Жыў у Міры. У 1947 г. закончыў Беларускую гімназію імя Я. Купалы ў Міхельсдорфе. Быў скаўтмайстрам у беларускіх лагерах Ды-Пі ў Герэнбургу і Майнлёйзе. У 1948 г. разам з іншымі сябрамі “Дванаццаткі” прыбыў на працу ў вугальных капальнях у Вялікай Брытаніі. Браў актыўны ўдзел у выданні часопіса “Наперад!”. З 1948 г. — сябра Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі, ад 1949 г. — сябра Згуртавання беларускіх камбатантаў. Сябра Беларускага хрысціянскага акадэмічнага аб’яднання “Жыццё”. У 1950–1954 гг. навучаўся ў Лювенскім універсітэце. З 1954 г. працаваў у беларускай рэдакцыі Радыё “Вызваленне / Свабода” ў Мюнхене. У 1959–1968 гг. — галоўны рэдактар беларускай службы Радыё “Вызваленне / Свабода”. Супрацоўнічаў таксама з рэдакцыяй газеты “Бацькаўшчына”.

**Міхась Швэдзюк** (нар. 1926), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў польскай школе. У 1940 г. быў вывезены з бацькамі ў Архангельскую вобласць (Расія). У 1942 г. апынуўся ў Іране пры польскім войску, адкуль скіраваўся ў Палесціну ў польскую кадэцкую школу. Цягам 1942–1945 гг. працягнуў навучанне ў польскай гімназіі, а пазней да 1947 г. навучаўся ў Польскім ліцэі ў Юнацкім кадэцкім корпусе ў Палесціне. У 1947 г. выехаў у Егіпет,

адкуль разам з польскім войскам трапіў у Вялікабрытанію. У 1948–1951 гг. вучыўся на інжынера-электроншчыка ў Портсмуце, ад 1951 г. працаваў па спецыяльнасці, займаўся тэхнічнымі перакладамі. Ад 1947 г. — сябра Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. Сябра Беларускага харытатыўнага фонду. Сталы аўтар матэрыялаў пра беларускае жыццё ў Брытаніі для газет "Беларус", "Беларускі дайджэст", "Рунь". Жыве ў Конглэтане (*Congleton*), у Чэшыры.

**Лявон Юрэвіч** (нар. 1965), архівіст, бібліятэкар, даследчык беларускай эміграцыі. Закончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут (1990), навучаўся ў аспірантуры Інстытута літаратуры Акадэміі навук Беларусі (1990–1993). З 1993 г. жыве ў ЗША. Працуе ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы. Мае дзве навуковыя ступені — у філалогіі і бібліятэказнаўстве. Сябра Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, а таксама рэдакцыйнай калегіі часопіса "Запісы БІНіМ" і кніжнай серыі "Беларуская мемуарная бібліятэка". Аўтар і суўкладальнік некалькіх дзясяткаў кніг, прысвечаных беларускай эміграцыі.

# ПАКАЗНІК АСОБАЎ

# ЗМЕСТ

**Гісторыя адукацыі**



**Гісторыя эміграцыі**



**З БЫЛОГА**



**КУЛЬТУРА**

## ЗАВЯРТАНЦАМ



## МЯСЦІНЫ І МЯСТЭЧКІ

16+

Літаратурна-мастацкае выданне

Бібліятэка Бацькаўшчыны
Кніга 39
Спадчына: агледзіны

**ГАЗЕТЫ "БАЦЬКАЎШЧЫНА" І "БЕЛАРУС" ВЫБРАНАЕ**

**Да 70-годдзя газеты "Беларус" (1950–2020)**

Укладальнікі
*Наталля Гардзіенка* і *Лявон Юрэвіч*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактары *Наталля Гардзіенка, Лявон Юрэвіч*
Вёрстка, уклейка *Вадзім Нога*
Дызайн вокладкі *Анатоль Лазар*
Карэктар *Міраслава Шавыркіна*

Падпісана да друку 13.05.2019. Фармат 84×108 1/32.
Папера афсетная. Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 32,34. Ул.-выд. арк. 33,0.
Наклад 150 экз. Замова 174.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.